# ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ XIX *стагоддзя*

## АНТАЛОГІЯ



Мінск
«Беларуская навука»
2013

УДК 821.161.3 (082.2)
ББК 84 (4Беи)
Л 64

Укладальнікі:
кандыдат гістарычных навук К. А. Цвірка,
кандыдат філалагічных навук І. С. Шпакоўскі,
магістр педагагічных навук К. У. Антановіч

Навуковы рэдактар
прафесар, доктар філалагічных навук А. В. Мальдзіс

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

ISBN 978-985-08-1536-1

## ПРАДМОВА

У гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзе мае асабліва важнае значэнне. Пасля двухсотгадовай паланізацыі Беларусі, якая апынулася ў складзе Рэчы Паспалітай, пад уздзеяннем перадавых ідэй часу пачаўся паступовы, але няўхільны працэс вызвалення літаратуры ад чужых уплываў — зварот да нацыянальных каранёў, самабытнай культуры беларускага народа, яго спрадвечнай мовы. Працэс гэты быў надзвычай цяжкі: надта ж глыбокія карані за часы свайго панавання пусціла польская культура ў нацыянальнае жыццё Беларусі. Беларуская мова, якая з'яўлялася дзяржаўнай у часы незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, была паступова выцеснена з афіцыйнага ўжытку і пісьменства польскай. Польская мова зрабілася мовай справаводства і літаратуры. Газеты і часопісы, што выходзілі ў Беларусі (нават пасля далучэння яе да Расійскай імперыі), гэтак жа, як і выдадзеныя кнігі, друкаваліся на польскай мове. На ёй вялося таксама выкладанне ў школах. Беларуская мова заставалася жыць толькі пад саламянымі стрэхамі сялянскіх хат ды ў асяроддзі беднага мяшчанства гарадоў і мястэчак. Яна вольна гучала хіба толькі ў народных песнях, казках, паданнях. Гэта была пераважна мова простага народа, «гміну», мова запрыгоненага, пагарджанага фанабэрыстым панствам мужыка. Каб надаць ёй статус літаратурнай, перадавым колам грамадства трэба было яшчэ вельмі шмат і цяжка змагацца. Перш за ўсё трэба было вярнуць страчаную за доўгія гады прыгонніцтва павагу да селяніна-беларуса, яго працы, да яго традыцыйнай культуры, яго прыроднай мовы — мовы беларускай зямлі, мовы Айчыны. Якраз гэту місію ўзялі на сябе прагрэсіўныя пісьменнікі былой Рэчы Паспалітай — ураджэнцы Беларусі. Так, напачатку яны не адасабляліся ад агульнапольскай, а дакладней — «рэчпаспалітаўскай» літаратуры, лічыліся яе паўнапраўнымі дзеячамі. Але асаблівую шчырасць, асаблівую моц набывала іх творчасць, калі яны звярталіся да балючых момантаў жыцця свайго народа, да турбот і трывог роднага краю. Упершыню выразны голас у абарону беларускага народа загучаў у творах пісьменнікаў, што ўваходзілі ў створанае ў 1816 г. згуртаванне перадавой віленскай інтэлігенцыі пад жартоўнай назвай «Таварыства шубраўцаў» (свавольнікаў). Таварыства

складалі самыя прагрэсіўныя прафесары Віленскага ўніверсітэта. Шубраўцы выдавалі сатырычны часопіс «Вулічныя навіны», у якім выкрываліся найбольш яркія праявы прыгонніцтва, крытыкаваліся забабоннасць і невуцтва шляхты, высмейваліся касмапалітызм і цемрашальства дэмаралізаванага панства. З асяроддзя шубраўцаў выйшла нямала цікавых пісьменнікаў і публіцыстаў (Антон Марціноўскі, Антоні Гарэцкі, Ігнат Шыдлоўскі, Ігнат Ходзька, Восіп Сянкоўскі, Фадзей Булгарын і інш.). Мясцовая, беларуская, тэма ў іх творчасці гучала асабліва ярка.

Эстафету дэмакратызму ад шубраўцаў перанялі іх маладзейшыя сябры — студэнты Віленскага ўніверсітэта, што арганізаваліся ў 1817 г. у Таварыства філаматаў (аматараў ведаў). Утварылася яно па ініцыятыве Тамаша Зана (ён, дарэчы, быў звязаны і з шубраўцамі), Адама Міцкевіча і Юзафа Яжоўскага. Вялікую ролю адыгралі ў Таварystве і прынятыя ў хуткім часе новыя яго члены — Ян Чачот, Францішак Малеўскі, Ануфрый Петрашкевіч, Міхал Рукевіч, Юзаф Кавалеўскі, Ігнат Дамейка і інш. Філаматы, як тая губка, убіралі ў сябе ўсе новыя павевы часу, што ішлі з Захаду, перадавыя ідэі знаходзілі ў іх асяроддзі рэальнае ўвасабленне.

Жывы водгук сярод філаматаў знайшоў заклік прагрэсіўных дзеячаў навукі і культуры еўрапейскіх краін звярнуцца да фальклору як важнай крыніцы пазнання народаў. Да гэтага часу не было такога шырокага і плённага «наплыву» ў літаратуру беларускага фальклору, як гэта назіралася ў творах філаматаў, а таксама філарэтаў — членаў створанага філаматамі Таварыства філарэтаў (аматараў дабрачыннасці). Першымі паказалі тут добры прыклад Тамаш Зан і Ануфрый Петрашкевіч, затым Ян Чачот. Але сапраўдную рэвалюцыю зрабіў Адам Міцкевіч, які, шырока выкарыстоўваючы ў сваёй творчасці фальклор, праклаў як для беларускай, так і для польскай літаратур дарогу новаму, найбольш прагрэсіўнаму для свайго часу літаратурнаму напрамку — рамантызму.

Узводзячы на высокі алтар літаратуры фальклор беларусаў, яго традыцыйную культуру, філаматы і філарэты не маглі абысці ўвагай і мову беларускага народа. У сваіх выказваннях яны адзначалі яе самабытнасць, мілагучнасць, паказвалі, што яна нічым не горшая за любую іншую еўрапейскую мову, а ў нечым нават і пераўзыходзіць асобныя з іх. Гэта асабліва падкрэслівалі Адам Міцкевіч і Ян Чачот.

Не маючы магчымасці пісаць па-беларуску (бо гэта азначала б у той час пісаць без адрасу, пісаць «у стол»), філаматы і філарэты свядома ўводзілі ў свае літаратурныя творы элементы беларускай мовы. На гэта звярталі ўвагу многія даследчыкі іх творчасці, як беларускія, так і польскія. Беларуская моўная стыхія асабліва яскрава адчуваецца ў творах Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана, Ануфрыя Петрашкевіча, Аляксандра Ходзькі і інш. Польская даследчыца творчасці філаматаў Зоф'я Кавын-Кужова ў артыкуле «Мова філаматаў і філарэтаў» багацце беларускіх элементаў у іх мове тлумачыць дзвюма прычынамі. Першая — гэта тое, што філаматы і філарэты як ураджэнцы Беларусі карысталіся ў сваёй творчасці «тутэйшай» польскай мовай, «якая ўцягвала ў сябе ўсё больш беларускіх асаблівасцей, набываючы

ў выніку гэтага характар пераходнага дыялекту». Другая прычына — «свядомае запазычванне і макаранізаванне» філаматамі і філарэтамі з беларускай мовы. Інакш кажучы, мова іх твораў — гэта рэгіянальная мова беларускай шляхты, той «пераходны дыялект», які фактычна быў тагачаснай беларускай літаратурнай мовай і які яны імкнуліся яшчэ больш «збеларусіць».

Так, філаматы пісалі, вымушаны былі пісаць на мове беларускай спаланізаванай шляхты. Але паколькі асноўная ўвага надавалася простаму люду, селяніну-беларусу, арыентуючыся на яго культуру, яны ставілі перад сабой задачу паступова зрабіць літаратурнай і яго мову. Толькі пры дапамозе мовы яны маглі несці святло асветы ў самыя «нізы». Адной з задач філаматаў, як заўважае Зоф'я Кавын-Кужова ў той жа працы, якраз і было «збіраць песні і паданні народа і пісаць па-беларуску». У выкананні гэтай задачы асабліва вызначыўся Ян Чачот, які ў сваіх творах, напісаных да розных падзей філамацкага жыцця, даў сапраўдны ўзор «прыроднай» беларускай мовы. Трэба думаць, на патрабаванне Таварыства «пісаць па-беларуску» маглі адгукнуцца і іншыя філаматы (Адам Міцкевіч, Ануфрый Петрашкевіч, Тамаш Зан). На жаль, з іх магчымай беларускай творчасці да нас не дайшло нічога, як не дайшлі і апісанні парафій, зробленыя асобнымі філаматамі ў адказ на распрацаваную імі інструкцыю. Да таго ж па-сапраўднаму разгарнуць сваю дзейнасць у гэтым напрамку яны не паспелі: разгром царскімі ўладамі Таварыства перапыніў памкненні філаматаў. Гвалтоўна разлучаныя з роднай зямлёй, параскіданыя па ўсіх канцах свету, яны вымушаны былі працаваць на карысць іншых народаў.

Царскія рэпрэсіі, аднак, не здолелі патушыць святло вольналюбівых ідэй беларускіх рамантыкаў пачатку XIX ст. Запаленая ў змрочны час сацыяльнай і нацыянальнай няволі нашага народа вабная прамяністая зорка філаматаў ярка асвяціла дарогу новым пакаленням змагароў за народную волю, нацыянальнае адраджэнне беларусаў. Гэта яе святлом запальвалі потым свае паходні пачынальнікі новай беларускай літаратуры, заклікаючы свой народ станавіцца гаспадаром на ўласнай зямлі.

Пасля разгрому філаматаў і філарэтаў Віленскі ўніверсітэт, які быў своеасаблівым культурным цэнтрам Беларусі, Літвы і часткі Украіны, куды з'язджалася па святло навукі моладзь з усіх беларускіх губерняў, яшчэ нейкі час працягваў гуртаваць вакол сябе лепшыя літаратурныя сілы краю, пакуль не быў зачынены царскімі ўладамі як «небяспечнае гняздо» вальнадумства і рэвалюцыйнасці.

Літаратары з Беларусі знайшлі прытулак у галоўных расійскіх культурных цэнтрах — Санкт-Пецярбургу і Маскве. Нашы пісьменнікі ўсё часцей пачалі выступаць з публікацыямі сваіх твораў у рускіх перыядычных і неперыядычных выданнях, расказваючы рускаму чытачу на яго мове пра беларускі народ. Асобныя з гэтых пісьменнікаў увайшлі ў гісторыю рускай літаратуры (Восіп Сянкоўскі, Фадзей Булгарын). У пераважнай жа большасці выхадцы з Беларусі і ў Расіі пісалі на тагачаснай літаратурнай мове свайго краю — польскай, выдаючы на ёй свае кнігі, засноўваючы газеты і часопісы.

Гаворачы пра шматмоўную літаратуру Беларусі, неабходна мець на ўвазе неадпаведнасць некаторых тэрмінаў першай паловы XIX ст. сённяшнім. Гэтак жа, як федэратыўную Рэч Паспалітую называлі тады Польшчай, а яе насельнікаў — палякаў, беларусаў, літоўцаў, украінцаў — агульным найменнем «палякі», так і ўсіх пісьменнікаў Беларусі вызначалі як польскіх пісьменнікаў. У сябе ж дома беларусы ў залежнасці ад роднай мясцовасці — «Літвы» ці «Белай Русі» — называліся ліцвінамі ці беларусамі. «Літвой» былі Віленская, Гродзенская і Мінская губерні. Да «Белай Русі», ці проста Беларусі, адносілі Магілёўскую, Віцебскую і Смаленскую губерні.

Прыкладна з сярэдзіны XIX ст. у Беларусі пачаў адчувацца ўсё большы ўплыў рускай культуры. Асабліва пашырыўся ён пасля паўстання 1863—1864 гг., калі больш інтэнсіўна пачала ажыццяўляцца царская палітыка русіфікацыі краю. Замест польскіх на Беларусі выходзілі рускія перыядычныя выданні, распаўсюджваліся кнігі на рускай мове. Выхадцы з Беларусі, каб сказаць сваё слова ў літаратуры, вымушаны былі цяпер пісаць па-руску.

Фактычна на Беларусі ў XIX ст. мовамі пісьменства былі польская і руская мовы. Польская пераважала ў першай палове стагоддзя, руская — у другой. Мова карэннага насельніцтва — беларусаў, аднаго з самабытных і вялікіх славянскіх народаў, — увесь гэты перыяд заставалася ў загоне, пад уціскам двух суседзяў-севернікаў, якія не хацелі прызнаваць яе самастойнасць, не пускалі на старонкі друкаваных выданняў. У літаратараў-беларусаў не было ў XIX ст. іншага выбару, як пісаць для польскага ці рускага друку. І зусім несправядліва глядзець на іх за гэта як на чужакоў. Праз чужаземны друк яны імкнуліся выказваць свае ідэі. У іх творах адбілася рэальнае жыццё Беларусі, цэлая эпоха ў яе гісторыі, ярка і шматпланава паказана барацьба беларускага народа за сваю волю, ва ўсёй красе намаляваны асаблівасці даўнейшага побыту беларуса, яго духоўнай культуры.

Вядома, для ігнаравання творчасці іншамоўных пісьменнікаў Беларусі былі свае прычыны. Першая — гэта тое, што іх творы не былі перакладзены на сучасную беларускую мову, другая — у інтарэсах беларускага нацыянальнага адраджэння паказвалася ў першую чаргу — і вельмі правільна — беларускамоўная творчасць пісьменнікаў Беларусі. З дапамогай гэтых мер дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння імкнуліся сцвердзіць саму нацыю, якая апынулася пад пагрозай асіміляцыі больш магутнымі суседзямі.

Сёння гэтыя дзве прычыны, можна сказаць, адпалі. Асноўныя творы іншамоўных пісьменнікаў Беларусі XIX ст. ужо перакладзены на беларускую мову. Беларускі народ заняў «свой пачэсны пасад між народамі» (Янка Купала), яго дзяржаўнасць прызналі ў свеце, і ўжо няма патрэбы даказваць відавочныя ісціны. Цяпер прыйшла пара па-гаспадарску агледзець усю нашу багатую спадчыну. Як адзначае акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі В. А. Каваленка, «у гісторыі многіх народаў на пэўным этапе ўзнікалі сітуацыі, калі мова не выступала галоўным крытэрыем прыналежнасці да нацыянальнай літаратуры. Не выпадковая заўвага Вальтэра: «Айчына — у краіне, дзе нарадзілася душа». Папраўдзе, калі б мова была вызначальным фактарам прыналежнасці культуры нацыі, то не існавала б, скажам, амеры-

канскай літаратуры, а была б толькі англійская. Сапраўды, калі амерыканская літаратура, якая стваралася на англійскай мове, стала нацыянальнаамерыканскай? Вядома ж, тады, калі людзі, што прыехалі ў Амерыку са Старога Свету, пастунова пачалі абжываць новую зямлю ўнутрана, духоўна...».

Зварот да творчасці польскамоўных і рускамоўных пісьменнікаў Беларусі XIX ст., якія «ўнутрана, духоўна абжывалі» сваю Бацькаўшчыну, — актуальная патрэба часу, калі мы ўпершыню займелі магчымасць аб'ектыўна і шматбакова паказаць яе гісторыю. Вядома ж, ніхто не мае намер «адабраць» гэтых іншамоўных пісьменнікаў ад суседніх літаратур. Іх творчая спадчына аднолькава належыць як суседзям, так і беларускаму народу. Кожны народ сам можа вызначыць ролю і месца гэтых пісьменнікаў у гісторыі сваёй культуры. Адно бясспрэчна: без вывучэння іх творчага набытку не толькі нельга намаляваць праўдзівую гісторыю Беларусі, але і зразумець літаратурны працэс усяго XIX ст., раскрыць вытокі новай беларускай літаратуры.

Уласна беларуская літаратура развівалася ў самым цесным узаемадзеянні з усёй шматмоўнай літаратурай Беларусі, пры самай непасрэднай яе падтрымцы. Тым больш, што ўмовы для развіцця беларускай літаратуры былі больш чым неспрыяльныя. На працягу стагоддзя былі выдадзены лічаныя кніжкі беларускіх пісьменнікаў. Не было нацыянальнай перыёдыкі, калі не лічыць падпольнай «Мужыцкай праўды», якая ў сямі сваіх нумарах паспела сказаць народу толькі самае неабходнае. Пісьменнікі былі вымушаны хавацца за псеўданімамі або выпускаць у свет свае творы ананімна. Творы пашыраліся часцей за ўсё ў рукапісным выглядзе, што не спрыяла іх захаванню.

Напачатку з'яўленне беларускамоўных твораў насіла калі не выпадковы, то як бы фрагментарны характар. Паколькі яшчэ не існавала беларускага друку, яны пісаліся з разлікам на іх вуснае выкананне, на чытанне перад пэўнай аўдыторыяй. Такімі, напрыклад, былі беларускія філамацкія творы Яна Чачота, якія чыталіся або ім самім, або сябрамі на розных сходках і ўрачыстасцях згуртаванняў віленскай, ды і не толькі віленскай моладзі. Не разлічваючы на друк, некаторыя пісьменнікі складалі свае творы проста «для душы», перапісвалі іх для сяброў, якія гэтакім жа спосабам распаўсюджвалі іх далей. Так ствараліся, відавочна, беларускія вершы Яна Аношкі, Яна Баршчэўскага, Канстанціна Вераніцына, Вікенція Равінскага і многіх іншых пісьменнікаў, чые творы не захаваліся. Але былі выпадкі — так, толькі выпадкі, — калі беларускія творы пісаліся і для друку. Яны ўключаліся або ў фальклорныя зборнікі (Ян Чачот), або ў польскамоўныя выданні пад выглядам польскіх твораў (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч) і прызначаліся непасрэдна для народа, галоўным чынам для яго асветы.

Нягледзячы на адсутнасць умоў для развіцця беларускай мовы, напісаныя на ёй творы ўсё часцей «прабіваліся» на свет божы. У грамадстве адчувалася вялікая патрэба ў беларускім мастацкім слове, што сведчыла аб узрастанні нацыянальнай свядомасці беларускай інтэлігенцыі, наогул аб нараджэнні новай беларускай літаратуры, што стваралася на спрадвечнай мове нашай

зямлі. Усе гэтыя творы беларускіх пісьменнікаў знайшлі сваё адпаведнае
месца на старонках анталогіі.

Для лепшага разумення ідэйнай барацьбы ў XIX ст., асабліва спрэчак
паміж прадстаўнікамі рускай і польскай культуры наконт самастойнасці
беларускага народа і самабытнасці яго мовы, у анталогіі змешчаны най-
больш характэрныя іх выказванні на гэту тэму (напрыклад, А. Рыпінскага,
П. Шпілеўскага і інш.). Студэнтам і ўсім чытачам даецца магчымасць самім
зрабіць правільную выснову.

Вядома ж, гэта анталгія не ўзнікла на пустым месцы. У ёй улічаны ўвесь
станоўчы вопыт папярэдніх выданняў гэтага тыпу, якія, дарэчы, таксама
не абыходзіліся без асобных польскамоўных і рускамоўных твораў (у пера-
кладзе на беларускую мову). Усе асноўныя творы беларускіх пісьменнікаў
з папярэдніх анталогій і хрэстаматый увайшлі і ў гэту кнігу. Акрамя таго,
яе папоўнілі і новыя, адшуканыя ў апошні час беларускія творы. У антало-
гіі ўлічаны дасягненні нашага літаратуразнаўства — як ранейшыя, так
і сённяшнія. Такім чынам, гэта выданне найбольш поўна адлюстроўвае бе-
ларускую літаратуру XIX ст. Яно цалкам адпавядае праграмам ВНУ па гіс-
торыі беларускай літаратуры. А ўключэнне ў анталогію перакладаў інша-
моўных твораў ураджэнцаў Беларусі дае магчымасць студэнтам і ўсім чыта-
чам глыбей зазірнуць у самыя вытокі нашай літаратуры, прасачыць увесь
яе нялёгкі шлях, яе станаўленне ва ўмовах неаслабнага змагання народа
за сваю волю і незалежнасць.

У анталогіі даюцца сціслыя біяграфічныя даведкі пра пісьменнікаў, ка-
ментарыі да твораў, дзе ўказваюцца іх ранейшыя публікацыі, робяцца не-
абходныя тлумачэнні. Для тых, хто захоча параўнаць перакладныя творы
з арыгіналамі, пазначаюцца крыніцы, паводле якіх рабіліся пераклады.

Разлічана кніга на школьнікаў старэйшых класаў агульнаадукацыйных
школ, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, у праграмах якіх ёсць
курс па беларускай літаратуры XIX ст., а таксама на шырокае кола чытачоў,
якія цікавяцца гістарычным мінулым Беларусі, складанай, вельмі своеасаб-
лівай гісторыяй яе пісьменства.

Аўтарскі калектыў выказвае ўдзячнасць доктару філалагічных навук
А. В. Мальдзісу, кандыдату філалагічных навук І. Э. Багдановіч, кандыдату
педагагічных навук Л. І. Доўнар, кандыдату філалагічных навук Г. К. Тыч-
ка, кандыдату філалагічных навук А. І Фядуту за дапамогу ў падрыхтоўцы
гэтага выдання.

*К. Цвірка*

# ФРАНЦІШАК КАРПІНСКІ (1741—1825)



Хаця паэт-сентыменталіст Францішак Карпінскі быў родам з Галіцыі, але свой лёс ён звязаў з беларускай зямлёй. У 80-х гадах паэт асеў у мястэчку Заблудаве Гродзенскай губерні (цяпер Беластоцкі павет, Польшча) у доме беларускіх магнатаў Радзівілаў, дзе служыў гувернёрам княжацкіх дзяцей. Потым цягам многіх дзясяткаў гадоў арандаваў панскія фальваркі на Гродзеншчыне і Пружаншчыне. На ўлонне прыроды, у вясковую ціш ён уцёк з Варшавы, дзе меркаваў спачатку пасяліцца і жыць. Свае матывы ўцёкаў Ф. Карпінскі раскрыў у вершы «Вяртанне з Варшавы на вёску», што меў шырокі на той час розгалас. У вёсцы Краснік яму выдзелілі зямлю ў арэнду тэрмінам на 50 гадоў. У кнізе «Успаміны» паэт цікава расказвае, як ён сваімі рукамі карчаваў разам з наёмнымі сялянамі зямлю, як будаваў дом і абжываўся. Вайной 1812 г. «калонію» Ф. Карпінскага Краснік, якую людзі назвалі Карпін, казакі разрабавалі і спалілі. Пакуль узнаўляўся Краснік-Карпін, паэт жыў у суседняй Мураве. У 1819 г. ён набыў ва ўласнасць вёску Хораўшчына (цяперашні Свіслацкі раён), дзе жыў да канца сваіх дзён. Пахаваны непадалёк, у Лыскаве на Пружаншчыне.

У памяці беларускага люду Ф. Карпінскі пакінуў добры след. Ён быў апекуном адкрытай у 1805 г. славутай Свіслацкай гімназіі, якой ахвяраваў частку кніг са сваёй бібліятэкі. У Хораўшчыне паэт адкрыў школку для сялянскіх дзяцей, сам вучыў іх грамаце. Па магчымасці памагаў бедным сялянам.

Творчасць «апошняга паэта старой Польшчы» высока цаніў Адам Міцкевіч. У сваіх парыжскіх лекцыях ён даў такую характарыстыку паэту: «Карпінскі не ішоў ні за якімі ўзорамі, не прытрымліваўся ніякай сістэмы, ён спяваў шчыра, як спяваюць птушкі, лёгка і нязмушана. Ён не ўвасабляў у сваіх творах жыццё залатога веку, не ствараў фантастычных карцін у манеры ідылічных паэтаў старажытнасці ці сучасных французаў, ён паказваў нам з поўнай адкрытасцю сцэны і вобразы навакольнага вясковага жыцця».

Як заўважылі польскія літаратуразнаўцы, Ф. Карпінскі быў першым паэтам, чые творы «заблукалі пад сялянскія стрэхі». Адно са сведчанняў гэтага — эпілог Міцкевічавага «Пана Тадэвуша», дзе аўтар расказвае, як ён яшчэ ў юнацтве «чытаў не раз пад ліпай на траве песню пра Юстыну...» Ф. Карпінскага і як слухалі яе вяскоўцы. У асобных творах Ф. Карпінскага адбілася жыццё і беларускага селяніна. Паэт бетаксама творча выкарыстоўваў матывы беларускага фальклору. «З беларускім фальклорам, — як зазначае ў навукова-літаратурным альманаху «XIX стагоддзе» Мікола Хаўстовіч (кн. 1, с. 141), — звязаны і адзін з апошніх твораў Ф. Карпінскага «Падарожжа па зачараваным краі»...

Гэта і мост, па якім ідуць на той свет, і закамянелыя героі, і соннае каралеўства ды іншае. Праўда, паэт выкарыстоўваў фальклор з пэўнымі мэтамі: ён прагнуў паказаць, як аднабаковы погляд на свет можа прывесці да памылковага разумення рэальных з'яў і прадметаў рэчаіснасці».

Ф. Карпінскі працаваў у літаратуры на мяжы двух стагоддзяў — XVIII і XIX, сваёй паэзіяй, і не толькі паэзіяй, ён як бы перакідаў мост ад адной эпохі да другой. У яго творчасці, вельмі тыповай для сентыменталізму, можна заўважыць разам з тым і зародак новага літаратурнага напрамку, што ярка расквітнеў на беларускай зямлі у першай палове XIX ст., — рамантызму. Для таго, каб лепш зразумець паэта, нельга механічна разрываць яго творчасць, адносячы частку яе да аднаго, частку — да другога стагоддзя, ■ трэба разглядаць яе ў цэлым.

*К. Цвірка*

## ВЯРТАННЕ З ВАРШАВЫ НА ВЁСКУ

Во, з нізкай страхою, абмазаны глінай
Убогі дамок мой ці проста — хаціна.
Печ тая ж без кафлі... Усё, як было тут.
Ды штосьці дамок пахіліўся да плоту.
Шчаслівы, хто мае надзел свой пад небам,
Усё на ягоным стале ёсць, што трэба.
Свой хлеб, свая скварка, гарох з свайго току,
Напоі свае, свая жонка пры боку.
Каб гэтак раней думаў я, ашуканы.
Каб жыў сабе ў вёсцы, нікому не знаны!
Каб нат і ў павеце мяне не пазналі,
І толькі суседзі суседам назвалі.
Каб еў толькі хлеб, сваім потам здабыты,
Каб жыў я без вестак, памёр без граніту.
Што выйграў я, кінуўшы вёску ў даліне?
Аслеплены, плыў я ўвесь час супраць плыні.
Калі ж побач гінуў хто, сябра ці крэўны,
Я думаў сабе: «Плыць не ўмеў ён, напэўна».
Што далі мне ў свеце магнатаў парогі?
На слізкіх іх сходах збіваў толькі ногі.
Ні панам не стаў я і ні капітанам.
Адзін успамін, што піў чай разам з панам,
Мне бацька наказ даў такі перад сконам:
«Дзе б, сын, ты не быў, пад якім бы законам,
Знай: Праўда за скарб даражэй, за дукаты,
Ты бедны, ды з Праўдаю будзеш багаты».
Я помніў наказ, бацька твой, сярод тлуму —
Казаў і пісаў толькі так я, як думаў.
Не кпіў я з людзей, прабачаў іх правіны.
Калі ж каго славіў, то не без прычыны.

Ці выйграў я, што не служыў анікому?
Вярнуўся бяднейшы, чым выехаў з дому.
Але ж хіба Цноту адкідваць мне трэба
За тое, што ўсё ж не дае яна хлеба?
Хай шчасце мяне абміне, пачакае,
Я ж Праўду не кіну — так бацька мне раіў.
Так, штосьці Нябёсы і мне ўсё-ткі далі,
Ды хціўцы па хвілі жыццё маё кралі.
Каб жыў я для іх, пад іх вокам нядрэмным,
Каб стаў я навек іх валом пад'ярэмным.
Адны абяцанкі яны мне давалі.
Людзей я не пхаў, хоць мяне скрозь піхалі.
Надзея! Цябе я не ў золаце бачыў
У мроях сваіх яшчэ з вёснаў юначых.
Што пыха маёнткаў! Зусім не па гэта
Я стукаўся ў дзверы фартуны штолета.
Мне жыць бы на вёсцы, у хаце той простай,
Абы толькі хлеба было ў ёй удосталь.
Быць вольным хачу, не згінацца ў паклоне...
Хадзіць сабе з плугам па ўласным загоне...
Я думаў пра гэта штодзень і штоночы;
Ад кніжак я страціў здароўе і вочы...
Што ж кніжкі далі мне? Яны — тая ж ніва,
Што зрэдку й насення не верне ў час жніва.
Над імі карпеў я ўвесь век без спачынку,
Цяпер жа во мару пра хлеба скарынку.
У час Шымановічаў і Каханоўскіх
Знайшоў бы я, можа, Замойскіх, Мышкоўскіх[1].
Тады б мая ніва не знала няўроду,
Бо я ўвесь свой талент аддаў бы народу.
А так згіньце, кнігі — мой скарб нешчаслівы,
Я з вамі звязаўся дарма: давялі вы
Да торбы мяне і, на жаль мой вялікі,
Мяняю я вас на плугі ды матыкі.
Я думкі свае ўжо не выкладу ў творах.
Але маё сэрца на бліжняга гора
Усё ж адгукнецца. Я з радасцю буду
Спрыяць, памагаць неяк беднаму люду.
Марыя[2] — Сястрыца! Пра ўсіх бы ты дбала:
Я толькі вярнуўся, і ты ўжо прыджгала!
Пры куце пустым, у дзятвы акружэнні
Што ж раптам, жанчынка, ты стала ў знаменні?
На рукі зірнула мае: як, няўмелы,
Парадкаваць буду я двор апусцелы?
Гняце й цябе беднасць — любы тут прыкмеціць:

Што ж, з праўдай таксама ідзеш ты па свеце.
О родныя! Хай нас надзея не слепіць:
«Ён быў між панамі, і нам будзе лепей...»
Так, быў і служыў бы яшчэ ім і болей,
Але дагаджаць панству тому даволі!
Усё! Хай чужое, капаю ўжо груддзе»
Дамок падапру чым, і жыць у ім будзем.

## ДА ЮСТЫНЫ. ВЯСНОВАЯ ТУГА

Так ззяе ўжо сонца — у небе, не ў марах,
Так свеціць, высокае, свету!
Маё ж па-ранейшаму сонца — у хмарах,
І ў іх — ніякога прасвету!
Ужо збажына зелянее ў наўколлі —
Усё ёй сяголета годзіць.
У рост гэтак дружна ідзе, як ніколі...
Пшаніца ж мая і не ўсходзіць!
Ужо ад шчаслівых салоўкавых песень
Садок дзень і ноч не змаўкае,
І ім адгукаюцца птушкі ўсе ў лесе.
Мой птах жа маўчыць, не спявае.
Вясна ўжо расквеціла краскі памалу
Пад цёплага сонейка ласкай,
У розныя фарбы лугі ўсе прыбрала.
Мая ж не цвіце яшчэ краска.
Дакуль жа прасіць цябе буду, о Неба,
З вясною пра ласку такую:
Паліта слязамі даволі ўжо глеба,
Калі ж плён жаданы збяру я?

## ПАДАРОЖЖА ПА ЗАЧАРАВАНЫМ КРАІ

(урыўкі)

Ледзь я пераправіўся праз Божую рэчку, што адасабляе зачараваны край ад рэшты зямлі, як неспадзявана пабачыў дзіўныя і жахлівыя відовішчы, больш праўдзівыя, чым падобныя на праўду.

1. Недзе праз гадзіну падарожжа, на адлегласці не больш за чвэрць мілі, зямля, якая ў гэтым месцы пакутавала, пэўна, ад нейкага гвалту, кідала вышэй дрэў якіясь камлыгі памерам у колькі локцяў і, узняўшы ў паветра на аднолькавую вышыню, апускала іх у тое самае месца, дзе брала.

2. Яшчэ на гэты глядзеў цуд, як новае відовішча прыцягнула маю ўвагу. Гурт людзей, з выгляду падобных на ліхадзеяў (можа, і ўбогасць, якую на іх бачыў, была прычынаю гэтага), ачапіў дом на маім шляху, відавочна, з мэтаю рабунку ды забойстваў. Адзін супраць столькіх разбойнікаў — я не мог

ратаваць тых, хто трапіў у небяспеку, дык пра адно толькі марыў: каб жыхары як-небудзь уцяклі з свайго дому; аднак усё сталася інакш: дом пад выкрыкі тых лотраў (дзіўная рэч!) уцёк, а злоўленых жыхароў яны жахліва мардавалі ў мяне на вачах.

3. Устрывожаны гэтаю лютасцю, я з'язджаў як можна хутчэй з тае дзікае мясціны ды тут убачыў чалавека, што скакаў на кані насустрач мне. За ім роўным конскаму бегу крокам гнаўся нейкі чорны волат на такой жа чорнай жывёліне, якая разам з вершнікам каля дваццаці, можа, локцяў мела ў вышыню. Гэты нешчаслівы на такога таварыша свайго падарожжа, пэўна, не зважаў, а вось у мяне тая аграмадная здань яшчэ дасюль не выйшла з думак.

4. Ужо прыйшоў час растрывожанаму столькімі жахлівымі відовішчамі шукаць начлег, і я знайшоў яго ў доме нібыта гасцінным, але з прычыны ўсеагульнае ў гэтым краі нядолі таксама жудасным. Начаваць давялося ў вялікім пакоі, дзе апрача агню ў куце ды пеўня, які часам пранізліва спяваў, не было бачна аніводнае жывое душы. Больш за гадзіну, пакуль сяктак заснуў, даносіліся да мяне праз загароджаныя ў другі пакой дзверы толькі два галасы. Там якісь раз'юшаны кат мучыў нявінную, пэўна, ахвяру. Чуў я адно слова «gehar», грозна паўтаранае тым вылюдкам сотні разоў, і за кожным разам пакутнік плачлівым голасам прамаўляў колькі выразаў на незразумелай мове. Я, што шмат у жыцці адпакутаваў і маю сэрца, схільнае да літасці, хацеў дапамагчы прыгнечанаму, але затрымала мяне думка, у якім гэта я краі знаходжуся, што неспадзявана пабачыў і што са мною самім можа яшчэ здарыцца, дык чакаў у неспакоі дня, які рыхтаваў для мяне яшчэ большыя жахі.

5. Як мага далей уцякаў я з тае мясціны, але мне перагарадзіла шлях рэчка з паромам — і зноў новае відовішча! Каля самага парома праз рэчку — мост, па якім штогод ідуць тысячы асуджаных на смерць бязвінных ахвяраў. І мост гэты тут пабудаваны толькі дзеля такіх вось бяздольных. Шчаслівы, што мне дазволілі пераехаць, я ніколі, як у гэты час, так ахвотна не плаціў за перавоз. На другім баку, ля самага берага рэчкі, на гары, наўмысна, напэўна, насыпанае кімсьці ў даўнія часы, стаіць заклятая святыня, зайсці ў якую тамтэйшы жыхар не жадае. Але калі ў ёй славілі Бога, што з'яўляецца Богам усіх людзей, я ўшанаваў гэтае святое месца.

6. Едучы далей, калі сонца заходзіла і набліжаўся змрок — ужо сам па сабе сумны, а пасля столькіх страшных відовішчаў яшчэ больш трывожны для мяне, — я заўважыў найпрыгажэйшую мясціну, але былі на ёй жахлівыя знакі моцы Боскае і нікчэмнасці чалавека. Мноства людзей, быццам тут іх застаў найвышэйшы вырак, перамяніліся ў камні. Гэты — рукі працягваючы да свайго, можа, сябра, той — угору вочы ўзняўшы, нібы літасці просіць, іншы — граючы весела, іншыя — у пакутах нараджаючы, — усе былі ператвораны ў камень. Непадалёку ад месца гэтага жахлівага перамянення ўзносіцца нейкая святыня ці аграмадны гмах, заведзены ў які па шматлікіх прыступках сходаў, я пакланіўся мясцовай багіні. Паўсюль, куды ні зірнуў, — мармур, крышталь ды золата, а гледзячы на багіню, мне здалося (бо начытаўся ў маладосці), што ўбачыў Юнону. Тым, хто ля яе

стаяў, раздавала яна парады, загады альбо зняважлівую лаянку, але ніхто ёй не адказваў, а толькі — ці яго хвалілі, ці ганілі — аднолькава пакорліва кланяўся багіні. І хоць бавячыся там, я аніякае прыкрасці не зазнаў і нават з пэўнаю прыхільнасцю адносіліся да мяне, аднак нічога нікому не кажучы, пакінуў і багіню, і ейную святыню.

7. Нарэшце прыехаў у месца пошасці, з якога насустрач мне мноства вазоў вывозілі трупы. Нават тыя, хто іх вёз, былі такія хворыя, што самі ківаліся ды чакалі такое ж смерці. Змушаны маім абавязкам ехаць у гэтае месца, перадусім, стараўся засцерагчыся, а трапіў у такі спакой, дзе цэлымі днямі апрача птаства на дрэвах ды сабакі, які часам абзавецца, не чуў аніякага голасу. Усё там абудзілася толькі пасля заходу сонца, калі, як звычайна, прачнулася гаспадыня таго дому. Бачыць яе можна толькі пры начным асвятленні. Але за страчаныя дні яна ўзнагароджвае людзей, што з ёю бавяцца, прыветнасцю, а яшчэ болей — выдатнаю музыкай, слухаючы якую штоначы, я забыўся пра мае няшчасці і пра мае няспраўджаныя надзеі.

### Тлумачэнне гэтага падарожжа

Едучы з Пулаў на Валынь, я пераправіўся ў Владаве праз Буг, гэта — Божая рэчка, якую, пэўна, славяне-паганцы шанавалі як Бога.

ПЕРШЫ МАЛЮНАК, нібыта кіданае ўгору і апусканае ў тым жа месцы зямлі, — гэта ветраны млын, якога я цалкам не бачыў, толькі па-над лесам, за якім быў гэты млын, заўважыў здалёк ягоныя крылы, што на аднолькавую вышыню ўзнімаліся ў паветры.

ДРУГІ. Людзі, што ачапілі дом ля дарогі, — гэта сяляне, якія сеткаю лавілі ў сажалцы рыбу.

ТРЭЦІ. Чалавек і чорны велікан за ім — гэта вершнік, што скакаў перад заходам сонца ды меў аграмадны цень, які бег за ім.

ЧАЦВЁРТЫ. Начлег за Любомлем, дзе ў другім пакоі карчмы бельфэр вучыў чытаць хлопчыка-габрэя, які са страху прамаўляў усяго па некалькі словаў, а бельфэр, калі хлопец замаўкаў, бесперастанна паўтараў слова «gehar», што па-габрайску значыць «хутчэй».

ПЯТЫ. Фатальны мост і святыня ў вёсцы Чэкня каля перавозу праз рэчку Стыр. Перавоз там — гэта паром, мост побач — толькі для валовых статкаў, якія штогод гоняць па ім у Владаву. Заклятая святыня — гэта царква на гары ля берага, у якую Масква ўвяла «благочестие», але сяляне, трымаючыся Уніі, пабудавалі сабе іншую царкву.

ШОСТЫ. Скамянелыя людзі — гэта каменныя статуі ў пекным парку жамойцкае старасціхі Хадкевічавае ў Млынаве. Там і найпякнейшы палац яе, багата абстаўлены ўнутры; гаспадарлівая пані дом свой і лёкаяў утрымлівае ў найвялікшым парадку.

СЁМЫ. Месца пошасці — мястэчка Тэафільполь княгіні крайчае Сапегі. З мястэчка з рынку вярталіся п'яныя сяляне, а іншыя трупамі ляжалі на вазах. Княгіня звычайна прачынаецца толькі пасля заходу сонца і цэлую ноч любіць бавіцца. Вось і знік міраж гэтага зачараванага падарожжа, калі глянуць на яго з іншага боку.

## ГІСТОРЫЯ МАЙГО ЖЫЦЦЯ І ЛЮДЗІ, СЯРОД ЯКІХ Я ЖЫЎ

(фрагмент)

Цяпер, у старасці, вельмі мучаюць мяне ўспаміны пра непрыгожыя паводзіны ў маладыя гады. Я быў трохі схільны да фанабэрыі, у спрэчках з кім-небудзь распаляўся ў парыве гневу да нястрыманасці. Каб быць далей ад бяды, сваё гаспадаранне на зямлі перадаў я свайму ўнуку Францішку Казяроўскаму. Быў я неабыякавы да жанчын, але асцерагаўся, каб не захварэць. З гэтай прычыны не распуснічаў: больш за усё цаніў здароўе. Стараўся па мажлівасці пазбягаць непатрэбных выдаткаў, вельмі бярог набытае дабро. Прыкладам, і сёння служыць мне прыдбанае сорак чатыры гады назад трумо з шуфлядкамі, дзе я галюся. А майму гадзінніку ўжо сорак дзевяць гадоў — праўда, ён, як стары слуга, пачаў трохі спазняцца. З такой ашчаднасцю я назапасіў сто трыццаць тысяч [чырвонцаў], за якія і набыў двор Краснік.

Касцёл я наведваў не часта, але заўсёды бачу цябе, Божа, як ты сядзіш на ўзыходным сонцы і свет бязмежны аглядаеш. Азартных гульняў і п'янства я не любіў. Быў трохі ганарлівы, але нікога не прыніжаў насмешкамі. Гэтую маю ганарлівасць паіла любоў да сябе, а другую маю асаблівасць — любоў да бліжняга. Заўсёды абурала мяне людская несправядлівасць. І не толькі ў дачыненні да сябе, але і да іншых. Спагадаў людскому гору, асабліва бедным сялянам. Але гэтую спагаду не лічу сваёй заслугай. Такое сэрца дала мне прырода. Калі заплача хто ў няшчасці, я таксама з тым плачу.

У 1812 годзе, падчас страшнай ваеннай разрухі на маёй сядзібе, усё-такі мне не ўсё пашчасціла страціць, бо 150 чырвоных злотых, якія я ўкінуў у студню, уцалела. Да мяне тады ўварваліся казакі. Яны забралі маё адзенне і бялізну. Адзін з іх падышоў да канторкі і загадаў: «Адчыні, бо разаб'ю сякерай, і аддай грошы». Я дастаў адтуль 60 чырвоных злотых, што ляжалі ў табакерцы, падараванай мне манархам Аляксандрам I, высыпаў іх на стол і амаль з плачам прасіў казака: «Богам прашу, не забірай у беднага старога гэтыя грошы!». Ён, адлічыўшы сабе 20 чырвоных злотых, рэшту аддаў мне, за што я вельмі яму дзякаваў.

Неўзабаве пасля гэтага мой унук Францішак Казяроўскі, які гаспадарыў пры мне, узяў замуж удаву Здзітавецкага Анну з Талкачоў, вельмі прыстойную і гаспадарлівую. Гэтая жаніцьба весялейшым зрабіла мой дом.

Унікаючы ўсякіх клопатаў, уступіў я свайму ўнуку ўсё права на гаспадаранне ў Красніку, перадаўшы яму і ўсю маёмасць, набытую за 50 гадоў.

Тым часам я, здзяйсняючы сваю даўнюю мару, купіў у Ваўкавыскім павеце ў вяльможнага пана Вінцэнта Ажахоўскага сабе ва ўласнасць вёску Хораўшчыну, за якую разам з пошлінамі [аплатамі скарбовымі] заплаціў 100 тысяч злотых. Пасля маёй смерці ўнук Францішак Казяроўскі, да якога я прывязаўся, калі ён быў яшчэ малы, і які мяне заўсёды слухаўся, будзе ўладальнікам гэтай вёскі. Аформіўшы ўсё ў тастаменце, я перасяліўся тры гады назад у купленую вёску і тут спакойна жыву. Потым перабраўся да мяне Казяроўскі з жонкай і дзецьмі і з усім сваім дабром.

Сядзіба Хораўшчына мае свае выгоды: блізка мястэчка Лыскаў, куды я наведваюся, праўда, толькі адзін раз на год на велікодную споведзь. Праз сваё слабае здароўе я больш нідзе не бываю, хоць у мяне многа добрых суседзяў, якія мяне паважаюць. Праз дзве мілі ад маёй сядзібы жыве стараста Сегень, з якім я сябрую ўжо гадоў сорак і які часам праведвае мяне. Сам жа я, хоць і шчыра люблю свайго сябра, не магу ўжо завітаць да яго: нават па пакоі мне ўжо цяжка хадзіць, большую палавіну дня я ляжу і трохі сяджу.

Пішу я гэта ў 1822 годзе — на восемдзесят першым годзе свайго жыцця. Чуючы, як слабеюць мае сілы, хачу развітацца з вамі, мае крэўныя, найперш з табою, Францішак Казяроўскі, з тваёй жонкай і з шасцю дзецьмі...

Развітваюся і з вамі, мае даўнія прыяцелі — Кароль Прозаж, абозны літоўскі, і Ігнацы Сегень, стараста крэменьчуцкі, — ужо мінула сорак гадоў нашага сяброўства. Як жа міла мне будзе з вамі, пачцівымі людзьмі, сустрэцца і на тым свеце...

Скора ўбачу я і цябе, мой Ойча, прыстойны і некалі такі суровы да мяне. Не ўсё ■ здзейсніў, што ты наказваў мне. Але акрамя таго ножыка, які дзіцячымі гадамі ўкраў быў у парабка, больш нікога, здаецца, я не пакрыўдзіў у жыцці...

*1822*

**Каментарыі**

Вершы пераклаў з польскай мовы К. Цвірка. Пераклады зроблены паводле выд.: Karpiński F. Dziela. — Warszawa, 1806. — Т. 1—4.

**«Вяртанне з Варшавы на вёску».**

[1] Замойскі, Мышкоўскі — мецэнаты мастацтва ў XIV ст., былі апекунамі польскіх паэтаў С. Шымановіча і Я. Каханоўскага.

[2] Марыя Занькоўская — сястра Ф. Карпінскага.

**«Падарожжа па зачараваным краі».** Друкуецца ў скарачэнні паводле выд.: XIX стагоддзе: навук.-літ. альманах. — Мінск, 1999. — Кн. 1. Пераклад з польскай мовы М. Хаўстовіча.

Як высветліў перакладчык, «зыходным пунктам «Падарожжа па зачараваным краі» стала сапраўднае падарожжа Ф. Карпінскага ў 1801 г. з Пулаў на Валынь у маёнтак Тэафільполь крайчае Тэафілі Сапегі, якой паэт яшчэ ў 1794 г. пазычыў на два гады 2000 дукатаў, а потым, надумаўшы «купіць сабе вёску», імкнуўся вярнуць доўг. Падарожжа было безвыніковым. Грошай паэт не атрымаў, дык, мусіць, невыпадковыя ў творы такія злосныя выпады супраць княгіні».

**«Гісторыя майго жыцця і людзі, сярод якіх я жыў».** Пераклад зроблены паводле выд.: Karpiński F. Historia mego wieku i ludzi, z którymi żyłem. — Warszawa, 1987. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

# ФРАНЦІШАК РЫСІНСКІ (1749—1830?)



У 1843 г. на Віцебшчыне пабываў Рамуальд Падбярэскі, які занатаваў свае ўражанні ад творчасці папулярнага мясцовага паэта. Вось што ён сказаў: «Францішак Рысінскі, аўтар мноства напісаных з нагоды і лёткіх вершыкаў, лёгкіх, вясёлых, дасціпных, у якіх звяртае ўвагу і міжвольна прымушае задумацца філасофская, часам знянацку кінутая думка, заснаваная на глыбокім веданні свету і людзей, выяўляе і рэдкі талент, і розум, падтрыманы навукай і роздумам». З напісанага тады артыкула Падбярэскага «Беларусь і Ян Баршчэўскі» відаць, што Рысінскі быў мясцовым памешчыкам і чыноўнікам, служыў старшынёй губернскай палаты цывільнага суда ў Віцебску. Падбярэскі дапускаў, што паэт паходзіў з Украіны. Хутчэй за ўсё, са старадаўняга беларускага роду, прозвішча якога паходзіць ад вёскі Рысін былой Віцебскай губерні (цяпер Себежскі раён Пскоўскай вобласці; адсюль і вядомы паэт-лацініст, збіральнік прыказак XVI—XVII стст. Саламон Рысінскі). Публікуючы некаторыя вершы Ф. Рысінскага ў другім томе «Рочніка літэрацкего» (1844), Падбярэскі адзначыў, што аўтар памёр дзясятак з лішнім гадоў назад, таму за ўмоўную дату яго смерці можна прыняць 1830 г. (або каля 1830 г.). Вось у асноўным і ўсё, што было вядома пра жыццё Францішка Рысінскага.

Шмат ведаў пра Рысінскага яго зямляк А. Рыпінскі, напісаў нават яго біяграфію для сваёй гісторыі беларускай літаратуры, але да нас яна, на вялікі жаль, не дайшла. Новых біяграфічных звестак не паведамляецца і ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», дзе пра Рысінскага ёсць невялікі артыкул У. Мархеля. У другім выпуску гісторыка-літаратурнага зборніка «Шляхам гадоў» (1990) У. Мархель надрукаваў пераклад даволі тыповага для Рысінскага верша «Роздум пасля страты закладзенага маёнтка» і дадаў ва ўступнай нататцы пра яго аўтара: «Не рабілася ніякай спробы адказаць на пытанне, чаму ў пачатку XIX стагоддзя надзвычайную папулярнасць на Віцебшчыне мелі іранічна-філасофскія творы Францішка Рысінскага (канец XVIII ст. — не пазней 1830 г.), старшыні цывільнага суда ў Віцебску, які пісаў на польскай, беларускай і, можа, на рускай мовах...». Словам, і па біяграфіі, і па творчасці Рысінскага шмат пытанняў.

Таму нам падаліся вартымі ўвагі кароткія звесткі, прыведзеныя ў справе канцылярыі Полацкага намесніцтва 1783 г. аб службе мясцовых чыноўнікаў. Згадваецца там і Рысінскі. Аказваецца, яму было тады 34 гады. Выходзіць, нарадзіўся ён у 1749 г. Такім чынам, перад намі равеснік Гётэ, чалавек, які сфарміраваўся і пражыў значную частку жыцця яшчэ ў XVIII ст. Калі ўсходняя Беларусь была далучана да Расіі, ён увайшоў ужо ў пару маладосці. У 1778 г. утварылася Полацкае

намесніцтва, узнікла мноства новых установаў, і Рысінскі атрымаў у Полацку месца засядацеля ад дваранства ў Другім дэпартаменце Верхняга земскага суда, потым быў выбраны дваранскім засядацелем у Полацкі совесны суд, з 1780 г. ён надворны саветнік (гэта немалы чын). Друкаваны агульнарасійскі «Месяцеслов» на 1796 г. паведамляе, што калежскі саветнік (новая прыступка ў кар'еры) Франц Пятровіч Рысінскі быў на той час старшынёй таго самага дэпартамента Верхняга земскага суда, у якім пачынаў некалі службу засядацелем.

Францішак Рысінскі пісаў пераважна на польскай мове, але ёсць падставы думаць, што ён не грэбаваў і беларускай музай. Вядома, што яго творчасцю цікавіўся ксёндз-місіянер і вялікі кнігалюб Антон Карніловіч (1805—1856). У свой час Адам Мальдзіс прывёў наступны цікавы для нас фрагмент з артыкула пра Карніловіча ў «Польскім біяграфічным слоўніку»: А. Карніловіч, гаворыцца ў артыкуле, «цікавіўся таксама беларускай паэзіяй, асабліва паэтам Францішкам Русінскім [!], вершы якога збіраў і меркаваў выдаць». Як бачым, Рысінскі, магчыма, праз памылку друку трансфармаваўся тут у Русінскага. Не выключана, што мы ўвогуле маем тут справу з крыху перайначанымі звесткамі, якія ідуць яшчэ ад Падбярэскага, але хто ведае, можа, рэдакцыя слоўніка мела і дадатковыя матэрыялы.

*Г. Кісялёў*

## РОЗДУМ ПАСЛЯ СТРАТЫ ЗАКЛАДЗЕНАГА МАЁНТКА

Клопат, бачу я, — пустое,
Што ж дарэмна надрывацца.
Трэба думаць мне пра тое,
Як у беднасці смяяцца.

Голы я, неклапатлівы,
Стуль цяжар бяды не горшы,
Што заўсёды быў цнатлівы
І збіраць не думаў грошы.

Мне сягоння засталіся
На палёгку — церплівасць,
На нягоды — сталасць мыслі,
Скарб мой — розум і пачцівасць.

Мой маёнтак, рэшткі саду
І зямліца, дзе стаім мы,
Той астатак ад закладу,
Сёння сталі не маімі.

Вось і мой дамок нікчэмны,
З тым, што ёсць у ім з парога,
Крэдыторам стаў прыемны,
Паглядае на дарогу.

Адчыняў усім ён дзверы:
Хто прыходзіў — весяліўся.
Меў найлепшыя намеры,
Бо ўсім з беднымі дзяліўся.

Так, здаецца, лёс прызначыў:
Каб не ў шчасці, а з бядою
На сабе ён сам убачыў,
Як ідзе ўсё чарадою.

Той, хто праз мяне стаў панам,
Аплываючы ў дастатку,
Над маім ўздыхае станам,
Каб не падтрымаць ва ўпадку.

Меў сяброў я ў шчасці многа,
Што заўсёды мне спрыялі,
А не ўцёк ад лёсу злога —
Разам д'яблы ўсіх забралі.

Хоць я ў нэндзы на прыкмеце,
Ды з турботамі не зрошчан;
Жывучы сумленна ў свеце,
Шчасцю іншых не зайздрошчу.

**Каментарыі**

**«Роздум пасля страты закладзенага маёнтка».** Друкуецца паводле выд.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998. Пераклад з польскай мовы У. Мархеля.

# ЮЛЬЯН УРСЫН НЯМЦЭВІЧ (1758—1841)



Імя гэтага пісьменніка, гісторыка і грамадскага дзеяча было надзвычай папулярным у канцы XVIII — першай палове XIX ст. ва ўсёй Рэчы Паспалітай і асабліва на яго радзіме — Беларусі.

Нарадзіўся Юльян Урсын Нямцэвіч у вёсцы Скокі паблізу Брэста ў шляхецкай сям'і. У вясковым зацішшы, у самых цесных стасунках з беларускім сялянствам прайшло яго маленства. Сюды, на парог бацькоўскага дома, заўсёды цягнула яго з блізкіх і далёкіх дарог.

Вучыўся Юльян спачатку ў Брэсцкай калегіі, а ў 1770 г. бацькі адправілі яго ў Варшаву, у «рыцарскую школу», як называлі Варшаўскі кадэцкі корпус, дзе ён выхоўваўся цэлых сем гадоў. Вядомы прыхільнік літаратуры і мецэнат Чартарыйскі, які ўзначальваў школу, адразу заўважыў выдатныя літаратурныя здольнасці Юльяна Нямцэвіча. Калі юнак закончыў вучобу, узяў яго да сябе ад'ютантам, усяляк заахвочваючы да літаратурнага занятку. Разам са сваім патронам Нямцэвіч шмат падарожнічаў па Еўропе, наведаў Францыю, Італію, Англію, Германію, Аўстрыю і іншыя краіны.

У 1785 г. Ю.-У. Нямцэвіча выбіраюць дэпутатам гістарычнага Чатырохгадовага сейма, дзе асабліва ярка праявіліся яго дэмакратычныя перакананні. На пасяджэннях сейма вельмі часта гучалі палкія прамовы дэпутата Нямцэвіча ў абарону запрыгоненага селяніна, супраць хцівасці, эгаізму і прадажнасці магнатаў, што дзеля ўласнай карысці і пыхлівасці гатовы былі аддаць чужынцам сваю краіну. Нямцэвіч быў адным з самых актыўных дзеячаў Патрыятычнай партыі, супрацоўнічаў з яе друкаваным органам — «Нацыянальнай газетай». Ён з'яўляўся суаўтарам найбольш дэмакратычнай на той час Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

Актыўна змагаўся Нямцэвіч супраць разбойніцкіх падзелаў Рэчы Паспалітай манархічнымі рэжымамі Аўстрыі, Прусіі і Расіі. У гэтым змаганні ён зблізіжаецца са сваім земляком, праслаўленым у вайне за незалежнасць ЗША брыгадным генералам Тадэвушам Касцюшкам, які якраз вярнуўся з-за акіяна на радзіму. Разам з Касцюшкам Нямцэвіч распрацоўвае планы паўстання за вызваленне радзімы, рыхтуе зварот да народа. Калі ў 1794 г. пачалося паўстанне, Ю.-У. Нямцэвіч становіцца бліжэйшым памочнікам Тадэвуша Касцюшкі, яго ад'ютантам. 10 верасня 1794 г. адбылася рашаючая бітва паўстанцаў з расійскім войскам пад Мацеёвічамі, дзе Нямцэвіч і Касцюшка былі паранены і трапілі ў рускі палон. Кацярына II загадала даставіць іх у Пецярбург. Абодва яны былі кінуты ў змрочныя камеры Петрапаўлаўскай крэпасці і прабылі там да 1796 г. Пасля смерці царыцы на рускі трон сеў Павел I, які і адпусціў іх.

Разам з Касцюшкам Нямцэвіч едзе ў ЗША. Там ён пражыў некалькі гадоў, ажаніўся з удавой Касцюшкавага сябра. У Амерыцы наш зямляк пазнаёміўся і шчыра пасябраваў з выдатнымі дзяржаўнымі дзеячамі ЗША Томасам Джэферсанам і Джорджам Вашынгтонам, якія імпанавалі яму сваімі перадавымі дэмакратычнымі поглядамі.

Атрымаўшы вестку пра смерць бацькі, Нямцэвіч выехаў з Амерыкі дамоў, у Беларусь, дзе на яго імя былі перапісаны бацькоўскія маёнткі. Уладкаваўшы ўсе свае фінансавыя справы, у сакавіку 1804 г. ён вяртаецца ў Амерыку. Але праз тры гады Нямцэвіч назаўсёды пакідае чужы мацярык і вяртаецца на радзіму, дзе цалкам аддаецца літаратурнай творчасці. Не цураецца ён і грамадскай працы. У 1827 г. яго выбіраюць старшынёй Варшаўскага таварыства сяброў навук. У час паўстання 1830—1831 гг. Нямцэвіч уваходзіць у склад Часовага ўрада паўстанцаў. Пасля разгрому паўстання немалады ўжо пісьменнік мусіў пакінуць радзіму. Жыве ў Францыі, дзе сустракаецца з Адамам Міцкевічам і іншымі суайчыннікамі. Памёр Нямцэвіч 21 мая 1841 г. у Парыжы.

У літаратуры Ю.-У. Нямцэвіч праславіўся як аўтар палітычнай камедыі «Вяртанне пасла» (1790), дзе ён выказваўся за сацыяльныя рэформы, за вызваленне сялян ад прыгону, зборнікаў прозы «Літоўскія пісьмы» (1812), у якіх знайшло адлюстраванне жыццё Беларусі таго часу, «Гістарычных песень» (1816), дзе ў паэтычнай форме расказваецца пра славутых людзей Рэчы Паспалітай, раманаў «Два паны Сяцехі» (1815), «Ян з Тэнчына» (1825), паэтычных твораў. Сучаснае яму жыццё Беларусі, яе гісторыя, мінулае асобных гарадоў адбіліся ў дарожных нарысах і гістарычных эсэ Нямцэвіча «Успаміны маіх часоў» (1848), «Гістарычныя падарожжы на польскіх землях у 1811—1828 гадах» (1858). Пісьменнік выдаў таксама шасцітомны «Збор гістарычных мемуараў пра старажытную Польшчу». Свабодалюбівую творчасць Нямцэвіча, асабліва яго «Гістарычныя песні», высока цаніў дзекабрыст К. Рылееў, якраз пад іх уздзеяннем стварыў ён свае «Думы».

Творчасць Юльяна Нямцэвіча мела немалое значэнне для развіцця рэгіянальнай літаратуры на землях былога Вялікага Княства Літоўскага і ў першую чаргу на Беларусі. Адлюстроўваючы ў асобных творах жыццё і гісторыю роднага краю, выказваючы «лакальныя» патрыятычныя пачуцці, пісьменнік вучыў наступныя пакаленні землякоў-літаратараў і перш за ўсё рамантыкаў на чале з Адамам Міцкевічам, па-сыноўняму шанаваць сваю зямлю, перададзеную ў спадчыну продкамі, любіць і паважаць свой народ.

*К. Цвірка*

## КНЯЗЬ КАНСТАНЦІН АСТРОЖСКІ[1]

Гістарычная песня

I.
Калі занядужаў Рэвера[2] славуты,
I спаць не даваў боль забойчы,
Каб неяк аблегчыць начныя пакуты,
Паклікаў ён пажа аднойчы.

II.
«Мой паж, — папрасіў ён, — прысядзь тут, ля ложа,
I лютню вазьмі ў свае рукі.

Пра рыцараў ты паспявай мне прыгожа».
I вось — паплылі з лютні гукі:

III.
«Быў муж у часы Жыгімонта Старога[3] —
Не знаў ён, што страх, што трывога.
Магутнай быў сілы, хоць росту малога,
Знаў свет Канстанціна з Астрога[4].

IV.
Яшчэ юнаком маскалёў пад Вядрожай[5]
Ён біў з кап'янерамі ўдала.
Ды знёс яго конь да заслоны варожай.
Яна малайца ўміг звязала.

V.
Уздзеў яму цар найцяжкія аковы
I ў чорную кінуў вязніцу.
Ніколі людской там не чулася мовы,
Святло не трапляла ў цямніцу.

VI.
Тым часам Маскву аблажылі атрады
Татараў — усюды іх поўна.
У роспачы цар, што жыццю быў не рады,
Тут стаў перад вязнем раптоўна:

VII.
«Астрожскі, ты, ведаю, хваткі геройскай,
У бітвах адважны і здольны.
На́ шлем свой і шчыт, узначаль маё войска,
Разбі татарву — будзеш вольны!»

VIII.
Ушчэнт разграміў татарву князь з Астрога,
Ды царскаму слову пустому
Не верыў зусім — ці ж там шчырасці многа?
Баржджэй на каня — і дадому!

IX.
Шмат дзён прабіраўся лясамі густымі і
Ўбачыў там храм паміж букаў.
Пачуў ён малітвы пад букамі тымі,
Лагоду арганную гукаў.

X.
Зайшоў, ля іконы суняўся з паклонам:
«Мой Божа спагадны, адзіны,
Ты зычыш дабра ўсім, даеш пiць апрагнёным,
Вярнуцца ж мне дай да Айчыны».

XI.
Тым часам пасланыя ўперад баяры
Яму расчышчаюць дарогу.
Князь гэтак адолеў лясы ўсе, імшары,
І вось — ля свайго ён парогу!

XII.
Шмат выцерпеў ён.
Тут — далі яму ўлады Літвы булаву: знай героя!
Калі цар прывёў сюды войскаў армады,
Іх князь стрэў пад Воршаю зброяй!

XIII.
На грудзі — кальчугу, штурмак свой — на галаў,
З булатам аголеным строгім
Вось ён аб'язджае ўсё войска наўкола
На верным кані беланогім:

XIV.
«Браты мае, рыцары, будзьце мужамі!»
На кліч яго ўсталі дружыны.
Скрозь пікамі колюць, рубаюць мячамі,
Крыві навакол — ручаіны.

XV.
Іх восемдзесят ажно тысячаў нашы
Паклалі ўдвая меншай сілай.
Жахлівая сеча! Крыніцы ўсе, пашы
Крывёю яна счырваніла.

XVI.
Ды ў замку Астрожскім князь з жонкай сваёю
Не доўга на волі час бавіў.
Нахлынуў татарын усёю ардою,
Паўсюль баль крывавы свой правіў.

XVII.
Ён, гетман Літвы, тут сабраў усё войска,
Пайшоў к Вішняўцу, дзе татары
Свой табар раскінулі ў полі па-свойску,
Наўкол плюндравалі абшары.

XVIII.
«Сябры! — Канстанцін гаварыў так ва ўздыме. —
Час помсты настаў і адплаты!
Зноў — нашыя месты і сёлы — у дыме,
Гараць нашы нівы і хаты!

XIX.
Плач нашых нявест у татарскім палоне
Здалёку сюды далятае.

Капыцяць наш край дзікіх варвараў коні,
У лес паўцякалі ратаі».

XX.
Князь сеў на каня, булаву ўверх падкінуў
Тут жа ўхапіў зноў рукою:
«Чэсць тым, хто памерці гатоў за Айчыну!
Хто мужны і смелы — за мною!»

XXI.
Дарэмна чужынец з-за ўзгор'я, з чароту,
Пускаў стрэлаў чорныя хмары.
Бясстрашны наш гетман літоўскі з налёту
Змяў хціўцаў — пабеглі татары!

XXII.
Ён з трыццаці бітваў вярнуўся са славай,
Кароль з ім вітаўся, як з братам.
Увенчаны лаўрамі быў ён дзяржавай,
Страчаў яго люд скрозь віватам».

XXIII.
Далей паспяваць думаў паж наш вучоны
Аб рыцарскай славе прымцелай.
Ды сон яго ўзяў тут, і голаў, стамлёны,
Схіліў ён над лютняй сцішэлай.

*1816*

## ПАДАРОЖЖА ПА ЛІТВЕ Ў 1819 ГОДЗЕ

(урывак)

Да гэтага часу Бярэсце, сталіца майго роднага ваяводства, было мэтай, да якой ■ вельмі імкнуўся. Мне было сорамна, чалавеку паважнага ўжо веку, адкладваць маё гістарычнае падарожжа ў правінцыю, у якой і мае продкі, і я сам прыйшлі на свет, тым болей, што гэты край не ўступае славутасцямі — воінамі, дзяржаўнымі дзеячамі, вучонымі — Кароне польскай, край, які даў Ягелаў[1], які быў радзімай Хадкевічаў, Радзівілаў, Астрожскіх, Сапегаў[2], у якім нарадзіліся Каяловіч[3], Пачобут[4], Нарушэвіч[5], Рэйтан[6], Корсак[7], Касцюшка[8], нарэшце. Няхай іншыя пускаюцца да квяцістай, поўнай духмяных пахаў цудоўнай Аўзоніі, няхай едуць у раскошны Парыж і багаты Лондан — я ж еду ў самыя нетры літоўскіх бароў, не такіх, можа, прыемных і вясёлых, але вельмі вабных для мяне, бо яны — частка святой і нешчаслівай маёй айчыны <...>

Думаючы пра якія-небудзь важныя рэчы, чалавек міжволі параўноўвае іх з іншымі. Колькі ж траціць мая Літва, калі я ў думках параўноўваю яе з краінамі Еўропы! Я пытаўся ў сябе: няўжо глеба ў Брандэнбургу, у многіх частках Саксоніі, Шампані ў Францыі, скалістай Шатландыі і Швецыі

больш урадлівая, чым наша зямля на Жмудзі, у Ковенскім, Наваградскім, Ваўкавыскім і іншых паветах. Вядома ж, не: наша глеба больш ураджайная на зямныя плады, чым ва ўсіх гэтых краінах. Чаму ж, пытаюся я зноў, нават у неўрадлівых правінцыях Францыі, Шатландыі, Швецыі, у пясчаным Брандэнбургу мы бачым свабодны люд, акуратныя мястэчкі, дагледжаныя палеткі, росквіт промыслаў, а адсюль — і дабрабыт людзей? Малое, закінутае сярод бурлівага акіяна мястэчка ў Аркадзіі не параўнаць сваім росквітам і заможнасцю з Коўнам ці Пінскам з іх рэкамі, звязанымі са светам. Адказ на гэтыя ўсе пытанні такі ж просты, як і небяспечны.

Чалавек, кажу я, гэтая адораная духоўнасцю і нябесным святлом істота, усе свае здольнасці павінен накіроўваць на ўдасканаленне самога сябе і свайго жыцця. Свае набыткі, кажу я, ён павінен аддаваць як спадчыну з пакалення ў пакаленне. Я ж у забраных правінцыях бачыў зусім адваротнае. Там не ўдасканаленне здольнасцей, розуму, а штораз большую сапсаванасць і беднасць перадаюць пакаленні адно аднаму.

*1819*

## Каментарыі

**«Князь Канстанцін Астрожскі».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Śpiewy historyczne przez Jul. Urs. Niemcewicza. — Petersburg, 1858. — S. 142—146.

[1] Князь Канстанцін Астрожскі (каля 1460—1530) — гетман Вялікага Княства Літоўскага (з 1497 г.), кашталян віленскі (з 1511 г.), ваявода трокскі (з 1522 г.). 14 ліпеня 1500 г. у бітве з рускімі войскамі на рацэ Вядрожа (ці Вядроша) каля Дарагабужа на Смаленшчыне трапіў у палон, адкуль выбавіўся ў 1507 г. У 1514 г. пад Оршай 40-тысячнае войска ВКЛ пад камандаваннем Канстанціна Астрожскага разбіла 80-тысячнае рускае войска Ён быў пераможцам у шматлікіх бітвах. Меў вялікія зямельныя ўладанні на Беларусі, многія з якіх атрымаў як пасаг пасля жаніцьбы са слуцкай князёўнай Аляксандрай, дачкой князя Сямёна Алелькі. Вызнаваў праваслаўе, будаваў цэрквы на Беларусі і Украіне.

[2] Рэвера — мянушка вялікага гетмана Рэчы Паспалітай Станіслава Патоцкага.

[3] Жыгімонт I (Зыгмунт, Сігізмунд) Стары (1467—1548) — вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы.

[4] Астрог — горад ва Украіне, адно з уладанняў княжацкага роду Астрожскіх, ад назвы якога яны і атрымалі сваё імя.

[5] Вяндрожа Вішнявец — мястэчка князёў Вішнявецкіх паблізу Крамянца (ва Украіне). Там і адбылася пераможная бітва над татарамі ў 1512 г.

**«Падарожжа па Літве ў 1819 годзе».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі зроблены паводле выд.: Niemcewicz Juljan Ursyn. Podróże historyczne po ziemiach polskich między rokiem 1811 a 1828 odbyte. — Paryż; Petersburg, 1858. — S. 336, 414—415.

[1] Ягела, альбо Ягайла, Якаў, Уладзіслаў II (каля 1348—1434) — вялікі князь ВКЛ (1377—1392), кароль Польшчы (1386—1434), заснавальнік дынастыі Ягелонаў.

[2] Славутыя магнацкія роды на Беларусі, прадстаўнікі якіх займалі высокія пасады ў ВКЛ.

[3] Каяловіч Альберт (Віюк-Каяловіч; 1609—1677) — гісторык, нарадзіўся ў Коўне. Быў рэктарам Віленскай акадэміі — будучага Віленскага ўніверсітэта, выкладчыкам тэалогіі ў Брэсце і Слоніме, потым — у Варшаве. Аўтар «Гісторыі Літвы»

(ч. 1: Да Крэўскай уніі; ч. 2: Да Люблінскай уніі). Напісана на лацінскай мове. «Гісторыяй Літвы» А. Каяловіча доўгі час карысталіся гісторыкі Еўропы, вывучаючы нашу краіну.

[4] Пачобут-Адляніцкі Марцін (1728—1810) — беларускі вучоны-асветнік, астраном, родам з вёскі Саламянцы Гродзенскага павета.

[5] Нарушэвіч Адам Станіслаў (1733—1796) — паэт, гісторык, родам з мястэчка Лапшын на Піншчыне.

[6] Рэйтан Тадэвуш (1742—1780) — пасол (дэпутат) сейма Рэчы Паспалітай, актыўны змагар супраць падзелаў Рэчы Паспалітай. Родам з Навагрудчыны. Калі ў канцы XVIII ст. сейм прыняў пастанову, якая фактычна пазбаўляла Рэч Паспалітую самастойнасці, Рэйтан лёг у дзвярах залы пасяджэнняў, каб змусіць дэпутатаў перагледзець згубную пастанову, але яго не паслухалі.

[7] Корсак Тадэвуш (1741—1794) — падчашы полацкі, пасол віленскі на Чатырохгадовы сейм, удзельнік паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. У чыне генерал-маёра стаў на чале віленскага народнага апалчэння. Загінуў у бітве з царскімі войскамі ў лістападзе 1794 г.

[8] Касцюшка Андрэй Тадэвуш Банавентура (1746—1817) — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. З беларускага шляхецкага роду. Нарадзіўся ў фальварку Мерачоўшчына каля Косава (цяпер Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці). Удзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША. Дзякуючы ваеннаму таленту Касцюшкі амерыканская армія атрымала адну з важнейшых перамог (1777). Даслужыўся да чына брыгаднага генерала.

# МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ (1765—1833)



Беларускі кампазітар, літаратар і грамадскі дзеяч Міхал Клеафас Агінскі паходзіў са славутага «літвінскага» роду Агінскіх, якія сваю генеалогію выводзілі ад Рурыкаў. Іх роданачальнікам быў смаленскі князь Іван Васільевіч Глушонак. У XV ст. яго сын Дзмітрый атрымаў ад вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка каля Коўна маёнтак Агінты, што і даў назву роду.

У сваіх «Мемуарах» Міхал Клеафас Агінскі адзначаў: «Паходзячы з літвінскага роду, я нарадзіўся ў Польшчы, у вёсцы маіх бацькоў, у сямі мілях ад Варшавы». Пачатковую адукацыю будучы кампазітар атрымаў дома. Для ўдасканалення музычнага навучання бацькі аддалі сына ў сям'ю яго дзядзькі, гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага ў горад Слонім. Настаўнікам музыкі ў яго быў вядомы кампазітар Восіп Казлоўскі, аўтар славутага паланэза «Гром перамогі, гучы».

У 1794 г. М.-К. Агінскі прыняў дзейсны ўдзел у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі супраць падзелу Рэчы Паспалітай. Ён сабраў у Вільні вайсковы аддзел і з баямі прабіваўся ў Мінскую губерню, каб і там падняць паўстанне. У сутычках з царскім войскам ён ледзь не загінуў.

Пасля падаўлення паўстання знаходзіўся ў эміграцыі. У 1802 г. вярнуўся на Радзіму. Жыў у сваім маёнтку Залессе недалёка ад Смаргоні. Супрацоўнічаў з царскімі ўладамі.

У 1811 г. зрабіў спробу аднавіць беларускую дзяржаўнасць. Ён распрацаваў і падаў расійскаму імператару Аляксандру I, з якім наладзіў прыязныя адносіны, акт аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага ў межах Расійскай імперыі. У сваёй запісцы Агінскі так абгрунтоўваў неабходнасць аднаўлення беларускай дзяржавы з цэнтрам у Вільні: «Частка Польшчы, далучаная да Расійскай імперыі, складала калісьці асобнае самастойнае валоданне — Літву — яшчэ перад актам уніі Літоўскага Княства з Каралеўствам Польскім. Жыхары яго спрадвеку вылучаліся ваяўнічым духам, клапаціліся пра свае правы і былі вернымя сваім манархам, адзначаліся мужнасцю і любоўю да Бацькаўшчыны. Гордыя сваім паходжаннем, літвіны, нягледзячы на аб'яднанне сваёй правінцыі з Польшчай, захавалі свае звычаі, свой грамадзянскі кодэкс, мясцовае кіраванне, свае войска, вярхоўны суд, міністраў, дзяржаўных саноўнікаў і нават сойм, які збіраўся па чарзе ў Варшаве і Гародні. Усе гэтыя прывілеі былі такімі дарагімі для літвінаў, што, нягледзячы на ўсякія намаганні і красамоўныя адгаворы, немагчыма было схіліць літвінаў адмовіцца ад сваіх прывілеяў. Я перакананы, што калі б з часу далучэння да Расіі забраных польскіх зямель была з іх утворана адна правінцыя, захавана імя Літвы і пакінуты яе даўнія

правы і каб з яе быў утвораны асобны край са сваім кіраўніцтвам, дзяржава ў складзе Расійскай імперыі, то тады іншаземны ўплыў пранікаў бы туды з цяжкасцю».

Аляксандр I з прыхільнасцю паставіўся да праекта Міхала Клеафаса Агінскага і даў сваю згоду на ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Загадам цара быў распрацаваны праект канстытуцыі беларускай аўтаномнай дзяржавы, у якім прадугледжвалася нават адмена прыгоннага права на працягу дзесяці гадоў. Але супраць гэтага праекта дружна выступілі расійскія шавіністы, пад уздзеяннем якіх Аляксандр I вясной 1812 г. адмовіўся ад аднаўлення беларускай аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі.

У 1823 г. М.-К. Агінскі выехаў у Італію, пасяліўся ў Венецыі, дзе жыў да канца сваіх дзён.

М.-К. Агінскі пісаў паланэзы для фартэпіяна. Самым папулярным стаў яго паланэз ля-мінор «Развітанне з Радзімай». Пісаў таксама і маршы, сярод якіх «Марш паўстанцаў 1794 года», вальсы, мазуркі. У 1826—1827 гг. выдаў у Парыжы чатыры тамы сваіх «Мемуараў», напісаных на французскай мове. У 1828 г. напісаў «Лісты пра музыку».

*К. Цвірка*

## НАЗІРАННІ НАД МУЗЫКАЙ

(урывак)

Чымсьці вельмі адмысловым з'яўляецца адступленне, у якім Палібій[1] гаворыць пра строгі закон аркадыйцаў, згодна з якім дзеці і юнакі да трыццаці гадоў былі абавязаны бесперапынна вучыцца музыцы і ігры на музычных інструментах: «Яны лічаць, што без сораму для сябе могуць быць неабазнанымі ў любых іншых мастацтвах, — адзначае аўтар, — але яны не могуць ні адмовіцца ад навучання спеву, таму што законы змушаюць іх да гэтага, ні ўстрымацца на падставе таго, што ўжо валодаюць ім, бо лічаць гэта для сябе ганебным». Грэчаскі гісторык настолькі сур'ёзна падыходзіць да гэтай тэмы і так паважна ставіцца да яе, што яна займае ў яго месца самых мудрых законаў Афін і Рыма. Немагчыма з большай годнасцю і з такім розумам выявіць перавагу гэтага прыгожага мастацтва і даць зразумець яго вялікую сілу ўздзеяння на звычаі з мэтай іх выпраўлення і змякчэння. Вось, нарэшце, Дзяржава сапраўдная і жыццяздольная (а не прывідная, як у Платона, які ў сваю таксама ўводзіць гармонію), адзіная ва ўсім свеце, складзеная цалкам з музыкантаў, вялікіх і малых, у якой і ў жанчын былі настаўнікі, якія метадычна вучылі іх спевам. А паколькі спевам і ігры на інструментах заўсёды спадарожнічае танец (пра што Палібій не забываецца), там павінны былі быць спецыялісты як у адным, так і ў другім мастацтве. Не падлягае сумніву, што выкладчыкі, якія спецыялізаваліся ў гэтых кірунках, музыканты і настаўнікі танца, былі ў вялікай пашане ў Аркадыйскай дзяржаве. Вось самая шчаслівая і самая радасная з усіх краін у свеце, бо куды магло весці такое замілаванне да музыкі? А вяло яно да мноства іншых вельмі прыемных задавальненняў. Гэты сродак не аддзяляе ад сябе і каханне, з усімі яго тонкасцямі, усімі расчараваннямі і ўсімі радасцямі.

Немагчыма, каб у цалкам музычнай дзяржаве не культывавалася і паэзія, прычым на такім жа ўзроўні, што музыка і танец. Ні на хвіліну не будзем сумнявацца, што закон, які абавязваў да навучання музыкі, распаўсюджваўся і на паэзію, і на танец, бо гэтыя тры мастацтвы вельмі рэдка выступаюць паасобку, і аўтар дае нам зразумець гэта ў поўнай меры. Хоць і хочацца ўяўляць сабе гэтую краіну цалкам адпаведнай настрою яе жыхароў, аднак яна зусім не такая. Палібій малюе нам яе вельмі пакрыўджанай прыродай: суровай, змрочнай, халоднай, з непрыемным і цяжкім паветрам. Здаецца, што на народах адбіваюцца клімат і паветра, якім яны дыхаюць, і што іх схільнасці абавязкова павінны адпавядаць усяму гэтаму. Але ў Аркадыі сіла тэмпераменту з лёгкасцю пераадольваецца. Філасофія, можа, і змагла б дасягнуць мэты ў двух-трох выпадках з соцень тысяч людзей. Між тым годным здзіўлення і цудоўным чынам, цалкам насуперак усім правілам і ў неадпаведнасці з вобразам краіны тут звяртаюцца да сродку, які, па меркаванні некаторых, аслабляе дух і псуе звычаі. Аднак ў гэтым выпадку музыка аказвае на ўсіх людзей цалкам адваротны ўплыў: замкнуты і незгаворлівы народ (заўважце добра гэта) становіцца больш цывілізаваным, змяняе свой характар і свае схільнасці. Вывучэнне гукаў, не выклікаючы патрэбы ў чымсьці яшчэ, робіць аркадыйцаў не такімі жорсткімі, больш выхаванымі, больш мяккімі, выпраўляе іх звычаі, абвастрае розум. І гэта ўздзеянне ўражвае тым больш, што праяўляецца ў іх вялікіх здольнасцях як у музыцы, так і ў паэзіі: бо, калі верыць абату Пэнэ, букалічная[2] паэзія з'явілася ў Аркадыі.

Хто ж мог бы ўявіць сабе, што музыка можа здзейсніць такі цуд і да такой ступені змяніць цэлы народ, калі б сведка гэтага, Палібій, не запэўніў бы нас у гэтым? Ці ж магчымым было б калі-небудзь пачуць пра дзяржаву, цалкам складзеную з паэтаў, музыкантаў, танцораў, флейтыстаў? Яна была адна-адзіная на ўсёй зямлі, самая шчаслівая, самая спакойная, хоць і знаходзілася ў атачэнні шматлікіх іншых, вельмі несуладных. Паміж імі існавала такая вялікая нязгода, што іх гісторыя была напоўнена войнамі і ўнутранымі канфліктамі. Чым гэта можна было б растлумачыць? Палібій даводзіць нам, прычым вельмі сур'ёзна, што яны не звярталі ніякай увагі на музыку, адкідалі яе ці ўвогуле ніколі ёю не займаліся. Таксама як Платон, яны не лічылі, што яна змяшчае ў сабе і ахоплівае ўсе іншыя дысцыпліны, і наадварот, разглядалі яе як штосьці такое, што прыдумана дзеля падману людзей і стварэння для іх ілюзіі. Такім чынам, як быццам бы гэтае цудоўнае мастацтва не было дастаткова моцным, каб у дзяржаве падтрымліваць парадак, згоду, а таксама поўнае паразуменне і гарманічныя адносіны, якія павінны існаваць паміж народам і ўладай.

Палібій вельмі асуджае Эфора за тое, што ён выказаў да музыкі вялікую непрыхільнасць. Прыводзячы шматлікія доказы, Палібій аспрэчвае яго меркаванне і на прыкладзе аркадыйцаў паказвае, наколькі глыбока той памыляўся. У дадатак ён прыводзіць прыклад кінефянаў, кажучы, што менавіта ім, больш чым каму, была патрэбна гэтая дапамога, бо паветра, якім яны дыхалі, землі, якія яны займалі, былі найгоршымі ва ўсёй Аркадыі.

З-за таго, што яны зусім не звярталі ўвагі на гэтае мастацтва, ад непаразуменняў і спрэчак неўзабаве яны перайшлі да такой вялікай жорсткасці, што ва ўсёй Грэцыі не знойдзецца краю, дзе б адбываліся настолькі вялікія і працяглыя беспарадкі. Урэшце, пасля ўчыненых імі крывавых боек яны сталі такімі адыёзнымі для ўсіх іншых жыхароў Аркадыі, што калі іх пасланнікі накіроўваліся ў Спарту, ва ўсіх гарадах, якія яны праходзілі, вяшчальнікі адразу ж казалі ім пакінуць іх. Нешта яшчэ большае адбылося ў Мантынэі. Як толькі кінефяне пад прымусам выйшлі з горада, яго жыхары здзейснілі ачышчэнне і, прыносячы ахвяры, прайшлі з працэсіяй вакол муроў і па наваколлі; адзінай жа падставай такога ганебнага прыёму і такіх рэлігійных абрадаў з'яўляецца тое, што кінефяне адмовіліся ад музыкі і выгналі з краіны музыкантаў.

Смешным дзівацтвам сёння магла б выдацца прыхільнасць аркадыйцаў да музыкі, а лепш сказаць, амаль усіх грэкаў (спартанцы былі ў ёй не менш упартымі). Таму няма чаго дзівіцца, што гэтае мастацтва было ўзнята на такую высокую ступень дасканаласці. А ўсё з-за таго, што яго прывівалі з самага ранняга ўзросту і вывучалі на працягу вельмі доўгага часу. Да людзей, якія дасягнулі ў ім найвышэйшых поспехаў, ва ўсёй Грэцыі ставіліся так, як у Аркадыі. Для многіх было сорамам не разбірацца ў ім, любыя іншыя заслугі лічыліся пры гэтым за нішто. Гэта можна аднесці і да Сакрата, якому нічога не бракавала для таго, каб быць дасканалым, як толькі вывучаць музыку і іграць на інструментах на схіле сваіх дзён.

## Каментарыі

**«Назіранні над музыкай».** Урывак з раздзела «Захапленне музыкай грэкаў і рымлянаў. Уздзеянне, якое яны прыпісвалі гэтаму мастацтву».

Пераклад з французскай мовы М. Гракава. Друкуецца паводле кн.: Немагай Святлена. Жыццё і творчасць М. К. Агінскага ў каардынатах яго часу і культурнага асяроддзя. — Мінск, 2007. — С. 387—389.

[1] Палібій (каля 201 г. — каля 120 г. да н. э.) — старажытнагрэчаскі гісторык. Аўтар «Усеагульнай гісторыі».

[2] Пастаральная (*заўвага аўтара*).

## ЯН АНОШКА
## (каля 1775 — не пазней 1827)



Ян Аношка — адно з самых загадкавых імён у гісторыі беларускай літаратуры. Біяграфічныя звесткі пра яго вельмі скупыя і супярэчлівыя. Вядома толькі, што нарадзіўся ён недзе каля 1775 г. у Быхаўскім павеце Магілёўскай губерні. Польскія бібліёграфы адзначаюць, што сваю вучобу пачаў ён у Магілёве ў езуітаў. Гэта вельмі верагодна: у той час школы ў асноўным былі ў руках святароў розных канфесій. Звесткі пра тое, што Ян Аношка быццам бы поўнасцю прысвяціў сваё жыццё тэалогіі (вывучаў яе, як пішуць, у Полацкай езуіцкай акадэміі, займеў духоўнае званне ксяндза, стаў прафесарам тэалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, рэктарам Варшаўскай духоўнай семінарыі), выклікалі сумненне складальнікаў польскай бібліяграфіі. Яны прыйшлі да высновы, што былі два Яны Аношкі: адзін — польскі ксёндз, другі — «беларускі пясняр», у творах якога, дарэчы, не відаць асаблівай рэлігійнасці.

Упершыню пра паэта Яна Аношку расказала ў прадмове да яго кнігі «Паэзія» паэтэса з Дзісны Тэкля Урублеўская: «Жывучы некалькі гадоў у раёне Беларускай губерні, я часта чула вершы Яна Аношкі, якога ніколі не давялося мне бачыць, але толькі летась я даведалася, што яго ўжо няма сярод жывых». Паколькі кніга Яна Аношкі выйшла ў Полацку ў 1828 г., то можна сказаць, што памёр паэт не пазней 1827 г.

Далей Тэкля Урублеўская расказала, што «яго высокасць Мікалай Хрэбніцкі, былы маршалак Лепеля і ордэнскі кавалер, добры знаўца літаратуры, імкнучыся зберагчы кожнае зерне народнай творчасці, угаварыў мяне сабраць вершы беларускага паэта і выдаць іх... Я адразу ж узялася за працу: тутэйшыя людзі хутка адгукнуліся на маю просьбу і пачалі прысылаць мне вершы Яна Аношкі, хто іх меў у сябе...».

У выдадзеную такім чынам кнігу ўвайшла толькі малая частка твораў паэта. У руках Т. Урублеўскай заставаўся яшчэ вялікі сшытак, на сарака аркушах якога былі перапісаны «розныя казкі, байкі, вершаваныя пісьмы і г. д.». Цікава, што другі выдавец Аношкавых твораў Павел Мэдэкша нават не ведаў пра першае выданне кнігі паэта. Ён самастойна, недзе праз 14 гадоў, сабраў сярод людзей 37 яшчэ не апублікаваных твораў Яна Аношкі і змясціў іх у кнізе «Вянок з папараці», што выйшла ў 1842 г. у Вільні. Усё гэта яскрава сведчыць пра даволі шырокую папулярнасць у народзе твораў паэта, якая, як заўважыў у сваім артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі» Рамуальд Падбярэскі, тлумачылася тым, што Ян Аношка «быў найбліжэй да народнага духу».

На Аношкавы вершы звярнулі ўвагу і ў расійскай сталіцы. У 1866 г. «Иллюстрированная газета» змясціла артыкул рускага бібліёграфа Р. Генадзі, які пісаў, што «першы народны паэт Беларусі» Ян Аношка памёр «у маладых гадах», што гэта быў «бедны жабрак, які ўсё жыццё

правёў у вандраваннях ад вёскі да вёскі», што ён «не ведаў ні дома, ні родных», «марнеў у карчме і ніхто не пашкадаваў пра яго смерць, ніхто не паведаміў пра яе. Толькі здабыткі яго рэдкага таленту засталіся да гэтага часу ў памяці народа, які не ведае, каму ім абавязаны...».

Вершы Яна Аношкі — антыпрыгонніцкія па сваёй сутнасці. Пыхлівасці палацаў ён супрацьпастаўляе сумленную беднасць сялянскай хаціны. У многіх, асабліва сатырычных творах, паэт ганьбіць сквапнасць і жорсткасць паноў, іх неапраўданую пагарду да мужыка-хлебароба. У Аношкавых вершах можна знайсці праявы сентыменталізму. Ён праслаўляе простае сялянскае жыццё на ўлонні прыроды, выступае супраць асобных яго заганаў, высмейвае п'янства.

Аднак найбольш вострыя, найбольш смелыя вершы Яна Аношкі, вядома ж, да нас не змаглі дайсці, бо не былі апублікаваны з цэнзурных меркаванняў. Пра гэта намякае Тэкля Урублеўская, прызнаючыся ў згаданай вышэй прадмове, што яна вымушана была асобныя з Аношкавых вершаў папраўляць, асабліва тады, «калі пяро паэта, разышоўшыся, пераходзіла ўсе межы». Вядома, не маглі ўвайсці ў кнігу і беларускія творы Яна Аношкі: яны ж былі напісаны не на «літаратурнай» мове. А тое, што вершы на беларускай мове меліся ў «беларускага песняра», які блізка да сэрца прымаў долю запрыгоненага селяніна-беларуса і які быў «адкрыты» для ўсіх, можна не сумнявацца. Таму трэба цалкам пагадзіцца з прафесарам М. Р. Ларчанкам, які, прааналізаваўшы творы паэта, пісаў у газеце «Літаратура і мастацтва» (17 ліп. 1954 г.): «На нашу думку, тая акалічнасць, што творы Аношкі выдадзены на польскай мове, не можа перашкодзіць паэту заняць сваё пэўнае месца ў гісторыі новай беларускай літаратуры таго часу, калі яна толькі пачынала гістарычны шлях свайго развіцця».

*К. Цвірка*

## МУЗА З ВЯСКОВАЕ ДАЛІ

Спяваю ў сваім я паходзе
Пра пушчы, пра горы, пра воды.
Жыццё там з зярняці ўзыходзіць
Праз моц цудадзейнай прыроды.
Я слаўлю і цноту, і працу
Не дзеля салонных прызнаняў.
З душой вашай шчырай спаткацца
Мне дорага-люба, сяляне!
Шатром мне даверлівасць ваша,
Адкрытасць мне вашая — крыллі,
Тут вольнае думкі бясстрашша,
Ні боязі, ні бяссілля.
Хто хоча, хай славіць палацы,
Там хцівых зявайлаў капэлі.
Душа мая ім не прыдасца,
І вочы ў той бок не глядзелі б!
Бо там, дзе зацятасць шануе,
Прыдушаны голас праўдзівы, —

Хіба хто аб праўдзе пачуе
Ў падлізнікаў ніцых, звяглівых?!
Хлусню ненавіджу і здраду,
Не мне славасловіць палацы!
Пазнаў я пра ўсе іх завады.
Грунт свету — то цнота і праца.
Вы, хата маленькая гэта —
Найлепшы прытулак спакою.
Вы ёсць тая самая мэта,
Жыву я, пяю для якое.
Уяўная гэта прыгожасць —
Шык, бляск зіхатлівы палацаў.
Яны мяне не заварожаць
З кадзілам пад імі туляцца.
Хоць крэсла пад кімсь залатое,
На ім часам хто і ўсміхнецца, —
Не ведае дух там спакою,
Цяжар неадхільны на сэрцы.
Сапраўднай няма асалоды
Ў таго, хто кляйміць чалавека,
Душою ён чорны заўсёды,
А здохне — патрапіць у пекла.
О, як жа сардэчна я зычу
Не мець найдрабнейшай заганы,
Хто сам іх міжволі дзядзічыў
Нямала ад зграі паганай!
Пазнаў я, што лёс чалавека,
Пакуль не ўкладзе на пагосце,
Вядзе праз пакуты і здзекі
Пад сцягам бязглуздае злосці.

## У РОСПАЧЫ

Навошта патрэбна жыццё мне?
Нічога да свету не горне.
Адкіну ліслівыя зброднi,
Даволі быць цацкай пакорнай.
Багацце зямное нікчэмна,
Яго і не ўхопіш ніколі
Не ведаю хвілі прыемнай,
Гняце безупынна нядоля.
Пагарда мной круціць, як схоча.
Не маю ні цноты, ні клёку.
І шчасця не бачылі вочы,
Яно дзесь далёка ў аблоках.

У працы ўся моц і аснова,
Цана ж ёй занадта малая.
Сардэчны народ наш вясковы
Праз сціпласці і долі не мае.
А быў бы я іншай натуры,
Без розных навук за плячыма,
Са здзірцы самога зняў скуру, —
Уцеху пазнаў бы, магчыма.
Мне сумна і горка сягоння...
Жыць?.. Страшна чакання самога.
Бяздольныя век у прыгоне...
Любіць іх?.. Хто любіць нябогу?!

## ПЛАЧ ПАКІНУТАГА КАХАНАЙ

Яко ценцярук у лесе балбоча,
Так мое сэрца — да цябе сакоча!
Ні верашчака, кілбаса, салянка —
Ніц мі не міла без цябе, каханка!
Рве се мэ сэрцэ — як тая атоса,
Кеды торгаё пшэклентэ калёса!..
Рве се мэ сэрцэ — як гуж у хамуце!..
Калі пшэядэ і сядэ на куце.
Ды ўжо ж насохся! Як лапаць на печы!
Горкая доля!.. А кту ж ме полечы?!

## МАЛАДЫ ЗАЛЁТНІК

Хтось аб жонцы марыць ладнай,
Хтось шукае навучонай.
Той — цнатлівай і узорнай,
Той — да працы далікатнай,
Я ж за гэтым не ганюся —
На пасагу ажанюся!
Прыгажосць — наймільша кветка —
Думкі хмеліць песняй мая.
Ды калі зірнуць цвяроза
Для дзяцей забаўка тая.
Ці ж ты кветкай наясіся?
На пасагу лепш жаніся!
Розум мала нас цікавіць,
Калі ў брудзе паўзём, нэндзы.
З золатам і розум ззяе,
А без грошай ён марнее.
Голы прыкра валачуся...

На пасагу ажанюся!
Вернасць жонкі — гэта казка.
Ева нам дала навуку!
І, хоць вочы глядзяць ласкай,
Змей у кожнай мае службу.
Я ж спакус не сцерагуся —
На пасагу ажанюся!
Працы жонка не зазнае,
Бо на тое служку мае.
Ў дарагім сваім убранні
Можа цешыцца ад рання.
Я ж за ўборам не хвалюся —
На пасагу ажанюся!
О багацце! — душа свету!
Мерыш ўсё сваёй цаною.
Слодыччу было спрадвеку —
Не спазналася з бядою.
За шляхецтвам не ганюся —
На пасагу ажанюся!
Я насіць згаджуся рогі,
Абы толькі залатыя.
Я пачвару вазьму ў жонкі
Абы грошы мне ляпіла.
З імі ў свеце я ўзнясуся...
На пасагу ажанюся!!!

## Каментарыі

**Вершы «Муза з вясковае далі», «У роспачы»** ў перакладзе з польскай мовы Ул. Дубоўкі друкуюцца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: хрэстаматыя / склад. А. А. Лойка, В. П. Рагойша. — Мінск, 1988. — С. 451—454. Пераклады зроблены паводле кн.: Onoshko Jan. Poezje... — Połock, 1828. — S. 7—16.

**«Плач пакінутага каханай».** Гэты беларускі верш, у якім нямала паланізмаў, Я. Аношку прыпісвае Р. Зямкевіч (Р. Зямкевіч Гутаркі аб беларускай літаратуры // Новае жыццё. — 1923. — № 1), што вельмі верагодна. Праўда, сярод літаратуразнаўцаў ёсць іншыя меркаванні наконт аўтарства верша. Упершыню яго апублікаваў сярод іншых макаранічных вершаў А. Рыпінскі ў сваёй кнізе «Беларусь» (Rypinski A. Bielorus... — Paryż, 1840. — S. 202—203).

**«Малады залётнік».** Пераклад з польскай мовы І. Яцук. Друкуецца паводле выд.: Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: навук. зб. — Мінск, 2005. — Вып. 6.

## ЯН ХОДЗЬКА
## (1777—1851)



Пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч Ян Ходзька (Барэйка) нарадзіўся ў г. п. Крывічы Мядзельскага раёна. З 1793 г. быў цывільна-вайсковым камісарам Ашмянскага павета, з 1795 — асэсарам суда ў Паставах, і 1798 — падсудкам, з 1808 — падкаморым Вілейскага павета, з 1811 г. — старшынёй Галоўнага цывільнага суда ў Мінску, інспектарам школ у Віленскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях. Адзін з арганізатараў масонскіх ложаў у Мінску і Вільні. Прытрымліваўся памяркоўна-асветніцкіх поглядаў. Прыхільнік асветы для народа. За сувязь з таварыствам філаматаў у 1826 г. быў зняволены. За ўдзел у паўстанні 1830—1831 гг. сасланы на Урал (1830—1834 гг.). Пісаў на польскай мове. Друкаваўся ў часопісе «Віленскі дзённік», альманаху «Рубон» і інш. Класіцыст, потым псеўдакласіцыст-маралізатар. Аўтар камедыі «Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана» (1812), трагедыі «Кракус» (1816), аповесцей «Пан Ян са Свіслачы» (1821), «Брат і сястра» (1845), трактата «Аб эксдывізіях, або Аб судовым падзеле маёнтка даўжніка на карысць крэдытораў» (1816), успамінаў і артыкулаў па гісторыі Міншчыны, адметных жывасцю апавядання і значнай колькасцю беларусізмаў. П'есы Ходзькі ставіліся ў Мінску на аматарскай сцэне ў 1812 г.

Камедыя «Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана» была напісана Янам Ходзькам у Мінску летам 1812 г. і пастаўлена тады ж у гонар Напалеона. У выкананні яе бралі ўдзел сам аўтар, князь Радзівіл, Манюшка і іншыя. Гэты твор — яскравае гістарычнае сведчанне таго часу, калі насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага раздзялілася на тых, хто чакаў прыходу Напалеона, звязваючы з ім надзеі на вяртанне незалежнасці сваёй дзяржавы, і на тых, хто ўжо не жадаў ніякіх перамен, прыстасаваўся да новай улады і законаў, служыў Расіі.

Аўтар высмейваў прыстасаванства, прадажнасць, хцівасць апошніх. Тады ён не мог ведаць, як закончыцца вайна, аднак у вусны Грамадзяніна, які вітае польскае войска, ён укладвае палымяныя словы пра шчаслівы будучы лёс вольнай Радзімы. Цікава, што гэты грамадзянін Вялікага Княства Літоўскага адчуваў сябе палякам, а пра княства ў п'есе нагадвае толькі выява «Пагоні» ў дэкарацыях.

Вайна 1812 года прынесла нашаму краю страшэнныя страты і разбурэнні. Шляхта пайшла на службу да Напалеона і ператварылася ў выбівальнікаў нядоімак і экзекутараў. Сяляне, якія таксама чакалі французаў з надзеяй на вызваленне ад прыгонніцтва, вымушаны былі хавацца і ад сваіх уладароў, і ад прыхадняў-французаў.

Венскі кангрэс у 1815 г. аднавіў польскую дзяржаву, а былое Вялікае Княства Літоўскае канчаткова ўвайшло ў склад Расіі.

Камедыя Яна Ходзькі яшчэ раз яскрава нагадвае нам пра тое, што народ, жывучы будзённымі турботамі, часам згаджаецца на кампрамісы дзеля пэўных выгод, аднак ёсць асаблівыя жыццёвыя пытанні, у вырашэнні якіх людзі павінны кіравацца голасам сумлення, адхіляючы ўсе іншыя меркаванні.

*З. Дудзюк, У. Мархель*

## ВЫЗВАЛЕНАЯ ЛІТВА, АБО ПЕРАХОД НЁМАНА

Камедыя ў адну дзею
(скарочана)

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Пан Пачціўскі, грамадзянін літоўскі.
Казімір, яго сын, палкоўнік польскага палка.
Пан Таргавіцкі.
Канстанцыя, яго дачка.
Даротка, яе кампаньёнка.
Пан Ступайла, афіцэр расійскага войска.
Войска польскае, грамадзяне літоўскія, жанчыны, дзеці, расійскія салдаты.

Дзея адбываецца ў адным з дэпартаменцкіх гарадоў Літвы.

### СЦЭНА ПЕРШАЯ

Таргавіцкі і Пачціўскі.

Таргавіцкі.

Дарэмна, васпане, байкамі дурыш свой розум,
Адкінь лепш пустое, наўкол глянь цвяроза.
Як вестку пра вайну аднекуль атрымаеш,
Дык на яе надзею даўнюю ўскладаеш.
Ужо даўно грукочуць войны дзесь за светам,
А тутака — без зменаў зімою і летам,
Адно, што завяліся новыя парадкі —
Больш рэкрутаў бяруць. Усё растуць падаткі...
Я адразу скеміў, як ратавацца:
Да саюзу Таргавіцы[1] трэба далучацца.
Праўда ў тым хаўрусе натрываўся страху,
Ледзьве не пайшоў я з іншымі на плаху,
Ды праз рызыкоўнасць шмат чаго дабіўся:
Крыж займеў на грудзі, зямлёю ўзбагаціўся.
Гэта за адданасць, стараннасць і згоду
Даў манарх мне шчодры ва ўзнагароду.
А васпан жа наадварот — з-за сваёй маралі
Нават тое страціў, што дзяды прыдбалі.

Меў свае фальваркі, поспех, шмат пашаны,
Дык нашто паддаўся веянням заганным?
Захацеў з сябрамі французскае свабоды?
Ды спыніла ўлада вас і вашы сходы.
Секвестравала ў неслухаў маёмасць,
Абудзіўшы гэтым шмат каму свядомасць.
Зрэшты, можна й сёння тым ды сім разжыцца,
Як не ленавацца, а трохі круціцца.
І табе ж пасаду давалі ўжо ў павеце,
Добры хабар мог бы там заўсёды меці.
Ды не ўзяў ты — верны гэтак тым ідэям?
Праз іх мо і стаў ты гэткім багацеем?
Не ў ідэях шчасце, [redacted] ў жыцці харошым,
Хіба гэта важна, скуль бяруцца грошы?
Мне заўжды шанцуе з аднае прычыны:
Дзе жывецца добра, там мая Айчына.
Розумам кіруйся! Іншы шлях няплодны...

Пачціўскі.

Толькі ведай — гэтым многія не нязгодны...
Страціў я маёнтак свой не ў гульнях нікчэмных
І са здрайцамі не меў змоваў патаемных.
А калі Айчына-Маці клікнула падданых
За святую вольнасць нашу ваяваць аддана
Я пайшоў, бо ў гэтым бачу прызначэнне,
Ды за грэх улада лічыць гэткае памкненне.
Пад прыгнётам цяжкім, што нас сёння душыць,
Ці ж зламацца могуць шляхетныя душы?..

Таргавіцкі.

Я васпана зразумеў, на мяне ківаеш?
Сам ты голы, як бізун. Чым жа папракаеш?
Я караў бы моладзь сам, што пабегла цугам
На распусту і няславу ў войска да французаў.
Як вядома, сын васпана збег туды з-пад Коўна,
Ды далёка не ўцячэ ад бяды ўсё роўна.
Розум так яму яшчэ праясняць, прымірацць,
Як прымусяць сабалёў пасвіць у Сібіры.
Што ж датычыцца мяне, дык ці смех, ці кара,
Лепш, лічу, маёнтак мець, чым пустую мару.
Я з твайго ўладання атрымаў надзелы.
Мо пара адкінуць марныя надзеі?
Колькі ты ўжо страціў? Дзе ж узнагароды?
Ні хлеба на старасць, ні табе свабоды.

Пачціўскі.

Пра набытак толькі дбаць — як гэта магчыма?
І пры гэтым пагарджаць родиаю Айчынай!
Не пакутаваць ніколькі ад згрызотных думак
На крыві сваіх братоў складваць грошы ў клунак.
Нас тыран абрабаваў! Дык чаму ж ты рады?
Што ў яго нажабраваў зямлю і пасады?
Іншым прынцыпам служыць будуць нашы дзеці!
З Захаду прыязна, глянь, зорка ўсім нам свеціць.
Любіць Бог Напалеона і прыўзносяць людзі,
Бо ва ўсіх надзею зноў ён у сэрцы будзіць.
Першым быць на гэтым свеце ён адзін абраны,
Свету вольнасць ён нясе, карае тыранаў.
Шмат скарыў ужо дзяржаў і далей сягае,
Узнялася годна Польшча і яго вітае.

Таргавіцкі.

Ад гаворак пустамелі проста вянуць вушы,
Бо вядома: абяцанкі — як на вярбе грушы.
Раю ціхенька сядзець і не вытыркацца.
Хто з Расіяй роўны сілай, здатны з ёй змагацца?..
У французаў — Нёман? Што нам рэчка тая?
Кажуць, войска ўсёй Расіі покуль адступае,
Ды спахопіцца яно і ў Азіі стане,
Вось тады... Тады ўжо мы пабачым, пане,
Дзе ў Еўропе збаўца дзенецца геройства,
І нашто ў Расію ён прыводзіў войска.

Пачціўскі.

Волата такога свет мо яшчэ не бачыў,
Ён усю Еўропу сёння перайначыў.
Ці ж паставіш побач з ім на адны шалі
Тых, каго высока лёс узнёс на хвалі?
Над людзьмі ён мае сёння бязмежную ўладу
І за што б ні ўзяўся, даводзіць да ладу.
Ведае наперад ён канаванне долі,
Робіць толькі тое, што другі б не здолеў.
Што задумаў, здзейсніць. Мае слова сілу —
Зброяй утаймуе ўрэшце ён Расію,
Каб Літва магла зноў з Польшчай аб'яднацца...

Таргавіцкі.

У мяне ж сумненне, што так можа стацца,
Што, скажы, мы знаем аб расійскай сіле?
Шмат зямель яны да сваёй далучылі!

І дачку спакойна — хай ёй будзе люба —
З русаком Ступайлам аддаю да шлюбу.
Хлопец ён што трэба, добрыя манеры!
Служыць ён у войску, у званні афіцэра.
Дзядзька завітаў яго — багацей, гавораць.
Обер-сакратар ён ужо год каторы.
Пры пасадзе гэтай золата — ракою,
Паспявай ты толькі заграбаць рукою.

Пачціўскі.

Чым завершыцца вайна, знаць ніхто не можа,
І бывае, што жаніх уцякае з ложа.
А багатай, як Кастуся, ды гожай паненцы
Можна б выбраць жаніха, каб ён быў да сэрца.
Пажадаць магу: няхай Кастусін абраннік
Годна славу нажыве ў праведным змаганні.

Таргавіцкі.

Досыць! Досыць балбатаць! Трэба ведаць меру!
Раіш мне за зяця ўзяць польскага жаўнера?
Бач, як хітра павярнуў! Як ліса, нявінны!
Мусіць, хочаш нам свайго ты пасватаць сына?
Папярэджваю: язык дарэмна мазоліш,
Бо твой сын, бы ты ўбогі, як бізун той, голы.
І, напэўна, трэба мне мець розум дзіцяці,
Каб выгнанца-галяка ўзяць сабе за зяця.
А ці чуў, што пішацца ў імянным указе?..

Пачціўскі.

Гэта ўжо занадта! Бясчэсце і абраза!
Ты не разумееш ні гонару, ні славы
Роднага народу і сваёй дзяржавы!
Волатава племя, князевы нашчадкі
Мы сабраць жадаем дзедаўскія спадкі,
Палымяным сэрцам і зброяй жалезнай
Для радзімы дарагой здабыць незалежнасць!
Несмяротны будзе той і заслужыць шчасце,
Хто з французамі пайшоў за волю змагацца.
Хто жыцця не шкадаваў з братамі па зброі,
Каб Еўропу на лад новы слаўна перакроіць.
Толькі новы Геркулес узяўся за справу,
З ім і польскія палкі заслужылі славу...

Ім адна патрэбна слава — вольная Айчына,
А тым часам нехта марыць узвышацца чынам.
Хутка вернуцца яны светлаю часінай —

Ганаруся нездарма я мужнасцю сына.
Вы зірніце, як над Эбам, не, не дзеля славы,
Мужна нашы ваяры бой вядуць крывавы.
Над скалою непрыступнай, безданню глыбокай —
Скрозь блішчаць мячы і ўецца іх штандар высока.
Хто яшчэ змагаўся мужна так, аддана,
Заслужыў народ які большае пашаны!
І каго правамі больш збаўца ўдастоіў?

Таргавіцкі.

А хто болей, чым васпан, балбатаў пустое?
Надакучыў надта мне! Каб тут не запелі пеўні,
Дык пад тое словаблудства я заснуў бы, пэўне.
Апантаны ўсе палякі дурною надзеяй...

## СЦЭНА ДРУГАЯ

Тыя і Ступайла.

Таргавіцкі (*да Ступайлы*).

Прывітанне, ваша светласць! Мой ты дабрадзею!
Ці ў гуморы? Як спачыў ты? Ці, васпан, здаровы?

Ступайла.

Верна паслужыць цару я заўжды гатовы.
Але быць у гэтым краі — мне нібы няміласць,
Апусцеў більярд, карчма... Сумна і панылa.
Каб цяпер у Пецярбург... Божа, як згадаю —
Штохвіліны мецьмагу, што ні пажадаю.
Абы грошы ў каліце, свісні — і аддана
Пасняшаюць слугаваць дарагому пану.
А карэты! Коней лёт, пугай разагрэтых!
А якія цемлякі, шпоры, эпалеты!
Хто жадае слугаваць з нас сваёй Айчыне,
Той маёмасць атрымае і будзе пры чыне.

Таргавіцкі.

Мо нявесела цяпер і ў самой сталіцы,
Бо і войска, і манарх сёння — на граніцы.

Ступайла.

Што ў нас быў бы за парадак, памяркуйце толькі,
Каб не мелі да вайны добрай падрыхтоўкі...

Пачціўскі.

Бараніць край трэба сэрцам і добраю воляй.

Ступайла.

Паспяшалі бараніць, каб схапіць паболей.
Як яго не бараніць? Ці васпан шалёны?
Хіба ж можна прапусціць паход гэткі плённы?..
Бо з Сената рассылаюць па краю паперы,
А адсюль плывуць рублі і срэбра без меры...
Дзядзька мой мяне аддаў і не стаў спрачацца —
Атрымае душ пяцьсот гадоў на дванаццаць...

Таргавіцкі.

Дарагі мой, ты прынёс добрыя навіны
Што ж раней не сказаў і з якое прычыны?
У якой губерні хоць? Дзе дар гэты шыкоўны?

Ступайла.

У тутэйшай, мне здаецца, вось павет бы ўспомніць...

Таргавіцкі.

Землякамі будзем! Шчасце — няма слова!
За цябе аддаць дачку, пане, я гатовы.

Ступайла.

Таго толькі прагну.

Таргавіцкі.

Такім чынам — згода! (*Ціха, убок.*)
Ну й пашанцавала! Гэткая выгода!
Хлопец ён, што трэба, варта мне ўхапіцца
Ды праз будучага зяця трохі ўзбагаціцца. (*Далей — уголас.*)
Ты, васпане Пачціўскі, маеш розум ладны,
Дык складзі кантракт мне шлюбны неадкладна,
Не забудзь адзначыць: зяць дачку кахае.

Пачціўскі.

Бач куды ён невад свой хціва закідае.
Задаволіць я б хацеў вашыя памкненні,
Ды на шлюб патрэбна мець цара дазваленне.

Таргавіцкі.

Далібог, што праўда (*да Ступайлы*).
Важная прычына.

Ступайла.

Толькі б дала згоду любая дзяўчына,
Зладзім шлюб таемна, не асудзяць людзі,
А тым часам дзядзька нам патэнт здабудзе.

**Таргавіцкі** (*да Пачціўскага*).

Ну, дык што, васпане, можа план удасца?

**Пачціўскі.**

Махлюйце ўжо самі. Я вам не дарадца. (*Выходзіць.*)

**Таргавіцкі.**

Адвярнуў нос ягамосць, упрочкі падаўся.
Сын ягоны да Кастусі колісь заляцаўся.
Тры гады таму, як з'ехаў у войска наймітам,
Перакройвае Еўропу за мяжой нібыта...

## СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

**Ступайла** (*адзін*).

Цуд! І як старога ўраз прывабілі грошы!
Сам часова пажыву на яго раскошы.
Адсмакую, адсвяткую, ласкамі нап'юся,
Пры нагодзе да Расіі з абозам памкнуся.
Без шкадобы і тугі паеду шчасліва —
Дастаткова дзевак скрозь, маладых, цнатлівых.
Што яе пакіну — ніхто не асудзіць,
Шлюб наш незаконны з той прычыны будзе,
Што ён без патэнту. І сябе здаволю...

## СЦЭНА ЧАЦВЁРТАЯ

Канстанцыя, Даротка, Ступайла.

**Канстанцыя.**

Бавіць мушу пана з бацькавае волі.

**Ступайла.**

Мілая Кастуся, я шчаслівы дужа —
Бацька ваш жадае паскорыць замужжа.
Да такога кроку я даўно гатовы...

**Канстанцыя.**

Няхай пана не абразяць гэтакія словы:
На жыццё шлюб звяжа. Як зладзім наскора,
Не набрацца б нам пасля ў тым шлюбе гора.
Хто жадае ажаніцца праз два-тры спатканні,
Не каханне стрэне той, а расчараванне.
А наогул пану я намякаю тонка:
І праз год не захачу быць тваёю жонкай.

Ступайла.

Як гэта магчыма? Ваш бацька спадзяецца...

Даротка.

Не ўцячэ, што наша, хоць і адкладзецца.
Прытрымай, васпане, свой імпэт на потым.
Рыцара чакаюць на вайне турботы...

Ступайла.

Загадай служанцы, лепш рот няхай затуліць,
Знакаміты быць магу без шаблі і кулі.
Не бязродны я пакуль, дзядзька — у Сенаце,
Дык не варта на вайне жыццё сваё траціць.
Для каханае паненкі сябе захаваю
І як-небудзь пры абозе вайну скаратаю.
Потым дзядзькавы дукаты пусцім па знаёмых —
І саветніка пасаду атрымаю ў момант...

Канстанцыя.

Пан каханню аддае занадта ахвяраў.
Ды дарма: не трэба мне ні славы, ні сану ж,
І скажу васпану шчыра: не хачу я замуж.
Полька я, інакшай мэтай сэрца апантана,
Вельмі розныя ў нас з панам цноты і заганы.
Бо прывідная заможнасць, велічнасць — аблуда,
Скарбы іншыя цяпер шануюцца людам.
Войска роднае бароніць край радзімы дзёрзка,
А не катуе зямлю здрадай, марадзёрствам.
Сёння льецца кроў палякаў, вы ў тым вінаваты.
Як быць жонкай маскавіта? Жонкай акупанта?
Гнеў мяне апанаваў. Калі гора бачу
Зняволенага народа — сэрца маё плача.
Гэты боль мяне пячэ незагойнай ранай...
І няхай мая гарачнасць не здзіўляе пана.

Ступайла.

Невялікая паненка, а галосіць гучна,
Каб не шкадавала...

## СЦЭНА ПЯТАЯ

Тыя ж і маскоўскія салдаты.

Салдат.

Всё благополучно.
На пикете казаки стрельбу начинают.

Ступайла.

Как? Да что ты говоришь?

Салдат.

Ей-богу стреляют!

Ступайла.

З вашага дазволу, сам праверу справу. (*Выбягае.*)

Даротка.

Паспяшай, вялікі рыцар! Уперад! Па славу!

## СЦЭНА ШОСТАЯ

Канстанцыя (*адна*).

Літасцівы Божа! Час прыйшоў змагання,
Для жаўнераў нашых прагну я спрыяння. (*Чуваць стрэлы.*)
Недзе чутны стрэлы, гэта народ-волат
Вызваленне нам нясе ад ганьбы, няволі.
Справядлівы Божа, дай жа людзям міру,
Будзь ласкавы, уратуй майго Казіміра.
Смеласць, Госпадзі, даруй слабой мне, дзяўчыне,
За каханага малюся, як і за Айчыну.
Блаславі на вольнасць люд пакутны і любы
І абранніка майго захавай ад згубы.

## СЦЭНА СЁМАЯ

Кастуся. Даротка.

Даротка.

Ах, мая паненка, маскаль прэ наўцёкі,
Бачны нашыя сцягі на гары здалёку.
Горад панікуе, хто куды ўцякае,
Той крадзе чужое, той сваё хавае.

Канстанцыя.

Божа, дзе мой бацька? Што цяпер з ім стане?

Даротка.

Коней запрагае. Не ў карэту — у сані.
Нібы ачмурэлы, не помніць, што робіць,
Можа, хто са слуг васпану пасобіць.

## СЦЭНА ВОСЬМАЯ

Тыя ж і Таргавіцкі.

Таргавіцкі.

Ах, дачка! Хутчэй збірайся! Вось Божая кара!
Лепей бы я дачакаўся шалёных татараў.
Я ўжо еду! Ну, жвавей! Трэба ратавацца!

Канстанцыя.

Гэта ж нашыя браты. Ад каго хавацца?
Ці ж з радзімае старонкі хто куды ўцякае?

Таргавіцкі.

Вось вар'ятка! Ты падумай, што нас тут чакае?
Зараз жа збірайся! Часу — ні імгнення.

## СЦЭНА ДЗЯВЯТАЯ

Даротка. Канстанцыя.

Даротка.

Гэта ўжо не жарты. Дзіўнае здарэнне.
І куды са страху ў свет пан папрастуе,
Калі дом уласны нас не паратуе.

Канстанцыя.

Літасцівы Божа, праясні свядомасць
Бацькі дарагога любасцю да дома.
Маскалі ўцякаюць — туды ім дарога,
Няхай выйдуць з сэрца бацькі дарагога.

## СЦЭНА ДЗЯСЯТАЯ

Тыя самыя і Таргавіцкі. (*Нясе вялізны куфар, відаць, што моцна ўсхваляваны і заклапочаны.*)

Таргавіцкі.

Ці, мая паненка, ехаць ты гатова?

Канстанцыя.

Але, тата любы, толькі адно слова...

Таргавіцкі.

Ні слова, ні гуку! За мной паспяшайся!

## СЦЭНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

Тыя ж і Ступайла (*з двума салдатамі*).

Ступайла.

Куды гэта спешна пан накіраваўся?

Таргавіцкі.

Ах, васпан Ступайла, дрэнныя навіны!
Ці спаліць паспелі з харчам магазіны?
Я паеду з вамі...

Ступайла.

Вой, васпану цяжка. (*Да салдатаў.*)
Кіньце куфар гэты ў маю каламажку.

(*Салдаты бяруць куфар у Таргавіцкага і выходзяць.*)

Таргавіцкі.

Мной устурбаваны, як сваім абозам.
Дык хутчэй паедзем...

Ступайла.

Ні каня, ні воза.
І няма чым ехаць, цесна і без цесця.
Кулю ў лоб заробіш — не рухайся з месца.
(*Паспешна выходзіць.*)

## СЦЭНА ДВАНАЦЦАТАЯ

Тыя ж, акрамя Ступайлы і салдатаў.

Таргавіцкі.

Зяць жартуе гэтак? Ах, шаленец лоўкі!
Моцна дзверы зачыніў, д'ябал, на засоўкі!
Выпусці мяне, праклята! Каб ты праваліўся!

Даротка (*якая дагэтуль глядзела ў акно*).

Добра пра сябе затое ён паклапаціўся:
І забраў сабе наш куфар, экіпаж і коней...

Таргавіцкі.

Што ты кажаш? Адчыніце! Кінуся ў пагоню!
Плакаў мой куфэрак! Плакалі дукаты!

Канстанцыя.

Не бядуй, мой татка, ты і так багаты.
Забудзьма былое, шануй сваю сталасць,

Радуйся — з нябыту Айчына паўстала.
Нам яна даруе нявер'е і здраду...

Таргавіцкі.

Пераменам гэтакім я зусім не рады.
І чорт ведае яшчэ, што з Айчынай стане...
А тым часам мае скарбы едуць у выгнанне.
(*Чуваць трубы.*)
А што гэта?

Канстанцыя.

Нашы трубы!

Таргавіцкі.

Вось і развітанне!
Кінуцца куды цяпер? Ні спрыту, ні веры...

Даротка (*ля акна*).

Ах, паненка, што за войска! Якія жаўнеры!

Таргавіцкі (*вельмі збянтэжаны*).

Што рабіць, Кастуся?

Канстанцыя.

Скінь гэта адзенне,
Што паляка ганьбіць.

Таргавіцкі (*Здымае капялюш і мундзір, зрывае крыж — расійскую ўзнагароду.*)

Чортава насенне!
Пашукай, Даротка, мне дзе сурдут мой даўнейшы!
Што мяне цяпер чакае? Божа найсвяцейшы...

Канстанцыя.

Час забыць трывогі, сэрца песняй цешыць.
Ведаю французаў. Будзь, прашу, спакойны.
Не вядуць з бяззбройным людам яны войны,
А тым больш не варта нам братоў баяцца,
Ці супроць аблудных зараз нам змагацца?
Забудуць, даруюць твой табе ўчынак,
Трэба аб'яднацца, бараніць Айчыну.

(*Даротка ўбягае з грукатам праз тыя дзверы, праз якія выйшаў Ступайла.*)

Таргавіцкі (*спалоханы грукатам*).

Літасцівы Божа! (*Пазнае Даротку.*)
Дзе цябе чорт водзіць?

Даротка.

Вось сурдут, васпане! Войска ўваходзіць
У свабодны горад. Скончылася мірам.
Я палкоўніка сустрэла, пана Казіміра.
Увайшоў ён першы на чале палякаў.
Не бянтэжся, панна! Счырванела макам.
Вунь і пан Пачціўскі вядзе сюды сына...

Таргавіцкі.

Трэба стрэць прыветна. Цяжкая часіна...

КАНЕЦ КАМЕДЫІ

## Каментарыі

**«Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана».** Пераклад з польскай мовы З. Дудзюк паводле выд.: Pan Jan ze Swisłoczy, kramarz wędrujący. Pisma... — Wilno, 1837—1842. — Т. 1—12.

[1] Таргавіца, Таргавіцкая канфедэрацыя — саюз магнатаў Рэчы Паспалітай супраць прагрэсіўных рэформаў чатырохгадовага сейма 1788—1792 гг., які выкарыстала Расійская Імперыя дзеля рэстаўрацыі там ранейшага дзяржаўнага ладу. Акт Таргавіцкай канфедэрацыі быў падпісаны ў Санкт-Пецярбургу 27 красавіка 1792 г. Абвешчаны ў мястэчку Таргавіца (Украіна) 14 мая таго ж года, праз тры дні пасля пачатку інтэрвенцыі Расіі ў Рэч Паспалітую.

# АНТОН МАРЦІНОЎСКІ
# (1781—1855)



Нарадзіўся ў мястэчку Радашковічы Маладзечанскага раёна. Скончыў Мінскую гімназію, Віленскі ўніверсітэт (1807). Адзін з арганізатараў і актыўных членаў Віленскага друкарскага таварыства, а таксама літаратурна-грамадскага таварыства шубраўцаў, якое аб'ядноўвала ўраджэнцаў і жыхароў Беларусі і Літвы і мела на мэце маральнае ўдасканаленне людзей праз дасціпнае высмейванне розных грамадскіх і асабістых заган. Члены таварыства выказваліся за прыватныя рэформы, грамадскую роўнасць людзей, выступалі супраць невуцтва, цемрашальства, забабонаў. Лічылі, што пашырэнне асветы можа ўплываць на паляпшэнне становішча прыгонных сялян.

У 1816—1822 гг. Антон Марціноўскі рэдагаваў друкаваны орган шубраўцаў сатырычны часопіс «Вулічныя навіны», што выходзіў на польскай мове, у 1817—1839 гг. — рэдактар-выдавец газеты «Літоўскі веснік», у 1819—1830 гг. — першага на Беларусі навукова-літаратурнага часопіса «Віленскі дзённік». У 1817 г. заснаваў у Вільні друкарню, дзе выдаў каля 400 назваў кніг па розных галінах ведаў, у тым ліку «Летапісец Літвы і Хроніку рускую» ў апрацоўцы І. Даніловіча (1827), «Гісторыю літоўскага народа» Т. Нарбута, творы І. Красіцкага, Ф. Князьніна, І. Легатовіча і інш. Аўтар прац па педагогіцы, антыпрыгонніцкай сатыры «Машына для біцця сялян» (пад псеўданімам Патэле, 1817 г.), дзе паказаў бяспраўнае становішча прыгонных сялян, мемуараў (захаваліся ў Р. Зямкевіча, але былі страчаны ў Другую сусветную вайну). Адзін са складальнікаў «Збору старажытных грамат гарадоў: Вільні. Коўна. Трокаў...» (Ч. 1—2. 1843 г.). Мяркуюць, што ў 1812 г. ён пісаў на беларускай мове адозвы для сялян супраць памешчыкаў.

*Г. Кісялёў, А. Мальдзіс*

## МАШЫНА ДЛЯ БІЦЦЯ СЯЛЯН

З дакладным апісаннем яе будовы і малюнкамі, якія тлумачаць гэтую будову. Чаму дукат паўсюль такі шляхетны? Бо добра б'юць іх на двары манетным. (Ягадзінскі[1].)

З нічым ніколі людзі так адзінадушна і з такой лёгкасцю не пагадзіліся, як з тым, што з нябітага селяніна нічога добрага быць не можа. Паходзячы наўпрост з грубай прыроды, селянін не даваў бы аніякае карысці грамадству, наадварот, стаўся б нязмерна шкодны, калі б дзейнічаў паводле свае волі і не ведаў, што

мае над сабою ў кожным месцы і любы момант пільную і грозную ўладу. Уласцівая яму ад нараджэння цвёрдасць і супраціў — выразныя сляды першаснае звярынае дзікасці — жудасныя б нанеслі ўдары цывілізацыі, калі б не стрымліваліся адпаведнымі патрэбе сродкамі і прыстасаваннямі. Нязначная частка грамадства з найшляхетнейшай уласцівасці чалавека, якою з'яўляецца розум, што працуе для дабра грамадства, падманутая знешнім выглядам, зрабіла далёкія высновы, далучаючы селяніна да ліку людзей такое самае прыроды. Схільнасць да літасці — гэтая прыгожая аздоба чалавечага сэрца — шмат разоў рабіла спробы палепшыць лёс сялян, але заўсёды з новым болем і засмучэннем зазнавала, што яе намаганні з няўдзячнасцю прымаліся імі, а іх дзікая зухаватасць змушала зноў вяртацца да абрыдлай і ненавіснай суровасці. Лагодныя намаўленні і разумныя пераканanні не ўздзейнічаюць на свядомасць селяніна. Біць яго трэба, каб адчуў; біць да паўсмерці, каб накіраваць на шлях, які кіруе яго воляй; біць безупынна, каб мець нешта карыснае; біць, біць, біць бясконца, каб памятаў пра сябе, пра жонку, пра дзяцей. Нават само біццё слаба ўздзейнічае на яго! Стукні сабаку і загадай ляжаць — ён ляжыць і ўдзячна лашчыцца; загадай яму брахаць, кусаць, пільнаваць — імгненна зробіць, што яму загадваюць, і зробіць паслухмяна, не траціць пры гэтым прыхільнасці да гаспадара. Конь, падагнаны пугаю, хутчэй бяжыць, лепш цягне; выцяты вол альбо іншая жывёла — больш спешна ідзе дадому, у стайню, у хлеў. А селянін, калі яго стукне войт, дзясятнік — гатовы стукнуць у адказ; калі наменік, эканом — будзе бурчаць, наракаць; набі яго за гультайства падчас працы — схопіцца нібы працаваць лепш і азіраецца, ці далёка ад яго паганяты, і як толькі той адыдзе крыху, што яго не бачыць, дык селянін лае яго, праклінае, курыць пачынае, і не толькі сам не працуе, але яшчэ і іншага альбо некалькі разам ад працы адцягне і будзе забаўляць. Набі яго за спазненне на паншчыну, за п'янства — пасля пакарання ідзе адразу ў карчму, а пра паншчыну і не дбае. Калі часта яго біць, дык можа нават сядзібу прадзедаў сваіх кінуць і пайсці ад пана, які даў яму зямлю і дапамагаў. Што яму давядзеш лагоднасцю і ўгаворамі, калі нават прывязанасць да бацькаўшчыны ў яго адсутнічае? Той, хто меў справу з сялянамі, хто жадаў зрабіць іх, каб былі больш карыснымі самі сабе, мусіў апрача зазнанае прыкрасці пераканацца ў страце дарагога часу, які патрэбны на іх біццё, які з непараўнальна большай карысцю можна было ўжыць дзеля спраў маёнтка; той, кажу я, напэўна, разам з намі належна ўшануе вынаходніка гэтае машыны і ахвотна прыкладзе намаганні, каб пашырыць такое карыснае вынаходніцтва. Пакуль уся справа стане яўнаю, сёння мы абвяшчаем субскрыпцыю[2], і, калі яна будзе дастатковаю, адразу ж пачнецца праца па майстраванні самое машыны. Але каб чытачам і аматарам сапраўднае карысці даць магчымасць зразумець прыроду адкрыцця, мы коратка апішам будову машыны і выгоды, якія з яе вынікаюць.

Будова машыны простая. У сярэдзіне круглага памоста ў форме дасканалага кола перпендыкулярна ўзвышаецца слуп. На слупе, на вышыні трох локцяў[3] ад памоста, знаходзіцца зубчатае кола, якое можа круціцца пры дапамозе шасцярні і ручкі чалавекам. Ад гэтага кола ідуць прамяні,

што разыходзяцца гарызантальна, на канцы якіх мацуецца другое кола, на якім вісяць бізуны. Велічыня акружнасці другога кола можа быць меншая або большая — як на патрэбу — залежыць ад колькасці сялян, гэта значыць, чым большае кола, тым больш можна змясціць на ім бізуноў. Кароткі напамін ці інфармацыя эканома — гэта найлепшая рада, бо яго вопыт дазваляе яму ведаць пра колькасць сялян, якіх караюць звычайна ў маёнтку альбо фальварку. Бізуны таксама рухомыя, але толькі ўгару і ўніз. На паверхні памоста дзеля таго, каб пакласці сялян, маюцца адмысловыя месцы з трайнымі жалезнымі клямрамі. Клямры зачыняюцца на прабой і, каб не адчыняліся, да іх дадаюцца затычкі. Клямры ля слупа трымаюць галаву селяніна, сярэднія накладаюцца на пояс, а самыя далёкія ад слупа ахопліваюць ногі ляжачага. Так прымацаваны селянін нерухома і бяспечна праляжыць да таго часу, пакуль яму не будзе адлічана прызначанае пакаранне. Як толькі пакруціш ручку, бізуны з надзвычайнай хуткасцю будуць падымацца і з імпэтам ляцець уніз, б'ючы пакладзенага пад імі селяніна. Калі памост зроблены на сто сялян, дык і бізуноў павінна быць такая ж колькасць; і пакуль кола адзін раз цалкам павернецца, дык кожны бізун кожнага наступнага селяніна па аднаму разу стукне; а так, як бізуноў сто і сялян столькі ж, дык за адзін паварот кола сто сялян атрымае па сто бізуноў. Поўны абарот кола адбываецца за адну хвіліну. Хто ж не бачыць, як мы выйграем у часе! Ці ж самы дасканалы эканом, ці ж самы спраўны намеснік здолее за адну хвіліну адлупцаваць сто сялян, ды яшчэ кожнаму даць па сто бізуноў? Пры звычайным пакаранні колькі ж гэта трэба часу, каб падрыхтавацца: пакуль селяніна на зямлю паваляць, пакуль належна пакладуць, пакуль за справу возьмуцца. Мы дададзім да гэтае карысці і тое, што іншыя людзі, невінаватыя, не турбуюцца, бо не трэба трымальнікаў; дык застаюцца рукі дзеля нейкага іншага ўжытку, а яны, змардаваныя, ужо не такімі паслужлівымі быць могуць. Каб аднаму селяніну даць сто бізуноў, перадусім, мусіць памучыцца трое людзей. А што казаць, дастасоўваючы гэта да большае колькасці, ці нават усяе воласці, да ліку выпадкаў, за якія трэба караць; адсюль вынікае аграмадная карысць, якую мы атрымліваем у часе ды сіле і якая бясконца расце і памнажаецца, што ўзнікае з новае карысці і новых даходаў, якія з'яўляюцца нібыта з нічога; а гэта з выкарыстання часу і сілы ў іншых гаспадарчых патрэбах, бо яны ў добрага гаспадара ніколі не павінны марнавацца. А якую карысць мае яшчэ панскае здароўе, калі ашчаджаецца самая дарагая ўласцівасць чалавечае натуры, а ёю з'яўляюцца ягонае сэрца, ягоныя пачуцці, ягоная чуллівасць. Бо ён цалкам унікае таго, каб слухаць крыкі, енкі, просьбы, лямант, што раздаюцца і доўга працягваюцца падчас звычайнага біцця. Калі дапусціць, што на адзін удар прыпадае пяць енкаў, дык селянін выдасць іх пяцьсот, як сто бізуноў атрымае. А калі адлічэнне ста бізуноў трывала б чвэрць гадзіны, дык увесь час мусілі б слухаць гэтую непрыемную музыку, а лічачы на сто сялян, выпадае сто раз па чвэрць гадзіны альбо дваццаць пяць гадзін! Няхай кожны, хто мае чулае сэрца, скажа, чаго каштуе здароўю чвэрць гадзіны такіх невыносных стогнаў. Пры дапамозе матэматыкі падлічана, што, беручы пад

увагу сто сялян, іх крыкі і енкі ў часе біцця рукою да крыкаў і енкаў у часе біцця машынаю, маюць наступную прапорцыю:

у часе — 1: 1500,

у колькасці енкаў — 1 500 000:1,

у ашчаджанні чуллівасці — 1 500 000: 1,

у вымярэнні справядлівасці заўсёды 100:100.

Можна нават яшчэ далей дагаджаць сэрцу, што нават і не ўспамінаць пра суровасць біцця. Дастаткова сказаць: «Паслаць Грышку пад машыну на палову мінуты, на мінуту і г. д.», ужо ж ён там дарэмна ляжаць не будзе, пэўна атрымае 50, 100 і г. д. бізуноў. О! Наколькі б жа менш стала ўзрушэння, раздражнення, спазмаў і іншых шкодных для панскага здароўя рэчаў і самога пана, і еймосці, і панічоў, і паненак. Паны часта нават былі б пазбаўленыя тых настойлівых просьбаў, якія могуць справіць супрацьлеглы эфект: пакуль да ручнога біцця справа дойдзе, дык гнеў астыне, а тым самым пацерпіць справядлівасць. Пад сподам машыны можна зрабіць малыя колы, з дапамогаю якіх яна стане рухомаю і лёгка можа быць перавезеная ў розныя месцы: у вёску, у фальварак, дзе будзе патрэбная, і гэтым самым аднае машыны будзе дастаткова на вялікі маёнтак. Каб ёю кіраваць і перамяшчаць, дастаткова аднаго падлетка, якому хопіць сілы перацягваць яе з месца на месца. Кошт змайстравання машыны нязначны. Што, напрыклад, значыць на вёсцы драўляны слуп альбо памост з дошак? Майстроў не трэба, самі сяляне зробяць. Увесь грашовы выдатак — на жалеза для шасцерні, на ручкі, на клямры і на бізуны; ён аднак на стобізуновую машыну не дасягае і ста злотых. Мы маем інфармацыю, што вынаходнік працуе цяпер над прыстасаваннем гэтае машыны пад дубцы, якія больш падыходзяць на хлапчукоў, кабет і дзевак. Мы хутка паведамім пра месцы і асобаў, якія прымаюць субскрыпцыю, а таксама і пра кошт аднаго экзэмпляра. Адначасова папярэджваем, што грошы не трэба ўносіць загадзя, а толькі запісаць сваё імя і пасаду, а таксама колькасць машын, каб мы маглі паводле агульнага спісу меркаваць, ці можам узяцца за друкаванне і стварэнне гравюраў. Імёны субскрыбентаў будуць надрукаваныя напачатку брашуркі.

### Каментарыі

**«Машына для біцця сялян».** Пераклад з польскай мовы з часопіса «Wiadomości brukowe». — 1817. — № 8, 27 stycznia / 7 lutego. Прыпіска рэдакцыі: «Без прамаруджвання знаёмім нашага чытача з наступным артыкулам, бо аўтар надзвычай моцна і выразна, у сатырычным тоне, але на выгляд сур'ёзна, хоча высмеяць абрыдлую жорсткасць і здзек з падобнага на сябе чалавека».

[1] Станіслаў Ягадзінскі — польскі паэт і перакладчык XVII ст., аўтар зборніка «Grosz (Epigramma de nummo)», выдадзенага ў 1618 г.

[2] Субскрыпцыя — перадаплата ці абяцанне купіць штосьці (лац.).

[3] Локаць — мера даўжыні, каля 50 см.

Друкуецца ў перакладзе М. Хаўстовіча паводле выд.: Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: навук. зб. — Мінск, 2008. — Вып. 9.

## ВІКЕНЦІЙ РАВІНСКІ
## (1786—1855)



Дзякуючы проста дэтэктыўным росшукам вядомага літаратуразнаўца і пісьменніка Генадзя Кісялёва, апісаным у кнізе «Загадка беларускай «Энеіды», мы сёння можам пад выдатным творам нашай літаратуры — паэмай «Энеіда навыварат», што амаль стагоддзе падавалася як «ананімная», ■ упэўненасцю паставіць, нарэшце, імя яе аўтара — Вікенцій Равінскі. І ўслед за ўдумлівым даследчыкам прасачыць каляіны жыцця гэтага не вядомага раней беларускага паэта.

Родам Вікенцій Паўлавіч з беларускай Смаленшчыны, з цяперашняга Духаўшчынскага раёна, як мяркуецца, з «сяльца» Маніна, якое потым пачало называцца Елісеевічы. Год нараджэння — 1786. А дакладней, як меркаваў Г. Кісялёў, 23 снежня 1786 г. Бацька паэта — земскі спраўнік Павел Васільевіч Равінскі — быў дваранінам сярэдняй рукі, меў ва ўладанні зямельныя надзелы з падданымі.

Бацькі адправілі юнака Вікенція, як і яго старэйшых братоў, на вайсковую службу. У 14 гадоў хлопец быў унтэр-афіцэрам Бранскага мушкецёрскага палка. А праз колькі часу ён ужо зведаў цяжкасці баявых паходаў. Удзельнічаючы з 1805 г. у бітвах з французамі, ён у складзе корпуса рускіх войск генерала Галянішчава-Кутузава прайшоў праз Галіцыю, Сілезію, Маравію, Аўстрыю. Потым ваяваў у часцях генерал-лейтэнанта князя Баграцёна, праявіў сябе як храбры воін у бітвах пад Аўстэрліцам, Прэйсіш-Энлау і асабліва пры Шэнграбене, за што быў узнагароджаны першым баявым ордэнам. Удзельнічаў у вайне 1812 г., якую сустрэў у чыне капітана. Быў ад'ютантам праслаўленага генерала Дохтурава. За бітвы пад Барадзіно, Малаяраслаўцам і родным Смаленскам В. Равінскі атрымаў баявыя ўзнагароды. Потым быў вызваленчы паход у складзе рускага войска ў Еўропу, Равінскі дайшоў да Парыжа. У 1816 г. ён выйшаў у адстаўку ў чыне палкоўніка. З 1826 па 1833 г. быў на цывільнай службе — спачатку ў Арэнбургскай губерні, ва Уфе, а потым у Пензе і Кастраме. Якраз у час знаходжання Равінскага ва Уфе пакутаваў там жа ў ссылцы яго зямляк і паэт Ян Чачот. У 1833 г. В. Равінскі вярнуўся на радзіму, у Духаўшчынскі павет, дзе і жыў да канца сваіх дзён.

Вікенцій Равінскі быў шырока адукаваным чалавекам, добра ведаў гісторыю, літаратуру, валодаў апрача рускай і беларускай яшчэ французскай і нямецкай мовамі. Як цікавага і дасціпнага субяседніка яго згадвае ў сваіх успамінах наш славуты зямляк кампазітар Міхаіл Глінка.

«Энеіда навыварат» В. Равінскага — класічны твор новай беларускай літаратуры. Напісана яна была пад непасрэдным уплывам «Виргилиевой Энеиды, вывороченной наизнанку» рускага паэта Мікалая Осіпава і «Энеіды» ўкраінца Івана Катляраўскага. У аснове ўсіх трох паэм —

гісторыя вандраванняў героя Траянскай вайны Энея, якую расказаў у сваёй гераічнай паэме «Энеіда» рымскі паэт I ст. да н. э. Вергілій. Традыцыйны сюжэт аўтар беларускай «Энеіды навыварат» напоўніў сваім зместам. У паэме мы бачым вобразы простых беларускіх сялян і паноў. У ёй паказваецца жыццё і побыт беларусаў пачатку XIX ст., крытыкуюцца праявы прыгонніцтва. Напісана паэма як пародыя на творы антычнай літаратуры, у тым ліку і на Вергіліеву «Энеіду». Палемічная паэма Вікенція Равінскага была накіравана супраць канонаў класіцызму, якія сталі тормазам у развіцці літаратуры. Гэты выдатны твор беларускай літаратуры напісаны дзесьці паміж 1816—1826 гг., доўгі час хадзіў у рукапісах і меў нямала варыянтаў. Паэма дала добры штуршок для развіцця новай беларускай літаратуры.

Выдатны беларускі паэт і герой вайны 1812 г. В. Равінскі быў аўтарам і іншых твораў — вершаванай камедыі на рускай мове «Шлюб паняволі», сатыры на аракчэеўшчыну «Вялікі муж субардынацыі» і іншых, дзе яскрава праявіліся яго дзекабрысцкія, дэмакратычныя погляды.

*К. Цвірка*

## ЭНЕІДА НАВЫВАРАТ

(скарочана)

Жыў-быў Эней, дзяцюк хупавы[1],
Хлапец няўвошта украсіў[2],
Хоць пан, але удаўся ласкавы,
Даступен, весел, неграбіў[3].
Ды грэкі вуйму[4] нарабілі:
Як ляда, Трою ўсю спалілі.
Кашэль ён згробшы — науцёк,
І, шпарка зробіўшы чаўно,
Траянцамі яго набіў
Ды ў мора зь імі ён паплыў.
Але Юнона, баба злая, —
Адроддзя панскага, ліхая! —
Шукала ўсё яго згубіць,
На дно у пекла пасадзіць.
За тое, бачыш, неўзьлюбіла,
Яго Венера што радзіла.
Юнона воблак адапхнула
Ды зь неба на мара зірнула —
Плыве на чаўнаку Эней!
«Ах ты, някруціна[5], зладзей!
Вось я цябе скручу ў табаку,
Ражном у мора, як сабаку!»
Панёву[6] шпарка нахапіла,
Кашэль сачнямі[7] налажыла,
Ў калёсы села, пакацілась,
Якраз ў Эола спынілась.
Ўвайшла ў святліцу, села ў кут.

«Здаровы ўсе! Эол ці тут?»
Эол сядзеў тады ля печкі, —
Мязгу[8] скабліў на перапечкі
Ды лапці лыкам падплятаў.
Ён тут аборы падабраў,
Заткнуў за пояс кацатых[9],
Скаціўся зь печы ў адзін міг.
«Здарова, свацейка Юнона,
Даўно цябе я не відаў», —
І тры ёй зробіўшы паклоны,
Мякотнага[10] на стол падаў.
Яна мякотнага паела,
Уцёршысь, так яму запела:
«Ці ведаеш маё ты гора?
Эней з траянцамі плыве,
Спіхні яго ты, сват, у мора, —
Няхай, паганец, ваду п'е!
Мяркую, чуў: Эней — то зводнік,
Буянец, злодзей, канаводнік.
Траянцы такжа ўсе латрыгі[11],
Ўсе абібокі і юрыгі[12],
Іх трэба ўсіх са свету звесць!
Калі, сват, зробіш тую чэсць,
То я дзявухну украсіву,
Салодкую, як з мёдам сліву,
Табе за тое прывяду».
Эол расшупіў[13] тое дзела,
З яго аж слюнка пацякла —
Любіў ён цешыць грэшна цела,
Дзявухна па нутру была.
Заскробся, барадой затрос,
Разгладзіў вусы, пацёр нос,
Зажыў у ноздру табаку,
Зачхаўся ўвесь, замармытаў
Ды рэч Юноне ён таку
З наклонам, віш ты, адказаў:
«Авохні мне, мая Юнона!
Ніводнага ж нет ветру дома!
Што буду робіць я цяпер?
Барэй з пахмелля, як вяпер[14],
Ляжыць ў святліцы на казёнцы[15]
А Нот учора з'ехаў к жонцы,
Зефір зь дзяўчатамі зайграўся,
А Эўр у батракі наняўся.
Як хочаш тут сабе гадай,

Але дзявухну даставай!
А я ўсё зраблю, грамадзею!
Са ўсіх глуздоў іх сцебану,
З траянцаў выцісну алею,
На дно у мора заганю!
Твайго ж пабольша ліхадзея,
Некрута гэтага Энея,
Я так папру яго вятрамі,
Аж булькаць будзе пузырамі,
Як сторч у вір ўсіх галавой
Намеснік[16] сцягне за сабой!»
І вось Эол, галень схапіўшы,
На паншчыну склікаць пачаў,
І ўсе ён ветры распушчаў,
Бурліць ім мора наказаў.
Калі хто відзеў, як Бакціха[17]
Нямецка піва задаець,
Яко яно падыме ліха,
Запеніцца ды розна прэць, —
От так і мора заравела,
Бублілась, пенілась, шумела.
Эней спалохаўся, ўсхадзіўся.
Матуз ад портак аж зваліўся,
Са страху й нюні распусціў
Ды, як у трасцы, ён завыў.
Траянцы ўсе казлы задралі,
Са ўсіх чаўноў яны гукалі,
Ў балоце быдта лісавец.
Ачухаўшысь, ўскрычаў Эней:
«О, цар-царэвіч, тат Нептун!
Не буду прад табой брахці,
Змілуйся, мора ты зміры.
Картузнай[18] я прышлю цяртухі[19],
Сударскай[20] моцнае сівухі,
А грошы з тайстры[21] — сам бяры».
Нептун на грошы меў ахвоту,
Гарэлку добра ён сцябаў
Пачуў, што будзе за работу,
На ветраў строга закрычаў:
«А вон, нячысты некруціны!
З якой фантазіі вы тут?!
Глядзі, скаштуеце дубіны,
І ноздры вам ражном утруцы!»
Вось досыць ветрам тут дзякацца[22], —
З Нептунам знаці, які жарт, —

Дамоўкі сталі убірацца,
Як ад Кутуза Банапарт[23].
Тут раптам неба спагадзелась,
Усплыла сонейка, з'яснелась.
Эней, уцёкшы так ад бед,
Састрапаць загадаў абед.
Траянцы ўзяліісь за ядзенне,
Як з поля панскія харты[24].
Была ў іх з затаўкай крупеня,
Кулагу пхалі ў жываты;
Была ў іх гушча, і драчона,
І парасяціна смажона.
Пілі гарэлку не каўшом —
Цягнулі ўволю ўсе набгом.
Усячыны панасцябаліісь
Ды на палацях спаць паклаліісь.
Венера з кірмашу вярнулась
(На Ўшэсці, відзіш ты, была!)
Ды аб Энеянку дачулась,
Юнона як яго спрагла[25].
Андрак з насоўкай апранула,
З падплётам ўздзела кавярзні[26],
Анучкі рабыя абула,
Як быццам войта селязні;
Твар сыраваткаю абмыла,
Кужэльны ўздзела балахон,
Папранік[27] ў хустачку ўлажыла —
Пайшла да Зеўса на паклон.
А Зеўс тады сядзеў у клеці,
Гарэлку з мёдам там сцябаў,
Без сораму, як малы дзеці,
З падоння пальцам калупаў.
Прыйшла Венера і завыла,
Саплямі змазала ўсё рыла
Й так зязюзюкала яна:
«А чым перад табою, бацька,
Мой абмішуліўся[28] дзіцяцька?
Зюкні, яка яго віна?
Не ўвідзяць Рыму яго вокі,
Калі Юнону не уймеш!
Звядуць на ростанях сарокі,
Сатрэ яна яго ў кулеш».
Тут Зеўс, гарэлачку дапіўшы,
Ражком ў халяву пастучаў,
Цяртухі моцнае зажыўшы,

Таку гаворку распачаў:
«Дапрэ Энеянка да Рыму
І будзе тама ён царом.
Палепшы Чыжаўскіх харом[29]
Паставіць каменны палаты.
Паны ж не будуць там багаты,
Свае чыны ён завядзе
І усё на водкуп забярэ.
Цяпер заверне к Карпагені[30]
(Ў Дыдоны, відзіш, талака),
Папрэ уволю ён смажэні,
Ад'есца з добрага быка,
Папарыцца ён там у бані,
Падпусціць хвігля самой пані,
Закруціць моцна галаву —
На любжу[31] прывядзе ўдаву.
Ідзі, дачухна, не турбуйся!
Ды скорамам, глядзі, не псуйся!
Ні з кім саромна не клянісь
І ў Сташкаў Нілу[32] пакланісь!»
Венера тут яму прысела,
Хранцуз паненак як вучыў,
Пайшла, вясельную запела:
Зевес ёй вельмі дагадзіў.
Эней пачухаўся, паскробся,
На ногі лапці падвязаў,
З палацей да кута дагробся
Ды плыць надкорніку казаў.
Плыў, плыў, аж уваччу зазелянелась,
І мора горш ад талакна прыеласць —
Ён ведзьмай на яго глядзеў.
А там пачаў ужо здзікацца
Ды так ні к чому стаў злавацца,
Што я й пісаць тут не пасмеў.
Казаў, што «лепш бы на пагосце
Схаўтурылі мае там косці,
Дарэмна з Троі пакруціўся
Ды валачобнічаць пусціўся»,
Ён з гора піпку запаліў,
Ў балону голаву спусціў;
Аж зірк у мора — і сказіўся,
Запеў «Избранную»[33], заксціўся[34]
«Глядзіце, братцы, вунь сяло!»
Тут ўсіх за сэрца узяло.
Якраз на бераг прывалілі,

За плот чаўнок свой прыкруцілі,
Па шклянцы выпілі сівухі,
Паелі нашча саладухі,
Камоў з смятанай і глазухі,
Пайшлі у горад пагуляць.
Бягуць, як батракі з прыгону,
А ім ў варотах тыц — Дыдона,
Ды стала так на іх казаць:
«Глядзі, які ж то абарванцы!
Ці смоль вы з Шчучча[35] вязіцё?!
Ай вы, духоўскія[36] цыганцы!
Курэй з-пад клецця крадзіцё?!
Чаго сюды вас прыкруціла?
Я й так дзясяцкага прыбіла,
Што ён распраўшчыны не знае
Ды без пашпартаў ўсіх пускае».
Як валасні[37], закапашыліс,
Пластом траянцы павалілісь,
Сачэнь[38] Дыдоне паднясли
Таку гаворку зацяглі:
«Мы ўсе з Траянскага прыходу,
Сударскі перад тым былі,
Ды ўвосень прошлага мы году
Ад грэкаў ў мора уцяклі.
Эней канторшчыкам у нас,
Пашпорты дзержыць Апанас.
Газеты ж, панюхна, ты маеш:
Спраглі як Трою, аб тым знаеш, —
То нечага табе й казаць.
О, артыкульная[39] Дыдона!
Ты нас у крэпасць[40] запішы,
Ў нядзелю роб сабе два згоны —
Мы робіць будзем дадушы!
Мы ўсяку паншчыну смякаем:
У бровара глядзець як, знаем,
Загнеткі[41], сундукі рабіць,
На бочкі абручы набіць.
Піліп наш лепіць гарлачы,
Пракоп жа ступы, таўкачы,
А Саўка зелле ўсяка знае,
Дзяцём ён вогнік адклікае,
Хупаў бабамі варажыць
І скурапею[42] адхадзіць.
Глядзі, як мы парасшарпаліс,
Аж сорам свеціцца наскрозь,

Ўсе лапці розна растапталісь,
Сарочкі чорныя, як вось.
Калі ўжо ласка твая будзе,
Вялі нам лазню пратапіць!
Адзежу трэба нам папрудзіць —
От так кішаць, няможна жыць».
Дыдона румзала і выла.
Цякло, як з лівера[43], з вачэй;
Маністы дзёргала, круціла,
А сэрца — тых-тых-тых у ей!
Яна ўжо чула пра Энея,
Што з гулькаю ў яго і шэя,
Што волас ў галаве скруціўся,
Што нос казюлькай раздваіўся, —
То шупіла[44], які тут смак.
І вось кляўшыла[45] яна так:
«Калі б Эней ваш схамянуўся
Ды сам ка мне ён падвярнуўся, —
Усячыны б тады дастаў...»
Ён — шмык, як быццам з неба спаў!
Ўзышлі ў сьвятліцу, пераксціліс,
Эней і «Вотча»[46] прачытаў.
За стол ўсе порадам садзіліс,
Мялянік[47] на стале ляжаў.
Дыдона варыва ўлівала,
Шматкамі мяса ў місы клала
І забаяла малаком.
Трупаціла яна крупеню,
Яечню, руднік, жур, смажэню,
Каму пячэню з часнаком;
Былі й салодкія пацешкі:
Вяземскі пернікі, арэшкі,
Мязгі й мязюму[48] рашаты.
Дуда вярлюем[49] тут равела,
Сапелка[50] гусыняй шыпела,
Скрыпелі скрыпкі, як каткі,
Дзявухны галасу гукалі,
Вясну малоданькі склікалі
І жарты розныя рабілі:
Казу святочную вадзілі,
З загнеткі лося забівалі,
Дугу у браму прадзявалі, —
Пустоты ўволеньку было!
Расхарапушыўся[51] Эней,
Аж іскры сыплюць ад лапцей...

## Каментарыі

**«Энеіда навыварат».** Як мяркуюць даследчыкі, паэма была напісана недзе паміж 1816—1826 гг. Упершыню ўрывак з паэмы з'явіўся на старонках рускага часопіса «Маяк» у 1845 г. (т. 23). Найбольшую колькасць радкоў змясціў «Смоленский вестник» (1890, № 10, 11). Друкуецца паводле выд.: Літаратура Беларусі: першая палова XIX стагоддзя. — Мінск, 2000. — С. 30—38. У аснову гэтай рэдакцыі паэмы пакладзены тэкст з брашуры Я. Ф. Карскага «Белорусская энеида наизнанку» (Харьков, 1908).

[1] Хупавы (тут і далей у асноўным дыялектызмы) — спрытны.

[2] Украсіў — прыгожы.

[3] Неграбіў — неганарысты.

[4] Вуйма — многа, ад рус. «уйма».

[5] Някруціна — шэльма, нягоднік.

[6] Панёва — даўняе жаночае паясное адзенне.

[7] Сачні — тоўстыя мучныя бліны з начынкай.

[8] Мязга — мякаць, цёртая морква, бульба.

[9] Кацатых — лапатнае шыла.

[10] Мякотнае — мяккае.

[11] Латрыга, ці лотр, — мантач, гультай, п'яніца.

[12] Юрыга — юрлівы.

[13] Расшупіў — зразумеў.

[14] Вапер — вепр, дзік.

[15] Казёнка — від лаўкі.

[16] Намеснік — тут: чорт, вадзянік.

[17] Бакціха — гаспадыня піўніцы ў Бешанковічах.

[18] Картузная — цудоўная, выдатная.

[19] Цяртуха — нюхальная табака.

[20] Сударская — ад «гасударская», г. зн. дзяржаўная.

[21] Танстра — кайстра.

[22] Дзякацца — здзекавацца.

[23] Як ад Кутуза Банапарт — як ад Кутузава Напалеон Банапарт уцякаў.

[24] Харты — сабакі-ганчакі.

[25] Спрагла — змучыла.

[26] Кавярзні — лапці.

[27] Папранік — абручык, абцягнуты матэрыяй; яго жанчыны ўскладалі на валасы пад хустку як упрыгожанне.

[28] Абмішуліўся — правінаваціўся.

[29] Чыжаўскія харомы — палац князя Пацёмкіна ў вёсцы Чыжава Духанскай акругі.

[30] Карпагень — Карфаген.

[31] Любжа — атрутная расліна.

[32] Ніл (Сталобенскі) — кананізаваны царквой святар, яго кляштар быў на востраве Сталобеным непадалёк ад горада Асташкава Цвярской губерні.

[33] «Ізбранная» — малітва «Взбранное воеводе».

[34] Заксціўся — захрысціўся.

[35] Шчучча — возера і сяло на яго беразе ў Парэцкім павеце (Смаленшчына).

[36] Духоўскія — ад мястэчка Духаўшчына на Смаленшчыне.

[37] Валасні— чарвякі.

[38] Сачэнь — вялікі праснак, тут: хлеб-соль.

[39] Артыкульная — паважная, саноўная.
[40] У крэпасць — у прыгон.
[41] Загнет, загнетак — месца на прыпеку, куды выграбаюць з печы жар.
[42] Скурапей — скураная хвароба.
[43] Лівер — пасудзіна з дзвюма невялікімі адтулінамі.
[44] Шупіла — здагадвалася.
[45] Кляўшыла — казала.
[46] «Вотча» — малітва «Ойча наш».
[47] Мялянік — від пірага.
[48] Мязюм — разынкі, ад рус. «изюм».
[49] Вярлюй — мядзведзь.
[50] Сапелка — дудачка накшталт жалейкі.
[51] Расхарапушыўся — разышоўся.

**Міфалагічныя імёны, якія сустракаюцца ў паэме «Энеіда навыварат»**

Амур (лац.) — бог кахання.

Барэй (грэч.) — бог паўночнага ветру.

Бахус (Бах) (лац.) — мянушка Дыянісія, бога ўрадлівасці, апекуна вінаградарства і вінаробства.

Венера (лац.) — багіня кахання і прыгажосці.

Веста (лац.) — багіня дамашняга ачага і агню.

Геба (грэч.) — багіня юнацтва.

Геркулес (лац.) — грэчаскі народны герой, волат.

Дыдона (лац.) — гераіня грэчаскай міфалогіі. Пасля гібелі Троі ў яе нібы знайшоў прытулак Эней. Калі ён пакінуў яе і адплыў у Італію, Дыдона пракляла яго і яго нашчадкаў.

Зеўс (Зявес) (грэч.) — вярхоўны бог.

Зефір (грэч.) — бог заходняга ветру.

Марс (лац.) — бог вайны.

Нептун (лац.) — бог мораў.

Німфы (лац.) — шматлікія духі прыроды (мораў, рэк, гор, дрэў і г. д.), увасобленыя ў вобразах прыгожых дзяўчат.

Нот (грэч.) — бог паўднёвага ветру.

Парнас (грэч.) — міфалагічная гара, на якой жылі бог Апалон і музы — багіні паэзіі, мастацтва і навук.

Сатурн (лац.) — бог пасеваў. З ім звязвалася эпоха роўнасці, усеагульнага дабрабыту і вечнага міру.

Троя — горад у Малой Азіі, разбураны грэкамі ў час Траянскай вайны.

Эней — легендарны герой Траянскай вайны, сын Афрадыты і дарданскага правіцеля Анхіса.

Эол (грэч.) — бог вятроў.

Эўр (грэч.) — бог усходняга ветру, брат Барэя, Зефіра і Нота.

Юнона (лац.) — багіня сямейнага дабрабыту, апякунка жанчын і шлюбу.

## АНТОНІ ГАРЭЦКІ
## (1787—1861)



Родам Антоні Гарэцкі з Вільні. Антоні быў малодшым сынам у даволі вялікай сям'і віленскага войскага Валенція Гарэцкага. Адна з яго сясцёр Схаластыка — маці вядомага беларускага мастака Валенція Ваньковіча. Вучыўся Антоні ў Віленскім універсітэце на літаратурным факультэце. Сябраваў з Іяхімам Ляляевелем. У студэнцкія гады пачаў пісаць вершы, якія публікаваў у віленскім друку. У 1809 г. запісаўся на вайсковую службу. Удзельнічаў у паходзе Напалеона на Расію як ад'ютант брыгаднага генерала Мяльчынскага. Быў нават узнагароджаны за баявыя заслугі крыжам Ганаровага легіёна. Пасля разгрому напалеонаўскага войска капітан Антоні Гарэцкі выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў родавай вёсцы пад Вільняй. Захварэўшы, паехаў на лячэнне ў Італію. Пабываў таксама ў Францыі, Чэхіі. Вярнуўшыся дамоў, ажаніўся і заняўся гаспадаркай у сваіх падвіленскіх маёнтках Дусяняты і Пагава. Прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Вільні, дзе ўступіў у Таварыства шубраўцаў, адзін з членаў якога вядомы гісторык Міхал Балінскі нават прывітаў яго напісаным з гэтай нагоды вершам. У Вільні А. Гарэцкі зблізіўся з Адамам Міцкевічам і іншымі філаматамі, а таксама філарэтамі. У час працэсу над філарэтамі ў яго доме ў Вільні была арганізавана дапамога зняволеным. У 20-х гадах XIX ст. меў магчымасць заняцца творчай працай. Супрацоўнічаў з шубраўскім часопісам «Wiadomości Brukowe» і іншымі віленскімі і варшаўскімі выданнямі. Пісаў вершы, байкі, элегіі, думы, фрашкі. Творы, у якіх паэт выступаў у абарону запрыгоненага беларускага селяніна, крытыкаваў царскія ўлады, карысталіся вялікай папулярнасцю сярод моладзі. «Прыземленасць», народнасць яго творчасці выклікалі крытыку з боку кансерватыўных сіл. Вельмі злосную сатыру на Гарэцкага напісаў Францішак Мараўскі пад назвай «Новы Парнас», у якой здзекліва называў яго «смаргонскім Піндарам». У 1828 г. за «Байку пра фурманаў», у якой закранаўся нават царскі намеснік князь Канстанцін, паэт быў арыштаваны ў сваёй падвіленскай вёсцы і дастаўлены ў варшаўскую турму. З яе А. Гарэцкі быў выпушчаны толькі пасля таго, як падпісаў для віленскага генерал-губернатара Корсака дэкларацыю, у якой абавязваўся не пісаць палітычную сатыру.

Але А. Гарэцкі не толькі не адышоў ад палітыкі ў сваіх творах, а заняўся ёй і на практыцы. Прыняў актыўны ўдзел у Лістападаўскім паўстанні, пасля разгрому якога вымушаны быў выехаць за мяжу. Да канца жыцця паэт заставаўся ў эміграцыі. Спачатку жыў разам з Адамам Міцкевічам і іншымі выгнаннікамі-ліцвінамі ў Дрэздэне, потым усе яны перабраліся ў Парыж. Пасяліўшыся ў сталіцы Францыі, А. Гарэцкі ўдзельнічае ў розных эмігранцкіх згуртаваннях, аддаецца літа-

ратурнай творчасці. У 1834 г. ён выдае ў Парыжы зборнік ранейшых і новых твораў пад назвай «Паэзія Ліцвіна». Потым выходзілі іншыя паэтычныя кнігі. У эміграцкіх творах паэта асабліва моцна гучыць туга па роднай зямлі, па сваёй Віленшчыне, дзе засталася яго сям'я. З болем у сэрцы даведваецца Гарэцкі, што яго два сыны ў 1839 г. былі прымусова вывезены ўладамі ў Пецярбург. Толькі на схіле жыцця паэт меў шчасце сустрэцца з сынам Тадэвушам, які прыехаў да бацькі. Ажаніўшыся з дачкой Адама Міцкевіча Марыяй, Тадэвуш Гарэцкі застаўся ў Парыжы і стаў адзінай уцехай для знямоглага бацькі: памёр Антоні Гарэцкі 18 верасня 1861 г.

Літаратуразнаўцы адводзяць Гарэцкаму пераходнае месца паміж класіцызмам і рамантызмам. У яго творах нават праяўляліся элементы рэалізму, што вельмі цаніў Адам Міцкевіч. Пад уплывам рамантыкаў Гарэцкі спрабаваў пісаць творы, заснаваныя на народнай паэзіі беларусаў, якую добра ведаў, жывучы ў падвіленскіх вёсках. Польскія даследчыкі знаходзяць у яго творах «налёт правінцыялізмаў», г. зн. беларускія словы і выразы. Некаторыя матывы творчасці Гарэцкага выкарыстаў Адам Міцкевіч у сваіх байках, баладзе «Лілеі», паэме «Пан Тадэвуш»: так, байку «Д'ябал і збожжа» вуснамі Жэготы (Ігната Дамейкі) пераказаў Міцкевіч у трэцяй частцы сваіх «Дзядоў». Змагаючыся за аднаўленне Рэчы Паспалітай, якая стала называцца Польшчай, А. Гарэцкі ніколі не забываўся, што ён сын беларускай зямлі, гістарычнай Літвы. Нездарма ж адзін з яго псеўданімаў быў Літвін.

*К. Цвірка*

## ДА МУЖЫКОЎ

Вы Богу й каралю спрадвек аддадзены,
Хоць слёз у вас ад цівуння — да краю.
Сяляне з хатак, родзе пагарджаны,
Для вас я граю!

Адзін паэт умеў чароўнай лірай
Паклікаць з пекла духаў — быў пачуты.
А мне б так пець, каб з вас ад песні шчырай
Зляцелі путы.

Ды марна — як на Альпах высачэнных
Вясны праменні снег не растапляе,
І мой няўтомны спеў ад душ каменных
Так адлятае.

Ды ёсць збавіцелька, што сілу мае.
Нішто ёй гор хрыбты і акіяны.
Завуць смерць яе. Яна з вас паздымае
Усе кайданы.

Сам Бог сустрэне ўсіх вас словам ветлым
У каралеўстве вечным у блакіце.
О брацця! Вы й мяне ў тым часе светлым
Хоць спамяніце.

*1817*

3 Зак. 1799

## ДУМКА МУЖЫКА

Я — мужык, я толькі знаю
Працу: доля ўжо такая!
Што я потам здабываю,
Пан на забаўкі пускае.
У пакоры век гарую:
Сею, жну ды зноў ару я.

Не дало мне шчасця Неба,
Сілы мне дае для жыцця
Збан вады ды кавал хлеба,
А сярмяга — для прыкрыцця.
Хоць за працай век гарую;
Сею, жну ды зноў ару я.

А пакліча ўлада: краю
Паслужыць — ура ўдалому! —
Жонку, дзетак, дом кідаю.
А вярнуся з чым дадому?
У пакоры зноў гарую.
Сею, жну, кашу, ару я.

Так на пана век ішачу,
А згубіўшы ў працы сілу,
З торбай я іду, жабрачу
Ці кладуся ў магілу.
І тады ўжо не гарую —
І не жну, і не ару я.

*1821*

## ГІМН ДА БОГА ПРА ЗАХАВАННЕ ВОЛІ, ПРЫСВЕЧАНЫ КРАКАЎСКАМУ НАВУКОВАМУ ТАВАРЫСТВУ

О Ты! Хто ўмомант магутнай рукою
Свет цэлы знішчыць і зноў стварыць можа,
Бедны люд ласкай укрыты Тваёю,
Быццам шчытом, неўміручы наш Божа!
Мольбы нясём да Цябе, Уладару,
Не забірай у нас вольнасці дару.

Іншым хай золата з цёмных глыбіняў
Горы падораць; магутнасць іх зброі
Хай дасягае агністых вышыняў,
Свет ледзяніць несупыннай вайною.
Просьбы нясём да Цябе, Уладару,
Не забірай у нас вольнасці дару.

Бачыш, нядаўна пазбавіў нас волі —
Слёз і крыві разліваюцца рэкі.
Колькі ж пануе адчаю і болю
Там, дзе навек ланцугоў небяспека.
Мольбы нясём да Цябе, Уладару,
Не забірай у нас вольнасці дару.

Слова адно Тваё, Божа магутны,
З праху заўжды ўваскрасіць было здольна.
Прыйдзе ж калі пакарання час смутны —
Зноў вярні ў прах нас, ды толькі ў прах вольны.
Мольбы нясём да Цябе, Уладару,
Не забірай у нас вольнасці дару.

## ЧОРТ І ЗБОЖЖА

Байка

Калі Адам, смяротна саграшыўшы з-за намовы
Сваёй прывабнае паловы,
Павінен Рай быў пакідаць,
Пан Бог, што умее літасць і карысць з'яднаць,
Зярняты для людзей рассыпаў па зямліцы
І змусіў гэтым чорта засмуціцца.
Той скеміў пра вялікі ўчынак Божы:
З зярнятак хлеб быць можа,
І хтосьці знойдзецца з людзей
Зняважыць золата чарцей
І дзеля скарбаў тых не стане прыганятым,
Бо зможа праўдаю
І працай быць багатым.
Пабег чорт сцежкай хітра звітай,
Ваюючы здаўна з магутным Богам,
Увесь ячмень, авёс, пшаніцу, жыта
Загроб старанна ў глебу сваім рогам.
Ён думаў: нас навек пазбавіў хлеба,
Зрабіў жа якраз тое, што было нам трэба.
Дзівосна яго зерне з глебы ўсходзіць,
І сёння зямля жыта родзіць.
О! Вы! Што ў турмах гвалціце народы,
Заступнікаў за праўду, за свабоду.
У змрочных каменных сутарэннях
Замкнулі не адно вы пакаленне.
Вам рупіць пахаваць хутчэй дар Божы.
Ды што тут ваша злосць пустая зможа?
З тых зернейкаў пакутных над зямлёю
Узыдзе ніва вольнасці святое.

## ДА ЛІТВЫ

*Дачцэ маёй Ганне Бішэўскай,*
*яе мужу і дзеткам ад 73-гадовага старога*
*на ахвярную памяць*

О! Дарагая Літва! Да скanання
Больш я не ўбачу разлог твой утульны.
Тут, між французаў, я ў ціхім згасанні
Косці складу беспрытульна.
Мне невядома, што смерць перайначыць,
Што з маёй будзе туляцкай істотай.
Мо вольнай зданню цябе я пабачыць
Тут жа ўздымуся з маркотай.
Хутка адчую, як добра быць Духам:
Ні перашкод, ні дарэмным сакрэтаў,
Хочаш — падглядвай, і хочаш — падслухвай.
Сам жа зусім непрыкметны.
Можа, спазнаю й раскошу такую,
Што, летучы праз ліцвінскія хаткі,
Песню сваю там раптоўна пачую
І пра сябе словы-згадкі.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ГОРАДУ ВІЛЬНІ

Не грэбуй, о Вільня, маім прысвячэннем,
Будзь шчаснай і ласкай аддзякуй сваёй;
Яснела ты мне першым дзённым праменнем,
І бацькі майго стала роднай зямлёй.
Я твой песнятворца, і ў дар гэты томік
Табе ахвярую — са згадкай пра дні,
Калі не заняў яшчэ горды захопнік
Абшар твой і рыцар цябе бараніў.
Ці зможа хто боль твой сягоння паменшыць,
Калі ты аплакваеш скрушна сыноў?
Адных душыць вораг, другія ў каменным
Парыжы блукаюць між процьмы дамоў.
Ні пышны Цюльры, ані Луўра аздобы,
Не ўзрадуюць, Вільня, выгнанцаў тваіх;
А як толькі стрэнуць куточак падобны
Крыху да цябе — сэрца ўсцешыцца ўміг.
Ды поўніць таемна мяне прадчуванне,
Што хутка ўжо прыйдзе канец барацьбе,
Што ў небе тваім бліснe сонейка ззянне...
О, хоць бы шчэ ўбачыць мне вольнай цябе!

Рванупца б у бітву мне разам з братамі,
А ў лютым змаганні... каня затрымаць,
Спыніцца, укленчыць ля Вострае Брамы
І Панне магутнай пашану аддаць.

*25 студзеня 1839 г., Парыж*

**Каментарыі**

**«Да мужыкоў», «Думка мужыка».** Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле кн.: Zbiór poetów polskich XIX w. / ułożył i opracował Paweł Hertz. — Warszawa, 1959. — Ks. 1. — S. 615—616.

**«Гімн да Бога пра захаванне волі, прысвечаны Кракаўскаму навуковаму таварыству»** — пераклад з польскай мовы Ганны Серэхан. Друкуецца паводле часоп.: Наша вера. — 2005. — № 1.

**«Чорт і збожжа, «Да Літвы», «Прысвячэнне гораду Вільні»** — пераклад з польскай мовы Ганны Серэхан. Друкуюцца паводле выд.: Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: навук. зб. — Мінск, 2009. — Вып. 10.

## ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН (1789—1859)



Фадзей Булгарын, журналіст і пісьменнік, нарадзіўся ў маёнтку Пырашава на Міншчыне ў сям'і шляхціца. Пасля таго, як яго бацьку за забойства рускага генерала Воранава саслалі ў Сібір, маці з сынам пераехалі ў Пецярбург. Тут Фадзей да 1805 г. вучыўся ў Сухапутным кадэцкім корпусе, потым служыў у Кранштацкім і Ямбургскім уланскіх палках; у 1806—1807 гг. удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць французаў, з 1808 г. — у Фінляндыі. У 1811 г. звольнены са службы, уцёк у Варшаву і паступіў у армію Напалеона, дзе даслужыўся да капітана. Удзельнічаў у паходах французаў у Іспанію, Італію і Расію. У 1814 г. трапіў у палон да прусакоў. Пасля вайны вярнуўся ў Варшаву, у 1819 г. пераехаў у Вільню, дзе надрукаваў свае першыя творы на польскай мове. У 1820 г. перабраўся ў Пецярбург, супрацоўнічаў у часопісе «Сын отечества», які выдаваў М. І. Грэч, і з 1822 г. сам стаў выдаваць часопіс «Северный архив». Імкнуўся зблізіцца з такімі папулярнымі пісьменнікамі, як А. С. Грыбаедаў, К. Ф. Рылееў, В. К. Кюхельбекер і адначасова з рэакцыянерам Аракчэевым. Галоўным яго выданнем была палітычная і літаратурная газета «Северная пчела», якую ён выдаваў у 1825—1859 гг. Газета вылучалася бойкасцю стылю і казённапатрыятычным кірункам. Прадпрымальны Булгарын увёў жанр газетнага фельетона, змяшчаў рэкламныя аб'явы, меў манапольнае права друкаваць палітычныя навіны. Газета выдавалася вялікім на той час тыражом — 4,5 і нават 10 тыс. экз.

Разам з Грэчам і Восіпам Сянкоўскім Булгарын склаў так званы часопісны трыумвірат, які цкаваў перадавых рускіх пісьменнікаў. Булгарын быў праціўнікам «крамольнай» французскай літаратуры, у прыватнасці твораў Гюго і Бальзака. Яго прыхільнасць да «чыстага мастацтва» і нямецкай эстэтыкі мела дылетанцкі і паказны характар. Гэтым ён імкнуўся закамуфліраваць сваю тэндэнцыйнасць. Непрыязна ставіўся да многіх пісьменнікаў, нападаў на іх у друку і нават складаў даносы ў Трэцяе аддзяленне. Сярод яго ахвяр былі А. С. Пушкін, М. В. Гогаль, І. А. Ганчароў, Н. А. Някрасаў, І. С. Тургенеў, В. Р. Бялінскі.

Булгарын вядомы і як аўтар гістарычных раманаў: «Іван Выжыгін» (1828), «Мазепа» (ч. 1—2, 1833—1834) і інш., якія вялікага поспеху сярод інтэлігентнай публікі не мелі. Ён умела выкарыстоўваў тэндэнцыю пераходу ў рускай літаратуры ад вершаў да прозы, ад рамана да аповесці, ад рамантычных, байранічных герояў да простага чалавека і штодзённай рэчаіснасці. Аднак ісцінную праўду жыцця і сатыры падмяняў маралізатарскай павучальнасцю ў духу «афіцыйнай народнасці». У сваіх успамінах апісаў падарожжа па Віцебскай і Магілёўскай губернях. Пахаваны ў сваім маёнтку Карлава каля Тарту (Эстонія).

*Г. Маслыка*

# ІВАН ВЫЖЫГІН

(урыўкі)

Да дзесяці гадоў я рос у маёнтку беларускага памешчыка Галагардоўскага, накшталт дамарослага ваўчаняці, і быў вядомы пад імем Сіроткі. Ніхто не клапаціўся аба мне, а я яшчэ меней клапаціўся аб іншых. Ніхто не прылашчыў мяне з усіх, хто жыў у маёнтку, апрача старога заслужанага сабакі, які, падобна да мяне, пакінуты быў на ўласнае пракармленне.

Не было ў мяне кутка ў доме, не адпускалася мне ні яды, ні адзежы і не было вызначана ніякага пастаяннага занятку. Улетку я праводзіў дні пад адкрытым небам і спаў пад паветкай або ў жывёльным двары. Зімою я жыў у вялізнай кухні, якая служыла месцам збору ўсёй шматлюднай дворні, і спаў на шырокім ачагу ў цёплым попеле. Улетку я хадзіў у адной доўгай кашулі, падпераЗаны вяроўкаю; зімою прыкрываў галізну сваю чым папала: старою жаночай кофтаю або дзіраваю світкай; гэтым убраннем абдорвалі мяне спагадлівыя людзі, не ведаючы, куды падзець старыя рызманы. Я зусім не насіў абутку і так загартаваў свае ногі, што не адчуваў ні мяккую траву, ні гразь, ні лёд. Галавы я таксама не прыкрываў: дождж змываў з яе пыл, снег ачышчаў попел. Харчаваўся я рэшткамі ад трапезы дваровых людзей і ласаваўся яйкамі, якія падбіраў паблізу куратніка і пад свіранам, рэшткамі ў малочных збанах, якія я вылізваў з надзвычайным спрытам, і агароднінаю, крадзенай па начах. Усякі падпіхаў мяне па свайму самавольству: улетку прымушалі пасвіць гусей на выгане або на беразе стаўка, сцерагчы куранят і качанят ад сабак і каршукоў. Зімою мяне ўжывалі замест машыны для абгортвання пожага на кухні, і гэта быў для мяне самы прыемны занятак. Усякі раз, калі кухар або кухцікі паадварочваліся ад агменю, я жвава дакранаўся да сакавітай смажаніны і пад рукавом употай смактаў тлустую руку як мядзведзь лапу, іншы раз я спрытна абрываў кавалкі вяндліны з шпігавання і выкрадаў катлеты з каструль.

(Ён быў хлопчыкам на пабягушках ва ўсіх — у лакеяў, слуг і служанак, нават у малышоў: пасылалі па гарэлку ў карчму, прымушалі прынесці або аднесці тую ці іншую рэч. І сцябалі, калацілі, каму і калі як заманецца — ад тугі і дзеля забавы, спаганялі на ім сваю злосць. І вось аднойчы ён атрымаў заданне, якое перайначыла яго жыццё.)

Адна са служанак, Маша, вясёлая і мілавідная дзяўчына, якая часцей за іншых ставіла мяне на варце ў садку, сустрэла мяне на двары ў поцемках, падазвала да сябе, пагладзіла па галоўцы і сказала:

— Вазьмі гэту паперку, Сіротка, сцісні моцна ў руцэ і ідзі ў сяло. Там, у хаце старасты, спытайся, дзе жыве афіцэр, аддай яму паперку і вярніся назад. Толькі нікому не кажы, што пасланы ад мяне, а калі хто захоча адабраць у цябе паперку, то з'еш яе, але не аддавай. Ці зразумеў ты мяне, Сіротка?

— Зразумеў.

— Ну, перакажы мне ўсё, што я табе сказала.

Я пераказаў ёй усё слова ў слова, і яна была так задаволена гэтым, што ледзь не пацалавала мяне, а стрымалася толькі таму, што я быў занадта запэцканы.

— А ці ведаеш ты хату старасты?

— Як не ведаць: трэцяя ад карчмы.

— Добра, а ці ведаеш, хто афіцэр?

— Ну, той пан, у якога чырвоныя лапы на каптане, які ездзіць вярхом і прыходзіць увечары.

— Даволі, бачу, што ты кемлівы хлопчык, калі хутка справішся, атрымаеш многа хлеба, мяса і ўсяго. Ці чуеш?

— Чую, — адказаў я. І тут жа свістам выклікаў свайго Кудлатку і галопам кінуўся за браму. Па гасцінцы да вёскі набіралася тры вярсты, а па вядомаму толькі мне шляху, цераз платы і агароды, не было і палавіны гэтага. Прыбег у хату старасты, у сенях падсцярог афіцэра, пакланіўся яму і аддаў запіску. Ён агледзеў мяне з галавы да ног, усміхнуўся і сказаў ісці з ім у хату. Там хутка прачытаў паперку і стаў такім задаволеным, што ў узнагароду, мабыць, за добрую вестку адрэзаў мне кавалак пірага. Я першы раз зведаў такую смачную ежу, што не мог стрымаць свайго захаплення, і на яго вачах прагавіта пажыраў пірог, выяўляючы маю радасць гучным смехам і падскокамі. У гэты час увайшоў другі афіцэр, і яны абодва пацяшаліся над маёй дзікаю прастатой пры спажыванні мною віна, торта і рознай салодасці.

— Хто ты такі? — спытаў мяне афіцэр, да якога быў пасланы.

— Сіротка, — адказаў я.

— Хто твае бацькі?

— Не ведаю.

— Як цябе завуць?

— Сіротка.

— Беднае стварэнне! — паспачуваў добры афіцэр і пагладзіў мяне па твары. — Я патурбуюся пра цябе. Ці не праўда, гэты хлопчык — прыгажун? — звярнуўся ён да свайго таварыша.

— Праўда, — адказаў той. — Шкада толькі, што трымаюць яго, як парася.

Ласка, якую спазнаў упершыню ў жыцці, так узрушыла мяне, што я галасна заплакаў і кінуўся абнімаць ногі людзей, якія абышліся са мной палюдску. Дагэтуль рука чалавека на мяне падымалася не інакш як для пабояў і штуршкоў, а тут адчуў ласкі, якімі адорваліся іншыя дзеці штодня і якія самому хацелася зведаць. Мае слёзы і ўдзячнасць так паўплывалі на афіцэраў, што яны ўдвоілі далікатнае абыходжанне са мною і далі розных саладосцяў на дарогу.

— Цяпер ідзі, Сіротка, дадому, — выправадзіў мяне афіцэр, — і скажы таму, хто цябе паслаў, што ўсё будзе добра, толькі так, каб іншыя не чулі.

— Зразумеў: я тузану Машу за палу, адзаву яе ў бок і скажу, што ласкавы пан прамовіў слова: «Добра!».

— Цудоўна, выдатна! Ты хлопчык кемлівы не па гадах. Я зраблю з цябе чалавека, — паабяцаў афіцэр. — Бывай, Сіротка!

Вярнуўся я ў панскі двор і тут жа прабраўся ў кухню і калі заўважыў, што Маша з трывогай глянула на мяне і азіраецца па баках, не падаў і выгляду, што хачу пагаварыць з ёю, і выйшаў з кухні. Яна мяне дагнала і, калі распытала аб усім, таксама пагладзіла мяне, пахваліла за кемлівасць, зага-

дала нікому не прагаварыцца аб тым, што адбылося, і паабяцала на другі дзень узнагародзіць мяне. Я правёў прыемнейшую ноч у маім жыцці, пад навесам, на саломе, з маім Кудлаткаю, які саграваў мяне сваёю цеплынёю. Усю ноч сніліся мне афіцэры з іх пірагамі і цукрам.

Раніцай, калі я, па сваёй звычцы, зазірнуў на кухню, каб пажывіцца чым-небудзь, то ўбачыў Машу, якая падазвала да сябе і загадала ісці з ёю да аканома. З жахам падумаў я, што мяне зноў вядуць лупцаваць розгамі на страх яго нягоднаму сынку, каб баяўся і лепей паводзіў сябе, і захацелася тут жа ляцець стрымгалоў у вёску да добрых афіцэраў. Я горка расплакаўся, але Маша запэўніла мяне, што нічога кепскага не зробяць, і ■ неахвотна паплёўся за ёю, увесь ахоплены дрыготкаю страху. Мяне памылі, прычасалі ці, лепей сказаць, вышкраблі, нацягнулі чыстую бялізну, апранулі, прыкрылі нейкім каптанікам і павялі ў панскія пакоі. Я быў у такім стане, як авечка ў руках пастуха, якая трымціць, не ведаючы, ці стрыгчы яе стануць, ці рэзаць. Мяне пакінулі ў сенях і загадалі чакаць. Я вельмі здзіўляўся, што лакеі і хлопчыкі, якія праходзілі міма праз сені, не насміхаюцца і не здзекуюцца з мяне. Гэта надало мне смеласці, але калі дзверы з пакояў раптам адчыніліся і я ўбачыў пана і пані, паненак і панічоў, якія ішлі напрасткі да мяне, успамін аб забароне гаспадара набліжацца да дома, у якім ён жыў, адгукнуўся ў маёй памяці. Мароз прабег па маіх жылах, я затрымцеў, ускрыкнуў ад жаху і памкнуўся кулём кінуцца з сяней, але мяне спынілі. На шчасце, я прыкмеціў сярод прысутных афіцэра, кінуўся яму ў ногі і жаласліва залямантаваў:

— Не давай мяне лупцаваць, добры пан, я, далібог, ні ў чым не вінаваты!

— Бедны Сіротка! — заспакойваў мяне афіцэр. — Як ты зацюканы і напалоханы! Устань, дружа! Цябе не стануць сцябаць, а будуць карміць пірагамі.

Слова «пірагі» набыло магічнае ўздзеянне. Я ўстаў, абцёр рукавом слёзы і, аглядаючыся навокал, заўважыў, што пан моршчыўся і гладзіў вусы, пані адвярнулася, паненкі трымалі насоўкі ля вачэй, а панскія сынкі з-за плячэй мамусі высалаплялі языкі і рабілі грымасы.

— Пан Канчукоўскі! — звярнуўся гаспадар да аканома. — Гэтага хлопчыка я бяру ў пакоі і прызначаю англійскім жакеем[1] па просьбе маёй старшай дачкі, на яе палавіну. Пашліце па жыда, краўца, у мястэчка і скажыце яму апрануць падлетка па малюнку, які вам дасць дачка.

— Слухаюся, — адказаў аканом з нізкім паклонам.

— Хлопчык мне падабаецца, — важна падкрэсліў пан Галагардоўскі. — Дзіва, як я раней яго не заўважыў.

Жанчыны пачалі мяне гладзіць і песціць.

— Як яго завуць? — спытаў гаспадар у аканома, але той, як і я, не мог адказаць на гэта пытанне. Пасля доўгіх роспытаў выявілі, што даставілі мяне ў панскі двор пад імем Івана. З гэтых часоў сталі называць мяне Сіроткаю. І зрабіўся вядомым я ў доме як жакей Ванька Англічанін. Не я першы, не я апошні запазычыў назву і годнасць ад адзення.

(Далей расказваецца пра пана Галагардоўскага: калі Беларусь уваходзіла ў Рэч Паспалітую, ён усяляк ухваляў Расію і нават знаходзіў сваё паходжанне ад расійскага роду. Калі ж стаў жыхаром Расіі, то пачаў выводзіць свой род ад камергера караля Попеля[2], з'едзенага мышамі на возеры Гопле.)

Пан Галагардоўскі вельмі тужыў па тых благаслаўлёных часах, калі багаты магнат мог беспакарана прыгнятаць бедных шляхціцаў і, называючы іх братамі сваімі, роўнымі сабе, сцябаць бізунамі на падасланым кіліме ў знак адрознення ад мужыкоў, саджаць іх у дамашнюю турму і адбіраць маёнткі па выдуманых дамаганнях. Ён асабліва шкадаваў колішнія звычаі на сейміках, гэта значыць, на выбарах шляхецкіх. У даўніну багаты пан прывозіў з сабою на некалькіх драбінах бедных, але буйных і ўзброеных шляхцюкоў, прымушаў іх выбіраць сябе і сваіх прыяцеляў у розныя званні, біць і сячы праціўнікаў. Гэта называлася залатою вольнасцю.

Калі пан Галагардоўскі страціў такія важныя для яго перавагі над сваім братам — дробнаю шляхтаю, то абмежаваўся ўнутраным кіраваннем на старадаўні лад. Акрамя шматлюднай чэлядзі з прыгонных яго людзей у яго знаходзілася на паслугах многа шляхтуноў, якія думалі надаць высакароднасці свайму нізкаму званню ганаровымі тытуламі. Двор Галагардоўскага складзены быў акурат так, як некалі ў феадальных баронаў і старасвецкіх паноў. Галоўнымі служыцелямі двара выступалі: паверания, або пленіпатэнты па судовых справах, якіх набіралася добры тузін; камісар, або кіраўнік усяго маёнтка; аканом, або прыказчык; маршалак, які загадваў сталом і пакаёвымі служкамі; канюшы, які верхаводзіў канюхамі і стайнямі; кухмістар, разумеецца, начальнік над каструлямі, кухарамі і кухцікамі; ахмістрыня, ключніца або касталянка, якая кіравала служанкамі, бялізнаю і каморамі, дзе змяшчаліся цукеркі, кава, наліўкі, варэнне, гарэлка.

(Далей пералічваюцца капельмайстар, капелан, або дамашні святар, гувернёр і гувернантка, садоўнік і вольны камердынер — шляхціц, абраны паверанным у таемных справах, а пры пані знаходзілася пакаёўка, таксама з шляхецкага роду. У сям'і вылучалася Петранела, якая, як маці, зачытвалася любоўнымі раманамі і закахалася ў прыезджага афіцэра. Гэта яму аднёс ад яе запіску Сіротка. Афіцэр сватаўся да Петранелы, аднак бацька быў незадаволены выбарам дачкі. Яму трэба быў жаніх славутага роду. Ён не дае сваё блаславенне.)

Дзяўчыне ўзялася дапамагчы яе цётка. Калі бацька быў у найлепшым гуморы пасля пляшкі віна і смажаных курчат з салатай, яна прыступіла да яго, пачынаючы здалёку, з роздуму пра сямейнае шчасце, заснаванае на ўзаемным выбары сэрцаў. Пана ахапіла нецярплівасць і прыкрасць. Спярша ён падвоіў глыткі віна, потым пачырванеў, а нарэшце, калі асушыў пляшку, ашалеў і моцна ўдарыў кулаком па сталу, так, што ўся пасуда заскакала, і грозна ўскрыкнуў:

— Годзе!

Цётачка, аднак, не спужалася гэтай буры і спакойна ўдакладніла:

— Я не бачу, што магло б замінаць гэтаму шлюбу.

— Многае, вельмі многае, васпані, — запярэчыў гаспадар. — І вы не бачыце гэтага, бо ніколі не зазіралі ў мой фамільны архіў...

— Але хіба Мілавідзін не дваранін? — спыталася цётка. — Яго бацька і дзед былі ў генеральскіх чынах.

Пан Галагардоўскі горка ўсміхнуўся.

— Васпані, — сказаў ён, — раней за вас я разведаў радаслоўе Мілавідзіна — яго дваранства пачынаецца ад прадзеда.

— Няўжо гэтага мала? — спыталася цётка.

— Так мала, што меней быць нельга для саюзу з сям'ёй, якая лічыць сваё дваранства ад пяцідзесяці генерацый[3]...

— Але ў наш час усе дваране маюць адно права на ўшанаванне...

— Гэта вас не тычыцца, васпані. — Вы ж ведаеце даўнюю прымаўку: шляхціц на загродзе роўны ваяводзе...

— Выходзіць, Мілавідзін роўны вам.

— Ані, — запярэчыў пан Галагардоўскі. — Гэта значыць, што зраўняцца паміж сабой могуць толькі роўныя родам... Але і гэтага недастаткова, каб стаць маім зяцем: трэба і багацце, вялізнае багацце, для бляску злучаных сямей, а Мілавідзін гол як сакол.

(Калі дачка даведалася пра вынікі сватаўства, то, на здзіўленне Івана, не засмуцілася і працягвала весяліцца на бале, наладжаным з нагоды нараджэння маці.)

Амаль усе госці перапіліся да апошняй ступені, і пачаліся прызнанні ў дружбе паміж мужчынамі, абдымкі і абяцанні забыць усе звады і ўзаемныя крыўды. Пры славутым тосце «кахаймася» (kochamysia) госці пілі поўную чашу, стаялі адзін перад адным на каленях, абнімаючыся. Нарэшце звярнуліся да кабет і пачалі піць за здароўе кожнага з іх чаравікаў. Мужчына станавіўся на калені перад дамаю, здымаў [redacted] яе нагі чаравік, пасля таго цалаваў пачціва яе ў ногу і ў рукі, ставіў келіх у чаравік, а іншы раз і наліваў у яго віна, выпіваў і перадаваў другому. Раптам залп з дваццаці чатырох ружжаў і некалькіх фалканетаў патрывожыў гасцей. Усе кінуліся да вокнаў: угары пасярод двара гарэў вензель віноўніцы свята. Радаснае «віват» раздалося ў зале, заігралі туш, і вялікі кубак зноў з'явіўся на сцэну. Дзясяткі ракет узвіліся ў паветра, але ад няўмення ці ад промаху некалькі ракет лопнула на саламяным даху гумна, ён успыхнуў, і ўся будоўля загарэлася. Цяжка ўявіць перапалох, які ахапіў гасцей: п'яныя паны мітусіліся, усе загадвалі, слугі не ведалі, чые загады выконваць. Беглі на пажар хто з вядром, хто з сякерай, хто [redacted] рагацінай, але ніхто не здолеў падступіцца да полымя. Білі ў звон, паслалі за людзьмі ў сяло, але яны, здаецца, не вельмі спяшаліся дапамагчы свайму пану. Госці загадалі хутчэй запрагаць коней. Усё перавярнулся ўверх дном у доме — сумятня, беганіна, крык, шум...

Я з перапуду не ведаў, што рабіць, глядзеў на агонь, гатовы заплакаць. І тут з'явілася Маша:

— Іванка! Я цябе шукаю, ідзі за мною.

Мы пабеглі стрымгалоў праз усе пакоі ў спальню маёй паненкі. Маша надзела мне на галаву мой картуз з галуном, дала мне вузельчык і кардонку, накінула на сябе капот і загадала ісці за сабою. Мы прабеглі цераз сад, перапаўзлі праз разабраны паркан і апынуліся ў полі, каля гаю. (Селі ў брычку і памчаліся з усіх сіл, у цемры хлопчык чуў гарачы шэпат, але не мог разабраць слоў.

Калі развіднела, на сваё здзіўленне, убачыў ён паненку Петранелу, якая прыльнула да пляча свайго мілага друга.)

— Ці пазнаеш мяне, Іванка? — спытаўся Мілавідзін, усміхаючыся.

— Як не пазнаць добрага пана!

(Маладыя жылі ў шчасці, але неўзабаве Мілавідзін разарыўся, паехаў са сваім палком на новае месца прызначэння, а Івана пакінуў сцерагчы яго рэчы. Хлопчыка выкарыстоўваюць для паслуг спачатку Моўша, пад апеку якога пакінуў яго Мілавідзін, затым пан Скацінка, які ўзяў яго з сабою ў Маскву. У моднай лаўцы, куды паслалі малога за якімсьці таварам, да яго прыгледзелася прыгожая дама і спыталася, ці не мае ён шрама, выпаленага на плячы. Выявілася, што мае, і яна забрала хлопчыка да сябе, назвалася яго роднаю цёткаю. З яе дапамогай хлопец вывучыўся, набыў свецкія манеры, але быў уцягнуты ў мноства небяспечных авантур і прыгод. Калі вярнуўся ў Маскву, даведаўся, што яго цётка перахварэла на воспу, страціла былую прыгажосць і апынулася ў галечы. Жанчына адкрывае яму, што на самай справе яна — яго маці, і расказвае гісторыю свайго жыцця. Яна, былая сялянка, захапілася князем Міласлаўскім — ротмістрам, за якім паехала. Князь загінуў, сына ў яе выкралі. Іван Выжыгін забяспечыў сваю маці ўсім неабходным, зняў кватэру, але яна папрасіла адправіць яе ў манастыр.)

## УСПАМІНЫ

(урыўкі)

Нарадзіўся я ў былым Мінскім ваяводстве былога Вялікага Княства Літоўскага <...> ў маёнтку Перышава, якое належала маці маёй, у дзявоцтве — Бучынскай <...>. Маці маёнтак прадала з намерам ачысціцца ад даўгоў і пасяліцца ў Грыцэвічах Слуцкага павета, аддала капітал памешчыку Дашкевічу пад задатак у аплату працэнтаў па Макавішчах, дзе мы ў той час жылі, паблізу Глуска ў Бабруйскім павеце.

Аднаго разу раніцай увесну 1795 года прыбег аканом у пакоі з весткай — чуў гарматныя выстралы. Маці мая, дзве старшыя сястры і я з нянькаю пабеглі на гумно і, як параіў аканом, прылеглі, прыкладаючы вуха да зямлі. Пачулі выразныя ўдары і глухі падземны гул <...>.

Маці мая надзвычай спалохалася — так блізка вайна. Вырашана было: усяму сямейству ■ дарагімі рэчамі схавацца ў лесе, загнаць туды ўсю хатнюю жывёлу і паслаць нарачнага да бацькі, каб ён вярнуўся як мага хутчэй і прывёз з сабою задатак і ахоўную грамату ад рускага генерала <...>.

Маці мне потым расказвала, што ў лесе ўсю ноч яна не магла заснуць, хаця ў шалашы былі разасланы пухавікі, і што ўжо нацямку паслала чалавека дадому даведацца, што там робіцца. Пасля абеду, калі сонца пачало ўжо хавацца за высокімі дрэвамі, вярнуўся пасланец з карчмаром нашым Ёселем, які за сваю ўвішнасць і паслужлівасць меў вялікую ласку ў маці. Ёсель прыехаў верхам на кані і прывёз поўны мяшок прыпасаў, цукру, зялёнага чаю, без якога мая маці не магла абысціся, булак, свежага мяса і, як заўсёды, гасцінец мне — на гэты раз пернікаў. Ёсель паспеў пабываць у Глуску, куды перавёз усё сваё сямейства, і даведаўся ад губернатара, што рускіх чакаюць увечары або зранку. <...> Ёсель прабыў да ночы і паехаў назад, абяцаючы паведаміць бацьку пра наша становішча <...>.

На трэці дзень, у поўдзень, прыйшла ў наш бівак сялянка з чужога маёнтка, у якой маці мая вылечыла дзіця, і кінулася ў ногі, расказала, што яна чула, як суседнія мужыкі збіраюцца забіць нас усіх у лесе, каб завалодаць нашым дабром, думаючы, што мы маем пры сабе многа грошай і ўсялякіх дарагіх рэчаў. Можаце сабе ўявіць стан маёй маці, сясцёр і ўсёй нашай прыслугі. Мне таксама перадаўся страх, аднак жа папрасіў, каб далі ружжо абараніць маю маці. Яна ўсміхалася скрозь слёзы, прыціскаючы мяне да сэрца. Нарэшце, маці сабрала нараду з прыслугі і спытала, ці намераны абараняць паноў сваіх. «Да апошняй кроплі крыві!» — адказалі ўсе адзінагалосна і кінуліся цалаваць рукі і ногі маёй мамулькі і сясцёр. Стралец Сямён узяў мяне на рукі і сказаў, што не выдасць мяне, хаця б яго разадралі на часткі. З намі было дзевяць моцных маладых людзей, умелых стралкоў. Няма сумненняў, што і двайная колькасць разбойнікаў не адолела б іх <...>.

<...> Бацька мой выгнаў са службы шляхціца за дурныя паводзіны і, здаецца, за крадзеж. Той асядлаў каня і падаўся ў рухаўку — конную міліцыю, якая фарміравалася ў Навагрудку. Быў ён ці не быў на вайне, але пасля паражэння Касцюшкі вярнуўся на радзіму з грашыма, прамотваў іх па корчмах з такімі ж, як ён, негадзіўцамі і гразіўся помстай майму бацьку, што нам было вядома. Гэты чалавек, калі даведаўся, што наша сям'я перахоўваецца ў лесе, узнамерыўся нас абрабаваць і, верагодна, перабіць. Смыкаючыся па корчмах, падгаварыў ён на гэты подзвіг некалькі п'яных шляхціцаў і распусных мужыкоў, пераконваючы тых, што рускія, калі забяруць край, не стануць абараняць паноў, з якімі ваююць.

Кандрат, найбольш спрактыкаваны ў ваенных справах, прапанаваў скласці ўмацаванне з зямлі і сукоў, засесці ў ім, закрываючы звыш таго маці і сясцёр пухавікамі. Іншыя раілі вярнуцца дамоў як мага хутчэй, што і маці здавалася найлепш, але яе стрымліваў страх ад сустрэчы з рускімі. Невядома што расказвалі тады пра рускіх <...>. У Варшаве яшчэ дымілася, і ад аднаго імені Суворава кідала ў ліхаманку. Я спаў спакойна, але ніхто з дарослых не змыкаў вачэй, агнёў не разводзілі, і два стральца з зараджанымі ружжамі расхаджвалі вакол паляны. На золку маці загадала ўючыць коней, і мы пусціліся ў зваротны шлях. Быў намер наблізіцца да ўзлесся і там разведаць, што да чаго. Шлі паціху і праз гадзіны дзве ў авангардзе, які складаўся з Кандрата і Сямёна, раптам пачулі шум і гамонку. Маці потым расказвала, што ногі ў яе падкасіліся, у вачах пацямнела, і яна спярша прысела на зламанае дрэва, а потым страціла прытомнасць. Яна баялася перадусім за дзяцей сваіх! Мяне аднеслі ў бок, а сёстры, самі ледзьве жывыя, кінуліся да мамачкі. Панна Клара ад страху амаль сышла з глузду і крычала што ёсць сілы. І тут пачуўся гучны і выразны голас Сямёна: «Не бойцеся! Гэта добрыя людзі!». Скрозь гушчу леса нельга было, аднак, нічога і нікога бачыць. Маці апрытомнела, але была настолькі слабай, што не магла прыўстаць з месца. Словы Сямёна ажывілі ўсіх, але не надоўга. Раптам з-за кустоў між дрэвамі мільганулі рускія грэнадзёрскія шапкі і мундзіры. Усе жанчыны, як курыцы пры з'яўленні каршуна, збіліся ў купу і кінуліся на калені вакол маці, якая сядзела на абрынутым дрэве, схіляючыся на калені маёй нянькі.

Жанчыны не адважваліся ўзняць вачэй і былі як паўмёртвыя, і толькі адна панна Клара працягвала лямантаваць: «О, Божа мой, злітуйся!» — і пачынала гучна пералічваць усіх святых, якія прыходзілі ёй на памяць. Хвіліна была жахлівай і вырашальнай: на сцежцы з'явіўся карчмар Ёсель, а з ім Сямён і Кандрат. «Не бойцеся, нічога не бойцеся, пані! — крычаў Ёсель, махаючы рукамі. — Гэта добрыя маскалі, я сам прывёў іх сюды, каб выратаваць вас. Не бойцеся, і пана чакаюць сёння ў Глуск, увечары, мабыць, вернецца дадому». Маці мая ажыла, з ёю і ўсе іншыя. Сёстры мае ад радасці сталі абдымаць і цалаваць Ёселя, а панну Клару ахапілі страшныя спазмы: яна смяялася і плакала. Ёсель пацалаваў руку ў мамулькі і потым у мяне, выняў з кішэні пернік і падаў мне, як і ў ранейшыя часы. Слёзы пырснулі з вачэй маці. «Ёсель! — сказала яна. — Гэтага перніка праз усё жыццё сваё не забуду».

<...> З'явіўся капітан, малады чалавек, вельмі прыгожы сабою, у светлазялёным мундзіры з чырвонымі адваротамі, у чырвоных штанах, у фарсістай грэнадзёрскай шапцы. Ніколі не забуду я ні твару яго, ні голасу, ні імя. Гэта быў капітан Паліцын. Ён падышоў да маёй маці, заспакоіў яе, выявіў жаль, што яна трапіла ў такую небяспеку, запэўніў, што нікому, нават апошняму вяскоўцу, салдаты яго палка не зробяць ніякай крыўды, потым, звяртаючыся да сясцёр, паведаміў з усмешкаю, што ён збярог іх ноты, фартэпіяна і гітары, пакоі пакінуў незанятымі, нарэшце ўзяў мяне на рукі, пацалаваў і спытаўся, ці хачу з ім пасябраваць. Разумеючы, што яго з'яўленне ўсіх заспакоіла, я моцна абняў яго за шыю і сардэчна расцалаваў, адказваючы, што хачу быць яго сябрам, калі ён нікога з нас не заб'е. «Я, дружок, толькі тады забіваю, калі на мяне нападаюць, і абараняю тых, каму патрэбна мая дапамога». Гэта было сказана не столькі для мяне, колькі для ўсіх.

«Дадому яшчэ далёка, — сказаў капітан дамам, — і вы не дойдзеце пешкі. Прашу пакорліва пачакаць, я памагу справе», — і капітан пасадзіў мяне на калені мамусі, аддаліўся, выклікаючы ва ўсіх недаўменне і здзіўленне. Тады так баяліся рускіх, што маці мая сказала: «На шчасце наша, гэта або паляк, або ліфляндзец, або курляндзец». Зрэшты капітан Паліцын няблага размаўляў па-польску, бо правёў доўгі час у Польшчы і, як потым расказваў, меў шчырых прыяцеляў паміж палякамі.

Праз паўгадзіны капітан вярнуўся. За ім шаснаццаць грэнадзёраў неслі чатыры насілкі, на скорую руку выробленыя з сукоў. Капітан папрасіў дам (у тым ліку і панну Клару, якая была хворай ад перапуду) заняць месцы на насілках. Спярша маці і сёстры аднекваліся, але нарэшце згадзіліся. Мяне ўзяў на рукі сажнёвага росту грэнадзёр з даўжэзнымі вусамі, і па камандзе капітана шэсце рушыла. «Песеннікі, наперад!» — скамандаваў капітан, і некалькі песеннікаў вылучылася з атрада. Астатнія салдаты, па аднаму, ішлі за нашым абозам. Упершыню тады я ўбачыў рускі хор і пачуў рускія песні, некаторыя з іх я пасля часта слухаў, і яны засталіся ў маёй памяці.

(Да бацькоў аўтара ўспамінаў штодня прыязджаў у госці граф Ферзен — рускі генерал, які ваяваў з Касцюшкам.) І ён сам, і суразмоўцы яго, і ад'ютанты, і на-

ват прыслуга забаўляліся мною, таму што я быў жвавы і гарэзлівы, пацяшаў ўсіх сваім дзіцячым свавольствам і непасрэднасцю. Аднойчы, калі я дражніў яго папугая малым ятаганам, граф, знаходзячыся ў добрым гуморы, спытаў: «Што табе больш падабаецца — папугай ці шабля? Што з іх падарыць?». Папугай мне надзвычай падабаўся, але я папрасіў: «Дай шаблю!» — «Навошта яна табе?» — «Біць усіх, каго дзядзя Касцюшка загадае», — адказаў я. Зразумела, гаварыў я, як папугай, з якім гуляў, гэта значыць, паўтараў тое, чаго наслухаўся дома. «А хіба ты не ведаеш, што ў цябе ёсць кароль, — хітра ўсміхаючыся, пытаў генерал, — і што ты павінен слухаць яго, а не Касцюшку?» Я адказаў ходкай тады і зацверджанай мною прымаўкай: «Кароль Панятоўскі — дурань з ласкі Боскай». Ферзен і ўсе прысутныя разрагаталіся, і граф сказаў: «Вазьмі гэту шаблю, я дару яе табе, ■ папугая занясі ад мяне мамачцы». Я кінуўся да графа, ускочыў яму на калені, стаў абдымаць і цалаваць, запэцкаўся ўвесь пудрай і заявіў: «Цябе не заб'ю, нават калі б дзядзя Касцюшка загадаў!» — «Ну, дзякуй табе, дружок, вялікі дзякуй!» — адказаў граф, смеючыся. А я тут жа пабег, каб пахваліцца сваёй шабляю перад усімі, а па дарозе не ўтрымаўся і секануў ёю па ілбу мармуровага сатыра, які стаяў у нішы і карыкатурна высалапіў язык. Са мною быў мой дзядзька, які аб усім, што адбылося, расказаў маці, і яна вельмі спалохалася, каб генерал не падумаў, што мы непрыхільна ставімся да новага парадку рэчаў. Калі пазней маці паспрабавала змякчыць уражанне ад майго дураслівага ўчынку, граф удакладніў: «Няўжо вы лічыце, што пасля таго, што тут здарылася, наш урад стане ад вас вымагаць раптоўнай любві і вернасці? Наша вялікая манархіня здзяйсняе справы вячыстыя, і што вякамі рассыпалася, то вякамі і злучыцца. Тут была калісьці Русь — і яна ўзновіцца з цягам часу. Мы патрабуем толькі, каб вы былі спакойнымі і не замахваліся на немагчымае, для вашага ж уласнага дабра. Ёсць руская прыказка: «сіла і салому ломіць», не забывайце яе...».

(Толькі праз дванаццаць гадоў удалося адсудзіць маёнтак, перададзены мясцовымі ўладамі пану Дашкевічу. Адвакат ■ Мінска прапанаваў скласці спісак рэчаў, якія павінны быць вернуты. У спіску яго здзівіў і ўразіў гарнец жэмчугу. Маці растлумачыла, што ён быў дадзены ёй у пасаг пры другім яе замужжы.)

Бацька мой надзеў шапку і выйшаў са мною на ганак. Ён глядзеў угару і пасвістваў, а гэта значыла, што яму прыкра было...

Калі прабабка даведалася аб гэтым гарцы жэмчугу, то цвёрда заявіла: «Калі б з дому Бучынскіх дадзены быў і цэлы карэц жэмчугу, то я б зусім не здзівілася, бо дом гэты заўсёды славіўся багаццем і парадкам, а што Ажэля (імя маёй маці) не сказала аб гэтым майму пану Венядыкту, за гэта ўхваляю. Ведаю добра яго дэвіз: «дзень мой — век мой, сёння жыць, а заўтра гніць». На самай справе бацька мой паўтараў гэта, калі яго папракалі ў залішняй шчодрасці і хлебасольстве.

Пражылі мы ў Русінавічах некалькі дзён і адправіліся ў Мінск. Прабабка дала маёй маці скураны мяшочак са ста чырвонцамі, сястры падарыла дзесяць чырвонцаў, а мне адзін, на цукеркі. Бацьку майго толькі пагладзіла па галаве і сказала: «Жыві сціпла!». Калі мы ўселіся ў каляску, бацька намацаў пад нагамі мяшок, набіты грашыма, на ім значылася: «500 рублёў».

Мае бацькі не маглі надзівіцца шчодрасці прабабкі: яна вельмі рэдка дарыла грошы сваякам, і падарунак яе ніколі не перавышаў ста польскіх злотых. Але калі ўбачыла нас у няшчасным становішчы, то адступіла ад свайго правіла. (Бацька застаўся ў Мінску лячыцца, а маці з дзецьмі паехала ў Беларусь, у Аршанскі павет, да сваякоў. Заходнюю частку цяперашняй Беларусі называлі тады Літвой.)

### Каментарыі

**«Іван Выжыгін».** Урыўкі з рамана друкаваліся з 1825 г. у «Северном архиве». Асобным выданнем выйшаў у 1829 г. у Пецярбургу. Змешчаны ў апошнім прыжыццёвым выд.: Булгарин Ф. В. Полн. собр. соч. — Спб., 1839. — Т. 1. Пераклад з рускай мовы І. Шпакоўскага паводле выд.: Булгарын Ф. Выбранае. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 2003.

[1] Жакеем называлі хлопчыка, апранутага паводле тагачаснай англійскай моды, які выконваў дробныя даручэнні.

[2] Паводле польскай легенды Попель — мясцовы князь, якога за кепскае кіраўніцтва выгналі з уласнага замка. Каля возера Гопля ў «Мышынай вежы» ён быў загрызены мышамі.

[3] ...генерацый — маецца на ўвазе пакаленняў.

**«Успаміны».** Друкуецца ў перакладзе з рускай мовы І. Шпакоўскага паводле выд.: Булгарын Ф. Выбранае. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 2003.

# ГЕНРЫК РЖАВУСКІ
# (1791—1866)



Генрык Ржавускі, граф герба Крыўда, нарадзіўся на Валыні, дзе яго бацька набыў маёнткі Паграбішчы і Цуднаў.

Радзімай жа яго продкаў была Беларусь. Тут, у Вялікім Княстве Літоўскім, Ржавускія мелі высокія дзяржаўныя пасады. З беларускай зямлёй мелі кроўныя повязі і бацькі пісьменніка. Яго бацька Адам Ваўжынец Ржавускі быў сынам «літвінаў» Станіслава Ржавускага і Кацярыны з роду Радзівілаў (дачка пісьменніцы Францішкі Уршулі, сястра славутага Караля Станіслава Пане Каханку). У ВКЛ ён таксама займаў высокія пасады. Быў паслом на сейме ад Наваградскага ваяводства, віцебскім кашталянам. Маці Генрыка Юстына паходзіла з роду Рдултоўскіх, таксама не бедных беларускіх магнатаў, што мелі вялікія зямельныя ўладанні на Міншчыне, сярод якіх было мястэчка Сноў, дзе яны пабудавалі палац на 100 пакояў (ён шчасліва захаваўся да нашых дзён). Тут, у Мінскай губерні, у адным з маёнткаў Рдултоўскіх — Валамечцах, пад апекай бабулі Марыяны Рдултоўскай і правёў Г. Ржавускі свае дзіцячыя гады, якія, як ён сам прызнаваўся, засталіся ў памяці «на ўсё жыццё».

Г. Ржавускі быў перакананым «літвінам», гэта значыць беларусам. У сваіх «Успамінах» ён пісаў: «І хаця лёс прымусіў мяне пасяліцца далёка ад святой Літвы, у душы ніколі не пераставаў адчуваць, што я літвін». Звяртаючыся да нашчадкаў, ён і іх просіць, каб яны лічылі яго «літвінскім», а не якім іншым пісьменнікам: «Маё разумовае жыццё збудзілася ў Літве, і калі б хто не лічыў мяне літвінам, той мяне пакрыўдзіў бы. Калі у творах, апублікаваных у мае сталыя гады, ёсць нешта такое, што наступныя пакаленні хацелі б захаваць, няхай яны прымуць маю творчасць, як плён той любові, якой я не пераставаў палаць дзеля дарагой Літвы. Большая частка сцэн у маіх раманах адбываецца ў Літве, мае героі часцей за ўсё літвіны. Ведаю пра тое, што нашчадкі не заўважаць мяне або хутка забудуць, але калі б я быў другім Гамерам, калі б прадчуваў, што калі-небудзь гарады пачнуць спрачацца, жадаючы мець мяне сваім грамадзянінам, тады я смялей гукнуў бы літвінам, просячы іх не дазволіць, каб па маёй смерці нейкая іншая зямля пераконвала іх, што я не з'яўляюся дзіцём Літвы».

У сям'і Ржавускіх панавала любоў да літаратуры. Генрыкаў бацька, пэўна, пад уплывам сваёй маці Францішкі Уршулі забаўляўся ў юнацтве вершаскладаннем. У сталыя гады яго больш турбавала доля роднай Беларусі ў часы заняпаду Рэчы Паспалітай.

У 1782 г. Адам Ржавускі здаў у друк кнігу «Думкі над Літоўскім статутам», але яго дзядзька Кароль Станіслаў Пане Каханку, даведаўшыся пра негатыўную ацэнку там уніі Польшчы з Літвой, загадаў забраць кнігу з друкарні і спаліць. У сям'і Ржавускіх засталіся толькі

два яе экзэмпляры. Другая яго кніга выйшла пад назвай «Думкі пра рэформу рэспубліканскага кіравання» (1790).

Захапляліся літаратурай і самімі літаратарамі таксама і Генрыкавы сёстры. Так, адна з іх — Караліна, па першым мужу Сабанская, — стала каханкай ажно двух літаратурных геніяў — Аляксандра Пушкіна і Адама Міцкевіча, а другая — Эваліна Ганская — завалодала нават сэрцам французскага класіка Анарэ дэ Бальзака і стала яго жонкай. Праз сваіх авантурных сясцёр пазнаўся з многімі літаратарамі і Генрык, у тым ліку са шваграм Бальзакам.

З дзяцінства ад бацькі, ад маці, ад сваёй бабулі Рдултоўскай, ад іншых родзічаў вельмі многа цікавага наслухаўся Генрык пра сваю радню, асабліва пра сваякоў Радзівілаў, Рдултоўскіх, Ржавускіх, пра ўсю беларускую магнатэрыю і дробную засцянковую шляхту. Гэтыя жывыя гавэнды ён любіў пераказваць сябрам і знаёмым, у тым ліку літаратарам.

Да запісвання на паперу гэтых авантурных сюжэтаў вельмі заахвоціў Г. Ржавускага А. Міцкевіч, з якім ён пазнаёміўся ў 1825 г. у час падарожжа па Крыме. Потым яны сустракаліся ў Пецярбургу і Рызе. Г. Ржавускі ў 1839—1841 гг. ананімна выдаў у Парыжы свае творы ў чатырох тамах пад агульнай назвай «Успаміны яснавяльможнага пана Севярына Сапліцы, парнаўскага чэсніка». У 1844 г. кніга, зноў жа ананімна, выйшла паўторна пад крыху змененай назвай «Успаміны старога літоўскага шляхціца». Аўтар праўдзіва, у жывых, нявыдуманых вобразах раскрыў у кнізе цэлую эпоху жыцця вышэйшых грамадскіх колаў Беларусі канца XVIII ст., паказаў згубную для дзяржавы шляхецкую анархію.

Яшчэ да апублікавання гавэнды Генрыка Ржавускага, пачутыя з вуснаў аўтара, навялі Адама Міцкевіча на стварэнне ўласнага твора з жыцця беларускай шляхты — паэмы «Пан Тадэвуш». Міцкевіч узяў нават імя таго ж Сапліцы для аднаго з галоўных герояў сваёй знакамітай паэмы, а заадно і назву сядзібы, дзе разгортваецца дзеянне, — Сапліцова.

Другім значным творам Г. Ржавускага стаў гістарычны раман «Лістапад» (1845), у якім таксама было паказана жыццё беларускага грамадства ў другой палове XVIII ст. Пэўную цікавасць уяўляюць і іншыя раманы пісьменніка — «Кракаўскі замак» (1847—1648) і «Адам Смігельскі» (1651).

У 1840-х гадах Г. Ржавускі супрацоўнічаў з рэдакцыяй газеты «Tygodnik Petersburski», створанай выхадцамі з Беларусі, што асталяваліся ў Пецярбургу. Там ён зблізіўся з беларускімі літаратарамі, уваходзіў у іх гурток.

Апошнія гады жыцця Г. Ржавускі правёў у бацькоўскім маёнтку ў Цуднаве. Тут ён даў прытулак і пецярбургскаму сябру — выдатнаму беларускаму паэту і празаіку, тады ўжо безнадзейна хвораму Яну Баршчэўскаму, які там і закончыў свой жыццёвы шлях у 1851 г.

*К. Цвірка*

## УСПАМІНЫ САПЛІЦЫ.

### Князь Радзівіл Пане Каханку

(скарочана)

Для Наваградка 1781 год быў асабліва памятны; якраз тады склікаўся спецыяльны сеймік, больш за чатыры тысячы прадстаўнікоў шляхты з'ехаліся на выбары земскага пісара. Пасля смерці Марціна Данейкі віленскі князь ваявода прапанаваў на пасаду пісара Міхала Рэйтана, брата таго самага сла-

вутага Тадэвуша Рэйтана, кіруючыся не толькі тым, што ён паходзіў са знатнага роду, але і ягонымі асабістымі заслугамі і тым, што ён карыстаўся ў ваяводстве ўсеагульнай любоўю; у нас на выбарах заўсёды бывала аднадумства, таму і на гэты раз ніхто не думаў, што хтосьці іншы будзе саперніча ць у барацьбе за тую пасаду. Але ўсё павярнулася па-іншаму. Ваяводу Несялоўскаму[1] і наваградскаму кашталяну (амаль што ваяводу) Яленскаму не падабалася, што яны не мелі на сейміках свайго ваяводства ніякага ўплыву, і для таго, каб што-кольвечы зладзіць са шляхтай, трэба было кожны раз кланяцца князю ваяводу Радзівілу. Дарэмна ваявода некалькі разоў спрабаваў паддобрыцца да шляхты, яна заўжды сцяной стаяла за Радзівіла. Прыхільнікі ваяводы і ён сам, хочаш не хочаш, таксама былі вымушаны лічыцца з Радзівіламі, а Рэйтаны са сваімі сваякамі задавалі тон у партыі прыхільнікаў Радзівіла, служылі яму. Несялоўскі задумаў аслабіць іх уплыў і падгаварыў Казіміра Гарабурду, мужа роднай сястры Рэйтана, нашчадка колішняга славутага смаленскага ваяводы, каб ён прапанаваў на пасаду пісара сябе. Якраз атрымалася так, што на карысць Казіміра Гарабурды аказалася здарэнне, якое павялічыла шэрагі ягоных прыхільнікаў і ў той жа час нарабіла князю ваяводу нямала шкоды. Гэта была сутычка віленскага князя ваяводы з вяльможным панам Трызнам, наваградскім падчашым, яна абурыла нават некаторых верных прыяцеляў Радзівіла, што змагла добра скарыстаць партыя ягоных праціўнікаў. Трызна быў небагатым шляхціцам, апошнім нашчадкам старадаўняга роду, які быў нават у нейкай далёкай радні з Радзівіламі. Ва ўсякім разе, ніхто іншы, як адна з роду Трызнаў, некалі прынесла Радзівілам з пасагам Налібокі, ды і большая частка фундацый на пабудову Жыровіцкага манастыра была ад Трызны, продка падчашага. У архіве Жыровічаў ёсць запіс пра гэтага вядомага чалавека: «Хто не прызнае, што пан Трызна быў набожны пан...» і г. д.

Дык вось, пан падчашы, акрамя закладной на радзівілаўскае Калдычова, нічога не меў, заклад быў вельмі невялікі, але нехта іншы мог і з яго ўзбіцца на большы маёнтак, толькі ў пана Трызны злотыя доўга не залежваліся, як кажуць, Мацэк зарабіў — Мацэк з'еў, а часам нават больш з'еў, чым зарабіў. Ён быў прыстойным чалавекам: вясёлым, красамоўным, але часам запальчывым. І вось аднойчы, якраз у час жніва, князь ваявода, не папярэдзіўшы яго, нібы гром з яснага неба на чале вялікай світы прыехаў паляваць у Калдычоўскія лясы. Пан Трызна ў гэты дзень распарадзіўся праз свайго падстарасту, каб сяляне пачалі жаць, і сам сабраўся выехаць у поле, як раптам да яго з'явіліся даездчыкі князя з загадам паслаць аблаву ў лес. Гэта былі людзі простыя і досыць бесталковыя, яны надта бесцырымонна абышліся з ім і тым угнявілі. Трызна адмовіўся паслаць сваіх людзей у аблаву, накрычаў на наглядчыкаў і яшчэ меў неасцярожнасць дадаць, паводле іх слоў, што толькі шалёныя ездзяць паляваць у час жніва. Даездчыкі вярнуліся, пераказалі ягоныя словы прыдворным, дайшло да княжацкага сакратара Мікуця, а ён быў злы на Трызну за тое, што некалі, сватаючыся да ягонай дачкі, атрымаў гарбуза, а таму папомсціўся, пераказаўшы тыя словы князю. Радзівіл як пачуў іх, то, як потым мне пераказвалі, некалькі хвілін маўчаў,

нібы яму адняло мову, а потым пачаў так крычаць, што аж затрэсліся Калдычоўскія лясы, і ў гневе загадаў адабраць у Трызны заклад, а яго самога выгнаць з маёнтка, што тут жа было з жорсткасцю зроблена, і пан Трызна, баючыся за сваю скуру, уцёк у чым быў. Шчасце яшчэ, што жонка з дачкой паехалі ў гэты час у Пінск на свята ў гонар мясцовага святога, езуіцкага ксяндза Андрэя Баболі, і што ён сам якраз пехатой пайшоў у бок суседняй вёскі Пацыны і ўжо адтуль на вазку дабраўся да Навагрудка. Там ён падаў скаргу ў гродскі суд, а таксама іск па справе аб прымусовым выгнанні з маёнтка.

Калі справа пачала разглядацца ў судзе, я мусіў адмежавацца ад князя, прыйшоў да падчашага і са слязамі прасіў дараваць мне, бо я па абавязку буду змушаны абараняць інтарэсы князя; я разумеў, што трапіў у брыдкае становішча. Але што паробіш? Чый хлеб ем, таго і абараняць павінен. Падчашы не затаіў на мяне зла і, калі ўсё скончылася, не перастаў сябраваць са мной, больш за тое, стаў паважаць мяне яшчэ больш, бо зразумеў, чаго каштавала мне гэтая гісторыя...

Дык вось, пан Міхал, які хацеў, як і ўсе, каб хутчэй вырашылася справа з Трызнам (уся шляхта была зацікаўлена ў гэтым), але сам баяўся прама загаварыць пра тое з князем, ■ таму падгаварыў айца Ідзі (якога князь кожны раз перад сном доўга распытваў пра чысцец, якія там чыняцца пакуты і як адтуль хутчэй выбавіцца, пра што айцец, як умеў, тлумачыў яму), каб той напомніў яму пра справу Трызны, адумаўся і вырашыў яе па справядлівасці. Айцец Ідзі адгукнуўся на гэтую просьбу, ды так заўзята, потым мне шатны Бургельскі пераказаў іх размову, сведкам якой ён аказаўся. Вось як яно было. Ужо як памаліліся і ляглі спаць, нейкі час панавала маўчанне, потым князь загаварыў:

— Айцец Ідзі, ці чуеце вы, як бурчыць мая Непта? Напэўна, то нябожчык Валадковіч[2] хоча праведаць мяне.

Рэйтан перахрысціўся і прамовіў:

— Што такое здаецца вашай княжацкай мосці? Гэта нейкія людзі швэндаюцца па панадворку, вось Непта і бурчыць, пры чым тут Валадковіч?

— А ты памаўчы, пане каханку, я не да цябе звяртаюся, а да айца Ідзі. Калі ты ўмееш іграць у карты, гэта яшчэ не азначае, што ты мудрэц. Айцец Ідзі, гэта праўда, што душы часам выходзяць з чысткі, каб папрасіць паратунку ў родных і сяброў? Мне здаецца, каб спрачацца з гэтым, трэба быць біскупам Масальскім або Марцінам Лютэрам[3].

— Так яно і ёсць, ваша княжацкая мосць. Бывае такое, бывае.

— Чуеш, пане Міхале? Як усё ж добра спаць побач з тэолагам, ён і растлумачыць, і супакоіць. Мой ойча, нябожчык Валадковіч, мне заўжды стаіць уваччу. Што гэта быў за сябра! Каб я мог уваскрасіць яго, то аддаў бы ўсё, што ў мяне ёсць, а сам уступіў бы ў брацтва бернардзінцаў. Яшчэ пры яго жыцці я п'яны наехаў на Пятра Котвіца і падпаліў ягоны дом. Котвіц вымаляваў на мяне скаргу і патрабаваў тры тысячы і прасіў паведаміць мне, што як я не выплачу гэтыя тры тысячы, то ён пацягне мяне ў суд. А я тады быў, лічы, голы, бо мой нябожчык бацька быў скупы і да таго ж строгі — аднойчы ён пагражаў даць мне пяцьдзясят бізуноў, хаця я тады быў ужо

літоўскім мечнікам і самастойным гаспадаром, а за такі ўчынак ён бы мяне забіў, абы толькі даведаўся. Што мне заставалася рабіць? І вось мой Валадковіч аддаў у заклад два свае фальваркі, абы толькі ўлагодзіць таго Котвіца (было чуваць, як князь заўздыхаў). І хіба аднойчы ён вось так мяне ўратаваў? Неяк ён кажа мне (нібы прадчуваў, што нядоўга нам быць разам): «Князь Караль, ты будзеш жыць даўжэй, чым я, калі перажывеш мяне, памятай пра маю душу». І вось тады, калі партыя, у якой верхаводзіў гэты злыдзень у інфуле[4], гэты крывадушнік Масальскі, здрадай і хітрасцю захапіла Валадковіча, і праз тры гадзіны ён быў расстраляны тут, у Наваградку, я прыехаў у той жа вечар, але было позна. Тады я прысягнуў адпомсціць за яго кроў вашаму біскупу і падаўся ў Вільню, я быў гатовы павесіць яго на першай сасне за горадам, а потым паехаць у Рым прасіць за гэта прабачэння ў Папы і паабяцаць яму пайсці пілігрымам у Святую зямлю. Але ноччу ў Вільні мне першы раз у сне з'явіўся Валадковіч і папрасіў мяне за біскупа, сказаў, што яму будзе там яшчэ горш, калі я павешу таго нягодніка. Айцец Ідзі, гэта праўда, што Валадковіч яшчэ ў чыстцы?

— Ваша княжацкая мосць, а хто ж можа ўнікнуць Божага суда? Ён і справядлівы, і літасцівы. Вядома, што пасля таго, як душа развітаецца з целам, Бог пасылае яе ў адпаведнасці з заслугамі або ў рай, або ў чыстку, або (хай ратуе нас ад такога Яго літасць!) у пекла.

— Валадковіч у пекла не трапіць, пане каханку! Дай Бог усім нам быць такімі набожнымі каталікамі, як ён! На сваім жыцці ён трох папоў павярнуў да уніі, а чацвёрты, упарты, памёр пад бізунамі! Так ужо здарылася, што гэтая паганая слуцка-торунская канфедэрацыя, нібы яе чорт пакусаў, выtargавала прывілеі для дысідэнтаў, праз якія цяпер я, першы сенатар літоўскай правінцыі, не магу паслужыць Богу, хоць сем гадоў са зброяй у руках супраціўляюся гэтаму блюзнерству. Толькі нам не шчасціла. Таго, што я рабіў дзеля спакою душы Валадковіча, ойча, хапіла б, каб выбавіць з чысткі не адну ягоную, а ўсе душы, якія там ёсць. Дзеля ягонай душы я ў Малдавіі[5] зграбаў трупы памерлых ад чумы, а ў дзень ягонай смерці заўжды пашчуся. Ваўкавыскім дамініканцам, у якіх каля касцёла пахаваны Валадковічы, я падараваў вёску, а што да паніхідаў, малебнаў, падарункаў, лампад, то тут маіх ахвяраванняў не злічыць і пан Міхал Рэйтан, хоць ён і вялікі знаўца па рахунках! І тым не менш ягоная душа не перастае прыходзіць да мяне. Мая Непта добра ведае яго і, і як толькі ён падыходзіць, тут жа адклікаецца, хоць яна ўсяго толькі звер, але ж некалі яе маці Валадковіч падараваў мне на імяніны. Ойча Ідзі, дай ты гэтаму рады, а я аддзячу тым, што пакрыю ваш кляштар гданьскай чарапіцай.

— Няхай Бог заплаціць вашай княжацкай мосці за вашы клопаты пра нас, Дзева Марыя і Святы Францыск радуюцца кожнаму вашаму дарунку. А што да памяці нябожчыка Валадковіча, то хай ваша мосць дарue каму-небудзь учыненае ў гневе, напрыклад, падасць руку таму, каго абразіў, і тым самым вызваліць душу свайго сябра.

— Ты, ойча, загаварыў са мной на мове ксяндза Кантэмбрынка, які ўвесь час папракае мяне дрэннымі ўчынкамі. Вось і на мінулым тыдні такое было.

Па віне псяра Гжэся здохла мая лепшая харціца Вятроўка; я загадаў закаваць яго ў ланцугі, хаця па справядлівасці трэба было злупіць з яго скуру. А ксёндз Кантэмбрынк як пачаў вычытваць мне псалмы са Святога пісьма, і страшыць, і прасіць (і хто гэта мне сказаў, што ён вялікі тэолаг?), а я хоць і паабяцаў: «Не адпушчуся, бо я — Радзівіл», але ён мне так надакучыў, што загадаў выпусціць таго Гжэся без пакарання. Ды ўсё ж я добра аблаяў ксяндза, ён бы рады быў, каб у мяне ва ўласным доме беспакарана абы-што вытваралі. Дык і ты захацеў пайсці па ягоным шляху? Няўжо мы такія ж шэльмы, як езуіты? Ты хаця не скажы гэтага ксяндзу Кантэмбрынку. На шчасце, мая душа спакойная, зла ні на кога я не трымаю.

— Я б вам падказаў, але не адважваюся.

— Кажы смела, кажы смела, айцец Ідзі, кожны стаіць за сваю веру, да таго ж я ў вас у гасцях: гэта мне трэба дбаць пра вашу ласку, а не вам пра маю, вось прагоніце вы мяне і кляштара, дзе я тады буду начаваць?

— Калі вы мне дазволіце такую смеласць, то нагадаю вам, ці не ўспомніце вы, што кагосьці пакрыўдзілі.

— Я, пане каханку, нікога не пакрыўдзіў. Гэта мяне ўсе крыўдзяць, а я ім дарую. Я, пане, яшчэ нікога не зачапіў, хаця вось, напрыклад, гэтая вялікапольская малпа, гэты Кашуба Сікорскі, называе мяне ў Варшаве літоўскім мядзведзем, але я яшчэ пакажу яму, дзе ракі зімуюць, калі ён прыедзе ў Гродна на сейм. Ды гэта да вас, айцец Ідзі, і не адносіцца, бо ён жа вялікапольскі бернардзінец. А каго й пакрыўдзіў у Літве? Я пакорлівы, як дзіцянё, пане каханку. Ксёндз Кантэмбрынк пастаянна папікае мяне з амбона, за тое я на яго ніколі не крыўдую. А хіба мала розных жарцікаў дазваляе сабе пан Леан Бароўскі? А пан Ежы Белапятровіч мала лез у мае справы? А пан філасаф, які тут спіць, Міхал Рэйтан, мала выбіў у Налібоках маіх мядзведзяў і вылавіў баброў у Лахве? А я маўчу, спадзяюся на Бога. Ні на кога не маю злосці, ні на кога, гэта мяне ўсе крыўдзяць, а я — нікога. Ты, айцец Ідзі, хацеў мяне на нечым падлавіць, але не здолеў. Слухай, ці спадабаўся табе мой літы пояс[6], які ўчора быў на мне, з яго мог бы атрымацца такі арнат[7], якога няма нават у Вільні ў кафедральнай рызніцы; калі ты мне давядзеш, што я некага ў Літве пакрыўдзіў, то я аддам яго табе, калі не, то адслужыш пяцьдзясят малітваў за Валадковіча.

— Згодзен, княжа! Пояс будзе наш, а малітвы за Валадковіча я ўсё роўна прамоўлю. А ўсё ж я неяк баюся, раптам вы пакрыўдзіцеся?

— Кажы смела, я Радзівіл — сцярплю!

— Калі ўжо вы, князь, так падахвочваеце мяне быць смелым, то скажу, што быў вядомы мясцовы жыхар, які год таму нам многа дапамагаў. Бывала, ён прысылаў нам вазы збожжа са свайго свірна, а цяпер ужо мы павінны дапамагаць яму, абы толькі ён не памёр з голаду, а ўсё таму, што вы, князь, выгналі яго з сядзібы, і ён, лічы, у адной кашулі ўцёк у Навагрудак. Ён цяпер судзіцца з вамі, а кавалка хлеба не мае, гэты пан падчашы Трызна.

Тут князь перапыніў яго:

— Што ты лезеш не ў сваю справу, служка касцельны? Я лепей страчу цэлы маёнтак, а Трызну не дарую! Ён з маёй ласкі жыў, ледзь не задарма трымаў

Калдычова, не даў сваіх людзей для аблавы, змяшаў з гразёю маіх слуг ды яшчэ і мяне абазваў дурнем! Буду судзіцца, і або я, або ён пойдзе з торбай.

— Ён ужо з торбай пайшоў, васпане. Але хай ваша княжацкая мосць згадае, што кожны дзень прамаўляе малітву, у якой ёсць такія словы: «І даруй нам даўгі нашыя, як і мы даруем даўжнікам нашым».

— З гэтага дня я перастану маліцца, але не дарую.

— Але ж, князь...

— Маўчы! А лепей ідзі прэч, бернардзінец, і не тлумі мне галавы!

Запанавала цішыня, потым зводдаль пачуліся крокі.

— Божа літасцівы! Што гэта? — спытаў князь.

— Гэта я выходжу па загаду вашай княжацкай мосці, мае туфлі стукаюць па падлозе.

— Прашу цябе, пане каханку, не выходзь з келлі, спі са мной, бо пасля таго, як да мяне прыйдзе Валадковіч, я захварэю ад тугі без цябе, мой ксенжа! З гэтым ерэтыкам, Міхалам Рэйтанам, які не верыць у прывіды, я не адважуся застацца адзін на адзін ноччу, а Бургельскі спіць як забіты. Кладзіся, ойча Ідзі, і не злуйся на мяне. І ўсё ж, хоць ты і хочаш, каб я дараваў Трызну, нічога з гэтага не выйдзе.

Потым, як расказваў Бургельскі, стала ціха, але неўзабаве пачаўся ўжо прывычны «канцэрт» князя, айца Ідзі і Непты. Але і пан Бургельскі, які бачыў князя наскрозь, і пан Міхал Рэйтан назаўтра ўжо змаглі прынесці Трызну хоць нейкую надзею, а яшчэ падалі яму думку, каб і той зрабіў нейкі крок насустрач князю, што нам здавалася не лішнім зрабіць, бо падчашы, хаця і быў бедным, але гордым, і не быў ахвочы згінацца перад кімсьці.

Аднак, як кажуць, карты ляглі добра. На наступны дзень пасля той размовы, пра якую я толькі што згадаў, а Рэйтан ды, напэўна, і сам айцец Ідзі пераказалі Трызну, пачаўся сеймік. Наваградскі харунжы Рдултоўскі адкрыў яго, бо падкаморы Незабітоўскі быў адкліканы de malo gesto officio (з-за нядбайнага выканання сваіх функцый) ваяводам Несялоўскім, і адразу папрасіў усіх земскіх чыноўнікаў выбраць маршалка гэтага сейміка. Па касцёле разляцеліся воклічы:

— Запрашаем быць маршалкам яснавяльможнага віленскага ваяводу!

— Згодны! Згодны! — пачала крычаць шляхта, але тут Казімір Гарабурда папрасіў слова і сказаў, што ён хоча выказаць сваю нязгоду, бо, нягледзячы на жаданне мець маршалкам такога паважанага пана, якім з'яўляецца віленскі ваявода, яго нельга выбраць, таму што паводле закона той, хто знаходзіцца пад судом, не можа спаўняць дзяржаўных абавязкаў, а таму князь, які якраз цяпер судзіцца, маршалкам быць не можа.

Тут мы ўслед за Міхалам Рэйтанам павыцягвалі з похваў шаблі і маглі б скрышыць як капусту ўсю партыю наваградскага ваяводы, тым больш, што нашых было ў чатыры разы болей, але тут выступіў наперад Ежы Белапятровіч, якога ўсе паважалі і цанілі ў абедзвюх партыях, і супакоіў нас. Ён папрасіў схаваць шаблі ў похвы і даць магчымасць разабрацца з тым, што сказаў пан Гарабурда, бо ён гаварыў праўду. Тут усе пачалі крычаць:

— Просім пана Гарабурду зняць сваю справу супраць князя!

А ён на тое:

— Я не суджуся з князем, я такога не гаварыў. Але вось пан падчашы Трызна падаў на князя аж дзве скаргі ў гродскі суд.

Раззлаваны Міхал Рэйтан накінуўся на Гарабурду:

— Ты, васпан, не маеш права карыстацца ў сваіх мэтах чужой судовай справай! Калі сам з ім судзішся, то не کівай на Трызну, а лепей памаўчы пад старасцы!

— Лепей ты, васпан, сам памаўчы, калі язык не свярбіць, і не вучы розуму таго, хто яго сам можа даць у пазыку. Хай пан харунжы спытае ў пана Трызны, ці хоча ён скарыстаць сваю судовую справу з князем ваяводам, а мы паслухаем.

Тут мы ўсе пачалі крычаць, што ніхто не мае права пытацца ў пана Трызны, бо ён сам ведае, што рабіць, і здолее скарыстаць свае правы. Князь стаяў між намі дужа ўсхваляваны, закруціў уверх свае вусы, а тут якраз сам Трызна, які быў сярод судзейскіх і маўчаў, устаў і дрыготкім голасам, у якім адчувалася шкадаванне, загаварыў:

— У мяне сапраўды ёсць дзве скаргі на князя ваяводу, але я іх забіраю; ён мяне моцна пакрыўдзіў, але я як грамадзянін абавязаны падпарадкаваць свае прыватныя пачуцці грамадскаму абавязку. Паколькі я перакананы, што для нашага ваяводства не можа быць лепшага кіроўцы сейміка, чым князь ваявода, прапаную даручыць яму гэтую справу, якую ён давядзе да памяркоўнага выніку лепей, чым нехта іншы. Я адмаўляюся ад сваіх прэтэнзій да князя, хоць і разумею, што гэта можа скончыцца для мяне дрэнна, але абяцаю князю, што судзіцца з ім не буду. Князь ваявода падышоў да харунжага, ён быў такі ўсхваляваны, што толькі і здолеў сказаць:

— Хаця я і крыўдую на пана падчашага, але за такі яго добразычлівы і пачцівы ўчынак я яму аддзячу.

Тут па ўсім касцёле загрымелі магутныя воклічы:

— Vivat князю ваяводу! Vivat наваградскаму падчашаму Трызну!

Так Радзівіл быў абраны маршалкам сейміка. Але ўжо ішла першая гадзіна, таму князь прызначыў пачатак сесіі на восем гадзін раніцы наступнага дня і пайшоў абедаць да харунжага Рдултоўскага, дзе ўжо стаялі на панадворку сталы, накрытыя на пятнаццаць асоб. Там з намі аказаўся і пан падчашы, і мы пад звон кілішкаў пачалі мірыць Трызну з князем. Князь сказаў:

— Я люблю пана Іасафата. Кроў не вада, пане каханку, а майго прапрадзеда нарадзіла жанчына з роду Трызнаў. Я вяртаю яму Калдычова, а тыя пытанні, якія могуць узнікнуць пры аднаўленні кантракта, хай вырашаць суддзі. Але ў мяне на яго асабістая крыўда. Ён накрычаў на маіх слуг, а мяне назваў вар'ятам. Мы абодва шляхціцы, хай нас рассудзіць шабля, і на тым скончым.

Дарэмна Трызна пераконваў князя, што ён ніколі такога не казаў. А харунжы і суддзя Кавенскі парашылі, што Трызна павінен падпарадкавацца пажаданню князя, і яны па абедзе ўзяліся за шаблі ў прысутнасці ўсіх, хто там быў. Князь адразу перайшоў у наступ і так моцна ўдарыў па шаблі Трыз-

ны, што яна пераламалася. Суддзя падаў раззброенаму Трызну сваю шаблю, але тут князь сказаў:

— Я поўнасцю задаволены, — і расцалаваў Трызну.

Агледзеў шаблю і сказаў:

— Гэта мая шабля, бо я здабыў яе цаной сваёй крыві. А прызнайся, пане Іасафаце, што я ўмею біцца на шаблях.

І тут усе пачалі піць за прымірэнне. У князя быў цудоўны настрой.

— Пане Міхале, наконт пасады земскага пісара можаш быць спакойны, — звярнуўся ён да Рэйтана. — Я адзін з маёй шабляй разганю ўсю партыю Гарабурды.

Князь і пан Трызна падпісалі ў Белапятровіча паперу аб прымірэнні, пасля таго мы былі ўжо занятыя толькі справамі сейміка.

Шляхта, узрадаваная ўчынкам князя, не магла ачомацца ад радасці. Сярод прысутных толькі і размоў было пра яго:

— Ну як, хвацкі рубака наш князь? Гэта ж трэба — перасек клінок, нібы лазіну. Але і пан Трызна маладзец! Ён шабляй гасіць з аднаго ўзмаху дванаццаць лоевых свечак! Хто можа зраўняцца з нашым князем?» Скажу вам, у Трызны была турэцкая шабля, а яна з больш мяккага жалеза, а ён не думаў пра тое, што яму трэба было наступаць, а не абараняцца. Але ён на гэтым толькі выйграў: князь яго моцна палюбіў. Ён яго і раней любіў, але іначай: любіў праследаваць, таму, каб Равінскі не дапамог, мог бы і галаву адцяць.

Пасля абеду ўсе рушылі на дзядзінец да бернардзінцаў, дзе зноў пілі de noviter reperta (па другім разе) і моцна панапіваліся. Усе госці перамяшаліся. Яснавяльможная і засцянковая шляхта, магнаты і мясцовыя памешчыкі былі як брат з братам. Князь напаткаў нейкага беднага шляхціца ў заношанай шапцы, аддаў яму сваю аксамітную, а ягоную надзеў на сваю галаву. Узяўшы з яго прыклад, усе пачалі мяняць шапкі, ды так, што праз момант надзявалі на галаву іншую. Потым князь, ужо добра нападпітку, пачаў распранацца і ад добрага сэрца надзяляць шляхту сваім адзеннем. Аднаму аддаў залаты пас, сказаўшы: «Бяры, дурань, дару!», другому — кунтуш: «На, свіння!», трэцяму — брыльянтавую зашчапку: «Трымай, асёл!», яшчэ аднаму — жупан: «Вазьмі, пасмешышча!». Нарэшце ён застаўся ў малінавых гандавэрах[8] і кашулі, на якой вісела вялікая ладанка; потым ускараскаўся на воз, на якім стаяла вялізная бочка, поўная віна. Ён усеўся на бочцы, а воз шляхта цягала па вуліцах Навагрудка. Час ад часу воз спыняўся, і тады кожны, хто хацеў, падстаўляў келіх або гарнушак, а князь вымаў з бочкі затычку і наліваў, просячы шляхту галасаваць за тое, каб пісарам абраць Міхала Рэйтана і каб не даць Радзівілам папусціцца перад ворагамі.

— Пане каханку, бачыце на мне гэтую ладанку з абразом? Я атрымаў яе ў спадчыну ад маіх продкаў. Яе насіў яшчэ мой прапрадзед Ліздзейка, трымаў у руках Уладзіслаў Ягайла. Радзівіл Сіротка хадзіў з ёй у Віфлеем. Яна такая вялікая таму, што ў ёй закладзена унія Літвы з Каронай. Я люблю Карону, пане каханку, але для мяне даражэй за ўсё наша Літва. У мяне і ў Кароне ёсць кавалак зямлі, але хай там лепей сядзіць нячысцік. Там лепей гандляваць, чым паляваць. Тут мы б'ём мядзведзяў, а там палюем на перапёлак.

У іх там суслікі, а ў нас поўна добрага звяр'я. А яшчэ, панове, мяне пачаў праследаваць віленскі ксёндз біскуп, швагер наваградскага ваяводы, які тут націскае на нас, каб не Міхал Рэйтан, а Казімір Гарабурда пісаў нам дэкрэты, і я ад роспачы хацеў ужо ўцякаць у Карону. У мяне былі б там прыбыткі ад абацтва, бо я пішу прыгожыя вершы. Мог бы я асесці і на Русі, я пачаў ужо маліцца Езусу ў Барэмлі[9], і тут Ён сказаў мне: «Радзівіле, вяртайся ў Літву, бо тут ты нічога не даб'ешся, тут шляхта смярдзючая. Ostende patrempatris to (Ведай бацьку свайго бацькі) — гэткай вялікай філасофіі трымаецца шляхта на Валыні і ў Кіеве, не тое што ў Літве (і ў мяне прабабка была ліцвінка), там кожны, пачынаючы ад продкаў, сядзіць на сваёй зямлі. Вяртайся лепей у Літву і кланяйся ад мяне наваградскай шляхце». Я лёг крыжам на зямлю і кажу яму: «Госпадзі! А як жа я вярнуся ў Літву, калі Твой біскуп мяне праследуе?». А Ён мне: «Гэта не мой біскуп, а латруга; яму да цябе не дараўняцца. Вяртайся, Радзівіле, у Літву, і забяры мяне чорт, калі ты не будзеш там Радзівілам, як даўней, а ён як быў размазнёй, так і застанецца». Вось таму, пане каханку, я, падахвочаны Госпадам Богам маім, вярнуўся да вас, і Бог узнагародзіў мяне за маю веру, бо я ніколі не забываю дадзенага Яму слова, а свае вершы я пакінуў ксяндзу Нарушэвічу, ён, хоць і небагаты, але [redacted] Радзівілаў, праз мае вершы ён атрымаў смаленскае біскупства.

І тут да яго як паваліла шляхта, ды не толькі наша, але і з супраціўнай партыі, нават засцянковай, дробнай, і мы зразумелі, што назаўтра яны ўсе будуць за нас і што наваградскія сенатары дарэмна чынілі нам перашкоды.

Аж да дзесяці гадзін вечара шляхта суправаджала князя, піла, танцавала і спявала на вуліцах, жыхары горада — прыхільнікі партыі наваградскага ваяводы — нават пачалі баяцца, як бы іх не падпалілі. Але ўсё скончылася добра, нікому зла не чынілі. Князя прывезлі на пустой бочцы на дзядзінец перад кляштарам, ён злез, падышоў да студні, зняў гайдавэры і кашулю і загадаў абліць сябе вадой. Праз тое ён адразу працверазеў і пайшоў у келлю, паеў крыху, памаліўся з айцом Ідзі, потым лёг спаць, трымаючы ў галаве, што яму заўтра роўна ў восем трэба быць у касцёле і адкрыць сеймік.

У восем гадзін раніцы мы сабраліся ў касцёле, увайшоў князь, запрасіў усіх земскіх і гарадскіх чыноўнікаў прыступіць да сваіх абавязкаў і адкрыў сеймік такімі словамі:

— Вашы мосці, яснавяльможныя і вяльможныя паны, любімыя брацці! Згодна з вашай воляй я прызначаны вашым прадстаўніком у сеймікаванні з мэтай абрання земскага пісара. Я маю гонар паведаміць вам, што двое грамадзян нашага ваяводства выставілі свае кандыдатуры на гэтую пасаду: адзін — яго мосць пан Міхал Рэйтан, які некалі быў нашым дэпутатам у віленскім трыбунале і шамбялянам яго каралеўскай вялікасці; другі — Казімір Гарабурда, віладымоўскі стараста. Прашу вас, панове брацці, засведчыць, каго з іх двух вы хочаце мець земскім пісарам.

— Просім Міхала Рэйтана! — закрычалі Адынцы, Семірадскія, Гацінцы і Міцкевічы.

— Згодны! Згодны! — загудзела засцянковая шляхта.

— Просім пана Рэйтана!

— Не згодны! — пачалі крычаць Есманы, Чачоты, Слушкі, але іх галасы былі намнога слабейшымі. Ніхто з нашых не выцягнуў шаблі, бо князь строга наказваў нам, каб ніводзін не даў зачэпкі да бойкі, хацеў, каб яго кіраўніцтва сеймікам абышлося без гвалту. Радзівіл устаў і прамовіў:

— У нашым ваяводстве звычайна бывала так, што ўсё вырашалася unanimitate (аднагалосна), але nemini vox non est (нікому не забаронена выступаць супраць), таму прашу вас, паны брацці, галасаваць.

Шляхта пачала галасаваць, але ўжо праз пару гадзін і Гарабурду стала зразумела, што ён не пераможа, усе засценкі яго падвялі, а таму ён, каб не паказаць слабасць сваіх прыхільнікаў, абвясціў, што не хоча перашкодзіць пану Рэйтану і здымае сваю кандыдатуру. Пасля тут жа выйшаў з касцёла і паехаў у сваю вёску, дужа расстроены і пакрыўджаны на навагрудскага ваяводу, які падбухторыў яго на тую справу. Але крыху пазней той жа ваявода вылучыў яго ў гродскія навагрудскія суддзі — лепш хоць што-кольвечы, чым нічога, і тым самым хоць крыху яго ўлагодзіў, а Міхал Рэйтан стаў земскім пісарам.

Сеймік доўжыўся яшчэ шэсць дзён, але на самай справе наш збор ужо больш нагадваў баляванне. І ўсё ж за баляваннем не забываліся прымаць рашэнні: звыш трыццаці спраў па судовых заявах было вырашана пры дапамозе князя, а сярод іх былі і дужа складаныя. У большасці выпадкаў арбітрам выступаў Ежы Белапятровіч, які быў сапраўдным міратворцам ваяводства.

## Каментарыі

**«Князь Радзівіл Пане Каханку».** Раздзел з рамана **«Успаміны Сапліцы».**

[1] Несялоўскі Юзаф (1728—1814) — навагрудскі ваявода.

[2] Валадковіч Міхал — адзін з набліжаных да Караля Радзівіла, вядомы сваім буйным норавам. Расстраляны ў Мінску ў 1760 г.

[3] Лютэр Марцін (1483—1546) — вядомы чэшскі вучоны, заснавальнік аднаго з адгалінаванняў хрысціянскай рэлігіі — лютэранства.

[4] Інфула — мітра, галаўны ўбор біскупа, у пераносным сэнсе — сан біскупа.

[5] У Малдавіі, якая тады была пад Турцыяй, Радзівіл быў у выгнанні пасля няўдалай спробы супрацьстаяць Панятоўскаму.

[6] Літы пояс (пас) — быў важнай і каштоўнай часткай адзення шляхціца. Ён прашываўся залатымі ніцямі, меў вышыўку кветкамі. Асабліва былі вядомы слуцкія паясы. Іх цана даходзіла да 60 залатых дукатаў.

[7] Арнат — адзенне ксяндза.

[8] Гандавэры — шырокія штаны.

[9] Барэмель — мястэчка на Валыні, дзе ў касцёле захоўваўся цудатворны абраз з выявай Хрыста.

Друкуецца паводле выд.: Жавускі Г. Успаміны Сапліцы. — Мінск, 2005. Пераклад з польскай мовы М. Кенькі.

## АНУФРЫЙ ПЕТРАШКЕВІЧ
## (1793—1863)



У памяці нашчадкаў Ануфрый Петрашкевіч застанецца перш за ўсё як адзін з заснавальнікаў і самых актыўных дзеячаў славутага згуртавання студэнтаў Віленскага ўніверсітэта — Таварыства філаматаў. Ён выбіраўся на пэўны час сакратаром Таварыства, намеснікам яго старшыні. Калі ў 1818 г. згуртаванне было падзелена на два аддзелы — аддзел літаратуры і гуманітарных навук і аддзел фізікі, матэматыкі і медыцыны, узначаліць другі з іх філаматы даручылі якраз яму, прыродазнаўцу Ануфрыю Петрашкевічу. На пасяджэннях Таварыства, якія, дарэчы, часта адбываліся ў яго на кватэры, ён даволі актыўна выступаў з трактатамі ў галіне фізікі, з рэцэнзіямі на прачытаныя сябрамі творы, а таксама з уласнымі вершамі і ідыліямі. У філамацкай сям'і Петрашкевіч паказаў сябе як выдатны арганізатар усялякіх святочных цырымоній і ўрачыстасцей, якім філаматы прыдавалі немалое значэнне, забаўляючы ў свае шэрагі віленскую моладзь. Асабліва карысная была яго дзейнасць як архівіста згуртавання: ён рупліва захоўваў усё напісанае філаматамі. Гэта дзякуючы Ануфрыю Петрашкевічу мы можам сёння чытаць многія творы яго сяброў — Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота, у тым ліку напісаныя па-беларуску.

Важная роля А. Петрашкевіча і як аднаго з першаадкрывальнікаў багаццяў беларускага фальклору. Ён з самага пачатку сваёй паэтычнай творчасці свядома выкарыстоўваў матывы і вобразы вуснай паэзіі роднага народа, яго звычаі і вераванні. Ужо ў спісе прачытаных філаматамі на сваіх пасяджэннях твораў за 1818 г. значыцца і заснаваны на беларускім фальклоры верш Петрашкевіча «Купала», з разборам якога выступаў Ян Чачот. На жаль, верш гэты не захаваўся. Відаць, ён быў першай прыступкай да больш буйнога твора аўтара — ідыліі з той жа назвай, прачытанай філаматам праз год. Ідылію належным чынам ацаніў А. Міцкевіч, зазначыўшы, што ў творы «няма чаго папраўляць» (меркавалася надрукаваць яго ў планаваным філаматамі часопісе «Геба»).

І праўда, нягледзячы на ідылічны паказ сялянскага жыцця, яўны ўплыў сентыменталізму, ідылія А. Петрашкевіча «Купала» мае і станоўчыя бакі. Перш за ўсё тое, што яна данесла да нас цікавыя, цяпер ужо, здаецца, назаўсёды страчаныя дэталі абраду беларускага Купалля пачатку мінулага стагоддзя. Напрыклад, рытуал ахвярапрынашэнняў язычніцкаму богу Купалу, зварот да яго моладзі з малітвай-песняй, роля дзядка — ахоўніка агню для купальскага вогнішча і інш. Шмат каштоўнага фальклорна-этнаграфічнага матэрыялу можна знайсці і ў іншых творах Петрашкевіча — вершах на гістарычную тэму, шматлікіх філамацкіх віншаваннях да пэўных дат.

Звяртае на сябе ўвагу і мова твораў, адчуваецца значны ўплыў на яе беларускай моўнай стыхіі.

У Віленскі ўніверсітэт Ануфрый Петрашкевіч прыехаў са Шчучына — невялікага мястэчка Лідскага павета Гродзенскай губерні. Там ён нарадзіўся, там скончыў павятовую піярскую школу. Пасля працаваў нейкі час гувернёрам. Якраз у ваколіцах Шчучына чуў ён ад людзей беларускія народныя песні, назіраў народныя звычаі і абрады, якія потым прыдаліся да яго паэтычных твораў.

Вучобу ва ўніверсітэце (на факультэце прыродазнаўчых і фізічных навук) А. Петрашкевічу як выхадцу з незаможнай шляхты даводзілася спалучаць з працай у спецыяльнай канцылярыі па ўпарадкаванні спадчыны Радзівілаў — так званай Масе радзівілаўскай, дзе працаваў у гэты час і Ян Чачот, з якім ён шчыра пасябраваў. Скончыўшы Віленскі ўніверсітэт, Петрашкевіч наважыў прадоўжыць вучобу ў Варшаўскім ўніверсітэце, пасля чаго настаўнічаў у Люблінe. У 1822 г. ён зноў вяртаецца ў Вільню.

Калі пачаліся арышты філаматаў, А. Петрашкевічу ўдалося нейкім чынам выкруціцца. Ён арганізаваў спецыяльны камітэт падтрымкі і дапамогі зняволеным сябрам-філаматам, аднак усё роўна не пазбег пакарання. Разам з сябрамі яго выслалі ў Расію. Спачатку жыў у Пецярбургу, а потым як магістра філасофіі яго адправілі ў Маскоўскі ўніверсітэт на пасаду бібліятэкара. Тут ён дапамог Адаму Міцкевічу выдаць напісаныя ў Адэсе і Крыме «Санеты». Рыхтаваў да выдання таксама кнігі твораў сасланых на Урал сяброў — Яна Чачота і Тамаша Зана. Але гэту працу перапыніла Лістападаўскае паўстанне. За арганізацыю ўцёкаў на радзіму афіцэраў Літоўскага корпуса, якіх улады трымалі ў Маскве, далей ад «мяцяжу», Петрашкевіч быў арыштаваны і пасаджаны ў турму. Яго прыгаварылі да смяротнага пакарання. Прычынілася тут і сувязь яго з рэвалюцыйным гуртком Сунгурава. Пра арышт Петрашкевіча і сунгураўскага гуртка гаварыла ўся Масква. Пра гэта пісаў у «Былым і думах» тагачасны студэнт Маскоўскага ўніверсітэта Герцэн: «Над імі была прызначана «ваеннасудная камісія», у перакладзе гэта азначала, што іх чакае гібель. Усе мы ліхаманкава чакалі, што з імі будзе... Бура, што ламала маладыя ўсходы, была побач...»

Асуджаны на смерць А. Петрашкевіч два месяцы чакаў у адзіночным зняволенні выканання смяротнага прысуду. Але 13 студзеня 1832 г. яму аб'явілі пра замену смяротнага пакарання на пажыццёвую высылку ў Сібір з пазбаўленнем шляхецтва і званняў.

І вось этапамі разам з іншымі асуджанымі Ануфрыя Петрашкевіча пагналі ў сцюжы і завірухі ў далёкі Табольск. Толькі ў 1860 г., праз 35 гадоў выгнання, вярнуўся ён дамоў, у родную Беларусь. Жыў у брата Юзафа ў Вільні, дзе неўзабаве і памёр.

Царскія рэпрэсіі, вядома ж, вельмі адмоўна адбіліся на паэтычнай творчасці А. Петрашкевіча. Апынуўшыся на чужыне, ён не напісаў ужо ні радка.

*К. Цвірка*

## РОЗДУМ КАЛЯ РУІНАЎ ГЕДЫМІНАВАГА ЗАМКА

Упала цёмная заслона  
Начы на ціхія разлогі.  
Пасе на пространі замглёнай  
Чароды зор пастух двухрогі.  
Траву прывялую наўкола  
Расяны ажыўляе холад.  
Застылі дрэвы — нібы вежы  
Вяршыні ўзнеслі да вышыняў.

Разносіць лёгкі ветрык свежы
Пах жыта, флёксаў ды вяргіняў.
А ўнізе Вілія бруіцца,
Паміж кустамі серабрыцца.
Я на гару, што ў змроку тоне,
Іду, задуманы, паволі.
Даўней, да слаўнае Пагоні,
Што бараніла ад няволі,
Ліцвін вось тут любой парою
Ваўкоў ды тураў клаў стралою.
Калі ж сюды чужынец хцівы
Хадзіць пачаў з крывавым мечам
І бой кіпеў штораз жахлівы,
Звінела тут за сечай сеча,
Тады між дрэў да хмараў самых
І вырас гэты думны замак.
Плылі стагоддзі. Пад гарою
Сталіца велічная ўстала.
Пры замку тым ліцвін са зброяй
Стаяў, выглядваў з-пад забрала.
Ішлі чужынцы, безліч легла
Галоў іх перад гэтай цэглай.
Гербы, высокія штандары
Ды зброя замак аздаблялі.
Калі ж здалёк цяжкія хмары
Плылі, бой новы прадвяшчалі,
Зноў ажывалі сцены тыя,
Блішчалі там шчыты стальныя.
Цяпер пад месяцам бязмоўным
Тут здань хіба ў кустоўі ходзіць,
І крык савы, адчаю поўны,
Жах на цябе і сум наводзіць.
Жывой душы і між дзіўных ценяў
Тут не сустрэнеш — запусценне.
Як час усё наўкол мяняе!
Раку высушвае паволі,
Узгоркі стромыя раўняе,
Пераўтварае ў багну поле.
Часы прайшлі, і ўжо ў руінах
І грозны замак Гедыміна[1].
Калісь ваяк крыжацкіх стругі
Тут хвалі пенілі рачныя.
Край бачыў ворага кальчугі,
Яго гарматы агнявыя.
На крэпасць смерчам невядомым

Ляцеў агонь нястрымны з громам.
І пачынаўся бой няроўны.
Бясстрашна біліся ліцвіны.
Але агонь з бартоў раптоўны
Змятаў іх мужныя дружыны.
Пасля чужак нелітасцівы
Край пляжыў, нішчыў вёскі, нівы.
Ды той разбой, разгул, пажары,
Руіны вёсак, попел хатаў
Па ўсім распальвалі абшары
Святую помсту, гнеў сарматаў.
І прысягалі сёлы — з краю
Гнаць крыжакоў, знішчаць іх зграю.
Вастрыў наш люд употай зброю
І, перакрыўшы плынь рачную,
Кідаўся трушчыць грамадою
Крыжацкіх суднаў немач злую.
У ход ішлі ў святым памкненні
Сякера, доўбня і паленне.
А потым меч ліцвіна грозны
З яго палёў, з усёй краіны
Гнаў аж пад полюс той марозны
Чужынцаў хіжыя дружыны —
Каб зноў ісці араць у поле,
Сваю шукаць у працы долю.
Прабеглі так вякі, як хвілі,
Ды люд, ад чужака свабодны,
Уладзе ўласнай, збройнай сіле
Дарма даверыў край свой родны.
Ён ад нягод, ад звад гняўлівых
Здабычай стаў суседзяў хцівых.
Лёг пад пяту ліхой навалы
Вялікі мужны род славянаў.
Ды хоць па краі занялалым
У кожным сэрцы ные рана,
Не згасне вера: продкаў слава
Нашчадкам будзе ззяць яскрава.
Ужо не ўбачыш тут нідзе ты
І следу гмахаў Ягелона.
Так час сатрэ мо й замак гэты,
Схавае ўсё ў зямное лона.
Ды толькі сцерці немагчыма
Любові да цябе, Радзіма.

*1817*

## КУПАЛА

Ідылія

...За вёскай пагоркаў вунь доўжацца цені,
І зырка чырвонага сонца праменне
Залоціць аблокі. Мультанак[1] гук чысты
Вяртаецца рэхам з гаёў цёмналістых.
У бляску зарніцы на ўзгорак пакаты
З вянкамі збягаюцца з вёсак дзяўчаты.
Пры стосе галля, каля блізкага гаю,
Сівенькі дзядок жар святы зберагае.
Жазло яго зёлкамі ўвіта. Агню ён
Ад ранку ахвяры старанна рыхтуе.
— На кошык, Палахна, збан гэты, падпалы.
Як займецца стос, заводзь песню Купалы.
Выконвае спрытна загады дзяўчына.
Сама — нібы ружа ці ў лесе шыпшына.
Нявінны румянец на шчоках яснее —
Нібы той падпал, што ў руцэ палымнее.
Во слуп загарэўся над ломам, на стосе!
Палахна ў агонь пук зялёны калосся
Кідае і песню Купалы заводзіць,
З ёй хлопцы й дзяўчаты спяваюць у згодзе:

Ты укрыў лугі травою,
Гай лістотай апранаеш,
На палетку пад зарою
Буйны колас наліваеш.

Паспрыяй жа ты ратаю,
Пахадзі ягонай нівай.
Хай жа ён панастаўляе
У жніво шмат коп шчасліва.

Хай міне яго — зрабі так —
Град, усякая навала.
Уратуй ад згубы жыта,
Боб, ячмень яго, Купала!

Звініць далячынь хорам многагалосым,
Агонь аж бушуе, віецца над стосам.
Палахна сяброўак на міг пакідае,
Бярэ ў рукі збан, малако вылівае
Ў агонь ды заводзіць зноў песню. Дзяўчаты
З хлапцамі ёй зноў памагаюць заўзята:

Дар гавяды мы прыносім —
Хай жа мор яе абходзіць.
Зберагчы каровак просім —
Хай нішто ім не пашкодзіць.

Хай на мётлах ведзьмы злыя
Не ляцяць смактаць іх вымя.
Сыдуць хай на мхі глухія
Ўміг з заломамі сваімі!

Хай травою буйнай пашы
Скрозь далонь твая засцеле.
Каб цвіло ўсё ў краі нашым,
Вынішчай ліхое зелле!

Куды ні пайдзі ты, куды ні кінь вокам,
Агні так вясёла палаюць навокал!
Там гоман і шум. А зайграе ледзь дудка —
У скокі ўся моладзь пускаецца хутка.
Здаецца, дрыжыць увесь поплаў, дый годзе,
Калі там закружацца ўсе ў карагодзе.
Басота ж інакшыя гулі спраўляе:
Той вугалем гучна аб камень «страляе»,
Той — з зыркім сучком у зубах сваіх, быццам
Чорт нейкі, — сяброў напалохаць імчыцца.
Дзяўчаты, што кружаць у скоках гурмою,
Істужкамі крэсляць кругі над сабою.
Калі ўжо сціхалі памалу забавы,
Ад лесу пачуўся гук дудкі яскравы.
І вось усе бачаць: Аніска ад гаю
Баранчыка ў кветках вядзе ды іграе —
Вясёлы, з вусамі, прыгожы сабою.
Яго тут жа цягнуць у кола жывое.
Яшчэ весялей ён іграць пачынае,
Бо тую прыкмецiў, што здаўна кахае.
Пад водбліск агню шчыра ён апаўночы
Спяваў да Купалы, узняўшы ўверх вочы:

Студзіш спёку ты расою,
Што з зямелькі выступае.
Ярына ўстае сцяною,
І азіміна буяе.

Маю плуг я, шмат жывёлы,
У садку раяцца пчолы.

Толькі вось агонь кахання
Не дае заснуць да рання!

На алтар твой скарбы кіну,
Прыцягну ягнё табе я —
Толькі мне аддай Арыну,
Здзейсні ты маю надзею!

Як ад сонейка вясною
Расцвітаюць ярка краскі,
Так і я расцвіў бы з ёю
Ад яе гаючай ласкі.

Ты русалак нават можаш
Запыніць знянацку ў полі.
Дык злучы ў адну, о Божа,
Ты маю й Арыны долю.

Падвёў пад агонь барана ён тым часам
І тут жа дастаў нож свой востры з-за паса.
Хацеў для Купалы, надзей добрых поўны,
Крывёй зарумяніць бель снежную воўны.
Ды дзед устрымаў: «Ад заўчаснага дару
На вёску ўсю можаш наклікаць ты кару.
Мы Богу нясём сэрцаў чулых багацце,
Ты ж сёння праліць кроў сабраўся на свяце!
З Арынай кахаешся ты — гэта знаем.
Яна без бацькоў — мы яе благаслаўляем!»
І тут жа злучыў закаханым далоні
Ды ўвенчыў ім згодна са звычаем скроні.
— Жывіце, як продкі, — сказаў ім зычліва, —
Каб толькі была ў вас дагледжана ніва.
Вам шчырая праца не дасць заняпасці.
Вы разам сваё адшукаеце шчасце.
Зноў песня дзяўчат паплыла ўскрай даліны
Пад гукі жалейкі, пад спеў салаўіны:

Нахіляе вецер нізка
Явар тоненькі з калінай.
Паяднаецца Аніска
З маладзенькаю Арынай.

Даражэй за ўсе дастаткі
Хлопцу любая дзяўчына.
Скарб здабудуць свой для хаткі
Працай рук сваёй часінай.

Іншай быць цяпер Арыне:
З першым сонечным праменнем
На ваду вянок не кіне,
Хутка ўжо чапец надзене...

Пойдзем мы дамоў палямі
Без Арыны — ёсць ёй пара.
Хлопцы й нас пасуць вачамі —
Вусы ў іх растуць недарам!

Покуль стане пуста ў полі
І зіма снягі пасцеле,
Мы не раз яшчэ ў сваволі
Тут паскачам на вяселлі!

*1819*

## ДАРОГА Ў СІБІР*

...Пятага лютага разам з вялікім гуртам асуджаных на ссылку ў Сібір мяне прывялі з астрога ў губернскую ўправу. Там надзялілі нас сярмягамі, ботамі і ранцамі і праз некалькі гадзін адправілі за Маскву, на Смаленскі тракт, у поўны перасыльных вязняў астрог на Вераб'ёвых Гарах, на якіх будавалася тая слаўная царква Спасіцеля. Будынак, прызначаны раней для рабочых, змянілі пасля прыпынення будаўніцтва царквы на турму. Прыбыўшы на Вераб'ёвыя горы, мы сталі таварышамі па няшчасці Галавінскаму, якога гналі на цяжкія работы, Пятрынскаму, паручніку валынскіх уланаў, асуджанаму да ссылкі за ўдзел у валынскім паўстанні, Ляскоўскаму, кракусу[1], Рамарыню, Явароўскаму, паручніку артылерыі, і бухгалтару Нецалкевічу — апошнія трое былі з Каралеўства, іх гналі ў Вятку для вызначэння віноўнасці і вынясення ім прысуду.

7 лютага, у панядзелак, кружачы каля гарадскіх застаў, мы выйшлі нарэшце на другі бок Масквы, да этапу, што быў ужо на сібірскай дарозе. Цяжка нават уявіць, якія вялікія бываюць грамады вязняў. У нашу ўваходзіла 173 чалавекі. Але часта бывае ў іх ад 300 да 400 чалавек. Этапы, альбо астрогі, былі пабудаваны па ўсім шляху праз кожныя 15—30 вёрст. Яны агароджаны высокім астраколам. Маскоўскі, уладзімірскі, ніжненаўгародскі этапы вельмі цесныя, поўныя ўсялякага роду насякомых, хоць на выгляд здаюцца нават чыстыя, бо пафарбаваныя часцей за ўсё ў жоўты колер. Кожныя два-тры дні ў этапе, прызначаным для днёўкі, мяняецца варта, ёсць у варце і афіцэр. Этапы Казанскай губерні будаваліся пазней, яны шырокія і ўтульныя, калі можна назваць утульнымі пустыя сцены турмы. Раней жа асуджаных на ссылку ў Сібір па дарозе ад Казані і далей заганялі проста ў спецыяльна выкапаныя шырокія ямы, там раскладалі пасярэдзіне агонь, пры якім зняволеныя грэліся ў суровыя маразы.

* Мяркуецца, што нататкі былі адрасаваны Ігнату Дамейку.

Становішча зняволенага само па сабе цяжкае, але яшчэ болей крыўдаў чыніць этапная варта і афіцэры, якія кіруюць ёю. Звычайна гэта афіцэры, што выслужыліся з сяржантаў. У іх няма ніякіх добрых пачуццяў, спагады, яны грубыя, нялюдскія, гатовыя зрабіць табе тысячу непрыемнасцей і ўсякімі спосабамі прынізіць: бяда таму, хто не мае за што купіць у іх прыхільнасць, яны будуць здзекавацца з яго, як толькі захочуць, самымі рознымі спосабамі, а паколькі яны бесперапынна п'юць, то спосабы гэтыя бываюць далёка не з лепшых. Хоць пазбаўленых шляхецтва адпраўляюць у ссылку, згодна з законам, не ў кайданах, і хоць яны вызваляюцца ад галення паловы галавы, усё ж гэтыя п'яніцы, калі ім захочацца, могуць і такім зняволеным надзець кайданы і палову галавы агаліць ды і іншыя крыўды прыдумаць. Альбо яшчэ такое, напрыклад, іх самадурства: каб прадаць хлеб і квас зняволеным па большай цане, чым у вёсцы, яны наўмысна не выпускалі з астрога гэтых зняволеных — хаця б тыя не маглі схадзіць да вясковых перакупніц. А на самай мяжы з Табольскай губерняй, у Тагатыне, дзе па два разы днёўка, нам не дазвалялі болей чым адзін раз на тыдзень нават падагрэць ваду, хоць кухня была ў кожным астрозе — толькі давалі па кавалку хлеба. Не буду падрабязна пра ўсё расказваць, бо гэта вельмі непрыемна — пра задуху ў астрозе, дзе набіта мноства людзей, пра звон кайданоў і смурод ад парашы (гэта пасудзіна для натуральнай патрэбы, ставяць яе звычайна зняволеным на ноч, запіраючы на замок дзверы, ды і ўдзень апраўляюцца ў яе).

Але што тут казаць пра здзекі афіцэраў, што выслужыліся да гэтага звання з ніжэйшых класаў, калі ў Ніжнім сам ваенны губернатар Бутурлін, які падарожнічаў за мяжой і паходзіў са славутага роду, ды і меў такую высокую пасаду, аднаго разу, аглядаючы астрог, дзе мы з 40 гнанымі ў сібірскія гарнізоны паўстанцамі і з 15 асуджанымі на сібірскую ссылку наўгародцамі змяшчаліся ў адной камеры, аддзеленай ад іншых зняволеных калідорам, загадаў ужо ў дзве гадзіны папалудні ўнесці нам смярдзючую парашу і замкнуць нашы дзверы. Ды хто, апроч Фенікса, можа зразумець наша становішча і разгадаць сціснутае няволяй сэрца? У Бесерскім этапе былі мы сведкамі жахлівай сцэны. Гурт польскіх зняволеных з 40 чалавек, часткова паўстанцаў, часткова з рэгулярнага войска, апярэджваў нас, але на днёўцы мы яго дагналі. Афіцэр хацеў выплаціць срэбрам належныя кожнаму 12 капеек замест таго, каб даць асігнацыямі, як трэба было. Тут варта растлумачыць, што чым далей у Сібір, тым курс срэбра і золата робіцца ніжэйшы — апрача асігновак і медзі там не хочуць знаць іншых грошай. Аплата павінна выдавацца мядзянай манетай. У дарозе, за выключэннем рэдкіх там павятовых гарадоў, дастаць мядзяную манету вельмі цяжка. Таму польскія зняволеныя адмовіліся браць аплату срэбрам. Афіцэр быў п'яны. Распараджаўся ўсім сяржант. Угневаны тым, што яму не ўдалося пажывіцца, загадаў ён усіх узяць на прэнт. І вось дваім надзелі на рукі жалеза, якое колцамі прымацоўвалася да жалезнага прута. Убачыўшы гэтакі яўны здзек, зняволеныя кінуліся ў астрог, пакінуўшы закутымі двух сваіх таварышаў. Яны хацелі папытацца ў капітана, загадам вышэйшых чыноў намерыліся іх закоўваць

ці з уласнага жадання. Але сам капітан не прыйшоў да зняволеных, а загадаў праз сяржанта выходзіць усім у дарогу. Сяржант абвінаваціў зняволеных у бунце — хіба ж цяжка гэта зрабіць? У выніку капітан, сабраўшы атрад казакоў і сялян з вёскі, загадаў пайсці на зняволеных з нагайкамі і сілай выгнаць іх з астрога. Хапалі па адным і білі нагайкамі. Не менш як па 200—300 нагаек дасталося кожнаму. Нас трымалі пад замком, калі разыгралася гэтая жахлівая сцэна. Так каралі за выдуманы сяржантам бунт. Зняволеных, у якіх былі падбітыя вочы, сінелі на галовах і плячах пісягі ад удараў, узялі на прэнт, падвоілі для іх варту, прыцягнуўшы ў дапамогу стражнікам і сялян, і так пагналі іх да новага этапу.

Вядома, улады хацелі паказаць і сваю гуманнасць у адносінах да зняволеных, таму ў этапах мы сустракалі часам і шпіталі, казённыя аптэкі для такіх, як мы, і нават лекараў. Пры ўпадзенні Суры ў Волгу ляжыць мястэчка Васіль Сурскі. Там нагналі мы яшчэ таварышаў па няшчасці, калі спыніліся на днёўку. Выйшлі яны з Масквы, як мы бачылі, здаровыя і моцныя, але дарожныя нягоды і яшчэ больш цяжкія, амаль невыносныя начлегі на этапах прывялі іх да абложнай хваробы. Сустрэлі мы зусім знясіленых, падобных хутчэй на цені, чым на жывых людзей, Рафала Керсноўскага, Цяплінскага і Заянчкоўскага з Валыні. Апошні быў беспрытомны і аглухлы ад гарачкі, два другія ледзь маглі перастаўляць ногі. Ляжалі яны на голых нарах. Вясёлы лекар даў ім выпіць лекаў і ўвесь час суцяшаў, што яшчэ ніхто тут не памёр. Царскі флігель-ад'ютант Гогэль, які праязджаў тут і ўбачыў іх у гэтакім стане, загадаў забяспечыць хворых сеннікамі і падушкамі, а потым адвезці ў лазарэт. Але прайшло ўжо чатыры дні, і нічога не было выканана. Выгляд змучаных хваробаю таварышаў, якіх замкнулі на замок і приставілі варту, болем сціскаў нашы сэрцы. Мужны кракус Ляскоўскі, які не плакаў нават, калі бачыў некалі на полі бою смерць, цяпер да жывога быў крануты нэндзай і пакутамі хворых землякоў, якіх нейкі тыдзень назад бачыў здаровымі, і плакаў наўзрыд. Ледзьве ўпрасілі мы афіцэра, каб нас упусціў да іх — мы хацелі хоць даць ім, змучаным гарачкаю, кіпеню. Назаўтра зусім знямоглых пасадзілі мы іх на сані і павезлі ў далейшую дарогу, упэўненыя, што яны на нашых руках і вочы ўжо самкнуць. Але ні зімовы холад, ні прастуда, ні адсутнасць лекаў — нічога ўсё ж не пашкодзіла хворым. Паволі набраліся сілы: усё ж былі моцныя духам.

Рэдка, скажу я, даводзіцца сустрэць на этапах чалавека, які хай бы не паспагадаў, то хоць зразумеў бяду, і не таму, што ў гэтых людзей сэрцы з лёду, я так не сказаў бы, а можа, таму, што яны прывыклі да ўсяго гэтага. Ды і ці можна патрабаваць глыбокіх пачуццяў ад тых, у каго яны не развіліся. Вясковыя людзі на звон кайданоў і на просьбы выбраных ад гурту старастаў што-небудзь падаць прыносяць часцей хлеб, радзей адзенне, яны напояць зняволеных квасам, а часам і капейкай адораць. Так, у Слабадзішчы, калі пастаўленыя на кватэру ў селяніна (бо ў астрозе развалілася печ) зняволеныя хацелі заплаціць гаспадару за квас і салому, ён не ўзяў грошай. У Пермскай губерні жанчына з вёскі прынесла нам шклянку смятанкі да чаю. У той жа губерні поп прыслаў нам 20 яек, а вартаўнік кабакоў даў яшчэ 30 яек.

Тыя, хто прыносіў падаянку, вызваляліся ад абавязку хадзіць па ваду, якую вязні насілі па чарзе. Часам выбіраецца для гэтага адзін з вязняў, за што яму плацяць па дзве капейкі на тыдзень.

Я забыўся напісаць яшчэ пра старасту. Выбіраецца ён самімі зняволенымі. Калі ён ішоў у кайданах, то іх у гэтым выпадку здымалі. Стараста адказвае ў астрозе за вокны, дзеліць падаянку, выплачвае ўрадавыя дзесяць капеек, вырашае з афіцэрам ад імя гурту ўсе іншыя пытанні. Калі б сярод арыштантаў выкрылі кражу, то злоўленага злачынца чакала б пакаранне розгамі, прытым самі ж зняволеныя тут памагалі б.

Ад Масквы да Табольска, нідзе не спыняючыся болей, чым нам адводзілі на гэта часу, ішлі мы ад 7 лютага да 4 ліпеня. Час прыбыцця кожнага гурту быў загадзя падлічаны.

Магчыма, у маім апісанні будуць і некаторыя недакладнасці, але больш дакладна пра тыя пераходы наўрад ці хто яшчэ раскажа. Думаю, паведанае мною можа даць пра іх нейкае ўяўленне.

Вельмі засмучае мяне страта некалькіх сотень кніг і маіх папер, у якіх быў сабраны ўвесь плён шматгадовай працы. Гэта адзіны Скарб, які не так хутка набываецца. Што сталася з невялікай маёй рухомасцю, мне зусім невядома, хоць я пра тое пытаўся. Яшчэ болей засмуціла мяне страта ва Уладзімірскай губерні ладанкі, якую альбо я згубіў дзе, парваўшы нейкім чынам шнурочак, на якім яна трымалася, альбо нехта яе ўкраў, мяркуючы, што ў ёй зашыты дарагія паперкі. Яна — адзіная мая рэч з Захаду, што заставалася пры мне, бо люльку, якая падарожнічала са мною ў Літву, яшчэ раней у мяне ўкралі на этапе. Гэта былі адзіныя страты ў дарозе. Зрэшты, што я мог яшчэ страціць, нічога не маючы.

Два разы за дарогу мяне мучыла моцная гарачка, аднак з дапамогай дыеты, якой тут не цяжка прытрымлівацца, і вялікай дозы лёгкага чаю адзін раз на дзень і паласканняў горла я ўсё ж вылечыўся; нягледзячы на вялікую прагу піць, я шэсць дзён устрымліваўся ад усякага, акрамя таго чаю, пітва, і, можа, дзякуючы гэтаму ўстрыманню я яшчэ жыву.

Не шмат у мяне засталося на галаве валасоў, але вусы так разрасліся, такія сталі густыя, што ўжо нагадваюць лясы Вяцкай губерні. Цяпер я — бяздомны асаднік, які не сее, не арэ і на тры гады вызвалены ад усякіх падаткаў. Пасля ж павінен буду разам з сялянамі Бранікоўскай воласці плаціць па 15 руб. асігн. на папраўку дарог, даваць стойкі і коней для чыноўнікаў.

Седзячы над Іртышом і скіраваўшы вока ў глыбокае неба, твару з аблокаў і свет, і людзей, бо ўсё тут чужое. Пазаўчора адляталі на захад шнуры журавоў, і мне здавалася, што яны і мяне клікалі з сабой у дарогу. Толькі ў думках я магу паляцець з імі, а сам усё роўна застануся ў глухім стэпе. Пасля гэтулькіх жыццёвых пертурбацый я яшчэ не магу знайсці самога сябе, прывучыцца да сваіх заняткаў. О, якая б гэта была асалода ў цяперашнім маім становішчы — заняцца якім-небудзь рамяством! Можа, пасля гэтулькіх маіх пакут бліснула б у маёй галаве і якая светлая думка, і весялейшыя колеры беззваротнага мінулага неяк перанесліся б на будучыню.

Ды што зробіш, пакуты — надта доўгія, а жыццё — кароткае. Усё некалі скончыцца.

Сябрам, знаёмым, якія рады будуць даведацца, што я яшчэ жывы, прашу перадаць, што я іх помню, і павіншаваць з тым, што ўцалелі ад халеры і буры, якая гэтак нас параскідала...

## Каментарыі

**«Роздум каля руінаў Гедымінавага замка».** Верш быў прачытаны аўтарам на пасяджэнні Таварыства філаматаў 11 лістапада 1817 г. Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле выд.: Poezja filomatów / wyd. Jan Czubek. — Wilno, 1922. — T. l. — S. 156—160.

[1] Гедымін (г. н. невядомы — 1341) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага.

**«Купала».** Упершыню твор быў прачытаны аўтарам на так званым навуковым пасяджэнні II аддзела Таварыства філаматаў 26 снежня 1819 г. Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле таго ж выдання, с. 187—195. Падаецца ў скарачэнні.

[1] Мультанка — від дудкі.

**«Дарога ў Сібір».** Пераклад з польскай зроблены К. Цвіркам паводле кн.: Archiwum filomatów. — T. l: Na zesłaniu. — Wrocław; Warszawa; Kraków, 1973. — S. 229—238.

[1] Кракус — салдат лёгкай кавалерыі (польск.).

## ЕВА ФЕЛІНСКАЯ
## (1793—1859)



Ева Зыгмантаўна Фелінская, у дзявоцтве Вэндорф, нарадзілася ў беларускай вёсцы Узноба, што недалёка ад Зембіна (цяпер сельсавет ў Барысаўскім раёне). Памерла ў 1859 г. ва Украіне, куды пераехала пасля вяселля ў 1811 г. з Гербертам Фелінскім — памешчыкам з Валыні, братам вядомага польскага драматурга і паэта Алаізія Фелінскага. За ўдзел у падпольнай арганізацыі Сымона Канарскага, таксама як Францішак Савіч, была асуджана на пяцігадовую ссылку, якую адбывала ў Бярозаве (Сібір) і Саратаве.

Ева Фелінская — аўтар твораў, прысвечаных жыццю беларускай шляхты першай паловы XIX ст. Апісанне побыту і звычаяў шляхты ў аповесцях «Герсылія» (1849), «Пан дэпутат» (1852), «Пляменніца і цётка» (1853) заснавана на ўласных успамінах і ўяўляе значную гістарычную каштоўнасць. Самую шырокую вядомасць прынеслі Еве Фелінскай яе мемуары. У 1845—1853 гг. яна надрукавала ў Вільні «Успаміны з падарожжа ў Сібір», якія былі перакладзены на англійскую і венгерскую мовы, а таксама ў 1856—1859 гг. выдала «Успаміны з жыцця», дзе расказала пра жыццё ў бацькоўскім доме ўключна да 1821 г.

*Г. Тычка*

### ПАСЛЯ ШЛЮБУ

Вось я і замужам. Мой лёс спалучыўся назаўсёды з лёсам чалавека, які дагэтуль быў мне чужы, мая індывідуальнасць прапала, цалкам растварылася ў яго асобе. Я ўзяла іншае прозвішча, выракаючыся свайго, іншую сям'ю прызнала сваёй, іншае неба — родным, прысвяціла сябе іншым інтарэсам, уцякаючы ад ўсяго, што да гэтага часу складала сутнасць майго існавання. Урачысты момант у жаночым жыцці, бязмежнае адмаўленне ад сябе.

Калі б роздум перамог эмоцыі, можа быць, і не хапіла б сілы адважыцца на такую вялікую ахвяру, але ва ўзросце, калі эмоцыі пераважаюць, кожная ахвяра здаецца лёгкай, і самі пачуцці здольныя ўзнагародзіць ўсе пасвячэнні.

Для мяне ўжо скончыўся цудоўны ранак жаночага жыцця, сатканы з ружовых мрояў, паэтычнай узнёсласці, урачыстых надзей, заманлівай гульні ўяўлення, смутку часам беспадстаўнага, але ж ад гэтага не менш балеснага. І стала я на парозе новага

жыцця, у пункце, дзе мінулае і будучыня сутыкнуліся на мяжы: адно, каб развітацца са мной назаўсёды, другая, каб увесці ў новы незнаёмы свет, жыхаркай якога я стану, прымаючы удзел у яго цяжкай працы і ўзнагародах.

Трохі шкада мне стала таго мінулага, якое развітвалася са мной, беззваротна знікаючы, таго мінулага, поўнага свабоды і ўзнёслых мрояў, дзе клопат быў чужы, а надзея — бязмежнай, дзе сэрца білася так горача, і вочы глядзелі ў такое чыстае, такое бясхмарнае неба, як пачуцці і думкі, што з яго сплывалі, дзе турботы былі нават прывабнымі, ствараючы цені ў вобразах, намаляваных жывымі фарбамі ўяўлення. Але ж хоць мінулае, адыходзячы назаўсёды, так панадліва ззяе ва ўспамінах, вобразы будучыні таксама прывабныя. Каханне працягвае руку, каб увесці ў незнаёмую айчыну, зямлю абяцаную кожнай жанчыны, усмешка яго такая салодкая, так надае адвагі, а далоні такія цёплыя, а плячо, якое нам падстаўляюць для таго, каб весці на новых сцежках, такое моцнае, што здаецца, мы ўступаем у гэтае новае жыццё, толькі замяняючы сваё даўняе, прымроенае ўяўленнем, на рэальнасць. І з душой, поўнай даверу, робіцца крок па неспазнанай зямлі, пачатак якой прывабны і аздоблены кветкамі, і хоць не бачым, што робіцца далей, не сумняваемся, што і там усё будзе, як на пачатку.

І толькі пазней, калі сапраўды становімся насельнікамі таго новага свету, калі мары пераўтворацца ва ўчынкі, уяўленне не раз будзе змушана скласці крылы, распраўленыя для палёту, ударачыся штохвіліны аб рэчаіснасць, мусіць скараціць бязмежнае буянне, развітацца не з адной мілай, але фальшывай марай, якую мы тулілі да сэрца, як любімае дзіцятка. Расставанне з мрояй — часта з жалем, як быццам развітваешся з прыяцелем, з якім прайшла разам найсвабоднейшая частка зямной пілігрымкі. Нават не раз уздыхнуць па той чарадзе фантастычных малюнкаў, якія мы прывыклі лічыць рэальным светам, і куды ляцелі нашы неакрэсленыя жаданні, з якой звязвалі мы надзеі будучыні. І ўсё ж, калі ніклі малюнкі, што існавалі адно ва ўяўленні, працверазелы розум насоўваў іншыя думкі і паняцці, падказваў больш сур'ёзным і менш эгаістычным вокам глядзець на свет і яго законы. Даючы шэраг абавязкаў, частка якіх лягла на жаночыя плечы, вучыў, што дагаджаць памкненням уласных пачуццяў — не галоўная задача жыцця. І толькі стаўшы актыўным сябрам суполкі, якая дагэтуль была адно надзеяй і мрояй, падзяляючы супольную працу, аддаючы іншым тое, што старанна здабывалася самой, і ў клопатах нават не заўважаючы таго, збіраць плён тых стаpанняў, пакуль маладосць не прайшла, адмаўляцца ад абавязкаў свайго паклікання — толькі тады набыць права самапавагі і павагу іншых.

Прайсці дарогай, засланай не толькі кветкамі ружаў, але і іх цернямі, і мець права сказаць перад Богам і людзьмі: «Споўніла пасланне, якое мне было дадзена, наколькі дазволіла мая слабасць». <...>

Дзве Шэмешавы, пагасцяваўшы яшчэ некалькі дзён у Зембіне, паехалі, але развітанне не было надта сумным, бо ўзнік праект, што я з мужам і абедзвюма Зубковымі прыедзем у Баратычы на свята Божага Нараджэння. Яно было неўзабаве, але пакуль дайшло да ад'езду, сталася так, што справы затрымалі Герарда ў Зембіне, і таму разам з Зубковымі паехала я адна.

Дванаццаць міль праехалі мы вельмі хутка. Санны шлях быў цудоўны, і хоць была гэта лясная ваколіца, нізіна, залітая вадой і балотам, мароз пасціскаў ваду, снег засыпаў і дарога зрабілася гладкая і слізкая, як шкло. На другі дзень мы былі ўжо ў Баратычах.

Маршалак Шэмеш прыняў нас як заўсёды з гасціннай ветлівасцю, але з яго маці пайшло ўсё не так гладка. Як толькі яна мяне ўбачыла, адразу ўзялася за допыт.

— Ну што? Чула я ўжо, што ты замужам, але, выглядае, няма з чым віншаваць.

Мне, непадрыхтаванай да такога кампліменту, кроў ударыла ў галаву, але, паколькі я ведала звычкі старой, хутка супакоілася і адказала:

— Не ведаю, як каму выглядае маё замужжа, але што да мяне, то спадзяюся быць шчаслівай, а больш нічога мне і не трэба.

— Шчаслівай! — паўтарыла старая. — Якое там шчасце будзе ў ліха, калі маёнтку падобна ніякага, і прозвішча нейкае, даруй Божа, як там завецца той муж васпанны?

Я ўжо хацела абурыцца, бо кроў зноў ускіпела гневам, але, прыгадаўшы, што маю дачыненне са старой Шэмешыхай, устрымалася і суха адказала:

— Фелінскі, да паслуг пані.

— Фелінскі, — буркнула старая, скрывіўшыся, як быццам пакаштавала штосьці нясмачнае. — Хто калі чуў такое прозвішча? Колькі жыву, ніколі не чула ні пра якіх Фелінскіх.

— Можа, і ёсць ваколіцы, — адказала я, — дзе ведаюць гэтае прозвішча, таксама як тут Шэмешаў. Урэшце, што мне да прозвішча, мне і гэтае добрае.

Старая, не зважаючы на мой адказ, аднак жадаючы выгаварыцца, у тым жа тоне працягвала далей:

— Хто калі чуў пра Фелінскага? Хіба што-небудзь падазронае? Можа, і не шляхціц ён, можа, аферыст які.

Мая кроў бурліла на такую гаворку. Але я ведала, што старая ў палоне звыклых забабонаў. І памятаючы, што нашы погляды настолькі процілеглыя, што наўрад ці зможам мы з ёй паразумецца, я вырашыла прамаўчаць, дазваляючы гаварыць усё, што ёй хочацца. Старая і праўда гаварыла безупынна, часам звяртаючыся да мяне, а часам як быццам сама з сабою.

— Было б чаго спяшацца? Лепш бы ўжо ссівець у дзеўках, чым пайсці замуж ні ў пяць ні ў дзесяць, а гатова яшчэ спаскудзіць сям'ю невядома якім прайдзісветам. Вось як робяць цяперашнія паненкі. З вялікага розуму ўрэшце рэшт робяць глупства. Ой, розгамі, розгамі, хай бы слухалі, а не рабілі па-свойму.

Трэба было вялікае цярпенне, каб слухаць усё гэта, але дала сабе слова, што змаўчу, і хацела яго стрымаць. Слухала з удаванай абыякавасцю, як быццам гаворка ішла пра рэчы, якія мяне не абыходзяць. Тым часам старая пляла ўсё, што толькі прыходзіла ёй да розуму, сама сябе распаляючы, ажно пакуль не змарылася. Урэшце ад сентэнцый, сцвярджэнняў і агульных разваг перайшла да простага пытання.

— З каго ўсё ж парадзіўся той муж васпанны?

І гэтым пытаннем канчаткова дабіла мяне старая. Я ведала, якое вялікае значэнне надае яна факту, хто ад каго паходзіць, а я, на няшчасце, абмяркоўваючы з мужам шмат неадкладных спраў, нават забылася запытацца, як было дзявочае прозвішча яго маці. Здавалася мне, што гэтае прозвішча, гучанне якога даўно знікла, аніяк не паспрыяе павелічэнню масы нашага шчасця, якое мы не збіраліся дзяліць на мноства катэгорый. І трапіла старая са сваім пытаннем на зусім непадрыхтаваную глебу. Я была не ў стане задаволіць яе цікавасць. А калі прызнаюся, што не ведаю прозвішча мужавай маці, то такім адказам адразу заб'ю свайго мужа ў вачах старой. Яна яшчэ падумае, што ён з'явіўся на свет іншым спосабам, чым усе, і яна абвясціла б яго ўсюды як адрынутага ад грамадства, прынамсі, шляхецкага, выдумляючы пра яго розныя небыліцы. І каб пазбегнуць гэтага, я вырашыла ўратаваць свайго мужа і пазычыць у каго-небудзь прозвішча для яго маці.

Здавалася мне, што гэта цалкам нявінны падман, які не прынясе шкоды нікому, справа было толькі ў тым, каб як мага хутчэй асмеліцца на пазыку, ці справа, ці злева ўхапіць хоць якое прозвішча, абы было. І якраз у гэты момант мне прыгадалася, што старая не раз з гонарам паўтарыла быццам у яе жылах цячэ нейкая кропелька крыві з Дуніных, ад маці, бабулі ці то прабабулі. І я ўхапілася за гэтае прозвішча, бо яно прыгадалася мне, і ўганаравала ім маці майго мужа.

Гэтае прозвішча, вымаўленае ўслых, зрабіла магічнае ўздзеянне, на якое і не спадзявалася. Старая з вялікім здзіўленнем і ўзрушэннем усклікнула:

— Што ты кажаш? Твой муж з Дуніных? Сапраўды з Дуніных? Вось табе і на! Хто б спадзяваўся! Хвала Богу, што роўня табе, што не нарабіла сораму сям'і. Хай цябе Бог благаславіць, калі так. Ад Дуніных нарадзіўся. Чаму ж ты мне адразу пра гэта не сказала? Гэта ж зусім іншае. Шкада, што яго тут няма, распыталі б з якіх гэта Дуніных яго маці, можа, нават паміж намі ёсць нейкае сваяцтва?

І з гэтага часу старая стала гаварыць са мной больш ласкава і згадваць майго мужа са значна большай сімпатыяй. Пачала нават распытваць мяне пра больш блізкіх і далёкіх сваякоў, аб чым, скарыстаўшы адзін раз прынцып пазыкі, я пачала расказваць, паслугуючыся рознымі прозвішчамі, якія толькі былі знаёмыя вуху старой. З тых прозвішчаў у галаве бабулі ўзнік хаос, які аніяк і ніколі не магла ўпарадкаваць ніводнай яснай думкі, толькі агульнае ўяўленне, але значна больш прыхільнае ў стасунку да майго мужа. І таму на працягу ўсяго майго побыту ў Баратычах падтрымлівалі мы гарманічныя стасункі, і старая больш не саромілася сваяцтва са мною.

*[1850-я гады]*

**Каментарыі**

**«Пасля шлюбу».** Пераклад з польскай мовы Г. Тычка зроблены паводле выд.: Felińska Ewa. Wspomnia z zycia... — Wilno, 1856. — T. 1.

# ІГНАТ ШЫДЛОЎСКІ (1793—1846)



Паэт, перакладчык, выдавец, фалькларыст. Нарадзіўся ў вёсцы Гайна Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскую гімназію і Віленскі ўніверсітэт. Быў членам літаратурна-грамадскага таварыства шубраўцаў. Выкладаў у Свіслацкай і Віленскай гімназіях. У 1818—1822 гг. — рэдактар часопіса «Віленскі штотыднёвік», у 1826—1828 гг. — віленскі цэнзар. У 1835—1843 гг. выдаваў часопіс «Адбіткі і навуковыя разгляды». Выдаў зборнік «Выбар розных жанраў паэзіі» (1818). Аўтар одаў «Шчасце і мір» (1812), «Да Яна Снядэцкага» (1819), «Гарадніца», ода, прысвечаная памяці Антона Тызенгаўза» (1820), «Дабрачыннасць» (1823), лірычнай сцэнкі «Агар у пустыні» (1830). Перакладаў на польскую мову творы Г. Дзяржавіна. Шыдлоўскаму прыпісваецца аўтарства артыкула «Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні Барысаўскім павеце Гаенскай парафіі, назіраныя ў 1800, 1801 і 1802 гадах з некаторымі песнямі і нотамі», апублікаванага ў часопісе «Віленскі штотыднёвік» (1819, т. 7, № 130, 132) і паўторанага ў працах Я. Тышкевіча, П. Шэйна, О. Кольберга і ў фальклорным зборніку «Вяселле» (1978). Паводле іншых звестак, аўтар гэтага артыкула З. Даленга-Хадакоўскі.

*А. Мальдзіс*

## ФРАШКІ

### ДА АДНАВОКАГА

На тое, каб табе не стаць ахвярай здрады,
Ты, Павел, не вышуквай спосаб адмысловы.
Аргус у сто вачэй не ўпільнаваў каровы[1],
А ты адным хацеў бы ўгледзець жончыны бравады.

### ДА НАХАБНІКА

Нахабніка пазбыцца — простае заданне,
Не трэба лішніх клопатаў, ахвяраў:
Пазыч яму ты некалькі таляраў,
І ён сустрэч з табой шукаць не стане.

### НАДМАГІЛЬНЫ НАДПІС ЧАЛАВЕКУ, ЯКІХ НЯМАЛА

Той, хто тут спачывае, вартасцяў меў многа:
Быў мудрацом без адукацыі,
І шляхціцам без атэстацыі,
І слаўным дабраком з душою ўбогай.

## Каментарыі

**Фрашкі.** Пераклад з польскай мовы П. Бітэля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

[1] Аргус — паводле грэчаскай міфалогіі, мнагавокі велікан, якому багіня Гера даручыла сцерагчы багіню Іа, каханку Зеўса, ператвораную ёй праз рэўнасць у карову.

## ІГНАТ ХОДЗЬКА
## (1794—1861)



Пісьменнік, мемуарыст. Нарадзіўся ў вёсцы Заблошчына Віленскага раёна. У 1810—1814 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце, які скончыў са ступенню кандыдата філасофіі. У 1814 г. абраны членам таварыства шубраўцаў.

Ігната Ходзьку выхавала шляхецкая гавэнда — вусныя гутаркі, апавяданні, якія так любілі калісь на Беларусі. Гавэнда, якая сталася школай жыцця ці то «акадэміяй» (К. В. Вуйціцкі) для сярэдняга класа тагачаснага грамадства. «Гавэндарам» быў Мацей Відмант, дзед з боку маці, у маёнтку Заблошчына на Вілейшчыне якога і прыйшоў будучы літаратар на свет. «Гавэндарам» быў і Міхал Ходзька, дзед з боку бацькі, што жыў у маёнтку Дзявентня, тым маёнтку, дзе пройдзе большая частка жыцця І. Ходзькі. Але калі ад дзеда Мацея ён вучыўся «сармацкай рэлігійнасці», вучыўся «жыць у рытме літургічнага календара», то дзед Міхал апавядаў пра старашляхецкія традыцыі, пра мінулае свайго краю. Своеасаблівым працягам хатняй «акадэміі» сталася вучоба ў базыльянскай школе ў Барунах. Характэрна, што менавіта досвед, атрыманы ў барунскай школе, будзе вельмі часта выяўляцца ў пазнейшай літаратурнай творчасці пісьменніка. А вось вучоба ў Віленскім універсітэце (1810—1814), уплыў Яна Снядэцкага, ідэолага віленскіх класіцыстаў, спрыялі захапленню асветніцкімі ідэямі. Масонскія ложы Мінска і Вільні, прэзідэнтам якіх быў родны дзядзька і апякун пасля смерці бацькоў Ян Ходзька, славуты ў той час літаратар, а таксама таварыства шубраўцаў, у якім І. Ходзька меў мянушку Віршайтас (бог старалітоўскай міфалогіі), зноў жа схілялі яго да пазіцый яшчэ тады аўтарытэтных класіцыстаў. І. Ходзька піша оды, анакрэонтыкі, сатыры, артыкулы ў «Wiadomości Brukowe», вядзе палеміку з рамантыкамі (паэтычны ліст да А. Э. Адынца, свайго сябра). Асветніцкім духам прасякнуты і першы значны твор літаратара — аповесць «Падданы» (1829), якой захапляўся А. Міцкевіч ды раіў развіваць свой талент у гэтым кірунку. Геніяльны А. Міцкевіч здолеў убачыць у гэтым яшчэ цалкам класічным творы патэнцыял будучых гавэндаў пісьменніка. Мажліва, адмовіцца ад старых літаратурных традыцый «дапамог» дзядзька, Ян Ходзька, сваімі гісторыка-мемуарнымі творамі, што стаяць ля вытокаў шляхецкай гавэнды ў літаратуры. Хоць агульнапрызнана, што грамадную ролю тут адыграў А. Міцкевіч і яго «Пан Тадэвуш». (Дарэчы, у альбом Людвікі Мацкевіч, будучай жонкі І. Ходзькі, паэт-прарок запісаў верш «Незнаёмай, далёкай, незнаёмы, далёкі...» за некалькі дзён да высылкі ў Расію ў 1824 г.) Менавіта ліцвінскі патрыятызм «Пана Тадэвуша» падахвоціў іншых ліцвінаў заняцца працай дзеля сакралізацыі сваёй Бацькаўшчыны. А вось структуру «Літоўскіх малюнкаў» «падка-

заў» І. Ходзьку Генрык Ржавускі, які «сабраў» пад адным тытулам («Успаміны Сапліцы») шэраг шляхецкіх гавэндаў.

І. Ходзька ўключыў у свой твор, які ён выдаў у шасці серыях (1840—1850, 1862 гг.), 26 гавэндаў. Жаданне закрануць у сваіх творах больш далёкія часы (у «Літоўскіх малюнках» гэта канец XVIII — пачатак XIX ст.), вывесці на сцэну «гавэндара» больш далёкага мінулага падказала ідэю «Літоўскіх паданняў», што выйшлі ў Вільні чатырма серыямі (пяць гавэндаў) у 1852 — 1860 гг.

Дваццацігадовая літаратурная праца І. Ходзькі была належна ацэнена яго сучаснікамі. Ён карыстаўся заслужанай славай. А найбольш захаплялі чытача «Успаміны квестара» (квестарам манахі-бернардзінцы называлі брата, які збіраў ахвяраванні на кляштар). Дзесяць разоў у XIX ст. (з іх тройчы пры жыцці аўтара) гэты твор перавыдаваўся ў Вільні. Пісьменнік, адмовіўшыся ад літаратурнай вытанчанасці, абраў дзеля свайго твора прымітыўную манеру апавядання. Яго аповесць — стылізацыя пад няхітры дзённік-успаміны ўяўнага квестара, былога маршалка двара полацкага ваяводы Міхала Лаўрыновіча, што, ратуючыся ад гневу гаспадара, знаходзіць прытулак за кляштарнымі сценамі. Спецыфіка «працы» квестара дае магчымасць аўтару пазнаёміць чытача з традыцыйным шляхецкім жыццём не такога ўжо і далёкага, але часткова забытага мінулага, ды мінулага шчаслівейшага. Пазнаёміць з тым часам, калі ў краі панавалі іншыя законы і парадкі, калі ісціна, што дабро перамагае зло, была святой. Зрэшты, тагачасным крытыкам (асабліва эмігранцкім) гэтага было недастаткова. Яны адшуквалі ў творах І. Ходзькі «лаяльнасць» да расійскіх уладаў, абвінавачвалі ў мімікрыі; сцвярджалі, што гістарызм пісьменніка ўяўны, павярхоўны. Асабліва жорсткімі ў адносінах да І. Ходзькі былі артыкулы Ю. Клячкі і К. Уейскага пасля вядомай акцыі віленскіх літаратараў ушанавання Аляксандра II «Альбомам» у верасні 1858 г. Гэту акцыю А. Э. Адынца, І. Ходзькі, М. Маліноўскага і А. Кіркора патрыёты-радыкалы палічылі за нацыянальную здраду. А І. Ходзьку дасталося яшчэ і за іншыя «грахі» — напрыклад, зусім некарэктна вытлумачваліся дзеянні пісьменніка ў так званай справе вызвалення сялян. Больш за тое, К. Уейскі імкнуўся ахарактарызаваць І. Ходзьку як пана-прыгнятальніка, які цешыцца, бачачы, як катуюць бізунамі мужыка. А вось У. Сыракомля сцвярджаў зусім адваротнае: «довад даверу да яго народа — абранне ў 1861 годзе міравым пасярэднікам у Свянцянскім павеце». Аўтарытэт Ходзькі-пісьменніка сярод шматлікіх чытачоў, сярод адукаванага класа грамадства падмацоўваўся, такім чынам, аўтарытэтам сярод простага люду.

*І. Шпакоўскі*

## ЗОСЯ, ДЗЯЎЧЫНА-СВАВОЛЬНІЦА

Анакрэантычны верш

Голас шчыры і шчымлівы,
Ружаў пах, як сон, прыемны,
Промні ўсмешкі зіхатлівай,
Чары варажбы таемнай.
Лёгкі, быццам дух дзянніцы,
Што суквеццяў пах разносіць,
Позірк гэтай чараўніцы
Вільгаць слёз падманных росіць.

Ах, свавольніца дзяўчына!
На шаснаццатым гадочку
Самастойна, дабрачынна
Сустракалася ў садочку.
Сведкі? З-за яе міжволі
Адракаліся ад волі
І не чулі голас з неба:
«Сустракацца з ёй не трэба!»
Асцярожна! Тым, хто волі
Рад, як сонцу, мая рада:
Вы не верце ёй ніколі —
Вас пазбавіць волі здрада.
Лепш не верце ўсмешцы гэтай
І кахайцеся з кабетай.
А калі вам уздыхнецца,
Не глядзіце так маркотна,
І няхай вам не здаецца,
Што глядзіць яна пяшчотна.
Божа, думаеш, — кахае!
І адразу ўсё даруеш,
І жыццё ёй ахвяруеш,
Як убачыш, што ўздыхае,
І — бывай спакой твой вечны!
Загудзе агонь сардэчны!
Зрэагуе ўвачавідкі,
Што папаў ты з ходу ў нерат —
Ні назад і ні наперад!
Абярэ цябе да ніткі:
Не ўгаворыш, не замовіш,
Пырхне матыльком — не зловіш!
А як сеткі расстаўляе,
Бога ў сведкі запрашае!
Ох, бяда таму, хто верыць,
Мала жыць яму на волі:
Розум дзеўчыны не змерыць,
Больш кляцьбы — ахвяраў болей.
А гняўлівасць без прычыны,
А суровасць... Бляск жалеза!
І баяцца ўсе дзяўчыны:
Вось заўзятая, гарэза!
Слова мовіць не жадае.
Возьмеш ручкі — вырывае.
Не памогуць прабачэнні,
Хоць саб'еш ушчэнт калені
І ў імгненне — слодыч мары! —

Нібы сонейка з-за хмары,
Бліcне ўсмешкаю вясёлай,
Мовіць голасам анёла
Што з дзяўчынай адбылося?
На чале ўжо німб лагоды.
Весела смяецца Зося,
Прыгажуня, як заўсёды.
Той, хто быць нягодным мусіць,
Спакушае ўсіх і хлусіць,
Мае схільнасць і жаданне
Да забойства, катавання,
Той, хто панам сэрцаў прагне
Стаць і ўсіх Багоў дасягне —
Неабходны ў нашым лёсе
І падобны ён... да Зосі.
Зося чараваць умее,
Чараў мае дастаткова:
Боскай велічы аснова —
Любасць, вера і надзея.
Кіферэін улюбёнчык —
Родны сын з прыемнай мінай.
Што я бачу? Купідончык!
Дзеля Бога, вось навіны!
Гэта — ён! Спытаў бы: «Хто ты?»,
Каб не ведаў ад кагосьці
Ці не чуў наогул штосьці
І пра лук і пра залёты.
Лук яго — пазалачоны,
Стрэлы вострыя ў калчане.
Як жа носіць іх, натхнёны,
Ён за снежнымі плячамі!
Прэч адгэтуль! Небяспека:
Там, дзе пройдзеш ты паволі,
Не хацеў бы я ніколі
Пад тваёю быць апекай.
Ты як глянеш атупела —
Жалю ў сэрцы не знаходзіш.
Не душы маёй збалелай
Ты вярнуць спакой прыходзіш?
«Не,— смяецца неспадзеўна
(Так, як толькі Зося ўмее), —
Як пагодзімся, напэўна,
Будзе і ў цябе надзея.
Ды ў страле, з жалеза кутай,
Ёсць і роспачы атрута.

Я пакуль што не караю,
А падумаць добра раю:
Кім — круцелькай ці анёлам —
Лепш назваць дзяўчыну будзе,
Каб надзея промнем кволым
І твае сагрэла грудзі? Зосю ты не абгаворвай,
Не разносъ па свеце плёткі.
Уяві: Купід і... цноткі. Адыдзі!
Не стой над прорвай.
Плёткі, ведаеш,— не жарты.
Дык чаго яны ўсе варты?
Абражаць яе наважыш —
Ты ж мяне найперш зняважыш...»
Досыць, я кажу з запалам,
Буду жыць адной надзеяй.
Час канчаць з пісаннем, шалам:
Ад пяра рука дранцвее.
Што хлапец тут вырабляе!
З рук пяро ён вырывае,
Ломіць, топчучы нагамі:
«Вось і згода паміж намі».
Што ж, кажу, хай будзе згода,
Ды пяра свайго мне шкода.
Дай ты мне за абяцанне
Не пісаць стралу ў калчане.
«Лепш перапрасі дзяўчыну,
Ну а я знайду прычыну,
Чаму вобраз мой з ахвотай
Ты счарніў і перайначыў,
Хоць мяне раней не бачыў?
Каб паздзекавацца ўпотай?»
Лепш пакінь ты свой занятак:
Я скажу, ты скажаш слова —
І пачнецца ўсё нанова.
«Хай, каб не шукаць пачатак,
Зося будзе нам суддзёю».
Потым «ха-ха-ха» — і ходу!
Што рабіць? Да нас ён зроду
Будзе ставіцца варожа.
Хто яму адпомсціць зможа?
Ах, няўдзячны, ах, нягодны,
Небяспечны, прагны, шкодны!
Крыўда, гнеў — усё праходзіць.
Як жа Зосю мне ўлагодзіць?

# УСПАМІНЫ КВЕСТАРА
## (скарочана)

(Кніга авеяна паэзіяй вандровак, вытрымана ў гумарыстычнай танальнасці, са своеасаблівым парадыраваннем махлярскага і вандроўнага раманаў, гераічнага эпасу. Натуральна, тут няма ні рога Раланда, ні мяча Нібелунгаў, затое ёсць шабля Эльжутка, меч Гарасім, паэтызацыяй якіх кніга пачынаецца і заканчваецца. Як і ў махлярскіх раманах сярэдніх вякоў, у кнізе раскашуе дасціпнасць і хітрасць, так неабходная яе вядучаму герою-апавядальніку ў пошуках хлеба надзённага сабе і «калегам» — манахам. Але калі ў сярэдневяковай літаратуры паказвалася ашуканства і нават злачынства махляроў, то ў кнізе Ходзькі адбываецца турнір жартаўнікоў (накшталт колішняга турніра рыцараў). «Выйграе» зазвычай скарбнік Міхал Лаўрыновіч і атрымоўвае свайго рода «прэмію» — «квесту», ахвяраванні вернікаў на кляштар. Выбраны аўтарам прыём апісання вандровак скарбніка дазваляе падаць шырокую панараму жыцця Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. Дзе толькі ні пабываў скарбнік?! Перад намі Мінск, Пінск, Полацк і Ушачы, Вільня і Нясвіж, шматлікія маёнткі і сядзібы. Паказаны сеймікі, якія давялі да разладу Рэч Паспалітую, і вайна 1812 г. З гістарычных постацей на першы план выступаюць Радзівіл і Напалеон. Спрацоўваюць перастаноўка рэалій, рэтраспекцый: Пане Каханку жыў значна раней таго часу, у які жыве Лаўрыновіч, але ж тым не менш яны падаюцца як сучаснікі.

Суправаджае скарбніка фурман Марцін — спрактыкаваны і памяркоўны праваднік і дарадчык. Наперад запускаецца баран, за якім цягнецца ўся чарада авечак.

Успаміны пачынаюцца і заканчваюцца своеасаблівай рамантызацыяй усяго, што звязана з войскам, са зброяй, толькі на пачатку была гульня ў вайну, [redacted] ў канцы — і сапраўды вайна супраць захопнікаў, супраць французаў. Кніга ўяўляе сабой россып разрозненных эпізодаў, падзей, з'яднаных вобразам Міхала Лаўрыновіча. Ён аўтар успамінаў, ён жа і герой аповесці, удзельнік падзей.

Міхал Лаўрыновіч служыць у ваяводы, ён шляхетны і разумны; [redacted] насмешкай апісвае ён непамерныя амбіцыі паноў, іх сутычкі на сеймах і сейміках. Гатовы заступіцца за пакрыўджанага, беднага, таму згаджаецца стаць секундантам на дуэлі Станіслава Свяводы з шамбелянам — пляменнікам ваяводы. Можа, па гэтай, а можа, па іншай прычыне ў кнізе гэтыя падзеі пакрыты таямніцай — ён выклікаў няміласць ваяводы і вымушаны быў пусціцца на ўцёкі, ратавацца ў манастыры. Міхал, які развітаўся з Эльжуткай, калі перайшоў у стан манахаў, у канцы зноў яе знайшоў у моцных маладых руках сына аднаго са сваіх сяброў, які вызваліў яго [redacted] лап марадзёраў-французаў падчас вайны 1812 г. Хаця шляхціцы — гэта героі часоў Раланда і Нібелунгаў, але ўсё ж такі па-свойму і яны рыцары. Са смехам, сумам і, можа, нават з любасцю апісвае Міхал Лаўрыновіч ваяку Пякарскага, паручніка ў пана ваяводы ў Ушачах, які вучыць шляхту, як карыстацца зброяй, і ніяк не можа дамагчыся, каб яны прыгожа і хвацка карысталіся ёй, а таксама таго ж Свяводу, які прайшоў праз агонь і пекла, не дасць сябе ў крыўду, адстойвае сваю чэсць. Апісваецца шляхта тады, калі яна можа выкарыстаць зброю не па прызначэнні, не ў барацьбе з ворагамі, а ў бойцы паміж сваімі. Згадзіцца стаць секундантам Свяводы — гэта праявіць пэўную мужнасць і смеласць, бо ўчынак небяспечны — невядома, як яшчэ да гэтага паставіцца ваявода.

Назіральны і дасціпны, ён і насміхаецца з людзей, бо бачыць іх слабасці, і любуецца імі; так, з гумарам, паблажліва апісвае пана Пякарскага, з прытоенай насмешкай, з праявамі павагі — ваяводу.

Рэзка асуджаецца тая частка моладзі, якая занядбала гераічныя традыцыі бацькоў, бавіць час у п'янстве і распусце. Вылучаецца камергер — пляменнік падкаморага.

Юнакі, якія акружаюць камергера, няздольныя на шляхетныя ўчынкі, імчацца на конях п'яныя, расхрыстаныя. Свябода не можа дапусціць замест дуэлі вульгарную бойку. Ён выбіў шаблю з рук камергера, той пляснуўся ў гразь ля яго ног пацешна і недарэчна. І ўвогуле смешнае і трагічнае, высокае і нізкае ва ўспамінах скарбніка пераплятаюцца, узаемадзейнічаюць. Заўважаем своеасаблівыя праявы карнавалізацыі, калі нізкае робіцца высокім, а высокае прыніжаецца. Сойм, да якога так дбайна рыхтаваўся ваявода, можа ператварыцца ў пабоішча. Толькі хітрыкамі і асцярожнасцю з дапамогай прыхільнікаў ўдаецца ваяводзе застацца на высокім узроўні свайго становішча, сваёй пасады. Заўважаем і своеасаблівы смех плошчы, смех натоўпу. Маскараднасцю, карнавалізацыяй павявае ад «абяртасаў» і скокаў дзяўчат. У такім жа насмешлівым стылі разгортваецца ўсё ў кнізе. Выкарыстаны анекдот, жарт. І дуэль Станіслава ўспрынята цвярозым розумам Міхала як нешта смешнае і недарэчнае, але непазбежнае. Чалавеку трэба абараніць свой гонар, таму Лаўрыновіч прымае ўдзел у яго справе. Міхал Лаўрыновіч, можа так стацца, з секунданта пераўтворыцца ва ўдзельніка бойкі, бо, заўважыў Станіслаў, ляцяць прыхільнікі камергера праз поле, як бы іх шайтан нясе. І тыя думаюць, што яны могуць усе разам напасці. Тады ён абапрэцца на крыж, і крыжам іх ахрысціць. «А ты, пане браце, — прапануе ён Міхалу, — пільнуйся тылу».

Як выкананне пэўнага рытуалу падаецца набожнасць шляхты. Станіслаў перад дуэллю хрысціцца, моліцца («мая віна, мая віна...»), просіць Бога дараваць яму яго грахі.

Міхал у пэўным сэнсе ідэалізуе ваяводу, яго адзенне, выгляд. Кунтуш у ваяводы быў гранатовы, са шнурамі і залатымі кутасамі, жупом сцяты карбункулам на шыі. Каштуе ён столькі, колькі якому-небудзь шляхціцу хапіла б на ўсё жыццё. І пояс такі багаты, што золата аж цякло з махроў. Выступаў ён з блакітнай стужкай белага арла.

Міхал з сімпатыяй, і пэўнай доля ідэалізацыі піша пра пана Суліструўскага, якому хапае вытрымкі і хітрасці, каб ўціхамірыць бунтоўную шляхту.

Паступова Міхал вызваляецца ад бляску і мішуры, ад мітусні. Пачалося з таго, што ён, імкнучыся змяніць свой знешні выгляд, збрыў свае хвацкія вусы. Збрыў — і як бы страціў самога сябе, стаў іншым чалавекам. Пасля гэтага лягчэй перапранууцца і ў манаскую расу. Чалавек як бы знаходзіць самога сябе, сваё прызначэнне — памагаць, служыць людзям. Ён стаў скарбнікам, ездзіць па вёсках і гарадах, каб сабраць квесту — ахвяраванні на касцёл. Апавядальнік падхопліваў міфы, анекдоты, якія пашыраліся, хадзілі па Беларусі.)

## ВА ЎДАВЫ

**На дзядзінцы ледзьве праехаць маглі праз плойму гусей, курэй, качак, індыкоў.**

**— Не былі тут ані разу, — прыкмеціў Марцін, — але відаць, што тут руплівыя гаспадыні. Амаль паўгода ўвесь кляштар выкарміўся гэтым птаствам. Дай жа Божа ягомасцю ўдачы.**

**Пад'ехалі пад ганак. Уваходзім у сені і чуем пісклівыя і напорлівыя спевы:**

**Я адолею бяду,**
**Зноўку замуж я пайду**

Затрымаліся трохі, каб абмеркаваць акалічнасці. А за сцяной:

А я, ўдованька, пяю,
Сама сабе пані,
Калі нават падап'ю,
Аніхто не зганіць.

І зноў:

Цешуся як на бяду,
Бо я замуж пайду.

Увайшлі ў святліцу. Пасярэдку стаяў доўгі стол, пакрыты дываном, а за ім сядзела імасць. Была яна ацёклая, чэпчык набок, з вочкамі трохі захмуранымі і носікам зачырванелым.

— А, ксёндз-скарбнік, дабрадзей. А! На векі вякаў! Ці то я сама не ўстану? Ксёндз-квестар гатоў памысліць хто ведае што. Бачыш, ягомасць-дабрадзей, каўтун завёўся. Часамі ногі адбірае. Сядай жа, ягамосць-дабрадзей, сядай. Маю барана для ягамосця, маю! А можа, і двух! Пабачым толькі, пабачым. Бяда, кажу ягамосцю. Бяда. Без гаспадара хата плача! Ужываеш тытунь?

— Не, дзякуй, дзякуй.

— А, скажыце прынесці падвячорак: вяндлінкі і пякучай гарэлачкі. Што зажадае ягамосць-дабрадзей? Бяда, бяда маёй беднай галаве. Ужо трэці раз аўдавела. Фальваракчак мой нічога. Жыць можна, дзякуй Богу. Не раскоша, не, але мая ўласнасць. Нябожчык, мой першы муж, запісаў мне ўсё адной. А гэтай кляпе маёй або дам, або не дам, то як мая ласка.

Усё гэта адным духам выпаліла дабрадзейка, так што нельга было ніводнага слова ўставіць. Умарылася аднак ці папросту язык праглынула, бо змоўкла.

— То дачушка, дабрадзейку? — запытаў знячэўку, бо пачуў жа толькі, што кляпаю звала.

— А так, дачушка, дачушка. А што ■ таго, што дачушка? Не аб чым іншым не мысліць, як толькі каб замуж пайсці. Але пачакае, моеці пачакае! Я заўсёды хацела мець сына. Паехаў бы ў свет і не перашкаджаў бы ні ў чым матцы. А то ці хто прыйдзе да хаты, ці дзе сама выйдзе, то паненка на свой калок ніткі ніжа, а пра матку і не падумае.

Між тым прынеслі падвячорак. Увайшла і дачушка, прытаілася бедная небарачка за спіной маткі.

— Няма гаспадара, дабрадзею, то прымеш пачастунак з рук гаспадыні. Я з вамі трохі таксама ўжываю.

І ладны кубак махнула баба. Пайшлі за яе прыкладам, хоць не так сквапна.

— Проша! Невытворна, але пакорна. Зноў устаць хацела, але зноў ногі ёй паблытаў.

— От жа, моеці-дабрадзею, мела трох мужоў... Вазьміце, калі ласка, майго тытуню. Да яго патрошку дадаю вішнёвага лісця... Мела трох мужоў...

Нешта страшнае падала мне баба, бо нюхнуў і нібы агнём апаліла ўсё ў носе. І яшчэ 500 гадоў мне пазычыла.

— А ўсіх трох пахавала. Што я наплакалася! Па кожным, бо кожны мяне кахаў і шанаваў.

За першага пайшла маладзюсенька. Зялёнай была, скажу ягамосцю-дабрадзею. Але і ён быў як дзіцятка. Са славутай сям'і і меў гэты фальварачак, ■ я пасаг. Як толькі бацька за яго аддаў, ён адразу ж усю сваю маёмасць на мяне запісаў. Потым стаў маім ценем і слухаў, што я загадаю. А я панавала сабе. Дзесяць Сагдзі анёлачак мой стаяў пры мне паслухмяны. А хоць, бывала, і штурхану яго, так апрыкрыць яго немата, то паклоніцца мне, пацалуе ў руку. Спіўся, небарачак, але не з маёй прычыны. У чым жа ж я тут вінная? Так яму пан Бог даў. Пакінуў мне на галаву дачку. Ой, што ж я наплакалася па ім! Што я наплакалася! Колькі нагаравалася! Пакаштуйце вяндлінкі. Квестару-дабрадзею, вазьміце. Пакінуў мяне на нажыву людскіх языкоў, доўга мне, маладой удаве, ніхто не трапляўся. А здарыўся такі выпадак: заявіўся тут адзін ягамосць. Сусед. Гаспадар не благі. І як пачаў да мяне пад'язджаць і радзіць сардэчна мне ў маёй гаспадарцы, і абяцаць залатыя горы з гэтага фальварку і, нарэшце, пазычаць патрохі грошы. Многія з удоў мелі яго на воку, а пайшла за яго я. Ой! Лепей ногі ў той час зламала б. Так што мусіла я цяпер, як некалі бедны мой першы мужанёк, стаць пры печы з закладзенымі рукамі. А ягомасць панаваў, як хацеў.

Яшчэ прымушаў мяне, каб перапісала на яго маёнтак. Дапякаў ён мяне да жывога, да жывога дапякаў. Ну і я яму не спускала. Ён хоча так, а я гэтак. Ён хавае пянёндзы, а я выкрадаю. Ён мовіць — мая праца, ■ я моўлю — мая фартуна. Ён да кія, ■ я да палена. І так увесь божы дзень. А нарэшце аднаго дня ад вялікай злосці схапіў ён параліч і памёр, небарачак. Ой, што ж я наплакалася!

— Здаецца, нам, дабрадзейка, што не было чаго.

— О то, яко ў замужжы бывае і так і сяк, але затое потым шкада, калі страціш. Шэсць гадкоў разам пражылі. І сама не ведала, з чаго пачаць пасля яго смерці, над розным галаву ламала. Аж тут як бы з прызначэння Божага стаў на пастой гусарскі полк.

Спыніўся ў мяне пан паручнік. Зух! Бывалец! Чаго ён не вытвараў! Найцяжэй бывала вытрымаць. Калі пачне страляць раз-пораз. То аж дрыжыкі бягуць па скуры. Полк стаяў дзесь міль за дваццаць, а ён тут сабе асеў на зімовыя вучэнні.

Доўгімі вечарамі, бывала, сядзеў тут у мяне, а як зайграе, ці заспявае, як зацягне якуюсь украінскую жаласлівую думу, то ўжо ніякім чынам не вытрымаць майму сэрцу, запаланіў яго цалкам. «А мая душка! Мой анёлачак! — сказаў, — буду цябе на руках насіць, з рук карміць. Будзеш як сыр у масле плаваць». Так ужо, моеці-дабрадзею, пайшла за сваім сэрцам і патрапіла як куля ў плот. На другі ж дзень па шлюбе шайтан яго аблытаў. Як верасня нада мною: «Баба! Давай грошы!». Зразумела, што жартуе, а «ён не жартаваў, верашчаў: «Баба, давай пянёндзы». Маўляў, дарма маладосць яго забрала, дарма маладосць такой шкулепе прадаў і, нядоўга чакаючы, вырваў у мяне з рук ключыкі, адамкнуў канторку, а бачыў, што там ёсць гатоўка, бо я, дурная, з вялікай любові, выспавядалася яму перад шлюбам аб усім

чыста. Забраў увесь запас, які пасля нябожчыка застаўся, і рушыў са сваім палком. Думала, што і не вернецца. Шкада мне зрабілася не так маіх грошай, як яго самога, бо, думалася, маладое ніўка ўходзіцца. Выбіралася шукаць яго. Аднак жа сам вярнуўся, а за ім коней, сабак без ліку ды гайдамакаў, такіх, як сам, некалькі соцень. Думала, што хату пераверне. Гулянка дзень і ноч. Пазапрашаў суседачак, і пайшлі скокі, балы. А ўсё крычыць як на злосць: «У ўдавы хлеб гатовы». Пайшло ўсё з ветрам: і грошыкі, і вяндлінка, і гарэлачка. А мой пан паручнік ані слухаць не хоча маіх скаргаў. А што найгорш, то як часамі выязджала ад нас тая жаўнерская хеўра, то ён зноў спяваў цудоўныя думы ўкраінскія, але не для мяне, а для панны Тэрэзы, маёй каханай дачушкі. А таму я і адправіла паненку ў кляштар, да бінедыкцінак нясвіжскіх запакавала. Хай ужо я адна, думала сабе, той крыж панскі зношу. А да таго яшчэ цярпела, калі аднойчы вярнуўся з палявання, знайшоў у мяне госця, то выкінуў яго за дзверы, скінуў з ганка, так, што той, небарачак, ледзьве ўстаў. А да мяне ўляцеў і крыкнуў: «Баба, калі кахаеш — кахай, а не кахаеш — то у лоб кулю займеш!» О, святая Уршуля! Мне страх цяпер, як тое прыпомню. Пакаштуем яшчэ па кропельцы з кілішкаў.

— Дзякуй, дабрадзейка, лепей зажывем яшчэ тытуню, але майго, бо ваш штосьці дух забівае.

— Добра. Другі мой муж, небарачак, ужываў тытунь. Ад яго і я навучылася. А гэты трэці, бусурманін, то паліў люльку. Не магла з ім даць рады. Выпусташыў мой дом, абрабаваў гаспадарку, разлайдачыў і распаіў мне ўвесь двор, а я п'янства цярпець не магу. Аднак мядзведзь прыйшоў мне на ратунак. На аблаве стрэліў ён у мядзведзя і спудлаваў, а мядзведзь на яго. Пакуль прыбеглі ратаваць — садраў яму скуру ад галавы да пят, пагрукатаў яму косці, і такога прывезлі яго да мяне, паміраў, бедны, у пакутах. Вось як раз пяты месяц пайшоў пасля таго. Што ж я наплакалася! Ой, колькі ж наплакалася! Не было часу і доктара паклікаць. З аблупленай галавой, аднак прыцягнуў мяне да ложка, паставіў вочы слупам: «Слухай, баба! (Хоць, ягамосць-дабрадзей, бачыш і сам, што я яшчэ не баба.) Слухай, баба! Ты пойдзеш, ідзі сабе замуж за таго Віцырыента, якому дарэмны косці не пераламаў, але калі пакрыўдзіш бедную Тэрэзу (што яму было да таго?), то памятай — стану вурдалакам, заяўлюся апоўначы і вам, маладажонам, абодвум галовы паскручваю! Ці то можа быць, моеці, што ён можа стаць вурдалакам, ягомасць такі лепей аб гэтым ведаць можа? Ці вурдалакі ходзяць па свеце? Ці не бачыў ягамосць дабрадзей хоць раз вурдалака?

— Не бачыў, дабрадзейка. Але, людзі апавядаюць, што гэта здараецца. Аднак без волі Боскай нічога не станецца. Маліцца трэба. Шукаць сродкі ў малітвах.

— А што гэта за сродкі? — перарвала мяне імасць.

— Ведаю я аб гэтым, дабрадзею, і пан Віцырыент кажа, што, каб каханенькі ляжаў сабе спакойна ў зямлі, не гайдамачыў па смерці, як пры жыцці, трэба адкапаць труп, адцяць яму галаву рыдлёўкай і палажыць яе ў нагах, каб рукамі не мог дастаць. А калі б дастаў, то возьме галаву і памар-

шыруе. Ужо ж я так яго і сніла з вытрашчанымі вачыма пад пахай. Што, ягамосць, парадзіш?

— Я дабрадзейцы цалкам іншы сродак параю і, пэўна, больш паспяховы.

— Слухаю, мой дабрадзею, слухаю.

— Наперад, дабрадзейка, дай імшу Святую. А паколькі перад смерцю ён сам гаварыў, што тады стане вурдалакам, калі пасля новага шлюбу пакрыўдзіш дачку, то раю як найхутчэй яе замуж выдаць.

— А што ксяндзу-квестару да таго? Васпан дабрадзей як асоба духоўная не ўмешвайся ў тыя справы, якіх не ведаеш.

— Вось жа, прапалі бараны, — падумаў я. — Не атрымаю квесту. Таму кажу: «Я бы толькі хацеў аберагчы дабрадзейку, абы пан паручнік з вытрашчанымі вачыма з-пад пахі не глядзеў».

— Ужо мы сабе самі дамо рады без ягамосця. Памочнікаў не патрабуем.

Рассердавалася баба і ўцякла б ад мяне, калі б магла ўстаць, але паспрабавала разоў колькі і ўселася зноў. Каўтун моцна трымаў яе.

— Ведаеш што, дабрадзейка, — сказаў ёй, — давай зап'ём гэту справу.

— Няхай сабе і так! — згадзілася і выхіліла да кроплі кілішак. — А бачыш, дабрадзею, пан Віцырыент-то мудрая галава. Ён усякія статуты па пальцах лічыць, а кажа, што нядаўна Рэч Паспалітая такое права сцвердзіла: калі матка і дачка, абедзьве хочуць ісці замуж, то дачка мусіць чакаць, покуль матка не выйдзе.

Дачушка, што стаяла за крэслам маткі, мрукнула пацїху: «Ого, го!».

— Што там, васпанна, мрукаеш? Мрукай, не мрукай, так будзе, як Рэч Паспалітая загадала. То-та!

— Но, дабрадзейна, я не праўнік. За мной гаворка пра бараноў, да гэтага лепей і прыступім. За трох мужоў — трох бараноў, а за перамогу — чацвёртага.

— На поспех — чацвёртага? Ай, няхай сабе. Штось мяне немач забірае, каўтун той пракляты.

Апошні кілішок дагадзіў, відаць, дабрадзейцы. Драмаць пачала:

— Каўтун той пракляты... і галаву, і ногі адбірае, і так штось мяне морыць... морыць... на перамогу з чацвёртым... чацвёртага... панна Тэрэза... і Рэч Паспалітая... вурдалакам стане, — так мармытала баба, апусціла рукі на галаву і захрапла. А панна Тэрэза падзякавала мне за добрае сэрца і папрасіла малітву за яе душу і чатырох бараноў выдаць загадала.

— Ну, — прамовіў Марцін, калі мы за браму выехалі, — дай божа навек мець справу са старымі ўдовамі. — І дадаў: не ведае таго пані, што заўтра, калі яна засне пасля абеду, вывезуць паненку, і шлюб яна возьме. Ужо ўсё гатова, і ўсё ў двары аб гэтым ведаюць, але ніхто ёй аб гэтым не скажа, бо ненавідзяць бабу.

Адамкнуў браму сам Бялевіч, яшчэ бадзёры і рухавы старэча.

Бог бачыць, ягамосцю-дабрадзею, што да мяне завіталі, — сказаў ён.

— Гэта я прыехаў, дабрадзей! Заўтра збіраем квесту, — адазваўся Марцін.

— Дзякуй, пане Марцін! Заганяй коней у стайню. А ягамосця-дабрадзея папрашу да хаты.

У хаце мы ўбачылі гаспадыню за кроснамі. Гэта была дачка пана Бялевіча. Пара была абедняя, і нас запрасілі да стала.

Сабралася цэлая дружына. Два хлопцы, гаспадарскія сыны, селі вакол куфэрку. Панна Анна завіхалася, сядала з намі, але часта выбягала да пякарні. Ёй дапамагаў Марцін, які быў неяк слуга, а як роўны, бо разам накладаў сабе ў міску. Стаялі талеркі з цудоўнай слуцкай гліны.

Боршч быў вельмі смачны, якога мы ўжо даўно не елі. Нарэшце, панна Анна прынесла збан яблычнай наліўкі, якая нам усім спадабалася. Марцін як нахіліў збан, дык засталася там толькі рэштка.

— Го, — сказаў, — лепшая, бадай, за наша кляштарнае піва. Яблычніку гэтаму, прынамсь гады два.

— Дапівайце і рэшткі, а Анюся прынясе вам яшчэ адзін збан. Гадоў ужо восем, як памерла мая жонка. Наплакаўся я! Змарнела ўся худоба без гаспадарчай рукі, — казаў пан Бялевіч. Пойдзем, мая дабрадзеі, — на свежае сена. Адпачыце крыху ў стадоле.

Надышоў вечар. Пайшлі з гаспадаром на луг, дзе ўжо вырастаў трэці стог сена, а на ім гарцаваў мой Марцін, маючы пры сабе фляжку з нашага дарожнага куфэрка. Дазналіся, што запасы будуць пад яго апекай.

Засядзеліся да вечара, а як пахаладала, пайшлі кожны на сваё месца адпачываць.

— Ягамосць дабрадзею, рушыш у дарогу раніцай пасля снядання. Частаваць будзе мая Анюся, бо я з сынамі выберуся на зайцоў, далей ад дому. Дзякую за тое, што праведалі мяне, але і далей не мінайце майго дому. Бараны мае ўжо пры правадырах.

— Не, не, — адазваўся Марцін, — спаць доўга не дам майму ягамосцю. Хто рана ўстае, таму пан Бог дае. І мы разам з вамі выедзем.

Яшчэ неба чырванела толькі на ўсходзе, калі, выпіўшы па кілішку малака, рушылі мы за вароты. Я з Марцінам на нашых каламашках, а пан Бялевіч пры нас пехатой з дзвюма гончымі і выжлам.

Ішлі ціха, бо кожны ранішнюю малітву адмаліваў, толькі адзываліся песні, і па ранішняй расе значыліся нашы сляды абапал дарогі.

Нарэшце паказалася сонейка. Пан Бялевіч звярнуўся да навакольных:

— Ну, сынкі! На добры гумар і шчаслівае паляванне «зайца». Разам гукнулі сыны, а з імі і бацька басам:

— Пан ўмее розныя рэчы гаварыць. Напэўна, ён арыфметыцы вучыўся?

— Вучыўся і арыфметыцы, як толькі стаў квестарам, найбольш практыкую ў складванні, множанні і дзяленні, але дзяленне для мяне не вялікая патрэбнасць.

— А дай доказ сваёй навуцы, — сказаў стараста, — падзялі 4 рабчыкі на 5 чалавек, але без падману, каб усім роўныя порцыі дасталіся. Калі гэта дакажаш, паверым квестару.

— Нічога няма лягчэй, дабрадзею! Але за мой падзел трэба пачастунак.

— Абяцаю, — сказаў стараста, — за сябе, за жонку і за дзяцей. Але без пана, ксёндз квестар!

— І нават не дакрануся да нажа! — сказаў ксёндз, падсунуўшы да сябе бліжэй міску, узяўшы ў руку відэлец і так зрабіў:

— Ягамосць дабрадзей і ягамосць дабрадзейка і рабчык — гэта трое. Раніч, паненка і рабчык — гэта трое, ксёндз і два рабчыкі — то зноў трое.

— Брава! — закрычаў стараста, ад сэрца смеючыся. Выдатна! Згодзімся на такі падзел.

— Але я не згаджуся, — сказаў я. — Рабчыкі хай застануцца пры панстве, а калі пані дазволіць узяць буякі тыя і пірагі для мяне і для кляштара, калі воля і ласка.

— З найвялікшай ахвотай, але на ахвяраванне для кляштара просім прыехаць да нас. Хата мая стаіць міль за пяць. Дарогу раскажу твайму фурману. І непакойцеся, узнагародзім вас добрай квестай. Ці згода?

— Згода, пані! Мне ўсё адно.

Трохі пагаварылі мы з панствам і павалакліся за імі.

* * *

— Ну, што? Мой ягомасць! — спытаўся ў мяне Марцін, — ці дадаліся старасціны бараны да ротмістравых чырвонцаў?

— Не, не прыбыло, але запрасіў мяне стараста да сябе ў госці і тады абяцаў падаянне. Фурман раскажа табе дарогу туды.

— А, сказалі. Але відаць, мой ягамосць, гэта абяцанка-цацанка! Хто яго ведае, як там далей, — сказаў Марцін, вытрасаючы тытунь з люлькі. — Скажыце лепш, як вы дамовіліся пра бараноў?

— А нашто нам дамаўляцца? Скора квестар паедзе дадому, а пачценны гаспадар прыгатуе нам квесту для нашага кляштара.

— Ці так? Мой ягамосць! Ці не пацешыўся пан з нашай квесты!

— А што ж ты хочаш? Колькі дзён едзем, а ўжо з дзясятак бараноў маем.

— Што значыць? Што значыць? Нябожчык ксёндз Яцэк, з якім гады чатыры ездзілі, ужо б цэлае стада назбіраў. Па дзесяць бараноў з аднаго двара прыводзілі, якіх бралі або хітрасцю, або розумам. А вы, мамосць, па аднаму баранку цягніце, ажно шкада глядзець. А пра кілішок нам і пра страву вы і не дбаеце. Каб не я, то прыйшлося б зубы на паліцу пакласці. Пан Яцэк так не рабіў. Ён прыходзіў і казаў людзям, што людзі ў манастыры цяжка захварэлі на сухоты і доктар сказаў, што трэба, каб паправіцца, на што прывязаць добры кавалак сала і так хадзіць. А інакш усе паўміраюць. Людзі ўсе былі набожныя, сердабольныя, баяліся <...>.

— Што ж, шаноўны наш госцю, — звярнуўся зноў да мяне пан Харунжы, — шмат ужо набралася бараноў?

— Набярэцца з тузін, калі ўлічыць і таго, што пан-дабрадзей нам падаруе!

— Брава, па-квестарску! Але я гаспадаркі не маю.

— За талер баран, то адно на адно выходзіць. Тое ахвотна ахвярую. Па маім прыкладзе і ўсе нашы дваровыя пойдуць, калі не лічыць кантрыбуцыі, якую наш бабскі парламент з гэтай афіцыйны складзе. Не кажучы ўжо пра старасту. Расказваў ён нам учора тваю дасціпную гутарку пра ястрабаў.

— Ой, добра ён цябе адорыць, так ён цябе не выпусціць. Хвала госпаду, у нас тут як у раю; не засумуеш а ні па сваёй келлі, а ні па імшы. Капліца

ёсць, штодня імша святая, на якую вось зараз і звоняць. А лепей хадзема, — прамовіў, — можа, яшчэ патрапім паслужыць ксяндзу капелану. Яна была на пагорку і выглядала не на капліцу, а на касцёлак мураваны, аздобны. Люду набралася як у нядзелю. Вылучалася колькі бабулек у акулярах, кожная сваім дыскантам цягнула прывітанне Боскай Маці Марыі. Тут падключыўся да іх мясцовы ксёндз, а ўслед за ім і я як грымну басам да так, што бабулькі павярнуліся да мяне са сваімі здзіўлёнными акулярамі; усе заўсміхаліся паціху. Скончылі мы ружанец, зазванілі раз, другі... Выйшла панства з дзеткамі да касцёла і засела спрыхаду. Прыгожа і прыемна адбылося набажэнства. Да святых дароў прыпалі перш за ўсё іх ягамосці абодва старасты са сваімі дзеткамі, а потым увесь двор, усе, хто праціснуўся.

(Расказваецца пра французскую навалу, пра Вільню, якая пэўны час служыла сталіцай краю. Чакаюць Напалеона як збаўцу ад рускага самадзяржаўя.)

Да манахаў завітаў князь Арахоўскі з радаснай навіной:

— Татуленьку! Мы перайшлі Нёман!

— Што, васан, мовіш? Ці праўда?

— Праўда! Учора мае хлопцы былі на бале ў Закрэце і на свае вочы бачылі кур'ера, які трапіў на той бал з данясеннем. Ад таго і даведаліся, што ўжо весь горад ведаў.

Усіх ахапіў страх. Ксёндз Кусташ паслаў Лаўрыновіча на выведкі па балоце, бо манаская рыса дазваляла прайсці туды, дзе іншаму нельга было. Даведаўся, што генералісімус Барклай дэ Толі яшчэ на месцы. Думалася нам у кляштары, што не так блізка непрыяцель, калі сам палкаводзец не пакінуў горад. Але думка наша была бернардзінскай. Айцец Дэмелітар зноў давёў, што ён разумнейшы за нас усіх:

— Дзе ж месца палкаводца ў час вайны, — запытаў ён. — Ну вядома ж дзе, калі не ў пачатку арміі, — адказаў ксёндз Кусташ.

— А дзе чало арміі, калі армія рэціруецца?

— Не разумею.

— Вось што ёсць: дзе найбліжэй непрыяцель, там і чало арміі, там палкаводзец. Таму зразумела, чаму пан Барклай дэ Толі яшчэ ў Вільні. Хоць за гарою французы. Вось што ёсць!

Увечары таго дня загадалі, каб паўсюды была выстаўлена варта. Як жа выглядала тое рыцарства? У капотах, у куртках, — самі з сябе смяяліся, а ўсе з іх. Сталі па брамах, па калідорах і турмах. Усю ноч войска плыло як вада...

Падышла, нарэшце, нядзеля Святой Тройцы, калі Вільня ўбачыла Напалеона на чале войска. Але раскажу аб усім па парадку.

Мой ксёндз Дэфінітар меў дзве выгадныя мэты. Адна з іх заключалася ў тым, каб я мог на старасці яму служыць, яго даглядаць. Усё жыццё чытаў ён амаль штодня газеты і тлумачыў мне, бывала, ўсё, што там вычытаў, хоць я не вялікі палітык і слухаў тое пятае праз дзясятае. Адно ў іх пісалася заўсёды: аб вялікіх падзеях, аб вялікай мудрасці Банапарта. На ўсёй Літве і на ўсім свеце ён адзін у цэнтры ўвагі, аб ім столькі гаворана-перагаворана, столькі напісана! Калі збіраў квесту ахвяраванні на касцёл па розных нашых кляштарах, у якіх і пражываў нейкі час, то ў кожным шляхецкім доме

не аб чым больш не пачуеш, бывала, як толькі аб Банапарце, які падобна сніўся ўсім. То і не дзіва, што нябожчык ксёндз Дэфінітар праз усё жыццё мысліў толькі аб ім... Цікава яму вельмі пабачыць таго Банапарта нарэшце.

— Не памру, браце Міхале, — гаварыў ён, — пакуль яго не пабачу! Вось што ёсць!

І зрабіў, як прарок: убачыў яго і памёр.

Выслалі яны мяне разам з ксёндзам Кусташам неяк на шпегі ў горад. І як раз там ранкам, калі ледзьве яшчэ шэрэла на дзень. Здзівіла мяне цішыня і спакой у горадзе. Казакі толькі шмыгалі па вуліцах, а на пляцы, пад ратушай, стаяў поўк грэнадзёраў, слажыўшы зброю ў козлы. Мелі яны кашнеты накшталт цукровых галоў і шырокія на іх бляхі. Жаўнеры гатавалі сабе кашу ў касцялках, іншыя драмалі, лежачы на зямлі. Афіцэры сядзелі на лаўках, або праходзіліся па пляцу, размаўляючы ціха і асцярожна. Шматлікая іх купка атачыла палкоўніка, якога па шліфах пазнаў. Ад той купкі адлучыўся афіцэр і прыняў мяне пад імбрамі.

— Куды, ксёндз, і чаму так рана? — спытаў мяне па-польску.

— Да хворага, пане капітане, — адказаў яму заклапочаны.

— Падвойна хлусіш, — адказаў ён, усміхаючыся, — і ты не спаведнік, бо без каптура, і я не капітан! І трэцяя хлусня, і найгоршая — у тваёй расе. Гавары! Маю загад цябе дапытаць.

Але я прыйшоў ужо ў сябе і падумаў: «Схлусіў, вось табе да! А сказаў бы праўду, што з таго стане?

— Дабрадзею, — адказаў потым, — што ёсць бернардзінам з тутэйшага кляштара, то так мне пан Езус дапамог.

Прыстаў капітан, скажы маўляў, чаму так позна валочышся?

— Цікавасць, дабрадзею, простая шчырая цікавасць і не болей. І не так мая ўласная, як маіх старшых, якія хочуць ведаць, што тут дзеецца ў горадзе. Таму выселілі мяне на разведку.

— А ці не выйшаў ты шпегаем, браце? А ведаеш, чым гэта пахне? Але не палохайся. Шпег ад бернардынскай арміі не страшны. Вяртайся хутчэй да кляштара і цікаўным айцам занясі навіну, што перад полуднем займеюць гасцей. Адходзім, але яшчэ вернемся. Чакай, ксёндз! Маем вось гэтую ўбогую маю ахвяру, — і даў мне тры рублі, — аддай гэта на імшу, каб куля жонку і дзетак не асіраціла, — і глыбока ўздыхнуў пачцівец.

— Сёння ж будзе імша на тваю інтэнцыю, — мовіў я і мацней сціснуў той рубель у руцэ і выбег на пляц.

Вярнуўся да кляштара. Там расказаў свае прыгоды, аддаў ахвяру афіцэра, і ў той жа момант ксёндз Кусташ распачаў імшу.

На вуліцах мала было людзей. Баязлівыя прабіраліся завулкамі. Ужо днела. Павярнуўся да палацу біскупа, да якога па выездзе цара перабраўся Барклай дэ Толі.

На дзядзінцу стала карэта, васьмю конямі запрэжаная. Каля яе сядзела некалькі дзясяткаў казакоў на конях. Ляцеў конны афіцэр, белы ад пылу. Рвануўся да браны.

— Ці ёсць фэльдмаршал? — запытаў.

— Ёсць!

Уляцеў на дзядзінец, злез з каня і пабег па ўсходцах.

«А гэта ж карэта пана Барклая дэ Толі, — падумаў сабе. — Няма што сказаць, трымаецца да канца. Пабачым, што з таго будзе. Пастаю тут».

Сабралася кола цікавых. І знайшоўся паміж іх пан Будаўнічы-Ажыкоўскі. Ён пташак. Так і шукае навінкі. Расказаў яму, што дзеецца на свеце.

— А паводле маёй думкі, — мовіў ён, — калі нас не распарошыць, дапільнуемся ўсякага.

Тут і дзень заяснеўся. Уляцеў другі кур'ер. Люду на вуліцах памножылася. Адзін гэта, другі плёў тое. Гэты страшыў, той цешыў. А кожны пытаўся разам: «Што чуваць? Што чуваць?». Гоман нарастаў. Мы цярпліва стаялі на месцы. А неўзабаве і трэці такі ж лятун-кур'ер упаў на запененым кані. Умомант выляцеў афіцэр з палаца і пабег на плошчу. Я і некалькі са мной людзей бакавымі вулачкамі рушылі за ім. Ледзьве дайшлі да плошчы, як загрымелі бублы, жаўнеры пакідалі недаедзеную кашу і ў імгненне вока сталі ў строй і марш падвойным крокам за замкавую браму на Антонам. Я зноў кінуўся да брамы Светсталінскай. Там пан Будаўнічы стаў як урыты. Апошні полк вырушыў раптам на Нёман. А затым, на маю думку, і не дакончыў ён, бо вялікі рух узняўся. Некалькі конных выляцелі ў розныя бакі.

І прамовіў ён:

— Рэверэндзісіма! Чакаем твайго мудрага рашэння. Французы, кажуць, рабуюць касцёлы. Во дажыліся да распусты. Вось што ёсць. Сумняваюся, аднак, каб у горадзе, пад вокам начальства, можа, і самога цэсара, да рабункаў і сваволі дайшло. А калі і дойдзе, то не абрабуюць нас так, што нават драўлянага крыжа не застанецца. То і перад ім пана Бога хваліць будзем! Вось што ёсць! Дайце лепей спакой сабе. Даверцеся Богу, аддайцеся яго волі і міласэрнасці! Памолімся за мір і згоду паноў хрысціянскіх! Вось што ёсць!

Гэтыя словы айца Дэфінітара заспакоілі ўсіх і развесялілі. Хвала Богу! І рада разышлася.

Гэта было ў сераду, 12 чэрвеня. У чацвер вялікі рух пачаўся на вуліцах. Усё новыя і новыя падыходзілі палкі, ішлі праз горад, за Зялёны мост адны, а другія — за Вілію.

Салдаты наводзілі страх; усе, як пацукі, запыліся ў сваіх норах. На тым свеце вырашым, чыя вера лепш. А на гэтым жывем па-суседску, па-прыяцельску. Уступай лепш да маёй вітальні і пабачыш, што татарскія калдуны варты бернардзінскага чэрава.

Набліжаўся час абеду, разгараўся апетыт. А я, як на ліха, люблю калдуны. Прыйшла мне думка, што там у іх і рабрынка з свежыны знойдзецца; аднак не вельмі верыў, але ж адмовіць такому шчыраму запрашэнню не мог.

Павярнулі мы ў браму дворыка пана маёра Амурата Беляка.

— Гэй, Алешко! — закрычаў ён, калі ўвайшоў у сені. На такі крык выбегла ў тарлянтовай спадніцы маладая і, як на татарку, даволі ладная дзяўчына. І збянтэжылася, калі ўбачыла мяне.

— Ото мая адзіначка, — сказаў пан маёр. — Не палохайся, дачушка, маем, бачыш, госця. Лепей добра калдунаў усып у каструлю. А тым часам

нап'емся гарэлкі. Магамет забараніў нам віно, міласцівы ксяндзуля, але пра гарэлачку — ні-ні. А таму віно мы не ўжываем, а гарэлачку і люлечку цянем сабе па-трошачку. Проша на той бок, да маёй хаты, бо там — па-вашаму кляўзура, а па-нашаму — гарэм.

— Як то? — запытаў, — ягомосць трымаеш сераль?

— Ого! Перапалохаўся! А калі б і ўтрымліваў? Што табе да таго? Бо калі б на маіх вачах пан еў шынку, я б на тое нічога не сказаў. Але заспакойцеся! Засведчу, што з адной кабетай часта не дайсці да ладу, а што ж было б, калі іх набралася цэлы тузін? Там пакой маёй дачкі і нічога болей. А я ўдавец.

Увайшлі ў пакоі пана Амурата. Першы прасторны, дубовы стол пасярэдзіне, наўкола табурэткі. Другі маленькі. Там ложак ды на сцяне вайсковы рыштунак пана маёра. Між тым здзівіў мяне якісь старадаўні лук. Таму пачаў яго разглядаць.

— А што, квестару, дзівімся зброі, з якой продкі мае ваявалі? Так, так, гэта найдаражэйшая наша памятка. Гэта лук нашага продка, Кара Мірзы, які доўга ваяваў з Літвой, нарэшце, калі ў бітве давялося выступіць супраць князя Вітальда, увесь зранены, трапіў з вялікай часткай сваёй арды ў няволю. Памілаваў іх літасцівы князь, а рыцары яго аселі ў розных мясцінах гэтага краю. Наш продак тут на Ластаі атрымаў зямлю. І князь яго потым назваў беляком, супраць імяні Кара, што азначае «чорны». Служыў яму потым Беляк у мностве розных выпадкаў, выездаў, паўсюль мужна і верна і здабываў сабе штораз большую ласку князя. Даўно тое было, пане браце, мо, гадоў 400 таму, можа, і болей. Племя татарскае размножылася на Літве і заўсёды пачціва служыла гэтаму краю. А пасля нашага ваяўнічага продка зберагаем разам з зямлёй і дадзены ім і лук той. Як спадчына пераходзіць ад аднаго да другога. А ні зямлі, а ні луку ніводны Беляк за мільёны не аддасць.

Увайшла панна са сталовым прыборам, а за ёю служанка ўнесла поўную місу каўдуноў. Смакавітая пара разышлася па гасцёўні. Заселі мы толькі ўдваіх, бо па татарскім звычаі жаночы род асобна сталуецца, толькі прыслугоўвае мужчынам, як панам сваім.

— Славутыя калдуны! Насмакавацца, нахваліцца імі не было сіл. Гаспадар просьбай і прыкладам заахвочваў. Устаў з-за стала, па-свойму падзякаваў Богу. Пан маёр як бы таго не бачыў. Пасля таго банкету, не доўга чакаючы, пайшлі мы абодва спаць. Ужо сонца перайшло доўга за поўдзень, калі ад гэтага смачнага адпачынку нас абудзілі.

— Ну, цяпер, ксяндзюмо, дам табе самага прыгожага барана на першую знаёмасць.

— А скажыце, тут на Ластаях не бачылі французскіх марадзёраў, калі яшчэ ёсць бараны?

— Ого, завіталі яны да нас! Дачакаліся ў Вітольдаўцы даўніх знаёмых. Бо пазналіся з французамі на мінулых войнах. Але прывіталі мы іх тут па-татарску і па-жаўнерску. Трапіла каса на камень! Бачылі мы ўжо па суседзях, што даказваюць няпрошаныя госці, і штодня рыхтаваліся да іх прыняцця. Калі ж нарэшце паказаліся мы, выступілі ўсе ў мундзірах нашых афіцэрскіх. Было іх колькі дзясяткаў, але і нас было з трыццаць. А ў засадзе,

у жыце, укрылася столькі мужыкоў з ружжом, з сякерай, хоць бы з добрым кіем. Шлі рабаўнікі доўгім абозам. Некалькі дзясятак фур цягнулася сярод іх з нарабаванымі рэчамі. Калі яны ўвайшлі ў вуліцу, убачылі нас на дзядзіну. Затрымаліся. Яны задзіраліся, а мы не рушылі з месца, чакаючы. А потым усім лагерам як вырушылі, так мы ўбачылі засаду ў жыце, за плотам укрытую. Пасля нарады набілі порахам зброю і рушылі на нас. «Рус?» — закрычалі і ўзнялі карабіны.

«Татары», — адказваем і ўзнялі дубальтоўкі, а палашы віселі на руках. Апусцілі карабіны, глядзяць то на сябе, то на нас. А мы ў той час, не даючы ім апамятацца, пісталеты з-за пояса і давай жа лупіць па іх. А потым як выскачаць мужыкі з-за плота, як verаснуць: «Пардон! Альбо Капут!». І каб які б хоць пальцам кіўнуў — кулю б меў у сэрцы... У імгненне вока тыя паддаліся — і выйгралі ў імгненне вока! Забралі цэлы абоз і зброю, а саміх рыцараў даставілі да Ашмян. Парабаваныя рэчы паразбіралі суседзі — кожны сваё. Было потым і яшчэ колькі сутычак, з якіх пераможцамі заўсёды выходзілі мы. У адным з іх уцяў два штыкі, як бы яловыя свечкі, што нязмерна здзівіла французаў. Нарэшце пакінулі нас у спакоі, што для абодвух бакоў было добра. Таму, ксяндромо, табе і барана даць магу.

— А пакаж на дабрадзею, — кажу яму, — тую шаблю, што штыкі як свечкі расцінае.

— Адкуль гэта, бернардзіну, сімпатыя да палаша?

— Ай, бо калісь, як шляхціч, пры боку яго насіў.

— Ото го маш, — усклікнуў той і зняў палаш. — То мая памятка ойцу, генералу Беляку.

— Праўда! — гавару яму. — Лязо сапраўды турэцкае. Але рукаятка і аздоба нашы.

— Так, браце! — адказаў, — такія палашы носім пры баку. Разумееш?

Гляджу яму ў вочы, якія раптам загарэліся. А ён гаворыць раптам:

— Так! Татарскае права і агністае сэрца — лязо. Шляхецкая мова і галава — то аздоба.

## Каментарыі

**«Зося, дзяўчына-сваавольніца».** Пераклад [redacted] польскай мовы Я. Міклашэўскага. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

**«Успаміны Квестара».** Пераклад з польскай мовы І. Шпакоўскага паводле выд.: Pisma Ignacego Chodźki. — T. I: Obrazy Litewskie. — Wilno, 1880.

## ЯН БАРШЧЭЎСКІ
## (1794—1851)



Калі б зрабіць храналагічны спіс усіх беларускамоўных твораў XIX ст., то самымі першымі ў ім стаялі б вершы Яна Баршчэўскага. Якраз з іх, вершаў на роднай мове, пачынаў паэт сваю творчую пуцявіну...

Родам Ян Баршчэўскі з маляўнічай Полаччыны, з вёскі Мурагі над люстранай Нешчардай (цяперашняга Расонскага раёна). Паходзіў ён, як сказаў адзін з яго біёграфаў, «з беднай, але сумленнай шляхты». Дакладная дата нараджэння Яна Баршчэўскага яшчэ не высветлена. Адны біёграфы лічаць, што нарадзіўся ён у 1790 г., другія — у 1794 г., трэція — у 1796 ці 1797 гг. Больш верагоднай усё ж здаецца дата, што называе яго сучаснік і блізкі сябра Рамуальд Друцкі-Падбярэскі (Падбярэскі) — 1794 г.

Вучыўся Ян Баршчэўскі ў Полацкай езуіцкай калегіі. Пасля яе заканчэння ён хацеў паступіць у славуты Віленскі ўніверсітэт. Аднак туды не пусціла «сумленная беднасць» бацькоў. Нехта падказаў юнаку дарогу ў іншы бок — у расійскую сталіцу Санкт-Пецярбург, куды ён прыехаў недзе каля 1817 г. Зарабляў там на хлеб рэпецітарствам, гувернёрствам, працаваў выкладчыкам грэчаскай і лацінскай моў у розных навучальных установах сталіцы. Вядома яшчэ, што служыў паэт у марскім ведамстве, і гэта дало яму магчымасць пабываць у Фінляндыі, Францыі, Англіі.

У Пецярбургу сярод землякоў-беларусаў Ян Баршчэўскі арганізаваў літаратурны гурток. У яго ўваходзілі таварыш па Полацкай калегіі паэт Гаўдэнты Шапялевіч, выдавец, літаратар і этнограф Рамуальд Друцкі-Падбярэскі, зямляк-палачанін пісьменнік Вінцэнты Рэут і інш. З іх дапамогай Ян Баршчэўскі ўзяўся выдаваць літаратурны альманах-штогоднік «Незабудка», які выходзіў на польскай мове — тагачаснай літаратурнай мове Беларусі. Апрача названых пісьменнікаў гуртаваліся вакол «Незабудкі» яшчэ літаратары-беларусы Юльян Барташэвіч, Тадэвуш Лада-Заблоцкі, Аляксандр Грот-Спасоўскі і інш.

У 20-х гадах XIX ст. Ян Баршчэўскі сустрэўся і блізка пазнаёміўся з высланым у Расію «ліцвінам» Адамам Міцкевічам, якому не без хвалявання паказаў свае вершы і які, упадабаўшы іх, даваў паэту-земляку добрыя парады, нават сваёй рукой папраўляў асобныя радкі тых твораў. Важнай падзеяй у жыцці Яна Баршчэўскага таксама было знаёмства з Тарасам Шаўчэнкам, які быў вельмі жаданым госцем у гуртку беларускіх літаратараў. Украінскі патрыятызм Вялікага Кабзара стымуляваў беларускую патрыятычную творчасць Яна Баршчэўскага і ўсіх гуртkoўцаў.

Жывучы ў Пецярбургу, Ян Баршчэўскі ні на хвіліну не забываў пра сваю радзіму — Беларусь, куды ён наведваўся ў любую вольную часіну.

Як піша «Иллюстрированная газета», «жыццё Баршчэўскага прайшло ў безупынных вандраваннях. Вясною ён штогод накіроўваўся з Пецярбурга на бацькаўшчыну, вандраваў сярод беларускіх сялян у Наддзвінні, прабіраўся ледзь прыкметнымі сцяжынкамі праз глухія пушчы. Баршчэўскі ведаў Беларусь так, як лепш нельга, ён прайшоў яе ўдоўж і ўпоперак разоў трыццаць і, нарадзіўшыся, а не стаўшы беларусам, разумеў усе класы беларускага грамадства і яго ўсе разумелі...»

У сярэдзіне 40-х гадоў паэт змушаны быў пераехаць на Валынь, у горад Чуднаў, дзе жыў у княгіні Ржавускай разам з беларускім мастаком Напалеонам Ордам. Там жа неўзабаве і памёр ад сухотаў.

Літаратурную творчасць, як ужо адзначалася, Ян Баршчэўскі пачаў з беларускамоўных вершаў, першыя з якіх — «Дзеванька» (прысвечаны гожай паненцы Максімавічанцы) і, верагодна, «Гарэліца» — былі напісаны ў 1809 г. Праз тры гады з'явіўся аб'ёмісты вершаваны твор «Бунт хлопаў» (альбо «Рабункі мужыкоў», «Размова хлопаў») пра расійска-французскую вайну 1812 г. на Беларусі. Свае беларускамоўныя творы, якіх, відаць, было нямала, паэт пісаў не для друку, бо добра разумеў, што для іх не прыйшла яшчэ пара. Для друку ён пісаў па-польску — такая была сітуацыя. На першым этапе сваёй творчай дарогі Ян Баршчэўскі трымаўся канонаў класіцызму. У класічным стылі напісаны, напрыклад, паэмы «Пояс Венеры», «Псіхея», якія не захаваліся.

Пад уплывам рамантызму і ў першую чаргу Адама Міцкевіча звярнуўся да беларускага фальклору. На аснове беларускага эпасу, паданняў і легендаў напісаў некалькі балад, якія друкаваў на старонках сваёй «Незабудкі», — «Русалка-чараўніца», «Дзявочая крыніца», «Дзве бярозы», «Зарослае возера», дзе адчуваецца налёт сентыменталізму.

Важнае месца ў творчасці Яна Баршчэўскага займаюць празаічныя творы, у якіх ён хацеў пазнаёміць чытача з Беларуссю, яе вераваннямі, міфалогіяй, характарам народа. У 1843 г. у польскамоўным часопісе «Rocznik Literacki», які выдаваў у Пецярбургу Рамуальд Друцкі-Падбярэскі, быў апублікаваны яго «Нарыс паўночнай Беларусі». А неўзабаве пачаў друкавацца самы буйны і самы значны твор Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», які ў 1844—1846 гг. выйшаў у Пецярбургу ў трох тамах. Уступны артыкул да кнігі напісаў Рамуальд Друцкі-Падбярэскі, які горача вітаў з'яўленне гэтага твора, пранізанага беларускім духам. Крытык Міхал Грабоўскі таксама пісаў, што ў кожным слове «Шляхціца Завальні...» «быццам чуеш беларуса». Асабліва ярка праявілася беларуская нацыянальная ідэя ў вобразе Плачкі. «Забытая амаль усімі, — піша пра гэты вобраз у аўтарэфераце сваёй дысертацыі Мікола Хаўстовіч, — Плачка-Беларусь вымушана адзець сялянскае ўбранне, на якое з пагардай глядзяць прадстаўнікі вышэйшых класаў грамадства. Таму яе Жывая вада, здольная абудзіць нацыянальную самасвядомасць, не трапляе да іх. Паны і шляхта ў адрозненне ад простага народа нічога не жадаюць ведаць пра Плачку. Яны звязваюцца з чарнакніжнікамі, аддаюць свой край ва ўладу Белай Сарокі, валадарніцы паўночнай дзяржавы, а самі ў абліччы мядзведзяў ахоўваюць яе багацці, наводзяць на Беларусь асташкаўцаў, што знішчаюць нашу прыроду і псуюць народныя норавы».

У 1849 г. Ян Баршчэўскі выдаў у Кіеве зборнік «Проза і вершы», куды ўвайшлі аўтабіяграфічная паэма «Жыццё сіраты», аповесць «Душа не ў сваім целе», прататыпам галоўнага героя якой быў, як лічаць, беларускі паэт Франц Савіч.

*К. Цвірка*

5 Зак. 1799

## ДЗЕВАНЬКА

Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?
Ці табе не напрыкрылася чужая хата?
На каго ж ты пазіраеш,
Сваё сэрца прыкланяеш?
Не будзе тут пуці.

Прывучыла ж ты двух хлопцаў, як пташак у сеці.
Яны к табе ўдзень і ўночы рады прыляцеці.
І ты к ім лятаеш,
Панскі двор пабуджаеш
На вялікі смех.

Прывучыла ж ты лоўчага, ён жа і стралец,
І дудар быў некалі, і рускі пявец.
А стралец і дудар —
Невялікі гаспадар,
Будзеш без хлеба.

Палюбіла садоўніка, і гэта не ў пуць.
Ды ён жа слуга гасподскі, асцярожна будзь:
Мадамай табе не быць,
Дзяцей табе не ўчыць,
Ведзь ты не ўмееш.

*1809*

## ГАРЭЛІЦА

Ах ты ж, мая гарэліца, мая весялуха,
Цераз усю мяне ночку мучыла сукруха.
Ці мне ж было гэта лоўка, што я ўсю ночку
Толькі відзеў ува сне парожную бочку?
А цяпер жа я даждаўся, вот тут загуляю,
Гуга, гуга! — загукаю і запаклікаю.
Ці мне ж у галаве хатка, ці дзеткі, ці жонка?
Яшчэ ж у мяне з грошыкамі бразгае машонка.
Слава ж Богу, што даждаўся. Вот тут загуляю!
Гуга, гуга! — загукаю і запаклікаю.
Калі ж пойдзе уся хатка, дык жонцы — вяроўка,
А мне з панам разбірацца не будзе то лоўка.
А я ж пану пакланюся: панок, маё гора,
Жыта касіў, сена грабіў цэлы дзень учора.
Вот тут пан прасціць і міласць панскую пакажа,
Яшчэ хлопцу чарку водкі мне прынесць прыкажа.

*1809*

## БУНТ ХЛОПАЎ

Як французская сіла
Із-за Дзвіны наступіла,
Нам стала карціць,
Штоб парадак прыўраціць.
Аднака ж сядзелі ціха.
Аж тут прыносіць ліха
Французаў у наш двор —
І ну-тка дзелаць збор.
Клеці паразбівалі,
Паноў нашых сагналі,
Нас казалі пазбіраць
І гарэлку піць і браць.
Французы нас пахвалялі,
Аб нашым краі пыталі
І на мігі нас прасілі,
Каб мы з імі двор лупілі.
І мы доўга там гулялі,
Што хацелі, пілі, бралі...
Той браў плацце на вяроўку,
Чым абшыць жонцы шнуроўку,
Цыны, медзі, колькі мог,
Чым абліць дуду і рог...
Іншы быдла занімае,
Другі адзенне хапае,
Іншы толькі есць і п'е,
Другі шабляй куры б'е.
Калі ўжо так гуляюць,
Пачулі: з пушак страляюць.
«Галён! галён!»[1] — закрычалі
І ўсе з двору высыпалі.
У Клясціцах[2], а дзве мілі,
Крывавую вайну чынілі.
Як французы выйшлі, самі
Мужыкі былі панамі.
І калі так пагулялі,
Раду сабе укладалі.
Першы Мінка сеў за стол,
Ў куты глядзіць, як сакол,
На крэсле, дзе сядзеў пан, —
Пуза, як барабан.
Аногі як разапнець,
Хоць з калёсамі праедзь.
«Помню я тыя векі,
Як жылі паноў прэдкі:

Нас у рэкруты не бралі.
Ах, што за паны бывалі!
Хоць на лбе валос і нет,
Ды ўжо ж вусы на ўвесь свет!
Два рукавы мелі красных
І яшчэ два ззаду запасных.
З адной палы ў тых паноў
Семера б пашыў штаноў!
А гэтыя і нас паелі,
І самі ўжо згалелі.
Полы сабе паабразалі,
Хвасты ззаду паадсякалі,
І цяпер ужо усякай
Кусай ззаду...
Прыйдзеш у двор, баішся,
Пакуль к пану зблізішся,
Доўга галаву скрабеш.
Яшчэ гэта не канец:
Палажы ж на стол яец.
І тут яшчэ страх бярэць
Ждаць, што пан запяець...
Калі прапусціш хоць дзень,
Дадуць — як у берасцены!..
Хай мне хоць паб'юць штаны,
Ды ўжо ж не будуць паны!..
Гэй, каб нам быць весялей!
Гэй, каб нам быць пасмялей!
Пойдзем, братцы, ў кабачок,
Вып'ем гарэлкі кручок.
Водка крэпка, мера спора,
Будзем піць, забудзем гора,
Братцы, як у добры год,
Завядзём тут карагод.
Пойдзем ад хаты да хаты,
Ці галыш хто, ці багаты;
Калі будзе весяло,
К нам збярэцца ўсё сяло...
Пілі бацькі і дзяды,
І мы ступім у іх сляды:
Яны гора не знавалі,
Гарэлку добра сцябалі.
Чалом, Грышка! Чалом, Дзёма!
Чалом, Кузьма! Заві Пахома!
Чаго яшчэ будзем чакаць?
Пара гарэлку піць, скакаць.

Памаўчы лепш, не сварыся,
З намі йдзі скакаць, Марыся!
Замаўчы й ты, Селівон!
Не замоўчыш, пойдзеш вон!»
Дзядзька сядзіць, піпку курыць,
П'е гарэлку, вачмі жмурыць,
А дзядзіна не ўважае,
Цалком чарачкі глытае.
Саўка скача, піша, пыша,
Умарыўся, ледзьве дыша.
Барыс — строгі целялёг,
Упіўшыся, пад лаўку лёг.
На ліха вось тут аканом
Уляцеў, награпуў з бізуном...
Рассыпаліся нашы розна,
Куды папала, куды можна.
Адзін схаваўся быў пад стол,
Яго аконам — за хахол.
Відзіць Мінка, што тут худа!..
Абярнуўся туды-сюды,
Бедны, наўцёкі дзярэ:
А куды відзіць — туды бярэ...

## ПАДАРОЖЖА

Я ў дарозе! Ў сонцы — гоні!
Фурман лейцы ўскіне з маху,
І — звініць званок па шляху,
Мчацца сокаламі коні!

Ледзь лаўлю я вёрсты вокам.
Міма — нівы, хаты сёлаў.
З-пад капытаў — гром, з-пад колаў
Пыл услед клубком высокім!

Вечар. Выйшлі ў неба зоры.
Халадок нам лашчыць твары.
Змрок ахутвае абшары,
Серабром між ніў — азёры.

Жураўлёў ляціць грамадка,
Села ў лог — у змроку тоне.
Ноч яе прыспіць на лоне,
Бы дзяцей уласных матка.

Не засну я. Дні былыя
Промень памяці вяртае.
Быццам кнігу, зноў гартае
Сны дзяцінства залатыя.

Думкі рояцца ў прасторы.
Бачу добра сэрца вокам
Хвілі ўсе мае за змрокам —
Мне яны зіхцяць, як зоры.

Вочы любай, шэпты гаю,
На світанні развітанне,
І сяброўства, і каханне —
Я ў адзін вянок сплятаю.

Там майго юнацтва мроя.
Свеціць ранішняй расінай,
Аж пакуль сваёй часінай
Не спадзе з маёй зарою.

Выплыў месяц з-за вярбіны
І заліў бальшак сваёю
Белізною незямною —
Крыж адкрыў во ля даліны.

О магілка! Шлях канечны
Падарожнага, што мроі
Тут схаваў у супакоі.
Ён знайшоў начлег тут вечны!

Чую — гром! Бы ў небе брама
Расчынілася! Віхура!
Дождж і град! Бушуе бура
Ў лесе і ў душы таксама.

Цемра — дзе тут гай, дзе гоні?
І ці цэлы ў колах спіцы?
Скрозь грамы і бліскавіцы
Мчацца сокаламі коні!

*1839—1841*

## РУСАЛКА-СПАКУСНІЦА

З простанародных паданняў

Ноўгарад умураваўся
Непадступнымі мурамі.
З тых краёў дамоў вяртаўся
Малады паніч з дарамі.
А каштоўныя з пашанай
Вёз дары сваёй каханай.

Вось і край бацькоўскі блізка.
Родныя палі, як песні.
Спёка спала, сонца нізка,
Салавей — музыка весні —
Гукі светлыя губляе,
Дзівіць, смуціць, захапляе.

Мчыць паніч, змрок, як залева,
Дрэвы, горы залівае.
Перабег дарогу злева
Заяц — варажба благая.
Стой жа! Конь твой беланогі
Здрыгануўся ад трывогі.
Скрушыцца й стралец не кожны,
Як здабыча мкне з дарогі.
Не стралец я, падарожны.
Рушым, коню! Прэч трывогу.
Сілу маем на дарогу.

Едзе-едзе — ноч спрыяе,
Выплыў маладзік з-за хмаркі.
Ліс улева прабягае
І знікае ў гушчы шпаркі.
Стой жа! Конь твой беланогі
Здрыгануўся ад трывогі.

«Прэч, праява! — ці ж у змроку
Мне разбойніка баяцца?
Шабля вострая пры боку,
Каб з нахабным лбом спаткацца!
Рушым, коню! Прэч трывогу.
Сілу маем на дарогу»

Пачарнела хустка ў ночы,
Легла на лясы, на горы.

Ды на дрэве злевабочы
Крук закрумкаў чарнапёры.
Што за знак? Ах, воля Бога!
Конь захроп. Не спіць трывога.

Едзе — маладзік двухрогі
Цені з дзіваў адганяе.
Бач, на лузе ля дарогі
Прыгажуня маладая!
А з касы на здзіў дзівосаў
Абтрасае перлы росаў.

Мне чароўнае здарэнне
Шчодра пасылае неба!
Гляньма зблізку на стварэнне,
Коню, пудзіцца не трэба.
Конна, збочыўшы з дарогі,
Скача вершнік колькі змогі.

Прыгажуня ўецца лёгкай
Ластаўкай, бары мінае.
Коню, капытамі кохкай,
Тут дарога незямная.
Маладзік знік, ды дзяўчына
Скача прад вачмі няспынна.

Чорных соснаў шум начэе,
Смелы конь ляціць стралою.
А яздок не разумее
Здрады стараны чужое.
Поўнач, поўная ўтрапення,
Надыходзіць, конь у пене.

Зноў на луг ступае панна,
Як бы ў зморы ледзь жывая.
Пазірае закахана,
Сумна на траву сядае.
І паніч да панны збочыў,
Бег стрымаў, з сядла саскочыў.

Гожы твар, стан, як сцябліна,
Рысы блізкімі здаліся.
Ці не перад ім дзяўчына
Тая, што кахаў калісьці.
— Марна страх твой шэжыць пер'е,
Не разбойнік я, павер мне.

— Едзеш з Ноўгарада рана,
Дабрадзейнасцю славуты.
Як там маладая панна,
Там, дзе страціў галаву ты?
Звабіў бліск яе адзення,
Полыск перлаў ды камення.

— Ці ж у тых краях бывала,
Дзе гацяць світаннем гаці,
Дзе сталіцы месца мала,
Дзе цячэ ракой багацце,
Дзе кабеты ўбраны, ўвіты
Ў золата ды ў аксаміты?

— Ах, адкрыць свайго жадання
Не магла я горкай долі,
І ад рання да змяркання
Пралівала слёзы ў полі.
Пасвіла вачыма ў скрусе
Неба, дзе ляцелі гусі.

«Гускі, гускі, — волю енку
Я давала са слязамі, —
Скіньце пёрак на сукенку,
Каб ляцець у вырай з вамі».
Гусі ўчулі плач мой горкі,
Скінулі з-пад хмараў пёркі.

І абмылася слязамі,
І ўзвілася ў неба смела,
І крыло ў крыло з гусямі
Я на поўнач паляцела.
Бачыў зірк мой задуменны
Ноўгарад белакаменны.

Ластаўка там лёгкакрыла,
З белай грудкай, з чорнай спінкай,
Лётала — я й папрасіла
Ўбор пазычыць той хвілінкай.
І ў жалобе гэтай смела
Да цябе пад дах ляцела.

Мухай лётала ў пакоях
І яе — аж глухла ў гудзе —
Бачыла ў багатых строях.

Кленчыў, цалаваў ёй грудзі.
Кляўся ў вечнай ёй мілосці,
Я сканаць хацела ў злосці.

— Ах, мне трэба павініцца! —
І паніч падаўся жвава.
— Я русалка-чараўніца,
Ха, ха, ха, ха, брава, брава!
Хто мілосць спакусай студзіць,
У лясах хай вечна блудзіць!

Ха, ха, ха, ха! — ноч глухая
Носіць рэха ў перапудзе.
У бары паніч блукае,
Так блукаць ён вечна будзе.
Згэтуль, дзе вятры начуюць,
Ха, ха! — ў лесе людзі чуюць.

Людзі кажуць, як хто ходзіць,
Ягад ці грыбоў шукае,
Дык русалка смехам зводзіць,
Малады паніч блукае,
Горка плача, наракае.
Кожны, дрыжучы, ўцякае.

*[1840]*

## ДЗВЕ БЯРОЗЫ

З народных паданняў

Ведае вёска: так шчыра Марылю
Ясь, маладую, кахае!
З Полацка возіць ёй стужкі штохвілю,
Брошкі для мілай купляе.

Сёння — ці будзе вось толькі да густу? —
Хлопец прывёз для каханай
Неба кавалак — блакітную хусту
З макаў гірляндай агнянай.

Мроіцца Ясю ўжо: тварык дзявочы
Радасцю шчырай зардзее.
Шмат скажуць хлопцу адданыя вочы,
Сэрца сагрэе надзея.

Ды што за кропка вунь бачыцца воку?
Голуб ляціць у блакіце!
З весткай якой ён спяшае звысоку?
Што, што нясе ён, скажыце?

Вось перад ганкам ён сеў, шызапёры,
Ясю, як ёсць, дакладае,
Быццам Марыля, знябытая ў горы,
Слёзы адна праліваe.

Бы сірату з нешчасліваю доляй
Мачаха ў пушчу паслала,
А каб адтуль не вярнулася болей,
Пушчу ўсю зачаравала.

Блудзіць па лесе Марыля. Цень ночы
Тут агарнуў сіраціну.
Крык пугачовы, ваўчыныя вочы
Страшаць да смерці дзяўчыну!

Стала між хвояў, дрыжыць, як асіна,
Просіцца, ледзьве жывая,
Літасці ў неба самога дзяўчына,
Ды — цішыня там нямая.

Ясь вестуна слухаць болей не здолеў,
Весткай нядобрай працяты.
Сеў на каня і штосілы праз поле
Мчыць да Марылінай хаты.

Мачаха злосна сустрэла хлапчыну:
«Падчарка дзе? Дзесь блукае!
З дому ўцякла. Ці ж я знаю прычыну!
Шмат вельмі гонару мае!»

Ясь больш не мог слухаць здрадныя словы,
Ныла душа па дзяўчыне.
Кінуўся ў лес, хоць быў час вечаровы:
Не, ён яе не пакіне!

Хлопца сустрэў бор нявeтлівы, дзікі,
Цемра глыбокая пушчы.
Соваў нябачных жахлівыя крыкі
З чорнай даносяцца гушчы.

Цэлую ноч у гушчэчы той блудзіць,
Кліча Марылю, гукае.
Глуха. Хіба толькі птушку дзе спудзіць,
Звера ў бярлозе злякае.

Бы пасвятлела — паловаю твару
Месяц зірнуў з паднябесся.
Ды зноў схаваўся за цёмную хмару,
Зноў стала вусцішна ў лесе.

Лес патанае ў счарнелым тым змроку —
Як жа знайсці тут Марылю?
Бліснула зорка іскрынкай звысоку,
Бліснула й згасла праз хвілю.

Ды ўжо зара паміж дрэваў яснее
За асаковай палянай.
Зноў узгараецца ў сэрцы надзея:
Знойдзе мо след хоць каханай.

Выйшаў на ўзгорак. Там з-за вербалоззя —
Гола, бязлюднае поле.
Толькі самотная ў лозе бяроза —
Плачкай над нейчаю доляй.

Нізка схілілася, быццам ад жалю —
Росы на голлі ці слёзы?
Белая, белая — нібы з паркалю
Дзіва-сукенка ў бярозы.

А каля шыі яе лебядзінай —
Газа[1] зялёнай лістоты.
Ветрык гуляе з той лёгкай тканінай,
Поўны нязнанай пяшчоты.

Раптам на Яся, здалося, яскрава,
Глянулі тут з-за галінкі
Сінія вочы Марылі ласкава
З чыстаю кропляй слязінкі.

Ясь аж застыў быў ад дзіўнага дзіва —
Як жа тут люба, як гожа!
Так і глядзіць на бярозу шчасліва
І адарвацца не можа.

Чуе, зязюля кукуе на вуха:
«Ясю, і праўда: тут тая,
Што ты шукаеш, па кім твая скруха,
Любай душа тут жывая.

Просіць яна цябе з ласкай, з пяшчотай
Стаць у цяньку яе, з ёю,
Шчыра табе ўсё раскажа лістотай,
Быць яна хоча з табою».

І прыхінуўся да любай у жалю
Ды і застыў з ёй хлапчына.
Толькі апошнюю кропляй крышталю
З вейкі зляцела слязіна.

Дзень ён стаяў, бы якая падпора,
Бледны, нібы мармуровы.
Вось ужо й сонца пагасла над борам,
Тлее і захад барвовы.

Ноч завіхурыла свет навальніцай.
Д'ябальскі посвіст стыхіі.
Ды ўжо не верне й пярун з бліскавіцай
Яся цяпер з летаргіі.

Лес аж гудзе, вецер дрэвы згінае,
Б'ецца, шалее віхура.
Гром паднябесны зямлю скалынае,
Ноч усю носіцца бура.

Раніцай сціхла. Зіхоткія высі.
Сонца плыве над палямі.
Бачыць пастух: дзве бярозы спляліся
Голлем, як быццам рукамі.

Нібы ў вянку, пад нябёс сінізною,
Над лугавінай расянай
Шэпчуцца лісцем яны між сабою,
Так, як каханак з каханай.

Хутка заўважылі цуд гэты людзі,
З вёсак сюды заспяшылі.
Гляньце ж усе: дзе яшчэ такі будзе
Шлюб, як у Яся й Марылі?

Вырасла побач і дзіўная зёлка:
Гэта — зусім не на згубу —
Ім, маладым, сем калёраў вясёлка
Падаравала да шлюбу.

Што ні вясна — зёлка зноў неўпрыкметку
Тут расцвітае пад ранне.
«Ясь і Марыля» — назвалі так кветку
Людзі у знак іх кахання.

Ну, а бярозы? Спяваць ім купчастай
Кронай адзінай сваёю.
Мачахі ж дом паглынула пад час той
Возера з чорнай вадою.

*13 ліпеня 1841 г.*

## КУРГАНЫ ПАЎНОЧНАЕ БЕЛАРУСІ

Той, хто падарожнічае з поўначы ў бок Беларусі, бачыць перад сабою велізарныя вёскі накшталт мястэчак, белыя мураваныя цэрквы і камяніцы двароў[*], шырокія засеяныя палі, сям-там невялічкія хваёвы пушчы або бярозавыя гаі, чуе не раз працяглы і гучны спеў селяніна, які далёка, наколькі сягае вока, разносіцца па палях або пералятае горы і даліны з мелодыяй пастухоўскага ражка. У нядзелю, калі сонца набліжаецца да захаду, сустракае ён вясковых дзяўчат у святочных паркалёвых, ■ часам і ў ядвабных сарафанах у атачэнні юнакоў-залётнікаў; водзяць яны карагоды, спяваючы народныя песні, а старыя, седзячы на прызбах, разважаюць пра мінулыя і сённяшнія часы...

Аднак калі ён набліжаецца да межаў Себежскага і Невельскага паветаў, то бачыць перад сабою разлеглыя цёмныя пушчы, якія, быццам хмары, навісаюць на даляглядзе, паміж лясоў — саламяныя стрэхі бедных жыхароў; дзе-нідзе позірк сустракае вытырклы паміж хвоямі жалезны крыж пакрытае мохам капліччкі, перад дзвярыма якой на двух хваёвых слупах вісяць або два, або тры званы; па ваколіцах раскіданы магільныя крыжы і камяні. Рэдка натрапіш там на прыстойна збудаваны панскі дом; няшмат і касцёлаў такіх, дзе можна было б бачыць густ архітэктара або выдаткі багатага фундатара; і гэты выгляд зямлі, змрочны і дзікі, пачынаючыся ад ракі Ловаць, распасціраецца да берагоў Дзвіны, дзе канчаюцца Палата і Дрыса.

На ўсім гэтым абшары вузкія камяністыя дарогі, пераразаючы гарыстыя мясціны і мінаючы дзікія берагі азёраў, хаваюцца ў пушчах. У бедных вёсках у святочныя і будзённыя дні заўсёды пануе нейкая панурая цішыня; рэдка адгукнецца песня жняца або ратая, і па гэтым спеве можна лёгка зра-

[*] Гэтак тамтэйшы люд называе мураваныя дамы маёнткаў. (*Тут і далей заўвагі Я. Баршчэўскага.*)

зумець яго заклапочаныя думкі, бо няўрод часта ашуквае тут надзеі працавітага земляроба...

У гэтых краях прайшлі дзіцячыя мае гады. Тут я пасля таго, як разлучыўся з маладымі сваімі таварышамі па Полацкай акадэміі, не могучы мець пры сабе іншых кніг, апрача некалькіх лацінскіх і грэцкіх класікаў, блукаў у прыемных марах дзе-небудзь у цёмнай пушчы або па бязлюдным беразе возера; любіў чытаць у кнізе прыроды, калі вечаровай парою адкрыецца старонка, на якой мільёнамі зіхоткіх угары зорак напісана Божая Ўсемагутнасць. На зямлі, пакрытай безліччу раслін і жывёл, я чытаў аб Міласэрнасці і Волі Творцы. Гэтая кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай паэзіі, сапраўдным пачуццям лепей, чым сённяшнія гаваркія крытыкі, якія чужыя пачуцці і розныя здольнасці, дадзеныя чалавеку ад Бога, хочуць, быццам фрак, перашыць на сваю фігуру.

Апавяданні старых пра розныя здарэнні ў іх народных аповесцях, якія перайшлі ад чалавека да чалавека са старадаўніх часоў, былі для мяне гісторыяй гэтае зямлі, характару і пачуццяў беларусаў.

Пасля таго, як лёс закінуў мяне ў далёкія мясціны, як жа часта самотныя думкі мае з берагоў Нявы вяртаюцца ў гэты край, дзе прайшлі лепшыя гады майго жыцця, дзе столькі мілых успамінаў малюе мне памяць! Успамінаю недалёкія ад Невеля ваколіцы Рабшчызны, дзе прырода ўзняла высокія горы, быццам паверхі велізарных гмахаў, якія стагоддзі пакрылі ценем лясоў, а некаторыя пад пагодлівым сонцамззяюць залатым пяском. Якія там разнастайныя краявіды, якія цудоўныя малюнкі! Калі хто, будучы ў гэтым краі, узышоў на вяршыню Пачаноўскае гары* і глядзеў на дзікія ваколіцы, што ляжаць навокал, дык бачыў, як азёры тут і там, нібы люстэркі, адбіваюць дзённы прамень, а над іх берагамі дрэмлюць густыя лясы, як дзенідзе па схілах чарнеюць бедныя сялянскія хаціны; але не ўбачыш тут нідзе ні гарадскіх муроў, ні вежаў старога замка. Там чалавек забывае пра свет. Не гучаць там спрэчкі французскае палаты ў справе Егіпта і Турцыі[1], не чуваць там пра англійскі парламент[2], пра вайну з кітайцамі[3], не гамоняць там ні пра чыгункі[4], ні пра дзівосную вынаходку Дагера[5]. І толькі голас пастушка, стрэл паляўнічага ў лесе або вецер, што гойсае ў вершалінах пушчы, парушаюць на хвіліну цішыню ваколіцы...

Бліжэй да Полацка возера Нешчарда на некалькі міль залівае абшар, падмывае хвалямі ўзбярэжныя пясчаныя горы, на поўдзень — шырокія паплавы, усеяныя купамі лазняку, сям-там рэчкі, бегучы здалёк сярод чароту, хаваюцца ў разліве азёрнае вады. Там вясна — рай; самыя розныя птушкі, здаецца, збіраюцца з усіх канцоў свету, тысячы розных меладычных, дзікіх і чуллівых галасоў адгукаюцца над вадою па лугах і лясах: енк зязюлі, пошчак салаўёў, голас бугая ў чароце, рэзкія крыкі качак... Гэтая дзівосная суладнасць і гэты канцэрт прыроды пераносілі мае ўяўленні ў нейкі чарадзейны край.

І цяпер гэтыя мясціны, дзе ў маленстве я бачыў столькі цудаў прыроды, гэтыя гаі, гэтыя зялёныя берагі Нешчарды памяць малюе мне, нібы прыснёны сад. Прыпамінаю народныя апавяданні пра паданні гэтага краю, пра горы,

* Верш пад гэтай назвай змешчаны ў «Незабудцы» за 1841 г.

дрэвы, Нешчарду, якія ходзяць сярод люду; і хоць у яго апавяданнях цяжка знайсці поўную праўду, аднак можна бачыць нейкі след мінуўшчыны гэтага краю, бо яшчэ дагэтуль у некаторых мясцінах можна назіраць валы, узнятыя чалавечаю рукою; гэта, бясспрэчна, сляды войнаў, пра якія не ўспомніў аніводзін гісторык. Часам пагляд сустракае курганы, пакрытыя лесам. Можа, у цені шумлівых хвояў спачывае там які-небудзь ваяўнік, імя якога даўно забытае. Я не раз чуў аповеды простага народа пра даўнія войны, але да іх столькі дамешана казак і цудаў, што застаўся толькі слабы след мінуўшчыны, без імёнаў дзеючых асоб. Раскажу адно простанароднае паданне гэтае ваколіцы.

На паўднёвым баку возера Нешчарды ёсць гара, якую з трох бакоў амывае вада, на той гары — драўляны маленькі касцёлак і некалькі хвояў. Там часта знаходзяць у пяску сцёртыя вякамі срэбныя манеты, шкляныя прадметы, якія выкарыстоўваліся як упрыгожанні, іржавыя рэшткі разнастайнае старасвецкае зброі. Кажуць, на той паўвыспе быў некалі горад. Аднак чый горад, хто ў ім уладарыў — невядома. Тамтэйшы люд, які жыве ў аддаленых лясістых ваколіцах, доўга не ведаў нападаў розных плямёнаў, што блукалі ў гэтым краі дзеля рабунку. Праз некаторы час страшны волат, якога звалі *Княжа*[*], прываблены да берагоў Нешчарды надзеяй на багаты рабунак, аблажыў з велізарнай хеўраю разбойнікаў гэты горад, адужаў слабую абарону, абрабаваў дамы, пазабіваў жыхароў, у касцёлах паабдзіраў абразы і спляжыў ахвяравальны посуд, нават касцёл зруйнаваў, а званы ўтапіў у возеры і з натоўпам сяброў атабарыўся ў спустошаным горадзе. Аднак Бог дзівосным чынам абвясціў сваю кару блюзнерцам. Званы, затопленыя на дне возера, штодзень на захадзе і ўсходзе сонца абуджалі глухое маўчанне на дзікіх берагах Нешчарды так, што птушкі, напалоханыя енкам гэтага звону, уцяклі паветранымі шляхамі, а сарны і ласі, дрыжучы ад страху, пахаваліся ў далёкіх пушчах. Апоўначы лятала чума, падобная да чорнага шара, і дзе яна дакранулася да сцяны, з гэтага дому ўжо ніхто не выходзіў жывы, і такім чынам вымерла ўся дружына *Княжа*; сам ён, перапалоханы, пакінуўшы ўсе багацці, закапаныя ў гары, уцёк з некалькімі сябрукамі, але недалёка за возерам яго напаткала смерць. Народ і зараз паказвае аграмадны курган, які называецца *Магілай Княжа.*

Шмат і іншых паданняў у тым краі кружыць сярод простага люду; у многіх з іх згадваюцца гістарычныя выпадкі, іншыя ж — болей плён фантазіі ды меланхалічнага духу, што вызначае жыхара гэтых дзікіх і лясістых ваколіц; ад прыроды ён здольны да жвавае думкі, уяўленне яго стварае дзіўныя карціны. Асобныя з тамтэйшых простанародных паданняў я перадаў у баладах, змешчаных у трох томіках альманаха «Niezabudka», а менавіта: «Дзявочая крыніца», якая знаходзіцца на поўнач ад горада Полацка, схаваная ў цені адвечных лясоў; «Дзве бярозы», якія і цяпер люд паказвае непадалёку ад берагоў возера Шэвіна; «Курганы»; «Русалка», узятая з песні чараўніцы, якая, сумуючы па сваім каханым, спявае:

---

[*] Тут і далей у творах Я. Баршчэўскага беларускія словы і выразы выдзелены курсівам.

*Гусанькі, лябёдэнькі,*
*Скіньця мне па пёрэчку,*
*Я з вамі полечу.*

Бываюць тут часамі ў нядзелю кірмашы; людзі збіраюцца з бліжэйшых вёсак у касцёл. Там на могілках можна бачыць сцэны, якія наводзяць на душу смутак. Вось удава з малымі дзецьмі ля драўлянага крыжа, які стаіць над магілаю яе мужа, а там сірата над магілаю бацькоў выказваюць сваю журбу голасам, які раздзірае сэрца; калі хто наблізіцца да іх і падслухае іхнія словы — яны зайздросцяць мёртвым, і гэтыя слёзныя скаргі, здаецца, працялі б і каменныя грудзі.

Пасля набажэнства ўсе збіраюцца ў адным месцы, дзе-небудзь паблізу карчмы; тут з'яўляецца некалькі жыдкоў[6] са стужкамі, іголкамі і рознымі бліскучымі аздобамі для адзення; падае голас адмысловая беларуская *дуда*. Распачынаецца музыка пад адкрытым небам; малады хлопец і сівы дзед, падхмеленыя гарэлкаю, скачуць да поту, іх радасць часта пераходзіць межы прыстойнасці. А журботныя плачкі, якія нядаўна заліваліся слязьмі над магілаю мужа і бацькі, скачуць пад мелодыю дуды:

*Слава тобе, Хрыстэ цару,*
*Што мой муж на цмэнтару,*
*І бяды позбылася,*
*І гарэлкі напілася.*

Або таксама:

*Калі ж тая серада прашла,*
*Як ня еўшы на прыгон пашла,*
*Весь дзень жала, ня лянілася,*
*Злому войту пакланілася;*
*А цяпер жа ні а чом тужыць,*
*І войт п'яный у карчме ляжыць.*

У большасці песень гэтага простага люду як у словах, так і ў мелодыі ёсць нешта меланхалічнае, і нават вясельныя песні, дзе маладым зычаць шчаслівага супольнага жыцця, маюць у сабе нейкае пачуццё смутку, як быццам яны не давяраюць будучаму лёсу ў гэтай юдолі плачу... Але вясельныя абрады адметныя рыцарскім запалам; малады, перш чым стаць ля парога бацькоў нарачонае, прывучае свайго каня не баяцца агню і кідацца ў полымя, а пасля такое падрыхтоўкі, сабраўшыся ехаць да свае нарачонае, ён і яго дружына надзяваюць чырвоныя шапкі, звешваюць на грудзі чырвоныя хусткі ды імчацца праз горы да дому, дзе іх чакаюць нявеста і госці. Перад варотамі яны спыняюцца; салома шугае полымем, ён і дружына пераскокваюць яе наўскач на ўдалых конях, але і тут яшчэ запаленыя пучкі саломы, якія кідаюць коням у вочы, не дазваляюць заехаць у адчыненыя вароты; яны адольваюць усе перашкоды; малады са схіленай галавою ўваходзіць у хату, сядае за сталом, чуецца песня *«Баслоў Бог вяселе іграць»**,

* Блаславі, Божа, сватанне, бяседу вясельную.

і тут пачынаецца блаславенне маладых і вясельны баль. Але ў часе таго балю здараюцца розныя незвычайныя выпадкі.

Беларусь, як і іншыя народы, памятае яшчэ некаторых сваіх міфалагічных бажкоў. Русалкі, калі жыта красуе ў полі, з распушчанымі доўгімі валасамі гушкаюцца на бярозах і спяваюць песні; іхні смех адгукаецца ў глыбіні лясоў і трывогай працінае тых, хто збірае грыбы або ягады. Лясны бог — пан дзікіх пустэльняў; каб чалавечны зрок не мог яго ўгледзець, ён пад разнастайнымі выглядамі хаваецца ў сваіх уладаннях; мінаючы лугі, так змяншаецца, што яго нельга ўбачыць у густой траве; ідучы праз пушчы, раўняецца з самымі высокімі хваінамі. Ён апякун звяроў і лясных птушак. Кажуць, што бачылі велізарныя чароды ваверак, якіх лясны бажок перапраўляў з аднае пушчы ў другую; ён рабіў гэта, каб выратаваць іх ад агню, бо прадбачыў, у якім баку выбухне пажар.

Урачыстасць Купалы вядома амаль усім славянскім народам. На Беларусі 23 чэрвеня[8], пасля заходу сонца, адбываецца *Купальня*, або Свята Купалы; уначы шукаюць скарбаў; самы шчаслівы той, каму пашанцуе сарваць кветку папараці; яго зрок прыкмячае закапаныя ў глыбіні зямлі скарбы, і ён столькі можа мець золата, колькі сам захоча. Кабеты разам з юнакамі і дзяўчатамі каля вогнішчаў са смаловага палення чакаюць усходу сонца, спяваючы песні:

*Іван да Марія,*
*На гарэ купальня,*
*Дзе Іван купаўся,*
*Бераг калыхаўся;*
*Дзе Мар'я купалась,*
*Трава разсцілалась.*

Ды іншыя падобныя песні гучаць у полі, аж пакуль сонца не зайграе на небе.

Ноч Купалы ў тым баку Беларусі поўная незвычайных здарэнняў. На думку простага люду, уся прырода ў гэтую ноч весяліцца. Рыбакі бачаць паверхню возера, пакрытую часам белым, нібы месячным бляскам, і хоць неба яснае і паветра спакойнае, бліскучыя хвалі, удараючы ў берагі, разбіваюцца на кроплі, якія, нібы зоркі, свецяцца ў паветры. І гэтае цудоўнае відовішча на зарослых чаротам берагах абуджае дзікіх качак ды іншых вадзяных птушак, якія, прываблены дзівосным свячэннем вады, уздымаюцца тут і там над ясным возерам.

Дрэвы ў лесе таксама могуць пераходзіць з аднаго месца на другое; шумам сваіх галін яны размаўляюць паміж сабою; апавядаюць, што нехта, блукаючы гэтай ноччу ў лесе, знайшоў кветку папараці і бачыў не толькі скарбы, схаваныя ў зямлі, але і незвычайныя дзівы ў прыродзе; разумеў гаворку кожнага стварэння; чуў, як дубы сыходзяцца з розных мясцін і, зрабіўшы кола, гамоняць шолахам галін, прыгадваючы, быццам старыя ваяры, свае гераічныя ўчынкі і даўнія заслугі. Ліпы і бярозы, збіраючыся там, хваліліся сваёй прыгажосцю; сярод іх былі некаторыя, нібыта госці з суседніх

садоў, класічна падстрыжаныя і выпрастаныя; тыя гаманілі пра залётнасць дваровых дзяўчат і свавольства панічоў, сведкамі якого яны не раз былі; а гэтыя крыўдныя размовы з пагардаю слухалі задуменныя хвоі і яліны. Ён бачыў вербы, якія, стоячы над рэчкай і ўглядаючыся ў вадзяное люстэрка, пыталіся адна ў аднае, што якой з іх пасуе, — і гэтыя цуды дзеюцца ажно да ўсходу сонца.

Усход сонца пасля гэтае бяссоннае, урачыстае ночы таксама бывае крыху асаблівы. Натоўп люду, што весяліцца ў полі, канчае песні ды танцы і моўчкі скіроўвае вочы да неба, нібы паглядае на сцэну, дзе ўверсе, на палаючай прасторы далягляду, павінна з'явіцца штосьці незвычайнае. Узыходзіць сонца, уздымаецца над гарамі ды лясамі і на вачах усяго люду рассыпаецца ў небе на дробныя зіхатлівыя зорачкі, зноў збягаецца ў адзін агністы шар; яго акружае безліч вясёлкавых кругоў, і ён мігціць, кружачыся вакол свае восі. Гэтая праява паўтараецца некалькі разоў, і такім чынам *сонца грае* штогод 24 чэрвеня.

Апрача згаданых цудаў ёсць яшчэ, як мяркуюць жыхары таго краю, чароўныя зёлкі. *Разрыў-трава* можа дзівосна ўздзейнічаць на жалеза, разрывае нібыта замкі і кайданы ў вязняў; калі каса натрапіць на яе на лузе ў час сенакосу, дык расколецца на некалькі частак. *Пералёт-трава*, або лятучае зёлка; расказваюць пра яе, што яна мае здольнасць пераносіцца з месца на месца, яе вясёлкавая кветка надзвычай жывая і прыгожая, а ў сваім палёце часам блішчыць, быццам зорачка. Шчаслівы, хто яе сарве, бо не зазнае ён перашкодаў у сваім жыцці, усе яго жаданні неадкладна здзейсняцца, і гэтая зёлка — зёлка шчасця. Людзі, марачы пра шчасце на гэтай зямлі, малююць яго ў розных вобразах; грэкі і рымляне верылі ў сляпую Фартуну, што, круцячы вечнае кола, уздымае людзей пад аблокі і зноў апускае ў бяздонне. Беларускі народ уявіў сабе нейкае лятучае зёлка, гонячыся за якім не адзін збіўся з дарогі і не вярнуўся да свае роднае хаты. І я, шукаючы яе далёка, пакінуў гэтую родную старонку, дзе прайшлі самыя прыемныя дні майго жыцця, і цяпер у паўночнай сталіцы[9], паглядаючы на тэатр вялікага свету, чытаю кнігу, што часам смешыць, часам прымушае ліць слёзы, і гэта — кніга чалавечых сэрцаў і характараў.

Край мой, дзе горы паўсталі узнёсла,
Край сініх вод, чаратамі зарослых,
Пушчаў, дзе ў голлі хаваецца сонца,
Колькі прыгадак ты будзіш штодзённа,
Ў промнях вясновых, у барвах зялёных
Ты мне з'яўляешся казкай бясконцай.
Згадваю сумную песню ратая
Ці пастуха, што па-простаму грае,
Часам, калі у лясах ля азёраў
З кобзаю рэха гамоніць паўторам
Ці калі люд пасля дзённае працы
Гучна спявае ля хаты сабрацца,
Чуючы мяккі палон прахалоды,

Слухаць ад старца сівога прыгоды
Прашчураў слынных, асілкаў, герояў.
Слава і дзіва паданне старое,
Што аж ад продкаў па бацькавым краі
З вёскі да вёскі вандруе, блукае![10]

## ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ, АБО БЕЛАРУСЬ У ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАННЯХ

(урыўкі)

**Некалькі слоў ад аўтара**

Сярод беларускага люду захоўваюцца яшчэ і цяпер асобныя паданні даўніх часоў, якія, пераходзячы ад чалавека да чалавека, зрабіліся такія ж цьмяныя, як і міфалогія старажытных народаў. Жыхары гэтага краю, а менавіта Полацкага, Невельскага і Себежскага паветаў, спрадвеку пакутуючы, зусім змяніліся характарам; на іх тварах заўсёды адбіты нейкі смутак і змрочная задумлівасць. У іх фантазіях увесь час блукаюць нядобрыя духі, якія, аднак, служаць злым панам, чараўнікам і ўсім непрыяцелям простага люду.

Я нарадзіўся там і вырас, іх скаргі і журботныя апавяданні, як гоман дзікіх лясоў, навявалі на мяне заўсёды змрочныя думкі і з дзяцінства былі маёй адзінаю марай.

Асобныя з гэтых родных успамінаў я прыгадаў у баладах; гэта быў мой самотны напеў. Балады былі пачаткам таго, пра што я меў намер сказаць падрабязней. Гэта ў чалавечай натуры — ад песні пераходзім да апавядання пра тое, што нас найбольш займае. Павінны выйсці адзін за адным шэсць[1] томікаў гэтых аповесцяў, якія малююць пераважна мясціны паўночнае Беларусі, бо гэты куток зямлі заўсёды выклікае ў мяне наймілейшы ўспамін.

Я не пераймаю формаў, якія ўжывалі пісьменнікі англійскія, нямецкія або французскія; лічу, што чужаземнае не будзе пасаваць негаваркому жыхару Беларусі. Узяў я форму з самое прыроды. Сірата штодзённа наракае на сваю нядолю, апавядае пра розныя пакуты, якія ён мусіў трываць на гэтым свеце, і яго скаргі на працягу ўсяго жыцця зліваюцца ў адну аповесць, хоць ён і не думаў сёння пра тое, што будзе апавядаць заўтра.

*Ян Баршчэўскі*
*Пецярбург,*
*1844, 8 верасня*

## ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ, АБО БЕЛАРУСЬ У ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАННЯХ

Дзядзька мой, пан Завальня, досыць заможны шляхціц на загродзе[2], жыў у паўночным і дзікім баку Беларусі. Яго сядзіба стаяла ў чароўнай мясціне. На поўнач паблізу жылля — Нешчарда, велізарнае возера накшталт марское затокі. Калі ўсходзіцца вецер, ад возера плыве роўны шум і відаць праз акно, як пакрытыя пенаю хвалі падымаюць угору і зноў кідаюць уніз

рыбацкія лодкі. На поўдзень ад дому нізіны зеленеюць кустамі лазы, дзенідзе ўзгоркі, парослыя бярозамі і ліпамі, на захад — разлогія лугавіны, і рака бяжыць з усходу, пераразаючы гэтыя ваколіцы, уліваецца ў Нешчарду. Вясна там надзвычай прыгожая, калі па лугах разальецца вада, і ў паветры над возерам і ў лясах зазвіняць галасы птушак, што вяртаюцца з выраю.

Пан Завальня любіў прыроду, найбольшай прыемнасцю для яго было садзіць дрэвы, і таму, хоць дом яго стаяў на гары, за паўвярсты нельга яго ўбачыць, бо быў з усіх бакоў прыкрыты лесам. Толькі рыбакам, што плавалі па возеры, адкрывалася ўся пабудова. Ён таксама меў прыроджаную душу паэта і хоць сам не пісаў ні прозай, ні вершам, але кожнае апавяданне пра разбойнікаў, герояў, пра чары і цуды надзвычай яго займала, і кожную ноч ён засынаў не іначай, як слухаючы чарадзейныя гісторыі. Таму ўжо было звычайным, што, пакуль ён не засне, хто-небудзь з чэлядзі мусіў апавядаць яму якую простанародную аповесць, і ён слухаў цярпліва, хоць бы адна і тая ж гісторыя паўтаралася некалькі дзясяткаў разоў. Калі хто прыязджаў да яго, маючы якую патрэбу, які-небудзь падарожны ці квестар, ён найласкавей яго прымаў, частаваў, пакідаў начаваць і выконваў усе жадункі, узнагароджваў, абы толькі той расказаў яму якую казку. А асабліва ўвосень, калі ночы доўгія. Той госць быў для яго наймілейшы, які меў у запасе найбольш гісторый, розных здарэнняў і показак.

Калі я прыехаў да яго, ён быў вельмі мне рады, распытваў пра шаноўных людзей, у якіх я праслужыў столькі гадоў, расказваў пра сваю гаспадарку, пра бярозы, ліпы і клёны, якія шырока распасцёрлі свае галіны над дахам. Некаторых суседзяў хваліў, іншых жа ганіў, што яны займаліся толькі сабакамі і паляваннем. Нарэшце, пасля доўгае размовы пра сёе ды тое кажа мне:

— Ты чалавек вучоны, хадзіў у езуіцкую школу, чытаў многа кніжак, гутарыў з вучонымі людзьмі, павінен ведаць шмат разнастайных гісторый, сёння ўвечары раскажы мне што-небудзь цікавае.

Дык я пачаў прыпамінаць, чым бы пахваліцца. Я нічога не чытаў, апрача гісторыкаў і класікаў. Гісторыя народаў — не займальная рэч для таго, каго не цікавяць тэатр свету і асобы, што іграюць розныя сцэны. Для майго дзядзькі адзінай гісторыяй былі Біблія, са свецкіх жа паданняў ён дзесьці вычытаў, што Аляксандар Македонскі, прагнучы даведацца пра вышыню неба і глыбіню мора, лятаў на грыфах і апускаўся на дно акіяна, і такая чалавечая смеласць яго, дзядзьку, здзіўляла і займала. Трэба было і мне расказаць што-небудзь падобнае, таму вырашыў пачаць з «Адысеі» Гамера, бо ў гэтай паэме поўна чараў і дзіваў, як і ў нашых асобных простанародных аповесцях.

Блізу дзясятае гадзіны вечара, калі вясковыя жыхары канчаюць сваю працу, мой дзядзька пасля малітвы ідзе спачываць. Ужо сабралася ўся чэлядзь паслухаць новыя аповесці, а ён сказаў так:

— Ну, Янка, раскажы ж нам што цікавага, я буду пільна слухаць, бо сёння адчуваю, што не хутка засну.

Тады я, каб мае аповесці былі лепш зразумелыя для слухачоў, расказаў коратка пра самых галоўных грэцкіх багоў, багінь і герояў, пасля пра залаты

яблык, пра суд Парыса, пра аблогу Троі. Усе слухалі з цікавасцю і здзіўленнем. Я чуў, як некаторыя з чэлядзі гаварылі:

— *Гэтай басні прыпомныць не можна, дужа цяшкая.*

— А ці было калі ў сапраўднасці тое, што ты расказваеш? — пасля доўгага маўчання перапыніў дзядзька.

— Так некалі верылі паганцы, бо гэта было да нараджэння Хрыстовага. Вядома з гісторыі пра гэты народ, вядома таксама і пра яго рэлігію.

— І такому вас вучаць езуіты ў школах, нашто ж гэта прыдасца?

— Хто вучыцца, — адказаў я, — той павінен пра ўсё ведаць.

— Ну, то кажы далей.

І далей я апавядаў без перапынку. Ужо было пасля паўночы. Чэлядзь, разыходзячыся, паціху паўтарала паміж сабой:

— *Нам гэтай басні ня выўчыцца, усё што-то ні па-нашэму, тут нічаго ні прыпомніш.*

Праз пэўны час я пачуў моцны храп майго дзядзькі і, усцешаны з гэтае прычыны, пералсагнуўся і заснуў.

На другі дзень ён як вясковы гаспадар устаў вельмі рана, агледзеў увесь свой маленькі маёнтачак, вярнуўся ў дом і, набліжаючыся да мяне, калі я яшчэ драмаў, загукаў:

— О, як бачу, вашэць любіць спаць па-панску; уставай, у простых людзей гэта грэх, і цябе назавуць гультаём! Але твая ўчарашняя гісторыя вельмі вучоная, хоць забі, не помню аніводнага імя тых паганскіх багоў. Дый гэта не апошні раз, пагасцюеш у мяне да вясны і за доўгія зімовыя ночы шмат мне раскажаш пра сёе і пра тое.

У час майго побыту ў дзядзькавым доме мусіў я амаль пяць тыдняў кожную ноч усыпляць яго пераказам славутых паэм грэцкіх або лацінскіх класікаў, аднак найбольш яму падабалася з «Адысеі» мудрасць Уліса[3] на берагах Цырцэі і на востраве цыклопаў. Паўтараў мне не раз:

— А можа, некалі даўно і бывалі такія агромністыя веліканы, толькі дзіўна, што з адным вокам на ілбе. Але ж і хітрун гэты Уліс — напаіў, выкалаў вока і выехаў на баране.

Не мог таксама ён забыць шостае песні з Вергілія, дзе Эней увайшоў у пекла. Паўтараў некалькі разоў такія словы:

— Хоць ён быў і паганін, ды якое шляхетнае пачуццё і любасць да бацькі — ісці ў такое небяспечнае месца. Але якая ў іх дзіўная вера, у нас душачкі збавёныя ідуць у неба, а яны сабе прыдумалі нябеснае валадарства так глыбока пад зямлёй. Дзіўная рэч!

Аднаго разу, размаўляючы са мною, запытаўся ён, ці даўно я быў у Полацку.

— Амаль год не меў нагоды быць у гэтым горадзе.

— Калі надарыцца там быць, добра было б даведацца ад ксяндзоў езуітаў, як вучацца мае Стась і Юзік. О, не кепска быць чалавекам вучоным! От, як вашэць апавядаеш з розных кніжак, таго невук і ў сне не ўбачыць! Добра ўсё ведаць. Я, будучы ў Полацку, і мая нябожчыца жонка, вечная ёй памяць, прасілі ксяндза-прэфекта[4], каб не шкадавалі розгаў.

Розгаю дух святы дзетак біць радзіць,
Розга аніяк здароўю не вадзіць.

О, гэта цудоўныя вершы — розга вучыць розуму і веры. Сёй-той ■ нашых панічоў, якіх песцяць у бацькоў, толькі і бавіцца з коньмі і сабакамі, а прыйдзе які ў касцёл, дык нават не перажагнаецца. Якая ўцеха бацькам — толькі кара Божая!

Ужо былі першыя дні лістапада. Самотны, седзячы ля вакна, я слухаў завыванне асенніх вятроў і пошум бяроз і клёнаў, якія густа ўздымаліся над дахам. Віхор круціў па двары жоўтае лісце і ўзнімаў яго ўгору. Усюды глуха, толькі зрэдку забрэша сабака, калі мінае прахожы або пакажацца ■ лесу звер. Думкі мае былі занятыя нейкімі тужлівымі марамі. Тут уваходзіць кабета, што за гаспадыню ў майго дзядзькі. Гэта сястра яго жонкі-нябожчыцы, ужо ў сталых гадах. Убачыўшы, што я задумаўся, сказала:

— Нудзішся ты ў нас, пане Янка. Ты малады чалавек, ■ адпаведнае кампаніі не маеш, а можа, ужо і гэтыя начныя апавяданні апрыкралі. Крышку патрывай — як толькі замерзне Нешчарда паўз гэты фальварак праз возера будзе вялікая дарога. О! Тады пан Завальня запросіць да сябе шмат гасцей, каб расказвалі, што каму заманецца.

Прайшло колькі дзён. Яснымі і пагодлівымі начамі заіскрыліся маразы. Заснула возера пад тоўстай лядовай глыбай, пасыпаўся снег з аблокаў — і ўжо зіма. Уздоўж Нешчарды з'явілася шырокая дарога, праходзяць падарожныя і цягнуцца ў Рыгу вазы, гружаныя лёнам і пянькою, паказаўся гурт рыбаловаў на лёдзе. Мы з дзядзькам любілі часта наведваць тоні і глядзець на багаты ўлоў, а тут яшчэ і тая была карысць, што ён, прабыўшы цэлы дзень на марозе, хутка засынаў, і я вечарамі быў вольны. Да таго ж мы часцей мелі і заезджых гасцей, перад якімі дзядзька вельмі хваліў мяне і езуіцкія навукі, расказваючы, што чуў ад мяне шмат новых і такіх разумных аповесцей, што і запомніць цяжка. Быў і я рады гасцям, бо сёй-той з іх заступаў маё месца, і мне ўжо было прыемней слухаць, чым гаварыць.

Вечар быў цёмны, неба пакрыта хмарамі, нідзе аніводнае зоркі, падаў густы снег. Раптам пачынае дзьмуць паўночны вецер, навокал страшная бура і завіруха, вокны засыпала снегам, за сцяною завылі сумным голасам віхуры, быццам над магілаю самое прыроды, за адзін крок вока нічога не бачыць, і сабакі на падворку брэшуць: кідаюцца, быццам напалі на нейкага звера. Выходжу з дому, слухаю, ці не падышла зграя ваўкоў, бо ў такую завіруху гэтыя драпежныя звяры найчасцей шукаюць сабе здабычу, гойсаючы тут і там каля вёсак. Узяў набітую стрэльбу, каб хоць папужаць іх, калі здолею заўважыць зіхатлівыя воўчыя вочы. Раптам пачуў крык на возеры, там і тут пераклікаліся паміж сабою мноства адчайных галасоў, быццам не могучы даць рады ў страшнай небяспецы. Я вяртаюся ў хату і кажу пра гэта дзядзьку.

— Гэта падарожныя, — адказаў ён, — дуйка снегам замяла дарогу, і яны, блукаючы па возеры, не ведаюць, у які бок падацца.

Гаворачы гэта, ён узяў запаленую свечку і паставіў яе на падваконні.

Пан Завальня меў звычай рабіць гэта кожную завейную ноч ужо таму, што жыла ў ягоным хрысціянскім сэрцы любоў да бліжняга, і ён рады быў заўсёды гасцям, каб з імі пагаварыць і паслухаць іхнія гісторыі. Падарожныя, што заблудзіліся, заўважыўшы з возера агонь у вакне, цешыліся, як мараходы, змучаныя марскімі хвалямі, калі ўгледзяць здалёк сярод начное цямрэчы святло партовага ліхтара, цешыліся і з'язджаліся ўсе да сядзібы майго дзядзькі, быццам да прыдарожнае карчмы, каб пагрэцца і даць адпачынак коням.

Вецер не сціхаў, і дом, быццам высокія валы, акружалі снежныя сумёты; сярод шуму буры чуваць рыпенне снегу пад нагружанымі вазамі, стукаюць у зачыненыя вароты і крычаць:

— *Рандар! Рандар! Адчыні вароты; ахці, якая мяцеліца, саўсём перазяблі, і коні прысталі, чуць цягнуць. Рандар! Рандар! Адчыні вароты!*

На гэты крык выходзіць парабак, незадаволены, што ўваліўся ў глыбокі снег:

— *Пагадзіця, адчыню, чаго вы крычыця, тут не рандар жывець, а пан Завальня.*

— *Ах, паночык* (думалі, што гэта сам гаспадар), *пусці нас піраначаваць, ноч цёмная, нічаго не відна, і дарогу так замяло, што і найці няможна.*

— *А ці ўмеіце сказкі да прыкаскі?*

— *Да ўжо ш як-нібуць скажым, калі тольна будзе ласка панская.*

Адчыняюцца вароты, на падворак заязджае некалькі вазоў, насустрач выходзіць дзядзька і кажа:

— Ну, добра, будзеце мець вячэру і сена для коней, толькі з умовай, што хто-небудзь з вас павінен расказаць мне цікавую казку.

— *Добрэ, паночык,*— адказваюць сяляне, здымаючы шапкі і кланяючыся.

Вось выпраглі яны і прывязалі да вазоў сваіх коней, паклалі ім сена, зайшлі ў пакой для чэлядзі, абтрэслі снег, там далі ім вячэру; пасля яе сёйтой з іх прыйшоў у пакой да майго дзядзькі, ён даў ім яшчэ па кілішку гарэлкі, пасадзіў падарожных каля сябе і ўлёгся ў пасцель з намерам, аднак, слухаць казкі. Сабраліся сямейнікі, і я сеў паблізу, з вялікай цікавасцю жадаючы пачуць новыя яшчэ для мяне простанародныя аповесці.

## ПЛАЧКА

Кабета тая незвычайна прыгожая. Вопратка яе — белая як снег, на галаве — чорны ўбор, і чорная хустка накінута на плечы. Твар хоць і смуглы ад сонца і ветру, але гожы і паглядны, вочы жывыя, і заўсёды блішчаць на іх слёзы. Яна з'яўляецца найчасцей у пакінутых дамах, у пустых касцёлах і на руінах. Бачылі яе таксама пад дрэвамі або пасярод поля. Пасля заходу сонца яна сядае на камяні, наракае на лёс жаласным голасам і заліваецца слязьмі. Кажуць, тыя, хто набліжаўся да яе, чулі такія словы: «Няма каму даверыць таямніцу сэрца майго!».

Калі я ехаў з Полацка, на папасе апавядаў мне карчмар, што там блізка ад дарогі, за бярозавым гаем, стаіць пустая хата. Ля яе быў адно невялікі

вішнёвы садок. Жыў там даўней селянін, якога з усёй радзінаю выслалі паны кудысьці далёка, забраўшы ў яго некалькі кароў і коней.

Ішоў там убогі сляпы, якога вёў маленькі хлопчык. Пачуўшы ў тым доме журботны спеў, яны падумалі, што там ужо нехта жыве. Дык ідуць туды жабраваць. Заходзяць у хату, сляпы заспяваў песню: «О! Спасіцелю, наш Пане».

— Дом без дзвярэй і вакон, ніхто тут не жыве, — сказаў хлопчык сляпому. — Дарэмна толькі звярнулі з дарогі.

Але тут пасярод хаты з'явілася кабета ў жалобнай вопратцы і са смутным тварам.

— Маліцеся! — кажа.— Усюды ёсць Бог, які будзе вам дапамагаць.

Яна кінула жменю срэбраных манет сляпому ў шапку і вокамгненна знікла.

Гэты ўбогі, ходзячы ад хаты да хаты, паказваў тыя грошы, на якіх з аднаго боку былі выявы каралёў, а з другога — Пагоня[5].

Непадалёку ад дарогі, калі едзеш на Віцебск, стаіць пустая каплічка. Там, пасля заходу сонца, бачылі, што яна плакала, седзячы на парозе, і яе маркотны голас далёка адзываўся.

Рознае думалі людзі пра гэтую Плачку. Адны баяліся, што яна вяшчуе нейкае вялікае няшчасце, вайну, паморак або голад ва ўсім краі.

Па вёсках старыя людзі гаварылі між сабою пра гэтую кабету, заўсёды прадказваючы нешта дрэннае. Некаторыя ж з маладых мелі думку зусім іншую. Яны даводзілі, што там, дзе з'яўляецца Плачка, напэўна, скарб у зямлі. І ўся ваколіца гэтую думку ўпадабала.

На канцы тае вёскі жыў убогі чалавек, які даўней увесь свет абышоў. Вярнуўшыся да сваёй сям'і, жыў толькі з міласці. Ён часта паўтараў усім такія словы:

— Браты! Слёзы і нараканні гэтай жанчыны абяцаюць вам не золата і срэбра. Кабета плача на парозе забытае вамі святыні. Вы думаеце толькі пра багацце, а вас чакаюць беднасць і пакуты.

Аднаго дня, пасмяяўшыся са слоў гэтага старога, вырашылі: калі ўсе будуць спаць, ісці туды і выкапаць з зямлі скарб.

Старая капліца была за чатыры вярсты ад вёскі. Дык колькі маладых сялян, узяўшы з сабою струмант, борзда выправіліся туды, каб пачаць свае пошукі раней, чым заспявае першы певень.

Прыйшлі на месца. Змрочны выгляд той ваколіцы наводзіў на іх неспакой і страх. Непадалёку шумеў густы яловы лес, там маркотна вухала сава, і месяц вельмі рэдка паказваўся з-за чорных хмараў. Капліца, нібы магільны помнік, стаяла на пагорку ў засені бяроз.

Шчыравалі ўсю ноч. Выкапалі глыбокія ямы ў некалькіх мясцінах, але знайшлі толькі спарахнелыя дошкі ды чарапы.

Зразумелі, што былі тут калісьці могілкі, хоць і не ацалела на паверхні знакаў, апрача некалькіх ледзь прыкметных абымшэлых камянёў.

Улетку ноч кароткая. Вось ужо на ўсходзе пачынае ружавець ранак. Шукалі дарэмна. Дык засыпалі ямы і вяртаюцца дахаты.

Узыходзіла сонца. Заспяваў у небе жаўрук, і імгла ўжо знікала. Бачаць перад сабою недалёка ад дарогі ля кустоў ляшчыны — стаіць Плачка, тварам на ўсход. У руках ветрык матляе яркую стужку, тая трымціць у паветры, як бліскавіца. Толькі адзін з іх сказаў: «Пайшлі смела да яе», — прывід імгнення знік.

На тым месцы, дзе стаяла Плачка, вісела велізарнае асінае гняздо. Жамярыцы, што заляталі і вылятапі з гэтага гнязда, снавалі ў ранішніх сонечных промных, нібы залатыя іскры.

— Паслухайце мае рады, — сказаў адзін з іх. — Мы абвяжам асінае гняздо хусткаю. Прыйдзем да старога, разбудзім і скажам, што ля капліцы выкапалі скарб і частку ахвяруем яму. А калі ўстане ■ пасцелі, укінем яму ў вакно асінае гняздо. Няхай ашалее стары.

Усе пагадзіліся. Разбудзілі старога, укінулі ў хату асінае гняздо, а самі, смеючыся, уцяклі.

Дзіва нечуванае! Стары бачыць перад сабою рассыпанае на зямлі золата. І калі задуменна глядзеў на гэта, кажуць, з'явілася перад ім кабета, тая самая, што плакала на парозе старое капліцы, і сказала:

— Бяры палову гэтага золата сабе, а другую — раздай убогім. Бог дапамагае маім пакутным дзецям.

Сказаўшы гэта, яна ўмомант знікла.

У Інфлянтах жа было такое здарэнне. У маёнтку пана М. узвышаліся руіны нейкага старажытнага замка. Кажуць, што ў пракаветныя часы быў там горад, бо цяпер паводка размывае часам пясок і дастае да падмуркаў старажытных каманіц. Там часта знаходзяць шкляныя або ржавыя жалезныя рэчы, што даўней рабілі дзеля аздобы, абломкі зброі, а зрэдчас медныя або срэбныя грошы, што вякамі ляжалі ў зямлі.

Сюды штовечар, пасля захаду сонца, прыходзіла Плачка. Яна вешала на руіны вянкі польных красак, садзілася на камень і, заломваючы рукі, залівалася слязьмі. Не адзін прахожы, чуючы здалёк яе нараканні, смутны вяртаўся дадому і апавядаў пра гэта іншым.

Былі і такія цікаўныя, што, чуючы лямант дзіўнае кабеты, падышлі ў вечаровым змроку да яе і са слоў, якія пачулі, зразумелі, што нейкая нешчаслівая маці плача па сваіх дзецях. Але толькі надумалі ісці да яе і запытацца, хто яна і якая напаткала яе нядоля, ужо больш не бачылі яе, і голас не адзываўся да наступнага вечара.

Не зразумеў ніхто, што гэта такое. Цьмяныя здагадкі хадзілі па наваколлі. Усюды гаварылі пра яе толькі як пра дзіўную камету, што з'яўляецца на небе ў выглядзе вогненнае мятлы. Хацелі даведацца, дзе яна жыве і адкуль прыходзіць, але ўсё марна. Нібы які дух, апускалася яна на зямлю і знікала ў паветры.

Кажуць, што і сам пан М. не пярэчыў гэтым дзіўным апавяданням, бо і ён таксама сустрэў яе аднаго разу, вяртаючыся позняй парою дахаты, і чуў, як плакала яна на руінах замка. Не разумеў пан гэтае праявы, аднак, разважаючы, паверыў тым людзям, якія думаюць усё жыццё пра выгоду, хочуць, каб таямнічы дух спяваў ім толькі пра золата і срэбра і паказваў скарбы, схаваныя ў зямлі. Дык паклікаў пан аканома і такі даў яму загад:

— Збірай людзей, і заўтра пачынайце капаць на замкавых руінах. Там у зямлі мусіць быць золата, бо як іначай растлумачыш тую праяву? Пэўна, Плачка хоча паказаць нам нейкія скарбы, якія ўзнагародзяць нас за гэтую працу.

— Я чуў словы тае Плачкі. Яна аплаквала смерць нейкіх нешчаслівых дзяцей, а пра скарбы, схаваныя ў зямлі, і не ўспамінала. Гэтая таямніца нам недаступная. Мне здаецца, тут нейкае папярэджанне і перасцярога.

— Ты падобны да няясыці ці то да савы, якая страшыць людзей жахлівымі прароцтвамі. Я ні ў што такое не веру і не хачу спрачацца пра гэтую таямніцу. Даўно быў у мяне намер раскапаць руіны. Можа, знойдзем там памяткі старажытнасці, дзеля гэтага не шкада і працы. А калі хто думае, што гэты скарб будзе ў абліччы Плачкі, дык і гэта нядрэнна; што б там ні было, заўтра пачнем раскопкі.

— А калі гэты скарб закляты і вартуюць яго злыя духі ды немагчыма яго дастаць, бо ён будзе ўсё глыбей і глыбей апускацца ў зямлю,— тады толькі час страцім, а калі і здабудзем што, дык больш будзе бяды, як чаго добрага. Бо я чуў, што недзе асталі з зямлі зачараваныя скарбы, і калі нехта ўзяў з іх толькі пенязь[6], таму нейкая хвароба скруціла абедзве рукі.

— Брыдка слухаць. Пляцеш лухту, як дурны мужык. Мне аніякі пенязь не шкодзіць.

— А чаму ж разумныя і багатыя паны пакутуюць ад нуды і хвароб?

— Годзе. Збярэш заўтра людзей і вядзі на руіны. Я сам прыеду і пакажу, дзе пачынаць.

Аканом быў з засцянковае шляхты, заможны гаспадар, але верыў у тое самае, што і просты люд; паціснуў ён плячыма і пайшоў выконваць панскі загад.

Яшчэ толькі паказалася сонца, а гурт сялян ужо стаяў на руінах і чакаў каманды. Калі прыехаў пан М., дык загадаў капаць глыбока на тым самым месцы, дзе заўсёды бачылі на камяні Плачку.

Дол быў не глыбейшы, чым на паўтара локця. Знайшлі мураваны склеп, дык раскапалі і вакол, каб адкрыць з усіх бакоў засыпаныя зямлёю сцены. Людзі працавалі не адзін дзень. Адпачынак іх быў кароткі: апоўдні, у самую спякоту. Нарэшце знайшлі жалезныя дзверы. З абодвух бакоў гэтага склепа былі маленькія вакенцы, на якіх яшчэ моцна трымаліся жалезныя пражжавелыя краты.

Выламалі дзверы і адчынілі гэты склеп, куды стагоддзяў колькі не заглядваў сонечны прамень, — глуха там, бы ў магіле. Заходзяць з агнём. Усіх апанаваў страх: паўсюль — пасярод і ля сцен — у розных пастаквах ляжаць шкілеты; косці рук і ног яшчэ ў цяжкіх кайданах. Здранцвелі людзі, гледзячы на такі жах.

— Здыміце кайданы з гэтых шкілетаў, — сказаў пан М., — і прывязіце мне. Варта захаваць гэтыя памяткі мінуўшчыны.

Завезлі кайданы пану. Ён, паказваючы іх гасцям і сваім суседзям, гаварыўся, што такія старажытныя рэчы здабыў з зямлі, хоць з выгляду яны былі зусім падобныя да цяперашніх.

Косці нябожчыкавыя людзі сабралі, пахавалі ў адной магіле на бліжэйшых могілках, запрасілі святара і з набажэнствам паставілі велізарны драўляны крыж.

Кажуць, што ў той самы вечар з'явілася Плачка ў сваім звычайным жалобным уборы, аздобіла магілу кветкамі і, укленчыўшы перад драўляным крыжам, тварыла малітвы, залiваючыся слязьмі. Людзі бачылі гэта, але ніхто не падышоў да яе. Паглядаючы здалёк, яны адмаўлялі «Вечны супакой» за душы памерлых.

Яшчэ колькі вечароў Плачка малілася, пасыпала магілу кветкамі, але цяпер ужо яе ніхто не бачыў.

На беразе Палаты, за пяць вёрст ад горада, дзе гэтая рэчка мінае пушчы і набліжаецца праз абшары палеткаў да Дзвіны, з'явілася тая самая Плачка. Бачылі яе на пагорку, таксама пры заходзе сонца. Яна сядала на камень, які там ляжаў у засені разложыстых бяроз. Бачылі яе сяляне, ідучы дахаты пасля дзённае працы, і падарожныя, што вярталіся з горада ўвечары.

Разышлася вестка пра гэтую праяву. Людзі, так, як і ўсюды, мелі розныя меркаванні, але большасць трымаліся тае думкі, што там ляжаць закапаныя ў зямлі скарбы.

У Полацку асобныя казалі, што ваколіцы іх горада і даўней вельмі часта былі тэатрам вайны. Засталася легенда, быццам частка нейкага войска, зразумеўшы трагічнасць свайго становішча і баючыся, каб іх багацце не дасталося непрыяцелю, закапала золата і срэбра, якое мела пры сабе, на тым пагорку ў зямлю, паклала наверх дзікі камень, каб пазначыць гэтае месца, калі хто з іх вернецца шукаць схаваны там скарб. Але прайшлі стагоддзі, той камень ляжаў на тым самым месцы, а пад ім — некрануты скарб.

Чуючы такія размовы, некалькі юнакоў, што жылі ў Полацку, дамовіліся пайсці ноччу на той пагорак, дастаць скарб і падзяліць яго між сабою. Узялі патрэбны струмант і, калі ўсе спалі, выйшлі за горад.

Ноч была пагодлівая. Неба — высыпанае зоркамі, і поўня плыла ўверсе. Ішлі яны ціха і асцярожна, каб ніхто не сустрэў іх на дарозе. Мінулі касцёл св. Ксаверыя, дзе спачываюць астанкі законнікаў[7] і абываценляў гэтага краю. Пачуўшы на Спасе голас вартаўнікоў, што пераклікаліся між сабою, яны звярнулі з дарогі і доўга ішлі берагам рэчкі аж да самага месца.

Прыйшлі на пагорак, знайшлі дзікі камень. Палова яго была ў зямлі, а верх пакрываў сухі мох. Акапалі яго вакол і супольна сапхнулі з таго месца. Глыбока ў зямлю ўбілі рапіру. Востры канец стукнуў так, нібы крануў нейкую металёвую рэч. Бясспрэчна – тут скарб. Пачалі капаць.

Працавалі доўга. Часта паролі зямлю рапірай. Скарб быў неглыбока, але пясок некалькі разоў засыпаў яму. Стаялі нейкі час здзіўленыя: ім здавалася, што зачараваны скарб хаваецца глыбей, не хоча давацца ім у рукі.

Пакуль раіліся між сабою, што рабіць, з усходу паплылі чорныя хмары, закрылі ўсё неба і схавалі месяц. Зрабілася так цёмна, што яны адзін аднаго ледзь бачылі. Зацерусіў дожджык.

— Лепей будзе капаць, калі пясок зробіцца мокры, — сказаў нехта з іх. — Дык давайце не марнаваць часу.

І, падахвочваючы адзін аднаго, супольна пачалі капаць. Дол выкапалі доўгі і шырокі, такі, што ўжо лёгка не засыплецца.

Рыдлёўкі скрабуць па жалезе.

— Чыгун! Чыгун з грашыма! — закрычалі ўсе з вялікай радасцю, але, калі абкапалі вакол і хацелі падняць чыгун з зямлі, — убачылі, што гэта цяжкі жалезны панцыр. Ён закрываў грудзі шкілета, ля якога ляжаў меч, а на чэрапе — жалезны шалом-шышак. Стаяць усе задуменныя, бачачы, якім дзіўным чынам падманула іх надзея.

Тут адзін смялейшы кажа:

— Давайце пакінем гэты шкілет, а зброю забяром сабе. Няхай хоць яна будзе памяткаю пра гэтую ноч.

Толькі хацелі зрабіць гэтак — аж раптам маланка асвятліла пагорак, бачаць: стаіць Волат у жалезным панцыры, трымаючы ясны меч у іх над галовамі. Страх праняў сэрцы. Гром скалануў зямлю. І Волат такімі словамі азваўся:

— Нікчэмныя людзі! Золату і срэбру прадалі вы свае душы. Думаючы адно пра багацце, вы зняважылі прах Героя, які слаўна скончыў тут сваё жыццё. Прыйдзе час падняцца з магіл мёртвым, і вы будзеце зганьбаваныя перад усім светам!

Азваўся з хмарак гром, і Волат знік.

Страх апанаваў іх душы. Доўга стаялі нема, як начныя здані. У святле бліскавіцы бачаць перад сабою пяском засыпаны дол, і здаецца, што на гэтым месцы зямля некранутая.

Забылі на пагорку рапіру і свае рыдлёўкі; забылі, якая дарога вядзе да горада; беглі праз лугі і палеткі, і здавалася ім, што той Волат з мячом у руках доўга гнаўся за імі.

Раніцаю вярнуліся ў горад. Знясіленыя, з бледнымі тварамі — нібы змучаныя цяжкаю хваробаю, са страхам успаміналі тое здарэнне. Расказвалі іншым, але не ўсе далі веры.

Пасля гэтага Плачку бачылі ў розных мясцінах паблізу горада, на могілках, сярод якіх стаіць мураваны касцёл св. Ксаверыя. Там, ламаючы рукі, хадзіла яна ад адной магілы да другой, часам, як слуп мураваны, моўчкі стаяла над астанкамі нябожчыкаў. Не адзін прахожы, мінаючы начной парою гэтыя мясціны, уцякаў спалоханы, нібы ад вампіра, і расказваў дзівы іншым.

Бачылі яе і ля касцёла св. Казіміра. Сядзела яна перад дзвярыма гэтай святыні ад захаду аж да ўзыходу сонца, няраз плакала ў полі, седзячы на камяні або на беразе Дзвіны. Але плач яе і нараканні не шмат каму кранулі сэрца. Мала было такіх, што, узняўшы вочы ў неба, прасілі міласэрнасці Божай. Адны не зважалі, другія марылі пра скарбы.

— На маю думку, — сказаў Завальня, — гэта папярэджанне людзям, каб выправілі свае норавы. Але прыкра, што людзі цяпер такія разумныя, што ўсё яны ўжо ведаюць, ні ў якія цуды не вераць, ім трэба скарбы, каб, не працуючы, мець усё, што толькі заманецца. Яны за золата прададуць усё тое, што нашы бацькі цанілі некалі даражэй за жыццё.

— Аднак няблага і скарбы шукаць, — сказаў я. — Багаты чалавек шмат дабра можа зрабіць.

— Багаты чалавек можа шмат добрага зрабіць. Гэта праўда, — сказаў дзядзька. — Але няхай жа ён навучыцца перш пазнаваць і любіць тое, што ёсць дабро. А тады Бог зробіць яго годным уладаром зямных скарбаў, як таго старога чалавека, якому ў вакно кінулі асінае гняздо, і яно перамянілася на вачах яго ў залатыя пенязі. Людзі ганяюцца за багаццем не дзеля таго, каб рабіць бліжнім дабро, а каб нічога не рабіць або — што яшчэ горш — каб шкодзіць. Але што ж далей?

Калі некаторыя нашы багатыя і вучоныя паны падарожнічаюць у шыкоўных фаэтонах або на ловах гойсаюць з ганчакамі па лясах, гарах і пустках, гэтая Плачка часта сустракае іх, нібы сірата, ва ўбогім сялянскім уборы, моўчкі падымае на іх блакітныя, слязьмі залітыя вочы, быццам просячы ў іх літасці, але з гэтых паноў ніхто на яе не зважае.

Недалёка ад возера Рабло, дзе цяпер на выспе стаіць мой дамок, калі пан Завальня ведае той край, пэўна, бачыў ён Пачаноўскую гару, яна там вышэйшая ад усіх іншых. Схілы яе пазарасталі лесам, а вяршыня роўная і гладкая.

Пра гэтую гару між людзей розныя ходзяць апавяданні. Кажуць, што калісь там быў кляштар і касцёл, і хоць не відаць ніякіх знакаў, кажуць, быццам чуваць з-пад зямлі спевы і галасы званоў.

Іншыя расказваюць, што на самай вяршыні гэтае гары, уначы, у сваім жалобным уборы, упаўшы на калені, рукі і вочы ўздымаючы да зорак, малілася са слязьмі Плачка. Перад ёю адкрылася неба, найяснейшае сонечнае святло разлілося ўверсе гэтак, што ў лясах і на палетках прачнуліся ўсе птушкі і звяры і ад слёз гэтае кабеты ўтварылася крыніца жывое вады.

З таго часу чалавек, які першы раз наведае вяршыню Пачаноўскай гары, той хто раней не чуў пра гэтае дзіва, сустрэне чысцюткую крыніцу, а недалёка ад яе стаіць журботная сіраціна ў сялянскім уборы. Хто нап'ецца з гэтай крыніцы і пазнае сірату, той будзе вешчуном, усе таямніцы ўбачыць ён з вяршыні гары.

Узыходзілі людзі на гару. Былі і такія, што бачылі крыніцу і смутную сіраціну, аднак не зважалі на іх. Пачуўшы ад іншых пра тыя дзівы, узыходзілі другі раз, але ўжо не сустракалі нікога і не знаходзілі месца, дзе была тая крыніца.

— Няўжо гэта тая самая Плачка, якую бачылі ў ваколіцах Полацка і ў іншых кутках Беларусі, прыходзіць у абліччы сялянскае сіраты?

— Пэўна, тая самая, — сказаў сляпы Францішак, — але людзі шукаюць адно выгод, поўныя пыхі, яны не пазналі яе, хоць яна па ўсім краі з'яўляецца ў адным вобліку.

— Ты, Янка, — чалавек вучоны. А ці разумееш, хто была тая Плачка?

— Цуды можна разумець сэрцам, а не навукаю. Яшчэ нейкі час мы гаманілі пра гэтую Плачку, і заспяваў певень.

— За поўнач ужо, — сказаў сляпы Францішак. — Дазволь, пане Завальня, падарожнаму адпачыць.

— Дзякуй табе, — сказаў дзядзька, — цудоўнае апавяданне. Ён патушыў святло, і я пайшоў у свой пакой. Пра Плачку думаў, аж пакуль другі раз не праспяваў певень.

## Каментарыі

**«Дзеванька».** Напісаны ў 1809 г. верш дзевятнаццацігадовага аўтара быў упершыню надрукаваны ў выдаваным Рамуальдам Друцкім-Падбярэскім альманаху «Rocznik Literacki» за 1843 г. Адрасаваны твор рэальнай дзяўчыне — Максімовіч. Друкуецца, як і два наступныя вершы, паводле выд.: Літаратура Беларусі: першая палова XIX стагоддзя: хрэстаматыя. — Мінск, 2000. — С. 41—44.

**«Гарэліца».** Упершыню разам з «Дзеванькай» надрукавана ў тым жа альманаху.

**«Бунт хлопаў».** Напісаны ў 1812 г. верш распаўсюджваўся ў рукапісе пад назвамі «Рабункі мужыкоў», «Бунт хлопаў», «Размова хлопаў». Адзін з варыянтаў верша быў выяўлены паліцыяй у Паўлюка Багрыма. Гэты варыянт сведчыць, што верш гучаў яшчэ больш радыкальна. Упершыню твор часткова надрукаваў А. Рыпінскі ў кнізе «Беларусь» (Парыж, 1840).

[1] Хадзем, хадзем (франц.).

[2] Клясціцы — вёска ў цяперашнім Расонскім раёне (Віцебшчына). Тут летам 1812 г. 25-тысячны корпус рускага войска на чале з генералам Вітгенштэйнам разбіў 40-тысячны французскі корпус маршала Удзіно.

**«Падарожжа».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі. Друкаецца паводле выд.: Баршчэўскі Ян. Выбр. тв. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 1998.

**«Русалка-спакусніца».** Упершыню на польскай мове ў альманаху «Niezabudka». — Pb., 1841. — Т. II.

Друкуецца паводле выд.: Баршчэўскі Ян. Выбр. тв. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 1998. Пераклад Рыгора Барадуліна.

**«Дзве бярозы».** У Полацкім павеце ёсць возера Шэвіна, пры ім на ўзгор'і стаяць дзве бярозы, якія мясцовы люд называе «Дзявочыя слёзы» і на якія дзяўчаты вешаюць вянкі з кветак «Іван-ды-Мар'я» (*заўвага аўтара*).

Упершыню паэма надрукавана на польскай мове ў альманаху «Niezabudka». — Pb., 1842. — Т. III.

[1] Газа — гатунак лёгкай тканіны.

Друкуецца паводле выд.: Баршчэўскі Ян. Выбр. тв. — Мінск: Беларус. кнігазбор, 1998. Пераклад К. Цвіркі.

**«Нарыс паўночнае Беларусі».** Друкаваўся ў тым жа альманаху Р. Падбярэскага (1843). Пераклад з польскай М. Хаўстовіча друкуецца паводле выд.: Баршчэўскі Ян. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. — Мінск, 1990. — С. 10—19.

[1] Гаворка ідзе пра спрэчкі ў французскім парламенце аб адносінах да вайны Егіпта з Турцыяй 1831—1833 і 1839—1840 гг.

[2] Згадка пра парламенцкую рэформу 1832 г. у Англіі і звязаны з ёй так званы чартысцкі рух за паглыбленне дэмакратыі.

[3] Маецца на ўвазе «опіумная» англа-кітайская вайна 40-х гадоў XIX ст.

[4] У першай палове XIX ст. у Еўропе пачалі будавацца чыгункі.

[5] Гаворка ідзе пра вынаходніцтва французскім мастаком Луі Дагерам фатаграфіі (дагератыпіі).

[6] У беларускай мове, як і ў польскай, слова «жыд» не мела і не мае зневажальнага значэння.

[7] Музыка — так называлі беларусы танцы, скокі.

[8] 23 чэрвеня Купалле святкавалася паводле каталіцкага календара; у праваслаўных — паводле старога стылю. Розніца ў XIX ст. складала 12 дзён.

[9] Паўночная сталіца — Пецярбург.

[10] Верш пераклаў з польскай мовы С. Сокалаў-Воюш.

**«Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях».** Пераклад з польскай мовы М. Хаўстовіча. Друкуецца паводле выд.: Баршчэўскі Ян. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. — Мінск, 1990.

*Заўвагі перакладчыка.*

[1] У сапраўднасці выйшлі чатыры томікі.

[2] Шляхціц на загродзе — дробны шляхціц, у якога быў невялікі маёнтак з абгароджанай сядзібай.

[3] Уліс — Адысей; Цырцэя (Кірка) — згодна з грэчаскай міфалогіяй, чараўніца, якая ператварала людзей у жывёл і якую перахітрыў Адысей на востраве Эя.

[4] Прэфект — завуч, інспектар або настаўнік рэлігіі ў школе.

[5] Як відаць, гэта былі грошы беларускай дзяржавы ВКЛ.

[6] Пенязь — самая дробная манета ў грашовай сістэме ВКЛ.

[7] Законнікаў — манахаў.

# МІХАЛ РУКЕВІЧ
# (1796—1841)



У філаматцкую сям'ю Міхал Рукевіч прыйшоў з Беласточчыны, з вёскі Гозьна, якой валодаў яго бацька — шляхціц сярэдняга дастатку. Скончыўшы ў Беластоку гімназію, Міхаіл запісаўся ў Віленскі ўніверсітэт. Але вучыцца яму перашкодзіла вайна 1812 г. Ахоплены патрыятычным духам семнаццацігадовы дзяцюк стаў салдатам «вызваленчай» арміі Напалеона, з імем якога і беларуская шляхта звязвала вызваленне сваёй зямлі ад расійскіх «апекуноў». У шэрагах аднаго з палкоў лёгкай кавалерыі, складзенага з «ліцвінаў», бязвусы ўлан пабываў у многіх крывавых бітвах. За адвагу ў адной з іх яму нават была прысуджана самая высокая ўзнагарода — Ордэн Ганаровага легіёна. Але потым малады ліцвін трапіў у палон.

Вярнуўшыся пасля баявых паходаў дадому, М. Рукевіч меў намер зноў узяцца за вучобу. У 1816 г. ён зноў паступае ва ўніверсітэт, выбраўшы прафесію юрыста. Апаленага ў баях ваяра філаматы з ахвотай прымаюць у сваё Таварыства, дзе Міхал Рукевіч адразу праявіў сябе як выдатны арганізатар моладзі, завадатар і ўдзельнік многіх філамацкіх пачынанняў. За гэта вельмі цаніў яго Адам Міцкевіч. 11 лістапада 1819 г. ён пісаў Францішку Малеўскаму: «Рукевіча я вельмі хвалю... Шчыры і вельмі здольны». Гэтак жа высока ставілі Кавалерыста, ці Жаўнера, як часам называлі яго сябры, і Тамаш Зан з Янам Чачотам, праслаўляючы яго ў сваіх філамацкіх вершах.

У 1820 г. М. Рукевіч скончыў вучобу ў Віленскім універсітэце і выехаў гаспадарыць у родную Беласточчыну. Але не парываў стасункаў з Таварыствам. Ён актыўна заняўся стварэннем філарэцкіх філій на Беласточчыне і Гродзеншчыне. Гэта ён арганізаваў згуртаванне беластоцкіх гімназістаў «Згодныя браты» і падобнае згуртаванне ў Свіслацкай гімназіі. Калі ў 1823 г. пачаліся арышты філарэтаў і філаматаў, Міхала Рукевіча таксама схапілі жандары і адвезлі ў турму ў Вільні. Але на допытах яму ўдалося выкруціцца. Вярнуўшыся дамоў, у Завыкі, ён працягваў сваю антыцарскую дзейнасць. Пазнаёміўшыся з афіцэрамі так званага Літоўскага асобнага корпуса царскіх войскаў, часці якога былі раскватараваны ў недалёкім Бранску, Рукевіч арганізаваў сярод іх Таварыства ваенных сяброў, якое было, па сутнасці, адной з дзекабрысцкіх арганізацый. У кіраўнічы камітэт Таварыства ўвайшлі афіцэры царскай арміі Ігельстром, Вягелін, Гофман, Трэбінскі, Пятроўскі і інш. Старшынёй згуртавання выбралі паручніка Гофмана. Ідэйным кіраўніком арганізацыі стаў Міхал Рукевіч.

Мужнае выступленне дзекабрыстаў Паўночнага таварыства ў Пецярбургу 14 снежня 1825 г. вельмі напалохала цара і яго памагатых.

6 Зак. 1799

Ды, як піша ў сваёй кнізе «Дзекабрысты і польскі нацыянальна-вызваленчы рух» П. Альшанскі, «не паспеў яшчэ новы імператар Мікалай I апомніцца ад узрушэння, выкліканага паўстаннем на Сенацкай плошчы, як у Пецярбург прыляцела новая страшная вестка: салдаты і афіцэры аднаго з падраздзяленняў Асобнага літоўскага корпуса — Літоўскага піянерскага батальёна — узбунтаваліся і адмовіліся прысягаць новаму манарху. Тое, што гэты бунт адбыўся ўслед за паўстаннем у Пецярбургу і амаль адначасова з паўстаннем Чарнігаўскага палка, дазваляе паставіць пытанне пра ўзаемадачыненні гэтых падзей. Нездарма ж урад Мікалая I адразу пачаў шукаць ніці, што звязвалі гэтыя рэвалюцыйныя цэнтры». Ваенны суд вынес суровы вырак «ваенным сябрам» — смяротная кара. Але цар «всемилостивейше» змяніў яго на сібірскую катаргу. I вось беларускія дзекабрысты пагрымелі сваімі кандаламі ў далёкую Сібір. Першым адправілі апранутага ў арыштанцкую вопратку, закаванага ў кандалы і пазбаўленага дваранства Міхала Рукевіча, за ім — усіх астатніх.

У пачатку 1828 г. калоднікаў даставілі ў Іркуцк, а праз колькі тыдняў — у халодную і непрытульную Чыту. Тут «ваенныя сябры» трапілі ў спагадныя абдымкі герояў 14 снежня. Лепшыя сыны Расіі Мікіта Мураўёў, Сяргей Трубяцкой, Сяргей Валконскі, браты Бястужавы, Мікалай Лорэр, Міхаіл Лунін, Іван Якушкін, Аляксандр Адоеўскі і іншыя сталі сябрамі Міхала Рукевіча і яго паплечнікаў. Рускія сябры цанілі Міхала Рукевіча за вясёлы нораў, за ўменне пераносіць цяжкасці катаржнага жыцця. Ужо ў першы дзень з'яўлення Рукевіча ў Чыцінскім астрозе гэтыя яго якасці заўважылі дзекабрысты і іх жонкі, што жылі побач з астрогам. Так, княгіня Валконская ў сваіх «Запісках» успамінала, як «М. Рукевіч прымушаў нас многа смяяцца сваімі чыста сармацкімі выхадкамі. Ледзь паспеў ён увайсці ў астрог, насупраць дома Александрыны (Аляксандры Рыгораўны Мураўёвай. — *К. Ц.*), як стаў каля агароджы і з сентыментальным выглядам (і з моцным польскім акцэнтам) запеў стары французскі раманс: «В стенах мрачной кельи младой король томится...». Пасля катаргі Рукевіча адправілі на вечнае пасяленне ў далёкую і глухую вёсачку на беразе Лены. Там ён абзавёўся сям'ёй і жыў да сваёй смерці ў 1841 г.

Як літаратар Міхал Рукевіч вядомы толькі сваімі смелымі філамацкімі вершамі, асобныя з якіх апублікаваў Ян Чубак у кнізе «Паэзія філаматаў», а таксама публіцыстычнымі выступленнямі той жа філамацкай пары. Пададзены ў анталогіі верш быў напісаны як філарэцкая песня, што ўвайшла ў вершаваную прамову Рукевіча, прачытаную ім 29 мая 1821 г. на ўрачыстасці, прысвечанай яго сябру-філамату Тамашу Зану. Дзеля гэтага Рукевіч спецыяльна прыехаў у Вільню з вёскі.

*К. Цвірка*

## ХАЙ ЗВІНЯЦЬ АБ ЧАШУ ЧАШЫ...

Хай звіняць аб чашу чашы —
Будзь жа з намі, весялосць!
Жарт, прыйдзі ў забавы нашы,
Філарэтаў любы госць!

Сын Сямелы[1] й тут паможа
Весяліцца нам усім.
Піце ж Божы дар, хто можа —
Не загінем, знайце, з ім!

Хан багач дабро ды пыху
Сцеражэ, а мы, братва,
Гуртам тут прыгубім крыху
Зноў вясёлага пітва!

На стале — не сон, а ява! —
Чары з сонцам, як адна.
Тым, сябры, хвала і слава,
Хто спарожніць іх да дна!

Не хадзіў наш продак хмуры,
Шчырасць скрозь была ў цане.
Жыгімонты ды Батуры[2]
Клёк знаходзілі ў віне.

Браў калісь гумор вясёлы
З чары і Анакрэон[3].
Весяліў палацы й сёлы,
І таму — вялікі ён!

Дык жыві ж, наш Бах каханы,
Весялі заўсёды нас.
Ты вяртаеш час жаданы,
Што нуду змятае ўраз.

Гэй, гуляйма, філарэты!
Радасць, нас усіх радні!
Дружбай вернаю сагрэты
Будуць вечна нашы дні!

Стой, братва! Між весялосці
Помні, хто яе нам даў,
Хто ўсіх нас — згадай і ў тосце —
У адну сям'ю з'яднаў.

Братніх сэрцаў нашых слова
Разам выкажам услых:
Хай жа імя Тамашова
Будзе прыкладам для ўсіх!

Кліч жа ўвысь ты нас, саколе!
Наша ўдзячнасць, дзецюкі,
Выб'е некалі ў касцёле
Гэта імя на вякі!

Хай сюды во сыйдзе Слава
З неба — кожны будзе рад —
І раскажа ўсім яскрава,
Як шануецца наш брат.

Ад сяброўскіх віншаванняў,
Ад пахвал, любві без меж,
Нашых шчырых парыванняў
Ты йшчэ болей расцвіцеш.

Багацей, здаўна ўлюбёны
Толькі ў скарбаў хіжых тло,
Ці ж спазнае, раб мамоны,
Дружбы гэтакай святло?

А тыран, што злосцю п'яны
(На яго жах паглядзець),
Што гняце свой люд падданы,
Хіба ж будзе шчасце мець?

Не для іх — хай кожны знае —
Шчасце свой вянок сплятае.

А спазнае шчасце гэта
Той, хто ў працы і ў гульбе
Возьме прыклад з філарэта
Назаўсёды для сябе!

Гэй, браты, гэй, філарэты!
Смех і радасць — зноў у нас!
Ці ж усе ў нас песні спеты?
Не мінуў яшчэ наш час

Дык калі паклічуць трубы
Нас у сонечны прасцяг,
Дружна ўздымем вольналюбы
Мы з Пагоняй нашай сцяг!

*1821*

**Каментарыі**

**«Хай звіняць аб чашу чашы...».** Гэта песня арганічна ўвайшла ў Рукевічаў верш «Гэй жа, брацця філарэты...», які быў прачытаны аўтарам на ўрачыстасці ў гонар Тамаша Зана 29 мая 1821 года. Друкуецца паводле выд.: Poezya filomatów. — Kraków, 1922. — T. 2. — S. 373—374. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

[1] Сямела — згодна з грэчаскай міфалогіяй, каханая Зеўса. Яе сын Дыяніс — бог расліннасці, апякун вінаградарства і вінаробства, адзін ■ найбольш папулярных багоў Старажытнай Грэцыі.

[2] Батура, ці Баторый Стафан (1533—1586), — трансільванскі князь, польскі кароль, вялікі князь літоўскі. Заснаваў езуіцкую школу ў Полацку, акадэмію ў Вільні, якая пераўтварылася потым у Віленскі ўніверсітэт.

[3] Анакрэон, ці Анакрэонт (каля 570—478 да н. э.), — старажытнагрэчаскі паэт. Апяваў каханне і разгульнае жыццё. Вершы такога плана называлі потым «анакрэантычнымі».

## ІГНАТ ЛЕГАТОВІЧ
## (1796—1867)



Настаўнік і паэт Ігнат Легатовіч паходзіў з вёскі Малая Капліца пад Гародняй. У пяць гадоў страціў бацьку, якога замяніў малому айчым, небагаты шляхціц Якуб Вішнеўскі. Ігнат скончыў дамініканскую школу ў Гародні, пасля чаго паступіў у Віленскі ўніверсітэт на аддзяленне літаратуры і мастацтва. Атрымаўшы ў 1817 г. навуковую ступень магістра філасофіі, быў накіраваны ў Мінск, у губернскую гімназію. Больш за дваццаць гадоў працаваў ён тут на сціплай пасадзе настаўніка лацінскай мовы. З 1839 г. служыў інспектарам лепельскай, полацкай і вількамірскай школ. У 1846 г., страціўшы зрок, вярнуўся ў Мінск. За сваю шматгадовую настаўніцкую бездакорную працу быў узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава III класа. Быў двойчы жанаты. Меў трох сыноў і восем дачок. Ігнат Легатовіч быў вядомы як калекцыянер народнай мудрасці (збіраў прымаўкі, прыказкі, выслоўі, казкі), а таксама як заядлы кніжнік. У доме яго было шмат рэдкіх і цікавых кніг, лёс якіх цяпер невядомы.

Вершы і песні Ігната Легатовіча, якія ён пісаў яшчэ з часоў вучобы, мелі даволі шырокую распаўсюджанасць сярод людзей. Асабліва яго сатырычныя і гумарыстычныя творы, эпіграмы, максімы. «Яны, — як сцвярджае Зоф'я Макавецкая ў «Польскім слоўніку біяграфічным», — кружылі па Міншчыне і амаль па ўсёй Літве ў шматлікіх спісах, не ў адным доме захоўвалі іх як сямейныя памяткі для наступных пакаленняў...». Некаторыя з яго твораў друкаваліся ў розных польскамоўных перыядычных выданнях, выходзілі асобнымі кнігамі.

У Легатовіча, без сумнення, было нямала беларускамоўных твораў. Але з усіх іх захаваўся толькі адзін кароценькі верш антыпрыгонніцкага кірунку «Скажы, вяльможны пане...». За гэты верш віленскі польскамоўны альманах «Баян» (1838) быў канфіскаваны ўладамі.

*К. Цвірка*

### СКАЖЫ, ВЯЛЬМОЖНЫ ПАНЕ...

— Скажы, вяльможны пане,
Што ў нашым будзе стане?
Бо мне нешта казалі,
Што вы няслушна давалі
У марцы падушнэго[1]?
— А тобе, хлопе, цо до тэго?

— Праўда, што вы панамі
Пакуль жывіцё над намі...
Але што з таго будзе,
Калі станем на судзе?
Не скажаш, пане, тэго:
«Цо тобе, хлопе, до тэго?..»

## ЭПІГРАМЫ

### АДКАЗ ХЛОПА

Лямпы ўсе гарацъ: да пеўняў
Зноў банкет у пана, пэўне.
У палацы — скрыпак зыкі,
Жарты, радасныя ўсклікі,
Скокі, тосты, а задзіры
Унь салют даюць з марціры.
«Хлоп, з якой той баль прычыны?
Там вяселле? Імяніны?»
Хлоп той, бледны, абадраны,
У адказ: «Фэст гэткі ў пана
Кожны дзень: з заморскіх чашаў
За здароўе п'юць там наша».

### НА ВЕРШАПЛЁТА

— Вой, вой! Дом мой абабралі!
— Ах, шкадую, пан, цябе я.
— Вершы ўсе мае пакралі!
— Ах, як шкода мне зладзеяў!

### НА СКУПОГА

Хто болей бліжнім спрыяе,
Болей любві да іх мае,
Чымся скупец? Бог да раю,
Пэўна, яго ўжо залічыць:
Грошы жыццё ўсё збірае
Тым, хто яму смерці зычыць.

### НА СМЕРЦЬ ОШТАРПА

Са смерцю Оштарпа[1]
Усё інакшым стане:
Панове кінуць піць,
Пачнуць есці сяляне.

## НА МАЛАРОСЛУЮ ЖОНКУ

Петрык! У цябе таксама
Жонка, быццам эпіграма,
Эпіграма ўся жывая,
Бо і дробная, і злая.

## НА СМЕРЦЬ ЛЕКАРА

Павел-лекар без сумнення
Не жыве з таго ўжо лета;
Ён памёр, як збаўца света,
Дзеля нашага ўцалення.

### Каментарыі

**«Скажы, вяльможны пане...».** Упершыню надрукаваны ў альманаху «Bojan» (1838), дзе быў змешчаны пад назвай «Песня на беларускай гаворцы».

[1] Падушны падатак, які ўлады бралі ад кожнай душы ў сям'і.

**Эпіграмы.** Эпіграмы Легатовіча былі шырока распаўсюджаны і друкаваліся ў розных выданнях. Пераклад з польскай мовы першых чатырох твораў К. Цвіркі. Друкуюцца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

Эпіграмы **«На маларослую жонку»**, **«На смерць лекара»** перакладзены з польскай мовы У. Мархелем. Друкуюцца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

[1] Оштарп Леан — мінскі губернскі маршалак, які ў 1846 г. утапіўся ў Свіслачы.

## ЯН ЧАЧОТ
## (1796—1847)



Ян Чачот быў адным з самых актыўных сяброў Таварыства філаматаў, агульнапрызнаным яго «дударом». Ён цалкам падзяляў філамацкія ідэі, развіваў і пашыраў іх разам з сябрамі на практыцы, што праявілася ў яго творчым паглыбленні ў вуснапаэтычную творчасць свайго народа і асабліва ў спробе стварыць літаратуру на беларускай мове. Якраз за гэта больш за ўсё цанілі яго сябры-філаматы, вылучаючы на кіраўнічыя пасады.

Нарадзіўся Ян Чачот у вёсцы Малюшычы Наваградскага павета 24 чэрвеня 1796 г., якраз на свята Яна Купалы — адсюль і яго імя. Хрысцілі малога Яна, «сына радавітай шляхецкай сям'і Чачотаў — Тадэвуша і Клавы з дому Гаціскіх», як даводзяць «Метрыкі», у парафіяльным касцёле ў Варончы. Прычым ён быў ахрышчаны двойчы — спачатку, 6 ліпеня, уніяцкім, а потым, 19 ліпеня, — каталіцкім святаром, які даў яму і другое імя — Антоні.

З Малюшычаў сям'я Чачотаў неўзабаве перабралася пад Баранавічы, дзе бацька пачаў служыць аканомам у маёнтку Рэпіхава Навамышскай парафіі. Тут, на берагах ракі Мышанкі, і «прамільгнуў ранак жыцця паэта». Адсюль «Ян з Мышы», як назавуць яго потым сябры. падаўся на вучобу ў павятовы горад Наваградак у дамініканскую школу, дзе вучыўся разам з Адамам Міцкевічам, які стаў яго самым блізкім сябрам. Пасля яе заканчэння паехаў шукаць хлеб у Вільню. Уладкаваўся ў канцылярыі Пракуратарыі, ці Масы радзівілаўскай, — створанай царом Аляксандрам I спецыяльнай камісіі па разборы архіваў нясвіжскіх Радзівілаў пасля смерці апошняга іх прамога нашчадка — Дамініка Радзівіла. Толькі праз год Ян Чачот змог ажыццявіць сваю мару — стаць студэнтам «галоўнай школы Літвы» — Віленскага ўніверсітэта. Ён намерыўся вучыцца на адваката.

Тут, ва ўніверсітэце, Адам Міцкевіч і ўвёў свайго сябра ў Таварыства філаматаў. Пасля ўтварэння Таварыства філарэтаў Яна Чачота абралі кіраўніком найбольш важнага яго аддзела — літаратурнага, які называўся Блакітны саюз. Ён вельмі актыўна ўзяўся за згуртаванне маладых літаратараў, з вялікай патрабавальнасцю ставіўся да іх творчасці, за што яны жартоўна празвалі яго Ментарам. Пасля разгрому віленскіх згуртаванняў моладзі Ян Чачот разам з Тамашом Занам і Адамам Сузіным трапіў на Урал. Спачатку ён адбываў турэмнае зняволенне ў крэпасці Кізіл, адкуль яго перавялі ва Уфу, а потым — у Цвер. У 1833 г. яму дазволілі вярнуцца пад наглядам паліцыі на радзіму, у мястэчка Лепель, дзе ён уладкаваўся на службу ў дырэкцыі Бярэзінскага воднага канала. У 1839 г. «государь император высочайше повелеть соизволил», як гаворыцца ў цыркуляры, адпусціць Яна Чачота дамоў, на Наваградчыну, і зняць з яго паліцэйскі нагляд. Змучанага за гады зняволення

Яна Чачота ўзяў на пасаду бібліятэкара былы шчыры апякун філаматаў ліберальны граф Адам Храптовіч, які валодаў у Шчорсах адной з багацейшых у Еўропе бібліятэк. Пасля смерці гаспадара Шчорсаў Ян Чачот жыў у сваіх сяброў на Навагрудчыне — у вёсках Бортнікі, Вольная і Далматаўшчына, займаўся выданнем у Вільні сабраных ім томікаў беларускага фальклору.

Пасля цяжкая хвароба прывяла яго ў Друскенікі, «на воды». Але лячэнне не дало ніякага выніку, і 23 жніўня 1847 г. Ян Чачот памёр у суседняй з Друскенікамі вёсцы Ротніца, дзе і быў пахаваны паблізу касцёла.

Першыя вядомыя літаратурныя творы Яна Чачота з'явіліся недзе каля 1818 г., і тэматычна яны былі звязаны з жыццём філаматаў.

Песні і вершы да студэнцкіх урачыстасцей пісалі разам з Янам Чачотам яшчэ Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і іншыя, але, як заўважаюць польскія біёграфы паэта, якраз вершы і песні Яна з Мышы мелі найбольшую папулярнасць сярод студэнтаў, бо ў іх ярчэй адбіліся антыўрадавыя настроі моладзі, вольналюбівыя ідэі аўтара.

Але самы вялікі поспех у моладзі, якая паходзіла з беларускай шляхты, мелі якраз тыя філамацкія творы Яна Чачота, якія былі напісаны па-беларуску. Сам факт звароту да мовы запрыгоненага, бяспраўнага мужыка-беларуса казаў пра многае, і перш за ўсё пра шчыры дэмакратызм паэта. Сваё захапленне беларускімі творамі Яна Чачота выказваў у пісьмах да сябра Адам Міцкевіч: «Лёгкасць ды прытым агонь, сапраўды піндараўскі, перасягнулі нават тыя надзеі, якія я ўскладаў на цябе. Прэч з дарогі, Заны, прэч, Адамы! Не лянуйся, калі ласка! Ты пішаш усё лепш...»

У нашым літаратуразнаўстве па-належнаму не ацанілі яшчэ і балады Яна Чачота, напісаныя ў 1818—1819 гг. на польскай мове. У іх ярка праявіўся паэтычны талент Ментара. Надзвычай важную ролю адыгралі балады Яна Чачота ў творчай біяграфіі яго славутага сябра Адама Міцкевіча, які вельмі імі зацікавіўся, — зацікавіўся магчымасцю выкарыстоўваць матывы і вобразы вуснай паэзіі беларускага народа ва ўласнай паэтычнай творчасці. Як зазначае польскі літаратуразнавец і фальклярыст Станіслаў Свірка ў сваёй кнізе «З кола філамацкага перадрамантызму» (Варшава, 1972), «...тыя «песні» і «балады» Чачота былі галоўным імпульсам, які падштурхнуў Міцкевіча ў кірунку народнасці... Таму што Чачот быў філамацкім маяком, які стаяў на віленскіх ростанях класіцызму і рамантызму і які нязменна паказваў на народнасць. Міцкевіч пайшоў у тым кірунку, і дарога тая прывяла яго да вялікай рамантычнай і народнай паэзіі».

Шмат зрабіў Ян Чачот і ў беларускай фальклярыстыцы. Гэта быў сапраўдны подзвіг паэта-фальклярыста, які здолеў на працягу 1837—1846 гг. сабраць і выдаць у шасці зборніках беларускія народныя песні «з-пад Нёмана і Дзвіны», а таксама творы іншых жанраў фальклору. Спачатку ён даваў іх у перакладзе на польскую мову, а потым публікаваў у арыгінале, на беларускай мове. Гэтымі зборнікамі ён паказваў свету, якія неацэнныя скарбы мае беларускі народ.

*К. Цвірка*

## МЫШАНКА

(урывак)

О мілы ўспамін! Дарагая Мышанка!
Зноў снішся ты ў барве заранак.
Найпершая ў свеце мая ты каханка,
Мільгнуў тут жыцця майго ранак.

Мае ўсе тут гульні, блуканні, забавы,
Высочваў я рыбку тут днямі,
Траву нёс кароўкам, рваў кветкі, рухавы,
Тут «біўся» не раз з «казакамі».

У чыстым крышталі тваім тут, здзіўлёны,
Я бачыў тады пад вадою
Чародку альшын, бор, узгорак зялёны,
Сябе — і ўсё ўніз галавою.

Тут час пралятаў мой, нам, дзецям, з табою
Так міла было і цікава.
Як рады былі, калі крыгі вясною
Ішлі тут — за лаваю лава!

Тады, у маленстве, калі я, шчаслівы,
Ў тваё углядаўся крышталі,
Не знаў, што ўжо ў сэрца — о час наш імклівы!
Яны мне навечна запалі.

Сум, радасць — як воблакі, тут праплывалі,
Раіліся чыстыя мары.
Вучылі нас думаць, рака, твае хвалі
І родных палеткаў абшары.

З людзьмі жывучы, ад людзей о як многа
Бярэш ты і ў сэрца, і ў голаў,
Як і ад ракі той, ад гэтых разлогаў,
Ад жыта, што спее наўкола.

Я жыў той красою — у часе прымглёным,
Красе ўсёй, пачуццям высокім
Я толькі пасля пазнаходзіў імёны
У свеце шматфарбным, шырокім.

Не знаю, дзе буду, памру дзе, не знаю,
Ды ўдзячны зямлі я, дзе вырас,
Я ў думках лячу зноў да роднага краю,
Здалёк мне відаць яго вырыс.

Мышанка мая! За ўсе краскі, за тое,
Што жыў тут, табою прыгрэты,
За светлае ранне сваё залатое, —
Прымі ж ты вянок мой во гэты.

*1819*

## ЯЖОВЫЯ ІМЯНІНЫ

(урывак)

Цівун:

Чулі мы гэта, што есць вашэць украінец
І контэнт[1], што ўрадзіўся у жызнай краіне,
Як абачыў, што ў нас нявелькі дзядзінец,
Сказаў: «Як бжыдка мешкаюць[2] ліцвіне!»

У вас вельмі хараша! Хаты злепкі з гною,
Бо лесу не маеце, усё астровы пусты.
Выся заляцаеце жытам, пшаніцою,
Бо ў вас грунт харошы, чарназемны, тлусты.

За што ж мы ся не дзівім, што вашы чумакі,
Шукаючы ў нас зыску (мы больш маем грошы),
Смалою аблеплены, лезуць, як слімакі,
Над валацугу большай няма ім раскошы.

Аднак мы ім назоліць не хочам ніколі;
І ты, мілы панічу, не смейся з нас, просім.
Усё гэтта дзеецца па нябескай волі.
Гультай часты, гдзе добра, мы больш працы зносім.

Пагадземся. Мы людзі добрае есць душы:
Не будзь і ты ніколі ліхім, панічэнку,
Не трэба ламаць тае, скуль груш дастаў, грушы,
Помні, што ты учышся ў нашым Віленку[3].

Згода. Але сягоння мы ся даведалі,
Што вашы імяніны, святога Язэпа,
А каб вы к сабе нашу прыхільнасць пазналі,
Ідзем гэтта, не седзім у хаце, як мазэпа[4].

Будзем цябе віншаваць. Я есць цівун з двара
Гэта сельскі дзясятнік, ён лысіну гладзіць,
Ён знаець іспраўніка, знаець асэсара,
Маскалёў на кватэру, як чартоў, нам садзіць.

Там войт, што уса круціць, чалавек бывалы,
Быў у Гданьску, у Кралеўца[5] плаваў на усціне[6].
Ось там стаіць маладзец, жаўнер дасканалы,
Ён, бядак, кабылінку з'ядаў у Мадліне[7].

Там у куце музыка: як ён добра граець.
«Свіне ў рэпе», і «Дзюбу», і польскія танцы.

А гэта ёсць Алёнка, вочы ў дол спускаець,
А там бачу Эльжбетка у сіняй катанцы.

Но, зачнійце, дзявочкі, пану заспявайце,
Ён вам дасць па ўстужочцы, борзда зачынайце.

Хор дзяўчат:

Што ж мы вашэці скажам,
Простыя ■ сяла дзяўчата?
Якія ж песні звяжам?
У нас мысль не багата!

Але як мыслім, чуем,
Так табе заспяваем,
Так цябе павіншуем,
Няшчырасці не знаем.
Лісічка, жоўты грыбок,
Слімакоў не баіцца;
Не точыць яго чарвячок,
Ён у лесе здароў блішчыцца.

Конік па полю дурэе,
Хоць копы вазіць не дбае,
Салавей харашо пее,
Самічку к сабе склікае.

Будзь, як лісічка, здаровы,
Як конік, вясёл пры трудзе;
Нех твае пісьма, размовы,
Як салаўя голас, будзе.

Хор хлопцаў:

Мы ад сахі, ад бараны.
Мала вам співаці будзем!
Чытаць, пісаць не учаны,
Ат сабе троха загудзем.

Колька ў снопе есць зярнетак,
Толька жый шчаслівых летак;
А калі замнога гэта,
Аглядай сотнае лета.
Колька за адным пакосам
Касец добры траў схэндожыць[9],
Толька табе перад носам
Бог няхай чырвонцаў зложыць.

А як мы заўшэ да леса
Ад некрутаў уцякаем,
Так няхай бяда да беса
Уцячэ, нех ей не знаем.

Няхай цябе панны любяць
І часта просяць зазулькі,
Калі з табой ся зашлюбяць
І ад'едуць ад матулькі.

*1819*

## НА ПРЫЕЗД АДАМА МІЦКЕВІЧА

Едзеш, міленькі Адам,
Глядзеце, а онь, а онь,
Ды ён харашэнькі сам,
Пад нём — вараненькі конь.
Золатам пояс ззяе,
Аж ад блеску сніг тае,
На шапцы сіні баран, —
Хто бы думаў, што ён пан!
Так адзет харашэнька,
Едзе, едзе барздзенька.
Гайда!
Адчыняйце ж варотца!
Да ўжо ж на двары Адам.
Да прымайце ж малотца,
Да кажы ж, ці здароў сам?..

Да як сен табе дзее[1]?
Ці заўсёды быў вясёл?
Гавары, ёна успее
Тым часам накрыці стол.
Будзем есці каўбасы,
Смачну гарылачку піць,
Песнь вазьмём на галасы
І будзем весела жыць,
Жыць etc.

Не так нам сонка ясна
Блішчыць, як цябе нет.
Радасці іншчам напрасна,
Увесь нам няміл свет.

Салавей не так нам пее,
Рожы не пахне цвет.

Не так нам бела лялея,
Калі цябе тут нет.

Без цябе усё тут смутна,
Па табе плача гай,
І рэчкі плывуць мутна,
У жалобе увесь край.

Наш ты міленькі Адам,
Насмуціў жа ты нас досць,
Нагарадзі смутак нам
І будзь у нас доўга госць.

*1819*

## ДА ПАКІНЬЦЕ ГОРЛА ДРАЦЬ!

Да пакіньце горла драць,
Да пакіньце, братцы, спяваць!
Да клікнейма адно раз:
Будзь здароў, наш Ярош!
Благаславі яго Спас!
Бо ён [у нас вельмі харош][1]
Да дай красну дзевачку,
Каб ён з сэрца пакахаў,
Да з гарэлкай пляшачку —
Сват ад няго к ней ехаў.
Гайда, гайда, гайда, гайда!
Да ехаў, да то сказаў:
Да наш Геранім, наш бык
К вашай цялушцы прывык.
Дай Бог яе паймаці
Да да бычка загнаці[2].
Да на тое прысталі
Да пачалі водку піць
І дзевачку аддалі
З табою доўгі век жыць.
Жыць, жыць, жыць,
Зычыць, аж у вушах пішчыць,
Пішчыць, пішчыць!

*1819*

## АНУФРАВЫ ІМЯНІНЫ

Гэй жа, Муза, з бочкі віннай
Лепш вылазь у наш гурток!
Мы дарма цябе сябрынай
Дзесь шукалі між аблок!

Ты ў віне, у ім ты госціш,
Незаўважная, спрадвек!
П'ю і я, мо буду ў млосці
Граць, як той злыселы грэк[1],

Што ў цябе на службе шчырай,
Муза, кожнай быў парой,
Што і сёння з вольнай лірай
У любой бяседзе свой.

Так што, Муза, з бочкі віннай
Лепш вылазь, зноў клічу я.
Сябрука ж вітаць павінна
Ліра ў гэты дзень мая.

Што у сябра імяніны,
Запісалі мы на лбе.
Бо забыў іх без прычыны
Каляндар — ці так сабе?

Мо з ім сябар наш у змове?
Не дадзім іх замаўчаць!
Будзем з Бахам мы, панове,
Шчокі ў гурце фарбаваць!

Хай — здадзім свой розум Баху!
Дзень свой, дружа, не скруці!
Не саб'еш ты нас са шляху —
Хоць да чаркі дапусці!

Не манахі ж мы, што ў келлях!
Час прабіў! Шум-звон з відна.
І ў руках во — з сонцам келіх!
Імяніннік, піць да дна!

За табой і мы прыгубім —
Адставаць жа нельга нам!
Так, мы ўсе цвярозасць любім,
Ды нам люб і гэты гам.

Як унь сонца ўсёй прыродзе
Годзіць сёння і здаўна,
Так яснеюць на свабодзе
Нашы думкі ад віна.

Ты, Ануфр, — наш верны дружа,
Ды не буду я хваліць,
Узвышаць цябе задужа
Ці зычэннямі цвяліць,

Што нам траціць час, Ануфры,
На зычэнні, ці ж ад іх
Больш дукатаў будзе ў куфры,
Больш здароўя з словаў тых?

Зараз важкую ахвяру
Я падношу — гэту во
Залатую ў іскрах чару:
Пі, бо вытхнецца пітво!

Кінь пра золата сумёты
Сніць — сяброўства ў нас было б!
Утапі ў віне турботы
І раз'ясні з намі лоб!

*1819*

## КАЛДЫЧЭЎСКІ[1] ШЧУПАК

Балада для Міхала Верашчакі[2]

*Міхалу, пасылаючы гэту баладу*

Найпершага ў свеце люблю я гуляку —
Цябе, дарагі мой Міхале,
Хоць ты і не роўня таму Верашчаку,
Які ў дэпутацкае зале
Калісьці пастукваў, выбранец айчыны,
У сцены, дзе ўсімі чаканы
Быў Польшчы урад у цяжкія часіны
Нябёсамі падараваны.
З тых сценаў выносіў і радасць, бывала,
І роспач парою ліхою.
Для шчасця сваіх землякоў ён нямала
Рабіў тады, шчыры душою.
Служыў свайму краю аддана заўсёды,
Калі ж пастарэў, усё роўна

Людзей ён дабром адараў, у нягоды
Усім памагаў безадмоўна.
Наслухаўся ты, што ён бачыў на свеце —
Было што успомніць старому.
А ты што раскажаш, Міхал, сваім дзецям!
Сядзіш, не вылазячы з дому...
У святах, забавах бясконцых, гуляка,
Ты ўвесь з галавой патанаеш.
А мог быць славутым, як той Верашчака, —
Ты ж сэрца цудоўнае маеш.
Не еш жа, Міхале, дарэмнага хлеба,
Вазьміся за працу, як людзі.
У свеце рабіць хоць што-небудзь ды трэба.
Адлежвацца ў закутку — будзе!
І я так люблю паваляцца, бывае,
Ды мне марнатраўства не люба.
Таму, хто ўсё толькі лайдачыць, гуляе, —
Ты ведай — і ганьба, і згуба!
Душы тваёй свет малады — на завале,
Пяро тваё ўсё на спачыне.
Калі ж бы пусціў яго ў лёт ты, Міхале,
Ах, як паслужыў бы айчыне!
У славе з табой бы ніхто не зраўняўся!
Ты толькі гультайства адолей!
Калі б ты за працу нарэшце узяўся,
Цябе б я любіў яшчэ болей.
У доказ, што люб мне няшчасны гуляка,
Баладу табе пасылаю.
А ўславіў імя б ты сваё — Верашчака,
Ад сэрца табе заяўляю,
Што (толькі б не ведаў Ян з музай разлукі
І быў бы жывы) ён зычліва
Запеў бы ўсе творы твае без прынукі —
Аж свет анямеў бы: «Вось дзіва!»

### Балада

1
Каля Калдычэва, што зноў па абшары
Блакіт разліло сярод лета,
Рыбак у гадах, з маршчакамі на твары,
Я помню, расказваў пра гэта.
У часе далёкім, пры Зыгмунтах[3] недзе,
Ля хвалі азёрнай раскутай
Быў замак высокі — здалёку б угледзеў —
І жыў у тым замку Анцута.

2
Пра добрага пана між навaградчанаў
Далёка хадзіла гамонка.
Ды кепска вось: не ашчасліўіла пана
Ніводным дзіцём яго жонка.
Бяздзетнасць — ёсць кара мо неба самога:
Пражыць без патомства — пакута.
У Цырын[4], Варончу[5] — задобрыць бы Бога —
Нёс безліч дарункаў Анцута.

3
І Бог адгукнуўся на шчырасць во гэту!
О радасць неспадзяванкі!
Гасцей насклікаў пан усякіх з паўсвету,
Паклікаў і сябра з Пясчанкі[6].
Прыехалі з Слоніма, нават з Бярэсця,
З-пад Пінска — звінелі гасцінцы!
Гасцей назбіралася, можа, за дзвесце.
Што коней было на дзядзінцы!

4
А хто быў з Пясчанкі, з гасціннага дома?
Што ведаеш ты, небарака!
Пытайся ў мяне: мне ўсё ў свеце вядома!
Там жыў знаны Ян Верашчака!
Ён так баляваў там, нібы вы сягоння
Ў Туганавічах — ну, няйначай!
Адзін ён за стол не садзіўся — у гроне
Сяброў: быў з душою юначай.

5
Не меў, як Міхал, на стале вельмі рэдкіх
Тады кавуноў, ананасаў:
У час той дзівосаў няведамых гэткіх
Яшчэ не было між прыпасаў.
Ды ты б паспытаў яго яблык ці грушу!
А поўныя мёду барылы!
Я аж аблізацца, успомніўшы, мушу —
Каму з нас прысмак той не мілы!

6
Гуляюць там госці. Шум, гоман наўкола.
Ад мёду гараць ажно шчокі.
Умомант схапіўшы пад ручкі Эола,
Нясуцца з прыпеўкамі ў скокі.
Не чуюць там нават у гомане гуляў
Ад возера хваль бурапенных,
Што ўраз налятаюць на замак у гуле,
Б'ючыся з усплёскам аб сцены.

7
Ну што ж, хай гуляюць спакойна літвакі,
Бяруць сілы новыя ў мёдзе.
Тут білі каліс крыжакоў усялякіх —
Чаму ж не скакаць пры нагодзе!
Скакаў тут і Ян Верашчака без стомы:
Без гэтага ж свята не свята!
А быў, як Міхал, і рыбак ён вядомы!
Як рыбу лавіў ён заўзята!

8
І тут пасля скокаў гасцей падбівае
У возера невад закінуць.
Улоў найбагаты усім абяцае:
Адно памаглі б яго выняць!
Жыў колісь пад Пінскам, дзе Прыпяці хвалі,
І палешукоў знаў сакрэты.
Там любы яму ловы гэтыя сталі —
Як шабля, як мёд, як кабеты.

9
Відаць, і ў табе кроў яго ёсць, Міхале:
Ледзь згледзіш ваду дзе, здымаеш
Кашулю і лезеш па шыю у хвалі.
А Крысю ты як абдымаеш!
Віном ты не грэбуеш, прагнеш ты бою,
Ды з кім тут пабіцца — не знаеш.
Сядзіш толькі дома ты з люлькай сваёю
Ды з Сэрвачы рыбу цягаеш.

10
Прабач, што рыбачыць не змог я з табою —
Была немалая прычына:
Чым рыбай займацца, хацеў той парою
Я з мілай прайсці Марцалінай[7].
Я добры рыбак за сталом толькі хіба...
Але пра гасцей мы забылі.
Яны ля вады ўжо — ці ёсць у ёй рыба?
Вось невад у вір запусцілі.

11
Ён тоне ў вадзе, паплаўкі праз хвіліну
Наверх як адзін усплываюць.
Іх з плёскатам хвалі — няма ім упыну —
Ужо ў шумавінні гайдаюць.
Чаўны адвязалі — заплёскалі вёслы.
Сярод рыбакоў, забіяка,
Быў там, як заўсёды, вясёлы, узнёслы,
Уперадзе сам Верашчака.

12
Час невад цягнуць — немалая работа.
Заўзята працуюць рукамі.
А ён ходзіць ходарам, б'ецца ў чаротах,
Плюскоча, цяжкі, паплаўкамі,
Але Верашчака усюды дасць рады,
З рук невада не выпускае.
Дух моцны ў старога — прыгодам ён рады —
І сіла ў руках маладая.

13
Гуртом цягнуць невад — аж пеняцца хвалі, —
Не быў гэткім важкім ніколі.
І во ён наверсе! «Ура!» — закрычалі,
Аж рэха пайшло па наўколлі.
Тут штось як пялёхнецца — прэч, разявака!
Рве сеці шчупак — мо з паўтоны!
Але не губляецца ўсё ж Верашчака:
Хапае яго ўжо, натхнёны!

14
Да берага цягне. «Чакай, о мой куме! —
Анцута яго тут спыняе. —
Няхай паляжыць у вадзе ён, у шуме,
Зрабіць так з ім сябра жадае:
Уздзець у хрыбет яму кольца стальное
І ў хвалі пусціць — да сустрэчы!
У памяць дачкі нараджэння такое
Ўчыніць было б вельмі дарэчы.

15
На кольцы тым выб'ем, — Анцута так мовіць, —
Мы зараз жа надпіс тактоўны:
«Той, хто шчупака таго дзе-небудзь зловіць,
Дасць баль мне, Анцуту, шыкоўны!»
Я знаю, шмат з возера нашага нораў
Ідзе пад зямлёй ва ўсе бокі.
Шчупак па іх можа патрапіць да мораў
Нязнаных — у край найдалёкі.

16
Яго будзем есці, мой куме, суседзі,
Вiном запіваючы з гляка,
Ў султана альбо ў караля на абедзе!..»
«О брава!» — гукнуў Верашчака.
І ў кузні тут звон малатоў у хвіліну
Раздаўся — каваль на кавадла
Кладзе разагрэтую ў горане шыну
І б'е па жалезе заядла.

17
Вось кольца гатова! Вось золатам словы
З ахвотай на ім выбіваюць!
І з ім шчупака — хай гуляе здаровы! —
У возера зноўку пускаюць.
Так пляснуў хвастом па вадзе, здаравяка,
Што пыркі ўзляцелі пад неба.
Да ніткі ўвесь змок быў уміг Верашчака
І ўсе былі змоклі што трэба.

18
Але рыбакам не было многа страты,
Што зноў шчупака адпусцілі:
Улоў таго дня быў надзіва багаты —
Аж ледзьве ў шэсць фур умясцілі!
Былі там ліні, шчупакі ■ карасямі.
Ляшчы і падлешчыкі, многа
І іншае рыбы — грабі кашалямі:
Бы хтосьці сыпнуў яе з рога!

19
Вячэра была там на славу — ад рыбы
Сталы проста гнуліся ў час той.
Сядзеў Верашчака вясёлы — ну, нібы
Бог мора — ў адзежы блішчастай.
Ядуць усе й хваляць яго, рыбалова.
Гучаць яму ўсюды віваты.
Аж вус лезе ўсмешліва ўверх, калі слова
Хвалы яму дораць дзяўчаты.

20
А ён у адказ кампліменты талкова
Усім рассыпае, найветлы.
І рады паненкі, ім кожнае слова
Яго — бы мёд ковенскі светлы.
Кальне каго досціп мо неасцярожны,
Мо заружавее якая,
Ды крыўды — ні ў кога ніякай, бо кожны
Той жарт добра сэрцы яднае!

21
Закончыўся баль, адшумелі хрысціны,
Паехалі госці з гулянкі.
Ужо й Верашчаку вазок праз Плужыны[8]
Адвёз да ягонай Пясчанкі.
Зноў сеюць і косяць, як быць і павінна.
За працаю хутка й забылі,
Як колісь на тых незвычайных хрысцінах
У вір шчупака адпусцілі.

22
Шугала жытамі аж да небакраю
Не раз пад Наваградкам поле.
Дачка ўжо ў Анцуты — красуня, якая
Уся расцвіла на прыволлі.
Рабіць усё ўмела — і прала, і шыла,
На кухні усё гатавала.
Сувоі палотнаў на лузе бяліла,
Сама агарод засявала.

23
Была яна з боскаю цнотай знаёма,
Глядзела бацькоў, як умела.
Чым гойсаць Наваградкам, лепш яна дома
Хоць чым памагчы ім хацела.
І добра, што ні казіно той часінай,
Ні ўсякіх рэдутаў[9] не знала.
Затое, ледзь дзень прачынаўся, дзяўчына
Ўжо ложа сваё пакідала.

24
Ішлі так гады. Неяк да Верашчакі
Цівун залятае ў пакоі.
А бледны! Аж пан — на выпадак усякі —
Рукой пацягнуўся да зброі.
«Не ворагі гэта!.. Я ў Свіцязі бачыў... —
Казаў, а самога аж трэсла, —
Таго шчупака! Я пазнаў — ён, няйначай!»
Уцяміўшы, ўскочыў пан з крэсла.

25
Стары ўжо — у твары змянілася штосьці,
Ды быў нібы цвік ён, меў сілу:
Хто сціпла паводзіў сябе ў маладосці,
Тамуісці доўга да схілу.
«Хутчэй дайце кій мне, нясіце апратку,
Падайце найвострыя з восцяў!»
У доме забегалі ўсе ў беспарадку,
Узброілі ўміг ягамосця!

26
А гэта было недзе ранняй вясною,
Калі ўсе мацней сябе чуюць.
Да берага рыбы такою парою
Лавінамі йдуць — нерастуюць.
Злавіць тую рыбу, што сама гуляе,
Увечары восцямі можна.
Яе толькі трэба, калі падплывае,
Агнём асвятліць асцярожна.

27
Да возера борзда стары наш шыбуе,
Ну, так, як Міхал усё роўна.
Лучынаю свецячы, рыбу цікуе
Па ціхае Свіцязі з чоўна.
Агонь гэты бачыцца людзям са шляху.
З таго, што вядзе ў Гарадзішча[10].
Мо гэта нячысцік, гадаюць у страху,
Там сушыць свой скарб, што так блішча.

28
Прыгледзься, і лысіна вунь у старога,
Як скарб той, паблісквае з даляў.
Нібыта Нептун, які воднай дарогай
Пусціўшыся, спрытна між хваляў
Трызубцам ахвяру сваю падцінае,
Гайдае марскія прасторы,
Так наш Верашчака у чоўне шнырае
Па Свіцязі светлай без зморы.

29
Нарэшце шчупак! Верашчака бязмоўна
Шост з восцю вышэй уздымае.
Хвіліна, і вось, нахіліўшыся з чоўна,
Ураз шчупака працінае!
Да берага цягне, шчупак жа тут — дыба!
Хвастом ва ўсе бокі лупцуе!
Ледзь шост не зрывае — вось гэта дык рыба!
А побач вада ўся віруе!

30
Ах, што ж гэта ноч засланяе сабою
Рыбацкую слаўную дзею!
Хай барды б з-пад Нёмана песняй сваёю
Апелі такую падзею!
Не знаю, жыць буду я многа ці мала,
А ўсё-ткі — няхай мо й няўмела —
У вершы ўздыму славу продка Міхала,
Як той шчупаковае цела.

31
«Цуд! Цуд!» — Верашчака здзіўлёна ўсклікае,
Убачыўшы кольца стальное...
Дадому, да жонкі вярнуўся — аж ззяе:
«Ці чула ты дзіва такое!
Чакай — заўтра ж госць з Калдычэва прыедзе!
Хай зміріцца ўжо: яму з гляка
З султанам віна не папіць у бяседзе —
Больш годны усё ж Верашчака».

32
І праўда: назаўтра прымчаўся з сям'ёю
Ён, госць калдычэўскі, ў Пясчанку.
Гулялі, смяяліся, елі гурбою
Таго шчупака аж да ранку.
Ды гэта не ўсё: у бяседзе тым разам
Сустрэліся двое маўкліва —
Юнак і дзяўчына. Быць, мусіць, ім разам:
Так ззялі іх вочы шчасліва!

33
Была то дачка-прыгажуня Анцуты,
Юнак жа — быў сын Верашчакі.
Даўно да яе, маладзён, быў прыкуты —
Яе ўпадабаў бы усякі!
Была яна сціплай, спакойнай, цнатлівай,
А твар аж свяціўся, прывабны.
Як хораша дома рукою цярплівай
Маток развівала ядвабны!

34
Не раз пры двары ў Калдычэве ад рання
Прастойвалі хлопцавы коні
Ды елі там з дышла. Паніч на расстанне
Пяшчотна браў любай далоні.
Ён піў за здароўе яе з чаравічка,
Што мілая ножка насіла,
Яна ж дыванок свой — там гай і крынічка —
Яму — ведай ткаллю — дарыла.

35
«Пасватаць пара ўжо іх, куме шаноўны, —
Ну хто ж пра любоў іх не знае?
Дзяўчына — красуня і хлопец цудоўны,
Хай Бог іх сягоння ж з'яднае!
Няхай жа адно аднаго так кахаюць,
Як мы во, бацькі іх, зычліва».
У хлопца ад радасці вочы аж ззяюць,
Яна ўніз глядзіць сарамліва.

36
Заручыны справілі. Дружным віватам
Грымела вясёла Пясчанка.
Здаецца, шчупак быў галоўным тут сватам —
Такая ўжо неспадзяванка!
І ты шчупакоў вудзіш, любы Міхале,
У Сэрвачы — хай бы злавіўся
Такі, што й цябе ўжо так з нейкаю краляй
Сасватаў, і ты б ажаніўся!

37
Каб трапіла ў вуха мне вестка такая,
Каб нашы прыняў ты парады,
Узнёс бы да неба таго шчупака я
І крыкнуў бы голасна, рады:
Жыві ж, брат, здаровы ты з любаю жонкай
І дом свой за час найкароткі
Напоўні вясёлай дзіцячай гамонкай,
Працуй і рыбач так, як продкі!

## РАДЗІВІЛ, АЛЬБО ЗАСНАВАННЕ ВІЛЬНІ

1
Дзе Вільня яднаецца ■ гожай Віллёю
У часе паводкі шумліва,
Там некалі ў лесе, што цёмнай сцяною
Стаяў пад зарою маўчліва,
У дрэвах магіла была Свінтарога[1]
На вогнішчы страшным ягоным.
Адсюль да Пяркунаса бегла дарога,
Да божышча — гаем зялёным.

2
Жыў там жа і Крывэ-Крывэйта[2] калісьці,
Што правіў святыя абрады.
Вілася тут сцежка ў лясным густалісці,
Дзе Закрэта сёння прысады.
Сядзеў ён якраз, дзе цяпер Пагулянка[3] –
Ці мо пад Венгерскай гарою?
Дзе Закрэт, пазнаўся ў дзень весні з каханкай
Сваёй — пастуховай дачкою...

3
Над Нерыса[4] ясным крышталем празрыстым
Глядзела яна на Панары[5],
Ў сябе убірала пад небам святлістым
Дзяўчына зямлі сваёй чары.
З маленства была летуценнай, чуллівай,
Самотнаю, поўнай надзеяў.
Ды ў сэрцы мог жар распаліцца імкліва,
Як вецер лагодны павее.

4
Ад гучных бясед уцякала заўсёды:
Чым гулі шумлівыя тыя,
Ёй лепей блукаць дзе на ўлонні прыроды
Ды краскі збіраць веснавыя.
Пасе яна статак. Ягнятак ганяе.

Застыне пад спеў салаўіны.
І часам ёй грудзі дыханне сцінае:
З якой — хто сказаў бы — прычыны?

5
Прыгоніць свой статак. Каровак падоіць,
Бацькам сваім есці згатуе.
Усіх, здэцца, ласкай анёльскаю гоіць,
Ды ў сэрцы зноў сум нейкі чуе.
Што-небудзь нахлыне — і горка заплача,
Праз хвілю — смяецца ўжо з вамі,
А то заспявае скрозь плач і заскача,
Мяшаючы смех са слязамі.

6
Хаця яна мела і ўбогае ўбранне,
Але выглядала ў ім зграбна.
А на галаве — ці хоць хто-небудзь гляне? —
Свяцілася кветачка вабна.
Яе валасоў залачоная хваля
Так гожа лілася на плечы.
На мілыя грудкі тугія спадалі
Чырвоныя стужкі дарэчы.

7
Ішоў над Нярыдай тут Крывэ сцяжынай,
Зямной любаваўся красою.
Аж бачыць: кароўкі сялянка-дзяўчына
Пасе пад зялёнай гарою.
Нібы перад ім расхінулася неба —
Уміг да пастушкі падскочыў.
Яе прывітаў добрым словам, як трэба,
І ў дол скіраваў свае вочы.

8
З той хвілі так думаць было яму міла
Аб цудзе лясным яснавокім,
Што дзіўны агонь у душы запаліла
Найшчырым пappend глыбокім.
О служка багоў малады! Незайздросны
Твой лёс: гэта ж бачыш яскрава
Ты рай прад сабою, нарэшце, дзівосны,
Зайсці ж — не, не маеш ты права!

9
Няўтольная прага кахання дарэшты
Прысягі твае спапяляе.
У прорву з сабой і анёла вядзеш ты —
Яна ўжо агнём тым палае!

А во і расплата: быць маткай — дзяўчыне...
Лье слёзы ўсё, ходзіць паныла.
Не чуе яна салаўя ўжо ў каліне,
Нічога нідзе ёй не міла.

10

За што ж, о прырода, — хто тут вінаваты? —
Ты помсціш сваёй так ахвяры?
Яе ж пачуццём надзяліла сама ты —
Ці ж варта яна тваёй кары?
Сляпы абавязак, ты часам знішчаеш,
Што творыць жывая прырода!
Ты матчына права са здрадай раўняеш,
І плача жанчына — аж шкода.

11

Жыццё ж праз завалы любыя спрадвеку
Сабе пракладае дарогу.
Вось толькі б заўжды ў час цяжкі к чалавеку
Ішоў чалавек на падмогу.
Калісьці была ў нас з прыродаю згода,
Мінулі стагоддзі глухія.
А толькі някепска, калі ўсё ж прырода
Дыктуе законы людскія.

12

Звёў Крывэ дзяўчыну — відаць, што ніколі
Не меў да пастушкі кахання:
Жаданне зямное сваё задаволіў
І ўжо не спяшыць на спатканне.
Цяпер пра Пяркунаса ён толькі дбае —
Забыўся зусім аб дзяўчыне.
Яна ж немаўля ўжо ў начоўках люляе
Ды корміць грудзямі ў хаціне.

13

Ад сораму, жалю не знае, дзе дзецца,
Жыць, бедная, болей не можа.
На рукі малое бярэ і пляцецца
У свет — у слату, ў бездарожжа.
У лесе раптоўна гняздо бедачына
Арлінае бачыць на хвоі.
Залазіць, кладзе туды ў роспачы сына
І зверху — уніз галавою!

14

Панура Крывэйта той пушчаю ходзіць,
Дзе з ёю гуляў пакрыёма.
Хаваў ён свой грэх ад людзей, бо пашкодзіць
Яму мог на службе, вядома.

Праз гэта й яна не казала нікому —
Не знали ні бацька, ні матка.
Цішком, незаўважна сышла яна з дому —
Даруй жа, убогая хатка!

**15**

Блукае Крывэйта — яму суцяшэння
Няма ані ў лесе, ні ў полі.
Бо той, хто чым-небудзь запляміў сумленне,
Не знойдзе спакою ніколі.
Вось бачыць у лесе — арлы па-над хвояй
Штось кружаць. Іх цэлая стая!
Падходзіць, аж там — от няшчасце якое! —
Каханка ляжыць нежывая.

**16**

Як звялая кветка ў чыёйсьці далоні,
Дзяўчына ляжыць нерухома.
Застыла рука так журліва ля скроні —
А можа, змагла яе стома?
Яшчэ вунь на шчоках яе і на шыі
Румянец ірдзее, як ранак.
Такі ж во бывае ў купальшчыц, калі іх
Спужае хлапец нечакана.

**17**

Упаў перад ёй і халодныя губы
Каханай цалуе ў адчаі.
Ды толькі яна не прашэпча ўжо: «Любы...»
О хто яго гэтак карае?
Яе амывае слязою гарачай —
Ну, як ажывіць яе, людзі?
Але ні слязьмі, ні рыданнем, няйначай,
Не ўзрушыш застылыя грудзі.

**18**

Тут жаласны плач раптам чуе дзіцячы:
Ён — дзіва — з гнязда далятае!
Узлезшы, віны сваёй вынік там бачыць
Крывэйта — о доля ліхая!
О што нарабіў ён! Зірнуць яму сорам
На вобраз каханай наймілы.
З малым дзіцяняткам, ахоплены горам,
Бяжыць ён па лесе штосілы.

**19**

Прынёс да сялібы, раскazвае люду,
Дзе тое знайшоў немаўлятка.
І дзівяцца ўсе з незвычайнага цуду,
Гадаюць: а хто ж яго матка?

А Крывэ магілу капаць той часінай
Для любай каханкі спяшае.
Слязой акрапіўшы, пад хвояй арлінай
Яе, маладую, хавае.
20
Гадуецца хлопчык — такі яснавокі.
А ладны, а гожы! Як мама.
Ад бацькі ўзяў лоб ён адкрыты, высокі,
Ад мацеры — чуласць таксама.
Я знаю, хто з розумам сэрца яднае,
Хто к чуласці лучыць развагу,
Той хутка ў палёце нябёсаў сягае,
Той мець будзе ўсюды павагу.
21
Навукі дае сам Крывэйта малому,
Да працы яго прывучае.
Яшчэ вучыць праву багоў і людскому,
Бо гэта душу аздабляе.
У краі сынку яго знойдзецца справа
(Не знае хай службы ягонай:
Прырода даўно ўжо там страціла права —
Ці ж вернешся ўжо ў яе лона?)
22
Аддаў ён хлапца свайго да Гедыміна[6],
Што Крывэ-Крывэйту быў крэўны.
Падвысяць, навучаць як трэба там сына —
У гэтым Крывэйта быў пэўны.
Быў моцны Ліздзейка (так хлопца назвалі
Ад тога гнязда[7] на хваіне).
Арліныя вочы бацькі яму далі
І спрыт — для палёту хлапчыне.
23
Любіў паляванне ён. З бацькам са зброяй
Не раз вандраваў ён лясамі.
Нейк Крывэ паведаў, прысеўшы пад хвояй,
Пра матку яму са слязамі.
Калі Гедымін, паляўнічы заўзяты,
Крывавых пазбыўшыся войнаў,
Падаўся на ловы, пад любыя шаты,
Дзе гэтак зацішна і мройна,
24
Ён там, дзе ўсяго ўпаляваў вельмі многа,
Заклаў месца новае — Трокі[8].
Ліздзейка хадзіў з Трок да зацішка тога,
Дзе маткі грудок невысокі.

Аднойчы паклікаў туды й Гедыміна.
Князь доўга не думаў: дзе коні?
Вось сурмы зайгралі над ціхай далінай —
І мчыць паляванне праз гоні!

**25**

Спыніліся ў Крывэ-Крывэйты гасподзе —
У дрэвах цяністых, ля луга.
Назаўтра, ледзь бліснула сонца на ўсходзе,
Пастроіла псярню прыслуга.
Во лёгкі ганчак, а во харт ваяўнічы,
Во з голасам грозным брытаны.
Гурчаць у нясцерпе ля ног паляўнічых —
Дагледжаны кожны, прыбраны.

**26**

Блішчаць у ашыйніках перлы, рубіны.
Усё, што ў набегах забрана
(Ці то ў крыжакоў, ці то з польскай краіны).
Сабакам тут паначапляна.
Не бліскаў ніколі ліцвін камянямі —
Найлепш яму ў скурах звярыных.
Шырокімі блішча ў баі ён плячамі
Ды трапнасцю стрэлаў з ляшчыны.

**27**

Нясуцца сабакі пад сурмаў ігранне,
Ляціць Гедымін сам віхурай.
Абложыць мядзведзя ён у паляванні
І новай акрыецца скурай.
Спякота... Ды што яму нораў натуры!
Імчыць, ні на што не зважае.
Улетку яго можна бачыць у скуры,
Мароз — у кашулі гуляе.

**28**

Калчан скураны повен стрэл, як праменняў,
На стрэлах — гусіныя пёры.
Вось толькі убогае ў князя адзенне.
Ды што яму з золата ўборы!
Калі ён за зяця сваёю парою
Браў сына Лакеткі[9], казалі,
Ў пасагу, што даў ён за любай дачкою,
Ніякія скарбы не ззялі.

**29**

На жмудскім кані і Ліздзейка з ім скача,
Усякі хлапца заўважае:
Ваўком, што паклаў тут стралою гарачай,
Ён плечы свае аздабляе.

Воўк болей не ўкінецца ў статак той дзедаў,
Што й сёння пасецца ў даліне.
Ягоная скура ў Ліздзейкі — каб ведаў
Ліздзейка аб любай айчыне.

30
На памяць аб матцы сваёй нешчаслівай
Узяў яе стужкі хлапчына:
Усё ж іх аддаў яму бацька зычліва —
Хай грэюць, няхітрыя, сына.
Іх носіць хлапец на кірасе — гуляе
Са стужкамі вецер часамі.
Штораз, як Ліздзейка забрала здымае,
Іх чулы, кранае губамі.

31
Шумлівая, скача на конях дружына,
Уперад ірвуцца сабакі.
Там недзе ў гаях — пад карчом, пад ялінай —
Ці мала звяроў усялякіх.
Дзень цэлы блукаюць густымі лясамі,
Усюды — галёканне, крыкі.
Здабычы ва ўсіх — хоць вазі ты вазамі,
Курган з яе склаў бы вялікі.

32
Згадаць не паспелі — ужо надвячорак.
Вось згледзелі вочы: панура
Цямнее здалёку высокі пагорак
З руінамі даўняга мура.
За дзіўным тым замчышчам месяц срабрыста
Святло разлівае ў прасторы.
Здаецца, там славы святыня ўрачыста
Маленне узносіць у зоры.

33
І бачыцца зроку: у змроку блукаюць
Даўнейшых тут рыцараў цені,
Што строга нас судзяць — усё яны знаюць
Пра нас, нашы дзеі, хаценні.
Якраз на пагорку тым зрок Гедыміна
Схапіў раптам грознага тура.
Прыструніў каня свайго князь тут і рынуў
На волата-звера, як бура.

34
Стралу за стралою з магутнага лука
Шле князь у запале, заўзяты.
Пранізаны стрэламі, падае ў муках
Урэшце цар пушчы рагаты.

Ля гожай гары той заходзяцца ў брэху,
Пачуўшы дзічыну, сабакі.
Ляжыць тур гарою там — князю на ўцеху,
І дзівіцца з тура усякі.

35

Стральцы Свінтарогу за ўдачу такую
Прыносяць падзяку, вітанне.
Да самай начы па лясах гальмакуе,
Ўвайшоўшы ў азарт, паляванне.
Пад поўнач прыціхлі усе, хто галёкаў,
Цяпер самы б раз — да спачыну.
Ды толькі бяда вось: дом Крывэ далёка.
Зайсці ў пастухову хаціну?

36

Вось князя з дружынай пастух запрашае.
Не знойдзе ад радасці слоў ён.
Нясе сырадою і мёду старая:
Частуйцеся ўсе на здароўе!
Калі б тут была і Ліздзейкава матка,
Гасцям яшчэ б лепш услужыла.
Квітнела дастаткам тады гэта хатка,
Было ў ёй так светла, так міла.

37

Няма яе ў хаце, аб ёй з узрушэннем
Успомніў Ліздзейка, аб маці,
З падзякай стральцы прынялі запрашэнне,
Начуюць ва ўбогай той хаце.
Глядзіць Гедымін, які шчыры, зычлівы
Ліздзейка вось тут са старымі,
Як з імі ласкава гаворыць, журлівы,
Які абыходлівы з імі.

38

У стане любым і ва ўсякай адзежы
Пачцівае сэрца шануе
Таго, каму любасць па праву належыць,
У кім яно крэўнасць пачуе.
Спяць соладка госці. Спакойна ўсё будзе
Без варты у сценах тых ясных.
Бо самыя добрыя — ўбогія людзі,
Што з працы жывуць рук уласных.

39

Сасніў Гедымін, што на гожай гары той,
Дзе тура забіў гэтак лоўка,
Ён бачыць пры лесе густым, пад ракітай
Не тура, а страшнага воўка.

7 Зак. 1799

Вачамі-агнямі Літву ўсю з гаямі,
З узгоркамі воўк аббягае.
Бразгоча навешанымі ланцугамі,
Выццём — аж да неба сягае.

40
У сне Гедымін ухапіўся за дзіду,
Ужо й замахнуўся спрасоння
На воўка, ды ўстаў тут і дзівіцца дзіву,
Што з ім прычынілася сёння.
Князь будзіць Ліздзейку, і сябра ахвоча
Выслухвае ўсё. Праз хвіліну
Дзівосны той сон у хаціне прароча
Разгадвае ён Гедыміну.

41
Сон гэты гаворыць, што замак тут будзе
І горад цудоўны ў Закрэце.
Ён звяжа Літву ўсю, устаўшы на грудзе,
І хутка праславіцца ў свеце.
Літвы ўсёй сталіцаю звонкаю стане,
І ў ёй заквітнеюць навукі.
Таму ж, хто яго заснаваў, шанаванне
Складуць тут унукаў унукі.

42
І рад вельмі князь, што парой вечаровай
Забіў тут удачліва тура:
Гара гэта стане сталіцы асновай,
Расці будзе мур тут ля мура...
Ліздзейка ж пра памяць аб мацеры дбае.
Ён там, ля панарскай каплічкі,
Дзе маці астанкі, ёй помнік стаўляе
Між дрэў гаманкіх, ля крынічкі.

43
Тут, едучы з Трок альбо з Вільні, Ліздзейка
Заўсёды з канём сунімаўся.
Падоўгу стаяў са слязамі на вейках
І долу ў жалобе схіляўся.
Пазней, калі веры святло на абшарах
Літвы разлілося — як спадак,
Той помнік з каплічкай старой у Панарах
Абняў агароджай нашчадак.

44
Тут вырас і замак, што радуе вочы,
Муры ўсталі добрай часінай.
Усё стала так, як Ліздзейка прарочыў,

Паслухаўшы сон Гедыміна.
Ад воўка і горад той Вільняй назвалі,
Ліздзейку ж, што радзіў прароча
Ва ўсім Гедыміну, адразу ж надалі
Імя Радзівіла ахвоча.

**45**
Стаў род Радзівілаў у свеце прызнаны —
Не знойдзеш больш гэтакіх родаў.
З высокаю славай ён быў паяднаны,
Багаццем вялікім валодаў.
Так Бог за пакуты душы ўзнагародзіў
Быў грэшніка Крывэ і тую
Дачку пастуха, пра якую ў народзе
Расказваюць, як пра святую.

## СВІЦЯЗЬ

(скарочана)

**4**
На месцы, дзе Свіцязь, як вока,
Чысцюткая, горад раскошны
Быў некалі, знаны далёка,
І ў ім жыў купец найзаможны,
Які меў дачку, што сваёю
Усіх чаравала красою.

**5**
І вось закахаўся ў дзяўчыну
Убогі хлапец. Як — пра гэта
Расказвае жудасны ўчынак,
Які і з'яднаў іх праз лета.
Быў хлопец з кішэняй пустою
І з гэткай жа самай душою.

**6**
«Аддам у замужжа дачку я
Таму, хто шмат золата мае», —
Купец даў аб'яўку такую.
Хто хоча, няхай паспяшае:
Ля юнай красуні чароўнай
Заўсёды залётнікаў поўна!

**7**
Дзе ж грошай узяць? Невясёла
З сабой разважае каханак.
Сланяецца, звесіўшы голаў,
Ці дзень, ці то вечар, ці ранак.

І думае ўсё. Ды хіба ты
Прыдумаеш тыя дукаты?

8
Якой жа знайсці можна рады
Яму тут без грошай, не знае.
І д'ябальскі план, як панада,
Ужо ў галаве выспявае:
«Пайду я да ростаняў — можа,
Рагаты дарадчык паможа».

9
У горадзе Свіцязі — поўнач,
Спяць людзі, і вецер, і рэха.
І толькі сабакі на поўнік
Штось выюць, заходзяцца ў брэху.
Не, мусіць, усё ж недарэмна
Спакою няма ім, нядрэмным.

10
Крадзецца хлапец сярод ночы
І сам паддае сабе страху.
У страха ж — вялікія вочы:
Ужо аж трасецца ад жаху.
Ды йдзе ўсё ж — штурхае каханне.
Дзе ж тое дарог скрыжаванне?

11
А вось і яно. Пад дубамі
Стаў, свіснуў, пужліва стаіўся.
Аж выйшаў тут д'ябал з рагамі —
Ледзь хлопец не перахрысціўся.
Ды гэтакі страшны, агідны —
Няўжо ёсць такія страшыдлы?

12
Пазногці на лапах курыных —
Крукамі. Дзюбаты. З вужакаў —
Яго валасы. Хвост — казліны.
Агонь у зубах! Сам — у фраку.
Спужацца тут можна да смерці —
Няхай бы ўзялі яго чэрці!

13
Стаіць бедачына — дзе ж дзецца?
Ну, а валасы ў яго — дыба!
Ад страху і не абзавецца —
Маўчыць, як у возеры рыба.
«Ты к д'яблу, мінаючы Бога,
Прыйшоў па якую падмогу?

**14**
Кажы, не трасіся! Раз ногі
Сюды прывялі, к майму схову,
Чаго ж мае страшаць так рогі,
Што аж адняло ў цябе мову?
Калі ты рашыўся, то трэба
Быць смелым — хай пекла ці неба!»

**15**
І хлопец — знайшоў такі сілы —
Так д'яблу на гэта гавора:
«О д'ябле! Ўвесь свет мне нямілы!
Сюды прывяло мяне гора!
Я моцна дзяўчыну кахаю,
Ды... грошай, бо бедны, не маю...»

**16**
«Ага, зразумеў: без дукатаў
Цябе мець ніхто не жадае?
Ну, што ж, памагу я, ды плата
Тут будзе усё ж не малая:
Аддаць жа павінен за грошы
Ты д'яблу душу, мой харошы!

**18**
Як быць? Што рабіць бедачыну?
Душы не даваць тым рагатым?
Але ж хіба зможа дзяўчыну
Займець ён без іхніх дукатаў?
І хлопец на скуры валовай
Крывёй сваёй піша ўжо ўмову.

**20**
«У поўнач, дзе слуп, пад дубамі,
Ты станеш каля раздарожжа,
І мы табе ў рукі агнямі
Купца заманіць дапаможам.
Заб'еш яго, возьмеш дукаты —
Адразу ж тут станеш багаты.

**21**
Жыць будзеш — усё даюць грошы! —
Ты лепш за вяльможнага пана,
Жыць сорак гадоў у раскошы
З дзятвою і жонкай жаданай.
А потым цябе у балота,
У пекла, мы прымем з ахвотай!

22
Каб важна было гэта болей,
Мы ўсе па цябе прыйдзем самі:
У хованкі толькі, саколе,
Не ўздумай гуляць ты з чарцямі.
Табе будзе лепей самому,
Калі не ўцячэш тады з дому».

23
Трактат падпісалі грунтоўна
Абодва — ну, як у «Тукаю»,
І ўраз разышліся бязмоўна.
Хлапец скіраваў да ручаю
І з рук кроў вадой там змывае
Ды гэтак з сабой разважае:

24
«Ну, што ж! Покуль з'явяцца чэрці
Мяне браць у пекла па часе,
Сто раз яшчэ можна памерці —
Унь колькі гадоў у запасе!
А мы той часінаю будзем
І есці, і піць так, як людзі!»

54
Спіць смачна. Ды сорак мінаецца роўна
З той страшнай часіны во сёння.
Калі ж б'е гадзіннік за сценкаю поўнач,
Ён свечку хапае спрасоння.
Ідзе, увесь белы, як з могілак мара,
Ды свечку на стол зноў стаўляе.
Уздых — і з грудзей рвецца быццам бы пара,
Агонь ужо з рота шугае!

55
І дыхаць так цяжка — як быццам канае,
Хрыпіць — страшна выкаціў вочы.
Ад страху заенчыў — дзе дзецца, не знае,
Не хочучы, дзіка рагоча.
З рук кроў — і адкуль яна? — ўжо выцірае:
Згінь, згінь, насланнё ты ліхое!
Тут голаў купцова ў паўзмроку ўсплывае:
Адплата прыйшла за былое!

61
І кажа яму галава: — Што, нажыўся?
Хацеў, пане, золата многа?
Ты ўсё яго браць мог — я не паскупіўся б:

Мяне адпусціў бы жывога.
Сям'я ў мяне, дзеці... І сталі, сіроты,
Жыць з марай адною — аб хлебе.
Не дбаў ты пра Бога — няма ў цябе цноты,
Забыў, што суддзя ёсць на небе!
Ты помніш мой голас з начы: «Калі сёння
Ўпадзе мая голаў без сілы,
То ў часе сваім яна дошку адслоне...»
Цяпер во я выйшла з магілы!
На стол твой банкетны я легла, дзе стравы,
З крывёю змяшаўшы напоі.
Цябе мой пранізвае позірк крывавы...
Дарэмна шукаў ты спакою!
Ідзе ўжо во помста! Ці ж вінны сіроты?
Хто крыўдзіць іх, бедных, хай знае:
Яго будуць вечныя мучыць згрызоты,
Яго яшчэ пекла чакае!..

**62**

І тут з галавы кроў лінула навокал,
Цячэ ўжо ў забойцы па твары.
Удзень стала цёмна — хоць выкалі вока,
За вокнамі — чорныя хмары!
Па шыбах пяском унь сячэ ўжо з размаху.
Дождж, град з-пад нябёс — навальніца!
Пярун б'е па вокнах, грукоча па даху,
Жагнае ўвесь свет бліскавіца!

**63**

Праз вокны тут д'яблаў ускоквае зграя,
Агнём палівае, кугіча.
За спіны гасцей гаспадар забягае,
Ды чэрці хапаюць здабычу!
Яна ў кіпцюрах іх! Шалее віхура,
Палац наймагутны гайдае.
Трашчаць сутарэнні ўжо, ходзіць падмурак,
Сцяна ад сцяны адпадае.

**64**

Скрозь валіцца цэгла ды бэлькі са столі,
І падаюць людзі снапамі.
Так рушыцца ўвесь горад Свіцязь з наўколлем —
З хацінамі ўсімі, з дамамі.
Здаецца, зямля ўся, свет цэлы трасецца,
Трэск, грукат страшэнны навокал.
Дзяцей плач жахлівы далёка нясецца,
Крык, енкі сягаюць аблокаў.

**65**
Гуляюць віхуры. Сабакі ўсе выюць —
Няўжо гэта свету сканчэнне?
Пярун б'е без стомы — хто спыніць стыхію? —
У сцены ды паліць бярвенне.
Пад горадам ходарам ходзіць зямля ўся,
І вось пад стыхіі напорам,
Бы крыга лядовая, ўбокі раздаўся
І ў бездань ляціць Свіцязь-горад!

**66**
Вада забурліла наўкол. Вал за валам
Нясецца прасторам шырокім
І так разгайдаўшыся, ў бераг б'е з шалам —
Аж пыркі ляцяць пад аблокі.
А вал зноў адскочыць ды зноў набягае —
О, помачы тут не прасіце!
Так дзень пашалеўшы, вада заціхае —
Становіцца возерам Свіцязь.

**69**
Сягоння, калі ты ў Наваградак едзеш
Цяністай дарогаю з Мышы,
Вады там люстэрка чысцюткае ўгледзіш
У мройнай лясістае цішы.
Тут, людзі расказваюць, чутна бывае,
Як звоняць званы пад вадою,
І хваля часамі брусы вымывае
З смалою — застылай слязою.

**70**
Прахожы, калі стрэнеш возера тое,
Люстраную шыр вадзяную,
Адкінь ты адразу жаданне, якое
З бядою, злачынствам сябруе.
Не, лепей памерці ад голаду, смагі
І шчасця не ведаць адвеку,
Чым подласць зрабіць хоць каму без развагі,
Тым болей — забіць чалавека.

## ДА ГОЛУБА

**1**
Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Скуль ты сюды завітаў?
Ці пад зарой, дзе ручай ля паляны,
Мілай маёй не страчаў?

2
Ці хоць вясёла яна? Ці здарова?
Мілы мой птах, раскажы!
Што, не для слыху твайго маё слова?
Гук яго птахам чужы?

3
Глянуў вясёла!.. Гэтак прыемна
Сэрца зайшлося ў грудзях!
Мо ад яе ты прынёс патаемна
Што для мяне, любы птах?

4
Шчасны, хто марыць умее, свабодны,
І ўслед за марай ісці.
Прэч жа, мой розум, розум халодны,
Лепш ты мяне адпусці!

5
Гэтак, як грэкі, за птахавым лётам
Думкі пушчу да аблок.
Што са мной будзе і сёння, і потым,
Розум не ўбачыць здалёк.

6
Зараз на боскую волю хачу я
Ўласную долю аддаць.
Досыць гадаць, што мне заўтра рыхтуе,
Лепш памыляцца, гуляць.

7
Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Я, як хачу, варажу:
Да сваёй мілай прыйду, закаханы,
Што на душы, ёй скажу.

8
Ці хоць вясёла яна? Ці здарова?
Сёння ўжо буду я знаць!
Кажуць, ёсць ліст ад яе. Мілай слова!
Вечарам буду трымаць!

9
Ён за тры крокі, ў суседняй каморы,
Тайны ад мілай лісток.
Ах, што за дзень сёння доўгі, няскоры!
Здэцца, згушчаецца змрок?

10
Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Зноў да чыіх ты акон?

Трапіш да мілай мо ты праз туманы,
Ёй занясі мой паклон.

11
Толькі куды ты? Праз змрок вечаровы
Ў іншы скіроўваеш бок?
Не зразумеў ты маёй, мусіць, мовы?
Ды мне памог, галубок!

12
Ах, паляцеў ты туды ўжо, дзе ў змроку
Любы мой друг пад замком[1].
Ты і яго хоць суцеш там звысоку,
Веру вярні як тайком.

13
І яго думкі ўсе той жа пуцінай
У той жа дворык бягуць.
Каля яе яны кожнай хвілінай
Разам з маімі снуюць.

14
Гэта ж прывезлі сюды яе брата!
Будзе ў нас сонечны міг:
Разам са мной і яна будзе рада,
Разам сустрэну я іх!

15
Голуб мой белы, госць мой вясняны,
З Богам! Бывай, дарагі!
Ах, калі час той настане жаданы?
Здымем калі ланцугі?

## РАЗВІТАННЕ КАСЦЮШКІ З ЮЛІЯЙ

1
А калі паедзеш, дык бывай,
Пра маё каханне ўспамінай!
Ты ў чужых краінах будзеш жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.
2
А калі паеду, з Богам будзь,
Пра маё каханне не забудзь.
У якіх краінах мне б ні быць,
Юліяй адзінай буду жыць.
3
Хоць разлучыць, можа, доля нас,
Любасць пераможа нават час.

Ты ў чужых краінах будзеш жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.

4
Гэта падарожжа ў дальні край,
Дык навек мне, можа, ад'ю дай!
Мо я не вярнуся з даляў тых,
Дай зары нап'юся з воч тваіх.

5
О мая заранка! Як мне быць?
Рана ў сэрцы, рана. Так баліць!
Зараз ад'язджаю. З Богам будзь.
Любая... Кахаю... Не забудзь...

6
Ты ўжо ад'язджаеш — ах, бывай.
Пра маё каханне ўспамінай!
Ты ў чужых краінах будзеш жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.

## ЯНА ДАЛЁКА

Трызню табою, адзінай,
О маё шчасце, дзяўчына!
Дзе ты, жыццё маё, ранне,
Ты, маё ў свеце каханне?
Ты за той дальняй смугою!
Не за адной ты гарою,
Не за аднымі барамі,
Не за аднымі гарамі!

Дзеляць нас земляў абшары,
Горы, лясы, нібы хмары,
Дзеляць аблокаў чароды,
Розныя дзеляць народы.
Ці калі ўбачу цябе я?
Ці я прайду скрозь завеі,
Тыя між намі абшары,
Горы, лясы, нібы хмары?

## ТОЛЬКІ АЙЧЫНА І ЗОСЯ...

Толькі Айчына і Зося —
Сёння мне ўцехай адзінай.
Сёння мне ўцехай адзінай,
Жалю і смутку прычынай.

Хто ж за любоў, за каханне
Даў мне пакуты такія?
Вашай я рады чакаю,
Добрыя сэрцы людскія.
Я панясу да магілы
Любасць да краю і Зосі,
Хоць мне любоў гэта ў сэрцы
Столькі няшчасцяў прыносіць.

## ЛЮБЫМ СЯЛЯНАМ З-НАД НЁМАНА І ДЗВІНЫ

Калі ж вы чытаць ужо будзеце, брацця?
Вы ўведалі б з Божае ласкі,
Што вам неслі шчыра мы гэта багацце —
Ніў вашых калоссе і краскі.

Я з сэрцам удзячным дар шчодры во гэты
Кладу перад вамі мрою:
Калі і да вас блісне промень асветы,
Вы возьмеце дар мой з сабою.

А сёння хай знаюць вяльможныя людзі,
Хто працай узнёс іх у свеце.
Уклаў Бог адны нам пачуцці у грудзі,
Мы ўсе — адной мацеры дзеці.

*1840*

## ДА МІЛЫХ МУЖЫЧКОЎ

Ды і я вам памагу
Песеньку спяваці,
Ды і я ж між вамі ўзрос
Пры бацьку і маці.

І мне Бог на свеце даў
Гора гараваці,
Штобы лепш я вас любіў
І ўмеў спагадаці.
Ой, што ж вы напелі тут,
Ды якога дзіва!
Шкода, што на голас ваш
Старонка драмліва.
Але як прачнецца з сну
Гэта Дабрадзейка,
Пэўна, будзе слухаць вас

Лепш, як салавейка.
Будзем калісь так і мы,
Як тыя гуралі,
Што пан даў ім есць і піць,
Яшчэ й грошы бралі.
Трэба толькі слухаць нам
Рады таго татка,
Што то казаў гаравадь,
Каб аджыла хатка.
Толькі, мусіць, той сынок
Не піў, як мы, водкі,
А то б яму вялеў ён:
Кінь і мёд салодкі.
Ой, гаруйма, братцы, мы,
Кіньма горку жлопель,
Што не з жыта гоняць ўжо,
А з аўса, з картопель.
Кіньце першы, жонкі, вы,
Мілыя дзяўчаты,
Доля, шчасце зачне жыць,
Дзе цвяроза хата.
Благаславіць будзе Бог
Ў каморы, аборы,
І не будзе такі люд
Бяссільны, як хворы.
Ой, каб калісь нам дажыць
Да такой паправы,
То запеў бы з вамі я,
Што нам Бог ласкавы!

## КАРАНАЦЫЯ МІНДОЎГА. 1252 г.

Што гэта за паны?
Наваградка званы
Чаму ім звоняць доўга?
Ах, гэта ж крыжакі
Ідуць, каталікі,
Каранаваць Міндоўга!

Усё на іх бліпічыць
Ды золатам зіхціць.
Ад іх наўкол святлее!
Увесь твой строй, крывіч,
Крывэ-Крывэйтаў зніч
Прад бляскам тым бляднее.

У князя заўтра хрост.
А нас пашле наўпрост
Мо крыжакам на яткі[1]?
Ужо тыран сваіх
Пляменнікаў дваіх[2]
Прагнаў з радзімы-маткі.

Міндоўг не верыць, не!
Сваю карысць тут гне —
Ён сам кіруе лёсам.
Ён будзе каралём!
Тры дні — каталікам...
Крыжак жа будзе — з носам[3]!

## ВІЦЕНЬ[1], ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1283—1315 гг.

Вера наша, хрысціянства!
Шмат ты ран крывавых мела,
Покуль сэрцы ўсе ў паганскай
У Літве заняць здалела.

Бо цябе, што ўсім вяртаеш
Дабрыню, любоў, спагаду,
Прышчапіць Літве хацелі
Праз пажары, кроў і здраду.

Ордэн той, што меч крывавы
Нёс на ўласных дабрачынцаў,
Што ў набегах нішчыў Польшчу,
Што біў прусаў, бы злачынцаў,

Што ішоў вайной на ўласных
Светароў ды на рыжанаў[2],
Жыў рабункамі. Таму так
Шчыраваў «для хрысціянаў».

Мечам злым хрысціў Літву ён,
Пляжыў Жмудзь, знёс мур Рамновы[3].
На пажарышчах тых ставіў
Ён за замкам замак новы.

Ды на трон Літвы сеў Віцень,
Князь рашучы, мудры, смелы.
Крыжакоў ён біў у сечах,
Ад Літвы адвёў іх стрэлы.

Светарам жа іх ён собіў.
І мяшчанам, што раўкамі
Прывялі яго пад Рыгу,
Каб змагаўся з крыжакамі.

Пад Браўнзберг, Каліш і Добжын[4]
Ён хадзіў з сваёй літвою,
Праслаўляў наш край у свеце
Зброяй праведнай сваёю.

Нездарма ж і смерць да князя
Не змагла ўсё падступіцца.
Сам Пярун яго ў нябёсы
Ўзяў пад водбліск бліскавіцаў[5].

Шмат хто ў час той, кажуць, бачыў,
Як між хмар, дзе золак мройны,
На кані, бы месяц, белым,
Пралятаў ён, рыцар збройны[6].

## СПАЛЕННЕ КРЫЖАКА РУДЫ[1] Ў ЧАСЫ ГЕДЫМІНА. 1320 г.

Ты дарма прыйшоў да Меднік,
Руда, ■ намі біцца:
Мусіш — звязаны, са зброяй —
На каня садзіцца.

Ды не ў бой ты зноў паскачаш,
А на стос агністы.
Панясеш багам паклон ты
Ад нас урачысты!

Ехаў Руда, мусіў ехаць
Пад кліч зычны рога
У гарачыя абдоймы
Віру агнявога!

Бы паходня, гарыць Руда,
А Літва ў гуморы,
Што багам сваім ахвяру
Шле такую ў зоры.

Хоць было ў Літвы былінная
Шмат паходаў плённых,
Так яна паліла толькі
Крыжакоў палонных.

## УЦЁКІ КЕЙСТУТА З МАЛЬБОРГА. 1361 г.

Ой, быў мулярам наш Кейстут,
Як яго прыгнула доля:
У Мальборгу мур вязніцы
Малатком прабіць ён здолеў!

Разам з Альфам, што служыў там,
Дзёўб той мур штоноч зацята —
Толькі б з сцен крыжацкіх воля
Зоркай бліснула крылата!

Ой, наш Кейстут крыжаком быў!
Дзякуй Альфу — з ім праз гоні
Князя ў белым з крыжам чорным
Проста ў зоры неслі коні!

На дарозе — Wer-da[1]? — варта
Супыніла іх у браме.
Штосьці немцам Альф пабаіў
І — зноў гром пад капытамі!

Ды не злодзей Кейстут: немцам
Плашч іх белы з чорным крыжам,
Коней іх — усё вярнуў ён,
Нават шчыт з іх мечам хіжым.

Пеша брыў ён да Мазоўша,
Дзе жыла дачка Данута
З князем Янушам. Іх замак
У аблокі меціў крута.

Шмат дачцы было ужо ўцехі!
Толькі Кейстут рваўся ў Трокі,
Каб хутчэй сваёй Біруты
Смутак-жаль прагнаць глыбокі.

Немцу ж дзякуй за гасціннасць
Шле ў пісьме і абяцае:
Калі ён магістра ўловіць,
То надзейней ухавае!

## ПРА КНЯЗЬКОЎ КАРЫЯТАВІЧАЎ[1] У ЧАСЫ АЛЬГЕРДА. 1331 г.

Хто пустэльняй край свой зробіць,
Той не варт і згадкі.
Хто ж яго узвысіць, будуць
Помніць і нашчадкі.

Як прагнаў Альгерд татараў
Аж пад Волгу ў поле,
Карыята за геройства
Даў сынам Падолле.

І яны — ад стрэл ды мечаў
Хеўры ваяўнічай —
Заснавалі замкі: Бэкат,
Смотрыч над Сматрычай[2].

На рацэ той, дзе ўвесь бераг
Камянямі скуты,
Карыятавічы ўзнеслі
Камянец славуты.

Меджыбож і Тэрэбоўля,
Вінніца з Браславам
Па-над Бугам — гарады іх,
Помнік іх і слава.

Так князі з Навагародка
Дзеялі ў Падоллі.
Не забудуць слаўных дзеяў
Іхніх тут ніколі.

Хай жывуць у гарадах іх
Людзі ўсе шчасліва
І сыноў тых Карыяты
Спамянуць зычліва.

## З ПРАДМОВЫ ДА КНІГІ «СЯЛЯНСКІЯ ПЕСНІ З-НАД НЁМАНА І ДЗВІНЫ» (1844 г.)

(урывак)

Паэзія, якую мы называем сёння гміннай, простанароднай, была некалі агульнай для ўсіх нашых продкаў: для паноў, князёў, словам, агульнанароднай; ужо ад аднаго гэтага яна павінна была б карыстацца большай павагай нават у тых, хто нічога добрага не хоча бачыць ва ўсім, што ёсць простанароднае, сялянскае.

Нашым сялянам мы абавязаны тым, што яны захавалі старажытныя абрады і песні. Ім і за гэта мы павінны быць удзячныя. Паддаўшыся ўплыву суседніх плямён і цывілізацый Еўропы, мы самі змяніліся хутчэй, чым яны; а таму і забылі мы тыя песні, якія далёкая прапрабабка не аднаго з нас, можа, нават у той жа самай вёсцы спявала пры кудзелі разам са сваімі роднымі, нашчадкі якіх ад таго, што не мелі заслуг у краі, засталіся ў становішчы падданых.

На самую крывіцкую паэзію робіць уплыў украінская і польская паэзія. У некаторых песнях гэта відаць даволі выразна. Значна ўплывае цяпер на яе і расійская народная паэзія, якую прыносяць вайскоўцы, раскватараваныя па вёсках. Калі б у нас былі выдадзены літоўскія народныя песні, то, можа, мы ўбачылі б, што і яны неяк перароблены, перакладзены і спяваюцца цяпер па-крывіцку...

### Каментарыі

**«Мышанка».** Гэта так званае лірычнае адступленне з балады «Мышанка», у аснове якой — народныя паданні пра паходжанне мястэчка Мыш і ракі Мышанкі. Усе балады Я. Чачота былі напісаны ў 1818—1819 гг. Асобныя з іх дапрацоўваліся пазней. Упершыню апублікаваў іх у сістэматызаваным выглядзе польскі вучоны Станіслаў Свірка у кн.: Świrko Stanisław. Z kręgu filomackiego preromantyzmu. — Warszawa, 1972. Усе пададзеныя тут творы паэты ўзяты в кн.: Чачот Ян. Выбр. тв. — Мінск, 1996. «Мышанку» (як і іншыя польскамоўныя творы — «Ануфравы імяніны», «Калдычэўскі шчупак», «Радзівіл...», «Свіцязь», «Два голуба», «Развітанне Касцюшкі з Юліяй», «Яна далёка», «Толькі Айчына і Зося...», «Каранацыя Міндоўга», «Віцень...», «Спаленне крыжака Руды...», «Уцёкі Кейстута...», «Пра князькоў Карыятавічаў...») пераклаў К. Цвірка.

**«Яжовыя імяніны».** Яжовыя — гэта значыць імяніны Ежа, як называлі сябры старшыню Таварыства філаматаў Юзафа Яжоўскага. Пад такой назвай было змешчана сярод іншых матэрыялаў і драматызаванае віншаванне Я. Чачота ў кн.: Poezya filomatów. — Kraków, 1922. — T. II.

Твор напісаны на беларускай мове з выкарыстаннем паланізмаў.

[1] Контэнт — задаволены (польск.).

[2] ...бжыдка мешкаюць — кепска жывуць (польск.).

[3] Віленка — Вільня.

[4] Мазэпа, як растлумачвае сам аўтар у сваім слоўнічку беларускай мовы, — нязграбны, непаваротлівы, неахайны чалавек, страшыдла.

[5] Кралявец, Крулявец — так называлі г. Кёнігсберг (цяперашні Калінінград).

[6] Усціна — віціна, даўнейшае вёсельнае судна для перавозкі грузаў галоўным чынам па Нёмане і часткова па Шчары, прытоку Нёмана. Віціны будаваліся ў вярхоўях Нёмана, часцей за ўсё ў Свержні, Стоўбцах і Беражной. Можна згадаць тут і радкі Якуба Коласа з «Новай зямлі», дзе гаворыцца пра Міхала: «Хадзіў на сплаў ён, на віціны...».

[7] Мадлін (Новагеоргіеўск) — крэпасць у Польшчы на рацэ Вісле. Закладзена ў 1807 г. Напалеонам I, закончана ў 1812 г. Здадзена рускім войскам у 1813 г. «Ён, бядак, кабылінку з'ядаў у Мадліне». — Тут, відаць, гаворка ідзе пра ўдзел у абароне крэпасці.

[8] Пісма — творы (польск.).

[9] Схэндожыць— саб'е, скосіць (польск.).

**«На прыезд Адама Міцкевіча».** Верш напісаны на беларускай мове ў гонар прыезду з Коўна на філамацкую ўрачыстасць Адама Міцкевіча ў 1819 г.

[1] Ды як табе жывецца? (польск.).

**«Да пакіньце горла драць!».** Гэта была вельмі папулярная сярод студэнтаў Віленскага ўніверсітэта і ўсёй філамацка-філарэцкай моладзі песня. Як расказвае сам аўтар у пісьме Адаму Міцкевічу ад 16 (28) лістапада 1819 г., ён напісаў яе да імянінаў філамата Дзіянісія Хлявінскага, а потым перарабіў да імянінаў другога сябра-філамата — рэктаравага сына Францішка Малеўскага (ён меў яшчэ два імёны — Ярош і Геранім). Ярошавы імяніны спраўляліся 1 лістапада 1819 г. на кватэры ў Дзіянісія Хлявінскага, які жыў у мурах універсітэта. Тэкст песні захаваўся не поўнасцю. Варыянт песні, адрасаваны Хлявінскаму, не захаваўся. Музыку да гэтай жартоўнай жыццярадаснай песні напісаў сябар-філамат Тамаш Зан. Друкуецца паводле выд.: Poezya filomatów. — Kraków, 1922. — T. II. — S. 187

[1] Тут, як адзначаецца пры публікацыі, — пропуск у рукапісе.

[2] Аўтар выкарыстаў тут звычайную жартоўную прыгаворку пры сватанні з беларускай вясельнай абраднасці.

**«Ануфравы імяніны».** Верш напісаны да дня нараджэння сябра-філамата Ануфрыя Петрашкевіча (сябры называлі яго яшчэ Ануфр ці проста Нуфр), што святкаваўся вельмі ўрачыста 30 мая 1819 г. Друкуецца ў перакладзе з польскай паводле кн.: Poezya filomatów. — Kraków, 1922. — T. II. — S. 88—90. Там жа пад агульным загалоўкам «Ануфравы імяніны» друкуюцца і іншыя вершаваныя творы Я. Чачота, а таксама філаматаў.

[1] ...злыселы грэк — маецца на ўвазе Анакрэон, ці Анакрэонт (каля 570—487 да н.э.) — старажытнагрэчаскі паэт, аўтар эратычных і вясёлых застольных песень.

**«Калдычэўскі шчупак».** Асновай балады паслужыла мясцовае паданне пра тое, як некалі ў Свіцязі быў злоўлены шчупак, акальцаваны ў Калдычэўскім возеры, — ён быццам бы трапіў падземнай ракой з аднаго возера ў другое. Як бачым, паэт «расцягнуў» гэта паданне ў даволі аб'ёмісты твор, «насяліўшы» яго канкрэтнымі асобамі двух шляхецкіх родаў — Верашчакаў і Анцутаў (першыя жылі паблізу Свіцязі, другія — пры Калдычэўскім возеры). Аўтар, такім чынам, далёка адышоў ад фальклорнай асновы.

Калі ў 1905 г. Ян Квятнеўскі ўпершыню знайшоў на Навагрудчыне рукапіс балады «Калдычэўскі шчупак», аўтарства яе ён прыпісаў А. Міцкевічу. Вядома, знаходка зрабіла сенсацыю. Леапольд Мэе, які амаль адначасова знайшоў яшчэ адзін рукапіс гэтай балады (толькі без уступу), выказаў меркаванне, што яна належыць пяру Я. Чачота. Але супраць гэтага былі выстаўлены новыя аргументы. На старонках польскага друку разгарэлася дыскусія. У час яе Квятнеўскі ў палемічным запале выдаў нават брашуру «Праўда аб «Шчупаку», у якой яшчэ раз хацеў даказаць аўтарства Міцкевіча. Дыскусія працягвалася некалькі гадоў, пакуль канчаткова не даказалі, што аўтар балады — Ян Чачот. Удзельнікаў дыскусіі бянтэжыла падабенства яе ў асобных момантах з баладай Міцкевіча «Свіцязь». Меркавалася, што гэта Чачот рабіў запазычанні з Міцкевічавай балады. Але, як цяпер даказана, Чачотава балада была напісана раней за Міцкевічаву, і, значыць, Міцкевіч запазычыў матывы ў Чачота.

[1] Калдычэва — возера ў басейне ракі Шчары ў Баранавіцкім раёне.

[2] Верашчака Міхал — брат Марылі, каханай Адама Міцкевіча, які ў сваю чаргу прысвяціў яму баладу «Свіцязь».

[3] Зыгмунты, альбо Жыгімонты, — як відаць, маюцца на ўвазе вялікія князі Вялікага Княства Літоўскага і каралі польскія Жыгімонт I, альбо Стары (1467—1548),

Жыгімонт II (1520—1572), Жыгімонт Кейстутавіч (г. н. невядомы — 1440) і Жыгімонт III (1587—1632).

[4] Цырын — даўняе мястэчка, недалёка ад якога знаходзіўся маёнтак Верашчакаў Туганавічы. Цяпер вёска на мяжы Карэліцкага і Баранавіцкага раёнаў.

[5] Варонча — вёска каля Малюшыч у былым Наваградскім павеце, дзе ў парафіяльным касцёле 6 ліпеня 1796 г. быў ахрышчаны Ян Чачот. Цяпер Карэліцкі раён.

[6] Пясчанка — былы фальварак у Наваградскім раёне.

[7] Марцаліна — рэальная дзяўчына. Як мяркуе ў сваёй кнізе «Міцкевічаўскія рэаліі» Л. Падгорскі-Аколаў, гэта была таварышка дачок генерала Весялоўскага, што жыў паблізу — у маёнтку Сэрвач.

[8] Плужыны — адзін з маёнткаў Верашчакаў у былым Наваградскім павеце, недалёка ад Свіцязі. Цяпер вёска у Наваградскім раёне.

[9] Рэдут — касцюміраваны баль, маскарад.

[10] Гарадзішча — мястэчка ў былым Наваградскім павеце. Цяпер Баранавіцкі раён.

**«Радзівіл, альбо Заснаванне Вільні».** Заснавана балада на народным паданні пра Ліздзейку і ўзнікненне Вільні. Я. Чачот мог пачуць яго з вуснаў людзей і прачытаць пра яго ў «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага.

[1] Свінтарог — гл. каментарый да «Табакеркі» Т. Зана.

[2] Крывэ-Крывэйта — легендарны вярхоўны жрэц. У Я. Чачота — Кірвэ-Кірвэйта.

[3] Закрэт, Пагулянка — прадмесці Вільні, цяпер — раёны Вільнюса.

[4] Нерыс — рака ў Літве, працяг Віліі.

[5] Панары — горы альбо ўзгоркі на паўднёвы захад ад Вільні.

[6] Гедымін — вялікі князь ВКЛ.

[7] Гняздо па-літоўску «ліздас».

[8] Трокі — Тракай, цэнтр Тракайскага раёна ў Літве.

[9] Лакетка — Уладзіслаў Лакетак (каля 1260 — 1333), польскі кароль (з 1320 г.). Празваны так за малы рост: лакетэк — локцік (польск.).

**«Свіцязь».** Балада заснавана на народным паданні пра затапленне легендарнага горада Свіцязь. Паданне і сёння бытуе ў ваколіцах возера Свіцязь, напрыклад, на радзіме Я. Чачота — у Малюшычах. «Свіцязь», гэтая найбольшая аб'ёмам Чачотава балада, займае, — зазначае С. Свірка, — «ключавую пазіцыю не толькі сярод балад Я. Чачота, але і ў баладнай творчасці філаматаў наогул, не выключаючы самога А. Міцкевіча». У гэтым творы філаматы ўбачылі добры прыклад выкарыстання беларускага фальклору ў паэтычнай творчасці. Ян Чачот, выбраўшы свабодную манеру апавядання, умела аб'яднаў у ёй народныя паданні — пра затапленне горада Свіцязь і пра чалавека, што прадаў чорту душу. У баладзе аўтар данёс да нас яшчэ асобныя народныя звычаі, вераванні, паказаў адносіны народа да ліхадзейства, яго погляды на дабро і зло. На аснове Чачотавай балады А. Міцкевіч напісаў свае дзве балады — «Свіцязь» і «Вяртанне таты», творча падышоўшы да выкарыстання фальклорнага матэрыялу і даўшы свету класічныя ўзоры літаратуры рамантызму.

Балада Я. Чачота «Свіцязь» была напісана ў першай палове 1819 г. Пазней, ужо пасля выхаду «Балад і рамансаў» А. Міцкевіча (1822), куды ўвайшлі яго «Свіцязь» і «Вяртанне таты», Ян Чачот перапісаў і дапрацаваў сваю «Свіцязь». Прытым ён дапісаў да яе яшчэ невялікі ўступ (першыя тры шасціradкоўі). У гэтым уступе Чачот выказаў захапленне творамі свайго сябра, фантазія якога здолела «звіць» для свіцязянак аж «тры вянкі» — тут, відавочна, маюцца на ўвазе балады Міцкевіча «Свіцязь», «Свіцязянка» і «Рыбка». Разам з тым Я. Чачот папракнуў А. Міцкевіча за тое, што ён у сваіх баладах далёка адышоў ад фальклорнай асновы, занадта многа нафантазіраваў.

**«Да голуба».** Верш з «Малога архіва філаматаў». Напісаны ў турэмным зняволенні. Адрасаваны Зосі Малеўскай, якая маральна падтрымлівала Яна Чачота,

перапісваючыся з ім. Пераклад зроблены паводле выд.: Tygodnik Ilustrowany. — 1922. — № 22, 27 мая.

[1] Размова ідзе пра Зосінага брата Францішка Малеўскага. Яго арыштавалі ў Берліне (там ён удасканальваў свае веды) і прывезлі ў Вільню, дзе і «пасялілі» у адной з камораў францішканскага кляштара.

**«Развітанне Касцюшкі з Юліяй».** Песня напісана ў турме, відаць, перад развітаннем паэта з Радзімай — перад уральскай ссылкай. Аўтар адштурхнуўся тут ад папулярнай у той час песні пра развітанне Тадэвуша Касцюшкі са сваёй каханай перад ад'ездам яго ў Францыю, а потым у Злучаныя Штаты Амерыкі. Толькі каханую Касцюшкі звалі Людвікай Сасноўскай. Такі быў тады звычай — мяняць у творах сапраўднае імя героя. Песня спявалася ў рытме паланэза. Пераклад зроблены паводле выд.: Tygodnik Ilustrowany. — 1922. — № 22, 27 мая.

**«Яна далёка».** Верш напісаны ў ссылцы, на Урале. Прысвечаны Зосі Малеўскай. Пераклад зроблены паводле выд.: Rubon. — 1845. — T. V. — S. 139.

**«Толькі Айчына і Зося».** Верш быў уключаны ў цыкл «Зосіны песні», які 25 студзеня 1833 г. аўтар пераслаў з Таржка Міхалу Верашчаку для перадачы яго сястры Марылі Путкамер. «Перасылаю табе, — пісаў Ян Чачот, — сакрэтнічак песень. Перадай іх, калі ласка, сам ці праз самыя надзейныя рукі Марылі. Прашу, каб ніхто іх не перапісваў — я не хачу выстаўляцца з імі, хачу толькі спакою на зямлі, а як памру, то пасля маёй смерці, якой я ў маім горкім становішчы вельмі зычу сабе, застанецца нейкая па мне памятка. Будзь здароў і прашу перадаць дарагой Марылі мой самы шчыры паклон». Рукапіс «Зосіных песень» шчасліва захаваўся, не згарэў у пажарах войнаў. Цяпер ён знаходзіцца ў Музеі літаратуры ў Варшаве. Усяго ў ім — 36 песень, якія С. Свірка адносіць «да групы самых каштоўных лірычных твораў Чачота». Упершыню верш «Толькі Айчына і Зося...» пад назвай «Уцеха» быў надрукаваны ў віленскім часопісе «Rubon» (1845, т. 6). Толькі там замест «Айчына» напісана «радзіна» — «сям'я» (як відаць, маецца на ўвазе сям'я філаматаў).

**«Любым сялянам з-над Нёмана і Дзвіны».** Гэтым вершаваным прысвячэннем адкрываецца зб. Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny. — Wilno, 1840. — T. III.

**«Да мілых мужычкоў».** Верш напісаны па-беларуску каля 1845—1846 гг. Упершыню ў кн.: Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. — Wilno, 1846. — S. 62—63.

**«Каранацыя Міндоўга. 1252 г.».**

[1] Яткі — бойня, мясныя лаўкі на рынку.

[2] ...пляменнікаў дваіх — тут, як відаць, размова пра Таўцівіла і Эрдзівіла, у якіх Міндоўг адабраў іх уладанні ў мэтах умацавання сваёй улады.

[3] Як лічаць гісторыкі, хрышчэнне Міндоўга было палітычным манеўрам — імкненнем стаць каралём Літвы.

**«Віцень, вялікі князь літоўскі. 1283—1315 гг.».**

[1] Віцень (г. н. невядомы — каля 1316) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1293—1316). Шмат зрабіў для ўмацавання і пашырэння беларускай дзяржавы.

[2] Рыжскі архіепіскап быў супраць панавання крыжакоў над Рыгай, яго падтрымлівалі ў барацьбе з імі і рыжане, якія дапамаглі Віценю перамагчы нямецкіх агрэсараў.

[3] Рамнова — легендарная паганская святыня, дзе гарэў Зніч.

[4] Браўнзберг (альбо Бранева), Каліш, Добжын — гарады ў Польшчы.

[5] Як паведамляе Т. Нарбут, Віцень быў забіты громам. Яго цела адвезлі на капішча Свінтарога і спалілі там згодна з паганскім звычаем.

[6] Аўтар тут падкрэслівае, што з імем слаўнага збройнага рыцара Віценя звязана нараджэнне герба Пагоня.

**«Спаленне крыжака Руды ў часы Гедыміна. 1320 г.».**

[1] Як расказвае храніст Пётр Дузбург, а за ім — Мацей Стрыйкоўскі, 27 ліпеня 1320 г. пад Меднікамі адбылася вялікая бітва ліцвінаў з крыжакамі. Пасля перамогі над нямецкімі рыцарамі ліцвіны, аддаючы ахвяру аднаму з паганскіх багоў, спалілі на ахвярным агні аднаго з крыжацкіх военачальнікаў па імені Руда — на кані і ў поўным узбраенні.

**«Уцёкі Кейстута з Мальборга. 1361 г.».**

[1] Wer da ? — хто гэта? (ням.)

**«Пра князькоў Карыятавічаў у часы Альгерда. 1331 г.».**

[1] Карыятавічы — унукі Гедыміна, дзеці яго сына Карыяты Міхала, які ўладарыў у Наваградку. Гэта Юрка, Аляксандр, Тэадор і Канстанцін. У 1363 г. яны дапамаглі Альгерду разбіць татараў пад Сінімі Водамі, за што атрымалі ва ўладанне Падолле (на Украіне).

[2] Бэкат, Смотрыч (над ракой Смотрыч) — гарады на Украіне, якія ўтварыліся вакол пабудаваных Карыятавічамі замкаў.

**З прадмовы да кнігі «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны» (1844 г.)** Гэта прадмова да фальклорнага зборніка 1844 г., у якім апрача перакладаў беларускіх народных песень на польскую мову і ўласных беларускамоўных вершаў аўтара былі змешчаны і беларускія народныя песні ў арыгінале.

# ТАМАШ ЗАН
# (1796—1855)



Славуты грамадскі дзеяч і паэт Тамаш Зан паходзіў [redacted] тыповай беларускай шляхты. Сапраўднае прозвішча яго продкаў — Зань. Родавае гняздо Заняў — Радашковічы. Дзяды па матчынай лініі Далеўскія жылі ў мястэчку Узда. Усе яны былі ўніятамі.

Нарадзіўся Тамаш Зан 21 снежня 1796 г. у падмаладзечанскай вёсцы Мясата, дзе яго маці — жонка касцюшкаўскага паўстанца Караля Зана — спынілася на кароткі час. Дзяцінства Тамаша Зана прайшло на ўлонні беларускай прыроды. Гэта вёскі Селішча, Вязынь, Слабада, Выверы цяперашніх Вілейскага і Маладзечанскага раёнаў. Вучыўся ён у гувернёраў, пасля ў Уздзенскай парафіяльнай школе, Мінскай гімназіі і Маладзечанскай павятовай школе.

У 1815 г. Т. Зан паступіў у Віленскі ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт, вучыўся ён за ўласны кошт, таму адначасова займаўся гувернёрствам. Ва ўніверсітэце Т. Зан у першыя ж дні зблізіўся і назаўсёды пасябраваў з Адамам Міцкевічам, [redacted] якім арганізаваў славутае Таварыства філаматаў. З яго ініцыятывы было створана адгалінаванне гэтага згуртавання студэнцкай моладзі — Таварыства прамяністых, якое потым пераўтварылася ў Таварыства філарэтаў. Тамаш Зан адразу стаў старшынёй (прэзідэнтам) гэтага Таварыства. Мэтай усіх названых згуртаванняў беларускай шляхецкай моладзі была самаадукацыя, пашырэнне асветы ў краі, маральнае ўдасканаленне маладых людзей, падрыхтоўка іх да будучай барацьбы з царызмам за вызваленне Бацькаўшчыны. Гэтым арганізацыям аддаваў Зан увесь свой вольны час, усю маладую энергію. Сумленнасць, мужнасць і самаахвярнасць Тамаша Зана выдатна праявіліся ў час яго арышту і следства ў 1823—1824 гг., калі, выратоўваючы з бяды сваіх сяброў, у першую чаргу Адама Міцкевіча і слабога здароўем Юзафа Яжоўскага, усю віну за стварэнне і дзейнасць згуртаванняў моладзі ён узяў на сябе. Гэта падкрэсліваў і А. Міцкевіч, малюючы ў сваіх славутых «Дзядах» прывабны вобраз Т. Зана, прытым пад яго ж уласным імем. Вось якія словы ўкладвае вялікі паэт у вусны Тамаша:

> Я вамі кіраваў, каб збыць няволі путы,
> І абавязак мой — за вас прыняць пакуты.

Ён свядома, без нараканняў пайшоў на гэтыя пакуты. За арганізацыю віленскіх згуртаванняў моладзі і кіраўніцтва філарэтамі Тамаша Зана (а таксама Яна Чачота і Адама Сузіна) чакала самае суровае пакаранне: бестэрміновая высылка на Урал з папярэднім адбываннем там зняволення ў «крэпасці». Але турма і ссылка не зламалі «найпрамяністага», як называлі Тамаша сябры. Ён і там, адседзеўшы вызначаны

тэрмін у Арэнбургскай крэпасці, застаўся верны ідэалам маладосці. Нават прыняў удзел у тайнай арганізацыі рускіх рэвалюцыянераў у Арэнбургу, пра што цікава расказаў у сваім гістарычным рамане «Казённыя людзі» сучасны рускі пісьменнік Эрнст Сафонаў.

Толькі ў 1841 г. Т. Зану дазволілі вярнуцца на радзіму. Ажаніўшыся з маладой шляхцянкай з вёскі Маліноўшчына на Маладзечаншчыне, Т. Зан пасяліўся ў спецыяльна купленым для маладых маёнтку Кахачын у Аршанскім павеце, дзе і дажыў да канца сваіх дзён. Памёр ён у 1855 г., пакінуўшы пасля сябе трох сыноў.

Тамаш Зан заслужыў нашу пашану не толькі як змагар супраць царскай тыраніі, як будзіцель грамадскага руху за разняволенне сваёй зямлі. Вельмі важная яго роля і ў нашай культуры. Ужо ў студэнцкія гады ён праславіўся як цікавы паэт. З-пад яго пяра выйшла нямала паэм, балад, вершаў, трыялетаў, элегій, песень і іншых твораў. Найбольш значныя з іх — камедыя «Грэцкія піражкі» (1817), паэма «Табакерка» (1818), балады «Цыганка», «Свіцязь-возера» і інш. Асабліва вялікая заслуга Т. Зана ў тым, што ён адзін з першых звярнуўся да вуснапаэтычнай творчасці роднага яму беларускага народа як важнай творчай крыніцы.

Як і ўсе філаматы і філарэты, Тамаш Зан добра ведаў і шанаваў беларускую мову, шырока выкарыстоўваў яе элементы ў сваёй польскамоўнай творчасці. Ёсць усе падставы меркаваць, што і ў яго самога былі беларускія вершы. Але яны толькі выпадкова маглі б дайсці да нас, бо іх не было дзе друкаваць. Ва ўсякім разе, намеры такія ў яго былі. Магчыма, дзе-небудзь у архівах пыляцца нікім не чытаныя творы «найпрамяністага» на беларускай мове. Вывучэннем яго літаратурнай спадчыны ніхто ў нас яшчэ па-сапраўднаму не займаўся.

*К. Цвірка*

## ТАБАКЕРКА

(фрагменты песні II)

24
Прыгорблены векам, на твары — маршчыны,
У доме ля ціхіх прысад
Жыў барскі вой-канфедэрат[1]
Зміры ўшыся з доляй забранай айчыны,
Рамёствамі дома ён бавіў хвіліны,
Бо хлеб здабываць сам быў рад.
Ён з лубу — не знаць бы нягод —
Рабіў табакеркі шмат год.

25
Шторанку, уздзеўшы на нос акуляры,
Ён на табакерцы сваёй
Выколваў іголкай стальной
Дзівосы з дзівосаў.
Спачатку абшары
Палеткаў абводзіў, узгоркі, імшары,
Будынкаў аддаленых строй.

А потым пад ціхі свой спеў
Над сцэнкамі з быту карпеў.

26
Во тут — пахаванне відаць Свінтарога[2].
Жрацы яго цела кладуць
На лому касцёр. Там — вядуць
У путах паліць збраяносца, ў якога
На твары — пакора, у зрэнках — трывога.
І конь тут іржэ — аддадуць
Агню і яго. На кастры
З ім сокал згарыць і харты.

27
Пад спевы падпальваюць жарам, што ззяе,
Унь лому вялікі той стос,
І дым устае да нябёс.
Сям'я у агонь языкаты кідае
Звяроў кіпцюры — завядзёнка такая.
На тварах ва ўсіх — кроплі слёз...
Пра ўсё гэтак хораша там
Іголка расказвала нам.

28
А побач сялянскае бачым вяселле.
Глянь, колькі прывабных дзяўчат!
І хлопцаў удалых там шмат.
З прытоптваннем скачуць.
Ажно ўсе ўспацелі.
Нявесту, што ў бантах, унь дружкі абселі.
На плечы спадаюць не ў лад
Аж тры ручаі яе кос.
Трэ вочы яна ўжо — для слёз.

29
У кужаль адзеты, там сват урачыста
У двор уязджае, за ім
На конях дружкі з маладым —
Уборы святочныя, шапкі фарсіста
Ва ўсіх набакір. З імі к хаце святлістай
На гожым вазку распісным
І музыка едзе — пабач,
Як смыкам там рэжа скрыпач.

30
Там цеста замешваюць для каравая
У дзяжы маладзіцы з сяла;
Стрыгуць валасы ля чала
Нявесце — дзяжу яна тройчы кранае,

Пасля тры разы ў кут паклон адбівае,
Абходзячы вокал стала.
І чары, і кут, і сталы
Выколваў наш майстар стары...

32
Чало яго зноўку натхненне пагодзіць.
Іголка на мяккай кары
У лесе пры светлай зары
Літоўскія німфы — русалкі — выводзіць;
У іх валасы аж да пятак даходзяць,
А грудзі — зірні і памры!
Іх чары хлапца аплялі —
Гайдаюць яго на галлі...

37
Цяпер зноў вяртаемся з майстрам у сёлы:
З канём сваім за небакрай
Унь гоніць барозны ратай;
А побач — ад жнеяў стракацяцца долы;
Касец славіць працаю ранак вясёлы;
А там — гаспадыняў пазнай;
Хто доіць карову ў двары,
Хто масла б'е, цісне сыры...

40
А гэта вясёлае свята — Купала.
Палае агонь ля ракі.
Дзяўчаты пры ім, дзецюкі.
Спяваюць і скачуць. Тут жартаў нямала.
Праз полымя скокнуўшы, любым з запалам
Даруюць падпал смельчакі.
А збоку матулі сядзяць —
На пары каханкаў глядзяць.

41
Тым часам дапяў унь да курнае хаты
Нячысцік: і чартапалох
Спужаць яго нават не мог —
Лятаюць навокала мётлы, лапаты.
А ведзьма грамніцу ўжо зубам клыкатым
Надкусвае, мчыць з усіх ног.
Забраўшыся ў хлеў па страсе
Ў кароў малако — гляньце — ссе...

*1818*

## СВІЦЯЗЬ-ВОЗЕРА

За поўнач. У воблаках тоне
Дзесь месяц. У цемрыве — далі.
Спяць людзі. Сны чэпкія сёння
Ў палон горад Свіцязь забралі.
І гожая Пракса ў пакоях
Заснула. Ды штосьці кашмары
Ёй сняцца. Якіясь пачвары
У сон ёй плывуць чарадою.
У сполаху веек праменні
Раскрыла. Глядзіць у здзіўленні.

Служанку заве: — Марта! Марта!
Хтосьь ходзіць!.. Што блішча такое?
— О пані, баяцца не варта:
Спакойна ўсё, ціха ў пакоях...
Крый Бог... ці тут грэх які, можа?.
— Сон сніўся мне... Страшныя здані.
— Сон — глупства. Не бойцеся, пані!
— У сне і Вайцех быў... О Божа!
Што з ім?.. Я памру ад трывогі!..
Ажно гаварыць няма змогі...

Пайшоў ён, ты ж бачыла ўчора
Тужлівы якісь, задуменны.
Дрыжу я: мо гэта — на гора —
Ў яго да мяне перамены?
«Хто Праксу ўзяць хоча за жонку, —
Яму перад тым я казала, —
Мець грошай павінен нямала...»
О сорам! Хоць кінься ў палонку!
Пагарды я варта за тое!
Ці мо ён задумаў ліхое?

— Не, пані, хто шчыра кахае
(А шчырасць яго нам вядома),
Той кепскага ў сэрцы не мае,
Той ліха не ўчыніць нікому.
Каханне — душ светлых праява —
Да дзеяў шляхетных схіляе.
Яго яшчэ больш узвышае
«Айчына, цнатлівасць і слава».
Ў Вайцеха ў душы — лозунг гэты:
Даб'ецца ён працаю мэты

— Мне снілася, Марта, ліхое:
Вайцех на дарог скрыжаванні,
Дзе слуп, стрэў парою глухою
Купца... Не, былі то не здані...
Кроў бачыла... Чула там крыкі...
— Не бойцеся... Сон дзіўны пані
Чуллівае сэрца параніў.
— ...Бы нёс ён жмут грошай вялікі...
І крыкнуў скрозь грому раскаты:
«Ты — жонка мая: я — багаты!

Мінуўся ўжо час той найгоршы —
Мы разам! Канец безграшоўю!»
Спытала я: «Скуль тыя грошы?»
А ён у адказ: «Скарб знайшоў я!»
Я ледзь не самлела ад страху!
Палезлі зноў прывіды-мары,
Страшыдлы якіясь, пачвары...
Трасуся й цяпер я у жаху!
— Не бойцеся... Сон дзіўны пані
Чуллівае сэрца параніў.

Гадзіннік б'е пяць, чорны полаг
Начы ўжо святлее — зірніце.
Рып весніц ды брамаў наўкола
Чуваць — устае горад Свіцязь.
— Спакой трэба пані... Трывога
Мінецца — калі няма грэху.
Свяціць будзе ўдача Вайцеху —
Прасіць толькі трэба нам Бога.
Ахвяру касцёлу дасць пані —
Ізноўку вясёлая стане.

Так Пракса і робіць. Трывогі,
Тых жахаў пазбыцца жадае.
Дзень моліцца шчыра.
З дарогі Вайцеха свайго выглядае.
І вось ён, прыгожы і стройны,
Вітае яе на парозе.
Ды Пракса чытае ў трывозе
Журботу ў вачах яго мройных.
Убачыла й бледнасць на твары
І ўсе на душы яго хмары.

— Ну, Пракса, — сказаў, — твае словы
Я здзейсніў: во — грошы-дукаты!

І сёння, паводле умовы,
Ты — жонка мая: я — багаты!
Мы разам! Канец безграшоўю!
Мінуўся ўжо час мой найгоршы.
— Вайцех, дзе ж ты ўзяў тыя грошы?
— Дзе ўзяў? — уздыхнуў. —
Скарб знайшоў я. О Пракса!
Ад сёння — мая ты!..
Ты — жонка мая!.. Я — багаты...

Забыта ліхое ва ўцехах.
Каханне цяпер — у зеніце.
Пра скарб той, пра шчасце Вайцеха
Гаворыць увесь горад Свіцязь.
Вось да алтара ўжо ў дзень шлюбны
Вядуць пад вянец іх, найгожых.
Ды ім у харомах у Божых
З зямлі голас чуецца згубны:
— Ты, Божа, таму ягамосцю
За кроў маю, кату, адпомсці!

Бляднеюць абое, ў іх сэрцы
Разгубленасць ксёндз заўважае.
Укленчваюць вось на каберцы,
Ды голас іх зноў насцігае,
Ідзе ён з-пад стропаў святыні:
— Запомні, забойца: як пройдзе
Тут дваццаць гадоў, цябе знойдзе
Адплата, а горад — загіне.
Вайцех жа: — Канец безграшоўю...
— Ляпеча сабе. — Скарб знайшоў я...

У час гэты вестка наўкола
Пайшла, што купец недзе згінуў...
Ідуць маладыя з касцёла
Паўз слуп той начною часінай.
І чуюць — аж дыбіцца волас:
— Ты, Божа, таму ягамосцю
За кроў маю, кату, адпомсці.
А з неба адказвае голас:
— Праз дваццаць гадоў ён павінен
Адказ даць... Тады й горад згіне...

Ды, шчасце п'ючы, маладыя
Той голас суровы не чуюць.

Да розных прысудаў глухія,
Яго да сябе не стасуюць.
У шчасці мчыць хваля за хваляй,
За годам зноў год пралятае.
Змяняецца ўсё, адцвітае,
Знікае за далямі ў пыле.
Ды помніць сон Праксін служанка.
— Даруй, — моліць Бога, — каханкам.

Нясе за ахвярай ахвяру —
Хаця б адмяніў літасціва
Панам яе й Свіцязі кару:
Жыццё хай квітнее шчасліва...
Гады ім каханне салодзіць,
Благога ніхто не чакае.
Ды дваццаць гадоў пралятае,
Прызначаны час той прыходзіць.
Пра гэта, аддаўшыся ўцехам,
Не ведаюць Пракса з Вайцехам.

Жывуць як жылі — без турботы.
Не знаюць ні звадаў, ні сваркі
Дзятве не шкадуюць пяшчоты...
На небе жыцця іх — ні хмаркі.
Ды вось ад крывавых аблокаў
Удзень стала цёмна, бы ўночы.
Пярун б'е з нябёсаў, грукоча,
Маланкі шугаюць навокал.
Кідаецца Пракса ў адчаі
К Вайцеху, за рукі хапае:

— Мо зноўку той сон нехарошы?..
Не, ява!.. Вайцех, адкажы ты:
Дзе ўзяў перад шлюбам ты грошы?
Купец не табой быў забіты?..
— Я скончыў тады з безграшоўем...
Мінуўся быў час наш найгоршы...
— Ты праўду скажы: дзе ўзяў грошы?
— Што ж, ведай: праліў тады кроў я...
— О Божа!.. — Яна, як сядзела,
Спаўзла на падлогу — самлела.

Трасецца зямля, захадзілі,
Бы ў трасцы, дамы — о нябёсы!
Званы не сціхаюць ні хвілі.

Шум, крык устае шматгалосы.
Вайцех на віхуру на гэту
Глядзіць у здзіўленні, а бура
Змятае з зямлі мур за мурам.
І раптам — канец, можа, свету? —
Расколвае дол, і — о гора! —
Ляціць у бяздонне ўвесь горад.

Умомант там возера стала —
У Свіцязі ўбачыш аблокі.
І сёння вандроўнік нямала
Пачуе пра час той далёкі.
Ён тут зразумее: каханне,
Што нашу душу узвышае,
Да ліха прыводзіць, бывае...
Хвала вам, цнатлівыя пані,
Вы варты высокага слова,
Бо цнота — красы ёсць аснова.

*1829*

## ПРАМОВА НА ПЕРШАЙ МАЁЎЦЫ ПРАМЯНІСТЫХ 6.V.1820

Брацця, сыны, аднаверцы! Якая ж вас сіла
З цёплай пасцелі ўзняла, уначы пабудзіла?
Што за прамень залаты вас паклікаў у поле?
Што вы шукаеце тут, як сляпыя без долі?
Што, адкажыце? Але — хто шукае, той знойдзе,
Стукай — адчыняць, а той, хто ідзе, той і дойдзе!
Той, хто працуе, мець будзе і хлеб і да хлеба.
Працу аплоцяць яго — хай не людзі, дык
Неба. Хто да навукі прыхільны, хто шчыры, цярплівы,
Хто спагадае людзям, хто сумленны, цнатлівы,
Хто чарнаты ў сваім сэрцы не мае ні звання,
Хай той прыступіць цяперака да цалавання[1].
Брацця, сыны, вы, сябры прамяністае славы,
Што вам тут трэба, скажыце? Забавы? — «Забавы!!!»
Добра, ды дзе лоб трохкутны[2] ўсім вам на пацеху
Жартаў такіх набярэ ды вясёлага смеху?
Як жа ён твары ўсім вам распагодзіць, дасць рады
Тым, хто не рады сабе і нікому не рады?
Хто весялосці ні зерня ў душы не пасее,
Хто ані ў кога з нас светлага ўбачыць не ўмее...
Не разумее, як быць у наш час неласкавы,
Што ж за карысць нам усім во ад гэтай забавы?

Гледзячы ў неба, на хмары, на тое сузор'е,
Можна дазнацца пра змену вятроў, пра надвор'е,
Зведаць, дзе промні збіраюцца ў сініх глыбінях,
Як яны граюць вясёлкамі там, у вышынях,
Можна пазнаць чалавека, яго прызначэнне,
Долю яго, думак лёт, да высотаў памкненне,
Ну, а яшчэ — як народы жылі ў сваім часе,
Скуль тыя лаўры ў герояў, хто быў на Парнасе,
Хто нашы продкі, якія былі ў іх турботы,
Доля, нядоля якая, і вусны, і боты,
Шаблі якія і шапкі, якія рубронты[3]?
Хто быў Чарнецкі[4] такі? А Хмяльніцкія[5], Гонты[6]?
Як вызнаваў тут Карпінскі[7] тэорыю промняў,
Як верш Трамбецкага[8] кожны ў нас помніў,
Як жыў Адам пышнавусы[9], Красіцкі[10] святлісты,
А Шыманоўскі[11] — паэт гэты найпрамяністы...
Як яшчэ іншыя... Ды палічыць іх — дзе меры?
Як тут аралася плугу... Як — et caetera...[12]
Ды... як дзяўчаты кахаліся тут прамяніста,
Чыста і надта агніста, агніста і чыста.
Гэта ўсё скарбы, ад продкаў набытак выдатны,
Што для забаў прамяністых аж надта прыдатны.
Каб не было толькі ў нас тут тугі і дакукі,
Што ж нам шукаць усім трэба? Навукі? — «Навукі!»
Як жа мне радасна чуць воклiч ваш шматгалосы!
Еднасць тут сэрцаў сяброўскіх. Нас чуюць нябёсы!
Ясны прамень! Ты, што кінуты ў сэрцы звысоку,
Што цэлы свет наш злучаеш, адкрыты для зроку,
Што ўсю зямлю ажыўляеш, каханне тут родзіш,
Гоніш распуства і хцівасць, жыццё нам салодзіш,
Што, азараючы душы святлом зіхатлівым,
Робіш няўзнак чалавека прыгожым, шчаслівым,
Будзь блаславёны!.. Літоўскага хлопца да сонца
Ты падымаеш, яго, свайго краю ўлюбёнца,
Клічаш вучыцца... Ды што нам такі муж вучоны,
Што не патрапіць складаць нават музыкі тоны,
Што па навуку ідзе дзеля ўласнай кішэні
Ці ад нуды — што яму нашы мары-памкненні!..
Важны, пыхлівы, з пагардай на твары заўсёднай,
З сэрцам нялюдскім, з душой недаступнай, халоднай.
Жмот і прадажнік, у мех свой, што бачыць, хапае,
А дзе галоднага енк — вушы ўраз затыкае,
Бачыць заслугу ў хлусні, ашуканстве, імкнецца
Цела пацешыць лянотай — ён з працы смяецца,
Слова яго — пустата: ані гроша не значыць,

Хібы бічуе паўсюль, а сваіх — і не бачыць.
Гідкі нахабнік, да кожнага лезе сляпіцай,
Невук, цямнота з цямноты, тупіца тупіцай!
Без дабрадзейнасці, цноты — няма пашаноты!
Ну дык чаго ж не стае йшчэ нам? Цноты мо? — «Цноты!»
Вось і ўся сутнасць прамення. Яго ўсе ясноты.
Што ж вы хацелі? Забавы, навукі і цноты!
Брацця, сыны, аднаверцы, сябры адной долі!
Хочаце чыста вы стаць усе ў промняў касцёле?
Хочаце ведаць высокага шчасця імёны?
Думкі ўсе тыя, якімі я сёння натхнёны?
Перш ад кахання свайго ахвяруйце тры фунты,
Каб усе дзіркі залатаць, забіць бы там шпунты,
Скуль выбягае гультайства, нікчэмнасць, цямнота.
Хай да навук узгарыцца ва ўсіх вас ахвота!
Светлую мэту пазнайце... Ёсць вушы ў вас, вочы,
Сэрца, душа... Ну, а зайздрасць пакіньце на ўзбоччы.
Дайце спачыць языку, думцы ж — вольную волю.
Лоб і рука — для айчыны: хай вернуць ёй долю.
Потым прыязна далоні падасць хай брат брату...
Мець балдахін яшчэ трэба — для цела, для спрату...
Менш балбатаць, больш рабіць — вам парада такая.
Вагу[13], Нямцэвіча, Бандтке[14] хай кожны чытае.
Хай прамяністыя лезуць вам веды ў галовы,
Эля[15] хай чуе ад вас толькі гожыя словы...
Бліжнім усім памагаць хай нам будзе прыемна.
Маладзіка зменіць поўнік. Так, як і ўзаемна...
Сэрца праўдзівыя словы ва ўсіх нараджае...
Любую ў доле сырым хай душа не кідае.
Пробуй пяра свайго згук, не лічы за змест шаты,
Вольнасць дай хлопам — сам будзеш шчаслівы, багаты.
Працу шануйце ўсе, музыкі сілу пазнайце,
Ніткі пачатак-канец — у клубку пашукайце...
Трэба ўсё зведаць нам — кола, пас, эліпс, каменьчык,
Вочы, каханне, адчай, смеласць, вершы, праменьчык...
Правіла знайце: зялёныя ягады ў садзе
З часам паспеюць — па мудрай прыроды раскладзе.
З статкаў малых вырастаюць чароды, прымецім...
Два мінаваўшы кругі, я прысяду на трэцім
І прамяністасць усю нанясу на паперу.
Зараз пачнём «Ойча наш», «Прывітана будзь», «Веру».

*1820*

8 Зак. 1799

## ПЕСНЯ З ТУРМЫ Ў ВІЛЬНІ

Каб арліныя мне крылы,
Тут жа б я — хай згуба —
Паляцеў праз небасхілы
Да цябе, да любай.

Сэрца ў жалю, ў смутку вочы.
Без цябе, дзяўчына,
Дні мае — нібыта ночы,
Нібы год — хвіліна.

Покуль жыць мне Бог дазволіць,
Буду, закаханы,
У няволі, у нядолі
Я табе аддавы.
Нас разлучаць назаўсёды,
З іншым шлюб твой будзе,
Ды цябе праз дзён чароды
Сэрца не забудзе.
І калі ў знямозе крылы
Я складу пад жвірам,
Мо ўздыхнеш хоць ля магілы:
«Так кахаў ён шчыра».

*1823*

## ТРЫЯЛЕТ

Зося, ты не плач па птаху:
Міг — жыццё яго на свеце.
Прымем долю й мы без страху.
Зося, ты не плач па птаху.
Згіне птах, спаткаўшы плаху,
Трапіць іншы ў сонца сеці.
Зося, ты не плач па птаху:
Міг — жыццё яго на свеце.

## У АЛЬБОМ СТАФАНА ДАМБРОЎСКАГА[1]

На камені выбітае імя
Чытае ў задуме прахожы.
Вось так прачытае сяброў сям'я
І верш мой некалі, можа.

І ты з імі ўспомніш паўночны віхор,
Што нас разлучыў, гэту восень.
Знай: хоць я на свету краі, каля гор,
Ды сэрца ў Літве засталося.

*Пры развітанні ў час выезду на выгнанне 13 верасня 1824 г.*

## МІНЧУК

Песня на матыў: «Мікіта чы та-та»

1
Анюта,
Мілюта.
Лепей спеў,
Чымся гнеў.
Бровы хмурыць, вочкі жмурыць.
Анюта-мілюта.

2
Плакаць — грэх,
Неба — смех.
Адкрый губкі — дзе там зубкі?
Шаль ядвабны, тварык вабны.
Анюта-мілюта.

3
Яшчэ раз
Глянь на нас!
Глянеш — дзень яснее хмуры,
Свеціць сонца пасля буры.
Анюта-мілюта.

4
Сум — убок!
Хто ў танок?
Жыць дык жыць: гуляць, кахацца,
З мілай, з гожай цалавацца!
Анюта, мілюта.

*1836*

## З ВЫГНАННЯ

З дзённіка 1824—1832 гадоў

*17 ліпеня 1827 г.* Атрымаў пісьмо ад Сузіна, які паведамляе пра выезд свайго таварыша Дамініка і наракае на спякотныя дні і поўную адсутнасць дрэў і зяляніны. Пісаў пісьмо Ігнату. Збіраў насякомых. Думалася: вывучу паводле Эверсмана[1] іх наменклатуру, апішу, упарадкую і пашлю ва Універсітэт

у знак маёй удзячнасці да гэтай навучальнай установы і пашаны да Баянуса[2]. Аднак у мяне мала для гэтага патрэбнай цярплівасці, вопыту.

Думаў напісаць песні для нашага люду, прыстасаваныя да кожнай пары года, да традыцыйных работ, пра пачуцці, якія яны выклікаюць, але — няма натхнення...

*24 ліпеня.* У чацвер раніцай прыехалі мы ў Праабражэнскі Завод, вёску, якая знаходзіцца на паўночны ўсход ад Андрэеўкі. Сонца ўжо ўзышло. Пасля начнога дажджу нас добра бадзёрыла здаровая свежасць паветра. Зялёная даліна, расквечаныя стэпы, горы — усё падымала настрой і абуджала салодкія, аж да слёз успаміны пра родны край, пра маладосць, пра Бортнікі[3]. Гэтыя пачуцці выказваў я ў шчырых пачуццях да Бога і ў песнях, якія хацелася спяваць.

Берагі Акбэрды ўражваюць прыгожымі малюнкамі рознай формы гор, зарослых зялёнымі гаямі, дзе раскашуюць бярозы, ліпы, дубы, вязы і інш. Гэтыя дрэвы ўкрываюць схілы, а часам далёкія вяршыні гор, радуючы вока сваёй разнастайнасцю і красою. Ажыўляюць пейзаж і чароды свойскай жывёлы, што вольна пасецца ў далінах. Ржанне коней і рыканне кароў наводзіць на думку, што тут — месца качэўяў.

Другая палова дарогі — недзе каля 30 вёрстаў — ішла лесам. Лясы нагадвалі мне родныя мае мясціны — Мясату, Вязынь, Іверы. Толькі яны, гэтыя лясы, у асноўным зялёналістыя, пераплеценыя з лістоўніцай, ужо не выклікалі таго прыемнага страху, як некалі ў маленстве нашы бары. Зрэдку траплялiся палянкі, а потым зноў ішлі лясы, якія расцягнуліся па далінах і гарах вёрст на трыццаць і болей. Аднак яны не робяць тут уражання бясконцасці, наадварот, вунь там лес кончыўся і пайшоў зялёны дыван, які ўкрыў частку стэпаў. Коні пачалі стамляцца, але замяніць іх не было дзе. Патрохі пякло ўжо сонца. Але ехаць было можна. Мне пачувалася добра.

Праабражэнскі Завод — гэта вёска з трохсот хат на каменнай гары каля Зелніра. Берагі яе надзвычай прыгожыя і адразу прыцягваюць увагу падарожніка. Гэта велічныя каменныя горы. Глянеш адзін раз — здаецца, перад табой мармуровая сцяна, складзеная з агромністых пліт, другі раз глянеш — быццам там выштукаваныя таксама з доўгіх пліт калоны, выкладзеныя так, каб сваімі зменлівымі краямі ўтваралі то гладкія, то няроўныя прызмы. З расшчэлін лезе мох, бярозы, хвойкі і лістоўніцы. Розных колераў камяні, расліны і дрэвы дадаюць прыгажосці і разнастайнасці пейзажу. А ён увесь час мяняецца: глянеш з другога месца — ён ужо іншы. Над ляснымі схіламі там-сям відаць у гарах невялікія раўніны, па якіх гуляюць жвавыя чароды белых коз.

Усе вяскоўцы змушаны працаваць каля завода. За работу ім плоцяць адзін раз на год, не болей 60 рублёў кожнаму. Рабочых там — звыш 1000. Яны выплаўляюць больш 12 000 пудоў медзі, якая прадаецца па 40 рублёў. Завод належыць Гушутнікаву, кіруе ім Карэлін, малады, малаадукаваны, але рухавы і разумны хлопец. Усе — майстры сваёй спецыяльнасці, ніхто не можа расказаць пра ўвесь працэс работы завода. Руду шэрага колеру разам з вугалем і іншым палівам плавяць у печах. Кавальскія мяхі прыводзяць

у рух сілай вады. Такіх печаў шэсць. Пасля хімічнага аддзялення медзі ад дамешак у першай печы яна плавіцца ў другой, асобнай печы, адкуль дастаўляецца ў трэцюю печ, з якой ужо выходзяць пліты. Дзясятая частка медзі аддаецца ў казну.

Назаўтра, у пятніцу, ездзілі мы ў грыбы — грузды. Белыя, брыдкія. Іх тут соляць. Вярнуўшыся, я пайшоў паблукаць па беразе ракі. Суніцы растуць тут у недаступных месцах, бачыў я іх і на магілах. Па скалах шуміць ручаёк, белымі, як малако, грабянямі выступае сярод лубковых камянёў кварц. Калі вярталіся назад, стары Дубавецкі прыгадаў польскія песні. Я. Цялкоўскі і ён са слязамі на вачах спявалі: «Божа ў дабраце», «Зося, ах, цябе мы ўжо трацім», мазуркі. Аж прыемна было.

Са смуткам, з прыкрасцю і страхам чытаў я ў газетах данясенне камісіі пра польскія патрыятычныя таварыствы — там згадваецца ў прыпісцы і маё імя.

У імгле свяціў месяц. Назаўтра, нягледзячы на дождж, мы варочаліся... дамоў. Ехалі аж да поўначы. У месячным святле, а потым у начной цемнаце тыя самыя горы і даліны глядзеліся зусім па-новаму.

У сябе ў кватэры я знайшоў пісьмы Сузіна і Чачота. Апошні ізноў узлаваў мяне сваімі капрызамі.

Сёння чытаў у асобным выданні данясенне той камісіі[4].

Не ведаю, што са мною будзе...

## Каментарыі

**«Табакерка».** Паэма «Табакерка», якая першапачаткова называлася «Смерць табакеркі», засталася нясконччанай. Друкавалася ў кн.: Poezja filomatów. — T. 1. — S. 283—307. Асобныя матывы паэмы скарыстаў А. Міцкевіч у «Пане Тадэвушы». Пераклад з польскай мовы гэтага і ўсіх іншых твораў Т. Зана К. Цвіркі.

[1] ...барскі вой-канфедэрат — Барская канфедэрацыя — узброены саюз шляхты, духавенства і кіраўнічых колаў Рэчы Паспалітай, накіраваны супраць уплыву расійскага царызму на палітыку каралеўскага ўрада. Заснавалася канфедэрацыя ў горадзе Бар на Падоллі (Украіна) — адсюль і назва. У 1772 г. войскі канфедэратаў на чале з вялікім гетманам літоўскім Міхалам Казімірам Агінскім былі разбіты Аляксандрам Суворавым каля мястэчка Сталовічы (паблізу Баранавіч).

[2] Свінтарог — легендарны князь, прах якога, паводле падання, у 1265 г. быццам бы быў спалены на месцы цяперашняга кафедральнага сабора ў Вільні. Сын Свінтарога Гермунт заснаваў там капішча Перуна — язычніцкага бога грому і маланкі, які атаясамліваўся з Зеўсам і Юпітэрам.

**«Свіцязь-возера».** У аснове твора — пачутае Занам у народзе беларускае паданне пра затапленне горада Свіцязь. Гэта паданне Зан паведаў Яну Чачоту. Чачот першы напісаў пра гэта баладу. За ім — Адам Міцкевіч, а потым ужо і Тамаш Зан. Такім чынам, тры сябры-паэты скарысталі ў баладах адзін і той жа сюжэт. Чытач мае магчымасць параўнаць гэтыя тры баллады, убачыць падыходы да выраіэння тэмы ў кожнай з іх, асаблівасці творчай манеры Яна Чачота, Адама Міцкевіча і Тамаша Зана.

Усёй сваёй баладай, напісанай лаканічна, без асаблівых лірычных адступленняў, Тамаш Зан праводзіць адну галоўную думку: на чужой бядзе нельга будаваць уласнае шчасце, любое злачынства рана ці позна будзе пакарана.

**«Прамова на першай маёўцы прамяністых. 6.V.1820».** Вершаваная прамова была спецыяльна напісана да выступлення на маёўцы Таварыства прамяністых 6 мая 1820 г. Друкавалася ў кн.: Towarzystwo filomatów. — Kraków, 1924. — S. 170—173.

[1] Цалаванне — адзін з рытуалаў прамяністых: сябры Таварыства па чарзе падыходзілі да старшыні (Тамаша Зана) перад пачаткам маёўкі і цалавалі яго, засведчваючы тым самым адданасць Таварыству прамяністых.

[2] Лоб трохкутны — так услед за сябрамі жартам называе сябе Тамаш Зан, які меў своеасаблівую канфігурацыю галавы.

[3] Рубронты — род шоўку, што скарыстоўваўся ў сёдлах.

[4] Стафан Чарнецкі (1599—1665) — военачальнік Рэчы Паспалітай, які праславіўся ў многіх бітвах.

[5] Хмяльніцкі Багдан (каля 1595—1657) — дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, гетман Украіны.

[6] Гонта Іван (г. н. невядомы — 1768) — адзін з кіраўнікоў сялянскага паўстання 1768 г. на Правабярэжнай Украіне, накіраванага супраць польскай шляхты.

[7] Карпінскі Францішак (1741—1825) — паэт, адзін з пачынальнікаў сентыменталізму на польскай мове, доўгі час жыў і быў пахаваны на Беларусі.

[8] Трамбецкі Станіслаў (1739—1812) — польскі паэт, якога высока цанілі філаматы, у тым ліку Т. Зан і А. Міцкевіч.

[9] Адам пышнавусы — пра якога Адама тут гаворка, не высветлена.

[10] Красіцкі Ігнацы (1735—1801) — вядомы паэт і празаік, адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў польскага Асветніцтва.

[11] Шыманоўскі Юзаф (1748—1801) — польскі паэт.

[12] І гэтак далей (лац.).

[13] Вага Тэадор (1739—1801) — польскі гісторык.

[14] Відаць, маецца на ўвазе Бандтке Ежы Самуэль (1768—1835) — польскі гісторык, мовазнавец і бібліёграф. Адна з яго прац — «Гісторыя друкарняў у Каралеўстве Польскім і ў Вялікім княстве Літоўскім» (1826).

[15] Эля — Ізабэла Лучкова, па якой уздыхалі многія студэнты Віленскага ўніверсітэта.

**«Песня з турмы ў Вільні».** Друкаваўся верш у кн.: Towarzystwo filomatów. — Kraków, 1924. S. 419.

**«Трыялет».** Друкаваўся там жа. Як і папярэдні твор, «Трыялет» напісаны ў турэмным зняволенні. Прысвечаны маладой і прывабнай дачцэ рэктара Віленскага ўніверсітэта Шымана Малеўскага Зосі, якую кахаў Т. Зан, а таксама Я. Чачот.

**«У альбом Стафана Дамброўскага».** Друкаваўся ў выд.: Archiwum literackie. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1963. — T. VII. — S. 69—70.

[1] Стафан Дамброўскі — сябар Таварыства філарэтаў, Занаў паплечнік.

**«Мінчук».** Друкаваўся ў тым жа выд. S. 117. Як мяркуецца, гэты твор паэт прысвяціў сваёй вучаніцы Анюце Цялкоўскай.

**«З выгнання. З дзённіка 1824—1832 гадоў».** Пераклад зроблены паводле кн.: Tomasz Zań. Z wygnania Dziennik z lat 1824—1832. — Wilno, 1929. — S. 90—93.

[1] Эверсман Эдуард Аляксандравіч (1794—1860) — рускі натураліст, член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук. З 1828 г. прафесар заалогіі і батанікі Казанскага ўніверсітэта.

[2] Баянус Людвік Генрык — доктар медыцыны і хірургіі, прафесар ветэрынары Віленскага ўніверсітэта ў 1807—1824 гг.

[3] Бортнікі — маёнтак Слізеняў, дзе часта бывалі Т. Зан, Я. Чачот і іншыя філаматы і філарэты.

[4] «Донесение следственного комитета». — Варшава, 1827.

# АДАМ МІЦКЕВІЧ
## (1798—1855)



«Певцом Литвы» называў свайго сябра Адама Міцкевіча славуты Аляксандр Пушкін. Згадваючы яго падарожжа па Крыме, вялікі рускі паэт у дадатку да «Яўгенія Анегіна» заўважыў галоўны пафас Міцкевічавай паэзіі:

Там пел Мицкевич вдохновенный
И, посреди прибрежных скал,
Свою Литву воспоминал.

«Літвой» А. Міцкевіча была Беларусь, яго родная Наваградчына. У беларускай зямлі — усе карані А. Міцкевіча. З беларусаў, ад далёкага продка Міцькі, паходзіць увесь род Міцкевічаў. Тут, на Беларусі, нарадзіліся і жылі яго бацькі — маці Барбара Маеўская (вёска Чамброва на Наваградчыне) і бацька Мікалай Міцкевіч, мінскі каморнік і наваградскі адвакат, — тыповая беларуская «шарачковая» шляхта. Тут, на хутары Завоссе (цяпер Баранавіцкі раён), 24 снежня 1798 г. убачыў свет і Адам Міцкевіч.

З Завосся бацькі неўзабаве перабраліся ў павятовы горад Наваградак. Тут юны Адам скончыў школу святых айцоў дамініканцаў, дзе вучыўся разам з Янам Чачотам, з якім пасябраваў на ўсё жыццё. На канікулы дзеці Міцкевічаў выязджалі спачатку ў Завоссе, да дзядзькі, а потым у недалёкі ад Наваградка маёнтак бацькавага сябра суддзі Растоцкага — Руту. Нездарма паэт называў потым сваё маленства «сельскім, анёльскім».

Пасля заканчэння Наваградскай школы ў 1815 г. малады А. Міцкевіч падаўся на вучобу ў Віленскі ўніверсітэт на фізіка-матэматычны факультэт. Тут разам з Тамашом Занам і Юзафам Яжоўскім ён стварае тайнае студэнцкае згуртаванне — Таварыства філаматаў, якое адыграла важную ролю ў грамадскім і культурным жыцці Беларусі, у нашым нацыянальным адраджэнні. У гэты ж час А. Міцкевіч пачаў сам складаць вершы, якія чытаў на філамацкіх пасяджэннях. У першых пробах пяра малады паэт прытрымліваўся строгіх канонаў класіцызму, які панаваў тады ва ўсёй літаратуры. Але з захаду адчуваліся ўжо новыя павевы, асабліва з Германіі, дзе ўсталяваўся рамантызм — новы напрамак у літаратуры, прадстаўнікі якога звярталіся да фальклору сваіх народаў як да творчай крыніцы. У філамацкім асяроддзі першымі ўспрынялі новыя павевы Тамаш Зан, Ян Чачот і Ануфрый Петрашкевіч. Шукаючы матэрыялы для сваіх паэтычных твораў, яны звярнуліся не да класічных сюжэтаў, а да вуснапаэтычнай творчасці свайго, беларускага люду. Асабліва цікавыя былі па-майстэрску напісаныя балады Яна Чачота, які смела браў сюжэты для іх з пачутых у народзе легендаў

і паданняў. А. Міцкевіч, пазнаёміўшыся з творчасцю сяброў, і ў першую чаргу з баладамі Чачота, адразу зразумеў, што дагэтуль шукаў не там: скарбы ляжалі пад рукой.

Гэта быў пераломны момант у творчасці Адама Міцкевіча. Ён вельмі хутка намацаў у літаратуры сваю сцяжыну, стаў бацькам беларускага і польскага рамантызму. Заснаваныя на беларускім фальклоры балады і рамансы Міцкевіча, сярод якіх такія паэтычныя шэдэўры, як «Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка», «Курганок Марылі», «Люблю я», «Лілеі», «Тры Будрысы», а таксама першыя часткі драматычнай паэмы «Дзяды», сюжэтам якой стаўся беларускі абрад памінання дзядоў, «літоўская аповесць» пад назвай «Гражына», дзе ўзнаўляліся падзеі сярэдневяковай гісторыі Беларусі, зрабілі сапраўдны пераварот у літаратуры ўсёй Рэчы Паспалітай, адкрылі перад ёй новыя далягляды. Гэта быў трыумф рамантызму.

Немалаважную, ■ можа, і вырашальную ролю ў пераходзе Адама Міцкевіча да рамантызму, наогул у яго небывалым творчым узлёце адыграла — і гэта не маглі не адзначыць літаратуразнаўцы — каханне паэта да Марылі Верашчакі, якое нібы перавярнула ўсё яго жыццё, кінула ў вір глыбокіх перажыванняў. А пачалося ўсё з іх першай сустрэчы ў Туганавічах, сядзібе беларускіх паноў Верашчакаў на беразе светлай пакручастай рачулкі Сэрвачы.

Сюды, у гэты зацішны куточак Наваградчыны, недзе ўлетку 1818 г. прывёз яго на брычцы ўніверсітэцкі сябар-філамат Тамаш Зан, які яшчэ ў час вучобы ў Мінскай гімназіі пасябраваў са сваімі аднакласнікамі — братамі Верашчакамі Міхалам і Юзафам.

Спачатку Марыля не зрабіла асаблівага ўражання на Адама Міцкевіча. Але паступова, сустракаючыся з ёй пад раскідзістым голлем туганавіцкіх ліп, чытаючы разам раманы Жан-Жака Русо і Гётэ, разважаючы пра літаратуру, пра жыццё, слухаючы, як яна грае на фартэпіяна, ён адчуў, што яго цягне да гэтай мілай і непасрэднай дзяўчыны, яму хочацца слухаць яе голас, яе смех.

Часта Адам з Марыляй пускаліся ў блізкія і далёкія вандроўкі па ваколіцах, любаваліся новымі, нязведанымі краявідамі, з ахвотай размаўлялі з сялянамі, адпачывалі ў іх хатах.

Не раз заводзілі іх сцежкі да незвычайнага цуда прыроды — возера Свіцязь, дзе іх чаравала невыказная чысціня азёрнай вады, зялёныя шаты навакольных лясоў, першародная ціша, якую парушалі толькі птушынае шматгалоссе ды бясконцы пчаліны гуд. Ад'язджаючы з Туганавіч у Коўна, дзе настаўнічаў пасля ўніверсітэта, Адам павёз воблік Марылі з сабой. Адзін толькі ўспамін пра яе грэў сэрца.

І вось як гром сярод яснага неба — вестка: Марыля выйшла замуж за свайго нарачонага, графа Ваўжынца Путкамера, які жыў у сваім родавым маёнтку Уніхаў у суседстве з Туганавічамі. Толькі цяпер зразумеў Адам Міцкевіч, што страціў.

Гэта ўжо была бура, якая не месцілася ў грудзях, шукала выйсця. Выйсце тое яна знайшла ў славутых «Дзядах», вялікай драматычнай паэме, у сцэне з'яўлення ў ксяндзовай хаце пустэльніка Густава, звар'яцелага ад свайго нешчаслівага кахання, выбуховая сіла якога чулася ў кожным яго слове. У вобразе Густава сябры адразу пазналі Адама Міцкевіча, які таксама быў на мяжы вар'яцтва. Пра гэта застаўся цікавы ўспамін яго сябра-філамата Тэадора Лазінскага — аб намеры паэта выклікаць на дуэль Ваўжынца Путкамера.

Праз год пасля замужжа Марыля зноў сустракаецца з Адамам. Пры сустрэчах яна шчыра выказвае сваё шкадаванне, што яны не разам, што іх разлучыла нешчаслівая доля. І ён, паверыўшы, ізноў з усёй шчырасцю, з сэрцам, поўным любасці і пяшчоты, ідзе ёй насустрач. Яны часта сустракаюцца.

На Сёмуху, у пару росквіту зямлі, Адам Міцкевіч, запрошаны Марыляй, едзе ў Болценікі і цэлыя два тыдні гасцюе ў Путкамераў. Ваўжынец Путкамер ставіўся

з разуменнем да іх адносін. Ён ведаў, што рэўнасць была б тут дрэнным памочнікам. Добра выхаваны, высокай культуры чалавек, таксама выпускнік Віленскага універсітэта, Путкамер зрабіў усё, каб Адам Міцкевіч адчуваў сябе ў яго сядзібе як добры госць. Пра тыя дні ў Путкамераў паэт так пісаў сябрам: «Нядаўна правёў з ёй два тыдні. Яе выгляд і размовы лепш за ўсё мяне супакойваюць. Што будзе далей — не ведаю».

Мусіць, прычына ў тым, што Марыля была з ім не толькі чулай, але, галоўнае, старалася паказаць яму, і, відаць, шчыра, як яна пакутуе сама. Раскрыць сваё сэрца ёй дапамагала вельмі задушэўная беларуская народная песня, якую яна напявала Адаму Міцкевічу, граючы на фартэпіяна:

Да цераз мой двор,
Да цераз мой двор
Цяцера ляцела.
Да не даў мне Бог,
Не судзіў мне Бог,
За каго я хацела.
З кім стаяла,
Размаўляла
Да падарачкі брала,
З каго кпіла,
Смяялася,
Сама таму досталася.

Словы песні ўлагоджвалі тую вялікую буру, якая бушавала ў грудзях паэта. Гэта шчырая песня роднага яму беларускага люду будзе заўсёды ўспамінацца А. Міцкевічу ў яго выгнанні, стане сімвалам радзімы, яна будзе саграваць яму душу ў далёкіх краях, бо гэта песня — само прызнанне Марылі ў каханні.

Невядома, як склаліся б адносіны замужняй ужо Марылі і Адама, калі б не падзеі, якія хутка іх навек разлучылі. Гэта выкрыццё царскімі ўладамі віленскіх згуртаванняў моладзі, з якімі Міцкевіч не парываў і тады, калі пасля заканчэння універсітэта настаўнічаў у Коўне. Восенню 1823 г. яго з сябрамі арыштавалі і праз год выслалі ў глыб Расіі. Адам Міцкевіч трапіў спачатку ў Пецярбург, адкуль быў накіраваны ў Адэсу. Потым яму дазволілі прыехаць у Маскву і зноў у Пецярбург. Каля пяці гадоў прабыў паэт у Расіі. Тут ён пазнаёміўся і шчыра пасябраваў з дзекабрыстамі К. Рылеевым і А. Бястужавым, з усімі славутасцямі рускай літаратуры — А. Пушкіным, В. Жукоўскім, П. Вяземскім, А. Грыбаедавым, Я. Баратынскім, М. Глінкам і інш.

Асабліва цесная дружба звязвала Адама Міцкевіча з геніем рускай літаратуры Аляксандрам Пушкіным. Першая сустрэча двух вялікіх паэтаў адбылася ў Маскве, куды Пушкін прыехаў у верасні 1826 г. з Міхайлаўскага. Свае думкі пра рускага паэта Міцкевіч выказаў у пісьме да А. Адынца ў сакавіку 1827 г.: «Мы часта сустракаемся. Пушкін амаль мой равеснік (на два месяцы маладзейшы), у гутарцы ён вельмі дасціпны і жывы, прачытаў ён шмат і з карысцю, знаёмы з сучаснай літаратурай, у яго чыстае і выдатнае разуменне паэзіі...».

У сваю чаргу Аляксандр Пушкін адразу ўбачыў у асобе Адама Міцкевіча геніяльнага паэта, незвычайнага чалавека. Асабліва ўразілі Пушкіна, як і ўсіх іншых рускіх сяброў, Міцкевічавы імправізацыі, з якімі паэт выступаў у маскоўскіх і пецярбургскіх салонах на французскай мове: «У час адной з такіх імправізацый у Маскве, — расказваў пазней Антоні Адынец, — Пушкін, у гонар якога быў дадзены гэты вечар, раптам ускочыў з месца і, кудлацячы валасы, бегаючы па зале, усклікваў: «Які геній! Які святарны агонь! Што я побач з ім!». І тут жа кінуўся Адаму на шыю, абняў яго і пачаў цалаваць, як брата.

Ёсць цікавыя згадкі пра А. Міцкевіча і «гения чистой красоты» — Анны Керн: «На вячэру да Дэльвіга прыходзіў і Міцкевіч. Вось чалавек, які заўсёды быў мілы і таварыскі. Што за незвычайная постаць! Мы бясконца радаваліся, калі ён з'яўляўся. Не помню, ці часта сустракаўся ён з Пушкіным, але ведаю, што Пушкін і Дэльвіг паважалі яго і любілі. Нічога тут дзіўнага! Быў такі лагодны і добразычлівы, так сардэчна ставіўся да кожнага, што ўсе былі ў захапленні ад яго...»

У тыя часы сярод інтэлігенцыі хадзіў такі жарт, у якім, відаць, была праўда: аднаго разу пры сустрэчы Пушкін, саступаючы Міцкевічу дарогу, сказаў смехам: «З дарогі, двойка: туз ідзе!». На гэта Міцкевіч быццам бы адказаў так: «Казырная двойка і туза б'е!».

Сведчаннем вялікай дружбы двух славянскіх паэтаў былі ўзаемныя пераклады іх твораў. Міцкевіч пераклаў верш Пушкіна «Успамін», [redacted] Пушкін — дзве Міцкевічавы балады: «Ваявода» і «Будрыс і яго сыны», а таксама ўступ да «Конрада Валенрода».

Свайму сябру Міцкевічу Пушкін прысвяціў таксама нямала вельмі прачулых паэтычных радкоў. Захапленне высокімі паэтычнымі здольнасцямі Міцкевіча выказаў рускі паэт і ў вядомым «Санеце» («Суровый Дант не презирал сонета...»):

Под сенью гор Тавриды отдаленной
Певец Литвы [redacted] размер его стесненный
Свои мечты мгновенно заключал...

Хрэстаматыйным стаў і верш Пушкіна пра Міцкевіча «Он между нами жил...»:

Он между нами жил
Средь племени ему чужого; злобы
В душе своей к нам не питал, и мы
Его любили. Мирный, благосклонный,
Он посещал беседы наши. С ним
Делились мы и чистыми мечтами,
И песнями (он вдохновен был свыше
И высоко взирал на жизнь). Нередко
Он говорил о временах грядущих,
Когда народы, распри позабыв,
В великую семью соединятся.
Мы жадно слушали поэта. Он
Ушел на Запад — и благословеньем
Его мы проводили...

Праўда, у канцы верша Пушкін выразна праявіў свае імперскія замашкі. Гэтак жа, як і ў вершах «Клеветникам России» і «Бородинская годовщина».

Можна шмат гаварыць пра ўплыў Міцкевіча на рускую паэзію. Вядома, напрыклад, што дзякуючы яму «літоўская», а гэта значыць, беларуская тэма гучала і ў паэмах і вершах Міхаіла Лермантава.

У Расіі А. Міцкевіч напісаў свае славутыя санеты, а таксама адну з выдатных паэм «Конрад Валенрод», у цэнтры якой — патрыёт Конрад Валенрод, які ўсвядомлена ахвяруе сваім жыццём дзеля вызвалення Бацькаўшчыны ад чужацкіх захопнікаў.

У 1829 г. Міцкевічу ўдалося вырвацца за мяжу. Ён выехаў на захад, назаўсёды пакінуўшы «родную» імперыю. Паэт аб'ездзіў шмат краін Еўропы — Германію, Чэхію, Швейцарыю, Італію, Францыю. Жыў у Рыме, Дрэздэне, Жэневе. Потым канчаткова пасяліўся ў Парыжы, дзе чытаў у славутым Каледж дэ Франс курс лекцый па славянскіх літаратурах, у якіх не забыў расказваць і пра культуру свайго краю, пра мову беларускага народа, называючы яе «самай багатай і самай чыстай».

У эміграцыі паэт напісаў трэцюю частку «Дзядоў», у якой апавядаў пра сваё філамацкае юнацтва, пра турэмнае зняволенне. У 1834 г., жывучы ў Парыжы, Міцкевіч скончыў працу над самым значным сваім творам — паэмай-эпапеяй «Пан Тадэвуш», якая стала сапраўдным гімнам роднай зямлі, неўміручай песняй яго светламу няздзейсненаму каханню. Месца дзеяння паэмы — сядзіба Верашчакаў Туганавічы (паказана там пад назвай Сапліцова), палі і лясы роднай Наваградчыны. Ды ўвогуле туга па радзіме чуецца ў кожным творы паэта, напісаным у эміграцыі.

Памёр Адам Міцкевіч у 1855 г. у Канстанцінопалі, куды прывяло яго жаданне змагацца за вызваленне Айчыны. Набальзаміраванае цела паэта перавезлі ў Парыж і пахавалі ў прыгарадзе. У 1890 г. наш вялікі зямляк быў перазахаваны палякамі ў Кракаве, дзе труну з прахам паэта ўстанавілі ў падзямеллі кафедральнага сабора Вавельскага замка.

Адам Міцкевіч, беларус па паходжанні, вымушаны быў пісаць на літаратурнай мове свайго часу — польскай. Але, як сцвярджаюць даследчыкі, былі ў яго і вершы, напісаныя па-беларуску, толькі яны не захаваліся. Зрэшты, мова твораў А. Міцкевіча — гэта мова беларускай апалячанай шляхты, рэгіянальная літаратурная мова «ўсходніх крэсаў», якую варшаўскія літаратурныя крытыкі пагардліва называлі «смаргоньшчынай». Густа насычаную беларусізмамі мову твораў Міцкевіча, якую не заўсёды маглі зразумець у карэннай Польшчы, яны прымалі ў штыкі. «Вы для Літвы, ■ не для Кароны пішаце, — наракалі на «літоўскіх» пісьменнікаў варшавякі ў адным з лістоў у Вільню, які быў апублікаваны ў газеце «Wiadomości Brukowe», — менш дбаеце пра тое, ці вас у Варшаве будуць разумець, абы ў Вільні ды ў Літве вас разумелі» (цыт. паводле кнігі Сымона Брагі «Міцкевіч і беларуская плынь у польскае літаратуры». Нью-Ёрк, 1957. С. 12).

Абараняючыся ад падобных нападак, ад абвінавачванняў яго ў шырокім выкарыстанні беларусізмаў, паэт пісаў у 1828 г. у артыкуле «Пра варшаўскіх крытыкаў і рэцэнзентаў»: «...абвінавачвалі мяне, галоўным чынам, у псаванні польскага стылю выкарыстаннем правінцыяналізмаў і замежных выразаў. Прызнаюся, што ■ не толькі не асцерагаюся правінцыяналізмаў, але, можа, свядома іх ужываю».

Уся творчасць Адама Міцкевіча прысвечана роднай зямлі. Вобразы яго паэзіі ўзяты з Наваградчыны і іншых мясцін Беларусі. У творах паэта мы бачым і рэальныя беларускія геаграфічныя назвы, пазнаём беларускія пейзажы.

У пералік заслуг Адама Міцкевіча трэба ўключыць і яго зварот да слаўнай мінуўшчыны Беларусі. Наўрад ці знойдзем мы беларускага аўтара ад старажытных часоў да нашых дзён, хто б гэтак глыбока, з такой мастацкай сілай паказаў асобныя старонкі нашай гісторыі, як гэта зрабіў Адам Міцкевіч, асабліва ў такіх выдатных паэмах, як «Гражына» і «Конрад Валенрод». Нездарма ж за іх і за іншыя творы гістарычнай тэматыкі сучаснікі называлі яго «літоўскім Вальтэрам Скотам».

Расказваючы пра сваю «Літву» — Беларусь, раскрываючы самыя розныя бакі яе жыцця, Адам Міцкевіч і адрасоўваў свае творы ў першую чаргу яе насельнікам, ад іх чакаў ён спагады і разумення. Пра гэта, напрыклад, выразна сведчыць верш «Я помнік узнёс...», у якім паэт выказаў спадзяванне, што яго «помнік» перажыве нават самыя даўгавечныя каменныя помнікі.

Бо ад Панарскіх гор і ковенскіх нябёс
Далей за Прыпяць люд імя маё панёс.
Чытае дружна Мінск, Наваградак мяне.
Мой верш перапісаць юнак не праміне...

Як бачым, тут Адам Міцкевіч вельмі выразна акрэсліў межы, куды перш за ўсё скіроўвала свой позірк яго неўтаймоўная муза.

Сёння, калі мы здымаем густую заслону хлусні з нашай гісторыі, калі пачынаем, нарэшце, называць рэчы сваімі імёнамі, настаў час вярнуць штучна адгаронажанага ад нас вялікага сына беларускай зямлі Адама Міцкевіча. Яго імя павінна заняць сваё належнае месца ва ўсіх школьных падручніках, у хрэстаматыях. Творчасць Адама Міцкевіча, у якой бліскуча адбілася цэлая эпоха ў жыцці беларускага народа, павінен ведаць кожны студэнт, кожны школьнік, увогуле кожны беларус, які хоча называць сябе культурным чалавекам.

*К. Цвірка*

## БУЛЬБА

(фрагмент)

Зямля навагрудская! Край мой родны!
Славутага пяра Трамбецкага[1] ты годны!
Красой садам Гумані ты і Віслы роўны —
Не бачыць гэтага хіба дзівак вандроўны,
Што славіць толькі край, дзе ўсё ў прыродзеззяе,
Хоць жыць там людзям мо яна і не спрыяе...

На краснай жа Русі[2] — адкрытыя прасторы,
Яе не рэжуць прорвы і не дыбяць горы.
І для дароў Цэрэры[3] плодная тут скіба,
І для жывёлы лепшая, чым дзе, сядзіба.
Жыхар абжытага пад ласкай сонца краю —
З душой высокаю, лагоднага звычаю.
Адсюль Міндоўг — на поўнач — нёс грамы праз далі[4],
Моц рымскіх сэрцаў тут Рэйтаны гартавалі.
Не прыдалася ж краю рыцараў паслуга —
Дык сталі ваяры апекунамі плуга.
Спрыяючы ратаю, надзяліла Неба
Яго вялікім дарам: шчодрая тут глеба!
Хоць ты з пяску яе брыльянтаў не насееш
І золата знайсці нідзе ў ёй не здалееш,
Хоць не ірдзее сад тут гронкамі такаю[6],
Матыль індыйскі[7] — ткач — лісцё не аплятае,
Хоць цвёрдую зямлю парою несухою
Не раз, не два варочаць трэба тут сахою,
Ды восень шчодра ўсё ж аддзячыць аратаю
Бурштынным зернем сандамірскага ўраджаю[8].
На лузе — рык валоў, кароў ляных чароды
За андалузскую[9] не горшай мо пароды.
Цвіці ж, прывольны край, зямелька Прынямоння,
Людзьмі славутая, дарамі тымі ўлоння.
Вітаю ўсіх, хто славіць край. Табе падзяка,
Род дэпутатаў соймавых, род Верашчакаў[10]!

Табе, наш графе, Шчорсаў гаспадар руплівы[11],
Ты на зямлі сваёй, вучоны, творыш дзівы.
Праславіць іншы лірнік, больш падрыхтаваны,
Твае заморскія расліны ды фантаны,
Твой мудры скарб[12], сабраны шчыраю рукою,
Твой люд заможны, горды воляю сваёю!
Я ж, просты вершапісец, проста, так, як знаю,
Табе, славуты Земляроб, вянок сплятаю...
..........................................

*1819—1821*

## ПЕСНЯ

Хай радасць з вачэй нашых бліснє
І ўвенчыцца лаўрамі голаў!
Далонь даланю моцна сцісне!
Зноў разам мы! Наша тут кола!

Не возьмем мы хцівасць ва ўжытак —
Прэч, сквапнасці, пыхі насенне!
Наш сама высокі набытак —
Айчына, навука, сумленне!

Гэй, скінем жа з сэрца ўсе путы,
Брат брату душу хай раскрые.
З нас кожны — свабодны, раскуты.
Нам словы братэрства — святыя!

Адолеем мы назаўсёды
У гурце любыя нягоды.

У спевах, у келіхаў звоне
Развеюцца сэрца пакуты.
За плугам хай ты ці на троне,
Адно помні — нашы Статуты[1]!

Прысягу сяброўскую помні,
Няхай кожны дзень і імгненне
Табе свецяць словы, як промні:
Айчына, навукі, сумленне!

Хаця і не простай дарогай,
Мы дойдзем да сіняга рання:
Нам будзе тут Неба падмогай,
І мужнасць, і наша яднанне!

*1819*

## ЯМБЫ

[Да імянін Яна Чачота]
(урывак)

О Ян! Б'юцца музы за верш твой, каб быў адмысловы!
Мне ж не памагаюць! Але — сам спяваць я гатовы!
Са мной ты заўсёды — я дома ці дзесьці на волі.
Каго ж больш люблю я, хто змалку мілейшы мне болей?
Яшчэ на парозе жыццёвым, у галасе вуліц,
Адны ў нас навукі былі, перапалкі і гулі.
І хто ж апроч нас з табой, Яне, так шумна сваволіў,
Што трэсліся тоўстыя сцены, здаецца, у школе?
І хто ж да нас белакаптурным так смела пярэчыў,
Пад палкі іх горда свае падстаўляючы плечы?..
Хаця пра чарцей мы спрачаліся да пасінення,
Хаця, пра душу маю дбаючы, ў часе малення
Мяне ты з аблокаў, куды я ўсё лётаў у марах,
Ізноўку вяртаў на зямлю, таўхануўшы ў карак,
Адны былі думкі ў нас, як і ў навуках рахуба,
Пакуль не ўхапіў цябе ў лапы свае Людвік Дзюба[1].
Пачаў ты тады ўжо ад стоіцкіх цнот ухіляцца
І жыць не занадта набожна, жыццём захапляцца.
Тады, паднабраўшыся сіл, бы з крыніцы чароўнай,
Ва ўсім перамог ты Адама — фізічна й духоўна...

*1819*

## СВІЦЯЗЬ

**Балада Міхалу Верашчаку[1]**

Калі ты ў Наваградак трапіш, бывае,
    Скіруй — не забудзь — на Плужыны[2].
У пушчы, дзе сцежка гушчар расхінае,
    Ты коней спыні ля альшыны.

Між дрэў, бы ў вяночку, адкрыецца воку
Там возера Свіцязь, як дзіва.
    Як быццам хто шыбіну лёду звысоку
Сюды апусціў беражліва.

А здарыцца быць тут начною парою,
    Застынеш, аддаўшыся чарам:
Рой зор над табою, рой зор пад табою
    І месяцы два перад тварам!

Гадацьмеш: з-пад ног гэта ў неба нямое
　　Раўніна ідзе тут шкляная
Ці неба скляпенне сваё незямное
　　Пад ногі табе развінае.

Не можаш адрозніць у срэбным сутонні
　　Дно возера ўжо ад зеніту.
Як быццам вісіш ты ў нябесным бяздонні,
　　У нейкім разліве блакіту.

Прыемна так зрок падмануцца твой можа,
　　Калі цішыня тут пануе.
Ды пусціцца ўночы сюды ў падарожжа,
　　Хто толькі з адвагай сябруе.

Бо што ўжо нячысцік тут не вытварае!
　　З карчэўя глядзяць патарочы!
Ад страху дрыжыш, калі хто пра іх бае.
　　Не слухай пра іх супраць ночы!

А часам на возеры, дзесь пад вадою,
　　Бы чутна гаворка людская!
Жаночыя крыкі, шум грознага бою,
　　Званы б'юць, агонь выбухае.

Але ўсё ізноўку знікае ў імгненне —
　　На беразе толькі шум хвояў,
Ды з бездані быццам чыёсьці маленне
　　Да вуха даходзіць глухое.

Што б значыла гэта? Усякае людзі
　　Гадаюць — на дне ж не бывалі.
Дзе праўда, дзе выдумка ў згадках іх будзе —
　　Не скажуць і возера хвалі.

Пан блізкіх Плужынаў, у продкаў якога
　　І Свіцязь была ва ўладанні,
Задумаў раскрыць тайну з'явішча тога,
　　Дазнацца, ці праўдзяць паданні.

Заказваў прылады патрэбныя ў месце,
　　Пускаў многа грошай на гэта.
Звязалі ўжо невад тут локцяў[3] пад дзвесце,
　　Чаўны ладзяць, баты[4] ўсё лета.

Я раіў: пачаць бы — як робяць па сёлах —
Тут з Богам: хай прыме вітанні.
І пан заказаў мшу ў вакольных касцёлах,
Прыехаў ксёндз з Цырына ўранні.

На беразе стаў, апрануўшы арнаты[5],
Усё акрапіў, пажагнаўся.
Пан знак падае тут — адчальваюць баты,
І невад пад хваляй схаваўся.

На дно паплаўкі пацягнуў ён з сабою,
У бездань — да сомаў і ліняў.
Канаты напяты: ідзе пад вадою
Паціху ўжо невад з глыбіняў

Вось цягнуць на бераг яго хапатліва.
Што ў сецях? Вялізная рыба?
Магу расказаць, што злавілі за дзіва,
Ды толькі паверыце хіба?

Аднак раскажу я! Не рыбу спаймалі:
У сецях — кабета жывая!
Твар — ясны і гожы, а вусны — каралі,
Да плеч валасоў лён спадае.

На бераг ступае! Усе скамянелі
На месцы ад дзіўнай праявы.
У страху адгэтуль даць ходу хацелі,
Ды голас пачулі ласкавы.

«Вы знайце, малойцы, — казала кабета, —
Тут судны спускаць — грэх вялікі.
Глыб возера ўсіх, хто забудзе пра гэта,
Глыне — не памогуць і крыкі.

Ты, пан, з сваёй хеўрай праз час найкароткі
Ляжаў бы ўжо там, пад вадою.
Ды ў гэтым краі спяць усе твае продкі,
І з намі ты — родны крывёю.

Другі ваш ратунак — што з Богам сюды вы
Усё-ткі прыйсці не забылі.
Праз вусны мае ён вам, Бог літасцівы,
Раскрыць хоча возера былі.

Дзе ў тонях цар-кветкі блішчаць, як каралі,
Дзе дрэмле чарот той бязмоўны,
Дзе рэжа вясло ваша гэтыя хвалі,
Стаяў коліс горад чароўны.

Шмат меў ён красунь, вабны быў розным ханам,
Ды тут што ні муж — быў як віцязь.
Закладзены некалі князем Туганам[6],
Квітнеў праз вякі горад Свіцязь.

Тады не шумелі тут пушчы з вятрамі,
Жаўцелі скрозь жыта, пшаніца,
Наваградак з даляў маячыў мурамі —
Літвы тагачаснай сталіца.

Ды ў год нейкі з войскам вялізным цар з Русі
Яе аблажыў быў надоўга.
Прыціхла Літва ўся: паддацца б не змусіў
Ён сілай сваёю Міндоўга.

Міндоўг, што вёў войска з далёкай граніцы,
Пісаў майму бацьку — Тугану:
«Мой друг, на табе — абарона сталіцы,
Дай бой тут жа царскаму стану!»

Туган прачытаў князеў ліст, і ў хвіліну
Загад быў пасланы: да зброі!
Збіраў увесь горад у спеху дружыну —
Пяць тысяч прызвалася вояў.

У трубы зайгралі, і коннікаў хмара
За князевым рушыла сцягам.
Ды раптам спыніўся Туган ля штандара,
Аддаўшыся думным развагам.

Ды к замку каня павярнуў баявога
І мовіў мне: «З местам што ж будзе?
Хто вас абароніць ад хціўца ліхога,
Калі не мячы нашы й грудзі?

А рушым усёй грамадою да бою,
Я ж вамі тады рызыкую.
Калі ж раздзялю сваё войска малое,
Ці ж сябру свайму памагу я?»

Сказала ў адказ я: «Баяцца не трэба:
Нас Бог зберажэ, ойча мілы —
Я сніла: над горадам нашым праз неба
Анёл пралятаў яснакрылы.

Ён Свіцязь азорыў мяча бліскавіцай
І пер'ем дзівосным, бы сонцам.
«Пакуль дзесь мужы, — мне сказаў, — будуць біцца,
Я стануся ў вас абаронцам».

Паслухаў Туган і да войска вярнуўся.
Ды ноч толькі свет ачарніла,
Здалёк тупат коней і голас пачуўся,
«Ура» нас усіх аглушыла.

Б'юць сцены таранам, грукочуць гарматы,
Град стрэлаў — што робіцца ў свеце?
Збягаюцца ў замак жанкі і дзяўчаты,
Дзяды і маленькія дзеці.

«У замак усе! — крык нясецца. — За намі
Русь валіць — хутчэй замыкацца!
Ах, лепей загінем, паб'ём сябе самі,
Чым лютаму ворагу здацца!»

У сэрцах людзей ужо гнеў заміж страху:
«Усе нашы скарбы — у стосы!»
І тут жа іх паляць — агонь вышай гмаху,
А крыкі ляцяць пад нябёсы:

«Хай будзе пракляты, хто смерці не хоча!»
Спыніць тут забойствы хачу я,
Ды ўсе пад тапор клалі голаў ахвоча —
Мяне ж аніхто і не чуе!

Што ж болей злачынна: тым ордам паддацца,
Надзець кайданы ўсім з пакорай
Ці самазабойцамі ў свеце нам стацца?
Што лепей, скажыце, што горай?

Як смерць лепш прыняць нам? Хто тут дапаможа?
Прасіла я продкамі ўсімі:
«Хай гром лепей спаліць наш горад, о Божа,
Ці возьме зямля нас жывымі!»

Тут яснасць дзівосная цемрыва ночы
Ушчэнт разганяе наўкола.
На дол, дзе стаяла, кірую я вочы,
Ды толькі не бачу ўжо дола.

У бездань пайшло ўсё. Цяпер што ні лета
Тут краскі цвітуць ля вясёлкі.
Знай: Свіцязі жонкі і дочкі ўсё гэта —
Іх Бог перакінуў у зёлкі.

Такія бялюткія гэтыя кветкі!
Нібы матылі над вадою!
Ліст — цёмна-зялёнага колеру: гэткі
У елкі пад снегам зімою.

Цнатлівасць жаночая ў кветках найчыстых
Ужо тут не знікне ніколі.
У вольнай цішы, між гаёў тых цяністых
Ніхто не кранецца іх болей.

Папробаваў цар быў і рускія зграі
Іх рваць пасля той перамогі —
Хто грудзі чароўнымі кветкамі маіў,
Хто шлем аздабляў імі строгі.

Ды кожны, хто кветак рукамі кранаўся —
Была ў іх нябачная сіла, —
У крук ад страшэнных пакутаў згінаўся,
І смерць яго тут жа валіла.

Час з памяці сцёр усе дзеі былыя,
Ды толькі пра дзень страшнай кары
І сёння расказваюць людзі старыя,
А кветкі здаўна клічуць — цары».

Паведаўшы ўсё, пані зноў адступае,
За ёй — тонуць баты і чоўны.
Б’е хваля аб бераг, чароты гайдае,
І лесам пабег шум няроўны.

І вось раздалася вада да глыбіняў:
Красуню ў абдымкі прымае,
Навек закрываючы хваляю сіняй...
З тых дзён — цішыня тут нямая.

*1820*

## СВІЦЯЗЯНКА*

Што гэта за хлопец з поглядам ветлым
Поруч са стройнай дзяўчынай
Крочыць павольна пад месяцам светлым
Берагам Свіцязі сіняй?

Хлопцу яна прапануе маліну,
Кветкі юнак ёй збірае.
Мусіць, той хлопец кахае дзяўчыну,

Хлопца дзяўчына кахае.
Месца іх стрэч — ясакар таямнічы,
Што шалясціць каля гаю.
Хлопец — тутэйшых лясоў паляўнічы,

Дзеўчына хто? Я не знаю.
Хто аб красуні даведацца прагне,
След не знаходзіць дзявочы:
То яна кветкай узыдзе на багне,

То знікне іскрай уночы.
«Мне раскажы, дарагая дзяўчына,
Што ад мяне ўсё хаваеш?
Скуль ты прыходзіш нязнанай сцяжынай?

Дзе свой прытулак ты маеш?
Лета мінула, няўжо ў непагоду
Ноччу асенняй, бяззорнай
Трэба чакаць мне каханай прыходу

Тут, у глушы прыазёрнай?
Ты быццам сарна мільгаеш лясная,
Зданню блукаеш начною,
Лепей застанься з тым, хто кахае,

Лепей застанься са мною!
Блізка адгэтуль стаіць мая хатка,
Вунь за ляшчынай разгатай,
Досыць там хлеба і мёду ёсць кадка,
Ёсць там дзічыны багата».

* Ёсць чуткі, што на берагах Свіцязі з'яўляюцца ундзіны, ці вадзяныя німфы, якія народ называе свіцязянкамі (*заўвага аўтара*).

«Тата казаў мне, што словы мужчыны
Не заслугоўваюць веры,

Бо хоць у словах і спеў салаўіны,
Ды ў сэрцы ліса намеры.
Злога падману я вельмі баюся,
Здрады каварнай, мой дружа...

Можа, я к просьбе тваёй і схілюся,
Толькі ці любіш ты дужа?»
Хлопец укленчыў, пры месячным ззянні
Дзеўчыне ён прысягае

Пеклам і раем у вечным каханні.
Толькі ці слова стрымае?
«Моцна трымай яго, гэту параду
Помні заўсёды, мой мілы:

Тут пакаранне чакае за здраду
І там, дзе холад магілы».
Гэтак сказаўшы, рукою здалёку
Дзеўка махнула і знікла

Дзесь на балонні пустэльным у змроку,
Сцежкай спяшаючы звыклай.
Кінуўся ўслед ёй у дзікую нетру,
Марна шукае і кліча:

Знікла, як подых раптоўнага ветру,
Блудзіць адзін паляўнічы.
Сам ён блукае дарожкай глухою.
Гразкаю стала сцяжынка.

Ціха кругом, захрусціць пад нагою
Часам сухая галінка.
К возеру выйшаў юнак на прылессе,
Даль аглядае тужліва.

Раптам шум ветру пранёсся па лесе,
Воды ўскіпелі бурліва.
О нечуваная з'ява! Ніколі
Гэта не бачылі вочы.

З хваляў красуня ўсплывае паволі,
Стан выпрамляе дзявочы.

Твар яе — белая ружа нібыта,
Што акрапілі расою.

Лёгкай тканінаю постаць абвіта,
Быццам празрыстай смугою.
«Хлопец прыгожы, адважны мой віцязь,
Чуецца голас дзявочы, —

Што ты блукаеш, дзе пеніцца Свіцязь,
Сумны, задумлівы ўночы?
Дзікай спакусніцай прычараваны,
Боль адчуваеш ты сэрца,

Блудзіш, пакінуты і ашуканы,
Дзеўчына ж недзе смяецца!
Хіба патрэбна блукаць тут з журбою
Аж да праменняў світальных?

Лепей, юнача, мы будзем з табою
Плаваць у водах крыштальных.
Можа, ты ластаўкай хочаш імклівай
Спрытна над плёсамі віцца

Ці тут, у глыбінях, рыбкай шчаслівай
Разам са мной весяліцца?
Дзень праляціць у гульні бесклапотнай,
Выглянуць зоры начныя,

Ты на лілейнай пасцелі пяшчотнай
Сны будзеш сніць залатыя».
І лебядзіныя блікнулі грудзі...
Погляд адводзіць хлапчына, —

«Добра са мною, каханы мой, будзе», —
Зноў яго кліча дзяўчына.
То яна лёгка ўздымаецца ўгору,
Ззяе вясёлкай праменнай,

То, рассякаючы плёсаў прастору,
Срэбнаю пырскае пенай.
Хлопец падбег, але стаў нерашучы:
Хоча ён к ёй — і не хоча;

Коціцца хваля тым часам да кручы,
Злёгеньку ногі ласкоча.

Хваля ласкоча і плешча дрымотна,
Сэрца так б'ецца чулліва,

Быццам хлапцу прыгажуня пяшчотна
Цісне руку сарамліва.
Хлопец забыў аб каханай дзяўчыне,
Слоў ён не помніць прысягі —

Мкнецца аслеплы за згубу ў глыбіні,
Повен дзівоснай ён прагі.
Мкнецца — глядзіць ён, глядзіць ён і мкнецца,
Быстрай падхоплены хваляй...

Бераг далёка за ім астаецца,
Далей нясе яго, далей.
Ён ужо рукі красуні сціскае,
З ёй мілавацца ахвочы,

Вуснамі вуснаў ружовых шукае,
Гледзячы ў ясныя вочы.
Ветрык раптоўна на іх налятае,
Рве ён з туману заслону...

Хлопец пазнаў — гэта ж дзеўчына тая,
Звязан з ёй клятвай да скону.
«Клятву забыў ты, забыў і параду,
Помніш, казала я — мілы,

Тут пакаранне чакае за здраду
І там, дзе холад магілы.
Дзе табе плысці па роўнядзі воднай,
Плёскаць, як рыбка, за вірам!

Цела засыпле зямлёю халоднай,
Вочы юнацкія — жвірам,
Грэшнай душы тваёй страшная кара —
Тысячу год хай мучэнне

Церпіць пякельнае ля ясакара
І не знаходзіць збавення».
Чуе юнак, паглядае нясмела,
Вочы агорнуты сумам,

Бура сярдзіта ізноў наляцела,
Хвалі ўздымаюцца з шумам.

Пашчу сваю раскрывае прадонне,
Кружыцца злосна віхура,

Дзеўчына з хлопцам у бездані тоне,
Вецер галосіць панура.
Воды дагэтуль хвалююцца ў пене,
Грозна плюскочуць няспынна,

Ў месячным ззянні мільгаюць два цені —
Гэта юнак і дзяўчына.
Скача дзяўчына над плёсам крынічным.
Енчыць хлапец каля гаю. Хто ён?
Калісьці тут быў паляўнічым.
Дзеўчына хто? Я не знаю.

*12 жніўня 1821 г.*

## ТРЫ БУДРЫСЫ

Літоўская балада

Стары Будрыс трох сынаў, як сам, ёмкіх ліцвінаў,
На дзядзінец заве і гавора:
Коні з пашы вядзеце, зброю, сёдлы браць з клеці!
А спраўляцца мне жвава і скора.

З Вільні вестку мне далі, што ўжо там наказалі
Тры вайны на тры свету староны:
Альгерд[1] рускіх біць едзе, Скіргел[2] — ляхаў-суседзяў,
А князь Кейстут[3] — заграбіць Тэўтоны.

Дзецюкі вы не зломкі, для радзімай старонкі
На вайне пашукайце ўспамогі...
Не йду сёлета з вамі, — знаю — трапіце самі;
Трох вас ёсць, і тры ёсць вам дарогі.

Вось адзін хай паспее за Альгердам ў Расею
Па-над Ільмень, пад мур Новагроду;
Там — саболі і лісы, і злацістыя місы,
У баяраў там грошай, як лёду.

Едзь другі да Кейстута, а ўвіхайся там крута,
Крыжакам дай як следна па пятах;
Мерацъ там на асміны брыліянты, бурштыны,
Дарагіх шмат ксяндзоўскіх арнатаў.

Скіргель з трэцім памчыцца там, дзе Вісла бурліцца,
Беднату там убачыш ліхую,
Але возьмеш за тое узбраенне стальное,
І мне стуль прывязеш сынавую.

Бо дзе я ні быў толькі, спадабаў адны полькі, —
Так панадны мне стан іх дзявочы,
Твар іх бела-ружовы, як смоль, — чорныя бровы,
Як дзве зоркі, так свецяцца вочы.

Маладым чалавекам я адтуль прад паўвекам
Сабе вывез палячку за жонку,
Хоць яна ўжо ў магіле, я ўбываю на сіле,
А ўсё ж міла гляджу ў ту старонку.

Даўшы так асцярогу, блаславіў на дарогу;
Яны ўзялі бронь, селі, пабеглі.
Сходзіць восень, зіма йдзе, сыны ўсе там — вайна дзе;
Будрыс думаў, што ў бітвах палеглі.

Па сняжыстай дарожцы мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
Кубел — гэта, знаць, — ноша, а ў ім рускія грошы...
Не!.. палячка — твая сынавая.

Па сняжыстай дарожцы мчыцца ў зброі хтось к вёсцы,
А пад буркаю нешта хавае:
Мусіць, з Прусаў, мой сыну, цягнеш кубел бурштыну...
Не!.. Палячка — твая сынавая.

Па сняжыстай дарожцы трэці нехта прэ к вёсцы,
А пад буркай вяліка здабыча.
Будрыс — што? — не пытае, толькі госці склікае,
На вяселле іх трэцяе кліча.

*Канец 1827 г.*

## САНЕТЫ

### IV

### Спатканне ў лесе

«Нарэшце! Доўга як!» — «Дарога затрымала
Мяне глухая: месяц ледзь свяціў над ёй.
Тужыла мо?» — «Яшчэ пытаешся, няўдзячны мой?
Я ад маркотных думак дзецца дзе не знала!»

«Дазволь абняць цябе... Бы іншаю ты стала?
Ты ўся дрыжыш! Чаму?» — «Не знаю, што са мной:
Баюся ў лесе пошуму, начы самой...
Ах, грэшым мы! Бяда б хоць нас не напаткала?»

«Зірні мне ў вочы: не, у позірку маім
І ценю ты не ўбачыш кепскага нічога.
Ну, хіба ж гэта грэх, што добра нам дваім?

Ты бачыш... Я з табой і гавару не многа:
Губляюся, увесь гару... Пасланым мне ад Бога
Цябе ўяўляю я анёлам незямным».

VIII

**Да Нёмана**

Рака маленства, дзе ты, Нёман мой,
Чые струмені браў калісьці я ў далоні?
Тут юнаком праз даль — што мне віры і тоні! —
Я ўслед за марай плыў тваёю сінізной.

Лаура часта тут, над гладдзю люстраной,
Любіла косы заплятаць, уквечваць скроні.
Яе адбітак любы сцішана ў сутонні
Я колькі раз муціў гаручаю слязой.

Мая рака, мой родны Нёман! Дзе твая
З дзяцінных год так сэрцу любая бруя?
Дзе шчасця слодыч, дзе вы, дзе надзеі, крозы?

Дзе маладосці бурнай выклік нецвярозы?
Дзе ты, мая Лаура, дзе сяброў сям'я?..
Усё прайшло... Чаму ж мае не пройдуць слёзы?!

## КРЫМСКІЯ САНЕТЫ

I

**Акерманскія стэпы**

Я выплыў на прастор сухога акіяна;
Воз, быццам лодка, тоне, ў зелені нырае,
У хвалях кветак, шумных траў, мінаю
Здалёк каралавыя астравы бур'яну.
Цямнее. Не відаць ні шляху, ні кургана.
Для лодкі ў небе пуцяводных зор шукаю;
Там воблака блішчыць? Ці золак там палае?

Не, гэта — Днестр і ўсходзіць лямпа Акермана[1].
Як ціха! Спынімся! Я журавоў лёт чую,
Якіх бы нават сокал быстры не угледзеў;
І як матыль калыша кветку палявую,
Як з шорахам вуж прапаўзае недзе.
У гэтай цішыні так чутка ўсё лаўлю я,
Што чуў бы гук з Літвы. — Ніхто не кліча, едзем!

XIV

**Пілігрым**

Ля ног маіх — багацця́ў край, красы — сляды,
Сінь ясная ўгары, тут шмат прыгожых твараў
Чаму ж адсюль імкнецца сэрца у абшары
Далёкія і яшчэ больш далёкія гады?
Літва! Твой шумны лес мне пеў мілей тады,
Чымся дзяўчаты тут, чым салаўі ў Байдарах;
Я весялей таптаў дрыгву тваіх абшараў,
Чым ананасаў і шаўкоўніцаў сады.
Далёкія спакусы вабяць пастаянна;
Чаму ж няўважлівы ўздыхаю ўсё па той,
Якую я кахаў у дні вясны маёй?
Яна ў краі, які ў мяне ўжо адабраны,
Дзе ўсё нагадвае аб любым, верным ёй,
Ступіўшы на мой след, ці ўспомніць аб каханым?

## ДА***
## НА АЛЬПАХ У СПЛЮГЕНЕ, 1829

Ніколі на свеце мне ўжо не расстацца з табою!
На моры, за морам — ты ўсюды, ты ўсюды са мною!
На лёдзе альпійскім мне бачыцца след твой бліскучы,
Я чую твой голас у шуме каскадаў на кручы.
Аж дыбіцца волас: а раптам і праўда спаткаю
Цябе я вось тут? Я баюся той стрэчы й жадаю!
Няўдзячная! Тут, у гарах паднябесных, высокіх,
Дзе бездань чарнее ў тумане, вяршыні ў аблоках,
На вечных ільдах навярэдзіўшы ногі да стомы,
На хвілю спыніўшыся дзе ля грымотнае стромы,
На небе замглёным шукаю палярную зорку,
Шукаю Літву маю, дом твой, цябе на падворку.
Няўдзячная! Ты і цяпер мо бясед каралева,
Вясёла рэй водзіш, як калісь, направа й налева
Свой смех рассыпаючы. З кім жа ты сёння у пары?
Мо толькі смяешся цяпер з нашай чыстае мары?

А ў сэрцы што чуеш, калі тваіх вёсак сяляне,
Па-рабску гнучы свае спіны, завуць цябе — Паня?
Як спіш ты ў раскошы? Ці весела дзень сустракаеш?
Ты ■ памяці найдарагое ўжо, можа, сціраеш?
Скажы, ці шчаслівай была б ты, калі б на світанні
Са мной, закаханым, пайшла па дарогах выгнання?
Ах, я за руку цябе вёў бы па гэтых во скалах,
Я песні спяваў бы табе — толькі б ты не прыстала!
Я кінуўся б смела у рэк бурапенных струмені,
Пад ножкі твае падкладаў бы ў вадзе я каменне,
Каб не замачыла іх раптам! А ў холад шчыплівы
Я рукі б твае саграваў пацалункам, шчаслівы.
А потым начлег мы знайшлі б пад гуральскай страхою
Цябе б я плашчом ахінуў. Нам бы бліскаў з табою
Агонь на камінку. Пасля б ты пры полымя ззянні
Заснула й прачнулася б там на плячы ў мяне ўранні!

*24 верасня 1829 г.*

## СМЕРЦЬ ПАЛКОЎНІКА

На палянцы зялёнай, між думных бароў,
Дзе пад клёнам хацінка старая,
Бы застыў у зняменні атрад ваяроў:
Іхні там камандзір памірае.
Людзі з вёсак збіраюцца тут, ля варот.
Ён, палкоўнік, быў слаўны, няйначай,
Раз яму спагадае так просты народ,
Пра яго ўсё пытае ды плача.
Вось палкоўнік каня асядлаць загадаў
І прывесці бліжэй, да парога.
Перад смерцю яшчэ раз хоць глянуць жадаў
Ён на друга свайго баявога.
Загадаў свой прынесці паходны мундзір,
Свой кінжал, зброю, пояс стралецкі.
Ён хацеў і з рыштункам сваім, камандзір,
Развітацца, як калісь Чарнецкі[1].
А калі ўжо ад хаты каня адвялі,
Ксёндз туды ўвайшоў з панам Богам[2].
Людзі з вёсак маліцца хутчэй пачалі,
Ціха ўкленчыўшы перад парогам.
Спалатнеўшы, паўстанцы стаялі ў дзвярах.
Нават воі Касцюшкі былыя
Што прайшлі ўсе агні, агрубелі ў баях,
Слёз сваіх не хавалі, сівыя.

Рана-рана ў капліцы званіць пачалі.
Ды хаваць камандзіра жаўнеры
Не змаглі: наляцелі якраз маскалі...
У капліцы для ўсіх — насцеж дзверы.
Там ляжаў ён на лаве — ў спакоі чало.
У руках яго — крыж, збоч — нягнуткі
Нож-кінжал і ружжо, ва ўзгалоўі — сядло.
Люд дзівіўся: такі маладзюткі!
Ды чаму твар дзявочы ў байца? Два грудкі...
Хто ж мог знаць, што баёў завадатар
Быў... дзяўчынай! Была — слёз не трэба, жанкі, —
То ліцьвінка Эмілія Плятэр!

*1832*

## EXEGI MUNIMENTUM AERE PERENNIUS...

### З Гарацыя

Вышэй мой помнік за шкляны ў Пулава[1] дах.
Перажыве й Касцюшкі склеп[2] ён, Паца ў Вільні гмах[3].
Яго не зможа й бомбай Віртэмберг[4] разбіць
І хцівы аўстрыяк нямецкай штукай зрыць,
Бо ад Панарскіх гор і ковенскіх нябёс
Далей за Прыпяць люд імя маё панёс.
Чытае дружна Менск, Наваградак мяне,
Мой верш перапісаць юнак не праміне.
Мяне ў фальварку змеціш ты ў руках дзяўчат,
Як лепшых кніг няма — маім маёнтак рад.
На злосць шпікам цара зноў па шляхах глухіх
Жыд праз кардон вязе ў Літву стос кніг маіх[5].

*Парыж, 12 сакавіка 1833 г.*
*Верш, натхнёны візітам Фран. Гжымалы*

## КАЛІ Я, ТРУП ЖЫВЫ...

Калі я, труп жывы, з ашклелым вокам
Сяджу між вас, у гэты час блукае
Душа мая далёка, ах, далёка
І наракае ўсё, ах, наракае.
Ёсць у мяне зямля, край светлых мрояў,
Мілейшага — мне не знайсці другога.
Мне ўсе радня там — болей чым крывёю,
Там сэрцу гэтак многа дарагога!
Туды штоміг — хай праца ці забавы —
Ўцякаю я. Сяджу там пад дубамі,

Як некалі, кладуся ў звонь, у травы,
Ганяюся ізноў за матылямі.
Там бачу ў белым зноў яе скрозь далі.
Бяжыць у лес яна да нас ад ганка,
Ляціць праз поле — тоне ў жытняй хвалі,
З-за гор далёкай свеціць мне заранкай.

*1839—1840*

## КОНРАД ВАЛЕНРОД

### Гістарычная аповесць

### З «Апавядання вайдэлота»[1]

Глянь, ліцвіны вунь едуць! Едуць з начнога набегу,
Са здабычай, што ўзята зброяй у замках ды ў цэрквах.
Сціжмы немцаў палонных ледзь паспяваюць за коньмі —
На іх шыях арканы, рукі ў іх звязаны моцна.
Зрок на Прусію кінуць — коцяцца з воч у іх слёзы,
Глянуць з страхам на Коўна — і толькі моляцца Богу.
Ёсць у горадзе Коўне пляц немалы Перуновы.
Там Літвы ўладары ўсе, з новай вярнуўшыся бітвы,
Паляць рыцараў-немцаў звеку на стосе ахвярным.
Смела едуць у Коўна два вунь палонныя толькі.
Першы — юны, прыгожы, ну а другі — пасівелы.
Ад крыжацкага войска самі яны падчас бітвы
Уцяклі да ліцвінаў, дзе іх прыняў сам князь Кейстут
Ды пад вартаю пільнай тут жа сказаў весці ў замак.
— Хто й адкуль вы? — пачаў ён там іх абодвух распытваць.
— Сам не ведаю, хто я, — гэтак адказваў малодшы, —
Нават імя не помню: дзіцем я немцамі ўзяты.
Помню толькі, што недзе ў месце вялікім літоўскім[2]
Дом стаяў наш бацькоўскі. З цэглы чырвонай, прасторны
Места ж было ўсё драўляным. Помню, на ўзгорках стаяла.
А навокал узгоркаў цёмная пушча шумела.
У лясах тых бясконцых возера светла блішчала.
Шум аднойчы страшэнны нас пабудзіў сярод ночы,
Дзень у вокнах агністы ўбачыў я, шыбы трашчалі,
Дым клубіўся па гмаху, мы ўсе выбеглі з дому.
У агні ўвесь быў горад, іскры ляцелі пад неба.
Зычны крык тут пачуў я: «Немцы ў месце! Да зброі!»
Выбег бацька мой з мечам, выбег і больш не вярнуўся.
Немцы ў дом уляцелі. Коннік пагнаўся за мною
І ўхапіў мяне з долу. Потым што стала, не знаю.
Толькі крык маёй маткі доўга йшчэ, доўга мне чуўся.
Не глушыў яго зброі бразгат, шуганне пажараў.

У вушах маіх немы крык той стаіць і сягоння.
І цяпер, калі ўбачу я дзе пажар, шум пачую,
Рэхам грому ў пячоры зноў адгукаецца крык той
У душы, уваскросшы. Вось што я толькі і помню
Пра Літву і радзіну. Часам я хіба ў трызненнях
Бачу любую постаць маткі, і бацькі, і брацціяў.
Ды ўсё далей іх твары ўжо ад мяне адыходзяць,
І ўсё цямнейшай імглою іх засланяюцца рысы.
Дні дзяцінства ляцелі, жыў я між немцаў як немец.
Далі імя мне — Вальтэр, прозвішча Альфа ў прыдачу.
Ды пад імем нямецкім білася сэрца ліцвіна,
Па сям'і ў ім застаўся жаль і да немцаў нянавісць.
Да сябе мяне ўзяў быў Вінрых, магістр крыжаносцаў[3],
Ахрысціў мяне потым, песціў, як роднага сына.
Я ж тужыў у палацах і ўсё уцякаў ад магістра
К вайдэлоту старому. Ён, вайдэлот наш, літоўскі,
Жыў даўно ўжо між немцаў, імі калісь паланёны.
Перагаворшчыкам быў ён у крыжакоў, у іх войску,
І калі ён дазнаўся, што сірата і ліцвін я,
Да сябе мяне клікаў, пра Літву мне расказваў.
Мне душу, што балела, пераварочваў тады ён
Словам мовы айчыннай, гукамі роднае песні.
Ён вадзіў мяне часта сцежкай да сіняга Нёмна,
Дзе любіў я аглядваць мілыя горы айчыны.
А як пад замак ішлі мы, слёзы стары выціраў мне
Каб не выклікаць імі там падазрэнняў. Ён помсту
Супраць немцаў распальваў. Помню, вярнуўшыся ў замак,
Нож вастрыў я таемна, з помслівай радасцю рэзаў
Дываны ды псаваў ім Вінрыхавыя люстэркі,
А на шчыт яго яркі кідаў гразёй ды пляваў я.
А як стаў юнаком я, са старым вайдэлотам
Часта плылі мы з Клайпеды лодкай пад бераг літоўскі.
Рваў я кветкі айчыны, і чараўнічы іх водар
У душы зноў абуджваў цьмяную згадку здалёку.
Ахмялелы тым пахам, зноў я вяртаўся ў маленства,
Зноў па бацькавым садзе бегаў з братамі малымі.
Вайдэлот памагаў мне ўспомніць наш дом, шчырым словам,
Прыгажэйшым за кветкі, ён маляваў край шчаслівы.
О як міла ў айчыне між сяброў і ўсіх родных
Я юнацтва б праводзіў! Колькі ж дзяцей так літоўскіх
На чужыне марнеюць, у кайданах крыжаносцаў!
Гэта чуў на лугах я. А на ўзбярэжжы Палангі,
Дзе грымотныя грудзі белае мора ўздымае
І пясок выкідае з пеністай пашчы шырокай,
Так стары гаварыў мне: «Бачыш лагі на ўзбярэжжы?

Як пясок аблажыў іх. Як духмяныя кветкі
Хочуць знізу прабіць тут гэты во саван смяртэльны!
Ах, дарэмна, бо зноўку сунецца гідра наносу,
Напаўзае на зёлкі, душыць падбеленым пузам,
Пашырае навокал дзікае царства пустыні. Сыне!
Рунь веснавая, што пад пяскамі так гіне, —
Гэта брацці ўсё нашы, родны народ наш, ліцвіны.
А наносы ад мора — гэта ж той ордэн крыжацкі».
О як рвалася сэрца біць крыжакоў тады хіжых,
Як хацеў у Літву я! Толькі стары адгаворваў:
«Толькі рыцар свабодны, выбраўшы зброю свабодна,
Можа ў полі адкрытым біцца як з роўнымі роўны.
Ты ж нявольнік, і зброя толькі адна ў цябе — здрада.
Заставайся ж у немцаў, справе вайсковай вучыся,
Заваюй іх давер тут. Потым рабіць што — пабачым».
Я паслухаў старога, з войскам тэўтонаў падаўся.
Толькі ў першай жа бітве, ледзьве сцягі нашы ўбачыў,
Ледзь пачуў нашу мову, песню вайсковую люду,
Я рвануўся да нашых, клікнуўшы тут жа й старога.
Так і сокал, узяты гвалтам з гнязда яго ў клетку,
Як бы доўгай няволяй розум яго ні муцілі,
Ні вучылі, каб біў ён сокалаў-браццяў у бойках,
Ледзьве вырвецца ў неба, ледзь павядзе ён вачыма
Па нязмерных абшарах мілай блакітнай айчыны,
Ледзь дыхне вольнай воляй, шум сваіх крылаў пачуе, —
Лоўчы, кінь ужо ловы! — больш твой не вернецца сокал!
Скончыў хлопец, з увагай слухаў расказ яго Кейстут[4],
Слухаў разам з дачкою, юнай чароўнай Альдонай.
От і восень прыйшла ўжо. Дзень карацее імкліва,
І дачка Кейстутова вечарамі садзіцца
Між сясцёр і сяброўак за самапрадку ці кросны.
Хутка спіцы мільгаюць — круцяцца ў такт верацёны.
І расказвае Вальтэр цуды аб землях нямецкіх
Ды аб сваёй маладосці. Што ні прыгадвае Вальтэр,
Ловіць вухам дзяўчына, у сваё сэрца ўбірае
І ў сваёй памяці носіць, нават у сне тое бачыць.
Там, за Нёманам, кажа Вальтэр, вялізныя замкі,
Носяць там гожыя ўборы, ладзяць цікавыя гульні.
На турнірах шматлюдных рыцары коп'і там ломяць,
З галерэяў дзяўчаты сочаць за імі з вянкамі.
Ён расказваў пра Бога, што валадарыць за Нёмнам,
Пра шчадроты і ласку мацеры Божага сына
І яе светлы вобраз на абразку ўсім паказваў.
Абразок той насіў ён сціпла на шыі заўсёды
І цяпер вось ліцвінцы падараваў яго, рады.

Ён схіляў яе к веры, часта маліўся з ёй разам
І вучыў яе ведам, тым, што ў няволі набыў ён.
Навучыў яе нават быў і таму, чаго сам ён
Аніколі не ведаў: так, навучыў ён каханню.
Ды і сам з ёй вучыўся. О як ён слухаў з любімых
Вуснаў мову ліцвінаў, родную мову дзяцінства!
З кожным словам ускрэслым быццам душа ажывала,
Нібы з попелу іскры, мілыя назвы ўсплывалі,
Саграваючы сэрца: крэўнасць і верная дружба
І яшчэ саладзейшы выраз: каханне, якому
На зямлі няма роўных, апроч слова — «Айчына».

*1826—1827*

## ДЗЯДЫ

### Паэма

(фрагменты)

Д з я д ы. Гэта назва ўрачыстага абраду, які і дагэтуль спраўляе просты народ у многіх паветах Літвы, Прусіі і Курляндыі[1] ў памяць «дзядоў», ці памерлых продкаў. Абрад гэты бярэ свой пачатак з язычніцкіх часоў і некалі называўся частаваннем казла, вёў на ім рэй казляр, ці гусляр, — адначасова і жрэц, і паэт (гусляр).

У наш час з прычыны таго, што адукаванае духавенства і ўлады імкнуцца вынішчыць гэты звычай, звязаны з забабонамі, якія вельмі часта прымаюць непажаданыя формы, — народ святкуе Дзяды патаемна, у капліцах ці ў апусцелых дамах паблізу могілак. Там звычайна ставяць пачастунак — розную ежу, пітво, садавіну — і выклікаюць душы нябожчыкаў. Трэба заўважыць, што звычай частаваць памерлых, здаецца, існаваў ва ўсіх язычніцкіх народаў — у Старажытнай Грэцыі ў часы Гамера, у Скандынавіі, у краінах Усходу і сёння на астравах Новага Свету. У нас у Літве д з я д ы маюць тую асаблівасць, што язычніцкія абрады перамешаны тут з уяўленнямі хрысціянскай рэлігіі, а галоўнае — гэта язычніцкае свята супадае ў часе з хрысціянскім Задушным днём. Просты народ верыць, што частаваннем і песнямі ён прыносіць палёгку душам, якія пакутуюць у чысцілішчы.

Узвышаная мэта абраду, самотнае месца, начная пара, фантастычнасць абходзін некалі моцна хвалявалі маё ўяўленне; я слухаў казкі, апавяданні і песні пра нябожчыкаў, якія варочаліся з таго свету з просьбамі ці перасцярогамі; і ва ўсіх гэтых незвычайных выдумках можна было бачыць пэўныя маральныя павучанні і ідэі, вобразна выказаныя простым сялянскім народам.

Гэтая паэма напісана якраз у такім духу, абрадавыя ж песні і заклінанні ў сваёй большасці пададзены дакладна, а часам і даслоўна ўзяты з народнай паэзіі.

*1823*

## З ЧАСТКІ II

Гусляр. — Стары — першы ў хоры. — Хор сялян і сялянак. — Капліца, вечар.

*Ёсць дзівы на зямлі і на нябёсах,*
*Якія і не сніліся філосафам тут вашым.*

Шэкпір[2]

Хор

Глуха ўсюды, ноч, бязлюддзе.
Што тут будзе, што тут будзе?

Гусляр

Лепш капліцу зачыніце,
Над труною станьце ціха.
Лямпы, свечкі патушыце
Ды завесцеся ад ліха,
Каб праз вокны месяц нават
Не пралез. Ды толькі жвава,
Не марудзьце ані хвілі!

Стары

Як сказаў, так мы й зрабілі.

Хор

Глуха ўсюды, ноч, бязлюддзе.
Што тут будзе, што тут будзе?

Гусляр

Гэй, чысцовыя ўсе душы[3]!
У вадзе вы ці на сушы,
Хай з вас кожная — ці тая,
Што ў смале густой палае,
Ці што, ўшчэмленая ў дровы,
На агні пішчыць у печы
(Ёй прысуд такі суровы),
Ці што ў багне, у макрэчы —
Адусюль сюды імчэце:
Вас мы ўсіх як ёсць чакаем.
З намі сядзьце, пагасцеце —
Сёння ж мы Дзяды спраўляем!
Вас сустрэць мы ўсе гатовы:
Ёсць пітво, ёсць пачастункі,
Сэрцаў шчодрыя дарункі,
А яшчэ — малітваў словы.

Х о р

Цёмна ўсюды, ноч, бязлюддзе.
Што тут будзе, што тут будзе?

Г у с л я р

Дайце пасмачку кудзелі —
Запалю я, вы ж гурмою
Дзьмеце ўсе хвілінай тою,
Каб аж іскаркі ўзляцелі.
Так во, так во — хай шугае,
Хай дарэшты ўся згарае.

Х о р

Цёмна ўсюды, ноч, бязлюддзе.
Што тут будзе, што тут будзе?

Г у с л я р

Тут вы, лёгенькія духі!
Душы тых, што між цямноты,
Плачу, цяжкай працы, слоты,
Пад злы посвіст завірухі
Заблішчалі і згарэлі,
Быццам гэты жмут кудзелі.
Вас, што блудзіце над намі
З беспрытульнымі вятрамі
Між зямлёй і светлым раем,
Запрашаем, заклікаем!

Х о р

Вы кажэце, што вам трэба.
Піць вам, можа, даць? Ці хлеба?

Г у с л я р

Гляньце ўверх! Ах, што там ззяе
Пад скляпеннем ярка гэтак?
Пазалота крыльцаў дзетак
Двух маленькіх там мільгае!
Бы пад ветрыкам лісточкі
Ці ў падстрэшшы галубочкі,
Так гуляюць два анёлкі,
Несутрымныя круцёлкі.

Г у с л я р і с т а р ы

Бы пад ветрыкам лісточкі
Ці ў падстрэшшы галубочкі,

Так гуляюць два анёлкі,
Несутрымныя круцёлкі.

Анёлак
*(да адной з сялянак)*

Мы ляцім да мамы, мамы!
Ты пазнала, мама, Юзю?
Я ж ёсць Юзя, я ж той самы!
І са мной — сястрычка Рузя.
Мы ляцім ад райскай брамы!
Там нам лепей, чым у мамы.
Мама, глянь, мы ў промнях ззяем,
Наш убор з зары, а самі
Мы на крыльцах матылькамі
Лёгка-лёгка так лятаем.
У раі ўсяго хапае:
Гульні розныя, забавы.
Ну, а хто з нас дзе ступае,
Краскі там растуць і травы.
Ды хоць там і добра гэтак,
Точыць нас нуда, трывога.
Ах, у рай для тваіх дзетак
Зачынілася дарога!

Хор

Ды хоць там і добра гэтак,
Точыць нас нуда, трывога.
Ах, у рай для тваіх дзетак
Зачынілася дарога!

Гусляр

Што ж табе, анёлак, трэба,
Каб патрапіць зноў на неба?
Можа, просіш ласкі ў Бога?
Мо прысмакаў хочаш? Мёду?
Малачка мо даць? Ці хлеба?
Яблык? Морквачку з гарода?
Што ж табе, анёлак, трэба,
Каб патрапіць зноў на неба?

Анёлак

Анічога нам не трэба —
Ні прысмакаў тых, ні хлеба.
На зямлі, дзе шмат напасцяў,

Толькі слодыч нам давалі.
Нас таму й мінула шчасце,
Што гаркоты мы не знапі.
Толькі гульні ды сваволле.
А зраблю што — хваляць: «Цаца».
Пець, скакаць, пабегчы ў поле,
Вырваць кветак для Разалькі —
Вось мая была ўся праца.
А яе работа — лялькі.
На Дзяды мы прыляцелі
Не для ймшы, не для застолля.
Мы прысмакаў многа мелі
І ўжо іх не хочам болей.
Не цукерак, не пячэння —
Зерні два гарчыцы дайце,
Бо ў тых зернях горкіх, знайце,
Наш ратунак і збавенне.
Кожны з вас хай памятае
Словы Божага наказу:
Хто бяды не меў ні разу,
Той і шчасця не спазнае.

Хор

Кожны з нас хай памятае
Словы Божага наказу:
Хто бяды не меў ні разу,
Той і шчасця не спазнае.

Гусляр

Ах, анёлачкі, дзіцяткі!
Папрасілі вы не многа.
Вось вам горкія зярняткі —
І ляцеце зноў да Бога!
Ну, а хто нас не паслухаў,
У імя Святога Духа —
Бачыце во гэты крыж?
Раз не трэба солі-хлеба,
Дык ляцеце зноў на неба!
Акыш, акыш!

Хор

Ну, а хто нас не паслухаў,
У імя Святога Духа —
Бачыце во гэты крыж?

Раз не трэба солі-хлеба,
Дык ляцеце зноў на неба!
Акыш, акыш!

(*Прывід знікае.*)

Гусляр

Поўнач! Дзверы ўсе вазьмеце
На калодкі — каб ні шчэлкі!
Ды сюды бліжэй нясеце
Як барзджэй кацёл гарэлкі!
І лучыну! Толькі смела!
Каб гарэлка тут згарэла!

Стары

Я гатовы!

Гусляр

Час! Палеце!

Стары

Ну й агонь! Во й згас — глядзеце!

Хор

Глуха ўсюды, ноч, бязлюддзе.
Што тут будзе, што тут будзе?

Гусляр

Бачу вас я, змарнаваных
Бедачынаў, прыкаваных
Да лагчыны з чаратамі
Злых учынкаў ланцугамі.
Хоць і смерць вас адалела,
Ды яе анёл вам сніцца.
У пакутах ваша цела
Будзе курчыцца і віцца,
Покуль людзі, нібы чару,
З вас не здымуць тую кару
І ад пекла, ад прадоння
Не ўратуюць, — вас склікаем
І агнём тым заклінаем,
Што стыхіяй стаў вам сёння!

Хор

Вы кажаце, што вам трэба?
Піць вам, можа, даць? Ці хлеба?

**Голас**
(*за акном*)

Гэй, крукі, сычы, арліцы!
Крывасмокі, ненажэры!
Хоць пусцеце да капліцы,
Адчыніць хоць дайце дзверы!

**Гусляр**

Гляньце, што за патароча!
Прывід там! Чаго ён хоча?
За акном, бы костка ў полі,
Так бялее ў цемры ночы!
А на лбе гарадь як вочы!
Нібы ў попеле вуголлі!
Валасы — тырчком. Страхоцце!
Дым, агонь-маланка ў роце!
А глядзеце, як іскрыцца
Галава яго! Як быццам
Сноп гарыць сухі цярновы
З трэскам там ці сук яловы!

**Гусляр і Стары**

А глядзеце, як іскрыцца
Галава яго! Як быццам
Сноп гарыць сухі цярновы
З трэскам там ці сук яловы!

**Прывід**[4]
(*з-за акна*)

Вы мяне пазналі, дзеці?
Лепей, лепей паглядзеце!
Я ж ваш пан! Той, той, суровы!
Пан, цяпер нябожчык, дзеці!
Я валодаў вашай вёскай.
Сёння год мінае трэці,
Як сканаў я з волі Боскай.
Ах, цяжкая кара Бога!
Так цярплю, цярплю пакуты!
Я ва ўладзе духа злога,
Ён мяне трымае, люты.
Уцякаю я ад сонца,
Ночы цемрыва шукаю.
Доляй выкляты, бясконца,
Дзе, не ведаю, блукаю.

Сам стаў голаду я паствай,
А што есці мне — не знаю.
Рве, дзяўбе ўсё цела птаства.
Хто ж мне будзе абаронцам
У мучэнні тым бясконцым?

Хор

Рве, дзяўбе ўсё цела птаства.
Хто ж мне будзе абаронцам
У мучэнні тым бясконцым?

Гусляр

Ты якія просіш чары,
Каб пазбыцца гэтай кары?
Папрасіць мо хочаш Неба?
Ці за стол свянцоны сесці?
Ёсць тут хлеб і ёсць да хлеба,
Ёсць што піць тут і што есці.
Што ж табе, скажы нам, трэба,
Каб душа дайшла да неба?

Прывід

Досыць блюзніць!.. Мне?.. На неба?..
Не хачу я! Не, не трэба!
Ёсць адно ў мяне хаценне:
Як душы даць вызваленне!
Лепш — у пекла, лепш пазнацца
З ім, пайсці яго кругамі,
Чым з нячыстымі бадзяцца
Тут бясконцымі вякамі,
Бачыць след былых уцехаў,
Чуць сваіх злачынстваў рэха,
Ад усходу да заходу,
Ад заходу і да ўсходу
Выць ад голаду й быць паствай
Для раз'юшанага птаства!..
Мне датуль душу, што ў ранах,
У пакутным целе несці,
Покуль хто з маіх падданых
Тут не дасць папіць, пад'есці.
Ах, як точыць голад грудзі!
Мне б глыток вады з крыніцы!
Дайце ж мне, малю вас, людзі,
Хоць два зернейкі пшаніцы!

Хор

Ах, як точыць голад грудзі!
Мне б глыток вады з крыніцы!
Дайце ж мне, малю вас, людзі,
Хоць два зернейкі пшаніцы!

Хор начніц

Што нам плач твой, просьбаў словы!
Мы тут кружым, нібы хмара,
Пугачы, крукі ды совы —
Слугі ўсе твае былыя.
Вечна голадам ты, скнара,
Нас марыў — о сны ліхія!
Сёння час прыйшоў расплаты!
Гэй жа, совы з крумкачамі!
Вострай дзюбай, кіпцюрамі
Будзем рваць яго на шматы!
А як ежу возьме ў губы,
Вырвуць мігам нашы дзюбы!
А глыне яе для пробы —
Нават выдзерам з вантробы!
Ты не ведаў жалю, пане!
Дык і мы пра жаль забудзем!
Гэй, сычы, вароны, совы,
Ежу мы яго здабудзем!
А калі яе не стане,
Рваць самога мы гатовы,
Косці ўсе агольваць будзем!

Крук

Што, ты ўвесь знямог, галодны?
А ці помніш, пан шаноўны,
Як зайшоў я ў сад твой плодны,
Грушак, вішань, яблык поўны?
Я тры дні не еў ні крошкі,
Строс два яблыкі там з дрэва.
Тут — садоўнік ля дарожкі
З ваўкадавам! Справа, злева —
Крыкі! Цэлая аблава!
Узялі! Ўсчалася справа.
А за што? За плод якісьці
З дрэў, што ў лесе недзе ўзяты,
Што ўсім Бог даў для карысці,
Як агонь, ваду, зярняты.

Але пан крычыць вяльможны:
«Пакараць, каб помніў кожны!»
Вёска збеглася тут, дзеці.
Як злачынца, прывязалі
Да сахі[5] мяне: глядзеце!
І дубцы ўраз засвісталі!
З скуры, бы з калосся жыта
Ці з струкоў гарох-лузанец,
Косць была мая адбіта.
Не, не знаў ты жалю, пане!

Хор начніц

Гэй, сычы, вароны, совы,
Дык і мы пра жаль забудзем!
Ежу мы яго здабудзем,
А калі яе не стане,
Рваць самога мы гатовы,
Косці ўсе агольваць будзем!

Сава

Што, ты ўвесь знямог, галодны?
Помніш, з дзіцем я пад брамай
Раз перад куццёю самай
Мерзла ў час ліхі, халодны?
«Пан, — маліла я з слязамі, —
Муж памёр. Мы ўжо сіроты...
І дачку забраў даўно ты
Служкай... Злітуйся над намі...
Маці хворая са мною,
На руках — дзіця груднoе.
Дома — голад. Хлеб спажыты.
Выжыць, пан, нам памажы ты».
Ды не меў душы ты, пане.
Выйшаў з п'янага застолля
У залочаным жупане,
Гайдуку сказаў са злосцю:
«Хто пусціў такую госцю?
Гнаць жабрачку за вуголле!»
Тут жа ў ход пусціўшы боты,
Пёс-гайдук мяне — о доля! —
Выпхнуў з дзіцем за вароты.
Не было мне ўжо й начлегу —
Я замерзла сярод снегу
З дзіцяняткам на паляне.
Не, не знаў ты жалю, пане!

Хор начніц

Гэй, сычы, вароны, совы,
Дык і мы на жаль забудзем!
Ежу мы яго здабудзем!
А калі яе не стане,
Рваць самога мы гатовы,
Косці ўсе агольваць будзем!

Прывід

Гора мне. І смажаніну
Не падносъ мне, бо ў хвіліну
Перахопяць дзюбы тыя!
Што мне, што Дзяды святыя!

Хор

Так, мне ў муках біцца век за векам —
Справядліва твая воля, Божа:
Хто не быў ніколі чалавекам,
Чалавек таму не дапаможа.

Гусляр

Раз табе ён не паможа,
Прэч ідзі адсюль, нябожа!
Ну, а хто нас не паслухаў,
То ў імя Святога Духа —
Бачыш гэты Божы крыж?
Раз не хочаш солі-хлеба,
Тут і быць табе не трэба!
Акыш, акыш!

Хор

Ну, а хто нас не паслухаў,
То ў імя Святога Духа —
Бачыш гэты Божы крыж?
Раз не хочаш солі-хлеба,
Тут і быць табе не трэба!
Акыш, акыш!

*(Прывід знікае...)*

*1820—1822*

## З ЧАСТКІ IV[6]

Г у с т а ў

Нядаўна я наведаў дом памерлай маткі[7].
Яго я не пазнаў — былых гадоў астаткі.

Куды ні глянеш — тло, руіны, запусценне,
Калы платоў, паркету друз, каменне.
Ля дома палыны, быльнёг, асоту восці.
Маўчанне немае. Бы ў поўнач на пагосце.
Раней быў іншы мой прыезд у тыя брамы.
Калі здалёк вяртаўся я дамоў, да мамы,
Зычэнні чуў тады я ад усёй акругі.
Яшчэ за горадам мяне чакалі слугі.
Насустрач сёстры з брацікамі выбягалі.
«О Густаў, Густаў!» — брычку ўмомант абступалі.
Гасцінцы атрымаўшы, ў дом дзятва імчала.
Там ■ блаславеннем маці ўжо мяне чакала.
І школьныя сябры былі ў нас — радасць стрэчы!
Цяпер жа — ні душы. Бязмоўе. Жах пустэчы.
Тут брэх пачуў ■ блізкі. Быў ён нечаканы.
Ах, гэта ты, наш пёс, наш Крук адданы!
Наш вартаўнік! Цябе любіла так сям'я ўся!
З усіх сяброў і слуг адзін ты і застаўся!
Хоць без яды, вартуеш тут усё адно ты
Дом гэты без паноў і без замка вароты.
«Мой Крук, мой любы!» Стаў, не верачы мо й слуху.
І ўміг — на грудзі мне! Завыў і ўпаў без духу!..
Гляджу — святло ў акне! Іду: што ж там такое?
Зладзеі ■ ліхтаром, ■ сякерай у пакоях!
Рабуюць там святой мінуўшчыны астаткі!
На месцы, дзе калісь стаяла ложа маткі,
Адзін падлогу сек паркетную з размаху.
Я — за грудкі яго. Стаіць, дрыжыць ад страху.
Пусціў. Сам сеў і плачу. Тут пачуў у змроку,
Бы хтось ідзе — кіёчка стук пры кожным кроку.
Кабета ў лахманах, схудалая, старая,
У ранішнім паўценю, нібы здань якая.
Убачыўшы мяне ў пустым і немым гмаху,
Жагнацца пачала, ускрыкнуўшы ад жаху.
«Не бойся. З намі Бог. Скажы, хто ты такая?
Што мосць твая у гэтым тле шукае?»
«Бяднячка я, — расказвала мне са слязамі, —
Служыла ў гэтым доме я, жыла з панамі.

Ох, добрыя паны! Цяпер — у іншым свеце.
Не, тут не мелі шчасця ні яны, ні дзеці —
Памерлі, разышліся. Пра паніча — ні слыху.
Напэўна, не жыве ўжо. Дом гніе паціху».
Крывёю сэрца аблілося ля парога.
Няўжо мінула ўсё?

Ксёндз

Апроч душы і Бога.
Усё мінецца тут — і шчасце, і нядоля.

Густаў

Як памятна мне ўсё ў дамку тваім, у школе!
Тут я ў двары з дзяцьмі перасыпаў пясочак.
Па гнёзды птушак бегалі мы ў той лясочак.
На лузе ў зайца тут студэнтамі гулялі.
У рэчку блізкую не раз нырца давалі.
Хадзіў я часта ў гай прырэчны, каб сам-насам
Пабыць з Гамерам ці падумаць там над Тасам[8].
Там разам з Янам[9] Вену бралі мы нанова.
Я строіў «роты». «Бой» вялі мы адмыслова!..
Прыйшла яна зірнуць, як мы гуляем, дзеці.
Калі яе ў зары я ўбачыў выпадкова,
Тады ўва мне памерлі Готфрыд[10] і Ян Трэці.
Яна маёю завалодала душою.
З той хвілі сню яе, жыву я толькі ёю!
Усе ваколіцы тут ёю, ёю поўны!
Тут першы раз я ўбачыў лік яе чароўны.
Тут штосьці ласкавае сказала мне пад вязам,
Тут з ёй на ўзгорку мы Русо[11] чыталі разам.
Альтанку ёй зрабіў жывую ў тым цяні я[12],
Вунь з тых лясоў я нёс ёй кветкі веснавыя.
Вунь з той крыніцы, стоячы са мною,
Яна лавіла стронгу вудачкай сваёю.
А сёння!..
(*Плача.*)

Ксёндз

Плач, ды знай: туга па снах былога
Нас толькі труціць, ды не верне ўжо нічога!

Густаў

Праз столькі год вярнуўся я пасля бадзяння
У мой шчаслівы край... Але ў якім во стане!...

Ксёндз

Ці ж будзе горкая сляза, з якой змяшаны
Нектар нябёс — пра шчасце памяць? Сын каханы!
Святло душы струменіць нам сляза такая.
З атрутай жа сляза хіба што ў злых бывае.

Густаў

Паслухай жа... Зайшоў я ў сад. Нямы, бязлісты.
Асенні холад. Вечар быў такі імглісты.
Такімі ж хмарамі абклаліся нябёсы.
Між хмар такі ж плыў месяц. Стылі росы.
Сяйво туману ўсе запоўніла прасторы,
Глыбока ў чарнаце начной танулі зоры.
На ўсходзе ж, бачу, зорачка зноў свеціць тая,
Што нам тады свяціла, што мне ўсюды ззяе.
Агонь той самы зноў паліў мяне ў тым вецці,
Было ўсё, як тады... Яе вось я не стрэціў!
Падходжу пад альтанку. Шолах там якісьці!
Яна? Не, ветрык там прабег па жаўталісці.
І зноўку — цішыня! Кляны стаяць паныла.
Альтанка! Шчасця ты калыска і магіла
Майго! Тут я знайшоў яе й згубіў! А можа,
І ўчора тут была яна? Ля дрэў падножжа
Вунь тых сядзела, дыхала паветрам гэтым,
Якім і я цяпер? Мо ёю ж і сагрэтым?
Гляджу наўкол. Ды позірк мой дарма блукае.
Заўважыў над сабой на ніці павучка я.
Ён звесіўся з лістка — не збіць бы акрабата!
Так, друг, са светам звязаны мы слабавата!
Я к дрэву падышоў. Гляджу, на ўскрайку лаўкі —
Букецік з траўкаю, паперка ля той траўкі.
Ды гэта ж мой лісток! Адна яго палова.
(*Бярэ лісток.*)
З ім усплыла расстання хвіля: «Будзь здарова!..»
Як з верным сябрам, з ім я павітаўся,
З ім доўга размаўляў, пра ўсё ў яго пытаўся:
Як, як яна жыве? Калі ўстае? Што робіць рана?
Якую грае песню на фартэпіяна?
Куды гуляць прыходзіць? Да якой крыніцы?
Дзе бавіцца? Ў якім з пакояў? Ці ў святліцы?
Ці згадвае мяне, ці не пытае, дзе я?
А ўспомніўшы, хаця б на хвілю не зардзее?.. <...>
(*Паказваючы на лісток*)
Во бачыш — выкінула й гэты знак былога:
Ёй нельга з памятак маіх трымаць нічога!..

Пайшоў я з саду. Хоць я на нагах трымацца
Ледзь мог, мяне цягнула штосьці да палаца.
Ён тысячай агнёў сярод начы свяціўся.
Шум, смех гасцей — ніколі так не весяліўся!
Вось чую холад сцен. Іду крадком памалу
І праз крышталь дзвярэй раптоўна бачу залу.
Сталы накрыты ўсюды... І гасцей багата...
Звон чарак, спевы, танцы — у разгары свята!
Тут чую тост!.. Імя. — Чыё?.. Не, не скажу я!
«Няхай жыве!» Чый голас? Хто яе віншуе?
«Няхай жыве!» — крычаць усе адначасова.
Што ж, хай жыве... І я дадаў: «Бывай здарова!»
Тут раптам ксёндз — о як мне ўспамінаць такое?
Ускрыкнуў «Хай жыве» й назваў імя другое...
(*Як бы ўглядаецца ў дзверы.*)
Хтось дзякуй кажа з ласкай... Так, яна, няйначай.
Яе там голас, мілы... Хваляю гарачай
Мне грудзі апякло... Плячамі, ашалелы,
Хацеў я шыбу высадзіць... Ды ўпаў, самлелы.
(*Пасля паўзы.*)
Не, не прытомнасць я тады... а розум страціў!

**Ксёндз**

Няшчасны! Сам сабе пакут шукаў ты, браце!

**Густаў**

Як труп, ляжаў я там, ля шумнага вяселля,
Сярод палітага слязою горкай зелля.
Там быў канец усіх маіх пакут кахання!
Падняў мяне з травы прамень крывавы рання.
Стаяў я хвілю; ціха, спала ўсё прыселле.
Хоць хвіля — як пярун, ды ў вечнасці — даўгая.
На Страшным мо судзе йшчэ выпадзе такая.
(*Пасля паўзы.*)
Анёлам смерці так я выгнаны быў з рая.

**Ксёндз**

Свой боль не верадзі ты ў незагойнай ране!
Ёсць даўняя і слушная перасцярога:
Што скончылася, тое болей не настане.
Знай, любы сыне мой, — такая воля Бога.

**Густаў**
(*З жалем*)

О не! У свет прыйшлі адно для аднаго мы.
Заззяла й зорка нам адна з нябеснай стромы.

Мы аднадумцы, хоць раслі не разам з ёю,
Адных гадоў, падобны нават між сабою.
Адны і тыя ж мроі з ёю мы снавалі,
Адны і тыя ж нас пачуцці саграvalі.
Ва ўсім нас нешта неспасціжнае яднала.
(*З глыбокім жалем*)
Бог завязаў вузлы, а ты іх разарвала!..

*1820—1822*

## З ЧАСТКІ III[13]

### СА СЦЭНЫ 1-Й АКТА 1

Калідор. — Здалёк відаць варта з карабінамі. — Некалькі маладых вязняў выходзяць са свечкамі са сваіх камер. — Поўнач.

Я к у б[14]

Ну што, збіраемся?

А д о л ь ф[15]

Гарэлку глушыць варта.
Дзяжурыць наш капрал[16].
Марудзіць больш не варта.

Я к у б

Калі патруль нас зловіць — засякуць капрала.

(*Тушаць свечку.*)

Патруль жа што: ён грукаць перш пачне ў вароты,
Казаць пароль, ключоў чакаць і толькі потым —
Па калідоры рушыць. Ды ўжо мы па келлях
Тут разбяжымся; міг — і ўсе ужо у «пасцелях».

Ж э г о т а[16]

Салют!

К о н р а д[17]

І ты ўжо тут?

К с. Л ь в о в і ч[18]

І вы?

С а б а л е ў с к і[19]

І я таксама.

Фрэнд[20]

Раз так, ідзём, Жэгота, да цябе мы прама!
Сябры, у нашым гурце сёння вязень новы.
Ёсць у яго камін. Там пойдуць лепш размовы.
Прытым агледзім заадно яго жытло мы.

Сабалеўскі

Што ж, дружа наш, хутчэй вядзі ў свае харомы!

Жэгота

Там келля — можа, тры разы ступіць, не болей.

Фрэнд

Тады да Конрада ўсе! Месца там даволі.
Ды і жытло яго — сцяна ў сцяну з касцёлам,
Там кожны можа быць і вольным, і вясёлым.
Хоць пашумім там, паспяваем, што не спета,
А хто пачуе — скажа, што ў касцёле гэта.
Каляды ж заўтра. А да свята, як бывала,
Я нешта прыхаваў.

Якуб

Піць будзем без капрала[21]?

Фрэнд

Не, з ім, вядома. Нам ён собіць без карысці.
Усё ж паляк, у легіёнах быў калісьці.
Хоць стаў ён маскалём паводле царскай волі,
Ды што католік ён — не забываў ніколі.
Дасць справіць разам нам куццю для ўцехі.

Якуб

А ўведаюць — усім нам будзе на арэхі.

*(Уваходзяць у келлю Конрада, раскладаюць агонь у каміне, запальваюць свечкі.)*

Кс. Львовіч

Калі ж цябе схапілі, любы наш Жэгота?

Жэгота

Ды сёння ж, проста ў восеці: была работа.

Кс. Львовіч

Дык быў гаспадаром ты?

Жэгота

Так, я не лайдачыў.
Каб ты валы мае ды мерыносы бачыў!
Раней не знаў я, дзе авёс, а дзе салома.
Цяпер займеў я нават славу аканома
Ва ўсёй Літве.

Якуб

А як цябе ўзялі? Неспадзявана?

Жэгота

Я чуў пра следства ў Вільні: ля майго паркана —
Дарога, і па ёй кібіткі ўсё ляцелі,
Злавесна бомы іх начамі нам звінелі.
Бывала, дома за вячэрай дзынкнуць шклянкі —
І ўсе бляднеюць мігам, вочы — за фіранкі:
Ці не фельд'егер царскі ў двор заехаў гэта?
Ды я не знаў, каго шукаюць. Сам у змовах
Не быў ніколі. Тут няма, сябры, сакрэта:
Улады ўсё задумалі невыпадкова —
Ім павыцягваць грошы [redacted] нас усіх ахвота,
А там — дадому марш!

Тамаш[22]

Ці ж так яно, Жэгота?

Жэгота

Але скажыце мне, у чым мы вінаваты?
За што ў Сібір нас гнаць, кідаць за краты?
Вы маўчыце... Ну, дзе прычына для расправы?

Тамаш

Прычына? Навасільцаў унь прыджгаў з Варшавы.
Ты думаеш, дарма? Не, не такі сенатар!
Незадаволены ім вельмі імператар,
Бо краў і крадзенае прапіваў адкрыта,
За што купцы пазбавілі яго крэдыту.
Каб выслужыцца, ў Польшчы ён, на ўсё гатовы,
Шукаў ды не знайшоў ну хоць бы нейкай змовы.
Таму ў Літву, у свежы край, настроіў лыжы
З усім сваім шпіёнскім штабам, хіжы.
Каб паказаць, што служыць ён цару аддана,
Ды каб Літву ўсю рабаваць беспакарана,
З нас хоча ён зрабіць падрыўнікоў устояў,
А сам, вядома ж, будзе тут герой з герояў!

Ж э г о т а

Мы апраўдаемся!

Т а м а ш

Апраўдвацца дарэмна:
І следства ўсё, і суд — тут пройдуць патаемна.
Абвінаваўца наш — суддзёю ж нашым будзе.
Хто ведае, за што нас пакараюць суддзі?
Ёсць план — нас засудзіць, і не мінём мы кары.
Адзін у нас ёсць толькі сродак ад напасці:
Павінны выбраць з гурту мы свайго ахвяры,
Што на сябе віну ўсіх здолелі б ускласці.
Я вамі кіраваў, каб збыць няволі путы,
І абавязак мой — за вас прыняць пакуты.
Знайсці б яшчэ братоў, такіх, хто нежанаты,
Хто з нас старэйшы мо, раднёю не багаты,
Па кім бы слёз было ў Літве не гэтак многа —
Тым юных шмат бы вырвалі з лап хціўца злога.

Ж э г о т а

Да гэтага дайшло?

Я к у б

Што, думаў па-другому?
Не знаў, што мо зусім не вернешся дадому?

Ф р э е н д

Наш Яцак[23] жонку вунь цяжарную пакінуў,
Ды слёз не лье.

Ф е л і к с К у л а к о ў с к і[24]

Ну, так. У гэтую хвіліну
Пра сына марыць ён. Як будзе сын, яму я
Вось тут жыццёвую дарогу намалюю.
Дай, Яцак, мне руку — усё ж я з хірамантаў.
Паглядзім долі лінію твайго інфанта[25].
(*Гледзячы на руку.*)
Пад скіпетрам Масквы, калі сын будзе шчыры,
Пазнае, пэўне, суд, кібітку, лёд Сібіры.
А можа, нас усіх яшчэ вось тут заспее —
Люблю сыноў: яны ж — на лепшы час надзея.

Ж э г о т а

А вы даўно ўжо тут?

**Ф р э е н д**

Дзе тут запомніш даты.
Календара няма, лісты не йдуць за краты.
У тым вось і бяда, што мы не знаем самі,
Дакуль яшчэ сядзець нам тут, у гэтай яме.

**С у з і н**[26]

Унь на акне маім — драўляныя фіранкі,
І не адрознію я, дзе ночы тут, дзе ранкі.

**Ф р э е н д**

Ты ў Тамаша спытай — ён патрыярх астрога:
Як рыба буйная, ён трапіў першы ў сетку
І знае, хто калі заняў сваю тут клетку,
Бо ўсіх жа нас прымаў ля гэтага парога.

**С у з і н**

То пан Тамаш? Як не пазнаў тут Тамаша я?
Дай руку! Мосць твая мяне ўсё ж мала знае.
Цябе заўсёды гуртам моладзь абступала —
Усіх твая прыязнасць гэтак чаравала!
Мяне не ўгледзеў ты, я ж пра цябе ўсё ведаў.
Пайшоў на крыж ты, нас ратуючы ад бедаў.
Я ганаруся, што мы — з доляю адною,
І ўспомню ў смертны час, як плакалі з табою.

**Ф р э е н д**

Давайце лепш без слёз — мо іх ужо даволі?
У Тамаша на лбе яшчэ тады, на волі,
Было напісана — «турма». Усім вядома:
Яна — яго стыхія, тут ён — нібы дома.
На сонцы вянуў ён і сох, як грыб баровы,
А ў лёху, без паветра, дзе мы ўсе марнеем,
Сланечнікі, ад цемнаты густой бляднеем,
Ён расцвітае ўвесь, бадзёры і здаровы.
Яшчэ Тамаш пачаў унь курс дыеты моднай,
У свеце ўсім праслаўленай — галоднай.

**Ж э г о т а**
*(да Тамаша)*

Ты галадаў тут?

**Ф р э е н д**

Не, яму давалі стравы.
Ды глянуў бы на іх ты — выгляд страў цікавы!

Адным іх пахам можна б паспяхова, браце,
Труціць мышэй ды розных прусакоў у хаце.

Жэгота

І як ты еў?

Тамаш

Ды недзе з тыдзень я трымаўся,
Пасля паспрабаваў і — ледзьве жыць застаўся.
Такі быў боль, як быццам я прыняў атруты.
Мо з месяц праляжаў без памяці, як скуты.
Шмат зведаў я хвароб, якіх — сказаць баюся:
Без доктара і сам назваць іх не бяруся.
Усё ж ажыў я і так есці налаўчыўся
Я тыя стравы, бы для іх і нарадзіўся.

Фрэенд
*(з наўмыснай вясёласцю)*

Паверце — там, на волі, мы жылі ўсе ў мроях,
Сакрэт жыцця ж адкрылі ў гэтых во «пакоях»:
Смак ежы, дома ўтульнасць — мера прывыкання.
Літвін раз — к пінчуку ці д'яблу — лез з пытаннем:
«Чаму ў дрыгве сядзіш?» — «Прывык», — пачуў ён слова.

Якуб

А як прывыкнуць?

Фрэенд

Ды пра гэта ж, брат, і мова.

Якуб

Я восьмы месяц тут, ды зноў вось трызню воляй,
Як і тужыў, тужу — не меней...

Фрэенд

І не болей?
А пан Тамаш так тут прывык, што нават будзе
Яму ўжо свежае паветра здушваць грудзі.
Адвык як след ён дыхаць, не выходзіць з келлі.
Калі б як выгнаць мы адсюль яго здалелі,
Багаты б стаў ён: на віно не траціўся б ніколі —
Паветра лыкнуў бы і — п'яны! Так, саколе?

Тамаш

Не, лепей галадаць, хварэць, жыць пад зямлёю,
Спазнаць кіі і нават горш за гэта — следства,

Чым вашае, сябры, мне тут цярпець суседства.
Нягоднікі! Што робяць яны з нашаю сям'ёю!

Фрэнд

Як? Плачаш ты па нас? Каго табе так шкода?
Мяне? Карысць з мяне якая для народа?
Калі б вайна, то пэўна быў бы там прыдатны —
Яшчэ я казакам хрыбет «пагладзіць» здатны.
А так — ну, буду маскалёў год сто клясці я,
Пасля памру, згнію — а вынікі якія?
Кім быў на волі я? Нічым! Нібы віно ці порах,
Што прападаюць за дзвярыма на запорах.
Тут, у турме (хай згіне гэта каталажка!),
Я — як патрон без пораху ці без віна біклажка.
На волі вытхнуўся б я, бы віно, памалу,
Згарэў бы ўвесь, нібы той порах ад запалу.
Але калі мяне ў Сібір пагоняць праз раўніны,
Дазнаўшыся, падумаюць браты-літвіны:
Ды гэта ж моладзь наша кроўная так гіне —
Ну, пачакай жа, цар, пастой, маскальскі сыне!
Каб ты, Тамаш, на свеце больш хоць на гадзіну
Пажыў, павер, пайшоў бы я на гільяціну.
Айчыне паслужыць магу я хіба смерцю,
І за цябе гатоў я дзесяць раз памерці.
Яшчэ за Конрада, найхмурага з паэтаў,
Што ўсё нам, як цыган, прарочыць без сакрэтаў.
(*Да Конрада.*)
Так, мне казаў Тамаш, што ты — пясняр вялікі,
І я цябе люблю і тваіх песень зыкі.
Ты, як віно, так дух наш песняй уздымаеш,
Мы, рады, п'ём усе, а ты, брат, усыхаеш.
(*Выціраючы слёзы, бярэ за руку Конрада.*)
(*Да Тамаша і Конрада.*)
Так, так, я вас люблю. Ды можна ж і без плачу
Любіць. Дык хай жа слёз між нас я больш не ўбачу!
Бо як расчулюся, дык сапсую вам свята;
Слязьмі агонь залью і згоркне ўся гарбата.
(*Заварвае гарбату.*)

(*Хвіліна маўчання*)

Кс. Львовіч

Скажу вам, навічка не надта мы сустрэлі.
(*Паказвае на Жэготу*)
Ну, хіба ж плачуць у Літве на наваселлі?..

*1832*

# ПАН ТАДЭВУШ, АЛЬБО АПОШНІ НАЕЗД НА ЛІТВЕ

## Шляхецкая гісторыя 1811—1812 гадоў у дванаццаці кнігах вершамі

(фрагменты)

### З кнігі першай

### ГАСПАДАРКА

Літва! Мая Айчына! Ты — нібы здароўе:
Цябе той цэніць, хто ўжо страціў. Зноў і зноў я
Табою мрою, зноў ты ў снах перад вачыма.
Вярнуць цябе хачу я ў слове хоць, радзіма.

О Матка Боская, што ў Чанстахове ў храме
Глядзіш спагадліва, што ў Вострай свеціш Браме[1],
Што беражэш Наваградак мой з верным людам!
Як ты ў жыццё мяне калісь вярнула цудам[2]
(Я ледзь жывы быў маткай да тваёй апекі
Аддадзены — і ты ўзняла мае павекі;
Зноў я, ўваскрошаны, ісці мог да парогу
Святыні, каб падзякаваць за гэта Богу),
Так нас вярні з выгнання на зямлю Айчыны.
Перанясі душу маю адсюль, з чужыны,
Да ўзгоркаў тых лясных, да тых лугоў зялёных,
Над сінім Нёманам раскінутых, прымглёных,
Да тых палёў, размаляваных пад блакітам
Пшаніцай залатой ды серабрыстым жытам,
Тых, дзе свірэпка, як бурштын, у грэчцы белай
Дзе рдзее дзятлавінка дзеўчынкай нясмелай,
А ўсё абведзена, бы стужкаю, мяжою
З ігрушай-дзічкай, што стаіць там сіратою...
Між тых палёў, над ручаём, што прабягае
Праз лог, на ўзгорку, між бярозавага гаю
Калісь быў двор шляхецкі, дом стаяў драўляны
З пабеленымі сценамі, падмураваны.
Тых сценаў белізну шчэ адцянялі болей,
Вакол пастаўшы вартай, цёмныя таполі.
За домам, чыстым, акуратным, за кустамі
Гумно вялікае стаяла са снапамі.
Ды нівы плён не ўвесь змясціўся пад страхою:
Відаць былі яшчэ тры сцірты за сцяною.
Яшчэ па копах, што блішчаць, бы зоркі, ўсюды,
Па безлічы плугоў, што чарназёму груды

З вясны тут рэжуць роўненька, нібы для градак,
Відаць: у тым двары — дастатак і парадак.
Адчыненая ж брама, што вяла да дому,
Казала: шчыра рады госцю тут любому...

*1832—1834*

### З кнігі чацвёртай

## ХАДЫ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ

Равеснікі дынастыі князёў літоўскіх
У Белавежы, ў свіцязянскіх, кушалёўскіх[3]
Лясах і цёмных пушчах, дрэвы — старажылы!
Вы чарамі красы калісь прываражылі
Пад шаты крон сваіх трывала і надоўга
Дзяржаўнага Вітэнаса[4], вялікага Міндоўга.
Калісьці Гедымін, палюючы ў Панарах,
Адпачываў на шкурах пры агні на нарах
І гладзіў поўсць мядзведжую, закалыханы шумным
Напевам дрэў ды і Ліздзейкі[5] сказам думным.
Ён цешыўся з аднолькавым замілаваннем
І ззяннем вод ракі Віллі, і буркатаннем
Крыніц Вілейкі, як двайнятак у калысцы.
А там, дзе сёння Вільня — сведчаць летапісцы —
Яму прысніўся воўк жалезны апаўночы.
Князь зразумеў тады, што сон быў знак прарочы,
І горад заснаваў, паклаўшы першы недзе
Свой камень закладны. З тых дзён паміж мядзведзяў,
Зуброў і вепрукоў, як рымская ваўчыца[6],
І Вільня ў нетры пушч. З яе саскоў карміцца
І Кейстуту з Альгердам выпала, і слаўным
Нашчадкам — воінам-князям, у бітвах спраўным
З прышэльцаў воінствам ды і ў не меншай меры
Ў аблавах на зуброў ці на другога звера.
Так нам, нашчадкам іхнім, сном таго шчасліўца,
Нібы з гары ўказальным пальцам празарліўца,
Быў лёс Айчыны вызначан беспамылкова:
Жалеза і лясы, Літва, — твая ахова!

О пушчы! У гушчарніках ялін і клёнаў
Ці раз на ловах быў апошні з Ягелонаў,
Апошні, хто насіў Вітольдаву карону[7],
Як вы — на кронах свой вянец вечназялёны.
Праз сэрца корань ваш прайшоў, дубы Айчыны!
І калі б зноў пашчасціла вярнуцца, то прычына
Была б абняць усіх вас, сэрцам прыгарнуцца,

Як да старых сяброў, — каб даў жа Бог вярнуцца!
Ды ці знайду я вас жывымі ў тое свята?..
Як маецца дуб Баўбліс[8], волат дуплаваты,
У чэраве якога можна, бы ў пячэры,
Дванаццаць чадавек усаджваць на вячэру?
Ці зелянее гай Міндоўга[9], велізарны,
За Навагрудскім замкам пры касцёле фарным
І ліпа-матухна пры доме Галавінскіх[10],
Што на сядзібе панскай земляў украінскіх
Так разраслася ўшыркі? Пад яе сукамі
Магло сто чараўніц-красунь з іх дзяцюкамі
Ў танку над рэчкай Россю выгуляцца ўволю.
Як ім здаровіцца? А можа, мне ніколі
Больш не сутрэць вас, помнікі прыроды роднай,
Бо год за годам вас купец рукою шкоднай
Бязлітасна сячэ сякерай царскай, вострай,
Не пець там больш у вас ні сойцы шылахвостай,
Ні салаўям вясной, ні песнярам вячыста,
Якім ваш цень быў, як струмень натхнення чысты.
Хай ліпа ў Чарналессі скажа, колькі Яну
Зялёным шумам памагла[11]; хай дуб з паляны
Ля Канева прызнаецца, якія оды
Пра вольніцу казацкую, бунты, паходы
Ён спеваку казаччыны[12] дуэтам з вязам
Там праспяваў. А колькі ж я вам абавязан
За ўсё і ўсім, далёкай бацькаўшчыны дрэвы!
Бывала, я, стралец благі, у час залевы
Прамажу і ўпушчу здабычу з-за паспеху
І, каб пазбегчы жартаўлівых кпінаў, смеху
Паплечнікаў, за вашымі ж, сябры, сукамі
Схаваюся, збягаю ў нетру з буякамі,
Знайду там купіну, прысяду — скрозь імшыца
Сівая і на куп'і ягада-п'яніца,
Блакітна-шызая, пагнецена нагамі,
А россыпам брусніцы з белымі бакамі,
Як нізкі пацерак. Шуміце вы, а глянеш
Вакол — зялёны шчыт лістоты і калянец ядлоўцу.
Злагада ва ўсім лясным абшары —
Той ціхы час, калі насоўваюцца хмары
І вось-вось дождж ліне; віхор — прадвеснік грому
Ўздымаецца ўгары ў скляпенні нерухомым,
І раптам скалыхнуцца з шумам верхавіны,
І пойдзе гул і трэск да голай лугавіны —
Узвіў стыхій. І мне, стуліўшыся пад вамі,
Тады здавалася, што ўверсе ўверх нагамі

Перавярнуўся свет і скора, вельмі скора
На голаў нам абрынецца ў шаленстве мора!

На доле буралом; вунь вывараценъ дуба
Карэнне ўзняў уверх, старчма, як бёрны зруба,
Разбуранага разам з дахам землятрусам;
За ім, як паламаныя бязмерным грузам
Калоны, распласталіся калоды соснаў
Яшчэ ў няжжухлых лапках; глянеш — млосна!
І ўсюды травы ў пояс — гэта пушчы нетры.
Не то што чалавек, а нават подых ветру
Не пранікае ў неруш. Тут гаспадарамі
Ваўкі, дзікі, мядзведзі. Тымі ўладарамі
Пушчанскай ваўкаўні, як засцярога госцю,
Пакінуты чыесь абгрызеныя косці.
Там часам вымкнуцца між грабаў на імгненне,
Як вілы, два рагі пужлівага аленя
І ўраз схаваюцца — палоскай залатою
Мільгнуўся чуткі звер машчалінай густою.
Зноў ціха ў засені; дзесь дзяцел на асіне
Стук-стук, стук-стук — і знік, пераляцеў к яліне,
Перабірае дзюбай ствол і толькі гукам
І выдае сябе. Так бабка ў хаце ўнука
Знаходзіць: жэўжык у куток зашыўся
І стукае — даў знак, што не згубіўся.
А вунь вавёрка ўселася на задніх лапках,
Грызе арэх, а пульхным хвосцікам, як шапкай,
Прыкрыла тулава да мордачкі старанна,
Як пер'ем свой кірас гвардзейскія уланы.
Хоць і затулена, а позіркам віжуе
Ва ўсе бакі і ўніз, і хай сабе пачуе:
Шурхнула злёгку штосъ — лясную балерынку
Падскокамі ўсіх па з галінкі на галінку
Спрыт перакіне ўмомант у дупло-засаду,
Як дух — лясную німфу — кволую дрыяду[13].
Зноў ціха...

### З кнігі адзінаццатай

## ГОД 1812

У той вялікай замкавай прыёмнай зале
Сышліся на вяселле госці і пасталі
Кругом застолля, ждуць з цікаўнасцю ўваходу
Заручаных. Суддзя ў мундзіры ваяводы

З'яўляецца ў дзвярах. Ідуць абапал свата
І Зоф'я і Тадэвуш. Ён запанібрата
Чэсць аддаваў вайскоўцам леваю рукою,
А галавы кіўком — гасцей цікаўных строю.
Нявеста прысядала — рэверанс адменны
(Прайшла ў свой час яна муштроўку ў Тэлімены.)
На галаве яе вяночак з кветак поля
Тых самых, што ў абрадах свенцяць у касцёле,
Якія на алтар найсвентшай Маткі Боскай
Усклала і яна, нарваўшы дзесь за вёскай
Уранні, а ішла дадому — зноў сабрала
Тых самых кветак. І цяпер іх раздавала
Па каліўцы гасцям, прадбачліва ў паклонах
Трымаючы вянок, які ў лістках зялёных ззяў, як сярпок.
Прыблізіцца да светлай панны
Імкнуліся чыны пяхотныя і ўланы
Яшчэ ў парозе, а калі была ўжо ў зале,
Ёй генералы ўдзячна ў ручку цалавалі.
Князевіч, першы з іх, за плечы Зоф'ю ўзяўшы
І па-бацькоўску ў лоб яе пацалаваўшы,
Падняў красуню над сталом, на ўслон паставіў —
Яна багіняю была ў сваёй паставе.
Усе заахалі, запляскалі ў далоні,
Вачам не верылі: стаіць яна на ўслоне
Ў літоўскіх строях, просценькіх, амаль вясковых.
Мо найглыбей уражваў гэты ўбор вайсковых,
Якія па-за светам зімы зімавалі,
А ўсюды па сваім, па родным, сумавалі.
Цяпер, палоненыя харáством убрання,
Яны ледзь стрымлівалі слёзы хвалявання,
Бо ўсё, што там на ёй так зграбненька ляжала,
Ім незабыўнае юнацтва ўваскрашала —
Дажынкі па дварах, залёты маладосці...
Уцёршы ўпотай вочы, просяць Зоф'ю госці
Галоўку ўзняць вышэй, зірнуць у вочы смела
І любаму і ім. Нявеста, як умела
Ў той сарамлівасці, зірнула з павароту
На любага, рукой закрыўшы твар да рота.
Тадэвуш быў здаволены і час па часе
Палэпваў злёгку пальчыкамі па лампасе.
Ці хто параіў Зосьцы — знойдзецца ж ахвочы
Даць раду, — ці інстынкт ёй падказаў дзявочы
Абраць вянчальны ўбор па сэрцы і да твару —
Загадка. Мо дзяўчына ўпершыню на кару
Магчымую за ўпартасць ручкаю махнула —

І Тэлімена толькі з горыччу ўздыхнула.
Што падказала сэрца, тое і надзела,
А пра замежны шык і слухаць не хацела.
Спаднічка доўгая бялела з-пад кароткай
Зялёнай сукні з тонкай шэрсці і абводкай
Па нізу паскаю ружовай. Фартух белы
З мярэжкай вышыт крыжыкам рукою ўмелай;
Гарсэт, [redacted] камлотнае[14] матэрыі зялёнай,
Аздоблены тасьмой ружовай і фальбонай,
Туліў, як два бутоны — зеляніна ружы,
Яе дзявочую красу — грудзей паўкружжы;
Кашулі рукаўцы, як матылі-бяляны,
Гарсэта зеляніну ўкрылі, і румянай
Тасемкай крыльцы іх павязаны, здаецца,
Ля самых кісцяў рук. Каўнерык, як вядзецца
Ў такім убранні, банцікам з ружовай стужкі
Сабраны і завязаны. Нявесты вушкі
Ўпрыгожваюць, як вішанькі, дзве завушнічкі.
Яны з вішнёвых костачак дзесь ля крынічкі
Былі ёй выразаны тым дабжынскім Соскам.
(На іх і сімвал: сэрцы два, страла палоскай
І драпінкі: лічы, што гэта — сэрца раны;
Дзяцюк у панну быў па вушы закаханы.)
Між бубачак вянка дзве кветачкі шыпшыны,
А на грудзях дзве нізкі пацерак з бурштыну.
Каса заплецена, адкінута за спіну.
І венчык, бы сярпок срабрысты, шліфаваны,
Бліпчыць, як месячык на галаве ў Дыяны[15].

### З кнігі дванаццатай

### «ЗЛЮБІМСЯ!»

А на дзядзінцы замка ў парах ужо сталі
Вайскоўцы з дамамі; салдаты запрашалі
Дзяўчат вясковых. «Грайце паланез нам!» — хорам
Крычаць, і насустрэчу дамам і танцорам
Вядзе аркестр вайсковы іхні завадатар.
Суддзя, калісь танцор заўзяты і аматар
Шыкоўных бальных танцаў, просьбу генералу
Шапнуў на вушка ветла: «Можа б, не іграла
Пакуль што гэта музыка? Я тут спраўляю
Заручыны пляменніка, а ў нашым краі
З прапрадзедаў была і засталася мода
Гуляць і пець пад музыку свайго народа.
Вунь там і цымбаліст стаіць, скрыпач са смыкам,

А трэці, што з казіцай, збіты з панталыку:
Калі ж дадуць ім знак? І дудары гняўліва
Раз-пораз зіркаюць на панства нецярпліва.
Мне не хацелася б іх адпраўляць дахаты
Без шанцу паказаць сваё майстэрства ў свята,
Бо крыўд тады — і ў мех не згорнеш віслабокі,
Ды і народ не пойдзе пад аркестр у скокі.
Няхай пачнуць яны, каб тон задаць вяселлю,
А там і мы пазней станцуем пад капэлю», —
І знак падаў. Скрыпач, з плеч скінуўшы сярмяжку,
Каб закасаць рукаў, смычком на ўсю расцяжку
Даткнуўся струн, а пальчыкамі жвава, дбала
Перабіраў па грыфе — вось і заспявала
Капэла сельская. І дудары старанна.
Плячыма рухаюць, каб поўненька набрана
Было ў мяхах паветра для гудзення дудаў,
І дзьмуць, што сіл стае; іх шчокі, як з прастуды,
Распухлі. Пазірнеш — ну рыхтыкі анёлкі
Крылатага Барэя дзьмуць ва ўсе свісцёлкі.
А дзе ж цымбалы, дзе? Калі празнацца шчыра,
Былі там дзецюкі, якія і на ліры
І на цымбалах гралі, ўсе — не лыкам шыты!
Але ж сюды прыйшоў і Янкель, знакаміты
Музыка. Хто ж з іх там сваю ігру пасмее
Зраўняць з непараўнальнаю ігрой яўрэя?
(Усю зіму ён дзесьці ў зацішку таіўся,
Цяпер жа пры вайсковым штабе аб'явіўся
І завітаў сюды.) Яго апанавала
Ўся грамада гасцей, нясуць з двара цымбалы
І просяць хоць адзін матыў сыграць на спробу.
Карчмар аднекваўся, маўляў, пасля хваробы
Не служаць пальцы ды і ўмельства ўжо звялося.
Хацеў зайсці з двара, але, на шчасце, Зося
Заўважыла тарокі, ліскаю ласкавай
Падбегла, малаточкі два рукою правай
Старому падае, а леваю — сівую
Калмаціць бараду і просіць: «Кругавую
Сыграйце полечку, дзядок! Мы адгулялі
Мае заручыны. Вы ж калісь абяцалі,
Што на маё вяселле вы цымбалы з бантам
Прынясеце і будзеце за музыканта».
Карчмар любіў дзяўчо. Кіўнуўшы барадою,
Даў зразумець, што згодны. Госця чарадою
Вядуць у круг і садзяць, тут жа на калені
Кладуць цымбалы. Ён у смутным задуменні

Глядзіць на інструмент. Напэўна, так у смутку
Глядзіць і ветэран на шаблю, што ў закутку
Валялася здаўна, ды выпаралі ўнукі, —
Упэўнен: не забыў яшчэ старой навукі.

Два хлапчукі, сыны нядаўніх інсургентаў,
Прыкленчыўшы, вядуць настройку інструмента,
Падкручваюць лады, каб ва ўнісон гучанне
Было ва ўсіх рэгістрах. Янкель у маўчанні
Сядзеў, зажмурыўшыся, і трымаў між пальцаў
Два малаточкі, як дзяўчына — цэўкі-пяльцы.

Ударыў лёгенька па струнах, быццам скінуў
Знямогу з рук — і ў той жа момант гуд пчаліны
Пачуўся там з-пад струн. Якоесьці імгненне
Маэстра вычакаў. Ды вось найшло натхненне:
Дзвюма ўжо біткамі па звонкіх струнах выцяў —
Зноў загуло, нібы з гнязда чмялёў у жыце;
Зірнуў уніз, замёр на момант, быццам вокам
Прымераў дэку на трываласць, і наскокам
Пусціў абедзве біткі — звоняць, плачуць струны.
Знямелыя, усе стаялі... Як буруны,
Здалося, коцяцца адтуль, шумяць, гамоняць,
Бы янычарскі той аркестр[16], усіх палоніць
Наш паланэз, той надзвычайны, трэцямайскі[17].
Здаецца, поўна ім Літва і край жамайскі.
І ў танец рвуцца ўсе, дзе б пары ні стаялі.
О то ж уздым! Як людзі духам акрыялі!
Ён пажылым гасцям уваскрашае дату
Прыняцця канстытуцыі, калі сенату
Было Гісторыяй даручана заданне
Апавясціць народаў поўнае яднанне.
«Віват!» крычалі ўсе тады і за здароўе
Пілі да дна — за караля і ўсе саслоўі.

Маэстра збавіў тон — плывуць другія гукі.
Ужо ў іх чуецца то злосны сык гадзюкі,
То скрыгат шкла аб шкло. Нервовы цік балесна
Паторгаў твары ўсіх; ці то намёк злавесны
На непрадбачную бяду, ці мо сфальшывіў
Сам цымбаліст? А дысананс, як на спажыве,
Сядзіць на мілагучнасці і падмінае
Ўвесь хор. Натоўп заслухаўся, успамінае
Канфедэратаў змовы, здрадніцтвы і звады,
Што ў лад грамадства краю ўклінілі разлады.

Герваз гукнуў, схапіўшы сэнс у іх матыве:
«Дык гэта ж Таргавіцы[18] голас! Песні тыя!»
Тут суха трэснула струна, нібы фіналам
Варожы ўсім матыў дарэшты даканала.

Але музыка граў: то дакранаўся прымаў,
То шпарыў па басах, нібы іх браў у прымы
Сваёй мелодыі, і тысячамі тонаў
Са свістам, з громам, з плачам-енкам і са стогнам
Дзяцей і матак, гарадоў, прадмесцяў,
Трагедыя нападаў, войн, нашэсцяў
Адгаласіла, адмаршыравала
Ў ягонай музыцы. З такім запалам
Перадаваць загадваў ён цымбалам
Такт маршаў, тэмп атак і штурм напорны,
Што ўсе сялянкі, збедніўшыся горна,
Трымцелі з плачу. У страшэнным гуле
Ім згадваўся расказ — не раз жа чулі —
Аб польскай Празе, што крывёй сплывала,
А да канца пазіцый не здавала.
З палёгкай уздыхнулася ў зняменні
Ўсяму натоўпу, калі ён у жмені
Схапіў той жах са струн і ад знямогі
Рукамі страсянуў, нібы пад ногі
Яго абтрос, каб затаптаць благога.

Кароткі перапынак шчэ нікога
Не вывеў з задумення, а музыка
Ізноў зайграў, і струны стоязыка
Занылі, як па маці плач дзяціны
Ці мухі крыллем — з сецяў павуціны.
Але штораз вышэй бяруцца тоны,
Зліваюцца акорды ў легіёны,
І ўжо матыў прабіўся праз рыданні
Той сумнай песенькі пра ствардаўні
І час, і лёс жаўнерыка паходны
Ў чужых краях, дзе, змучаны, галодны,
Ён шлях шукаў дамоў і ўпаў пад ногі
Свайму буланчыку каля дарогі,
А конік, як адчуўшы развітанне,
Іржэ і дол капае капытамі.

Старая песенька, каму ты не запала
Ў душу, ад маладых салдат да генерала,
Ссівелага ў страі? І ўвесь натоўп шматлікі

Самкнуўся навакол натхнёнага музыкі.
Стаяць салдаты моўчкі, будзяць успаміны,
Як да таго, пакуль спазналі хлеб чужыны,
Па-над магіламі дзядоў, бацькоў і блізкіх
Спявалі са слязой знаёмую з калыскі
Ўсё тую ж песеньку-разлуку пра бадзяжку.
Успамінаючы, з іх кожны з болем, цяжка
Ўздыхаў, нібы адольваючы зноў бясконцы
Паходны шлях свой па пясках пад яркім сонцам,
Па цаліку ў бязмежных стэпах на марозе
Сярод чужых людзей — той час, калі ў абозе
На біваку яны свой боль, тугу і раны
Лячылі ёю, роднай песняй...

*1833—1834*

## ПРА РАМАНТЫЧНУЮ ПАЭЗІЮ

(фрагмент)

Некаторыя пісьменнікі ва ўсёй паэтычнай літаратуры бачаць толькі класіцызм і рамантызм і, разглядаючы творы ўсіх паэтаў ад Арфея[1] да Байрана[2] як класічныя ці рамантычныя, кладуць адных направа, другіх налева. Так што, з аднаго боку, «Іліяда» становіцца побач з «Генрыядай»[3], гімны ў гонар алімпійскіх герояў — каля французскіх одаў да нашчадкаў, да часу і г. д., а з другога боку, эпас «Кніга герояў» і «Нібелунгі»[4] сутыкнуцца з «Боскай камедыяй» Дантэ і песнямі Шылера. А што да такіх, напрыклад, твораў, як «Месіяда»[5], санеты Петраркі, «Вызвалены Іерусалім», «Герман і Даратэя» Гётэ і ўся французская паэзія, то проста немагчыма зразумець, куды яны былі б аднесены на гэтым страшным судзе. Вось якую карысць прыносяць паэтыцы агульная і няпэўная класіфікацыя; яна і ў прыватных момантах можа выклікаць такую ж блытаніну, калі, як той гамераўскі Нестар, пачне дзяліць натоўпы* на народы. Усіх пісьменнікаў аднаго племені, напрыклад немцаў, ён запіша ў рамантыкі, адначасова Лесінга[6], як і Шылера, Віланда[7] і Гётэ, Гагедорна[8] і Бюргера[9] — Tros Italusve fuat[10]. Альбо аднаму пісьменніку ён прыпіша быць абавязкова рамантыкам, напрыклад, Гётэ, хаця яго «Іфігенія ў Таўрыдзе», на думку знаўцаў, з усіх сучасных твораў больш за ўсё падыходзіць да класічнай паэзіі грэкаў, а яго «Таса»[11] спалучае рамантычны дух з класічным стылем, хаця той жа Гётэ амаль ва ўсіх сваіх творах паўстае кожны раз іншым і бясконца разнастайным.

Уся трываласць гэтакай класіфікацыі і паспешлівых высноў тлумачыцца тым, што крытыкі паэзіі, падхапіўшы ў нямецкіх тэарэтыкаў выразы «класіцызм» і «рамантызм», прылучаюць да іх свае ўласныя меркаванні, а таму сцверджанні іх не будуць дастаткова зразумелыя да таго часу, пакуль

* «Дзялі натоўпы на народы», «Іліяда» (*заўвага аўтара*).

пісьменнікі гэтыя не пачнуць ужываць тэхнічныя выразы ў агульнапрынятым іх значэнні ці не растлумачаць, у якім сэнсе яны іх ужываюць. Альбо калі мы прымем выразы «класіцызм» і «рамантызм» у значэнні Шлегеля, Бутэрвека і Эбергарда[12], якія першыя ўвялі гэтыя тэрміны ў тэорыю і далі ім сваё вызначэнне, калі характэрнай асаблівасцю рамантычнай паэзіі мы прызнаём адлюстраванне ў ёй духу часу, светапогляду і пачуццяў народаў у Сярэднявеччы, — у такім выпадку выступіць супраць рамантызму зусім не азначае выступіць супраць паэтаў, гэта значыць аб'явіць вучоную вайну рыцарскім народам, звычаі і подзвігі якіх апявалі паэты.

Мала таго — гэтак жа, як у цяперашняй Еўропе захаваліся паняцці і знаходзяць водгук многія пачуцці рыцарскіх часоў, так і ў многіх сучасных творах розных жанраў можна заўважыць у той ці іншай ступені рысы рамантызму. Калі б хто-небудзь захацеў цалкам знішчыць у паэзіі гэтыя рысы, давялося б спачатку змяніць характар народаў, што ўжо не ва ўладзе тэарэтыкаў, альбо даказаць, што сюжэты, заснаваныя на ўяўленнях і пачуццях рамантычнага свету, не паддаюцца ўдалай паэтычнай распрацоўцы, а гэта аспрэчваецца прыкладамі многіх выдатных паэтаў-рамантыкаў*. Калі ж мы аспрэчым вызначэнні нямецкіх тэарэтыкаў і прыпішам рамантызму нейкі іншы сэнс, калі мы, напрыклад, убачым яго сутнасць у адмаўленні канонаў і ўвядзенні ў паэзію чарцей, тады папрокі праціўнікаў такога рамантызму будуць справядлівыя і неаспрэчныя.

Каб пазбегнуць падобных двухсэнсоўных сцверджанняў, лепш было б, ухваляючы ці крытыкуючы які-небудзь род паэзіі, пачаць з пералічвання пісьменнікаў і іх твораў і паказу іх вартасцей і недахопаў. Бо крытычная ацэнка не можа абапірацца толькі на крытыку саміх правілаў. Крытык, які пажадаў бы на аснове захаванага ўрыўка «Паэтыкі» Арыстоцеля вынесці прысуд адносна Гамера, Арыёста[13], Клапштока і Шэкспіра, быў бы падобны на суддзю, які на аснове законаў Салона[14] ці дванаццаці табліц[15] узяўся б вырашаць справы грэка, італьянца, немца і англічаніна. З гэтага зусім не вынікае, што крытыка прыгожых мастацтваў не павінна грунтавацца на справядлівых і цвёрдых прынцыпах. Гэтак жа, як у свеце маралі існуюць адны законы, заснаваныя на сумленні кожнага справядлівага чалавека ва ўсе часы і ва ўсіх народаў, але ёсць і іншыя, зацверджаныя заканадаўцамі адносна тых ці іншых абставін і здольныя мяняцца разам з духам часу і звычаямі, — так і ў свеце фантазіі ёсць істотныя і натуральныя для мастацтва правілы, якія паэтычны інстынкт можа і абавязаны захоўваць ва ўзорных творах любога роду, у той час як іншыя крытычныя ўказанні, заснаваныя на заўвагах адносна асобных твораў, павінны падлягаць зменам у сувязі са зменамі ў разумовых настроях і характары мастацтва.

Калі эстэтычная крытыка ўлічыць усё гэта, адносячы кожны твор да адпаведнай эпохі і людзей, яна не будзе з несправядлівай упартасцю вышукваць

* Не толькі ў паэзіі, а і ў іншых відах мастацтва крытыка адрознівае рамантычны род. Напрыклад, у жывапісе італьянскай школы вобразы Мадонны і анёлаў узяты з рамантычнага свету і ўзвышаны да ідэалу (*заўвага аўтара*).

10 Зак. 1799

і падкрэсліваць памылкі аднаго кірунку; для крытыкаў, якія разглядаюць мастацтва не толькі з эстэтычнага, але таксама з гістарычнага, філасофскага і маральнага пунктаў гледжання, усе напрамкі будуць аднолькава вартымі ўвагі, бо кожны твор — плён чалавечай творчасці, у якім мы знаходзім адлюстраванымі рысы развітага ў розных кірунках чалавечага розуму, а перш за ўсё ў тых кірунках, мэтай якіх з'яўляецца выключна сам чалавек, яго звычаі і пачуцці. Такім чынам, важным і вельмі цікавым ва ўсіх адносінах будзе як увесь род рамантычнай паэзіі, так і яго асобны від — народная паэзія. Нам яшчэ застаецца сказаць некалькі слоў спецыяльна пра яе, але больш шырокае апісанне народнай паэзіі, а канкрэтней — нацыянальнай народнай паэзіі, мы пакідаем на другі раз.

Мы ўжо ўпаміналі вышэй, што ў Сярэднявеччы ў народзе былі распаўсюджаны сказанні і песні. Характар іх павінен быць больш ці менш аднастайны, уласцівы ўсяму роду паэзіі: сюжэты браліся з рыцарскай гісторыі і аздабляліся выдумкай; пачуцці да прыгожага полу выяўляліся ў сентыментальных фразах ці вясёлых жартах; мова была натуральная і простая, радок прыстасоўваў гэтыя творы да спеву. Гэты шырокі род паэзіі ўключаў мноства асобных відаў, што мелі розную назву — песні, сагі, lais, virelais, sirvantoisi[16] і г. д. Найбольш распаўсюджаны былі балады і рамансы. Назва «балада», здаецца, упершыню з'явілася ў Італіі (canzone a ballo) і адносілася да ўсіх без выключэння вясёлых песень, на што ўказвае само слова ballare (танцаваць). У іспанцаў, у якіх шырока працвітала народная паэзія, балада была вядома толькі пад назвай рамансаў (romanses). Французы, праўда, адрознівалі баладу ад іншых відаў, але не столькі па сутнасці і характары, колькі па будове страфы і верша. Якраз таму многія з песень Маро[17], якія трэба было б аднесці да мадрыгалаў і рамансаў, называліся баладамі; таму Буало кажа, што дасціпным прыпевам ці незвычайнай рыфмай вычэрпваюцца ўсе вартасці гэтага роду паэзіі.

Зусім іншы характар, дакладны і пэўны, мае англійская балада — гэта кароткае апавяданне, сюжэт якога ўзяты з паўсядзённага жыцця альбо з рыцарскіх паданняў і ў якое для ажыўлення звычайна ўводзяцца дзівосы рамантычнага свету; тон англійскай балады — меланхалічны, стыль сур'ёзны, мова простая і натуральная. Барды і менестрэлі перанеслі гэты від балады з шатландскіх і ірландскіх гор на раўніны Англіі, а народныя паэты любілі збіраць гэтыя балады, апрацоўваць альбо па іх узору складаць новыя. Англійская літаратура налічвае больш за дзвесце збораў гэтага роду. Аднак з часам, калі дух лонданскай паэзіі пачаў мяняцца і развівацца іншым шляхам, з'явіліся балады, зусім не падобныя на народныя, вясёлыя і дасціпныя (Коўлі[18], Прайор[19]), а сярод іх былі часам і такія, што парадзіравалі старадаўнюю баладу (Свіфт). Аднак густ гэты панаваў нядоўга; спачатку Роу[20], а потым Гей[21], Дэвід Мелет[22], асабліва Персі[23] і Вальтэр Скот уваскрасілі бляск велічных шатландскіх балад.

Такая ж гісторыя балады і ў немцаў, дзе гэты від паэзіі, вабячы многіх паэтаў, быў усё ж не так распаўсюджаны, як у Англіі, і паддаўся розным зменам характару і стылю. Толькі ў другой палове мінулага стагоддзя (1773)

Бюргер сваёй славутай «Леанорай» і многімі іншымі ўзорамі выклікаў шматлікіх паслядоўнікаў. З таго часу нямецкая літаратура зрабілася найбольш багатай баладамі пасля англійскай. У гэтым жанры зіхацяць праслаўленыя іншымі заслугамі імёны Штольбергаў, Казегартэна[24], Гельцы[25], Гётэ і Шылера. Апошні, аднак, на думку Бутэрвека, крыху аддаліўся, асабліва ў стылі, ад натуральнасці і прастаты — асаблівасці шатландскіх балад. З баладай маюць падабенства і рамансы (romance, romanza), асабліва распаўсюджаныя ў Іспаніі і Францыі; яны адрозніваюцца ад балад тым, што апяваюць чулліва-пяшчотныя пачуцці, і таму ў іх меней фантастычнай выдумкі, форма іх пераважна драматычная, стыль жа павінен характарызавацца па мажлівасці большай наіўнасцю і прастатой.

*1822*

## ПРА БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

*З лекцый пра славянскія літаратуры*
*ў Каледж дэ Франс, Парыж*
*(1840—1843)*

Вялікую прастору... займае краіна паміж Дняпром, Чорным морам, Бугам і Нёманам. Яна даўно згубіла агульную назву, бо розныя пакаленні, якія жылі тут, не прызнаюць ужо імя славян за сваё родавае... Нарманы і ляхі прыходзілі сюды са сваёй уладай, і схіляліся яны то пад скіпетрам рускіх князёў, то пад уладай Польшчы. З той пары, калі іх заваяваў дом Рурыка, яны былі ў складзе рускіх земляў... Тут сутыкалася каталіцкая рэлігія з усходняй царквой, шляхецкая Рэч Паспалітая з сістэмай самаўладства...

...З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рысаў. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі Літоўскі Статут напісаны іхняй мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моваў найменш змененай. Усю сваю гісторыю на зямлі яны прайшлі ў страшэннай галечы і прыгнёце.

...Мова поўдня Расіі — маларуская, на якой гаворыць амаль дзесяць мільёнаў чалавек, бясспрэчна, самая музычная, самая паэтычная і звонкая, але яна ніколі не была настолькі развітай, каб стаць мовай літаратурнай. На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай, таксама размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі. Мова велікаросаў, на якой гаворыць амаль гэтулькі ж чалавек (трэба выключыць адсюль фінска-маскоўскі дыялект, які моцна ад яе адрозніваецца), вылучаецца багаццем і чысцінёй, але ў ёй няма ні цудоўнай прастаты беларускай мовы, ні гарманічнасці і музычнасці маларускай...

**Каментарыі**

**«Бульба».** Задуманую паэму «Бульба» А. Міцкевіч пачаў пісаць у 1819 г. і потым перапыніў над ёй працу. Вярнуўся да яе ў 1821 г., але так і не скончыў. Фрагмент «Зямля навагрудская!..», відавочна, быў пачаткам песні III. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі. Гэты і іншыя творы А. Міцкевіча ўзяты для перакладаў у асноўным з выд.: Mickiewicz Adam. Dzieła. — Warszawa, 1949—1955. — T. l—16.

[1] Трамбецкі Станіслаў (1735—1812) — польскі паэт, аўтар паэмы «Сафіеўка», у якой апісаны славуты сваёй прыгажосцю парк каля горада Гумань (Умань) на Украіне, што быў закладзены магнатам Патоцкім для сваёй жонкі Соф'і.

[2] На краснай жа Русі... — «красная» — тут: «прыгожая». «Русь» — гэта назва часам распаўсюджвалася на Беларусь, уключаючы яе заходнія губерні.

[3] Цэрэра — рымская багіня земляробства і ўраджаю.

[4] Гаворка ідзе пра час, калі ўладар Навагрудка (тады — Новагародка) Міндоўг пашыраў свае ўладанні за кошт земляў іншых «літоўскіх» і не толькі «літоўскіх» князёў, утварыўшы такім чынам раннефеадальную беларускую дзяржаву (тагачасная Літва — гэта фактычна беларускія землі).

[5] Рэйтаны... — гл. каментарый да «Падарожжа па Літве ў 1819 годзе» Ю. Нямцэвіча.

[6] Гронкі такаю — вінаградныя гронкі. Такай — адзін з лепшых гатункаў венгерскага віна.

[7] Матыль індыйскі — шаўкапрад.

[8] Сандамірскі ўраджай... — Ваколіцы польскага горада Сандаміра славіліся добрай глебай і выдатнымі ўраджаямі збожжа.

[9] Андалузія — правінцыя ў Іспаніі, што славілася добрымі пародамі буйной рагатай жывёлы і коней.

[10] Верашчакі — гл. каментарый да балады Яна Чачота «Калдычэўскі шчупак».

[11] Тут гаворка ідзе пра ліберальнага графа Адама Храптовіча (1768—1844), удзельніка паўстання Касцюшкі. У сваім маёнтку Шчорсы на Навагрудчыне паспяхова выкарыстоўваў новыя, больш эфектыўныя метады гаспадарання.

[12] «Мудры скарб» — сабраная бацькам А. Храптовіча, вядомым дзяржаўным дзеячам Вялікага Княства Літоўскага Іяхімам Літаворам Храптовічам, славутая шчорсаўская бібліятэка, багатымі кнігазборамі якой часта карысталіся філаматы Адам Міцкевіч, Францішак Малеўскі, Юзаф Яжоўскі, Ян Чачот.

**«Песня».** У аўтара — без загалоўка. Твор быў прачытаны аўтарам на пасяджэнні філаматаў 1 лістапада 1819 г. Падабраўшы мелодыю, філаматы часта спявалі яе на сваіх сходках і ўрачыстасцях. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

[1] Статуты — так філаматы называлі статут свайго Таварыства, які яны неаднаразова мянялі, удасканальвалі.

**«Ямбы».** Гэта ўрывак з вялікага віншавальнага верша ў гонар дня нараджэння Яна Чачота 24 чэрвеня 1819 г. Ямбы — так называлі філаматы свае вершы, што пісаліся з нагоды імянін ці іншых урачыстасцей і нагадвалі сяброўскія шаржы. Пераклад К. Цвіркі.

[1] Людвік Дзюба — відавочна, адзін з настаўнікаў.

**«Свіцязь».** У аснове балады — запазычанае з аднайменнай Чачотавай балады беларускае народнае паданне пра затапленне легендарнага горада Свіцязь. Пераклад К. Цвіркі.

[1] Гл. каментарый да «Калдычэўскага шчупака» Я. Чачота.

[2] Плужыны — вёска ў Навагрудскім павеце (цяпер — Навагрудскі раён), паблізу Свіцязі. Тут часта гасцяваў А. Міцкевіч.

[3] Локаць — старая мера даўжыні, роўная прыкладна даўжыні локцевай косткі.

[4] Бат — парусная лодка.

[5] Арнаты — адзенне ксяндза.

[6] Князь Туган — выдуманае імя. Відавочна, аўтар вывеў яго ад назвы Туганавічы.

**«Свіцязянка».** Пераклад А. Зарыцкага друкуецца паводле кн.: Міцкевіч Адам. «Зямля навагрудская, краю мой родны...». — Мінск, 1969. — С. 51—57.

**«Тры Будрысы».** Галоўнага героя твора А. Міцкевіч назваў у гонар свайго сябра-філамата Вінцэнта Будрэвіча, з якім быў у выгнанні. Пераклад Янкі Купалы.

[1] Альгерд (1296—1377) — князь крэўскі і віцебскі, вялікі князь ВКЛ. Ваяваў у асноўным з маскоўскімі князямі.

[2] Скіргел, альбо Скіргайла (1354—1396), — князь ВКЛ, сын Альгерда.

[3] Кейстут усё жыццё змагаўся з Тэўтонскім ордэнам.

**Санеты.** Санеты А. Міцкевіча былі ў асноўным напісаны на поўдні Расіі ў 1825 г. Аўтар падзяліў іх на два цыклы: першы — проста «Санеты», якія яшчэ называюць «Любоўныя санеты», другі — «Крымскія санеты». «Спатканне ў лесе» і «Да Нёмана» — пераклад К. Цвіркі. «Да Нёмана» — перапрацоўка аднайменнага санета, напісанага яшчэ ў 1821 г. у Шчорсах. Цяпер ён набыў новы трагічны сэнс. «Акерманскія стэпы» — пераклад М. Танка, «Пілігрым» — пераклад М. Аўрамчыка.

[1] Лямпа Акермана — маяк на ўзбярэжжы Чорнага мора каля горада Акермана.

**«Да *** На Альпах у Сплюгене, 1829».** Верш прысвечаны Марылі Верашчака. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

**«Смерць палкоўніка».** Верш пра легендарную гераіню паўстання 1830—1831 гг., беларускую паэтэсу і фалькларыстку Эмілію Плятэр (1806—1831). Яна стрыечная сястра Міхала Плятэра, таго самага вучня віленскай гімназіі, які крэйдай напісаў на дошцы фатальныя словы: «Няхай жыве Канстытуцыя 3 мая...», што прычыніліся да выкрыцця віленскіх згуртаванняў моладзі. Жыла Эмілія ў вёсцы Ліксна Віцебскай губерні. Захаплялася верхавой яздой, паляваннем. Зачытвалася творамі філаматаў, асабліва любіла Міцкевічаву «Гражыну», хацела быць падобнай да яе галоўнай гераіні. Пад уплывам паэтаў-філаматаў зацікавілася беларускім фальклорам, занялася яго збіраннем і запісваннем. Сама пісала беларускія вершы на манер народных песень. На жаль, нічога з яе паэтычнай і фальклорнай спадчыны да нас не дайшло. Пра яе захапленне беларушчынай мы ведаем толькі з успамінаў беларускага этнографа і фалькларыста Максіміліяна Маркса, у сям'і якога ў Віцебску яна была частай госцяй. У час Лістападаўскага паўстання яна сабрала вялікі атрад з сялян — каля 400 ваяроў. Пераапранутая юнаком Эмілія Плятэр на чале свайго войска прымала ўдзел у самых цяжкіх баях. Смерць напаткала адважную беларускую дзяўчыну 23 снежня 1831 г., калі ёй было толькі 25 гадоў. Вестка пра гераізм бясстрашнай ліцвінкі, новай Жанны д'Арк, разляцелася па ўсім свеце. У Парыжы ставіўся спектакль, дзе цэнтральнай гераіняй была Эмілія Плятэр. Ёй прысвяцілі свае вершы французскія, нямецкія, італьянскія, англійскія, венгерскія, польскія паэты. А. Міцкевічу расказаў пра яе І. Дамейка, яе паплечнік у паўстанні. Дарэчы, у сваім вершы паэт падкрэсліў павагу да Эміліі Плятэр простых сялян, значыць, ён ведаў і пра яе захапленне фальклорам, пра блізкія стасункі з людам. Пераклад К. Цвіркі.

[1] Чарнецкі Стафан (пра яго гл. каментарый да «Прамовы на першай маёўцы прамяністых. 6.V.1820» Т. Зана) памёр у час баявога паходу ў вясковай хаце. Перад смерцю папрасіў прывесці туды свайго каня з рыштункам.

[2] З абразом.

**«Exegi munimentum aere perennius...».** Назва верша — гэта жартаўлівая перафраза пачатку вядомай оды Гарацыя: «Я помнік узнёс...». Адштурхоўваючыся ад яе, свае «помнікі» напісалі рускія паэты Г. Дзяржавін і А. Пушкін. А. Міцкевіч надае свайму твору крыху жартаўлівае адценне. Як заўважае ў прыпісцы сам аўтар,

штуршком для напісання твора была сустрэча з варшаўскім літаратарам Францішкам Гжымайлам, які апублікаваў у сваім часопісе «Астрэя» першую прыязную рэцэнзію на творы А. Міцкевіча. У некаторых выданнях верш так і называецца: «Візіт пана Францішкі Гжымалы». Пераклад К. Цвіркі.

[1] Гаворка ідзе тут пра палац у Пулавах, славутую рэзідэнцыю князёў Чартарыйскіх, які з канца XVIII ст. быў культурным асяродкам.

[2] Маецца на ўвазе магільны склеп Тадэвуша Касцюшкі ў Вавельскім замку ў Кракаве.

[3] Гаворка ідзе пра багаты палац заможнага беларускага магната Антонія Паца.

[4] Віртэмберг — князь Адам Віртэмбергскі, афіцэр царскай службы, які бамбіў Пулавы ў час Лістападаўскага паўстання.

[5] Кнігі Міцкевіча пасля Лістападаўскага паўстання былі забаронены ў Расійскай імперыі.

**«Калі я, труп жывы...».** Верш навеяны ўспамінамі пра родную Навагрудчыну, пра Марылю Верашчака. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

**«Конрад Валенрод».** А. Міцкевіч працаваў над паэмай у 1826—1827 гг. Асобным выданнем выйшла ў Пецярбургу ў 1828 г. Дадзены ўрывак пераклаў К. Цвірка.

[1] Вайдэлоты — язычніцкія жрацы, хавальнікі вечнага агню — Зніча, народныя спевакі, якія ўслаўлялі подзвігі продкаў. Песні і паданні вайдэлотаў бытавалі ў ВКЛ і пасля прыняцця хрысціянства.

[2] Як відаць, паэт апісвае тут свой родны Навагрудак.

[3] Вінрых фон Кніпродзе — вялікі магістр Ордэна крыжакоў у 1351—1382 гг.

[4] Кейстут (г. н. невядомы — 1382) — вялікі князь ВКЛ.

**«Дзяды».** Паэму «Дзяды» А. Міцкевіч пачаў пісаць у 1820 г. На працягу 1820—1822 гг. былі напісаны другая і чацвёртая яе часткі. Першую частку паэт хацеў напісаць потым, але сваёй задумы не змог ажыццявіць — былі напісаны толькі яе фрагменты. Другая і чацвёртая часткі былі ўспрыняты як асобны твор і займелі назву «віленска-ковенскіх» «Дзядоў», бо пісаліся ў Вільні і Коўне. Перад здачай рукапісу ў друк паэт яшчэ напісаў да паэмы вершаваны пралог «Здань», якім, зрэшты, быў вельмі незадаволены.

Трэцяя частка «Дзядоў» была напісана ў Дрэздэне (1832), і літаратуразнаўцы назвалі яе «дрэздэнскімі» «Дзядамі». Гэта зусім самастойны твор, які звязаны з іншымі часткамі хіба што агульнасцю задумы. Нумарацыя частак носіць выпадковы характар.

У аснове «Дзядоў» — старажытны беларускі абрад памінання продкаў — Дзяды. Пад такой назвай абрад існуе толькі ў Беларусі. Да трэцяй часткі аўтар далучыў і свае вершаваныя ўражанні са ссылкі ў Расію (так званы Дадатак) — «Дарога ў Расію», «Пецярбург», «Помнік Пятру Вялікаму», «Аляшкевіч», «Рускім сябрам» і інш. Пераклад К. Цвіркі.

[1] Курляндыя — даўняя назва часткі Латвіі.

[2] Цытата з «Гамлета» У. Шэкспіра. Гэтыя словы прамаўляе Гамлет у гутарцы з сябрам пра з'яўленне духа памерлага бацькі.

[3] Чысцовыя душы — людскія душы, што трапілі пасля смерці ў чысцец, ці чысцілішча. Паводле народных вераванняў, душы памерлых, перш чым трапіць на неба, адбываюць пакаранне ў чысцы ў адпаведнасці з грахамі: адны — у паветры, другія — у вадзе, трэція — у зямлі, чацвёртыя — у агні.

[4] Гэты вобраз перагукваецца з вобразам злога пана ў баладзе Я. Чачота «Узногі».

[5] Беларускае слова «саха» тут азначае слуп з развілкай (расохай) на канцы, што ўжываецца як апора ў пабудове. Тут ён служыў прыгоннікам для цялеснага пакарання непаслухмяных: да яго прывязвалі ахвяру і ўчынялі над ёй экзекуцыю.

[6] У чацвёртай частцы «Дзядоў» адбіліся глыбокія перажыванні аўтара, звязаныя са смерцю мацеры і замужаствам яго каханай Марылі Верашчака.

[7] А. Міцкевіч, які ўвасоблены ў вобразе Густава, даведаўся пра смерць мацеры праз нейкі час пасля яе пахавання. Памерла Барбара Міцкевіч у кастрычніку 1820 г. Тут апісваецца паездка Міцкевіча ў Наваградак у ліпені 1821 г.

[8] Таса Тарквата (1544—1595) — італьянскі паэт, аўтар славутай паэмы «Вызвалены Іерусалім», якая трапіла пад суд інквізіцыі.

[9] Маецца на ўвазе Ян Сабескі (1629—1696) — польскі палкаводзец, з 1674 г. кароль (назваўся Янам III). У 1683 г. польскія і аўстрыйскія войскі на чале з Янам III атрымалі бліскучую перамогу над туркамі пад Венай, папярэдзіўшы тым самым небяспеку новых турэцкіх заваяванняў у Цэнтральнай Еўропе.

[10] Готфрыд Булёнскі — герцаг Ніжняй Латарынгіі, удзельнік першага крыжовага паходу (1096), галоўны герой паэмы Т. Таса «Вызвалены Іерусалім» (пад імем Готфрыда).

[11] Русо Жан Жак (1712—1778) — французскі філосаф, асветнік, пісьменнік, адзін з заснавальнікаў сентыменталізму ў літаратуры. Сваімі дэмакратычнымі поглядамі зрабіў вялікае ўздзеянне на філаматаў, у тым ліку на А. Міцкевіча.

[12] Тут і далей, як відаць, падаюцца малюнкі сядзібы Верашчакаў Туганавічы, дзе нарадзілася Міцкевічава каханне да Марылі.

[13] Усе дзеючыя асобы гэтай часткі «Дзядоў» — рэальныя людзі: Міцкевічавы сябры філаматы і філарэты, якія трапілі разам з ім у базыльянскі кляштар у Вільні, ператвораны ў турму. Прабылі яны там з восені 1823 па вясну 1824 г. Многія паказаны пад уласнымі імёнамі.

[14] Якуб — Якуб Ягела, член Блакітнага (літаратурнага) саюза, якім кіраваў Ян Чачот. Потым — настаўнік Слуцкай гімназіі. Родам з Віленскага павета.

[15] Адольф Янушкевіч (1803—1857) — студэнт Віленскага ўніверсітэта. Родам з Нясвіжа. Ён не быў прыцягнуты па справе філарэтаў. Міцкевіч зблізіўся з ім у Рыме ў 1829 г. у час падарожжа Янушкевіча па Італіі. Даведаўшыся пра яго подзвігі ў Лістападаўскім паўстанні 1830—1831 гг., Міцкевіч палічыў патрэбным захаваць яго прывабны вобраз у паэме. Дарэчы, у Сібіры, куды Янушкевіч быў сасланы за ўдзел у паўстанні, ён пазнаёміўся і шчыра пасябраваў з вядомым рускім паэтам-дзекабрыстам Аляксандрам Адоеўскім, аўтарам славутага верша «Струн вещих пламенные звуки...», напісанага ў адказ на пасланне Аляксандра Пушкіна «В Сибирь».

Адоеўскі прысвяціў Адольфу Янушкевічу два вершы. Першы з іх паэт напісаў у знак падзякі за падараваную яму кіпарысавую галінку, адламаную Янушкевічам каля магілы Пятраркавай Лауры ў Авіньёне, горадзе Ваклюзкага дэпартамента ў Італіі, — яшчэ перад паўстаннем.

З Сібіры Адольфу Янушкевічу дазволілі вярнуцца на радзіму толькі таму, што ён быў ужо безнадзейна хворы. Гэта было ў 1856 г. Ён здолеў дайсці адтуль пешкі да бацькоўскага дома ў маёнтку Дзягільна пад Койданавам, дзе праз год і памёр.

[16] Жэгота — так звалі сябры філамата Ігната Дамейку.

[17] Конрад — гэтым імем назваўся сам А. Міцкевіч.

[18] Ксёндз Львовіч Каласанты — член Таварыства філарэтаў. Потым быў прэфектам (завучам) Полацкага піярскага вучылішча.

[19] Ян Сабалеўскі — філамат, родам з Беластока; пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта быў настаўнікам у Крожах, на Жмудзі, дзе працягваў сваю філамацкую дзейнасць. У 1824 г. яго везлі ў высылку ў адным вазку з Міцкевічам. Быў адпраўлены ў Архангельск, дзе і памёр у 1829 г. Адзін з трох, каму Міцкевіч прысвяціў «дрэздэнскія» «Дзяды».

[20] Фрэнд Антоні — паэт, член філарэцкага Блакітнага саюза. Вылучаўся вясёлым норавам. Загінуў у паўстанні 1831 г.

[21] Ёсць меркаванне, што прататыпам капрала быў капітан Панеўскі, колішні легіянер.

[22] Тамаш Зан. Толькі ў сапраўднасці яго ў гэты час трымалі ў іншым месцы. У базыльянскі кляштар ён трапіў пазней, перад самай ссылкай.

[23] Як відаць з аўтографа, гэта правобраз Ануфрыя Петрашкевіча. Паэт увасобіў тут рысы яго характару. Сам жа Петрашкевіч у час следства быў на волі. Да таго ж і нежанаты.

[24] Фелікс Кулакоўскі — паэт і філолаг, член філарэцкага Блакітнага саюза. Родам з Мазыра. Быў высланы разам з Юзафам Кавалеўскім і Янам Вернікоўскім у Казань вывучаць усходнія мовы. Памёр у 1831 г. Адзін з трох «памерлых ад тугі па радзіме» выгнаннікаў, каму Міцкевіч прысвяціў трэцюю частку «Дзядоў» (трэцім быў Цыпрыян Дашкевіч, які памёр у Маскве ў 1829 г.).

[25] Інфант — прынц, наследнік трону, тут: нашчадак.

[26] Адам Сузін — паэт, член Блакітнага саюза філарэтаў. Родам з вёскі Заляшаны Брэсцкага павета. Быў сасланы разам з Янам Чачотам і Тамашом Занам на Урал.

**«Пан Тадэвуш...».** Паэму-эпапею А. Міцкевіч пісаў з перапынкамі на працягу 1832—1834 гг., пасяліўшыся ў Парыжы. Там жа твор і быў надрукаваны ў 1834 г. Пераклад урыўка з кнігі першай К. Цвіркі, астатніх — Я. Семяжона.

[1] Як зазначае сам аўтар, «усім у Польшчы вядомы цудатворны абраз св. Дзевы Марыі на Яснай Гары ў Чанстахове. У Літве шырока вядомыя цудатворныя абразы святой дзевы Вастрабрамскай у Вільні, Замкавай — у Наваградку, а таксама Жыровіцкай і Барунскай».

[2] У маленстве Міцкевіч упаў з акна і на нейкі час абмёр. Маці кінулася з дзіцем шукаць паратунку ў Маткі Боскай Замкавай у Наваградку.

[3] Кушалёва, альбо Кашалёва, — вёска на Навагрудчыне.

[4] Вітэнас, Віцень (г. н. невядомы — каля 1316) — вялікі князь ВКЛ (1293—1316), брат Гедыміна.

[5] Ліздзейка — апошні вярхоўны жрэц язычніцкай пары, сын Крывэ-Крывэйты.

[6] «Ёсць легенда, што вялікаму князю Гедыміну прысніўся ў Панарах жалезны воўк, і ён, паслухаўшыся парады вайдэлота Ліздзейкі, заснаваў там горад Вільню» (*А. Міцкевіч*).

[7] «Паводле старадаўняга звычаю Жыгімонт Аўгуст у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага перапаясаўся мечам і каранаваўся Вітольдавай шапкай. Ён вельмі любіў паляванне» (*А. Міцкевіч*).

[8] У маёнтку земскага сакратара Д. Пашкевіча пад Расейнамі на поўнач ад Коўна рос дуб Баўбліс, які ў язычніцкія часы лічыўся свяшчэнным. «У дупле гэтага велікана Пашкевіч заснаваў камору літоўскіх старажытнасцей» (*А. Міцкевіч*).

[9] «Непадалёку ад фарнага касцёла ў Наваградку раслі старыя ліпы; многія з іх былі ссечаны каля 1812 года» (*А. Міцкевіч*).

[10] У маёнтку Сцеблева на рацэ Рось у доме магнатаў Галавінскіх па дарозе ў Адэсу Міцкевіч спыняўся ў 1825 г.

[11] «Тут гаворка ідзе пра ліпу каля дома вялікага польскага паэта Яна Каханоўскага (1530—1584), які жыў у маёнтку Чарналессе» (*А. Міцкевіч*).

[12] Гаворка ідзе пра польскага паэта-рамантыка Севярына Гашчынскага (1801—1876), аўтара паэмы «Замак Канёўскі» пра гайдамацкія паўстанні на Правабярэжнай Украіне.

[13] Дрыяда — лясная німфа ў грэчаскай міфалогіі.

[14] Камлот — назва тканіны з адборнай вярблюджай шэрсці (франц.).

[15] Дыяна — рымская багіня месяца, адпавядае грэчаскай Артэмідзе. На палотнах мастакоў паказвалася з паўмесяцам у валасах.

[16] Янычары — салдаты турэцкай арміі, узятыя са славянскіх нявольнікаў. Янычарскія аркестры былі і ў польскіх легіёнах.

[17] Паланэз у гонар Канстытуцыі 3 мая.

[18] Таргавіца, Таргавіцкая канфедэрацыя — рэакцыйны саюз магнатаў і багатай шляхты Рэчы Паспалітай, накіраваны на ліквідацыю прагрэсіўных рэформаў Чатырохгадовага сейма 1788—1792 гг. і Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

**«Пра рамантычную паэзію».** Гэты артыкул дваццацітрохгадовага А. Міцкевіча быў напісаны як прадмова да першай кнігі яго твораў «Паэзія» (Вільня, 1822).

Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

[1] Арфей — легендарны спявак, герой старажытнагрэчаскіх міфаў, які сваімі спевамі ажыўляў дрэвы і скалы, утаймоўваў звяроў.

[2] Байран Джордж Ноэл Гордан (1788—1824) — англійскі паэт.

[3] «Генрыяда» — напісаная ў 1723 г. эпічная паэма Вальтэра, дзе ў вобразе Генрыха IV увасоблены ідэал разумнага манарха.

[4] «Нібелунгі» — самы буйны твор германскага эпасу.

[5] «Месіяда» — эпічная паэма нямецкага паэта Ф. Г. Клапштока, папярэдніка літаратурнага руху «Бура і націск».

[6] Лесінг Готхальд Эфраім (1729—1781) — нямецкі драматург.

[7] Віланд Крыстоф Марцін (1733—1813) — нямецкі пісьменнік.

[8] Гагедорн Фрыдрых (1708—1754) — нямецкі паэт.

[9] Бюргер Готфрыд Аўгуст (1747—1794) — вядомы нямецкі паэт, аўтар балад, сярод якіх вылучалася яго «Ленора».

[10] Цытата з «Энеіды» Верлгігія: «Усё роўна — будзе ён траянцам ці рутулам».

[11] «Тарквата Таса» (1790) — драматычны твор нямецкага пісьменніка і мысліцеля І. В. Гётэ.

[12] Нямецкія гісторыкі і тэарэтыкі літаратуры.

[13] Арыёста Людвіка (1474—1533) — італьянскі паэт.

[14] Салон (каля 638 — каля 559 да н. э.) — палітычны дзеяч старажытных Афін, які правёў шэраг радыкальных рэформаў.

[15] Дванаццаць табліц — самы старажытны помнік рымскага права (каля сярэдзіны V ст. да н. э.). Уяўляў сабой запіс нормаў звычаёвага права на дванаццаці дошках — «табліцах».

[16] Розныя жанры паэзіі.

[17] Маро Клеман (1495?—1544) — французскі паэт.

[18] Коўлі Абрагам (1618—1667) — англійскі паэт.

[19] Прапор Мецью (1664—1721) — англійскі паэт, прадстаўнік ранняга асветніцкага класіцызму.

[20] Роу Ніколас (1674—1718) — англійскі паэт і драматург.

[21] Гей Джон (1685—1732) — англійскі паэт і драматург, прадстаўнік дэмакратычнага крыла асветнікаў.

[22] Мелет Дэвід (1698—1765) — англійскі паэт-сентыменталіст.

[23] Персі Томас (1729—1811) — даследчык старажытнай англійскай паэзіі. Апрацаваныя і выдадзеныя ім старыя англійскія і шатландскія балады зрабілі вялікі ўплыў на развіццё рамантычнай паэзіі.

[24] Нямецкія паэты-сентыменталісты.

[25] Гельці, альбо Хёльці, Людвіг Хрыстоф Генрых (1748—1776) — нямецкі паэт, адзін са стваральнікаў жанру балады ў Германіі.

**«Пра Беларусь і беларускую мову».** Выказванні ўзяты з лекцый пра славянскія літаратуры, якія А. Міцкевіч чытаў у Каледж дэ Франс у 1840—1843 гг. Пераклад К. Цвіркі.

Творы друкуюцца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

### Крыніцы

Mickiewicz A. Dzieła: у 16 т. — Warszawa, 1955. — T. 8. — S. 106.
Mickiewicz A. Dzieła: у 16 т. — Warszawa, 1955. — Wyd. 7, т. 16. — S. 230.
Міцкевіч А. Собр. соч.: ■ 5 т. — Т. 4. — М., 1954. — С. 325—326.

## ЭДВАРД МАСАЛЬСКІ
## (1799—1879)



Пісьменнік і публіцыст Эдвард Тамаш Масальскі нарадзіўся ў вёсцы Рудаўка пад Нясвіжам у сям'і былога маёра польскай вайсковай брыгады і пісара земскага суда Ануфрыя Масальскага. Пачатковую адукацыю атрымаў дома. Потым вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Магілёве і ў Полацкай акадэміі. У 1820 г. паступіў на аддзяленне маральных і палітычных навук Віленскага ўніверсітэта. Там дэбютаваў і як паэт у «Віленскім штотыднёвіку». Належаў да тайнага студэнцкага таварыства філарэтаў, якое ставіла сваёй задачай глыбокае авалоданне асновамі навук, пашырэнне асветы сярод насельніцтва, развіццё высокай маральнасці і нацыянальнай самасвядомасці грамадзян, выступала з патрабаваннямі сацыяльных перамен і адраджэння грамадства. У 1823 г. разам з іншымі членамі таварыства быў арыштаваны. Пасля вымушанага перапынку ў вучобе атрымаў ступень магістра права і філасофіі. З 1832 г. жыў у Пецярбургу, служыў у Міністэрстве фінансаў, рэдагаваў сатырычны часопіс «Баламут». Быў кіраўніком спраў Любамірскіх на Валыні. З 1853 г. жыў у Варшаве, дзе працаваў у Галоўнай бібліятэцы.

Першым творам Масальскага, які звярнуў на сябе ўвагу грамадскасці, быў дыдактычны раман «Пан Падстоліч, або Чым з'яўляемся мы і чым быць можам», які ў 1831—1833 гг. быў надрукаваны ў Вільні і Пецярбургу (адначасова выйшаў на рускай мове ў перакладзе Р. Гаеўскага). У гэтым творы Эдвард Масальскі ўзняў актуальныя праблемы эканамічнага і палітычнага жыцця краіны, выказаў шэраг каштоўных рэкамендацый па ўдасканаленні практыкі гаспадарання і кіравання. У трох першых частках твора ён раскрыў працэс распаду «паншчызны» ў Беларусі, паказаў цяжкае сацыяльнае становішча сялянства, вынішчэнне маёнткаў шляхты, заняпад рамёстваў і гандлю ў гарадах. У двух апошніх частках стварыў вобраз ідэальнага пана, паказаў узоры рацыянальнай арганізацыі працы і жыцця ў маёнтку Падстоліча. Масальскі з'яўляецца таксама аўтарам прац «Пра славянскія скарбы» (1853), «Звычаі пінчукоў і беларусаў» (не апублікаваны), «Граматыка польскай мовы» (1858), артыкулаў па эканоміцы сельскай гаспадаркі, мемуараў пра сваё знаходжанне на Беларусі (часткова апублікаваны Г. Масціцкім у кнізе «З філарэцкага свету». Вільня, 1924).

*Паводле кнігі «Асветнікі зямлі Беларускай»*

## ПАН ПАДСТОЛІЧ
(фрагменты)

— Рэкамендую пана Астольфа — сына пана Харунжага, — звярнуўся Уладзіслаў да пана Падстоліча.

Астольф кіўнуў галавою, расшаркаўся і заявіў:

— Сёння я шчаслівей за ўсіх каралёў — упаляваў трох цецерукоў і маю гонар бачыць у нашым доме пана Падстоліча. Вы, думаецца, любіце паляўніцтва?

— Іншы раз і я езджу на ловы, — адказаў з усмешкай пан Падстоліч.

— О, што да мяне, то я не магу жыць без палявання. Як гэта цудоўна! З натоўпам застрэльшчыкаў імчацца па лясах і гаях, а сабакі заліваюцца, заяц скача з усіх сіл, і то ў поле кінецца, то на ўзлессе ляціць як з лука страла, то кульнецца ў ярыну, а стральцы мітусяцца, адзін даў маху, другі «ту-ту-ту» крычыць, а трэці — паф! і задраў уверх ножкі небарака. Пацеха, ды і годзе.

— Колькі ж стральцоў вы бярэце для такой пацехі? — спытаў пан Падстоліч.

— А як выпадзе. Дзесяць, дваццаць, а то і болей, таму што апрача дваровых у нас у вёсцы ёсць яшчэ і паляўнічыя. А на аблаву выганяем усю волосць — мужчын і жанчын, старых і дзяцей, раней бывала душ трыста, цяпер жа трохі меней, а калі разам з суседзямі, то набіраюцца палкі, міласцівы спадар, сапраўды палкі.

— Ну і які ж плён ад вашай працы?

— Багаты і нават вельмі. Ды колькі радасці, калі здарыцца схапіць медзведзяня ў бярлозе, а калі ўпалюем яго, тады і мужыкам свята: ва ўзнагароду даём па чарцы гарэлкі.

— Ды хіба такое дарагое паляванне бывае няўдалым? — са здзіўленнем спытаў пан Падстоліч.

— Гэта залежыць ад удачы, — махнуў рукою Астольф. — Ды што вы так дорага цэніце ловы?

— А хіба вы лічыце за нішто страту трыма сотнямі людзей цэлага дня, а іншы раз і болей?

— Фі, ды каму прыйдзе ў галаву лічыць цану дня? Што страчана сёння, тое заробяць заўтра. О, вядома, калі б давялося ўлічваць кожны дзень, ужытыя на аблавы, і ацэньваць страту рабочых дзён, то, бясспрэчна, калі нават у сто разоў памножыць цану злоўленых звяроў, то затраты не акупяцца, але гэта мы не бярэм у разлік, бо аблавы не ўваходзяць у паншчыну.

Пан Падстоліч зірнуў на Уладзіслава і спытаў у яго:

— І вы ездзіце на аблавы?

— Да гэтага часу ездзіў, — адказаў Уладзіслаў і пачырванеў. — Ды толькі бацька мой прымаў іншы раз аблаву за паншчыну.

— Так ён сам сябе крыўдзіў, — зазначыў Астольф.

— Ваша праўда, — згадзіўся Уладзіслаў. — Але я спадзяюся, што надалей ні мы, ні сяляне нашы не панясуць страту.

— О, я так і знаў, — засмяяўся Астольф, — вы закончаны філантроп! Не думайце, пан Падстоліч, што ў нас уся моладзь настолькі сентыментальная. Ха, ха, ха! На ловах мы вучымся ваеннаму майстэрству, раўняючыся на ўсе храбрыя народы; праўда, у нас гэта даражэй, чым у іншых абыходзіцца; да таго ж не паўсюль ёсць сяляне. Зрэшты, і Уладзіслаў не заўсёды турбуецца пра час сваіх людзей.

Уладзіслаў зноў пачырванеў; пан Падстоліч пацiснуў яму руку ў знак прабачэння і з надзеяй, што ён выправіцца. Уладзіслаў зразумеў гэта і адказаў яму ўзаемным поціскам рукі, але Астольф не заўважыў гэта.

— Калісьці і я, — працягваў ён, — складаў планы, якім бы гэта чынам займець карысць з працы сялян нашых, задумаў шмат карысных змен...

Пры гэтых словах увайшоў пан Харунжы, у якога ўжо была стужка пад фракам па камізэльцы, і важным крокам наблізіўся да суразмоўнікаў. Астольф азірнуўся і, не звяртаючы аніякай увагі на бацьку, працягваў:

— Але я ўбачыў, што не варта выжыльвацца ў гэтым варварскім краі, дзе ні адзін мудры праект не выклікае цікавасці і захаплення, дзе тысячы цяжкасцей спыняюць выкананне самых лепшых прадвызначэнняў, таму вырашыў я займацца паляваннем і жыць весела, пакуль не паступлю на ваенную службу, а старыя няхай сабе...

— Сын мой, — перапыніў яго Харунжы і ўзяў за руку, — загадай лепей падаць нам гарэлачкі і закуску.

— Ах, бацюхна, вы перабілі мяне, — сказаў нядбайна Астольф і, звяртаючыся да гасцей, намерыўся прадоўжыць з імі гутарку.

Яркі румянец выступіў на шчоках пана Падстоліча, выяўляючы яго абурэнне адносінамі сына да бацькі, і таму, не слухаючы болей бязглуздзіцу Астольфа, адышоў ад яго. Той жа схапіў за руку Уладзіслава і пацягнуў да акна, штосьці шаптаў яму на вуха і рагатаў на ўсё горла.

Старэйшыя прыселі і разгаварыліся. Пан Харунжы скардзіўся на дажджы:

— Што будзе з нашым збожжам?

— Цяжка адгадаць, — адказаў пан Падстоліч.

— Ды хаця б і ўрадзілася збожжа, то што з ім рабіць — дзе прадаць? Цяжкія часы, васпане.

— Вядома, цяжкія для таго, хто ўсе надзеі ўскладае на збожжа.

— А на што ж і спадзявацца болей? Гавораць, што мы жывем у век асветы, ды канцы, хіба ж гэта праўда: што за асвечанасць, калі дагэтуль ніхто яшчэ не дайшоў да таго, як рабіць золата!

— Наадварот, у наш век іменна асвета дапамагае рабіць золата. — Пан Харунжы аж ускочыў з крэсла. — І золата тым болей каштоўнае, што ад багацця і дастатку цана яго не падае.

— Што вы кажаце? — усклікнуў Харунжы, вытарашчваючы вочы і махаючы рукамі. — Як... хто... калі... Ды не, гэтага не можа быць, вы жартуеце. Астольф, чуеш? Ці не ты казаў, што ўва ўсіх тваіх навуках няма ніякага сродку рабіць золата? А вось пан Падстоліч, чалавек, якому нельга не верыць... але, васпане, няўжо... як... хто... калі... ці вы самі бачылі на ўласныя

вачы гэта золата? — дадаў Харунжы, — бо як... хто... калі... і ці ж яно такое важкае, такое... чыстае золата?

— Вось яно, — адказаў пан Падстоліч і выняў з камзола некалькі галандскіх чырвонцаў.

**Каментарыі**

**«Пан Падстоліч».** Раман быў надрукаваны як на польскай мове, так і ў аўтарскім перакладзе на рускай мове. Цікава, што цэнзарам рускамоўнага выдання быў В. Сянкоўскі. Пераклад з рускай мовы І. Шпакоўскага паводле выд.: Массальский Ф. Пан Подстолич: роман уездный. — Спб., 1832—1833.

## ЮЗАФ МАСАЛЬСКІ
## (1800 — ПАСЛЯ 1840)



Пісьменнік, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі. Брат Эдварда Масальскага. Нарадзіўся ў вёсцы Белічаны Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, у 1818 г. скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію і стаў кандыдатам філасофіі. Служыў гувернёрам у Ю. Славацкага ў Вільні. У 1823 г. быў арыштаваны як член тайнага віленскага студэнцкага таварыства філарэтаў. За ўдзел у паўстанні 1830—1831 гг. сасланы ў Сібір. Аўтар аповесці «Яцак» (1823), зборніка «Паэзія» (т. 1—2, 1827—1828), у якіх пераважае беларуская тэматыка.

*Паводле кнігі «Асветнікі зямлі Беларускай»*

### АСЁЛ І ЦЯЛЯ

Байка

Наўючаны йшоў пан віславухі,
Спаткаў ён цяля, рад быў спатканню,
Спыніўся, стаяў доўга ў маўчанні,
А потым сказаў: «Злыя, бач, духі
Чутку разнеслі па свеце:
Дурнем асёл урадзіўся.
Кожны паверыў прыкмеце,
А пра цяля вось забыўся.
Мне расказаць давядзецца,
Што ёсць на свеце цяляты,
Можа, ў паклёпе праклятым
Ганьбы нам менш застанецца».
Кажа цяля: «Ты, нябожа,
Не задзірай вельмі морды:
Вол з мяне быць яшчэ можа,
Асёл ты заўсёды».

**Каментарыі**

**«Асёл і цяля».** Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## ВОСІП СЯНКОЎСКІ
## (1800—1858)



Пісьменнік, журналіст, Восіп Сянкоўскі нарадзіўся 19 сакавіка 1800 г. у маёнтку Антокалан паблізу Вільні. Выхадзец са шляхецкага роду. Сярод яго продкаў — славуты Мацей Сарбеўскі, паэт XVII ст., ушанаваны лаўровым вянком у самім Рыме. Па сваім паходжанні і менталітэту Сянкоўскі — ліцвін, беларус. Спачатку адукацыю атрымаў у хатніх умовах, затым вучыўся ў Мінскім калегіуме, дзе, дарэчы, выкладалася лаціна, веданнем якой пазней ганарыўся. Калі апынуўся ў Расіі, то здзіўляўся: як гэта так, інтэлігенцыя ў Маскве і Пецярбургу не ведае лацінскай мовы, сам Карамзін не ўмее чытаць па-лацінску.

Паступіў вучыцца ў Віленскі ўніверсітэт, дзе захапіўся мовамі, у прыватнасці, усходнімі, якімі настолькі авалодаў, што заняўся ўзаемаперакладам, чым выклікаў цікавасць у выкладчыкаў, і яны аб'явілі своеасаблівую латэрэю на збор сродкаў для паездкі студэнта на Усход.

Прабыў у Вільні нядоўга, усяго адзін год, але нават за гэты час паспеў уключыцца ў дзейнасць шубраўцаў, друкаваўся ў іх газеце «Вулічныя весткі» («Wiadomości brukove»), засвоіў іх паэтыку глыбока, адмыслова. Яна адпавядала яго жывой, актыўнай натуры. Паэтыка шубраўцаў была пабудавана на абыгрыванні слоў, выразаў, на прытворным шаленстве, нібыта дурэлі, перакручвалі словы, разыгрывалі пэльмаў, каб давесці, паказаць заганы людзей у іх гранічным выяўленні. Даводзілі іх да абсурду.

У сваёй творчасці да канца дзён застаўся шубраўцам, выдумшчыкам. Многае ішло ў яго ад рэалій віленскага, ліцвінскага, жыцця, таму не ўсе яго творы былі прынятыя і зразумелыя. Гэта адбылося пазней. А на Усходзе, калі вучыўся на сродкі, сабраныя па падпісцы, калі вандраваў у Турцыі, Сірыі, Егіпце, ён сабраў шмат матэрыялу пра народы Усходу. Вывучыў іх культуру, геаграфію, этнаграфію, даўніну, мовы, стаў паліглотам.

З 1822 г. у Пецярбургу Сянкоўскі служыць у калегіі Замежных спраў перакладчыкам, а затым стаў ардынарным прафесарам Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта адразу на дзвюх кафедрах — арабскай і турэцкай мовы. Лекцыі яго былі цікавыя, нават займальныя. Эрудыт, паліглот, пісьменнік, ён вабіў да сябе студэнтаў. Аднак у сярэдзіне 30-х гадоў XIX ст. траціць цікавасць да выкладчыцкай работы, таму ў 1847 г. выйшаў у адстаўку і цалкам аддаўся літаратурнай справе. Апублікаваў свае ўсходнія аповесці, пераклады, навуковыя рэцэнзіі, артыкулы. Друкаваўся пераважна ў часопісах «Северный архив», «Сын Отечества», у альманахах «Полярная звезда», «Северные цветы», газеце «Северная пчела».

У снежні 1821 г. увайшоў у Санкт-Пецярбургскае таварыства аматараў рускай славеснасці. У 1828—1833 гг. ён цэнзар, з 1830 па 1836 г. —

супрацоўнік польскай газеты «Баламут». Пісаў галоўным чынам па-польску, і спачатку яго творы на рускую мову перакладаў Марлінскі (Аляксандр Бястужаў) ў падзяку за тое, што Сянкоўскі вучыў яго польскай мове.

Папулярнасць пісьменніка расла. Яго «Фантастычныя падарожжы барона Брамбеуса» выйшлі ў 1833 г. асобным выданнем, а ў 1835 г. былі перавыдадзены. Праявіўся колішні шубравец. Займальна, пацешна расказвае, як Брамбеус нібыта ў пячоры знайшоў накрэсленую на сценах іерогліфамі аповесць. Расшыфроўвае іх паводле сістэмы Шампальёна. Якое ж дзіва было, калі выявілася, што гэта не іерогліфы, а сталактыты. Спрацоўвае містыфікацыя. Здавалася б, бестурботная балбатня пра тое, як надворны саветнік барон Брамбеус апынуўся на востраве, які праваліўся, і трапіў у цэнтр Зямлі, ляцеў вярхом на камяні.

Літаратурная маска Брамбеуса стала вядучай у творчасці Сянкоўскага. Пад подпісам «Брамбеус» друкаваліся фельетоны ў альманаху «Наваселле» ў 1833 г. Не абышлося без своеасаблівага літаратурнага скандалу. Аўтар закранаў у сваіх творах Пушкіна, Булгарына і іншых па-шубраўску з'едліва, балюча і гарэзліва. Тое, як пісалі шубраўцы ў Вільні, стала яго звычкай. Спрацоўвала цытаванне чужых твораў, іх перайначванне, парадыраванне, дарэчы, тое, што ўласціва было іменна ліцвінска-беларускай літаратуры, што праявілася ў «Энеідзе навыварат», «Уваскрэсенні Хрыстовым». Жыў Сянкоўскі ў Пецярбургу, а застаўся віленскім шубраўцам. Як у свой час шубраўцы, перайначваў творы Свіфта і Дэфо, Бальзака і інш. Многа было злога сарказму, насмешкі, прасочваліся палітычныя ідэі.

Погляды і выказванні пісьменніка былі надзвычай арыгінальныя і расходзіліся з прынятымі, пашыранымі. Таму ён і выклікаў непаразуменне і ганьбаванне, але варта адрозніваць тое, што было выклікана літаратурнай барацьбой з канкурэнтамі за рынак збыту часопіснай прадукцыі, і тое, што ішло сапраўды ад літаратуры.

*І. Шпакоўскі*

## ФАНТАСТЫЧНЫЯ ПАДАРОЖЖЫ БАРОНА БРАМБЕУСА

(урывак)

Найвялікшым глупствам, зробленым у маім жыцці, было тое, што я выправіўся са сваёй айчыны ў падарожжы па чужых краях. Першая вандроўка атрымалася выпадковай — вы даведаецеся, з якой нагоды, але, аднойчы пабываўшы за мяжой, я ўжо не хацеў вяртацца дамоў і падарожнічаў бясконца. Я наведаў чатыры часткі свету, аб'ехаў вакол усёй зямлі, быў у Швецыі і Галкондзе, у Францыі і на Камчатцы, у Царградзе і Вашынгтоне; бачыў усё, што толькі ёсць цікавага і вартага ўвагі ў свеце, — словам, кітайцаў, піраміды і малпаў; бачыў голых людзей і жывых селядцоў, кенгуру і англійскіх місіянераў, нават бачыў, як расце кава, гарбата, цукар і ром. Мемнава статуя ў Фівах, што колісь велічна ўзвышалася сярод пышнай і шматлюднай сталіцы ды дзівіла старажытных мудрацоў і герояў чароўнымі гукамі, якія абуджаў у ёй першы прамень узыходзячага сонца, — я бачыў яе ў атачэнні вясковага ячменю і глядзеў на вялікага заваёўніка Мемнана, што выконвае карысную пасаду пудзілы вераб'ёў XIX стагоддзя, як цяпер гляджу на сваіх крэдытораў — з абыякавай цікаўнасцю. Геліёпальскі абеліск, які хтосьці з нашых знаёмых пампезна назваў «магутным промнем сонца, скіра-

ваным у пустэльню», — я гэты магутны промень сонца бачыў наўпрост у бульбе! І падобных прамянёў бачыў я прынамсі з тры дзясяткі, хоць пра тое не кажу ні слова.

Назіраў, пазяхаючы, на прыроду і мастацтва, з'ядаючы з апетытам смажаных шчанюкоў і парадоксаў, закусваючы шаро і бананамі, запіваючы мадэраю, перавезенаю восем разоў праз экватар, якую не смакаваў і сам Гумбальд, прускі камергер і сусветны вучоны; варачы капусту замест дроў на муміях міністраў і каханак вялікага Фараона, я вандраваў фантастычна — інакш я не ўмею, — блукаў вакол сусвету, па сусвеце і пад святлом; імкнуўся бачыць усё і назіраў за ўсім, што бачыў; рабіў адкрыцці, занатоўваў заўвагі, вывучаў людзей, вывучаў мужчын і жанчын і быў пэўны, што падарожжа мае для адукацыі розуму і сэрца. Падпісаўшы процьма вэксаляў на ўсіх магчымых мовах і гаворках, я, нарэшце, адправіўся дамоў, на радзіму, з суцяшальнай думай, што зараз выдатна ведаю людзей і што розум мой і сэрца адукаваны выдатна.

Па прыездзе ў Тарапецкі ўезд я паказаў бацечку рахунак выдаткам на вывучэнне людзей; ён заўважыў мне з уздыхам, што, колькі ён ведае, у людзях няма нічога такога, што б каштавала і паловы гэтых грошай, і што, дакладна, яны мяне падманулі. Адносна розуму, старая цётачка, якой я паціснуў руку моцна, па-англійску, сказала, што я дурань, а ў разважанні сэрца першая мая на Русі каханка, якой не набыў я турэцкай шалі з-за адсутнасці грошай, аб'явіла, што я жорсткі. У нас заўсёды так мяркуюць пра маладых людзей з вышэйшай адукацыяй! Я паехаў у Пецярбург.

Заўвага добрага і разумнага бацькі засмучала і прыносіла пакуты цягам усёй дарогі. У Баровічах, на станцыі, разлічыўшыся з наглядчыкам, я палічыўся з сумленнем, і калі падсумаваў усе вынікі майго ведання людзей, атрымалася, што мяне сапраўды падманулі: замест вывучэння людзей, якія ніяк не даюць пранікнуць у сябе іншым людзям, я вывучыў толькі доўгі спіс чалавечых глупстваў абодвух палоў!.. Праўда, не варта было ездзіць за мяжу.

Я вырашыў не апавядаць нікому пра тое, што ведаю чалавека.

Але падарожжа здзейснена, глупства зроблена — што, вядома, узрадуе вас надзвычайна, і для агульнай нашай пацехі я гатовы прапанаваць вам тры ўрыўкі майго глупства. Я кажу — урыўкі, таму што самі вы разумныя людзі і ведаеце, што мы жывём ва ўрывістым стагоддзі. Прайшоў час, калі чалавек жыў восемдзесят гадоў запар адным жыццём і мысліў адной доўгаю думкай запар васямнаццаць тамоў. Зараз нашы жыццё, розум і сэрца складзены з дробных, пярэстых, няскладных урыўкаў — і яно значна лепш, разнастайней, больш прыемна для вачэй і нават танней. Мы думаем урыўкамі, існуём ва ўрыўках і рассыплемся на ўрыўкі. Таму і я не магу прапаноўваць свайго жыццяпісу інакш, як у гэтым выглядзе: у наш час нават і глупствы выдаюцца свету, на яго запатрабаванні, толькі ўрыўкамі, хоць часам даволі значнымі. Трэба крочыць са стагоддзем!

## ВЯЛІКІ ПРЫЁМ У Д'ЯБЛА

(фрагмент)

У нетрах зямнога шара ёсць вялізная зала, якая мае, здаецца, 99 вёрст вышыні. <...> У гэтай зале стаіць пышны трон уладара падземнага царства, пабудаваны з чалавечых касцякоў і аздоблены, замест бронзы, сухімі кажанамі. Гэта павінна быць вельмі прыгожа.

<...> Калі вам як-небудзь даводзілася чытаць мудрыя творы патэра Бузенбаўма, езуіцкага багаслова і філосафа, то вы ведаеце — ды як гэтага не ведаць? — чэрці ўдзень спяць, а ўстаюць каля заходу сонца, калі ў Рыме адпяваюць вячэрню. У той жа самы час прачынаецца і Д'ябал.

<...> Ён увайшоў у залу і сеў на сваім троне. Усе прысутныя ўдарылі чалом і гучна закрычалі: «Віват!», — але голасу іх ніхто б з вас не пачуў, таму што яны цені, і крык іх толькі цень крыку; каб іх пачуць, трэба быць нячысцікам або даносчыкам.

<...> Папіваючы сваю пякельную каву (чысты смаленскі дзёгаць), цар цемры горача любіў пажыраць няшчасныя кнігі, вершы і прозу, тамы логік, псіхалогій, энцыклапедый, зборы росшукаў, якімі нічога не адшукана, гісторый, рыторык, якія нічаму не навучылі, асабліва ўсялякія паэмы, апісальныя, апавядальныя, маральныя, эпічныя, дыдактычныя, класічныя, рамантычныя і іншыя і іншыя. З нейкага часу, аднак, ён прымеціў, што гатунак піражнага абцяжарваў яго страўнік, і таму загадаў падаваць на сняданак толькі гістарычныя аповесці, напісаныя па апошняй модзе, новыя меладрамы, новыя трагедыі ў шасці, сямі і дзевяці карцінах, новыя раманы ў вершах і раманы ў стылі Вальтэр Скота, новыя вершаваныя роздумы, казкі, месеніяны і балады, багата пераклàдзеныя пустымі старонкамі, раствораныя кропкамі і віньеткамі і амаль настолькі ж бясшкодныя для страўніка і галавы, як чыстая белая папера. Такія сухары прапісваў яму прыдворны яго лейб-медык, вядомы доктар хірургіі Іпакрат, які забіў на зямлі сваімі рэцэптамі 120 000 чалавек і за гэта ўзведзены людзьмі ў сан айцоў лекарскай навукі. <...>

— Дзе чорт фон Аўсгабэ? — закрычаў Д'ябал сярдзітым голасам.

Імгненна выскачыў з натоўпу дух вялізнага росту, дзябёлы, мажны, у старым трохвугольным капелюшы і ўдарыў чалом уладару. Гэта быў бібліятэкар, нячысцік надзвычай вучоны, былы нямецкі Cgelehrter, які ведаў на памяць поўныя загалоўкі ўсіх твораў, мог назваць наперaлік усе выданні, памятаў, колькі ў якой кнізе старонак, і грэбаваў тым, што надрукавана, за выняткам памылак друку, якія з усіх стварэнняў розуму чалавечага лічыў вартымі асаблівай увагі.

— Нягоднік! Якія прыслаў ты мне сухары? — раз'юшыўся Д'ябал. — Яны чэрствыя, як дровы.

— Ваша змрочнасць! — апраўдваўся перапалоханы чорт. — Іншых не змог дастаць. Праўда, творы крыху састарэлыя, але затое якія выданні! Самыя новыя: толькі што з друку. (Д'ябал так раззлаваўся, што схапіў чарцяку за вуха, падняў яго ў паветра, як пярынку, паклаў у шасціаршынны фаліянт Арыстоцеля,

закрыў кнігу і сам на ёй усеўся. Няшчасны ў адно імгненне сплюснуўся. Жорстка расправіўся Д'ябал і з тымі, хто пасмеў яго ўпотай крытыкаваць: «А ну, хадзі сюды, свавольнік, у геену — чхаць два разы ўсякую секунду на працягу 3333 гадоў, а ты, адчайны філосаф, сядзі ля яго і прыгаворвай: «Жадаю вам здароўя!».)

<...> Паўстаў чорт, стары, абарваны, скалечаны, брудны, агідны, з ускалмачанымі валасамі, з адным выдзеўбаным вокам, з адным зламаным рогам, з кіпцюрамі, як у гіены, з зубамі без губ, як у трупа, і з вялікім пластырам, прылепленым ззаду, трохі ніжэй хваста. Пад пахай тырчала ў яго кіпа папер, апырсканых граззю і крывёю, на галаве — стары рамізніцкі капялюш, трохкаляровая кукарда, за поясам — кінжал і пара пісталетаў, дубіна і ржавае ружжо без замка. Кішэні яго былі набітыя камянямі з бруку і кавалкамі бутэлькавага шкла. Усякі, нават той, хто не бываў у Парыжы, лёгка ўгадаў бы па яго выглядзе, што гэта павінен быць злы дух мецяжоў, бунтаў, пераваротаў... Называўся Астарот. Ён пакланіўся і кульнуўся разы тры ў паветры, у знак глыбокай павагі.

— Ну што? — запытаў цар чарцей. — Што новага ў цябе чуваць?

— Руплівасць і любоў да трона вашай змрочнасці, клопат у даверанай мне дзялянцы...

— Стой! — выгукнуў Д'ябал. — Ведаю на памяць вашы прадмовы, у якіх ні пра што не гаворыцца. Гавары па справе: колькі ў цябе новых мецяжоў?

— Няма ніводнага прыстойнага, ваша змрочнасць, акрамя бунту пашы егіпецкага супраць турэцкага султана. Ці варта й дакладваць, бо гэта справа між бусурманамі.

— А чаму ніводнай? — спытаў грозна Д'ябал.

(Астарот апраўдваецца: стараўся, доказ чаму — зламаны рог і загубленае вока... — «Пра гэта ты мне тлумачыш 800 гадоў запар, — абарваў яго ўладар пекла, — вока выбіў табе чаравікам вядомы Пётр Пустыннік у час крывавага паходу, а рог зламаў ты ў пачатку XVII стагоддзя...» Астарот пахваліўся свежаю ранай — падняў свой хвост і паказаў пластыр... Д'ябал і ўвесь пякельны зброд разрагаталіся, як вар'яты. — «Хто ж гэта цябе так уразіў? Ха-ха-ха!» — «Данскі казак, ваша змрочнасць, сваім доўгім кап'ём. Хаця гэта было вельмі забаўна, але закончылася непрыемнасцю». Астарот расказвае пра выкліканыя ім рэвалюцыі, скардзіцца на стому і просіць адпачынак на паўгода. — «Не атрымаеш», — быў яму адказ. Прычыну няўдач Астарот тлумачыць тым, што людзі перасталі яму верыць.)

— Я занадта доўга ашукваў іх абяцаннямі бліскучай будучыні, даброт, свабоды, цішыні і парадку, а з маіх рэвалюцый, канстытуцый, камер і бюджэтаў выйшлі толькі ганенні, турмы, галеча і разбурэнні. Цяпер не так лёгка абдурыць: яны зрабіліся надзвычай разумнымі.

— Маўчы, дурань! — зароў Д'ябал. — Як ты смееш ілгаць так бессаромна? Нібыта я не ведаю, што людзі ніколі не будуць разумнымі?

— Аднак, завяраю вашу змрочнасць...

— Маўчы!

Чорт мяцяжоў па прыроджанай сваёй нахабнасці хацеў яшчэ штосьці сказаць Д'яблу, але той у жахлівым гневу саскочыў са свайго сядзення і кінуўся насустрач яму з палкім позіркам, разяўленай пашчай, распасцёртымі кіпцюрамі, як бы рыхтуючыся разадраць яго. Астарот наўцёкі, Д'ябал — за ім!..

Праклятыя нячысцікі са страху пахаваліся ў дзірках і расколінах, сталі залязаць на карнізы, шукаць сховішча ў столі. Сумятня была жудасная, як у французскай камеры дэпутатаў пры нарадах пра навядзенне ўнутранага парадку або пра ўсеагульны мір. (Уладар пекла доўга даганяў па-чартоўску спрытнага і вёрткага свайго міністра і обер-старшыню рэвалюцый, прабеглі 2000 вёрст у розных напрамках, урэшце схапіў яго за хвост, пакруціў некалькі разоў над галавой і кінуў з усяго размаху ўгору.)

Чорт мяцяжоў ляцеў, ляцеў, ляцеў і ўпаў на зямлю ■ трэскам і шумам — у самым цэнтры Парыжа. Але чэрці, як кошкі: падзенні ім не шкодныя. Астарот умомант прыпадняўся, атрахнуўся і тут жа залямантаваў на ўсё горла: «Далоў міністраў! Далоў караля! Няхай жыве свабода! Віват рэспубліка! Віват Лафайет! Ура! Напалеон II!» — і стаў шпурляць у вокны каменне і пляшкі, якімі былі запоўнены яго кішэні; стаў біць ліхтары і страляць з пісталетаў — у адно імгненне выбухнуў страшэнны бунт у Парыжы.

(А ў Д'ябла на прыёме чарговы нячысцік — вялікі яго ўлюбёнец Бубантус.) Ростам са звычайнага губернскага сакратара, 2 аршыны і 1/2 вяршка, з пеўнікавым носам, з сабачым чалом, з вушамі тарчком, з рагамі, кіпцюрамі і доўгім хвастом, апрануты, як і ўсе чэрці, па-нямецку, у панчохах, сшытых са старых газет, з высокім, аршын у дзевяць, спічастым каўпаком на галаве, склееным з часопісных карыктур у выглядзе вялізнага шпіца, на вяршаліне якога круціцца папяровы ветранік... З савіным пяром за вухам, ■ чорным партфелем пад пахай, увесь запэцканы жоўцю і чарнілам, наблізіўся ўпрытык да самога ўладара і пакланіўся, зрабіў піруэт на адной назе і зноў пакланіўся:

— Маю гонар рэкамендавацца!..

Д'ябал прамовіў:

— Любы Бубантулька, пачынай свой даклад, толькі гавары сцісла і разумна, бо я сярдзіты і сумую... — І ён пазяхнуў жахліва, раскрыў рот шырэй за жарало Везувія: дым і полымя заклубіліся з яго горла.

— Мой даклад на паперы, — адказаў нячысты дух журналістыкі. — Як вашай змрочнасці трэба яго слухаць: рамантычна або класічна... гэта значыць, знізу дагары або зверху ўніз?

— Слухаю знізу дагары, — заявіў Д'ябал. — Я люблю рамантызм: там усё цёмна і страшна, і ўсякае трэцяе слова бывае немінуча змрок або змрочны — гэта мая справа. — І дадаў. — Сядай, мой дарагі Бубантус, каб табе было зручней чытаць... (Бубантус чытае, а валадар з візірам абмяркоўваюць прачытанае, і так яно ім падабаецца, што гаспадар пекла папрасіў паўтарыць: «мне твой стыль вельмі падабаецца».) Бубантус паўтарыў: «і іншае, і іншае, слугою пакорлівым вашым застацца гонар маю...».

— Як?.. Толькі слугою? — перарваў зноў Д'ябал. — Ты ў той раз чытаў разумней.

— Толькі слугою, ваша змрочнасць, — запярэчыў чорт часопісаў, — я і перад гэтым чытаў слугою і цяпер так чытаю. Я не магу болей падпісвацца вашым вернападданым.

— Чаму?

— Таму што мы ў Парыжы ўрачыста пратэставалі супраць гэтага слова амаль ва ўсіх часопісах: яно занадта класічнае, міфалагічнае, грэчаскае, феадальнае...

— Кінь, братка, ці так гэта?

— Так, так, ваша змрочнасць... (І пачаў тлумачыць, чаму ... Д'ябал здзівіўся: «Няўжо гэта рамантызм. — Самы чысты, — удакладніў Бубантус, — дзіўна і наадварот». І працягвае чытаць: нельга людзей абяцанкамі карміць, у дурнях пакідаць...)

— Стой! — закрычаў Д'ябал, і вочы ў яго зазіхацелі маланкамі. Годзе! Ты сам застанешся ў дурнях. Не хачу я болей твайго рамантызму. Чытай мне класічна, зверху ўніз.

(Не дагадзіў Бубантус і класіцызмам. Хваліўся, колькі шкоды нанёс людзям сваім друкам.) Карацей кажучы, пры дапамозе гэтых мізэрных лісткоў я, — тлумачыў ён, — трымаю ўсё ў поўнай разгубленасці і перапалоху, заказваю мецяжы на вядомыя дні і гадзіны, звяргаю ўлады, перарабляю законы па сваім гусце і самадзяржаўна ўпраўляю вялізнай часткай зямлі. <...> Калі ваша змрочнасць жадае бачыць, да якой дасканаласці я давёў пякельную моц журналістыкі, то хай дазволена мне будзе выпісаць з Францыі, Англіі, Баварыі пяць журналістаў і заснаваць тут, пад зямлёю, пяць палітычных газет: ручаюся маім хвастом, што праз тры месяцы такую ўчыню вам сумятню паміж праклятымі, што вам давядзецца аб'явіць усё пекла ў асадным становішчы, вашай жа змрочнасці загадаю сыграць такую пранізлівую серэнаду на каструлях, катлах, самаварах і валынках, дзе вам заманецца, хоць пад вашым ложкам, што...

— Ах ты, нягоднік! — зароў Д'ябал грамавым голасам і пстрыкнуў яму па носе, так што красамоўны Бубантус, які сядзеў на сваім каўпаку, на канцы пруціка, што падтрымліваў флюгер, раптам стаў круціцца на ім шпаркашпарка і ўтварыў сабою паўпразрысты дрыготкі шар.

(Выкліканаму затым чорту славеснасці Д'ябал заявіў, што ён знішчае ў сваіх уладаннях увесь рамантызм і ўвесь класіцызм, бо яны — лухта, уводзіць новую школу, пісаць цяпер будуць не так-сяк, а шарбалаамбарабурычна, гэта значыць, слушна. Чорту славеснасці Кропкаставу ён падарыў за добрую работу фальшывы грош на гарэлку, чорту па справах жанатых Фіфі-како па яго загаду выдзелілі рогі, каб яшчэ старанней сеяў сямейны разлад, пабольшваў разводы. Пасля гэтага Д'ябал выйшаў падыхаць свежым паветрам — пагуляць паміж агнёў у геене і палюбавацца, як смажацца грэшнікі.)

*1832*

**Каментарыі**

**«Фантастычныя падарожжы барона Брамбеуса».** Урывак у перакладзе з рускай мовы К. Антановіча паводле выд.: Сенковский О. Сочинение барона Брамбеуса. — М., 1989.

**«Вялікі прыём у д'ябла».** Урывак у перакладзе з рускай мовы І. Шпакоўскага паводле выд.: Сенковский О. Большой выход у Сатаны // Новоселье. — Спб., 1833. — Ч. 1.

## ІГНАТ КУЛАКОЎСКІ
## (1800—1860)



Паэт, юрыст, педагог Ігнат Кулакоўскі нарадзіўся ў вёсцы Яноўшчына на Пружаншчыне. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, потым на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля заканчэння вучобы прыехаў у 1823 г. у Гародню, дзе ўладкаваўся на працу ў судзе. Потым быў прызначаны на пасаду дырэктара гімназіі ў Беластоку. Цікавіўся гісторыяй, быў членам Віленскай археалагічнай камісіі, статыстычнага камітэта Гродзенскай губерні, Лонданскага геаграфічнага таварыства, Капенгагенскага таварыства даследчыкаў старажытнасці. Захапляўся мовамі, ведаў латынь, французскую, італьянскую, іспанскую, рускую, шведскую, нямецкую, чэшскую мовы, санскрыт.

Пісаць мастацкія творы пачаў у 1818 г. З вершамі, баладамі, паэмамі актыўна выступаў у розных перыядычных выданнях Вільні, Варшавы, Пецярбурга. Адзін з вершаў прысвяціў Ф. Карпінскаму, з якім зблізіўся ў гады вучобы ў Свіслацкай гімназіі, якой апекаваўся гэты славуты ў той час паэт. У 1824 г. выдаў у Вільні кнігу «Вершаваныя забаўкі».

І. Кулакоўскі клапаціўся пра шырокую асвету народа. У 1834 г. у лісце да міністра асветы Расійскай Імперыі прапаноўваў пашырыць на Беларусі сетку школ, ставіў пытанне пра вывучэнне вучнямі традыцыйнай культуры і мовы народа, а таксама стварэння школьнага падручніка, у якім бы даваўся «ясны і сістэматычны выклад ... гісторыі заходніх губерняў пад назвай «Гісторыя краю».

Некаторыя падрабязнасці жыцця і грамадскай дзейнасці І. Кулакоўскага падае Г. Каханоўскі ў кнізе «Адчыніся, таямніца часу!». Як высвілася, І. Кулакоўскі быў прадзедам беларускай пісьменніцы Зоські Верас.

*К. Цвірка*

### ПЕСНЯ СВАТА НА СЯЛЯНСКІМ ВЯСЕЛЛІ

Хопіць нам піцва і стравы,
Стол стаіць не голы!
Маладыя, ў скокі жвава!
Грай, пане вясёлы!
Рэй вяду я. Што памлелі?
Падтыкайце полы.
Весяліся, бо вяселле,
Грай, пане вясёлы!

За здароўе вып'ю ваша
Хоць смалы: не кволы,
Што ж, калі наліта чаша!
Грай, пане вясёлы!
Дай вам божа напаследак
Жыццё безназолы,
Старасць познюю і дзетак.
Грай, пане вясёлы!

**Каментарыі**

**«Песня свата на сялянскім вяселлі».** Упершыню надрукавана ў «Дзённіку Віленскім» («Dziennik Wilenski»). — Варшава, 1829. — Т. 4. — № 11. Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## ГАЎДЭНТЫ ШАПЯЛЕВІЧ
## (1800—1846)



Нарадзіўся ў Магілёўскай губерні. Выхоўваўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі (1820). Выконваў абавязкі павятовага суддзі, потым служыў у Пецярбургу. Пэўны час займаўся разборам фонду бібліятэкі Полацкай езуіцкай акадэміі. З 1830 г. працаваў выкладчыкам у Віцебскай гімназіі, адкуль быў звольнены ў сувязі са справай Т. Лады-Заблоцкага (1834). Шапялевіч належаў да групы тагачасных пісьменнікаў, якія аднолькава добра валодалі рускай і польскай мовамі, цікавіліся народнай творчасцю і даўнінай. На рускай мове напісаў шэраг вершаў у рамантычна-баладным стылі («Мальвіна» і інш.) для часопіса «Альманах муз» (1830-я — 1840-я гады), празаічныя творы змяшчаў таксама ў часопісе «Вестник Европы». Нізка яго польскіх вершаў і празаічныя творы надрукаваны ў штогодніку «Niezabudka» («Незабудка»), заснаваным у Пецярбургу Я. Баршчэўскім. Асобным выданнем выйшла дасканалая формай і мовай паэма «Псіхея» (1843). Апошняя яго паэма «Вар'ятка» (выдадзена толькі невялікая частка) сведчыць пра сталасць аўтара як паэта.

*Г. Даўгяла, І. Шпакоўскі*

### УСЮДЫ ТЫ

У альбоме Я.-С.

Як ветрык абудзіць цішу лясную
І срэбны ручэй у даліне прачнецца,
Здаецца мне, голас твой звыклы я чую,
Што песня твая у душу маю льецца
І сэрца маё чаруе!
Як сонца спапеліць цені начныя,
І водны крышталь пазалотай зайграе,
І заструменяць званкі люстраныя,
Здаецца мне, косы твае усплываюць,
Пярсцёнкі тваіх валасоў залатыя!
Як зорка марская з плыні барвянай
На троне усходу пунсова прагляне
Вяночкам агністае ружы аззяна,
Здаецца мне, бачу твой мілы румянец,
Здаецца, бачу твой твар румяны!
Як толькі світанак зардзее ўрачыста,

І ў промнях начная развееца процьма,
І ўсё запалае у бляску іскрыстым,
Здаецца мне, гэта вачэй тваіх промні,
Пагляд твой анёльскі агністы!
Як ружа пялёсткі раскрые на ранні
І дзіўным бальзамам навокал павее,
У ясным пялёсткавым тым калыханні,
Здаецца мне, вусны твае палымнеюць,
Здаецца мне, чую тваё я дыханне.
Як толькі крыніца, што стомы не знае,
Пад ясным зіркам хвалі празрыстай
Дно залатое сваё адкрывае,
Здаецца мне, бачу твой вобраз святлісты,
А гэта душа твая найсвятая!

*[1840]*

**Каментарыі**

**«Усюды ты».** Пераклад з польскай мовы К. Камейшы паводле публікацыі ў альманаху «Niezabudka», 1840.

Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## ІГНАТ ДАМЕЙКА
## (1802—1889)



Нарадзіўся Ігнат Дамейка 31 ліпеня 1802 г. у родавай сядзібе Медзьвядка. Гэта недалёкія ваколіцы мястэчка Мір Наваградскага павета. У сем гадоў Ігнась страціў бацьку, выхоўваўся ў бацькавых братоў. Адзін з іх, таксама Ігнат Дамейка, узяў яго да сябе ў маёнтак Жырбутоўшчына ў Лідскім павеце. Вучыўся Ігнась у піярскай школе ў Шчучыне. Быў там пад апекай Ануфрыя Петрашкевіча, з якім разам уваходзіў потым у Таварыства філаматаў. У 1822 г. скончыў Віленскі ўніверсітэт. Дваццацігадовы Жэгота паехаў у вёску гаспадарыць. Радня выдзеліла яму для гэтага маёнтак Заполле ў Лідскім павеце. Калі пачалося следства па справе філарэтаў і філаматаў, яго таксама арыштавалі і прывезлі ў Вільню, у турэмнае зняволенне. Але праз паўгода яго вызваляюць і адпраўляюць назад у Заполле пад нагляд паліцыі.

У час Лістападаўскага паўстання Дамейка становіцца ў шэрагі змагароў за вызваленне айчыны ад маскоўскага «прылучэння». Пасля разгрому паўстання выехаў у эміграцыю. У Дрэздэне сустрэўся з Адамам Міцкевічам і разам з ім і іншымі землякамі выехаў у Парыж. Дапамагаў Адаму Міцкевічу ў выданні яго твораў, у тым ліку «Пана Тадэвуша». У Парыжы Ігнат Дамейка добра папоўніў свае веды ў прыродазнаўстве, закончыў там Горную школу. Яму даюць у Францыі працу па спецыяльнасці, якая не задавальняла Дамейку. Адам Міцкевіч знайшоў яму месца працы ў далёкай амерыканскай краіне — Чылі. Прагны да вандраванняў Ігнат Дамейка згадзіўся адправіцца за акіян. Ехаў туды на вызначаны час, а застаўся на ўсё жыццё. Стаў прафесарам мінералогіі ў Какімба і Сант'яга. Арганізаваў шырокае вывучэнне прыродных багаццяў Чылі, заняўся даследаваннем яе нетраў. Шмат зрабіў наш зямляк для падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне мінералогіі, наогул прыродазнаўства. Ён неаднаразова выбіраўся рэктарам Чылійскага ўніверсітэта ў Сант'яга, быў аб'яўлены нацыянальным героем Чылі. Калі сябры папракалі яго ў пісьмах, што ён нібыта зрабіўся чужаком, ён адказваў ім такімі словамі: «Вядома ж, перарадзіцца я ніколі не здолею і спадзяюся на Бога, што я — ці ў Кардыльерах, ці ў Панарах — усё роўна памру ліцвінам». А ў пісьме да Адама Міцкевіча ў 1854 г. прызнаўся: «Калі б была магчымасць вярнуцца і паслужыць яшчэ, хоць на старасці год, свайму краю, то не ўседзеў бы, не ўседзеў бы тут, хоць я даўно ўжо стаў грамадзянінам гэтай краіны, уладальнікам маёнтка і бацькам...»

І ўсё ж у 1884 г. беларускі выгнаннік змог наведаць сваю радзіму, якую не бачыў паўвека. Ды зноў вярнуўся назад, у Чылі, дзе ён ужо глыбока пусціў карані. Там ён і памёр.

Памяць пра Ігната Дамейку свята ўшаноўваецца ў далёкай паўднёваамерыканскай краіне. Калі хто з землякоў-беларусаў трапіць у Чылі,

ён, відаць, не праміне, каб хоць здалёку не зірнуць на велічны тысячакіламетровы горны хрыбет, які пазначаны на ўсіх картах як Кардыльера Дамейкі, наведаецца ў прыгожы і светлы горад Дамейка ў зялёнай даліне каля падножжа гэтага хрыбта, спыніцца хоць на хвіліну ў невялікім зацішным порце на самым беразе Ціхага акіяна — Пуэрта дэ Дамейка. Усе гэтыя мясціны названы ў гонар таленавітага і працалюбівага сына беларускай зямлі. А ў сталіцы Чылі Сант'яга падарожнік абавязкова пастаіць і з пашанай схіліць голаў перад велічным помнікам з вывай славутага беларуса, дзе на граніце выбіты лаканічны надпіс на іспанскай мове — Гран-дэ Эдукадор, што па-нашаму азначае — Вялікі Асветнік.

Вялікі вучоны-прыродазнавец не менш цікавы і як літаратар. Пісьменніцкае майстэрства Ігната Дамейкі асабліва ярка праявілася ў яго дарожных нарысах, якія друкаваліся пры жыцці аўтара ў самых розных выданнях Польшчы і іншых краін, а ў 1962—1963 гг. былі выдадзены ў Варшаве ў трох аб'ёмістых тамах пад агульнай назвай «Мае падарожжы». Пісаў ён на іспанскай, польскай, французскай і іншых мовах. У сваіх нарысах аўтар вельмі цікава, вобразна расказвае пра свае сустрэчы з рознымі краінамі, з іх людзьмі, лаканічнымі, але дакладнымі штрышкамі малюе далёкія краявіды, знешні і ўнутраны свет сваіх герояў. У нарысах і артыкулах Ігнат Дамейка праявіў сябе як сапраўдны дэмакрат. Ён заўсёды на баку абяздоленых. З пашанай і глыбокай павагай расказвае ён пра культуру і побыт насельнікаў далёкіх краін, паглыбляецца ў іх гісторыю. Апісваючы краявіды чужых, экзатычных зямель, аўтар вельмі часта параўноўвае іх з роднымі мясцінамі, пра якія ўвесь час думае і па якіх сумуе. Пры гэтым у памяці натуральна ўсплываюць і назвы гэтых мясцін, а за імі і жывыя беларускія словы, якіх нямала можна напаткаць у іншамоўных творах аўтара. На гэту асаблівасць мовы нарысаў Ігната Дамейкі звярнула ўвагу і аўтарка ўступнага артыкула да яго трохтомніка «Мае падарожжы» Эльжбета Гэлена Нясёна, якая прывяла і прыклады беларусізмаў — «рэгіянальных выразаў».

*К. Цвірка*

## ПАДАРОЖЖА Ў КРАІНУ ДЗІКІХ ІНДЗЕЙЦАЎ АРАЎКАНАЎ

(фрагменты)

### I. Выезд з Какімба

Яшчэ адно далёкае падарожжа. Няўжо мала табе валацужніцтва, бадзяжніцтва? Ты ж і так немаведама чаго аблётаў паўсвета! Ці не даволі таго, што ўжо бачыў?

Лётаючы па чужых землях, ты ўсё думаеш памнажаць яшчэ і зберагаць гэты скарб дарагіх згадак, якімі заўсёды ганарышся, як ганарыцца кароль багатай світай князёў і гетманаў, калі выязджае на парад? О, помню, што было на дне твайго шалёнага жадання пусціцца ў далёкія незнаёмыя краі і што стрымлівала смутак разлукі са сваімі: гэта была надзея на больш пагоднае неба пры вяртанні на радзіму і ўпэўненасць, што раскажу потым сям'і і сябрам пра ўсё ўбачанае і назбіранае сэрцам і вачыма ў шырокім свеце. Сёння ўжо вялікая частка сям'і і сяброў адышлі ў свет, у які цяпер ты можаш дастукацца толькі малітвай, толькі просьбай да Бога пра іх вечны спачынак. Гэтак жа, як і я, і іншыя мае сябры бадзяюцца па чужыне без дарогі, без мэты

ці мераюць бязлюдныя стэпы, а на шляху да вяртання застаецца адна перашкода: «Не положено!». Як ад здані, перапалохалася б сям'я, слугі і суседзі, калі б хто з нас патаемна, падмануўшы чуйнасць жандараў, зазірнуў у свой дом.

Дык што ж цябе непакоіць, чаму не можаш уседзець на месцы, у гасцінных людзей, якім Бог даў сілу для абароны ад гвалтаўнікоў, багатую прыгожую айчыну і добрыя для пілігрыма сэрцы? Непакоіць, не дае адпачынку брак той, пра якую кажа Скарга[1], што калі яе ў цябе адбяруць, то табе ўжо ніхто не можа даць іншую і лепшую, чым ЯНА. Без яе спакой — хімера, багацце — беднасць, слова — нішто, нават праца не будзе плённая.

Але ж, пане Жэгота, калі табе так хочацца падарожнічаць, чаму ж і іншых падбухторваеш ты да гэтага неспакойнага занятку, чаму выцягваеш з дому тых, каму Бог даў на ўсё жыццё і ўласны дом, і спакой?

Гэта ж я, збіраючыся ў падарожжа і жадаючы зрабіць яго больш вясялейшым, падгаварыў падарожнічаць са мной аднаго з маіх вучняў — дона Мігуэля Мунізага. Галоўнай мэтай гэтага падарожжа было для мяне знаёмства з Араўканіяй, краінай напалавіну дзікіх індзейцаў, што дагэтуль зберагалі сваю незалежнасць пасля трохсотгадовай вайны з іншаземцамі, дзеі якіх апявае ў сваёй эпапеі Эрсілля[2]. Бацькі Мігуэля не пярэчылі маёй задуме. Наадварот, лічылі гэтае падарожжа карысным для сына і з удзячнасцю згадзіліся з маёй прапановай, хоць я і заўважыў слёзы ў вачах беднай маткі: гэта ж была першая, хоць і кароткая разлука яе з сынком.

Дык вось, 23 снежня пад вечар рушыў я з дому Мунізагаў пад порт Какімба, дзе меліся мы чакаць парахода на Вальпараіса. Невясёлае было і для мяне развітанне Мігуэля. Гледзячы на яго растрывожаную матку і сясцёр, я ўспомніў маё расстанне з сям'ёй дваццаць чатыры гады таму назад, і цяжка стала ў мяне на душы, хоць цяпер я ні з кім не разлучаўся і ніхто тут не мог хвалявацца за мяне. <...>

## II. З падарожжа ў краіну дзікіх араўканаў

### Араўканія

8 студзеня 1845 года, купіўшы коней і ўсё, што трэба для падарожжа, выехаў я каля дзевяці гадзін раніцы з Канцэпсьена ў краіну дзікіх араўканаў, з нецярпеннем чакаючы сустрэчы з імі на іх уласнай зямлі.

І хіба ж не цікава ўбачыць вольную, незалежную, хоць і дзікую краіну, што да сёння засталася такой жа, як і тры стагоддзі назад, перад нападам на яе канкістадораў, людзей з распаленай душой, адзетых у жалеза? І ці ж не цікава пазнаёміцца з карэнным амерыканцам, дагэтуль незалежным, уладаром і гаспадаром сваёй зямлі? Пазнаёміцца з жывым летапісам дакалумбавай Амерыкі?

Сёння кожны можа падарожнічаць па сталіцах цывілізаванага свету, карыстацца іх дабротамі. Але ці не лепей нам пазнаць людзей, якія, прасякнутыя прыроднай любоўю да айчыны, напалову голыя, з лукам і дубінай, устаялі перад кастылійскай сілай[3], дагэтуль зберагглі суровую душу і тое, што ім завяшчалі продкі?

Так думаў я, перапраўляючыся пагодлівым, хоць і ветраным днём цераз самую вялікую з чылійскіх рэк Біа-Біа, якая аж да вызвалення з-пад каралеўскіх улад гэтай часткі Новага Свету была мяжой паміж дзікай, убогай Араўканіяй і самай магутнай, самай багатай некалі дзяржавай, над землямі якой ніколі не заходзіла сонца.

Рака прыгожая, не быстрая, шырынёй з паўмілі. Маіх коней і наўючаных мулаў паставілі на дзве стругі. Мы з Мігуэлем, маім маладым хаўруснікам, селі побач са старым плячыстым стырнавым.

З прычыны моцнага паўднёва-заходняга ветра пераправа ў нас забрала больш за гадзіну: мусілі плыць цераз раку не прама, а наўкос, супраць хваляў, часта мяняючы кірунак.

На ўсходзе перад намі адкрываліся велічныя Кардыльеры з іх адвечнымі лясамі, а на захадзе, як кінуць вокам, рассцілалася шырокае вусце ракі. Прыгожая зялёная раўніна, дзе стаіць горад, ішла ад самага берага на поўнач і канчалася каля затокі порта Таль-кахуана. Каля самага вусця даліну аддзяляў ад ракі гарысты вал, зарослы букамі. На другім беразе Біа-Біа відаць была невялікая вёсачка Сан Пэдра, невялікі касцёл і чырванаватае ўзгор'е.

Калі мы спакойна любаваліся дзівоснымі краявідамі, сівы стырнавы паказаў на поўнач, на нізіну, якая завецца сёння Вэгас дэ Талькахуана, бо падыходзіць да самага берага затокі, і якая яшчэ нядаўна была забалочаная. «Там, — сказаў стары, — была першая бітва Годаў (так звалі патрыёты іспанцаў з часу вайны за незалежнасць) з нашымі араўканамі». Тон, якім ён гаварыў, вочы сведчылі, што сам ён таксама быў адным з ваяроў у змаганні з чужынцамі. <...>

14 студзеня. Гэты дзень быў самы цяжкі ў падарожжы, бо мы прабіраліся праз непраходныя араўканскія пушчы — спрадвечную цытадэль волі і незалежнасці тутэйшага люду.

Ледзьве пачало днець, як мы ўжо сядзелі на конях. Дарога, калі так можна назваць вузкую, напалавіну зарослую сцежку, ішла каля ракі Цірна. Карыта яе вузкае, пакручастае, са стромымі берагамі, дно ўслана жвірам і дробнымі камянькамі з гнейсу і талькавага сланцу, вада чысцюткая, плынь быстрая. Па берагах — зараснікі мірту, лаўру, растуць яблыні. Дзевяць разоў перапраўляліся мы ўброд цераз гэтую раку, вылазячы ў прыбярэжны трыснёг і ў балота, дзе часта па жываты грузлі коні.

Каля дзесяці гадзін пакінулі мы пойму Цірны, з цяжкасцю падняліся на гару і ўцягнуліся ў спрадвечную пушчу, якая пакрывае ўвесь гэты ланцуг Кардыльераў, так званых Заходніх, ці Прыморскіх Кардыльераў, — у адрозненне ад другога ланцуга гор, аддзеленага ад заходняга шырокай далінай і названага Усходнімі Кардыльерамі, ці Андамі.

Хто ж можа апісаць гэтую пушчу, якая ніколі не ведала сякеры і ніводнае дрэва якой не пайшло ва ўжытак. Мы ўехалі ў пушчу, нібы ў велізарны, цёмны і вільготны склеп, дзе голле гэтых дзікіх грубых дрэў сплятаюцца ўгары ў густое скляпенне, а парослы раслiннасцю грунт, што ўтварыўся на гранітнай скале, якая не прапускае вады, месцамі такі балоцісты, што коні

нашы грузлі тут раз за разам. Як у нашых барах хвоі, што ў іх раскашуюць, толькі з берагу падпускаюць да сябе зелянейшыя сем'і дубоў ды асін, так і ў лясах Кардыльераў пануюць выключна два віды букаў — робле і раўлі (Fagus oblique і Fagus procera), а месцамі прыгажэйшы за іх каігу (cogue — Fagus Dombei), выдатнае дрэва для будаўніцтва. Першы від букаў — робле — амаль адзінае ў гэтым краі дрэва, якое зімой скідае сваё лісце. Яго стрыжань, які называюць пеллю, гэтакі ж цвёрды, як, напрыклад, драўніна нашага дуба, ён выдатна захоўваецца, нават калі закапаць яго ў зямлю.

Старыя, пераспелыя букі пастунова падгніваюць, прыхіляюцца на маладзейшыя і ўрэшце разам з імі падаюць долу, дзе і парахнеюць. У гэтай гушчыні нават вяршыні маладых букаў не ўгледзіш.

Там жа, дзе расступаецца пушча, зелянее тутэйшая густая ляшчына (avellano) уперамешку з карыцай (canelo) і рознымі гатункамі мірту, між якога кідаюцца ў вочы белыя духмяныя кветкі люмы (Murtus luma), высакарослага дрэва. Месцамі сустракаецца ў пушчы дрэва, кару якога вельмі цэняць гарбары: яна ўжываецца для вырабу шкур. Гэта — лінгэ (Persea linque).

Панурымі на фоне зелянейшых і яркіх дрэў і кустоў здаюцца высозныя цёмныя букі, якія не вельмі прывабяць каго ні сваім выглядам, ні колерам лісця, ні цветам. А калі ўвойдзеш у іх поўнае царства ў глыбіні лесу, дарогу табе заступяць зараснікі двух відаў трыснягу, які тут, пад букавым скляпеннем, даходзіць да агромністых памераў. Адзін з іх, калігва (Chusquea colen), расце прама, сцябло цвёрдае, таўшчыня — ад трох да чатырох дзюймаў, лісце доўгае. Вышыня яго — некалькі метраў, куст падобны на кітайскі бамбук. Мацнейшыя і таўсцейшыя сцябліны калігвы ідуць на будаўніцтва дамоў, араўкане робяць з гэтай расліны таксама пікі, якія і цяпер у іх — галоўная зброя: калі яны пачуюць пра пагрозу вайны ці пра якія напады, тады пачынаюць рыхтаваць пікі да бою. Даўжыня іх пікі — ад чатырох да пяці метраў, на канцы яе прымацоўваюць тоўсты жалезны цвік, добра завостраны. Старыя, высахлыя сцябліны гэтага трыснягу тырчаць — ці прама ўверх, ці ўбакі — сваімі вострымі канцамі, схаванымі ў густой лістоце маладой калігвы.

Гэтыя нябачныя патырчакі — самая вялікая небяспека для неасцярожнага падарожніка. Але яшчэ больш небяспечная для яго расліна — другі від трыснягу, які завецца кіля (quila — Chusquea valdiviensis), густая, высокая, адзетая ў танюткае лісце, уся пераплеценая, перакручаная, вялікіх памераў трава, якая лезе па дрэвах, па разложыстых букавых галінах уверх да 30—40 футаў. Расце яна на дзіва хутка і як бы спецыяльна прызначана для абароны гэтых няходжаных лясоў ад чалавека, расце проста на дарозе, дзе ён ходзіць. Выцерабленая ад самага нізу і да верху, за якія месяцы два яна ізноў так разрастаецца, што запаўняе тую самую прастору, якую займала дагэтуль, утвараючы непраходную сетку, у якой немагчыма пазнаць дарогу.

Памагаюць ёй лезці ўверх — прыкладна так, як матросам карабельныя канаты, — гэтыя натуральныя вяроўкі з дрэва, што завецца bocques (адзін з многіх відаў амерыканскіх ліянаў). Пераплёўшыся адна з адной, галіны-вяроўкі ўсюды — вертыкальна ці наўкос — спадаюць з дрэў і гайдаюцца ў

паветры, чапляюцца за суседнія дрэвы, за той жа трыснёг ці якую іншую расліну.

Вялікую прастору займае гэтая маса ўсіх відаў трыснягу, пераплеценая ў густую сетку вышынёй ад 20 да 30 метраў. Як сказаў мне мой хаўруснік-індзеец, гэта — іхняя «паша, што расце ў паветры», бо яе вельмі любіць свойская жывёла. Балоцісты грунт, непраходныя заraснікі ліянаў і трыснягу напамінаюць часам нетры нашых палескіх пушчаў — адвечную хованку ласёў ды мядзведзяў. Толькі тут — ані следу ніякага звера. Лес пусты.

Якраз у такі гушчар трапілі мы, выехаўшы з даліны Цірны. Індзейцы ішлі паперадзе, цярэбячы трыснёг. Ім памагалі і капітан, і жаўнер, мае слугі. Зноў і зноў трэба было затрымлівацца і сачыць, каб не згубіць дарогу. Толькі не быў гэта гасцінец, хоць гэтым шляхам прабіраліся сюды першыя канкістадоры з Іспаніі. Трыста гадоў гэта адзіная камунікацыя з паўднёвай чылійскай правінцыяй Вальдзівія. Дарога вузкая, з выбоінамі, напоўненымі часцей за ўсё вадой. Выбоіны не шырокія: якраз на конскі капыт, але даволі глыбокія — на чвэрць, на палавіну, а то і на ўвесь локаць. Прызвычаены да араўканскіх дарог конь і не шукае сушэйшага на выгляд грунту, не збочвае направа ці налева, бо там вельмі лёгка можна загрузнуць у багне. Ён трымаецца толькі следу гэтых дзірак, дно якіх усё ж утоптана. Ставіць нагу ў яміну паволі, не спяшаючыся, але і не баючыся вады, гэтак жа паволі вымае капыт і ставіць у новую яміну. Гэтак — нага за нагу — пасоўваецца далей. Увесь наш караван цягнуўся шнурам, яздок за ездаком. Коні і мулы самі выбіралі дарогу.

Але непраходныя зараснікі трыснягу і балоцісты грунт не былі яшчэ самай вялікай бядой на нашай дарозе. Нас чакалі яшчэ большыя перашкоды — павал спрадвечных дрэў, які перагароджваў нам дарогу. Вядома, не было там калод, як на літоўскай пасецы, дзе пахадзіла сякера. Дрэвы тут былі паваленыя з карэннем. Адны з гэтых вялізных вывернутых дрэў ляжалі на самай зямлі, і праз іх можна было, хоць і з вялікай цяжкасцю, але неяк прадрацца з канём, іншыя ж, падаючы, чапляліся вершалінамі за суседнія дрэвы і так былі нахіленыя, што пад імі ледзьве маглі прайсці коні, нам жа, седакам, даводзілася ссаджвацца ў багну. Многія ж дрэвы так ляжалі перад намі, што іх нельга было прайсці з коньмі ні паўзверх, ні пад нізам, і мы мусілі іх абходзіць, высякаючы перад сабой трыснёг і букавае голле, і так без канца.

Калі я, угінаючы свой карак і галаву, прадзіраўся пад камлём яшчэ аднаго вывернутага дрэва, патырчака сухога трыснягу, нібы востры ражон, працяла мне адзенне да самых рэбраў і разарвала ланцужок ад гадзінніка. Маладзейшы з маіх хаўруснікаў індзеец-араўкан ледзьве не страціў так вока — сухая трысціна толькі акрывавіла яму твар. Прадзіраючыся пад камлём аднаго з такіх вываратняў, конь майго індзейца таксама напароўся на востры сук трыснягу, які так параніў жывёліну, што нам нічога не заставалася, як пакінуць яе ў пушчы.

Чатыры гадзіны доўжылася гэтае невыноснае падарожжа. Дарога ішла пад гару, і мы за гэты час ледзьве змаглі адолець толькі мілю. Каля гадзіны

дня лес пачаў расступацца, дол рабіўся сушэйшы, і месцамі ішла ўверх гнейсавая скала.

Праз мілю ўжо не бачылі мы ні кілі, ні кулігвы. Лес быў сухі, букі — высозныя, магутныя. Пад імі расла толькі агромністых памераў папараць. Мы былі ўжо каля самага піка Кардыльераў. <...>

*1845*

## ФІЛАРЭТЫ І ФІЛАМАТЫ

Дарагі Пане Б...

Паўвека мінула з часоў і выпадкаў, пра якія ты просіш мяне напісаць. Ох! Калі б думкі і пачуцці былі матэрыяльныя, хто б шукаў і для чаго шукаў тое, што ўжо адышло і адмерла, ператварылася ў прах, у нішто? Тым часам былое бярэ нас і ўзносіць вышэй і мацней за існае, і ў тым, што было, жывём мы вечнай маладосцю, наперакор нашай сівізне і старэнню...

Было гэта ў часы куратарства князя Адама Чартарыйскага, якому Віленскі ўніверсітэт быў абавязаны многімі вольнасцямі і пэўным самакіраваннем, ну і тым, што дзякуючы шчасліваму збегу акалічнасцей змаглі тут сустрэцца і пасябраваць Зан, Яжоўскі, Малеўскі, а таксама Чачот і Міцкевіч, якія толькі што прыбылі з наваградскіх школ. Да іх далучыліся неўзабаве Петрашкевіч, Лазінскі, а потым яшчэ пяцёра. Гэта было першае згуртаванне, уплыў якога на тагачасную моладзь цяжка пераацаніць.

Спярша не думалі яны ні пра што іншае, як жыць адной сям'ёй, як мага часцей сустракацца, шукаць агульных забавак і памагаць адзін аднаму ў самаадукацыі. Дзіўная рэч! З выгляду гэтыя маладыя людзі вельмі розніліся паміж сабой характарамі, тэмпераментамі, сваімі схільнасцямі. Зан вывучаў фізічныя навукі і матэматыку, Яжоўскі быў адданы філасофіі і філалогіі, Малеўскі хадзіў на лекцыі правазнаўства, Міцкевіч з усіх навук аддаваў перавагу гісторыі і сучаснай літаратуры, але хоць быў адным з лепшых вучняў Гродэка, не любіў універсітэцкіх лекцый, яны яго нудзілі, ён сам сабе быў прафесар. Чачот рыхтаваў сябе на адваката з дапамогай надта ж нуднага і сухога мецэната, хадзіў са «Статутам» і паперамі пад пахай; Кавалеўскі быў увесь заглыблены ў латынь і грэцкую мову. Іншыя, як Петрашкевіч, Лазінскі, вывучалі прыродазнаўчыя навукі і адначасова хадзілі на лекцыі польскай літаратуры Бароўскага і старажытнай літаратуры Гродэка. Усе без выключэння былі прыхільнікамі Лялевеля і ў блізкіх стасунках з Контрымам[1], універсітэцкім бібліятэкарам, вельмі сумленным чалавекам, трохі бурклівым, капрызным і непрыяцелем шляхты, але даступным для ўсіх, рухавым і вялікім падбухторшчыкам да працы і асветы.

Халодны і паважны, бледны, найчасцей задумлівы Юзаф Яжоўскі гаварыў мала, рэдка калі ўцягваўся ў жарты, у спрэчкі і дыскусіі, а калі браў слова ў гаворцы пра дабро краю, то заўсёды гаварыў спакойна, карэктна, з найсуровейшай логікай, пераканаўча. Паходзіў ён з ваколіц Гумані, быў надта суровага нораву, любіў самотнасць, шмат чытаў, асабліва старажытных класікаў; у філасофіі трымаўся Канта, але нікому не навязваў сваіх перака-

нанняў. Наколькі быў ён суровы да сябе, нагэтулькі паблажлівы да іншых; помню, аднаго разу хтосьці з нас расказаў пра нейкі дурны, вельмі подлы і нікчэмны ўчынак, і мы ўсе адзін перад адным абураліся на таго, хто дадумаўся да гэтакай мярзотнасці, спакойны ж Яжоўскі сказаў разважліва: «Па сутнасці, цяжка сказаць, да якога класа і роду ўбоства ды людскіх слабасцяў трэба залічыць гэты ўчынак, ніхто б яго не прыдумаў a priori».

Зусім не падобны на Яжоўскага сваімі манерамі, тэмпераментам і характарам быў Чачот. Жывы, душэўны, вясёлы, таварыскі з усімі, просты і аднолькава непасрэдны, нават бесцырымонны ў адносінах як да маладзейшых за сябе, так і да паважных вучоных людзей; любіў спяваць, чула адгукаўся на розныя падзеі, хутка мог успыхнуць ад гневу і гэтак жа хутка астыць, дараваць людзям за нейкую крыўду, асабліва паблажлівы быў да сціплых і гаротных, меў папраўдзе сялянскую натуру, прытым слыў ён набожным католікам. Заўсёды гатовы быў служыць нам, але часта і бурчаў, не змоўчваў, калі бачыў у нас нешта кепскае, бо хацеў, каб яго сябры, і перш за ўсё Адам, былі бездакорныя ва ўсім.

Цяжэй апісаць яшчэ больш не падобнага да названых сяброў сваім характарам маладога Міцкевіча. Нейкае ўяўленне пра яго можна было б атрымаць з ягоных балад і першых частак «Дзядоў», напісаных у тыя часы; але не быў ён такі хмуры і меланхалічны, як паказана ў гэтых творах; у кампаніі са сваімі, перш за ўсё з Занам, Чачотам, Малеўскім, ён быў нязменна вясёлы, нават прыемны. Яго прыгожы твар, каралавыя вусны, палымяныя вочы, густыя эбенавыя валасы, прыемны голас, упэўненасць у сабе і незвычайная кемлівасць — усё гэта мне добра помніцца, яго вобраз бачыцца мне ў самым высокім святле. Не займаўся ён, праўда, арганізацыяй тайных таварыстваў, пісаннем статутаў для іх, навязваннем іх моладзі, але мы радзіліся з ім адносна кірунку, асновы і мэтаў згуртаванняў і слухаліся яго, бо яго сакалінае вока бачыла добра і далёка. Залішне рана змушаны быў ён ехаць у Коўна настаўнічаць, але часцяком прыязджаў адтуль на сустрэчу з намі, і кожны яго прыезд у Вільню быў для нас святам. Пісаў ён для нас песні, мы часта іх спявалі, яны былі ва ўсіх нас на вуснах, песні гэтыя вельмі падымалі дух моладзі. Што да веры, то быў ён тут, можа, болей паэт, чым паслухмяны слуга касцёла; усё ж яго творы і формай, і духам — каталіцкія, у іх адбіта ва ўсёй прастаце і набожнасць нашага люду, яны значна прычыніліся да ўратавання тагачаснай моладзі ад сухога скептыцызму, вальнадумнага недавер'я і матэрыяльнай рахубы, што так хутка ахапіла маладых людзей у іншых універсітэтах.

Самым непаэтычным з выгляду быў Лазінскі. Шырокі, з грубаватымі рысамі твар, сам плячысты, невысокі. Не надта дбаючы пра высокія матэрыі, аддаваў ён перавагу практычнаму жыццю, добраму побыту, незалежнасці; не паглыбляўся ні ў якую галіну навукі, але няблага ведаў і літаратуру, і прыродазнаўства, і матэматыку. Быў ён з Валыні, з Камянецкай школы. Прыхільнік Чацкага[2] і кс. Асінскага[3]. Заўсёды ў добрым гуморы, бесцырымонны, памагаў матэрыяльна сябрам і меў прыхільнасць у моладзі; чытаў лекцыі ў жаночых пансіянатах і прыватным асобам.

Але ў папулярнасці, ва ўменні ўсім падабацца, у прывабліванні да сябе моладзі ніхто не мог зраўняцца з панам Тамашом Занам, з якога я і павінен быў бы пачынаць гэтыя згадкі.

Паходзіў Зан з Наваградскага павета[4], дзе ён меў вельмі шаноўнага дзядзьку, свайго апекуна ксяндза-каноніка Зана, пробашча ў Паланечцы (за дзве мілі ад сядзібы маіх бацькоў). Быў Тамаш Зан, як кажуць, чалавекам з шырокімі схільнасцямі: грунтоўна ведаў прыродазнаўчыя і эксперыментальныя навукі, слыў добрым матэматыкам і паэтам, ведаў літаратуру і нашу гісторыю, старажытныя мовы; быў вялікім аматарам мастацтваў, у першую чаргу музыкі, якую добра ведаў; выдатна спяваў. Сярэдняга росту, смуглаватага твару, з малымі агністымі вачыма і цёмнымі кучаравымі валасамі, [redacted] высокім ілбом, які трохі звужаўся ўверсе. Калі ён спяваў, імправізаваў, тады ад яго, казалі, чала і вачэй нібы сыходзіла праменне, якім проста паланіў сэрцы ўсіх, хто яго слухаў. Умеў ён з аднолькавай лёгкасцю як зніжацца да разумення нявінных дзяцей, забаўляць іх і вучыць, так і ўступаць у палеміку з важнымі вучонымі і людзьмі шаноўнага веку. Заўсёды вясёлы, усмешлівага твару, жартаўлівы, любіў ён прыгожы слабы пол і разам [redacted] тым быў вельмі абыходлівы з ім; эстэтычны, улюблівы, ён не мог цярпець у маладых людзей самай малой непрыстойнасці, легкадумнасці, пажадлівасці, распусты. Ён даводзіў, што першая прыступка да несумленнасці, подласці і здрады — гэта нежаданне людзей стрымліваць у сабе грубыя схільнасці, абжорства і распуснасць, якія атручваюць навакольную атмасферу чадам і гніллю; ён казаў, што музыкай і паэзіяй, чысцінёй нораваў і любоўю можна ўратаваць ад канчатковага падзення самых сапсутых людзей. Ведалі і любілі яшчэ п. Тамаша за яго балады і трыялеты, якія спяваліся намі і да якіх ён сам пісаў музыку; чыталі мы з прыемнасцю яго паэму «Пан Твардоўскі», падбіраў ён таксама музыку да спеваў, якія прысылаў нам з Коўна Міцкевіч. Жыў ён з таго, што даваў прыватныя ўрокі, быў гувернёрам Уладзіслава, Юзафа і Аляксандра — сыноў пана Яна Ходзькі (аўтара «Пана Яна са Свіслачы») і маладых Слізеняў з Наваградскага павета.

Самы разухабісты з усяго гурту, самы рухавы, сапраўдны энтузіяст усіх пачынанняў Таварыства быў Ануфры Петрашкевіч; на яго ўсклалі акурат матэрыяльнае забеспячэнне мерапрыемстваў згуртаванняў моладзі, ён быў майстрам цырымоній, архівістам, скарбнікам; рыхтаваў малыя банкеты, калі трэба было справіць урачыстасць з нагоды прыезду Адама з Коўна ці якіх імянін. Яго стыхіяй і ўмовамі побыту былі нацыянальнасць, дабро краю, мінулае і будучае Польшчы. Ён адзін толькі насіў пышныя вусы ў памяць Сабескіх[5], Пулаўскіх[6] і любіў спяваць: «Аздоба твару — пышныя вусы»[7]; ненавідзеў маскалёў, як пекла. Я ведаў яго са школьных гадоў, бо быў ён маім гувернёрам у Шчучыне, а потым вучыўся са мной на факультэце фізічных навук універсітэта.

Вылучаўся сярод нас сваёй знешнасцю, хоць і жыў тымі ж самымі пачуццямі і ідэямі, як і ўсе, сын тагачаснага рэктара Францішак Малеўскі. Гэта быў юрыст, большы за ўсіх нас палітык, свецкі чалавек, які ведаў вышэйшыя колы грамадства, гаварыў чыста, ясна, разумна; ён дасканала валодаў

сучаснымі мовамі і на добрай латыні абараняў свае трактаты на званне магістра права; прытым быў добрага нораву, меў прыемны твар, ведаў і любіў мастацтвы, быў таварыскі і практычны.

Вось сем маладых універсітэцкіх вучняў, якія, зблізіўшыся паміж сабой, пачалі рабіць уплыў на віленскую моладзь...

Філаматы не спяшаліся з павелічэннем свайго Таварыства, асцярожнасць была такая вялікая, што за адзін першы год існавання было прынята ўсяго каля пяці новых членаў, а на другі год — два ці тры. Сярод гэтых апошніх быў і с. п. Ян Сабалеўскі, самы здольны з нашых фізікаў і матэматыкаў — прыгожы чалавек, прыгожая душа, ён памёр першы з усіх нас на выгнанні ў глыбіні Расіі, працуючы інжынерам воднай камунікацыі (калі не памыляюся) на Ладазе. І амаль адначасова далучыўся да Таварыства вучоны наш філолаг Юзаф Кавалеўскі, самы любімы вучань Гродэка, працавіты, ціхі, шанаваны моладдзю. Абодва належалі да настаўніцкага інстытута пры ўніверсітэце. Неўзабаве пасля іх прынялі адваката Мар'яна Пясецкага, аднаго з самых славутых у Вільні — потым ён стаў адвакатам Радзівілаўскай камісіі. Адначасова быў прыняты і халодны матэматык Будрэвіч, усімі любімы арыгінал, з добрым сэрцам і поўнай абыякавасцю да жыццёвых нягод. У яго былі прыяцелі і прыхільнікі больш за ўсё сярод вучняў матэматыкі, якіх ён рэпеціраваў. Вядомы быў ён сваёй вялікай рассеянасцю. Расказваў мне неяк Петрашкевіч, што калі прывялі Будрэвіча да паліцмайстра і той пачаў допыт са звычайнага пытання: «Как прозываешься?», ён, задумаўшыся над нейкай матэматычнай формулай, забыўся сваё імя і папытаўся, як ён завецца, у прысутнага там Петрашкевіча. На злосць паліцмайстра Будрэвіч толькі ўсміхаўся.

Толькі ў наступным годзе ў сям'ю філаматаў увайшлі: ксёндз Хлявінскі, які адпраўляў парафіяльную службу ў Святаянскім касцёле (потым ён выехаў служыць пробашчам у фальварку Хлявінскіх у Наваградскім павеце); высакародны Казакевіч, які пасля Лістападаўскага паўстання быў сасланы ў Сібір, дзе і знайшоў смерць пры жонцы і дзецях, і адзін беластачанін, студэнт права, усімі любімы — яго знешні выгляд я так добра помню, што і цяпер бы яго намаляваў, калі б быў мастаком, але як яго звалі, забыўся[8]. Ведаю толькі, што яшчэ да Лістападаўскай рэвалюцыі яго схапілі маскалі і вывезлі ў Сібір, дзе ён і памёр.

Нарэшце, і мяне, нічым не заслужанага, самага маладога з усіх, прынялі да сябе філаматы, прынялі хутчэй па сваёй дабраце, чым для патрэбы.

Такім чынам, усё Таварыства філаматаў не налічвала болей за чатырнаццаць членаў. Яго рэальная дзейнасць не абмяжоўвалася толькі пасяджэннямі, увесь час праходзіў у бесперапынных, нястомных стасунках членаў Таварыства адзін з адным...

Асабліва весела і цікава, забаўляючыся часам цэлую ноч, спраўлялі мы імяніны Зана, Яжоўскага альбо Адама, які прыязджаў з Коўна на куццю і якога прымалі мы з належнай шчодрасцю. Помніцца, Петрашкевіч меў нейкія блізкія сувязі з даглядчыкамі палаца Паца, і гэта давала нам магчымасць збірацца там на свае пасяджэнні і спраўляць свае ўрачыстасці ў замкнё-

ных для іншых пакоях генерала, пра што сам шаноўны гаспадар і не ведаў, бо жыў ён у Варшаве.

На адны са сваіх імянін Адам, як цяпер помню, прывёз сваю песню «Гэй, жыць будзем з уцехай!», якая стала потым сапраўдным гімнам не толькі філаматаў, але і філарэтаў і прамяністых. На гэтыя імяніны Петрашкевіч падрыхтаваў транспарант, Зан вітаў імяніннікa вершам і таксама вершам рабіў справаздачу пра жыццё і дзейнасць філаматаў, а потым спяваў свой трыялет:

Ты вярні спакой мой, Фэля,
Бо як быць з сабой, не знаю.
Я ў трывозе, я згараю,
Ты вярні спакой мой, Фэля.
Ці схавай сябе дзе ў келлі,
Ці кахай, як я кахаю.
Ты вярні спакой мой, Фэля,
Бо як быць з сабой, не знаю.

Быў ён закаханы ў маладую і прыгожую панну Феліцыю Пшэцішэўскую, але так платанічна, што і яна сама пра гэта не ведала. Чачот жа спяваў у гонар Адама на матыў песень нашых сялян і напісаную на іх мове сваю песню, якую, не ведаю як, успомніў я сёння праз пяцьдзясят гадоў, успомніў і вершы, і матыў, хоць на вершы ніколі не меў памяці:

Ах, што ж мы вашэці скажам,
Простага сяла дзяўчата,
Якія ж песнячкі звяжам;
У нас мысль небагата, у нас мысль небагата.

Але як мыслім, як чуем,
Так табе заспяваем,
Так цябе павіншуем;
Няшчырасці не знаем, няшчырасці не знаем.

Будзь, як лісічка, здаровы,
Як конік, весел пры трудзе;
Нех твае пісма і мовы,
Як салавей, голас будзе, як салавей, голас будзе.

Гэта песня, можа, загінула ўжо, і сам Чачот, магчыма, забыў яе перад смерцю. <...>

Пан Ануфры тым часам прыгатаваў чай, прысмакі і здабыў венгерскае, а потым зацягнуў: «За шумным Днестрам, на Цэцорскім лузе» і яго любімую песню: «У шляхетным доме, слаўным толькі цнотай». Ужо званілі на ютрань, калі мы разышліся.

Калі Адам пачынаў нудзіцца і тужыць у Коўне, да яго ездзілі нашы ў госці. Аднаго разу сабраліся мы ісці да яго пехатой. Усё было падрыхтавана да падарожжа, і не помню, што перашкодзіла выканаць нашу задуму. Магу сказаць, што хоць Міцкевіч быў аддалены ад нас на многія мілі, ён быў душой Таварыства.

Філаматы разам з усёй моладдзю наладзілі былі гарачую сустрэчу Лялевелю, калі ён вярнуўся ў Вільню, дзе ў выніку перамогі ў конкурсе стаў прафесарам кафедры гісторыі ўніверсітэта. Ніводная, нават самая вялікая зала ўніверсітэта не змяшчала вучняў, што збегліся на адкрыццё яго курса; мусілі адкласці гэтае адкрыццё на другі дзень і даць для гэтага тую вялізную залу, што звычайна адчынялі адзін раз на год, у дзень, калі ўвесь сенат прафесараў у пунсовых тогах і берэтах збіраўся на ўрачыстае завяршэнне школьнага года і калі перад рэктарам неслі вялікі срэбны скіпетр. Лялевель сеў на рэктарскае крэсла, трохі прыгорблена, гледзячы, скасіўшыся долу, пад ускрыкі тысячы маладых людзей, а калі пачаў гаварыць, настала поўная цішыня, і голас Лялевеля набіраў усё большай моцы і значнасці; пад канец прафесар увайшоў у такі запал і выклікаў такое захапленне ў моладзі, якога дагэтуль і потым не ведаў Віленскі ўніверсітэт. Дні праз два па ўсім горадзе хадзіў вядомы верш Міцкевіча да Лялевеля. Гэты верш яшчэ больш зацікавіў вучняў курсам гісторыі і значна павялічыў папулярнасць прафесара.

Цяжка ўжо сёння мне прыпомніць і дакладна апісаць усе важнейшыя падзеі ў Вільні двух першых гадоў існавання Таварыства, падзеі, у якіх непасрэдна ці ўскосна бралі ўдзел філаматы. Абуджэнне духу студэнцкай моладзі прымушала філаматаў не абмяжоўвацца толькі ўласным удасканаленнем, як гэта прадпісваў статут, а ўсё болей пашыраць свой уплыў на грамадства. Ім ужо цесным рабілася ўласнае кола, у якім яны дагэтуль дзейнічалі, кожны гуртаваў вакол сябе сваіх прыяцеляў, з якімі імкнуўся падтрымліваць добрыя стасункі. Асяродкам руху быў дом Тамаша Зана, які меў большую, чым у каго з нас, здольнасць падабацца і прывабліваць да сябе моладзь. Яго весялосць, паэтычнасць, дасведчанасць у многіх галінах навук і ў прыгожых мастацтвах, адкрытасць і тактоўнасць у абыходжанні з людзьмі рабілі яго вельмі папулярным. Паколькі пад яго апекай было многа вучняў, ён займеў прасторную кватэру ў доме Кукевіча. Туды, на святло навук і на розныя пагулянкі, заўсёды сыходзілася моладзь. Пры ім былі гэтакія ж сардэчныя, як і ён, два ягоныя браты: Стафан, які праз дзесяць гадоў мусіў кінуцца ў бадзяжніцтва па свеце, і Ігнат, які ў той час вучыўся на лекара. Калі Тамаш спяваў, яны падпявалі яму, а яшчэ памагалі праводзіць гулянкі, ну і збліжалі з ім тых, хто не адразу асмельваўся падысці да яго. Тут пачынаў набіраць сілу гурт маладых шаснаццацігадовых паэтаў, такіх як Аляксандр Ходзька, Антоні Эдвард Адынец, Людвік Спіцнагель, для якіх тады яшчэ далёкімі былі прыгоды іх бурлівай будучыні. Казалі, што калі Тамаша абступала любая яму моладзь, не толькі з яго вачэй, але і ад чала, як я ўжо згадваў, зыходзіла праменне, што пранікала ў душу кожнага, хто быў здольны да ўспрымання дабрыні і прыгажосці, і, наадварот, гасла, калі на яго шляху сустракалася халоднае ці няшчырае сэрца.

Ішла вясна. Было гэта ў 1819 ці 1820 годзе, чысло, вядома ж, забылася. Філаматы задумалі арганізаваць «маёўку», запрасіўшы на яе ўсіх, каго адносілі да як бы «апрамененых» Тамашовай любоўю, і тых, што былі надзейнымі і вернымі сябрамі. Каб не трапляцца на вочы паліцыі, дамовіліся пайсці далёка на Паплавы, збірацца ў розных месцах горада і ісці без асаблівага шуму

рознымі вуліцамі да зялёнай даліны, за якой прыкладна праз мілю ад горада і высілася прыгожае ўзгор'е, дзе павінна была адбыцца ўрачыстасць.

Калі на чыстым пагодлівым небе ўзыходзіла сонца, пачыналі паказвацца за горадам першыя гурты студэнтаў па 20—30 у кожным. Яны рознымі дарогамі ці без дарог, спяваючы вясёлыя песні, збіраючы кветкі і ломячы галінкі толькі што зазелянелых кустоў, выходзілі на тую даліну, а потым на дамоўленае ўзгор'е. Там падрыхтаваны былі ўжо вёдры з малаком, белы хлеб і свежыя пірагі.

Вось усе ўжо сабраліся. Не было толькі Зана. Калі праз якую хвілю ён паказаўся сярод новых маладых людзей, якія толькі падышлі, яго пачалі вітаць як магістра прамяністых. Потым усе пастроіліся ў адно вялікае кола, а калі падышоў Зан і стаў пасярэдзіне, гукнулі: «Гэй, жыць будзем для ўцехі, бо жывём толькі раз». Гэту песню мы пусцілі былі сярод найбольш надзейных.

Потым Тамаш прачытаў вершаваную прамову, якая, калі не загінула, магла б даць найлепшае ўяўленне пра дух гэтага сходу. Спявалі таксама другую паважную песню, з якой помню толькі адну страфу:

Не возьмем мы хцівасць ва ўжытак —
Прэч сквапнасці, пыхі насенне!
Наш самы высокі набытак:
Айчына, навука, сумленне![9]

Апошні радок мы паўтаралі ўсе хорам. Потым пачалі адзін перад адным выстаўляць нашы маладыя таленты: хто з вершам, хто з прозай, а хто і з вершам, і з прозай. Пасля пачалася гулянка. Мы бегалі па мураве, пілі малако, а хто-небудзь з весялейшых чытаў урывак са свайго твора.

Каля дзесяці гадзін вярталіся мы ў горад, падзяліўшыся на гурты, як і раней, а паколькі была гэта нядзеля, вырашылі пайсці на імшу ў касцёл св. Яна, што вельмі здзівіла прыхаджан, якія ніколі раней не бачылі тут гэтулькі ўніверсітэцкіх студэнтаў...

Зіма прайшла шчасліва, а вясной ізноў былі дзве ці тры маёўкі, на якія запрашалася нават моладзь, што не належала да Таварыства філарэтаў, з яе меркавалі падбіраць найбольш здольных для папаўнення згуртавання. На гэтых жа маёўках, празваных прамяністымі, што адбываліся пад адкрытым небам на зялёнай даліне, у вясёлых забавах і прамовах ва ўсёй шчырасці адкрываліся маладыя сэрцы.

Помніцца адна з такіх мілых сходак у праводную нядзелю каля фальварка Маркуце, што славіўся сваімі фіялкамі і салаўінымі спевамі. Гэта на Паплавах, за нейкую мілю ад горада, на высокім узгорку, з якога, як на далоні, былі відаць удалечыні Панары, Бекешава гара і ўся Вільня. Папраўдзе, гэта была не маёўка, а красавікоўка, бо праводная нядзеля прыпадала на красавік, і мы хацелі ў той дзень разам адведаць свянцонага. Кожны нёс што мог на гэты свянцоны стол: адзін — смажанага баранчыка, другі — вяндліну ці паўгуся, трэці — пірог ці мазурку[10]. А шмат хто прыносіў новую песню ці прысвечаны ўрачыстасці верш, большасць жа ўвогуле толькі добрыя

сэрцы і здаровыя страўнікі. На світанні былі пастаўлены сталы, спачатку пустыя. А праз паўгадзіны ажывіліся Паплавы песнямі філарэцкіх грамадак і запрошаных гасцей, што падыходзілі рознымі дарогамі з клумкамі і кошыкамі, ■ шмат хто нёс за пазухай бутэльку, хоць было дамоўлена, што будзем піць толькі свежае малако. Праз гадзіну сталы ўжо ўгіналіся пад цяжарам прынесенай ежы. Яе пасвянціў ксёндз, пасля чаго ўзяліся дзяліць велікодныя яйкі паміж братамі. Прыступілі да свянцонага не без уступных слоў Тамаша, сказаных ім вершам і прозай. Потым напераменку спявалі і дэкламавалі вершы. Вясёласць была ўсеагульная, а пад канец, калі ўжо рыхтаваліся варочацца дадому, наш любы Чачот, седзячы пад дрэвам, заспяваў спецыяльна напісаную песню:

Сон свой скінуў пан вясёлы
Красавік — ідзе праз сёлы
Абуджаць лясы і долы.
Алілуя, алілуя, алілуя!
Тут сябры ўсёй грамадою
Во сышліся пад гарою
Піць ды есці талакою. Алілуя...
Але ўсё ж дарма іх лаюць,
Бы яны адно і знаюць,
Што лайдачаць ды гуляюць. Алілуя...
Не, з іх кожны — працавіты.
Да людзей — душой адкрыты,
Годны продкаў, самавіты. Алілуя...
Край свой — клопат іх адзіны.
Мара іх — ва ўсе часіны
Быць падпорай для Айчыны. Алілуя...
Прыйдзе час, і ў промнях рання
З філарэцкага яднання
Продак наш — сармат устане. Алілуя...
Бліснe тут жазло сармата,
Клікне край ён да булата —
Знойдзе ўсіх за здзек расплата. Алілуя...
Не змагчы, сябры, нас ліху!
Адпачнём цяпер хоць крыху,
Малако п'ючы паціху. Алілуя...

Пасля гэтай страфы мы ад радасці падхапілі Яна на рукі і амаль яго не задушылі ад любві. Здаецца, ніколі ў жыцці я не бачыў такой шчаслівай сардэчнасці і шчырасці. Было на той сходцы паўтараста ўніверсітэцкіх вучняў. Да адзінаццаці гадзін мы вярнуліся ў горад і пайшлі да касцёла святога Яна на імшу...

*Сант'яга, сакавік, 1870 г.*

# МАЕ ПАДАРОЖЖЫ

*Успаміны выгнанніка*

(фрагменты)

## «Вяртанне з Чылі ў Еўропу ў 1884 годзе»

### I. Выезд з Чылі

*23 мая 1884 г.* У прыгожай, велічнай сталіцы, якую насяляе сто пяцьдзясят тысяч чалавек, мнагалюдны картэж сяброў і паважаных людзей, дэпутатаў і сенатараў Рэспублікі, вялікая радня маёй нябожчыцы жонкі, школьная і ўніверсітэцкая моладзь праводзяць мяне [redacted] сынамі да чыгуначнай станцыі. Гучныя крыкі: «Віват! Віват!». Музыкі граюць чылійскі нацыянальны гімн. І вось вядуць мяне да падрыхтаванага вагона, у якім ездзяць толькі сам прэзідэнт, міністры і прывілеяваныя асобы. Адзін вучань інстытута выступае з прамовай, віншуючы мяне з тым, што я ўбачу мой родны край, і выказвае шчырае пажаданне, каб я шчасліва вярнуўся назад, у гэтую другую маю айчыну, да якой я прывязаўся сэрцам. Я быў такі ўзрушаны, што мне хапіла сілы толькі ўсклікнуць: «Віват, Чылі!». Зноў музыка, воклічы, тры разы гукнуў лакаматыў — і мы едзем. Тры колішнія мае вучні, адзін з іх сенатар, а два — дэпутаты кангрэса, і прафесары праводзяць мяне да порта Вальпарыса, дзе мяне чакаюць новыя авацыі, запрашэнні на абеды. Праз два дні пад вечар са мной развітваюцца на палубе магутнага парахода «Брытанія» айцец Аўгусцін, кіраўнік місіі ў Паўднёвай Амерыцы, старшыня сената дон Рафаэль Ларайн, многа людзей з Сант'яга, а таксама заплаканыя сёстры маёй жонкі донна Лукрэцыя, донна Матыльда, іх дочкі і шмат параднёных са мною па жончынай лініі дам.

Гэтакі быў мой выезд з Чылі.

Сонца ўжо спусцілася да мора, калі загрукалі на карабельнай палубе ланцугі паднятага якара. Апошняе шумнае развітанне, і вось пачалі адплываць ад парахода партовыя чаўны з тымі, хто мяне праводзіў. Яшчэ доўга бачыў я ў паветры белыя хусткі, якімі махалі мне на развітанне.

З вільготнымі ад слёз вачамі ішоў я ў каюту. Мы плывём.

Будзь здарова, Чылі!

Дзякуй табе за мае 46 гадоў працоўнага жыцця на тваёй зямлі, дзякуй за тваю гасціннасць, за атрыманае ад цябе маё грамадзянства, за сям'ю, за пашану, якую я знайшоў у тваім народзе, за прызначаную мне табою шчодрую пенсію на рэшту жыцця, за духоўную асалоду і ўцехі, якімі адарыў мяне Бог у тваіх касцёлах і старасць маю падмацаваў...

### V. У Літве

*9 жніўня.* З кожным новым днём расло ў маім сэрцы нясцерпнае жаданне як найхутчэй убачыць наш родны дом у Літве, маю радню. На шумных банкетах і вечарах, якія наладжваліся ў мой гонар, бывалі моманты, калі я адчуваў, як шыбае мне ў скроні кроў пры думцы, што я хутка буду дома,

што я яшчэ не здзейсніў мэту свайго падарожжа[1]. Я ўсхопліваўся сярод ночы, гледзячы ў акно, ці днее, падлічваючы гадзіны.

І вось субота, дзень выезду. Раніцай пабылі яшчэ на імшы, якую правіў біскуп у доме пані Хамянтоўскай, потым — кароткія зборы, развітальныя візіты. З вялікім нецярпеннем пазіраю на гадзіннік. Ехаць са мною ў Літву падрычыўся Адынец, але паколькі ён добры балбатун і ў яго многа прыяцелек, з якімі яму трэба было развітацца, то ледзьве каля трох гадзін дня вярнуўся ён з горада. Цягнік жа павінен адпраўляцца ў чатыры, чыгуначная станцыя — далёка за Прагай[2]. Ніколі мне так не доўжылася гадзіна, як цяпер, калі мы ехалі з Маршалкоўскай вуліцы ў канец горада праз мост, праз Прагу. Мне здавалася, што я ўжо чую сігнал адпраўлення лакаматыва...

Не ведаю ўжо, як там было на пероне пры развітанні са мною вялікай сціжмы людзей, знаёмых мне і незнаёмых (бо быў разгублены), але нарэшце я сеў з немалым букетам кветак у руках каля Адынца. Насупраць нас сядзеў мой пляменнік Язерскі, яго сёстры Дмухоўскія і мой сын. Вагон нам далі асобны, самы лепшы, прытым — бясплатна.

Яшчэ повідну я мог акінуць вокам лугі ў баку, дзе ляжала поле Грахоўскай бітвы[3], і гэтую Альшанку[4]. Мінаем Мінск, Сельдцэ[5], а тут ужо і Буг, начны Брэст: я — у Літве! Адзначыў як прыемнае, што не было тут будкі, якая аддзяляла нас некалі ад Каралеўства...

Калі рушыў цягнік далей, мае хаўруснікі заснулі, а я і вока не мог прымружыць — чакаў дня, як збавення. Ледзьве пачало світаць, бачу — мы ў Гарадзеі! Гэта мінула ўжо семдзесят з лішнім гадоў, як прыязджаў я з маткай у Гарадзею, да паноў Брахоцкіх, гаспадароў тутэйшага маёнтка. Цяпер недалёка ад іх сядзібы — чыгунка. У той час нават самым смелым механікам і прысніцца не маглі — ані ў Лондане, ані ў Парыжы — жалезныя дарогі. Цяпер, бухаючы клубам пары, цягне за сабой паравоз даўгі ланцуг вагонаў. Цягнік спыняецца перад гожым размаляваным асабняком. На ганку, хоць было ўсяго каля трох гадзін раніцы, бачу мноства людзей, тут жа — чатырохконныя карэты, служба.

Першымі ўгледзеў я дачку і майго зяця (яны раней выехалі з Кракава, каб прыняць мяне ў сваім доме). Ледзь толькі выйшаў я з вагона, як кідаецца да мяне і хапае мяне ў абдымкі мой ссівелы швагер, старшыня Антоні Вяржбоўскі[6], на шэсць гадоў старэйшы за мяне. Пасля яго сціскаюць мяне ў абдымках і цалуюць яго сыны, іх крэўныя і мае пляменніцы, так што да мяне ледзь змаглі даступіцца дачка Ганна і Леан.

Можна ўявіць, якая гэта была ўсхваляваная сустрэча, якое расчуленне. Свіснуў, зашумеў, нібы злы дух, цягнік, і мы, пасеўшы ў экіпажы, рушылі да Медзьвядкі, за паўтары мілі адсюль. Я ехаў наперадзе са сваім шваграм у яго адкрытай карэце, за намі — мая дачка з Адынцам.

Што гэта за цудоўны быў ранак! Летняе сонца, здавалася, радавалася майму шчасцю. Вачам адкрываліся шырокія палеткі жыта і пшаніцы, адны пажатыя ўжо, з копамі, да другіх — ішлі з сярпамі жнеі. Зялёныя, з рознымі адценнямі сялянскія шнуры, палосы белай грэчкі, толькі што пакошаныя сенажаці, а ўдалечыні — бары і дубровы, як бы наўмысне пасаджаныя для

ўпрыгожання краявіду. Усё гэта было перад вачыма і ў Міцкевіча, калі ён пісаў «Пана Тадэвуша».

Мы мінавалі два фальваркі і адну вёску — яны стаялі на тым жа месцы, што і некалі. Ніхто іх не пераносіў. А што рабілася са мной, колькі было хвалявання, калі я ўбачыў першыя хаты і за імі нашу медзьвядскую сядзібу! Дарога да яе ішла ўжо не праз вёску: мой брат, нябожчык, праклаў яе праз прылеглую да сядзібы лугавіну. Не пазнаў я ні двара, ні ганка. Амаль плачучы, выйшлі мы ўсе з экіпажаў.

Я хутка агледзеў усе пакоі. Яны былі перарobленыя, толькі першы пакой, злева ад уваходу, застаўся такі ж, як і некалі. Мяне нешта затрымала на тым месцы, дзе 74 гады назад ляжаў мой памерлы бацька, а нам, дзецям, сказалі тады ўкленчыць перад ім і цалаваць яго ногі і рукі. Частка дома была перабудавана, ён быў павялічаны. Мой пляменнік Іпаліт, нябожчык, і яго жонка са Слізняў былі аматарамі і знаўцамі прыгожых мастацтваў, ездзілі ў Італію. Яны з густам абставілі пакоі, Іпалітава жонка сама іх аздобіла малюнкамі, разьбой, замяніла шпалеры, павесіла прыгожыя фіранкі і парцьеры. Некаторыя пакоі былі распалавінены, іншыя, наадварот, павялічаны за кошт выкінутых сцен. Словам, дом цяпер прасторны, па-новаму прыбраны, утульны, але не той, што быў раней. Іпаліт, які памёр гады два назад, і яго жонка не пакінулі пасля сябе дзяцей. Сёння маёнткам уладарыць Іпалітаў брат Аляксандр.

Прайшоў я і ў сад. Безліч кветак і раслін, нават экзатычных, пад шырокім порцікам каля дзвярэй. Але на месцы даўнейшых дзялянак, абсаджаных агрэстам і парэчкамі, на месцы старых ігруш і яблынь я ўбачыў сучасны парк, дзе раслі ліпы, клёны, бярозы і каштаны, знайшоў клумбы, газоны і пакручастыя, пасыпаныя жвірам сцежкі. А новы, малады сад рос цяпер у іншым месцы — у тыльным баку дома, за колішнім гумном і галубятняй, і быў не такі, як некалі.

Пасля добрага сняданку, на якім, узрушаныя сустрэчай, мы добра, па-польску павесяліліся, кожны з нас спаражніў па келіху, і ўсе разам мы пайшлі адведаць магілы маіх братоў, Казіміра і Адама, а таксама Іпалітаву.

Вось і касцёльчык, дзе я ў дзесяць год прыняў першае прычасце, дзе з часоў самага ранняга майго маленства абходзілі кожную нядзелю імшу, спявалі малітоўныя песні, «гадзінкі», кантычкі. Кожнае касцельнае свята праўлялі тут вельмі прыгожа, урачыста і весела. Але 20 гадоў назад, калі сялянам-уніятам Медзьвядкі было навязана праваслаўе, касцёльчык замкнулі. У 1836 (ці 37) годзе ў ім быў пахаваны Адам. Брат мой Казімір, які забраў яго маёнтак сабе, меў яшчэ пры касцёльчыку ксяндза, ці то рымскага, ці то ўніяцкага, а пасля буры 1863 года, баючыся, каб яму не прышылі схізмы, пад выглядам, што касцёльчык стары, заняпалы, трымаў яго замкнёным. Але поп з Міра, да парафіі якога адносіцца гэты касцёльчык, забраў ключ і адваёўвае цяпер на яго правы.

Я толькі пацалаваў каля дзвярэй касцёла зямлю, памаліўся і абышоў вакол яго тым хваёвым гаем, што абступае яго з усіх бакоў і дзе па сёння сяляне хаваюць памерлых. Тут, помню, калісь на свята хадзілі мы з урачыстай

працэсіяй, мой бацька вёў пад руку ксяндза, які трымаў у руках абраз Пана Бога, а аканом пачынаў спяваць «Бог нас уратуе» і іншыя песні.

Пасля смерці брата Казіміра мае пляменнікі, не маючы мажлівасці пахаваць бацьку ў касцёльчыку, вырашылі выкапаць для яго магілу ў недалёкім ад сядзібы гайку, а потым для яго і для свайго брата Іпаліта прывезлі з Варшавы прыгожую каменную натуральнай велічыні статую анёла з крыжам і заснавалі тут цвінтарык, абнесены жалезнай агароджай. Прамовіўшы малітву на гэтых нядаўна заснаваных могілках, я папрасіўся, каб пакінулі мяне аднаго, і пайшоў пад лес дарогай, якой ездзілі мы з маткай у госці ў святочны дзень на імшу ў Астроўкі да пана канюшага Пратасевіча і да нашай добрай суседкі, пані Булгакавай, на каву. У гэты лес хадзілі мы, дзеці, калі нас было яшчэ пяцёра, у грыбы, арэхі, збіралі там канваліі.

Колькі ў гэтым лесе абудзілася ў мяне дзіцячых успамінаў пра бацькоў, братоў і сясцёр, якіх даўно ўжо няма! Вялізныя пні сведчылі пра нядаўна высечаныя старыя дрэвы, частка лесу высечана на пасеку, ужо звузілася і старая дарога, зарасла, бо ў Астроўках касцёл аддалі папу. Шырэйшай дарогай выйшаў я на другі бок лесу, да млына, дзе рака Уша паварачвае на Ішкальдзь. За ракой убачыў я шырокія палі і ўзгоркі, пра якія я ўжо і забыўся.. Пачынала хмурыцца, накрапваў дождж. Варочаўся я не спяшаючыся, каб падоўжыць гэтую радасць. Я глядзеў на дрэвы — яны хацелі мне нешта расказаць, хоць былі ўсе маладзейшыя за мяне. Іх старэйшае пакаленне даўно ўжо было высечана і прададзена.

Калі пасля доўгай праходкі варочаўся я дадому, з'язджаліся прывітаць мяне суседзі, унукі тых, што жылі тут у мае дзіцячыя гады. За абедам — весялосць, польская балбатлівасць, адкрытасць, як і ў ранейшыя часы. Нібы мы былі за тысячы міляў ад недругаў. Пад канец абеду падымалі келіхі, Адынец дэкламаваў вершы. Потым забаўляліся да позняй ночы.

*10 жніўня.* Назаўтра рана паехаў я з Леанам у Мір, на магілу майго бацькі. Памёр ён на пачатку вясны 1809 года і быў пахаваны пры ўніяцкім парафіяльным касцёле злева ад дзвярэй. Хоць мне было тады няпоўных сем гадоў, усё ж я ўспомніў, дзе яго магіла, якая цяпер зарасла травою, помню я і той момант, калі апускалі труну ў дол, а мы з братам Адамам і маімі дзядзькамі плакалі. Сёння, новай слязой арасіўшы гэтае месца і ўшанаваўшы яго малітвай, захацеў я агледзець касцёл, які некалі заснавалі Радзівілы і які цяпер быў перададзены праваслаўю. Добры поп прыслаў дзяка з ключом, каб яго нам адамкнуць.

У мяне сціснулася сэрца, калі я глянуў усярэдзіну: ужо там і следу не было нашых алтароў і святых, многія каменныя табліцы з надпісамі павыдзіраны са сцен — і не толькі ўсярэдзіне, але і знадворку.

У гэты ж дзень схадзіў я яшчэ ў вёску, прайшоў яе з канца ў канец і выйшаў на мост цераз Ушу. Успомніў я, як тут яшчэ забівалі для яго палі і як нас, малых, купалі ў гэтай рацэ. Варочаючыся спакваля назад, я суняўся каля хат, дзе відаць былі дзеці і жанчыны. Калі я завёў размову з адной бабуляй, яна пакланілася мне і сказала: «Я пана маленькага яшчэ помню». Не ўсё я зразумеў, што яна яшчэ казала, і яна мяне не лепей, бо я загаварыў

быў з ёй па-іспанску. Я папытаўся ў яе далей, ці ведае яна Лукаша, майго некалі маладога фурмана, які жыў у гэтай вёсцы і з якім я пайшоў у 1831 годзе на вайну пад камандаванне Хлапоўскага. «Памёр», — адказала яна. «А Вінцэсь — ён таксама служыў у мяне?» — «Ага, жыў ён тут, — адказала старая, — але цяпер не ведаю, дзе ён і што з ім сталася».

Да мяне ліплі дзеці, жанчыны даўнім звычаем кланяліся мне, з мужчын да мяне падышоў адзін стары. Маладзейшыя паадпускалі сабе бароды, крой іх шапак і сярмяг быў крыху зменены — усе яны яшчэ літоўскай крыві. Вёску гвалтам далучылі да праваслаўя, касцёльчык замкнулі, поп жыве за мілю адсюль, у Міры, людзі не ходзяць ні ў царкву, ні ў касцёл.

Толькі дворная служба трымаецца даўнейшага звычаю. Адзін з гэтай службы, чалавек майго веку, а можа, гады на два і старэйшы, дагэтуль носіць імя Ясь. Ён усё даводзіў, што помніць мяне і што вельмі рады майму вяртанню. Хваліўся, што ён цяпер верхаводзіць у ананасарні. У гэтай яго цяпліцы пасаджана да двухсот ананасаў.

*11 жніўня.* Трэці дзень я ў Медзьвядцы. Хоць мне шмат чаго яшчэ хацелася паглядзець, але ўжо трэба было ехаць у Далматаўшчыну, да майго швагра Вяржбоўскага.

Раніцай, перад выездам, я захацеў яшчэ памаліцца ў нашым касцёльчыку над магілай майго старэйшага брата Адама, з якім не толькі разам хадзілі ў дзяцінстве ў школу, але і вучыліся першы год ва ўніверсітэце. Вельмі прасіў я маладога Аляксандра, майго пляменніка, цяперашняга гаспадара Медзьвядак, каб выстараўся ключа. Мірскі поп забраў быў ключ і аддаў яго селяніну, галаве, ці войту, на захоўванне. Але селянін не даў ключа, баючыся папа.

Можна ўявіць, што гэта быў для мяне за горкі арэх, які я мусіў згрызці: селянін не даў гаспадару ключа ад касцёла! Баяўся папа, а яшчэ ж не мінула 50 гадоў ад часу, калі той самы селянін маліўся з панам у гэтым самым касцёле, лічыў яго, пана, вышэйшым за цара, кланяўся яму і баяўся.

У той жа дзень папалудні выехалі мы ў Далматаўшчыну — маёнтак майго швагра А. Вяржбоўскага. Праехалі праз Паланечку каля касцёла, дзе мяне ахрысціў некалі пробашч, які ў апошнія нешчаслівыя гады абараніў гэты маленькі касцёл з дапамогай яго ўладальніка Радзівіла ад праваслаўя.

Не меней усхвалявана, чым у Медзьвядцы, сустракалі мяне ў Далматаўшчыне, у доме маёй сястры-нябожчыцы Марыі. На вячэры было многа гасцей, суседзяў, а ўся бяседа, урачыстыя тосты былі такія ж сардэчныя і вясёлыя, як і некалі. Адынец быў у паэтычным уздыме, імправізаваў. Пайшлі спаць апоўначы.

Потым мы хадзілі да пустога цяпер, заняпалага дамка недалёка ад панскай сядзібы, у старым, пасаджаным колішнім яго гаспадаром садзе, рэшткі дрэў якога і невялікі стаў збярог цяперашні яго ўладальнік. З гэтым дамком звязана вялікая памяць.

У ім жылі, вярнуўшыся з Расіі, з выгнання, Зан і Чачот, гасцінна і сардэчна прынятыя і прытуленыя Антоніем Вяржбоўскім. За паўмілю адсюль жыў таксама брат Тамаша Зана Ігнат, лекар.

Тамаш Зан прыехаў здаровы і вясёлы, як і раней — сардэчны, разумны. Здавалася, ён збярог у сабе ўсю сваю маладую сілу і кемлівасць. Вельмі любіў яго п. Антоні і праводзіў з ім час у доўгіх размовах.

Аднаго разу, праз колькі месяцаў пасля прыезду, сустракае яго Вяржбоўскі на дарозе, якая вяла ад гэтага дамка да панскай сядзібы, і бачыць нейкую незвычайную змену ў яго твары і ў вачах. «Што з табой?» — папытаў ён. Зан пачаў гаварыць, як звычайна, пра маральную дасканаласць, пра людскую дабрыню і пра злыя ўчынкі кепскіх людзей. З гэтага рабіў выснову, што ад добрых ёсць ступень да найлепшых, якія сягаюць аж да Бога, так і сярод кепскіх ёсць нават пярэваратні, што ператвараюцца з цягам часу ў чарцей. П. Антоні слухаў яго з вялікім здзіўленнем. Убачыўшы, што той пачаў гаварыць яшчэ болей незразумелае, ён, нічога Зану не кажучы, паслаў па яго брата Ігната Зана, лекара.

Гэта быў пачатак вар'яцтва Тамаша Зана, якое прайшло не адразу, нягледзячы на лекі, што даваў яму брат. А праз колькі часу прыйшоў ён такі вясёлы, такі задаволены сабой, такі прыемны, што адразу кінуўся ў абдымкі да гаспадара, які таксама вельмі ўзрадаваўся яго выздараўленню. Пабыўшы год у Далматаўшчыне, Тамаш Зан паехаў у Вільню, пазнаёміўся там з паннай Свентажэцкай, ажаніўся, і пачалася новая старонка ў яго жыцці.

Ян Чачот пражыў у гэтым самым дамку тры гады. Як заўсёды спакойны, не вельмі гаваркі, суровы да сябе і да іншых, але таксама мілы, добры да дзяцей і працавіты. Вучыў ён дзяцей гаспадара і яго крэўных граматыцы, гісторыі і інш. Быў трохі мізантроп, бурчаў калі-нікалі на Зана і на гасцей, часам нават на саміх гаспадароў, збіраў народныя песні і сам пісаў, многа маліўся і ставіўся да ўсіх з сардэчнасцю, з любоўю. Такім і сёння застаўся ён у памяці людзей гэтай ваколіцы. Гневаўся, калі клікалі яго на ўсякія забаўкі.

На трэці год свайго знаходжання ў Далматаўшчыне пачаў ён хварэць. З цяжкасцю ўгаварылі яго палячыцца мінеральнымі водамі, бо ўжо лекі не памагалі. Згадзіўся, каб яго завезлі ў Друскенікі. Там, так і не знайшоўшы палёгкі, памёр. Свяці яму, Божа. Ён быў душой філаматаў і філарэтаў, клікаў да набожнага і працавітага жыцця, да маральнай дасканаласці, дакараў людзей за празмернасць, дзе толькі і ў кім яе заўважаў.

У гэты дзень за абедам было вялікае застолле. З'ехалася нямала заможнай шляхты. Напрыклад, прыехаў арандатар Міра п. Пуцята з дзвюма гожымі дочкамі. Як і ўчора, спевы, урачыстыя тосты. Адынец праявіў сябе выдатна, дэкламаваў вершы. Пра наша падарожжа з Варшавы праз Гарадзею надрукаваў ён у «Kronice Rodzinnej» падрабязнае паведамленне (18 жніўня)...

*13 жніўня.* У гэты дзень, яшчэ раз пачціўшы з Антоніем магілы маёй сястры Марыі і пляменніцы, выехалі мы ў Сачыўкі, да дома маёй нябожчыцы маткі, а сёння — пляменніка Эдварда Язерскага і яго сям'і. Па дарозе заехалі ў Бортнікі, у маёнтак Слізняў, з якімі мая сям'я шматкроць парадніласся. Тут я ўспомніў адзін з самых прыемных у маім жыцці дзён — гэта дзень вяселля майго брата Адама з Юзяй са Слізняў. У той час жылі там яе бацькі, сям'я харунжага. Гэта быў заможны і гасцінны род, ён пераважаў

на павятовых сейміках у Наваградку. Ды і парадніўся ён са многімі больш знакамітымі родамі гэтага павета. Ох! Дні шлюбаў і вяселляў не забываюцца.

Юзіны бацькі даўно ўжо памерлі, старасвецкі іх дом заняпаў, на яго месцы засталася толькі як бы альтанка, навокал новы парк, газоны, квяцістыя клумбы, пакручастыя сцежкі — як у французскіх садах. У новым доме сардэчна прыняў мяне гаспадар, самы малады з сыноў пана харунжага — яго, гаспадара, я помню яшчэ дзіцем. Цяпер ён — заслужаны афіцэр расійскага марскога флота, ужо састарэлы, хворы. З ім на ганак выйшаў таксама Ота Слізень, мой віленскі таварыш, філарэт, ссівелы ўжо, сумны, і тры польскія дамы з гэтай самай сям'і, дзве пажылога веку, а трэцяя маладзейшая, лагодная і жвавая. Яна напомніла мне тварам і манерамі яе матку Корбут са Слізняў — старэйшую Юзіну сястру.

Усё тут змянілася. Але хоць Отта служыў некалі расійскім афіцэрам, хоць ён і яго браты сваю маладосць аддалі службе, увесь дом, іх маладыя сыны, яны самі і прыветлівыя гаспадыні не адступіліся ад польскасці — у іх шчырай і адкрытай гаворцы, у мове не чулася нічога маскоўскага: ні акцэнту, ні адзінага слова. На абедзе пілі мы стары мёд, добрае венгерскае, абдымаліся, прыпамінаючы даўнія часы.

Пасля абеду пайшоў я з маладзейшай паняй да блізкага гайку на ўзгорак, дзе добрая полька расказала мне, як некалі тут сардэчна прымалі Тамаша Зана, прыяцеля дома, колішняга віленскага гувернёра маладых Слізняў, як прыемна весяліліся. Быў тут і маленькі тэатр, спяваліся філарэцкія песні, Чачот і Зан дэкламавалі свае і Міцкевічавы вершы.

Пад вечар пад'язджалі мы з панам Антоніем пад Сачыўкі. Тут, калі я быў малы, жыла мая бабка Анцута з Валадковічаў. Добра помню (мне ж тады было гадоў сем) багатую панскую сядзібу, безліч гасцей, якія з'ехаліся на свята, да дня святой Ганны на Сталовіцкі кірмаш. Як цяпер помняцца шумныя імяніны, на якіх тры Марылькі, мае дваюрадныя сёстры: Верашчака (пазнейшая Марыля), Залэнская (паходжаннем з Касцюшкаў) і родная сястра, трымаючы доўгую гірлянду з руж і язьміну, спяваюць перад расчуленай бабуляй. Потым, калі пасля яе смерці жыў тут мой дзядзька Станіслаў Анцута (брат асабістага сакратара Станіслава Панятоўскага, брата караля), мы з маткай прыязджалі сюды на храмавое свята да Божай Маткі Сталовіцкай. Мы гулялі тады пад старымі ліпамі, якія цяпер — я ўбачыў іх здалёку — манілі мяне да сябе. Потым, пасля смерці дзядзькі, жыла тут мая маці, тут гулялі мы вяселле дзвюх маіх сясцёр і брата Адама, тут і развітаўся я назаўсёды з маткай, апошні раз пацалаваўшы ёй рукі (было гэта ў красавіку 1831 года) — праз год яе не стала.

Галава мая поўнілася думкамі і ўспамінамі, я кідаў вачамі ва ўсе бакі. Ужо відаць былі вялікія белыя вежы Сталовіцкага касцёла, статкі кароў, што пасвіліся каля лянівай Шчары на шырокай даліне. Удалечыні адкрывалася вёска Крашын, вятрак на ўзгорку. І вось з-за цёмных вольхаў паказаўся сачыўскі маёнтак, палепшаны, але не зменены. На ганку сустракала мяне многа гасцей і шматлікая радня — нашчадкі маіх братоў і сясцёр: справа ад ганка — дамашнія, служба, злева — грамада сялян. Гаспадар Язэрскі

і яго жонка... падалі мне на падносе хлеб, соль і мёд, старэйшы з сялян, пакланіўшыся, прывітаў мяне: «Нех бэндзе пахвалёны Пан Езус». Я адказаў яму «навекі», і пачаліся поціскі і пацалункі. Якая гэта была радасць! Перад дзвярыма ў сені кожны перакуліў кілішак мёду за маё здароўе, а я тое ж самае зрабіў за здароўе гаспадароў.

Адразу ж пасля гэтага я з дзіцячай цікаўнасцю пайшоў аглядаць дом. Першы ад дзвярэй пакой застаўся такі ж, як і некалі, — гэта якраз у ім спявалі семдзесят з лішнім гадоў назад тры Марылькі, гэта ў ім адзначалі шлюб і вяселлі маіх сясцёр. І другі за гэтым пакой, што ад ракі, не змяніўся. Толькі замуравалі ў ім стары алькоў, і пакой павесялеў. Іншыя пакоі — маціна спальня, сталоўка, гасцёўня — былі крыху перароблены. Адразу пазнаў ■ толькі сені, дзе пры жыцці бабкі вісела над дзвярыма вялікая драбінастая клетка, а ў ёй сядзеў вялізны бунчужны певень, які выспеўваў гадзіны. Увесь дом быў так аздоблены, каб не парушыліся даўнейшыя формы, каб захавалася ўсё па-ранейшаму.

Вячэра ў гэты дзень была сямейная. Мы сядзелі яшчэ за сталом, калі пачулі спевы жней, што вярочаліся з поля. Выйшлі на двор, дзе пачыналіся абходзіны дажынак. Там ужо стаяў доўгі стол, накрыты грубым абрусам. Ён быў застаўлены боханамі хлеба грубага памолу, сырам і бутэлькамі гарэлкі.

Прыгожая мажная дзяўчына ў вянку з жытніх каласоў на галаве падышла разам з дзвюма паважнымі жанчынамі па баках да мяне і пакланілася. Я зняў, згодна са звычаем, з яе галавы вянок і перадаў гаспадыні дома, пацалаваўшы жней. Потым войт вёскі і паважаныя людзі гміны ахвяравалі мне хлеб і павіншавалі са зваротам. А адзін з іх сказаў, што помніць мяне, калі я быў малы.

Тым часам увесь хор жней падзяліўся на дзве грамады, што спявалі папераменна. Я выпіў чарку гарэлкі да войта, войт — да свайго даўнейшага пана, і пачалося частаванне. Кроілі хлеб, сыр. Пілі і мужчыны, і жанчыны. Засмуціла нас толькі невялікая няўдача: захварэў скрыпач і не было танцаў.

Каб не перапыняць забавы, каб усе маглі гуляць раскавана, як і колькі хто захоча, гаспадар запрасіў сваіх гасцей на другі бок дома, дзе пачынаўся сад і парк. Там, на раскошным кветніку, дзе некалі раскашаваў балотны зараснік, я ўбачыў квяцістыя клумбы і шырокія выраслыя дрэвы, памятныя мне яшчэ з маленства. За імі, як і раней, вілася лугам родная рака — Шчара. Пад тымі дрэвамі прывезены з блізкага мястэчка фокуснік падрыхтаваў на мураве штучныя агні, учыніў гучны феерверк у паветры, запаліў сонечныя ваўчкі. Да позняй ночы асвятлялі цёмны сад чырвоныя бенгальскія агні.

Потым перайшлі ў гасцёўню, дзе гучала музыка, спевы. Толькі недзе за поўнач пайшлі мы з панам Антоніем на спачынак. Але я яшчэ доўга чуў спевы жней, што ішлі з дажынак дадому. У тую ноч не было для мяне сну, толькі дрымота, што ўвесь час перапынялася. Мне ўспаміналіся дзіцячыя гульні, пяшчоты маёй бабкі, шумныя сходкі ў гэтым доме, зборы сеймікавай шляхты. Аж да раніцы стаялі ў мяне ў вушах песні жней. Мне здалося, што заспяваў быў і бабулін певень, які будзіў колісь у доўгія зімовыя ночы шматлікую яе службу.

Ледзьве першы сонечны промень глянуў у акно, як я ўстаў і пайшоў на мацерыну магілу. Мяне дагнала мая пляменніца Ядзя — яна таксама не спала.

Дарога ішла паўз узгорак, на якім ад незапамятных часоў стаяла маленькая каплічка, дзе пры жыцці бабкі, пані Анцуты, служылі імшу ў нядзелю, а вечарам збіраліся на малітвы ўсе дамашнія. Не дачакалася сямейная каплічка, пакуль забярэ яе поп для праваслаўя, спарахнела, забурылася, і цяпер ад яе не відаць ужо і следу. Далей дарога паварочвала ў бок ракі. Мы перайшлі мост, пры якім у даўнейшыя часы шумеў вялізны, як цяпер помню, вадзяны млын — ад яго цяпер тырчала з вады толькі некалькі паляў.

За мостам налева вабіла вока шырокае, толькі што ўзаранае для сяўбы поле. Тут жа ўбачыў я і невялікі цвінтар на ўзвышшы, некалькі крыжоў, белую каплічку і два дрэвы пры ёй.

«Там, — прамовіла заплаканая Ядзя, — спачывае мая бабка. Болей ужо не хаваюць там памерлых, бо для вечнага спачынку сялян праваслаўнай веры поп выбраў месца недзе паблізу вёскі. Нават сцежку да старых могілак зааралі».

Мы пайшлі па раллі і вось укленчылі пры магіле. Ах! Каму ж гэта яшчэ дазволіць Бог пасля паўвекавога выгнання вярнуцца з-за мора, з другой паловы свету і ўкленчыць над магілай маткі, блаславенне якой берагло мяне ў вандраваннях?! Няхай набожныя слёзы гэтыя будуць Богу на ахвяру за тваю шчодрасць, за ўсё тое, што ты дала мне, калі я быў яшчэ хваравітым дзіцем, потым непаслухмяным хлапчуком, потым ганарлівым смельчаком у школе, потым яшчэ больш самаўпэўненым, калі забываў твае парады і перасцярогі. Пры расстанні тваё сэрца прадчувала ўжо, што мы болей не ўбачымся, што я ўжо ніколі не абдыму цябе.

Матка мая! Хто ж, калі не ты, склаў першы раз мае рукі да Бога, хто прывёў да алтара і навучыў «Ойча наш»? Гэта ты, помню, едучы са мной на свята Божай Маткі да гэтага, сёння аўдавелага, касцёла, даручыла мяне яе апецы.

О Божа! Калі ўжо не наканавана Табою, Тваёй міласэрнасцю, каб мая матка бачыла гэтыя мае пакуты і гэтыя занядбаныя могілкі, раскажы ёй праз свайго анёла, што я малюся і да смерці маліцца буду за яе збавенне і за Тваю ласку.

Адыходзячы ад надмагільнага помніка маёй маткі, я бачыў, што падобны на яго мураваны помнік дзядзьку Міхалу распаўся ўжо на часткі, што крыжы, якія наш люд з прылеглай вёскі ставіў на магілах сваіх бацькоў, пападгнівалі і там-сям валяліся на зямлі. Іншыя, нахіліўшыся, пакуль што мацаваліся да часу. Магілы ж пазарасталі муравой ды пустазеллем, на блізкім загоне селянін падворваўся ўжо да асвечанага ў незапамятныя часы цвінтара.

Палова Сачывак, што належала некалі майму дзядзьку, перададзена ўжо другой сям'і, другую ж палову яшчэ трымае ў сваім валоданні мой пляменнік. Ён паабяцаў даглядаць гэты цвінтар і на ім магілу маёй маткі, а яго бабкі. Яго матка пахавана ўжо не тут — у больш надзейным месцы, пры каталіцкім касцёльчыку.

Калі я і заплаканая пляменніца вярнуліся з гэтай святой вандроўкі, я агледзеў з ёй пасаджаны яе бацькам прысядзібны парк, з нецярпеннем

шукаючы тую рэштку ліпавай абсады, што заставалася яшчэ з часоў майго дзеда і прадзеда. З вялікім ушанаваннем абняў я адну з тых ліп, праўда, да паловы ўжо разадраную ад старасці і вятроў, але яна яшчэ бадзёра глядзела ў неба, прыкрываючы ўнізе сваім голлем маладыя, яшчэ кволыя дрэўцы... За час, калі яна расла тут, вакольны сад быў ужо два ці тры разы зменены. Састарэў і гэты апошні. Тыя яблыні, пад якімі я збіраў яшчэ дзіцем яблыкі, пакарабаціліся, пахіліліся, толькі дзе-нідзе свяціўся на іх чырвоны яблык. Яны чакалі, пакуль падрастуць маладыя прышчэпы цяперашняга гаспадара, каб уступіць ім сваё месца.

На дзядзінцы ▪ кветнікам стаіць з незапамятных часоў дуб. Пры ім яшчэ ў пару майго маленства стаяў стары анцутаўскі палац. Цяперашні дом тады быў як бы афіцынай. У тым палацы гаспадарыў яшчэ пры жыцці маёй бабкі пан войскі Анцута, рэзідэнт, брат майго дзеда, а потым самы старэйшы з маіх дзядзькоў — калека Дамінік. За палацам пачынаўся падзелены на часткі парк. Сёння ні таго парку, ні дома не было і следу. Адзін толькі дуб стаіць на варце...

Адразу пасля палудня пачалі — зблізку і здалёк — з'язджацца госці: Радултоўскія, Верашчакі, Анцуты, сівы Тамаш Булгак з жонкай, якая тры разы ездзіла з мужам у выгнанне ў глыбіню Расіі і тры разы яго выратоўвала, далей — Кабылінскія, Слізні, Завадскі з Крашына, унук паланецкай Антаніны Радзівіл, Абламовічы з Нясвіжа і многа іншых шаноўных грамадзян і дам. Іх імёны напаміналі пра колішні наваградскі сеймік з 1819 года і пазнейшыя, сярод якіх і апошні — з 1827 года, бо гэта былі сыны і ўнукі тых, што калісьці вадзілі рэй у павеце.

Сталы былі пастаўлены ў форме падковы, на іх — кветкі і цукровыя прысмакі, з якіх вылажылі мае ініцыялы. Поруч са мной пасадзілі Адынца. Жарты, смех, адкрытасць і шчырасць у бяседзе — ад першай пададзенай стравы і да апошніх «віватаў». А калі падышлі да польскага «Любемася!», усе паўставалі, пачалі падбягаць адзін да аднаго, абдымацца, потым зноў паселі. Адынец дэкламаваў «Оду да старасці», а граф Чапскі, не маючы сілы з прычыны хваробы прыйсці на бяседу, прыслаў у пісьме прыгожую прамову да мяне, якую і прачыталі ўголас.

Доўжылася гэтая бяседа да позняга. Пасля яе амаль да раніцы былі гульні, песні, музыка, хоць, праўда, без танцаў. Ужо світала, калі госці пачалі раз'язджацца. Колькі там было абдымкаў, пацалункаў, добрых пажаданняў, ляскання бічоў пры ад'ездзе!

У дзесяць гадзін раніцы ў Крашыне чакаў нас на імшу ксёндз у касцёле, пры якім пахавана мая сястра Язерская. Імша была жалобная. Пасля імшы пайшлі мы пакланіцца магіле маёй сястры, а потым — мураванай грабніцы сям'і Завадскага, дзе ляжаць яго бабка Юрага з Радзівілаў, матка і жонка, ад якой засталіся два прыгожыя хлопцы. Ласкавы гаспадар запрасіў мяне і Адынца, каб мы на памяць недалёка ад дома пасадзілі па дубку. З ахвотай выканалі мы гэтую ганаровую місію — пасадзілі ў падрыхтаваныя ямкі два дубкі, а ксёндз асвяціў гэтае месца...

*1884*

## Каментарыі

**«Падарожжа ў краіну дзікіх індзейцаў араўканаў».** Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле кн.: Domeyko Ignacy. Moje podróże. Pamiętniki wygnańca. — Warszawa; Wrocław; Kraków, 1963. — T. II. — S. 413—478.

[1] Скарга (Павенскі) Пётр (1536—1612) — рэлігійны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, майстар аратарскай прозы. Гаворка тут, як відаць, ідзе пра Радзіму.

[2] Эрсілля-і-Суньіга Алонса Дэ (1533—1594) — іспанскі паэт, удзельнік захопніцкіх паходаў канкістадораў, аўтар паэмы «Араўканія».

[3] Кастылійская сіла — ад Кастыліі (Іспанія).

**«Філарэты і філаматы».** Успаміны напісаны ў форме пісьма да Браніслава Залескага, рэдактара выдаваных у Парыжы штотыднёвікаў Гістарычнага таварыства (Rocznik Tomarzystwa historycznoliterackiego), дзе былі ўпершыню надрукаваны ў 1872 г. Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле кн.: Z filareckiego świata. — Warszawa, 1924. — S. 73—105.

[1] Контрым Казімір — удзельнік паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Быў сакратаром управы Віленскага ўніверсітэта, членам Таварыства шубраўцаў, рэдактарам «Dziennika Wileńskiego» ў 1815—1818 гг. Меў значны ўплыў на філаматаў.

[2] Чацкі Тадэвуш (1765—1813) — гісторык польскага права і польскай культуры. Даследаваў Статут ВКЛ.

[3] Асінскі Людвік (1775—1838) — польскі паэт, літаратуразнавец.

[4] Папраўдзе Зан нарадзіўся ў Вілейскім павеце.

[5] Маецца на ўвазе Ян Сабескі.

[6] Пулаўскі Антоні (1800—1838) — палітычны дзеяч, удзельнік паўстання 1830—1831 гг.

[7] Радкі з верша Ф. Князьніна.

[8] Гаворка ідзе пра філамата Міхала Рукевіча.

[9] «Песня» А. Міцкевіча.

[10] Від булачкі.

**«Мае падарожжы».** Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле кн.: Domeyko Ignacy. Moje podróże. Pamiętniki wygnańca. — Warszawa; Wrocław; Kraków, 1963. — T. III. — S. 77—175.

[1] Гэтыя радкі І. Дамейка пісаў у Варшаве.

[2] П р а г а — раён Варшавы.

[3] Грахоўская бітва — рашаючая бітва паўстанцаў 1830—1831 гг. пры польскім горадзе Грохаў.

[4] Альшанка — урочышча каля Грохава.

[5] Мінск (Мазавецкі), Сельдцэ — польскія гарады.

[6] Антоні Вяржбоўскі быў старшынёй мясцовай шляхты.

# ІПАЛІТ КЛІМАШЭЎСКІ
# (1802—1875)



Пісьменнік, педагог, бібліятэкар. Нарадзіўся ў мястэчку Капаткевічы на Мазыршчыне. У 1820—1822 гг. і 1826—1827 гг. вывучаў філасофію ў Віленскім універсітэце. У 1830 г. ён выдаў «Noworocznik Litewski na 1831» («Літоўскі каляндар на новы 1831»). Прымаў удзел у паўстанні 1830—1831 гг. Пасля падаўлення паўстання ў 1832 г. эмігрыраваў у Францыю. У 1841 г. разам з А. Астроўскім, В. Звіркоўскім і Ф. К. Гадэбскім заснаваў у Версалі таварыства Віленскай бібліятэкі і на грамадскіх пачатках стаў яе першым бібліятэкарам. Бібліятэка прызначалася для эмігрантаў ■ Польшчы, Беларусі і Літвы. Меркавалася, што яна стане асновай новага кнігазбору Віленскага ўніверсітэта замест закрытага царскімі ўладамі. Атрымала назву Версальска-Віленскай, або Польскай, бібліятэкі ў Версалі. Пачаткам кнігазбору сталі кнігі, падараваныя Астроўскім, Ф. Зельтнерам і іншымі, збор рукапісаў самога Клімашэўскага і разнастайных пісьмовых крыніц, якія датычыліся паўстання і жыцця эмігрантаў. На працягу 1841—1843 гг. Клімашэўскі надрукаваў некалькі інфармацыйных паведамленняў пра бібліятэку. Да 1847 г. у гэтай бібліятэцы было 4 тыс. тамоў, 2 апрацаваныя каталогі. У 1847 г. Клімашэўскі пачаў працаваць дырэктарам эмігранцкай школы ў прыгарадзе Парыжа Батыньёлі і адначасова стаў апекуном школьнай бібліятэкі, якая налічвала 2 тыс. тамоў і папаўнялася за кошт падараванняў, у тым ліку ■ кнізабору Ю. І. Крашэўскага. Намаганнямі Клімашэўскага ў 1849 г. школьная бібліятэка была аб'яднана з Версальска-Віленскай і рэгулярна папаўнялася з пазнанскіх кнігарняў; ахвяравалі ёй свае кнігі І. Лялевель і інш. У 1865 г. яна налічвала 21 383 тамы, 5 тыс. малюнкаў і гравюр, 2 тыс. геаграфічных карт і больш за 500 рукапісаў. У 1874 г. з-за адсутнасці памяшкання бібліятэку вырашылі перавезці ў Польшчу ў г. Курнік да кнігазбораў Дзялынскіх. Пасля смерці Клімашэўскага гэты намер ажыццявіў яго пераемнік А. А. Рупрэхт, які ў хуткім часе і сам памёр. У 1880 г. бібліятэка перайшла да ўласнікаў Курніка Замойскіх, якія ў 1925 г. стварылі так званы Курніцкі фонд і перадалі яго дзяржаве. У 1953 г. гэта бібліятэка ўключана ў склад бібліятэк Польскай акадэміі навук, рукапісы з батыньёльскіх збораў захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

*З кнігі «Мысліцелі і асветнікі Беларусі»*

## ДА ПРЫЯЦЕЛЯЎ

Песня ліцвіна

Вам, сябры, нясу з сабою
Песню я ў тужлівай сцюжы,
Каб яна была расою
На пялёстках снежнай ружы.

Як у снежнай ружы лоне
Знікне ранніх слёз уцеха,
Так у сэрцах хай патоне
Песні прыяцеля рэха.
Я ліцвін тутэйшы родам,
Сіл хапала маладзецкіх
Зведаць край, напіцца водаў
Задняпроўскіх, камянецкіх.
І пад неба я падняўся
Ад дзявочага ўздыхання,
Як вясёлка, пакупаўся
У крыніцы слёз кахання.
Ды як ветрам здзьмула мары
І згарэлі кветкі ў сэрцы.
Хто адвёў бы смутку чары,
Даў надзею ў паняверцы?
Варажбіткі ў лесе цёмным
Мне ля Прыпяці спявалі,
Што над Віліяй, над Нёмнам
Ад мяне адступяць жалі.
І лягла туды дарога,
І спазнаў сяброў я новых,
І знайшоў я скарбаў многа,
Што й не выказаць у словах.
Бо ўспамінамі сам-насам
І душой да вас прыкуты,
Бо пражытым з вамі часам
Я змякчыў вякі пакуты.
Вам таму нясу з сабою
Песню я ў тужлівай сцюжы,
Каб яна была расою
На пялёстках снежнай ружы.
Як і ў снежнай ружы лоне
П'ецца ранніх слёз уцеха,
Так у душах хай патоне
Песні прыяцеля рэха.

### Каментарыі

**«Да прыяцеляў»**. Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## АДОЛЬФ ЯНУШКЕВІЧ
## (1803—1857)



Падарожнік, пісьменнік. Нарадзіўся ў Нясвіжы, дзе потым вучыўся ў дамініканскай школе ў Нясвіжы, у 1823 г. скончыў філалагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў членам таварыства Блакітных (блізкія да філарэтаў). У 1823—1826 гг. жыў у Камянцы, быў дэпутатам цывільнай палаты ў Галоўным судзе. Падарожнічаў па Італіі, Германіі, Францыі, сустракаўся з А. Міцкевічам, Ю. Славацкім (падаў яму ідэю напісаць рэвалюцыйна-патрыятычны верш «Песня літоўскага легіёна» як водгук на паўстанне 1830—1831 гг.; напісаны ў 1831 г.), І. Гётэ. У 1830 г. вярнуўся на Радзіму. У час паўстання 1830—1831 гг. быў адным з кіраўнікоў легіёна Літвы, Валыні, Падоліі і Украіны. У 1832 г. сасланы ў Сібір. Падарожнічаў па Сібіры, Казахстане, Кіргізіі. У 1856 г. вярнуўся ў Беларусь у маёнтак бацькоў Дзягільна (цяпер Дзяржынскі раён). У студэнцкія гады пісаў на польскай мове сентыментальныя вершы (дума «Мелітон і Эвеліна», 1821 г.), у ссылцы перакладаў «Гісторыю заваявання Англіі нарманамі» А. Цьера. Яго падарожныя нататкі сабраў брат Яўстафій і выдаў Ф. Вратноўскі пад назвай «Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў» (кн. 1—2, Парыж, 1861 г.). У 2008 г. кніга ў перакладзе Г. Суднік-Матусевіч выйшла ў Мінску. У дзённікавых запісах і лістах раскрыўся яго талент апавядальніка і сумленнага даследчыка. У іх аўтар апісаў побыт казахаў, іх духоўную культуру, выступаў як абаронца казахаў ад самавольства баяр і царскай адміністрацыі. Янушкевіч паслужыў прататыпам рэвалюцыянера Адольфа ў паэме Міцкевіча «Дзяды».

*А. Мальдзіс, У Мархель*

### АД'ЕЗД

*Да С. Г.*

Зноў поўнач — вецер б'е раптоўны ў аканіцы,
І прасцірае рукі чорны геній ночы,
І сэрца, быццам лодка ў буры, цішы хоча,
Але не здольна нат на нейкі міг спыніцца.
З журбою, што ў грудзях збалелых, не мірыцца,
І я дарэмна заклікаю сон на вочы,
Мае душэўныя турботы волі хочуць,
І твару ў ночы у струменях слёз свяціцца.
І заўтра стрэну я страшнейшую завею,

Бо я пакіну заўтра родную краіну,
Бо я пакіну заўтра мілую сябрыну,
І заўтра ўсім аблччам слёзы зразумею,
Бо заўтра развітанне з любаю дзяўчынай,
А можа й развітанне назаўжды з надзеяй.

**Каментарыі**

**«Ад'езд».** Пераклад з польскай мовы В. Шніпа. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

# АЛЯКСАНДР ХОДЗЬКА (1804—1891)



Блізкі сябар А. Міцкевіча, добры знаёмы А. Пушкіна, сын пісьменніка Я. Ходзькі, паэт, усходазнавец і славіст Аляксандр Ходзька (Барэйка) нарадзіўся ў 1804 г. у родавым маёнтку ў Крывічах Вілейскага павета (цяпер Мінская вобласць). Вучыўся спачатку дома, а потым бацька аддаў яго на далейшую вучобу ў Вільню, пад апеку свайго знаёмага Тамаша Зана. У 1820 г. Алесь (так звалі яго дамашнія і сябры) стаў студэнтам Віленскага ўніверсітэта (аддзяленне літаратуры і вызваленых навук). Пазнаёміўшыся і пасябраваўшы з філаматамі, ён запісваецца ў створанае імі Таварыства філарэтаў, уваходзіць у яго Блакітны саюз пад апеку Яна Чачота. Як і большасць членаў гэтага студэнцкага згуртавання, восенню 1823 г. быў кінуты ў базыльянскія муры, у турэмнае зняволенне, адкуль яго выпусцілі разам з сябрамі вясной наступнага года па заканчэнні следства.

Пасля ўніверсітэта Аляксандр Ходзька наважыўся паехаць у Санкт-Пецярбург вывучаць персідскую і арабскую мовы ў Інстытуце арыенталістыкі пры азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў Расійскай імперыі. У сталіцы, відаць, не без дапамогі А. Міцкевіча ён зближаецца з перадавымі прадстаўнікамі рускай інтэлігенцыі — А. Пушкіным, В. Жукоўскім, князем П. Вяземскім.

У 1830 г. А. Ходзьку залічваюць на рускую дыпламатычную службу ў Персію (Іран), дзе ён працуе рускім консулам. Звыш дзесяці гадоў праслужыў Ходзька ў Персіі і прылеглых да яе краінах. Калі ён выйшаў у адстаўку, то пасяліўся ў Парыжы, дзе зноў сышоўся з А. Міцкевічам — дапамагаў яму выпускаць інтэрнацыянальную газету «Трыбуна народаў». 26 гадоў (з 1857 па 1883 г.) А. Ходзька чытаў курс лекцый па славянскай філалогіі і літаратуры ў Каледж дэ Франс, той курс, які перад гэтым вёў А. Міцкевіч. У сваіх лекцыях асаблівую ўвагу звяртаў Аляксандр Ходзька на народную творчасць славян. Памёр Ходзька ў 1891 г. пад Парыжам, пахаваны ў невялікім гарадку Манмарансі.

Пачынаў А. Ходзька з паэзіі. У час вучобы ва ўніверсітэце яго вершы змяшчаліся ў розных віленскіх выданнях. Не пакідаў свайго захаплення паэзіяй Ходзька і ў Санкт-Пецярбургу. Тут у 1829 г. ён выдаў кнігу паэзіі, якую прысвяціў Адаму Міцкевічу. У кнігу ўвайшлі яго вершы, балады, элегіі, напісаная паводле ўсходніх матываў паэма «Дэрар», пераклады з новагрэчаскай паэзіі. На зборнік Ходзькі адгукнулася выдаваная Дэльвігам пры ўдзеле Пушкіна сталічная «Литературная газета», змясціўшы на сваіх старонках зычлівую рэцэнзію.

На вершы А. Ходзькі, напісаныя ў рамантычным стылі яшчэ ў Вільні, звярнуў увагу А. Міцкевіч, які прарочыў яму вялікую будучыню, казаў, што Ходзька некалі сядзе на яго паэтычным «троне».

Але гэтыя Міцкевічавы прароцтвы не спраўдзіліся. Захапіўшыся арыенталістыкай (усходазнаўствам), Аляксандр Ходзька неўзабаве занядбаў паэзію. Ён стаў прызнаным аўтарытэтам на ніве ўсходазнаўства. Яго пяру належаць такія кнігі, як «Граматыка персідскай мовы», «Узоры народнай паэзіі Персіі...», куды ўвайшлі песні прыкаспійскіх народаў, а таксама славуты туркменскі эпас «Кёранглы», падручнік турэцкай мовы, зборнік персідскай драматургіі «Персідскі тэатр», шмат артыкулаў, гісторыка-этнаграфічных нататкаў, фальклорных публікацый, у якіх асвятлялася невядомая свету самабытная культура Ірана і прылеглых да яго краін.

Дзейнасць Аляксандра Ходзькі як усходазнаўцы — яркі прыклад таго, як нашы землякі-беларусы шчодра аддавалі свой талент чужым народам, у той час, калі культура сваёй краіны, Беларусі, ляжала амаль некранутай аблогай.

З творчай спадчыны Аляксандра Ходзькі для нас маюць цікавасць яго паэтычныя творы, напісаныя на «літоўскія» тэмы, заснаваныя на ўзорах беларускай народнай паэзіі. Да такіх твораў трэба перш за ўсё аднесці яго баладу «Маліны», у аснове якой — пашыраны ў Беларусі песенны сюжэт пра тое, як старэйшая сястра з рэўнасці забівае малодшую, якая потым прарастае вярбой — выразаная з яе галінкі дудка сама расказвае пра ўчыненае злачынства. Сюжэт балады «Маліны» выкарыстаў у сваім драматычным творы «Баладына» Юльюш Славацкі. Асновай другой вельмі цікавай Ходзькавай балады, якую ён назваў беларускім словам «Васілёк», стала пачутае ў народзе беларускае паданне пра пераўвасабленне душ памерлых у галубоў. Матывы беларускай народнай творчасці выкарыстаны і ў такіх вершах-песнях Ходзькі, як «Зух», «Алеся», «Паніч і дзяўчына» і інш. На тэмы роднай беларускай зямлі напісаны вершы і балады А. Ходзькі «Вясенняя ноч у Літве», «Незнаёмец», «Гербы», «Старац». Даследчыкі знаходзяць у яго творах нямала беларускіх слоў і выразаў, якія паэт свядома ўжываў.

*К. Цвірка*

## МАЛІНЫ

Балада на матыў «Гэй там на гарэ...»

Шлях літоўскі. Пан
Едзе праз туман.
Звоняць, звоняць коней цугі,
У бліскучых строях — слугі.
Вунь ужо й той двор.

— Матка, гэй, хутчэй
Ты прымай гасцей!
У тваёй гасподзе краснай
Расцвілі дзве ружы ясна.
Нам адну аддай!

— Што ж, адну з дачок
Выбірай, панок.
Ды якую браць — не знае:
Гэта гожая і тая.
Як жа выбраць тут?

Даў збанкі ім: хай
Сходзяць з імі ў гай.
Хто збярэ малін паболей,
Тая стане пану доляй,
Той і паняй быць.

Над сцяной дубоў
Неба — нібы кроў,
Аж палае на заходзе.
Вось старэйшая прыходзе.
Толькі... без сястры.

Рдзеюць на руцэ,
Нават на шчацэ
Што за кропелькі ў дзяўчыны?
Ад маліны ці каліны,
Ці чаго яшчэ?

— Во маліны збан!
Дзе ж мой муж, дзе пан?
Не прыйшла сястрычка [redacted] гаю...
Дзе падзелася, не знаю —
Пэўна, з'еў там воўк!

Пан шукаць наўкруг
Пасылае слуг.
Ноч па лесе там гукалі,
У рацэ ўвесь дзень шукалі —
Не знайшлі й слядоў.

Пан багаты быў,
У раскошы жыў.
Жыў шчасліва ён надзіва
З той старэйшай, з той шчаслівай
Гожаю сястрой.

Цвіў за маем май.
Неяк раз у гай
Іх малы сынок заскочыў,
Дудку там скруціў, ахвочы.
І прыбег дамоў.

Дудцы рад хлапчук:
Што ў яе за гук!
— Чуеш, мама: як жывая,

У руках сама спявае!
Слухай дудкі спеў:

«Грай, Міхаську, грай!..*
Як квітнее май,
Так квітнелі ў роднай хаце
Мы, сястрычкі дзве, у маці.
О мая вясна!..

Зрэзаў без пары
Ружу нож сястры.
Прарасла — мо нехта гляне? —
Я вярбою на кургане.
О мая вясна!»

— Ох, што чую я?
Дудка скуль твая?
— Дудку я скруціў ля гаю,
З той вярбы, што ля ручаю,
Дзе маліны куст.

Спалатнела маці: ой!
І абмякла ўся: што з ёй?
За хвіліны дзве сканала.
Нават слова не сказала
Дзеткам дарагім.

Шлях літоўскі. Пан
Едзе праз туман.
Сёння ў чорным — коней цугі,
У жалобе сам і слугі:
Пані — у труне.

*[1821—1824]*

## СТАРАЦ

(урывак)

Паспявай жа, вайдэлоце,
Штось з літоўскіх нашых песняў.
Як я сны б свае ў самоце
Мовай роднаю развесніў!
Ты спявай, каб стылі жылы,

* У паданні, на аснове якога я напісаў гэтую баладу, помню толькі адзін радок з песні, якую спявае дудка пастушка: «Грай, пастушку, грай...» (*заўвага аўтара*).

Пра багоў пра нашыў даўніх,
Пра князёў вялікіх слаўных,
Пра чароўны край наш мілы,
Пра лясы, палі і пашу,
Пра наш мёд, гасціннасць нашу,
Пра курганы, дзе ў спакоі
Спяць Альгердавыя воі,
Пра іх славу — з сілай новай
Мне спявай айчыннай мовай.
Песні памяць нам вяртаюць,
Даўніну ўсю ўваскрашаюць.
Помніш, гэту — на вяселлі
На маім ты пеў вясёла,
Гэту ж во — як мы пад хмелем
Трэслі хаты ляшскіх сёлаў.
Нас вялі князі ў паходы —
Не злічыў бы нашых вояў.
Зніклі ўсе ўжо назаўсёды,
Толькі мы ўцалелі двое.
Бы ад пушчы два старыя
Вязы-берасты сівыя,
Што стаяць адны ў самоце...
Заспявай жа, вайдэлоце!

*[1822—1829]*

**Каментарыі**

Пераклады з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле кн.: Chodźką Aleksander. Poezya. — Petersburg, 1829.

# АНТОН ЭДВАРД АДЫНЕЦ
# (1804—1885)



Той, хто трымаў у руках заключныя тамы збораў твораў Адама Міцкевіча розных выданняў, тамы, дзе звычайна даецца эпісталярная спадчына паэта, не мог не заўважыць сярод шматлікіх яго адрасатаў імя Антона Эдварда Адынца, якое там вельмі часта сустракаецца. Гэта быў адзін з блізкіх сяброў А. Міцкевіча і адначасова блізкі яму па духу.

Нарадзіўся ён 25 студзеня 1804 г. у вёсцы Гяйстуны Ашмянскага павета ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў павятовай базыльянскай школе ў Барунах. У 1820 г. А. Адынец паступіў у Віленскі ўніверсітэт, каб вучыцца на юрыста. Адначасова наведваў лекцыі па літаратуры Готфрыда Эрнста Гродэка і Леана Бароўскага. Даведаўшыся пра ўтварэнне ва ўніверсітэце тайнага Таварыства філарэтаў, адразу запісаўся ў яго, стаў членам яго літаратурнага аддзела (Блакітнага саюза), якім кіраваў прызнаны сярод філаматаў і філарэтаў паэт Ян Чачот. Убачыўшы яркія паэтычныя здольнасці Адынца, Чачот узяў яго пад сваю апеку. За гэта сябры празвалі Чачота Ментарам, а Адынца — Тэлемакам (паводле грэчаскай міфалогіі Ментар быў выхавальнікам Тэлемака, сына Адысея і Пенелопы). У 1823 г., калі было выкрыта Таварыства філарэтаў, А. Адынца арыштавалі і кінулі ў турму, адкуль яго з сябрамі выпусцілі толькі ў канцы следства.

Вельмі даражыў А. Адынец сяброўствам з Адамам Міцкевічам. Калі высланы ў Расію старэйшы сябар намерыўся выехаць адтуль за мяжу, сваім спадарожнікам у паездцы па краінах Еўропы ён выбраў А. Адынца. Сябры аб'ездзілі многія гарады і паселішчы Германіі, Італіі, Швейцарыі, іншых краін. Назаўсёды запомнілася абодвум гасцяванне ў І. В. Гётэ ў Веймары, пра што А. Адынец падрабязна расказаў потым ва ўспамінах. Між іншым, у шматлікіх размовах з двума славянскімі паэтамі вялікі нямецкі паэт вельмі зацікавіўся народнымі песнямі, матывы якіх выкарыстоўваў у сваёй творчасці А. Міцкевіч. «Гётэ, — прыгадваў Адынец, — з жывой цікавасцю распытваў і слухаў тое, што Адам, а часткова і я, расказвалі яму аб разнастайнасці і адрозненнях у характары і тоне песень нашых правінцый». А як вядома, «правінцыі» Міцкевіча і Адынца — Наваградчына і Ашмяншчына. Значыць, якраз беларускія народныя песні зацікавілі Гётэ, які за абедзенным сталом пачутае пра гэтыя песні «амаль слова ў слова» пераказваў потым іншым, напрыклад, свайму сакратару нямецкаму пісьменніку Экерману.

У 1837 г. А. Адынец вярнуўся ў свае Гяйстуны, а потым пераехаў у Вільню, дзе амаль дваццаць гадоў — з 1840 па 1859 г. — рэдагаваў урадавую газету на польскай і рускай мовах «Виленский вестник». Сямейныя абставіны прымусілі Адынца пераехаць у 1866 г. у Варшаву, услед за дачкой, якая выйшла замуж. Як сведчылі сучаснікі, А. Адынец быў

добрага нораву, таварыскі, добразычлівы, вельмі дасціпны і «даступны». За тое, што надта любіў цалаваць дамам рукі, яго празвалі «панам Смактальскім». Памёр Антон Адынец у Варшаве, дзе і пахаваны.

Сваю паэтычную дарогу пачаў ён даволі рана, яшчэ ў Барунскай школе. Але толькі ва ўніверсітэце, дзе сама атмасфера святасці да ўсяго ўзвышанага, само вірлівае студэнцкае асяроддзе спрыялі захапленню паэзіяй, А. Адынец па-сур'ёзнаму ўзяўся за пяро. Сапраўдную папулярнасць прынесла яму «Песня філарэтаў», напісаная ў турэмным зняволенні ў 1823 г.

Найбольш каштоўным творам у спадчыне А. Адынца крытыка прызнала напісаныя ў 1875—1878 гг. «Пісьмы з падарожжа», даволі падрабязныя, з важнымі дэталямі і фактамі ўспаміны пра падарожжа ў 1829—1830 гг. з А. Міцкевічам па Еўропе. Вельмі добра дапаўняе «Пісьмы...» і кніга «Успаміны з мінулага», якая была напісана Адынцом на схіле жыцця і ў якой шмат цікавага, пазнавальнага пра мінулае нашай зямлі.

Да канца жыцця не кідаў пісаць Антоні Адынец і вершы. Найбольш удалыя з іх тыя, дзе аўтар звяртаўся да жыццёвых рэалій, да фальклору, пераважна беларускага. На фальклорных матывах заснавана, напрыклад, яго балада «Паланянка ліцвіна», пра захопленую «літоўскім» ваяром маладую палячку ў час аднаго з баявых паходаў на польскія землі. Дарэчы, гэты распаўсюджаны ў той час сюжэт выкарыстаў у баладзе «Ляшка» другі беларускі польскамоўны паэт Т. Лада-Заблоцкі. Выразныя фальклорныя матывы відаць і ў баладах А. Адынца «Сон Алесі», «Русалкі», у вершы «Хохлік» і іншых творах. Шмат у А. Адынца і вершаў, напісаных у гонар вядомых літаратараў і вучоных («На шлюб Тамаша Зана», «Адаму Міцкевічу», «Адаму Сузіну», «Ігнату Ходзьку», «Надпіс на надмагільным помніку Яну Чачоту», «Яўстафію Тышкевічу», «Міхалу Балінскаму», «Уладзіславу Сыракомлю», «На камені ў Крашыне» — пра наведанне разам з І. Дамейкам у час яго прыезду з Чылі ў 1884 г. Крашына, гаспадар якога Завадскі папрасіў іх абодвух пасадзіць у парку па дубку, і іншыя творы). Ёсць у А. Адынца і асобныя творы, напісаныя сумесна з Ю. Славацкім і А. Міцкевічам.

*К. Цвірка*

## ПЕСНЯ ФІЛАРЭТАЎ

Прэч ад нас, прэч, смутку хмары!
Лепш падымем хмелю чары!
Вышай голаў — хай вясёла
Тут ляціць наш час!

Ці ж памогуць нараканні?
Нашы ўперадзе світанні!
Добрым людзям добра будзе,
Сонца стрэне нас!

Добрым доля хай спрыяе,
А ліхіх хай Бог карае.
Хто пачцівы, той шчаслівы,
Той на вышыні!

З намі будуць нашы леты,
Vivat, брацці філарэты!
Сцерпім мужна, з песняй дружнай
Мы няволі дні!

Далівай жа чары, Стасе[1] —
Часу шмат яшчэ ў запасе!
Гэй, аддана п'ём за Зана —
Vivat, Тамаш Зан
Ёсць, сябры, на свеце цнота!
Хто ж больш годны за Чачота?
П'ём за Яна ўсе з пашанай —
Vivat, Чачот Ян!

За Міцкевіча здароўе!
Хай нас тут усцешыць зноў ён.
Нам надзеі ўсім навее
Боскай лютні гук.

Дружна ўгору ўскінем шклянкі!
П'ём за вас цяпер, каханкі!
Шмат губляе, хто не знае
Ласкі мілых рук.

Пасядзім яшчэ паўхвілі:
Тост жа мы адзін забылі!
Зноўку нашы ўскінем чашы:
Vivat, вам і мне!

Спаражнілі чары ўсе мы,
Ну, а з імі й вершаў тэмы.
Ды і вершам не завершым
Мы гамонку, не!

*1823*

## ХОХЛІК*

Хохлік я, жыву я між людзьмі заўсёды,
Іх дразню, ды толькі не раблю ім шкоды.
Падурэць люблю я, час на жарты трачу,
Хоць я невідомы, сам жа ўсё, ўсё бачу.
Мне не трэба брам:
Дзе хачу, я — там!
Трам, та-рам, там, там!

* Так называюць у народных казках дураслівага чорціка (*заўвага аўтара*).

Пабягу да рэчкі за лясным пагоркам —
Там купацца любяць дзеўкі надвячоркам.
Бачу, прыкрываюць грудкі сарамліва
Ды хутчэй ныраюць у ваду пужліва.
Я, нябачны, там
Плаваю між дам!
Трам, та-рам, там, там!

Абярнуся ў рыбку, ім плыву пад ножкі.
З пуду аж ускрыкнуць, як даткнуся трошкі.
Потым стану мушкай, ля іх губ кружу я,
А ім смешна: мрояць, бы іх хто цалуе.
Што тут я, няўцям,
Знаю, кралі, вам!
Трам, та-рам, там, там!

Калі спяць дзяўчаткі, вельмі я ахвочы
Ціха ля іх ложка пасядзець уночы.
Чую ўздыхі, бачу ўсмешкі іх яскрава.
І што ў сне гавораць, мне пачуць цікава.
Бо наяве нам
Хлусяць тут і там!
Трам, та-рам, там, там!

А як спіць каханак чый, раптоўна ўбачу —
Нос яму падмажу, бровы перайначу.
Смех мне, як дзяўчына ўгледзіць хлопца ранкам
Аж застыне ў страху: не пазнаць каханка!
Ды я хлопца сам
Зноў пазнаць ёй дам.
Трам, та-рам, там, там!

Люба назіраць мне за дзяўчынай рана:
Во з пасцелі ўстала, яшчэ не прыбрана.
Як перад люстэркам ходзіць, чараўніца!
Мне адна пацеха — з ёю падражніцца.
Пудру ёй падам
З сажай папалам!
Трам, та-рам, там, там!

Стане адзявацца — падбяру сукенку,
Што жахнецца кожны: не пазнаць паненку!
Запляту ёй косы, ды не так, прызнацца.
Расплятаць зноў будзе, на сябе злавацца.
Я ж на смех хлапцам

Тут зраблю ёй шрам.
Трам, та-рам, там, там!

Пра дзяўчат вядома ўсё мне, удалому.
Ды што ў іх на сэрцы, не скажу нікому.
Бо на гэта кожны скажа не без смеху:
«А! То хохлік маніць людзям на пацеху!»
Пра сябе лепш сам
Раскажу ўсё вам.
Трам, та-рам, там, там!

*1829*

## НА КАМЕНІ Ў КРАШЫНЕ

Тых двух, што во тут па дубку пасадзілі,
Ажно на паўвека былі разлучылі.
Ды іх філарэцкая дружба за час той
Не згасла ў дарозе жыцця пакручастай.
Калі іх звёў Бог зноў на гэтым жа свеце,
Ім бліснула праўда, як перлінка ў леце:
Уцехі зямныя — то сон, што ўцякае,
У сэрцы любоў толькі не памірае.
Пра тое пасведчыць і гэты во камень,
Як будуць абодва пад каменем самі.

### Каментарыі

**«Песня філарэтаў».** Верш напісаны ў турме ў Вільні ў 1823 г. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Odyniec Antoni Edward. Poezya. — Wilno, 1825—1826. — Т. 1—2.

[1] Філарэт Станіслаў Галіцкі.

**«Хохлік».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

**«На камені ў Крашыне».** Верш напісаны ў гонар наведвання разам з Ігнатам Дамейкам у 1884 г. Крашына, дзе абодва састарэлыя сябры пасля паўвекавой разлукі пасадзілі па дубку ў Крашынскім парку. Словы верша былі выбіты там на камені, які, на жаль, не захаваўся. Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле выд.: Księga pamiątkowa... Adama Mickiewicza (1798—1898). — Warszawa, 1898. — Т. 1.

Творы друкуюцца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

12 Зак. 1799

## РАЙНОЛЬД СУХАДОЛЬСКІ
## (1804—1831)



Паходзіў з Беларусі, вучыўся ў Свіслацкай гімназіі ў 1818—1824 гг. Працаваў у міністэрстве фінансаў у Варшаве. Друкаваўся ў перыядычных выданнях. Удзельнічаў у паўстанні 1831 г. Загінуў у баі.

*У. Мархель*

### МАЗУРКА

Варшавянка для каханка
Шыла беленькі сцяжочак,
Уздыхала, выракала
Ды перад абразам...
Варшавячак скінуў фрачак:
Знята мерка — ёсць венгерка.
Кулю ў рулю — і ў лясочак,
І на злыдняў разам.
Хоць нас мала зараз стала,
Але мы жывем з надзеяй.
Грайце, трубы, край наш любы
Не памрэ ніколі,
Бо свабода — лёс народа...
Лепшым марам стаць пажарам!
Кроў тыранаў пунсавее
На штандарах волі.
У баі тым знакамітым
Прыгадай сваю каханку:
З ёю, любай сэрца згубай,
Добра, нібы з воляй.
Каб ад болю з поля бою
Ані кроку, глянь здалёку,
Як сцяжкі трымцяць уранку —
Сілы стане болей.
За табою — поле бою.
Ты — з багіняю змагання.
Каб не згінуць, Маскву скінуць
З ёю будзь адзінай!

Калі, сёстры, пікай вострай
Грозьбы неба знішчыць трэба,
Той увага ўся дазвання,
Што завуць айчынай!

**Каментарыі**

**«Мазурка».** Пераклад з польскай мовы Я. Міклашэўскага паводле выд.: Zbiór poetów polskich XIX w. — Warszawa, 1961. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## МІХАЛ БОРХ
## (1806—1881)



Пісьменнік, гісторык, бібліяфіл. Быў сынам маршалка шляхты Віцебскай губерні Юзафа Генрыка Борха і Ганны Багамольцаў. Нарадзіўся і жыў у спадчынным маёнтку Прэле Дынабургскага павета (цяпер — Латвія). Як і бацька, выбіраўся маршалкам шляхты Віцебскай губерні. Захапляўся бібліяфільствам. У сваім маёнтку сабраў вялікую бібліятэку, дзе знаходзілася шмат старадрукаў і каштоўных рукапісаў. Вышукваў бібліяграфічныя рэдкасці, матэрыялы па гісторыі ВКЛ, Польшчы, усёй славяншчыны. Перакладаў на французскую мову творы Адама Міцкевіча. Супрацоўнічаў з часопісам літаратараў Падзвіння «Рубон», які выдаваў краязнавец і літаратар Казімір Буйніцкі ў 1842—1849 гг. у Вільні. Апублікаваў там паэму «Герцыке» пра старажытную полацкую крэпасць. У 1843 г. закончыў вялікі — на 50—60 друкаваных аркушаў — твор пра жыццё святой Еўфрасінні Полацкай, які так і назваў «Жыццё Еўфрасінні». На жаль, не быў апублікаваны. Не дайшоў да нас і другі гістарычны твор М. Борха — «Рагнеда», жанр якога аўтар вызначыў як «нарманская аповесць». Ён таксама — аўтар кнігі «Два словы пра Дзвіну».

*К. Цвірка*

### МАРЦІНУ КАРНІЦКАМУ

*Перасылаючы яму «Два словы пра Дзвіну»*

Ёсць рака за даль-імглою —
Веку не відно.
Эрыданавай хвалою
Поўніцца ажно.
Хваля пліскае слязою
І бяжыць адно,
Не зважае, што пад ёю
Залатое дно.

На адкосых стромах нівы
Блудзіць чалавек.
Там цяпер яго санліва
Мружыць хваляў бег.
Мне здаецца: не імклівa,

А йдзе прошлы век.
Стане берагу жахліва
Зноў ці не навек.
Век здзяцініўся, сапселы.
Ледзьве мовіць ён
Голасам асалавелым,
Як разбіты звон.
Хвалі ў скалы б'юць здзічэла,
Нібы шлюць праклён.
Рэха коціць на свет цэлы
Енку наўздагон.
І вядуцца перамовы
Аж да дня ўгары.
Кінь, душа, свае аковы
У агонь зары.
Хочаш свет пабачыць новы,
Лепшы, чым стары?
Ён настане, адмысловы,
Як душа ўзгарыць.
Золкам неяк у даліне,
Вязень цесных сфер,
Вывучаць хадзіў, Марціне,
Я ракі давер.
О! Ў яе прасторах сініх
Многа светлых эр!
А што думкам шыр, Марціне,
Ты ўжо мне павер!..
Я не ведаю, што стала
З быллю прошлых дзён;
Толькі ява адпалала,
А ўжо сніцца сон:
Твару барва паліняла,
Бо без думак ён;
Разважалася нямала,
След разваг відзён.
З Гесіёда эпапеі,
З Герадота мар
Бач, да хат ажно здалее
Выкаціць абшар.
Спеў паданнямі шырэе,
Гоманам да хмар,
Пакуль зрыне без надзеі
У лівонскі яр,
Яе схопіць і нясціме
Вірам быстрых хваль,

Яна з марамі загіне
Пра марскую даль.

Дык няўжо яна, Марціне,
Сэрца спеўны жаль,
Без якога немагчыма
Нам дружыць амаль?

**Каментарыі**

**«Марціну Карніцкаму».** Пераклад з польскай мовы У. Паўлава. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## ЮЛІЯН КОРСАК
## (1806 ці 1807—1855)



Паэт і перакладчык. Нарадзіўся ў Слоніме. У 1823—1826 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце. З 1829 г. жыў у Пецярбургу. У 1830 г. вярнуўся ў родную вёску Страла (Дзятлаўскі раён). Апошнія гады жыцця правёў у Навагрудку. Пісаў на польскай мове. Аўтар кніг «Вершы» (1830 г., 2-е выд. 1836 г.) і «Новыя вершы» (т. 1—2, 1840 г.), куды ўвайшлі творы з беларускай тэматыкай: «Да Нёмана», «Да І(гната) Д(амейкі)» і інш. Пад уплывам творчасці А. Міцкевіча засвоіў рамантычны стыль лірычнай паэзіі, у якой выкарыстоўваў класічныя і беларускія фальклорныя матывы. На польскую мову перакладаў Піндара, Вергілія, Гарацыя, Дантэ, Ф. Шылера, Дж. Байрана, У. Шэкспіра. Некаторыя вершы Ю. Корсака («Пілігрым», «Баркарола») пакладзены на музыку С. Манюшкам. У. Сыракомля прысвяціў Корсаку артыкул «Нататкі з дзіцячых уражанняў» (1853).

*З кнігі «Мысліцелі і асветнікі Беларусі»*

### ЗОРКА ЛЯТАВЕЦ

Вось і поўнач, цёмнасць ночы,
Сон дзяўчына пакідае,
Устаўляе ў неба вочы
І Лятаўца выклікае.
«Выйдзі, блісні з-за аблокаў,
Покуль дзесьці спіць світанак.
Ты майму прысвечвай воку,
Прамяністы мой каханак!
Сэрцам, думкамі сваімі
Я далёка ад зямлянаў
З той пары, як залатымі
На мяне вачмі ты глянуў».
Паяснелі тут даліны,
Зорка з хмураў выглядае
І ў абдымкі той дзяўчыны
Залатым дажджом спадае.
Так упаў Лятавец з высяў,
Прывітаў яе вясёла:
«Да пляча смялей хініся

Гнанага з Нябёс Анёла!
Пакідай сваю хаціну,
Зведаем сусвет без меры:
Млечны Шлях, усе мясціны,
Ўсе падсонечныя сферы.
Ў росах зорыстай купелі
Ціхай ноччу пакупаю
І на мяккай мгле-пасцелі
Я цябе закалыхаю».
«Так душу маю узносіць
Слоў тваіх улада, любы!
Ды ў цябе ёсць пэўна штосьці
Ад пякельнае загубы.
Чула, што ў любві падтрымка
Ёсць гарачым толькі слёзам,
Я ж дрыжу ў тваіх абдымках,
І сляза твая з марозам!»
«Што ты, мы парой начною,
Дзе й арол не сочыць вокам,
Узляцім вышэй з табою,
Аж пад зоры, так высока!»
І ўзляцелі над хацінай,
Зведалі сусвет без меры:
Млечны Шлях, усе мясціны,
Ўсе падсонечныя сферы.
Па вандроўцы той дзяўчына
Больш не ўстала ўжо з пасцелі,
Стала ўся нібы націна,
Вусны згаслі, пабялелі.
Разнясlaся весць па вёсцы,
Што вампір яе кусае,
Хто даў веры пагалосцы,
Хто шкадуе, спачувае.
У бяссонніцы, сумотах
Рэштку дзён яна страчала;
Цела ўсё й душа ў сухотах,
Сохла, петрала — й сканала.
Хай у марах дум сумоўе
Аб прыгожым не знікае,
Бо жывых жыццё й здароўе
На адной зямлі сплывае.
Не гані жыццё жаданнем,
Бы Араб той праз пустыню,
Што йдзе да вады ў падмане
І ад смагі ўрэшце гіне.

Нас нябеснае узрушыць,
Дух спазнае, скуль паходзіць;
Хараство мудрэйшых душаў
Неба і зямлю пагодзіць.

### Каментарыі

**«Зорка Лятавец».** Пераклад з польскай мовы У. Мархеля паводле кн.: Korespondencja filomatow. — Krakow, 1913. — Т. 5. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## АДЭЛЯ З УСТРОНІ



Гэта імя было вернута ў нашу літаратуру з нябыту зусім нядаўна. Вярнуў яго рупны даследчык беларускага пісьменства Адам Мальдзіс, які ў 1970 г. у безлічы рукапісаў Ягелонскай (універсітэцкай) бібліятэкі ў Кракаве знайшоў невялікую, напісаную лацінкай паэму на беларускай мове «Мачыха». У канцы твора значылася імя аўтаркі — Адэля, яе радзіма — Устронь і дата напісання твора — 1850 г. А. Мальдзіс перапаканаўча паказаў, што Адэліна Устронь — гэта вёска ў былой Ганчарскай воласці Лідскага павета. Прозвішча ж аўтаркі твора пакуль што выявіць не ўдалося.

Публікуючы паэму «Мачыха» ў літаратурным зборніку «Краю мой — Нёман» (Мінск, 1970), А. Мальдзіс зазначыў, што яна «напісана рукой здольнага аўтара, з выкарыстаннем рамантычнай сімволікі, шчыра і ўсхвалявана. Не выключана, што паэма мае аўтабіяграфічны характар».

У тым жа самым рукапісе А. Мальдзіс знайшоў і верш гэтай жа аўтаркі на польскай мове «Кракаў», у якім расказваецца пра пажар у горадзе, — мяркуецца, у час рэвалюцыі 1848 г., і выказваюцца розныя прароцтвы.

*К. Цвірка*

### МАЧЫХА

Па зямлі віхор пагнаўся,
З буйным ветрам паспіраўся.
Віхар туманочкам ляцеў,
Чорну буру відзець хацеў.
Бура да Нямна хадзіла
І чысту воду муціла,
І з беражочка ў беражочак
Калыхала ўвесь Нямночык.
Сваей нотай зарыкнула,
На бяседу заклікнула:
«Туманы! Цёмныя хмары!
І ты, круты віхар у пары!
На бяседу прыляціце
Дый на мяне паглядзіце!
Бо сягоння ж праз рэчаньку

Будзе плысці ў чоўніньку
Дзяцюк, што смеў пахваліцца:
«Ён... мне, чорнай, не баіцца!»
І засмяялася страшна,
І бліснула злосцю ясна,
І сцягнула яшчэ скарэй,
Каб той дзяцюк паплыў смялей.
Ажно вада тое чула
І па беражках плюснула.
Барочку пена сказала,
Што ўжо бура віхар звала.
«Што!!! — расшумеўся барочак, —
Ці гэта я не літоўчык?
Каб дазволіў буры гукаць,
Цераз сосны віхрам веяць!
Пачакайце нямножка:
Не сюдымі вам дарожка,
Не на тое сосны расціў,
Каб вас у родну зямлю пусціў,
Не на тое бары раслі,
Каб тут вецер чужы ўняслі!!!»
Пасля азваўся Нямночык:
«А я ж гэта — не літоўчык!
Ці ж я буду сябе бурыць,
Ці ж дазволю сваіх тапіць!
Ці ж я смелінька не плыну
Дый і буры не падкіну!
О! Не знала, то пазнае,
Яку ваду Нёман мае!
Я ж у лужах купаюся,
Па ніўках рассцілаюся,
З віцінамі праплываю,
Літоўскае сэрца маю!
І пярвей высахне мора,
Як мне з вадой змуціць бура.
Пярвей увесь свет у вадзе стане,
Як мой сваяк у дно гляне!
Не на тое я разліўся,
Не на тое мяне Бог стварыў,
Каб роднага брата забіў!»
А бура над рэкай стала
І гутаркі — не пазнала!
З таго месца на рык вала
Маленькая хата была,
Каля хаткі — будровачкі,

А ў хатцы — літовачка.
Сягонняшняга дзянёчка
Меў плыць мілы ў чаўночку.
Літовачка ля аконца
Стаяла, як бледна елонца,
І ў неба паглядала,
І да мачыхі казала:
«Скажы ж ты мне дый, маці,
Ці нястрашна цяпер гнаці
Цераз Нёман? Ды ці чоўна
Не набяжыць вада поўна?»
Чужа маці адгадала,
Чаму дзеўчына пытала.
Ёй мілага не любіла,
У лыжцы б вады ўтапіла.
«Вот! Ці не твой то смяляк,
Што лоб круціць усяляк,
Ізноў прыедзе заляцацца?
Прашу яму адказацца,
Што гэта дый мая хата,
Я тут на волю багата!
Каб не казаў тут пышнага!
Ды што яму тут лішняга?»
Літовачка ўздыхнула,
Пайшла — дзверы адамкнула.
Не баялася грымотаў
Дый адчыніла вароты,
Белы ручкі заламіла
І, плачучы, гаварыла:
«Ох, матулька! Нашто ж мяне
Чужой волі і людзіне
Аставіла! Пакінула!
Мяне ж доля памінула,
Я ж сіротка ў роднай хатцы!
Не схінуся к чужой матцы!
Бо яна ж мне чужа чужым!
Не злажуся і слоўцам адным.
Ці душа твая не гляне,
Як яна мяне ганяе.
Ты мне з мілым абручыла
І звянчала бы, каб жыла.
Яна ж кажа мне, маладой,
Каб ён згінуў дзе пад вадой.
Як яна стала так мовіць,
Здаецца, бы сэрца кроіць.

Аж кроў мая закіпела
І душа мая памлела!
Грымот страшна так загрымеў,
А ён, пэўне, у чаўнок усеў!»

**Каментарыі**

**«Мачыха».** Друкуецца паводле выд.: Краю мой — Нёман. — Мінск, 1970.

## АЛЯКСАНДР ГРОЗА
## (1807—1875)



Нарадзіўся Аляксандр Гроза 30 чэрвеня 1807 г. у Вінніцкай губерні ў багатай шляхецкай сям'і. Атрымаў добрую адукацыю ў Віленскім універсітэце. Некаторы час жыў на тэрыторыі Беларусі ў маёнтку Гламбочна Себежскага павета. Быў у захапленні ад беларускай народнай творчасці і нават здолеў напісаць колькі «беларускіх твораў». Найперш «паэму-казку» «Марына». Даследчыкі мяркуюць, што яе пачатак — літаральны пераклад вясельных беларускіх песняў: у трэцім томе «Rubonu» Казімір Буйніцкі падаў арыгінальныя тэксты, а побач змясціў адпаведныя ўрыўкі з паэмы.

Аповесць А. Грозы «Нечаканы госць» напісана напачатку 50-х гадоў XIX ст. і надрукавана ў 1855 г. У аснову твора, як паказваюць факты, пакладзены аповеды Я. Баршчэўскага пра сваё юнацтва, пра вучобу ў езуітаў. Пісьменнікі не маглі не сустракацца: Цуднаў, дзе ў маёнтку графіні Ю. Ржавускай правёў свае апошнія гады жыцця Я. Баршчэўскі, і маёнтак Салагубаўка ля Бярдзічава, дзе жыў А. Гроза, знаходзяцца побач. Як, дарэчы, і мястэчка Янушполь — апошні прыстанак Францa Савіча. Зрэшты А. Гроза і не хаваў, што сюжэт аповесці звязаны з Я. Баршчэўскім і ягонымі творамі. Пра гэта не раз у «Нечаканым госці» згадвае аўтар. Невыпадковыя, думаецца, і шматлікія супадзенні перыпетый лёсу галоўнага героя «Нечаканага госця» Севярына і Я. Баршчэўскага. Так, яны абодва паходзяць з беднай шляхты, абодва мусяць зарабляць на жыццё рэпетытарствам, абодва ў калегіі, а пасля акадэміі езуітаў праславіліся як паэты. Ну, і вядома, у сувязі з каханнем Севярына згадваецца Максімавічанка Я. Баршчэўскага ды прысвечаны ёй верш «Дзеванька». З іншых невыпадковых супадзенняў адзначым толькі апісанне ў «Шляхціцы Завальні» падзей 1812 г. і апісанне сутычкі пад Клясціцамі ў «Нечаканым госці»: Севярын, як і Я. Баршчэўскі, пераказвае падзеі бою расійскіх ды французскіх войскаў на «пясчаным беразе Дрысы». Такім чынам, аповесць А. Грозы «Нечаканы госць» можна лічыць творам пра юначыя гады Я. Баршчэўскага.

*М. Хаўстовіч*

### НЕЧАКАНЫ ГОСЦЬ

(скарочана)

Завіруха была жахлівая; сумёты снегу заняслі дом і ўсе забудовы. У такі час і думкі няма, каб з пакояў высунуцца ці каб госць які паказаўся. Нібы дзеля кантрасту з навакольнаю прыродаю я ўсеўся каля добра напаленае печы і пачаў чытаць кнігу

пра падарожжы па трапічных краінах[1]. Ды тут паведамілі, што нейкі вандроўнік хоча бачыць мяне.

Я выйшаў на калідор і ўбачыў зусім задубелага ад марозу чалавека, які прамовіў да мяне:

— Дазволь, пане, пагрэцца ды адпачыць у тваім доме.

— Калі ласка, — адказваю. — Няхай коней завядуць на стайню, лёкаяў — на кухню, а пана прашу ў маю канцылярыю.

— Мае коні, мае людзі і я, — кажа вандроўнік, сумна ўсміхаючыся, — гэтая тройца ў адной маёй асобе; пілігрымнічаю на паравай машыне, а гэта на пары ног, якія разам з сабою маю гонар пану рэкамендаваць. Вялікую пашану робіш мне, пане, запрашаючы ў сваю канцылярыю, я лічу за лепшае ісці на кухню: люблю вялікі агонь і размовы з лёкаямі, люблю цёплае піва з грэнкамі, бо ў святое памяці айцоў полацкіх езуітаў піва заўсёды было добрае. Дык папрашу бутэльку піва, акраец хлеба, то й добра буду прывечаны.

Я згадзіўся з гэтым архісціплым жаданнем і вярнуўся да свае печы; а мой госць накіраваўся на кухню.

Трэці дзень як завіруха не сунімалася. Пра свайго госця, што не трапляў на мае вочы, я амаль забыўся.

— Што гэта ты за дзівака прыгрэў? — спытала ў мяне жонка. — Нікога з лёкаяў даклікацца не магу: сядзяць усе ў кухні ды слухаюць лухту, што ён ім меле.

Я тым часам разам з Гумбальтам узыходзіў на вяршыню Чымбароса, але трэба было адкласці гэтую вандроўку ды самому ісці на кухню. Пайшоў, захутаўшыся ў воўчае футра, і, хоць там сабраліся амаль усе лёкаі, ніхто не заўважыў майго прыходу. Яны збіліся каля печы, дзе ў кутку, прыклаўшы вуха да падлогі, ляжаў пан Севярын (так мой госць назваў сябе) ды казаў:

— Пяць дзён будуць яшчэ маразы, а пасля — дождж і вясна.

Ён змоўк і ўсе маўчалі. У шчыліне пяць разоў азваўся цвіркун.

— Чуеце? — запытаў ён. — Выразна цвыркнуў пяць разоў, дык пяць дзён будуць яшчэ маразы, пасля адліга і цёплая прыгожая вясна.

Ён падняўся, а лёкаі, заўважыўшы мяне, пачалі выходзіць за дзверы. Я застаўся з кухарам, кухоннай абслугаю і панам Севярынам.

— Скажы мне, пане, дзе ты набыў такога метэаралагічнага досведу і што за цікавыя рэчы апавядаеш маім людзям, якіх немагчыма даклікацца.

— Добрыя ў цябе людзі, пане, — адказвае ён. — Я сею зярняты, якімі мяне Пан Бог надарыў, а падаюць яны, здаецца, не на бясплодную раллю. Так, напрыклад, вучыў іх цяпер па цвырканню цвіркуна адгадваць надвор'е. Чалавек з-за свае ўлюбёнасці ў самога сябе, з-за думкі, што ён — цэнтр сусвету, а ўсе жывёлы павінны вакол яго круціцца, што ён робіць ласку, калі каго з іх сабе на спажытак абярэ. Чалавек з-за гэтае пыхлівасці страціў сувязь з прыродаю, аслеп ды аглух. Нягледзячы на ўсё гэта, ён яшчэ цалкам не пазбавіўся дарагіх першасных дароў і мог бы вярнуць іх сабе, калі б стаў іншы. Чыстае сузіральнае жыццё адчыняе сэрца і вочы ды ўводзіць чалавека ў духоўны свет. Бачыш, пане, у куце гэтага павука?

— Бачу, — адказваю.

— Што ён робіць?

— Снуе сваю сетку.

— Сетку на мухі?

— Вядома!

— Э-эх! Калі б ты столькі пражыў у сяброўстве з павуком, колькі я, зразумеў бы, што ён не толькі пра мухаў думае. Павук — гэта мудры філосаф, Ён снуе сваю разумную сетку, а сетка — гэта ягонае пісьмо, гэта гісторыя ягоных пачуццяў, уражанняў, успамінаў. Усміхаешся, пане, што я павуціну пісьмом называю? Нібыта дзеля таго, каб занатаваць нашыя думкі, абавязкова патрэбны гусінае пяро і атрамант! А inkassy[2] ці ж пяром занатоўвалі сваю гісторыю? Не, яны яе па-павучынаму вязалі на шнурках. Вязалі грубыя думкі на грубых шнурках. А павук прамяністую думку снуе ў сваёй далікатнай сетцы! І калі муха хоча яе парваць, дык ён яе так сваёю разумнаю сеткаю агорне, што змучаная дарэмнымі намаганнямі, яна ўрэшце страціць галаву, як і кожны дурань, які наважыцца ўблытацца ў справы мудраца. Промні павучынае сеткі адпавядаюць промням ягонае душы: ён сягае імі далёка, можа, далей за чалавека. Што павук адчувае і бачыць, таго чалавек ніколі адчуваць і бачыць не будзе: я прачытаў адно павучынае пісьмо.

Падкухар Ясік, што круціў парася на ражне, так заслухаўся, што прыпаліў парасячы бок. Пачаў яго кухар лаяць, а я, каб папярэдзіць надалей такія здарэнні, запрасіў пана Севярына ў маю канцылярыю.

Дзіўны чалавек! Ён не пажадаў назваць сваё прозвішча:

«Клічце мяне Севярынам альбо панам Севярынам; адкуль і куды іду — навошта вам гэта ведаць». Відавочна, ён не меў, як гаворыцца, шурупа ў галаве. Незвычайнаю была ў яго антыпатыя да мухаў. Цёпла ў пакоі, адна няшчасная мушка паказалася на печы, дык ён датуль за ёю ганяўся, пакуль не забіў. Пабачыў маіх Людвіга і Марылю ды прыкіпеў да іх усёю душою: трое дзяцей, толькі адно з сівымі валасамі.

Высокі, тонкі, з прыўзнятымі плячыма і згорбленаю спіною, з доўгім бледным тварам, аграмадным носам, маленькімі вочкамі, неадпаведнаю росту галоўкаю. Дзеці яго вельмі палюбілі: ён будаваў ім з картаў выдатныя палацы, мяўкаў, як кот. А яшчэ тысячамі апавядаў казкі, але ў кожнай з іх мусілі дзейнічаць мухі, восы, матылі. Прабавіўшыся цэлы дзень з дзецьмі, вечарам ён станавіўся іншым чалавекам — суровым, сур'ёзным, глыбокадумным, набожным; рабіў заўвагі аб жыцці і прызначэнні чалавека, пра матэрыяльны і духоўны свет. Веды — менавіта ў прыродазнаўчых навуках — выяўляў шырокія. Відавочна, гэты чалавек размінуўся са сваім прызначэннем: ішоў у адно месца, а прыйшоў у другое.

Спраўдзілася яго прароцтва: было пяць дзён маразоў, цяпер — адліга і сапраўды паказвала на вясну. Пахадзіўшы па дзядзінцы, мы з ім зайшлі ў кухню.

— Праўду пан казаў, — азваўся кухар. — Было пяць дзён марозу і — хто ведае — можа, прыйдзе вясна.

— Я, мой каханы, заўсёды кажу праўду. Абавязкова будзе вясна. Я вясну так адчуваю, так бачу, як журавы, як дзікія гусі, як усе пералётныя птушкі.

І мяне блізкая вясна прыгнала да вас. О! Я заўсёды кажу праўду, а самую вялікую тады, калі даводжу вам, што Пан Бог усё бачыць і чуе, што ён пасадзіў паўсюль сваіх дазорцаў, каб паведамлялі яму пра самы малы рух чалавека, пра ягоныя нават пачуцці і думкі. Вось гэты, напрыклад, павук: хіба не занатоўвае ён вашых учынкаў? Гэты цвіркун: хіба не апавядае, што бачыў, што чуў? А цвіркуна пачуе жаўрук, які ляціць на неба і ў вуха самога Бога ўсё-ўсё выспеўвае.

Вясна! Прыйшла вясна, прыляцелі буслы, гледзячы на якіх, пан Сeвярын сказаў:

— Калі б вы ўмеліназіраць за птушкамі, шмат цікавых рэчаў даведаліся б. Старажытныя людзі былі больш кемлівыя, чым мы. Але і цяпер, калі пабудзеш сярод вандроўных народаў, даведаешся, што ў іх звяры — а, перадусім, птушкі — гэта тэлеграфы, пошта. Яны па іх лёце, па крыку шмат чаго могуць прадбачыць. Атыла пасля трохгадовае аблогі збіраўся адступіць ад Аквілеі[3], але калі заўважыў, як гэты горад пакідаюць буслы, закрычаў: «Наканавана гэтаму гораду быць у руінах, і буслы гэтае наканаванне ўжо зразумелі». Ён рушыў, здабыў і зруйнаваў Аквілею.

Вечарам выйшлі мы з ім на праходку. За брамаю ля дарогі ён знайшоў нежывога жука, узяў яго ў рукі, пачаў ківаць галавою, і слёзы паліліся ў яго з вачэй.

— О! Пачцівы жук! — прамовіў ён. — Вось і твая чарга прыйшла, вось ужо і не сысціся нам у тваім кабінеце, які ты сваёю працаю і навукаю ўпрыгожваў ды ўзбагачаў. Толькі пад зямлёю, у кабінеце смерці, дзе чарвяк, вывучаючы анатомію, рыхтуе шкілет за шкілетам. Перад кім жа я пахвалюся сваёю працаю ды навукаю? Каму перакажу багацце сваіх думак? Прамень веры, запалены табою ў маёй душы, свяціў мне ў цямрэчы жыцця. Святло тваё навукі ўвяло мяне ў таямніцы прыроды. І я жыў ▪ Богам і прыродаю, як вучыў ты, як казаў ты.

Калі б ты, мой каханы, пачаў даследаваць нават тое ж жамярынае каралеўства, дык павер мне, што хутка выкінуў бы з галавы ўсё пустое і стаў бы ўрэшце сталым чалавекам. Прыродазнаўчыя навукі людзям, якія займаюцца імі, нязменна нагадваюць пра першапрычыннасць Бога ў свеце, а абавязковаю апекаю над кожнаю істотаю расчульваюць, надаюць шляхетнасці сэрцу. Вялікія натуралісты былі самымі высакароднымі людзьмі. Дастаткова прыгадаць Лінеуша[5], Буфона,[6] Банета[7]. А калі і ты станеш чулым, пачцівым чалавекам, дык ужо гэтым твае мухі ды жукі зробяць чалавецтву вялікую паслугу.

А ў лясах кожнае дрэва — гэта асобны маленькі свет. Між каранёў жыве вуж, у спарахнелай сярэдзіне — куніца, вышэй скача вавёрка, яшчэ вышэй, на галінах — гнёзды розных птушак, а на самай верхавіне — крук, альбо бусел, альбо чапля, альбо арол заснавалі сваю сталіцу. Лічынкі жамяры — гэтыя вечныя гравёры нябачных вокам малюнкаў — адны туляцца пад карою, іншыя вісяць на лістоце. І ўсё гэтае каралеўства жыве ў згодзе, не шкодзячы адзін аднаму, не сварачыся, а нават баронячыся разам. Раз сава заняла буслянку, пад якою былі ластаўчыны гнёзды, — што скажаце? — шанавала

грамадзянства і жыццё старых жыхароў. Каб вы ведалі, якія сцэны я назіраў шмат разоў, дык прызналі б за звярамі нешта большае, чым інстынкт.

Каралеўства, якое я, так скажу, прыняў пад сваё кіраўніцтва, не было аднастайным ці нецікавым. Бо што ні крок, што ні мясціна, то іншыя жыхары, іншыя звычаі ды парадкі. У багністых зараслях сарна гадавала сваіх казлянят, жыў дзік са сваёю свіннёю і падсвінкамі; у глухіх ярах, зацемненых густым зялёным піхтавым мурам, свяціла вачыма рысь, і мядзведзь рабіў на зіму сухую бярлогу. На лугавінах пасвіліся ласі, а ў пэўных, нібы на адмеранай адлегласці мясцінах знаходзіліся жамярыныя гарады, мурашнікі — працавітыя, прыстойныя рэспублікі. Што і казаць пра пчаліныя борці, якія сямтам рабіў чалавек, а большасць яны самі сабе знаходзілі ды ўпарадкоўвалі.

На пагорку ў дзікіх нетрах я заўважыў дуб-волат, нібы прабацьку ўсяе пушчы. Вакол яго было чыста прыбрана, а пад ім стаяла ў драўляных місках розная ежа, мёд; на галіне вісеў белы ручнік. Гэта жыхары тых ваколіцаў — латышы, нягледзячы на столькі вякоў хрысціянства, яшчэ не маглі адрачыся ад свае даўняе рэлігіі ды прыносілі ахвяры лясным багам.

Калі ўбачылі, што я нікому нічога кепскага не чыню, перасталі мяне палохацца птушкі, звяры. Але маючы перакананне, што мала не чыніць кепскага, а каб жыць у згодзе з сабою, трэба рабіць дабро, — я стараўся прыдумаць, як зрабіць каму якую паслугу. Першы зручны выпадак дала мне сарна. Яна ішла з казлянятамі, пераскокваючы цераз вымытыя дажджом ямы. Адно з казлянят трапіла ў яму і аніяк не магло вылезці. Крычала беднае казляня, крычала матка. Пачуўшы гэты крык, я прыйшоў і вызваліў казляня. Матка здаля пазірала мне ў вочы, а калі я адпусціў ейнае дзіця, яна прыбегла і пачала лізаць мне руку.

Раз патрапіў на мядзведзя, які ламаў галлё на бярлогу. Маючы з усяго інструмента толькі невялікую сякеру, я пачаў секчы галлё ды сцягваць яго да мядзведзя. Ён глянуў на мяне і здагадаўся, што я дапамагаю яму. Калі падалося мне, што мы прыгатавалі дастаткова матэрыялу, я, засунуўшы сякеру за пас, рушыў у сваю дарогу. Тут пачуўся тупат: бяжыць мой мядзведзь і ў пысе нясе соты з мёдам. Я спыніўся, а ён, паклаўшы перада мною мёд, вярнуўся назад. Увесну, калі ўжо растаў снег і балотныя лугавіны пакрыліся кветкамі, я нарваў зёлкаў, якія завуць казяльцамі, што так шукаюць вясною мядзведзі, і вялікі пук прынёс да бярлогі. Я прыйшоў у час, калі мой мішка прачынаўся са свайго зімовага сну. Ён адкрыў вочы і, убачыўшы прынесеную страву, замыкаў, падышоў да мяне і паклаў лапу на маё плячо. З таго часу мы моцна сябравалі.

Ці мурашу, ці птушцы, ці каму іншаму, калі мог зрабіць што добрае, — рабіў і адчуваў, як расла ў маім сэрцы любоў да ўсяе прыроды. О! Чалавек прызначаны панаваць у прыродзе, бо маё сэрца здольнае да ўсеагульнай любові.

Напачатку я шкадаваў, што не маю з сабою ні інструментаў, ні кніг-дапаможнікаў. Пазней заўважыў: яны мне зусім не патрэбны, бо я прыйшоў жыць з прыродаю, а не збіраць з яе ўзоры. З шумам дзівоснага лесу, з шумам аграмаднага возера я маліўся да Тройцы, маліўся, як мяне навучыла мая святая вера...

## Каментарыі

**«Нечаканы госць».** Друкуецца ў перакладзе М. Хаўстовіча паводле выд.: XIX стагоддзе: навук.-літ. альманах. — Мінск, 1999. — Кн. 1.

[1] Гаворка ідзе, як відаць, пра адну з прац Гумбальта Фрыдэрыка Аляксандра (1769—1859) — славутага нямецкага падарожніка і даследчыка прыроды.

[2] Інкасы — тытул манархаў старажытнай цывілізацыі на тэрыторыі Перу.

[3] Аквілея — горад у краіне венетаў (сучасная Італія), з 181 г. — рымская калонія. У 452 г. Атыла з войскам гунаў дашчэнту разбурыў яго.

[5] Лінеуш Карл (1707—1778) — шведскі натураліст, батанік і заолаг.

[6] Буфон Людвік (1707—1788) — славуты французскі натураліст і літаратар.

[7] Банет Тэафіл (1620—1689) — швейцарскі лекар і вучоны.

# НЕВЯДОМЫ АЎТАР



## ДЗЕД І БАБА

Аповесць

Доўга прыцярпеўшы гора,
Паехалі на кірмаш:
Бабка Ксютка, дзед Тамаш;
Як прыехалі учора,
Дык і сягодні німаш.
А пан спытаў аканома:
«Чаму дзеда німа дома?»
«Паехалі на ірмарэк[1],
Ліць у горла колькі чарэк».
«Ой, хацеў бы я рад знаць,
Што там будуць прадаваць?
Верна — ў кузні што прапала
Альбо — ў гумні недастала?»
«Баба ўзіла едлаўцу,
А дзед паследню аўцу,
І суніцы, і чарніцы,
Ґрыбоў бунт[2] і воску хунт».
Папрадаваўшы тавары,
Пайшлі выпіць сівай гары.
Зачапіўшысь на парогу,
Стары дзед вывіхнуў ногу;
Аддаў бабцэ лейцы й пугу,
А сам лёг здахнуць з нядугу.
«Нужэ, бабка, нужэ, Ксютка,
Паганяй жа, толькі хутка».
Пакуль бабка ні здрамнула,
То і кабылка цягнула;
Як бабка спусціла нос,
Прысталі кабыла й воз;
А йшоў злодзей па дарозе,
Спадабаў кабылку ў возе;
Узяў кабылку з хамутом,
Кінуў бабку з батагом.

А ноч цемна была тады,
Хоць ты ў вока калі з бяды.
Ачнуўшысь, баба крычыць:
«Ну, гнядая», — а воз стаіць.
Сама сабе ні звярае.
Па галаблях паганяе;
Апшчупала: нет кабылы.
Клічыць дзеда з цэлай сілы:
«Ай, дзед, дзед, дзед, дзед, дзед, дзед,
Ай, кабылкі нашэй нет».
«Чы ты, баба, адурэла?
Гдзе ж ты кабылку падзела?
Ты ж наперадзе сідзела,
Куды ж ты, дура, глядзела?..»
«Ай, скажы ж мне цяпер, дзеду,
Як я дадому даеду?»
«А хто кабылкі ні мае,
Піхатой дамоў махае».

## Каментарыі

**«Дзед і баба».** Твор знойдзены В. Скалабанам у архіве В. Ф. Мачульскага і апублікаваны ў кн. Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. — Мінск, 1990.

[1] Ірмарэк — кірмаш (рус. — ярмарка).

[2] Бунт — звязка, куль (гл. «Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча).

Друкуецца паводле выд.: Заняпад і адраджэнне. Беларуская літаратура XIX ст. — Мінск, 2001.

## БОНДАР САВАСЦЕЙ



Якраз так падпісаў у канцы свой твор «Віншаванне бондара Савасцея» невядомы аўтар. Хоць і з малой літары піша ён слова «бондар», падкрэсліваючы сваё паходжанне з ніжэйшых слаёў грамадства, тым не менш аўтар дае зразумець, што гэта адначасова і яго псеўданім. Нездарма ж у канцы верша ён выдзяляе гэтыя два словы ў асобны радок. Хто хаваўся пад гэтым, не зусім звыклым псеўданімам, наша літаратуразнаўства адказу пакуль што не дало. Мяркуючы па мове пададзенага тут варыянта, паходзіў аўтар недзе з цэнтральнай Беларусі. Напісаны твор, як відаць са зместу, дзесьці адразу пасля разгрому паўстання 1830—1831 гг. Доўгі час ён распаўсюджваўся ў рукапісным выглядзе і толькі ў 1848 г. упершыню трапіў на старонкі пецярбургскага часопіса «Иллюстрация» (т. 7).

«Віншаванне бондара Савасцея» асабліва цікавае тым, што ў ім паказваюцца погляды на «шляхецкае» паўстанне простага люду, які, хоць і сам прымаў у ім удзел, даволі скептычна глядзеў на ўзброенае выступленне супраць цара, на задачы паўстанцаў.

Твор напісаны жывой, вобразнай мовай, з пэўнай доляй іроніі, што дае падставы меркаваць пра несумненны паэтычны талент Бондара Савасцея.

*К. Цвірка*

### ВІНШАВАННЕ БОНДАРА САВАСЦЕЯ

Кінуўшы, рынуўшы паўстанне,
Прыбег к табе, васпане.
Трасца паберы
Нашых жаўнеры!
Уздумалі Польшчу паны звараціць,
Ды бадай ці не лепей гасудару служыць.
Пагубілі народ, Польшчы не зрабілі,
А бяды сабе па вушы нарабілі.
Каб гарэлку дзялілі, хлеб, мяса давалі —
Слова нет, мы ўсю б Польшчу забралі.
Но як выйшлі ў поле, станулі ў доле,
Спаткаліся, як цёмная хмара, з маскалямі,
Так не зналі, што зрабілася з намі.
Кулі, як яйца, каля вушэй свішчуць,
А нашы каманданты[1] яшчэ ботаў ішчуць.
З вечара падпілі і смачна пад'елі,
Дзівіцца нечага, што і спаць захацелі.
Тыр... Тыр... Тыр... нету ходу,

А нашаму брату хоць боўць у воду!
Маскаль моц сваю ўзяў
І смела ў места наступаў.
Каманданты крыкнулі: «Дзеткі, за бронь!»
Тут мы пазналі, што не прыгон,
Што трэба смела драцца
І са ўсёй сілы апраўдацца.
Тыя як жарацъ, як жарацъ агнём і мечам,
А мы б хацелі, дык, праўда, і нечым.
Была і ў нас ступа, абручамі збіта
І густа, і тлуста порахам набіта,
Ды як прыйшло зрабіць замет —
Дык і агню палажыць каму нет.
Бо то ў нашай Польшчы
Кажды хоча быць большы:
«Ты ідзі, ты ідзі!» — адзін на другога.
Ніхто не паслухаў, баяўся Бога.
І камандантам укалола ў пяты,
Крыкнулі толька: «Уцякайце, рабяты!
Дзе хто можа, з касамі
Хавайцеся за вугламі!»
А самі, сеўшы на каня, далей у драку,
А ты, брат мужык, прападай за сабаку.
Ці чорт іх будзе за вугламі стаяць,
Трэба як-небудзь уцякаць.
Па мху, па балоце, хоць саўсім прамок,
Слава Богу, такі цэлы ўцёк.
Вот вайна — і косы пагублялі,
А нічога не даказалі.
Па Пятры прыйдзе сена касіць —
А тут незашта касы купіць.
Бог цябе, панок, ад таго сцярог,
Што ты не выступаў з хаты на парог,
Што ў нашую касьбу не мяшаўся
І цэлы ў канаплях перахаваўся.
Дай Божа, панічок, табе доўгі век і вясёлы,
Каб ты меў грошы і не быў голы,
Жыві, пане, ды жыві і скукі не мей —
Тым цябе віншуе
бондар Савасцей.

**Каментарыі**

**«Віншаванне Бондара Савасцея».** Друкуецца паводле выд.: Заняпад і адраджэнне. Беларуская літаратура XIX ст. — Мінск, 2001.

[1] Камандзіры.

## НЕВЯДОМЫ АЎТАР



**Вершы са зборніка «Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа»**

### ЗАКЛЯЦЦЕ НА ДУШУ

У лесе ў цёмным, у Вісліцы,
Срэдзі бору на Кісліцы
Ёсць закляты сухі сук,
На тым суку сядзіць крук.
Пане круку, пане круку,
Чорна бога старшы ўнуку!
Ты ў свой ражок затрубі
І (імя рек) загубі,
Загубі яго ты душу,
Высушы, як гэту грушу,
Як Русь ляхі загубілі,
Як Русь ляхі паланілі.
Зляці з дрэва, чорны крук,
Дай у душу яму стук.
Ладна, лада, дзіўна, дзіва,
Не жыві, васпане, крыва.
А вы, ведзьмы, налятайце,
Ад крука душу прымайце.

* * *

Ой, калі б, калі
Маскалі прыйшлі,
Маскалі прыйшлі,
Нашы сродныя,
Веры одныя!
Добра нам было,
Шчасна нам было,
Калі Русь уся,
Трымаючыся,
Адной сілаю
Заадно была.

Дай к нам за грахі
Панайшлі ляхі,
Занялі наш край
Аж да Ляхавіч.
Ой, ляхі б не прыйшлі,
Каб паны іх не звялі,
Ой, паны каб прапалі,
Што ляхам нас запрадалі.
Ой, паны, каб вы згінулі,
Што вы веру пакінулі.

* * *

Із-за Слуцка, із-за Клецка
Едзе дружба маладзецка
Ад княжаці із-пад Мінска
Ваяваці места Пінска.
Места Пінска ваяваці,
Ад ляхаў абараняці.
Хоць прыйшлі, не далі рады:
Пагінулі ўсе ад здрады.
А я пайду ў пост вялікі
Да Турава, да ўладыкі,
Каб малебен адслужыці,
Дай пакаюсь за грахі,
Дзень і ноч буду маліці,
Каб згінулі ляхі.

* * *

Быў на Русі чорны Бог,
Прад ім стаяў Тураў рог.
Ён на Кіеў пагдядаў,
Гоман ведзьмам падаваў.
А Ўладзімір наш святы
Чорна бога скалаціў,
А мучаніца Варвара
Усе ведзьмы разагнала,
Ведзьмы, што у ночну пору
Злеталісь на Лысу гору.
Святы Юрый прыскакаў
І ў Нясвіжы цэрквай стаў.
Аж ад ксёндза Радзівіла
Панайшла нячыста сіла,
Руску веру паглуміла.
Бацькі ў цэркві не служылі,
А ксяндзы імшу вапілі.

Не было к нам ані слова
Ні із Слуцка, ні з Турова.
Не было ані славечка:
Юрый стаў блудна авечка.
Мы прад Юрыем закленчым,
Памолімся і заплачам,
Каб яго святая сіла
Паканала Радзівіла.

**Каментарыі**

Зборнік быў упершыню апублікаваны ў Вільні ў 1839 г. У ім былі змешчаны чатыры вершы на беларускай мове. Друкуюцца паводле выд.: Заняпад і адраджэнне. Беларуская літаратура XIX ст. — Мінск, 2001.

## ВІНЦЭНТ ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ (1808—1884)



У першай палове XIX ст., як бачым, усе без выключэння беларускія пісьменнікі змушаны былі пісаць на польскай, зрэдку на рускай і толькі ў выключных выпадках у асноўным дзеля асветы народа пераходзілі на беларускую мову, карэнную мову роднай зямлі, фактычна забароненую і пагарджаную. Інакш кажучы, беларускамоўная творчасць з прычыны адсутнасці беларускага друку была ў іх другараднай, амаль па-зазаконнай. Першы, хто зрабіў яе асноўнай, хто, мужна перадольваючы ўсе перашкоды, не зважаючы на вялікія матэрыяльныя страты, паставіў яе ў цэнтр сваёй увагі, быў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Так, ён таксама пісаў па-польску, калі хацеў давесці свае думкі да адукаванага грамадства. Тут ён не мог быць выключэннем. Але ён з настойлівасцю ўзяўся ўздымаць цаліну беларускага слова і стаў першым буйным беларускамоўным пісьменнікам.

Нарадзіўся В. Дунін-Марцінкевіч 23 студзеня (4 лютага н. ст.) 1808 г. у фальварку Панюшкавічы Бабруйскага павета Мінскай губерні ў сям'і маламаёмаснай беларускай шляхты гербу Лебедзь. Хлопчык рана асірацеў. Прабіцца ў жыццёвую дарогу дапамог яму ўплывовы дзядзька па мацерынай лініі, вядомы ў свой час гісторык і літаратар, магілёўскі архіепіскап Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, які ў 1798 г. стаў мітрапалітам рымска-каталіцкай царквы ў Расіі. Ён уладкаваў пляменніка ў Віленскую базыльянскую бурсу, а потым, як мяркуецца, у Пецярбургскі ўніверсітэт. Праўда, з-за невядомых прычын Вінцэнт хутка пакінуў вучобу. З 1828 г. пайшоў на чыноўніцкую службу ў Мінску. Нейкі час служыў аканомам ў маёнтку Шчаўры Сенненскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Крупскі раён Мінскай вобласці).

У 1840 г. Дунін-Марцінкевіч набыў невялікі фальварак Люцынка (Люцінка) у Пяршайскай воласці Мінскага павета, дзе вырашыў заняцца гаспадаркай. Тут беларускі дудар пражыў да канца сваіх дзён. Як і многія іншыя беларускія патрыёты, ён быў «замешаны ў «мецяжы» 1863—1864 гг., за што больш за год сядзеў у турме ў Мінску, а потым знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Вялікую актыўнасць у паўстанні праявіла яго дачка Каміла, якая была саслана ў Сібір.

Асеўшы ў Люцынцы, Дунін-Марцінкевіч займеў магчымасць заняцца літаратурнай творчасцю. Першымі яго мастацкімі творамі, напісанымі ў пачатку 40-х гадоў XIX ст., былі п'есы на польскай мове «Рэкруцкі яўрэйскі набор», «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада». Музыку да гэтых твораў напісаў малады Станіслаў Манюшка з дапамогай мінскага музыканта К. Кржыжаноўскага.

У 1846 г. з-пад пяра пісьменніка з'явілася лібрэта камічнай оперы «Ідылія» («Сялянка»), накіраванай супраць франкаманіі. Гэта быў

двухмоўны твор — паны гаварылі ў ім па-польску, сяляне — па-беларуску: так, як і ў жыцці. Музыку да яе зноў стварылі Манюшка і Кржыжаноўскі. Опера з поспехам ставілася ў Мінску. Ролю Навума Прыгаворкі іграў сам аўтар лібрэта, за што і быў празваны імем свайго героя.

У 50-х гадах XIX ст. Дунін-Марцінкевіч пачаў асвойваць новыя літаратурныя жанры — вершаваныя аповесці і апавяданні, прытым большасць з іх ён пачаў пісаць цалкам па-беларуску. Гэта «Вечарніцы», «Гапон», «Купала», «Шчароўскія дажынкі», «Травіца брат-сястрыца», «Быліцы, расказы Навума», а таксама вершы. У гэтых творах паэт шырока выкарыстоўвае беларускі фальклор, вераванні, звычаі, абрады свайго народа. У прысвячэнні аповесці «Купала» маршалку Бабруйскага павета Аляксандру Лапе аўтар, растлумачваючы, чаму ён складае свае творы на беларускай мове, даводзіць, што «праз іх наш селянін, будучы заахвочаны да навукі чытання, памалу разаўе свой розум, ахоплены дагэтуль цемрай...». Дзеля гэтага ж узяўся Дунін-Марцінкевіч і за пераклад паэмы-эпапеі Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», у прадмове да якой зноў падкрэслівае, што яго творы «маюць на мэце заахвочванне нашага селяніна, а таксама беднай літоўскай і беларускай шляхты да навучання...». Далей ён выказвае шкадаванне, што яны «не знайшлі дасюль, апрача некалькіх асоб, прыхільнікаў у гэтых заможных колах грамадства, якія паводле Бога і сумлення найбольш павінны былі б далучыцца да асветы непісьменных суайчыннікаў».

Адным з найбольш значных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча лічыцца фарс-вадэвіль «Пінская шляхта», напісаны на пінска-палескім дыялекце беларускай мовы. Напісаны ў 1866 г., твор гэты быў апублікаваны толькі пасля смерці аўтара — у 1918 г. У 1870 г. з-пад пяра пісьменніка з'явілася другая яго камедыя — «Залёты». Як і ў «Ідыліі», паны гаварылі ў ёй па-польску, а сяляне — па-беларуску.

Сярод польскамоўных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча варта адзначыць такія п'есы, вершаваныя аповесці і апавяданні, як «Неспадзяванка для майстрыц» (1855), «Апантаны» (1855), «Блаславёная сям'я» (1856), «Славяне ў XIX стагоддзі» (1856), «Люцынка, альбо Шведы на Літве» (1857), «З-пад Ісдачы, альбо Лекі на сон» (1868), а таксама вершы.

*К. Цвірка*

# ГАПОН

Беларуская аповесць

## ПЕСНЯ I

*Калі ахвота начата,*
*Што ж стаіце, як цялята?*
*Далей, хлопцы, маладзіцы,*
*Зачніце ад «Мецяліцы».*

З камедыі-оперы «Ідылія»

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажны курыцца чупрына.

Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць,
А ляндарка з лендаром
Мёд, гарэлку раздаюць.

Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы
Цішком ля печы сядзяць.

Ананя на скрыпцы іграець
«Лявоніху», то «Бычка»,
Гапон жару паддаваець:
«Зыграй, крычыць, «казачка»!

Аж юкнула Кацярынка,
Так задаў ёй кулаком:
«Хадзі, мая ты малінка!» —
Ды затупаў хадаром.

«Ананя, рэж вясёлы!» —
Крычыць громка наш Гапон,
Дый сабраўшы ў світцы полы,
Мэрам хохлік! мэрам ён!..

То ўпрысядкі выкідаець,
Ажны стогнець пад ім пол,
То галубца падбіваець,
Ажны трасецца хахол.
«Ах, ух! давай жару,
Давай болі, давай пару!» —
Крычыць Гапон дый гуляець,
Пад скрыпачку падпяваець.
«Эй, чух, Кацярынка!
Чабоцікі красны;
Каму блішчаць, каго любяць
Твае вочкі ясны?
Эй, чух, Кацярынка!
Твае кудры ўюцца,
Скачыць, пляшыць мая міла,
Аж шчочкі трасуцца».

Трэйчы Гапон прамахнуў,
Бражджаць ножны з вагнівом,
Стаў на месцы — падпрыгнуў
Дый затупаў хадаром.

Кацярынка ж успляснула,
На міленькага зіркнула,
Хвіць! спаднічку распусціла,
Трэйчы запяткам падбіла,
Дробны ножкі выкідаець,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак аж сіяець,
Быццам іскры ляцяць.

Русы коскі падлятаюць,
Каснікі, як жар, гараць;
А вось вышай як заграюць,
Так і возьме прыпяваць:

«Мілы Хартон, мілы Саўка,
Да мілейшы ж мой Гапон,
Хахол ясны, пояс красны,
А галасок! кабы звон.
Не хачу Саўкі, Хартона, —
Мне жыцця з імі не быць,
Валей[1] маяго Гапона,
З ім не буду я тужыць».
Пяець, пляшыць, падбіваець,
Усяк вокам за ёй брадзець,
Як ластачка, падплываець,
Ажны хочацца глядзець.

Ананя ж — воўча юха!
То ўжо нечага маніць!
Ярка рэжа із-за вуха,
Аж скрыпка яго звініць.
«Мяцеліцу» прабірае
Ёмка, громка ладны час!
Дробна смыкам падсякае,
Звініць рымка[2], гудзіць бас.
Локаць упёршы у бруха,
Ля кабылкі нос дзяржаў,
Далі сціхнуў — дый з-за вуха
На «Лявоніху» падняў.
Схваціў Гапон Кацярынку,
Смела к сэрцу прыцягнуў,
Абняўшы рукой за спінку,
«Лявоніху» успрыгнуў.

Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеўкі, хлопцы, хто як змог,

Дрыжаць чупрыны, спадніцы,
Суматоха — што крый Бог!
Ад пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум да крык,
Як у гаршку закіпела,
Як на быдла напаў зык.
Той ўпрысядкі, той выкідкі,
Чупрыны, як шчэць, дрыжаць,
Тая бокам, тая скокам,
Дай так вазьмуць прыпяваць:

«Ах, калі ж я ў матулькі была,
Як вішанька у садочку цвіла;
Папалася злому духу, мужыку!
Ён высушыў, як ліпінку ў духу.
Наехала повен двор татароў
Да ўзялі ж майго мужа ў палон;
Не жаль жа ж мне, што яго узялі,
Толькі шкода, што някрэпка звязалі;
Ён, паганец, уцячэць, уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.
Трэба ж будзе сцерагчыся, уцякаць,
З вараб'ямі пад страхою начаваць».

Далі крыкнула Тацяна,
Абняўшы за шыю Яна:
«Пайшоў Янка ў грыбы,
Тацяна ў апенькі,
Спаткаліся, абняліся,
Як дзеткі маленькі».

А за ёю Халімон
Гудзіць, як царкоўны звон:
«Ой, Божа мой, Божа!
Нашто я радзіўся?
Састарыўся, як сабака,
Дасюль не жаніўся».

Перастаў. — Гапка спляснула
Дый тоненька зацянула:
«На вуліцы курта[3] брэша,
А да мяне мілы чэша,
А чы чэша, чы не чэша,
Да нядарам курта брэша!»

Вот так пляшуць, прыпяваюць,
Хохат, лопат, крык і зык,
Аж пад строп пыл падмятаюць,
А як рэзаў — рэжа смык!

Аж тут скрып!.. дзверы суздром[4]
Расчыніляся... трывога!
Бо з войтам сам аканом
Як тут — знайшліся ў парога.

Уся ахвота прыўстала,
На ўсіх страхатня напала:
Ананя ж — як уцяў!
Пахінуўся напярод.
Па ўсіх струнах запішчаў —
Так кончыўся карагод.

І Гапону не да танца.
Як акомана, паганца,
Ён угледзеў, так прыстаў,
На ўсё горла закрычаў:

«Ой, будзе ж нам цёпленька, браткі!
Хто малады, уцякай з хаткі!
Нядарам сталі шаптаць,
Што некрутаў будуць браць.
Пабірай іх ліхі бес!
Хто дуж, уцякайма ў лес!»

Тут настала суматня,
Ўсяк бяжыць, маўляў, з агня,
Адзін дзверы выпірае,
Другі ціснецца пад стол,
Той чэраз акно сігае,
А Гапон хваціў за кол,
Дый спіной стаўшы ў куце,
Як мятлой, усіх мяце.

Вот калі покурцяў[5] туча,
Гурмам мядзведзя асадзіць,
А ён са злосці мармуча.
Як каторага пагладзіць,
Той з болю яўкне, той брэша,
Так Гапон наш колам чэша.

Ён вярцеўся, кабы ўюн,
Сюды і туды кідаўся,
Не жалеў, біў хто папаўся,
Але і коман[6] цікун!
Глядзь! усякія плахціны[7],
То кажухі, то пярыны
На Гапона стаў кідаць,
Не дзіва ж было паймаць:
Яго, беднага, звязалі
Дый у калодкі скавалі;
Годзі вадзіць карагод!
Кацярынка ж пабляднела,
Заплакала, абамлела:
Прыйшоў на іх чорны год.

## ПЕСНЯ 2

*Над сіратою*
*Бог з калітою.*

З камедыі-оперы «Ідылія»

У вялікім у сяле,
Над дняпроўскай стараною,
На прыгорку ў вугле,
Меж лесам да меж ракою,
Там стаялі дзве хаціны:
Усцінні, друга Гарпіны.
Першай мужык быў Мірон;
Невесь за якія грэхі
Не дажыў з сына пацехі,
А той сын — быў наш Гапон.

Ён — няма чаго казаць! —
Горды, смелы, зух дзяціна!
За сваіх умеў стаяць,
А прыгожы, як маліна,
Да і пісьменны ж быў ён:
На яго са ўсіх старон
Дзеўкі сумаўчком зіркалі,
На ігрышчах прысядалі;
А Гапон ані глядзіць;
Ён пры сужанай дзяўчыне,
Наймілейшай Кацярыне,
Як прысядзе — дык сядзіць.

13 Зак. 1799

У ўдавы жа Агрыпіны,
Апрыч дачкі Кацярыны,
Болей не было сваіх;
Яна з Усцінняй, кумою,
Жыла, як рука з рукою,
Адна дума была ў іх:
Штоб сваіх дзетак сасватаць,
Штоб худобку ім прыпратаць,
Штоб, як сядуць на сваём,
Яны весела зажылі,
Без патрэбы не тужылі,
Не рупілі ні аб чом.

У Грыпіны ж Кацярына,
Крый Божа! бяды не знала.
Як у садочку маліна,
Расла, цвіла, даспявала;
На шчочках кроў з малаком,
А вочкі блішчаць агнём.
І сямнаццаць ужо лет,

Як прыйшла яна на свет.
Ну ж з сабой кумы сайдуцца,
Тут зараз гадкі начнуцца:
«Пара, баш, дзяцей жаніць;
Яно усякі адклад
Не вельмі ідзе у лад;
Пойдам пані чалом біць:
А там дзейся Божа воля!
Як прыбяром усё з поля,
Дзетак к вянцу павядзём».
Гэтак стары гаманілі,
І, напэўна, улажылі,
Да памяшаў аканом.

Ён — баш ты, сабачы сыну! —
Упадабаў Кацярыну,
Дый ну ж к беднай падсядаць;
То ластачкай падплывае,
Красны слаўцы выпускае,
Штоб як-небудзь яе ўняць.

А Кацярына — нябога!
«Бойся, кажа, паніч, Бога!
Гэта ж грэх така напасць:

Як пажалюся Гапону,
Ён, пэўне, такога гону
Панічу цішком задасць,
Што зубоў не пазбіраеш
І ахвоту пацяраеш
Чужых нявестак глуміць».
Коман Гапона злякаўся —
На час адстаў, да закляўся
Маладых ён пагубіць.

Вот ночка яшчэ цямненька,
Дожджык, як з сітца, прышчыць,
А войт даўным-даўнюсенька
Загад пад акном крычыць:
Хто пойдзе драва рубаць,
Хто крупы таўчы і драць,
А хто з цэпам малаціць,
Каму брагу калаціць.

А вось і аконам сам
Прыбег к карчме на кані.
«Слухай, крычыць, слухай, хам!
У карк шэльмаў тых гані!
Бо як толькі апазняцца,
То скажы тым гультаём,
Што й з здароўем не відацца,
Так задам ім нагаём».

А ўжо нечага маніць:
Доўга будзеш памятаць,
Калі возьмець драць і біць,
То і з зямлі не ўстаць.

А вось блiснулі агні,
Войт стадолу адчыніў,
І аканом на кані
У стадоле — як тут быў.

«Гэй, дабрыдзень, аляндару!
Што тут новага чуваць?»
«Уф! Вяльмозны камісару!» —
Дый так яму стаў брахаць:

«Ясны пане! сто з тут цуць,
Цы я магу ўсё знаць,
Ат!.. ведама — людзі п'юць,

Каб толькі на доўг даваць.
Ны!.. як пан мне прыказаў,
Каб я таго не цыніў,
То напавер і не даў,
Хоць Гапонцык і прасіў
Маёй Сэйны, сто Бог крый!
А як я не дапусціў,
То ён, ухваціўсы кій,
Вельмі брыдка сярдзіт быў.
Ну!.. Пан ясны, звазай сам,
Калі схоцэць хто у сваты,
Цы то дзела будзець нам,
Цы мы таму вінаваты?»

«Як то ў сваты! то Гапон
Ужо задумаў жаніцца?» —
Крыкнуў з сэрцам аканом
І вось, як пачаў браніцца:
«Ах ты юха! ах ты пес!
Ты латруга! — знаю я,
Куды цябе хіне бес;
Да пастой, душа мая!..»

«Ты тут, войт?» — Войт пакланіўся
Ды за вухам пачасаў;
«Да тут, пане!» — абвясціўся.
Ось акоман закрычаў:

«Бяжы, гіцлю, мне сейчас
І Гапончыку скажы,
Каб явіўся сюды ўраз,
Спраўна ж, гіцлю!.. ну... бяжы!.

А ты, пане аляндару!
Паднясі жа мне гарэлкі».
«Гіт! гіт! Ясны камісару», —
Дый пачаставаў з тарэлкі
Поўнай шклянкай — аканом
Выпіў з шклянкі, закусіў,
Аж тут з войтам і Гапон
Цераз парог праступіў;
У пояс ён пакланіўся,
«Нех бэндзе!» — громка сказаў,
Крыху ўперад падступіўся
І, што вяляць, дажыдаў.

Рыжы вусы аканома
Шчэццю уверх падняліся;
Зыркнуў скоса на Гапона,
Вочы кроўю заліліся,
Губы страшна пакрывіў,
Кнут у жмені аж трашчыць;
Як к Гапону падступіў,
Так і ўзяў яго сушыць.
«Як ты смееш, воўча юха!
Без двара у сваты слаць?»
І бразнула аплявуха,
Што Гапон ледзь мог устаць

«Ось я табе, ўражы сыну!
Як адвешу сатні дзве,
То забудзеш Кацярыну
Да забудзеш і сам гдзе».

Гапон набок пашатнуўся,
Твар далоняю закрыў,
Навакола абглянуўся
Да за таўкач ухваціў.

«Каб я Бога не баяўся,
Паказаў бы я табе!
Чаго ты тут прыскяпаўся?
Думаеш, баюсь цябе?
Пані за то не сярдзіцца,
Хоць шлюць сваты без двара,
І пазваляе жаніцца,
Як каму на то пара.
А ты! Маўляў ваўкалака,
Здзекуешся тут над намі;
Сцеражыся ж... ты, сабака!
Помні, што і мы з зубамі».

Коман, як ту рэч сумеў,
Да стадолы пабяжаў,
Гапон кончыць не паспеў,
Так з карчмы ён цягу даў.
Крый госпадзы! як ён злякаўся,
Ледзь дахаты змог прыбыць,
Да на ўсіх святых закляўся
Гапона навек згубіць.
Вечарком раз ў двор ідзе,

Яснай пані б'е чалом,
Быццам верны аканом,
Ён такі ляпорт[8] вядзе:

«Кепска, пані, ў нас чуваць,
Уся воласць у трывозе,
Не адзін будзе ў астрозе;
Хлопцы сталі бунтаваць».

«Хрыстэ, пане найласкаўшы! —
Крыкнула пані, прыўстаўшы. —
А то чыста кара неба!
Бедны люд ратоваць трэба!»

Коман затылак пачэша,
Дый так далей пані брэша:
«Гапона трэба уняць:
Невесь як ён там пранюхаў
Чы ў двapэ, можа, падслухаў,
Што некрутаў будуць браць.
Ён усіх хлапцоў сазваў
Дай так, баш, ім расказаў:
«Бяду, браткі, мы наждалі,
Некрутаў здаваць казалі;
Чаго тут добрага ждаць?
Трэба у лес уцякаць.
А не — усе сабяромся,
Хто з калом, хто з абухом,
І занішто не дадзёмся,
Хоць там трэсні аканом».
Гэтакі, баш, мой савет,
Іной, пані, рады нет:
Трэба Гапона паймаць
Дый першага яго здаць;
Тагды усе пабаяцца,
Перастануць бунтавацца».

Пані рукі заламала,
Са страху на ўсё прыстала.
Так Гапон наш скончыў танец,
Ён надзеў казённы ранец
І пайшоў цару служыць.
Кацярына ж усцяж плача,
А коман пры беднай скача,
Вот налёг яе згубіць:

Прыказаў зазваць у двор
Дый у прачкарню упёр;
Баш! узяла погань моч:
То прыкінецца к ней лісам,
То са злосці страшным бесам,
Штоб як-небудзь яе змоч.

А Кацярынка галосіць!
І, падняўшы к небу рукі,
Яна Бога ўсцяж просіць,
Штоб акончыў цяжкі мукі.

Так раз яна у садочку,
Дый у цёмным у кусточку,
Горкі слёзкі вылівала,
Сваю долю праклінала.
Бог пажалеў сіраціну,
Трэба ж у тую гадзіну
Пані па саду гуляць
І бедненькую спаткаць.

«Што ты, сэрца, цяжка стоніш,
Аб чом горкі слёзкі роніш,
Хто пакрыўдзіў, скажы мне?»
Кацярынка ж без трывогі
Яснай пані пуц у ногі
Дый так расказ свой іме:

«Пані наша найяснейша!
Маці наша наймілейша!
Вот крыўда мая така!»
Ну ж тут праўду ёй казаці,
Аканома цукраваці
Не жалела ж языка.

У пані вушы павялі,
Аж воласы дыбам сталі,
Як пачула той расказ.
І успляснула рукамі,
І залілася слязамі,
Дый такі дала прыказ:

«Штобы пана аканома
Ні нагі тут каля дома
За гадзіну не было».

Вот ён, далоў нос спусціўшы,
Ды, як воўк, вушы стуліўшы,
Пакінуў двор і сяло.

З той жа пары Кацярына,
Як пакаёва дзяўчына,
Пры пані стала служыць;
Пані яе палюбіла,
Чытаць, пісаць навучыла,
Па ксёнжцы Бога хваліць.

## ПЕСНЯ 3

*Хто пад кім яму капае,*
*Часта сам туды ўпадае.*

З камедыі-оперы «Ідылія»

Не так скора час праходзіць,
Як казка рэчы выводзіць.
Вот пяты гадок настаў,
Гапон на вайне як служыць,
Кацярынка па ім тужыць,
А аконам — цягу даў.

У горадзе Магілеве,
Пры шырокім пры Дняпрэ,
Гудзіць — кабы шэршні ў дрэве,
Кіпіць — як бы у катле.

Там вуліцаю пан гоніць,
Каляска стралой ляціць,
Пад каньмі аж зямля стоніць,
«А хварысь, падзі!» — крычыць.

Тут сустрэнеш каламажку,
Вот конікі! глядзь! кругом
Гладкі — ляцяць уразмашку;
Гэта пэўне аканом.

Далі хтось там на драбіне,
Конік, быццам рак, паўзе,
Згадаеш па кіслай міне,
Што пасэсара вязе.

А там хвурмана багата,
Маўляў грыбоў у бару;

Глядзіш! то нашага брата
Вязуць на службу цару.

Кабы галодны сабакі,
Так жыдоўскі лапсардакі
Лезуць к табе саранчой;
Пападзіся ж ім у когці,
Наўрад патрафіш іх змогці,
Вытрабушаць карман твой.

Вот у каменны палаты
Сходзяцца паны багаты,
Золата на іх кіпіць;
Мужычкоў туды ж прыводзяць,
І аднадворцы прыходзяць, —
Там на службу маюць брыць.

На сярэдзіне святліцы
Стаіць стол накрыт сукном,
Пры нём, з крыжам у пятліцы,
Падпёршыся кулаком,
Ясны маршалак сядзіць;
Ён маўляў рабін у школе
Чы як хвурман у стадоле,
Важна так на ўсіх глядзіць.

Направа пан вельмі строгі,
Вусы, як у быка рогі,
Вот так старчмою стаяць;
Валасы яго сівенькі,
Мундзір на нём галубенькі,
На грудзях крыжы бліпчаць.

А за ім якісь пузаты,
Быццам мядзведзь, так касматы,
Гэта дохтар мае быць.
Рукі за сабой трымае,
Пальцамі перабірае,
Дый часта ў карман глядзіць.

З левай стараны маршалка,
Тоненькі, просты як палка,
На розум, відна, хіцёр!
Ён спадлоб'я паглядаець,
У руцэ пяро трымаець, —
Гэта, кажуць, пракурор.

На канцы якісь вайсковы,
Смаглы, відны і здаровы,
Прыгожанькі кавалер!
Часта ён на стойку вокам
Меціць ў раздум'і глыбокам;
То прыёмны ахвіцэр.

Вот з крэсла маршал схваціўся,
Ўсім у пояс пакланіўся,
Табакеркай заскрыпеў;
Далі крыкнуў да дазорцы:
«Няхай начнуць аднадворцы!»
Дый зноў на места прысеў.

Тут ля бакавой раздаўся
Святліцы жалабны стон,
І найпершы паказаўся
Наш знаёмы аканом.

Як прыйшла шляхце трывога,
Штоб бумагі ўсяк складаў,
Коман, з дапушчэння Бога,
У аднадворцы папаў.
І вот, маўляў, не урокам
Кажучы, пагана чэсць!
Трэба ж, бытта бы нарокам,
На очэрэдзь яму ўлезць.

Як вала вядуць на бойку,
Так аконама пад стойку;
Ён жа не пацягне і ног,
Да скорчыўся у клубочак,
З дохтара не зводзіць вочак,
А так стогне, што крый Бог!

Дохтар важна прыступае
І некрута аглядае,
Зубы, ногі, бакі, стан;
Патуль каля яго тупаў,
Пакуль кругом не ашчупаў,
Вот маўляў каня цыган.

Відна, з сабой яны зналісь,
Пярвей, відна, паўстрачаліcь:
Дохтар, баш, ганьбу найшоў.

Кажа, ў службу не гадзіцца,
Яму трэба палячыцца,
Да і меры не дайшоў.

А некрут: «Мае паночкі,
Вы, ясныя сакалочкі!
Гдзе тут хвораму служыць?
Вот так коле мне ў грудзі,
Што сухвоты, кажуць людзі,
І ў баку вельмі баліць».

Кабы варам абліў плечы,
Як пачуў гэтакі рэчы
Наш малады ахвіцэр.
Ён з места свайго самкнуўся,
Пры некруце апынуўся,
Глядзіць, быццам ліхі звер.
Пад стойкай яго прастуе,
Струной цягне дый мацуе,
А ў бараду кулаком
Як парадкам яму суне,
Глядзі! вот саўсім ачуне
Наш няшчасны аканом.

«Нашто людзей, кажа, зводзіць?
Ён меру нават праходзіць,
Я бяру на свой атвет;
Яка тут к чорту хвароба?
Здаць! — а пасля будзе проба,
Возьмем яго ў лазарэт».

Дохтар кішэню пачухаў,
Маршал табакі панюхаў,
Некрут жаласна запеў;
Сударага на аканома
Напала; пазнаў Гапона —
Дый са страху абамлеў.

## ПЕСНЯ 4

*Ехала Агатка да вянца,*
*Сыпала золата з рукаўца,*
*Хто гэта золата пабярэць,*
*Той мяне на вянец павядзець.*

З вясельнай песні беларускага люду

«Начніце варгі нашы хваліць панну свенту!
Начніце апавядаць чэсць ей непаенту», —

Гэтак тонкім галасочкам,
У двары раз вечарочкам
Кацярынка прыпявае:
Яна у добрай ахвоце
Хваліць Бога пры рабоце,
А пані ёй памагае.

Цяпер нашу Кацярыну,
Тую сельскую дзяўчыну,
Хто б сустрэнуў — не спазнаў;
Панску гаворку сумела
І сукеначку надзела,
Быццам паненка — маўляў!

А хоць яна пакідала
Яркі каснікі, гарсэт,
Да ў душы не перастала
Уздыхаць да прошлых лет.

Вот часта яна у святкі
Пабяжыць да сваёй маткі,
Да сэрца яе прыляжа,
Роніць слёзкі дый так кажа:

«Радная ты мая маці!
Пажалей свайго дзіцяці,
Слёзкі яго асушы.
Гдзе ж Гапонка наш дзяецца,
Як беднаму там вядзецца?
Цяжанька ж мне на душы.
Яшчэ б што Усціння жыла,
Яна б з намі патужыла,
Утраім было б лягчэй;
А то цёмная магіла

Яе, родную, пакрыла, —
Не змагла тугі сваей».

Вот так, баш, як мы казалі,
Яны з паняй вечарком
Святы песні запявалі,
Аж лякай убег прытном
Дый кажа: «Пані вяльможна!
Заехаў у двор цяпер
Якісь важны ахвіцэр
І пытаецца, чы можна
З яснай паняй павідацца,
З сваёй чэсцю паказацца?»
А пані кажа — прасіць!
Дай чапец свой падцягнула,
На Кацярынку зіркнула,
Чы няма ў чым пахуліць.

Тут у дзвярэй паявіўся,
Сюды-туды пакланіўся
Прыгажонькі ахвіцэр;
Красны, відны і здаровы,
З ясным вокам, чарнабровы,
Золатам блішчыць мундзер.

Як глянула Кацярынка,
Здрогнула, маўляў, асінка,
Слёзкі брызнулі з вачэй;
Ручкі на грудзях злажыла,
Быццам другі раз ажыла:
Гапон пайшоўся пры ней.
Ён гэтак, баш, як стаяў,
Угрунь кінуўся у ногі
Яснай пані і начаў
Свае рэчы без трывогі:

«Спазнай, панюхна, Гапона,
Што ласкаю аканома
Цару ён пайшоў служыць;
Ён на вайне заслужыўся
І ахвіцэрства дажыўся,
Цяпер жа мае прасіць,
Штоб ты, пані! — кабы маці,
Маўляў, сваяму дзіцяці
Долю шчасну даравала

І, калі згодна ядына
Наймілейша Кацярына,
Зручыць нас не адмаўляла».

Кацярынка ж, як стаяла,
Тут жа к нагам ёй прыпала,
А так міленька глядзіць,
Што пані і расплылася,
Крэпка з ёю абнялася,
Дый ну ж ім благаславіць.

Хоць Гапон чыноў дажыўся,
Да ведаў, з каго радзіўся,
Не хацеў прынараўляць
Паном,— а простым звычаем,
Ён мужыцкім абычаем
Здумаў вяселле сыграць.

Вот у ўдавы Агрыпіны
Гаспадароў повен двор,
А наперадзе дружыны
Стаіць важна сват Хвядор;
У руках з гарэлкай пляха,
А чарка таўста, як вол,
Міргнуў! — і Малання-сваха
Абрусом накрыла стол.
Ён пляшку з чаркай паставіў,
Разны закускі дабавіў
Дый з галавы шапку зняў;
Агрыпіне пакланіўся,
Водкі да яе напіўся
І такі рэчы начаў:

«Нех бэндзе Езус Хрыстус пахвалёны!
Для спасення грэшных і Марыі зрадзоны.
Не прыйшлі мы чарадой ад сябе,
Да прыслаў нас Гапон да цябе.
Ёсць у цябе Кацярынка-дочка,
Яна ў маці, як правае вочка;
Дый Гапон наш малады,
Ён цару верна служыў,
Чыноў, почасцей нажыў,
Хват-дзядзіна — хоць куды!
Б'ём мы ўсе чалом вашэці!
Зазаві яе із клеці,

Няхай з намі пагуляе
Дый гарэлкі папытае».

Тут дзяўчаты, маладзіцы,
Кацярынку із святліцы
Чэсна пад ручкі вядуць
І такі песні пяюць:
«Ото ж табе, Хвёдарка,
Увядзёнка Кяцярынка;
Калі яе любіш — дай пірог,
Калі не любіш — то вон за парог!
Не хваліся, што ў нас быў,
Што нашай Кацярынкі не злюбіў».

Хвёдар маладу ўстрачае,
Поўнай чаркай прапівае,
Пірог, сыр кладзе на стол;
Гарэлка у міску льецца,
Рублявік на дне бадзецца;
Разгуляўся сват вясёл.

А дзеўкі водку забралі,
Закускі, пірог і сыр,
У істопку пабяжалі,
Галосячы на ўвесь мір;
Уздаволь там пілі, елі
І гэтакі песні пелі:

«Мовіла бочачка, у піўніцы стоячы:
Калі мяне не вып'еце,
Сама выкачуся,
Па дварэ разальюся
Ракой да крыніцай,
Сцюдзёнай вадзіцай.
Мовіла Кацярынка, у маці седзячы:

Калі мяне не выдасі,
То я сама пайду,
Па дварэ памаленьку пабраду,
За вароты угрунь пабягу».

Тут яны у позну ночку,
Аж да яснага світочку
Пілі, елі дый гулялі,
Запоіны праважалі.

А ў суботу вечарком
За Грыпініным сталом
Сядзела така дружына:
На пачэсным на куце
Важна гаворку вядзе
Перша сваха Акуліна.

Дружкі ўправа, возле сваці,
Дзве прыгожы маладзіцы,
То Гапоніны сястрыцы,
Хоць не адной яны маці.

Ўлева наменснік сядзіць,
Жадна на пляшку глядзіць.
Далі сустрэнеш Гапона
Дружкоў, Янку да Мірона,
На канцы ж хросны Даніла,
То маладога вазіла.

А сват Хведар то і дзела
Гарэлку ўсцяж падлівае,
Новы закускі стаўляе:
Пірагі, сыр, — што прыспела.

Тут чатыры маладзіцы
Цягнуць дзяжу із святліцы,
На крыжу яе стаўляюць,
Бел каравай рашчыняюць;
Сваха муку ім прыносіць
Дый благаславення просіць:

«Ёсць тут Бог дый матка,
Радзоныя і суседзі блізкія,
І дальнія мужы сустрэчныя,
Бабкі запечныя,
Дзеткі заплечныя,
Благаславіце краснай панне каравай учыніць».

Каравайкі ж пры рабоце
Пяюць у добрай ахвоце:

«Благаславіце, людзі,
Блізкія суседзі;
Гэтаму дзіцяці каравай замясіць
Ручкамі бяленькімі,

Персцянямі залаценькімі,
Песнямі весяленькімі».

— «Ты ступ, Божа, з неба,
Як нам цяпер трэба;
Памагаў рашчыніць,
Памагай замясіць.
Не стой, Божа, за дзвярмі,
Да йдзі, Божа, ў хату,
Да сядзь, Божа, на куце,
Да дай долю маладзе!»

— «Я у хату не пайду,
Я за дзвярамі пастаю,
Маладзе долю перашлю».
«Збірайся, родзе!
Да к беленькаму караваю,
Старыя бабы ля парадку,
Маладыя маладзіцы песні пець,
Удалыя малайцы каравай печ».

Ды штоб усё расказаці:
Які парадак у хаце,
Як змовіны адбылі
Дый каравай адпяклі,
Як хлопцы, дзеўкі скакалі
«Лявоніху», то «бычка»,
«Мяцеліцу», «казачка»,
Як маладую саджалі
На пасад, — казка така,
Што не стала б языка.

Вот прыйшла нядзелька красна,
Засвяціла зара ясна;
Гапон наш мундзір надзеў,
Шчыра уздыхнуў да Бога,
Сеў на каня варанога
Дый к маладой палялцеў.

А дружкі, Янка з Міронам,
Віхрам садзяць за Гапонам;
Следам хлопцаў грамада
Ляціць — песні запяваець,
Вецер світкі развяваець.
Ну, прыгожа чарада!

На канцы вазка Даніла
Гудзіць! — колькі зможа сіла,
Канём музыку вязе;
Ананя ж прыпяваець,
Ёмка смыкам падсякаець,
Не заўважыў, што трасе.

Як заехала дружына,
З хаты выйшла Агрыпіна,
Надзеўшы кажух наўзнак;
Чарку Гапону падносіць,
У святліцу зайсці просіць
І рэчы выводзіць так:
«Зяценька!
П'ю да цябе поўным кубкам,
Добрым здароўем,
Што мыслю сабе,
То і табе».

Гапон чарку бярэ ў рукі,
Двойчы выліў за сябе,
А трэці раз для вырукі
Белы рублявік кладзе.
Грыпіна чарку прымае,
У святліцу запрашае.
Дзеўкі ж карагодам ходзяць,
Жалабны песні заводзяць:

«Хто ў полі паціхоньку гукаець?
Там Кацярынка свайго таткі шукаець.
Хоць шукаець, не шукаець — не знайдзець.
Ой, далёка яе татачка, далёка,
У сырой зямлі, у жоўтым пяску глыбока.
Да зрабілі добры людзі вечны дом,
Без дзвярэй, без аконачка, без сонца,
Не прамоўлю, дзіцятка, ні слоўца».

Тут настала частаванне
Дый падаркаў раздаванне —
Сотню паясоў, маўляў!
Свата ручнікам звязалі,
Баклагу у рукі ткалі,
Штоб гарэлкі больш дастаў.

Лубку з жытам падстаўляюць,
Маладу на ёй саджаюць,

Як каралеўну на ўрад;
Яна жа усцяж галосіць,
Кругом паклоны разносіць
Дый зноў сядзе на пасад.
Дзеўкі, хлопцы п'юць, гуляюць,
Пад скрыпачку падпяваюць:

«Скочыла Кацярына з лаўкі далоўкі,
Скланілася мамачцы нізка ў ножкі,
Коркамі зямлю парыла,
Слёзкамі ножкі памыла;
Карыся, Кацярынка, старому,
Кланяйся і маладому,
З паклонаў галоўка не баліць,
Стары і малы благаславіць».

Як баш нявесту прыбралі,
Да двара так паскакалі
Яснай пані чалом біць,
На вяселле папрасіць.
А пані — не пані, маці!
Маўляў роднаму дзіцяці,
Прыгожы пасаг дала,
Радасну слёзку ўраніла,
Маладым благаславіла,
Сама к вянцу павяла.

Ксёндз маладых спатыкае,
На ўсё жыццё іх злучае;
А як скончыўся абрад,
Скрыпіцелі[9] загудзелі,
Дружкі весела запелі,
Дый вярнуліся назад.

Паню на кут запрасілі,
Пры ней ксяндза пасадзілі,
Сват парадкам начаў чэсць;
Піва, мёд ракой ліліся,
Каўбасы з салам найшліся,
Уздаволь было піць, есць.

Дзеўкі, хлопцы, маладзіцы
Цэлу ночку па святліцы
Бадзяліся, хто як змог.
Як у гаршку, там кіпела,

Ад пылу аж пацямнела,
Суматоха — што крый Бог!

Я на том вяселлі быў,
Піва, мёд, гарэлку піў,
У роце здаволь было,
Аж па барадзе цякло.

*1854*

## БЛАГАСЛАВЁНАЯ СЯМ'Я

Апавяданне вершам у 3-х карцінах
(урывак)

О, магіла бацькоў! — любых продкаў сядзіба!
Я вітаю цябе, мая родная скіба!
Я душою твае бачу ціхія нівы
І прыгадваю час — час мінулы, шчаслівы!
Маладыя гады ў думках я ўспамінаю,
Бо ўздыхаць на ўвесь свет не люблю, не жадаю.
Што мне пекны Парыж, Рым прыгожы і слынны,
Што швейцарскія горы, старыя Афіны.
Што мне Вена, Мадрыд, што мне Лондан туманны,
Больш за ўсё я бацькоўскаму краю адданы!
Тут прывольна і ўтульна на ўлонні прыроды!
Тут і птушкі спяваюць прыгожа заўсёды!
Тут і сонца на свет весялей пазглядае!
І любоў гарачэй тут у сэрцы палае!
Тут, як пройдзе зіма, час к нам вернецца весні,
Заспявае жаўрук свае звонкія песні,
Ветрык з поля раптоўна лагодна павее,
Малады скача ■ радасці, дзед маладзее!
Тут нявеста, што болей не знойдзеш вярнейшай!
Тут дзяўчына, што ў свеце няма прыгажэйшай.
Тут ёсць праўда і шчырасць, тут людзі з душою!
Тут бацькоў маіх прах пад сырою зямлёю!

## ХАЛІМОН НА КАРАНАЦЫІ

### ПЕСНЯ 2

**Каранацыя**
(урывак)

«Над горадам зорка ясна засвяціла,
Настаў дзянёк важны, — і Масква ажыла!
Крычыць на ўсё горла народ весяленькі,

Што навясціць горад царочак дабрэнькі.
Не адзін прыбудзе у сваю сталіцу,
Ён прывядзе з сабою красную царыцу;

А як рой за маткай, за царком паночкі,
Радня, генералы, заморскі князёчкі,
Парадкам уедуць, і месца па чыне;
Ў залатых карэтах белыя княгіні,
А на іх брыльянты, маўляў на абразках.
Гэтакае ж дзіва чуваць толькі ў казках!

Ад Цверскіх рагатак[1] да сама Крамліна
Убраны палацы, баш к вянцу дзяўчына!
На вокнах, на ганках атласы, дываны,
У квяцісты ўзоры дзіўна маляваны!
Часам калі летам мак раскрасіць градкі,
Так цвіце ад Крамля да Цверскай рагаткі.

А народу ж, дзеткі, адкуль узялося!
Вось на бальшом полі густое калоссе;
Тоўпіцца пры Крэмлі, па вуліцы мнецца,
Адзін на плот лезе, другі на дах пнецца;
На ганках палацаў, штоб месца здабылі,
Карбованцаў дваццаць ахвотна плацілі.

З вялікага жару курацца чупрыны.
Аж дожджык з дзявятай стаў прышчыць гадзіны.
Людзі аразвелі, усяк рот разінуў,
Рад, што хоць капельку вадзіцы праглынуў.

На гарадской вежы выбіла дзясята,
І вось адазвалась вяліка гармата.
Яна разы дзевяць страшна заравела,
І новым вяселлем Масква закіпела.

Па вуліцы войскі шыкавацца сталі
І народ цікавы на бок разагналі;
Ў Чудаўскім касцеле да вышня мацара
Ксяндзы шлюць малітвы за доўгі дні цара.

Трэці час ударыў, зноў гудзе гармата,
Званы па ўсёй Маскве весцяць людзям свята;
У Пятроўскім дварцы князі сабраліся,
І царок сеў на каня, ў горад панясліся.

Пад'язджаюць к месту; гарматы гульнулі —
Семдзесят выстралаў і адзін плюнулі;

Тут цара ваенны губернатар стрэціў,
У яго сталіцы чэсцію прывеціў.
З землянога ж граду гарадскія чыны
Спатыкаюць госця, вядуць да Крамліны.

Вось к гораду белу царок прыхіліўся,
І шляхецкі маршал яму пакланіўся,
А пры Васкрасенскіх варотах прысталі,
Злезці з каня госцю, хто змог, памагалі.

Там Іверска мацер — быццам у святыні,
Памаліліcь крыху цар, князі, княгіні
Ды ізноў на места свае прысядаюць
І к Спаскім варотам важна пад'язджаюць.

Камендант чакае царыцу, царочка
З кучай генералаў ад бела дзянёчка,
Пры Успенскай цэркві сенацкі вяльможы
Праважаюць гасцей у прыбытак Божы.

І знову гармата агню даваць стала,
Восемдзесят і пяць разоў закрычала;
Моліцца цар з князямі ў касцёле Успення,
Быццам ангельскае ляціць адтуль пенне.

Далей яны пайшлі з кучай багамолаў
Чэсць гасподню чыніць да другіх касцёлаў;
А народ вясёлы на дварэ бадзецца,
А свята малітва да неба нясецца!

Мы вось з Шавалонкам на дварэ Крамліна
Глядзелі на дзіва; якаясь кручына
Налягла на сэрцы, стала мне маркотна,
Што царок дабрэнькі забыў Забалотна.

Няма чаго казаць! — чэсна прынімалі,
Па два карбованцы у дзень нам давалі,
І квацера наша малявана, красна,
Чыста, весяленька, абалона ясна.
Да вот бы хацелась блізка падзівіцца
Добраму царочку, з ім разгаварыцца:
Сказаў бы я смела, як мы таму рады,
Што, маючы дзетак нясметны грамады,

Ён паляку, рускім, сынам Русі-белай
Без выбару бацькай для грамады цэлай.
Яму б са слязінай ў ногі пакланіўся,
Прасіў да маліў бы, вось пакуль дабіўся,
Штоб над мужычкамі шчыру меў апеку,
Вялеў справіць розум цёмну чалавеку,
Штоб дзетачак нашых чытаць навучылі,
Штоб Бога па ксёнжцы за цара малілі...

*Жніўня 20 дня 1857 года, Мінск*

## ВЕРШ НАВУМА ПРЫГАВОРКІ

### На прыезд да места Мінска Апалінарага Концкага, Уладзіслава Сыракомлі і Станіслава Манюшкі

Засвяцілі тры звёздачкі ў пару нам шчасліву!
Зляцелі тры сакалы дый на нашу ніву!
Не звездачкі то нябесны, што ярка мігаюць,
Не сакалы, што шырока бушуюць у полі;
А прыбылі тры дудары — так пяюць, іграюць,
Што ангелы надзівіцца не ў сіле здаволі!

Адзін дудар з ляцкай нівы, то ж братняя ніва!
Другі з Вітавай усадзьбы — быццам адной мацi!
Госцікі ж то дарагенькі! — нечага казаці,
Сэрцам, душой іх прымайце! — то ж, міленькі, дзіва!
А трэці дудар меж намі узрос, ён нам братка,
Яму мінская зямелькародненькая матка!

Адзін смыкам як пацягне па сваёй скрыпіцы,
То салодкі брызнуць слёзкі, маўляў із крыніцы;
Душа жарам абальецца, ад роскашы млее,
Баш па працы чарка водкі жывот абагрэе.

Другі дудар як запяе пад дудку сваячу,
Вось і добры пан заплача — і я з ім заплачу.
Із губ сыплець ён славечка, як краскі прыгожы,
Рубіць пярцом, як тапарцом, праўдай на свет Божы.
Чаму ж гудуць яго песні, быццам салавейкі? —
Бо усе пад свойску дудку, ўсё з роднай зямейкі!

Трэці дудар як загудзе песенькі радненькі,
Бяды дый гора забудзеш, станеш весяленькі!
А так думкі прыуныўны соладка спявае,
Што за сэрца, баш кляшчамі, дзетачкі, хватае!

Злосна вам, сыны заморскі, завідна, панята!
Што славянская зямелька у розум багата;
Вы б хацелі ўсе розумы — і свае, і нашы,
Маўляў саранча на ніве, паесці у кашы
Не даждання ж, мудрагелі! — і нашая ніва
Вялікімі дударамі уздаволь шчаслівa! —
Біце ж чалом тром сакалом, хлапцы, маладзіцы!
Гэта ж кветкі з свойскай веткі, славянскай зямліцы!

*25 кастрычніка 1856 года*

## ДА УЛАДЗІСЛАВА СЫРАКОМЛІ

От жа ветлівае сонца
Разагнала утрапенне.
Бліснула ў маё аконца
Светлай радасцю праменняў.

Зорка, што вяла паэта
Ў цемры па сялянскім полі,
Засвяціла, як прыкмета
Паляпшэння маёй долі.

Мову сэрца майго ўчула
Беларусь, о край гасцінны,
І да сэрца прыгарнула
Дудара, як свайго сына.

Так, дарагі Уладзіславе! Пачцівая Беларусь, адгадаўшы мэту, да якой з такой цяжкасцю, а разам і з такой няўдачай асмеліўся я імкнуцца, падала руку дапамогі і заахвоціла нейкім чынам, каб на сваёй няўдзячнай ніве працаваў і далей. Больш, чым я заслугоўваю, адзначыла беднага песняра, які з яе народнай мовай выступіў на ніве роднай літаратуры.

Добры люд на гэтай Беларусі! З гарачым у сэрцы замілаваннем захоўвае ён даўнейшыя свае простыя звычаі, даўнюю цнатлівасць дзядоў і бацькоў сваіх!

Там амаль кожны гаспадар з ахвотаю і энтузіязмам паўтарае перад грамадою сваіх сялян тое, што толькі на іх мове надрукавана, таму што ён сваіх сялян дзецьмі сваімі называе.

## ЛІТАРАТАРСКІЯ КЛОПАТЫ

Апавяданне ў 3 частках

*Да Уладзіслава Сыракомлі*

(урывак з 1-й часткі)

Ой кепскія ў нас справы, Ўладзіславе!
Ўслужыць нялёгка справядлівай славе!
Ссылае Бог на голаў мне дакукі.

Вястуне наш! — калі йшчэ служаць рукі,
Пакінь пяро! Спыні аб праўдзе словы, —
Насі ваду або ідзі сеч дровы.

Яшчэ табе, Вястун, так-сяк вядзецца,
Бо да выбраннікаў належыш кола,
І муза да цябе мілей смяецца,
А песні слаўныя тваё наўкола
Ахвотна слухаюць усе, нямала
Купляюць, каб не трапіць між адсталых.

Аднак не вер, што модныя салоны
З ахвотаю твае хапаюць творы, —
Для іх мілейшыя чужыны плёны,
Рамансы франкаў — вось чытання ўзоры.
А ліра свойская ўзбуджае смехі —
Яна для чэрні, пад гнілыя стрэхі!

Калі ж і ўбачыш мо дзе ў свеце модным
Ці «Хатку ў лесе», ці то «Дэмбарога»[1],
Яны не рушаны, клянуся Богам!
Лісты нат не разрэзаны ў ніводным.
На працячкоў тут пастка: хай не баюць,
Што песняроў сваіх паны не знаюць.

А што ж дае мая скупая ніва,
Быллём парослая? Шмат трэба працы,
Пакуль уробіш! Дык хачу прызнацца,
Што трачу дух. Я гэтак клапатліва
Шмат месяцаў тварыў, і ўвесь здабытак, —
Што многа слоў пустых пачуў і крытык.
Здароўя шмат забрала гэта праца!
Якім паддаўся прыніжэнням, мукам,
Пакуль яе ўдалося выдаць друкам,
Табе, Вястун, хачу цяпер прызнацца.

Ты, Уладзіславе, дай параду дарагую,
Бо думак і праектаў маеш ты нямала,
Якой пайсці дарогай? Ці ўкажы другую,
Каб аўтара галодная смерць не забрала.

*Мінск, снежня 10-га. 1856 г.*

## ЛЮЦЫНКА, АЛЬБО ШВЕДЫ НА ЛІТВЕ

Гістарычнае апавяданне ў 4 абразках

(урывак)

Мова родная! — часам як лірнік наш слынны
Песню аб сінявокай літоўскай дзяўчыне
Распачне мілагучна... Ну, як не здзівіцца!
Як жа сэрцу ў грудзях нашых моцна не біцца!
Верш чытаеш — і быццам бы Рым гераічны
Паўстае у вачах,— люд да подзвігаў звычны,
Што змагаўся ў Кейстута часы і Ягелы
І што перамагаў. Быль даўно ўжо сатлела,
Косці іх спарахнелі ў зямлі, але з імі,
Верш чытаючы, стрэнешся нібы з жывымі.
Прыгадаеш іх справы — на сэрцы салодка,
Кроў бурліць, ажывае ў табе мужнасць продкаў.
Не мілей хіба нам наша родная мова,
Дзе падкрэслена слава народу праз слова?
Прыгажосці яе мы часамі не знаем
І таму чужаземную мову ўжываем...

*Д. 13 мая 1857 года, Люцынка*

## ІДЫЛІЯ

Опера ў двух актах

(урыўкі)

АСОБЫ:

Кароль Лятальскі.
Ян Дабровіч, яго сваяк, ранейшы апякун.
Юлія, яго дачка.
Банавантура Выкрутач, камісар маёнтка Лятальскага.
Уршуля, яго жонка.
Шчырэцкі, падданы, звольнены ад паншчыны.
Ян Губач, слуга Лятальскага.
Іцка, арандатар у маёнтку.
Навум Прыгаворка, войт.
Ціт і іншыя сяляне з вёскі Лятальскага.

*(Па загадзе Выкрутача войт Навум Прыгаворка збірае ўсіх сялян у карчме. Камісар аб'яўляе, што з-за мяжы вяртаецца іх пан. Ён ужо даслаў загад былому сваўму апекуну даведацца, ці крыўдзяць яго сялян. Але калі хто з мужыкоў паспрабуе паскардзіцца, то атрымае бізуна.*

*Юлія, пераапранутая ў сялянскую вопратку і выдаючы сябе за дачку Шчырэцкага, чакае маладога пана. Яна паставіла за мэту «пакарыць яго сэрца і прывязаць да сябе» і такім чынам адкрыць Лятальскаму прыгажосць роднай зямлі. Юлію*

*сустракае Навум Прыгаворка і вырашае, што гэтая вясковая дзяўчына павінна стаць яго жонкай. Лятальскі прызнаецца, што «мімаволі закахаўся ў нейкую сялянку... я, каторы дагэтуль лічыў іх за быдла».)*

## СЦЭНА IX

Кароль і Юлія.

Юлія. (*Убягае, ціха спяваючы, а ўбачыўшы Кароля, кланяецца і хоча далей ісці, ён яе не затрымлівае.*)

Кароль. Куды ж гэта так спешна?

Юлія. Бягу ў фальварак; бацька мяне пасылае; а сюдою якраз бліжэй будзе.

Кароль. Ці не падорыш мне хвілінку на размову?

Юлія. Што пан скажа мне? Я слухаю.

Кароль. Папраўдзе, Югася, я на цябе крыўджуся: здаецца мне, што ты ўхіляешся ад спаткання са мною. Другія далёка шчаслівейшыя: з імі ты гаворыш; толькі адзін я не маю гэтай ласкі.

Юлія. Скажу пану шчыра: я іх не баюся і рада з імі сустракацца; але пан... прызнаюся... пан здаецца мне небяспечным, і з гэтай прычыны я мушу ўхіляцца яго.

Кароль. А чаму ж я небяспечны для цябе?

Юлія (*сарамліва, праз сілу*). Бо... бо...

Кароль (*бярэ яе за руку*). Што ж? На Бога заклікаю цябе, дакажы.

Юлія. Бо... бо... пан здаецца мне вельмі мілым, пане мне падабаецца.

Кароль. Ты не паверыш, як я за тваю шчырасць удзячны табе! Ах! Югася! ведай жа, што і я цябе люблю! вельмі люблю...

Юлія. Тым горай для нас, і тым больш не павінны мы сустракацца.

Кароль. Чаму ж?

Юлія. Нашто ж нам гэтае дарэмнае каханне? Пан мяне не возьме; а я не веру, каб такая шляхетная постаць магла таіць у сабе сэрца, здольнае пакрыўдзіць бедную дзяўчыну.

Кароль. О, Югася! чаму ж ты не радзілася роўнаю мне?

Юлія. І што ж бы тады было?

Кароль. Ані жаднага вагання!.. Ахвяраваў бы табе сваю руку: бо сэрца маё, ад першага спаткання, запалонена табою.

Юлія. Даруй пан, але я не вельмі таму хачу верыць. Мужчыны заўсёды так штораз новых здабыч прагнуць... так яны здрадлівы!..

*Спеў*

Юлія

№ 6

Мужчына кожнай сочыць след,
Бландынкі ці брунеткі;
Любіць усіх прыгожых — мэт
Дзяўчыны і кабеткі.

Ўздыхае дотуль, слёзы лье,
Аж сэрца не падстрэліць;
Праз хвілю, глянь!.. той хітры змей
Ўжо з іншай любасць дзеліць.
Дык калі сэрца праб'е ўлёт,
Хай розум яго лечыць;
Бо хоць мужчына повен цнот,
Нясталасць іх нявечыць.
Дзяўчына! слухай маіх рад,
За хлопцам не ганіся;
Кінь род мужчынскі, поўны здрад,
Ды ў манастыр замкніся.

Кароль. Аднак жа, дарагая Югася, хоць ты такая зласлівая і так прыкра аб мужчынах судзіш, павінна мне паверыць: бо я цябе люблю, вельмі люблю, і нават не ведаю, да якога шаленства гэтая любоў давесці можа. Але ж твой погляд такі мілы, такі захопны, што душу палоніць! О! не глядзі так на мяне, не глядзі, бо розум страчу!.. Так, Югася! Югася! ты мяне ачаравала.

Юлія. Пане! а парыжанкі што на гэта скажуць?

Кароль. О! яны ўжо зусім вылецелі ў мяне з галавы. Дый ці ж можна пры табе думаць аб кім іншым? Цяпер адзінае жаданне нарадзілася ў маім сэрцы: у шчаслівым вясковым зацішы, далёка ад турбот і непакою свету, на ўлонні падобнае да цябе вернай таварышкі, сярод падданых, як сярод уласных дзяцей, праводзіць рэшту дзён жыцця і не жадаць на зямлі іншай раскошы.

Юлія (*у захапленні*). Кароль, дарагі!.. (*Тут чуваць, як трубіць пастух.*) (*Убок.*) Ах! што ж гэта я хацела зрабіць? Увесь бы свой замер папсавала!..

Кароль. Што гэта значыць? Хто гэта там трубіць?

Юлія

№ 8

Гаспадары дзень працы штодзённай канчаюць.
Усё смагне спачынку а захадзе сонна.
Жвава з поля жывёла ідзе па пагонцы.
Потам зліты селянін да хаткі спяшаець;
А той спеў яго смутны, што мкне рэхам,
Знача, як яго ціснe да болю нядоля.

Здалёку чуцен хор сялян, які штораз прыбліжаецца.

Кароль. Прыемна і соладка гаварыць мне з табою, але скора могуць нам перашкодзіць. Дык покі не разышліся мы з табою, прашу цябе, дарагая Югася, абяцай мне, што споўніш маю просьбу.

Юлія. Што ж бы я пану адмовіць магла? Я ж пераканана ў тым, што нічога такога не пачую ад пана, што б не згодна было з шляхецкім сэрцам і спосабам яго мыслення.

**Кароль.** О! будзь спакойна — твой твар для мяне так дарагі, як і свой уласны. Але прашу цябе, калі ўсё ў двары спачываць будзе, прыйдзі ў гэты сад. Я тут чакаць цябе буду. Падаруеш жа мне хвіль колькі самотных з табою? Ах, толькі час, праведзены з табою, здаецца вобразам надземскай раскошы!

**Юлія** (*думае*). Так... не адмаўляю... прыйду сюды. Каля таго дрэва няхай пан мяне чакае. Але памятай, але памятай, пан, што гонар для беднай вясковай дзяўчыны — бясцэнны скарб яе і ніякай ахвяраю ў свеце не можа быць акуплены. (*Адыходзіць.*)

## СЦЭНА X

Кароль (адзін). Штораз больш цямнее.

**Кароль.** О шчасце! яна падзяляе пачуцці мае! Яна прыйдзе сюды, каб напоўніць душу маю выяўленнем свайго светлага розуму, свайго мілага і павабнага сэрца! яна абдаруе мяне хвілямі, за якія паўжыцця свайго аддаў бы! Дзіўны кірунак лёсу! так нядаўна яшчэ ці ж бы мог я падумаць, што адна сялянка стане прадметам майго найчысцейшага кахання? (*Адыходзіць задумаўшыся.*)

*(На спатканні Лятальскі аб'яўляе, што, нягледзячы «на розніцу станаў, бярэ Югасю за жонку... пакіне свет і будзе жыць сярод падданых». Дабровіч з радасцю благаслаўляе дачку і Лятальскага, адкрываючы, што Югася — гэта Юлія, якая захацела такім чынам адвучыць Кароля ад захаплення чужаземшчынай.)*

# ПІНСКАЯ ШЛЯХТА

Фарс-вадэвіль у адной дзеі

АСОБЫ:

Кручкоў — станавы прыстаў.
Пісулькін — яго пісарчук.
Пінская ваколічная шляхта:
Ціхон Пратасавіцкі.
Куліна — яго жонка.
Марыся — іх дачка.
Іван Цюхай-Ліпскі.
Грышка — яго сын.
Цімох Альпенскі.
Базыль Статкевіч.
Харытон Куторга.
Дзесяць іншых асоб.
Дзясяцкі.

**Дзея адбываецца ў ваколіцы О.... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета. Сцэна паказвае шляхецкую ваколіцу. Гаспадарскія будынкі раздзелены садамі. З боку сцэны — хата заможнага гаспадара; пры ёй — лаўка.**

## З'ЯВА І

Марыся (*седзячы на лаўцы, прадзе і прыпявае*):

№ 1

Цяжка жыці мне, дзяўчаці,
З міленькім ў разлуцы, —
Лае бацька, лае маці,
Што сэрцайка ў скуцы.
Годзе сядзець над прасніцай, —
Я хачу быць маладзіцай!
Маці кажа: век мал оды,
Ой, ты яшчэ мала!
А сама ўжо ў гэты годы
Бацьку пакахала.
Годзе сядзець над прасніцай, —
Я хачу быць маладзіцай!

Ой, так! Няхай ганіць бацька, няхай лае маці, а я люблю Грышку і любіць яго век буду. Ой, бедныя ж нашы галаванькі!.. Што гэта за дур напаў на бацькоў? П'яныя завяліся ды пабіліся з сабою за шляхецтва, а мы з Грышкам праз тое геруем і ныем. Яго бацька падаў на майго ў суд скаргу, і сягоння прыедзе ў ваколіцу найяснейшая карона* на прасоку[1]. У ім цэлае наша спасенне. Як прыедзе, дык мы з Грышкам паклонімся яму ў пояс ды будзем прасіць ды маліць, каб ён пагодзіў нашых бацькоў ды каб яны дазволілі нам пажаніцца. А ён такі сярдзіты, не дапускай ты госпад! Як наставіць адзін вус угору, а другі ўніз ды крыкне: па найяснейшаму ўказу! — то бацькі спалохаюцца ды зладзяць нам вяселле... Ды што гэта зрабілася Грышку? (*Грышка паціху паказваецца з-за дзерава, крадучыся да Марысі.*) Баюся, каб не паўставалі бацькі, — нельга было б пабачыцца з ім. (*Устаўшы, пахаджваючы па сцэне, гаворыць.*) Ой, Грышка, Грышка! Ты штось цяпер зрабіўся вельмі лянівы. Табе, пэўна, сэрца цяпер так ужо не ные па мне... Як прыйдзе, дык пакажуся перад ім сярдзітаю, і хоць будзе прасіць і маліць, каб пацалавала, дык не пацалую. Дальбог, што не пацалую!

## З'ЯВА ІІ

Грышка і Марыся.

Грышка. Дык я ж і прасіць не буду, сам цябе пацалую. (*Цалуе яе.*)

Марыся. Ах, Грышка, нядобры! Як ты спалохаў мяне, гневаюся не жартам!..

Грышка. Гневаешся? Няпраўда! А чаму ж ты на мяне так міленька пазіраеш?

---

* Даўней асэсараў, або засядацеляў, а потым станавых прыставаў, таму што першыя выбіраліся падчас шляхецкіх выбараў, а другія назначаліся ўрадам, — пінская шляхта велічала найяснейшай каронай (*заўвага аўтара*).

Марыся. Так, са злосці!.. Нягодны, дзе ты забаўляўся? Гэта ж зараз прыйдуць бацькі, а мы так многа маем з табою перагаварыць.

Грышка. Выбачай, мілая Марыся, — чуць золак, я з'ездзіў ужо да места, кінуўся ў ногі асэсару[2] і прасіў, каб ён узяў нас пад сваю апеку.

Марыся. Трэба было завезці які гасцінчык.

Грышка. Дык я ж завёз яму двух зайцоў, тры пары цецерукоў ды кадобчык мёду. Ён усе прыняў ласкава і сказаў, што сёння ж прыедзе на разборку справы майго бацькі з тваім. Ой, наварылі бацькі сабе кашы, будзе што есці! Ён вельмі сярдзіты, бо адзін вус калом угору стаў. Будзе вазня!

Марыся. Дай Бог, каб гэта каша нам зубоў не папрышчыла!

Грышка. Ён дакляраваў[3] зрабіць нам вяселле. На Богу ды на ім — уся наша надзея.

№ 2

ДУЭТ

Паклаўшы надзеі на Бога,
Чаго ж гараваць?
Прысяглі любіці да гроба, —
Дык будзем жа ждаць.
  Хоча няшчасная доля
  Навек разлучыці, —
  А Бог скажа: мая воля
  Ім з сабою жыці!
Не памогуць злы языкі,
Ні бацькоў старожа, —
Ён жа такі пан вялікі,
Што хоча, то зможа!

## З'ЯВА III

Тыя самыя. Ціхон Пратасавіцкі і яго жонка Куліна.

Ціхон. Хрэн табе ў вочы, — жонка, а жонка! Хадзі да паўзірайся, як дачка твая з Грышкам Цюхайчыкам галубіцца!

Куліна (*за сцэнай*). Хто? Дачка? Бойся Бога, ды яна ж яшчэ малая. (*Уваходзіць.*)

Ціхон. Які чорт малая! Хрэн табе ў вочы, — хадзі палюбуйся!

Марыся. Якая ж я малая, калі мне на Спаса скончыцца сямнаццаць год?!

Куліна. Маўчы ты, хітрая лісіца! Бачыш ты, як яна скора палічыла гады!

Ціхон. Ах ты, чортаў сыну, — хрэн табе ў вочы! Не годзе таго, што бацька да жывога мяне пакрыўдзіў, назваўшы не шляхціцам, дык яшчэ сынок дачку нам баламуціць.

Грышка. Ды я ж яе люблю і хачу з ею жаніцца...

Ц і х о н. Ось я цябе так пажаню, як твайго бацьку! Жонка, а жонка! Дай мятлу, — хрэн табе ў вочы!

Г р ы ш к а. Што хочаце, тое рабіце, а ўсё-такі Марыся будзе мая! (*Да Марысі.*) Бывай здарова! (*Выходзячы, спатыкаецца з Куторгам і збівае таго з ног, Марыся ўцякае ў хату.*)

## З'ЯВА IV

Тыя ж і К у т о р г а.

К у т о р г а. Ах, ты, паганец! (*Устаючы.*) Татарын ты нехрышчоны! Вот збіў мяне, як шведаў Хадкевіч пад Кіргольмам. Пачакай жа, я ж табе не дарую гэтай штукі, — не цяпер, то ў чацвер. (*Вітаецца.*) Дзень добры, пане Пратасавіцкі! Здарова, пані Пратасавіцкая! (*Цалуе яе ў руку.*) Відна, відна, — дзякуй богу! Здаровы, як рыжкі баровы... А я к вам з вялікаю навіною. Не ведаеце? Толькі што пан асэсар прыехаў, а такі сярдзіты, не дапускай господ! Як ліхі татарын. Як толькі ўехаў у ваколіцу ды стаў каля Бэркі, дык зараз і закрычаў — дзясяцкіх, соцкіх! Сабраць усю шляхту да Ціхона Пратасавіцкага, ды каб Іван Цюхай-Ліпскі прыйшоў з сынам туды ж.

Ц і х о н. Хрэн яму ў вочы, — будзе бяда, будзе! Гэты сабака Ліпскі падаў на мяне ў суд, што я яго адлупцаваў, дык вот і асэсара прыслалі. Ну, абдзярэ як ліпку!

К у т о р г а. Вот дзіва, — на тое ён і асэсар! Заўваж толькі — у яго і рукі даўжэй, як у другіх людзей. Ты ведаеш яго прыпавесць[4]: чырвонае — белае ўсё перадзелае.

№ 3

Гдзе унадзіцца юрыста,
Вымеце хату дачыста,
Такіх дзіваў нагаворыць,
Так многа кручкоў натворыць,
Што, пачасаўшы затылак,
Не рассупоніш памылак.
Не дасі, — цябе замучыць.
Добра стара казка вучыць:
Дзярэ каза ў лесе лозу,
Воўк дзярэ у лесе козу,
А ваўка — мужык Іван,
А Івана — ясны пан,
Пана ўжо дзярэ юрыста,
А юрысту — д'яблаў трыста!

Ц і х о н. Хрэн табе ў вочы! Добра табе прастарэкаваць[5], калі няма на шыі бяды. Ось скажы лепш, што рабіць? Пане Куторга, ты ж такі пісьменны чалавек, — можаш падаць разумную раду.

К у т о р г а. А прымеце ж чэсна маіх сватоў да вашай Марысі?

К у л і н а. Бойся Бога, пане Куторга, — яна ж яшчэ маладзенькая! Гэта ж дзіця горкае.

Ц і х о н. Які чорт дзіця, калі з хлопцамі цалуецца!

К у т о р г а. Дык чаго ж чакаць! Гэта, кажуць, кепскі тавар: мый ды чашы, потым спяшы, — заплаці каму, каб вывез з даму.

Ц і х о н. Добра, пане Куторга, — бяры сабе дачку, і пасаг дам, толькі зрабі ласку: выцягні з бяды.

К у т о р г а. Як чорта з балота.

К у л і н а. Парадзь, пане Куторга, — ты ж такі чалавек бывалы і па судах цягаўся.

К у т о р г а. Ну, я гатоў вам удружыць, толькі як ваша дачка захімерычыцца[6] ды адцураецца ад мяне, то што тады? Вы ж ведаеце прыпавесць: даганяючы не нацалавацца.

Ц і х о н. Ратуй, ратуй, пане Куторга! Марысю ты ладам угамоніш, — чалавек ты разумны. Як падпусціш лёстачак, як падплывеш селезнем, дык яна і расплывецца.

К у т о р г а. То ведаеце што, пане Пратасавіцкі? Як прыйдзе к вам асэсар, то стаўляйце мяне ў сведкі; хоць я і не бачыў, але буду сведчыць, што ён цябе біў, а ты толькі бараніўся. Не жаль для Марысі скрывіць душою. Толькі ж, пані Пратасавіцкая, прышліце сюды Марысю, каб я мог з ею пагаварыць ды ўгаманіць дурную, бач, каб не цуралася разумнага чалавека.

К у л і н а. Памагайце толькі майму Ціхону, а ўжо Марыся будзе ваша; я ёй сама ладам напілую вушы... Пойдзем, Ціхон, прыгатуемся, каб пагаспадарску прыняць найяснейшую карону. А ты, пане Куторга, пачакай, — зараз прышлю Марысю. (*Выходзіць з Ціхонам.*)

## З'ЯВА V

К у т о р г а (адзін).

К у т о р г а. Ну, хвала Богу, бацькоў удалося атуманіць! Цяпер трэба пайсці ў галаву па розум, каб дзеўку амарочыць. Прынадны, бач, кусочак. (*Цалуе пальцы, як бы смакуючы.*) Тварык — як сонейка яснае, шчочкі — як малінкі красныя, губкі — моў тыя каралі, а як засмяецца срэбным галасочкам ды вышчарыць зубкі — то, здаецца, бачыш два перлавыя шнурочкі. Ды і пасаг мае гаспадарскі: адна ў бацькоў, а стары грошы асьмінаю мерыць; у гумне поўна, у хаце дастатак, і абора багата. Добра гутарка кажа: калі абора цячэ, — гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, — гаспадар з хаты ўцячэ. Дык няхай жа дзень у дзень блінамі гасцей прымае. Праўда, век не схожы: я ўжо шосты дзясятак дажываю, а яна — сямнаццаты гадок. Будзе клопату нямала, — о-ёй! Не раз пачашу патыліцу, — моладзь, як пчолы ў вуллі, будуць аблягаць маю хату; прыяцеляў копамі лічыць буду. Дык што ж рабіць? Не я першы, не я апошні, — дурных дзядоў нямала на Божым свеце. Каб сарваць такую прыгожую і багатую кветачку, не шкода і ў балоце пакачацца.

14 Зак. 1799

№ 4

Хто на старасць парыскуе,
Той хоць часам бяду чуе.
А пры маладзенькай жонцы,
Пры руплівай гаспадыньцы
Быць філосафам — то значыць:
Не бач, што не трэба бачыць.
(*Выцягвае над галавою пальцы, паказваючы рогі.*)
Вырастуць над галавой грушы,
Думай, што даўгія вушы.
Гуляе жонка паночы, —
Ты мэрам спіш, зажмур і вочы.
Тады табе — жыццё небам:
Ўсялякім тваім патрэбам
Жонка рада дагадзіці;
Стане крэпка ця любіці.
Скажа: муж мой, хоць старэнькі,
Ды разумны і міленькі!

Так, так! У цяперашнім разумным веку хочаш спакойна жыць? Будзь філосафам: бачыш — не бачыш, чуеш — не чуеш, — ба, ба, бы! Ды вось і Марыся ідзе сюды. Якая красачка! Гледзячы на яе, аж слінка па губах цячэ. Ану, Куторга, падпусці ёй лёстачкі...

## З'ЯВА VI

Марыся і Куторга.

Куторга (*салодка пасміхаючыся, заляцаецца*). Дабрыдзень, панна Мар'яна!

Марыся (*сарамліва*). Дабрыдзень, пан Куторга!

Куторга. А як панна Мар'яна прыгожа выглядае, які свежы тварык, моў ружачка толькі што з пучка! З якой нецярпячкай я ждаў шчаслівага моманту, каб пацалаваць беленькую ручку панны. (*Падыходзіць з камічнай зграбнасцю і цалуе руку Марысі. Тая, адступіўшы назад, абцірае руку фартушком.*) Панна Мар'яна! Вы не чуеце, вы не ведаеце, як я вас крэпка люблю, як па вас ныю.

№ 5

РАМАНС

Рвецца маё сэрца да красненькай розы,
Быццам бы пры колах атоса із лозы.
Па панне Мар'яне душа ўся сумуе,
Быццам бы зязюля жалосна кукуе.
Як не бачу панны, жыццё мне — магіла,

Галоўцы цяжэнька, уцякае сіла.
Ой, высах я, высах, як лапаць у печы!
Горка ж мая доля, хто мяне улечы?
Як цетраў[7] ў лясочку жалосна балбоча,
Так мае сэрцайка да панны сакоча.
Ні верашчака, каўбасы дзялянка, —
Нішто не смакуе без цябе, каханка!
Дам табе зэгар вялікі, як рэпа,
Няхай ён пры сэрцы крэпка тваім клепа
Ды напамінае, як цяжка я ною
І ні ўдзень, ні ўночы не маю спакою...

Марыся (*перабіваючы*). А ведаеце ад чаго гэта, пане Куторга? — Ад старасці! Ды ты ўжо нямала пажыў, — пара аб дзяўчатах перастаць думаць, а маліцца Богу, каб даў спасенне.

Куторга. Стары, стары!! (*У гневе.*)

№ 6

ДУЭТ

Кажаш, што я ладам стары, —
Але — відны, але — яры!
Буду крэпка ця любіці,
Век табе верай служыці.
Малады ж — часта няшчэры,
Не шукай ў ём добрай веры:
Пры табе — табе клянецца,
А з другой — з цябе смяецца.

Марыся

Ды што мне з мужа старога?!
Я хачу майго мілога,
Бо стары, заміж гуляці,
Будзе кашляць і стагнаці.
Грышка мой — хлапец матарны[8],
Малады, відны ды гарны,
Глядзь! Аж душа к яму рвецца
І сэрцайка мацней б'ецца.

Куторга

Але Грышка твой няшчэры,
Не шукай ў ём добрай веры!
Пры табе — табе клянецца,
А з другой — з цябе смяецца.

*(Падчас спеву ўваходзяць станавы з Пісулькіным і хаваюцца па баках, каб падслухаць іх размову.)*

К у т о р г а. Бач, сабака Грышка! Ён клешчам упіўся табе ў сэрца, ды нічога з таго не будзе. Бацька твой дакляраваў мне тваю руку за тое, што я буду сведкай проціў Цюхая-Ліпскага. Найяснейшая карона прыехаў на прасоку па жалобе Цюхая на твайго бацьку, што ён яго пабіў; і калі ты пойдзеш за мяне, дык я гатоў і душою пакрывіць, ды даказаць на следстве, што бацька твой не біў Цюхая; а калі мае не ў лад, то я [redacted] сваім назад. Заспрачаўся толькі, дык [redacted] зараз буду сведкай проціў твайго бацькі. Уехаў твой родны ў нерат — ні ўзад, ні ўперад. Папаўся юрысту ў кіпці — высce ён яго, як упыр[9] непамысную[10] дзяўчыну. А калі б яму і ўдалося перапрасіць найяснейшую карону, то не канец яшчэ бядзе. Ведаеш, што кажуць людзі: чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе. Справа ў суд як пойдзе, дык так дапякуць юрысты, моў баравіка на вуголлях, — адцураецца і сваіх.

М а р ы с я. Дарма ты мяне палохаеш! Мы з Грышкам паклонімся ў пояс найяснейшай кароне, дык ён пагодзіць нашых бацькоў, а табе за крывое паказанне дасць харошую гонку.

К у т о р г а. Што?! Ты думаеш, я баюся асэсара? Ды я такой задам яму пары, што ён не згадае, дзе ўюны зімуюць. Я чалавек бывалы, маю розум і патраплю ладам яго вывесці ў поле, як зайчыка пад хартоў.

## З'ЯВА VII

Тыя самыя, К р у ч к о ў і П і с у л ь к і н.

(*Кручкоў падыходзіць ціха да Куторгі ды б'е яго па плячы; Пісулькін жа з камічнаю ўхваткаю падыходзіць да Марысі, каторая сарамліва і баючыся кланяецца.*)

К р у ч к о ў. Дык ты мяне думаеш вывесці ў поле? Хочаш павучыць, дзе ўюны зімуюць? Пачакай жа, галубчык! Я ж цябе навучу, куды няправых сведкаў садзяць. Гэй, дзясяцкі!

К у т о р г а (*зляканы*). Ваша благароднае сіяцельства! Найяснейша карона! Ды я ж толькі сабе жартаваў, — вот страшыў дурное дзяўчатка, каб яна прызволіла пайсці за мяне замуж. Бацькі благаслаўляюць, а яна казырыцца, — дык я вось так здуру сказаў ёй.

К р у ч к о ў. Здуру хочаш крыва прысягнуць? А знаеш, чым гэта пахне? Па ўказу ўсеміласцівейшага цара Пятра Вялікага, 1779 года, аўгуста 10-га, і па Статуту літоўскаму раздзела, 3-га, параграфа 375-га гэта ўгалоўнае прэступленне, Сібірам пахне. Сібір, Сібір, галубчык! Гэй, дзясяцкі! (*Дзясяцкі ўваходзіць.*) Пасадзі гэтага моладца ў асобую святліцу ды глядзі, каб ён не бачыўся ні з кім, а барані Божа, з гаспадаром не згаварыўся.

К у т о р г а (*выходзячы з дзясяцкім*). Найяснейшая карона! Бойцеся Бога, не губіце беднага чалавека! Мала што язык малоў, — добра прыказка кажа: млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе. Выбачайце майму дуру!

К р у ч к о ў. Якому дуру? Ты ж чалавек бывалы і нядаўна хваліўся сваім розумам.

К у т о р г а (*з бакавых дзвярэй*). Які тут у чорта розум, калі так неасцярожна папаўся ў бяду, бы швед пад Палтавай! (*Выходзіць з дзясяцкім.*)

## З'ЯВА VIII

Тыя самыя, апрача Куторгі.

**Кручкоў.** Ну, пане Пісулькін, пакінь ваша заляцанне, а бярыся за дзела. Тут, брат, нам харошае жніво!.. Гэй, дзясяцкі! (*Той уваходзіць.*) Пастаў тут пасярэдзіне стол ды накрый яго судовым сукном. (*Дзясяцкі выпаўняе прыказанне.*) Харошая пагода, можна і на дварэ папрацаваць. Садзіся, пане Пісулькін, ды прыбяры бумагі. (*Пісулькін важна садзіцца, вымае корак з чарніліцы, разбірае паперы і іншыя падае станавому, каторы садзіцца таксама пры стале, задам да Пісулькіна, а потым гаворыць да Марысі.*) Ну, Марыся, хадзі сюды, пабліжэ, дык кажы мне шчырую праўду, — ты ж бачыш, што ў мяне вусы не натапыраны, дык я не сярдзіты, — кажы: любіш ты Грышку Ліпскага?

**Марыся** (*саромячыся і перабіраючы фартушок*). Ну, дык што?..

**Кручкоў.** За што ж ты яго палюбіла?

**Марыся.** Сама не ведаю, — вот так штось прыпаў к сэрцу. Ды як жа яго не любіць, калі ён малады, прыгожы хлопец, а сэрца ў яго залатое.

**Кручкоў.** Дык хош за яго замуж выйсці?

**Марыся** (*з сарамлівасцю*). Але, хочу... калі за яго не пайду, то ўжо век мне, беднай, гараваці дзеўкай. Найяснейшая карона! Злітуйцеся над намі ды сатварыце наша шчасце! (*Кланяецца яму.*)

**Кручкоў.** Чаго ж ты хочаш ад мяне?

**Марыся.** Найяснейшая карона! Скончыце дзела няшчаснае між нашымі бацькамі не па-судоваму, а па хрысціянскаму абычаю: пагадзіце іх з сабою, — няхай больш не індычацца, ды прымусьце, каб яны нас з Грышкам злучылі. Найяснейшая карона! (*Кланяецца яшчэ ніжэй і жаласліва кажа далей.*) Ты ж такі, хоць чалавек судовы, чыноўны, ды, пэўна, верыш у Бога, — дык дзеля ласкі Божай сатвары ты нам ласку, зладзь нашае шчасце, а мы век будзем за цябе, тваіх дзетак і ўнучкаў Бога прасіць.

**Кручкоў.** Но, но, мілая, будзь спакойна! Я хоць чалавек, як кажаш, судовы, але ўсё зраблю па-хрысціянску ды яшчэ на тваім вяселлі паскачу... Гэй, дзясяцкі! (*Той уваходзіць.*) А чы сабралася шляхта з ваколіцы?

**Дзясяцкі.** Усе сабраліся, хто з курыцаю, хто з кадобчыкам мёду, а хто з сушонай рыбай. Чакаюць, што ваша міласць ім прыкажа.

**Кручкоў.** Добра! Няхай усе аддадуць хурману, ды спакуйце там харашэнька ў возе... Ты пакліч сюды Ціхона Пратасавіцкага з кабетаю. А Цюхай-Ліпскі з сынам ёсць?

**Дзясяцкі.** Цюхай апроч мёду і рыбы прыцяг дзесяць вянкоў сушаных баравікоў, а сын яго — капу ражынкаў-уюноў.

**Кручкоў.** Добра, добра! Усё ўпакаваць асцярожна! Ды кліч усіх сюды! *(Дзясяцкі выходзіць. Кручкоў строіць сур'ёзную фізіяномію: адзін вус ставіць угору, другі ўніз. З глыбіні сцэны выходзіць шляхта, баіцца, кланяецца нізка і хаваючыся адзін за другога. З бакавых дзвярэй выходзіць Ціхон Пратасавіцкі з жонкаю. Марыся зыходзіцца ў глыбіні сцэны з Грышкам, і яны ціха шэпчуцца паміж сабою.)*

### З'ЯВА IX

Тыя самыя і Ціхон Пратасавіцкі, яго жонка, Цюхай-Ліпскі, яго сын Грышка, Цімох Альпенскі, Базыль Статкевіч і іншая шляхта.

Ціхон. Жонка, а жонка! Будзе бяда! Паглядзі, як у найяснейшай кароны вус адзін уніз, а другі ўгору задраўся. Ідзі ты наперад ды пакланіся яму, — хрэн яму ў вочы.

Куліна. Што ты мяне пасылаеш! Ты сам наварыў піва, сам і папівай здароў, я баюся.

Ціхон. Ты — кабета, хрэн табе ў вочы, — ён жа цябе не з'есць! Вазьмі гэтыя грошы, — тут іх пяць дзясятак — пакланіся ў ногі ды палажы на стол; ён жа юрыста, не адцураецца грошай, — тады і дзела пойдзе як па салу.

Куліна. Ну, што рабіць, — папытаю. (*Яна боязна падыходзіць, кладзе грошы на стол, пасля нізка кланяецца станавому.*) Найяснейшая карона...

Кручкоў. Цішэ! (*Куліна са страху адыходзіць ад стала ды хаваецца за мужа; Кручкоў, трымаючы паперу, устаў ды, не пазіраючы на шляхту, гаворыць.*) Па ўказу Пінскага земскага суда от 23-го мая сего года за № 2312 прыбыл я в околіцу для расследованія уголовного дзела о побоях, нанесенных Ціхоном Протосавіцкім Івану Цюхаю-Ліпскому... Ліпскі, маеш сведкаў?

Ліпскі. Маю, найяснейшая карона.

Кручкоў. Пусць выступят вперёд! (*Трое шляхтаў выходзяць наперад.*) Пратасавіцкі, за што ты яго біў?

Ціхон. Дык ён жа назваў мяне мужыком, — хрэн яму ў вочы.

Кручкоў. Маеш сведкаў?

Ціхон. Маю, Куторгу.

Кручкоў. Яго няможна ставіць, — ён пад судом. (*Абярнуўшыся да сведкаў Ліпскага.*) Вы бачылі, як Пратасавіцкі біў Ліпскага?

Тры сведкі (*боязна кланяючыся*). Бачылі, найяснейшая карона.

Кручкоў (*абярнуўшыся да іншай шляхты*). А вы бачылі?

Усе іншыя. Не, не бачылі, найяснейшая карона!

Кручкоў. Ну, дык добра! Следства кончана, цяпер будзе суд, а наўперад: па ўказу всеміласцівейшай гасударыні Елісаветы Петровны 49-га апреля 1893-га года і всеміласцівейшай Екацярыны Вялікай от 23-го сенцябра 1903-га года, а равномерно в смысле Статута літоўскаго раздзела 8-га, параграфа 193-га, коім назначается в пользу суда от цяжушчыхся грывны. Обжалованный Протосавіцкі імеет зараз жа ўплаціць пошлін 20, прогонных 16 і на канцэлярыю 10 рублёў. Жалуюшчыйся Ліпскі ў палавіне того; сведкі, каторыя бачылі драку, а не баранілі, — па 9-ці рублёў, а вся прочая шляхта, што не бачыла дракі, за тое, што не бачыла, — па 3 рублі. Плаціце! (*Садзіцца на месца ды піша; шляхта шэпчацца паміж собою, пасля выбраны ўсімі зборшчык Цімох Альпенскі падыходзіць да Пратасавіцкага, Ліпскага і іншае шляхты, збірае грошы і, зложыўшы грошы ў адзін мяшок, падносіць, баючыся, да станавога ды кладзе на стол.*)

Ц і х о н (*адлічыўшы зборшчыку грошы, калі той пайшоў збіраць ад другіх*). Э... глядзі ты! Як ён на бяду нашу ўсе ўказы і законы як рэпу грызе і не заікнецца, — хрэн яму ў вочы!

К у л і н а. Чаго тут дзівіцца? Відаць, судовы чалавек, дык ён на тым і зубы згрыз, — такая, бач, парода.

К р у ч к о ў (*як Альпенскі палажыў на стол грошы*). А ўсе?

А л ь п е н с к і. Да капеечкі, найяснейшая карона!

К р у ч к о ў. Ладна, ідзі! Зараз будзе дэкрэт.

Ц і х о н. Ух, госпадзі! Што гэта будзе, — хрэн яму ў вочы?!

К у л і н а. А што будзе? Вядома, юрыста, — абдзярэ ўсіх дачыста дый паедзе з Богам дахаты.

Ц і х о н. Хрэн табе ў вочы, — каб прынаймні шкура была цэла, [redacted] то як дабярэцца да яе, будзе нячысты інтэрас!

К р у ч к о ў (*устаў і выходзіць з папераю на сярэдзіну сцэны*). Слухайце з увагаю!.. (*Усе кланяюцца.*) Буду чытаць дэкрэт. (*Зноў кланяюцца.*) Па указу его імператарскаго вялічаства, во врэменном прысуцтвіі, в комплекце, саставленном із участковага заседацеля і его пісьмавадзіцеля, слушалі дзело, коего абстаяцельства следуюшчыя: Іван Цюхай-Ліпскі назвал Ціхона Протасавіцкаго мужыком; тот за такую обіду пабіл Ліпскаго, на что сей последній прэдставіл і свідзецелей. Расследовав таковое дзело, врэменнае прысуцтвіе, сообразно указу всеміласцівейшаго гасудара Пятра Вялікаго [redacted] 1688 г. марта 69 дня паследававшего і прымяняясь к Статуту літоускаму раздела 5-га, параграфа 18-га, — опрэдзеліло: а) Ціхону Протосавіцкаму, как угалоўнаму прэступніку, назначается: 1-е) 25 лоз на голай земле без дывана[*] і 2-е) штрафа 25 руб. в пользу врэменнаго прысуцтвія; б) Івану Цюхаю-Ліпскаму, как нанёсшаму лічнае аскарбленіе Протосавіцкаму, назначается: 1-е) 15 лоз на дыване і 2-е) 15 руб. штрафа в пользу врэменнаго прысуцтвія; в) свідзецелям, каторыя відзелі драку і не разнялі дзерушчыхся, 1-е) па 10 лоз на дыване і 2-е) па 10 руб. штрафа в пользу врэменнаго прысуцтвія; д) всей прочэй шляхце, каторая не відзела дракі, за то, што не відзела, а цем самым не магла і разняць дзерушчыхся, назначается: 1-е) па 5 лоз на дыване і 2-е) па 5 руб. штрафа [redacted] пользу того же прысуцтвія. Напаследак: г) прымяняясь к указу яе вялічаства Анны Іаанаўны 1764 г. акцябра 45-га чысла за негербовую бумагу, упатрэблённую і імеюшчуюся ўпатрэбіцца па сему дзелу, — Протосавіцкі — 5, Ліпскі — 3, свідзецелі — па 2, а все прочыя — па 1 рублю ўплоцят... Кончэна! Цяпер зборшчык няхай збірае грошы, пасля жа прымемся за лазу. (*Падыходзіць да стала і ўглыбляецца ў паперы.*)

Ц і х о н. У... у... у... бацькі мае родныя! Хрэн яму ў вочы, — 25 лоз ды яшчэ і не на дыване, а на голай зямлі! Даў бы сто рублёў, каб дыван падаслалі.

(*Кручкоў нібыта ўглыбляецца ў чытанне папераў; зборшчык збірае грошы, пачынаючы ад Пратасавіцкага, каторы, аддаўшы зборшчыку гро-*

---

[*] Без дывана — без падсцілкі. У даўнейшыя часы, калі каралі шляхціца розгамі, палажыўшы яго на голай зямлі, без дывана, дык гэта лічылася для яго вялікай абразай (*заўвага аўтара*).

*шы, падкрадваецца к Пісулькіну, адклікае таго ўбок і сue 25-рублёвую бумажку.*)

Ц і х о н. Дабрадзею, ратуй няшчаснага ды навучы, як ад лазы збавіцца!

П і с у л ь к і н (*убок, разглядаючы бумажку*). Харашо быць пісьмавадзіцелем у разумнага чалавека, маляваныя госцікі! (*Паказваючы на бумажку.*) Самі ў карман лезуць, не нада і рук выцягваць. (*Да, Ціхона.*) Не ведаю, што рабіць! Ён сам баіцца, каб, зрабіўшы вам палёгку, перад судом не адказваць. Але папробуйце. (*Тут падыходзіць другая шляхта і слухае яго рады.*) Злажыце яму добры гасцінчык, авось паквапіцца? Пагаварыце з сабою і злажыце, а я, тым часам, папрабую ўгаманіць яго. (*Падыходзіць да Кручкова і шэпча, той злосна адказвае.*)

К р у ч к о ў. Не магу, не магу! Знаеш, па всеміласцівейшаму ўказу нашага гасудара 1881 года, сенцября 75-га дня какой вялікі адказ за паблажку сторанам ■ угаловнам прэступленіі?! Не толькі пасаду магу страціць, но і лічнасць падвергнется опасносці.

Ц і х о н. Жонка, а жонка, — хрэн табе ў вочы! Прынясі шкураны мяшок, што ляжыць у кубле з грэчкаю; там ёсць сто рублёў, трэба выкупіць шкуру. Ох, даражэй яна каштаваць будзе, — хрэн ёй у вочы!

К у л і н а. Што? Нацярушыў бяды, а цяпер расплачвайся. (*Выходзіць ды праз хвіліну варочаецца з мяшком.*)

Г р ы ш к а (*да бацькі*). Ану, бацька, рассупонь свой мяшок ды вынь якіх рублёў з 50, — можа, і тваю пашануюць шкуру. (*Да іншае шляхты.*) I вы разварушыцеся; каторыя бачылі драку — па дзесяць, а каторыя не бачылі — па пяць рублёў, злажыце ў кучу ды паднясіце найяснейшай кароне. Дык ён зжаліцца над вамі і дзела кончыць; вось як яны, людзі судовыя, умеюць: і воўк будзе сыты і козы цэлы. (*Шляхта збірае грошы, пасля, зложаныя ў адзін мяшок, аддаюць Грышку, падпіхваючы яго да станавога і ўгаворваючы, каб ён асмеліўся аддаць іх Кручкову і прасіць даравацъ ім.*)

Л і п с к і. Ідзі ты, сынку, — палажы на стол ды прасі і малі, каб ён памілаваў нашу шкуру ды скасаваў строгі свой дэкрэт.

Г р ы ш к а. Бачыце, бацька, як нядобра, што вы зводзіцеся з суседзямі. Добра, я асмелюся падысці, толькі каб вы пагадзіліся з Ціхонам ды каб паслалі ад мяне сватоў к яго дачцэ Марысі.

Л і п с к і. Д’ябал яго бяры! Няхай толькі ўладзіцца дзела, а я не адкажуся. Ідзі, прасі! (*Грышка з аднаго, а Пратасавіцкі з другога боку баязліва падыходзяць да стала, пры каторым Кручкоў, нібыта ўглыблены ў чытанне папераў, ды кладуць мяшок з грашыма; Грышка, моцна кашлянуўшы, кланяецца нізка станавому ды гаворыць.*)

Г р ы ш к а. Найяснейшая карона! Мы — адвеку пінская шляхта і ты шляхціц. Не глумі ж, не пэцкай у балоце шляхецкай, братняе табе, крыві! Скасуй строгі твой дэкрэт, на сорам нашай ваколіцы пісаны, — паміры майго бацьку з Ціхонам, ствары мае і Марысі шчасце, а мы ўсе, цэлаю ваколіцай, век за цябе будзем Бога прасіць і век табе дзякаваць!

П і с у л ь к і н. I я вас прашу, ваша благародзіе, — пусць подадут міровую і канцы в воду.

К р у ч к о ў (*да Пісулькіна, але моцна*). Харашо! Для вас это здзелаю, прыму грэх і ответ на себя... Ціхон Пратасавіцкі і Цюхай-Ліпскі! Падыдзіце сюды бліжэй. (*Тыя падыходзяць, за ім і Грышка і Марыся.*) Абніміцеся і пацалуйцеся на згоду, — ну, што ж? (*Марыся свайго бацьку, а Грышка свайго патхаюць, каторыя потым абнімаюцца і цалуюцца з сабою.*) Ціхон! На згоду каб быў крупнік*.

Ц і х о н. Гатовы, найяснейшая карона! Схадзіце, жонка і Марыся, ды прынясіце, — хрэн вам у вочы. (*Куліна і Марыся ідуць у хату.*)

К р у ч к о ў. Вы думаеце, што мне міла паняверыць кроў шляхецкую? Я ж сам шляхціц, вам родны, але што ж рабіць? Служба — не дружба. Законы, міленькія, законы! Годзячы вас, бяду на сябе бяру; толькі пад такою кандыдацыяй, каб Ціхон з Ліпскім навек з сабою памірыліся ды каб я з-за вас не ўлез у нерат. Канечна, трэбую, каб тут жа пры мне дзетак сваіх заручылі, а там і павянчалі. (*Тут Куліна і Марыся ўносяць дзве міскі гарачага крупніку ды ставяць на стол з кубкамі.*) Ну, што, Ціхон, аддасі за Грышку сваю Марысю?

К у л і н а (*ставячы міску*). Гарачая, ой, гарачая, найяснейшая карона!

К р у ч к о ў. Адкуль жа ты ведаеш?

К у л і н а. Дык я ж сама яе зладзіла...

К р у ч к о ў. Што?

К у л і н а. Да гарэлку. Толькі што перагарэла, шафрану і розных прыпраў насуліла многа, мёду ж цэлы кадобчык укінула.

К р у ч к о ў. А... ты талкуеш аб крупніку!

Ц і х о н. Хрэн табе ў вочы! Чуеш, што найяснейшая карона кажа?

К у л і н а. А як жа, аб прыправе...

Ц і х о н. Аб якой прыправе? Хрэн табе ў вочы, — аб Марысі! Ці аддасі яе за Грышку Ліпскага...

К у л і н а. А што будзе з Куторгаю?

Ц і х о н. Хрэн яму ў вочы! Твой Куторга толькі хваліцца ўмее, а як прыйшло да дзела, дык чуць у бяду з сабою разам і мяне не ўцяг.

К р у ч к о ў. Вот я тут зараз цэлую справу кончу. Налівайце кубкі! (*Куліна з Ціхонам наліваюць, падаюць Кручкову, Пісулькіну і ўсім іншым.*) Грышка, любіш ты Марысю? Хочаш з ёю да шлюбу?

Г р ы ш к а. Ой, хачу, вельмі хачу! Найяснейшая карона! Бог мяне пакарай, калі я не дам ёй шчасця адружыўшыся.

К р у ч к о ў. А ты, Марыся, любіш Грышку? Хочаш з ім век дзяліць шчасце і гора? (*Марыся, засаромеўшыся, паварочваецца тварам да сцяны ды дзёрпае яе пальцам.*) Ну, што? Чаго маўчыш?

М а р ы с я. А ўжо ж, калі маўчу...

К р у ч к о ў. Дык — хачу? Ладна! Любіш ты Грышку?

М а р ы с я (*сарамліва*). Але...

К р у ч к о ў. Крэпка яго любіш?

---

* Крупнікам завецца пітво, прыгатаванае на агні з гарэлкі і патакі з рознымі прыправамі (*заўвага аўтара*).

№ 7

РАМАНС

Марыся

Найяснейшая карона!
Трудна мне без Грышкі жыці.
Ніяка земска прэпона
Не ў сілах нас разлучыці!
Сэрца маё — яго менне,
Яго любоў — мая сіла.
Без яго мне смерць — спасенне,
Без яго мне свет — магіла.
Няхай бацькі лаюць, мучаць,
Ні з кім другім не зручуся.
Калі з ім мяне разлучаць,
Я ў Прыпяці ўтаплюся.

Кручкоў. Ну, калі так крэпка яго мілуеш, дык ужо няма чаго раздумваць. Панове бацькі! Трэба іх злучыць, а то новае ўгалоўнае дзела зваліцца на вашы голавы. Пане Ліпскі, чы прымаеш, вашэ, мяне за свата для свайго сына?

Ліпскі. Ды ўжо ж, найяснейшая карона! Задумалі дзела, то і канчайце яго з Богам, — я рад буду благаславіць.

Кручкоў. Дайце сюды ручнік! (*Падаюць, і ён закідвае яго сабе на плячо.*) Ну, вот я і сват! Што, панове Пратасавіцкія, — аддаеце вашу дачку за Грышку?

Ціхон. Такога свата трудна не ўважыць. Хадзі, жонка, хадзі, пане Ліпскі, — хрэн табе ў вочы! Паблагаславім дзяцей, а там потым адгуляем вяселле. На пасаг дам два гарцы грошай і шляхецкую худобу, а па смерці ж нашай і самі ўсё забяруць.

Куліна. Ды і на выправу не пашкадуем, — яна ж у нас ядыначка: што маем, тое ўсё яе, каб толькі Бог даў ім шчасную долю. (*Бацькі сходзяцца і злучаюць маладым рукі.*)

Кручкоў. Вот так, добра! Цяпер, панове бацькі, падпішыце міравую і зложыце міравых пошлін па тры капейкі. (*Тыя падпісваюцца трыма крыжыкамі. Пісулькін за іх распісваецца.*)

Альпенскі (*убок*). Не быў бы судовы чалавек! Пабраў рублі ды яшчэ па капейкі сягае. У іх ужо такая натура: без капеек і чвэрцяў, як без солі ў страву, ніяк не абойдуцца: капейкі і чвэрці — да скарбу, а рублі — сабе.

Кручкоў. Дзясяцкі! (*Той уваходзіць.*) Прывядзі сюды Куторгу! (*Дзясяцкі выходзіць.*) Ну, што ж, — налівайце зноў кубкі ды вып'ем за здароўе маладой пары.

Усе (*падымаючы ўгору кубкі*). Будзьце здаровы, маладыя! Дай Бог вам век з сабою шчасліва пражываць!

## З'ЯВА АПОШНЯЯ

Тыя самыя і К у т о р г а.

К у т о р г а (*кланяецца ўсім*). Дзякуй, дзякуй, панове грамада! Буду старацца ўшчасліўіць Марысю.

К р у ч к о ў. Маўчы, стары хрэн, не аб табе тут ідзе дзела! Бяры кубак ды выпі за здароўе маладых, Грышкі Ліпскага з Марысяю, і падзякуй Богу, што так лёгка вырабіўся ад суда.

К у т о р г а. Дык гэта не я — малады? Не за маё пілі здароўе?

К р у ч к о ў. Пакінь, стары хрыч, думаць аб жаніцьбе, [redacted] заматай сабе на вус, каб крэпка дзяржаць язык за зубамі.

К у т о р г а. Ой, найяснейшая карона! Буду сабе часта браць на розум філасофскую прыпавесць: на тое Бог даў людзям язык, каб умець маўчаць. (*П'е з кубка.*)

К р у ч к о ў. Дзясяцкі! (*Той уваходзіць.*) Коні гатовы?

Д з я с я ц к і. Запрагаюць, найяснейшая карона! (*Выходзіць.*)

К р у ч к о ў. Ну, панове шляхта-брацця! Я вам родны, я вам брат, дык на прашчанне вып'ем яшчэ па кубку крупніку, заспяваем нашу родную песню ды паскачам на заручынах. Пане Куторга, у цябе яшчэ не вельмі курыцца чупрына, — ты вядзі пункты, а мы пакруцімся, прыпяваючы.

У с е. Віват наш брат, найяснейшая карона!

№ 8

Х о р

Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

К у т о р г а

Нашы Пінскі акаліцы —
Жыцце хоць цару, царыцы!
Ўсяго досыць — прызірніся:
Еж, пі, хоць расперажыся.

Х о р

Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

К у т о р г а

Ёсць гарэлка, луста хлеба,
Уюны і сушона рыба.
Чаго ж болей людзям трэба?
Пінчуку тут даў Бог неба!

Х о р

Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

Куторга

Як збяром дабро дачыста,
Завязём на торг да места,
Тады квартаю чырвонцы,
Гарцам мерым карбавонцы.

Хор

Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

Куторга

Дзяўчаты нашы, як лані,
Харашэйшы як ясны пані.
Зіркне катора — маспане! —
Сэрца з-пад жыбра дастане.

Хор

Эй, чух чумадра,
Чумадрыха весяла!

(*Чуваць звонікі. Шляхта, ап'янелая, хістаецца па сцэне без парадку; гутарка агульная без сэнсу; Куторга пасярэдзіне сцэны выпускае з рук кубак і засынае; Кручкоў бярэ ўбок Альпенскага і кажа яму.*)

Кручкоў. Ведаеш, што на цябе казаў Статкевіч?

Альпенскі. А што?

Кручкоў. Ён казаў, што ты не шляхціц.

Альпенскі. Што? Ён мяне так зневажае? Вось я ж яму пакажу маё шляхецтва!

Кручкоў. Не пры мне, — як паеду, тады з ім расправішся! (*Адыходзіцца, бярэ ўбок Статкевіча.*) Знаеш? Цябе Альпенскі аблаяў мужыком.

Статкевіч. Ён смеў назваць мяне мужыком? Мне сам Юры Кабылінскі падпісаў грамату, — дык я ж на шкуры яго выпішу сваё шляхецтва! (*Шугаецца да Альпенскага і пачынаюць біцца.*)

Ліпскі. Найяснейшая карона! Шляхта напілася і завялася біцца. Бойцеся Бога, раздыміце, а то і з вас штраф будзе належыць!

Кручкоў. Не ка мне, не ка мне, — няхай у суд падаюць, тады прыеду на следства! Бывайце здаровы! (*Выходзіць з Пісулькіным.*)

Ціхон. Віват, найяснейшая карона!!

Усе (*апрача тых, што б'юцца*). Віват, найяснейшая карона! (*Заслона апускаецца, пакідаючы наперадзе сцэны Куторгу; той прачынаецца.*)

Куторга. Што? Ужо разышліся? А там чутна і бойка! Добра прыпавесць кажа: пінска шляхта як нап'ецца, то напэўна падзярэцца. (*Да публікі.*) Ды вы ўжо, найяснейшыя панове, спаць хочаце? А што? Няпраўда? Дык:

№ 9

Найяснейшая публіка!
Прашу цябе, не дзівіся,

Бяда гэта невяліка,
Што мы крыху папіліся.
Няхай шчасная развязка
Пінскай шляхце ад вас будзе, —
Дайце брава, калі ласка,
Ды і з Богам, добры людзі!

*1866*

## Каментарыі

**«Гапон».** Год напісання, як мяркуецца, 1854. Упершыню надрукавана ў Мінску ў 1855 г. асобным выданнем.

[1] Лепей.

[2] Другая пасля басовай струна скрыпкі.

[3] Караткахвосты сабака.

[4] Разам.

[5] Сабак.

[6] Аканом.

[7] Халсціны.

[8] Рапарт, данос.

[9] Скрыпачы, музыкі.

**«Благаславёная сям'я».** Апавяданне вершам у 3 карцінах. Упершыню апублікавана на польскай мове ў кн.: «Ciekawyś? — Przeczytaj!». — Minsk, 1856. — S. 41—77. Пераклад з польскай мовы А. Зарыцкага. Друкуецца паводле кн.: Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт. Творы. — Мінск, 1984. — С. 235.

**«Халімон на каранацыі».** Адна з быліц, якая ўваходзіць у цыкл «Быліцы, расказы Навума». Напісана ў сярэдзіне 50-х гадоў. Упершыню была надрукавана ў часопісе «Полымя» (1846, № 8—9).

[1] Ад гарадской заставы; рагатка — драўляны брус на падстаўках, якім перакрывалася дарога.

**«Верш Навума Прыгаворкі».** Упершыню — у зб.: Dudarz białoruski... — Minsk, 1857. — S. 115—117. Верш пісаўся да прыезду ў Мінск у кастрычніку 1856 г. «трох звёздачак»: музыкі Апалінарыя Концкага, Уладзіслава Сыракомлі (ён, дарэчы, тады не прыехаў) і Станіслава Манюшкі.

**«Да Уладзіслава Сыракомлі».** Упершыню — у кн.: Dudarz białoruski. — Minsk, 1857. — S. 11—16. Гэта фактычна прадмова да змешчаных там жа «Літаратарскіх клопатаў». Пераклад з польскай мовы П. Пранузы.

**«Літаратарскія клопаты».** Пераклад з польскай мовы П. Бітэля.

[1] Творы Ул. Сыракомлі.

**«Люцынка, альбо Шведы на Літве».** Упершыню выйшла асобным выданнем на польскай мове: «Lucynka, czyli Szwedzi na Litwie...». — Wilno, 1861. Пераклад з польскай мовы С. Дзяргая.

**«Ідылія».** Над лібрэта камедыі-оперы «Ідылія» аўтар працаваў у 1842—1844 гг., асобным выданнем надрукавана ў 1846 г. у Вільні. На сцэне ўпершыню пастаўлена ў Мінску 9 лютага 1852 г. У творы паны размаўляюць па-польску, сяляне і часам паненка Юлія і камісар — па-беларуску. Пераклалі польскамоўны тэкст на сучасную беларускую мову Язэп Лёсік (празаічны) і Янка Купала (паэтычны). Урывак «Ідыліі» і іншыя творы В. Дуніна-Марцінкевіча друкуюцца паводле кн.: Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт. Творы. — Мінск, 1984.

**«Пінская шляхта»**. Упершыню апублікавана ў газеце «Вольная Беларусь» (1918, № 30—31) з такой рэдакцыйнай заўвагай: «Твор гэты напісаны аўтарам пінчуцкай гаворкай у 1866 г. і да гэтага часу нідзе не друкаваўся. Выпраўлены на беларускі лад, ён друкуецца ў «Вольнай Беларусі» першы раз. З часам «Вольная Беларусь» выдрукуе і аўтэнтык гэтага твора». Аднак арыгінал твора быў надрукаваны толькі ў 1984 г. у «Творах» В. Дуніна-Марцінкевіча.

[1] На расследаванне справы.

[2] Засядацелю суда.

[3] Абзацаў.

[4] Прыказку.

[5] Жартаваць.

[6] Упрэцца, занаравіцца.

[7] Цецярук.

[8] Жвавы, спрытны.

[9] Вампір.

[10] Ні ў чым не вінаватую.

# АЛЯКСАНДР ГРОТ-СПАСОЎСКІ (1808—1847)



Аляксандр Грот-Спасоўскі актыўна ўдзельнічаў у літаратурным працэсе 30-х гадоў XIX ст. У 1840 г. у Вільні выдаў два тамы «Вершаваных твораў». Паходзіў ён з Магілёўшчыны, фальклор якой плённа выкарыстоўваў. Дыскусію ў «Tygodniku Petersburskim» выклікала публікацыя ў № 46 і 47 за 1839 г. штотыднёвіка яго балады «Апошнія ловы». Па некалькі разоў на працягу 1839—1840 гг. бралі ў ёй слова М. Грабоўскі, Ю. І. Крашэўскі, ананім F., святар з Магілёва Эразм Ізапольскі, сам А. Грот-Спасоўскі. Спрэчка мела на мэце вырашыць праблему, якім чынам народныя паданні, легенды, песні могуць трансфармавацца ў польскую літаратуру. Крытыкі звярталі ўвагу, што будова твора ўскладняецца іншымі, мажліва і непатрэбнымі, элементамі ды лірычнымі адступленнямі, часам даволі прыгожымі.

Папракаючы аўтара, што яго творы «не былі вольныя ад змешвання разнародных гатункаў», М. Грабоўскі мае на ўвазе тое, што А. Грот-Спасоўскі выкарыстоўвае як простанародныя паданні, так і шляхецкі фальклор — показкі ды родавыя гісторыі. На нашу думку, гэта і выклікала пярэчанне аўтарытэтнага крытыка. Ва ўступе да балады «Апошнія ловы (З беларускіх паданняў)» А. Грот-Спасоўскі шмат увагі надае беларускім прымхам пра русалак. Ён, разважаючы пра паходжанне гэтых таямнічых істот, прыходзіць да высновы, што «русалкі — гэта душы дзяцей, якія без хрышчэння пакінулі гэты свет або былі загубленыя выродлівымі маткамі». І толькі пасля гэтага доўгага (184 радкі) фрагмента пра русалак паэт пераходзіць да асноўнай фабулы твора: стары лёкай пана Стольніка апавядае пра злачынства пана, які спакусіў вясковую дзяўчыну, а пасля пакінуў яе з малым дзіцем і ажаніўся з багатай паненкай. Падманутая каханка з'яўляецца на вяселле і выказвае сваю крыўду перад гасцямі і маладою. Разгневаны Стольнік загадвае разарваць яе коньмі, што і было ўчынена. Аднак, калі праз нейкі час пан паехаў на ловы і, не зважаючы на перасцярогі, накіраваўся да месца, дзе пахавалі каханку, дык болей яго ніхто не бачыў. Мы не знойдзем у беларускіх фальклорных зборніках падання, блізкага да балады А. Грот-Спасоўскага, хоць матыў спакушэння панам дзяўчыны і наступнае цудоўнае пакаранне пана сустракаецца даволі часта. Магчыма, паэт выкарыстаў паданне з родных мясцін, але, відавочна, не абышлося тут і без уплыву «Рыбкі» А. Міцкевіча. Той жа самы матыў, што і ў «Апошніх ловах», А. Грот-Спасоўскі выкарыстаў і ў баладзе «Латнік», пачатак якой нагадвае першыя радкі «Гражыны». Асноўная частка твора апавядае пра тое, як за рыцарам, што едзе бліз царквы ў месячную ноч, гоніцца здань забітай ім кабеты з дзіцем, якую ён калісь кахаў. І гэты твор паэта мае прыпіску «Балада з беларускіх паданняў», хоць у першую чаргу варта казаць пра літаратурныя, а не народныя ўплывы.

*М. Хаўстовіч*

## РУСАЛКІ

Там, над Дняпром, сярод дня і ў час змроку,
Ледзь ліст маёвы зайскрыцца,
Цалкам няўлоўныя слыху і воку
Дзевы пачнуць весяліцца.
Косы іх з золата, снежныя ўлонні
Сэрца чыё не зламаюць?
Рух іх пажадлівы, воч іх бяздонні
Вабяць кагосьці, шукаюць.
Сотню разоў мо яны за гадзіну
Злучацца, то разбягуцца,
Сотню разоў мо на траў зеляніну
Мякка, ляніва кладуцца.
І, паляцеўшы на ростань дарогі,
Вабяць прахожых, і здасца,
Быццам воўк вые, то голас знямогі
Ці плач дзіцячы раздасца.
Людзі смялейшыя бачылі й чулі
Ручак прыгожых узмахі,
Песні вясёлыя: гу-та-та, гу-лі!
А на крыж Госпадаў: ха-хі!
Як з зарумяненых кветачак ранкам,
Быццам рэч недарагую,
Звіты вяночак, ды не для каханка,
Ўскінуць адна на другую,
Ці, запусціўшыся дружна ў сваволлі,
Дзесьці ў гаёвым зацішшы
Песні пяюць ці, пасеўшы на голлі,
Лісце бярозы калышуць.
Танцам гуртоўным, павольным, нязначным
Бліснуць у воку, то згінуць,
Перш чым пры сведку, раней ім нябачным,
Цалкам дуброву пакінуць.
Бачыш вунь зоркі ў тым далечным змроку?
Чуеш пляксканне ў далоні?
З новым азартам, прыкметным здалёку,
Плюхнуцца ў Днеправы тоні.
Гора таму, чый лёс розуму здрадзіць,
Гора вясне маладога,
Хлопцу бяда, як красуня занадзіць
Бюста прыгожасцю строгай.
Як паглядзіць толькі злы дух-дзяўчына,
Русай прывяжа касою,
З гэтай хвіліны збляднее хлапчына,

Вока напоўніць слязою.
Быццам дождж спорны, наскрозь пажаданне
Ў сэрца яго пранікае,
Кожны пазнае, хто толькі ні гляне,
Што ён кагосьці кахае.
Так не адзін ад тугі небывалай
Згінуў зух спрытны і палкі,
Як з залатой калітой ідэалаў
Пільна высочваў русалкі...
Знік і загінуў, прапаў нарачоны,
Дзе, як, калі? Ці ж хто скажа?
А селянін, хоць зусім невучоны,
«Заласкаталі»... падкажа.

### Каментарыі

**«Русалкі».** Пераклад з польскай мовы П. Бітэля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## МІХАЛ ХОДЗЬКА
## (1808—1878(1879))



Міхал Ходзька, брат Аляксандра Ходзькі, стрыечны брат Ігната Ходзькі, сярэднюю адукацыю атрымаў у Мінску, вучыўся ў Віленскім універсітэце, прымаў удзел у паўстанні 1830—1831 гг., эмігрыраваў у Францыю, памёр у Парыжы. Аўтар шэрагу вершаваных і празаічных твораў.

*У. Мархель*

### ДЗЕСЯЦЬ КАРЦІН З ЭКСПЕДЫЦЫІ Ў ПОЛЬШЧУ 1833 ГОДА

#### Карціна VII

#### У хаце лесніка на Літве

Ціш глухая дрэмле вокал — курнай хаты сцены
Пачарнелі, распластаўшы нежывыя цені.
Па-над сценамі, што саван, — чорнае скляпенне
Над галовамі павісла! — На зямлі упокат
Без падсцілак, — а жывыя ж! — пакладіся людзі,
Вобак з хатняю жывёлай і прылад штодзённых
Засынаюць пасля працы і турботаў дзённых,
Пакуль зноў іх дзень наступны нацямку не збудзіць
Зноў на працу і на беднасць!..
У печы палае,
Дым па хаце валачэцца, выядае вочы,
А цвыркун як з замагілля ўсё нуду цвыркоча
І спыняе думкі хлопца, што мару сядлае
Перад полымем іскрыстым. Часам ночы цішу
Парушае ўздых журботны змучанай жывёлы,
І ў яе, ў людзей нібыта, жытка невясёла!..
А тым часам хлопец кніжку выняў, нешта піша,
На любы, нязначны шорах уздымае вочы
І на стрэльбу пазірае, што ляжыць тут побач,
І на тых, што спяць радочкам ля жывёлы вобак!..
Дзе б самому прымасціцца галавой бяспечна
І спакойна і салодка заснуць разам з імі?..
Дзе? Га! Недзе на зямлі! Мо ўжо на тым свеце

Сярод душ, якім паслаў Бог сваё блаславенне,
Каму смертухна ўжо стала ад пакут збавеннем.
Добры бацька добрых дзетак там як трэба стрэціць.
Лёсы роднае айчыны ў вечнасці адбіты.
Бог адкрые падарожным іх усе наўкола.
Адна хвіля ўзнагародзіць пры стрэчы з анёлам
За гады, што між людзей на зямлі пражыты.
II
Хтось з'явіўся на двары, вартаўнік азваўся,
І цяжкія крокі раптам па зямлі ўкаванай
Паляцелі гулкім рэхам так неспадзявана.

Падхапіўся хлопец порстка — да дзвярэй сігае,
Чуе добра, як у двор іх рыпнулі вароты,
Вартаўнік сваю злагоду не хавае ўпотай!
То яны! — Падскочыў хлопец, ды не адчыняе,
А ўсё слухае! — Па клямцы — стук такі чаканы
Раз-два-тры-чатыры! — Ясна, то пароль жаданы!
І ўжо клямка канвульсіўна звоніць разаспана.
Двох заходзяць!..
У абдымках малодшага тоне хлопец! —
Льюцца нестрымана шчаслівыя слёзы,
Буйныя, што град; здаецца, чыстыя, як росы,
І гарачыя, бы маці па дзіцю галосіць!
..........................................................
Міхал! Густаў! О, нябесная ў нас сёння хвіля —
Рэдкі госць тут на зямлі! І душ яднанне чыстых,
Боскі цёплы промень, момант светлы, урачысты
Юнага вітання! Сэрца ў найвышэйшай сіле,
І жыццё маральнасцю да кропкі ўсё сціскае,
Чалавек зраўнаны з Богам — і падман знікае!..

**Каментарыі**

**«Дзесяць карцін з экспедыцыі ў Польшчу 1833 года».** Пераклад з польскай мовы У. Паўлава. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

# ІГНАТ ЯЦКОЎСКІ
# (1795 — 1873)



Пісьменнік, мемуарыст, удзельнік паўстання 1830—1831 гг. Нарадзіўся ў Навагрудку, пасля вучобы працаваў там адвакатам. Пасля падаўлення паўстання ■ 1831 г. знаходзіўся ў Лондане, удзельнічаў у польскіх эмігранцкіх арганізацыях. Быў кампаньёнам А. Рыпінскага па выдавецкай справе. У 1857 г. вярнуўся на радзіму, выступаў у друку з публіцыстычнымі творамі, успамінамі, вершамі. Аўтар публіцыстычных кніг «Палітычныя творы» (Лондан, 1853), «Трохгадовае знаходжанне на Усходзе» (Лондан, 1857). У кнізе мемуараў «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (выйшла ананімна, 1-е выд. — Лондан, 1854; 2-е — Познань, 1858) паказаны побыт і звычаі жыхароў Беларусі, расказана пра хваляванне сялян у мястэчку Крошын Наваградскага павета ў 1828 г. Гэта кніга — адна з асноўных крыніц звестак пра беларускага паэта Паўлюка Багрыма і яго творчасць. У ёй Яцкоўскі ўпершыню апублікаваў верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...».

*Г. Кісялёў*

## АПОВЕСЦЬ З МАЙГО ЧАСУ, АБО ЛІТОЎСКІЯ ПРЫГОДЫ
(урывак)

Ксёндз Магнушэўскі[1] праз які дзясятак з нечым гадоў трапіў у бяду і памёр, праўда, ва ўласным доме, але пад арыштам. Яго правіннасцю мусіла быць, паводле адных, залішняя прывязанасць да дому князёў Радзівілаў, якая нібыта не дазваляла яму абыякава глядзець на шлюб беднага шляхціца пана Юрагі[2] з князёўнаю Радзівіл[3], што была калісь ягонаю выхаванкаю, шлюб, якому, памятаючы вайсковае таварыства і сяброўства, што завязалася пры аблозе Модліна[4], садзейнічаў яе брат князь Канстанцін[5] і давёў да выніку; паводле іншых, заступніцтва за крашынскіх сялян, г. зн. падбухторванне іх супраць Юрагі, калі той, атрымаўшы Крашын як жончын пасаг, хацеў гэтых сялян вярнуць у паншчыну ці, як казалі, дапасаваць паншчыну да колькасці зямлі.

З тае прычыны, што мы ведалі ўсіх асоб, якія дзейнічалі ў гэтай драме, з найлепшага боку і ў наўмыснай жорсткасці ніводную з іх не абвінавачваем, а жорсткасць усё-такі адбылася, дык, не адважваючыся самі выносіць прысуд, падаём справу, як яна была па сутнасці.

Маёнтак Крашын, як гэта было амаль ва ўсіх радзівілаўскіх маёнтках, меў уведзены звычаем прывілей, што калі сяляне прадавалі ці закладвалі адзін аднаму свае землі часткова ці цалкам, дык пакідалі абавязкі, г. зн. паншчыну і чынш, сабе. З гэтае прычыны новы гаспадар, ці той, каму закладвалася зямля, атрымліваў яе без усякіх павіннасцяў, а ранейшы ўладальнік, пакінуўшы ў сябе толькі невялікую колькасць зямлі, а то і зусім яе пазбыўшыся, або не мог адпрацоўваць добраахвотна ўскладзенай на сябе павіннасці, або, перабраўшыся куды-небудзь, забываўся пра свае абавязкі. Двор на гэтым траціў, бо не толькі не меў рук, патрэбных для апрацоўкі свае ралллі, але яшчэ мусіў плаціць падатак у Скарб за ўсіх сялян, бо новыя гаспадары не адчувалі сябе абавязанымі рабіць гэта. Тыя дакументы, што заключаліся навечна паміж сялянамі, не былі афіцыйна зацверджаны, дык не маглі мець юрыдычнай вартасці, аднак, на думку гаспадароў, павінны былі мець гэту вартасць. І новыя гаспадары прысланую ім экзекуцыю[6] адсылалі прадаўцу, які збяднеў альбо нават зусім не жыў у маёнтку, дык ранейшая адміністрацыя, не жадаючы распачынаць працэс, на гэтым спынялася, бо гэтак бывала спрадвеку.

Калі Юрага стаў гаспадаром Крашына і пераканаўся на месцы, як выглядаюць справы, перш за ўсё загадаў каморнікам зрабіць абмер усяго маёнтка, а потым запатрабаваў, каб гаспадары падалі дакументы, на аснове якіх валодаюць зямлёй без усякіх павіннасцей на карысць двара. Калі так сталася, Юрага, пераканаы ў неафіцыйнасці і неправамоцнасці дакументаў, згодна з якімі можна было не толькі прагнаць любога шляхціца, але яшчэ і прымусіць разлічыцца за незаплачанае раней, у справе з сялянамі, аднак, хацеў скончыць, як яму здавалася, па-прыяцельску, вяртаючы ім сумы, якія яны ў любой форме ўнеслі за гэтыя землі, і, скасаваўшы цераспалосіцу, як ужо ў бясспрэчным сваім маёнтку, падзяліць яго на схэды паводле дамоўленасці з карысцю для двара і без цяжкасцей для сялян.

Але сяляне, падбухтораныя нібыта ксяндзом Магнушэўскім, не хацелі згадзіцца на гэта. Таму Юрага, перадаўшы ў Ніжні суд грошы, якія вылічыў у згаданым рахунку, запатрабаваў ад уладаў аддаць яму маёнтак. Нейкі час цягнуліся следства і спробы ўсякімі спосабамі прыйсці хоць да якога-небудзь паразумення. Аднак усе сродкі аказаліся дарэмнымі, а ўрад, узяўшы аднойчы гэтую справу ў свае рукі, лічыў неабходным пераканаць бакі, што пастановы вышэйшае ўлады павінны быць выкананы, і два аддзелы пяхоты, накіраваныя з гэтаю мэтаю ў маёнтак, дамагліся здзяйснення пастановы, зацверджанае ўрадам. Пры гэтай экзекуцыі некалькі сялян былі збіты да смерці, звыш дзясятка сасланы ў Сібір альбо ў вайсковую службу, а двор і вёска моцна пацярпелі, бо тая каманда з афіцэрамі на працягу некалькіх месяцаў утрымлівалася за мясцовы кошт.

Аднак нягледзячы на тое, што кс. Магнушэўскага падазравалі, быццам ён мусіў быць прычынаю ўсяго гэтага супраціўлення і, значыць, агульнага няшчасця, нельга было заблытаць яго ў следства. Аднак яго імя як завадатара гэтак званага бунту ў Крашыне стала вядомым як у Гродне, так і ў Вільні, дзе сенатар Навасільцаў[7] з рэктарам Пеліканам[8], дазнаўшыся ад пані Суліст-

роўскай[9], з дачкою якое князь Канстанцін Радзівіл меўся ў той час ажаніцца[10], што ксёндз Магнушэўскі мае ў сябе парафіяльную школу для вясковых хлопчыкаў без дазволу на тое ад універсітэта і прывівае там дух несубардынацыі, вырашылі выкрыць спосаб яго навучання і з гэтай мэтай, едучы нібыта ў Слонім, заехалі па дарозе ў крашынскую плябанію.

Ксёндз Магнушэўскі, засмучаны падзеямі, якія пад бокам яго адбываліся, да таго ж цяжка ўжо хварэў. Ранейшая далікатнасць яго ўжо пакінула. Рабіўся ён кіслым і падазроным у прысутнасці тых, хто прыносіў з сабой якінебудзь выгляд афіцыйнасці. Таму Навасільцаў і Пелікан сустрэлі не вельмі мілы прыём. Але гэтых гасцей цяжка яму было хутка пазбыцца, бо яны адразу сказалі, што без абеду не паедуць далей. Дык Магнушэўскі загадаў гатаваць для іх абед, а тым самым даў для іх час злавіць яго ў путы ліслівасці, трапіўшы ў якія, пачаў стары траціць патрэбную цвярдыню асцярожнасці.

Доўга адмаўляўся той святар выказаць якое-небудзь меркаванне пра справу Юрагі з сялянамі, нарэшце прамармытаў некалькі нараканняў аб прыніжэнні князёўны такім неадпаведным яе нараджэнню шлюбам, і што далейшыя падзеі з'яўляюцца толькі вынікам таго, што для яе не падабралі адпаведнае па нараджэнні асобы. Згадзіліся з такім меркаваннем гэтыя няпрошаныя госці і пацягнулі яго за язык. Не заўважыўшы хітрасці, ён стаў больш гаваркі, бо думаў, што абараняе справу сялян і што дапаможа ім. Сенатар папракнуў яго, што гэта віна пробашча, што ён не асвячае сялян. Магнушэўскі адказаў, што робіць усё, што можа, і ўзімку мае ў сябе парафіяльную школу. Пажадалі яны яе бачыць і так патрапілі настроіць таго святара, што той згадзіўся паказаць ім вучняў. Пасланы ў вёску лёкай прывёў ад барон і жывёлы некалькі хлопцаў-выдатнікаў. Экзамен, здавалася, прайшоў як найлепей. Сенатар і рэктар хвалілі поспехі вучняў, гаворачы, што ксёндз Магнушэўскі робіць вялікую паслугу краю. Гэта пахвала тым менш здавалася яму падступнай, што ён у глыбіні душы быў перакананы ў яе шчырасці. Дык пачаў разважаць, якія ў тых бедных хлопцах схаваны таленты, якім калі б дапамаглі развіцца, можна было б дасягнуць вялікае карысці, — што адзін асабліва мог бы зрабіцца славутым паэтам, і ў якасці доказу выклікаў Пётрака[11], каб ён прачытаў уласныя вершы на беларускай гаворцы[12], напісаныя без чыйго-небудзь уплыву і ўзору. Заахвочаны гэтым Пётрак дастаў сэкстэрн[13] і, не прадбачачы, што можа быць пакараны за тое, за што дабрадушны ксёндз яго столькі разоў хваліў, пачаў чытаць свае трэны[14], з якіх толькі некалькі строф засталося ў памяці аўтара, і якія мы тут прыводзім[15] <...>

Такія і ім падобныя чуллівыя нараканні хлопчыка, які меў усяго дзесятак з нечым год, кранулі пачціваго ксяндза, але зусім іншы ўплыў яны рабілі на бессардэчных экзаменатараў, якія, аднак, шэсць ці сем трэнаў выслухалі з прытворным спачуваннем, паглядаючы толькі адзін на аднаго ў найбольш выразных месцах. Пасля прачытання сенатар загадаў аддаць яму сэкстэрн, і абодва паехалі з абяцаннем, што падумаюць пра лёс такога надзвычайнага паэта. Ксёндз пагладзіў яго ў знак задавальнення і запэўніў, што яму гэта пойдзе на карысць.

Аднак якое ж было яго засмучэнне і роспач, калі праз некалькі дзён бязвінны хлопчык быў забраны паліцыяй у рэкруты, якіх ён так баяўся. А да ксяндза Магнушэўскага, чыё здароўе было аслаблена гэтай падзеяй да рэшты, прыставілі, як да арыштанта, варту, якая хутка дабіла яго з-за згрызотаў, што сваімі парадамі і неасцярожнасцю стаў прычынаю шматлікіх няшчасцяў менавіта таго класа сваіх парафіян, якіх так моцна любіў. Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, без усялякае навукі, забяспечыў сабе неўміручае імя, ■ свае сям'і — пашану і дастатак; Пётрак з Крашына за талент, дадзены яму Богам, зазнаў самае жорсткае няшчасце!

## Каментарыі

**«Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды».**

[1] Магнушэўскі Войцах — з 1810 г. крошынскі плябан. Памёр у снежні 1828 г. У яго служыў і атрымаў пачатковую адукацыю П. Багрым.

[2] Станіслаў Казімір Юрага гербу Гедройц (каля 1790 —?), сын віленскага земскага і гродскага рэгента Юзафа Юрагі, ажаніўся (да 1822 г.) ■ Антанінай Радзівіл, з якою меў дачку Тэафілю (1822—1851). На пачатку 1840-х гадоў Тэафіля Юрага выйшла замуж за Эўгеніуша Роберта Святаполк-Завадскага (1817—1880) і нарадзіла пяцёра дзяцей. Яе сын Пётр Станіслаў Святаполк-Завадскі (1847 — пасля 1884) валодаў Крашыным у другой палове XIX ст.

[3] Гаворка пра Антаніну Радзівіл (да 1800 —?), дачку Мацея і Эльжбеты з Хадкевічаў Радзівілаў.

[4] Крэпасць (на Віслe), якая знаходзілася ў 30 км на паўночны захад ад Варшавы. У лютым 1813 г. была абложана 36-тысячным расійскім войскам. Яе абаранялі каля 5 тыс. жаўнераў і 260 афіцэраў. Крэпасць здалі 1 снежня 1813 г. пасля паражэння Напалеона ў «бітве народаў» пад Лейпцыгам (кастрычнік 1813 г.) і страты надзеі на французскае наступленне на ўсход.

[5] Канстанцін Мікалай Радзівіл (1793—1869), сын Мацея і Эльжбеты з Хадкевічаў Радзівілаў.

[6] Тут: распараджэнне плаціць чынш ці адбываць паншчыну.

[7] Мікалай Навасільцаў (1761—1838) — расійскі дзяржаўны дзеяч. Удзельнічаў у падаўленні паўстання Т. Касцюшкі, прадстаўнік Аляксандра I у Радзе, якая кіравала Каралеўствам Польскім (1813—1821), з 1821 г. — радца намесніка Каралеўства Польскага вялікага князя Канстанціна, апякун Віленскага ўніверсітэта (1824—1831).

[8] Вацлаў Пелікан (1790—1873) — прафесар медыцыны, здольны хірург. Рэктарам Віленскага ўніверсітэта быў прызначаны ўладамі, а не абраны Радай універсітэта.

[9] Гаворка пра Караліну з Пшэўскіх Сулістроўскую (каля 1780 — ?).

[10] Пасля смерці ў 1826 г. першай жонкі Марыі Грабоўскай Канстанцін Радзівіл напрыканцы 1820-х гадоў ажаніўся з Цэлестрынай Цэлінай Сулістроўскай (1805—1836).

[11] Гаворка пра Паўлюка Багрыма (1812—1891?). Хутчэй за ўсё, І. Яцкоўскі свядома даў герою аповесці не тое імя, якое насіў яго прататып.

[12] У арыгінале: w ruskim narzeczu.

[13] Аркуш паперы складзены ў шэсць столак; сшытак.

[14] Лірычны твор, прысвечаны нябожчыку; элегія.

[15] Верш прадстаўлены ў дадзенай анталогіі ў творчасці П. Багрыма.

Пераклад з польскай мовы і каментарыі М. Хаўстовіча. Друкуецца паводле выд.: Powieść z czasu mojego, czyli Przygody Litewskie. — Warszawa, 2010.

# ПЛАКІД ЯНКОЎСКІ
# (1810—1872)



Амаль неверагодны факт: духоўная атмасфера ў размешчанай у сценах Аўгустоўскага манастыра Галоўнай духоўнай семінарыі па падрыхтоўцы каталіцкіх і ўніяцкіх святароў тэалагічнага факультэта Віленскага ўніверсітэта на самай справе... не спрыяла ўмацаванню каталіцтва на Беларусі. Дасведчаныя прафесары семінарыі крытыкавалі састарэлую дагматыку.

Менавіта ў такіх умовах у 20-х гадах XIX ст. на тэалагічным факультэце вучыўся і Плакід (Плацыд) Гаўрылавіч Янкоўскі — сын уніяцкага святара з вёскі Вайская Гродзенскай губерні. Юнацтва будучы пісьменнік і святар правёў у сям'і небагатай беларускай шляхты [redacted] яе патрыярхальнымі традыцыямі, што мала чым адрозніваліся ад сялянскіх.

Курс семінарыі Плакід завяршыў у 1830 г. у званні магістра тэалогіі і быў залічаны выкладчыкам адкрытай у мястэчку Жыровічы ўніяцкай Духоўнай семінарыі. Праз тры гады ён атрымаў святарскі сан і быў прызначаны прафесарам Святога Пісання і дагматычнай тэалогіі. У гэты час ён пачынае выступаць актыўным прыхільнікам скасавання Брэсцкай царкоўнай уніі. У 1839 г. П. Янкоўскі свядома падпісаў акт аб ліквідацыі уніі. Гэта былі самыя напружаныя гады яго духоўных пошукаў. Узвышаным ідэалам сельскіх святароў, да ліку якіх ён адносіў і сябе, лічыў бедны, але добрасардэчны сямейны ачаг. Імкнуўся да жыцця ў атачэнні шчырых, блізкіх людзей. Сардэчнасць і літаратурная творчасць давалі яму ўпэўненасць і надзею. Невыпадкова мітрапаліт Іосіф Сямашка вельмі любіў сям'ю Янкоўскага і нярэдка наведваў яе.

Пасля пераносу Літоўскай кансісторыі і семінарыі ў Вільню П. Янкоўскі перабраўся туды на палажэнне настаяцеля Віленскай саборнай царквы Святога Мікалая. Падтрымліваў сувязь з тагачаснымі прадстаўнікамі культурнага і навуковага свету, у тым ліку Ігнатам Шыдлоўскім, Антоніем Адзінцом, Лявонам Бароўскім, Ігнатам Ходзькам, Канстанцінам і Ігнатам Тышкевічамі, Тэадорам Нарбутам. У сувязі з пагаршэннем здароўя ў 48 гадоў папрасіўся на адпачынак, набыў у Жыровічах дом і там пражыў свае апошнія 14 гадоў. Пахаваны разам з жонкай у склепе Жыровіцкай прыхадской царквы Святога Георгія.

Схільнасць да літаратурных заняткаў П. Янкоўскі вынес з Віленскага ўніверсітэта, але сапраўднага росквіту і прызнання ў прозе і паэзіі дасягнуў у 40—50-х гадах XIX ст., калі яго кнігі былі надзвычай папулярныя ў Расійскай імперыі.

Янкоўскі добра ведаў Гродна, Брэст, Наваградак. Пра іх і пісаў свае творы. Будучы несумненна адоранай, усебакова адукаванай асобай, свабодна чытаў і пісаў на французскай, нямецкай і англійскай, часткова

ва — на грэчаскай, чэшскай і, зразумела, валодаў польскай, рускай і лацінскай мовамі. З мясцовым людам размаўляў найперш на роднай — беларускай — мове.

Сучаснікі Плакіда Янкоўскага прызнавалі яго за вялікага літвінафіла. Беларусь у яго нязменна выступае ўлюбёным краем. У многіх яго творах апісваецца сельскі, святарскі асяродак. З вялікай сімпатыяй ставіўся Янкоўскі да простага беларускага люду, у многіх пытаннях пераходзіў на бок сялян, вельмі залежных ад капрызаў памешчыкаў. Адначасова з гэтым узвялічваў патрыярхальныя адносіны паміж «дваром» і вёскай.

Плакід Янкоўскі застаўся пісьменнікам, які жыў і сілкаваўся праявамі сельскага жыцця. Лічыў, што аб простым чалавеку нельга казаць кепска. Да таго ж шырока выкарыстоўваў фальклорныя матэрыялы, балады, паданні, легенды, прымаўкі. Апісваў і рытуальныя звычаі беларусаў. Апрача таго, Плакід Янкоўскі быў добрым краязнаўцам.

Першая кніга прозы П. Янкоўскага — «Засценак» — была надрукавана ў 1841 г. Потым былі «Хвіля» (1842), «Апавяданні» (1843), у суаўтарстве з Ю. І. Крашэўскім «Складзеная аповесць» (1843), «Універсітэцкія ўспаміны» (1849), «Крыніцы» (1853), «Адась» (1856). Пасля смерці пісьменніка выйшлі «Фанабэрыя пана старасты Канеўскага» (1873), нататкі «Пра Ігната Шыдлоўскага» (1896). Спрабаваў свае сілы і ў драматургіі: у 1842 г. Плакід Янкоўскі апублікаваў камедыю «Прадчуванне». У гэты ж час хацеў арганізаваць выданне альманаха «Літвіны», але задуму не ўдалося рэалізаваць да канца.

*У. Кісялёў*

## ШЧЫПЦЫ І СВЕЧКА

На прыгожым срэбным блюдзе,
Што блішчэла пазалотай,
Свечцы, што свяціла людзям,
Мовілі шчыпцы з пяшчотай:
«Свечка, ясная, адзіна!
Ты скажы, з якой прычыны
Адхіляешся, іскрышся,
Як падходзім вельмі блізка,
Гаснеш нат, як ад вятрыскі?
Ды ярчэй пасля ўзгарышся!
Мы жывём у свеце гэтым
Так, як нянькі ў шумнай хаце,
Што дзіця з адной б'юць мэтай:
Вырасла б карысным маці».
Скончылі шчыпцы хваліцца
І забыліся закрыцца.
І на іх прамень цікавы
Скочыў мігам для забавы.
Згледзеў поўна сажы, лою
І ўсяму разнёс пакою.

## НІХТО, ЯК БОГ

На збегу верасня селянін вёскі Бялавічы Лука Зубко вырашыў выбрацца ў пушчу — агледзець і заканапаціць на зіму свае борці. Пляменнік, пяцігадовы Іванька, пабачыўшы запрэжаныя калёсы, адразу падбег да дзядзькі.

— Вазьмі мяне з сабой!

Лука вельмі любіў свайго пляменніка, бо сваіх дзяцей не меў, таму без лішніх ваганняў усадзіў хлопчыка сабе на калені і даў яму ў рукі дубец.

— Да змяркання павінны вярнуцца, — сказаў ён.

Але Іванька, мабыць, ужо і не пачуў гэтых дзядзькавых слоў, бо быў у захапленні ад сваёй новай ролі паганятага: узмахваў, нібыта сапраўдны фурман, дубцом, кожнага вала называў па імені і ўвогуле быў самым шчаслівым чалавекам на зямлі.

У лесе было па-асенняму празрыста і ціха, толькі лёгкі ветрык раз-пораз набягаў на дрэвы, ад чаго шапацела зжаўцелае лісце бяроз. Лука часта пакідаў хлопчыка на сцяжыне вартаваць калёсы, а сам заглыбляўся ў пушчу, каб упраўляцца з борцямі. Вядома, Іванька адзін пачаў сумаваць.

— Паехалі дадому! — па-дзіцячы непасрэдна заявіў ён дзядзьку, на што той адно прабурчаў:

— Сядзі. Ніхто ж цябе не цягнуў у лес — сам напрасіўся!

Іванька надзьмуўся.

— Вось кіну зараз калёсы і пабягу дадому да маткі!

Пагроза не падзейнічала на Луку: ён спакойна працягваў сваю працу. Але тым не менш праз некаторы час, вярнуўшыся да сцяжыны, хлопчыка на калёсах ужо не знайшоў. Гукнуўшы колькі разоў і мяркуючы, што пляменнік збег той жа дарогай, якой яны прыехалі, Зубко завярнуў і прыспешыў валоў:

— Вось зараз даганю неслуха!

Але неўзабаве ён сустрэў суседа, які ішоў ■ боку вёскі па той жа дарозе, і той заявіў, што хлопчыка не бачыў.

«А мо ён заблудзіў і пайшоў у процілеглы бок?» — думаў Лука, вяртаючыся на ранейшае месца. Ён аб'ехаў і абхадзіў усю сумежную частку пушчы, гукаў амаль бесперапынна, але ўсё было дарэмна. Тым часам пачало змяркацца. Неспакой за пляменніка нарастаў. І як тут з такой навіной з'явіцца да бацькоў?

У вёсцы вестка аб знікненні хлопчыка вокамгненна разнеслася па ўсіх хатах. Было вырашана неадкладна распачаць пошукі. Але не так лёгка аказалася Луку і бацькам Іванькі знайсці саўдзельнікаў у начным блуканні па пушчы. Суседзі, людзі звычайна шчодрыя на добрыя парады, самым пераканаўчым чынам даводзілі, што весці пошукі ў такую цёмную восеньскую ноч — усё роўна, што таўчы ў ступе ваду. Стомленае дзіця спіць дзе-небудзь пад хмызнякамі ды спіць так, што калі б уся вёска ў адначассе над ім пракрычала, ён бы нават і не паварушыўся. А калі крыху і змерзне, дык невялікая бяда: прынамсі адвучыцца ад свае ўпартасці і наравістасці. Наконт драпежнікаў — дык іх і баяцца не трэба, маўляў, ваўкі ўначы адно каля вё-

сак ходзяць, а рысі ды мядзведзі, дзякуй Богу, вельмі рэдка ў гэтых мясцінах трапляюцца. Карацей, супакойвалі яны такім чынам бедных бацькоў, але на маці, вядома, гэтыя ўсе байкі не вельмі дзейнічалі. Апярэджваючы і мужа, і дзевера, яна блукала па лесе, клікала-гукала... Уся бясконцая ноч і ўвесь наступны дзень прамінулі ў нястомных, але марных пошуках. Увечар мужчыны сілай завялі няшчасную маці дадому.

А ў наступны дзень пры дапамозе сялян з навакольных вёсак адбылася аблога. Людзі рухаліся з двух бакоў, ахопліваючы як мага большую частку пушчы і пасоўваючыся адначасова ў напрамку, які паказваў Лука. Але абедзьве часткі аблогі сышліся, а выніку па-ранейшаму не было ніякага. Сялянам даводзілася адно разводзіць рукамі. Самыя розныя здагадкі і меркаванні чуліся з вуснаў удзельнікаў аблогі. Нехта казаў, што ў прапажы хлопчыка вінаваты дзядзька, маўляў, сам бяздзетны, дык з-за зайздрасці пайшоў на грэх. На бяду, у нас часта так здараецца, што чым больш вычварны і неверагодны паклёп, тым глыбей ён пранікае ў розум і сэрца людзей.

Хутка паклёп дасягнуў беднай хаціны братоў Зубко і спарадзіў там нешта страшнейшае за сам адчай — нянавісць братоў. Няшчасныя бацькі, прымаючы нясмелыя суцяшэнні суседзяў, што, дасць Бог, дзіця яшчэ знойдзецца, здавалася, адштурхнулі ўжо ад сябе ўсе думкі і спадзяванні, але... «Бог справядлівы!» — дадавалі яны з нядобрым спакоем.

Свечкі, якія яны ставілі ў царкве перад святымі іконамі, былі фантастычна выцягнуты, але прычотнікі нібыта і не заўважалі гэтага, ■ бачылі, здавалася, толькі гора няшчасных бацькоў.

Адзін толькі Лука дзень і ноч хадзіў па вёсцы, угаворваючы ўсіх зрабіць яшчэ адну аблогу. І на пяты дзень пасля знікнення хлопчыка яна адбылася — і зноў нічога! Лука застаўся ў пушчы. Агаломшаны, ён блукаў там увесь час, не прымаў ежы, якую яму прыносіла жонка, высах, ззелянеў, і некалькі разоў казаў жонцы, што калі не знойдзе пляменніка, то і каб яго самога ўжо не шукалі.

І вось на сёмы дзень, калі збіралася трэцяя аблога, палясоўшчык з суседняга ўчастка Іван Грэцкі абыходзіў дазорам зусім процілеглую частку пушчы, у дзесяці вёрстах ад месца, дзе праводзіліся ранейшыя аблогі. Каля ельніку яму раптам пачуўся нібыта глухі стогн, сіплае выццё, але з нейкім адценнем чалавечага голасу. Уражаны і ўстрывожаны палясоўшчык схапіўся за ружжо і ўважліва пачаў услухоўвацца. І сапраўды, у хрыплым, перарывістым стогне ці выцці пераважаў чалавечы голас, нават можна было пачуць словы: «Ой, мамка!.. Ой, татка!».

На шчасце, Грэцкі, хоць і служыў у іншым лясніцтве, але паходзіў з Бялавіч і ведаў зніклага хлопчыка. І зараз ён падумаў: а ці не бедалага гэта Іванька? Не марудзячы, заглыбіўся ён у гушчар па кірунку голасу і хутка пад адной з разлапістых ялін знайшоў дзіця, якое сядзела з дубцом у руцэ, нібыта рыхтавалася абараняцца. Калі палясоўшчык нахіліўся над хлопчыкам, Іванька і сапраўды балюча драпануў па твары свайго выратавальніка. Затым ён памкнуўся бегчы, але апухлыя ногі яму не падпарадкоўваліся, ён нават не здолеў прыўзняцца.

Толькі тады палясоўшчык сцяміў, з чаго яму правільней за ўсё пачынаць. Ён выцягнуў з паляўнічай сумкі свой дзённы запас хлеба і сыру і затым малымі кавалкамі, з абедзвюх рук прапанаваў хлопчыку і тое і другое. Бедалага накінуўся спачатку на хлеб — з такой лютасцю, што страшна было глядзець. Пасля кожнага з'едзенага кавалка ён, здавалася, вачыма вырываў з рук свайго карміцельца наступны.

— Не бойся мяне, — пасля таго, як сумка апусцела, прамовіў палясоўшчык. — Пойдзем адсюль, я данясу цябе да мамкі і таткі, толькі не драпайся!

— Ой, буду драпацца! — адказаў хлопчык, ваяўніча бліскаючы вочкамі, але ўжо даволі спакойным голасам.

— Бог з табой! За што ж, мой ты даражэнькі? Няўжо не чуеш: дадому я цябе аднясу, дадому!

— Дык ён жа тут!

— Як тут? Дзе?

— Няўжо не бачыш — вунь наша хатка, а вунь — Максімава! А вось і наша царква! Глядзі, колькі ў ёй крыжыкаў!

І дзіця схуднелымі рукамі паказала на цёмную яліну з маладымі, насамрэч крыжападобнымі галінкамі. Верагодна, з-за голаду ў яго адбылося нейкае кароткае вар'яцтва, якое, нібыта злітаваўшыся над пакутамі няшчаснага, адмыслова забаўляла яго рознымі прывідамі і відзежамі. Грэцкі зразумеў, што з дзіцёнкам нешта не тое, але для сябе растлумачыў справу проста: «Дзіця трызніць — трызненне ад ліхаманкі, а ліхаманка ад смагі!». Да вады было далёка, і таму палясоўшчык, не задумваючыся, паднёс да вуснаў дзіцяці сваю біклагу, ад якой той, напэўна, не адарваўся б, каб не кашаль. І сон у гэты ж час авалодаў малым. Тады палясоўшчык узяў яго на рукі і панёс дадому.

Не будзем распавядаць аб тым, як сустрэлі сына бацькі, ні аб радасці і ціхіх слязах, з якімі Лука разам з жонкаю ўкленчылі ніц на месцы здарэння, ні нават аб збянтэжанасці вясковага арэапага, які ўжо даўно прадказаў марнасць пошукаў хлопчыка і якому, як і ўсім арэапагам, прыйшлася па нутру гэтая, несумненна, звышпрыродная з'ява.

Скажам толькі яшчэ некалькі слоў — пра апошняе. Маці адразу пачала частаваць Іваньку ўсім, што было ў яе пад рукой: кіслым малаком, хлебам, сырам, яечняй. Згаладнелае за сем дзён дзіця ўсё гэта паспяхова праглынула і адразу заснула на печы.

Калі выкліканы фельчар зайшоў у хату, то перш-наперш пацікавіўся, ці кармілі чым-небудзь Іваньку.

— Ну няўжо ж мы без душы, паночак, што ж вы пра гэта яшчэ пытаецеся! — адказала пакрыўджана маці.

Фельчар толькі махнуў рукой на гэтыя словы. Але цуд Божы, хоць і не заўсёды бачны нашым вачам, сам па сабе заўжды дасканалы: калі захоча праявіць сябе ў поўнай меры, то зазззяе на славу Божую насуперак усяму.

На наступную раніцу дзіця прачнулася, як ні ў чым ні бывала: спакойнае, вясёлае, здаровае. Калі ў яго запыталіся пра вандраванні па пушчы, Іванька нічога пэўнага не змог адказаць. Казаў толькі, што бег доўга-доўга,

усё наперад, не аглядаючыся, а пасля апынуўся ў нейкім вельмі цёмным хмызняку, дзе і праседзеў, сціскаючы дубец у руках, усе сем дзён. Калі ж яму хацелася есці, ён стараўся спаць, бо ў сне карміла яго дзівосная пані ў белым убранні.

Цудадзейна выратаваны Ваня Зубко цяпер ужо ўдвая старэйшы. Яму б даўно ўжо пайсці ў вучэльню, бо адукацыя такому чалавеку патрэбная, тым больш, што ён мог бы, усведамляючы дадзеную яму некалі нябёсамі міласць, перадаваць яе як мага больш поўна іншым. Бо хто можа сказаць, што гэты, адзначаны Божай любоўю, хлапчук не выбраны Усявышнім для іншых, больш важных здзяйсненняў...

## Каментарыі

**«Шчыпцы і свечка».** Пераклад з польскай мовы В. Шніпа. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

**«Ніхто, як Бог».** Пераклад з польскай мовы У. Кісялёва. Друкуецца паводле часоп.: Крыніца. — 2003. — № 7.

## ТАДЭВУШ ЛАДА-ЗАБЛОЦКІ
## (1811—1847)



У «Былым і думах» А. Герцэна, у тым месцы, дзе расказваецца пра ўзмацненне ў Расіі, у тым ліку ў Маскоўскім універсітэце, рэпрэсій царызму супраць вальнадумства пасля Лістападаўскага паўстання, ёсць згадка: «У 1832 годзе прапаў паляк-студэнт нашага аддзялення. Прысланы на казённы кошт, не па сваёй волі, ён быў залічаны на наш курс, мы пазнаёміліся з ім, ён паводзіў сябе сціпла і журботна, ніколі мы не чулі ад яго ніводнага рэзкага слова, але ніколі не чулі і ніводнага слабага. Адной раніцай яго не было на лекцыях, на другі дзень — таксама не было. Мы пачалі распытваць, казённакоштныя студэнты сказалі нам па сакрэце, што па яго прыходзілі ўночы, што яго паклікалі да кіраўніцтва, потым з'яўляліся нейкія людзі па яго паперы і рэчы і не дазволілі пра гэта гаварыць. На гэтым і скончылася, мы ніколі не чулі нічога пра долю гэтага няшчаснага маладога чалавека».

Што ж гэта за такі загадкавы «паляк-студэнт», пра якога з такім спачуваннем і спагадай, так цёпла выказаўся яго паплечнік па вучобе ва ўніверсітэце вялікі рускі пісьменнік-рэвалюцыянер?

А быў гэта не хто іншы, як малады паэт з Беларусі Тадэвуш Лада-Заблоцкі. Нарадзіўся ён у 1811 г. у вёсцы Лугінавічы цяперашняга Сенненскага раёна ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Віцебску — спачатку ў семінарыі пры кляштары базыльянаў, а потым у гімназіі, якую скончыў у 1831 г. У гэтых навучальных установах выкладанне вялося на польскай мове, вучні выхоўваліся ў польскім патрыятычным духу.

Вырашальную ролю ў жыцці Т. Лады-Заблоцкага адыграў сам куратар Беларускай навучальнай акругі Р. І. Карташэўскі. У 1830 г., як успамінаў Карташэўскі, у час яго «першай інспекцыі беларускіх школ» яму прадставілі вельмі здольнага, добра падрыхтаванага вучня Т. Ладу-Заблоцкага, які да таго ж «пісаў вершы як на польскай, так і на рускай мовах». Карташэўскі дапамог маладому таленту паступіць на вучобу за кошт Беларускай навучальнай акругі ў Маскоўскі ўніверсітэт на славеснае аддзяленне. Пасялілі Т. Ладу-Заблоцкага ў інтэрнаце для казённакоштных студэнтаў. У гэтым жа інтэрнаце ў нумары II жыў і будучы вялікі рускі крытык В. Р. Бялінскі, які ўтварыў там з таварышамі прагрэсіўны студэнцкі гурток пад назвай «Литературное общество II нумера», актыўным членам якога неўзабаве стаў і Т. Лада-Заблоцкі. З дапамогай Бялінскага малады паэт з Беларусі пазнаёміўся з найбольш прагрэсіўнымі студэнтамі і выкладчыкамі ўніверсітэта. Сярод іх былі і землякі — нядаўні старшыня Таварыства філаматаў Юзаф Яжоўскі, філарэт Ян Вернікоўскі, былы вучань Полацкай уніяцкай семінарыі Ян Савініч і інш. Разам з землякамі Тадэвуш таксама стварыў літа-

ратурнае таварыства для пашырэння прагрэсіўных ідэй. Іх выказваў ён і ў сваіх вершах.

Але цар са сваімі памагатымі таксама не спаў. Летам 1833 г. у Чавусах на Беларусі яго шпікам трапіўся ў рукі вельмі дзёрзкі верш на польскай мове з такой, напрыклад, страфой (падаём яго ў падрадковым перакладзе):

*Пекла для нас — царскі трон.*
*Сёння сядзіць на ім чорт.*
*Ён варты шыбеніцы.*
*Помста, братва, або смерць!*

У Віцебску пачалося следства па палітычнай справе «о песне возмутительного содержания...». Следства ўстанавіла, што аўтар яе — студэнт Маскоўскага універсітэта Т. Лада-Заблоцкі. 29 чэрвеня 1833 г. «зламыснік» быў арыштаваны, пра што і ўспомніў праз шмат гадоў А. Герцэн (праўда, з асобнымі недакладнасцямі, напрыклад, ён няправільна назваў дату арышту). Пасля доўгага следства маладога паэта «по велению» цара вырашана было адправіць радавым «у Каўказскі корпус». Гэта было ў 1835 г.

Пра свой настрой на каўказскай высылцы і салдатчыне расказвае ён сам ў пісьме да свайго новага сябра грузінскага паэта-рамантыка князя Міхаіла Туманішвілі ад 29 ліпеня 1839 г.: «Не чакайце ж, князь, ад мяне тапаграфіі Каўказа ў адносінах геаграфічных і паэтычных. Што да першага, то тут яшчэ ў тым-сім магу Вас задаволіць, але ў апошнім... Ці можа што-небудзь ажывіць астылую душу? Наўючаны ранцам і сухарамі, са стрэльбай у руцэ, караскаючыся па высях і абрывах, я не раз праклінаў каўказскія горы, не заўважаючы іх прыгажосці, і яны болей давілі на мяне, чым абуджалі вытанчанае пачуццё эстэтычнай красы. Вы яшчэ малады і глядзіце на свет праз шкло чараў фантазіі... Але мая душа нямая — і калі ■ яе глыбіні вырвецца які-небудзь стогн, то ён болей падобны на крык Праметэя, што прыкаваны да аграмадзін Каўказа, і нутро яго раздзіраюць нябесныя арлы...». На Каўказе беларускі выгнаннік зблізіўся таксама ■ вядомым грузінскім паэтам Н. Бараташвілі, з рускім паэтам Я. Палонскім, азербайджанскім пісьменнікам А. Бакіханавым, ён наведваў дом славутага А. Чаўчавадзе ў Тыфлісе, быў знаёмы з яго дочкамі Нінай Грыбаедавай і Кацярынай Дадзіяні. Зблізіўся ён таксама з сасланым сюды з Сібіры аўтарам верша-паслання «Струн вещих пламенные звуки» паэтам-дзекабрыстам А. Адоеўскім. У 1839 г., уражаны раптоўнай смерцю рускага сябра, Т. Лада-Заблоцкі выказвае свой смутак у прачулым «Санеце».

У 1846 г. беларускі выгнаннік быў вызвалены ад салдацкай службы і прызначаны кіраўніком Кульпінскімі салянымі промысламі ў Грузіі. Але неўзабаве памёр ад халеры.

Т. Лада-Заблоцкі напісаў няшмат. Вершы, напісаныя ў такіх цяжкіх умовах, ён пры дапамозе Р. Падбярэскага выдаў асобнай кнігай у Пецярбургу. Галоўная тэма паэзіі Т. Лады-Заблоцкага на чужыне — туга па роднай Беларусі. Пра беларускую тэматыку яго твораў сведчаць іх назвы — «Ваколіцы Віцебска, «Да Лучосы», «Вілія», «Даўжанскае возера» і інш. Пры ацэнцы творчасці паэтаў у польскай «Усеагульнай энцыклапедыі» С. Аргельбранта адзначана (1868 г.), што Т. Лада-Заблоцкі «вызначаўся паэтычным талентам, вылучаючыся сярод паэтаў так званай беларускай школы».

*К. Цвірка*

## ЛЯШКА

Балада

З баявога паходу,
Не шукаючы броду,
Унь дамоў літвін скача —
Пры сядле вісне важка
У слязах у гарачых
Маладзенькая ляшка.

«Страшны, дзікі літвіне!
Уступі мне, дзяўчыне:
Адвязі мяне, чуеш,
Да матулінай хаткі.
Хоць аблегчыць хачу я
Старасць беднае маткі...»

«Слёз дарэмна не лі ты:
Я, хто сечаны, біты,
Іскры жалю не маю.
Край свой больш ты не ўгледзіш —
Ну, а матцы ў тым краі
Дапамогуць суседзі.

А цябе, маладую,
Адвязу у Літву я.
Там дамок наш шарэе
Каля рэчкі бруістай.
Там твой жаль я развею
У абдымках агністых».

«О літвіне, злы д'ябле!
Ты ступіў сваю шаблю
Аб братоў маіх латы —
Дык ці ж шал той спрадвечны
Дасць забыць мне пра страты,
Здыме боль мой сардэчны?»

«Кінь ліць слёзы! Я знаю
Вас, жанчын: хто трапляе
З вас у рукі літвіна,
Тут жа плача, рыдае,
Ну, а прыйдзе часіна —
К чужаку прывыкае».

«О літвіне бяздушны!
Што табе плач мой скрушны!
Мне з табой быць — агіда!..
Слухай: пусціш дадому —
Я сакрэт табе выдам,
Невядомы нікому!

Той сакрэт дапаможа
Назло сціжме варожай
Выйсці з сечы ўцалелым.
Ад цябе тады ўсюды
Адлятаць меч і стрэлы,
Як ад мячыка, будуць.

Ты смяешся на гэта?
Тады сілу сакрэту
На мне спрабаваць можаш.
Вынімай жа, літвіне,
Шаблю вострую з ножан,
Раз не верыш дзяўчыне!»

«Шкода мне цябе будзе.
Хто ж такую забудзе!
Ты — як красачка ў полі!
Ды за чару такую,
Што ад смерці ратуе,
Я вярну табе волю!»

Тут з каня хуткай пташкай
Долу скокнула ляшка,
Стала ўраз на калені:
«Пробуй шаблю, літвіне!»
Хмуры, доўга ў зняменні
Ён стаяў пры дзяўчыне.

Міг яшчэ — і як быццам
Паміж хмар бліскавіца,
Меч узвіўся літвіна.
Кроў лінула струменем,
І — упала дзяўчына
Нежывая з каленяў.

Стаў літвін, бы ўкапаны:
Што ж зрабіў ён, паганы?
Як ён, дурань, паверыў

15 Зак. 1799

Байкам гэтакім ляшкі?
Кроў праліў для хімеры —
О які грэх найцяжкі!

Не знайсці большай страты.
Лепш бы страціў багаты
Скарб ён, шабляй здабыты!
Пастаяў, выцер слёзы
І паплёўся, прыбіты,
У Літву паўз бярозы.

*1835, Віцебск*

## ВАКОЛІЦЫ ВІЦЕБСКА
(скарочана)

Дзяўчаты майго беларускага краю.
Я з дзён маладосці вас сёння гукаю.
Як мары вясны, у дні ясныя тыя
Заходзілі вы ў мае сны залатыя.
Я помню, выгнаннік, калі вы зычліва
За песні, што з вамі спяваў так шчасліва,
Гуртом на чало мне вянок ускладалі
З тых просценькіх кветак, што ў полі збіралі.
Зямлі маёй дочкі! Прысядзьце са мною —
Паслухайце чула яшчэ раз гурмою
Самотную песню-журбу вайдэлота,
Што над Каханоўскага лютняй з ахвотай
На Белай Русі зноў ускінуў далоні:
Гук, збуджаны ёю, памчыцца праз гоні
І, рэхам адбіўшыся ў дрэвах надрэчных,
Парушыць глыбокі сон пушчаў спрадвечных.

О наша Дзвіна. Калі сонца звысоку
Растопіць снягі, свет сагрэе навокал,
Твае берагі ажывуць ад той ласкі:
Як гожа засвецяцца з купінак краскі!
Мяне гэтак вабілі ў часе дзяцінным
Твае пералескі, гаі, лугавіны!
Заўсёды парой незабыўнаю весняй
Шум хвалі тваёй быў мне лепшаю песняй.
Ён мне на душу, што не знала турботы,
Яшчэ навяваў цень няяснай сумоты.
Вясна! Ты цяплом жыватворным прамення
Прыносіш прыродзе ўсёй уваскрасенне,
Уквечваеш свет наш, гаі апранаеш —

Чаму ж ты боль з сэрца майго не здымаеш?
І слёзы, што ў вочы плывуць часам мройным,
Чаму ж не асушыш ты ветрыкам гойным?..

Вось я на гары ўжо — мой Віцебск пад ёю.
Тапалі густыя — тут вартай жывою.
Па схіле — хмызняк. Аж да воблакаў самых
Узносіўся калісь тут велічны замак.
Бацькі нашы бачылі замка руіны,
Пакінуўшы нам пра яго успаміны...
Тут беларусін у часы найстарыя
Не раз адбіваў войскаў зграі чужыя.
За край свой спрадвечны устаўшы сцяною,
Ён біўся адважна тут з Руссю, з Літвою.
Тут, выйграўшы бітву, ля ножак Мар'яны
Склаў меч пераможны Альгерд закаханы
(Калісь быў Геракл сваю грозную зброю
Склаў гэтак жа перад Эмалі красою).
Тут перад Літвы ўладаром найгалоўным
Схіліўся быў Віцебск з тым замкам цудоўным.
Вось тут, дзе калісьці пад небам грымелі
Забытыя сёння баі ды вяселлі,
Хіба толькі часам птах нейкі вандроўны
У голлі бяроз спеў пачне свой чароўны.
А плюшч, што смяецца з турботы людское,
Плашч смутку ўскідае на месца святое.
Я часта — у руках быў Вергілій, Гарацый —
Тут слухаў шум Віцьбы між вольх ды акацый.
Я чуў пра асілкаў даўнейшых так многа
Тут спеваў узнёслых ад старца сівога.
Расказваў паданні ён пра чарадзеяў,
Пра голых русалак, пра рыцараў дзеі.
То мудры быў старац, меў дзіўныя вочы,
Ён з духамі знаўся і часта прарочыў,
Што з намі, з зямлёй нашай некалі стане.
Я слухаў яго, затаіўшы дыханне.

Тваёй даўніной, Беларусь, зноў я мрою...
Дзе ж сёння твае палкаводцы-героі,
Што калісь на бітвы выстройвалі роты?
Дзе славы тваёй песняры — вайдэлоты,
Што спеўнаю лютняй шматструннай сваёю
Шляхетныя сэрцы ўздымалі да бою?..
Цяпер жа героі твае ўсе забыты,
Дый лютні тых бардаў папробуй знайдзі ты...

Апошні з іх, бардаў узнёслых, раскутых,
Быў гэтых лясоў выхаванец славуты[1],
Што пеў Чартарыйскім, быў людам прызнаны,
Касцёлам святым пры жыцці ўшанаваны.
Ён з плёсаў далёкай ракі заімглёнай
Цябе сваёй песняю славіў натхнёна.
Хто з нас яго лютню цяпер адшукае
І цені дзядоў ёю зноў пагукае?..
Мо там, ля Дзвіны, дзе я ў думках і мроях,
І ён за прыцемненай хваляй рачною
Не раз бачыў продкаў далёкія здані
І слухаў старцоў найсівыя паданні.
Яго у палон бралі вобразы тыя,
Адкрытыя зрокам пяснярскім, жывыя.
О бард! Беларускай краіны ты слава!
Свяціла табе Заўтра яснага ява.
Ты думаў: вось-вось яно прыйдзе ўжо ў звоне,
І ўвенчацца лаўрам ссівелыя скроні.
Але ўсё дарэмна: хваробы навала
Надзею на шчасце зямное забрала...

Гукаючы рэха стагоддзяў былінных
Па гэтых пагорках нямых і далінах,
У строгі касцёл адчыню ў думках дзверы —
Так прагнуць там сэрцы збалелыя веры!
Калісьці ў маленстве і я ў ім, бывала,
Спагаднаму Богу маліўся нямала
І з грэшнай зямлі да нябёсаў наймілых
Не раз на нябачных узносіўся крылах...
Чаму я не ўзяў веру гэту з сабою,
Калі так, без вёслаў жыццёвай ракою
Панесла мяне да нязнаных прастораў,
Калі пад нагамі чуў грознае мора,
Калі дружбакі і каханне былое
Сплылі з туманамі, застаўшыся ў мроях,
Калі я блукаў па дарогах цярністых,
Глытаў у пустыні пыл дзюнаў рабрыстых,
Ніводная зорка не выйшла з аблокаў,
Не ўбачыў спагады ні ў водным я воку...

Яшчэ тут мне бачыцца побач з касцёлам
Святыня навукі — даўнейшая школа...
Вітаю цябе сёння з-за небасхілаў,
Мяне ты дабру, мая школа, вучыла.
Тут ранак жыцця мой імкліва прамчаўся,

Мужнеў і сталеў я тут, як і дзятва ўся.
Тут класікай дух мацаваў свой, бывала,
Тут першая дружба мяне акрыляла.
О дзе вы, маленства сябры? Як даўно вы
Адгэтуль пусціліся ў шлях свой жыццёвы!..
Пра вас, пра маленства сяброў — мае мары.
Навокал — чужыя, халодныя твары.
Каму мне боль сэрца раскрыць на чужыне?
Хто спеў мой пачуе ў далёкай краіне?
Хто мне паспрыяе тут, жаль мой раздзеліць?
І хто тут, выгнанца, мяне развяселіць?

Але гэтых скаргаў атручаных досыць!
Ад іх адпачыць сэрца беднае просіць.
Хай думка да родных ляціць далячыняў!
Вось я ў Лукішанскай шырокай даліне.
Чароўны куточак! Тут ціша і воля!
Зарослыя лесам узгоркі за полем,
Нібы веліканы, усталі сцяною
І горад адсюль засланяюць сабою.
А збоку, з-за ліп і бяроз-выхвалянак,
Адкрылася вёсачка — шчасця прыстанак.
За ёю жытамі хвалюецца ніва —
Там ветрык залётны сваволіць гулліва.
А далей — Лучоса ў траве серабрыцца,
Віруе ў затоках, між лозаў бруіцца...
Як добра, пакінуўшы горад шумлівы,
Блукаць мне было тут у часе шчаслівым.
У гэтым прыволлі, над логам, над гаем
Як вольна, раскрылена думка лунае!
Пакрыўджаны доляй спакой тут здабудзе,
На ўлонні прыроды ўсё ліха пазбудзе.
Бы трапіць ён раптам — няхай на часіну —
З будзённасці цяжкай у мараў краіну.
Адзін ён у свеце ды хмаркі нябёсаў...
Заўсёды табе буду ўдзячны, Лучоса,
За хвілі такія! Ды шкода, што ў час той
З затокі тваёй, з-пад альшыны купчастай
Не выйшла прарочая німфа, якая
Сказаць, што бяда мяне ў свеце чакае...

На тых берагах нечакана, у ззянні
Мне бліснула ясная зорка кахання.
Я ўбачыў цябе на жыцця майго ранку,
Нібы незямную нябёсаў пасланку...

Вачэй тваіх промень з-пад веек агністых
Мне проста ў душу ўпаў, высокі і чысты.
Свяціў мне і ўночы — асколачкам раніц —
На шчоках каханых, бы ружа, румянец.
Высокім агнём пунсавелі спакусна
Зарою нябеснай налітыя вусны.
А косы твае збановаю хваляй
Так вабна на грудзі тугія спадалі...

Бывай жа, Наталля, бывай, дарагая!
Навекі цябе я цяпер пакідаю.
Пад сонцам чужым, ад злой кулі чужое
Я, пэўна, ўпаду дзесь пад дзікай скалою.
І толькі прыблудны алень бесклапотны
Прыпыніцца мо ля магілы самотнай.
Схіліўшы чало прамяністае долу,
Кусты пагрызе, што паўсходзяць наўкола.
А ўсё-такі дух мой паклічуць нябёсы —
Ён вернецца зноўку на бераг Лучосы.
Сустрэўшы цябе у задуме пад дрэвам,
Абудзіць душу тваю лёгкім павевам
І, можа, адмёўшы ліхое з наскоку,
На момант асушыць слязу ў тваім воку...

Дубровы густыя, гаі і даліны!
Вякоў курганы пад шнурком жураўліным!
Прыміце ж апошні уздых пілігрыма,
Што арфу настройваў на гукі радзімы.
Шчаслівы, хто дзесь у канцы падарожжа
Заплакаць, Дзвіна, ля вады тваёй можа...

О людзі! Хто брата свайго з вас аплача,
Таго, што заручаны з доляй бядачай?..
Ды ўсё ўжо! Расстання пара наступае —
Унь бура мой ветразь ужо напінае.
І ў змрок гоніць лодку, бы пёрка малое —
Грамы надо мною, віры пада мною.
Слязіна астатняя ўпала з павекі...
Бывай жа, мой Віцебск, край родны, навекі.

*1837—1839*

## САНЕТ

Залётны ветрык адхінуў на міг крыло
Палаткі, і, нібы нябёсаў падарунак,
Нібы ўсяго жыцця астатні пацалунак,
Праменьчык сонца лёг паэту на чало.
Канаў паэт, і перад ім усё плыло,
Ланцуг каўказскіх гор за далеч браў кірунак,
Ракой малочнай бег у светлых промнях-струнах,
І неба перад ім клубкі аблок віло.

Стаяла ціша. Пустка дзікая, глухая.
«Чаму ж не дух я гэтых грозных гор нямых? —
Паэт так думаў. — Ажывіў бы ўмомант іх
Я звонам пчол — хай ён у кветках не змаўкае
Ды песняй салаўя ў лістоце дрэў густых:
Той спеў — прыроды-мацеры душа жывая».

*1839, Абоз пад Ахтамі*

### Каментарыі

**«Ляшка».** У аснове твора — распаўсюджаны ў XIX ст. сюжэт. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Atheneum. — Wilno, 1844. — Т. III. — S. 168.

**«Ваколіцы Віцебска». «Санет».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Lada-Zablocki Tadewusz. Poezya. — Petersburg, 1845.

[1] Маецца на ўвазе польскамоўны паэт Беларусі Францішак Князьнін (1750—1807), родам з Віцебска; служыў пры двары князёў Чартарыйскіх.

## АЛЯКСАНДР РЫПІНСКІ
## (1811? — пасля 1896)



Радзіма паэта і фалькларыста Аляксандра Рыпінскага — вёска Кукавячына пад Віцебскам. Выхоўваўся ён у заможнага дзеда ў маёнтку Стайкі — таксама на Віцебшчыне.

Сярэднюю адукацыю атрымаў у Віцебскай гімназіі. Вельмі запомнілася юнаму школяру, які мроіў паэзіяй, сустрэча там з літаратарамі-шубраўцамі Восіпам Сянкоўскім, Янам Ходзькам, а таксама сакратаром апошняга — маладым Тамашом Занам. У 1829—1830 гг. вучыўся ў школе падхарунжых у Дынабургу, дзе сышоўся са зняволеным там мдзекабрыстам Вільгельмам Кюхельбекерам, якога вучыў польскай мове, знаёміў з асаблівасцямі беларускай мовы, з мясцовай літаратурай, у прыватнасці з творамі Юльяна Нямцэвіча і Адама Міцкевіча.

Калі ўспыхнула Лістападаўскае паўстанне, Рыпінскага і яго таварышаў мабілізавалі ў расійскую армію генерала Дыбіча, але па дарозе да месца прызначэння «падхарунжыя» паўцякалі на бок паўстанцаў. Пасля трагічнага заканчэння паўстання эмігрыраваў у Парыж, дзе пражыў дванаццаць гадоў. На сходах Гісторыка-літаратурнага таварыства, куды сам уваходзіў, Аляксандр Рыпінскі чытаў лекцыі пра беларускі фальклор і этнаграфію, што потым склалі кнігу «Беларусь», выдадзеную ў Парыжы ў 1840 г. Дабратворнае ўздзеянне зрабіла на яго там знаёмства з Адамам Міцкевічам, якому Рыпінскі прысвячаў свае творы. З мэтай вывучэння англійскай мовы ў 1846 г. пераехаў у Лондан, дзе зарабляў на хлеб, працуючы настаўнікам. Разам з наваградчанінам Ігнатам Яцкоўскім, аўтарам «Аповесці майго часу», заснаваў там уласную кнігарню і друкарню, дзе выдаваў разам з іншымі аўтарамі і свае кнігі, пры тым з уласнаручнымі ілюстрацыямі.

Дачуўшыся пра аб'яўленую царом Мікалаем I амністыю паўстанцам, прадаў сваю лонданскую друкарню з кнігарняй і ў 1859 г. вярнуўся ў Беларусь, да сваіх братоў на Віцебшчыну.

Аляксандр Рыпінскі пісаў пераважна вершы на польскай мове, выдаваў іх асобнымі зборнікамі. Для нас найбольшую цікавасць мае яго публіцыстычна-этнаграфічная кніга «Беларусь», дзе ўпершыню быў зроблены агляд вуснай паэзіі беларускага народа і як ілюстрацыя былі пададзены фальклорныя творы ў арыгінале, на беларускай мове, якія аўтар насіў у памяці з дзяцінства. Рыпінскі падкрэсліваў, што ў вуснай паэзіі беларусаў, якая валодае «чарадзейнай» сілай, хаваюцца «новыя, невычэрпныя крыніцы мовы, гісторыі і паэзіі» і што на яе аснове можна ствараць «сапраўды нацыянальную, вольную ад чужаземнай літаратуру». У кнігу «Беларусь» аўтар уключыў і некалькі беларускамоўных вершаў, аўтарства якіх да канца не высветлена. Кніга «Беларусь» мела шырокі розгалас сярод беларускай інтэлігенцыі. Яна паказвала, якi невы-

чэрпны скарб тоіць у сабе беларускі фальклор. З яе старонак у поўны голас гучала чыстая беларуская мова, самабытная і мілагучная. Для нас цікавыя звесткі і пра яе пашырэнне. Напрыклад, Рыпінскі паказвае, што ў яго часы ў касцёлах святары не цураліся беларускай мовы, што там заўсёды гучалі беларускія рэлігійныя песні, асобныя з якіх ён і прыводзіць у кнізе на мове арыгінала. Пра адну з такіх песень «О! Мой Божа, веру табе» аўтар піша, што «сёння няма ніводнага касцёла, ніводнага месца, дзе б не чулася гэтая песня».

Спрабаваў Рыпінскі пісаць на беларускай мове і сам. Праўда, да нас дайшла толькі яго балада «Нячысцік», якую аўтар надрукаваў у 1853 г. у сваёй лонданскай друкарні, прытым двойчы. Хоць Рыпінскі і назваў твор баладай, яго ўсё ж трэба аднесці хутчэй да жанру звычайнага вершаванага апавядання, альбо інакш — «быліцы», жанру, які недзе ў гэты час распрацоўваў В. Дунін-Марцінкевіч.

У нашым літаратуразнаўстве Рыпінскі лічыўся нейкі час амаль рэакцыянерам, непрыхільнікам беларускага народа. У доказ звычайна браліся яго словы з кнігі «Беларусь» пра тое, што беларуская зямля «складае неад'емную частку Польшчы» і што беларускае дзіця павінна выгаварыць слова «Польшча» раней, чым «мама», а таксама тое, што сваю кнігу ён прысвячаў «першаму з беларускіх сялян, які навучыцца чытаць, а потым гаварыць і думаць па-польску». Сапраўды, тут выразна выявіўся польскі патрыятызм аўтара, які залічаў сябе да палякаў, хоць папраўдзе паходзіў з беларускай, толькі апалячанай шляхты. Разам з тым відаць, што ён душой палюбіў песні і мову беларускага народа і недзе ў глыбіні сваёй свядомасці разумеў, што гэта мова не толькі цяперашніх сялян-беларусаў, але і яго радавітых продкаў. Жаданне ж «прыблізіць» беларусаў да палякаў можна, відаць, растлумачыць рэальнай небяспекай «паглынання» Беларусі вялікай усходняй дзяржавай. Прызнанне «блізкасці» беларускай мовы да рускай магло быць важным аргументам у захопніцкай палітыцы царызму, які імкнуўся апраўдаць, «навукова» абгрунтаваць сваю экспансію, далучэнне «исконно русских земель» да Расійскай імперыі.

Рыпінскі пасля вяртання на радзіму ў нейкай ступені ўсё ж памяняў свае погляды, стаў бліжэй да беларускай нацыянальнай ідэі. Так, у вершы для альбома А. Вярыгі-Дарэўскага беларускую песню ён ужо называе «сваёй», «нашай» у адрозненне ад «чужой», польскай. А ў пісьме да А. Плуга ў 1883 г. заяўляў, што беларусам няма патрэбы «гарнуцца да Польшчы».

*К. Цвірка*

# БЕЛАРУСЬ

## Раздзел I

### Некаторыя агульныя меркаванні

(урыўкі)

Частка польскай зямлі, абведзеная двума амаль роўнымі паўколамі па абодва бакі горада Полацка, сталіцы колішняга ўдзельнага княства, а пазней — польскага ваяводства: налева — па Прыпяць і пінскія балоты, а на поўнач — па Пскоў, Апочку і Лукі, і сёння носіць вядомую нам здавён удзельную назву — Белая Русь. Адкуль узялася гэтая назва, дасюль застаецца загадкай, якую не могуць разгадаць вучоныя.

Якраз на гэтым кліне нашай зямлі, паміж вусцямі Віцьбы і Палаты і срэбнымі хвалямі шырокай Дзвіны, дзе Лучоса, Ула і Дзісна злучаюць свае жывыя воды ў адно з ёй рэчышча і ўжо разам нясуць іх вясною пад цяжарам суднаў, наладаваных нашым лёнам і пшаніцай, каб злажыць гэты дар каля ног Дыяменту*, за багатай Рыгай, на гэтай, кажу я, чароўнай прырэчнай раўніне, што займае ў акружнасці некалькі дзясяткаў міляў, няма ніводнай сцяжынкі, па якой бы не ступала мая нага, аніводнага выразу мовы сціплага ратая, якога я не зразумеў бы, аніводнай, можа, песні, якую б гучнае рэха, што шырока разлягаецца па лесе, не данесла да майго вуха.

Жыве там просты народ славянскі, здавён параднёны з сям'ёю Лехаў, пачцівы, але ўбогі і мала вядомы нават Польшчы, уласнай айчыне, хоць яе болей за ўсё палюбіў.

Дарэмна суседнія ўладары, ад варагаў да Гедыміна, вякамі змагаліся за тое, каб прысвоіць яго. Не адзін з іх праліваў тут кроў, узводзіў вакол гарадоў мураваныя ўмацаванні, насыпаў рукамі тутэйшых людзей валы, перакройваў межы, мяркуючы, што раз і назаўсёды завалодае гэтым краем. Іхнія муры разбурыліся, сталі руінамі, насыпы ізноў зраўняліся з зямлёй, а народ як жыў, так і жыве на сваім месцы, нібы кажучы ім, што сам сабе здольны выбіраць пана, а розных прыхадняў ведаць не хоча. Урэшце выбраў ён сабе Польшчу за матку, кінуўся разам з Літвой у яе апякунчыя абдымкі і прыхінуўся да яе з усёй сыноўняй любоўю. Татарскі наплыў маскалёў, што яго і сёння гняце, закрануў яго сваёй азіятчынай болей, чым іншыя часткі Польшчы; з часам пакінуў пасля сябе, нібы тая саранча, чорную пасму заразы; нядаўнімі ўказамі назваў яго старой Масквой**, але ў глыбіню сэрца так, як наша Польшча, ніколі не сягаў, не здолеў злучыць у адно душу і цела; як абвуглены куколь ад залатой збажыны, так маскаль ва ўсім адрозніваецца ад насельнікаў нашага краю мовай і ўборамі...

Беларуская мова — ёсць яшчэ адным моцным звяном, якое цясней звязвае гэты народ з намі, чым з Масквой; не такая выразная, як у нашых украінцаў, меней статаршчаная, як у жыхароў Масквы ці Казані, не такая царкоўная, як галіцыйская, яна мае аднак свае арыгінальныя нацыянальныя асаблівасці, якія яе ад усіх названых значна адрозніваюць, а тым самым, як мне здаецца, найболей прыбліжаюць да польскай.

Болей трэба б было прывесці довадаў на карысць маёй думкі, зрабіць больш глыбокі разбор і параўнанне па мажлівасці ўсіх славянскіх дыялектаў, але такая праца патрабуе не двухгадзіннага даследавання.

Цяпер жа прыступім да песень. Мелодыя народных песень, якія я выстаўляю перад вамі, дасць магчымасць зрабіць пра іх свае высновы. І вы не адным,

---

* Так даўнія польскія пісьменнікі называлі прыморскую крэпасць Дзюнамунд, ці Дзвінагэмбе, што ў вусці Дзвіны... (*заўвага аўтара*).

** Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1830 года цар, баючыся, каб агульнасць законаў з Літвой, а таксама гістарычная назва Белая Русь не ўзбудзілі яе правінцый да нацыянальнага паўстання, сваім ласкавым, як сам кажа, указам забараніў Статут Літоўскі і назваў усе ваяводствы, на якіх дзейнічаў гэты статут, старарасійскімі губернямі (*заўвага аўтара*).

можа, даследаваннем над імі, больш глыбокім, чым маё, маглі б зрабіць добрую паслугу нашай літаратуры. Пра мову і народную паэзію былі ў мяне доўгія спрэчкі з маскалямі, але адзін толькі Кюхельбекер*, вядомы вам удзельнік тайных згуртаванняў Пестэля і Рылеева, згадзіўся са мной, што беларуская мова — гэта мова не маскоўская...

## Раздзел II

### Песні
(урыўкі)

О песня люду!
Як здавён, на варце
Ты нацыі — высокага сабору.
Архангельскі і голас твой, і крылы,
І меч, што ўскідваеш, бывае, ўгору.
Агонь пісьмо гісторыі развее,
Спустошаць краю скарбніцы зладзеі,
Ды песня ўсё ж між люду застанецца.
Калі ж ніхто ўжо болей не здалее
Паіць яе слязамі і надзеяй,
Яна ўцячэ далей, да гор прыткнецца
І пра мінуўшчыну адтуль раскажа...

Так Майстар[1], які ўсіх нас навучыў цаніць сялянскую песню, як дарагі скарб народа, узвялічыў яе ў сваім «Конрадзе». Хвала тым, што ідуць яго слядамі, што дзень і ноч працуюць сёння, здабываючы штораз новыя знаходкі ў гэтай невычэрпнай крыніцы. Думаю, тысячы новых аматараў народнай паэзіі з'явяцца некалі на дарагой зямлі нашых бацькоў...

Хай музычна і неадукаваны наш просты народ на вёсцы, хай не заўсёды яму спяваецца, аднак жа нельга адмовіць яму ў музычным слыху, у адчуванні гармоніі. У яго простай думы, у цнатлівай, наіўнай мелодыі яго песні, у яе тонах адчуваецца нейкая невядомая любасць, чароўная, так скажу, сіла, якая палоніць сэрца, уздымае дух, захапляе, робіць чалавека дабрэйшым. Не ведаю, ці на кожнага слухача робіць наша народная паэзія такое дзі-

* Вільгельм Карлавіч Кюхельбекер — той самы, што пасля выкрыцця ў 1825 годзе вялікай пецярбургскай змовы быў злоўлены ў Варшаве нейкім унтэр-афіцэрам, калі ў вопратцы фурмана прабіраўся ў Нямеччыну. Ён быў прысуджаны на пятнаццаць гадоў работ і высланы ў крэпасць Дынабург з пазбаўленнем усіх чыноў, крыжоў і шляхецтва. Іпоў ужо амаль пяты год яго зняволення, калі я з ім там пазнаёміўся. Не раз са сваімі калегамі Аляксандрам Пангоўскім ці Тадэвушам Скшыдлеўскім прыбягалі мы са школы падхарунжых наведаць яго то ў лазарэце, то зноў у турме. Вялікай гэта душы чалавек. Хоць прозвішчам ён немец ці швед, але нарадзіўся недзе пад Пецярбургам ці ў самой сталіцы і быў сапраўдным сынам сваёй нонай айчыны, якую любіў больш за ўсё, гэтак жа, як і самі Рылееў, Бястужаў і Пестэль... (*заўвага аўтара*).

воснае ўражанне, як на мяне. Для мяне сама думка, што пачутая песенька, мелодыя сялянскіх скокаў ёсць бясспрэчная частка той велічнай нацыянальнай музыкі, па якой здавён мы ўздыхаем, пра якую марым, але якую ўвесь час псуе непатрэбная чужаземшчына, гэтая думка ўзносіць мяне ў нейкую незвычайную, незямную сферу, у якуюсьці ілюзорную краіну. Любоў да айчыны спалучаецца ў мяне ▪ гарачым жаданнем вывесці яе з сённяшняга занядбання і ўзвысіць як можна вышэй, вышэй, каб яе ўбачылі на ўсім абшары зямлі!.. Колькі ж разоў адзін дотык смыка, адзін гук песні распаляў фантазію Майстра, што нараджала яго вялікія паэтычныя тварэнні, якім з прыемным здзіўленнем мы апладзіруем? Быў бы вялікі грэх, калі б мы занядбалі на лоне Бацькаўшчыны ўсё тое, што можа ўмацаваць, зрабіць больш блізкай стыхію нашых нацыянальных опер, што творчай сілай Шапэнаў ці яшчэ невядома якіх будучых нашых геніяў можа пры апрацоўцы стаць узорам, новым адкрыццём, прадметам здзіўлення самых славутых Майстроў...

Прасякнуты такой думкай, падаю ў гэтай маёй кнізе з мэтай зберажэння ўсё, што мог я прыпомніць. А прыпамінаць было мне не цяжка, бо гэтыя песні я шчыра ўпадабаў яшчэ ад калыскі. Паколькі дзіцячыя ўражанні, як вядома, самыя моцныя, мне ўсе яны помняцца да драбніцы.

Яшчэ ні Жэгота[2], ні Вацлаў з Алеска[3] не адорвалі нас сваімі каштоўнымі зборамі песень, калі я пачаў прагна запісваць нашы і зберагаць іх у сваім сэрцы. Але вядомыя палітычныя падзеі пазбавілі нас Бацькаўшчыны. Пазбавілі яны і майго скарбу. Я толькі цяпер яго — патроху, патроху — узнаўляю ў памяці... Шкада, што я не музыкант, а то запісаў бы і ноты кожнай з гэтых песень. Усе яны гучаць у маёй галаве, быццам яшчэ сёння слухала іх маё вуха. Калі я іх успамінаю, у грудзях маіх заўсёды мацней б'ецца сэрца. Здаецца, я аддаў бы ўсе рэшткі майго незайздроснага бадзяжніцкага жыцця, каб мог яшчэ хоць адзін раз, хоць перад сконам пачуць іх на роднай зямлі!..

*1839*

## НЯЧЫСЦІК

### Прадмова аўтара, змешчаная пры першым выданні балады

Просты народ у Беларусі і амаль што ва ўсёй Літве, там, дзе селянін не па-літоўску, але па-руску гаворыць, спявае на сваёй мове нейкую смешную песню пра дзіўнага ілгуна Мікіту, які, робячы ўсё шыварат-навыварат, выкідваючы розныя конікі, недарэчнасці і жарты, ні ў чым не хоча прызнавацца і заўсёды звальвае віну на бацьку. Песня гэта звычайна спяваецца на матыў казачка — хлопцы танцуюць яе з кіем у руцэ, і за кожным паўтарэннем аднастайнага рэфрэна-прыпеўкі пераскокваюць праз гэты кій то направа, то налева. Пачатак гэтай песні такі:

А на дварэ вецер вее,
І Мікіта жыта сее!
Мікіта!

Чы ты та?
Не я та,
Мой тата!

Не знайшоўшы ў ёй ніякага сэнсу, уключыў я яе ў мой збор «Песняў Беларускіх»; хацеў яе падправіць крыху і надаць нейкую маральную мэту. Аднак надзвычайная яе кароткасць, гэтая неадступная спадарожніца казачкоў, а таксама пастаянны паўтор аднастайнага звароту не дазволілі мне пераўтварыць яе ў першапачатковай форме; але, раз узяўся за тую работу, — атрымалася доўгая аповесць, да якой дадаў крыху дзівачнага, крыху пякельнага і зрабіў з гэтага сялянскую баладу і тут яе сваім чытачам прапаную. Гэта мая першая спроба, напісаная ў гэтым дыялекце, хаця ўжо ў выдадзеным да гэтага часу зборы маіх «Песняў Беларускіх», а менавіта ў томе другім і наступных, якія яшчэ знаходзяцца ў друку, не да адной з іх, там дзе трэба было, нязначна дакрануўся ўласным пяром.

Таму ўжо сто лет будзе —
Старыя помняць людзі,
Скажа вам і Апанас:
Жыў-быў Мікіта ў нас,
На самым канцы сяла —
Там яго хата была.

Дзяцей не меў, хоць жанат,
А быў бедзен — не багат!
Багацтва ён усяго —
Імеў вепра аднаго,
Ды не спажыў і таго!..
У мясаед яго не біў,
На прадаж, кажуць, карміў.
І так дождаўся паста.

Душа ж Мікіты праста,
Ён у сяле усім сват,
Суседзям дораг, як брат,
Суседкі яго любілі,
А чым маглі, тым дарылі.
І вот так ён сабе тлеў:
Іван зрабіў — Іван з'еў!
Часам, праўда, і упіўся,
Ды ні з кім не сварыўся!..
Толькі ж на бяду сваю
Імеў жонку, як змяю, —
Чы цвяроза, чы п'яна,
Як ведзьма была яна,

Каб яе паляруш біў!..
Ніхто яе не любіў!..

Чуць было запеў пятух —
Яна ўжо із хаты шух!
Ну ж да жыда ў карчму беч!
А хто папаўся наўстрэч —
Тут крыку поўна было,
Аж прабудзіла сяло...
І муж пакою не меў:
Ні ён выпіў, ні ён з'еў,
Ні праснуўся, ані спаў,
Штоб чорт яе не наслаў!
То крычала, то кляла.
І так за нос узяла,
Што бедны ўжо мужык
Вот ды так к таму прывык,
Што ёй аддаў і штаны.
Памаглі ж ёй шайтаны!

Кажы, Мікіта не жыў,
Пакорны як цяля быў,
Што хацела, то рабіў:
Паслала ў карчму — ішоў
Чы ў Вялікдзень, чы ў Пакроў,
Чы ў мясаед, чы у пост
(Знаць, што і ён не быў прост!)

А калі кумок прыйшоў,
Штоб мужыка не знайшоў —
Слала Мікіту у лес.
І там яго турнуў бес!
Быле ў ласку ёй папасць,
Ішоў, бедны, хоць бы красць!..

Ды яшчэ ж не ў тым канец!
Адкуль ішла пад вянец,
Адтуль, кажы, ўжо ніколі
Цэрквы не відала болей.
І, як мне Марта казала,
Чорту душу запісала.
Ды чорт то быў із чарцей,
Мудрагель нейкі, зладзей!
Так ён ёй верна служыў:
Дзе ні пайшла, пры ёй быў,

Што хацела, то купіў,
Мужыка як мог дурыў,

А жоначцы спагадаў,
Усячыну падсуваў,
Пакуль душы не паймаў!
Не адзін шаптаў сусед,
Што ў Мікіты Бога нет.
Яны то ўжо і згадалі!
Паглядзім, што было далей...

***

Як мы ўжо тое сказалі,
У Мікіты вяпрак быў.
Ён яго як мог блюдзіў,
Штоб толькі пост перабыць.
Мікіта наш не быў ласы,
Жонка ж любіла кілбасы,
А чорт за жонкай хадзіў!
Як начаў яе дурыць!
Вот так, так ашаламіў,
Што ў пост свінка забіла,
Абскрабла і абсмаліла,
Ужо кілбас нарабіла.
Муж пайшоў водкі прынесць
Ад арандаркі цішком.
І хацелі ужо есць,
Аж тут не было на чом.
Нячысцік, знаеш, не спаў!
Таму ўжо так і быць! —
Ён іх здумаў скалаціць.
Пабач, што ім заіграў!
Жонку — ў каршэнь! — па тарэлку,
Мікіце ў зубы бутэльку:
Буль-буль-буль-буль-буль! — і вот
Пайшла сівуха ў рот!
Бес аж рад, што іх паймаў
Так гладка, у самы час.
Штоб і не елі кілбас,
Другі загнуў ім кручок,
Цуп за мяса ды і ўцёк!
А штоб не было пазнакі,
Наслаў кошкі ды сабакі
І усякаму ў куток
Кінуў кілбасы кусок.

Мікіціха ў хату мах,
Аж тут глянуць ажно страх!
Кошкі мяўкаюць, дзяруцца!
Сабакі сабе грызуцца!
Усе сцены ну ж трашчаць,
Лаўкі і сталы скакаць!..
А на печы чорт-прахвост,
Узяўшы ў зубы хвост,
Патуль шчокі надзімаў,
Аж, як на дудзе, зайграў.
А пасля захахатаў,
Прыгнуў на стоўп дый прапаў!

Мікіціха да мужа,
Чуць што не ўхопіць нажа!
— Якія ж чэрці ў нас!
Ні гарэлкі, ні кілбас!
Хто нашу свініну з'еў?
Дзе ты гарэлку падзеў?
Пастой, сабака, пастой! —
Хроп па шчацэ, па другой!
— Мая цяпер, мая ўласць! —
Як ні начне яго клясць:
— Каб ты скрозь зямлю прапаў!
Астатні раз пазяваў!
Уту, нячыстая твар!
Паганы башкір, татар!
А штоб ты здох, штоб аслізі!
Каб ты згарэў, штоб павіс!

Мікіта ж таго не чуе,
Што яна так гамануе.
Ён-та не многа і піў,
Ды чорт спанталыку збіў!
Кажы, так горка ўпіўся,
Што і з ног ужо зваліўся,
Абслюніўся, убляваўся.
Пакінь яго, штоб праспаўся!

Мікіціха ж не п'яна.
Ды ўжо чортава яна!
Захацела як-нібудзь
Штобы Бога абмануць.
А чорт і Бога мудрэй!
На ўсё прыдумаў зацей...

(К яму трудна раз папасць.)
Нашто ж было мужа клясць?!
Ведзь ксёндз Фалькоўскі казаў,
Што Бог клясць не прыказаў.
Бо хто хоча другіх клясць
I кажа: штоб ты прапаў! —
Можа і сам жа прапасць.
А усім такім цяпер —
Вот з Мікіціхі прымер.

Яна чуць тое сказала —
Бач, згарэла і прапала!..
Чорт хатку смалой абвеў,
Зажог яе дый запеў,
Як у пекле ён пяець.
Яму і тут усё роўна!
Хата ужо чарцей поўна,
А чарцянят поўна клець.
Скачуць, верцяцца па клеці,
Кажы, як хрышчоны дзеці.
Усякі весел ды рад,
Што іх бацьку пайшло ў лад!
А шайтаны ж іх там знаюць,
Што яны за сілу маюць?!
Вот так, як пташкі, лятаюць!..

Адзін задумаў скакаць
З-пад лаўкі аж на палаць,
Другі цуп, цуп на калок
I тру-ру, як млынок!
Трэці ходзіць на рагах.
Чорту нішто не ў прамах!
Гэты на агонь дуёць —
Агу! занялася клець...
Той дзверы падпёр, як дуб.
А той, узяўшы кацюбу,
Шмык у хату скрозь трубу
I Мікіціху за чуб!
Торгаў, сморгаў па палу
I піхнуў яе ў смалу!
Вота ж табе, не будзь ласа!
Дзе ж цяпер твая кілбаса?

Усё прапала ў адну ноч!
(А смала кіпела проч.)

І назаўтра, чуць свет,
Мікіціхі ужо нет!
Уся воласць тут прыйшла
І нікога не знайшла,
Хатка скрозь зямлю пайшла!..

Я жа запісаў ту шутку
Тым жаночкам на навуку,
Што скаромнае так любяць,
За кілбасу душу губяць.
А такіх у нас нямала
Ведзьм цяперака настала:
Нішто ўжо ім не грэх,
Бог і цэркаў пайшлі ў смех!!!

*1852, Лондан*

**Каментарыі**

**«Беларусь».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Rypiński Aleksander. Białoruś. — Paryż, 1840.

[1] Гаворка ідзе пра А. Міцкевіча. Аўтар цытуе тут радкі з яго паэмы «Конрад Валенрод».

[2] Жэгота Паулі (1814—1895) — гісторык, фальклярыст. Збіраў і выдаваў песні ў Галіцыі.

[3] Вацлаў з Алеска, ці Залескі Вацлаў (1800—1849) — фальклярыст, пісьменнік. Збіраў і даследаваў народныя песні ў Галіцыі.

**«Нячысцік».** Друкуецца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

# ЮСІФ ЦЫТОВІЧ
# (1811—1870)



Артыкул у «Маяку» пра мову і пісьменства Беларусі быў падпісаны без ініцыялаў усяго адным прозвішчам — Цытовіч. Толькі зусім нядаўна, дзякуючы пошукам Генадзя Кісялёва, мы даведаліся пра яго поўнае імя і пра некаторыя біяграфічныя звесткі.

Іосіф Парфір'евіч Цытовіч быў родам з усходняй Беларусі, бо сам сябе называў «беларус» (беларусы заходніх губерняў называлі сябе «ліцвінамі»). Мяркуючы па асобных звестках, радзімай яго было мястэчка Усвяты Віцебскай губерні. Дзесьці каля 1835 г. Цытовіч скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю, пасля чаго настаўнічаў у Віцебскім духоўным вучылішчы. З 1840 па 1844 г. ён выкладаў лацінскую, рускую і славянскую мовы ў Полацкім духоўным вучылішчы. У 1843 г. Цытовіча невядома з якой прычыны пазбавілі духоўнага звання і прызначылі калежскім рэгістратарам. У жніўні наступнага года ён пакідае Полацкае вучылішча і перабіраецца на Жмудзь, у Панявежу (цяпер Панявежыс у Літве). Мы ведаем, што ён быў спачатку памочнікам старшага настаўніка пяцікласнага дваранскага вучылішча, а потым настаўнікам гімназіі, дзе выкладаў рускую мову. Калі пасля паўстання 1863—1864 гг. гімназію зачынілі, Іосіф Цытовіч быў прызначаны штатным наглядчыкам панявежскага павятовага вучылішча, у якім выкладаў рускую мову і гісторыю.

Як відаць з артыкула «Два словы пра мову і пісьменства Белай Русі», які быў апублікаваны у 1843 г. у вядомым пецярбургскім часопісе «Маяк», Іосіф Цытовіч добра разумеў неабходнасць стварэння літаратуры на прыроднай мове свайго беларускага народа. Цікава, што яго горача падтрымала рэдакцыя «Маяка», якая ў заўвагах пісала: «Шчырая ўдзячнасць і поўная гатоўнасць «Маяка» змяшчаць падобныя рэчы, разумныя, выдатныя, неабходныя. Усе адукаваныя рускія людзі даўно зразумелі неабходнасць вывучэння беларускай мінуўшчыны і пісьменства, але да гэтага часу яно заставалася непачатым краем, у той час як ён не менш багаты за іншыя краі. Што ж стрымлівала адукаваных крывічаў? Ілжывы сорам за сваю радзіму: куды там ёй совацца за іншымі! Дай Бог, каб з лёгкай рукі п. Цытовіча гэты артыкул і паслужыў добрым пачынам будучых поспехаў паэзіі, гісторыі і пісьменства Белай Русі, без якой паэзія, гісторыя і пісьменства ўсёй Русі будуць і аднабаковыя, і няпоўныя».

У 1845 г. Іосіф Цытовіч апублікаваў у тым жа «Маяку» новы артыкул «Адзін дзень у Беларусі», у якім паказаў старажытнасць беларускай мовы, заклікаў да вывучэння гісторыі Беларусі і вусна-паэтычнай творчасці беларускага народа.

*К. Цвірка*

## ДВА СЛОВЫ ПРА МОВУ І ПІСЬМЕНСТВА БЕЛАЙ РУСІ

(урывак)

Чытанне «Маяка» падштурхоўвала мяне часам пасланць вам што-небудзь з маіх нататак, якія, як мне здаецца, не разыходзяцца з накіраванасцю вашага выдання. Пасылаючы цяпер гэтае пісьмо, асмелюся запэўніць вас у шчырасці і чысціні маіх думак.

Думаю пра старажытную мову крывічаў, ці, лепш, пра сённяшнюю іх літаратуру, што ўзнікла пад уплывам літаратур маларускай і вялікарускай, творам якіх даецца месца і ў вашым часопісе. Цяпер ужо забыты Статут Літоўскі, а быў час, калі дзяржаўная яго мова мела нават сваю граматыку. Доктар Скарына, Кірыл Ерусалімскі[1] і іншыя вядомы толькі сярод філолагаў, хоць мова гэтых дзеячаў існуе і сёння. Значная частка рускага народа доўга яшчэ гаварыць будзе па-беларуску. Лічачы непарушным меркаванне нашых мовазнаўцаў, што граматнасць літоўска-руская, а таму і мова беларуская складаюць сярэдзіну паміж граматнасцямі мала- і вялікарускімі, я, аднак жа, не сумняваюся, што гэтай граматнасці трэба б было даць большае значэнне ў агульнай справе развіцця цяперашняй нашай мовы. Вядома, не ў гэтым кароткім артыкуле, але можна б было ўсё ж звярнуць увагу на многія карэнныя законы рускага слова ў мове беларускай. Відаць, у ёй захавалася першабытная прастата мовы «руськай». Само месцазнаходжанне краіны, дзе цяпер гавораць па-беларуску, сведчыць на карысць маёй думкі. Адраджэнне граматнасці пры пераходзе князёў з Кіева ў Полацк і Смаленск і наступныя падзеі палітычныя гарантуюць захоўванне ў гэтай мове агульнаславянскай асновы і ставяць яе на першы план цяперашняга развіцця мовы вялікарускай.

Гледзячы так на цяперашнюю беларускую мову, я часта думаў, што карпатлівая распрацоўка яе можа прывесці да каштоўных адкрыццяў у пошуку асноў мовы нашай, так перайначанай пад чужым ёй уплывам; можа ў сваю чаргу ўзбагаціць і ўпрыгожыць яе; я заўважаў у ёй спалучэнні, якія не ўвайшлі ў склад рускай азбукі і рускай граматнасці, хоць яны зусім не чужыя ім, ды ці мала што я заўважаў і думаў, а... Між тым пасылаю вам цяпер, для ўзору толькі, сучасны твор беларускай ліры, выдатны, як мне здаецца, і сваім складам, і зместам. Гэта вершы, напісаныя некалькі гадоў назад у дзень імянін аднаго протаіерэя, і паглядзіце, як яны добра чытаюцца. Іх пакуль дастаткова, каб паказаць, якая гнуткая і паслухмяная мова волі паэта.

Чалом, чалом, ацец, татулька!
Не сярдзісь, што к табе прыйшоў.
Не падзіві і ты, мамулька;
Няўцейкам я сюды зайшоў:
Я быў сягоння тут на месці,
З Сапронам, сваім сябром, вмесці,
Ні так-та з пільнаю нуждой.
Ідзём адтуль і між сабою
Зюку, зюку, а тут за мною
Як бы то кажыць хто: пастой!

Я стаў ды й сам себе дзіўлюся,
Нашто патрэбін я каму.
Стаю, здаецца, не баюся,
Не вінен відца[2] нікаму.
Зір, зір, ды й зараз дагадаўся,
Адкуль за мною галас ўзяўся,
І сам ужо кажу: пастой,
Сапрон, ці чуіш, як співаюць?
Мяніны гэта тут гуляюць,
Зайдзём і мы, зайдзі са мной.

Так во, татусь, якім злучаім
У хату мы тваю зайшлі,
Хоць хлеба-солі тут не маім,
Ты нізвіні, што так прышлі.
Хоць ты, то праўда, і ні маіш
Ў гасцінцах нужды ніякой,
Хоць недастатка ты не знаіш,
Багат і салам, і мукой,
Закон вяліць без хлеба-солі
Нікуды не хадзіць ніколі.
А ўсё Сапрон віць за табой:

Хадзі, хадзі скарэй у двору, —
Ён тукаў, гукаў на мяне,
Хацелася яму да ўмору, —
А я-ткі шчупаў ў кішане.
Бо я і з моладу ні разу
Ня йду нікуды без запасу,
Хоць бы й то гналі на прыгон.
Було і ёсць шчагоў[3] пяць грошай,
Калі б купіў пірог харошый,
Глядзіш, і знадабіўся б ён.

Прасці, татулька, нашу глупась
Дурак мужык, дурак Сапрон,
Ня думай, далі-Бог, не скупась,
Ніхай вачамі свеціць ён.
Ня летысь-такі я радзіўся,
А пяцьдзесят год, як жаніўся,
Ды й то на трэццяй ўжо жане.
Даволі помню, як жывалі
Дзяды, гарэлачку півалі;
Яшчэ нятсохла памяць мне.

Вотто, вотто былі гадзіны, —
Калі ужо у госці йдуць
На гаспадарскія мяніны,
Чаго яны тут ні нясуць!
Адзін нісець піўца біклажку,
Другій гарэлкі поўну пляшку,
Не простай, сычанай з мядком,
На закуску цацні[4] пшанічны,
Ды скавародкі тры яішны,
Ды масла ў латцэ са блінком!

Во тут-то ў смак нагаварыцца,
Паслухаць люба — ай, ай, ай!
Адкуль іх славеса бяруцца —
Ня трэба відца лучый рай!
Яны тут песні запіваюць,
Мянінніка узвілічаюць,
Як быцца янгелі стварца.
А мы што тут такое скажым?
Чым узвялічым і паважым
Цябе, татульку і атца?

Ты жалуіш нас і караіш,
Каго-каго, а больш міне,
Да жалка нам, што ты не маіш
Пакою дажэ і ва сне.
Рэбяты гэты атлумілі
І ад яды цябе адбілі,
А трэба ж то іх научыць:
Умелі б Богу што б маліцца,
Маглі людзям што б знадабіцца,
Умелі ў свеці як ба жыць.
.................
Калі б табе даваў Бог шчасця,
Калі б ніякая нінасце
Ўзняўздоліла к табе прыцці,
Калі б ты сам, хазяйка, дзеці
Цвялі, як краска рожа ў цвеці,
Калі б цябе ўсі людзі знали,
Калі б цябе ўсі паважалі,
Калі б цябе і цар хваліў,
Калі б цябе і Бог любіў.
Патом таго, і наканец,
Калі б ты, тут пажыўшы многа,
Быў варт таго у пана-Бога,
Штоб ў небі палучыць вянец.

Вядома, многае можна напісаць на гэтай мове. Але для каго? Але для чаго? Для многіх і для многага. Дух пісьменнасці прыкметна прасочваецца ў самыя крайнія класы бедных беларусаў, хаця якраз для іх у нас нічога не пішацца. Падумаўшы, ці нельга б выклікаць і з іх мужычкоў-грамацеяў? На маё пытанне ім, чаму б у вольны час не ўзяць кнігу і не прачытаць, адзін малады пісьменны хлопец адказваў так: «Яно й штоб і чаму... вот ці ў пана на чырадзе, ці дома аб святках і возьмеш кнігу, прачытаіш, да што ж — не па-наскаму... віш ты, браў я ў бацькі Базыліга кніжку, — здаецца, чытаіць ён, — усё разбіраіш, зачнеш сам — нічога не разумеіш...». Ці не знойдзецца спрытнае пяро, пяро працавітае, якое прысвяціць сябе на карысць мільёнаў гэтых, так сказаць, меншых братоў вялікай сям'і нашай, ці не пракладзе ім дарогу да далейшай асветы сродкамі самымі блізкімі, адпаведнымі іх сілам, густу і звычаям? І чаму б гэтым меншым братам не развіць агульную культуру свайго асяроддзя да поўнага духоўнага жыцця айчыны сваёй і быць членамі яе не бессвядома...

Вось чаму я як беларус звярнууся да «Маяка»...

*<1843>*

### Каментарыі

**«Два словы пра мову і пісьменства Белай Русі».** Пераклад з рускай мовы К. Цвіркі. Друкуецца паводле выд.: Пачынальнікі: з гіст.-літ. матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мінск, 1977. — С. 8—11.

[1] Кірыл Ерусалімскі — епіскап і багаслоў IV ст., кананізаваны царквою.

[2] Так у «Маяке».

[3] «Дзве капейкі. У Магілёўскай і Чарнігаўскай губернях», — заўвага рэдакцыі «Маяка».

[4] Цацні, ці сачні, — тоўстыя мучныя бліны. «Бліны, аблітыя зверху бульбай ці малаком», — заўвага рэдакцыі «Маяка».

## РАМУАЛЬД ЗЯНЬКЕВІЧ
## (1811—1868)



Беларускі фалькларыст, этнограф, археолаг, краязнавец і педагог Рамуальд Сымонавіч Зянькевіч нарадзіўся 1 лютага 1811 г. у Завілейскім павеце Віленскай губерні. Магчыма, гэта быў фальварак, што арандаваў яго бацька ў раёне Свянцянаў і Свіры, бо першую адукацыю ён атрымаў у Свірскай парафіяльнай школе ў 1818—1820 гг. Пасля заканчэння Віленскай гімназіі (1826) і літаратурнага аддзялення Віленскага ўніверсітэта (1830) працаваў настаўнікам і выхавацелем у прыватных школах. У 1844 г. атрымаў сталае месца настаўніка Росенскай павятовай школы Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, але неўзабаве пакінуў працу з-за прагрэсіруючай слепаты. У пошуках работы Р. С. Зянькевіч апынуўся на Палессі, асталяваўся ў Луніне Пінскага павета, рэзідэнцыі князёў Друцкіх-Любецкіх. Гаспадар маёнтка Эдвін Друцкі-Любецкі даў прытулак вандроўнаму настаўніку і дазволіў карыстацца сваёй вялікай бібліятэкай, уласнымі архівамі і кабінетам-музеем.

Р. С. Зянькевіч запісваў песні, казкі, паданні, легенды, абрады і звычаі. У 1847 г. у часопісе «Athenaeum» («Атэнэум») надрукаваў нарыс «Народныя песні, сабраныя на Піншчыне і перакладзеныя Р. Зянькевічам». Поруч з беларускім арыгіналам змяшчаў пераклад на польскую мову, што значна пашырала кола даследчыкаў беларускага фальклору і павышала вартасць яго працы. У зборніку «Народныя песні Піншчыны» (Коўна, 1851) змясціў 219 беларускіх песень, запісаных над Пінай, Прыпяццю і Цной, якія ў 1868 г. былі перадрукаваны О. Кольбергам у 52-м томе «Поўнага збору прац».

Важнейшай у навуковай спадчыне Р. С. Зянькевіча з'яўляецца праца «Пра ўрочышчы і звычаі жыхароў Піншчыны, а таксама пра характар іх песень» («Бібліятэка Варшаўская»), у якой ён даў апісанне працоўных працэсаў, каляндарных і сямейных абрадаў, вераванняў і забабонаў. Упершыню расказаў пра старажытны веснавы абрад «куста», які суправаджаўся багатым і пышным рытуалам, пахавальныя абрады, памінальны абрад «дзяды».

У Вільні Р. С. Зянькевіч выдаў зборнікі «Рыфмаваныя спробы», «Вяселле, рыфмаваны перадшлюбны падарунак». У рукапісе засталіся «Гісторыя польскай літаратуры», якая заканчвалася раздзелам пра творчасць А. Міцкевіча, а таксама педагагічная праца пра выхаванне моладзі з пералікам абавязкаў бацькоў і настаўнікаў. Ён з'яўляецца аўтарам працы «Сістэматычны агляд усіх навук». Памёр Р. С. Зянькевіч 11 верасня 1868 г.

*І. Драўніцкі*

## ТУГА

Пад гарою, дзе даліна,
Ціха плыніць ручаіна;
Ля яе хлапец у жалі
Сумна ўглядваецца ў хвалі.
Сіратліва змоўклі дрэвы,
Лісцем не шумяць павевы:
Лісця ўжо няма, апала,
Абляцела і сканала.
Неба сумнае й даліна,
Квет засохлы непарушны,
На душы у хлопца скрушна.
Ды пра што яго ўспаміны?
Пэўна, з думкай ён, якая
Шчасце збеглае шукае;
А калі яно пакіне,
То няма зваротнай плыні.
Узнімае ў неба вока
І ўздыхае ён глыбока —
І ў тужлівым успаміне
Топіць змрок у ручаіне.

### Каментарыі

**«Туга».** Верш напісаны ў 1833 г. Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## ЮЗАФ ІГНАЦЫ КРАШЭЎСКІ
## (1812—1887)



Пісьменнік, гісторык, выдавец, ілюстратар, бібліяфіл, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Варшаве ў сям'і пружанскага харунжага. Дзяцінства правёў у вёсцы Доўгае каля Пружан. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі і Віленскім універсітэце. За ўдзел у антыцарскай змове ў 1830—1832 гг. адпраўлены ў турму. Друкавацца пачаў з 1830 г. На працягу ўсяго жыцця займаўся публіцыстычнай і выдавецкай дзейнасцю. У 1841—1851 гг. рэдагаваў віленскі часопіс «Athenaeum» («Атэнэум»), з 1860 г. у Варшаве — рэдактар «Польскай газеты» («Gazeta Polská»). Літаратурная спадчына Крашэўскага складае каля 600 тамоў (проза, паэзія, драматургія, літаратурна-крытычныя артыкулы, працы па гісторыі, філасофіі і інш.). У гісторыю літаратуры ўвайшоў як буйны раманіст, які ў творчай эвалюцыі прайшоў шлях ад рамантызму да рэалізму. Класікі польскага рэалізму бачылі ў ім свайго папярэдніка і настаўніка. Аўтар паэтычнай трылогіі з гісторыі Літвы «Анафеляс» (1840—1845), якую рэцэнзаваў Я. Чачот. Цяжкае жыццё беларускага і ўкраінскага сялянства адлюстраваў у творах: «Гісторыя Саўкі» (1842), «Уляна» (1843), «Астап Бандарчук» (1847), «Хата за вёскай» (1853—1854), «Ярмола» (1856), «Гісторыя калка ў плоце» (1859), «На Палессі» (1883). Мінуламу Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны прысвечаны раманы «Апошнія з слуцкіх князёў» (1841), «Жыгімонтаўскія часы» (1846), «Залаты яблык» (1853), «Графіня Косель» (1873), «Бруль» (1874), «Старая казка» (1876), «Кароль у Нясвіжы. 1784» (1885) і інш. У камедыях «Пане Каханку» і «Радзівіл у гасціне» апісаў падзеі, што адбываліся ў Нясвіжы. Аўтар навуковых прац «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847—1850), «Барысаў» (1848), «Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і дахрысціянскай Літве» (1860) і інш. Свае падарожжы па Беларусі апісаў у нарысах «Пінск і Піншчына» (1837—1838), «Успаміны Валыні, Палесся і Літвы» (1840), «Малюнкі з жыцця і падарожжаў» (1841—1842), «Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан» (1859—1860). Побач з красамоўным апісаннем прыроды ў гэтых працах прыводзяцца каштоўныя звесткі пра жыццё народа, яго заняткі, прылады працы, жыллё, адзенне і ежу.

Ю.-І. Крашэўскі валодаў таксама талентам мастака: маляваў тыпы беларускіх сялян, вясковыя будынкі, пейзажы, рабіў ілюстрацыі не толькі да сваіх твораў, але і да твораў іншых аўтараў (К. Тышкевіча, У. Сыракомлі і інш.), гравіраваў і аздабляў вокладкі да кніг. У час знаходжання на Валыні склаў на французскай мове каталог (застаўся ненадрукаваным) бібліятэкі А. Урбаноўскага, адной з самых значных у гэтым краі. У канцы 1868 г. Крашэўскі заснаваў сваю друкарню, у якой на добрым паліграфічным узроўні выдаваў творы польскіх аўтараў і кні-

гі польскай тэматыкі. Асабістая бібліятэка пісьменніка налічвала некалькі тысяч тамоў, сярод якіх былі старадрукі, гістарычная літаратура, багаты збор гравюр (каля 6 тыс.) і малюнкаў. Значныя матэрыялы ён сабраў па гісторыі віленскіх выданняў, дзеячаў кнігадрукавання, кнігарняў і бібліятэк (пазней гэтыя матэрыялы былі выкарыстаны бібліёграфам К. Эстрайхерам). Кнігі са сваёй бібліятэкі Ю.-І. Крашэўскі ахвяраваў эмігранцкім бібліятэкам у Парыжы і ў іншых месцах, калекцыю гравюр прадаў бібліятэцы Браніцкіх. Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. па загадзе царскіх улад пакінуць межы Расійскай імперыі Крашэўскі выехаў з Варшавы і да канца жыцця знаходзіўся ў эміграцыі ў Жэневе.

*Паводле кнігі «Мысліцелі і асветнікі Беларусі»*

## ЦІ ТЫ ЗНАЕШ СТАРОНКУ?

Ці ты знаеш старонку,
Край магілаў, курганаў,
Дзе па небе ўдагонку
Ходзяць хмары, туманы;

Дзе крывёю, слязамі
Рэчка рэчаньку гоніць;
Поле ўкрыта касцямі,
Лес магільна гамоніць?

Край бяды, край напасцяў
Вабіць люд свой бадзячы;
Ён мілей нам ад шчасця,
Мы з ім, ён з намі плача.

## ДЗЕД І БАБА

Быў сабе дзед і баба —
Ужо старыя абое;
Яна мелася слаба,
Ён сагнуўся ўдвое.

Жылі ў хатцы збуцвелай
Непачэснай з паглёду;
Адну шыбіну мела,
Адны дзверцы для ўходу,

Жылі згодна, шчасліва,
Як не жыці нам гэтак!
А чаму? — няма дзіва:
Бо прывыклі к сабе так.

Толькі сумна было ім,
Што памерці ўсё ж мелі,
Што халодным спакоем
Іх магіла раздзеліць.

Дык маліліся ў згодзе,
Каб за Божым прыказам,
Калі смерць к ім надойдзе,
Абаіх брала разам.

Але так быць не можа!
Хтось ды ўперад сканае...
— Каб не ён, мой нябожа...
— Каб хаця не старая...

Гэтак баба маяча:
— Штодзень чуць валачуся,
Па мне «ваша» заплача —
З ног я ўперад звалюся.

— Уперад я, мая міла, —
Дзед бабулі гавора:
— Немагота ў магілу
Мяне ўгоне ўжо скора.

— Мяне ўперад, — кажу я!
— Вота ж гэтак не будзе!
— Вашаць хай пабядуе!
— А ты што? — ці не людзі?!

І так далей і далей
Пайшлі ў спрэчку самдзеле;
Той таму прытыкалі,
Ісці ў прочкі хацелі.

Ажно стук нехта ў дзверы.
— Хто там? — Тут ім на тое:
— Я — смерць; даўшы вам веры,
Ўзяць іду вас абое.

Дзед сваёй і ківае:
— Адчыні ідзі, баба!
— Не магу, — кажа тая, —
Вельмі чуюся слаба.

От лепш ты патурбуйся
За мяне ўжо сягоння.
— Не, лепш ты йдзі, Кастуся, —
Дзед зноў бабе гамоне.

Баба сюд-туд ды жвава
Чмых за печку без мукі...
Дзед зашыўся пад лаву...
А смерць стукі ды стукі.

І так стукала б доўга,
Лет чакала б са дзвесце,
Каб праз комін дарогу
Не найшла к ім нарэшце.

## МАЦІ КАРАЛЁЎ

### Раман

(фрагменты)

Пад разгалістымі дрэвамі Віленскага замка забаўлялася купка дзяўчат, якія збеглі з церамоў княгіні Юльяны, другой жонкі Вітаўта. Рэй сярод іх вяла Соф'я, з роду Гальшанскіх, — стрыечная пляменніца Вітаўта, вясёлая, звонкагалосая, чарнабровая. Яна прысела на арэлі, прывязаныя да дужых галін дрэва. Са смехам гукнула:

— Гэй, закіньце мяне высока, пад самыя аблокі, аж да зорак. Пад нябёсы!

Старэйшая жанчына, якая тут пры арэлях стаяла, з бледным тварам і суровымі вачыма, апранутая ў цёмнае, з крыжам на шыі, лагодна ўсміхаючыся, ціха перарвала:

— Ох, князёўна ты мая! Табе хочацца высока, а хто пад аблокі залятае, той аб зямлю разбіцца можа... А лепей па ёй хадзіць спакойна. Ад арэляў галава закруціцца.

— Я бо люблю, каб мне ў галаве кружылася, лепей вір, чым мёртвая ціша. Гэй, гэй! Груку, вераску, бегу, лёту душа мая прагне, а тут, у мурах гэтых, такая нудота!..

І, пазіраючы на замак, так выразна скрывілася, як быццам стала моташна.

Дзве служкі ўжо ўзяліся за шнуры за яе спіной, якімі збіраліся разгушкаць арэлі, але старэйшая, што стаяла бліжэй, стрымлівала. Размова была не закончана, і князёўна ўжо сама іх не прыспешвала.

— Ох, ты, пташка, у якой крылы выраслі, — гаварыла далей старая. — Ляталася б табе, ляталася б ды сокалу ў кіпцюры...

— Ды лепш бы сокал мяне схапіў і раздзёр, чым так гніць за кроснамі ды слухаць лухту. — І раптам прарвалася ў яе з грудзей: — Не палохай мяне, Фемка, не палохай і так жудасна не варажы!

— Я не варажу, бо не варажбітка, толькі перасцерагаю, — адказала з тугою ў голасе жанчына.

— О, а я б хацела, каб мне хто паваражыў, — раздумліва дадала чарнабровая, гушкаючыся на арэлях. — Напраўду, Фемка. Ты не ўмееш? А мне проста карціць даведацца, што ж мяне чакае ў будучым.

— Яно толькі Богу вядома, — заўважыла Фемка, — і прыйсці можа вельмі хутка. Што прызначана, таго не мінеш.

У гэты момант адна з дзяўчат наблізілася да арэляў і з паважнай мінай, на якой адбівалася глыбокая ўпэўненасць, пачціва звярнулася да князёўны:

— Ніхто так не ўмее варажыць, як старая Меха. Яна, што каму напрарочыла, ўсё тое збылося.

— А дзе ж тую Меху шукаць? Асыпала б яе падарункамі...

Князёўна агледзела сябе, падумала і горка ўсміхнулася, мабыць, усвядоміўшы, што не многа яна можа даць.

— Дзе яе шукаць? — здзівілася жвавая дзяўчына. — Меха зараз сядзіць каля касцёла, там, дзе даўней палаў вечны агонь, які абслугоўвала і якому малілася. Язычніца ці не язычніца яна, але ўсё ведае — і ў вадзе чытае, і з твару, і з рукі, — як па пісаным гаворыць.

У князёўны аж румянец выступіў на тварыку:

— Зуля, дзіцятка, ты пярсцёнак ад мяне займееш, толькі прывядзі тую Меху. Мне здаецца, што калі яна напрарочыць, то штосьці новае хутчэй надыдзе.

Фемка рэзка крутанула галавой:

— Яна ж чараўніца, язычніца. Яшчэ ссурочыць!..

— Я сурокаў не баюся. Блаславёны крыжык на грудзях нашу, а сваю будучыню так хацелася б ведаць...

— А калі ў ім штось злое сядзіць?

— Ну, то буду чакаць і злое, — дадала неўтаймоўная гарэзніца.

(Зуля пайшла шукаць чараўніцу, князёўна засталася на арэлях. Нарэшце прывяла.)

Вайдэлотка маўчала, углядаючыся ў князёўну і ківаючы галавой.

— Нашто табе мая варажба, калі кроў твая і белы тварык варожаць?

Дзяўчаты з цікавасцю ціснуліся вакол Мехі і сваёй пані, выцягвалі галоўкі, намагаючыся не ўпусціць ніводнага слова.

Меха з неахвотай і нейкім раздражненнем штосьці гаварыла князёўне. Тая, зняўшы з пальца пярсцёнак, бо нічога іншага не мела падаць, працягнула яго старой. Але Меха не прыняла. Злёгку адхінуўшы яе ручку, яна прамармытала са скрухай:

— Табе ён, красуня, будзе неўзабаве больш патрэбны.

Князёўна пачырванела:

— Для чаго?

— А для чаго ж дзяўчатам пярсцёнкі, калі не на тое, каб іх мужчынам уручаць?

Ціха стала наўкола. Усе чакалі, што далей скажа Меха, але тая, апусціўшы вочы, штосьці шаптала ці то сама сабе, ці то звяртаючыся да нябачных духаў. А калі яна ўзняла галаву, то твар яе цалкам змяніўся: на ім праявілася

такая незвычайная сіла, што дзяўчаты ад яе погляду са страхам расступіліся ва ўсе бакі.

— Мужа табе ў хуткім часе сватаць будуць, — прамовіла прарочым духам натхнёная. Карону табе ўскладуць на чало і панаваць будзеш, але слёзы табе яна выцісне. І сват ворагам табе стане. Шчаслівай будзеш і няшчаснай. Каралям маці будзеш, праз каралёў сіратою, у слязах крывавых залачоны хлеб паспытаеш маладзіцай.

Старая ўпілася ў князёўну вачыма, доўга глядзела на яе і мармытала штосьці невыразнае:

— Нашто табе пытаць было і боль з мяне выцягваць? Не магу я даць нічога, толькі тое, што мне духі прынясуць. Не ведаю сама нічога. Плыве ўсё здалёку...

Нарэшце яна стуліла вусны, пакланілася і, павярнуўшыся, шпарка пайшла да брамы.

Ва ўсіх адпала ахвота да арэляў, дзяўчат агарнуў смутак, і нават гарэзлівая князёўна засмуцілася, адцягнула ў бок Фемку і задуменна прамовіла:

— Нечуваную лухту пляла — карона! Я і кароны не хацела б, каб толькі вырвацца адсюль змагла.

— А чым жа табе тут кепска? — шапнула Фемка. — Прынамсі, дзядзька цябе любіць.

— А затое Юльяна ненавідзіць! — перарвала князёўна. — Добра мне было, калі жыла родная цётухна, а цяпер мне Вітаўтава жонка помсціць за тое, што сама завяла і што яе муж ахвотней заглядаецца на мяне, маладую, замест таго, каб сварыцца [redacted] ёй, злой бабай.

Фемка прыгразіла ёй:

— Цсс, замоўкні! А бо я не ведаю пра тое, не чую, не бачу...

— О, дзядзька моцна мяне любіць, — працягвала князёўна, — насуперак жонцы, але і яго любасць, і яе нянавісць канчаткова мяне замучылі. Рада б адсюль, рада б у свет — як у вір галавою! Старая, аднак, чамусьці вельмі хутка варажыла...

— Слёзы, слёзы! — сама сабе замармытала Фемка.

Так яны ішлі разам павольным крокам, і сонца схілялася да гарызонту. Быў час, калі ў замку падавалі вячэру.

(Прадказанне вайдэлоткі тут жа спраўдзілася: у сталовай падчас вячэры вялікі князь Літвы і Русі Вітаўт прапануе сваёй улюбёнай пляменніцы пайсці замуж хай сабе і за старога, сямідзесяцігадовага, але затое за караля — за Ягайлу. «Не хачу!» — быў яе першы спантанны адказ. Але дзядзька ёй параіў не гарачыцца, падумаць. «Будзеш нашэптваць старому, што я падкажу. Ты ж мая ўлюбёніца, як была дзіцяткам паслухмяным, такой і павінна застацца; я ад цябе вернасці чакаць маю падставы», — дамаўляўся Вітаўт з пляменніцай. Але яна, імкнучыся вырвацца з Вітаўтавых муроў і ведаючы супрацьдзеянне польскага духавенства, пайшла на змову з апошнім. Здолела з дапамогай Фемкі запэўніць Збігнева Алясніцкага — кракаўскага епіскапа, які адыгрываў вырашальную ролю ў дзяржаўных справах пры Ягайле, што не стане шпіёнкай Вітаўта. Гэта дапамагло ёй набыць прыхільнікаў сярод палякаў, але выклікала варожасць дзядзькі.)

(Яна павінна стаць чацвёртай жонкай старога Ягайлы, і гэта бянтэжыць яе і няньку Фемку.)

Доўга сядзелі яны абедзьве, задуменныя і заклапочаныя. Фемка з плачам абняла яе.

— Ах, іншага табе трэба — сокала белага, віцязя ў залатым убранні, са светлым тварам, такога ж, як ты, прыгожага і маладога!

Князёўна ўзіралася ў акно.

— З лёсам не паваюеш, сцяны не праб'еш галавою, — прамовіла яна. — Што скажа Вітаўт, тое мушу выканаць. Ён зробіць мяне каралевай. — І нахілілася да нянькі, шапнула ёй на вуха:

— Але сказаў мне, што я паслухмяным дзіцяткам мушу застацца і служыць яму павінна. Я — каралева? Калі так, то мяне павінны ўсе слухацца, і нават дзядзька Вітаўт. Не і яшчэ раз не! На тое за старога іду, каб загадваць — і яму, і усім...

Ад гэтых слоў Фемка аж перахрысцілася, як заўсёды, калі хацела адагнаць штосьці ліхое.

— Ваюй з кім хочаш, толькі не з ім, — папярэдзіла. — Ён і з Ягайлам, што захоча, тое і зробіць, і з каралямі, і з князямі, бо моцны і разумны. Табе з ім ані спрачацца, ані пярэчыць яму! О, не!

Нічога не адказала Соф'я. Непрыкметна за размовай падступала ноч. Фемка пайшла слаць ложак і запальваць каганок, а князёўна засталася пры акне, хаця ў ім нічога ўжо і відаць не было, апрача кавалка цёмнага неба, усыпанага зоркамі.

(Кракаўскі біскуп Збігнеў Алясніцкі не згаджаецца на жаніцьбу Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай. Вітаўт яго ўгаворвае: «Гаворыць за яе і тое, што яна русінка, бо ён змалку пры матцы да гэтай мовы звык. Нарэшце, прызнаюся Вам адкрыта, не хачу дазволіць, каб рымскі кароль сам або праз падбухтораных баб слабага Ягайлу аблытаў. Ён чалавек хітры і двудушны, без сэрца, якому даверыцца можна». «Лепей было б яму зусім не жаніцца, — заўважае Алясніцкі. — Але ведаю яго здавён, натура такая, што ўвесь час да жанчын цягне; калі не мы ажэнім, то ажэняць іншыя, і небяспека пабольшыцца».

(У касцёле Соф'я знайшла момант, каб папярэдзіць Алясніцкага: «Магчыма, дзядзька захоча, каб я яму служыла пры каралю. Такая ж думка і Вам прыйсці можа, таму тэрмінова хачу запэўніць, што нічыёй служкай не буду, а каму дам прысягу, перад тым яе і вытрымаю».

Напрыканцы кастрычніка радасная вестка абляцела Польшчу: Бог даў каралю сына, наследніка. Не ўсе, праўда, гэтаму радаваліся, але як бы там ні было, Вітаўт прыслаў срэбную калыску. У Соф'і абудзілася надзея — а раптам удасца вярнуць сэрца дзядзькі, тым больш, што Ягайла рваўся, як заўсёды, адсвяткаваць Божыя Народзіны ў сваёй улюбёнай Літве.)

— Вітаўт на нас раззлаваўся, пакрыўдзіўся, паехалі б мы абое і памірыліся б з ім. Лепш мець яго сябрам, чым ворагам, — заявіў кароль.

— Аднак ніколі ён не будзе вам сябрам і братам, — сумна адазвалася каралева. — Ён хоча валадарыць над усім: над Польшчай, над табою, нада мною. Яму заўсёды мала таго, што мае. Ненажэрны ён.

Ягайла, якому абрыдла карона і ўсё, звязанае з ёю, маўчаў, думаючы:

— Хай сабе ўладарыць, абы спакой мець у доме.

А калі ўжо свята набліжалася, ён пачаў намаўляць каралеву, цалуючы ёй рукі:

— Паедзем у Вільню абое запрашаць Вітаўта на хрэсьбіны. Справім Уладаку такое ж хрышчэнне, як табе каранацыю. Прыедуць каралі і князі, пастараемся забяспечыць твайму сыну карону.

(Але марнымі былі надзеі Соф'і. Вітаўт абыходзіўся з ёй холадна, абыякава. А Юльяна яго пад'юджвала: з'явілася сюды, каб паздзекавацца з нас — з цябе, з мяне. Каб пахваліцца сваёй вялікасцю. Непаслухмяная, здрадніца, глядзіць нам у вочы, каб паказаць, што не баіцца. Затым і прыехала ў Літву, пакінуўшы дзіцятка, каб падражніць нас сваёй магутнасцю.)

Урэшце аднаго разу, калі кароль быў на паляванні, а Юльяна захварэла, Вітаўт сам-насам застаўся з Соф'яй.

— Я думаў, — пачаў ён, — што Вы захочаце што-небудзь расказаць пра сябе...

— Я? — спыталася Соф'я, — таемнага ў мяне нічога няма, а што робіцца ў Польшчы — самі ведаеце.

— Пашчасціла Вам, — дадаў праз хвіліну Вітаўт. — Апрача Пана Бога застаецца падзякаваць за гэта можа і яшчэ каму-небудзь.

— Вам, — спакойна адказала Соф'я. — Я за гэта ўдзячная.

— Але я ўдзячнасці не адчуў, — перапыніў князь, — спадзяваўся на большае.

— А я больш таго нічога не магу, — холадна адказала каралева. — Польскія інтарэсы не заўсёды супадаюць з Вашымі, палякі дамагаюцца іншага; Вам патрэбна тое, што ім няміла і не падыходзіць. Вас супраць іх я падтрымліваць не магу.

Нахмураны Вітаўт прайшоўся па пакоі і раптам выбухнуў:

— Дзе Ваша радзіма? Ці ўжо забыліся, што Вы мая пляменніца і русінка? Што нам Польшча!? Яна кастылі замест ног, кайданы на мяне накладвае. Вызваліцца ад яе — наша мэта. Вялікае каралеўства з Русі і Літвы стварыць, аж да Масквы — трывалае і моцнае. Гэта лепш, чым склейваць Польшчу, якая распадаецца, бо мы ёй рады не дадзім. Там улады няма і ніколі не будзе. Улада ў біскупа, у магнатаў, іх кароль слухаецца, а не яны яго. Страцілі столькі земляў, а мы іх павінны ім вяртаць. Вытвараюць, што ім захочацца, няма на іх жалезнага чалавека, жалезнай рукі... Ты — русінка, я — літвін, нашто нам гэты непакорлівы мурашнік?

Соф'я слухала спакойна. І калі Вітаўт змоўк, зазначыла:

— Самі бачыце, што Вас падтрымліваць не магу, бо я польская каралева, але і Вы павінны не забывацца, што атрымалі Літву з рук Ягайлы.

Вітаўт увесь збялеў, закрычаў, дрыжучы:

— Я? Я атрымаў Літву з Божых рук і так моцна трымаю, што ў мяне яе ніхто, нават Ягайла з усімі ягонымі палякамі не вырве! Раз'юшаны, ён дзіка засмяяўся:

— Прыйдзе час, калі гэтыя путы — гэту унію — я змушаны буду парваць. І ты мне павінна была служыць дзеля будучай вялікай дзяржавы, Рускай і Літоўскай, дзеля гэтага я зрабіў цябе каралевай.

16 Зак. 1799

Ён раптам адчуў, што нагаварыў лішняга, і змоўк, стараючыся стрымаць хваляванне. Соф'я, апусціўшы вочы, адказала:

— Пагражаеце мне будучыняй. Яна ў Божых руках, не ў вашых. На тое, што хочаце здзейсніць, спатрэбіцца больш, чым адно чалавечае жыццё. Каму ж перадасцё сваю вялікую справу? — лёгкая ўсмешка кранула яе вусны. — Адарвіце зараз Літву і Русь ад Польшчы, на якую, як на сцяну абапіраецеся, і ваш няскончаны будынак рассыплецца. Польшча яго перастаіць!

Князь уздыхнуў:

— Не табе мяне вучыць, ані што рабіць маю, ані каму пакідаць пасля сябе спадчыну. Я думаў пра ўсё. Быў час, калі Польшчу браў у разлік і хацеў мець яе саюзніцай, але са Збышкам, са зваднікамі і князямі, што недзе ў іншым месцы свайго караля маюць[1], нічога пачынаць нельга. Я без вас абыйдуся, — дадаў ён з гонарам. — Глядзіце, каб я вам не спатрэбіўся! Станеце мне на дарозе, будзеце падбухторваць Ягайлу супраць мяне, мая рука дастане каралеву і ў Кракаве!

(Аднак Соф'ю гэта не спыніла, у яе была іншая мэта — дамагчыся, каб каралямі ў Польшчы сталі яе сыны і ўнукі. Абураны Вітаўт дамовіўся сустрэцца з Ягайлам у малым гарадзенскім замку.)

Ягайла ў гэтым ціхім кутку адчуваў сябе, як у раі. Вось і цяпер увечары ён выйшаў з замка пад старыя дрэвы, на просты усеўся, рукамі падпёр галаву і заслухаўся спевамі вясновага салаўя. І думаў. Часамі яму здавалася, што ён разумеў гэту дзівосную песню як людскую гамонку, што яна яму апавядала пра ўсялякія неспазнаныя з'явы, а часам спевы рабіліся музыкай — загадкавай, але такой мілай і прыемнай! Паветра... Чуліся ў ім пупышкі бяроз, дубоў і клёнаў, пахі соснаў і ялін, выпарэнні вады, подых траў і кветак.

Усміхнуўся стары, думкі паскакалі па разарваных пасмах памяці. Жыццё яму, калі б не паляўніцтва і не лясы, — суцэльны цяжар. У лясах яму было найлепей. З людзьмі — цяжка. Уступаў ім, адорваў, але спакою не меў. У лясах спяваў для яго салавей, шумелі дрэвы і, можа, нават старыя багі Літвы адгукаліся на яго думкі. Не раз на паляўнічым начлегу, калі шугаў высокі агонь, прыпамінаўся яму іншы агонь — той вечны, магутны, святы, які ён сам патушыў і замест якога выбудаваў касцёл.

Цені мінулага прасоўваліся перад ім, ён вітаў іх уздыхамі і хрысціўся — знікалі. Але замест іх з'яўляліся іншыя, а калі бракавала памерлых, то прыходзілі жывыя. Два асабліва парушалі яго спакой, не давалі яму смакаваць жыццё свабодна: Збышак і Вітаўт. Пабойваўся іх абодвух. На вачах яго вырас гэты Алясніцкі, з падлетка волатам стаў, а бясстрашны які — пагарджаў смерцю, рэзаў праўду-матку ў вочы. Быў ён Божым слугою. Але няўмольным — як архангел з мячом. Ён, Ягайла, выпеставаў гэтага Збышака, а цяпер той пануе над ім.

Вітаўта ведаў ён яшчэ малым, але ўжо як героя і правадыра; таму, абмінаючы родных братоў, даў яго, стрыечнага, любай Літве, каб яна пад ім расла і пашыралася. Выйшла, як і задумаў, але цяпер Літва ўжо адрывалася ад Польшчы. Шкада яму яе страціць, але ў глыбіні душы ён радаваўся, што стала яна такой магутнай. Вітаўт і Збышак, Літва і Польшча, змагаліся ця-

пер паміж сабою ўжо па-над галавою старога, а ён не ведаў, каму з іх зычыць перамогу. Гаварыў сам сабе, што Бог найлепей ведае, як іх рассудзіць.

Салавейка спяваў, месяц свяціў, а пушча шаптала каралю на вуха тое, што хавала ў сабе. Ён адзін разумеў яе таямніцы. Ноч была цудоўнай, ціша — непарушнай, як адмысловая тонкая вышыўка золатам звінела песня салаўя. Кароль адчуваў сябе амаль шчаслівым і хацеў бы прасядзець так да ранку, аддаючыся сваім думкам і летуценням.

У гэты момант Ягайла заўважыў невыразны цень перад сабою, які яму здаўся нейкім насланнём, бо, паглыблены ў думкі, ён не чуў, каб хто-небудзь падыходзіў. Падумалася, што нехта з дамашніх клапоціцца, каб ён пайшоў адпачываць, і незадаволена ўзняў галаву. Перад ім стаяў Вітаўт.

З радасным ускрыкам узняўся кароль ■ калоды, на якой сядзеў, і кінуўся яго абдымаць. Вялікі князь вітаў яго, але даволі холадна, як бы са смуткам і без радасці. За дрэвамі свяціліся паадчыняныя вокны ў замку, і Ягайла, узяўшы брата пад руку, хацеў зараз жа правесці яго да падрыхтаваных пакояў. Вітаўт спачатку завагаўся, бо хацеў застацца з ім самнасам, але падумаў трохі, пашкадаваў, магчыма, старога, спакой якога збіраўся парушыць жорсткай размовай, і паслухмяна пайшоў з ім. Цяжка яму было, як і заўсёды, утаймаваць, схаваць тое, што меў у душы, але мусіў перамагчы сябе, каб да ўдару, які збіраўся нанесці старому, падрыхтаваць яго. Прыехаў з адной мэтай — пакараць, выкрыць Соф'ю, прымусіць яе лічыцца з сабой, забраць яе назад, у Вільню, і там яе лёсам распарадзіцца так, як яму спатрэбіцца... Аднак застаў Ягайлу амаладжаным гэтай вясною, задаволеным жыццём, дабрадушна-вясёлым і мусіў справу адкласці назаўтра.

Ягайла, ідучы побач, дапытваўся пра Русь, пра паход на Пскоў, пра яго далейшыя намеры. Вітаўт прыпыніў яго дакорам пра млын, які так доўга не хацеў аддаць крыжакам.

— Браце мой, даў бы гэтым шэльмам тры млыны, каб толькі ты не гневаўся на мяне, але палякі добра ведаюць, што ім, гэтым круцялям, трэба не столькі млын, колькі рака, на якой ён стаіць, каб мець гатовую пераправу... Бачыў Збышка...

— Твайго караля і караля Польшчы, — з'едліва ўставіў Вітаўт, — бо ён пануе, бо зух...

— Разумны і бясстрашны, — перапыніў Ягайла. — Паважаю яго.

— Паважаю яго і я, але калі б я Ягайлам быў, сядзеў бы ён у Хэнцінах або даўно паклаў бы галаву пад меч.

— Рым! Рым! — усклікнуў прыдушаным голасам Ягайла. Так, размаўляючы, яны ўвайшлі ў замак.

(Ранак быў хмурным, размова не клеілася. Ягайла ад кепскага настрою меў адны лекі — лес. Запрасіў туды Вітаўта.)

— Едзем, але самі, — адказаў той. — Маю з табой размову, але ніводнае вуха не павінна нас чуць.

Ягайла ўстрывожыўся:

— Таямніцу мне прывёз?

— Вялікую і сумную, — прамовіў Вітаўт. — Гонар твой і шчасце ад яе залежаць. Не пытай у мяне тут. Едзьма!

Коні, як заўсёды, стаялі напагатове. Паляўнічыя і слугі меркавалі, што ім загадаюць ехаць. Ягайла даў знак рукою, каб засталіся. Рушылі самі ў маўчанні, якое для караля нарастала трывогай. Ягайла ў думках прамаўляў якоесь закляцце і прыпамінаў, ці абуваў у гэты дзень левую нагу перад правай. Для яго гэта заўжды прадвяшчала няшчасце. У гэты дзень ён быў няўважлівы, рассеяны, і яму здалося, што мог памыліцца.

Выехалі на шырокі пусты гасцінец, коні ішлі павольна. Вітаўт, нахмураны, глядзеў перад сабой.

— Гавары, бо мне на душы пякуча, — замармытаў Ягайла.

— Даведаешся і вельмі хутка, але будзь мужчынам. Сэрца павінен мець гартаванае, няхай цябе гэта занадта не трывожыць.

Ягайла слухаў. Не гаворачы ні слова, сплёўваў і кідаў штось па-за сябе. Твар, учора такі распагоджаны, цямнеў і набіраў выгляд згорбленай старасці.

— Даў табе сам Соф'ю, — адазваўся Вітаўт, — маеш яе з маёй рукі, я вінен, і таму ратаваць цябе хачу. Яна табе здраджвае.

Кароль ускрыкнуў і стрымаў каня.

— Хлусня гэта! Соф'я?!

— Слухай, будзь цярплівы і мужны, — перарваў князь. — Я ніколі на вецер не кідаў словы. Сачыў за ёй замест цябе і ўпэўнены, што яна табе няверная.

Твар Ягайлы зжаўцеў, словы замерлі на вуснах, і ён ледзьве мог вымавіць:

— Гавары, гавары ўсё!..

— Меў і маю ў яе двары і з яе боку людзей, якія бачылі ўсё і данеслі мне, — паведаміў Вітаўт. — Ты стары, яна — маладая, не пільнаваў, давяраў ёй і людзям, таму і не дзіва, што цябе напаткаў такі лёс. Паўгода няма гаспадара ў доме, з адчыненымі дзвярамі. На двары моладзі поўна, абрала сабе ўлюбёнцаў, ёсць іх досыць. Цешыўся патомствам, а...

Ягайла не даў яму закончыць.

— Праганю! І нагі яе не будзе, — закрычаў ён.

— Пачакай, спярша злавіць трэба і даказаць віну. Жывая душа ведаць аб гэтым не павінна, пакуль вінаватая не трапіць у руку. Маю іх імёны. Пакуль вестка дойдзе да Кракава, трэба забяспечыць, каб ніхто не ўцёк. Да мяне іх адашлеш, я праўду з іх абцугамі выцягну, калі яе добраахвотна не выкажуць. Ты заслабы, цябе яны слязамі перамогуць, ашукаюць. Да мяне прышлі яе дзяўчат, якія памагалі ёй, і яе саму адашлі да мяне пад моцнай вартай. Я яе ў якім-небудзь замку надзейна схаваю. Вінаватых пад меч!..

Кароль, моцна ўражаны, нізка панік галавою і не мог нічога адказаць.

— Дзіцятка маё, сын! — закрычаў ён з роспаччу. — Так, сын мой, я яго не выракаюся...

— Сына ў цябе ніхто не адбірае, — адказаў Вітаўт. — Але досыць табе аднаго. З гэтай каралевай ты больш жыць не можаш. Я табе яе даў, я і забя-

ру, а свой цяжкі грэх яна адпакутуе. У вежу яе пасаджу. На хлеб і ваду, распусніцу, — са злосцю выкрыкнуў Вітаўт, патрасаючы рукою.

Ягайла ехаў, як аслупянелы, гнеў у ім змагаўся з жалем, мучыла патрэба выказацца, але ён не мог знайсці патрэбных слоў.

— Вітаўце, — збіраючы ўсе свае сілы, — прамовіў Ягайла. — Яна мела і непрыяцеляў. Глядзі, каб яе не агаварылі... Злачынствам было б ачарняць нявінную жанчыну.

— Гэта яна нявінная? — выбухнуў Вітаўт. — Я яе змалку ведаю. Калі даваў табе яе, маладую і прыгожую, прыпомні, у Наваградку папярэджваў: сцеражыся і пільнуй, бо ў яе кроў русінкі — калі спіць, змярцвелай здаецца, але калі яе хто разбудзіць, то кіпенем стане.

Як бы не чуючы гэтых слоў, Ягайла зноў звярнуўся да яго:

— Імёны мне назаві, імёны! Хто?!

— Прыдворных ёй падабралі, малакасосаў, — пачаў Вітаўт.

— Ахмістрам служыць стары Налеч.

— Абодва вы старыя і сляпыя. Ён не вінаваты, але шляхта бязвусая, што за ёй насіла і на ўслугах у яе была. Першы з іх — найулюбёны — Гінча з Рагова.

Пачуўшы гэта імя, кароль так падскочыў у сядле, што перапалоханы конь ірвануўся ўбок, і ён ледзьве стрымаў яго.

— Гінча! Той, якога я найбольш лашчыў і песціў? Здраднік!

Ягайла не даваў канчаткова сябе пераканаць і не дазваляў даходзіць да апошняга краю — хацеў мець хоць цень надзеі.

Пасля ад'езду князя засмучаны і прыбіты кароль застаўся яшчэ ў Гародні, патрабуючы самоты і адпачынку. Цудоўная вясна, якой ён так цешыўся і насычаўся перад тым некалькі дзён, страціла для яго ўсе свае чары і асалоду. Ён не чуў спеваў птушак, бо ў вушах набрыняла здрада, нічога не бачыў перад сабою, апрача вобразу жонкі, нявернай і няўдзячнай, але якую ён кахаў.

(Гінча быў папярэджаны пра небяспеку, дапамог збегчы сябрам, але сам усётакі трапіў у вязніцу, з якой пазней быў выпушчаны пры садзейнічанні каралевы, але зусім знясілены і састарэлы. Каралеве пры дапамозе Збігнева Алясніцкага і іншых прыяцеляў ўдалося даказаць сваю невіноўнасць, ацалець і ўмацаваць сваё становішча. Яе сын пасля смерці Ягайлы быў каранаваны польскім каралём. Вітаўт сабе дамагаецца кароны дзеля ўмацавання і самастойнасці Літвы, яму замінае ў гэтым Збігнеў Алясніцкі.

Не адразу паверыў і прабачыў Соф'і Ягайла, дазволіў ехаць у Кракаў, а гэта нешта іншае, чым Вільня. Гэта для яе паратунак.)

Ягайла, змяклы, пабойваючыся змагання з Вітаўтам, прасіў Збігнева, які быў нязрушны.

— У дзіцяткі свайго, літасцівы пане, адбіраеш тое, што яму належыць.

— У Вітаўта няма дзяцей.

— Але ёсць родны брат, — падкрэсліў Збігнеў. — Чым спакойней укрыты, незаўважны, маўклівы на сваёй дзялянцы, чым менш падае прыкмет жыцця, тым больш пабойвацца яго трэба. Князю не столькі карона патрэбна, колькі адарвацца ад Польшчы. Як толькі гэты край набудзе незалежнасць, страцім яго назаўсёды.

## Каментарыі

**«Ці ты знаеш старонку?».** Верш змешчаны ў зборніку «Poezye» (Вільня, 1838). Пераклад з польскай мовы Янкі Купалы (Зб. тв. Т. 4. 1974. С. 412; упершыню — у газеце «Беларусь». 1920. 29 чэрв.).

**«Дзед і баба».** Байка. Увайшла ў зб. Poezye» (Вільня, 1838). На яе напісаў музыку С. Манюшка. Беларускага чытача ўпершыню пазнаёміў з ёй Янка Купала ў сваім перакладзе (Зб. тв. Т. 4. 1974. С. 425—427; упершыню — у часоп. «Зоркі». 1921. № 5).

**«Маці каралёў».** Раман пра беларускую князёўну Соф'ю Гальшанскую, якая ў 17 год выйшла замуж за 70-гадовага польскага караля Ягайлу, беларуса па паходжанні, і стала разам з ім заснавальніцай каралеўскай дынастыі Ягелонаў, нарадзіўшы двух будучых каралёў Польшчы — Уладзіслава і Казіміра. Пераклад з польскай мовы І. Шпакоўскага.

[1] Недзе ў іншым месцы свайго караля маюць — гаворка ідзе пра Папу Рымскага.

# РАМУАЛЬД ПАДБЯРЭСКІ (1812—1856)



У літаратурна-грамадскім руху Беларусі 1840-х гадоў асабліва ярка вылучалася постаць Рамуальда Падбярэскага (Друцкага-Падбярэскага), выдаўца, крытыка, публіцыста, этнографа.

Родам Падбярэскі з Вільні, ■ сям'і збяднелага шляхціца. Скончыўшы ў 1830 г. гімназію, васемнаццацігадовы юнак запісаўся ў Віленскі ўніверсітэт, які, праўда, неўзабаве быў зачынены як гняздо «крамолы». У 1836 г. паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Заадно працаваў у так званым Літоўскім гандлёвым таварыстве ў Маскве. Ён зблізіўся з рускімі славянафіламі І. Кірэеўскім і Ю. Самарыным, пад уплывам якіх зацікавіўся рускім фальклорам, перакладаў і публікаваў рускія народныя казкі. Не прыжыўшыся ў Маскве, у 1841 г. пераехаў у Пецярбург. Там увайшоў у літаратурны гурток Яна Баршчэўскага. Шмат дало Падбярэскаму ў яго нацыянальным абуджэнні знаёмства з вялікім украінскім кабзаром Тарасам Шаўчэнкам, які жыў у гэты час у Пецярбургу і быў сваім у гуртку Яна Баршчэўскага. Падбярэскі заняўся і там выдавецкай дзейнасцю. Выпусціў тры тамы альманаха-штогодніка на польскай мове «Rocznik Literacki», дзе змяшчалася нямала матэрыялаў з Беларусі і пра Беларусь.

У 1847 г. вярнуўся ў родную Вільню, дзе сышоўся са славутымі пісьменнікамі краю Уладзіславам Сыракомлем, Юзафам Крашэўскім, Эдвардам Жалігоўскім і інш. Супрацоўнічаў з прагрэсіўным кіеўскім выданнем на польскай мове «Gwiazda». З 1849 г. пачаў выдаваць у Вільні альманах «Pamiętnik Nawukowo-Literacki». У шасці яго нумарах друкаваліся самыя розныя матэрыялы з жыцця Беларусі і свету. У альманаху знайшлі сваё месца прагрэсіўныя ідэі, блізкія да «натуральнай школы рускіх дэмакратаў». Падбярэскі сімпатызаваў яе ідэолагу В. Р. Бялінскаму. Пры альманаху было арганізавана антыцарскае таварыства. У 1850 г. улады закрылі выданне. Хаваючыся ад рэпрэсій, Рамуальд Падбярэскі пераехаў у Варшаву. Але царскія жандармы знайшлі яго і там. Хутка ён быў арыштаваны і пасаджаны ў Варшаўскую крэпасць. У 1851 г. яго выслалі ў далёкі Архангельск, дзе ён і памёр.

З усёй творчай спадчыны Рамуальда Падбярэскага асаблівую цікавасць мае яго праграмны артыкул «Беларусь і Ян Баршчэўскі», дзе аўтар зрабіў цікавы агляд беларускай літаратуры свайго часу, пачаўшы з ранейшых пісьменнікаў. Важным момантам у гэтым артыкуле было тое, што аўтар асаблівую ўвагу звяртаў на беларускамоўную творчасць пісьменнікаў, надзяляючы іх тытулам «народных». Гэту тэндэнцыю заўважыў Мікола Хаўстовіч у аўтарэфераце сваёй дысертацыі: «"Каб быць народным, трэба служыць народу — трэба пісаць на мове гэтага народа". Гэтыя словы крытыка можна лічыць краевугольным каменем новага беларускага літаратуразнаўства, новай беларускай літаратуры».

*К. Цвірка*

## БЕЛАРУСЬ І ЯН БАРШЧЭЎСКІ

(скарочана)

...І раней Беларусь мела сваіх прадстаўнікоў думкі, калі можна назваць так няздольных пераймальнікаў вялікіх узораў класіцызму. Аднак усе гэтыя пісьменнікі, падхопленыя вірам заходніх ідэй, змялелі ў наследаванні, не развівалі ўласнага духу, не ткалі канвы з саміх сябе, а слепа трымаліся выдатнейшых узораў, ніколі не праяўлялі народнага духу, бо самі яго не мелі і не разумелі. У іх творах не адлюстраваліся ні мясцовасць, ні дух краю...

Некалькі імён увайшло ў гісторыю польскай бібліяграфіі. Францішак Багамолец, езуіт, аўтар камедый, стваральнік школьных драм, што доўга трымаліся на сцэнах езуіцкіх тэатраў. У тых камедыях свет паўставаў нейкім дзіўным, так сказаць, палавічным, бо яны прызначаліся для тэатраў кляштарных, не мелі асоб жаночага полу. Іх галоўнай думкай было высмеяць уплыў іншаземцаў на край, асабліва на паноў, што ўводзілі ў свае дамы французскія моды, французскую кухню, французскіх гувернёраў, якія маглі псаваць асновы рэлігіі і распаўсюджваць вальтэрыянства. Мусніцкі, езуіт, аўтар выдатнай паэмы «Палтава», пісаў таксама песні, оды, нарэшце — камедыі і нават трагедыі, як «Смерць Цыцэрона», «Смерць Клеменса-мучаніка», дзе паказаў трыумф рэлігіі, і інш. І яго меншыя творы, прызначаныя для духоўных школ, мелі той самы характар і тую ж мэту, што і ў Багамольца, хоць і з меншай дозай досціпу. Мігановіч, езуіт, перакладчык трагедыі Эўрыпіда «Арэстэя». Францішак Дзяніс Князьнін, вядомы панегірыст... мройная душа, абяздоленая праз паняверку, як і Карпінскі, па панскіх дварах, дзе кожны з больш-менш паэтычнай душой дачакаецца толькі прыніжэння...

У навейшы час Ян Аношка стаў бліжэй да народнага духу... Гэта быў чалавек з сапраўдным паэтычным талентам, але, збіты з дарогі... недзе самотна і заўчасна закончыў жыццё ў карчме гадоў восем таму назад. Бязмэтна бадзяючыся ад парога да парога, дайшоў да таго, што пісаў панегірыкі тым, хто яго добра прымаў, і вострую сатыру на тых, хто з ім не ладзіў...

Аднак сярод усіх пісьменнікаў, здаецца, толькі два заслугоўваюць назвы народных беларускіх, што нам, уласна, важней за ўсё. Францішак Рысінскі, аўтар мноства лёгкіх вершаў «з выпадку», лёгкіх, вясёлых, дасціпных, у якіх пачэрпнутая з глыбокага ведання людзей і свету, не раз знянацку высвечвала філасофская думка — доказ і рэдкага таленту, і думкі, апёртай на навуку і роздум...

Даймаў калючай мовай смеху сваіх таварышаў; яго вершы з выпадку, у якіх ніколі не бракавала энергічнай думкі, выяўлялі саланаваты гумар і адценне камізму, што ўласціва аднаму толькі сярэдняму класу беларускай шляхты. Малюючы часта нейкую асобу, якую ведалі ўсюды, яны карысталіся велізарнейшым поспехам і бытавалі па ўсёй Беларусі. Яны сталі такімі папулярнымі, што не знойдзеш ні хаты, ні асобы на Белай Русі, каб не ведалі на памяць хаця б ўрыўка якога-небудзь верша Рысінскага. Ён рэзаў вострую праўду кожнаму: і чыноўніку, і духавенству, і таварышу, і земляку, і прыя-

целям, і суседзям, нават не прапускаў прыгожага полу, паклоннікам якога быў сам. Саланаватым досціпам трапляў у жылку народных схільнасцей і так зліўся з думкамі суродзічаў, што многія яго выслоўі ўвайшлі ў прымаўкі як мясцовая мудрасць. Хоць геній Рысінскага не адпавядае ўсім вымогам чыста народнага пісьменніка, аднак яго вялікая папулярнасць дазваляе яму заслужыць гэтае званне...

Другім быў Манькоўскі, спачатку саветнік у Магілёве, а потым віцэ-губернатар у Віцебску... У сваёй «Энеідзе навыварат»[1], пародыі, накшталт травеставанай на нямецкі лад п. Блюмаўэра, на маларускі — п. Катлярэўскага, на польскі — часткова п. Хамянтоўскага, у вобразах герояў сапраўднай «Энеіды» малюе быт заможных беларускіх сялян. Калі не ўлічваць недастатковасць мясцовых рэалій, гэта чыста народная беларуская паэма па духу і форме. Акрамя таго, яна — дасканалы ўзор таго саланаватага беларускага досціпу, які ў мове адукаванага класа праявіўся ў Рысінскім. Лепш, чым Рысінскі, ведаючы быт гараджан і сялян, ён пакінуў помнік духу, сілы і найчысцейшых форм беларускай гаворкі. Таму ён будзе вечна жыць у народнай памяці. Напісаная 50 год таму назад і ніколі не друкаваная, яго «Энеіда навыварат» стала надзвычай папулярнай сярод маладой засцянковай шляхты; на вялікіх кірмашах у Чашніках, Бялынічах, Хаславічах, Шклове, Гомелі, у Полацку на Красным кірмашы і цяпер пачуеш падчас вясёлай бяседы яе ўрыўкі, хоць часта перайначаныя так, што ледзьве пазнаеш арыгінал. З прыемнасцю паўтараюцца сцэны, дзе мясцовыя людзі выступаюць пад грэчаскімі імёнамі...

Як Манькоўскі быў прадстаўніком досціпу бяднейшай шляхты ў Магілёўскай, так Рысінскі — адукаванейшай у Віцебскай, дзвюх губернях, што складаюць сапраўдную Беларусь. Адзін быў больш папулярным, другі — больш народным...

Мы кранулі зблізку праблему народнасці, бо ад каго ж, калі не ад тых, што нарадзіліся і выраслі на сваёй зямлі, маем права спадзявацца дакладных уяўленняў пра яе, праяўлення і развіцця яе духу некалі і цяпер? Ды іх абыякавасць з'яўляецца прычынай таго, што Беларусь у іншых правінцыях альбо ў часопісах[2] лічаць краінай забітай, цёмнай, якая дагэтуль патыхае абскурантызмам... Яны пішуць класічныя паэмы, гросбухаўскія вершы, нейкія драмы-прывіды, а не ведаюць зямлі, што іх нарадзіла, народу, сярод якога ўзгадаваліся!..

Ёсць яшчэ паэт, народжаны на Беларусі, дзіця неласкавага лёсу, выпрабаванага ў пакутах, які ў кожным вершы выявіў сум па сваіх і моцную прывязанасць да роднай зямлі. Т. Лада-Заблоцкі выказвае пачуццёвы бок Беларусі, бо ніводны з вядомых там дагэтуль вершаскладальнікаў не выразіў паэзію сэрца. Ён перш за ўсё з'яўляецца паэтам сэрца. І на гэты раз мы можам верыць яго паэзіі, бо ўсё жыццё ён быў нешчаслівы! Тут няма ні перабольшання, ні выдуманага цярпення. Няшчасце развіло ў ім пачуццё і схіліла да паэзіі. Вялікі талент загартаваўся ў агні цярпення. Трэба цярпець, каб стаць геніем. Вывучаны на ўзорах еўрапейскай паэзіі, ён, можа, якраз таму страціў многае з той самастойнасці, якая пры іншых абставінах зрабіла б яго сапраўды народным паэтам...

Я н  Б а р ш ч э ў с к і нарадзіўся ў 1794 г. на Беларусі, каля возера Нешчарда, на мяжы Невельскага і Себежскага паветаў. Ён выйшаў з той шматлікай ды беднай шляхты, якая, не ведаючы пра сябе, не маючы прызнання самой сябе ў сваёй істоце, валодае найбольш жывымі народнымі элементамі, перахоўвае разам з непрыгладжаным цывілізацыяй характарам найбольш народных успамінаў. Гэтаму беднаму класу шляхты, якая мае такую цесную сувязь з класам вясковага люду, што сапраўды зліваецца з ім у адно і ўяўляе сабой пераход і паяднанне тых двух станаў, і прысвяціў пісьменнік сваё пяро. У многіх аповесцях ён маляваў быт абодвух гэтых класаў з усёй палкасцю паэтычнага сэрца... Трэба, аднак, ведаць, што ўсё жыццё Баршчэўскага з'яўляецца адным і суцэльным адступленнем ад самога сябе — для паэзіі!..

Яшчэ ў Полацку, у езуіцкай калегіі, будучы малым хлопчыкам, пісаў вершы, за што рана заслужыў мянушку Вершапісца. Там пры кожнай урачыстасці выступаў з вершам, з дэкламацыяй, так што гэта была постаць святочная, урачыстая, не раз узносілася да годнасці лаўрэата. Тады ж напісаў вядомую паэму пра «Пояс Венеры», у якой наракаў на адсутнасць любові ў новы час, а прыадзеўшы яе на класічны ўзор, заслужыў воплескі сваіх таварышаў.

А калі падчас канікулаў вяртаўся да роднага парога, той самы паэтычны агонь выяўляўся ў іншай форме: тады ён браўся за пэндзаль, маляваў краявіды і карыкатуры. Прыстасоўваючы свой талент да ўяўленняў акаляючай яго сферы і мясцовых патрэб, ён вымысліваў вясёлыя малюнкі на вялікую пацеху засцянковай шляхты. За гэта яго ўсюды любілі, і ніводная хатняя ўрачыстасць, ніводныя імяніны, народзіны, залатое і срэбнае вяселле не абышлося без нашага Аратара і Вершапісца. Беднага бурсака шляхта рвала з рук у рукі і ўзнагароджвала паводле сваёй невялікай магчымасці то меркай пшаніцы, то меркай гароху, грэчкі, а часам давала бобу! Гэта было адзіным сродкам існавання для беднага студэнта ў час школьнага года ў Полацку. Вясёлыя, тыповыя роды засцянковай шляхты ў вялікіх ваколіцах Арцяйковічы, Мяжора, Галоўчыцы, Голубава, якіх і зараз спаткаем у саматканых халатах на кірмашах... далі яго даследчыцкай уяве тых тыпаў, якія пазней выставіў так маляўніча ў сваіх аповесцях. Ва ўсіх заможнейшых дамах Беларусі і Інфлянтаў разам узятых не знойдзеш столькі паданняў, столькі народнай стыхіі, што маецца ў адной хатцы такога хутарскога шляхціца! Якраз тады напісаў ён у роднай вёсцы Марогі той слаўны на цэлую Беларусь верш «Рабункі мужыкоў», які залічаны да народных паэм і пра які ніхто, апрача гэтай шляхты, дагэтуль не ведаў, што ён з'яўляўся творам Баршчэўскага. Гэтая паэма, калі хочаце, — помнік беларускай гутаркі. Яна ставіць аўтара, разам з Манькоўскім, на чале сапраўды народных беларускіх пісьменнікаў. Верш гэты такі ж папулярны ў Віцебскай губерні, як і рыфмаваныя сентэнцыі Рысінскага... Апрача гэтага, Баршчэўскі напісаў песню «Да чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?», зараз вельмі папулярную.

Напісаў у Марогах з выпадку заляцанняў да маладой панны Максімовіч, калі яшчэ быў студэнтам, каля 1809 г., — меў тады не больш за 18 гадоў.

Калі Баршчэўскі пісаў, ніколі не думаў пра друкаванне. Пісаў, бо гэта цешыла навакольную шляхту, сярод якой жыў. Усвойскі, Латышэвіч і іншыя развозілі па кірмашах, смяяліся, спявалі і хвалілі.

Пасля заканчэння курсаў у Полацку з кандыдацкім атэстатам у руцэ, пачуваючыся чымсьці лепшым за іншых, сходзячы за вучонага, Баршчэўскі хацеў заняцца прыватнай гувернёркай... Аднак і тут, не бачачы ні будучыні, ні сродкаў навучання далей, з некалькімі злотымі ў кішэні, пехатой, з клункам за плячамі пусціўся ў Вільню, ва ўніверсітэт. Але на палавіне дарогі, калі ён адпачываў пад валуном, спаткаў яго пан суддзя I., што вяртаўся з Вільні. Бачачы намер залішне рызыкоўны, калі меркаваць па кішэні, ён угаварыў яго вярнуцца і даў у сваёй хаце месца выхавацеля дзяцей, паважаючы яго больш за хатняга прыяцеля, жыльца — як чалавека гаваркога, які бавіў яго пры гаспадарскіх клопатах. Потым Баршчэўскі перайшоў да дому князя Р. і, нарэшце, запалонены прагай пазнання людзей і свету, рушыў у Пецярбург з некалькімі рублямі ў кішэні. Прыняў яго там зямляк, калега і прыяцель Гаўдэнты Шапялевіч, адзіная жывая душа, якую ведаў у агромністай сталіцы. Па нейкім часе, пастукаўшы туды і сюды, наглядзеўшыся на нахабныя твары лакеяў, знайшоў магчымасць пабываць у некалькіх марскіх плаваннях, бачыў берагі Францыі і Англіі. Вярнуўшыся ў сталіцу, стаў даваць лекцыі грэчаскай і лацінскай мовы ў некалькіх знатных сем'ях; здарылася аднойчы, што вучыў латыні нейкую графіню, якая ехала ў Італію. Зімой вучыўся сам і вучыў другіх, а вясной, як жаваранка, паэзія гнала яго да роднага краю. Рабіў тыя падарожжы пешшу, з кіем вандроўніка ў руках. Адведзіны ажыўлялі яго ссумавелую душу, давалі яму новыя сілы для далейшага змагання з лёсам, натхнялі яго тым павевам тужлівай паэзіі, якую можа чуць чалавек толькі ў аддаленні ад сваіх; у тых падарожжах збіраў паданні, якія пазней выклаў у баладах.

Літаратурную прафесію пачаў Баршчэўскі выданнем «Незабудкі»... «Незабудка» знайшла пэўнае кола чытачоў, што пачыналі навобмацак дашуквацца чагосьці ў літаратуры. Калі б яна не мела іншай заслугі апрача той, што абудзіла пэўныя засцянкова-літаратурныя размовы ў тых хатах, дзе не ведалі ніводнай кніжкі, акрамя «Календара», то і тады не была б некарыснай... Яна адкрыла талент, якім цяпер ганарыцца апавядальная літаратура...

Але для нас «Незабудка» важная толькі дзякуючы баладам, якія маюць значэнне паданняў. Гэтае значэнне, не заўважанае ўсязнайкамі, скажацца выразней пасля выдання ўсіх беларускіх апавяданняў. Яны з'яўляюцца нібыта ўступам да таго паэтычнага вобраза Беларусі, які аўтар намерыўся развіць у большым маштабе. Выплылі яны з натуральнага меркавання, якое прачувала адраджэнне новых форм паэзіі пасля доўгага зняволення класіцызму. Бо калі ўвесь свет зрабіў паварот ад старых форм, то Баршчэўскі ў глыбіні лясоў альбо на палубе судна заставаўся верным успамінам Анакрэона, Тэафраста, Вергілія і інш. Балады яму раскалыхалі ўяўленне, ён сам гаворыць, што, калі б не пісаў балад, не пісаў бы ніколі прозу...

Тое, што піша Баршчэўскі прозай, не датычыцца непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але важнейшай рэчы — духу і паэзіі народа,

адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ён ухапіў найжыццёвейшыя асновы і вырашыў выявіць у мастацтве вялікі народны вобраз. Ён бачыць перад сабой народ, часта з усёй чароўнасцю паганскай фантазіі, якую ён апраменьвае сваім, так сказаць, беларускім гафманізмам. У баладах імкнуўся выявіць пачуццёвы бок народнай паэзіі; у апавяданнях творчасць яго і нібыта нейкая філасафічнасць паняццяў пра побыт, авеяны ўласнай фантазіяй. У тых апавяданнях, якія памылкова названы аповесцямі... само толькі ядро належыць люду, увесь жа вобраз — вымысел аўтара, заснаваны на фоне народных барваў... Баршчэўскі не з'яўляецца збіральнікам паданняў, але выяўляльнікам іх у мастацтве. Ён не баіцца, каб хтосьці іншы не ўзяў яго апавяданняў яшчэ раз за матэрыял для творчасці. У адносінах да мастацтва яны недастаткова развітыя, носяць сляды нейкай недасказанасці, што з'яўляецца вынікам яго імправізатарскай манеры. Бо што ён раз напіша, тое без перапісвання падае да друку, не змяняючы ўсяго і не папраўляючы асобных частак... Мае ён асаблівы талент да апісання прыроды роднага краю, якая ўсюды патыхае такой свежасцю, такой праўдай, так пераносіць у тыя ваколіцы!..

Па яго манеры апавядання, набліжанай сапраўды да прастаты гамераўскай, назваў бы яго Рапсодам беларускім. Ён не церпіць манеры новай (а можа, ўжо і не новай) французскай школы, што так моцна трасе нашыя бедныя нервы. Калі збіраецца пісаць, ён бярэ Гамера — не для таго, каб наследаваць (бо перад ім нават хоча застацца самім сабой!), але каб набрацца духу, натхніцца старажытнай прастатой. «Адысея» наводзіць на тысячы ўспамінаў яго жыцця, так падобнага ў сваім бадзянні па зямлі і морах, па вялікіх гарадах і вёсках да беднага грэчаскага Рапсода! Бо, як я ўжо сказаў, усё жыццё Баршчэўскага — адно суцэльнае адступніцтва ад самога сябе для паэзіі! Каб зразумець добра, што я гавару, трэба ведаць яго асабіста, трэба яго бачыць з кіем падарожніка ў руцэ, бо я спатыкаў яго ў маіх падарожжах пешкі сярод беларускага люду, на плытах Дзвіны, у прыдарожных карчмах, на сцежках у лесе і на вялікіх гасцінцах!.. Вышэйшаны крытык нічога ў ім не зразумее, папраўдзе!.. Гэты чалавек не мае парожніх слоў... ён — сама сутнасць. Яго чарнавікі, ці, як ён сам называе, раптуркі, напісаныя даўнім почыркам, заўсёды носіць з сабой у шапцы, побач з табакеркай...

У апавяданнях Баршчэўскага заўважаюцца першыя праяўленні духу беларускага народа, як у працы пана Храпавіцкага — першыя прыкметы філасофскіх паняццяў пра паэзію гэтага народа, а ў «Паэзіі» Т. Лады-Заблоцкага — пачуццёвы бок беларускай паэзіі ў цяперашні час.

Місія пана Баршчэўскага з'яўляецца не апошняй; як ні кажы, адкрывае ён новую краіну — таму прычыняецца да развіцця і поступу думкі.

Я не магу лепш закончыць свайго артыкула, чым гэта зрабіў вядомы пісьменнік, што ў адным прыватным лісце так між іншым выказаўся: «Пан Баршчэўскі аказваецца найлепшым прадстаўніком народнай фантастыкі і звычаяў беларускага народа... Пачаў ён прозаю пісаць аповесці: не магу табе перадаць майго вялікага ўражання. Усё там выканана па-майстэрску пад знакам вялікай прастаты. Гэта не просты збіральнік народных паданняў... Палымяны беларус не цяпер, але з самага дзяцінства; правёў з народам усё

жыццё; твар яго, загарэлы, не кабінетны, кажа пра чалавека справы, а не слова; выхаваны ў езуітаў, але гэта ад яго не адняло пачуцця і прастаты; поўны сапраўднай веры ў тое, пра што піша, а гэта не малая заслуга, бо з верай кожнае апісанне жывейшае і праўдзівейшае; усю Беларусь ведае як нельга лепш, бо з трыццаць разоў яе абышоў пешшу і кожны год і зараз яе адведвае з Пецярбурга, а ўсюды там пажаданы і сустракаецца з радасцю, бо як бард гэтага краю апавядае бесперастанку анекдоты, аповесці сыпле як з рукава. Мае дзіўны інстынкт пры апрацоўцы апавяданняў, амаль нічога свайго не дадае, а ўсё з'яўляецца яго ўласным; голая байка не мела б ніякай вартасці, але ён аздабляе яе іншымі паданнямі, умела драматызуе, і раптам вырастае цэласнасць, поўная народнай праўды і найсапраўднейшага жыцця»*.

*Пісаў у Пецярбургу, 1844 года, 8 верасня*

## ЛІСТЫ ПРА БЕЛАРУСЬ

### ЛІСТ III

Калі ў мінулым годзе пасля чатырох месяцаў вандроўкі па Беларусі я вярнуўся ў сталіцу, трапіў мне ў рукі артыкул, тэма якога супадала з кірункам думак, што моцна мяне ў той час займала. Поўны цікавасці да краю, у якім (хоць і быў настроены хлуслівымі водгукамі) неспадзявана знайшоў нямала зародкаў добрага, абурыўся нахабствам артыкула, дзе побач з поўным няведаннем справы я ўбачыў несправядлівае знеслаўленне беларускіх жыхароў. І хоць родам я літвін, аднак заўсёды, як сусед-зямляк, маючы больш спрыту за аўтара таго артыкула лепей пазнаць унутранае жыццё адукаванае грамадскасці, сярод якое я быў немалы час, палічыў за абавязак ветлівага госця, спагадліва прынятага, абвергнуць хлуслівую думку, якою бездапаможныя радкі цэлы край спрабавалі зняважыць перад чужымі. Гэта было падставаю, каб паспехам сабраныя весткі і назіранні надрукаваць у папярэдніх «Лістах» у «Tygodniku Peterburskim». Я разумеў, што ўзятаю з крыніц інфармацыю (выпадковасць якое, аднак, сам бачу) пакажу ў сапраўдным святле стан краю і тым абвергну несправядлівы вырак чужых людзей. Я абраў форму лістоў, бо яна мае найменш прэтэнзій на бясхібнасць назіранняў.

Артыкул той, змешчаны ў № 8 «Москвитянина» за 1843 г., літаратурным часопісе, які выдаецца ў Маскве прафесарам Пагодзіным, называецца «Гецыкі» і напісаны нейкім панам Кушыным, што жыве ў Віцебску і, як паказвае сам тон і пісьменніцкае майстэрства, не вельмі высокае займае там месца. Ужо сама іранічная назва народу — «гецыкі», ад слова «гэта», якое сяляне-беларусы ўжываюць замест расійскага «это» ці польскага «oto», дае найлепшае ўяўленне пра густ і досціп аўтара. Паказ на самым пачатку ў выжыгінаўскім духу шамбеляна, нібы тып беларускага землеўласніка з'яўляецца скажонаю ў найвялікшай ступені карыкатураю, што ні ў якім разе нельга распаўсюджваць на ўсіх. Сёння беларускі землеўласнік не з'яўляецца тою інертнаю машынаю, якую спрытна круцяць хцівыя яўрэі, як яго пака-

* «Pielgrzym». 1843. Т. 2. З карэспандэнцыі Х. Галавінскага да Міх. Грабоўскага (*заўвага аўтара*).

заў раман «Выжыгін» і аўтар «Падстоліча»[1], ужо не з'яўляецца тым бічом несуцяжніцтва, пра якi здаўна склалася думка ў заходніх правінцыях з-за некалькіх альбо якога дзясятка выключных індывідаў, якія мелі няшчасце, судзячыся ўсё жыццё, закончыць урэшце і свой нехвалебны жывот на трыбунальскіх лаўках. Злоўжыванне даверам і спрытнасць, абвінавачванне ў распусце моладзі, што вырываецца за межы бацькаўшчыны шукаць шчасця, — гэта заганы выключныя, казусныя выпадкі, яны не даюць мажлівасці вынесці агульны вырак, бо дзе такі шчаслівы край, які не мае падобных злоўжыванняў? Калі ж гэта здаралася і здараецца, дык паходзіць з тых аддаленых ад цэнтра Беларусі паветаў, да якіх сённяшняя асвета яшчэ не прарвалася, а не з тых, якіх на справе варта лічыць за прадстаўнікоў грамады. Інтэлектуальны рух, што ўжо некалькі гадоўназіраецца ў заможных, найбольш прамысловых наддзвінскіх паветах, пра што я нагадваў больш падрабязна ў іншым месцы*, пачынае ставіць моцную перашкоду тым недахопам, якія вынікаюць ад ляноты і няведання. Ужо сёння там лепш разумеюць свой уласны інтарэс, ужо сёння там не сумняваюцца, што толькі настойлівая праца, справядлівая камерцыя і ўзаемная павага могуць прывесці паляпшэнне быту да пэўных вынікаў. Як асобныя індывіды, так і цэлыя народы, выпрабаваныя агнём вопыту, прыходзяць да пазнання свайго стану і пачынаюць разумець, што з'яўляецца жыццёвай падставаю іх і будучых часоў зямнога побыту.

Я і не думаю ламаць тут коп'і за напаўдзікіх панкоў, што ў адсталых паветах распаўсюджваюць у гнюснай адміністрацыі сярэднявечнае васальства, абсалютнае злоўжыванне правам валодання, ні таксама за асобных шамбелянаў і маршалкаў, якія прагульваюць жончыныя маёнткі; не маю прадузятасці і ў лепшы бок, — але чаму пан Кушын, спакусіўшыся намаляваць карціну беларускага жыцця, чапляецца да беднага селяніна і злою насмешкаю сцёбае невінаватую ў сваёй знявазе істоту; лезе ў ягоную бедную хатку, высмейвае ягоныя недахопы і простыя звычаі, дамешваючы паўсюль ганебную адукаванаму сэрцу іронію?

Гісторыя паказвае нам Беларусь як сірочую зямлю, якою ніхто ніколі па-бацькоўску не апекаваўся. Была гэта зямля пераходаў, здабыча суседняе дзічыны, перш чым святы апостал Андрэй не прынёс з поўдня прамень заходняе веры, а пазней — талкавіска баёў братніх шэрагаў і набегаў ордаў татарскіх! Мала гэтых знешніх нападаў, у лоне самое Беларусі фарміраваліся ліхадзейскія ватагі, якія, хаваючыся ў разбойнічых прытонах гарыстых ваколіц Невеля, у гушчарах Алаунькіх гор (што больш вядомыя пад назваю Рабшчызна), спусташалі сялібы мірнага земляроба, не давалі і хвіліны зірнуць яму на сябе. Гэтая парэзаная акопамі зямля да сённяшняга дня пазначана слядамі пераходаў Баторыя**, калі ён ішоў пад Пскоў і Вялікія Лу-

* Ва ўступе да беларускіх апавяданняў Я. Баршчэўскага[2] (*заўвага аўтара*).

** Пад Межавам і Гарадком (на паўвыспе возера Нешчарда) непадалёк ад ваколіцаў Гульцяі, пра якія я вышэй узгадваў, існуюць да сённяшняга дня сляды мастоў на балотах праз цёмныя лясы, па якіх прабіралася войска; народ і дасюль называе іх Баторынскія масты, а на мяжы Себежскага і Невельскага паветаў ёсць вёска Баторы (*заўвага аўтара*).

кі, — зямля, дзе сутыкаліся Літва, Русь, Польшча і крыжакі, — хіба магла яна калі-небудзь апрытомнець, каб перавесці дух, каб выдзеліць з сябе парасткі асветы, якія выпалі на долю шчаслівых народаў?

Не трэба забываць, што за польскім часам гэтая зямля была месцам выгнання. Гісторыя мінулых часоў Беларусі можа выклікаць плач Іераміі...

Такія палітычныя абставіны, уплываючы на матэрыяльны стан народа, мусілі ўплываць і на ягоны характар. Таму паэзія гэтага народа маркотная і жалобная, як душа ад журбы пакутная, рэдка пачуеш вясёлую ноту ў песні; здаецца мне, маркотныя, аднастайныя мелодыі чуюцца нават у нацыянальным інструменце, які завецца дуда. Гэты напалову дзікі край захаваў ва ўсёй свежасці элементы народнае паэзіі. Да сённяшняга дня ў тутэйшых абрадах ёсць сляды паганскіх памятак, я нагадаю толькі пра адну: Стаўры, Гаўры*, што да гэтага часу захавалася. Іх уяўленні — гэта свет духаў, напоўнены паэтычнымі выдумкамі; духі ў іх плодзяцца ў незлічоныя грамады; дзікасць мясцін уплывае на фантазію народа. Якая розніца ад паэзіі ўкраінца, які на дзікім кані лётае па стэпе! Спеў і маркотныя краявіды найбольш збліжаюць гэтую паэзію з народнымі мелодыямі Літвы. Паэзія ўкраінца — гэта стэп, конь, сокал, хорт. У беларуса — прымхі, чары, унікание ў таямніцы прыроды, злучанае з замкнёнасцю ў самім сабе пры суровым клімаце краю. Паўсюль пачуццё горкае долі. Гэты народ, узгадаваны самотнаю пра сябе перакананасцю, акружаны навалаю непамысных здарэнняў, ці мог ён узняцца з маральнае зняваггі, і ці ягоная віна, што не ўзняўся? Уважліва прыгледзеўшыся да паэзіі нашага гаротнага люду, да слядоў мінуўшчыны, адкрыеш фантастычны свет, поўны жывое паэзіі, якую не заўважыць розум, што слізгаціць па паверхні.

Таму, вяртаючыся да пана Кушына, які намагаецца знясла віць беларускага земляроба, я пытаюся: ці ж не паклёпам на край з'яўляецца ягонае апісанне? Ці дакладна адлюстроўвае яно дух жыхароў сёння? Распаўсюджванне неаб'ектыўных поглядаў, ці ж гэта не ўплыў на грамадскую думку? Справа набывае супярэчлівы характар, а значыць, становіцца больш шкоднаю, калі рэдактар часопіса сваімі прыпіскамі пацвярджае кінутыя на вецер жарцікі. А так зрабіў вучоны-прафесар, знаёмячы публіку з першаю празаічнаю працаю свайго выхаванца, якога, як ён тлумачыць, павярнуў ад рыфмаплёцтва да апісанняў мясцовасці. (Бадай бы лепш пісаў кепскія вершы.) Рэдактар лічыць, што ўдзячны выхаванец прынёс дакладнае апісанне, «як жыве кожны беларускі грамадзянін». Не спыняючыся на гэтым, вучоны-рэдактар мяркуе, што за тое дакладнае апісанне і выхапленыя недарэчныя фразы з карчмарскага жаргону яму будуць удзячны сапраўдныя вучоныя: Сразнеўскі, Прэйс, Бадзянскі і нават сам вялікі Шафарык, сонца славянскае вучонасці!

Вось, уласна, пункт адліку, адкуль, аналізуючы гэтую рэч, заўважаецца шкоднасць падобнае пісаніны. Таму не варта рэдактару так манкіраваць грамадскаю думкаю, а нікчэмнасці-пісаку надаваць вартасць літаратара.

*Пісаў у Пецярбургу, 30 верасня 1844 года*

---

* Гл. т. I «Rocznik Literacki» «Нарыс паўночнае Беларусі»[3] (*заўвага аўтара*).

## Каментарыі

**«Беларусь і Ян Баршчэўскі».** Уступны артыкул да кнігі Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» (Пецярбург. 1844. Т. 1). Пераклад з польскай мовы В. Рагойшы друкуецца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000. — С. 303—310.

[1] Як пераканаўча даказаў Г. Кісялёў, аўтарам паэмы быў В. Равінскі.

[2] У заўвагах аўтар прыводзіць як прыклад часопіс «Москвитянин».

**«Лісты пра Беларусь».** Пераклад з польскай мовы М. Хаўстовіча друкуецца паводле выд.: Шляхам гадоў. — Мінск, 1994. — С. 262—266

[1] Эдвард Масальскі — аўтар рамана «Пан Падстоліч».

[2] Маецца на ўвазе артыкул «Беларусь і Ян Баршчэўскі», які пачынаецца з разважанняў пра інтэлектуальны рух на Беларусі на мяжы 30—40-х гадоў XIX ст.

[3] Як заўважае публікатар «Лістоў...» М. Хаўстовіч, аўтар памыляецца: падання пра верных сабак князя Боя — Стаўры і Гаўры — там няма. Яно было змешчана потым у «Шляхціцы Завальні».

# ПАЎЛЮК БАГРЫМ
# (1812—1891)



Беларускую літаратуру XIX ст., якая была пазбаўлена друкарскага станка, хочацца параўнаць з затанулай Атлантыдай. Толькі час ад часу маўклівыя халодныя хвалі выкідаюць на бераг яе нешматлікія рэшткі. Гэта або асобныя творы без імён іх аўтараў (унь колькі ў нас ананімных твораў), або, наадварот, імёны без твораў, як, напрыклад, імя легендарнай Эміліі Плятэр, беларускай паэтэсы, паўстанцкага камандзіра 1830—1831 гг., апетага Адамам Міцкевічам у вершы «Смерць палкоўніка», сапраўднай беларускай Жанны д'Арк. Адна такая хваля вынесла на свет Божы і гэта журботнае імя нашай літаратуры — Паўлюк Багрым разам з адным-адзіным яго вершам. Нібы адшліфаваны кавалачак бурштыну, падняў знаходку і, па-сапраўднаму яе ацаніўшы, не даў згубіцца ў бяздоннай Леце разумны беларускі інтэлігент, юрыст, удзельнік паўстання 1830—1831 гг. на Беларусі, ураджэнец Наваградчыны Ігнат Яцкоўскі, які на чужыне, у далёкай эміграцыі, шчасліва збярог у памяці той шчымлівы Багрымаў верш. Праз чвэрць стагоддзя пасля першага знаёмства з ім, у 1854 г., Яцкоўскі апублікаваў верш у Лондане ў сваёй кнізе ўспамінаў пад назвай «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды», дзе ўпершыню расказаў людзям пра трагічную долю ў самым зародку загубленага самадзяржаўем нашага бясспрэчнага генія.

Потым знайшліся і дакументы з архіваў, што пашырылі нашы веды пра паэта. Як вынікае з гэтых матэрыялаў, Паўлюк Багрым нарадзіўся 2 лістапада 1812 г. у мястэчку Крашын Наваградскага павета пад Баранавічамі. Бацька Восіп Багрым рабіў у Крашыне кавалём. Паўлюк вучыўся ў Крашынскай парафіяльнай школе, у ксяндза Магнушэўскага, якому ён прыслугоўваў. У 1828 г. у час бунту крашынцаў супраць свайго гаспадара Станіслава Юрагі, які хацеў запрыгоніць местачкоўцаў, трапіў на допыт і Паўлюк Багрым, у якога выявілі вершы «на простай польскай мове» (г. зн. на беларускай); сярод іх быў, напрыклад, верш Яна Баршчэўскага «Бунт хлопаў». На допыце, як успамінае І. Яцкоўскі (ён, відаць, прысутнічаў там як юрыст), Паўлюк Багрым, якога ён памылкова называе Пётрак, «пачаў чытаць свае журботныя элегіі», з якіх засталіся ў памяці аўтара ўспамінаў «толькі некалькі строф». Гэтымі «строфамі» і быў верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...». Тым не менш сёння існуюць меркаванні, што аўтарам верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» не з'яўляецца Паўлюк Багрым.

*К. Цвірка*

## ЗАЙГРАЙ, ЗАЙГРАЙ, ХЛОПЧА МАЛЫ...

Зайграй, зайграй, хлопча малы,
І ў скрыпачку, і ў цымбалы,
А я зайграю ў дуду,
Бо ў Крошыне жыць не буду.

Бо ў Крошыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача:
«Дзе ж ты пойдзеш, небарача?..»

Дзе ж я пайду? Мілы Божа!
Пайду ў свет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,
З шчасцем на вас азірнуся.

Будзь здарова, маці міла!
Каб мяне ты не радзіла,
Каб мяне ты не карміла,
Шчасліўшая ты бы была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я бы без паноў абыўся:
У паншчыну б не пагналі,
У рэкруты б не забралі
І ў маскалі не аддалі.

Мне пастушком век ня быці,
А ў маскалях трудна жыці,
А я і расці баюся,
Дзе ж я, бедны, абярнуся?

Ой, кажане, кажане!
Чаму ж не сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

**Каментарыі**

**«Зайграй, зайграй, хлопча малы...».** Упершыню апублікаваны ў кн.: Powieść z czasu mojego, czyli Przygody litewskie. — Poznań, 1858. — S. 257—265. Друкуецца паводле кн.: Пачынальнікі: з гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мінск, 1977. — С. 188—189.

## ВІНЦЭНТ ГАЗДАВА-РЭУТ
## (1812? — каля 1883)



Фалькларыст, пісьменнік, прадстаўнік рамантызму. Нарадзіўся на Віцебшчыне, жыў у маёнтку Мосар у Полацкім павеце. У 1827—1834 гг. — дробны чыноўнік у Віцебску, у 1839—1842 гг. — полацкі павятовы прадвадзіцель дваранства (маршалак). Збіраў і публікаваў беларускі фальклор, шырока выкарыстаў яго ў вершаванай аповесці «Жонка» (1844). Свае творы і фальклорныя запісы друкаваў у альманахах «Niezabudka» («Незабудка»), «Rocznik literacki» («Літаратурны штогоднік»), «Rubon» («Рубон»). У публіцыстычных артыкулах заклікаў развіваць на Беларусі прамысловасць. У паэме «Летуценнік» (1849) выказаў сімпатыі да вызваленчай барацьбы грэчаскага народа. Прыхільна ставіўся да паўстання 1863—1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве, за што прыцягваўся да следства і быў пад наглядам паліцыі. Пакінуў запіс у «Альбоме» А. І. Вярыгі-Дарэўскага. У пісьме да І. Легатовіча расказаў пра сувязі беларусаў, што жылі ў Пецярбургу, з Т. Шаўчэнкам.

*Г. Кісялёў*

### ВАСЬМІРАДКОЎЕ

Імправізацыя

Як прагны чалавек, то й прагна паглядае,
Яму ўсё мала, ён урваць яшчэ жадае;
Змаганне з лёсам... глянь — штандар узняты ў дзеі,
Ды зноўку мала — трэба новыя трафеі,
Працуе галавою, сэрцам і рукамі,
Каб тое мець, чаго няма яшчэ між намі...
І чалавек, хоць скарбаў надарылі богі,
Ніколі не багаты, а заўсёды ўбогі.

#### Каментарыі

**«Васьмірадкоўе».** Упершыню верш надрукаваны ў часопісе «Niezabudka» ў 1844 г. Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## ФРАНЦ САВІЧ
## (1815—1845)



Франц Савіч паходзіў з новага пакалення паэтаў, якія ўсім сэрцам успрынялі ідэі сваіх славутых папярэднікаў — філаматаў і філарэтаў — і з юнацкім запалам і самаахвярнасцю павялі далей іх высакародную справу, прысвячаючы жыццё вызваленню Бацькаўшчыны ад царскага самадзяржаўя.

Нарадзіўся Франц Савіч у вёсцы Вяляцічы Пінскага павета ў сям'і ўніяцкага святара. Вучыўся ён у Пінскім павятовым вучылішчы, а пасля яго заканчэння паступіў у 1833 г. у Віленскую медыка-хірургічную акадэмію, пераемніцу закрытага ўладамі за год перад гэтым Віленскага ўніверсітэта, гнязда вальнадумства і рэвалюцыйнасці.

У сценах акадэміі хадзілі яшчэ згадкі пра нашумелыя філамацка-філарэцкія згуртаванні, на вуснах студэнтаў былі вясёлыя песні і палымяныя вершаваныя радкі жывых яшчэ тады, выгнаных за межы радзімы Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана. Хоць шмат чаго змянілася з іх выгнаннем і хоць «вучні Зана зніклі амаль зусім падчас падзей 1831 года», як расказвае сам Савіч, усё ж царскім уладам не ўдалося цалкам вытравіць вольналюбівыя памкненні моладзі. Сведчанне гэтага — самаадданая дзейнасць самога Франца Савіча, якому ўдалося стварыць у 1836 г. нелегальнае Дэмакратычнае таварыства. Ён напісаў для яго статут пад назвай «Прынцыпы дэмакратызму» і адозву-праклямацыю «Заўвагі пра маральную вайну народа з дэспатызмам», дзе выклаў свае радыкальныя ідэі і спосабы іх ажыццяўлення. У 1837 г. Ф. Савіч зблізіўся з польскім рэвалюцыянерам Шыманам Канарскім, які прыехаў з-за мяжы для наладжвання вызваленчай барацьбы ў былым Вялікім Княстве Літоўскім. Было дамоўлена аб сумеснай дзейнасці супраць царызму. Але праз год Шыман Канарскі быў арыштаваны. Неўзабаве царскія жандары схапілі і Франца Савіча. Пасля працяглага следства Шымана Канарскага пакаралі смерцю, а іншых звязаных з ім змоўшчыкаў саслалі ў Сібір, здалі ў салдаты. Салдатчыну прысудзілі і Ф. Савічу з яго сябрамі Я. Загорскім і К. Рапчынскім, адправіўшы іх на Каўказ.

Для Савіча і яго сяброў пачаліся цяжкія, поўныя нягод і выпрабаванняў гады няволі. У 1841 г., інсцыніраваўшы самагубства, Франц Савіч уцёк з месца сваёй службы і адправіўся ў Таганрог, каб пераправіцца морам за мяжу. Але спроба ўцячы не ўдалася. Як не ўдаліся і іншыя такія спробы. За адну з іх два гады адседзеў у турме ў Цірaспалі (цяперашняя Малдова) і зноў быў аддадзены ў салдаты, адкуль зноў уцёк. Пасля яшчэ адной няўдалай спробы ўцячы за мяжу ён змушаны быў застацца ў мястэчку Янушпаль Жытомірскага павета, дзе пад чу-

жым імем заняўся лекарскай практыкай. У 1845 г. у час эпідэміі халеры, ратуючы людзей ад гэтай хваробы, Савіч не ўбярогся ад яе і неўзабаве памёр.

З паэтычнай спадчыны Франца Савіча да нас дайшоў толькі адзін, напісаны на пінскай гаворцы верш «Там блізка Пінска...», што захаваўся дзякуючы Э. Паўлоўскаму, які ўключыў яго ў сваю кнігу «Успаміны з-над Віліі і Нёмана» (1882). Г. Кісялёў назваў гэты верш «яркім узорам беларускай рэвалюцыйнай паэзіі XIX ст.» («Беларускія пісьменнікі: біябібліяграфічны слоўнік». Мінск, 1995. Т. 5. С. 218). Як даводзяць літаратуразнаўцы, вершы Ф. Савіча хадзілі ў свой час у рукапісным выглядзе па Беларусі і Украіне, асобныя з іх сталі народнымі песнямі. Каштоўнымі дакументамі часу можна назваць і яго празаічныя творы — напісаную ў 1838 г. у віленскай турме «Споведзь» і незавершаныя «Успаміны», якія паэт давёў да першых уцёкаў з салдатчыны. Абодва гэтыя творы былі надрукаваны ў кнізе Э. Геленюша (Іваноўскага) «Успаміны мінулых гадоў», якая выйшла ў 1876 г.

*К. Цвірка*

## ТАМ БЛІЗКА ПІНСКА НА ШЫРОКАМ ПОЛЮ

(скарочана)

Там блізка Пінска на шырокам полю,
Гдзе між лугамі плыве Струмень быстры,
Там, сідзя, Літвін расказываў сву долю.
З боку Валынец сядзеў затачысты.
З пераду Пінчук вяслом ся спірае
І на гутарку пільна ўважае.

«Гдзе ж ся падзілы аты даўны літы,
Шчо мы за ўласны грошы соль купляли,
Шчо без рашпорту ідзі хоць ў край світа,
Шчо мы Маскаля і ў очы не зналы!
Гдзе кінеш — радасць музыкі іграюць,
Мёд, піва льецца, дзяўчата гуляюць.
А тут шынкарка частуе прыгожа;
Тагды то Польшча свяцілася, Божа!
Малы падаткі — грошы, як мякіны,
У хлеве каровы, бычкі, свінні,
У каморэ поўна, хоць спі на своях,
Ў хаце чысценька, як ў панскіх пакоях.
Так то бывала ў нас і між вамі!
А цяпер гдзе ж тое шчасце ся падзіла?
Гдзе глянеш — людзі брашчаць ланцугамі,
Гдзе кінеш — слёзы, аж жыты не міла.
Бо з чалавека высысают сілы —
А ўсё то цары Маскалі зрабілы. <...>

Літвін, Валынец, падайце ж мі рукі,
Так, — прысягаем на Госпада Бога,

Царам на згубу — панам для наукі,
Шчо на той зямлі не паўстане нога,
Ані эта паганска, ані эта тыранска,
Хоць ся ўкарэніт, як сіла шатанска.
І ты на небе, ўсемагушчы Божа,
Ты Пан над намі, ты Пан справядлівы.
Няхай нас, бедных, Тва ласка ўспаможа.
А кто не шчыры, кто несправядлівы,
Няхай прападзе з родам і з насеннем,
Няхай чорт зрэжа з чадам, з пакаленнем».

Сказаў, усе трое пацалавалысь,
І па чарцы выпілы гарэлкі,
І па калачу ўзялі з тарэлкі,
І доўга сабе мілавалысь.
А слонца свіціт і вітэр не гудэ,
Бо ся здзівілы — шчо то вільны людэ!

## УСПАМІНЫ

(урыўкі)

Я нарадзіўся ў беднай сям'і і з малых гадоў павінен быў спадзявацца толькі на самога сябе. Мой бацька рана памёр, маці мне дапамагаць не магла, бо сама няшмат мела. Як стаў убірацца ў сілу, мог ужо трошкі зарабляць і больш дбаць пра патрэбы маці і свае ўласныя. У Пінску прайшлі маё маленства і юнацтва. Х. М. быў першым маім апекуном, дарадчыкам і настаўнікам[1]. З яго дапамогай я скончыў школу. У 1833 г. я пакінуў Пінск і на ўсё жыццё захаваў удзячнасць да Х. М. за тое дабро, што ён для мяне зрабіў.

У той год я выехаў у Вільню і паступіў у акадэмію. Быў залічаны казённым стыпендыятам дзякуючы розным клопатам, бо сродкаў на вучобу не меў. У тыя часы Віленскі ўніверсітэт заняпаў, наступіла як бы рэакцыя. Адбывалася адваротнае ранейшаму. Усё заняпала, нават мараль. Час рэакцыі настаў пасля таго, як столькі выдатных заслужаных людзей пакінула сцены ўніверсітэта. Вучні Зана зніклі амаль зусім падчас падзей 1831 года. Прыйшла хваля маладых, ды змяніўся дух моладзі. Яна не хацела, а можа, не ўмела ісці вызначаным шляхам. Распаўсюдзіліся п'янства, гулянкі, распуста. Моладзі з іншымі памкненнямі было мала, таму ўзяць перавагі яна не магла.

Падчас майго паступлення ў акадэмію я пасябраваў з Янам Загорскім. Тое сяброўства да канца было святым, такога я больш ніколі не меў. Нашы сэрцы, пачуцці і думкі былі сугучныя. Мы добра ведалі адзін аднаго, і лёс нас цесна звязаў. Характар і душа яго былі смелыя, справядлівыя і энергічныя. Мне здавалася — няма нічога на свеце, на што я не мог бы адважыцца з ім.

З малых гадоў, як толькі памятаю сябе, мае думкі былі пра свабоду і айчыну, пра нашае бяспраўе і нашу беднасць. Кожны з нас іх павінен мець, бо вы-

смоктваем мы іх з матчыных грудзей, бо ў песнях, што спявалі над нашымі калыскамі, гучала гэтая нота, бо пра гэта дзецям расказвалі старыя. Хто не ведае той новай гісторыі, той не зможа прачытаць яе ў друкаваных кніжках. Бяда нам, калі з той жывой навукі сэрцам карыстацца не будзем і забудзем яе. Тыя пачуцці мае былі як ранішняя зорка, што з гадамі ўсё больш разгаралася. Я ўвесь час працаваў над сабой, чэрпаў навуку з кніг і жыцця і не раз гаварыў сабе: «Калі я маю душу і волю ад Бога, то неба з яе саткаць і стварыць не можна. Гэта супярэчыла б дасканаласці Творцы, рабіла б памылковай Святую Кнігу. Але што я магу зрабіць для сваёй Айчыны, сам без прытулку, без ніякага значэння і ў такой нястачы. Сэрца адказвала мне: Хрыстос нарадзіўся не на троне і не ў палацах, але ў беднасці, на сене ў стайні. Усё жыццё ён быў бедны, але панаваў і пануе на зямлі і ў небе. І звярнуўся ён да вучняў сваіх: «Хто хоча пераймаць мяне, няхай адрачэцца ад самога сябе, возьме свой крыж і ідзе за мной».

Такія думкі пераканалі мяне, што маючы моцную волю, можна прынесці карысць братам і можна пакласці яшчэ камень у будынак Айчыны нашай. Я дажыў да ўзросту, калі належыць думкі ператвараць у дзеянні.

Працавалі мы разам з Загорскім. Складалі розныя планы. І вырашылі заснаваць аб'яднанне, якое надало б лепшы кірунак нашым калегам, вырвала б іх з бессэнсоўнага, распуснага жыцця, адцягнула ад картаў і прынесла б лепшую мараль і ўстойлівыя прынцыпы. Мы разумелі, што гэта вялікая і цяжкая праца. Патрэбна было шмат кніг, якія б нам памаглі, ▪ мы не мелі сродкаў, самі сябе ўтрымлівалі рэпетытарствам. Але мы верылі, што Бог нам дапаможа, што наша моладзь толькі часова магла сысці з добрай дарогі.

Мы выбралі восем чалавек сярод сваіх таварышаў, светапогляд якіх ведалі, і адкрылі ім свой намер. З радасцю яны ўхапіліся за гэтую думку і прысягнулі дапамагаць нам усімі сіламі. Стала нас ужо дзесяць чалавек, таму трэба было арганізоўваць нашу невялікую суполку.

Мы вырашылі пачаць з малітвы, просячы ў Бога дапамогі, у Святога Духа — святла. Вызначылі сабе дзень посту, а на наступны дзень — прычашчэнне. Калі выслухалі святую імшу, паводле звычаю нашых продкаў, прыступілі да прысягі, паводле ўстаноўленых правілаў.

Тую ўрачыстасць я не забуду ніколі! Да гэтага часу згадкі пра яе з удзячнасцю захоўваю у сваёй душы. Кожны з нас браў у рукі крыж з распяццем і перад Евангеллем уголас гаварыў клятву. Мы прысягалі быць вернымі сабе, захоўваць найвялікшую таямніцу, дапамагаць адзін аднаму ў шчасці і бядзе, імкнуцца агульнымі сіламі да адзінай абранай мэты. З радасцю ў душы мы разышліся па сваіх кватэрах. Тую прысягу мы стрымалі. Але лёс інакшай распарадзіўся намі...

Мы вызначылі дні сустрэч. Яны не былі перыядычнымі і не заўсёды адбываліся ў адным і тым жа месцы. Змянялі час і месца дзеля таго, каб не наклікаць на сябе падазрэнняў. На тых сходках складалі пастановы і абмяркоўвалі далейшыя планы дзеянняў, раіліся пра свае патрэбы. Нашым абавязкам было ўносіць кожны месяц па 2 злотых у агульную касу на патрэбы арганізацыі, на кнігі. Калі мы ўжо мелі шматлікіх прыхільнікаў,

усе нашы таварышы з вялікай акуратнасцю плацілі складкі, ніякай затрымкі ніколі не было — дапамогу тую лічылі святой.

Паміж сабой мы выбралі кіраўніка. Пазней быў прызначаны сакратар арганізацыі, скарбнік і рада з дзесяці чалавек. Усе мелі аднолькавае права голасу. Мяне выбралі сакратаром, і я быў ім да самага канца. Кожны павінен быў знайсці новага сябра і прозвішча яго падаць на сходзе. Калі ніхто не меў да яго ніякіх заўваг, ён зацвярджаўся, аднак нічога яшчэ ведаць не мог. І толькі калі мы пераконваліся ў ягоных здольнасцях і характары — яго накіроўвалі вышэй, і той, хто рэкамендаваў яго, меў права прыняць навічка пад сваю адказнасць. Так павялічвалася наша суполка. Кожны з нас, хто прысягаў, меў некалькі прыхільнікаў, якія адзін аб адным не ведалі, як і пра нашую арганізацыю і пра людзей, што да яе належалі. Усе кнігі, лісты, даручэнні атрымлівалі ад адной асобы, старэйшага таварыства. Калі колькасць навічкоў значна ўзрасла, мы дзеля лепшых зносінаў стварылі некалькі суполак, якія адна аб адной нічога не ведалі, толькі галоўная рада павінна была ведаць пра ўсё. Напрыклад, я — адзін з тых дзесяці, што прымалі прысягу, маючы дзесяць прыхільнікаў, мог заснаваць суполку, правесці сход пад сваю адказнасць. Такое ж права меў мой таварыш, з якім я разам прысягаў. Было нас дзесяць, таму ўтварылася дзесяць суполак. Мой таварыш ведаў маіх прыхільнікаў, а я — ягоных, хоць яны мяне не ведалі і лічылі чужым. Прыхільнікі маглі ведаць толькі адну сваю суполку і аднаго свайго кіраўніка, іншыя былі ім зусім незнаёмыя. Часам здаралася так, што ў сяброўскай гаворцы хтосьці з сяброў быў неасцярожны, згадваў тое, пра што варта было б маўчаць. Зараз жа адзін з нас, той, хто гэта заўважыў, паведамляў яго кіраўніку, і ўжо ад яго навічок выслухоўваў заўвагу альбо напамінак. Таму браты, калегі вельмі асцярагаліся, бо не ведалі, адкуль што бярэцца.

Калі арганізацыя наша павялічылася, трэба было актыўней дзейнічаць, мець больш кніг, выбіраць больш акрэслены шлях, займаць больш сур'ёзнае і больш высокае становішча <...>.

Мы даведаліся, што на радзіме знаходзіцца эмісар Канарскі, які наведае Вільню. Адзін з тых, хто прысягаў разам з намі, паведаміў, што ў гэты час ён адпачывае на Валыні ў Радзевіча[2]. Гэты сябра быў знаёмы з Радзевічам. На адной з нарад мы вырашылі, паколькі Л. Трынкоўскі[3] нас адпрэчыў, накіравацца да Канарскага ў вёску, бо не ведалі, як хутка ён прыедзе ў Вільню. У склад дэлегацыі выбралі чатырох чалавек і мяне ў тым ліку, я яе і ўзначаліў.

<...> Калі мы пад'ехалі да дома, Канарскі стаяў, абапершыся на парэнчы ганку. Постаць яго ўразіла мяне адразу. Росту ён быў досыць высокага, бландзін, вочы ясныя, блакітныя, выразна патыхалі смуткам, лоб высокі, твар інтэлігентны і жыццярадасны. Калі я яго пабачыў — падумаў, што гэта павінен быць менавіта ён. Мая душа яго прадчувала. Ён нам пакланіўся з павагай і на пытанне, ці дома гаспадар, адказаў, што знойдзем яго ў пакоі. Мы ўвайшлі. Адзін з сяброў, які ведаў гаспадара, пазнаёміў нас. Прайшла гадзіна, пакуль мінула афіцыйная частка прыёму, і настала шчырая сяброўская размова. Нарэшце я папрасіў Канарскага ахвяраваць мне некалькі хві-

лін дзеля асабістай размовы. Мы выйшлі ў другі пакой. Я расказаў яму, з якой мэтай мы прыехалі, расказаў пра становішча, у якім знаходзіцца наша арганізацыя, зазначыўшы, што мы хацелі дзеля больш эфектыўных дзеянняў далучыцца да патрыятычнага камітэту. <...>

Я скончыў курс медыцыны, але заставаўся ўвесь час сакратаром арганізацыі. Канарскі і сябры пачалі намаўляць мяне, каб не пакідаў акадэміі і застаўся яшчэ на год. Я ахвотна згадзіўся. Тады ўжо пачалі віжаваць за намі. Улады з дапамогаю шпікоў натрапілі на след арганізацыі. <...>

З маіх сяброў першым узялі Яна Загорскага, і я падумаў, што зараз мая чарга. Паколькі ўсе паперы нашай арганізацыі знаходзіліся ў мяне, я меў час іх знішчыць. На трэці дзень пасля арышту Загорскага адбыўся дэталёвы прагляд маіх рэчаў і папераў. І хоць нічога не знайшлі, я трапіў за краты.

Спачатку на працягу шасці тыдняў я знаходзіўся ў адной турме, а потым мяне перавялі у другую — манастырскую, дзе засядала следчая камісія. Што такое ў нас следства — цяжка расказаць. Хто не зведаў яго, не можа мець уяўлення, што гэта за пакуты. Мне здаецца, што калі б катавалі не надта, было б горш, бо тады ва ўсялякім разе можна было пазбавіцца жыцця, а так здзекаваліся на працягу некалькі месяцаў. Вязняў марылі голадам, не давалі спаць, білі палкамі. І гэта не перабольшанне, што толькі адна сотая стогнаў вырывалася на свет з падземных сутарэнняў.

Камісія пачынала свае паседжанні ў 10 гадзін вечара. Пасярод вялікай чорнай залы стаяў крыж з распяццем. Не ведаю, дзеля чаго, хіба што для здзеку. Дзве лямпы кідалі цьмянае, мігатлівае святло на завостраныя і строгія твары інквізітараў. Вязня, якога ўводзілі ў залу, праймалі дрыжыкі. Тут дапытвалі кожнага з нас асобна. Трэба было захоўваць найвялікшую вытрымку, каб не выдаць сябе не толькі словам, але і жэстам. Па некалькі разоў за ноч выводзілі мяне з камеры і прыводзілі на допыт. <...>

Найбольш зацятым нашым ворагам быў князь Трубяцкой, якога свядома выбраў цар і з Пецярбургу накіраваў у камісію. Невысокі, хударлявы, чарнявы, з гнуткай паставай і малымі вочкамі, налітымі крывёй, крывадушны, хітры, адзін раз як ліса сцелецца, другі — як шалёны сабака кусае; з душою змрочнай, з сумленнем чарнейшым, без ніякае літасці, з сэрцам, якое ніколі не ведала святых пачуццяў, — ён назольваў нам найбольш, прыдумваў з кожным разам усё новыя, большыя здзекі. Пасля заканчэння допыту, калі мяне адводзілі ў камеру, ён прыбягаў задыханы і верашчаў: «врёт поросёнок!». Кожны ў яго меў сваю мянушку, за словам у кішэню не лез. Хутка ўпадаў ў шаленства, траціў развагу, хапаў за валасы, біў па твары, валіў на зямлю, дубасіў нагамі, пакуль вязень не абліваўся крывёй. І толькі тады д'ябальская ўсмешка крывіла яго фізіяномію, вочы яшчэ больш наліваліся крывёй, задаволены, ён выбягаў з маёй камеры. Пасля такіх візітаў скалечаны, з сінякамі на твары, на целе, з падбітымі вачыма, я божага свету не бачыў часта на працягу некалькіх дзён.

Аднаго разу ён давёў мяне да мяжы. Некалькі гадзін я трываў на допыце, потым мяне адвялі ў камеру. Зламаны, змучаны, бяссільны ад бяссоння, кінуўся я ў сваю бярлогу і моцна заснуў. Не пачуў, як грукнулі дзверы

і ўварваўся Трубяцкой, адчуў толькі на твары ягоную руку. Спрасоння я ўскочыў на ногі, схапіў яго за руку і так выцяў яму па храпе, што ён адляцеў у кут.

Цяжка перадаць ягоны страх і здзіўленне. Бледная скура набыла пергаментны колер, вочы так наліліся крывёй, што, здавалася, вылезуць на лоб. Ад злосці і нечаканасці яго трасло, як у ліхаманцы. Ён выбег на калідор. Тут, адразу за дзвярыма, стаялі жандармы, паліцыянты. «Палак, — закрычаў, — і салдат з варты!» Прыхінуўшыся да сцяны, я абыякава чакаў заканчэння сцэны. Увайшлі некалькі салдат, яны прынеслі вязанку палак. Вярнуўся і Трубяцкой. Загадаў распрануць мяне і біць палкамі. Ці доўга білі — не ведаю. Енк мой перамяжаўся ўвесь час з крыкамі майго ката. Нарэшце я самлеў, страціў памяць і адчуванні. Калі апрытомнеў, шэры дзень заглядваў праз краты маёй турмы. Я пазнаў вартавога, які звычайна прыносіў мне збан вады. Ён прыводзіў мяне ў прытомнасць, абліваючы вадой.

Пасля таго, як Трубяцкой здаволіўся помстай, мяне кінулі на тапчан, салома прыліпла да маіх ранаў і заскарузла ад крыві...

### Каментарыі

**«Там блізка Пінска на шырокам полю».** Друкуецца ў скарачэнні паводле кн.: Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. — Мінск, 1994. — С. 128—130. Верш прысвечаны паўстанню 1831 г.

**«Успаміны».** Пераклад з польскай мовы Г. Тычка зроблены паводле кн.: Heleniusz E. Wspomnienia lat minionych. — Kraków, 1876. — Т. 1—2.

[1] Францішак Мухлінскі.

[2] Ігнат Радзевіч — беззямельны мінскі шляхціц. Арандаваў маёнтак Лысава на Валыні. Тут была штаб-кватэра Ш. Канарскага.

[3] Л. Трынкоўскі — канонік, удзельнік грамадска-палітычнага руху на землях былога ВКЛ.

# ГАБРЫЭЛЯ ПУЗЫНЯ
# (1815—1869)



Прадстаўніца заможнай беларускай шляхты Габрыэля Пузыня нарадзілася ў Вільні ў сям'і Адама Гюнтара і Аляксандры з Тызенгаўзаў. У Вільні Гюнтары жылі толькі зімой. На лета яны пераязджалі ў свой маёнтак Дабраўляны Свянцянскага павета (цяпер Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці). З Дабраўлянамі звязана ўсё дзяцінства і маладосць Габрыэлі. Тут яна жыла да самага замужжа.

У сям'і Гюнтараў любілі мастацтва і літаратуру. Частымі гасцямі ў іх былі многія славутасці — пісьменнікі Ігнат Ходзька, Антоні Эдвард Адынец, мастакі Ян Дамель, Ян Рустэм, піяністка Марыя Шыманоўская, вучоны Андрэй Снядэцкі і інш. Пасля вяртання з уральскай ссылкі жаданым госцем быў тут і Тамаш Зан. Кантакты з гэтымі таленавітымі людзьмі схілялі і Габрыэлю да ўласнай творчасці. Асабліва захаплялася яна паэзіяй Адама Міцкевіча. У знак вялікай павагі да паэта-земляка яна ў 1842 г., ведаючы пра нязбытную тугу Адама Міцкевіча па роднай беларускай зямлі, паслала яму ў Парыж бутэльку вады з Нёмана, кветкі з родных палёў і напісаны з гэтай нагоды верш.

Выйшаўшы ў 1851 г. замуж за Тадэвуша Пузыню, стала гаспадыняй яго маёнтка Гарадзілаў у Ашмянскім павеце (цяпер Маладзечанскі раён). Гасцявалі ў яе доме Уладзіслаў Сыракомля, Уладзіслаў Міцкевіч (сын Адама Міцкевіча), Станіслаў Манюшка, Эдвард Жалігоўскі. У час паездак за мяжу пазнаёмілася ў Парыжы з пісьменнікамі Антоніем Гарэцкім і Багданам Залескім.

Габрыэля Пузыня выдала ў Вільні шэраг кніг. Сярод іх зборнік вершаў рэлігійнай тэматыкі «У імя Бога» (1843), кніга свецкай паэзіі «Далей у свет!» (1845), томік маралізатарскага характару «Дзеці літоўскія, іх слоўкі, адказы, назіранні» (1847), зборнік прозы «Малыя, але праўдзівыя апавяданні» (1857) і інш. Спрабавала свае сілы і ў драматургіі. Некаторыя яе п'есы ставіліся на віленскай сцэне. Яны склалі выдадзены ў 1861 г. зборнік «Аматарскі тэатр». У яе творах адбілася жыццё вышэйшых слаёў беларускага грамадства, асаблівасці побыту заможнай шляхты.

Важную пазнавальную каштоўнасць мае дзённік Габрыэлі Пузыні, які яна вяла з маладых гадоў і які толькі часткова быў апубліаваны, пры тым праз многа гадоў пасля яе смерці — у 1928 г. Называўся ён «У Вільні і ў літоўскіх маёнтках. Дзённік 1815—1843 гадоў» і склаў асобную кнігу. Праўда, яе выдаўцы Адам Чартkоўскі і Генрык Масціцкі апусцілі ў ім асобныя мясціны, звязаныя з асабістым жыццём аўтаркі і яе сям'і. Увесь дзённік згарэў у час Варшаўскага паўстання 1944 г.

Хоць Габрыэля Пузыня з пашанай ставілася да роднага беларускага народа, усё ж пісала свае творы на тагачаснай літаратурнай мове — польскай, а дакладней, на тым «пераходным» польска-беларускім дыялекце, пра які казала польскі мовазнавец Кавын-Кужова ў разглядзе мовы філаматаў і філарэтаў.

*К. Цвірка*

## ДА АДАМА МІЦКЕВІЧА

### Пасылаючы яму трохі вады і кветак

Мой дарунак не вярнуць, Ліцвіне,
Бо ў ім памяць — валадар нязломны:
Квет расцвіў на ковенскай даліне,
А вада з ракі радзімай — Нёмна.
Кроплі, што маглі ўтапіцца ў мора,
Плыні мараў я тваіх вяртаю,
Нёман, што табой апеты ўчора,
Ад імя Літвы цябе вітае.
Зачарпнуўшы з Нёмана вадзіцы,
Я ўзяла ліцвінскіх рэк часціну,
Слёзы землякоў, што ля крыніцы
Плакалі, аддаўшыся ўспаміну.
Ты калісьці й сам тут меў прычыну
Зліць слязу, нібы расу у маі.
Слёзы з водамі сплылі ў чужыну,
Засталіся іх крыніцы ў краі.
Не цячы вадзе назад у плыні —
Засмучае параўнанне гэта!
Лепш будзь ластаўкай для нас, Ліцвіне,
Каб вярнуцца мог сюды з-за свету!
Каб была дарога ахавана
І дарунак атрымаў з Літвы ты,
Ён рукой асвечаны каплана.
Цешаць хай цябе Літвы малітвы.
Песняю, дарункам свайго краю
Выказаць табе хачу павагу,
Я, Ліцвінка, да цябе спяваю,
Бо зямляцтва мне дае адвагу.

*1842*

## ФІЯЛКІ ЗІМОЮ

Шчэ не ваш, фіялкі, час!
З поўначы вятрыска вее,
І на полі снег бялее,
Сонца свеціць, ды не грэе.
Шчэ зіма, шкада мне вас!
Вы не ў лесе гэты раз,
Праз вакно на свет зірнулі,
Бы цяпло вясны адчулі.
Як жа вас тут падманулі:

Вы ў няволі — шкода вас!
Мне затое бачыць вас —
Нібы слухаць спеў птушыны,
Пах адчуўшы ваш адзіны,
Знаць вясеннія ўспаміны.
Я вітаю, кветкі, вас!
Для каго йдзе хутка час
І пара не веснавая,
А ўжо восень набягае,
Хто цану былому знае,
Той заўсёды любіць вас!

## У ВІЛЬНІ І Ў ЛІТОЎСКІХ МАЁНТКАХ

Дзённік 1815—1843 гадоў

1831 год

(урывак)

Памятная дата! Яна адбілася глыбока ў сэрцах, у душах, у памяці асабліва тых, хто вітаў яе як новую эру, а цяпер успамінае як узлёт духу, як абуджэнне з летаргічнага сну, абуджэнне дзеля таго, каб ізноў заснуць на трыццаць гадоў!..

Вясной гэтага ж года ўбачылі мы першую польскую манету, на якой была адбіта побач з Арлом і Пагоня. Была гэта простая дзясятка, але віталі мы яе са слязамі на вачах, цалуючы, як рэліквію, бо з яе дапамогай былі вернуты ўдовін грош, шлюбнае абручальнае кольца і сімвал працы — напарстак швачак.

Пад знакам дзясяткі, пад яе сімвалам абуджаўся грамадскі рух. У кожным маёнтку збіралі сялян, заклікаючы іх да паўстання. У кузнях выкоўваліся пікі, у салонах рабіліся корпіі[1] і нідзе не драмалі. У Свянцянах устанавілася наша ўлада. У Вілейскім павеце Станіслаў Радзішэўскі, у Ашмянскім Парфіры Важынскі, становячыся на чале паўстання, збіралі добраахвотнікаў. Кароль Прэздзецкі, забыўшыся на свае даўнія раны з былых баявых паходаў, апрануў вайсковы мундзір і пачаў збірацца ў Ашмяну, дзе яго намерыліся абвясціць кіраўніком. Імкнучыся не засмуціць жонку, якую нельга было браць з сабою, ён сказаў ёй, што яго чакае цывільная служба, і выслаў яе ў Дабраўляны. Адным сакавіцкім вечарам і завітала да нас Карнелія. Дагэтуль я ніколі не бачыла ў яе такіх спалоханых вачэй. Завітала яна разам з паняй Мікуловіч дому Бакшанскіх, жонкай прыдворнага лекара са Смаргоні. Яна пад сакрэтам расказала на вуха кожнай з нас усю праўду: пана палкоўніка прызначылі на чале павета як адзінага, хто добра ведаў вайсковую тактыку, і гэтае прызначэнне было сапраўднай прычынай выезду пані графіні. Хоць муж і заспакойваў яе перад ад'ездам, пачціваючы пані Карнелія сэрцам чула, што яе падманваюць, і круцячыся з неспакоем у коле здагадак, па разоў сто на дзень, бо тут яна была, як ёй здавалася, бліжэй да свайго

мужа. Але ўрэшце яна згадзілася і ў апошнія дні красавіка выехала ў Дзісненскі павет, у маёнтак маёй маткі — Ігуменава. Адвозіў яе туды наш добры Бахматовіч, які заўсёды ахвотна згаджаўся паслужыць нам у такіх выпадках.

І добра зрабілі, бо праз дзве ночы з усходам сонца наш двор і сад з усіх бакоў аблажыла царская конніца, а маёр з двума афіцэрамі і атрадам уланаў (іх было дзвесце чалавек) уязджаў на дзядзінец, каб схапіць жонку палкоўніка Прэздзецкага. Я моцна спала ў маміным пакоі, калі ўвайшла сюды Іда з гэтай весткай. Яна паведала яе не адразу, каб не вельмі нас палохаць. Спачатку села пры ложку. Калі я папыталася, чаму яна гэтак рана ўстала, Іда адказала, што ў нас госці і што яны п'юць у таты чай. І праўда — пан маёр трымаў сябе прыстойна. Калі бацька сказаў, што пані графіня Прэздзецкая і праўда была тут, але выехала ўжо адсюль, маёр не захацеў надта шукаць яе па ўсіх пакоях — агледзеў толькі піўніцу і частку дома. Уланы тым часам стаялі на сваіх месцах у садзе і за садам, пільнуючы, каб ніхто не ўцякаў. Яны думалі нават, што ў Дабраўлянах хаваецца сам палкоўнік Прэздзецкі. Так што спакойны дагэтуль наш маёнтак стаў тэатрам вайны. Пасля ад'езду атрада кожны з дворных спяшаўся расказаць пра сваю прыгоду, бо нават той, хто добра такі быў напалохаўся, хацеў цяпер паказаць сябе героем...

У гэты самы час казацкі палкоўнік Банцэнтхаль рабаваў паветы, гойсаючы ад аднаго да другога на чале арэнбургскай міліцыі, што складалася з дзікіх: татар, кабардзінцаў, кабыляў[2], чачэнцаў, манголаў і нават кітайцаў. Ён зруйнаваў ужо ў Вілейскім павеце Ілію Радзішэўскіх, у нашым павеце абрабаваў Лынтупы, вёску Бучынскага, які з хворай жонкай быў якраз у Вільні (казакі ўзрывалі там паркет, шукаючы зброю і грошы). У Шэметаве ён задаволіўся тым, што перастраляў ланяў у парку. Загадаўшы зрабіць сабе з адной лані саланіну, другую пакінуў у маёнтку — «для пана, калі ён вернецца з лесу». На трэці дзень Банцэнтхаль уязджаў ужо на дзядзінец Дабраўлян. Не ведаючы, чым заняцца, ён выслаў адсюль свайго ад'ютанта ў Вільню, каб атрымаць там якія весткі і загады. Тым часам трэба было дзвесце дзікіх людзей пракарміць. Палкоўнік шчасліва ўладкаваўся ў нашым маёнтку, сам з дзесяццю афіцэрамі заняў увесь паверх гасцёўні. Казаччына ж тулілася па прыгуменню, з'ядаючы кожны дзень па некалькі валоў... Так што калі праз тыдзень такога частавання пачалі правяраць кладоўкі, то выявілася, што не было чаго даваць ужо нашай службе, а коні першы раз аставаліся тут без аўса аж да новага ўраджаю...

Перад ганкам, у адхоне, стаяла ў нас гармата з порахам. З яе ўдзень і ўночы страляла варта. А за панам палкоўнікам, куды б ён ні ішоў, след у след ступаў жаўнер у белым кіцелі, з пісталетам на поясе. Кожны дзень перад захадам сонца прыходзіў на наш дзядзінец увесь полк, каб памаліцца пад гукі барабана, і тады можна было наглядзецца на тыя жоўтыя, чорныя, плоскія, без аніякай думкі твары з малымі і касымі вачамі, у якіх спала душа і толькі бліскалі тыгрыныя жаданні, што стрымліваліся адной жалезнай дысцыплінай, такой, што нават ад'ютант пана палкоўніка жаліўся нашым панам: «Чаму гэта палкоўнік не дазваляе нам пагуляць?». Палкоўнік гэты быў француз...

Здавалася, страшны ўраган прайшоўся па краі, паруйнаваў дамы, павынішчаў цэлыя сем'і. Ніхто не чакаў такога сумнага канца. Тыя, што помнілі амністыю цара Аляксандра I пасля 1812 года, не думалі, што Мікалай зробіць іначай. Але ж гэта была паўторная віна, і яна не магла астацца беспакаранай. Да таго ж Мікалай быў чалавекам жалезнай волі і жалезам, а не губкай, праводзіў па нас — каб сцерці, а не толькі пагладзіць. Незлічоныя сціжмы людзей ішлі ў Сібір, натоўпамі ўцякалі за мяжу, ніхто не чакаў літасці. Кожны, як мог, суцяшаў сябе, наведваючы турмы, гледзячы на выгнаннікаў і г. д.

Толькі ў Мінску дыхалася лягчэй, бо сам начальнік (г. зн. губернатар) з паблажлівасцю ставіўся да ўсіх людзей, спачуваў ім і, як мог, памагаў кожнаму. Гэта быў генерал Строганаў, пазнейшы куратар Маскоўскага ўніверсітэта. Гэты высакародны чалавек, праўдзівы хрысціянін, зрабіўся сапраўдным бацькам насельнікаў Мінскай губерні, і яго да сённяшніх дзён успамінаюць людзі са слязамі ўдзячнасці, ужо ў другім пакаленні. Увесь год мы жылі ўспамінамі пра яго невычэрпную дабрыню, за якую яго можна параўнаць з імператарам Цітусам[3], бо гэтак жа, як і ён, ніводнага дня не пражыў марна. Кожны яго дзень быў пазначаны не адным, а некалькімі добрымі ўчынкамі... Ён з самага сэрца чэрпаў міласэрнасць да людзей, прыпісваючы яе загадам імператара, а сваю дабрыню — заслугам уласнай жонкі, якая, як ён расказваў, зрабіла яго добрым і лагодным. Маю матку так кранала розныя анекдоты пра Строганава, што для яе не было большай прыемнасці, як зноў і зноў слухаць іх. Увесь збор гэтых апавяданняў кожная ▪ нас запісвала ў свае сшыткі, але і без гэтага ўсе тыя эпізоды захаваліся ў памяці...

Аднаго разу паліцыя прывяла да яго студэнта, у якога знайшла кнігу Міцкевіча, што было ў той час дзяржаўным злачынствам. Бедны хлопец стаяў разгублены і спалоханы, не ведаючы, як апраўдацца. «Дзе ты гэта ўзяў? — папытаў губернатар нібы строгім тонам. — Дзе?» Студэнт маўчаў. «Дык я ведаю, дзе, — адказаў самому сабе губернатар, — ты знайшоў кнігу на вуліцы. Другі раз помні, што падымаць на зямлі такія рэчы нямožна». І ён кінуў кнігу ў агонь, што палаў у каміне...

## Каментарыі

**«Да Адама Міцкевіча».** Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле выд.: Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. — Мінск, 1993. — С. 134—135.

**«Фіялкі зімою».** Напісаны 11 сакавіка 1841 г. у Дабраўлянах. Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

**«У Вільні і ў літоўскіх маёнтках. Дзённік 1815—1843 гадоў. 1831 год».** Пераклад з польскай зроблены К. Цвіркам паводле выд.: Gabriela z Guntherów Puzynina. W Wilnie i w dworach litewskich. Pamiętnik z lat 1815—1843. — Wilno, 1928. — S. 143—158.

[1] Корпіян, ці корпіі, — вышчыпаныя са старой палатнянай тканіны ніткі, якія выкарыстоўвалі як перавязачны матэрыял замест ваты.

[2] Кабыль — этнонім не высветлены.

[3] Цітус — відаць, маецца на ўвазе Ціт Флавій Веспасіян (39—81) — рымскі імператар.

## НЕВЯДОМЫ АЎТАР



Верш «Вясна гола перапала», як вынікае з яго зместу, быў напісаны недзе перад самай рэформай 1861 г., калі пра яе ўжо хадзілі настойлівыя чуткі па вёсках. Аўтар, відаць, паходзіў з сялян, пра што кажуць радкі: «Перастануць нашым братам, // Як скацінай, таргаваць». Мог ім быць і прадстаўнік дробнай прагрэсіўнай шляхты, які адстойваў правы сялянства. Родам ён, хутчэй за ўсё, з Віцебшчыны, бо ў вершы ўжываецца характэрная для яе гаворка. Тым больш, што там верш быў распаўсюджаны: ён трапіўся, напрыклад, віцябчаніну Гераніму Марцінкевічу, які цалкам выкарыстаў яго ў сваім драматычным творы «Адвячорак». Ці, можа, ён і ёсць аўтар верша?

У творы выразна паказаны настрой беларускіх сялян напярэдадні скасавання прыгону, асобнымі трапнымі мазкамі праўдзіва намаляваны асаблівасці жыцця і побыту беларускай перадрэформеннай вёскі. Напісаны верш па-майстэрску, з добрай дасціпнасцю і тактам. Яго невядомы аўтар, без сумнення, быў таленавітым беларускім паэтам.

*К. Цвірка*

### ВЯСНА ГОЛА ПЕРАПАЛА

Вясна гола перапала —
Ані солі, ані круп;
І скаціне корму мала,
І самому — ані ў зуб.

На палацях пухнуць дзеці,
Жонка тры дні з дуру п'ець,
І даўно парожна ў клеці,
І парожная асець.

Каліта ляжыць пад лаўкай,
А пры ёй парожні гляк:
Ад каляд мы з кумам Саўкай
Пацяралі ў губе смак.

Але гора ўжо спаўгора;
Цыц, нябога, трошкі цыц!
Вось нам вольнасць дадуць скора,
І, як птушкі, будзем жыць.

К чорту жонка, ласа баба!
Бяры, чорт, і каліту,
А папусцi вожкi слаба
І дай волю хамуту.

Будзем роўныя з панамі,
Самі будзем мы паны —
І гарэлку піць збанамі,
І гуляць так, як яны.

Перастануць нашым братам,
Як скацінай, таргаваць, —
Напускацца ліхім матам,
Скуру з ног да карку драць.

Хоць халодна, хоць галодна,
Холад, голад ніпачом!
Эх, каб толькі нам свабодна!
На свабодзе аджывём!

Вось панам не дужа лоўка:
Самім трэба працаваць!
Пабаліць не раз галоўка,
Калі прыйдзецца араць.

Не адзін то папацее
І заскача драпака...
Бо сам толькі есць умее
Ды драць скуру з мужыка.

Як бы быў якой скацінай
Або грошы ад яго:
Білі пугай ды дубінай,
А цяпер, брат, ого-го!

Мужык будзе не скацінай;
Не раз скажа пан з паноў:
«Пане Грышка, пане Міна!
Як жа васпан? ці здароў?»

**Каментарыі**

**«Вясна гола перапала».** Друкуецца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

17 Зак. 1799

# ГЕРАНІМ МАРЦІНКЕВІЧ
## (1816 — пасля 1864(?))



Геранім Францавіч нарадзіўся ў вёсцы Тулава Віцебскага павета. Паходзіў са збяднелага шляхецкага роду Марцінкевічаў герба «Лебедзь» (да другога адгалінавання гэтага роду належаў В. Дунін-Марцінкевіч). Вучыўся ў Віцебскім базыльянскім вучылішчы, адкуль з 1832 г. перайшоў у губернскую гімназію. Паводле архіўных звестак, у 1834 г. віцебскі павятовы маршалак шляхты прасіў уладкаваць бедных вучняў гімназіі Гераніма Марцінкевіча і яго брата Аляксандра на казённы кошт, але яму было адмоўлена «за недастатковасцю законных дакументаў аб дваранстве». У 1835 г. Марцінкевіч паспяхова скончыў гімназію і ў тым жа годзе паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Колькі ён там правучыўся — невядома, але закончанай універсітэцкай адукацыі не атрымаў. Каб зарабляць на хлеб, перайшоў на службу ў Віцебскае губернскае праўленне, потым па невядомых прычынах звольніўся. У канцы 1849 г. «адстаўны канцылярскі служыцель» Марцінкевіч атрымаў ад віцебскага губернатара дазвол зноў паступіць на службу — на гэты раз у дваранскую дэпутацкую зборню. За 11 гадоў даслужыўся да невысокага чыну губернскага сакратара. На пачатку 1860-х гадоў разбіты паралічом. У 1864 г. у віцебскіх установах вялася перапіска пра афармленне яму пенсіі. Далейшых біяграфічных звестак няма. Падтрымліваў сяброўскія адносіны са сваім земляком і равеснікам А. Вярыгам-Дарэўскім і яго братам Сымонам, арганізатарам публічнай чытальні ў Віцебску, у 1843 г. прысвяціў ім верш «Захад сонца». Літаратурнай дзейнасцю Марцінкевіч пачаў займацца ў 1830-я гады. Супрацоўнічаў у часопісе «Rubon» («Рубон») і іншых рэгіянальных выданнях. У 1845 г. надрукаваў у віленскага выдаўца Ю. Завадскага томік сваіх польскамоўных паэтычных твораў (тыраж каля 500 экз.). У 1848 г. выдаў другую кнігу, куды ўвайшлі драма «Час над Дзвіной», паэма «Першае падзенне чалавека», пераклады з І. В. Гётэ і М. Лермантава.

Трэцяя яго кніга — стракаты ў жанравых адносінах зборнік «Творы, напісаныя між іншым» (нарысы, замалёўкі, вершы) — выйшла ў 1858 г. Драма «Падарожны» не была апублікавана. Марцінкевіч быў прагрэсіўным правінцыяльным літаратарам, актыўным удзельнікам літаратурна-культурнага жыцця Віцебска. У сваіх творах выказваў трывогу за лёс народа, спадзяванні на лепшую будучыню, сатырычнымі фарбамі маляваў добра знаёмае яму чыноўніцкае асяроддзе.

Ад глыбокай цікавасці да народнай культуры (вядомы яго пераклады на польскую мову беларускіх песень) ён сам перайшоў да творчасці на беларускай мове (камедыя «Аказія падпалкоўніцам», або «Аказія пры палкоўніцах», якая нібыта ставілася на віцебскай аматарскай сцэне А. Вярыгам у 1861—1862 гг. і захоўвалася ў маёнтку Селігоры на Ле-

пельшчыне). Даследчыкі ідэнтыфікуюць гэты твор з п'есай «Адвячорак. Аказія ў карчме пры Фальковічах» (1858), тэкст якой (праз А. Рыпінскага, М. Піятуховіча і інш.) у копіі дайшоў да нашага часу і зберагаецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-мезеі літаратуры і мастацтва. Асобныя аўтографы твораў Марцінкевіча захоўваюцца ў Вільнюсе.

*Паводле кнігі «Мысліцелі і асветнікі Беларусі»*

## АДВЯЧОРАК

### Аказія[1] ў карчме пад Фальковічамі

АСОБЫ:

Панцялей Хаміч — панамар.
Васіль.
Дзёмка.
Юрка.
Хомка.
Грышка.
Якуш.
Яшчэ з пяток мужычкоў-гаспадароў.

Юрка.

Ну, братцы, зробім пацеху:
Васіль, няпуш[2] пана сядзь,
А такі, штоб болыла смеху,
Дзёмка, мужык, — чуб скрабаць.

Васіль (*падкулачыўшыся, надзьмуўся, як пузыр, і выставіў пуза, быццам ночвы*).

«Янка, прэндзэй прынесь кавы!
Які балван у там стоі?
Чэго? Ведзець я цікавы —
Нехай вэйдзе у покоі».

Дзёмка падыходзіць да Васіля, кланяецца ў пояс, скрабецца і жыгае плячамі. Юрка згроб з прыпечка заслонку, паставіў на яе кухлік піва, палажыў абаранак і ідзе да Васіля, выраўняўшыся няплош свінтэбля[3]. Усе напярод хахочуць.

(*Да Юркі*)
«Галган, як бы ўзенты з леса, —
Цалы ўсподэк кавой зляў.
(*Лізнуў*[4] *яго па шчацэ.*)
Ідзь з той кавай хоць до беса,
А мне новай ўраз прыпраў».
(*Быццам б'е яго палкай. Усе зарагаталі ва ўсе жылы.*)

(*Да Дзёмкі*)
«А ты, хаме, цо ці трэба?
Моў мне зараз і ідзь вон.
Што? юж, можа, не маш хлеба
Чы хочаш не ісць на згон[5]?»

Дзёмка (*пакорна*).

Не, сягоння ахмістрыні[6]
Я прынёс з двара грыбкі.
Яна гукне: «Дурні, свінні,
Не счапілі на шнуркі!
Штоб вы, кажа, ўсе віселі!» —
Дый хлоп мяне па вушом.
Аж тут дзверы заскрыпелі.
Торк, як жывы, аканом.
«Што ён здзелаў, гэты шэльма?» —
Аканом злосна пяе.
А ён яе любіць вельма —
Усё ладна ад яе.

Васіль не слухае, што Дзёмка гаворыць, выдае, што быццам гуляе з сабакам.

(*Сваё вярзе.*)
Ахмістрыня як напусціць,
Што гнілых грыбоў прынёс,
Што хацеў яе скапусціць,
Што мне нада прыцерць нос.
Аканом зірнуў глазамі,
Быццам хацеў мяне з'есць,
Крыкнуў: «Пяцьдзясят лазамі!» —
І вялеў на стайню весць.
Я адбіўся ды і к пану...
(*Чубарах Васілю ў ногі.*)

Васіль (*здуміўся*).

Чэго жондаш? Муў мі ўраз!

Дзёмка.

Здзяржы, пан, руку пагану,
Паратуй няшчасных нас.

Васіль.

Хто ўпусціў тут тэго хама?
Вон! падлогі мне не маж!

Дзёмка.

Паночак наш, татка, мама,
Ласку нада мной пакаж!

Аканом мне, мой паночак,
Пяцьдзясят лоз пасуліў.
Прасці гэты мне разочак,
Дадушы ж, бязвінен быў.

Васіль (*як змяя*).

Што ж? Хочаш, штоб це, лайдака,
Ад слушнай кары схаваў?
Атконд жэ надзея така,
Штоб хамам хвольгу даваў?
Ведзьце его к аканому —
Нех му сто бізуноў да.
То бэндзе прыклад другому,
Нехай мне та зграя зна.

Юрка валачэ Дзёмку за шыварат. Усе прысмірэлі і задумаліся.

(*Пагадзя, як прачнуўшыся.*)
Шутка слёзы выціскае,
Што ж нам, братцы? — толькі ждаць.
Вось нам сонца заіграе,
А пакуль што — гаравадь.
Гаравадь. А лёгка гэта?
Ў горы не захочаш жыць,
За слязамі не знаць свету...
Эй, гарэлкі — хачу піць.
(*П'е малую чарку.*)

Усе пачынаюць частавацца. Перад карчмой заскрыпелі калёсы, у святліцу ўваходзіць Панамар, хрысціцца. Усе, зняўшы шапкі, кланяюцца яму.

Панамар.

Адыдзі, гадзіна злая,
Пакі не папасць у грэх.
(*П'е.*)

(*Усе прысміраюцца.*)

У Віцебску ад зажынак
Паны строяць вольнасць вам;
Слаўны здзелалі пачынак:
Градзець[7] жыцце іх рабам.
Дзень з хаты пану служыці,
А зямлі валокі дзве.
Не аб чым будзе тужыці,
Бо на панскай галаве
Подаці за вас даваці,
Ежа случыцца набор, —

Ахвотнікаў нанімаці,
Штобы цэл быў ваш сабор.
Паноў добра угамоняць —
І мізінцам вас не ткнуць.
Аканомаў ўсіх прагоняць,
Па пяцьсот розг ім дадуць.
(*Папівае піва.*)

Мужычкі зюкаюць паміж сабою, пачынаюць гаманіць, шавяліцца і крычаць.

Х о м к а.

Чуеш, брат, што там зрабілі?
А тут ўсё з нас скуру друць:
Дзень работаць прысудзілі —
На чатыры тут нас пруць.

Д з ё м к а.

У мяне карову ўзялі,
Штоб подаці заплаціць;
А там віць так прыказалі:
Пан доўжан подаць унасіць.

(*Многа галасоў.*)

За дуб'ё, братцы, ды к пану,
Аканома тры дні сеч —
Згладзіць гэту моц пагану.
Ну, штоб не ўспеў уцеч!

(*Капошацца і надзяваюць шапкі.*)

П а н а м а р (*спужаўся*).

Мір вам прысна[8] і у векі!
Усмірыся, братцы, стой!
Вы, глупые чалавекі,
Не спазналі голас мой.

В а с і л ь.

Стой жа, братцы, пусь ўсё скажыць!
Ну, Хаміч, ты іх узняў,
Як умеў яечню спражыць,
Штоб спажыць яе, прыпраў.
Ну, ну, братцы, прысмірыся:
Хаміч будзе гаварыць.

Х о м к а (*да другіх*).

Васіль вяліць — ну, садзіся,
Пастой, братцы, квас варыць.

*(Усе садзяцца.)*

П а н а м а р (*задумваецца, пасля нешта прыпамінае і цягне з-за пазухі складзеную, як панскі блін, паперу*).

Нехта вумны галава
У Магілёве жыве,
Рачэ вумныя слава...
Нехта [redacted] мужыкоў
Ну, а што ж ён там пяе?

П а н а м а р.

Па-мужыцку, па-прастому,
Ды лучча не можа быць.
Верна, аднаму-другому
З вока сляза пабяжыць.

Х о м к а.

Ну, па чарачцы спачатку!
Ну, Хаміч, брат, пачынай!
І па другой у дадатку,
После граматку чытай.

*(Усе, акрамя Васіля, п'юць.)*

П а н а м а р (*прысунуўся к лучыне і чытае*).

«Вясна, голад, перапала
Ані солі, ані круп
І скаціне корму мала,
А самому — ані ў зуб.
На палацях дохнуць дзеці,
Жонка тры дні здуру п'ецъ;
Ўжо даўно парожна ў клеці
І парожная асець.
Каліта ляжыць пад лаўкай,
А пры ёй парожны гляк.
Ад Каляд мы з кумам Саўкай
Пацяралі ў губе смак».

*(Усе глядзяць на Васіля.)*

В а с і л ь.

А наш Саўка дый мы самі.
Ад Каляд п'яны штодзень.
То тым-сім або грашамі
Узяў кварту — глуп, як пень.
Забыў гора — тугі мала,

Што набойкай стаў хрыбет.
Што нам голад, перапала?
П'ян — і тугі аб том нет!

У с е.

Да, нет гора, тугі мала,
Што набойкай стаў хрыбет!
Што нам голад, перапала? —
П'ян — і тугі аб том нет!

П а н а м а р (*чытае*).

«Але гора, не з паўгора —
Цыц, нябога, трошку цыц!
Вот свабоду дадуць скора,
І, як птушкі, будзем жыць.
Чорт там жонку — ласа баба,
Бяры чорт і каліту,
А папусці вожкі слаба
І дай волю хамуту».

*(Усе чакаюць, што скажа Васіль.)*

В а с і л ь.

Калі добра ўсё уладзяць,
За людзей спазнаюць нас,
Як бацькі дзяцей, пагладзяць —
Наступіць нам добры час.
Благадарыць, мы не гады.
Братцы, мы не хамуты —
Будуць з нас ўсе паны рады,
А ў нас — поўны каліты.

У с е.

Дзякаваць, віць мы не гады,
Братцы, мы не хамуты —
Будуць, будуць паны рады,
А ў нас — поўны каліты,

П а н а м а р (*чытае*).

«Будзем роўныя з панамі —
Самі будзем мы паны.
І гарэлку піць жбанамі,
І гуляць так, як яны».

*(Усе чакаюць Васіля.)*

В а с і л ь.

Водку чэрці рабіць сталі —
На яе віць хлеб ідзець.
Штоб нам толькі шчасця далі —
Чорт на яе і глядзець!
Каго піць яе пад'юдзіць,
Калі ёсць што паядаць?
Калі гора ўжо не будзець,
Нашто ж радасць залівадь?

У с е.

І чорт піць нас не пад'юдзіць,
Калі ёсць што паядаць.
Калі гора ўжо не будзець,
Нашто ж радасць залівадь?!

П а н а м а р (*чытае*).

«Перастануць нашым братам,
Як скацінай, таргаваць.

*(Усе, акрамя Васіля, п'юць.)*

Н е к а л ь к і м у ж ы к о ў (*не могуць дапіць сваіх пляшак і гавораць да другіх*).

Брацец, са мной у палавіну:
Здужыць пляшкі ўжо не моч.
Што ж? Напаў я на дзяціну? —
Дык жа к чорту ідзі проч!

Д з ё м к а (*да Грышкі*).

Грышка, пі маю гарэлку,
Пі, бо пляшку ў лоб пушчу,
Зніму з галавы тарэлку...
Ну, ну, Грышка, не шучу!

Грышка не чуе, яго разабрала; сядзіць, вылупіўшы жмуры.

Грышка, пі, бо, як задзену,
Не спазнаеш і сваіх!..

Дзёрнуў яго па шыі, і Грышка скаціўся пад лаўку, сцягнуўшы ■ сабой яшчэ двух пасалавеўшых мужыкоў. Яны і не спрабуюць устаць.

Х о м к а.

Што ты б'еш, як па палену?
Ён хрысціў дзяцей маіх.

*(Счапіліся ўгрудкі.)*

П а н а м а р (*хоча іх разбараніць*).

Вонме Бог сказаў Майсею
Чы там Ною, трудна знаць...

Д з ё м к а (*плюнуў у руку і замахнуўся*).

Што? хочаш дастаць у шэю?

Х о м к а.

К чорту званніцу прагнаць!

Панамар уцякае з карчмы і паехаў. Дзёмка і Хомка брэшуцца і дзяруцца ажно трэскі ляцяць. Юрка і Януш прынімаюць старану Дзёмкі, другія — Хомкі. Бойка пайшла сваім парадкам: у двух, у трох цячэ юшка.

В а с і л ь.

Стойце, братцы, не дзярыся,
За што ж вам сябе губіць?
Ну-це, ну-це, усмірыся,
Бо не буду вас любіць.
(*І разняў іх, толькі брэшуцца паціху.*)
Мірысь, братцы, радзі Бога,
Досыць нашых слёз цячэць!
З братам гэтака трывога,
Ажно пакасна глядзець.
Ну, сэрца к сэрцу прыдзвіньце,
Пацалуйся з братам брат!
Ну, сярдзіцца ўжо пакіньце —
Нашто гэты гоман ўзнят?
Ці гарэлку толькі пілі,
Не штоб гора сваё змяць,
Не штоб мукі пазабылі,
А штоб у хахлушкі стаць?

(*Усе плачуць, перапрошваюцца і цалуюцца.*)

Ці напраўду нас ругаюць,
Што мы быццам без душы?
Аб нас славу злу пускаюць,
Кажуць: шкуру ім чашы,
Тады толькі прысмірэюць.
А ім вожкі папусці —
У карчме ўсю ноч мадзеюць
І начнуць сябе грызці.
Ідзіце, братцы, дадому
І вазьміце іх з сабой.
(*Паказвае на тых, хто ляжыць пад сталом.*)

Не чыніце больш сарому,
Не арыце, як сахой.

У с е (*абступаюць Васіля*).

Васіль, брацец, не гнявіся,
Больша гэтаму не быць.
Знаеш... ну, так... папіліся...
Во так... сэрца і кіпіць...
Прасці... во так... гэдак... знаеш,
Цяжка ўсё перанясці.
Ты сам гэта панімаеш,
Як нам трудна — ой, прасці!

Абдымаюць і цалуюць яго. Пасля, узяўшы трох п'яных, як цапоў, павалакліся, хістаючыся, на вёску.

В а с і л ь (*падумаўшы*).

Хто б аказ'ю гэту відзеў,
Як после брат брата праў[9],
Верна б, толькі з нас пашыдзіў[10],
Адкуль радзілася бойка?
Гарэліца патрасе,
А з гора пайшла папойка.
Адкуль гора, знаюць ўсе.
Знаюць, хоць не хочуць знаці,
Бо лаўчэй гэта не знаць:
Круцей можна пагуляці,
Хоць нехта будзе здыхаць.
Ад душы нас асудзілі,
Вяляць ўсю жызнь лямку перць.
Ад радасці аддзялілі —
У муках вяляць умерць.
Судзяць цяпер даць свабоду —
Штоб жа не была то сець,
Штоб не збіндзілі уроду[11],
Што нас больша прыгняцець.
А штоб дзеткі не цярпелі,
Не елі мякінны хлеб,
У карчмах хахлоў не грэлі,
Горкіх не зналі патрэб,
Грамаце іх прывучыце —
Пусць знаюць Бога, людзей.
Адным словам, прысудзіце
Імя ім сваіх дзяцей.
Гэта лесніца даўгая,

А не нізенькі ступень.
Што ж? Віць вочарадзь такая,
Штоб увідзець красны дзень.
Паны, многа ў вас пазнання,
Не ідзіце вы баком —
Гара вам да раскідання,
Не спрастайцесь з мужыком...
(*Пайшоў сабе як прыбіты.*)

## Каментарыі

**«Адвячорак. Аказія ў карчме пад Фальковічамі».** Лёс гэтай драматычнай паэмы доўгі час быў невядомы. Упершыню ўпамінанне пра яе з'явілася ў «Полымі» ў 1928 г. Друкуецца паводле выд.: Літаратура Беларусі XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

[1] Аказія — тут у значэнні: выпадак, здарэнне.
[2] Няпуш — накшталт, у выглядзе.
[3] Няплош свінтэбля — не горш за афіцыянта.
[4] Лізнулі — тут у значэнні: сцебанулі, аперазалі, улупілі.
[5] На згон — на паншчыну.
[6] Ахмістрыня — ключніца, гаспадыня.
[7] Градзець — ісці, рухацца.
[8] Прысна — заўсёды, пастаянна, няспынна.
[9] Праў — лупіў, біў.
[10] Пашыдзіў (польск.) — з'едліва насміхаўся.
[11] Штоб не збіндзілі уроду — каб не сурочылі, не ўраклі.

# АРЦЁМ ВЯРЫГА-ДАРЭЎСКІ
# (1816—1884)



На прыкладзе Арцёма Ігнатавіча Вярыгі-Дарэўскага можна добра ўявіць шлях беларускага мастацкага слова ў XIX ст. Да нас дайшлі выдатныя водгукі на яго беларускія творы, але самі творы, не замацаваныя друкам, не захаваліся, іх, відаць, назаўсёды паглынула бязлітасная Рака Бяспамяці, як і творы іншых беларускіх літаратараў. Зберагліся толькі нязначныя рэшткі.

Нашчадак старадаўняга беларускага шляхецкага роду Арцём Вярыга-Дарэўскі ўбачыў свет у невялікім мястэчку Кубічы Лепельскага павета Віцебскай губерні. Дзяцінства яго было не з лёгкіх. Ён нават не зведаў матчынай ласкі, бо маці памерла адразу пасля родаў. Бацька, Ігнат Вярыга-Дарэўскі, збяднелы шляхціц, зарабляў хлеб, працуючы службоўцам у Кублічах. Выхоўваўся малы Арцём у сваякоў у фальварку Людвінава паблізу Дзісны. Скончыў Забельскую гімназію (у мястэчку Валынцы цяперашняга Верхнядзвінскага раёна). Служыў чыноўнікам у Віцебску. У 1840 г. займаў пад Віцебскам фальварак Стайкі, дзе, як відаць, працаваў нейкі час на гаспадарцы. Потым зноў пайшоў на чыноўніцкую службу ў той жа Віцебск.

На хвалі грамадска-палітычнага руху ў пачатку 60-х гадоў XIX ст. праявіў сваю грамадзянскую актыўнасць, выступаючы супраць антынароднай палітыкі царызму. За ўдзел у паўстанні 1863—1864 гг. быў арыштаваны і зняволены ў Віцебскую турму, а потым сасланы ў Сібір, на катаргу. Адбыўшы яе, ён быў пакінуты на пасяленні ў Іркуцку. У апошнія гады служыў на сібірскіх капальнях золата. Недзе там і памёр.

Пра накіраванасць творчасці Арцёма Вярыгі-Дарэўскага кажа і яго псеўданім — Беларуская Дуда. Служыць сваім пяром роднай Беларусі, выгаворваць сваёй творчасцю, сваёй «дудой» усе бядоты і памкненні беларускага народа — такую ставіў паэт перад сабой мэту. Прытым, нягледзячы на адсутнасць беларускага друку, усё ж настойліва пісаў на мове свайго народа. «З Беларушчынай не разбратаўся. Гэта мой ідэал, — пісаў ён брату Адаму. — Можа, дарэмна на яе трачуся. Што ж рабіць — «Па Хомку шапка».

На жаль, з пераважнай большасцю твораў папулярнага ў свой час сярод шырокіх грамадскіх колаў беларускага паэта Арцёма Вярыгі-Дарэўскага мы сёння не можам пазнаёміцца. Невядома, на якіх скрыжалях развеялі іх вятры часу. Мы ведаем толькі загалоўкі асобных твораў без сумнення выдатнага беларускага песняра. Гэта паэма «Ахульго» пра змаганне горцаў на чале з легендарным Шамілём за волю сваёй радзімы, драма «Гордасць», камедыі «Хцівасць» і «Грэх 4-ты — гнеў», дарожныя нататкі «Гутаркі з пляндроўкі па зямлі латышскай», верш

«Думка хлопца з ваколіц Віцебска на адглос вольнасці» і іншыя творы. Вядома таксама, што Арцём Вярыга-Дарэўскі рабіў пераклады на беларускую мову твораў Адама Міцкевіча. Да нас дайшлі толькі лічаныя паэтычныя творы Беларускай Дуды ды часткова яго публіцыстыка. А яшчэ захаваўся славуты «Альбом Вярыгі-Дарэўскага» — унікальны помнік літаратуры XIX ст. У ім пакінулі свае паэтычныя і празаічныя пажаданні гаспадару альбома такія літаратурныя славутасці, як Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі, Эдвард Антоні Адынец, Ігнат Ходзька, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, гісторыкі Адам Кіркор, Мікалай Маліноўскі, Міхал Балінскі і інш. Усе яны шчыра віталі Арцёма Вярыгу-Дарэўскага, падзяляючы яго беларускую ідэю.

І ў далёкай сібірскай ссылцы Вярыга-Дарэўскі быў верны роднай Беларусі і там не забываў сваё беларускае слова. Нездарма ж таварышы па ссылцы называлі яго Вайдэлотам Беларусі.

*К. Цвірка*

## ДУМКА

«Плыві, плыві ты, Дзвіна серабрыста,
Аж там, у сама Балтыйскае мора,
І прыкаціся там, дзе душа чыста
Майго Фядола прападае з гора.
Не страш яго там маімі слязамі,
Ні аб рабятках не кажы худога,
Што па кусочках хаджу з сіратамі, —
Не кажы, рэчка, а пацеш мілога».

Паплыла рэчка, слязінкай бліснуўшы,
З роднай зямелькі, шэпча берагамі;
Бедна салдатка, дзетак абхінуўшы,
Рэчкінай думкі слухала з слязамі:
«Мая сястрыца, салдатка-сіротка!
Маліся Богу і перастань плакаць.
І я ж чысценька, рэзва і красотка,
А і мне сэрца бударажыць слякаць.
Таго, што хочаш, табе не дажыцца,
Ні тваім дзеткам, сястрыца сардэчна,
Ні мне ў мора цэлай не праліцца;
Мне плысці вечна, табе чакаць вечна».

Бедна салдатка душу аблягчыла
Ды з Дзвіной слёзы горкі раздзяляла;
Гэта паплыла, як і даўней плыла,
Тая чакае, як даўней чакала.

## ЛІТВІНАМ, ШТО ЗАПІСАЛІСЯ Ў МОЙ «АЛЬБОМ», НА РАЗВІТАННЕ

*Мамерту Рэніеру*

Братцы, братцы, што мне стала?
Я тры тыдні у Вас шляўся,
І як уздумаў даць драла —
І затросся, і спужаўся.
Дамоў заве мяне хата,
Дзіця, сямейка і маці,
А тут бяда: цяжка брата
Дарагога пакідаці.
Адчапісь, літвін-браточак!
Міленькі мой, адчапіся!
Пара мне ў свой куточак
Пусці душу, адкасніся.
Во марозна станавіцца,
Бледна поле, і касцямі.
Бярозка недзе бяліцца.
Пускайце мяне, Бог з Вамі!
Можа, там мае халодны?
Можа, плача дзіця, маці?
Можа, мужычкі галодны?
Пускай, пускай, Літва-браце!
Сонейка, Адвард-Антолька[1],
Што свеціць нам Твая душка,
Будзь здароў! І Твая жонка,
І краска, Ваша дачушка! Будзь здарова
Ты, ласкава! Прыяцелька таму, гэтым,
Што так разумна, цікава
Уняла Дуду прыветам.
Брацютка Антон! Змілуйся:
Дай ты нам яшчэ Барбару.
Заморскім словам спрабуйся,
Яшчэ зрабі нам ахвяру!
Мікалайка[2], будзь здароў!
Няхай доля і навука,
Што сіяюць з Тваіх слоў,
Сыдуць на сына, унука.
Балючыя Твае вочкі,
Галоўка Твая сівая,
А з майскай расы слязочкі
Дзве Ты даў, нас двух жагная.
Ігнат[3], брацютка сардэчны!
Аб Літве Ты як успеў:

Нам заўтрашні дзень бяспечны
З учарашняга расцвеў.
.........................
Аб дачушцы Ты не плач!
Колькі нас у Тваіх грудцах,
Тваіх дзетак, — сам абач!
Міхаська[4], брат, наша сонца!
Наш стары край як Ты ўзрыў!
Глядзіць усім у ваконца
Старык родны — як бы жыў.
Дзякуй Табе, будзь здароў
З Язэпкам сваім, з брат-дзеці.
Ох, калі б ды нам ізноў
У вочы Вам паглядзеці!
Аляксандра[5], брацец наш!
Сабраў сілай Ты чыей,
Як на рынак, на кірмаш,
У адну кніжку каралей
З іх жыццём і з іх сям'ёй?
Бог Табе памог у том?
Будзь здароў! Маленькай той
Мы з дзеткамі дужа жджом.
Адаська, родны Адаська![6]
Як мы цешымся з Цябе!
Душа Твая зусім наська,
А горнеш усіх к сабе.
Мурашачка працавіта,
Хвала, брат, сіле Тваей.
Як нашы у пуню жыта,
Кладзеш усё у музей.
Будзь здароў! Няхай жа пільна
Так усе робяць сваё,
Няхай помняць край і Вільна,
Старанне гэта чыё.
Вінцэсь з Панар[7], здароў будзь!
Гледзя на Це[8], думаю я:
То-та сэрца! то-та грудзь!
То-та вялікая душа!
Будзь здароў, брат! Помні нас!
Мы цябе змалку любілі.
Дай бог Табе добры час!
Красуйся у славе і сіле!
Брат Рамуальд![9] Выкінь ты вон
З торбы прадзедаў пастаці,

Хай Гёт, Шылер, Кальдарон
Пакажуцца ў нашым плацці.
Будзь здароў! Прызнайся, брат,
Ці між прац Тваіх снапамі
Гамер збуджаў у свежы склад
Ды трапнуць для нас нажкамі?
Будзь здарова Твая жонка!
Будзь здарова Твая матка!
Бо як родная старонка,
Выдалась нам Ваша хатка.
Брат Людвік![10] Спявай, спява
На край родны, на весь свет!
Заміраць думам не дай,
Няхай свеціць родны свет!
«Дамбарог» няхай жыве,
Пакуль мы не аджывём,
«Кус хлеба» няхай плыве,
А мы за ім паплывём.
Будзь здароў, душа чысценька!
Каспаравых дай нам сіл.
Ты, брат, як неба радненька —
Дарагі для нас і міл.
Вацлаў[11], маладзец-брацютка!
З Табой неяк нам смялей,
Бо знаем — што, брат, не шутка!
Сілу Тваіх дум, надзей.
Будзь здароў! Мы ўжо пазналі,
Што цябе святы павёў
Міхал-анёл, каб у зале
Над Табой шайтан зароў.
Вінцук Дудар![12] Праўду гэту,
Гледзя на Це, я пазнаў,
Што Ты б усё аддаў свету,
Анічога б сам не браў.
Будзь здароў! Крапісь, лябедзька,
У сваёй ціхай думе.
Хоць жыццё часам, як рэдзька, —
Май што другое на уме.
Будзь здароў, Адвард Наддзвінскі[13],
З сваёй жонкай! Родны край
Каб свае — Віленскі й Мінскі —
Пакахалі, — памагай!
Дзякуй Вам за думны словы,
За хлеб-соль і за гасціну!

Родненькія, будзьце здаровы,
Дай Бог добру Вам гадзіну!
Мамерт, Юлюк, Анікей[14],
За сэрца, за Ваш прывет
Дзякую душой усей!
У Вас фальшу дробі нет.
Любяць Вас нашы і там —
Над Дняпром і над Дзвіной,
Бо ведаюць, што Вы к нам
І к свету — цэлай душой.
Гіпалітка[15], брацец мой!
Таміза Цябе маніць
І дзеткамі і жаной.
А нам жа з Табой не быць?!
Вядзі, родненькі, так-сяк
Цэлу сямейку сюды.
Няўжо ж марна пройдуць так
Твае для маці труды?
Дактары[16], будзьце здаровы!
Целу Вы даеце сіл.
Ды ёсць у Вас гэткі словы,
Што і з душ сціраюць пыл.
Будзьце здаровы, браценькі!
Пасі Божа Вас павек!
Бо гэта ж прыклад радзенькі:
Што доктар — то чалавек!
Будзьце здаровы усе, братцы!
Вы, нас к сэрцу прыхіляя,
Мілымі зрабілі матцы...
Мы плачам, Вас астаўляя.
Ох, трудна, каб я забыў
Таго, хто між Вас, як клін:
Ён жа кніжкі мне насіў...
Будзь здароў, брат Кінкулькін![17]

***

Чый то голас? Гэты словы
Нашы, браценькі-літоўцы.
Бо нашто нам губаў мова,
Дзе суваці душы слоўцы?!
Аставайцесь, добры людзі!
А Вас усіх на дарогу
У кніжцы прыцісну к грудзі.
Дзякуй Богу! Дзякуй Богу!

*Вільня, 27 кастрычніка 1858.*
*Беларуская Дуда, Арцём Дарэўскі-Вярыга*

## Каментарыі

**«Думка».** Упершыню твор быў надрукаваны ў часопісе «Ruch muzyczny». Друкуецца паводле кн.: Пачынальнікі: з гіст.-літ. матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мінск, 1977.

**«Літвінам, што запісаліся ў мой «Альбом», на развітанне».** Верш напісаны як развітальнае слова з сябрамі ў Вільні восенню 1858 г., не быў змешчаны ў «Альбоме». Захаваўся ён у паперах Р. Зямкевіча. Друкуецца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 1998. — С. 98—102.

[1] Эдвард Антоні Адынец.

[2] Гісторык Мікалай Маліноўскі.

[3] Ігнат Ходзька.

[4] Міхал Балінскі.

[5] Літаратуразнавец Аляксандр Здановіч.

[6] Адам Кіркор.

[7] Удзельнік паўстання 1830—1831 гг. Вінцэнт Матушэвіч.

[8] На цябе.

[9] Настаўнік лацінскай мовы ў Вільні Рамуальд Саковіч.

[10] Людвік Кандратовіч (Ул. Сыракомля).

[11] Журналіст і настаўнік Вацлаў Пшыбыльскі.

[12] Вінцэсь Каратынскі.

[13] Як мяркуюць, Эдуард Гласка, пазнейшы ўдзельнік паўстання 1863 г.

[14] Тры браты Рэніеры.

[15] Гіпаліт Пасербскі, удзельнік польскага вызваленчага руху.

[16] Знаёмыя аўтару дактары.

[17] Гандляр кнігамі.

## ЮЗАФ ЗАВІЛЕЙКА



Паходзіў з ваколіц Вільні. Аўтар кнігі «Wspomnienia starego litwina», выдадзенай у 1860 г. у Кіеве. Іншых біяграфічных звестак не захавалася.

### УСПАМІНЫ ПРА ЛІТВУ

(урыўкі)

II

*Літоўскі селянін*

У Літве, прызнацца трэба,
Селянін — малы, схуднелы,
Хаты ў дыме, мала хлеба,
Хоць працуе праз век цэлы.

Але ў святы ці нядзелі
Ён вясёлы і ахвочы,
Свой кусок з любым падзеліць,
Бо ў самоце жыць не хоча.

Скарб сялянкі небагаты:
Дзве кароўкі ды авечкі,
Вулей, поле, сад ля хаты,
А застолле льецца рэчкай.

Як хмель думку развяселіць,
Як сляпы скрыпач зайграе,
Як у квартах піва пеніць,
Вёска гора забывае.

І пад яваравым ценем
Скачуць дзеўкі, маладзіцы,
То вяночкам з рук спляценнем,
То па пары стануць віцца.

Як сярпы навострацъ, косы,
Дык касьба тады, зажынкі,

І спеў, гоман шматгалосы
Асабліва на дажынкі.

Хто сядзіць, хто хоча, ходзіць,
Той ці іншы байкі баіць,
Хтось кірмашнай чуткай зводзіць,
А стралкі лгуць-выдумляюць

П'юць і з волі й паняволі.
Тым, хто к розным дзівам палкі,
Дзед стары пляце ў застоллі,
Як сам бачыў ён Русалкі,

Як Лясун па лесе водзіць,
Як кум стрэўся з Ваўкалакам,
Як тапельцы ноччу ходзяць,
Як стаў Воўк старцом-крыўлякам.

Як Матрона там чаруе,
Як Чорт ноччу грэбляй ходзіць,
Як дзяўчатаў Змей мілуе,
Як жывёле вока шкодзіць.

Як кароў Вядзьмаркі дояць,
Дамавік муштруе коней,
Як прад крыжам чорт не ўстоіць..
Праўда... так скажу й пры сконе.

### III

### *Характар народа*

Быццам скарб, Літва хавае
Ў вёсках звычаі старыя,
Люд іх пільна зберагае,
Покуль вечнасць іх не змые.

Песні люду — скарб багаты,
Сумны тон іх смутак будзіць.
Там дагэтуль верацъ свята,
Што праўдзівасць век жыць будзе

Люд там сціплы і набожны,
Шчыры ў працы і талковы,
Чулы, ветлівы, трывожны
І разважны ў час размовы.

Як у дом, дзе князь пануе,
Старац зойдзе з імем Бога,
Пан малітву ушануе
І знямоглага старога.

О! У Літве святой і строгай,
Бы ў вясёлкавым праменні,
У святынях моляць Бога
Людзі, стаўшы на калені.

За труною ў час трывожны,
Як ліцвіна Бог пакліча,
Пойдзе блізкі, дальні — кожны
У касцёл, каб споўніць звычай.

У Літве ёсць для любога
Хлеб, і сэрца, і пашана;
І ў малога, і ў старога
Цнота ў сэрцы захавана.

Дух ліцвіна шчыры, братні, —
Сэрца думкаю кіруе, —
Бедным грош аддасць астатні,
Крыўды ворагу даруе.

**Каментарыі**

**«Успаміны пра Літву».** Пераклад з польскай мовы П. Бітэля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

## ЭДВАРД ЖАЛІГОЎСКІ
## (1816—1864)



Паэт рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, філосаф, грамадскі дзеяч (псеўданім Антоні Сава). Дзяцінства правёў у Беларусі. У 1833—1836 гг. вучыўся ў Тартускім універсітэце, быў інтэрніраваны за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання пад кіраўніцтвам Ш. Канарскага. У 1842 г. вярнуўся на радзіму. У 1851 г. быў сасланы ў Петразаводск, потым у Арэнбург, дзе перапісваўся з Т. Шаўчэнкам і прысвяціў яму верш «Да народнага паэта». З 1858 г. у Пецярбургу з І. Агрызкам выдаваў газету «Слова» (1859). З 1860 г. з'ехаў за мяжу. Перапісваўся з А. Герцэным, супрацоўнічаў з польскім рэвалюцыйным друкам. Апошнія гады правёў у Жэневе. У антыпрыгонніцкай «драматычнай фантазіі» ў вершах «Ёрдан» (1846), яе працягу «Зорскім» (урыўкі ў 1858 г. чытаў Шаўчэнку, які ў вершы «Перайманне Эдуарду Саве» выкарыстаў прыведзеную ў «Зорскім» беларускую народную песню «Пасаджу каля хаціны»), антыклерыкальнай паэме «Манахі» (1850), зборніку «Паэзія» і «біяграфічна-этычных» нарысах «Сёння і ўчора» (1858) з абурэннем пісаў пра галечу беларускіх сялян, сцвярджаў права беларускага народа на сваю літаратуру, станоўча ацаніў «Ідылію» В. Дуніна-Марцінкевіча. Перапісваўся з А. Вярыгам-Дарэўскім. На польскую мову пераклаў творы А. Пушкіна, Г. Гейнэ. Падзяляў палажэнні дыялектыкі Гегеля.

*А. Мальдзіс*

### ШТОСЬ І ХТОСЬ

Ах, яна красуня маладая,
І да таго шчэ болей, болей штось —
Выходзіць замуж — ах, бяда якая,
Што ёсць яшчэ, яшчэ на свеце хтось!
Хто яе чароўнасць прыкмячае
І да таго шчэ болей, болей штось —
Яму не быць з ёй, ах, бяда якая,
Што ёсць яшчэ, яшчэ на свеце хтось!
Слоў сваіх на вецер не кідае,
Замкне ў грудзях яна шчэ болей штось
Хай шчасна йдзе, але бяда якая,
Што ёсць яшчэ на свеце іншы хтось!

**Каментарыі**

**«Штось і хтось».** Пераклад з польскай мовы У. Мархеля. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

# ІГНАТ ХРАПАВІЦКІ
# (1817—1893)



Род Храпавіцкіх здаўна вядомы на Беларусі. Яго прадстаўнікі займалі даволі высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім і ў Расійскай імперыі. Храпавіцкія былі параднёныя з многімі знакамітымі беларускімі родамі — Агінскімі, Радзівіламі, Плятэрамі, Рыпінскімі. Беларусь — спрадвечная радзіма Храпавіцкіх.

Паэт і фалькларыст Ігнат Храпавіцкі нарадзіўся 31 ліпеня 1817 г. у сям'і камергера царскага двара Яўстаха Храпавіцкага, які жыў у сваім родавым маёнтку ў Каханавічах Дрысенскага павета Віцебскай губерні. Вучыўся дома, у нанятых настаўнікаў. Звестак пра яго жыццё, асабліва пра ранні перыяд, захавалася не шмат. Вядома толькі, што ён падарожнічаў па краінах Еўропы, наведваў, напрыклад, Рым. Як відаць з яго публікацый, І. Храпавіцкі быў надзвычай адукаваным чалавекам, вызначаўся шырокай эрудыцыяй, культурай.

Ужо ў маладыя гады І. Храпавіцкі карыстаўся немалым аўтарытэтам сярод сваіх землякоў. Нездарма ж у 1843 г. яго абралі на грамадскую пасаду наглядчыка сельскіх «ссыпных магазінаў» Дрысенскага павета. У яго абавязкі ўваходзіла вывучаць патрэбы сялян, знаёміцца з іх жыццём. Гэтыя абавязкі былі адначасова душэўнай патрэбай абаронцы свайго народа. Вывучаючы народныя побыт і фальклор, Ігнат Храпавіцкі адчуў усю бесчалавечнасць прыгону, пачаў рабіць усё магчымае для вызвалення сялян ад ганебнай няволі. У 1850 г. разам з аднадумцамі Сяргеем Убры і Юстыніянам Шчытам Ігнат Храпавіцкі распрацаваў праект ліквідацыі прыгоннага права, які нават быў прыняты большасцю галасоў на губернскім з'ездзе шляхты Віцебшчыны. Праўда, час адмены прыгону яшчэ не надышоў, і пастанова з'езда засталася толькі на паперы.

Невядома, з якіх прычын І. Храпавіцкі быў неўзабаве зняты з пасады наглядчыка ссыпных магазінаў. У 1858 г. ён увайшоў у склад губернскага камітэта для выпрацоўкі прапаноў у паляпшэнні жыцця прыгонных сялян, а ў 1859 г. яго выбралі маршалкам шляхты Дрысеншчыны.

Паслядоўнае змаганне Храпавіцкага за вызваленне сялян, за што ён, відаць, меў нямала непрыемнасцей, урэшце было ўзнагароджана. З афіцыйнай адменай прыгонніцтва І. Храпавіцкаму аб'явілі пра імператарскае «благословеніе» за дзейнасць у падрыхтоўцы рэформы. Пры гэтым яму быў уручаны адпаведны медаль.

У 1880-х гадах Храпавіцкага як паважанага і шаноўнага чалавека выбралі маршалкам дваран усёй Віцебскай губерні. На гэтай пасадзе ён працаваў да апошніх гадоў свайго жыцця.

Ігнат Храпавіцкі меў немалыя літаратурныя здольнасці, пра што сведчыць прыведзены тут верш «Дзвіна», якім адкрываўся першы нумар часопіса «Рубон» (1845), і іншыя вершы, што пісаў паэт па душэўнай патрэбе. Выдатна праявіліся гэтыя здольнасці і ў публіцыстыцы.

Гэта відаць і з артыкула «Позірк на паэзію беларускага народа», які блізкі сваім жанрам да эсэ і быў напісаны «з агнём» (Р. Падбярэскі). Свабодная манера пісьма, багатая вобразнасць, лірызм адразу кідаюцца ў вочы пры яго чытанні. Толькі сапраўдны літаратар можа пісаць, такімі, напрыклад, словамі: «Хто ведае паўночныя краі, хто захапляўся напраўду феерычным краявідам нашых палёў і лясоў, аздобленых брыльянтамі інею, хто бачыў у марозны пагодны адвячорак над убогай сялянскай страхой пазалочаны сонцам дым, што ўздымаецца проста ўверх узорыстым воблакам, у якім можна пазнаць то нейкі воз чараўніка, то незвычайны закляты замак, той толькі, кажу я, зразумее, адкуль мог узнікнуць у галаве беднага беларускага селяніна гэты фантастычны свет казкі, свет дзівосаў, свет, поўны золата, перлаў, незлічоных багаццяў, як у аповесцях Усходу».

Артыкул Ігната Храпавіцкага ярка выяўляе дэмакратызм яго аўтара, шырыню яго душы, гарачае імкненне палепшыць жыццё народа. Гэтым артыкулам аўтар вучыў паважаць народ, шанаваць яго традыцыйную культуру, мову. Нездарма ж ён дае ў канцы і невялічкі тлумачальны слоўнік беларускай мовы. З той жа мэтай, дарэчы, Ігнат Храпавіцкі склаў для сябе шырокую праграму збору беларускага фальклору і ажыццяўляў яе ў шматлікіх паездках па Віцебшчыне і, магчыма, далей, запісваючы ад сялян іх песні і казкі. Ён рыхтаваў да друку «Поўны беларускі песнязбор». На жаль, гэту вялікую задуму ён не змог ажыццявіць ва ўмовах непрыязнасці афіцыйных улад да беларускай культуры. Сабраныя ім матэрыялы не пабачылі свет і хутчэй за ўсё загінулі ў віхурах часу.

Прыведзены ніжэй артыкул меў у свой час шырокі рэзананс, пра што сведчыць і водгук на яго Р. Падбярэскага ў артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі». Артыкул скіроўваў пісьменнікаў арыентавацца на свой беларускі народ, браць за аснову творчасці яго багатую вусную паэзію, у якой ва ўсёй красе адбілася яго жыццё, багаты ўнутраны свет, заклікаў ствараць сваю нацыянальную беларускую літаратуру.

*К. Цвірка*

## ДЗВІНА

Месяц, як прывід пачварны, брыдзе цераз хмары,
Вісне туман апаўночны жалобным убраннем.
Носіць заклёны віхор цераз пушчы, імшары,
А на ўзбярэжжы струмень мільгане і растане.

Доўга рака спачывала, спавіта імглою,
Зараз раптоўна на ёй усхадзіліся хвалі.
Сон твой прагнаўшы, Рубон[1] над усёй староною
Голас падаў, быццам бура пагрозная ў далі.

— Дзеці! Паможа вам хто са змярцвеласці выйсці?
Колькі чакаю: мінаюць гады і сталецці.
Нашая ж мэта далёка й цяпер, як калісьці...
Ах, каб вы ведалі, як гэта сумна ўсё, дзеці!..

Па-над Віллёю, над Нёмнам спяваюць паэты,
А па-над Віслай красуюць паселішчы пышна.

Толькі сыны мае ўсе пасхадзілі адгэтуль,
Пуста ў ваколлі маіх берагоў і зацішна.

Толькі мне вецер пяе-напявае няспынна,
Толькі ратай гарацешны жыве на ўзбярэжжы.
П'е мой крышталь урадлівая глеба краіны,
Шата святочная, што распасцёрта без межаў.

Далей! — Да ветразяў, плуга, да светлае далі!
Піце натхненне і моц з маіх нетраў узнятых!
Вам адамкнёна адчынена ўсё ў наваколлі,
Тысячы мар дам паэтам з прадонняў заклятых.

Войны былі тут, крывёй берагі аплывалі,
Замкі і вёскі знікалі ў пажарах і дыме.
Месяц лагодна цяпер пазірае на хвалі,
А задумёныя зоркі купаюцца ў ім і над імі.

Каб толькі ведаць маглі вы, якія тут шумы
Ў часе тых проклятых войнаў бывалі навокал.
Каб толькі ведаць маглі вы, якія задумы
Промень ад зорак праносіць да нетраў глыбокіх...

Змоўк, уздыхнуўшы, Рубон і ягоныя воды,
Што на ўзбярэжныя скалы ўзбягалі імкліва.
Зноў, як раней, ён вярнуўся да соннай лагоды,
А панад ім развіліся туманы лянiва...

Час праходзіць. Людская прыкметна ўжо праца
Хор, з галасоў розных зліты, спявае ўсё ж песні.
Доўга хмызняк на палетках яшчэ узрастацьме,
Вецер сіберны зглушаць будзе спевы Прадвесня.

## ПОЗІРК НА ПАЭЗІЮ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

(скарочана)

Адна з галін сённяшняй літаратуры — народная паэзія, з якой гэтулькі ўрадлівага зерня ўпала на нашу духоўную ніву, доўга была ў нас прадметам пагарды з боку адукаванага класа. Неачышчаная ад мешаніны (alliage) вузкіх, скрыўленых поглядаў навука, якая пры дабратворным уплыве заўсёды была жаданай для грамадства, пашыраючы фальшывыя ўстаноўкі, адмоўна ўздзейнічала на агульны густ, што ў мастацкіх творах займаў месца маралі, псуючы аднachасова і яе. Адсюль несправядлівы астракізм, які залішне доўга ганьбаваў мілую выхаванку сялянскага двара. Але гэтыя перакананні, гэтыя эстэтычныя забабоны, якіх трымаліся нават самыя славутыя розумы,

не патрапілі знішчыць поўнага жыццёвых сілаў зерня. У той час, калі пісьмовая літаратура, усё болей і болей скатваючыся да мёртвага пераймальніцтва, рабілася амаль што чужой усёй масе народа, народная паэзія неўпрыкметку пашырала ціхае сваё панаванне; а калі ў адкрытым літаратурным спаборніцтве яна не адважвалася яшчэ падстаўляць чало перад сваёй паважнай суперніцай, ці ж менш істотнымі былі яе поспехі? Не толькі ў палях і ў гаях, дзе сыходзіліся сяляне, чуліся народныя песні, але і ў цяні ліп, што аздабляюць шляхецкія двары, і ў раскошных садах пад вокнамі магната пачалі яны звіваць свае гнёзды. Сам звычай трымаць у маёнтках казакоў, у абавязкі якіх апрача вайсковых паслуг уваходзіла часта і спяванне ўкраінскіх песень з дапамогай тэорбы ці бандуркі, можа сведчыць пра ўзнікненне сімпатыі да народнай паэзіі нават у вышэйшых класаў*. Паляк любога стану, прызвычаены да прыгожага жыцця, пасля вясковага зацішша і хлебаробчай працы апынуўшыся на палях бітваў альбо беручы ўдзел у хваляваннях і шумных дэбатах розных дзяржаўных сходаў, дзе свабодна развіваў здольнасці сваёй душы, прызвычаены, кажу, да такой паэтычнай рэчаіснасці, не мог прыняць бледных і залішне будзённых тварэнняў класічных пісьменнікаў. Украінская дума з яе нейкай невыразнай тугою, казка, што ззяла ўсімі вартасцямі ўсходняй фантазіі, былі больш даспадобы.

Вызваленне нашай літаратуры ад путаў класіцызму адкрыла новае поле для народнай паэзіі. Бо нішто болей не было для яе такім чужым, як аналітычны падыход, характэрны для класічнай літаратуры, ■ таксама ўласцівая ёй вельмі строгая форма.

Мы ўмеем шанаваць за заслугі перад айчынай вялікіх пісьменнікаў, якія і пры панаванні забабонных вераванняў нашай мінуўшчыны і бязладдзя тагачаснай паэтыкі запальвалі паходні розуму і прыгажосці. Таму яны з поўным правам могуць называцца распаўсюджвальнікамі еўрапейскай асветы сярод славян. Дазволім сабе аднак сказаць, што былая аналітычная дзейнасць, вельмі часта шкодная там, дзе духоўны патэнцыял, творчыя таленты не мелі часу як след разгарнуцца, магла б мець у нас найгоршыя вынікі, калі б мы не знайшлі дапамогі якраз там, адкуль прыйшла небяспека. Я хачу гаварыць пра выратавальны ўплыў на нашу духоўнасць ідэй смялейшага палёту, якія прыйшлі да нас на пачатку гэтага стагоддзя з Захаду. Абуджаныя новымі лозунгамі, нашы паэты перасталі зазываць класічныя музы, а ідучы ўслед за тымі новымі славутымі геніямі, нашчадкамі старога Дантэ і Шэкспіра, пазнаёмілі нас з рамантычнай літаратурай. Новая школа, як некалі яе старая сястра, дала славутых мужоў; бо калі класічны польскі Парнас заслужана можа ганарыцца Кахаnoўскім, то рамантызм, каралём якога стаў у нас Міцкевіч, не менш велічныя дае нашчадкам імёны. Апрача відавочнага прагрэсу ў адборы больш свабоднай формы, айчыннае пісьменства не было яшчэ грунтавана на адпаведнай глебе. У творах найбольш таленавітых пісьменнікаў абодвух школ прабівалася нямала нацыянальных

* Гэты звычай назіраўся да апошніх часоў на Беларусі ў Магілёўскай губерні (*заўвага аўтара*).

прыкмет, хоць у сваёй аснове яны былі пад моцным уплывам чужаземшчыны; поўнае ж перайманне чужаземных узораў было характэрным для другарадных твораў. Калі ж мы паглядзім на каляіну, па якой ішоў класіцызм, то ўбачым, як замкнуты ў цеснай, так скажу, нецярпімасці, штоpазу хутчэй з прыходам новых часоў убірае ён у сабе айчынныя заганы і, зжываючы самога сябе, пакідае пасля толькі пустыя абшары. Наадварот, рамантызм, які жывіцца зусім іншым духам, сваёй прыродай спрыяючы развіццю ўсіх зародкаў, кінутых на полі культуры, атуляе сваім цёплым крылом народную паэзію, на якой узрастае, а калі ўрэшце яна выяўляе схаваныя ў ёй надзеі, прадвяшчае іншую для нас эру, укараняе ў гэтае новае жыццё свае асаблівасці.

Зара гэтай новай эры ўжо засвяціла нам, эры нацыянальнай літаратуры, бо яе прадпасылка ў тым, што мы сёння пачалі падымаць з-пад пылу бяспамяці рэшткі арганічнай у Славяншчыне эпохі, уваскрашаць даўнейшы народны рух.

З больш шырокім, чым некалі, разуменнем значэння фальклору пачалі вывучаць сёння звычаі, песні, паданні простага люду, не шукаючы ў іх своеасаблівай прыгажосці выпадковага абрыўка мінуўшчыны, але імкнучыся скласці іх у адно цэлае, што характарызавала б народ у сваім часе. У гэтай новай прафесіі вызначыліся некалькі маладых пісьменнікаў, выхаваных у рамантычнай плыні. На аднаго з іх мы асабліва ўскладаем вялікія надзеі[1]. Яго паэтычныя творы, якія сёння не вельмі яшчэ ацэнены, дазваляюць мне сказаць, што імя яго знойдзе месца з імёнамі Каханоўскага і Міцкевіча. Але калі з аднаго боку для нашай літаратуры адкрываюцца вельмі шырокія гарызонты, то з другога прыхільнасць да чужаземных літаратур стрымлівае развіццё ўласнай. Уплыў, які не перасталі яны рабіць (тым больш небяспечны, што ёсць акалічнасці, якія па-за літаратурай могуць перашкодзіць у ажыўленні нашых надзей), а яшчэ трохі сапсаваны густ нашай грамадскасці і колішнія, не зусім выкараненыя забабоны, — усё гэта, кажу я, павінна да вельмі вялікай заклікаць пільнасці! Не будзем жа хваліцца. Адраджэнне нашай літаратуры яшчэ поўнасцю не завершана. Усё вакол нас яшчэ варыцца. Нават гэтыя прыгожыя кампазіцыі нашых паэтаў, створаныя ў нацыянальным духу, не могуць у большасці выпадкаў трактавацца як спроба пяра. Галоўная загана, якую ў іх можна заўважыць, гэта недахоп выдумкі ў аснове. А адсюль — брак цікавасці і недастатковая разнастайнасць у выбары тэмы: абмяжоўваюцца толькі малюнкамі з сялянскага жыцця. Гэта ўсё вынік пераходнага стану, у якім яшчэ мы знаходзімся. Нашы пісьменнікі не хочуць адставаць ад сваіх сялянскіх настаўнікаў, баючыся збочыць з дарогі праўды і айчынных інтарэсаў. Небяспечна было б адпусціць лейцы фантазіі на недастаткова яшчэ вывучанай глебе. Не будзем жа рабіць ім перашкод, наадварот, давайце заахвочваць іх у набыцці гэтых ведаў, якія зробяць больш упэўненымі іх крокі. Многія вартасці іх твораў могуць схіляць нас да большай паблажлівасці. Сённяшні стан нашага пісьменства падобны да першых дзён вясны: хаця краскі не аздобілі яшчэ зямлі, але бальзам іх пахаў ужо чуецца ў паветры, а ў булькатанні вызваленай з-пад зімовых аковаў

зямлі, у павевах ветру можна ўбачыць, што яны неўзабаве расцвітуць ва ўсёй сваёй красе.

Калі я дастаткова паказаў вытокі росквіту нашай культуры, кожны добра зразумее важнасць усякіх даследаванняў, якія знаёмяць нас з духоўным светам нашага люду, адкрыюць каштоўныя рэшткі побыту нашых бацькоў, рэшткі, якія, паўтараю, павінны паслужыць нам для будаўніцтва пачатага некалі ўласнага будынку. Кожны крок у тым кірунку прынясе нам невымерную карысць, прыблізіць нас да натуральных, родных нам паняццяў і імкненняў. Няхай жа паэт, крытык, цярплівы збіральнік перлаў, выцягнутых са смецця, аб'ядноўваюць свае намаганні, узаемна памагаюць адзін аднаму, каб знесці многія перашкоды, што сустракаюцца на дарозе, каб увайсці ў гэты таемны свет, у гэтыя Пампеі, засыпаныя пылам часу і забыцця, калі мастак, вучоны і даследчык убачаць прадметы, якія будуць схіляць іх да натхнёных разважанняў, даследаванняў і высакароднай працы. Няхай кожнае новае ў гэтай галіне адкрыццё, аповесць, звычай, песня ці паданне не будзе абыдзена, хоць на першы погляд здасца чымсьці нікчэмным. Можа, тое, што спачатку здасца нам няварты м увагі, пры больш глыбокім пранікненні ў тайны мінуўшчыны і ў дух сённяшні народу прадстане ў зусім іншым некалі святле. Трэба толькі, каб паэт сабраўся з духам, каб крытык распаліў святло сваёй паходні, а пры лепшым вывучэнні нашага народа, калі пры гэтым здолее адарвацца са сферы ўплыву чужой культуры, абавязкова знойдзе ў тых цёмных і прастацкіх на выгляд народных тварэннях ці то праяву сапраўднага пачуцця, ці то глыбокае сімвалічнае значэнне, ці то гістарычныя звесткі.

Прыводзячы ў гэтым артыкуле некаторыя ўзоры паэзіі беларускага народа, просім чытачоў «Рубона», каб, знаёмячыся з імі, не выпусцілі з-пад увагі пададзеныя вышэй меркаванні.

Калі ў творах адукаванага класа вельмі часта заўважаем мы поўную адсутнасць натхнення, то народная песня ўтрымлівае ў сабе зарад сапраўднай паэзіі. Не само прызванне ўкладае нам часам у рукі пяро, а з самых розных прычын выбіраем мы, бывае, цяжкую пісьменніцкую прафесію. Селянін жа толькі ў хвіліны натхнення, калі жаль ці радасць перапаўняюць яго грудзі, калі фантазія распаляе галаву, стварае тоны, праўда, не заўсёды добра звязаныя, але ў гэтай мешаніне заўсёды чуецца голас сэрца*. Пачуццё тут — гэта тое, што абуджае гук эолавай арфы. Чысціня і моц гучання залежыць ад таго, як наладжаны інструмент. Вясковаму спеваку не заўсёды ўдаецца добра выказаць пачуццё, якое яго ўзрушыла, бо не кожны мае сапраўдны талент, але ў тых неслухмяных і грубых словах заўсёды знойдзеш схаванае пачуццё, натхненне, і ў гэтым розніца паміж пладамі пяра і народным творам. Не будзем шукаць у песні аратага ці пастушкі, якая сама не можа разабрацца ў сваіх пачуццях, знешняй дакладнасці нашых пісаных твораў. Думка і пачуццё ў песнях выступае ў кароткіх, скажу я, амаль загадкавых выразах. Напрыклад:

* У кожнай народнай песні, якая заўсёды з'яўляецца імправізацыяй, можна заўважыць рысы добра вядомых творцу прадметаў ці з'яў. Сяляне не любяць песень, не прыстасаваных да іх працы... (*заўвага аўтара*).

Усю ночку не спала,
Мала дзіце калыхала,
Я ж нямножка прыснула,
Нічагусенька не чула.

Як узняліся буйны ветры!
З харом* дахі паздзірала,
У чыста поле пазнасіла;
Там краватанька памасціла,
Міне там спаць паклала.

Так беларуская песня апісвае трывогі мацеры, павялічаныя турботамі бядотнага становішча, хвіліну спачыну, палёгкі, калі доля перастае турбаваць гэтую жанчыну, урэшце, як у одзе Сарбеўскага: Sonora buxi filia putilis — неспадзеўная змена, бо ў часе прывіднага сну сабраліся хмары, бура, бяда, што пазбавіла бедную матку ўсякага прытулку і прыняла да магілы. Гэтая пачуццёвасць, характэрная для ўсёй народнай паэзіі, якую ж надае ёй вялікую вартасць, робячы прадметам псіхалагічных даследаванняў.

Збіраючы год назад у маіх ваколіцах вясковыя песні люду нашай правінцыі, я знайшоў мноства песень выключна пранікнёных, ■ прыгажосці якіх я не раз дзівіўся. Бедная сірата, што плача ў дзень свайго шлюбу, нешчаслівы муж, які, узяўшы нядобрую жонку, хацеў бы ўтапіцца з роспачы, смутак і згрызоты нялюбай жонкі, доля пакінутых пад ліхую апеку дзяцей — як жа праўдзіва і паэтычна перадаецца ўсё гэта ў песнях! Дзяўчыне, што сцеле лён «дробненькі», прыходзіць у галаву думка пра смерць; калі яна нахіляецца да зямлі, ёй хочацца застацца ў яе лоне — пра гэта і спявае ў песні:

Зямля мая сырусенька!
Прымі мяне маладзеньку,
Як вішаньку саладзеньку!

Сын, якога бяруць у рэкруты, трывожачыся пра долю пакінутай маткі, як пра сваю ўласную, кажа:

Будуць міне, малайца, у салдацікі браць,
Будуць міне, малайцу, белы ручкі вязаць,
Будуць міне, малайцу, скоры ножкі каваць.
Не пячалься па мне.

Будуць міне, малайца, у станок станавіць,
Да будуць міне усю туніцью накладаць,
Ты па том, мая матка, і г. д.

Будуць міне, малайца, у строй станавіць,
Да й будуць перада мной востру шаблю вынімаць,
Да будуць мне, малайцу, гарачу кроў разліваць.
Ты па том, мая матка, г. д.

---

* Бо выраз «харома», «хароміна» азначае старую, заняпалую будыніну (*заўвага аўтара*).

А як выйдзеш, мая матка, у чыстае поле,
У усіх пажэнкі пакошаны,
А твае, матка, прыдрожаны.
Вот цяпер, мая мамка, паплач, патужы,
Папячалься па мне.

Усе пашанкі запаханы,
А твае, мамка, затраўлены.
Вот цяпер, мая мамка, і г. д.

У вясельных песнях бачым многа пачуцця і дзявочую нясмеласць, поўную прыгажосці:

Ой, рана, раненька,
Дзевачкі, падружачкі,
Выйдзіце, паслухайце,
Ці шуміць дубровенька,
Ці цвяціць багровы цвет,
Ці едзіць завяжыць-свет?*
Ой рана, раненька!

Ты, Улянка, сястрыца наша,
Ці казаць, ці не казаць,
Ці жалю не задаваць?
Ой рана, раненька!

Шуміць дубровенька,
Цвяціць багровы цвет,
Ужо едзіць завяжыць-свет.
Ой рана, раненька!

Часам паказваецца вялікая ўзрушанасць сэрца: хлопец для сваёй нарачонай будаваў на рацэ масток, але яна па яго мастках ніколі не хадзіла, ён пасылае па яе каня, але яна ніколі не ездзіла на яго конях.

Я ж да цябе, Улянка, сватоў прышлю.
— Я з тваімі сватамі не знаюся.
Я к табе, Улянка, сакалом прылячу.
— А я к табе серай зязюлькай.

Любоў да прыроды ведае кожны, але асабліва той, хто жыве амаль пад адкрытым небам і корміцца, напрыклад, з гэтай ракі. Яго настрою сугучны сялянскія творы. Возьмем хаця б песню:

Не сячы, мой татухна,
Ля дарожкі бярозкі;
Не касі, мой брацітка,
У лужочку травіцы;

* Выраз «завяжыць-свет» азначае будучага мужа, які завяжа ці замкне для дзяўчыны свет (*заўвага рэдакцыі «Рубона»*).

Не бяры, мая мамухна,
У крыніцы вадзіцы;
Не шчыпі, мая сястрыца,
У садочку цвяточкі —
Мае ясныя вочкі;
У лужочку травіца —
Мая руса касіца;
У крыніцы вадзіца —
Мае дробныя слёзкі;
Ля дарожкі бярозка —
Я сама маладзенька.

Такая прывязанасць вясковай дзяўчыны да прыроды, што аж пачуццём з ёй яднаецца! І кветка, і бярозка непасрэдна з ёй звязаны. Я мог бы прывесці тут шмат песень, дзе выказваецца замілаванасць сялян да прыроды:

Сказалі малайцу у дарожку.
Прышыбла малайца цёмная ночка.
Стаяла бяроза ля дарожкі.
Прыехаў маладзец ля бярозкі.
— Ох, бяроза, бяроза, пусці на ноч.
— Ох, начуй жа, белы маладзец, начуй.
З вечара бяроза не шумела,
А з паўночы бяроза зашумела,
Залатое лісцінка зазвінела.
Абачхнуўся маладзец у паўдарожкі,
Скланіўся бярозе нізка ў ножкі.
— О, дзянькуе, бяроза, за начлег твой,
Паляжаў я ў бярозы на карэнях,
Як у роднай матулькі на каленях,
Паляжаў я ў бярозы на лісточку,
Як у роднай матулькі на жываточку;
Пастаяў жа мой конік пад веццю,
Як у роднага таткі пад павеццю.

Сірата бярэ сонца за паверніка сваіх пакут, скардзіцца яму:

У чысценькім полю сіротынька жала, жала,
З соўнінкам размаўляла:
— Ох! Ты соўнінка маё яснае!
Не было ж соўнца у найме?
Не пагадаіш сіраце!
У міне мамка чужая,
Ранінька пабуджаіць,
На ніўку пасылаіць.
— Ты дзяўчына, сіраціна,
Ці ж мая у том віна?
Вінна твая гаспадыня,
Што рана пабуджаіць,
На ніўку пасылаіць.

— Я ранінька узыйду,
Цябе на ніўцы найду;
Я позьнінька зайду,
Цібе на ніўцы кіну.

Дзяўчына, хвалячы красу свайго нарачонага, кажа, што яго матка

Пэўна ў садзе урадзіла,
Знаць, у каліне яго купала
І малінам націрала.

Амаль кожная песня пачынаецца з якой-небудзь карціны прыроды, што служыць для параўнання ці мае нейкія адносіны да пачуцця спевака:

Лятаў салавей па сешу.
— Тошнінька мне сіянаму!
Каб жа ка мне зязюля!
На адным сучку сядзелі б,
Адну думачку думалі і б,
Адну б песеньку пялі,
Адну б ягадку клювалі.
Ох, ты зоранька ясна!
Чаго рана паміркае ці?
Ох, мой міленька дружочак!
Нашто ж міне пакідаеш? і г. д.
У Полацку агонь гарыці,
А ў Віцебску дымны.
Любіў казак дзяўчынаньку —
Усім людзям дзіўна і г. д.
Што найлепшаму дзярэўцу
Бог долі не даў;
Што найлепшай дзевухне
Бог долі не даў і г. д.
Гдзе ж ты, хмелю, зімаваў,
Што не развіваўся?
Гдзе ж ты, дзяцюк, начаваў,
Што не разбіраўся?

Калі-нікалі параўнаны прадмет знікае, і алегорыя ці раскрываецца ў самым канцы, як тут:

Запеў салаўюшка пры бару, пры даліне,
Пры вялікай крушыне.
Дам жа табе, салавейку, клетачку новую,
Дам жа табе, салавейку, жану маладую. —
Не надаш мне, салавейку, клетачкі новай,
Не надаш мне, салавейку, жаны маладой.
Лепей мне, салавейку, па волі лятаць.
Палячу я, салавейка, у зялёныя лугі,
Да сяду, салавейка, у калінавым кусце,
Да саўю, салавейка, цёплае гнядзечка,
Да знясу, салавейка, сабе тры яечка,

Высяджу, салавейка, маленькіх дзетак,
Палячу, салавейка, шчырымі барамі,
Шчырымі барамі, цёмнымі лясамі —
Заплакала дзявіца гарачымі слязамі.

Але гэтыя доўгія параўнанні з вобразамі прыроды, частае іх увасабленне*, паўтор зваротаў да «шчырых бароў», «буйных вятроў», «сізых галубіц» і г. д. не адзіная адзнака замілавання нашага люду да прыроды і яе ўплыву на яго песні.

У кожнай пары ёсць свае характэрныя песні. Вясной, калі добрыя ўражанні, збуджаныя новым жыццём, вельмі часта ўступаюць у супярэчнасць з нэндзай і голадам беднага селяніна, у песні, дзе выказваецца каханне і салодкія пачуцці, чуюцца, вядома ж, і сумныя ноты. Рэдка знойдзеш у песнях вобразы зімы, бо звычайна люд спявае і складае іх вясной, летам ці восенню, на вольным паветры, сярод палёў і лясоў. Гэтак жа часта ў тых свежых ідыліях сустракаемся мы з зялёным садам, дубровай, салоўкам, зязюлей. Зімой песня саступае месца казцы**. На яе характары адчуваецца выразны ўплыў гэтай пары. Не гэтулькі будзе ў ёй пачуцця, як у песні. Каралеўна і русалка, гэтыя дзве постаці, амаль абавязковы ў такой аповесці, — і прывабныя, і адначасна жорсткія, як зіма ў нашым краі. Прыцягальная фантазія, супрацьдзеянне цёмных і яркіх фарбаў чарадзейства — галоўныя асаблівасці і вартасці казкі. І ўсё ж знаходзім у ёй часам і глыбокія пачуцці, часта нейкую мараль альбо запаветную мару; але гэта ўсё схавана ў ёй, як жыццядайнае вясновае цяпло ў глыбіні прысыпанай снегам зямлі. Хто ведае паўночныя краі, хто захапляўся напраўду феерычным краявідам нашых палёў і лясоў, аздобленых брыльянтамі інею, хто бачыў у марозны пагодлівы адвячорак над убогай сялянскай страхой, пазалочанай сонцам, дым, што ўздымаецца проста ўверх узорыстым воблакам, у якім можна пазнаць то нейкі воз чараўніка, то незвычайны закляты замак, той толькі, кажу я, зразумее, адкуль мог узнікнуць у галаве беднага беларускага селяніна гэты фантастычны свет казкі, свет дзівосаў, свет, поўны золата, перлаў, незлічоных багаццяў, як у аповесцях Усходу. Плынь мовы ў казцы заўсёды аднастайная, ажыўляе гэтую мову хіба безліч дзівосаў. Казкі-аповесці дзякуючы вельмі свабоднай форме і шырокаму прастору для народнай фантазіі не могуць не вызначацца разнастайнасцю. <...>

---

* Выразны доказ, якое робяць яны ўражанне (*заўвага аўтара*).

** Часцей за ўсё нашы сяляне складаюць казкі ад Божага Нараджэння да канца запустаў. Дзіўны забабон таму прычынай. Наша простанароддзе мяркуе, што ў гэты адрэзак часу не можна працаваць вечарам. Ледзьве пачынае змяркацца, як злыя духі садзяцца па цёмных закутках хаты і пільнуюць, каб ніхто не асмеліўся прыкласці рук да якой работы. Калі хто не паслухае гэтай забароны, будзе пакараны няўдачамі ў сваёй працы. Усё, што ў гэты час народзіцца ў хаце: дзіця, ягнё, куранё, — будзе мець нейкае калецтва — нібы пячаць помсты духаў. Адсюль такія вечары называюць у народзе «крывымі», а яшчэ — «святымі вечарамі». Якраз у гэтую пару сяляне збіраюцца разам і апавядаюць самыя дзівосныя і неверагодныя аповесці, вартыя фантастычнага таленту Гофмана (*заўвага аўтара*).

У адной казцы, што ўдзяліў мне мой знаёмы, чытаю: «...а сам узяў сокала і харта і пайшоў на белую раку на калінавы мост. На мосце кінуў сокала і харта, а сам пад мост падлез. Прыйшла поўнач. Харт забрахаў, сокал засвістаў, зашумела, загучала — ляціць нячыстая сіла з трыма галовамі; тады ён узляцеў на мост і крыкнуў: «Што ты, песся мяса, брэшыш да свішчыш? Мне на ўсём свеце роўнага нет, толька Яська, Ігнашка да Атрошка, а гэтых тут воран і косці не занясець». А Атрошка крыкнуў з-пад маста: «Воран косці не занясець, а добрыя моладцы і самі заходзяць». — «Дзмій поле!» — Нячыстая сіла як дунуў»... і г. д.

Мы ведаем, што каліна — гэта дрэва, якое звязваецца са смерцю, яна скарыстоўвалася некалі ў народзе на труны. Пад калінавым мостам — гэта значыць на тым свеце, у свеце духаў, куды пасля смерці чалавека крук не занясе нават косці. <...>

Цяпер прыйшла чарга сказаць некалькі слоў пра гістарычную вартасць паэзіі беларускага народа. Калі мы будзем шукаць у ёй апісанні палітычных падзеяў з мінуўшчыны краю, згадкі пра яго славутых людзей, баюся, што такая праца можа быць пустой. Люд беларускіх правінцый ад часоў, пра якія пачынае расказваць наша гісторыя, не браў ніякага ўдзелу ў кіраванні краем і ў палітычным руху. Ён падпадаў пад уплыў Літвы, Польшчы і Расіі і таму абыякава глядзеў на войны, што вялі паміж сабой гэтыя дзяржавы. І не трэба здзіўляцца, што ён не захаваў у памяці гэтых падзей і не апяваў подзвігі ваяра, якога не ведаў нават, да каго залічыць, — да ворага ці брата. Апрача некалькіх песень больш блізкіх часоў (напрыклад, пра французскую вайну), мне не даводзілася чуць гістарычных уласна беларускіх спеваў*. Не трэба аднак думаць, што беларуская паэзія пазбаўлена ўсякай гістарычнай каштоўнасці. Наадварот, яна можа даць цікавыя звесткі для гісторыка, які б у апісанні нашай мінуўшчыны захацеў адкрыць перад намі духоўнае жыццё народа: у ёй, народнай паэзіі, выразна адбіліся звычаі, дамашні побыт, характар нашага люду. <...>

Нашы пісьменнікі шмат маглі б зрабіць у абуджэнні цікавасці вышэйшага класа да простага люду з яго паэтычнай душой і нешчаслівай доляй. Шаноўны перакладчык выдадзеных некалькі гадоў назад у паноў Завадскіх «Песень люду з-пад Дзвіны»** даў прыклад, які мы павінны падхапіць. Яго невялікі томік робіць вельмі прыемнае ўражанне на ўсіх, каму не чужая зямля, так добра раскрытая ў ім. Ніводная шумная паэма, што выйшла з-пад пяра прафесійнага пісьменніка, не можа параўнацца з гэтым сціплым зборнікам песень, які выклікае ў сэрцы чытача самыя прыхільныя пачуцці да нашых бедных сялян[2]. <...>

*Пісаў у Кеханавічах у 1843 годзе*

---

* Казалі мне, што ў Себежскім павеце кружыць нейкая песня пра татарскі напад, але я дасюль не мог яе адшукаць (*заўвага аўтара*).

** Адны з гэтых песень амаль даслоўна перакладзены, другія нават дакладней былі пераказаны без адступлення ад духу арыгінала. Апрача гэтага, мы павінны быць удзячныя таленавітаму пісьменніку за тыя паэтычныя і лапідарныя каментарыі да іх (*заўвага аўтара*).

## Каментарыі

**«Дзвіна».** Пераклад з польскай мовы У. Дубоўкі. Друкуецца паводле выд.: Полымя. — 1994. — № 5. — С. 100—101.

[1] Рубон — старажытная назва Дзвіны.

**«Позірк на паэзію беларускага народа».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Rubon. — 1845. — Т. 5. — С. 35—77.

[1] Магчыма, аўтар мае тут на ўвазе Яна Баршчэўскага.

[2] Як відаць, гаворка тут ідзе пра трэці зборнік беларускіх народных песень, сабраных Янам Чачотам, — «Вясковыя песні з-над Дзвіны» («Песні люду з-над Дзвіны»). — Вільня, 1840.

# МАКСІМІЛІЯН МАРКС
# (1816—1893)



Мемуарыст, даследчык Сібіры. Удзельнік рэвалюцыйнага руху 1860-х гадоў. Максіміліян Маркс скончыў Віцебскую гімназію ў 1834 г., вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. З 1858 г. выкладаў у гімназіях Смаленска і Масквы. У 1866 г. за ўдзел у польскай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Маскве сасланы ў Сібір на пажыццёвае пасяленне. З 1868 г. жыў у Енісейску, дзе заснаваў сібірскую метэастанцыю. У «Записках Академии наук» надрукаваў працу «Клімат Енісейска паводле 12-гадовых назiранняў», у часопісе «Русская старина» — нататкі пра К. Касовіча, М. Буташэвіча-Петрашэўскага. Ва ўспамінах пісаў пра Віцебск 1820—1830-х гадоў («Запіскі старога»), выкарыстоўваў беларускія фальклорныя матэрыялы, урыўкі з «Энеіды навыварат», звесткі пра цікаўнасць да беларускага фальклору Э. Плятэр. Аўтар рукапіснага зборніка вершаў на польскай мове. Быў узнагароджаны залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства ў 1878 г.

*Г. Кісялёў*

## ЭМІЛІЯ ПЛЯТЭР

### Раздзел [redacted] нарыса «Што-кольвечы пра беларускую гаворку»

Шчырая сардэчная прыязнасць звязвала маю матку [redacted] паннай Эміляй Плятэр, якая была маладзейшая за яе не меней як гадоў на пятнаццаць. «Любая Кася, дарагая Эміля», — так называлі яны адна адну, што-раз паўтараючы пры размове, калі Эмілія прыязджала ў Віцебск і наведвала маю матку, сваю даўнюю і выпрабаваную сяброўку. Шчасліва спалучаліся ў ёй і знешняя прыгажосць, і высокае душэўнае хараство.

Я добра запомніў яе апошні прыезд. Мне тады было гадоў адзінаццаць. У горадзе быў раскватараваны нейкі полк коннай гвардыі — гусарскі ці ўланскі, добра не помню. Заможная, вельмі разгульная вайсковая моладзь, паланёная красою панны Плятэр, неадступна круцілася каля яе, але ёй надакучала назойлівасць і не заўсёды зграбныя заляцанні гэтых легкадумных, як яна называла, паўночных амуркаў (les petits amours du nord), пазбягала як магла, баляў і сходак, адмаўляючыся ад запрашэнняў і ўцякаючы да маёй маці, да сваёй любай Касі, з якой так любіла праводзіць час.

Яна, бадай, не памылюся, першая з запалам, уласцівым чуламу і шляхетнаму сэрцу, аддалася душой беларускаму люду, добра бачыла яго бяду і спачувала яму, стараючыся, як толькі было можна, аблегчыць яго долю. Яна збірала і спявала беларускія на-

родныя песні, штодня плаціла тым, хто ёй напяваў іх. Слухаючы гэтыя песні, сама спрабавала складаць нешта ім падобнае. На фартэпіяна яна ўмела вельмі выразна перадаць і зухаватасць, і тугу народных матываў, і нават тэмбр сапрана-жалейкі і баса-дудкі.

Аднаго разу яна, абдымаючы і цалуючы, запрасіла нават маю матку танцаваць ■ ёю Лепятуху («Лепятуха» побач з «Мяцеліцай», «Качарбіхай», «падушачкамі» і «Лявоніхай» — адзін з танцаў беларускага люду, выконваючы яго, танцоры па-заліхвацку кідаліся ў розныя бакі, моцна тупалі нагамі, пляскалі ў далоні і час ад часу выкрыквалі «га гу!»), і маці не магла адмовіць свавольнай, але мілай Эміліі. Мой бацька, я і хлопец-скрыпач падрываліся ад смеху, гледзячы, як танцоры кruціліся і падскоквалі танцоркі.

— Ну, паненка, ну дзявуха! Ды яшчо і якая дзявуха, а залатая дзявуха! — з захапленнем казаў музыка.

— Але, дарагая Кася, ці ведаеш, што я навучылася галасіць?

«Галосяць» — гэта значыць аплакваюць (па-расійску «причитают» альбо «приговаривают») толькі дзеці на магілах сваіх бацькоў, жонкі над сваімі мужамі, маткі над трунамі дзяцей або пры адпраўленні сыноў у рэкруты. Спеў гэты жаласны, тужлівы, горкі, выкліканы сардэчным болем, імправізаваны з канкрэтнай нагоды, падобны на выццё, якое нельга перадаць. Аднак для той, што ўсім сэрцам палюбіла просты люд, удавалася гэта зрабіць, і яна гучным голасам пачала:

Авой, авой, дзяцюк ты мой!
Не на радасць, не на шчасце ты радзіўся...

І ўсе бядоты, усе пакуты жыцця беларускага селяніна былі тут падрабязна пералічаны ёю, дакладна і прачула выказаны.

Бацька мой слухаў стоячы, з закладзенымі па-напалеонаўску рукамі, а калі яна скончыла, страсянуў галавой і ўздыхнуў.

— Эмілія, анёлку! Вось гэта песня! Аж мяне ўзяла за сэрца, — абдымаючы яе, сказала маці з захапленнем.

Музыка рукамі выціраў слёзы, а я стаяў анямелы.

Ці не падслухаў дзе Міцкевіч такога «авой», бо яго «Лілеі» — беларускага паходжання:

Спаднічучка мах ды мах,
А панюхну бярэць страх...

Гады праз два пан Вольф, выкладчык нямецкай мовы ў віцебскай гімназіі — былы гувернёр панны Эміліі, прыйшоў да нас з забойчай навіною — што яе ўжо няма на свеце. Плакаў пачцівы немец, плакалі ўсе мы.

Праз некалькі дзён у касцёле святой Барбары за Дзвіной адбылася жалобная набажэнства. Гэтая імша была не са звычайных. Ксёнз Ясенскі так расчуліўся, што некалькі разоў перапыняўся, плачучы разам з усімі.

**Каментарыі**

**«Эмілія Плятэр».** Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле часоп.: Lud. — 1906. — № 6.

## АРТУР БАРТЭЛЬС
## (1818—1885)



Пісьменнік, мастак-карыкатурыст Артур Бартэльс нарадзіўся ў Вільні. Вучыўся ў Пецярбургу і Парыжы. Быў пароднёны праз жонку з сям'ёй Ваньковічаў. Браў удзел у паўстанні 1863—1864 гг., пасля падаўлення якога ўцёк за мяжу. Вярнуўшыся з эміграцыі, жыў у Вільні, Гарадку, Лагойску. Апошнія дзесяць гадоў правёў у Кракаве. Пісаў сатырычныя творы на розныя праявы жыцця, тэксты песень, да якіх сам ствараў музыку, сам выконваў, іграючы на фартэпіяна. Песні А. Бартэльса былі шырока распаўсюджаны на Беларусі. Захапляўся паляваннем. Пра гэта напісаў паэму «Палескі тыдзень». Паляўніцтву прысвяціў цэлы шэраг нарысаў і замалёвак, заснаваных на ўласных успамінах. Публікаваў іх у кракаўскім часопісе «Паляўнічы», з якім супрацоўнічаў, калі жыў у Кракаве. Гэтыя публікацыі — каштоўны матэрыял для вывучэння паляўніцтва ў Беларусі.

*К. Цвірка*

### ДЗЯНЁК АБЫВАТАЛЬСКІ

**Эпізод з жыцця старога бабыля «Петрык! Якая гадзіна?»**

«Пасля адзінаццатай, пане,
Накроена ўжо вяндліна,
Пастаўлена ўжо сняданне».
«А што на дварэ сёння рана?»
«Цярушыцца дожджык драбненькі...»
«Ах, сенца маё прапала!
Падай з там-той шафкі бутэлькі».
«Петрык! Якая гадзіна?»
«А першай блізка, мой пане...»
«Хочацца есці няспынна,
Штось, даліпан, нечувана...
А што на дварэ?» — «Пагодна,
Дажджу — ані кроплі-крапелькі...»
«Дажджу ўжо няма? Як шкода!
Падай мне з там-тэй бутэлькі».
«Петрык! Якая гадзіна?»
«Другая... Засланы настольнік.
Расольнік духмяны з ліня...»
«Адзін толькі, кажаш, расольнік?»
«Пасля будзе печань валоўя».

«Гм, гм... Палудзень слабенькі.
Баліць галава невымоўна,
Напіцца трэба гарэлкі».
«Петрык! Якая гадзіна?»
«Даўно пасля пятай, пане,
Вунь з панам суддзёй суддзіна
Шыбуюць... Хай пане ўстане!»
«Бяжы ды прасі суседзяў.
Ах, любы Францішак,
Прыехаў мяне адведаць...
То возьмем гарэлкі кілішак».
«Петрык! Якая гадзіна?»
«Дзявятая зараз, пане...»
«Няможацца штосьці суддзіне.
Ў нас начаваць, мусіць, стане.
Ды здыме вячэра нягоду».
«Гатуецца страва з галоўкі...»
«Ах, пане суддзя, ёсць нагода
Глынуць яшчэ цыманоўкі».
«Петрык! Якая гадзіна?»
«За поўнач ужо, мой пане...»
«Ці спіцца пані суддзіне?»
«Хіба не чутно яе спанне?»
«І нам на спачын ужо скора,
Ды пане суддзя, Францішку,
Canonica ўжо Hora[1],
Возьмем яшчэ па кілішку».
«Петрык! Якая гадзіна?»
«Па першай... Вам болей не можна».
«Ці спіць хаця пані суддзіна?»
«І вам, пане, час да ложка...»
«Пайду... Патраплю без кія,
Дайду неяк сам да падушкі...
Петрык... Ave[2] Марыя!
Дай кілішак старушкі
Gratiae plena[3] Марыя!
Утну яшчэ раз да падушкі».

**Каментарыі**

**«Дзянёк абывательскі».** Пераклад з польскай мовы М. Арочкі з кн.: Bartels A. Utwory. — Krakow, 1888. — Т. 1. Друкуецца паводле кн.: Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. — Мінск, 1998.

[1] Canonica Hora — кананічная гадзіна.

[2] Ave — радуйся.

[3] Gratiae plena — поўная ласкі.

# АДАМ ГАНОРЫ КІРКОР (1818—1886)



Этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, гісторык, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў вёсцы Слівіна Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Манастыршчынскі раён Смаленскай вобласці). Належаў да небагатага беларускага шляхецкага роду татарскага паходжання. Бацькі яго ў 1830—1840-я гады валодалі невялікім фальваркам Грынеўшчына (Кіркораўшчына) у Клімавіцкім павеце. У 1832—1834 гг. Кіркор вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, потым у 2-й Віленскай гімназіі (Віленскі дваранскі інстытут), якую скончыў экстэрнам у 1838 г. Яшчэ ў гады навучання ў гімназіі зацікавіўся фальклорам і этнаграфіяй і надрукаваў у зборніку лепшых сачыненняў выхаванцаў Беларускай навучальнай акругі (1839) свой першы артыкул «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі». Пад уплывам былога выкладчыка Віленскага ўніверсітэта, знаўца старажытнасцей М. Гамаліцкага зацікавіўся гісторыяй і археалогіяй роднага краю. Паступіўшы на службу ў Віленскую казённую палату (1838—1864), ён не кідаў і літаратурна-навуковых заняткаў, пісаў тэатральныя рэцэнзіі, выдаваў альманахі «Radegast» («Радэгаст», 1843) і «Pamietniki umystowe» («Разумовыя дзённікі», 1845—1846). Напачатку віленскае асяроддзе не да канца задавальняла яго, і ён рабіў спробы перанесці сваю журналісцка-выдавецкую дзейнасць у Адэсу, Кракаў ці Пецярбург. У 1846 г. у сувязі з вострымі сацыяльнымі канфліктамі ў Галіцыі ўлады даручылі яму сакрэтную місію — разведаць настроі насельніцтва ў заходняй Беларусі, і ён напісаў па гэтых пытаннях цікавую дакладную запіску, адзначыўшы глыбокую варожасць мясцовых сялян да памешчыкаў. Да гэтага ж часу адносіцца яго нешчаслівы шлюб з артысткай Аленай Маеўскай, які прынёс яму ў будучым вялікія расчараванні (у 1857 г. жонка пакінула яго і паехала ў Польшчу, дзе прыняла актыўны ўдзел у падзеях 1863 г.). З 1849 г. Кіркор — член Віленскага статыстычнага камітэта, і як сакратар гэтага камітэта (да 1854 г.) ён, па сутнасці, кіраваў усімі яго справамі. Рэдагуючы губернскія «Памятныя кніжкі» (1850—1854), ён пашырыў у іх неафіцыйны раздзел, змясціўшы багатыя матэрыялы па гісторыі і статыстыцы Віленшчыны, у тым ліку яе беларускіх паветаў. Ён вёў шматлікія археалагічныя раскопкі ў Літве і Беларусі, раскапаў (часткова сумесна з археолагам Я. Гышкевічам) каля 1000 курганоў. Ён прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі Музея старажытнасцей у Вільні (1855). Выдатны знаўца гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы, ён падрыхтаваў некалькі папулярных даведнікаў па Вільні і яе ваколіцах, друкаваў шматлікія навуковыя матэрыялы ў рускай і польскай перыёдыцы. Асабліва каштоўнай для беларускай навукі была яго праца «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—1859), складзеная паводле праграмы Рускага геаграфічнага таварыства. У ёй выказана вялікая павага да духоўнага жыцця працоўнага народа, прыведзена больш за 100 беларускіх песень,

200 прыказак, слоўнік беларускай мовы. У 1857—1858 г. Кіркор выдаваў неперыядычны зборнік «Teka Wilenska» («Віленскі зборнік»), забаронены за змяшчэнне пісьма вядомага гісторыка (у той час палітычнага эмігранта) І. Лялевеля. У 1859 г. Кіркор заснаваў у Вільні ўласную друкарню (спачатку ў суполцы, потым перайшла ў яго поўную ўласнасць) і выдаў у ёй шэраг навуковых і мастацкіх кніг, у тым ліку творы Ю. Крашэўскага, Ул. Сыракомлі, Ю. Ляскоўскага. З 1860 г. выдаваў і рэдагаваў галоўную газету літоўска-беларускага рэгіёна «Виленский вестник» (на польскай і рускай мовах), зрабіўшы яе больш змястоўнай і папулярнай.

У 1850-я гады вакол Кіркора ўтварыўся гурток мясцовых (беларускіх, польскіх, літоўскіх) літаратараў і культурных дзеячаў. Да яго належалі або падтрымлівалі з ім сувязі пісьменнікі Ул. Сыракомля, В. Каратынскі, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, А. Адынец, І. Ходзька і іншыя, гісторыкі М. Маліноўскі і Я. Тышкевіч, кампазітар С. Манюшка. Многія з удзельнікаў гуртка былі звязаны з беларускай літаратурай, у сувязі з чым гурток Кіркора часам называюць першым беларускім літаратурным гуртком, падкрэсліваючы тым самым яго значэнне для станаўлення новай беларускай літаратуры. Паводле няпэўных звестак, сам Кіркор «пісаў для народа папулярныя беларускія брашуркі» (М. Багдановіч. Творы. Мінск, 1968. Т. 2. С. 226), але сёння навука нічога пра іх не ведае. Затое добра вядома яго сардэчная прыхільнасць да беларуска-літоўскага краю, які традыцыйна ў тыя часы называўся «Літвой», а яго жыхары — «літвінамі». «Я літвін, — пісаў Кіркор, — ніколі не знішчыць ува мне гэтага пачуцця». У іншых выпадках ён называў сябе «не прыродным палякам, а беларусам». У 1858 г. Кіркор разам са сваімі аднадумцамі ўдзельнічаў у так званым Віленскім альбоме, выдадзеным у гонар прыезду ў Вільню цара Аляксандра ІІ. Гэты ўчынак быў расцэнены многімі як адыход ад традыцый вызваленчага руху і выклікаў крытыку ў розных слаях польскага грамадства, асабліва ў эміграцыі.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на яго долю ў перыяд паўстання 1863—1864 гг., калі Мураўёў-вешальнік ператварыў газету Кіркора ў афіцыйны орган генерал-губернатарскага ўпраўлення. Прыхільнікаў паўстання абурыла дачыненне Кіркора да выпрацоўкі вернападданніцкага адраса мясцовага дваранства цару. Разам з тым Кіркор быў прыцягнуты да следства ў сувязі з удзелам у паўстанні яго жонкі А. Маеўскай, у варшаўскай кватэры якой доўгі час хаваўся кіраўнік паўстанцкага ўрада Р. Траўгут. І хоць следства не знайшло яго віны, тым не менш улады бачылі ў ім працiўніка сваёй русіфікатарскай палітыкі, яму не давяралі, і ён, страціўшы магчымасць працаваць у Вільні, быў вымушаны перабрацца ў Пецярбург, дзе разам з М. Юматавым выдаваў у 1868—1871 гг. газету «Новое время», якая праводзіла курс на збліжэнне рускага і польскага грамадства і таксама была на падазрэнні ўлад. Апрача таго, Кіркор апынуўся ў вельмі цяжкім фінансавым становішчы, і яму пагражала даўгавая турма. Усё гэта вымусіла яго пакінуць Расію і ўжо ў немаладым узросце асталявацца ў Кракаве (тады Аўстрыйская імперыя). Тут ён працягваў займацца навуковай і журналісцкай дзейнасцю, у розныя часы рабіў няўдалыя спробы выдаваць літаратурна-навуковыя альманах «Na dzis» («На сёння», 1872), «Teka Krakowska» («Кракаўскі зборнік», 1884). З прац гэтага перыяду асаблівую цікавасць маюць «Нарысы сучаснай рускай літаратуры» (1873), «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874) з асобным нарысам па гісторыі беларускай літаратуры, «Літва і Русь у гістарычных, геаграфічных, статыстычных і археалагічных адносінах» (1875), нарысы гісторыі і культуры Беларусі ў «Жывапіснай Расіі» (т. 3, 1882; перавыданне ў 1993 г.). Апошнія гады Кіркор цяжка хварэў і жыў у беднасці.

*Г. Кісялёў*

## ПОМНІКІ ЧАСОЎ ПЕРШАБЫТНЫХ

(урывак)

Карамзін мяркуе, што Дудуткі, якія згадваюцца ў «Слове пра паход Ігаравы», знаходзяцца каля Навагрудка — зусім не. Дудуткі, а цяпер Дудзічы, паселішча ў Ігуменскім павеце. Няміга, цяпер невялікая рачулка, упадае ў раку Свіслач. Яна цячэ ў самім Мінску і аддзяляе ад горада прадмесце, што завецца цяпер таксама Нямігай. Але інакш думалі Гербель і іншыя перакладчыкі «Слова». У іх Няміга — гэта Нёман. Так меркаваў і Карамзін. Гербелю з лёгкай рукі Карамзіна нават здалося, што Дудуткі дзесьці каля Ноўгарада Вялікага. Тацішчаў пайшоў яшчэ далей. Ён меркаваў, што Нёман цячэ паміж Мінскам і Полацкам. Між тым Нёман ад Нямігі аддзяляюць 70 вёрст. Няма сумневу, што ў Мінск, альбо каля Мінска, над Нямігаю, якая ў той жа час сапраўды магла быць паўнаводнаю, адбылася крывавая бітва ў 1067 годзе, пра якую сцвярджае аўтар «Слова».

Мы бачым, што знакаміты творца песні ведаў беларускую Нямігу, беларускі Мінск. Ён быў знаёмы і з іншымі старажытнымі паселішчамі гэтай краіны. Паэт кажа: «В Полотске рано ему позвонили к заутрене ■ Софии». Ён прыгадвае і пра старажытнае паселішча Пінскай вобласці: «...Поникло веселье, замолкли «“Песни и трубы в Городне, о смерти его (Изяслава) возвестили”».

Паэт знаёмы не толькі з аднымі гарадамі Беларусі, ён ўзвялічвае полацкую «Соф’ю», але ён ведае і старых багоў, што жылі ў памяці народа, хаця ўжо і хрысціянскага. У яго вешчы Баян — унук Вялесаў, надзяляе мудрасцю і паэтычным натхненнем. Паэт кажа: «Чили веснети было, вещей Бояне, Велесов внуче!».

Вятры ў яго — Стрыбогавы ўнукі, унукі цара мораў і бураў. Але і гэтага мала: забітыя воіны на месцы сечы — гэта ўнукі магутнага Дождж-бога, г. зн. сонца, Перуновы сыны.

А гэтыя багі так доўга ўладарылі ў Беларусі, ды й цяпер не зусім чужыя народу.

Беларусь, з яе велічнымі Дняпром і Дзвіною, з яе дрымучымі лясамі, з непраходнымі тундрамі і балотамі, — царства ваўкоў і коз, лесуноў і русалак, царства вядзьмарак і чараўніц, дзе іх яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя плавілі на азёрах, — хаця і рана прыняла хрысціянства, але надоўга захавала старажытныя язычніцкія паданні і абрады. Беларус і цяпер шануе свайго хатняга пената «Чура», ён і да гэтага часу ведае багоў кожнай пары году і нават апіша знешнасць кожнага. Ён памятае знешнасць Ярылы і зараз Ладай заклінае вясну, ён умее ўвярцецца перад лесуном у лесе, а часам і падмане яго, ён ведае, як падражніць русалак, але не паддацца ім. Ён ушаноўвае сваю Лёлю, багіню вясны, сваю Цёцю, калі яна ўвасабляецца прыгожай, поўнай жанчынай са спелымі каласамі на галаве і з пладамі ў руках, — яго карміліцу, багіню лета, але ён умее і задобрыць і страшнага Зюзю, грознага, смертаноснага Карачуна. Лёля, Цёця, Зюзя — прозвішчы, вядомыя толькі ў Беларусі. Беларус вам раскажа, як Цярэшка здабыў кветку папа-

раці, і як раптам зрабіўся мудрым і магутным. Толькі Беларус ведае падземнага Жыжаля (агонь), распаўсюджвальніка лясных пажараў.

Дзіўнае багацце фантазіі ў паданнях, легендах з такім жывым адбіткам даўно мінулага, з такім наіўным вераваннем ва ўсё таямнічае, звышнатуральнае, прымушае вас, слухаючы песні беларуса, яго легенды, узіраючыся у яго абрады, міжволі зацікавіцца і згаджацца, што высахшы рукаў Сожа і іншыя зніклыя рукавы ці самі рэкі нельга іначай называць, як старымі.

Беларусь — край магіл, курганоў, гарадзішчаў, гарадкоў, урочышчаў, замкаў, замчышчаў, край, дзе ледзь не на кожным кроку вы сустракаеце сляды мінулага ў помніках, казаннях, песнях.

І столькі навуковага багацця, такое мноства матэрыяла амаль некранутага, яшчэ чакае сур'ёзных пошукаў археалагічных, этнаграфічных, філалагічных.

Узбярэжжы Нёмана, Заходняй Дзвіны і Дняпра з іх шматлікімі прытокамі захавалі вельмі шмат дагістарычных помнікаў, што сведчаць пра засяленне Беларускага Палесся нават у глыбокай старажытнасці. У Барысаўскім уездзе Мінскай губерні, у ваколіцах Лагойска і Бярэзіны, у Губскай пушчы і іншых дрымучых лясах налічваюць тысячы магільных курганоў, раскіданых у розных месцах групамі, курган пры кургане, па некалькі сотнень. Такіх жа дагістарычных помнікаў шмат у Навагрудскім і іншых уездах Мінскай губерні. Уся прастора паміж Магілёвам і р. Сож, і таксама ад Шклова, па плыні Бярэзіны і Друці да вусця Прыпяці, усеяна магіламі. Працалюбівы А. Семянтоўскі, у выданых ім у 1867 годзе «Помніках даўніны Віцебскай губерні», знаёміць нас са старажытнасцямі гэтай вобласці. Па сабраных ім звестках аказваецца, што ў Себежскам уездзе 540 курганоў, у Полацкім — 11, у Лепельскім — больш за 300, у Гарадоцкам — каля 100. Але, канешне, гэта не ўсё. Сумленны аўтар падлічыў толькі тыя, існаванне якіх яму было дакладна вядома. У Себежскам уездзе курганы-магілы называюцца сопкамі, у Гарадоцкам — валатоўкамі. Семянтоўскім жа ўказаны — і многія апісаны — больш выдатныя гарадзішчы, замкі і замчышчы.

### Каментарыі

**«Помнікі часоў першабытных».** Друкуецца паводле кн.: Живописная Россия. Отечество наше. — СПб.; М., 1882. Рэпрынтнае перавыданне. — Мінск, 1993. Пераклад з рускай мовы К. Антановіча.

## БРАНІСЛАЎ ЗАЛЕСКІ
## (1820—1880)



Пісьменнік-дакументаліст, самабытны мастак, вучоны, актыўны грамадскі дзеяч Браніслаў Залескі пакінуў свой адметны след у гісторыі і культуры Беларусі XIX ст. Перыпетыі яго багатага на падзеі жыцця вартыя пяра пісьменніка-раманіста, а творчая спадчына — спецыяльнага даследавання.

Паходзіў Браніслаў Залескі з дваранскай сям'і. Нарадзіўся ён у 1820 г. у родавым маёнтку Рачкавічы на Случчыне. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Лецешыне — недалёкім маёнтку дзядзькі Караля Чарнацкага, блізкага сваяка Адама Чарноцкага, вядомага пад імем З. Даленгі-Хадакоўскага, які, дарэчы, таксама выхоўваўся ў гэтым жа доме, толькі значна раней. Кароль Чарноцкі апекаваўся яшчэ і над вядомым у свой час грамадскім і культурным дзеячам, членам віленскага таварыства філарэтаў Д. Ходзькам.

У 1836 г. едзе ў эстонскі горад Дэрпт (сёння — Тарту), дзе паступае на юрыдычнае аддзяленне мясцовага ўніверсітэта. А неўзабаве запісваецца ў антыцарскую арганізацыю, створаную вядомым рэвалюцыянерам Сымонам Канарскім, з выкрыццём якой Браніслаў Залескі разам з паплечнікамі быў арыштаваны і высланы ва Украіну. Дзякуючы хадайніцтву маці, яму дазволілі закончыць навучанне ў Харкаўскім універсітэце. Адтуль ён вяртаецца на радзіму, у сталічную Вільню, дзе зноў звязваецца з дзеячамі рэвалюцыйнага руху. У 1846 г. быў арыштаваны, пазбаўлены дваранства і адпраўлены салдатам у Арэнбурскую крэпасць, потым — у Хіву, у Туркменістан.

У час салдацкай службы Б. Залескі сышоўся з такім жа, як ён сам, ссыльным салдатам Тарасам Шаўчэнкам, вялікім украінскім паэтам і самабытным мастаком. Звяло іх агульнае захапленне выяўленчым мастацтвам. Доўгі час жылі яны ў адной палатцы і разам хадзілі маляваць тутэйшыя краявіды. На цэлых пяць месяцаў абодвум салдатам-мастакам пашанцавала прыняць удзел у экспедыцыі штабс-капітана Анціпава ў горы Кара-Тац. Народжанае ў ссылцы шчырае сяброўства беларуса Залескага і ўкраінца Шаўчэнкі не перапынялася да канца іх жыцця. Калі абставіны іх разлучылі, сябры падтрымлівалі адносіны з дапамогай пошты. Да нас дайшло 16 пісем Шаўчэнкі да Залескага і 10 Залескага да Шаўчэнкі. З гэтых лістоў відаць, наколькі глыбокім было іх сяброўства.

Калі Б. Залескаму дазволілі вярнуцца на радзіму, у яго Рачкавічы, ён піша адтуль Т. Шаўчэнку 18 верасня 1856 г.: «Я шэсць тыдняў жыву сярод сваіх, дыхаю родным паветрам, гляджу на родныя лугі і лясочкі, на ўсё дарагое і маіх сяброў і блізкіх... Ах, дружа мой! Як жа мне хацелася даць і табе гэтага хлеба! Бачыць цябе на мілай радзіме, сярод сваіх,

якіх ты так шчыра любіш». У гэтым жа лісце Браніслаў Залескі запрашае Тараса Шаўчэнку да сябе ў Рачкавічы.

Украінскі кабзар, чакаючы дазволу вярнуцца з ссылкі дадому, у пісьме да свайго беларускага сябра складае такі маршрут паездкі на радзіму праз Беларусь: «Замест пецярбургскай чыгункі я выбіраю простую паштовую дарогу — смаленскую ці віленскую — прыязджаю проста ў Рачкавічы. Сустракаюся з табой, плачу, цалую рукі тваёй шчаслівай маці, цалую твайго бацьку, сясцёр, чарнавокіх і блакітнавокіх siostrzencow тваіх, і ў абдымках поўнага шчасця адпачываю, паўтараючы радок вялікага паэта (А. Міцкевіча. — *К. Ц.*): "Мала паветра ўсёй Аравіі напоўніць мае вольныя грудзі". Замест Аравіі я буду гаварыць Літва». Праўда, мара Т. Шаўчэнкі пагасціць у свайго сябра на Случчыне, як і жаданне прыехаць з ім разам на вучобу ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, не спраўдзілася... Украінскі Кабзар прысвяціў беларускаму сябру верш «Як мы былі яшчэ казакамі».

У 1860 г. пісьменнік змушаны пакінуць родны край і выехаць у эміграцыю. Жыў у Дрэздэне, Рыме, Парыжы. Калі ў 1863 г. у Беларусі выбухнула паўстанне, дапамагаў паўстанцам у куплі зброі. У Парыжы ўдзельнічаў у створаным землякамі-эмігрантамі Гісторыка-літаратурным таварыстве, быў яго сакратаром і рэдактарам «Штогоднікаў».

Б. Залескі — аўтар ілюстраванага (22 афорты) выдання «Жыццё кіргізскіх стэпаў» (1865), кніг «Польскія выгнаннікі ў Арэнбургу» (1866), «Адмена прыгонніцтва ў Літве», «З жыцця літвінкі» (пра беларускую мастачку Гэлену Скірмунт, 1876). Акрамя таго, ён пакінуў цікавыя ўспаміны пра перажытае і сваіх сучаснікаў, цікавыя творы выяўленчага мастацтва, у тым ліку шэраг малюнкаў пра паўстанне 1863—1864 гг. у Беларусі. Сябраваў з Ц. Норвідам, перапісваўся з А. Герцэным.

*К. Цвірка*

## З ЖЫЦЦЯ ЛІТВІНКІ

(фрагменты)

Тым часам з Вільні, куды была звернута агульная ўвага, прыходзілі найбольш хвалюючыя весткі. Былая сталіца стала сапраўдным сэрцам Літвы. Нядаўна там праводзіўся працэс па справе Сымона Канарскага[1], і шмат сем'яў з усёй правінцыі, якіх закранула гэта няшчасце, знаходзіліся ў горадзе. Дадзеная справа ў той час дамінавала над усім. Да яе былі прыцягнуты людзі рознага грамадскага стану: студэнты медыцынскай акадэміі, апошняй рэшткі былога віленскага ўніверсітэта, мяшчане і літаратары, заможныя зямельныя ўладальнікі і нават былыя маршалкі, пасівелыя на службе грамадству. Ніхто не пытаўся пра тое, якія былі палітычныя прынцыпы Канарскага, пасланцом якога боку ён мог быць, бо гэтых разыходжанняў, такіх распаўсюджаных на Захадзе і часта раздражняючых, тады ў нас яшчэ не ведалі, грамадства іх не ўсведамляла. Зняволеныя хацелі незалежнасці Радзімы. Гэта ведалі паўсюдна і больш ні аб чым не пыталі.

Пакуль праводзілася следства, яго ход ажыўляў, захапляў грамадскую думку. Паўсюль былі вядомы ўсе яго падрабязнасці. Яны былі штодзённым аб'ектам размоў. Малыя дзеці гулялі ў героя і ката, у Канарскага і Трубяцкога, што кіраваў следствам.

Вялікая высакароднасць і моц характару, якую прадэманстраваў Канарскі, поўная велічы яго смерць у прысутнасці ўсяго насельніцтва горада, нібы на трыумф сабранага, акружылі памяць пра яго нейкім арэолам святасці, якая, здаецца, належала яму яшчэ да муроў астрога. Расстраляны на Пагулянцы стаў амаль нацыянальнай святыняй. Асуджаных разам з ім, якіх вывозілі адных на Каўказ, іншых — углыб Расіі і на сібірскія руднікі, выпраўлялі з вялікім спачуваннем. Імёны іх, усім вядомыя, паўтараліся з пашанай, пра іх складалі паданні. Ні адно з гэтых імёнаў ведала ўжо і наша дзяўчынка, яны належалі суседзям і сябрам сям'і, бо Канарскі доўга гасцяваў на Піншчыне, і тая старана першых ахвяр следству даставіла. Цяпер жа Гэлена апынулася ў месцы, дзе не так даўно ўся гэтая драма разыгралася, дзе муры самі аб ёй казалі, а памяць у сэрцах трывала жыла. Тыя ўспаміны атачылі яе з усіх бакоў, бо ўсё навокал жыло імі. Дмахоўскі, які сам біўся ў 1831 годзе, цалкам быў імі працяты. На краявідах, якія з гэтага часу маляваў, эмісар заўсёды быў альбо дзе-небудзь пад дрэвамі, альбо на пароме ці каля асвечанай месяцам капліцы і г. д., і тым, хто глядзеў палотны, мастак ціха распавядаў легенду аб светлай памяці Сымоне. Не раз яе чула і ўлюбёная вучаніца. Але і гэта не ўсё.

Найбліжэйшай сяброўкай маці нашай Гэлены была жонка іх кроўнага — пані Канстанцыя Скірмунт з Сулістроўскіх. Яе родная сястра, пані Антаніна Снядэцкая, праз увесь час тых падзей жыла ў Вільні і была бясспрэчна найвыбітнейшай постаццю ў грамадстве тых часоў, увасобіўшы ў сабе ўсе найшляхетнейшыя яго пачуцці. Хто яе там не ведаў? Галота ведала яе шчодрасць і міласэрнасць, цэрквы — гарачую набожнасць, патрыёты — найглыбейшыя нацыянальныя пачуцці.

Сама яе постаць, заўсёды пакрытая жалобай, здавалася, не належала да гэтага свету, асабліва калі яна была ўсхвалявана думкамі альбо найбольш узнёслымі патрыятычнымі пачуццямі. У такія моманты яна здавалася часткай тых нябесных хораў, якія ва ўяўленнях паэта з'яўляліся на досвітку на яго небе. Антаніна Снядэцкая ўмела вельмі далікатна задаволіць патрэбы хворых, дадаць мужнасці занепалым, прыняць да свайго сэрца кожны смутак, падтрымаць няўпэўненых, пахваліць усялякую мужнасць і ўзняць дух самаадданасці. Вучыла, што перад ворагам трэба захоўваць найвышэйшую годнасць і ніякіх, як казаў паэт, з крывадушнасцю змоў не мець. Сама, здольная да найвышэйшага гераізму жанчына, яна была сярод цяжкіх выпрабаванняў, разумела сэнс сапраўднай ахвяры, і ў пакорнай малітве не стамлялася.

Пасля крывавай развязкі справы Канарскага следчыя камісіі імкнуліся адшукаць новыя ахвяры і працягвалі весці менш важныя, распачатыя пасля першай, справы, імкнуліся дацягнуцца да асобаў, што польскаму грамадству нібы задавалі тон і былі вядомыя сваімі патрыятычнымі пачуццямі. Гэтыя камісіі ўвесь свой высілак скіравалі на ўцягванне ў справу пані Снядэцкай. Падкуплены паскуднік надаў характар палітычнай змовы простым пярсцёнкам, якіх яна раздала каля дваццаці розным асобам на памяць аб смерці Канарскага, і камісія да гэтай спланаванай хлусні паставілася з усёй сур'ёзнасцю і адважылася на гэтай падставе прыцягнуць пані Снядэцкую

да адказнасці, зняволіць яе і зацягнуць справу да бясконцасці. Снядэцкая сядзела за кратамі, калі Гэленка з маці гасціла ў Вільні. І калі лекцыі Дмахоўскага ў нейкай ступені адкрылі ёй свет мастацтва, то ўсе гэтыя ўражанні павінны былі скалануць маладзенькае, але да іх ужо прыгатаванае сэрца непараўнальна глыбей, дзейсна ўплываючы на далейшае развіццё пачуццяў.

* * *

Калі Гэлена вярнулася дадому, яе зноў акружыла цішыня палескай вёскі, сярод якой яна магла парадкаваць і надалей снаваць атрыманыя ў Вільні ўражанні. Аднаўленае навучанне цяпер чаргавалася з частымі шпацырамі ў таварыстве бацькі, а часам з коннымі прагулкамі, якія былі прадпісанымі для падтрымання сіл і ў якіх з кожным разам знаходзіла ўсё больш задавальнення і нават пажытак для думак. Аднак хутка яе бацька памёр, і яна, увесь час пакутваючы з-за хваравітасці вачэй, прыпыніла ўсялякае сістэматычнае навучанне і пад канец чатырнаццатага года жыцця вымушана была ад яго рашуча адмовіцца. Ад гэтага моманту вучылася самастойна, як вучыліся звычайна выключна адораныя душы: далучалася да прыроды ў кантакце з самой сабой, праводзячы нябачную для непасвечаных унутраную працу, пры якой інтуіцыяй уласнага духу спазнавала тое, што іншыя дасягалі ламаючы галаву, апярэджвала равеснікаў і дасягала недасягальных для іншых вышыняў. Гэта назаўсёды стала яе адметнай рысай. Абуджаны дух у ёй не ведаў спакою, працаваў да скончэння. Тых, хто толькі павольнае і сістэматычнае разумее развіццё, неаднаразова ў маладосці ўражвала тым, што некаторыя называюць эксцэнтрычнасцю, а іншыя дзівацтвам. Таму, хто глядзеў на яе збоку, магло падацца, што ў асобы не было патрэбных у навучанні гармоніі і адзінства, але ўсё ж такі цяжка было знайсці больш цэласнае развіццё на працягу ўсяго жыцця. Ёсць такія натуры, што як дрэвы падатлівыя на прышчэпкі і з лёгкасцю прымаюць чужыя парасткі, а калі апошнія разгарнуцца, пакрываюцца нават запазычаным лісцем і кветкамі. Ёсць і іншыя, у якіх не толькі сукі, але нават дробныя галінкі і рознае лісце аж да найменшага пад уплывам тае таямнічае сілы, якая спавіта ў іх зярняці. У нашай Гэлены ўсё перапрацоўвалася на ўнутраным вогнішчы. Заўсёды любіла чытаць, бо розум працаваў увесь час.

* * *

Яна некалькі гадоў правяла з маці ў вёсцы. Агульны стан здароўя вымагаў шмат руху, і ў яе развілася жывая спадоба да коннай язды. Клапатлівая маці дала ёй надзейнага і лагоднага верхавога каня, на якім Гэлена ажыццяўляла доўгія самотныя вандроўкі. Шырокія прасторы, што належалі Калоднаму, з усёй сваёй прыродай пінскіх ваколіц спрыялі тым падарожжам. На шырокіх лугах там раслі разложыстыя дубы, у нізінах шумелі чараты, урадлівы чарназём палёў ахіналі густыя лясы, над соннымі балотамі ўзносіліся купіны вольхаў ці белых бяроз, частыя твані перасякаліся гацямі. Увесну і ўвосень значныя прасторы пакрывала вада, па якой на чоўне плыў спрадвечны жыхар гэтых мясцін — пінчук, знаўца ўсіх таямніц гэтых пушчаў, усіх сцежак, усіх схованак, бродаў. Поўна там было і таямніц для

розуму, што марыць, поўна было гульні святла і ценяў для мастацкага вока, поўна было паэтычнасці, уласцівай гэтым мясцінам. Маладая Гэлена на сваёй любімай Гардзюце (так звалася яе кабыла), «дыхаючы, як кажа прапаведнік, пахам кветак, якіх чалавек не садзіў, услухоўваючыся ў шум лясоў, якіх чалавек не садзіў», шмат там «упалявала мараў». А ў частых сустрэчах з мясцовым людам сэрцам спазнала і палюбіла вялікія маральныя скарбы, спавітыя на дне тых простых і неразгорнутых душ. У тых конных выправах яе заўсёды суправаджалі альбом для малявання і аловак, і часта конь, прывязаны да дрэва, чакаў сваю пані, якая рабіла накіды для будучых пейзажаў альбо разважала ў цішы.

## З УСПАМІНАЎ ПРА ТАРАСА ШАЎЧЭНКУ

Шаўчэнка быў асуджаны ў салдаты ў Арэнбургскі корпус. На асуджальным прысудзе цар Мікалай ўласнаручна напісаў, што яму забараняецца «пісаць, спяваць і маляваць», — вось таму, каб усяго гэтага сабе не дазваляў, за ім адразу і пачалі сачыць. Выслалі яго ў невялікую крэпасць на мяжы стэпу, што называлася Орскай, там ён і служыў салдатам.

Але ў 1849 (1848) годзе капітан Бутакоў, які тады стварыў на рацэ Сыр-Дар'і судны і складаў карту Аральскага мора, узяў яго з сабой з дазволу корпуснага начальніка генерала Обручава. Там Шаўчэнка маляваў профілі берагоў аральскіх і стэпавыя крэпасці.

Праз два гады ён з Бутаковым вярнуўся ў Арэнбург і карыстаўся параўнальна вялікай свабодай: да службы яго не прыцягвалі, ён маляваў партрэты і гэтым жыў. Злы чалавек данёс у Пецярбург, прызначылі следства — няшчасны паэт праседзеў цэлы год у турме разам з разбойнікамі, а затым, па загадзе са сталіцы, яго саслалі салдатам у невялікую крэпасць на ўсходнім беразе Каспійскага мора, дзе ён знаходзіўся да самага свайго вызвалення ад службы, што адбылося да 1859 (1857) года.

Там я з ім аднойчы прабыў цэлае лета, у 1852 (1851) годзе. На Мангышлак быў накіраваны горны афіцэр Анціпаў для пошукаў залежаў каменнага вугалю; да яго атраду былі прыкамандзіраваны Турно, пляменнік генерала Дэмбінскага, і я: у Новапятроўску выпрасілі мы яго ўзяць яшчэ і Шаўчэнку.

У адным намёце, а дакладней у так званай Кіргізскай кібітцы, пражылі мы ўсё лета. Шаўчэнка маляваў і адчуваў сябе свабодным. З гэтага часу завязалася ў мяне з ім перапіска.

* * *

Я звычайна пасылаў Шаўчэнку кнігі. «Мёртвыя душы» Гогаля чыталі ў той час і рвалі адзін у аднаго з рук ва ўсёй Расіі.

Паколькі Шаўчэнку забаронена было маляваць, і аднойчы ўжо ён за партрэты патрапіў у турму, так для засцярогі ў лістах мы называлі малюнкі «шерстяной материей». Два экземпляры ваўнянай матэрыі азначала дзве акварэлі. Прадаваў я іх звычайна ў Арэнбургу, але часам адпраўляліся яны ва Украіну, дзе іх асабліва шанавалі з-за любові да мастака-паэта.

Пасля прызначэння Пяроўскага генерал-губернатарам і камандзірам корпуса ўсе сасланыя мелі надзею на палягчэнне сваёй долі; меў яе таксама і Шаўчэнка. Таму звярнуліся з просьбай аб дазволе яму намаляваць абраз для царквы ў Новапятроўску. Просьба з найлепшымі водгукамі мясцовага начальства была адпраўлена ў Пецярбург да цара Мікалая, аднак той адмовіў. Гэта глыбока ўразіла няшчаснага паэта, пазбаўляючы яго ўсялякай надзеі.

* * *

Падчас нашага сумеснага падарожжа (у 1851 г.) па стэпах Шаўчэнка ў адзін цудоўны дзень, у хвіліну асаблівай нястрыманасці і шчырасці, сказаў мне, што шкадуе аб сваіх «Гайдамаках» і аб усім гэтым кірунку, што цяпер ведае Красінскага і нашых паэтаў і ў душы сябе асуджае. Аднак дадаў пры гэтым: «Ты даруй, гэта было ў самай маёй крыві, бо я родны ўнук аднаго з гайдамакаў, і гэта няхай табе ўсё растлумачыць».

Падчас гэтага падарожжа Шаўчэнка выканаў для мяне чорнай крэйдай свой партрэцік. Партрэцік быў дзіўна падобны: замест люстэрка мастак карыстаўся бляшанкай з вадой, таму што іншага люстэрка ў нас у стэпе не было. Не было таксама ні брытвы, ні цырульніка, і таму мы адпусцілі бароды, хаця абодва былі салдатамі.

* * *

Калі звярталіся да Пяроўскага з хадайніцтвамі аб Шаўчэнку, той распавядаў наступны анекдот. Шаўчэнка, працуючы ў Кіеве выкладчыкам малявання, апранаўся ў світку і хадзіў па корчмах, дзе збіраліся мужыкі, пры гэтым у яго былі поўныя кішэні пшаніцы. Прывёўшы сваіх слухачоў у добры настрой гутаркай ды песнямі, даставаў адно зярнятка і, паклаўшы яго на стол, пытаўся, што яно можа адлюстроўваць. Затым сам адказваў, што яно адлюстроўвае цара. Потым вакол яго клаў шэраг такіх жа зярнятак і называў іх міністрамі, генераламі, губернатарамі. Наступны круг складалі ніжэйшыя чыноўнікі, за ім ішлі памешчыкі, так званыя паны. Выклаў усё гэта, казаў мужыкам, каб добранька прыгледзеліся да гэтага зерня, а тады даставаў з кішэні поўную жменю пшаніцы і засыпаў ёю ўсе выкладзеныя колы, прыгаворваючы: «А гэта мы, мужыкі. Знойдзеце цяпер цара, і генерала, і губернатара, і памешчыка?».

Расказаўшы гэта, Пяроўскі звычайна заканчваў тым, што чалавек, які забаўляецца такім чынам, небяспечны, і пусціць яго да народа нельга. Такая была прычына таго, што Шаўчэнка, нягледзячы на шматлікія намаганні, быў вызвалены пазней за іншых.

У 1860 годзе я бачыў у Шаўчэнкі ў Пецярбургу каля дзясятка малюнкаў (хутчэй за ўсё, акварэль з сепіяй), што складалі сюжэт прыпавесці «Пра блуднага сына». Дзе яны цяпер — не ведаю.

**Каментарыі**

**«З жыцця літвінкі».** Пераклад з польскай мовы В. Хурсіка. Друкуецца паводле выд.: Залескі Б. З жыцця літвінкі. — Мінск, 2009.

[1] Сымон Канарскі (1808—1839) — дэмакратычны публіцыст, удзельнік лістападаўскага паўстання 1830 г. У складзе корпуса генерала Хлапоўскага ўдзельнічаў у бітве супраць рускіх пад Гайнаўшчызнай.

Пасля падаўлення паўстання выехаў за мяжу. У 1835 г. вярнуўся ў Польшчу, дзе стварыў магутную падпольную арганізацыю, якая мела свае аддзелы ў Беларусі, Літве і Украіне. У Вільні ўзначаліў кола студэнтаў медыцынскай акадэміі, арганізаванае Ф. Завішам. Сваім патрыятычным запалам, вальнадумствам яму ўдалося з'яднаць вакол сябе больш за 3000 чалавек.

Арыштаваны паліцыяй 27 мая 1838 г. Падчас следства з-за здрады арганізацыю Канарскага раскрылі. Многія яе ўдзельнікі былі сасланы ў Сібір. Сам Сымон Канарскі быў расстраляны ў Вільні 27 лютага 1839 г.

**«З успамінаў пра Тараса Шаўчэнку».** Пераклад з рускай мовы К. Антановіча паводле выд.: Залеский Б. Ф. Из заметок о Шевченко. — М., 1962.

# ЮЛЬЯН ГАРАЙН
# (1821—1883)



Пісьменнік, падарожнік Юльян Гарайн нарадзіўся ў мястэчку Радашковічы Віленскага павета (цяпер г. п. Радашковічы Маладзечанскага раёна). Пісаў на польскай мове. Скончыў Мінскую гімназію. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. У 1840—1850-я гады жыў у Мінску. Сябраваў з В. Дуніным-Марцінкевічам. На пастаноўку яго «Ідыліі» адгукнуўся артыкулам «Фізіялогія прыказак», апублікаванай у газеце «Варшаўскі дзённік». Той жа артыкул быў змешчаны ў празаічным зборніку Гарайна «Затрачаныя хвіліны» (1858). Аўтар успамінаў пра У. Сыракомлю «З жыцця паэта» (1886), дзе падрабязна апісаў знаходжанне паэта ў Мінску і абставіны яго знаёмства з Дуніным-Марцінкевічам. У 1870-я гады жыў у ЗША, дзе сустракаўся з Г. Сянкевічам і выдаў аповесць «5 П—1 Р» (Чыкага, 1878). Выкарыстоўваў беларускія народныя паданні, пісаў пра цяжкае жыццё беларускага прыгоннага сялянства (аповесць «Д'ябал фарэйтарам»).

*А. Мальдзіс*

## З ЖЫЦЦЯ ПАЭТА

### Успаміны пра Уладзіслава Сыракомлю

(урыўкі)

У шэрагу ўспамінаў пра маю маладосць самае значнае месца займае знаёмства і стасункі з заўчасна памерлым нашым паэтам Людвікам Кандратовічам, шырокавядомым пад псеўданімам Уладзіслава Сыракомлі.

Каля 1850 года я прыехаў у Мінск на майскія кантракты. Сярод шмат чаго іншага ў мяне была мэта прадаць свой невялікі фальварак Рабушкі за мілі тры ад Мінска...

Маёнтак гэты быў зусім нязначнай вартасці: некалькі валок угоддзяў, усяго тры падданыя, зямля — самага нізкага гатунку, на лугах рос сухі сівец, якога нават коні не хацелі есці, а ваду трэба было вазіць у бочках з суседскіх вёсак ці фальваркаў...

Прыехаўшы ў Мінск, я сабраў фактараў і даручыў ім знайсці купца на Рабушкі, паабяцаўшы заплаціць за гэта досыць высокі працэнт.

Назаўтра, ледзь бліснула ў акно спальні сонца, мяне пабудзіў нейкі шум у перадпакоі. На мой званок увайшоў лёкай Франак,

а ў прыадчыненых дзвярах паказалася пояснелае аблічча майго ўлюбёнага фактара Жыські:

— Што такое? — закрычаў я з гневам. — Чаму мяне пабудзілі?

— Ды гэты, проша пана, Жыська ўжо тры разы прыходзіў, каб абавязкова сустрэцца з панам. Кажа, што мае вельмі пільны інтарэс.

— То чаму ж ты яго за дзверы не выпхнуў?

— Я й хацеў зрабіць гэта, але ён не даваўся.

— Як так? Супраціўленне, непаслушэнства? Чаму яго не сапхнуў са сходаў ці не выкінуў праз акно?

Жыська, які ўсё гэта слухаў з уласцівай яму мілай усмешкай, увайшоў у пакой, да майго ложка і прамовіў з адметным толькі яму меладычным голасам:

— Ясны пан заўсёды жартуе. Выкінуць Жыську праз акно! А што ясны пан рабіў бы без Жыські?

— Я знайшоў бы тузін такіх жулікаў!

— Дык яны б і ашуквалі яснага пана. Ай! Што гэта каштавала б яснаму пану? А так адзін толькі я — ці не так?

ПераканаHы такім лагічным аргументам, я папытаўся ўжо лагадней, што прывяло яго да мяне так рана.

— Я прыйшоў павіншаваць яснага пана.

— Мяне? З чым?

— Ёсць з чым. Калі толькі пан захоча, то можна хоць цяпер прадаць Рабушкі за гатоўку, так, за гатоўку...

Я тут жа падняўся з ложка і пачаў апранацца, ■ Жыська хітра ўсміхацца.

— Ну-ну, кажы, любы Жыська.

— Цяпер ужо і «любы», а толькі ясны пан казаў: «Выкінуць Жыську цераз прыступкі за акно».

— Даруй мне.

— Ну то цяпер я адкрыю яснаму пану вялікі сакрэт.

Жыська замкнуў дзверы і наблізіўся да мяне:

— Учора прыехаў з Міру адзін засцянковы шляхціц, які хоча купіць малы фальварак — некалькі валокаў зямлі ■ лесам, акурат такі, як Рабушкі.

— А ці ёсць грошы ў таго шляхціча?

— Ну як бы я казаў яснаму пану пра купца без грошай?..

Мы дамовіліся, каб Жыська як найхутчэй прывёў сюды купца. Жыська праінфармаваў мяне, як хваліць мой фальварак і як таргавацца. Я сказаў, што трэба купцу паказаць мае Рабушкі.

— Не трэба гэта, — перапыніў мяне Жыська. — Ён такі, ён такі... Ну, ясны пан павінен разумець... Калі б добра расхваліць, то ён, і не бачыўшы, купіць. Паказаць яму карту, расказаць... Калі ясны пан паедзе з ім туды, то ўсё сапсуе. Калі так, то я сам яго завязу.

Тут я не згадзіўся. Сказаў яму, каб праз гадзіны дзве прывёў да мяне гэтага шляхціца... З грашыма...

І вось праз нейкі час расчыніліся дзверы і ўляцеў задыханы Жыська:

— Ужо едзе, ужо едзе! Няхай толькі ясны пан мае розум.

Праз хвіліны дзве ў мой пакой разам з Жыськам увайшоў невысокага росту чалавечак, праўда, трохі вышэйшы за мяне. Быў ён нядбала апрануты, але з разумным тварам. Нязграбна пакланіўшыся, запытаўся нясмелым ціхім голасам:

— Гэта ёсць пан Юльян Гарайн?

— З кім маю гонар?..

— Я — Людвік Кандратовіч.

Мы павіталіся.

— Наш агульны прыяцель пан Жыська казаў, што ў ваколіцах Мінска пан прадае невялікі фальварак. Я купіў бы яго.

— Вельмі прыемна.

Я даў знак Жыську выйсці. А мы, застаўшыся сам насам, селі і я пачаў расхвальваць Рабушкі, прыгадаў пра падданых...

— Дык у пана ёсць там падданыя? — запытаў Кандратовіч. — Жыська нічога мне пра гэта не казаў.

— У мяне там тры хаты, адзінаццаць душ усіх.

Кандратовіч устаў і ўзяў шапку.

— Прашу прабачэння за турботы. Я хачу купіць фальварачак без падданых. Сам з сям'ёй хацеў бы там гаспадарыць. Кланяюся пану.

На гэтым усё і скончылася б, калі б спрытны Жыська, які ўсё чуў за дзвярыма, раптам не ўвайшоў у пакой.

— Ну й што, што падданыя? — выкрыкнуў ён. — Гэта ж панскае права. Тут можна займець карчэмку. Іх прылучыць да яе. Іншы б Богу дзякаваў, што ёсць падданыя.

Але госць усё роўна сабраўся выходзіць. Тады ў галаву Жыську ўскочыла геніяльная думка:

— Што ж адразу выходзіць? Пра ўсё можна дамовіцца. Я на месцы яснага пана зрабіў бы так: перасяліў бы гэтых сялян у вялікі маёнтак пана на Случчыне. О, яны б былі б вельмі задаволеныя...

Паверыўшы ў гэта, госць згадзіўся паехаць са мной у Рабушкі...

Быў цудоўны вясенні дзень. Зялёныя лугі і палеткі, бальзамічны пах толькі што зазелянелых бяроз абапал тракту настройвалі на добры лад. Мы пачалі перакідвацца словамі.

— А ці ёсць там лес?

— Ёсць, валокі дзве.

— Які?

— Хвойны.

Не хацеў я расчароўваць госця, што там толькі змрочны яловы лес.

— А бярозы ёсць?

— А нашто яны пану?

— У мяне дзеці, — усміхнуўся госць. — А пан ведае, што бярозавым дубцом добра з іх дух кепскі выганяюць...

— О, на гэта хопіць...

Я слухаў гэтага маладога чалавека з зайздрасцю: як добра засцянковы шляхціц размаўляе па-польску, лепей за мяне.

— А дзе пан жыве?

— Я жыву паміж Мірам і Наваградкам.

Гэта растлумачыла маю загадку. Я ведаў, што ў Наваградскім павеце, нават па засценках, добра ведаюць польскую мову. О Наваградак! Гэта ж даўнейшая сталіца Літвы! Калыска Міцкевіча!..

Потым мой госць запытаў:

— А ці хопіць там лугоў для пракармлення пары коней і некалькіх кароў?

Можаце яшчэ дадаць з тузін авечак і гэтулькі ж коз, — трохі перабольшыў я.

— А ці ёсць там салаўі?

На гэтае неспадзяванае пытанне я павярнуўся да яго, каб убачыць, жартуе ён ці не. А можа, і праўда, ёсць у нашых літоўскіх засценках такія замілаваныя ў прыроду людзі?

— А д'ябал іх ведае, — адказаў я не без здзіўлення. — Павінны быць.

Тут я пачаў казаць яму пра вельмі выгаднае размяшчэнне маёнтка:

— Ад Мінска да Рабушак — мілі тры. Ад Радашковіч, дзе некалькі разоў на год, прыкладам, на дзень Святой Тройцы, адбываюцца кірмашы, якія не на шмат саступаюць мірскім, — міляў дзве. А вунь перад намі Сёмкаў, Хмараў з палацамі ў прыгожым французскім стылі. Бачыш пан, як лёгка тут можна здабываць прадукцыю. Пры тым якія тут ураджаі! Жыта і пшаніца — як шчотка, хутка пачнецца красаванне. Ячмень такі густы бывае, што аж палягае часам.

— Відаць, што тут зямля ўрадлівая. Але яе не параўнаць з валынскаю.

— Пан быў на Валыні?

— Ездзіў туды летась з Маўрыцыем Вольфам.

— Выдаўцом?

— Але, пане.

— Ці можна папытаць, з якой мэтай?

— Не сакрэт, ездзіў туды да Крашэўскага.

— Якога Крашэўскага?

— Юзафа Ігнацыя, аўтара паэтычнай трылогіі пра Вітаўта і іншых цудоўных раманаў.

— І пан асабіста пазнаёміўся з ім?

— Не толькі пазнаёміўся, але і два тыдні гасціў у яго.

— Шчаслівы. Мо, ён крэўны пана?

— Не. Хіба што крэўны духам, бо ён літаратар, а я таксама спрабую нешта пісаць. Ён паэт, і я складаю вершы.

— Ці друкаваў што пан?

— Часцяком выступаў у друку. Нават друкаваўся ў «Рочніку Літэрацкім» Падбярэскага.

— Пан назваўся Людвікам Кандратовічам?

— Гэтак, пане. Гэта маё сапраўднае імя.

— Прызнаюся, у нашым друку не сустракаў яго. Хоць і няблага сачу за развіццём нашай літаратуры.

— Але, можа, пан сустракаў мой псеўданім — Сыракомля?

— А як жа! Дык пан і ёсць той таямнічы Уладзіслаў Сыракомля, пра якога даўно ва ўсіх распытваю? Перакладчык польска-лацінскіх паэтаў, аўтар многіх цудоўных гавэнаў, «Выбрыкаў вясёлага гумару»?

— Павінен прызнацца, гэта — я.

— І я толькі цяпер пра гэта дазнаюся? Пан Людвік! Пан Уладзіслаў! Пан, які ўжо на самым пачатку сваёй творчасці стаў аздобай нашай літаратуры! А я гэтак кепска да цябе паставіўся... Даруй мне, прабач так шчыра, як я цябе прашу!

— Ды няма за што пана прабачаць...

— Не кажы гэтак. Прызнаюся, я хацеў цябе ашукаць, прадаючы Рабушкі. Ты змарнеў бы там з сям'ёй: зямля там дрэнная — сухая, няплодная, па лугах расце сівец, лес там яловы, вады няма. Салаўі туды ніколі не залятаі. Там бы і тваё паэтычнае натхненне прапала. Гэтае месца не для цябе! Мы ўжо недалёка ад тых праклятых Рабушак, якіх ні мой бацька, ні я ніяк не можам пазбыцца. Не бачу патрэбы туды ехаць, бо я іх табе не прадам!..

*1850—1860*

**Каментарыі**

**«З жыцця паэта. Успаміны пра Уладзіслава Сыракомлю».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі зроблены паводле выд.: Horain Julian. Z życia poety: wspomnienia o Władysławie Syrokomli / skreślił J. Horain. — Lwów, 1886.

# УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ (1823—1862)



Уладзіслаў Сыракомля... Гэта імя ў сярэдзіне XIX ст. было добра вядома ва ўсіх кутках Беларусі. Шчыры абаронца простага люду, выдатны паэт, вядомы краязнавец Уладзіслаў Сыракомля (сапраўднае імя — Людвік Кандратовіч) стаяў у самым цэнтры антыпрыгонніцкага руху. Захоплены глыбокім дэмакратызмам паэзіі Сыракомлі, яе народнасцю, рускі крытык М. Аксакаў назваў яго «сапраўдным народным паэтам, народным гусляром». Высокім тытулам народнага паэта надзяляюць Ул. Сыракомлю ў розныя часы і польскія літаратуразнаўцы.

Аднак паўстае пытанне: які народ мае гонар назваць Ул. Сыракомлю сваім песняром.

«Я — ліцвін», — казаў неаднаразова паэт і падкрэсліваў, што і яго прапрадзед быў «шчырым ліцвінам». «Літоўскім лірнікам», «літоўскім паэтам», «песняром Літвы» называлі яго ў польскім, рускім і замежным друку». Ды і сам У. Сыракомля прызнаваўся: «Пра адно я толькі спяваю, хоць на розныя ноты: хай жыве наша Літва, хай жывуць ліцвіны!».

Літвою для Сыракомлі была Беларусь. Тут (вёска Смольгаў на Любаншчыне) у 1823 г. нарадзіўся Ул. Сыракомля, тут — спачатку на Палессі, а потым на Нясвіжчыне і Стаўбцоўшчыне — правёў ён асноўную частку жыцця. Апошнія дзесяць гадоў (1853—1862) Ул. Сыракомля пражыў у фальварку Барэйкаўшчына, што на дарозе з Вільні да Ашмян. Тут паэт таксама апынуўся сярод беларускага насельніцтва. Інакш кажучы, Ул. Сыракомля, як адзначаў літаратуразнавец А. Брукнер, «сапраўдны пясняр беларускай зямлі, ні ў якім разе не літоўска-жмудскай...».

У. Сыракомля пісаў на польскай мове, мове тагачаснага пісьменства і справаводства ў Беларусі. Але былі ў яго і вершы на беларускай мове. На жаль, да нас дайшла толькі мізэрная частка беларускай спадчыны вясковага лірніка, як называлі яго сучаснікі, — вершы «Добрыя весці» і «Ужо птушкі пяюць усюды»... Але ў сапраўднасці беларускіх вершаў было значна больш. «Калі да нас дайшло так мала беларускіх вершаў Кандратовіча, — слушна заўважае даследчык яго творчасці польскі літаратуразнавец Ф. Беляк, — то вінаваты тут у пэўнай меры ваенныя падзеі, але бясспрэчна, што многія з іх кружылі ў рукапісах. Як вядома, і польскія творы, напрыклад, «Вызваленне сялян», «Авідзій на Палессі», «Сахар-Мароз», хадзілі толькі ў рукапісах. А з беларускім пісьменствам было яшчэ горш, нават не было дазволена друкаваць пераклад «Пана Тадэвуша». Законспіраваныя беларускія тэксты Кандратовіча жылі, але ва ўмовах тайнай прэсы, што нам сёння перашкаджае па-сапраўднаму ацаніць гэтую надзвычай няпоўную творчасць паэта».

Уладзіслаў Сыракомля шырока адчыняў дзверы беларускай моўнай стыхіі і ў сваіх польскіх творах. Але пры друкаванні занадта старанныя рэдактары імкнуліся «падгладзіць», «падшліфаваць» мову паэта. Не па-

збегнуў гэтага і найбольш сумленны з іх — складальнік дзесяцітомнага збору твораў паэта ў 1872 г. Вінцэсь Каратынскі, які, як зазначыў польскі літаратуразнавец В. Кубацкі, знішчаў «усялякія рэгіянальныя рысы Сыракомлі — дыялектызмы, правінцыялізмы, гвалтоўна падцягваючы крэсавага паэта да агульнапольскай, варшаўскай літаратурнай нормы». Але рэдактарам не заўсёды ўдавалася знішчыць беларускія элементы ў мове паэта, яны і сёння вельмі часта сустракаюцца ў яго творах.

Творы У. Сыракомлі вельмі шчырыя, лірычныя. Нездарма ж адзін з яго першых вершаў «Паштальён» у перакладзе рускага паэта Л. Трэфалева стаў шырокавядомай рускай народнай песняй «Ямщик».

У паэзіі вясковага лірніка знайшлі свой адбітак усе бакі жыцця Беларусі напярэдадні скасавання прыгоннага права. Яны нібы вяртаюць нас у той далёкі час.

Традыцыі народнасці, якія выдатна праявіліся ў творчасці Ул. Сыракомлі, пасля плённа развівалі лепшыя прадстаўнікі новай беларускай літаратуры. Сваю ўдзячнасць Уладзіславу Сыракомлю добра выказаў у прысвечаным яму вершы «Лірнік вясковы» вялікі паэт Беларусі Янка Купала:

Час патрапіць усё пакрышыць, адалеці,
Путы нават змарнеюць у плесні, —
Покі ж будзе душа хоць адна жыць на свеце,
Будуць жыці і лірнікаў песні.
Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі, —
Не забудуцца дум тваіх словы,
Як і слоў беларускіх, жывучы між намі,
Не забыўся ты, Лірнік вясковы.

*К. Цвірка*

## НЕ Я ПЯЮ — НАРОД БОЖЫ

Не я пяю — народ Божы.
Даў мне ў песні лад прыгожы,
Бо на сэрцы маю путы
І з народам імі скуты.

З ім я зліўся з добрай волі,
Чы то ў долі, чы ў нядолі,
Чы гдзе гора абзавецца,
Як асіна, грудзь трасецца.
Чы пра радасць чую весці,
Ўсё у грудзь хаваю гдзесьці.

Мне гаворыць вёска, хата,
Мне гаворыць сэрца брата,
Рад збіраю, што пачую,
У грудзі сваёй нашу я,
Аж, як траўка на кургане,
Яно ўзыйдзе — песняй стане.

*1844*

## ПАШТАЛЬЁН

Народная быліца

Тут п'юць і гуляюць, адзін ты не п'ян,
А сумны, як вязень прыкуты
Вазьмі сабе чарку, сядай на тапчан,
Скажы, што ў цябе за пакута?

Ні бомы, ні дудка, ні смех вечарын
Развеяць твой смутак не могуць,
Два леты жывеш тут, а светлай пары
Ці меў ты часінку, нябога?

— Ой, горка і смутна мне ўсюды, браток,
Няміла на свеце, няміла! Дай чарку!
Скажу, калі вып'ю глыток,
Як доля мяне падкасіла...

На пошту я трапіў зусім малады,
Фурман з мяне ўдаўся зухвалы,
А волі не меў, дый ганялі тады:
Хоць свята, хоць ноч — усё мала!

Ад рання да змроку, ад змроку да дня
Вазіў я паноў і пакеты;
Заробіш рубля — і пад карчму каня:
Гуляй, весяліся да свету!

Ашукваў дзяўчат, зневажаў дружбакоў,
Быў з пісарам запанібрата!
На коней як свісну — аж іскры з падкоў, —
І лейцамі сівых не кратаў.

Ды сэрца аддаў я дзяўчыне-красе
З убогай вясковай хаціны.
Дарогі туды кіраваліся ўсе, —
Пабыць з ёй хацеў хоць хвіліну.

Была нейк у пісара справа ўначы,
Паклікаў мяне да сябе ён.
Іду, сваю долю цішком кленучы,
А ў полі скугоіць завея.

«Вязі эстафету!» — «Ой, ліха звяло,
Шапчу сабе, — ў полі ні тропу...»

А сам за пакет, за каня, за сядло!
Ганю каркаломным галопам.

Мяцеліца круціць, упыну няма,
Страшэннае скрозь бездарожжа,
Слупы верставыя мільгаюць старчма,
Пад’ехаў пад трэці — Божа!

Пачуўся мне плач, хоць віхура гула,
Хтось клікаў, прасіў дапамогі,
Падумаў я: «Згіне, сляпая імгла,
У снезе не знойдзе дарогі...»

Каня павярнуў, аж здалося, нібы
Хтось шэпча: «Куды ты, дзівача?
Ды лепей у вёсцы той час перабыць, —
Дзяўчыну сваю хоць пабачыш!»

Страх сэрца мне сціснуў, забіла духі,
Чало зледзянела ад поту;
Я ў рог затрубіў, каб не чуць, стаць глухім
Пагнаў сівака праз сумёты.

Я еду дадому, за трое ганей
Вяртаецца страх непазбыты,
А сэрца ўсё шэпча крадком, як раней,
Бразджыць, як званочак разбіты.

Конь чмыхнуў пры слупе, спыніўся наўзбоч:
У снезе, пад плахтаю белай,
Жанчыну я згледзеў, яна ўжо за ноч,
Як дрэва, уся скасцянела.

Я снежную намець абтрос з яе шат
І труп падцягнуў да дарогі..
Абцёр ёй аблічча... Была, гэта, брат...
Дай чарку... Не маю больш змогі!

*Май 1844, Залуча*

# ХАДЫКА

Гутарка з палескай мінуўшчыны

(скарочана)

I

Зайгралі трубы, і пад замак слуцкі
За хмарай хмара сунецца народу.
Над мужыком і шляхтай суд па-людску
Там правіць дзедзіч, слуцкі ваявода.
І ён, паводле княжных паўнамоцтваў,
Узброены і літасцю, і мечам,
Тых пакарае, тых ушчуне моцна,
А калі трэба, вызваліць бясспрэчна.
І ад гасцей, з раскошай і убоствам,
Надзейна князя адлучаюць краты,
Крыж на стале, ў багатых лаўках статут,
А поруч пісар з панам падстаростам.
Шум у судзе. І вось праз куламесу,
Праз гурт людзей, не слухаючы варты,
Абдзёрты старац ціснецца упарта,
З дубовым кіем, як разбойнік з лесу.
Страх паглядзець, іскрацца дзіка вочы,
Хаваюць бровы зірк яго трывожны,
Павісла белае валоссе клочча̀м,
Касцісты твар, пагорбленыя плечы.
Ступіў за краты, як сляпы, старэча,
Задыхаўся, і ўпаў, і гаварыць не можа.
Князь адступіўся, пісар забаяўся,
Дзед закрычаў на страх усёй дружыне,
Пан падстароста за палаш узяўся
І пацеры гаворыць на лаціне.
А старац скурчаны ляжыць у брудзе,
То шэпча штосьці, а то енчыць глуха
І дыхае — хрыпяць натужна грудзі, —
Аддыхаўся, спачыў. Без перашкоды
Загаварыў, а сілы не хапае.
Паўзе да ног ён князя ваяводы.
І, плачучы, расказваць пачынае.

IV

А было гэта ўзімку, парою марознай...
Атрымаў я загад, лоўчы ў двор мяне кліча.
(Драбнаваты панок, а ў раменах шырозны,
Спрытны быў ён да зброі, а болей да біча.)

Вось зазваў ён і кажа: «Хавай цябе Божа
Праз якую няўпраўку сапсуць паляванне:
На аблаву прыбудзе Сапега вяльможны,
Гэта гетман літоўскі, не жарты, васпане!
Ці ў абходзе сваім бачыў звера буйнога?»
«Ёсць, панок, гадунцы, два мядзведзікі гладкіх».
«Вось да той серады нарыхтоўвай аблогу,
Асачыць, абкружыць і паставіць палаткі.
Бо прыедзе сам гетман! Будзь пільны і жвавы,
Каб пад кулю яму зверына выбягала,
Я прыеду пасля, узначалю аблаву,
А пакуль што кіруй, будзь начальнікам сталым.
Маеш тынф[1] на гарэлку, зрабі мне ўсё хвацка,
Бо іначай, Хадыка, — руку маю знаеш! —
Жартаваць я не ўмею з нагайкай казацкай:
Дзвесце — хоць бы сам чорт ратаваў — атрымаеш!»
(Жонку меў маладую, баяўся пан лоўчы,
Не заходзіў у лес, каб не стрэцца з звярамі.)
Выйшаў я, грошы звоняць... Гульнуць бы нам, хлопча!
Як на споведзі, шчыра кажу перад вамі.
Тры дні піў я гарэлку, а ўдзень наказаны
Спадзяваўся — усё ж асачу-такі недзе,
Ды мядзведзь зразумеў, што асочнік-то[2] п'яны,
З пушчы ціха сышоў, даганяйце мядзведзя!
Я маўчу, аж у сераду — моцны мой Божа! —
На аблаву здалёку пан едзе за панам
І нарэшце з сынамі той гетман вяльможны...
Тлумна, хораша, гучна... Дамок мой драўляны
Зазіхцеў, як палац, — ліхтары на варотах,
Двор які! Колькі служак наўкол мітусіцца!
Псярня — цуд, любата! Срэбра скрозь, пазалота, —
Так і ў казцы не зманіш і ў сне не сасніцца.
Выязджаем у пушчу. Што будзе, не знаю,
Але ўпрогся ў хамут, дык цягні даастатку.
Трубіць гучна аблава, страляе, гукае,
А мядзведзя няма. Панства мерзне ў палатках.
Вось і сонца зайшло, змрок спускаецца шэры,
Гетман страціў цярплівасць і словам адборным
Злаяў лоўчага моцна, пасля па вячэры
Рушыў з лесу, і следам паехала дворня.
Тут пан лоўчы спагнаў сваю злосць у ахвоту:
Падхапілі мяне, прывязалі да дрэва,
Лупцавалі гарапнікам з тоўстага дроту,
Падплываў я крывёю ад панскага гневу.
Марна бацька да ног прыпадае з адчаем,

Плача жонка, а скаргі, працятыя болем,
Ловіць рэха лясное і скрозь паўтарае, —
Лоўчы быццам аглух, злосны быў як ніколі.

V

Моцна збіўшы, мяне скуралупы пусцілі...
Сам не свой... А шайтан спакушае над вухам.
Меў за дзягай тапор і, хоць вельмі знясілеў,
Засвяціў між вачэй таму пану абухам.
Павярнуўшы лязом, цяў у грудзі таксама...
Кроў мне пырснула ў вочы, адзежу змачыла.
Ці ты бачыш, мой княжа, нязмытыя плямы?
Гэта свежая памяць аб даўнім злачыну.
Ператлела сярмяжка, хоць мыецца рэдка,
Паліняла яна ад нягоды, ад поту,
А нявінная кроў не сыходзіць, як сведка,
Выкрывае, таўруе злачынства згрызотай.
«Уцякай!» — мне шапнулі. Бяда, чалавеча, —
Падступаюць стральцы... З тапаром у далоні
Кулем кінуўся ў пушчу і знік у гушчары.
Го! Асочніка ў лесе не кожны дагоніць.
Як па гладкай дарозе, бег лесам уночы,
Ад людзей так зашыўся — ні следу, ні знаку!
Трыццаць год не дазнаўся ніводзін сабака,
Сёння ж сам я з'явіўся на вашыя вочы.
Глупства суд чалавечы! У сэрцы глыбока —
Горшы суд... Там сумленне адно валадарыць,
Зуб за зуб патрабуе і вока за вока...
Дык нясіце ланцуг, я гатовы да кары.
А пакуль што дарадзьце, шаноўныя суддзі, —
Цёмны я, невучоны, пачаў спадзявацца:
Час злачынства астудзіць, забудуцца людзі,
І віну акуплю я пакутай і працай.

VII

Вясной дыхнула, пацяплела ў пушчы,
З гор у даліну ручаі спяшаюць,
Шарон і лёд на полі шумна трушчаць, —
Нібыта мора стала на імшары.
Мне толькі не палепшала, васпане,
Мардуе роспач, голад цела сушыць,
А радасць зрэдку, як з-за хмары, гляне,
Суцішыць сэрца, утаймуе душу.
Прачнуся часам, а паблізу рочаць,
Вада плюскоча, зяблікі цвіркочуць.
Пасля раптоўна я свядомасць трачу,

Ад думак глухну, свету зноў не бачу.
Увечары, калі аціхне вецер,
Пастаўлю ў чаратах лазовы вецнер,
І, слухаючы цішыню лясную,
Усплёскі рыбы, гоман хвалі весняй,
Я не зважаў, што, можа, хто пачуе, —
Гарлаў уголас роднай вёскі песні.
Дасюль, бывала, як пачне змяркацца,
Я не знаходзіў смеласці і сілы
Ні памаліцца, ні пералагнацца,
Ні проста зірк падняць да небасхілу.
...Не зразумець, паны, вам, як забойца
Маліцца можа, калі цісне скруха,
Хоць чорт шапоча: «Што Святая Тройца!
Не паніжайся прад вышэйшым духам.
Патрэбна горда ставіцца да Бога,
Калі няма надзеі на збавенне, —
Пачнеш малітву быццам па налогах,
А скончыш плачам, от і ўсё маленне».
Вось як было са мною... А наўкола
Лес акрываўся кволаю лістотай,
З нябёс жаўрук зашчабятаў вясёлы,
І абазваўся цецер за балотам.
Салоўка заспяваў, тады з-пад гліцы
Зірнуў грыбок і першыя суніцы.
Благі наедак, хоць збіраць іх блізка,
Ды чалавеку мяса дай, як зверу.
Не раз я за спажывай, бы ваўчыска,
Гайсаў па пушчы, зубы хціва шчэрыў.
Злавіць што-небудзь цяжка чалавеку, —
Ні кіпцюроў, ні крыл няма арловых.
Калі здабычу знюхаеш здалёку,
Чакай, таіся з хітрасцю катовай!
Хіба сіло стрымае лёт птушыны,
Ці тапаром раскрою лоб ваўчыны,
Тады —банкет! Свяжую і спяваю,
З лаўжоў агонь вялікі раскладаю,
Як на бяседу, мяса смажу смачна,
Яснейшых думак ладжу карагоды.
Ды рэдка-рэдка паляваў удачна,
Часцей галадаваў, а ў скрусе жыў заўсёды.

**VIII**

Лета. Самы прыпар, ні хмурынкі ў нябёсах,
Не магу я дыхнуць, даастатку знябыты.
Так мяркую, што быў гэта час сенакосу, —

Авадні і сляпні пацішэлі нібыта.
Мусіць, поблізу недзе блукаў ля балота,
А гавораць, што д'ябал у багне вядзецца.
Ціснуць думкі чало, паляць сэрца згрызоты,
Думаў крыжам прагнаць іх, але не ўдаецца.
Падупаў я душой, галадоўля ды скруха, —
Тапара не трымаюць аслаблыя рукі.
А нячысцік з балота: «Вось бачыш, не слухаў,
А ўжо зараз, дурніца, не ведаў бы мукі.
Як ні кінь, ад людзей не схаваеш злачыну,
Не ўсё роўна вісець: ці на плошчы, ці ў лесе?
Калі шыбельня дурню мілей за асіну,
Дык чакай, калі ласка, хай каты павесяць».
«Не, — кажу, — нацярпеўся і болей не буду.
Пашукаю галіны, каб цела ўтрымала».
Вочы ўгору падняў: а там звону, а гуду!
Рой лятае, і пчолка цяла мяне джалам.
Ладны рой! Памаленьку на дрэва сядае...
Кроў палеская ў жылах азвалася зноўку:
Не! Я думаць аб смерці пакуль пачакаю,
Пчол спярша абяру і зраблю ім дамоўку.
Пчолы — гэта набытак і скарб, ягамосці,
Так заўсёды лічылі палескія людзі,
І мой бацька, і дзед мой...
І я з маладосці
Добра знаўся на пчолах...
Эх, пасека будзе!
От з вялікім імпэтам узяўся за справу:
Рой у шапку сабраць — быццам вымавіць слова,
У хваіне дуплянку я выдзеўбаў жвава —
Хай пацешацца пчолкі сядзібаю новай.
Так цалюткі дзянёк завіхаўся, вясёлы,
А пад вечар да смерці ахвота мінула, —
Заўтра мушу глядзець, як аселіся пчолы,
І другая турбота мяне агарнула.
Стаў крыху меркаваць: пастараўшыся вельмі,
Больш раёў налаўлю, а вазьмуся цярпліва,
Дык і ў горкай нядолі наладзіцца пчэльнік,
Гаспадарка ў бары — гэта ж дзіўнае дзіва.
Не для ўласных патрэб, не на продаж у месце,
Хіба можна мне з мёдам туды патыкацца,
А для працы, карысці... ды так сабе, ўрэшце,
Для людзей, бо на іх жа трымаецца праца.
Што я варты без працы? Бадзяцца павінен,
Загніваецца сэрца ад думак паганых.

Крыж пастаўлю над багнай пры шумнай асіне,
Будзе Богу пашана і піка шайтану.
А калі ў галадоўлі і сцюжах загіну,
Нехта, косці знайшоўшы, заплача выпадкам,
Не, канечне, заплача, бо спадкі пакіну, —
Цэлы пчэльнік... Бяры на здароўечка, братка.

X

Трыццаць год я прабыў у маркотным закутку:
Гэта хутка падумаць і вымавіць хутка,
Ды не хутка пражыць, бо душа чалавека
Моцна ў целе сядзіць і ў слабога калекі.
У пакуце, у голадзе, ў сцюжы, ў рабоце,
Калі ўсё памірала наўкол у самоце,
І дубы, што я ведаў з густой верхавінай,
Паўсыхалі, прапалі, а я ўсё не гінуў.
Многа хвоек за працай маёю сачыла,
Чэрві іх патачылі, гнілізна пабіла,
А чарвяк, што на труп мой нацэліўся ласа,
Дачакацца не можа смачнога папасу.
Да гарлянкі прысох мой язык анямелы.
Пашчарбіўся тапор, і сярмяга сатлела,
Што рабіць, я падумаў, магіла марудзіць,
Трэба жыць дзеля працы і мук на бязлюддзі.
Не пакіну цябе я, мой пчэльнік, самохаць
І сякеру напраўлю на камені трохі.
Вось хіба што крывавай адзежы зракуся, —
Перазімую зіму ў мядзвежым кажусе.

XII

Блукаў я шмат...
І вось аднойчы ранкам
Радзейшы лес пачаўся каля рэчкі,
Разлеглася пясчаная палянка,
А за пагоркам — вёска недалечка.
Ступіў на ўзгорак...
Як хадзіць па свеце,
А не ў бары са сцежкамі глухімі?
Баяўся, што мяне паваліць вецер,
Што сонца яснатою вочы выме.
У сінім небе прыпыніўся вокам,
Стаў да сялібы трохі прыглядацца.
Здаецца зрэнкам, быццам бы навокал
Дубы і сосны скачуць, мітусяцца.
Зайшоў у вёску. Страх сціскае грудзі,
Ды ў сэрцы неяк соладка і ўздымна:

Браты мае! О Божа! Тут жа людзі!
Усіх людзей схапіў бы я ў абдымкі.
Ды толькі ўсе, хто стрэўся на дарозе,
Хто клікаў, плакаў, падзываў рукамі,
Усе як ёсць, блазнота і дарослы,
З жахлівым крыкам з вуліцы ўцякалі.
Ці твар, знябыты ў нэндзы, іх уразіў,
Ці нажахала постаць патарочы,
Ці, можа, кроў блішчала на сярмязе,
Ці чым забойцу выкрывалі вочы?
Было так горка — вымавіць няможна,
Мяне, як пошасць, абміналі людцы,
Здалёку тройчы перахрысціць кожны
І бегма ў хату, на замок замкнуцца.
З канца сяла стаяў дамок замшоны,
Пастукаў я, штось адказалі з хаты.
Успёршыся на кій свой сукаваты,
Я павітаў: «Хай будзе пахвалёны».
Няма адказу... Хлопчык баязліва
Падбег і хлеба кінуў мне акраец.
О княжа мой! Ніколі гэтак хціва
Ваўчыска на ягня не пазірае,
Не разрывае ненажэрнай пашчай
Свае ахвяры на вясковых межах,
Як я глядзеў і рваў той хлеб драпежна,
Душу абнашчваў.
Я з вёскі ў вёску сунуўся, мізэрны,
Ўсе гадзіліся, як лясной брыдоты,
Але адзін знайшоўся міласэрны,
Спыніў, спытаў: «Адкуль ты, дзеду, хто ты?»
Зазваў на ноч, наліў гарачай стравы,
Падараваў старую апранаху
І гаварыў са мною так ласкава, —
Хай будзе шчасце над ягоным шляхам!
(Найлепшы дар, найлепшая уцеха,
Калі хто бедака абдарыць сэрцам!)
Ён расказаў, што ў места князь прыехаў,
Судзіць за ўчынкі — кожнаму па мерцы.
І я прыйшоў... Як заслужыў злачынец,
Суровае мне вызнач пакаранне,
А я табе за гэта дам гасцінец:
Усе вуллі, іх тры капы, васпане!
Пчол гадаваў я ў нетры непралазнай,
На варце быў улетку і зімою.
Сам тое месца не знайду адразу,

Ды ёсць прыкметы: возера малое,
Лес, нібы выспа, багнішча навокал,
Збуцвелы крыж, паваленны на ўзбочча,
А спаміж выспы, над рачной затокай,
У спарахнелым дубе — мой дамочак.
Дарункам гэтым не пагрэбуй, княжа,
Мяне ж, забойцу, пакарай на горла.
Сумлення мукі, пэўна, смерць развяжа,
Аціхне боль, не будзе сэрцу горна...»

XIII

Хадыка змоўк. Ні гуку, ані руху,
Глядзіць на дзеда грамада людская.
Князь да канца з увагаю даслухаў,
Нібы ўздыхнуў і вочы затуляе.
Нішто б натоўпу болей не здзівіла —
Бядой мужычай князь устурбаваны!
Калі ж бы так — слязою Радзівіла
Быць можа кожны статут скасаваны.
Князь пазваніў, падняўся наастатак,
І ўсіх падняў, і сцішыў голас медны.
«Панове! — возны абвясціў з-за кратаў. —
Solvitur sesja[3] заўтра па абедні».

XIV

Не ведаю, які быў дзень той судны,
Ды званары са Слуцка мне казалі,
Што ў кляштары памёр стары прыблудны,
Якога быццам бы Хадыкам звалі.
...А між бароў, сярод імшары дзікай,
Дасюль вядзецца пасека лясная,
Багата дзіў аб ёй апавядаюць
І называюць гэтак жа — Х а д ы к а.

*1847*

## ДОБРЫЯ ВЕСЦІ

Заходзіць сонца пагодняга лета,
Веіць вецер з заходніх нябёс.
Здароў будзь, вецер з далёкага света:
Добрыя ж весці да нас ты прынёс!
Здаровыя ж будзьце, эй, добрыя весці!
Там, на Заходзе, праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды і чэсці
І робяць вольных людзей з мужыкоў.
Гудзяць вясёла і песні, і танцы

У добрым жніве на шчаслівы год.
Годзе вам, годзе, царыкі-паганцы,
Таптаць у балотах хрышчоны народ.
Годзе ж вам, годзе ў яснай карэце,
Годзе, чыноўнікі, ездзіць у двор,
Годзе вам, годзе, мужыцкія дзеці,
З хаткі астаткі даваць на пабор.
І панская дзецка, і хамская юха
З аднэй кватэркі папіяюць мёд:
І прысягнулі навек, да абуха,
Быць сабе вольны і роўны народ.
Мужык і шляхціч засядзе на лаве,
Каб весці раду а сваёй зямлі.
Як трэба думаць а грамадскай справе,
На адно мейсца, як браты, прыйшлі —
А як урадзім вайну на грамадзе
Бараніць дзеткі, і зямлю, і дом,
Мужык і шляхціч на каня ўсядзе
Касіць касою, рубаць тапаром!
Эй, згіне вораг, як Бог нам паможа
За нашу крыўду, за горкі наш жаль.
Запяём песню: «Хваліць цябе, Божа!»
Лягчэй будзе сэрцу, як згіне маскаль.
Зямля ты наша, зямля ты святая,
Радзі нам збожжа ды судзі пажаць, —
Не прыйдзе вораг з маскоўскага краю
На магазын наша зерне браць!
Ручыць рукою худоба ў хаце.
Паны мужыцкіх слёз не забяруць —
Мужык і шляхціч стаў за пане браце,
Рукі за рукі і грудзь за грудзь.
Пяром на карце, сахой на ніве
Адзін другому роўнасць засцярог.
Эй, у свабодзе зажывём шчасліве,
Мы будзем дзеткі, а наш бацька — Бог!

*1848, 1861*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ ЛІЦВІНАМ НАРОДНЫХ ГУТАРАК

Браткі мае з-пад Вяллі, з-пад Нёмна
Калі вы рады гаворцы скромнай,
Я пагуду, а вы сядзьце ў кола,
У чаркі стукнем, каб стала вясёла,
А мо ж і выплыве праўда з донца
Ці ўкрадзем ад смутку часціну сонца.

Зляплю я вершык наспех часамі
І падзяліцца спяшаю з вамі,
Бо кожны шчыра так сустракае,
Гатовы слухаць мяне, пустабая.
Дык будзем рады гэтай прыгодзе,
А дзверы, пэўна, замкнуць не шкодзіць,
Каб панічок ці які падпанак
Не пасмяяўся з нашых спяванак.
Мы з вамі, праўда, майстры не надта,
Верш з-пад сякеры, яшчэ шурпаты,
Але слухач скажа ўдзячнае слова,
Сэрца адчуўшы у ім песнярова.

З вамі, браткі, у сярмязе і ў світцы,
Кнізе лягчэй на свет нарадзіцца;
Мужык невучоны хутчэй дазволіць
Прыйсці паслухаць, адкуль нядоля:
Ці Бог карае, ці сам вінаваты,
Ці зазірае радасць дахаты.
Твар то збялее, то ўспыхне агніста, —
У селяніна і ў персях празрыста,
Як на далоні, пачуцці адкрыты,
Лёгка схапіць, запісаць у сшытак.
І калі братняе кола збяру я,
Хто мне нязграбны верш не даруе?!
Хто ніцаваць спеў дзядоў захоча, —
З думкі да думкі, з радка ў радочак?

З панствам вяльможным рахуба не тая, —
Хто іх аблічча, сэрца ўгадае?
Як ім спяваць, заўжды надзіманым, —
Хочуць за грошы тавар без заганы.
Ёсць для іх кніжкі ў залочаных шатах,
Проста з Парыжа, з найлепшых варштатаў.
Дзе нам угнацца за тою бягою —
Адно Парыж, а Літва другое.
Той, каго вабяць пахі з-за межаў,
Што яму водар лугоў нашых свежых?
Ён пасля опер грэбаваць стане
Жаўранка песняй у сонечным ранні!

Сэрца, жыццё я аддаць гатовы,
Пяю табе, мой народ шарачковы,
Толькі з табой спадзяванні злучаю,
Смутак і радасць, хвіліны адчаю.

Подых палёў тваіх лашчыць аблічча,
Песні я ў птаства твайго пазычу.
Моваю сэрца хай думы бруяцца.
Музыкай жніва, касцоваю працай.
Хай пад страхою жабрацкай хаціны
Верш прачытаюць браты-ліцвіны,
Калі адчуюць брата ў паэце,
Значыць, не марна жыў я на свеце.

*1852, Залуча*

## ЛІРНІК ВЯСКОВЫ

Ідылія

### I

Ліра мая ты спеўная! З чараўнічага дрэва,
Мусіць, ты змайстравана.
Ледзь вазьму цябе ў рукі, усе, як ёсць, твае гукі,
І песняй я ўвесь забраны.

Чую радасць без краю, быццам бы сэрца грае
І смутна, і вясёла.
Я шчаслівы, багаты, зноў ад хаты да хаты
Іду праз родныя сёлы.

У дарагой старонцы і дзень, і ноч, і бясконца
Граць і граць буду людзям —
Да ўсхваляванага твару горача кроў ударыць,
Болем сціснуцца грудзі.

Хай рука ўся здранцвее, сэрца няхай замлее,
Тону не зніжу я, шчыры.
Мо нават страчу голаў, усё ж я — лірнік вясковы,
Памру, пеючы на ліры.

### II

Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва!
Ты — інструмент небяспечны!
Хто да цябе прыхінецца, струн тваіх дакранецца,
Помніць цябе будзе вечна!

Думка да зор панясецца, шчасця захочацца сэрцу,
Страты згадае кожны.
Ты — пакаранне з неба! Нібы з той брытвай, трэба
Быць з табой асцярожна!

Брытва парэжа цела, песня ж, што з сэрца ўзляцела,
Раніць душу маладую.
О! Людзям часта здаецца: лірніку лёгка пяецца,
Быццам бы ён не гаруе.

Што могуць ведаць людзі, як мне баляць часам грудзі,
Як мяне думы будзяць:
Граць ад сэрца, як трэба, граць высокаму небу
І ў карчме добрым людзям.

Граць адзінай, каханай, хай мой спеў палымяны
Ёй душу ахінае —
Ці жне жыта на полі, ці гуляе ў прыволлі,
Ці ў гайку спачывае.

Ну ж у мяне і дзяўчына! Хлопцы роем пчаліным
Уюцца пры ёй, бывае.
Хлопца — той вусамі, той — серабром, кутасамі,
Той — меч стальны выстаўляе.

Бог мне болей прызначыў: даў мне талент спявачы!
І прад любым мундзірам
Песню не зніжу і голаў — горды лірнік вясковы,
Памру, пеючы на ліры!

III

Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва,
З табой надзея малая!
Песні не гожыя, мусіць: ці перад небам малюся,
Ці для людзей заспяваю —

Толькі ніхто й не зважае, як ад сцяны, адлятае
Голас — у хаце ці ў полі.
Бо каму ні пяю я — чуе, як бы не чуе.
О мая бедная доля!

Так, калі часам з краю сяду ля алтара я
І, як хачу, зайграю,
Ксёндз глядзіць тады з гневам, што царкоўныя спевы
Смутным тонам збіваю.

А як пайду на свята, дзе хлапцы і дзяўчаты
Весела ў крузе скачуць,
У шуме гульняў вясковых лёс свой кляну песняровы,
Нават цішком заплачу.

Слухаць пачне дзяўчына, але душу зачыніць,
Гора мне, горка на сэрцы —
Позірк лаўлю я харошай, кіне ж яна мне тры грошы
І ў скокі з іншым ірвецца.

Дзед загугнявіць ля вуха: «Колісь я лірнікаў слухаў!
Гралі — будзьце здаровы!
Сёння ж ліру, бывае, хлопец бязвусы трымае —
Даць яму б рог пастуховы!»

І так паўсюль: маё гранне хваліць адзін, іншы — ганіць.
Дзякуй, дзякуй вялікі —
Што мне з гэтакай ласкі, калі ў далоні хто лясне:
Раніць ён сэрца музыкі!

Ліра! Ты боль мой і церні! І ўсю разбіць бы цяпер мне!
Кінуць бы ў кіпень віру!..
Ды толькі ты — мая мова, і я ўсё ж — лірнік вясковы!
Памру, пеючы на ліры!

IV

Ліра мая ты спеўная з чараўнічага дрэва!
Пояць слязамі людзі
Песні мае, і ў часіну, калі навек я спачыну,
Ты маім помнікам будзеш.

Эй, разляціцца навокал рэха тваё далёка!
Я ад краю да краю
Спеў данясу твой са славай — аж да Кіева нават,
Аж да самога Дунаю.

Некалі ў вокны — так будзе! — стукнуць чужыя людзі
Да суседскай хаціны:
«Мы ўсе прыйшлі, каб глянуць, дзе спачывае нам знаны
Лірнік — гонар краіны».

Будуць вяскоўцы здзіўляцца, ціскаць плячамі, шаптацца,
Скрозь паляцяць пагалоскі:
«Людзі з далёкага краю нашыя песні спяваюць!
Песні нашае вёскі!»

Стануць усе хваліцца, сваім земляком ганарыцца
Перад людзьмі чужымі.
І — заўсёды, усюды — славіць лірніка будуць,
Што жыў і спяваў з імі.

І ўсім, хто прыйдзе ў госці, пакажуць крыж на пагосце
Ды курганок са жвіру.
Скажуць гордыя словы: «Тут наш лірнік вясковы!
Памёр, пеючы на ліры».

*18 студзеня, Залуча, 1852*

## ПРА МАЮ СТАРУЮ ХАТКУ

(урывак)

*Бачу вербы роднай вёскі,*
*Берагі рачулкі бачу.*
*Тут пазнаў я шчасця росквіт,*
*Боль ад першае няўдачы.*

Мацісан

За гарою за высокай
Леваруч дубы старыя.
Тут і Нёман цешыць вока,
Ён зялёны бераг мые.

А правей — як шляк, балота,
Вербалозы над дрыгвою.
А над імі і над слотай
На пяску гамоніць хвоя.

Паркановай трапіш вулкай
Да старой пахілай хаты.
Да зямлі яе прыгнула,
Мох страху закрыў і латы.

Цераз шчыліны ў драўніцы,
Можна немаль бачыць неба.
Гэта ўсё — мая святліца,
Лепшай мне нідзе не трэба.

Вастракол, нібы на варце,
Каля весніц, перад ганкам.
А ў аградчцы, пры хаце,
Густалісты бэз альтанкай.

Перад вокнамі хаціны
Кветак, зёлак розных лешка[1].
Да агрэсту і маліны
Каля іх віецца сцежка.

Праз аградку бачыш поле,
Як плыве здалёку Нёман,
А пры шчытным астраколе
Ля вулля пчаліны гоман.

Тут маё ўсё ў агародзе,
Хоць убога ў ім і дзіка.
Тут я ў радасці, ў нягодзе
З рукапісам і матыкай...

## ЖМЕНЯ ПШАНІЦЫ

Народная быліца

I

Дзед Сцяпан быў войт спрадвеку,
Войт адзіны ў той староны,
І такім быў чалавекам,
Што не знойдзеце пад сонцам.
Кемны быў да кожнай справы
І да люду меў спагаду.
У цяжкіх прыгодах нават
Як найлепей мог даць рады.
І што ў свеце нечувана,
Хоць у войта з вёскай згода, —
Пан не даў яму заганы,
А драпежнага быў роду.
І няма ніякай звады,
Лічаць войта бацькам вёскі,
Але старасць-то не радасць:
Падыходзіць век дзядоўскі.
Ён без кія ўжо ні кроку,
Вока бляскам больш не грае,
За плячыма горб шырокі,
Барада зусім сівая.
На людзях бяды не тоіць:
— На спачын пара, суседзі.
Памяркуйце між сабою:
Войта трэба вам нагледзець!
Галава да трох не злічыць,
Я здароўя ўжо не маю...
Грамада крычыць там крычма,
Моцна долю праклінае.
— Што ты, вашаць, пане-браце?..
Выракаешся худобы,
Збрыдла нас апекаваць,

Наша згуба даспадобы?
Аж пакуль па белым свеце
Ходзіш, войце, з ласкі неба,
Як раней, твае мы дзеці,
Іншы войт нам без патрэбы.

Просяць, грозяць, ходзяць следам,
Вёска стогне, вёска ў скрусе...
Давялі нарэшце дзеду,
Што заставацца войтам мусіць
Але ж старасць вельмі валіць
Тых дзядоў, як з дрэў апады,
І Сцяпан дае параду,
Каб наступніка абралі.
Потым спрэчак многа будзе,
Калатэча, злосць, нязгода,
Пакалечаць душы людзі
Нават лепшага заводу.
— Добра! — крыкнулі навокал. —
Праўду кажаш ты, Сцяпане,
Ды нашто шукаць далёка,
Мы сыноў тваіх не ганім!
Трое хлопцаў... Адным словам,
Кожны варт быць на пасадзе,
Не чужы ім люд вясковы, —
Хай адзін з іх войтам сядзе.

Вось і спрэчкі. А каторы ж?
Зноў у вёсцы тлумна стала:
Той хінецца да Рыгора,
Тым Васіль здаецца ўдалы,
А ўсе іншыя Сымона
Хочуць ставіць на законы.
Бацька чуе: запалае
Звада зараз у народзе,
Валасы згарнуў з чала ён
І сваё людзям даводзіць:

— Лепшых ёсць між вас нямала,
Але выбраць як — вось гора...
Калі вам на думку ўспала,
Што прыдасца сын каторы,
Ваша ласка, не пярэчу,
Ды людзям служыць — не жарты!
Перш чым ношка ўгнула плечы,

Хай пакажа, што ён варты.
Можам мы дазнацца скора,
Хто з іх здатны больш да чыну,
Пан вясной пашле Рыгора
У Кралевец на віціны.
А Васіль у Кракаў рыне,
Не абы-як, пане-браце.
Ну, Сымонка будзе ў хаце.
Вось яго паслаць я раю
Соль купляць на Украіне,
Плацім дорага ў мястэчку.
Кожны ўправіцца павінен —
Не аб гэтым будзе спрэчка.
Але хто з чужога краю
Больш карысці прынясе нам,
Таго войтам выбіраем,
Бацькам вёскі, мне на змену,
Год мінецца ў спорнай працы,
Спраўдзім нашыя намеры,
І калі ўсіх трох праверым,
Будзем знаць, на кім спыняцца.
Словы дзедавы, як рочаць,
І ў душы надзеяй свецяць.
Ды не знаюць войта дзеці,
Як за імі вёска сочыць!

II

Год мінуў ад той гаворкі,
Вось Кралевец шле барліны,
І старэйшы сын Рыгорка
Прыплывае ўжо з віціны.
Доўгіх год яму жадаюць,
Льюць у кубкі мёд ды піва,
І Рыгор апавядае
Пра ўсе цуды, пра ўсе дзівы. —
Надта ж мілы ў немцаў побыт,
Пыхі многа нечуванай,
Ды найболей даспадобы
Капялюшык і каптаны.
Што казаць аб світцы нашай! —
Крой дзівацкі, неўжываны,
І відно, што гарапашны.
Кройма світкі на каптаны!
Саламяны капялюшык —
Ад прыгону ўбор для хлопа!

Вось у немцаў, кажуць слушна,
Сапраўды значна Еўропа!
Бацька слухае ціхмана,
Жар варушыць на камінку,
Але ў думках у Сцяпана:
«Ой, не будзеш войтам, сынку!»

III

І Васіль сыскаўся хутка:
Размаўляе тонам зуха.
Хата войтава паўнютка,
Люду ўсё цікава слухаць:
— Што за мова у палякаў,
Што за песні, проша пана!
Напяваюць кракавяка,
А мы так пяём пагана.
Мы спяваем так шчымліва,
Словы песні — боль, гаркота,
Смутак льецца з кожнай ноты,
Ажно рэха плача ў нівах.
Дам параду я, браты, вам —
Кіньма спеў стары, жабрачы,
Кракавяка лепш заскачам,
Павяду я рэй імкліва!
Бацька слухае ціхмана,
Жар варушыць на камінку,
Але ў думках у Сцяпана:
«Ой, не будзеш войтам, сынку!»

IV

І Сымона сустракаюць,
Што вярнуўся з Украіны:
Ён не строіць кплівай міны,
На свой край не наракае.
— Добра, — кажа, — ў старане той,
І сляпцу відаць далёка:
Стэп пакуль сягае вока,
Стэп, здаецца, на паўсвета.
А зірне ў сваю старонку —
І затужыць падарожнік
Па рацэ, па хвойцы гонкай,
Па узгорках каля пожні.
Хоць бы нават Украіна
Горы скарбаў абяцала,
А туга б дамоў пагнала,
У бацькоўскую хаціну.

Вось адно хіба — пшанічка!
Рэч зайздросная ў тым краі!
Кожны колас, быццам бічык,
Ніва з небам размаўляе!
Трохі плёнаў тых дзівосных
Я сабраў у торбу ўпотай.
Прычакаем — прыйдзе восень —
Украінскіх умалотаў.
Я па жменьцы ўсім адразу
Дам для добрага пачатку...
Бацька выслухаў нашчадка
І ўздыхнуў замест адказу.
Гэты ўздых яго без слова
Гордай думкі быў высновай.
Гонар бацькі знаць на твары:
Дбайны хлопец, спраўдзіць мары.

**V**

Войт гаворыць з хваляваннем:
— Ў дурня дрэнныя навіны!
Хто нямецкае убранне
Прапануе славяніну,
Той, каму чужое міла,
Хто аб шапцы з лямцу марыць,
Каму вочы засляпіла,
Лічыць брыль свой не да твару,
Хай страі чужыя носіць,
Хай здароў заплюшчыць вочы:
Летам пот яго заросіць,
А пад восень дождж прамочыць!
Тройчы дурань той зухвалец,
Хто хапае спеў народны
З ніў чужых і потым хваліць
Дух тутэйшы ў песні зброднай.
Хто ганьбуе грунт бацькоўскі,
За чужой сягае зоркай,
Той не дасць ані для вёскі,
Як Васіль і як Рыгорка.
Хто ж прывёз з другога краю
Зерне плённае радзіме
І зямлю абсемяняе,
Падзяліўшы між сваімі,
Хто аб свеце кажа скромна,
Бо свае мілей улонні,
Будзе вам служыць нястомна,

Войтам быць табе, Сымоне!
Грамада яго вітае
І заўзята б'е ў далоні,
Плён з пшаніцы прадчувае:
Войтам быць табе, Сымоне!

*1856, Варшава*

## ВІНЦЭНТУ КАРАТЫНСКАМУ ПРЫ ВЫДАННІ «ЧЫМ ХАТА БАГАТА»

Ідзі, наш паэце, ляці, наш саколе,
Хай творчы агонь твой не згасне ніколі.
З паэтамі пець беларускімі ў коле —
То значыць людзям добрым несці патолю.
Любіць іх — не шкода і шчырага сэрца,
Спяваць ім — грудзей маладзенькіх не шкода,
Бо кожная нота, што ў песні кладзецца,
У сэрцах людскіх адгукнецца заўсёды.
Знаёмы мне сэрцы іх: трапіш адразу
Ў душу слухача, ці суседа, ці брата,
Калі іх з любоўю, без пыхі-абразы
Запросіш сардэчна: «Чым хата багата!»
Не будуць чаканні твае ашуканы:
Грамадаю прыйдуць на шчыры твой покліч.
З табой пераломяць і хлеб твой духмяны,
З табой і наплачуцца, седзячы поплеч.
Дай радасць у сэрцы ты песняй юнацкай!
Яны пачастунку твайго не асудзяць,
Калі ж бы знайшоўся язычнік знянацку,
Малы табе клопат ад гэтага будзе:
Бо людзі такога так трапна дакораць,
Што сам ён адразу глыне сваю горыч.
Спагада Радзімы табе дасць апору,
Якая мацнейшаю будзе, чым скалы,
Каб песня твая у блакітным прасторы,
Як ластаўка, край наш увесь аблятала.
Над кожным акном беларускай хаціны
Гняздо тваё будзе — прытулак гасцінны.
Для песень тваіх — нескончонае рэха,
Бязмежнае поле для працы упартай.
Зірні ты на вёскі, на шэрыя стрэхі:
Ў іх людзі пашаны вялікае варты.
Заглянь ты ў іх сэрцы — ды як там багата!
Дзівосныя скарбы хай песня асвеціць.
Як дым, што віецца ад кожнае хаты,

Хай думка да неба ўзвіецца, паэце!
Хай просіць-благае там ласкі ад неба,
Ўсяго, што тым сэрцам, хацінам тым трэба.
Ігрушына ў полі, крыжы на магілах,
Касцельныя вежы, палетак здзічэлы...
Ці знойдзеш ты барвы, ці знойдзеш ты сілы,
Каб гэта ў малюнку тваім зіхацела?
Ці здольны суладзіць ты сціела ўсе мыслі?
За пэндзаль, мастача, адважна бярыся.
Сардэчныя людзі, сыны Беларусі!
Вы дар небагаты паэтаў прымеце!
І я праз гады немалыя вярнуўся,
Хоць толькі любоў і знайшоў вам у свеце,
Спатканы усмешкаю ветлага вока,
Заўсёды спагадай сардэчнай сагрэты.
А поле для песні настолькі шырока,
Так многа не сказана ў песні дагэтуль:
Пакуты людскія, надзеі людскія,
Вялікія спады, узлёты малыя...
Імкнуцца упарта да светлага варта!
Ударце званчэй нам у родныя струны!
Павінны быць рады, што з вамі на варту
Паэта-змаганнік становіцца юны.
Сустрэньце ж вы гранне братэрскае сэрцам,
Хай водгук у сэрцах навек застанецца!
Пабач, як за горамі, ў дальнім прасторы
На свеце і хмары, і ззянне прамення.
Спаткаеш ты радасць, сустрэнеш ты гора,
Пазнаеш, паэце, і ружы, і церні.
Спявай жа пра тое, што сэрца хвалюе,
У час весялосці умей весяліцца.
Тваю хай спагаду бяздольны адчуе,
Братам пакажы шлях да яснай Зарніцы.
У тлуме спявацкім твой спеў не загіне,
Падзяку пачуеш ты ў роднай краіне.

*1856, Барэйкаўшчына*

## УЛАС

Баявая ідылія з палескіх балот

(урывак)

Смутны краю Палессе! З маленства знаёмы.
Так і свецяць мне вобразы даляў замглёных;
Прад вачамі снуюць, нібы сонныя мары,
Неаглядныя багнаў куп'істых абшары,

Гушча цёмных лясоў (там — нібыта ў скляпенні)
Ды рака, што ў чаротах цячэ ў задуменні,
Аваднёў, тых крылатых назолаў, дружына,
Матылёк, што лятае над воднай раўнінай,
Тая ціша, што часам парвецца уранні
Вострым жорава крыкам, бусловў клекатаннем
Альбо плюханнем чоўна па хвалі спакойнай,
Калі ■ венцерам выйдзе рыбак. Край чароўны!
Зноў плывуць у мой сон таго ветру павевы,
Жаўтапесак Палесся і панурыя дрэвы.
Любы мне твае хаткі ля гоняў пясчаных,
Саламяныя стрэхі царковак драўляных,
Тыя могілкі, дзе пад сасною пахілай
Дашак крыжа убачыш над кожнай магілай.
Тут, у вечнае цішы, дзе час не спяшаўся,
Продка прах разам з праўнука прахам змяшаўся.

Тут, за лесу заслонай, за ціхай вадою,
Людзі ■ веку жывуць са сваёю бядою.
Ні уплывы чужыя, ні звычай найновы
Не змяніў іх адзення, іх даўняе мовы.
Гэтаксама іх кормяць мёд, ягады, рыба.
Прыдалося тут болей толькі беднасці хіба...

## УЖО ПТУШКІ ПЯЮЦЬ УСЮДЫ

Ужо птушкі пяюць усюды,
Ужо кветкі зацвялі...
«Вясна прыйдзе», — кажуць людзі...
Ды скуль прыйдзе і калі?
І нашто ж вясна нам, Божа?
Мы адвыклі ад вясны...
Елкі ў лесе, мох на стрэсе
Зелянеюць заўсягды...

*Вільня, 1861*

## ВАНДРОЎКІ ПА МАІХ БЫЛЫХ ВАКОЛІЦАХ

(урыўкі)

З ахвотай падарожнічаць, з блакнотам для запісвання ўражанняў стаю я на рынку ў Міры, нібы той дзед-жабрак на ростанях: мэта не акрэслена, свет шырокі — да якой жа вёскі ці горада пусціцца падарожніку? Пытанне гэтае цяжкае ў любой жыццёвай сітуацыі. Тут жа яго таксама нялёгка вырашыць: прыемныя сустрэчы чакаюцца ў адным месцы, але ці не страціш што-небудзь яшчэ больш прыемнае ў іншым? Калі б мы паехалі прама,

па вуліцы Жухавіцкай, я паказаў бы вам узгорак, дзе на схіле мінулага стагоддзя адбылася адна бітва. Далей напаткалі б мы гожую Паланечку — уладанне князя Канстанціна Радзівіла[1], дзе ўбачылі б прыгожы сад, паглядны і цікавы ў многіх адносінах палац; там, сустрэўшыся з гаспадаром, упэўніліся б у радзівілаўскай знакамітасці і гасціннасці. Пасля мы агледзелі б у мястэчку Ішкальдзі стары, вельмі стары, бо несумненна пераároблены з язычніцкай святыні парафіяльны каталіцкі касцёл, які ў XVI стагоддзі быў арыянскім саборам. Словам, была б у нас цікавая і прыемная вандроўка. Але зноў жа як адмовіцца ад наведання вядомага выдатнымі помнікамі Наваградка, сталіцы Міндоўга, месца нараджэння аднаго з выдатнейшых нашых паэтаў[2]! Як адмовіцца ад наведання старажытнай Любчы, дзе быў у вельмі далёкай старажытнасці сабор, дзе сярод язычніцкай Літвы часоў Міндоўга высока ўзнёс біскупскую годнасць Віт Дамінікан[3], пра якога мы не шмат ведаем, Любчы, дзе друкарні Пятра Бляста Кміты[4] і Яна Лянге[5] выдалі ў XVI і XVII стагоддзях гэтулькі важных для вывучэння гісторыі Рэфармацыі ў Літве, такіх сёння рэдкіх твораў і дзе яшчэ засталіся руіны радзівілаўскага замка, Любчы, якая, урэшце, у нашы дні сваю старую славу падтрымлівае хіба што вытворчасцю брудноватага колерам, але, праўда, вельмі адметнага і славутага любчанскага лаку, калі верыць крамнікам, што разносяць яго па маёнтках? Гэтулькі важных прычын, вядома, не маглі б не схіліць нас скіраваць да Наваградка, калі б не Нясвіж, да якога адсюль нейкіх усяго чатыры мілі, Нясвіж, славуты не менш за Любчу ў гісторыі Рэфармацыі і літоўскага друкарства, Нясвіж, які быў сталіцай вядомага князя Караля Радзівіла, дзе яшчэ стаіць яго замак, дзе яшчэ захоўваецца яго архіў, а таксама многа легенд пра яго і нават ягоны прах, Нясвіж, да якога вядзе выдатная дарога і куды трапіць можна яшчэ да змяркання. Але косць кінута: едзем у Нясвіж...

## V

Славуты ў мінулым гэты невялікі горад сёння мала чым можа зацікавіць падарожніка. Некалькі касцёлаў, некалькі руінаў іншых муроў, крамы, гаўптвахта, а воддаль напалову жылы Радзівілаўскі замак — вось усё, што на хвіліну забавіць госця горада, але потым пачынае наводзіць на яго нейкую невыказную сумоту, жаданне даведацца пра ўсё, што адбывалася тут у далёкія гады. Вобразы князёў Сіроткі і Пане Каханку ўстаюць ва ўяўленні перад вачыма, выклікаюць розныя пытанні, якія цяпер застануцца, відаць, без адказу...

Радзівілы яшчэ ад язычніцкіх часоў былі вядомыя як слаўныя літоўскія мужы. Яны, праўда, не паходзілі ад Ліздзейкі, галоўнага жраца Літвы, і не ад яго ўзялі сваё прозвішча, як гэта кажа паданне, — быццам бы адзін з іх радзіў Гедыміну заснаваць Вільню. Гэтую легенду стварылі пазней езуіцкія панегірысты, не радзячыся з аўтэнтычнымі крыніцамі, з якіх відаць, што Радзівілы паходзілі ад нейкага Войшміда, а сваё прозвішча як чыстай крыві ліцвіны ўзялі, без сумнення, з літоўскай, а не польскай мовы. Аднак быў гэта заўсёды на Літве славуты род...

У гэтым вось родзе нарадзіўся ў драўляным яшчэ, але вядомым сваім багаццем і славаю Нясвіжскім замку Мікалай Радзівіл, празваны Чорным, славуты вучонасцю, вялікім дыпламатычным талентам, багаццем, уплывам на двор, сваяцтвам з каралём Жыгімонтам Аўгустам. У 1547 годзе як пасланец караля ад імператара Караля V Мікалай Радзівіл Чорны атрымаў ад апошняга тытул Алыцкага і Нясвіжскага князя — для сябе і сваіх нашчадкаў. Гэты замежны тытул не дадаваў яму дома ніякіх правоў, але надаваў магнату большай вагі і велічы ў вачах шляхты. Там, дзе няма сапраўдных фактаў, гісторык не мае права выносіць нейкай з'яве свой прысуд, але ён можа выстаўляць уласныя меркаванні, гіпотэзы, не прэтэндуючы на канчатковую ісціну.

Да такіх не адкінутых гісторыяй гіпотэз можна аднесці намеры Мікалая Чорнага ў яго стаўленні да Літвы. Зямля Альгердаў пры Ягайле і яго наступніках не хутка ўваходзіла ў лона сваёй сястры Польшчы, з якой потым ішла адной палітычнай дарогай долі і нядолі. Пары Ягайлы, родныя і стрыечныя браты якога змагаліся за карону, яна прыпісвала свае няўдачы палякам; няўдачлівы Казімір Ягелончык тысячу разоў сварыў два толькі што пабратаныя плямёны, абвастраючы адносіны паміж імі; пры Жыгімонце І, парушаючы унію, пра якую марылі патрыёты свайго краю, Літва перамаўлялася з Польшчай такімі словамі: «Толькі вайна са скандалам», паводле досціпу чарналескага паэта. Жыгімонт Аўгуст, якому надакучылі сеймавыя буры з нагоды жаніцьбы з Барбарай Гаштольдавай, гразіўся, што кіне Польшчу і перабярэцца ў Вільню панаваць над сваімі вернымі ліцвінамі. Замест абмежаваных каралеўскіх правоў у Кракаве, замест гучных шляхецкіх з'ездаў, замест сеймаў, якія зрываліся магутнымі магнатамі, у Вільні Ягелоны мелі права на спадчыну, усеагульную пашану і неабмежаваную паслухмянасць. Пра падзел дзвюх краін, як відаць, не раз марылі стомленыя барацьбой з народам манархі Ягелоны. Норавы і звычаі Літвы не дазвалялі хутка зрасціся ёй з блізкай сваім паходжаннем краінай, таму літоўскія магнаты адкрыта і патаемна ўздыхалі пра падзел. Але, не зважаючы на тыя непрыемнасці, якія прыносіла унія, Жыгімонт Аўгуст быў дастаткова мудры, каб бачыць палітычныя перавагі еднасці, дастаткова шляхетны, каб нечым ахвяраваць асабіста. Так што паўздыхаўшы па свабодзе літоўскіх лясоў, на практыцы шмат рабіў для з'яднання дзвюх краін, для іх умацавання. Таму ліцвіны, якія хацелі аддзяліцца ад кароны, не маглі спадзявацца, што іх князь і адначасова польскі кароль стане на чале іх. Другім пасля караля па моцы, багацці і асабістых вартасцях быў Мікалай Чорны. У спрэчках караля з народам наконт яго жонкі Радзівілы выпрабавалі сваю моц, таму не дзіва, што ў ганарыстай галаве Мікалая Чорнага магла нарадзіцца думка пра незалежнасць літоўскай кароны ад Польшчы. Ён прыкладаў усе сілы, каб сарваць унію, а паколькі меў немалую моц, уплыў на караля і найвышэйшы ў Літве чын віленскага ваяводы, дык у яго былі ўсе падставы спадзявацца, што яго мара пра незалежнасць рана ці позна, а здзейсніцца. Народу, якому паўтара стагоддзя свяціла ўжо сонца больш высокай цывілізацыі, цяжка было загадаць, каб ён ізноў вярнуўся ў лясы, запаліў агонь Зніча

і чалом біў Перуну. Радзівіл не думаў таксама пакінуць у Літве каталіцызм, хоць у імя рымскай веры аб'ядналіся дзве краіны, якія мерыўся падзяліць. Бо каталіцызм быў верай палякаў, а ён не хацеў, каб Літва мела з імі штонебудзь агульнае. Якраз таму пачаў ён прыглядацца да іншавер'я, якое распаўсюджвалася ў гэты час у Еўропе, і каля 1554 года сам прыняў вучэнне Кальвіна і паволі пачаў пашыраць яго ўсякімі магчымымі сродкамі па Літве, сродкамі, якіх у яго руках было аж занадта многа. Іншыя літоўскія магнаты, не здагадваючыся пра намер Радзівіла, імкнучыся патрапляць духу часовай моды, працавалі ў яго кірунку, прымалі пратэстантызм, садзейнічалі яго пашырэнню ў сваіх уладаннях. Радзівіл са свайго боку заснаваў у Вільні ў сваім доме насупраць касцёла святога Яна другі на Лукішках Гельвецкі збор, прывёў туды двух старанных празэлітаў пратэстанцтва Вандрыхоўскага і Чаховіча, у Брэсце, не шкадуючы выдаткаў, згуртаваў магутныя разумовыя сілы з пратэстантаў, каб яны працавалі над рэдагаваннем перакладу Бібліі, пабудаваў збор у Клецку, на чале якога паставіў Тамаша Сакалоўскага (Фальконя), узнёс таксама зборы ў Койданаве, Свержні, Дзераўной і іншых сваіх уладаннях, а ў Нясвіжы, які быў у яго часы, можна сказаць, другой сталіцай Літвы, акружыўся духавенствам новай веры...

Тым часам палітычная сітуацыя змянілася, і пра ўтварэнне асобнай літоўскай дзяржавы ўжо нельга было думаць, бо ў 1564 годзе Мікалай Чорны Радзівіл памёр, а маладыя яго сыны Мікалай Крыштоф, Юры, Альберт і Станіслаў былі заняты адны вучобай, другія — грамадскай працай. Кавячынскія ж сталі ўсеўладнымі кіраўнікамі Нясвіжа і радзівілаўскіх уладанняў, а грамадская ўзбуджанасць, выклíканая рэлігійнымі спрэчкамі, прайшла не вельмі хутка. Адзін раз парваўшы з вучэннем, тэолагі не маглі ўжо затрымацца ў межах чыстага кальвінізму. Навука Соцына адкрывала новую арэну для тэалагічнай думкі, і Нясвіж дзякуючы намаганням Кавячынскіх, Ланчыцаніна, Крышкоўскага, Фалконаша, Буднага, Паўлі стаў шырокавядомым ачагом арыянства ў Літве. Не гуляла друкарня Лянчыцкага: тут быў перш за ўсё паўторна аддрукаваны «Новы запавет» (1586), выдадзены «Катэхізіс» Буднага і, нарэшце, па два разы выйшла так званая Нясвіжская Біблія, над перакладам якой некалькі гадоў працавалі Кавячынскія, Крышкоўскі і Будны і якая носіць імя апошняга як галоўнага перакладчыка...

У той жа час малады ўладар Нясвіжа Мікалай Крыштоф ужо адведаў двор імператара Максіміляна, праявіў ужо сябе пад кіраўніцтвам Рамана Сангушкі ў рыцарскай прафесіі... На Стэнжыцкім з'ездзе ён захварэў. У сваёй хваробе ён убачыў Боскую кару за свавольствы маладосці і за адрачэнне ад каталіцызму, падчас хваробы адклікаў дыпламатычнага прадстаўніка, прыняў святое прычасце паводле каталіцкага абраду з рук Пятра Скаргі і прысягнуў, што калі выздаравее, то наведае магілу Збавіцеля ў Ерусаліме. Паправіўшыся, прымаў удзел у войнах Стафана Баторыя з Іванам Грозным і, нарэшце, у 1582 годзе выбраўся ў сваю набожную вандроўку...

7 ліпеня 1584 года вярнуўся Радзівіл у Нясвіж, і гэтае вяртанне паклала пачатак новай эпохі ў гісторыі горада — калыскі роду Радзівілаў. Перш за ўсё,

на месцы даўняга, вельмі ўбогага, не адпаведнага княжацкай велічы мястэчка ён заклаў 8 мая падмурак сённяшняга Нясвіжскага замка. Потым пачаў знішчаць усе з такой стараннасцю створаныя бацькам помнікі пратэстанцтва, паліць на рынках у Вільні і Нясвіжы Брэсцкую і Нясвіжскую Біблii, замяняць кальвінскіх пастараў каталіцкім духавенствам...

*1853*

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ «GAZETY WARSZAWSKIEJ» ДНЯ 23 ЧЭРВЕНЯ 1855 г.

(урывак)

Адчуваем неадчэпнае жаданне падзяліцца з чытачамі нашай газеты ўражаннем, атрыманым пасля прачытання маленькай, сціплай кніжачкі пад назвай «Вечарніцы і звар'яцелы», паэзія Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (Мінск, выданне і друк Ёкеля Дворца, 1855, 8, 134 стар.). А галоўным повадам для цяперашняй гаворкі з'яўляецца першы твор — «Вечарніцы», напісаны на беларускай, або, дакладней, крывіцкай мове.

Пекная гэта галіна славянскай мовы — той крывіцкі дыялект і старая! Бо гэта мова нашага Літоўскага статута і заканадаўства на працягу двух стагоддзяў — XVI і XVII. І пашыраная! Бо смела можна сказаць, што на ёй размаўлялі тры чвэрці даўняй Літвы, народ, шляхта і паны. Мова, пазбаўленая пісьмовага значэння, сёння засталася толькі роднай памяткай сялянскіх хат і налічвае, наколькі вядома, толькі двух пісьменнікаў: адным з іх быў незабыўнай памяці Ян Чачот, другі — п. В. Д.-Марцінкевіч.

Першы з іх у сваіх кніжачках пад назвай «Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны» захапляўся, можна сказаць, мовай і паэзіяй крывічанскага народа, сабраў яго песні, перакладаў іх удзячным польскім вершам, выдаў іх арыгінальны тэкст, спрабаваў сам ствараць песенькі на гэтай мове, сабраў народныя прыказкі і, зрабіўшы над мовай шмат глыбокіх назіранняў, заклаў першы падмурак яе граматыкі. За гэтай працай смерць заспела дабрачыннага Чачота.

П. Марцінкевіч, выдатна знаёмы з духам і самымі тонкімі адценнямі крывіцкай мовы, першы наважыўся сам ствараць у большым маштабе творы на нашай народнай гаворцы. Першы вядомы яго твор, так званая «Ідылія», які быў надрукаваны некалькі год назад і з поспехам ставіўся на сцэне ў Мінску, апрача іншых, мае тую яшчэ вартасць, што тут аўтар у вуснах войта вёскі Навума Прыгаворкі сабраў і ўдала выкарыстаў мноства арыгінальных і жыццёвых народных прыказак — неацэнны важнасці матэрыял для рознага роду народных даследаванняў. Бытавая праўда загадала аўтару пераплятаць польскія дыялогі з крывіцкімі адпаведна таму, выступае на сцэну пан, аканом ці хто іншы з шляхецкай пароды, што размаўляе па-польску, або народ з уласнай гаворкай. Але гэта двухмоўнасць у адным творы магла абражаць пераборлівых эстэтаў. Гэта акалічнасць ці само наша няўменне чытаць па-крывіцку былі прычынаю, што «Ідылія» пана Марцінкевіча, хоць

ужо цалкам распрададзеная, не атрымала ў літаратуры такога водгуку, якога заслугоўвала.

У дні маладыя, у час мой шчаслівы
І я араў прынямонскія нівы.

І я навучыўся крывіцкай мове і валодаў ёю з пэўнай элегантнасцю ў размовах з добрым сялянствам Жукава Барка...

## «HEBDOMADALIA»[1]

(урывак)

У адной з нашых літаратурных справаздач у «Gazecie Warszawskiej» мы з вялікай цікавасцю гаварылі пра творы пана Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, пісаныя на беларускай мове — на мове нашага простага народа. Наш разбор «Вечарніц» гэтага аўтара выклікаў свайго роду палеміку ў той жа «Оагесіе», падпісаную літарай V[2]. Паколькі розныя перашкоды не дазволілі мне адказаць на яе адразу, мы павінны былі спыніць тую справу, але вось новы народны твор п. Марцінкевіча (аповесць пад назвай «Купала» ў кніжачцы «Цікавішся? Прачытай!») дае нам нагоду для новай справаздачы і перш за ўсё для ўзнаўлення ранейшага пытання, гэта значыць для адказу на пытанні п. V. Робім гэта тым ахвотней, што пытанні яго скіраваны не на марную літаратурную палеміку, а проста для асвятлення прадмета, а таксама таму, што, асабіста пазнаёміўшыся ў Варшаве з шаноўным нашым апанентам, мы засталіся поўныя такой павагі да яго, што гэту гаворку з ім лічым для сябе вялікай прыемнасцю.

Дык вось у № 138 «Gazecie Warszawskiej» за 1856 год пытаецца ў нас п. V, па-першае: «Ці заслугоўваюць творы, пісаныя на гэтай мове беларусаў, раданага прывітання незалежна ад вартасці іх зместу?».

Адказваем: ні адзін і ні на адной мове напісаны твор не заслугоўвае раданага прывітання, калі ён не з'яўляецца прыгожым або карысным; але калі якая-небудзь мова або гаворка з непісьмовай становіцца пісьмовай, кожная кніжка, што выходзіць на ёй, заслугоўвае занатавання як доказ, што нараджаецца патрэба пісаць на гэтай мове або гаварыць.

(Тут мы адразу апраўдаем шаноўнага апанента, што ён не меў намеру ганіць вартасць прац п. Марцінкевіча, бо сам прызнаецца, што іх не чытаў.)

Пытанне другое: «Ці можна гэту мову (беларускую) прыстасаваць да ўсіх вымаганняў думкі і стылю і ўдасканаліць да ступені, якая заслугоўвае назвы асобнай мовы?».

Адказ: так, таму што ў ёй досыць лёгкасці і разам з тым сілы, яна перадае ў паэзіі мяккія і далікатныя пачуцці, у жывой размове мае лёгкія звароты, трапныя выразы. Адсутнічае ў ёй многа выразаў для перадачы таго, што не ўваходзіць у склад паняццяў і патрэб нашага народа, але з прагрэсам самога ж народа і развіццём пісьмовай мовы здолее яна са сваіх каранёў выпрацаваць словы і выразы, якіх сёння няма. Кожная мова праходзіла эпоху дзяцінства.

Пытанне трэцяе: «Ці варта імкнуцца да гэтай мэты, нават пры тым сумніцельным дапушчэнні, што яе дасягненне аказалася б магчымым?».

Адказ: варта і трэба, як да ўсяго, што скіравана да прагрэсу. Занадта агульна багатую мову славяншчыны шаноўны апанент дзеліць толькі на чатыры галіны, гэта значыць на мовы рускую, польскую, чэшскую і ілірыйскую[3]. Мы не пярэчым, што гэтыя чатыры мовы стаяць на чале славянскіх дыялектаў з прычыны сваёй літаратурнай дасканаласці, але навошта ж іншыя мовы адлучаць ад гэтай дасканаласці, навошта, напрыклад, у мове беларускай бачыць толькі мешаніну рускай і польскай моў? Хіба ж пад гэта самае вызначэнне можна падцягнуць і маларасійскую мову? Калі так, то чаму ж чэшскую і ілірыйскую мовы шаноўны апанент узнімае да годнасці асобных моў? Аднак жа ў іх ён відавочна знойдзе выразы і рускія, і польскія.

З усёй сілай мы аспрэчваем тое, што гаворыць далей шаноўны апанент, нібы «паміж рускай і так званай русінскай мовай, з усімі адценнямі гэтай апошняй, тая розніца, якая ёсць паміж разумна і яскрава апрацаваным творам і простанароднай думкай». Але ж і рускі просты народ яшчэ непісьменны і мае сваю простую мову, далёкую ад кніжнай гладкасці. То выходзіла б, што і гэта простая мова рускага народа будзе зусім такой жа, як і мова русінаў, бо, паводле апанента, розніца толькі ў развіцці. А ўсё гэта не так. Не, сапраўды, усе славянскія мовы маюць амаль адны словы, гэта значыць, назоўнікі і дзеясловы, розніца заключаецца ў акцэнтаванні, прасодыі, кіраванні назоўнікаў і дзеясловаў, словам, у духу моў. Навошта ж гэтыя адрозненні называць скажэннем, калі яны з'яўляюцца ўласцівасцю дыялекту? Навошта, прызнаючы гэту ўласцівасць за чэшскай мовай, адмаўляць у ёй русінскай?

У адным мы ахвотна згаджаемся з апанентам, што ўдасканаленне якой-небудзь мовы не можа быць справай аднаго або некалькіх геніяў, але павінна быць справай усёй грамадскасці, якая гэту патрэбу адчуе і апынецца на пэўнай ступені развіцця. Але хіба ж заслугоўвае гэта асуджэння, калі хто-небудзь, адчуваючы ў сабе ахвоту і здольнасць, захоча пракласці гэтаму народу шлях да развіцця яго мовы? Хіба ж мы не абавязаны падзяліць з гэтым народам наш хлеб надзённы і хлеб духоўны? Хіба ж ёсць што-небудзь дрэннага ў чыста літаратурным сэнсе ў тым, што ў Расіі Катлярэўскі, а ў нас Падура[4] пісалі на маларасійскай мове? Хіба ж іх песенькі ўжо не вандруюць па ўкраінскіх вёсках і сваёй больш цывілізаванай мелодыяй не выконваюць Амфіёнавай місіі[5]?

З усёй пашанай да паважанага апанента паўтараем: на гэтай ніве працаваць можна і варта...

Нарэшце, заўвага, якую мы раілі б п. Марцінкевічу сур'ёзна прыняць да сэрца. Бог не ўкладвае без мэты ў нашы галовы і сэрцы любоў і талент да якой-небудзь галіны ведаў. Ён мае адносна нас і нашага прызначэння свае мэты, якія мы павінны выканаць. Паэзія народная, русінская, з'яўляецца арэнай п. Марцінкевіча — няхай ён трымаецца на ёй, як сапраўдны гладыятар.

Цэзар... горды Юлій Цэзар... дыктатар Рыма, сталіцы свету, праязджаючы праз убогую вёску і ўспомніўшы грознага ў Рыме саперніка Пампея, сказаў гэтыя памятныя словы: «Жадаў бы я тут быць першым, чым у Рыме другім».

*Барэйкаўшчына, 17 снежня 1856 г.*

## Каментарыі

**«Не я пяю — народ Божы...».** Гэты і іншыя творы друкуюцца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

Пераклад з польскай мовы Я. Лучыны ўпершыню быў змешчаны ў яго зборніку «Вязанка» (СПб., 1903) без пазначэння, што гэта пераклад часткі аднайменнага верша Сыракомлі. Арыгінал друкаваўся ў кн.: Kondratowicz L. Poezje. — Warszawa, 1872. — T. 1. — S. 11.

**«Паштальён. Народная быліца».** У аснове твора — пачутае аўтарам у карчме ў мястэчку Мір апавяданне былога паштальёна. Так называлі тады фурмана, што вазіў пошту. Пераклад з польскай мовы М. Лужаніна. Арыгінал змешчаны ў кн.: Syrokomla Władysław. Wybór poezji. — Wrocław; Warszawa; Kraków, 1957. — S. 55—57.

**«Хадыка. Гутарка з палескай мінуўшчыны».** У аснове быліцы — народнае паданне пра асочніка Хадыку. У прыпісцы да першай публікацыі твора ў часопісе «Atheneum» (1848, т. 6) аўтар пісаў: «Гэтае паданне я пачуў ад чалавека, сумленнасць якога — зарука таго, што яно існуе ў сапраўднасці. Пчаліная пасека пад назвай Хадыка знаходзіцца недзе сярод дзяканіцкіх лясоў. Гісторыя яе ўзнікнення такая ж, як мы тут апісалі. Не ведаючы падрабязнасці, не магу з пэўнасцю сцвярджаць пра тапаграфічную дакладнасць. Часу паданне таксама не вызначае». У сапраўднасці ўрочышча з назвай Хадыка ёсць у Салігорскім раёне, у Нова-Цярушкавіцкім лясніцтве. Пераклад з польскай мовы Я. Пфляўмбаўм.

[1] Тынф — дробная манета.

[2] Асочнік — службовец, што асочваў для паноў на паляванні звяроў.

[3] Сесія адкладваецца.

**«Добрыя весці».** Верш напісаны на беларускай мове. Як мяркуюць даследчыкі, яго першы варыянт, створаны ў 1848 г., быў водгукам на рэвалюцыйныя выступленні ў Галіцыі за адмену прыгоннага права. У 1861 г. верш быў дапрацаваны і дапоўнены. Упершыню быў апублікаваны ананімна ў 1862 г. у брашуры «Гутарка старога дзеда».

**«Прысвячэнне ліцвінам народных гутарак».** Паэт гэтым прысвячэннем адназначна паказвае, што сваю творчасць ён адрасуе землякам-ліцвінам, інакш кажучы — беларусам: сялянам і дробнай шляхце — «братам у сярмязе» і «братам у капоце». Пераклад з польскай мовы М. Лужаніна. Арыгінал змешчаны ў кн.: Syrokomla W. Wybór poezji. — Wrocław; Warszawa; Kraków, 1957. — S. 3—5.

**«Лірнік вясковы».** Гэтым творам У. Сыракомля падкрэслівае сваю адданасць простаму беларускаму люду, называючы сябе яго песняром. Адсюль і сам паэт займеў другое імя — Лірнік Вясковы. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

**«Пра маю старую хатку».** Пераклад з польскай мовы У. Дубоўкі. Друкуецца паводле выд.: Сыракомля У. Выбр. тв. — Мінск, 2006.

[1] Лешка — града.

**«Жменя пшаніцы. Народная быліца».** Пераклад з польскай мовы М. Лужаніна. Арыгінал змешчаны ў кн.: Syrokomla W. Wybór poezji. — Wrocław; Warszawa; Kraków, 1957. — S. 385—391.

**«Вінцэнту Каратынскаму пры выданні “Чым хата багата”».** Пераклад з польскай мовы У. Дубоўкі. Арыгінал змешчаны ў кн.: Kondratowicz L. Poezje. — Warszawa, 1872. — T. 2. — S. 41.

**«Улас. Баявая ідылія з палескіх балот».** Урывак з аб'ёмістага твора У. Сыракомлі. Пераклад з польскай мовы зроблены К. Цвіркам паводле кн.: Syrokomla W. Wybór poezji. — Wrocław; Warszawa; Kraków, 1970. — S. 347—389.

**«Ужо птушкі пяюць усюды».** Другі з напісаных па-беларуску вершаў паэта, якія дайшлі да нас. Упершыню быў надрукаваны ў газеце «Kurjer Litewski» 15 верасня 1912 г.

**«Вандроўкі па маіх былых ваколіцах».** Вытрымкі з найбольш значнага празаічнага твора паэта. Пераклад з польскай К. Цвіркі паводле кн.: Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. — Wilno, 1853.

[1] Князь Канстанцін Радзівіл, з якім сябраваў У. Сыракомля яшчэ ў 20-х гадах XIX ст., быў цесна звязаны з прагрэсіўнымі арганізацыямі Беларусі, Польшчы і Расіі. Як адзін з кіраўнікоў антыцарскага Патрыятычнага таварыства наладжваў сувязі з дзекабрыстамі, дзеля чаго сустракаўся ў Вільні з Аляксандрам Бястужавым. Пасля паўстання дзекабрыстаў быў арыштаваны, але яму ўдалося апраўдацца перад уладамі. Падтрымліваў дзеячаў культуры. У яго маёнтку ў Паланечцы знаходзілася рэдакцыя часопіса «Люд і час». Быў карэспандэнтам Рускага геаграфічнага таварыства, куды пасылаў матэрыялы па беларускай мове і этнаграфіі.

[2] Тут ідзе гаворка пра А. Міцкевіча, месцам нараджэння якога лічылі Навагрудак.

[3] Віт Дамінікан — першы ў ВКЛ біскуп аднаго з каталіцкіх ордэнаў — дамініканскага, названага імем заснавальніка.

[4] Бляступовіч Пётр (Кміта Пётр Бляст) — выдавец, друкар і паэт першай паловы XVII ст.

[5] Ян Лянге — выдавец і друкар XVII ст. Узначальваў Любчанскую друкарню ў 1640—1650-х гг.

**«Карэспандэнцыя «Gazety Warszawskiej» дня 23 чэрвеня 1855 г.».** Урывак з рэцэнзіі У. Сыракомлі. Пераклад з польскай мовы Г. Кісялёва.

**«Hebdomadalia».** Пераклад з польскай мовы Г. Кісялёва.

[1] Назва рэцэнзіі — ад назвы газетнай рубрыкі: «тыднёвы» (лац.), што азначае «тыднёвы агляд».

[2] Крыптонім Францішка Скібіцкага (1796—1877) — высокага чыноўніка, публіцыста. Тут гаворка ідзе пра яго артыкул «Творы на простанароднай гаворцы» ў той жа газеце ад 19 мая 1856 г.

[3] Сербска-харвацкую.

[4] Падура Тымко (Тамаш) (1801—1871) — паэт, фальклярыст, пісаў па-ўкраінску і па-польску.

[5] Амфіён — у грэчаскай міфалогіі сын Зеўса і Антыопы, музыка старажытнай Грэцыі. Сваёй ігрой на ліры зачароўваў камяні, якія самі складваліся ў сцены Фіваў.

# АДАМ ПЛУГ
# (1823—1903)



Пісьменнік і журналіст Адам Плуг нарадзіўся ў вёсцы Замосце Слуцкага павета ў шляхецкай сям'і. У 1831 г. яго бацька атрымаў пасаду падлоўчага ў радзівілаўскіх уладаннях, і сям'я Пяткевічаў пераехала ў вёску Жукаў Барок (цяпер Стаўбцоўскі раён). У 1835—1842 гг. Плуг вучыўся ў Слуцкай гімназіі. У час летніх канікулаў у 1840 г. пазнаёміўся з сынам арандатара суседняга прынёманскага фальварка Залуча Людвікам Кандратовічам, які пазней выступаў у літаратуры пад псеўданімам Сыракомля. Маладыя людзі адразу ж адчулі ўзаемную прыхільнасць, памкнуліся адзін да аднаго, і іх першыя спробы пяра выліліся ва ўзаемныя паэтычныя прысвячэнні («Гара Замчышча» Плуга і «Залом» Сыракомлі).

Скончыўшы гімназію, Плуг працаваў хатнім настаўнікам на Падоллі. У 1845—1846 гг. вучыўся на філасофска-літаратурным факультэце Кіеўскага ўніверсітэта. Недахоп матэрыяльных сродкаў вымусіў Плуга спыніць вучобу і вярнуцца да настаўніцкай працы ў Джурыне (Падолле), дзе ўсё больш і больш увагі ён стаў надаваць мастацкай творчасці — пісаў паэтычныя гутаркі-ўспаміны («Жукаў Барок», «Родная песенька» і інш.) і рамантычна-дыдактычную прозу («Споведзь», «Дзетазабойца» і інш.), скіраваную сваім зместам да мясцін маладосці (дэбют Плуга ў друку адбыўся толькі ў 1847 г.). У 1849 г. Плуг напісаў на беларускай мове чатыры апавяданні і адну легенду. У 1856 г. ён прыязджаў у Вільню, быў у Мінску, пазнаёміўся з В. Дуніным-Марцінкевічам, у кастрычніку наведаў Сыракомлю ў фальварку Барэйкаўшчына.

Ажаніўшыся ў 1857 г. з Людвікай Сержпутоўскай, узяў у арэнду вёску Паток каля Вінніцы, але ў 1859 г. адмовіўся ад арэнды і пераехаў у Жытомір. Там разам з жонкай заснаваў мужчынскую гімназію з пансіёнам, аднак у 1861 г. улады пазбавілі іх правоў утрымліваць гэту асветную ўстанову. У 1862 г. жонка Адама Плуга была арыштавана за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях і зняволена ў Оўручы, а ў 1864—1866 гг. і сам Плуг знаходзіўся пад арыштам у Жытоміры, потым у Кіеве. Не маючы магчымасці з-за палітычнай ненадзейнасці знайсці працу на больш-менш працяглы перыяд, ён часта мяняў месца жыхарства, займаўся гувернёрскай працай. Асаблівую вастрыню яго сацыяльная неўладкаванасць набыла пасля смерці жонкі (1868).

У снежні 1874 г. Плуг прыняў прапанову выдаўца В. Левенталя пераехаць у Варшаву і супрацоўнічаць у новым часопісе. З 1875 да 1879 г. быў сурэдактарам, а ў 1879—1890 гг. — рэдактарам часопіса «Kłosy» («Каласы»), дзе друкаваў шмат матэрыялаў пра Беларусь. Калі часопіс спыніў свае існаванне, Плуг стаў галоўным рэдактарам «Вялікай усе-

агульнай ілюстраванай энцыклапедыі» (1891—1903), адначасова працаваў літаратурным кіраўніком часопіса «Wędrowiec» («Вандроўнік», 1894—1899), уваходзіў у склад газеты «Kurjer Warszawski» («Варшаўскі веснік», 1899—1903), шмат зрабіў для развіцця польскай журналістыкі і выхавання літаратурнай моладзі. У Варшаве Плуг быў членам многіх дабрачынных, навуковых і літаратурных таварыстваў і камітэтаў, прычыніўся да арганізацыі беларускага літаратурна-асветніцкага гуртка. У варшаўскім касцёле св. Крыжа ў 1905 г. устаноўлены бюст Адама Плуга.

*У. Мархель*

## ЖУКАЎ БАРОК

### УЛАДЗІСЛАВУ СЫРАКОМЛЮ

Вунь яна, сядзіба продкаў,
З садам тым, з гняздом буслiным,
З шустрых ластавак чародкай,
З буркатаннем галубiным.
Родны кут. Стаю, застылы.
Во наш дом бацькоўскі мілы.
Пацямнелі, збляклі сцены.
Дзе ты, час наш летуценны?
Жураўлінымі ключамі
Адляцеў ад нас імкліва.
Дом акенкамі-вачамі
На мяне глядзіць тужліва.
З палыном глухім ля клеці
Сумна шэпчацца ўжо вецер.
І сабака ў будцы вые...
А ці помніш, як бывала,
Дружа, ўсё тут шчасцем грала?
Пойдзем к хаце... Ах, мой браце:
Людзі іншыя, чужыя
Там цяпер гаспадарамі;
Могуць дзверы ў нашай хаце
Зачыніць яны прад намі.
Дзе ж цябе я прывітаю?
Хай кутка, мой друг не мае,
Дзе б цябе я хоць часамі
З распасцёртымі рукамі
Мог сустрэць каля парогу
І абняць, мой любы дружа,
Ды я маю, дзякуй Богу,
Сэрца, што кахае дужа.
І ты у ім, калі ні знойдзеш,
Дом наш даўны, родны знойдзеш.

## СТАНІСЛАВУ МАНЮШКУ

Слаўны музыка наш, родны, адзіны!
Песні твае, сэрцу мілыя песні
Шчасцем былі мне, калі я ў час весні
Мроіў пра край наш пад небам чужыны.
Быў я далёка — за сёмай ракою
І за дзявятай, бы у казцы, гарою.
Хмарка з Літвы ў край той не дападала,
Хуткая пташачка не далятала.
Песня ж твая далі ўсе адалела,
Пташкай радзімы ка мне прыляцела.
Любы літоўскай душы яе тоны —
Склаў жа яе наш зямляча натхнёны.
Залатакрылая пташка мая ты!
Мусібыць родам з самога ты раю:
Ледзь ты ўсплывеш — па сваім, здэцца, краю
Зноў я іду пад лясоў нашых шаты.
Ах, як там соладка сэрцу на волі!
Быццам не ездзіў я з дому ніколі,
Бы шчэ малы я, і песня матулі
Мне над калыскай гучыць: люлі, люлі...
І ўваскрасаюць гады залатыя,
Сцежка за гумнамі, родныя твары,
Бубны вяселляў, юначыя мары,
Зоры між вішнямі, травы густыя...

Дзякуй табе за раскошу такую.
Ты — чарадзей, цябе слухаюць хаты.
Стаў праз цябе я таксама багаты —
Сонечны скарб твой у сэрцы нашу я.
За дабрату ўсё аддаць у нас людзі
Могуць — такі маюць звычай спрадвечны.
Хай жа любоў мая шчырая будзе
Платай табе, наш музыка сардэчны!

## В. МАРЦІНКЕВІЧУ, АЎТАРУ ТВОРАЎ НА БЕЛАРУСКАЙ ГАВОРЦЫ

Сэрцам падбіў ты мяне ў сваёй хаце[1],
Дык я, вандроўнік з Падолля[2], ліцвін,
Сэрцам шлю плату, ліцвіне мой браце,
І за хлеб-соль, і за слодыч хвілін.
Я, быццам плуг, а вось ты, як араты,
Мовай сялянскай праводзіш пасеў
Той, што ў свой час над быллём будзе ўзняты,

Вырасце ў сад найцудоўнейшых дрэў.
Хай жа бог працу тваю асалодзіць,
Хай блаславіць пачэсны твой пот,
Хай твой пасеў ажно сто разоў родзіць,
Хлебам духоўным хай корміць народ.

*1856*

## КРУЧАНАЯ БАБА

Апавяданне

Жыў на свеце адзін гаспадар, ды такі бедны — ажно страх, ніхай Бог крые; але працавіты, справядлівы, цвярозы, і калі б не жонка, дык быў бы шчаслівы; на няшчасце ў жонцы яго цэлае ліха сядзела, як гэта, не тут кажучы, часценька і бывае ў людзей...

Во гэтае ж цэлае ліха і сядзела ў жонцы, але і была ж яна шэльмай з-пад цёмнай зоркі! Не кажу ўжо таго, што грызла яго, быццам соль у воку, што сакатала яму ўдзень і ўноч над галавою, на гэта ж бабы і родзюцца. Але галоўнае: ніякага сакрэту, крый божа, утрымаць не магла. Што толькі муж зрабіў, што толькі пастанавіў зрабіць, нават ужо памысліў, яна ўжо ўсё ведала ды зараз жа бегла ад хаты ў хату ды ўсім аб гэтым сакатала, дабаўляючы ў чатыры разы больш, чым папраўдзе было. Гэтак і сама мужу прыносіла навіны ды малола ўсялякія брэдні: пры сакатлівасці сваёй была яна і надзвычайна легкавернай.

Здарылася неяк адзін раз, што гаспадар наш, аручы поле, пусціў валоў пасвіцца на мяжы, а сам пад кусцікам прылёг крыху адпачыць. Глядзіць, ажно надыходзіць нейкі дзядок з вялікім гаршчком пад палою сярмягі ды з рыдлёўкай у руцэ. Гаспадар ляжыць бы мёртвы, толькі вочы, быццам рак, вытарашчыў ды вушы наставіў, як заяц. Вось дзядок выкапаў ямку, паставіў у ёй гаршчок дый пачаў закапываць, кладзючы лапатай хрэсты і балмочучы:

«Той хай зможэ ўзяць усе грошы, хто тут узложыць сем галоў». Закапаў, пашаптаў ды і пайшоў.

Гаспадар з гэткага дзіва прызадумаўся моцна, а затым стаў чухаць галаву. «Гэй, — і думае сабе, — скуль бы мне ўзяць гэтыя сем галоў? Вось калі б гэтак жонка мая мела іх і семдзесят сем, дык не пажалеў бы іх, а ў яе толькі адна галава і тая дурная. Як бы тутака парадзіць?»

Доўга гэтак думаў, ляжаўшы дагары пузам ды лічучы хмаркі на небе, а над ім лётала цьма аваднёў. Як толькі які з аваднёў сядзе яму на нос, ён зараз яго ўхопіць, адарве галоўку авадню, саломку — у хвосцік, пусціць яго ды смяецца вясёла, гледзячы, як авадзень ляціць, бы ашалелы, высокавысока, пакуль не прападзе пад небам. Шмат галоў ужо адарваў, многа саломак ужо ўсадзіў авадням, думаючы ўсё аб сямі галавах; ажно неяк добрая думка ўвайшла яму ў галаву. Скочыў на ногі дый давай лавіць аваднёў; злавіўшы іх сем, пайшоў туды, дзе дзядок закапаў свае грошы, выкапаў іх з зямлі, а кідаючы ў яму адна за другой галовы, якія адрываў авадням, пры-

гаварваў: «Вось адна галава, вось і другая галава!». І гэтак ажно да сямі. Кінуўшы ўсе, забраў гаршчок і, шчаслівы, уцёк дахаты. Здурэўшы з радасці, сказаў жонцы аб сваім шчасці, а як прыпомніў сабе, што зрабіў глупства, кажучы аб гэтым жонцы, падумаў сабе: «А ліха ж яе мацеры! Селі пяцігорцы макам, кабыла порах з'ела! Што я нарабіў? Як цяпер на гэта парадзіць?»

Думаў дый выдумаў. Пайшоў у мястэчка, накупіў пірагоў больш за чатыры капы дый прынёс у хату. Капу рассыпаў на дварэ, капу кінуў на страху, панатыкаў крыху ў плецень дый рэшту ўзяў у хату, шыбкі ў вокнах пабіў, а пірагі параскідаў па ўслонах ды па палу. Жонкі не было ў хаце, апавядала яна ўжо ў другім канцы сяла, як гэта муж яе чатыры катлы грошай знайшоў, чаму, вядома, ніхто веры і не даваў. Аблітая потам, прыбягаець яна ў хату; глядзіць, цэлы двор усланы пірагамі, пірагі на страсе, пірагі ў плетні, а хата з пабітымі шыбкамі ў вокнах.

— Што гэта? — пытаецца з дзівам.

— Ці ты не бачыла, — адказвае ёй муж, — як ішла хмара з пірагамі замест граду? Збірай хуценька, каб суседзі не бачылі.

Пазбіралі ўсё дый схавалі ў клеці. Жонка зараз жа пабегла з хаты ў хату дый давай апавядаць людзям, як над іх падворкам лопнула хмара з пірагамі, каторых і назбіралі поўную клець. Варочаецца баба дамоў, ажно па дарозе сустракае мужа з гаццю на рыбы, ды вось дзіва, у гаці чатыры шчукі ды два маладыя зайцы.

— Што гэта? — ізноў пытаецца.

— А што, — адказвае муж, — паставіў я гаць на рыбы, а Бог даў рыбы ды зайцоў.

— Ов-ва! — крыкнула жонка. — Вось дзіва, так дзіва! Зараз і пабегла хваліцца ў сяле, што муж злавіў гаццю ў рэчцы дзесяць шчук ды пяць зайцоў. Вярнуўшыся позна ўвечар, бачыць, што мужа няма ў хаце; урэшце прыбягае ён, мокры ад поту, бытцам рудая мыш, а ў руцэ трымае здор сала.

— Што гэта? — пытае ў яго жонка.

— Маўчы, дурная! — кажа ёй муж на вуха. — Пан улез у клець дый краў сала, я, дагнаўшы, адабраў ды шэльму выхвастаў, як сабаку. Ды глядзі ж мне, не расказывай нікому, бо будзе бяда!

Прайшоў адзін тыдзень, другі, гаспадар пабіў сваю жонку за нейкае там ліха. Злуючы на яго, жонка і кажа:

— Пачакай жа, гадзюка! Пайду я да пана, усё чыста скажу, як ты знайшоў грошы.

— Ідзі к чортавай мацеры!

Яна так і пабегла. Пан прысылае за мужыком. Калі яго спыталіся аб знойдзеных грошах, здрыгануў ён плячыма, пачаў хрысціцца ды клясціся, адказваючы:

— Дalібог, ані чуў, ані бачыў!

— Хлусіць, паночку! брэшыць! — крычала заўзятая баба. — Знайшоў, далібог, знайшоў, у той самы дзень, як хмара ішла з пірагамі.

— Ашалела баба! — кажа здзіўлены пан.

— Скруцілася, паночку! — адказаў муж, уздыхаючы.

— Сам ён скруціўся! — дзіка крыкнула баба. — Знайшоў, далібог, знайшоў, у той самы дзень, як два зайцы ды чатыры шчукі ў гаць улезлі.

— Што табе, баба? Упілася ці ашалела? — пытаўся пан ад смеху, трымаючыся за пуза, каб не лопнуць.

— Кручаная, паночку! — сказаў муж, ламаючы рукі. — Вось і доля мая, доля няшчасная!

— Сам ты кручаны! — крычала, быццам ашалеўшы, баба, грозячы свайму мужу кулакамі. — Знайшоў, паночку! Каб я счарнела, як зямля, калі не праўда! Знайшоў у той самы дзень, выбачай, паночак, як пан сала краў!

— Няшчасная мая доля, горкае маё жыццё! — крыкнуў мужык са страхам.

А пан, смеючыся, як ніколі ў жыцці, прыказаў бабу завясці да студні ды выліць ёй колькі вёдзер вады на галаву, каб ёй глузды прыўраціць.

*Сноў, 1849.*

## НЯНЬКА

Аповесць

(фрагмент)

...У доміку аканома на перадвелікодную суботу лілося святло з усіх вокнаў і аконцаў, панавалі шум і мітусня. Яго маладая жонка, чакаючы гасцей, дапякала велікодныя бабкі і сачыла, каб у кожным пакоі было бялым-бяло і ўсё ў парадку. Гаспадар тым часам прычасаў сваю чупрыну перад маленькім люстэркам, апрануўся. Нарэшце пяшчотна абняў сваю гаспадыньку:

— Ну, Басенька, да пабачэння. Я за сябе і цябе памалюся, а ты ўжо потым пабяжыш на позняе набажэнства. Я прывяду ранютка ці мала гасцей, будзь гатова. А калі вокны задрыжаць, то не бойся, гэта будзе значыць, што я табе шлю велікоднае прывітанне. Я буду гарматнікам і не пашкадую пораху... Жонка асцерагла яго.

— Я не дзіця, — быў адказ.

На развітанне ён пяшчотна пацалаваў дзіця ў калысцы і выйшаў. Маладая гаспадыня з дзвюма дзеўкамі накрыла стол, святочна апранулася і стала маліцца, каб падрыхтаваць душу да Уваскрасення Хрыстовага. Як раптам быццам гром грымнуў, уздрыгнуўся ўвесь домік, забрынчалі шыбы ў вокнах, зазванілі касцёльныя званы, услед за гэтым сабакі завылі і жаласным плачам зайшлося дзіця ў калысцы. Нейкі дзіўны боль пранізаў сэрца жанчыны, яна згубіла ніць малітвы і з незразумелай трывогай кінулася да калыскі, паспрабавала супакоіць дзіця. Сакавіцкі вецер завываў разам з сабакамі; раптам скрыпнула брама, пачуліся чужыя крокі і нейкія таямнічыя галасы ў двары. Дзверы адчыніліся, яна глянула — уваходзяць нейкія людзі, рванулася на ногі і са стогнам упала на зямлю, як падкошаная. Чацвёра мужчын унеслі ў хату цела яе мужа, якому разарвала асколкамі гарматы галаву.

(Засталіся ўдава і сірата без хлеба. Знайшлі яны прытулак у сям'і свайго арандатара Падчашыца.) Адольф Падчашыц нічога, апрача благаславення і прынцыпаў высокай маральнасці, у спадчыну не атрымаў. Кроўю і потам з боскай

дапамогай узнімаў ён узяты ў арэнду маёнтак, даведзены ранейшым гаспадаром да заняпаду: сяляне там пухлі ад голаду, трухлявелі хаты і іншыя пабудовы. Лічыў лепшым сваім поспехам, калі ўдавалася выцягнуць просты люд з нэндзы і галечы. Бог адарыў яго сямейным шчасцем, штогод нараджалася ў яго дзіця, старшаму было восем, а пяты — немаўля. Тут дапамога Басі была бясцэннай, яна для дзяцей стала анёлам-засцерагальнікам. Цяжкае для вымовы імя Барбара дзятва ператварыла ў «Баба».

Многія сваталіся да яе, ведаючы, што ва ўдавы не толькі залатыя рукі, залаты характар, але набралася рублёў дзвесце; атрымоўвалі адмову... Падчашыцы шчыра ўгаворвалі яе выйсці замуж, мець сваю сям'ю, распісвалі шчасце жыць з чалавекам, які любіць, які багаты, умаўлялі і, нарэшце, Бася прыняла заручальны пярсцёнак ад пана Гіляра, блізкага суседа.

Але тым часам наступіў памятны 1812 год. Зашумела, загуло... Аднойчы пан Адольф паехаў у поле і не вярнуўся, прапаў без вестак. Праходзілі дні і тыдні, і нарэшце, нейкі вандроўны лавачнік прывёз ад яго пісямко ▪ лагера палонных. Спадзяваліся толькі на Бога. Сталася і бяда — ноччу рабаўнікі ўламаліся ў двор, цудам удалося з дзецьмі ўцячы ў лес. З гаспадарскіх пабудоў, узнесеных з такой цяжкасцю, засталася толькі жменя попелу; раптоўна сям'я дайшла да поўнай галечы. Хаваліся ў лясной глушы, згрудзіліся ля вогнішча, якое вось-вось сатлее, на ноч пасцялілі мох, хусцінка замест коўдры; раптам у кустах нешта заварушылася — мо звер які? — не, іх улюбёнец Жучок: на першы погляд надзея малая, але якую ён прынёс радасць, асабліва дзецям! Калі ўсе паснулі, устала Барбара, паклікала Жучка і пайшла шукаць знаёмых па хутарах, вярнулася ранкам; сама несла, сабаку нагрузіла, прынесла адзенне, ежу, расказала, дзе была, як суседзі на іх бяду адгукнуліся. Прыляцела і сарока, якую прыручылі дзеці, узрадавалася малеча, што птушка ацалела. Яшчэ і цэлыя суткі перахоўваліся, потым пачалі выходзіць з лесу, сустрэлі іх толькі парабкі з падводай, паехалі ў дом вікарыя, там ім адвялі пакойчык. Пані Падчашыц пасля такой бяды звалілася ў гарачцы.

Барбара ўвесь клопат аб дзецях узяла на сябе, а тут прыязджае афіцыял па арэндную плату. Не пусцілі яго да хворай, як ні пагражаў, прагналі з дома. Потым стала патаемна звяртацца да сялян за дапамогай. І прыпомнілі сяляне, якую арандатар Адольф Падчашыц даў ім дапамогу, што за яго грошы і хаты паставілі, і скаціну набылі, што пры іншых арандатарах з іх восем скур спусцілі б і канчаткова разарылі б. Вырашылі сабраць грошы і даць іх Барбары, бо сама пані арандатарка не возьме. Доўга Барбару ўгаворвалі ўзяць грошы, але яна пакуль што іх не ўзяла, а вырашыла параіцца з суседам у маёнтку Загалле; можа, і яго якое няшчасце напаткала, бо даўно нічога не чулі аб ім. «Жывы ён і здаровы, — адказаў Максім, — уцякае толькі адтуль, дзе дровы сякуць, каб трэску ў лоб не атрымаць. Арандатар Загалля хітры, нібыта і любіць вас і добры, але якая гэта дабрата, калі ведае, што здарылася, а носа не пакажа». Не паслухалася Барбара і паехала ў Загалле. Едуць — спераду дарогі няма, далей — узаранае поле, кожны шматок зямлі знаёмы, а дарогі не знаходзяць. Па ворыву дабраліся да маёнт-

20 Зак. 1799

ка Гіляра, сустрэла іх ахова, зачыненая брама і перапалоханы гаспадар. Гэта ён, Гіляр, загадаў усе дарогі пераараць, каб бандыты на яго сядзібу не наляцелі. Зайшлі ў маёнтак, а там — пустка, ні кароў, ні коней, толькі бярэмца саломы.

— Што здарылася, ці не напалі рабаўнікі?

— Не, слава Богу, але схаваў свае пажыткі, сцеражонага Бог сцеражэ.

— Прыехаў бы, параіў, дапамог.

— Чым бы я памог, я ж не Саламон.

З гневам Барбара сарвала абручальнае кольца і бразнула вобземлю. Выпаліла Гіляру ўсё, што аб ім думае. Хвала Богу, што яе ад замужжа засцярог. (Вырашылі пераехаць у Слуцк. Праводзіла іх уся вёска.)

## Каментарыі

**«Жукаў барок. Уладзіславу Сыракомлю».** Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі.

**«Станіславу Манюшку».** Верш упершыню надрукаваны ў кнізе «Голас з Літвы», выдадзенай ў Мінску ў 1859 г. Пераклад з польскай мовы К. Цвіркі. Станіслаў Манюшка (1819—1872) — беларускі і польскі кампазітар, дырыжор, педагог. Нарадзіўся ў былым фальварку Убель Чэрвеньскага раёна, вучыўся музыцы ў Мінску, працаваў у Вільні і Варшаве. Сябраваў са сваімі землякамі-ліцвінамі Ю. І. Крашэўскім, У. Сыракомлем, А. Плугам, В. Дуніным-Марцінкевічам, пісаў музыку на іх творы. Найбольш значныя для Беларусі яго музычныя творы — «Ідылія» (лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча); оперы: «Галька» (ставілася ў Мінску: у 1856 г. — на польскай мове і ў 1975 г. — у перакладзе Я. Купалы), «Страшны двор» (у 1952 г. пастаўлена ў перакладзе на беларускую мову М. Танка); кантата «Крымскія санеты» на словы А. Міцкевіча; 12 песень на вершы Я. Чачота. У сваёй творчасці С. Манюшка выкарыстоўваў беларускі фальклор.

**«В. Марцінкевічу, аўтару твораў на беларускай гаворцы».** Верш напісаны ў 1856 г. Перадрукоўваецца са штогодніка «Далягляды». — Мінск, 1989. — С. 185. Пераклад з польскай мовы П. Бітэля.

[1] «Сэрцам падбіў ты мяне ў сваёй хаце». А. Плуг наведаў В. Дуніна-Марцінкевіча, які крануў яго за жывое сваёй гасціннасцю, любоўю да родных мясцін, творчасцю на сялянскай мове.

[2] «Вандроўнік з Падолля» — так жартам называе сябе паэт, бо жыў і працаваў у гэты час на Падоллі, ва Украіне (цяпер Цярнопальская вобласць).

**«Кручаная баба».** Апавяданне на беларускай мове. Напісана ў 1849 г., апублікавана спачатку ў 1918 г. («Варта», № 1), затым у 1920 г. («Часопісь», № 2). Перадрукоўваецца з часопіса «Спадчына», 1992, № 4 (навуковая публікацыя У. М. Казберука). У аснове твора — бытавы анекдот, які расказвае вясковец.

**«Нянька».** Аповесць упершыню апублікавана ў часоп.: Teka Wileńska. — 1857. — № 1, 2. Перадрукоўвалася з нязначнымі карэктывамі ў «Поўным зборы твораў» (Жытомір, 1862. Т. 1); пазначаны дзень і месяца заканчэння: «7 верасня 1857 г., в. Паток» (Украіна, Падолле). Твор прысвечаны аўтарам сваёй няньцы Эльжбеце Падлескай у доказ пашаны і ўдзячнасці. Пераклад з польскай мовы І. С. Шпакоўскага.

# НЕВЯДОМЫ АЎТАР



«Гутарка Данілы са Сцяпанам» — ананімны твор беларускай літаратуры XIX ст. Упершыню апублікавана П. В. Шэйнам у часопісе «Русская старина» (1886, т. 49). Напісаная напярэдадні сялянскай рэформы 1861 г., «Гутарка...» ў мастацка-публіцыстычнай форме рэалістычна паказвала бяспраўнае жыццё сялян, бязлітасную эксплуатацыю іх памешчыкамі. У творы яскрава выявіліся бунтарскія настроі сялянскіх мас, іх нянавісць да прыгоннікаў. Сваё вызваленне сяляне спадзяюцца атрымаць з рук «цара-бацюхны», але ўсё ж разумеюць, што цар заадно з панамі.

*Г. Кісялёў*

## ГУТАРКА ДАНІЛЫ СА СЦЯПАНАМ

Зышоўшысь Даніла святым днём з Сцяпанам,
Харошаю пагодаю селі пад парканам,
Дый й ну ж талкаваці, ды й ну ж гаварыці:
«Што далей з нас будзе, як мы будзем жыці?
Гавораць па свеце, уголас талкуюць,
Ад ксяндзоў, ад рабінаў усе людзі чуюць,
Што вольнасць нам, бедным, дасць без адкладу,
Толькі што з панамі не дойдзема ладу.
Чаго адны хочуць, то другім не міла.
Як чорт перад д'яблам, пражэцца іх сіла,
Цар ім патурае, а яны хітруюць,
Змовіўшысь з сабою, цару так талкуюць:
«Пане найяснейшы, што з гэтага будзе,
Даўшы усім вольнасць, — кожан тое згудзе[1],
Бо мужык без пана быць ніяк не можа:
Паб'юцца, паколюцца, сцеражы ты, Божа,
Над ім трэба штодзень з кнутам стаць над каркам,
Розгі каб ляжалі возам за хвальваркам,
Гразы як не будзе ад двара над хамам,
Паб'юцца, паколюцца, на век векаў аман.
Мужык без гарэлкі перабыць не можа,
П'яны не уступіць, сцеражы ты, Божа,
Але стане біцца, калі яму трэба,

Хоць дзецям у хаце няма куска хлеба.
А як пана мае, то мужык баіцца,
Хоць кары не возьме, то хоць надрыжыцца,
Бо знае, што яго за ўсё пан скарае».
От, браце, як яны падылгаць умеюць,
Перад царам ў вёсцы на нас плясці смеюць,
Ім гэта не смашна костка ў горле стане,
Як мужык без пана вольнасці дастане.
Што хочуць, то баюць, лгуць, як самі знаюць,
Верыць ім цар смела, яны ласку маюць,
А мы, бедны, браце, церпім скрозь няволю,
Жыццё праклінаем, сваю горку долю.
Праўда, што не чулі дзяды, ні айцове,
Каб над мужыкамі не былі панове,
Но цяпер на свеце ўсё іначай строяць,
Ужо не сярмягі, ды сурдуты крояць.
Трэснуць яны, лопнуць, ужо іх не будзе,
Бо ўжо рэчы сталі у цара аб людзе:
Каб быў мужык волен ды цар яго панам,
Каб не смеў ніколі зваць пан яго хамам.
Будзе тое, браце, дажджом, мой Сцяпане,
Што пан на нас скажа: мой каханы пане.
Мы на іх не глянем і шапкі не знімем,
Хоць блізка нас будуць, не кланяўшысь, мінем.
Годзе і ураднік хванабэрыі строіць,
Каўбасы, пячэнні на талерцы кроіць,
Перастане клікаць стоража, старожкі,
Каб давалі сухіх дровак пад трыножкі,
Вады каб прынеслі свежае з крыніцы,
Гладышы памылі, цэбры і дайніцы,
Каб міскі і ложкі падалі бяленькі,
Саганы і рондлі[2], як люстра, ясненькі.
Вычвараць не будзе за пражу і ніці,
Перастане таўчы, папіхаць і біці.
Не будуць ганяці войты ад паўночы
На прыгон, заліўшы гарэлкаю вочы;
Пакінуць нас лаяць за касьбу, гаранне,
За жніво, грабенне і стагоў складанне,
Што часам спазніўся стаці да работы,
Што робіць памалу, як бы без ахвоты.
А як часам прыйдзеш чаго папрасіці,
Няма ж чым гараці, няма ж чым касіці:
Будзь ласкаў, паночку, паратуй ў прыгодзе —
Аж ён крычыць, лае — няма ж канца, годзе.
А каня ці хлеба дастаць вельмі трудна:

Пан сам нездаровы, пані нешта нудна —
Прыйдзі другім разам, а тым часам ў полі
Не зробіш у пору работы ніколі,
Бо і на прыгоне няма ж чым рабіці,
І з дому на поле — не за парог выйсці;
Ідзі, хоць ты трэсні, не паспагадаюць,
Ніякае ўвагі над намі не маюць.
Дажджом рабі дома, пагода як блісне,
Ані адна душа ў хаце не пісне,
На прыгон без шчоту — з сярпом і з касою,
Валы да гарання, коні з бараною.
Той паліць вуголлі, той рыбу лавіці,
Таму сенажаці, кусты церабіці,
Той павязе водку, а той муку, збожжа —
Работ загадаюць, сцеражы ты, Божа!
Таму сена грэбсці, таму стог складаці,
Таму тарпы класці, таму падаваці —
Згінь, прападзі, ліха! Да чорта работы,
Дзіва, што не стане часам і ахвоты!
Прыйдзе восень, зарой да дзякла[3] ганяюць,
Грыбы, яйца, куры толькі адбіраюць.
Магазын адсып, аддай да зярняці,
Без куска хлеба аставяць у хаце,
І чынш, і падаткі аддай без адкладу,
На рэкрута, пана — няма ж складкам ладу!
На стойкі, дарогі ганяюць ў нядзелі,
Каб яны у жыцці пацехі не мелі!
Чаму на старожу прыйсці спазніўся?
Чаму ты сякеры, рыдля ўзяць забыўся?
Дзе твой мех і сіта, рэшата і сечка?
За што там такое з войтам была спрэчка?
Браварнюю старожу адбывай без шчоту,
Там удзень і ўночы не скончыць работы!
А ў валоўні, як чорт у пекле, таўчыся,
Няма ж там спогадзі, ці плач, ці маліся,
Ці дождж, ці завея, ці мароз найбольшы,
Чым горшае надвор'е, то тым прыказ горшы.
Уставай да работы парою без спрэчкі,
Выцягнуць з-пад лавы, сцягнуць цябе з печкі:
Ты йдзі малаціці, ты у млын малоці,
Картоплю садзіці, ты ідзі палоці,
Таму быдла пасвіць, а таму авечкі,
Ты да коп на варту, ты ідзі да грэчкі,
Ты ступай да коней, а ты са свіннямі,
Малая да качак, больша за гусямі.

Як чорта, піхаюць, ўсюды слухаць трэба.
Часта няма ж калі з'есці куска хлеба,
Днём стравы ніколі цёплай не скаштуеш,
Полудзень кароткі, шапнуць няма часу,
Ад цівуна-войта давольна крыку, галасу;
А ўраднік, як чорт, сярдзіты і злосны,
Погляд быстры, строгі і голас даносны,
Як стане па-свойму лаяць і крычаці,
То душа із целам мусіць расставаці,
А на злосць як трапіш, то пачысціць зубы,
Схопіш аплявуху, аж кроў пойдзе з губы,
Чупрына не пэўна, бо падскубе куса,
Паправіць бараду і падскубе вуса.
А што страху надасць, а што надрыжышся,
Ці плач, ці скач перад ім, ці як хоч маліся,
Нічога то не паможа, чакаць канца мусіш,
Хоць праўда, аднак жа языка прыкусіш.
Зараз каркі скруцяць. Гэтае урвецца,
Хванабэрства згіне, панства іх мінецца.
Няхай дасць Бог толькі вольнасці прыждаці,
Будуць паны самі слёзкі палыкаці;
На полі, дзе калісь сох было, як маку,
Не знойдуць загона і раллі ні знаку —
Усё лаза адлогам, лазы будзе воўку,
Звяжуць паны скора без людзей галоўку;
А па сенажацях не пойдзеш за лесам,
Бо хто ж будзе касіць? Хіба ён сам з бесам!
Прыгон як урвецца і талакі не стане,
Скончыцца адразу іхна панаванне.
Тады яны хіба, што бяда, пазнаюць,
Бо цяпер ніколі нам не спагадаюць:
Ідзі толькі, хаме! от і ўся гаворка!
З нашай працы грошы складаюць да ворка[4].
Дай нам толькі, Божа, скоранька прыждаці,
Каб маглі спакойна пасядзеці ў хаце,
Пана не баяцца і войта загаду,
Было б у нас болей і дабра і ладу.
Не адзін сказаў бы: мой пане Сцяпане,
Будзь ласкаў, сягоння прыйдзі на гаранне,
Заплачу, што хочаш, водкай пачастую,
А для тваіх дзетак гасцінца дарую;
Калі ласка, заўтра падбяжы з касою,
Жонка, дочкі з серпам, а сын з бараною.
Наперад і грошы, бо мне раз плаціці,
Бо, я цябе знаю, не ўмееш круціці.

А вось калі ліха як ужо прыцісне,
Не адзін застогне і не адзін пісне,
Бо годзе над намі здзекавацца строга,
Прыйдзе і на паноў каранне ад Бога.
Яны нас глумілі, плакаць не давалі,
Вінен ці не вінен — без канца каралі.
А цяпер ім самім тое дастанецца,
Што нам дасюль было, то на іх шчаўпецца.
А тым нашым панам, што нас вельмі дралі,
Даў бы Бог, каб яны на сабе дазналі:
Галоднаму сыты спагадаць не мусіць,
Пакуль чужой бяды сам не укусіць.
А вось тады пазнаюць па чаму фунт ліха,
Як воўк пад лаваю, не уляжыш ціха,
Паскрабуць чупрыну, як не стане хлеба,
Як Бог і цар хоча, мусіць, так і трэба».
Можа б, болей гаварыў бы Сцяпану Даніла,
Але на пагібель войта накруціла,
Як стаў загад строіць, як пачаў крычаці,
Мусілі гутарку сваю перастаці.

## Каментарыі

**«Гутарка Данілы са Сцяпанам».** Упершыню твор апублікаваў П. В. Шэйн у «Русской старине» (1886). Друкуецца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 1988. — С. 27—31.

[1] Спаганіць, знявславіць.

[2] Каструлі.

[3] Дарожная павіннасць.

[4] У грашовым мяшку.

# ПАВЕЛ ШПІЛЕЎСКІ
# (1823—1861)



Нарадзіўся Павел Шпілеўскі ў 1823 г. у вёсцы Шыпілавічы Бабруйскага павета, дзе яго бацька служыў праваслаўным святаром. Дзяцінства Паўла прайшло ў павятовым горадзе Ігумене (цяперашнім Чэрвені), куды ў 1825 г. перавялі Міхаіла Шпілеўскага (бацьку), якога прызначылі кіраўніком царкоўнай акругі. Міхаіл Шпілеўскі і для сына вызначыў духоўную кар'еру, таму адправіў яго вучыцца ў Мінскую духоўную семінарыю, а потым — у Пецярбургскую духоўную акадэмію.

Працоўную дзейнасць П. Шпілеўскі пачаў выкладчыкам славеснасці Варшаўскага павятовага духоўнага вучылішча, дзе прабыў каля пяці гадоў. У 1853—1855 гг. служыў так званым пакаёвым наглядчыкам у Галоўным педагагічным інстытуце ў Пецярбургу. Па сутнасці ж Шпілеўскі быў там памочнікам прафесара польскай мовы, дзеля вывучэння якой яго там і ўладкавалі. У гэты ж час у інстытуце вучыўся будучы вялікі рускі крытык М. А. Дабралюбаў, з якім Шпілеўскі меў кантакты. Пасля інстытута ён зноў каля года настаўнічаў. Потым аддаўся журналісцкай працы. Памёр даволі рана — у 38 гадоў.

У літаратуру Паўла Шпілеўскага паклікала любоў да роднай Беларусі, з якой даводзілася надоўга разлучацца. Выступаў у рускай перыёдыцы з артыкуламі і нарысамі, дзе хацеў расказаць пра сваю радзіму, пра яе людзей, побыт і традыцыйную культуру беларускага народа, яго фальклор. Сярод іх «Беларускія народныя павер'і» (1846—1852), «Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву ў 1600 годзе» (1850), «Народныя прыказкі з тлумачэннем паходжання і значэння іх» (1852), «Даследаванне пра ваўкалакаў» (1853), «Мазыршчына (з падарожжа па заходнерускім краі)» (1859), «Паездка ў заходнія губерні» (1860). Захапіўшыся вывучэннем роднай мовы, Шпілеўскі яшчэ ў юнацтве пачаў складаць «Слоўнік і карняслоў беларускай гаворкі», які застаўся ў рукапісе. Але самым значным з напісанага Шпілеўскім трэба назваць яго краязнаўчы нарыс «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі», які на працягу 1853—1855 гг. публікаваўся ў прагрэсіўным рускім часопісе «Современник», і шматпланавы твор «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках», што гэтак жа з працягам друкаваўся на старонках другога рускага часопіса «Пантеон» (1853—1854, 1856).

У сваіх краязнаўчых нарысах і фальклорна-этнаграфічных артыкулах П. Шпілеўскі праявіў сябе як сапраўдны патрыёт Беларусі, які шчыра любіў яе народ, шанаваў і цаніў культуру і мову беларусаў. Якраз тут найбольш красамоўнае і эмацыянальнае гучанне набывае яго пяро. Вось як, напрыклад, піша ён у сваім «Падарожжы па Палессі і Беларускім краі»: «Па дарозе мне сустракаліся знаёмыя твары і ўборы, чулася родная беларуская мова, якая... шчаслівыя часы!.. некалі ў гады

маленства і дзяцінства гучала ў вушах маіх...». Не могуць не крануць чытача шматлікія апісанні сустрэч аўтара з роднай зямлёй. Праўда, палітычныя погляды П. Шпілеўскага былі, як зазначаюць даследчыкі яго творчасці, у пэўнай ступені «абмежаваныя». Так, паверыўшы рускім шавіністам, ён лічыў услед за імі справядлівым захоп расійскім царызмам беларускіх зямель у канцы XVIII ст., апраўдваў яго палітыку ў Беларусі. І ўсё ж ён усім сэрцам спачуваў беларускаму народу, прызнаваў самабытнасць і прыгажосць яго мовы.

Пісаў П. Шпілеўскі і мастацкія творы. Ён аўтар аповесці «Цыганё», п'есы «Дажынкі» (напісанай на аснове «Ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча), некалькіх апавяданняў. Але асаблівых мастацкіх адкрыццяў ён не здзейсніў. Часта П. Шпілеўскі выступаў у друку пад псеўданімамі Драўлянскі, Барон Ікс і інш.

*К. Цвірка*

## ПАДАРОЖЖА ПА ПАЛЕССІ І БЕЛАРУСКІМ КРАІ

(урывак з V часткі)

Ад Мілавідаў да Сяняўкі[1] заставалася не болей, чым сто вёрст, і таму ў пяць гадзін пасля палудня я сядзеў ужо ў чысценькім, акуратным пакойчыку сяняўскай станцыі.

Сяняўка ляжыць на сярэдзіне даволі вялікіх трактаў: брэсцкага, пінскага, слуцкага і нясвіжскага і з'яўляецца мяжой паміж Палессем і Беларуссю; таму на адным тракце, за дзве-тры вярсты ад Сяняўкі, чуецца палеская гаворка, а на другім — беларуская. З прычыны такога геаграфічнага становішча сяняўская станцыя ўжо не здаецца пустой і змрочнай, як іншыя станцыі на брэсцкай шашы. Тут з усіх бакоў відаць разнастайныя лясы, гаі, маляўнічыя вёсачкі, панскія хутары і велічныя бярозавыя *прысады*, заўсёды, амаль кожную гадзіну, разлягаюцца паштовыя званкі, посвіст бізуноў і разгульныя галасы і песні фурманаў. Бывае, што ў Сяняўку ў адзін і той жа час з'язджаюцца да пяці і да шасці троек, ды ў дадатак наляціць брэсцкі дыліжанс. Таму праезджым, нават камандзіраваным службоўцам, часта даводзіцца чакаць коней гадзіну ці паўгадзіны. Зрэшты, гэтая маленькая непрыемнасць акупліваецца камфортам станцыі і месцазнаходжаннем самой вёскі Сяняўка. Прыезджы з Брэста, не сустрэўшы на шашы ніякіх цікавых краявідаў, з асалодай палюбуецца маляўнічымі ваколіцамі Сяняўкі і з задаволенасцю падыхае свежым, чыстым, нават духмяным паветрам нечапанай Беларусі.

Я кажу так, бо сам меў такую асалоду. Нягледзячы на казённую падарожную, я змушаны быў пачакаць з гадзіну, пакуль мне дадуць тройку і адправяць у далёкую дарогу, — пачакаць, зрэшты, не таму, што не было коней — коней, відаць, знайшлі б, — а таму, што ўсе былі змучаны з прычыны нейкага экстраннага разгону: ну, як жа не пашкадаваць бедных жывёлін?.. Не пашкадуй скацінкі, дык і яна не пашкадуе цябе, кажуць спагадлівыя беларусы.

Сонца патроху апускалася ўжо і хавалася між прысадных бяроз і лясных хвой; гуллівы, лёгкі ветрык слізгаў па чыстай атмасферы, схіляючы да пяшчоты і вячэрняй праходкі ў цяністым гаі, што выступаў з недалёкага

лесу. Пакінуўшы пад ахову ветлівага станцыйнага наглядчыка свае рэчы, я пайшоў пагуляць на Нясвіжскі тракт.

Па дарозе мне сустракаліся знаёмыя твары і ўборы, чулася родная беларуская мова, якая... шчаслівыя часы!.. некалі, у гады маленства і дзяцінства, гучала ў вушах маіх, калі добрая бабулька-нянька закалыхвала мяне фантастычнымі казкамі пра шапачку-невідзімку, пра заклятых князёў і князёўнаў, пра Бабу-ягу касцяную нагу...

У гады дзяцінства я не думаў, што некалі, гадоў праз дваццаць, буду вывучаць, ці, дакладней, давучваць родную сваю мову і дзеля гэтага падарожнічаць па тых самых мясцінах, якія гэтак дарагія для мяне ўспамінамі пра шчаслівае мінулае. Цяпер прыйшла для мяне пара скарыстаць колішняе знаёмства з гэтай старажытнарускай мовай, на якой гаварылі галоўныя плямёны славяна-рускія — крывічы і дрыгавічы — і на якой пісалі на Русі многія акты і дагаворы, нават Літоўскі Статут. Прыдаліся і казкі, пачутыя ў дзяцінстве, і прыгаворкі, і прыказкі, і розныя павер'і пра духаў, ведзьмакоў, чарадзеяў і страшыдлаў, што захаваліся ў вераваннях з часоў язычніцтва. Тое, з чаго раней у нас смяяліся і лічылі не болей, як забаўкай у лакейскіх і дзявочых пакоях панскіх хутароў, цяпер звяртае на сябе ўвагу вучонага рускага свету, за гэта ўзяліся цяпер сур'ёзна і разумна ў вучоных кабінетах і на кафедрах... І не дзіўна! Беларуская мова, паданні, павер'і і казкі беларусаў варты гэтага: беларуская мова такая самастойная, такая характэрная ў археалагічных і філалагічных адносінах, паданні і казкі яе такія арыгінальныя, гэтак прасякнуты першабытнай, старажытнай паэзіяй славяна-рускай, што пры цяперашнім кірунку і развіцці ў нас філалогіі і археалогіі робіцца неабходным даследаваць і адшукаць галоўны прыстанак старажытнай рускай славяншчыны і пазнаёміцца выразна з першапачатковымі яе элементамі, што зберагліся ў Беларусі: вывучаючы беларускую мову, паданні, павер'і і казкі беларускага народа, мы вывучаем мову, паняцці і вераванні сваіх продкаў.

Пачуўшы даўно знаёмую мне беларускую гаворку, я міжволі спыніўся і, здавалася, удыхаў у сябе гукі меладычнай спеўнай мовы, што разносіліся ў паветры; у душу маю так і прасіліся водгаласы слоў, што вымаўляліся, як і звычайна ў беларусаў, нараспеў, працяжна.

Амаль каля самага падножжа ўзгорка пры дарозе двое сялян аралі зямлю пад азіміну і час ад часу перакідваліся словамі з дзвюма маладзіцамі, іх жонкамі, якія прынеслі ім полудзень і, седзячы на ўскрайку баразны, чакалі канца работы, каб разам адправіцца дадому. Нарэшце, работа скончана; аратыя, распрогшы валоў, выйшлі з жонкамі на гасцінец (паштовую дарогу) і рушылі ў сяло.

Мужчыны былі апрануты ў белыя *світкі* з каўнярамі, якія стаялі, і чырвонымі паясамі; на галовах у іх былі шапкі-валенкі з воўны, на нагах — лыкавыя лапці. Маладзіцы таксама былі ў белых світках, якія сваім фасонам вельмі мала адрозніваліся ад мужчынскіх, толькі без паясоў і з адкладнымі каўнярамі, аблямаванымі сінімі шнуркамі і цесьмамі; галовы іх былі пакрыты так званымі наметкамі, інакш — доўгімі і вузкімі палосамі палатна,

складзенымі ў некалькі столак і абматанымі вакол галавы з мноствам складак, са звешанымі па баках канцамі.

Даўшы мне, згодна са сваім звычаем, прыветлівае «добры вечар», яны прайшлі міма мяне разам з распрэжанымі валамі і пачалі нешта шаптаць; я спыніўся і доўга любаваўся ціхамірнай задаволенасцю гэтых шчаслівых сялян, што працавалі цэлы дзень і ўсё-такі з вясёлымі тварамі варочаліся ў свае хаты...

Пасля пагоднага, дарожнага полудня разам з дамамі-падарожніцамі я выйшаў з імі пагуляць на сяняўскую плошчу, што знаходзілася перад заезным домам, і паглядзець на народ, які там весяліўся. Уся плошча стракацела рознакаляровымі ўборамі, сукенкамі, гарнітурамі, фізіяноміямі і тварамі: там, на траве, каля дзвюх бярозак, расселіся ўкруга старыя матроны з красунямі-дзяўчынамі, белатварымі, русавалосымі дочкамі і ўнучкамі і, лузгаючы арэхі, з усмешкай паглядвалі на *маскаля* (салдата), што стаяў пры іх у шапцы набакір і расказваў маладому хлопцу пра свае паходы і смелыя подзвігі камандзіра; тут, каля вазоў, на мяшках з сенам адпачывалі шаноўнага веку мужчыны і, пакурваючы беларускі тытунь, гаманілі пра будучы ўраджай грэчкі, якую так многа сеялі ў Беларусі, і пра ўдалую нарыхтоўку сена. Каля самай карчмы прыладзіліся гультаяватыя *хлопцы* гуляць у свае козыры. Да іх падышлі некалькі дзяўчат і пачалі дакараць іх, чаму яны марнуюць час на такія дурныя забавы і не паклапоцяцца пра музыку. Адзін з хлопцаў пачухаў патыліцу, устаў і некуды пайшоў, а праз пяць хвілін вярнуўся са скрыпкай, павёў па струнах дугападобным смычком, і ахвотніцы да скокаў мігам пазбягаліся. Каля музыкі ўтварыўся вялізны карагод дзяўчат, якія пусціліся ў скокі. У гэтых скоках я заўважыў два танцы, зусім не падобныя на скокі велікарускага простанароддзя: *мяцеліцу* і *пацяруху* накшталт так званай полькі — trembeante.

Мяцеліца выконваецца так: тры (але не дзве і не чатыры) дзяўчыны, узяўшыся за рукі, то хутка верцяцца кругом, як быццам вальсіруюць, то паволі выробляючы паўкругі, як бы адварочваючыся адна ад адной, то, нарэшце, нясуцца ўздоўж і ўпоперак пляцоўкі, прыпяваючы песню:

Як пайшоў жа ж наш каваль
З каваліхаю на баль,
Да марудна ж ён ідзе,
Да й дарожкі не найдзе.
Не пайшоў жа ж там, гдзе брод,
Да палез ён там, гдзе лёд.
Ён няборзды на хаду,
Ззябіў жонку на ляду!
Бадай таго каваля
Мяцеліца замяла,
Што ён яе маладу
Да змарозіў на ляду.

Мяцеліцу выключна танцуюць жанчыны, пераважна дзяўчаты. Пацяруxай называецца танец, нечым падобны на першую фігуру нашай фран-

цузскай кадрылі. Зрэшты, ён мае свой народны тып. Звычайна становяцца дзве пары дзяўчат і хлопцаў. Кланяючыся адна адной, трасучыся ўсім целам і размахваючы рукамі, пара дзяўчат на пятках вырабляе розныя па і потым дакладна плыве насустрач пары хлопцаў, якія, у сваю чаргу, дробна перабіраюць наскамі ботаў, неяк скоса з-пад казырка паглядваючы на плывучых дам; калі сыдуцца дзве пары, хлопнуць адзін аднаму над вухам у ладкі і па адным разыходзяцца ў розныя бакі, топаючы нагамі і прыгаварваючы: «Вух я! да вух я!». Потым гуртуюцца ўсе пары разам і, пераплёўшыся рукамі, робяць кругі то ў адзін, то ў другі бок; нарэшце раскланьваюцца адзін з адным і ідуць у натоўп, як бы чакаючы выкліку ці новага запрашэння. Пацяруху танцуюць і замужнія жанчыны, і ўдовы.

Было ўжо даволі позна. Змяркалася, калі мы пакінулі гэтае народнае гулянне і, развітаўшыся, разышліся ў розныя бакі...

Я выехаў наступным днём на світанні.

У Сяняўцы мне далі ўдалую тройку і на козлы пасадзілі бялявага хлопца-фурмана, якому не сядзелася спакойна на месцы, як той курыцы на яйках: ён раз за разам перавальваўся з боку на бок. Паштовая брычка была невялікая, паклажы няшмат, і мой хлопец віхрам панёсся са сваімі буланымі па шырокай зялёнай стаўбавой. Я штохвіліны хапаўся рукамі за поручні брычкі, баючыся, каб вазак, які разгуляўся на прасторы, не перакуліў мяне. Азірнуўшыся назад, ён, здаецца, пакрыўдзіўся за такі недавер і з усведамленнем сваёй фурманскай лоўкасці заўважыў: «Нябося [не бойся], панок: звезямо не горш за піцерскіх». «Добра», — падумаў я сабе і, паўтараючы ў думках яго заўвагі, залюбаваўся краявідамі паштовай дарогі.

Што за краявід! Што за маляўнічы сельскі краявід!

Стогадовыя векавыя бярозы ў зяляніне яркага ўзорыстага лісця, пераплёўшыся голлем, цесна прыціскаюцца адна да адной па абодва бакі дарогі, і, праязджаючы хутка, можна па-думаць, што гэта густы суцэльны лес. Дарога ўвесь час выгінаецца і губляецца ў бясконцых зігзагах паваротаў то направа, то налева. Тут не ўбачыш разам двух верставых слупоў, як гэта бывае на прамалінейнай шашы; не паспееш часам нават разгледзець уперадзе трыццатую ад пачатку бярозу: толькі глянеш на яе, а яна ўжо схавалася направа ці налева ў прамілеглым выгібе крутога павароту. А як часта з горкі на горку! Фурман крыкне, і коні паляцяць у даліну, быццам у прорву, што затаілася між дзвюх высокіх гор. Толькі трымайся ды мацуйся. Коні зноў вынырнуць з прорвы, нібы духі з падзямелля, і занясуць цябе на высокую, востраканечную горку, з якой, чаго добрага, вертыкальна пакоцішся ў яр ці ў канаву... «Нябося, панок: ня хібім!» — крычыць, аглядваючыся, хлопец. І супакойваешся, і верыш у яго беларускае слова. І сядзіш сабе ды любуешся, як мешкаваты з выгляду беларус упраўляецца са сваімі хутканогімі коньмі. І зноў заглядзішся на дзівосную далячынь старажытнай дарогі... Вунь па баках, на горках і прыгорках, раскіданы хаты, шматлікія сядзібы, хутары і фальваркі дробнай шляхты. Там з высокага, нахіленага набок коміна клубам валіць празрысты сіняваты дым ад бярозавых дроў. Тут, у азяродах, парабкі пераплятаюць снапы толькі што зжатага ранняга ячменю —

оргіша. Там, з наметкамі на галовах, чырвона-румяныя і кругла-паўнашчокія маладзіцы і дзяўчаты асцярожна полюць позні ярка-махровы мак, акопваюць бульбу, выбіраюць з градаў першыя агуркі, сушаць перамытую пшаніцу, і ўсё гэта з песнямі і прыпеўкамі, з усмешкай на вуснах і радасцю ў вачах. А тут, добра паснедаўшы, бацька ці дзядзька са сваімі зяцямі ды сынамі дакошвае атаву і не гляне, як амаль побач пранясецца тройка і празвініць нязмоўклы званок. А во каля самага падножжа ўзгорка пры дарозе вясковыя дзеці ў адных кашульках пасвяць авечак і цялят. Іх дзіцячыя забавы перапыняюцца толькі свістам ці крыкам фурмана, які праязджае міма: «Ух! З горкі на горку! Дасць пан на водку!» Яны нехаця падымаюць галовы і, правёўшы вачыма ўдалога дзядзьку, кладуцца зноў на траву і зноў працягваюць біцца за які-небудзь каляровы каменьчык. А колькі абразкоў можна сустрэць, праязджаючы міма фальваркаў дробных гаспадароў і пасэсараў. Зірніце! Вунь там, у садзе, пажылы пан у нанкавым балахоне з агародніцкім нажом у руках пахаджвае каля маладых прышчэпак дуль. Каля яго стаіць, раскрыўшы рот, хлопчык з голай галавой і зношанымі чобатамі, нячышчанымі з таго дня, як былі пашыты: гэта яго сын, які прыехаў на канікулы са школы і цяпер адзеты па-дамашняму. На другім баку сада — мажная, самавітая пані з нячэсанымі валасамі, у нейкіх міфалагічных пантофлях, шэрай даматканай спадніцы і накінутай на расплывістыя ад туку плечы чырвонай ціфцікавай хустцы памагае дзвюм бяззубым бабам развешваць толькі што вымытую бялізну. У глыбіні сада на драўлянай лаўцы сядзіць шаснаццацігадовая бландзінка і нібы вяжа панчошку — вяжа, а спіцы ўвесь час падаюць з яе рук. Мамачка сказала ненагляднай сваёй дачушцы, што нядаўна вярнулася з мінскага ці слуцкага пансіёна, наглядаць за служанкамі, якія палолі сачавіцу. Але мілая дачушка і не гляне на работніц: яна сядзіць сабе, разваліўшыся, і нешта шэпча... Маладзенькай паненачцы прыглянуўся немкі мінскі паніч ці суседні панок, а можа, нават і слуцкі канцылярыст.

Калі я думаў пра гэтую паненачку, фурман, паказаўшы на будынкі, што відаць былі з-за бяроз, амаль ускрыкнуў: «Вот вам і Клецк, панок!»...

*1853*

## БЕЛАРУСЬ У ХАРАКТАРЫСТЫЧНЫХ АПІСАННЯХ І ФАНТАСТЫЧНЫХ ЯЕ КАЗКАХ

(урывак)

Ёсць у нас на Русі вялікі край, паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной: ён завецца Беларусь... Жывуць там людзі беларускія, нашчадкі старажытных крывічоў і дрыгавічоў, родныя браты людзей велікарускіх... Жылі-былі доўга яны разам плямёнамі і родамі, але раздзяліліся потым: хто на поўнач пайшоў, хто на поўдзень заблукаў, а хто і з усходам пасябраваў; усе разрозніліся і раздзяліліся... Асталіся адны дрыгавічы і крывічы — людзі беларускія — на сваіх месцах, палюбілі сваю «дамову» (бацькаўшчыну), не пакінулі сваіх аселіц... Селі ды сядзяць на адных месцах... Дрэнна ці добра — сядзяць у сваіх хатах. Іх прыгнятаюць палякі, палоніць Літва, гоняць у няволю

туркі і татары — яны ж церпяць ды маўчаць, застаючыся на сваіх месцах і сёння... У Беларусі і цяпер яшчэ зберагаюцца на вуснах народа казкі і паданні пра ўсякія прыгоды фантастычных герояў, князёў і царэвічаў, пра нябачныя духі і чароўныя сілы, спраўляюцца святы і гульні язычніцтва. А ўсё таму, што цяперашняя Беларусь калісьці была галоўным сэрцам славянарускіх язычніцкіх вераванняў, дзе ў гонар багоў узносіліся куміры. Вядома, з увядзеннем хрысціянскай веры ідалы і капішчы былі знішчаны, але паданні, што захоўваліся ў народзе, не маглі знікнуць, вуснае паданне зберагала ў народзе ўспаміны пра вераванні продкаў. Гэтаму садзейнічала і тое, што хрысціянства не адразу замацавалася ў сэрцы старажытнай Русі, а паступова, бо паданні старажытнасці знаходзілі сабе апірышча ў язычніцкіх вераваннях суседніх плямёнаў славянскіх, так што насельнікі цяперашняй Беларусі, будучы хрысціянамі, доўга мелі магчымасць захоўваць паняцці і ўяўленні пра жыццё язычніцкае. Прайшло некалькі стагоддзяў пасля замацавання хрысціянства ў Беларусі, а паданні пра духаў, пра таямнічыя сілы, пра ведзьмаў, заклятых людзей, русалак, пярэваратняў і пра іншыя страшыдлы не сцерліся, яны толькі з цягам часу паднавіліся паэтычнай фантазіяй і набылі большую маляўнічасць у вуснах апавядальніка.

Такая Беларусь у цяперашні час!.. І таму не можа не скіраваць на сябе ўвагу адукаванага чалавека — рускага, які хоча азнаёміцца са старажытным побытам сваіх адзінаплямённых сабратаў... Нас цікавяць паданні і вераванні старажытных грэкаў і рымлян, мы пішам пра іх норавы, міфалогію, мову, нават пра банкеты і абеды; чаму ж не пісаць пра родную Беларусь, якая гэтак багата сваімі самабытнымі норавамі, міфалогіяй, мовай і, нарэшце, гульнямі і святочнымі абрадамі.

Імкнучыся хоць з большага пазнаёміць чытацкую публіку з Беларуссю ў фантастычных апавяданнях, надумаў я скласці шэраг артыкулаў пра характар сучаснага побыту беларускага народа, пра яго паданні і казкі і нават пра саму мясцовасць беларусаў... Вядома, тут буду я мець на ўвазе выключна просты народ. Пры гэтым лічу патрэбным сказаць, што пад Беларуссю я разумею губерні: Віцебскую, Мінскую, Магілёўскую і частку Смаленскай; пры кожным артыкуле будзе пазначана, у якой з гэтых губерняў бытуе тое ці іншае паданне ці апавяданне.

У апісанні ўвойдуць нарысы мясцовасцей, нораваў і спосабаў жыцця беларусаў; у казкі — іх фантастычныя паданні пра духаў, пра здані і чараўнікоў.

*1853*

**Каментарыі**

**«Падарожжа па Палессі і Беларускім краі».** Пераклад з рускай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. — Мінск, 1992. — С. 51—56.

[1] Цяперашняя вёска Сіняўка Клецкага раёна.

**«Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках».** Пераклад з рускай мовы К. Цвіркі паводле выд.: Пантеон. — 1853. — Т. VIII, кн. 3. — С. 71—73.

## ЮЛЬЯН ЛЯСКОЎСКІ
## (1826 — пасля 1888)



Пісьменнік, журналіст (псеўданімы Бандурыст Карабіч, Ю. Карабіч, Марцін Мізэра). Нарадзіўся ў вёсцы Новая Жосна Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобласці). Паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду герба «Кораб» (адсюль псеўданімы). Пачатковую адукацыю атрымаў у адной з бернардзінскіх школ (відаць, у Будславе). Працаваў канцылярыстам у Вільні. Удзельнічаў у вызваленчым руху, таму ў 1849 г. вымушаны быў эмігрыраваць, перажыў шмат нягод. У адным з вершаў з сумам згадваў «гэтыя вандроўкі і прыгоды, што зламалі век мой малады» («Мая ўява», 1858). Твор «Гетманская магіла» (1858), прысвечаны гетману С. Жулкеўскаму, які загінуў у 1620 г. у бітве з туркамі, сведчыць пра знаходжанне пісьменніка ва Украіне (верагодна, у Галіцыі) і ў Румыніі. Нейкі час жыў у Лондане, там у 1855 г. напісаў паэму «На чужой старане». Паметы пад творамі 1856—1860 гг. (Шчучын, Карсы, Осек, Зелюнь, Елень) не ўсе паддаюцца пэўнай прывязцы да канкрэтнага рэгіёна, але частка іх, відаць, звязана з Пазнанскім княствам.

Пасля агульнай амністыі ў 1860 г. вярнуўся з эміграцыі і пасяліўся ў Вільні, дзе знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1861 г. удзельнічаў у антыўрадавых дэманстрацыях. Тады за свой кошт у друкарні А. Кіркора выдаў кнігу паэтычных твораў на польскай мове «Беларускі бандурыста. Зборнічак вандроўны». Для змешчаных там твораў (паэма «На чужой старане» і інш.) характэрны сувязь з беларускім фальклорам (выкарыстаны часткова і ўкраінскі фальклор), шматлікія беларусізмы і назвы беларускіх рэалій (рэкі Дзвіна, Бярэзіна, Сергуч, вёска Жаркі). У творах яскрава выяўляюцца патрыятычныя пачуцці, пратэст супраць сацыяльнага прыгнёту. Як паэт-рамантык Ляскоўскі фарміраваўся пад моцным уплывам заснавальніка ўкраінскай школы ў польскай паэзіі Б. Залескага (на гэты конт у творах Ляскоўскага ёсць адпаведныя прызнанні). Пра зборнік «Беларускі бандурыста...» выказвалася думка, што ён спачатку быў напісаны на беларускай мове («Наша ніва», 1913, № 37).

У 1870—1880-я гады часта выступаў у польскім друку (пад псеўданімам). На пачатку 1880-х гадоў у Варшаве дапамагаў вядомаму педагогу К. Прушынскаму (родам з Беларусі) у рэдагаванні папулярнага выдання для народа «Святочная газета», на старонках якой выступаў супраць эміграцыі сялян у Амерыку. Нейкі час рэдагаваў газету «Ломжынскае рэха». Аўтар аповесці «У Амерыку па золата» (1888) пра цяжкае жыццё сялян-эмігрантаў з Польшчы і Беларусі, паасобных вершаў у перыёдыцы, брашур і артыкулаў на эканамічныя і сельскагаспадарчыя тэмы, адметных клопатам пра народны дабрабыт. У артыкуле «Слова пра песню»

(1882) выявіў добрае веданне беларускай мовы і фальклору, падкрэсліваў іх багацце і самабытнасць, прывёў тэксты беларускіх (мабыць, уласных) вершаў «Зямелька мая» і «Пад дуду». У пісьме А. Рыпінскага А. Плугу (1883) названы ў ліку беларускіх пісьменнікаў.

*Г. Кісялёў*

## НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Краю мой!.. як ты далёка...
Тут не ўбачыць ні палянаў,
Ні магілішчаў, курганаў,
Ні бароў, што над ракою
Шумяць кронаю зялёнай...
Твой абшар, тугой замглёны,
Знік з вачэй!.. няўжо ніколі
Мне не ўбачыць вобраз мілы?
А вандроўкі на прыволлі!
Можа быць, маёй магілы
На айчыне там не будзе,
І ніхто сасновым векам
Не накрые мае грудзі.
Не кране маіх павекаў
Звон жалобны развітальна.
Не агучыць смутак братні
Жальбу песні пахавальнай
На спачынак на астатні.
Тут так пуста!.. а наўкола,
Як ні глянь, — перада мною —
Гарады, чужыя сёлы,
Цэлы край, спавіты мглою,
Што ажно ля сэрца ўецца, —
Хоць ён пышны і багаты,
І прыбраны ў дзіва-шаты,
І шчаслівым ён завецца, —
Ён чужы!.. тут жыць мне трудна!
Хоць навокал шумна, людна,
Столькі тут надзей на шчасце,
Што для ўсіх адбыцца мусіць.
Я ж на іх не адзавуся,
Не раскрыю сэрца насцеж!..
Бо ў людзей тут думкі, словы
І жыцця ўсяго аснова
Несуладныя, пустыя
І натхнёныя не згодай,

А зламыснасцю заўсёднай,
Нібы ворагі якія.
Так, хоць тут народу густа,
Хоць навокал тлум, гармідар,
Ды ў вачах і сэрцы пуста,
І глядзець на ўсё агідна.
Да каго тут прыгарнуцца,
Да каго прамовіць слова?
Думкі ніткай тонкай рвуцца,
Хоць і моцная аснова,
І не злучыш іх нанова.
На чужыне ўсё іначай,
Тут інакшы лад жыццёвы,
Што сабой усё пазначыў.
Тут усе жывуць паспехам,
На цябе ж глядзяць са смехам.
А твой боль і твая горыч
Ім нічога не гавораць.
І ніколі не кране іх
Гэты смутак неразвейны, —
Ім зусім нязвыклым будзе
Той дзівак з душой юначай,
Людзям тут незразумелы
Дарам незвычайным спеву, —
Той, што раптам, незнаёмы,
На здзіўленне добрым людзям,
Роднай песняй быў натхнёны,
Аж да самазабыцця, няйначай.
Хай не гэтак, як звычайна,
Лёс жыццё вяршыцца змусіць,
Але прагна і адчайна
Да святла заўжды імкнуўся б.
І чакаў бы, покуль змога,
А ці добрага, ці злога,
Каб расчуліць і разжаліць,
А разлікі ўзяць на шалі.
О! разлікі — догмы свету —
Спыняць рух усёй планеты!
Непатрэбны ні літанні,
Ані запаведзі Бога;
Тое ўсё — занадта танна,
Тое ўсё — для масы цёмнай
З рабскай доляю праклённай.
То — для чэрні, то — для ўбогіх.
Тут ва ўсім — адны разлікі

І ў пашане толькі лікі.
А дзе лічбы долю блудзяць,
Дзе на думцы — адны грошы,
О! скарыся, чорны людзе!
У сумлення смутак большы.
І душа у той краіне,
Гарадамі змураванай,
Пазалотаю прыбранай,
Ад карыслівасці гіне.
Тут цябе сустрэнуць смехам,
Абарвуць памкненняў крылы
І пагарды цяжкім векам,
Вечным сорамам накрыюць.
Будзеш ты ў часіну злую
Між людзей, ды адзінокі,
Сам адзін, для ўсіх далёкі,
І ніхто не пашкадуе,
Не падасць далоні братняй,
Не ўратуе ад самоты!
Тваіх думак мімалётных
Ясны бляск дачасна згасне,
Сыдуць мары ў свет нямілы,
Сам жа ты рукою ўласнай
Выкапаеш ім магілу!
Не такі быў долі ранак!..
Жыў калісьці я іначай,
Шчыраваў душой юначай,
Аж пакуль за родны ганак
Не памкнуўся ад радзіны
Паглядзець на свету дзівы,
Быў са шчасцем непадзельны.
О! тады, у маладосці,
Я глядзеў у свет мілосна,
Смела будучыню бачыў, —
Спадзяваўся, што надзеяй
Цэлы свет магу зыначыць,
Што для шчасця жыць павінен...
А цяпер — адны ўспаміны
З той пары вясны далёкай,
Што сплыла дзесь за аблокі.
О, як радасна было мне!..
Як жыццё вакол бурліла
Сілай маладой, нязмернай!
І юнак, мужнеўшы сілай,
Шчыра ў будучае верыў;

Толькі сэрцам жыў і помніў,
Толькі з ім я марыў згодна
І святлеў святлом надзеі,
Што лучыла нас надзейна
Сваім полымем нязводным.
Родны край, душа айчыны,
Са святымі курганамі,
Паўстае зноў перад намі
Памяццю сівой курганаў,
Дзе мінулае схавана, —
Ён заўжды перад вачыма!
Там жыцця майго аснова
Ад калыскі да магілы,
Там душа трымцець гатова,
З тых святыняў браўшы сілы,
З родных ніваў, сэрцу мілых,
Што ўспамінам нам свяцілі.
І народ на нашых нівах
Поўны веры і надзеі,
Што дабром усіх надзеліць,
Верны Богу, справядлівы.
Хоць далей ад роднай хаты
Не бываў, ды розум мае,
Цэлы свет якім спазнае,
І навукай той багаты.
Не шукаў чужых выгодаў,
Але тут, на роднай глебе,
Забываў пра ўсе нягоды,
Помніў зоры, што на небе,
І святло, што нам свяціла,
Каб яснеў і цёмны розум
Не паганскай верай рознай,
Але праведнай, адзінай,
Што падкажа ўсім дарогу
Да святынь сваіх, да Бога,
І ўваскрэсне дух бязмерны.
Гэта святасць даўняй веры —
Той, што долю мне пазначыць,
Успамін пары юначай
На бацькоўскай, ой, на ніве,
На дзядоўскай на магіле.
Божа, як усё мінула
І сышло ў нябыт навекі,
Нібы сон, зляцела з векаў,
Толькі ў памяці мільгнула!..

## ПАД ДУДУ

Дудка мая, дудка! Зайграй ты людзям,
Зайграй братцам родным, грай сваёй сям'і,
Лягчэй будзе сэрцу, лягчэй плыць слязам,
Ой, цяжкія ж слёзы на душы ляглі!

І гора, і плачу чалавек зазнае
Ад самай калыскі, ой ды цэлы век!
Калі лепей будзе, ніхто не згадае,
Не згадае долі сваёй чалавек.

Хоць бы шчасце з горам папалам ішло,
А то плывуць слёзы, як даўней плылі;
Сямейка расла, дзетак падрасло,
Сяло апусцела — мужыком мужык;
Засталіся дома дзеткі адзінокі,
Дзетачкі-сіроты, раздзел іх вялік!

Дудка мая, дудка! Дай ты сэрцу льготу,
Дай душы заплакаць, згані з воч слязу.
А я за табою ды пад тваю ноту
Мужыцкую долю людзям раскажу.

## ЗЯМЕЛЬКА МАЯ...

Зямелька мая,
Мая родная,
        Запала ж ты, залягла ў душы!
І бор твой шуміць,
І гоман гудзіць.
        Ды там ён, далёка... ой там!
Ох ды там!

Туман над сялом,
Хатка над лугом,
        Хатачка, родная ты мне!
Гутарка ідзе:
«Дзе ж ён, ой ды дзе?» —
        Так бацька, так маці галосіць.
Ох, за мной!

А я тут, я ваш,
Далёк дамок наш.

## Каментарыі

**«На чужой старане».** Друкуецца паводле выд.: Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: навук. зб. — Мінск, 2002. — Вып. 3. Пераклад з польскай мовы Л. Тарасюк.

**«Пад дуду». «Зямелька мая...».** Вершы надрукаваны ў артыкуле Ю. Ляскоўскага «Слова пра песню» («Nowiny». 1882. № 287, 288). Як сведчыць аўтар артыкула, першы верш быў запісаны ім ад паштовага фурмана ў 1863 г., другі — у 1879 г. Верагодна, Ляскоўскі не афішыраваў сваё аўтарства, бо на беларускай мове можна было друкаваць толькі фальклорныя творы. Друкуюцца паводле кн.: Беларуская літаратура XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

# ВІНЦЭСЬ КАРАТЫНСКІ (1831—1891)



Вінцэсь Каратынскі — адзін з нямногіх паэтаў, хто выбіўся «ў людзі» з прыгонных сялян. Сапраўднае яго прозвішча — Каратай. Каратынскім стаў ён, калі атрымаў вольную. Нарадзіўся ў вёсцы Селішча Наваградскага павета. Адукацыю набываў пры дапамозе добрых людзей, у асноўным самастойна. З часам ён авалодаў рускай, чэшскай, французскай, нямецкай мовамі, не кажучы пра беларускую і польскую. Працаваў «дырэктарам» — дамашнім настаўнікам у заможных людзей Наваградчыны. Вельмі памагло Каратынскаму ў жыцці знаёмства з Уладзіславам Сыракомлем, які адразу заўважыў і прыласкаў здольнага сялянскага хлопца. У 1850 г. вясковы лірнік запрасіў яго да сябе ў Залуча. В. Каратынскі стаў Сыракомлевым памочнікам-сакратаром. З пераездам Сыракомлі пад Вільню, у вёску Барэйкаўшчына, праз нейкі час таксама перабраўся туды і ён.

Тут, паблізу Вільні, была добрая магчымасць наладзіць сувязь з рэдакцыямі розных перыядычных выданняў. Каратынскі супрацоўнічаў у часопісе Адама Кіркора. Быў членам Віленскай археалагічнай камісіі і Статыстычнага камітэта.

У 1859 г. паэт ажаніўся з дачкой заможнага шляхціца Станіславай Цалінай Якубовіч і жыў з ёй у маёнтку цесця Якенты Ашмянскага павета. Было ў іх дзесяць дзяцей. Сваю вялікую сям'ю апрача гаспадарання на зямлі карміў Каратынскі журналісцкай працай. У 1866 г. ён пераехаў у Варшаву, дзе супрацоўнічаў з асноўнымі польскімі перыядычнымі выданнямі, выступаючы з нарысамі і артыкуламі. Там, у Варшаве, ён і памёр.

За пісьменніцкае пяро Вінцэсь Каратынскі ўзяўся пад уплывам і пры непасрэднай падтрымцы свайго настаўніка Ул. Сыракомлі, творы якога ён перапісваў для друку. Першы верш «Над калыскай» (на польскай мове) ён напісаў і апублікаваў ў 1856 г. Пасля пісаў на польскай і беларускай мовах. Ул. Сыракомля нават меў намер выдаць сумесна са сваім вучнем беларускія вершы ў адной кнізе. Але аўтары не змаглі пераадолець тыя бар'еры, што стаялі перад беларускім словам. Сёння невядома, якія беларускія вершы меліся яны ўключыць у супольны зборнік.

Праз год пасля паэтычнага дэбюту выйшла першая паэтычная кніга В. Каратынскага з добразычлівай прадмовай яго настаўніка — «Чым хата багата, тым рада». Вядома ж, на польскай мове — так праблем з выданнем не было. У час прыезду ў Вільню цара Аляксандра II (1859) Каратынскі напісаў для яго прывітання верш на беларускай мове, дзе імкнуўся напомніць самадзержцу пра існаванне пагарджанага панствам мужыка-беларуса. У тым жа годзе асобным выданнем выйшаў найбольш значны

твор Вінцэся Каратынскага — паэма «Таміла», у цэнтры якой — вобраз беларускага селяніна Тамілы, праз які аўтар хацеў паказаць жыццё беларускай вёскі таго часу. Праз год убачыла свет апошняя паэтычная кніга Каратынскага — вершаваны памфлет «Выпіў Куба да Якуба», пасля чаго з вершамі выступаў у друку толькі зрэдку. В. Каратынскаму прыпісваюцца яшчэ вершы-пракламацыі «Гутарка старога дзеда» і «Гутарка двух суседаў».

У паэтычных творах В. Каратынскага выдатна праявіліся дэмакратызм аўтара, антыпрыгонніцкі настрой, сугучныя з поглядамі яго настаўніка Ул. Сыракомлі.

Вельмі цікавыя для нас і многія артыкулы і нарысы Вінцэся Каратынскага, звязаныя з гісторыяй і культурай роднай Беларусі. Сярод іх — «Карціны з берагоў Нёмана», «Некалькі падрабязнасцей пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць Адама Міцкевіча», «Саламон Рысінскі», «Віцебск», «Канстанцін Тышкевіч», «Яўстаф Тышкевіч», «Рамуальд Зянькевіч», «Дзве будоўлі» і інш.

*К. Цвірка*

## УСТАВАЙМА, БРАТЦЫ!..

Уставайма, братцы, да дзела, да дзела!
З поўначы певень залопаў крылом.
Ну жа, каб жыва работа паспела,
Выслаць гасцінец жаўценькім пяском!
Дружна, грамада, ў сардэчнай ахвоце,
Духам насілкі на плечы уздзень!
Ох, толькі ноччу няспорна ў рабоце!
Узыдзі нам, сонейка, прывядзі нам дзень!
Едуць к нам, едуць дарагія госці —
Зямель шырокіх моцны гаспадар.
Верныя служкі пры яго мілосці,
Дабра і шчасця за ім доўгі шар.
Як хадзіў Пан Бог па земскай дарозе,
Кожын слаў світу ды зялёну віць.
Што ж разасцелем мы сваёй ўспамозе?
Узыдзі нам, сонейка, скажы, што рабіць?
Дзе яго прымем? Чорная святліца,
Залатых тканак не судзіў нам Бог.
Што наймілейша — то матка-зямліца,
Жоўты пясочак на яе палёх.
Цябе ж на плечах, зямля дарагая,
Велькаму госцю пад ногі нясу.
Ох, ды расою пясок прамакае!
Узыдзі нам, сонейка, падбяры расу!
Зара-зарыца бяжыць ужо з неба,
Любачкі-звёзды бліснулі жывей.
З Богам, браточкі, канчайма, што трэба!
Лёгка на сэрцы і вачам святлей.

Зарыца кажа: «Вы — Божыя дзеткі».
Звёзды мігаюць: «Братам стане пан...»
Вот туман цёмны рынуў на палеткі.
Узыдзі нам, сонейка, разгані туман!
Божае сонца бліснула на галі,
Дзяньку вялела гуляць на дварэ,
Шле да нас птушкі, каб пець памагалі,
Туман прагнала, расу падбярэ.
І наша сонца да нас прыбывае,
Дабро і шчасце рассявае ён...
Здароў будзь, велькі гаспадару края!
Здароў будзь, сонейка! Паклон, о паклон!

## У АЛЬБОМ АРЦЁМУ ВЯРЫГУ-ДАРЭЎСКАМУ

Далібог-то, Арцім,
Што прыплыў ты к сваім!
І зямля тут Твая,
І народ, як сям'я:
Ён з табою з вякоў
Адно цела і кроў.
Хоць няма каліты,
Ды гамоніць, як Ты;
Роўна з песні Тваё
Думу-думку снуе,
І не то абы з рук, —
Чалавек не пінчук!

Што марочыш нас тут?
Лезь, браточку, на кут
Ды настрой нам Д у д у!
Я па вёсцы пайду:
«Бог паслаў да нас дар!
К нам Наддзвінскі Дудар
Заблудзіў аж сюда.
Пад рукою — дуда.
І звініць, і гудзе,
Як па маслу ідзе.
Будзе пець мужыком
Аб Язуску святом,
Аб матульцы святой,
Аб зямельцы радной,
Аб сардэчных палях,
Аб мужыцкіх панах,
Аб суддзях, што як змей,

Аб свабодзе людзей,
Аб дабры, што Бог дасць,
Як адрыне напасць!»

Роўна мухі на мёд,
Зачне біцца народ
Ды нясці, што Бог даў:
Той махоркі рукаў,
Той закускі крыху,
Той барылка ў мяху,
Вот закураць, зап'юць,
Разагрэецца грудзь,
Як на вёсцы папар.
Ну, здароў будзь, Дудар!
Цяпер песні нам сей,
То і ўзыдуць жывей,
То і пусцяць пышы —
Будзе хлеб для душы.

Не, дык што ж, Дударок,
Гэты з намі дзянёк
Адпачынь ды паграй,
Тужыць сэрцу не дай!..

Ой, бяда ды бяда!
Прыблудзіў ты сюда —
Як агню ухапіў,
Так сказаць, як не быў!..
Ідзі з Богам здароў!
Не гудзі ліцвіноў,
А скажы там сваім,
Што ты міл нам, Арцім!

*23 кастр. 1858 г. Вільня*

## ГУТАРКА СТАРОГА ДЗЕДА

(урывак)

Эй, скажыце, добры людзі,
Што ужо на свеце будзе,
Ці то так судзіў Бог з намі
Гінуць век пад маскалямі?
Як пачалі ваяваці,
Магазыны сталі браці:
У абоз вязці ўсё збожжа,

А народ — хоць гінь, нябожа.
І забраўшы ўсё із хаты,
Сталі браці у салдаты,
Кідай жонку, дзеткі ў дому,
Едзь ў калодцы да прыёму.
Там лоб голяць і муштруюць,
Б'юць, і ломяць, і катуюць,
Глодзяць, глумяць, як скаціну
На зарэз, без дай прычыны.
А як войска непатрэба,
Дык салдат шукай сам хлеба!
Шле дамоў, хаця не знае,
Ці каторы дом свой мае.
Толькі кажуць: не хавайся,
Зараз на прыказ стаўляйся,
Несці боты, стрыцца, брыцца,
Хоць не менш чым пражыцца.
Людзі лепш даўней тут жылі,
І другіх дабру вучылі,
А чужы, чаго не знае,
То й на ліха навучае.
Дзе жандар званкамі звягне,
То усіх ў вастрогі цягне,
Ці убогі, ці багаты —
Ад работы цягнуць з хаты.
Ўсё чыноўнікі збыткуюць,
Абдзіраюць і катуюць,
Глумяць, крыўдзяць, разбіваюць,
Жаліцца не пазваляюць.
Але ж, браткі, не тужыце,
Лепш у Бога папрасіце
Міласэрдзя, каб ён скора
Перамяніў наша гора!
Бо пара ўжо наступае,
Што свабода заглядае,
А як гэта тое будзе —
За вум бярыцемся, людзі.
Памятайце тую пору,
Як прыйдзё да прыгавору,
Каб часамі не змыліцца,
На век векаў не згубіцца.
А гарэлку кіньце піці,
Каб розуму не здурыці,
Як трэ слова вам сказаці, —
Долю добру выбіраці!

Бо хоць яны круцяць, муцяць,
Народы просты баламуцяць,
Што маскаль мае даць волю,
Палягчыці нашу долю, —
Ой, не верце таму, людзі,
Бо ніц з гэтага не будзе —
Каб ён так хацеў зрабіці,
То даўно б мусіла быці...

*1861—1862*

## ТУГА НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Ой, саколка, ой, галубка!
Не пытайся, не, —
Што мне тошна, мая любка,
Ў гэтай старане...

Я ж зямліцу меў радную,
Быў свабодзен сам.
Ох, ці днюю, ці начую, —
Я ўсё там ды там.

Там гукнеш ў сардэчным краю
Разлягнецца свет.
Тут гукаю, прамаўляю —
Адгалоску нет.

Там палосы, сенажаці
Красны, як нідзе,
Стануць птушкі прыпяваці —
Ў сэрцы аж гудзе.

Там дзяўчаткі на вячорках
Словейкам радным
Кажуць казкі, прыгаворкі —
Душа ліпне к ім.

Там дзяўчаты, маладзіцы —
Красен цвет-тымян;
Глянеш толькі ім ў ачыцы,
Як ад мёду, п'ян.

Там, як птушка на свабодзе,
Я быў жыць прывык,

Не пытаўся: мала? годзе? —
Быў вясёл і дзік.

Як дубочак маладзенькі,
Гібкі — проста віць,
З воч маланка вылятае,
Кроў агнём кіпіць.

Паглядаю праз аконца —
Чоран цэлы свет;
Усім людзям свеціць сонца —
Мне прасвету нет.

Бо за мною, прада мною
Поўна божых сёл,
Ўсе ў грамадзе ды з раднёю —
Я адзін як кол.

Адарвалі сіраціну
Ад сваёй зямлі,
Даўшы розум, хараміну,
Шчасця не далі...

Ах, цяпер жа, ой, палеткі
Роднага сяла,
Не пазналі б тае кветкі,
Што там зацвіла.

З шчаняткамі збегаў поле
Мілай стараны, —
Не судзіла горка доля
Жыці, як яны.

Ой, не будзе над радную,
Ды не будзе нам,
Ці я днюю, ці начую, —
Там, ой там, ой там!

Сакалочка, галубочка!
Хочаш мне памоч?
Дай маё мне, дай сялочка:
Туга пойдзе проч.

## КАРЦІНЫ З БЕРАГОЎ НЁМАНА
(фрагмент)

Часам мяне ўражвала геаграфічнае падабенства прастораў, на якіх у Малой Азіі нарадзілася «Іліяда», а ў Наднёманшчыне — «Пан Тадэвуш». Тут і там утаптаныя пуцявіны, вузкія ў параўнанні з няходжанымі абапал разлогамі; тут і там дарогі з усходу на захад: адна адмежавана ад поўдня і поўначы двума шырокімі балотамі, другая — двума морамі. Па абедзвюх пуцявінах у дагістарычны і гістарычны час цягнуліся процьмы плямёнаў, вымыкаючы наўперад з-пад Гімалаяў, каб дапяць ажно да Атлантыкі, потым пасоўваючыся з захаду на ўсход, каб пашырыць вузкую жыццёвую прастору. Наднёманскі шлях вельмі цесны ў параўнанні з міжземнаморскім гасцінцам, па якім хадзілі азіяцкія орды і рымскія легіёны. Уціснуты між суцэльнымі палескімі багнамі і астраўкамі балот правага берага Нёмана, вытокаў Бярэзіны ды прытокаў Дзвіны, ён звужваецца ў некаторых месцах да дзясятка вёрст, як, напрыклад, між Любчаю і рэчышчам Шчары ў верхнім яе цячэнні. А паколькі на лініі, пазначанай цяпер назвамі Гродна, Наваградак, Мінск, Барысаў, Орша, Смаленск, іншай дарогі для тлумных паходаў даўней не было, то выбіралі гэтую. Таму вось і бачым, што наша ваколіца адна з багацейшых на дагістарычныя магілы, паміж якімі, як пастух сярод статка, узвышаецца пад Наваградкам вялізны капец, адвольна названы пазнейшымі храністамі магілаю Міндоўга, як такі ж насып пад Вільняю — магілаю Гедыміна. Пошукі Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, праведзеныя ў тых магілах, узбагацілі Віленскі археалагічны музей і Лагойскія зборы надзвычай каштоўнымі ўзорамі каменных, бронзавых, жалезных і шкляных вырабаў. Калі мінуліся часы тых безыменных народаў, адразу ж за 1000-м годам нашай эры мы бачым над Нёманам бесперапынныя сутычкі паміж Руссю, што пасоўвалася з поўдня, і Літвою — з поўначы. У разгар гэтага сутыкнення надыходзіць вялікі набег манголаў. Адзін з іх правадыроў — Кайдан — выбраў наднёманскі шлях, каб хлынуць на захад. Ледзь паводка татарская адступіла, пачаліся бязлітасныя наскокі крыжакоў, якія, трымаючыся левага берага Нёмана, ішлі па Запушчанскім тракце да Гродна, Наваградка, а пасля, пераправіўшыся праз Нёман у верхнім яго цячэнні, дабіраліся ажно да Крэва, даўнейшай сталіцы Літвы. У пазнейшы час наднёманскі шлях таксама расцэньваўся як прыдатны для тлумных людскіх перамяшчэнняў. А 1812 г. і прасоўванне караля Іераніма праз Наваградак стаяць у памяці многіх жывых сведак гэтай «вясны вайны і ўраджаю». Відаць, для ўзнікнення эпапеі на глебе ці то Троі, ці то Сапліцова[1] зямля абавязкова павінна быць угноена касцьмі многіх пакаленняў, а паветра прасякнута паданнямі і вераваннямі многіх плямёнаў.

Ваколіца такая, што чым больш яе пазнаеш, тым яна мацней да сябе прывязвае; аддаленая, яна прыдае любові сум, вабіць да сябе думкі і сэрца, хоць бы з краю свету; між яе сынамі яна няспынны прадмет размоў і праектаў паказу яе свету. Таму паміж аўтарам гэтых радкоў і ілюстратарам «Зборшчыка ахвяраванняў», «Дэмбарога», «Тадэвуша»[2] задумаўся, не-

вядома як і калі, план замалёўкі і апісання рэчаў, найбольш вартых увагі на берагах Нёмана, асабліва левым, дзе якраз і ўтвараўся прыгаданы гасцінец народаў. Карткавая будова праектаў перарастала Святаянскую вежу ў Вільні, самую высокую на Літве. Была там і тапаграфія ўзбярэжжа, і пейзажы, і тыпы людзей, і сялянскія хаткі, і шляхецкія засценкі, і магнацкія двары, і сельскагаспадарчыя прылады, і хатняя маёмасць, і руіны старых крэпасцей, і божыя храмы, і рэдкія ў іх памяткі фундатараў — словам, усё, што заслугоўвае пазнання, а да сённяшняга дня хаваецца ў невядомасці. Тут, у храптовічаўскіх Шчорсах, Чачот запісваў купальскія песні, якія спяваліся таксама ў цяснінах Татраў і Балкан; тут Глінскі[3] ўслухоўваўся ў паданне аб чалавекалюбстве, якое вучоныя французы знайшлі пазней захаваным і сярод народа ў В'етнаме; тут да сённяшняга дня паўсюды святкуюцца Дзяды, нават у глухіх вёсках, дзе для нябожчыкаў выстаўляюць страву за акно або носяць на могілкі. Шляхта ў капотах, што збягаецца з засценкаў да Мацюка Дабжынскага і суддзі Сапліцы[4], нібы вылітая з міны і чупрыны, з убоства і гонару, з неадукаванасці і высокіх палётаў фантазіі. Яна па-даўнейшаму гняздзіцца на ўзгорыстым грунце Наваградчыны, пахіленым да Нёмана, «роднай ракі» аўтара «Санетаў»[5]. Справа чыноўнікаў, што моцна ўзбуджае цяпер маласвядомую ў сваіх учынках журналістыку, ілюструецца тут успамінамі аб засценку Падкова і лясах Лагоды, апетых аўтарам «Янкі Цвінтарніка»[6]. Да сённяшняга дня тут гавораць аб дабрачынцах і асветніках Іяхіме і Адаме Храптовічах, да сённяшняга дня тут не забыліся аб прыгнятальніках гэтага народа, «нягодніках Ваўках з Лугамовіч»[7]. Хатні звычай, смутак і радасць — усё тут набывае свае адпаведныя формы, звычайна лагодныя, калі-нікалі суровыя, але ніколі не разбойніцкія. Дык фарбы для карцін нам было б з чаго збіраць. Нядаўна атрымалі мы нават узор выканання працы ў цудоўным апісанні Палесціны, якое падрыхтавана і выдадзена шчодрым тыражом парыжскіх Ротшыльдаў. Але адно выдавецкія ўмовы ў нас, а другое — над Сенаю, адно ўмовы працы спакойнага падарожніка, другое — журналіста, які ліхаманкава тут жа скрыпіць пяром. А яшчэ горш тое, што збор этнаграфічных і памятных замалёвак аказаўся больш цяжкі, чым здавалася нам. Замест сімпатычнага раней гмаху, узнятага паводле карткавай мадэлі ўяўлення, даводзіцца абмежавацца недапасаванымі часткамі; замест натуральнага пасоўвання ўздоўж Нёмана і паступовых вандровак па яго ўзбярэжжы даводзіцца рабіць зігзагі ў бок прадметаў, якія найбольш удала паўсталі пад алоўкам мастака. Можа, такім чынам, сярод пасоўванняў назад і наперад утворыцца як-небудзь цэлае, калі разарваныя часткі лягуць у лад. Але пра гэта няхай ужо скажа будучае.

Ваколіца правага ўзбярэжжа Нёмана, якая месціцца між яго рэчышчам і балотамі Палесся, належыць да самых урадлівых у Еўропе, а мясціны Нясвіжа і Слуцка трымаюць у ёй першынства. Глебы пад Наваградкам такія ж цудоўныя, як тут, але ад таго, што моцна нахілены карабаватай паверхняй да Нёмана, які працякае ў чатырох мілях на поўнач, пазбаўлены яны ў пэўнай частцы ўздзеяння сонечных промняў. Асабліва гэта добра відочна напрадвесні. Калі з поля знікае снег, тут назіраецца арыгінальная

з'ява — як бы дзве стадыі пары года адначасна. Едучы з наднёманскай Любчы ў Наваградак, углядаемся ў паўночныя схілы гор, пакрытыя яшчэ снегам, а вяртаючыся ў той жа дзень з Наваградка ў Любчу, бачым паўднёвыя схілы, якія часам зелянеюць ужо абуджанымі ад зімовага сну пёркамі азіміны. У ваколіцах Нясвіжа гэтай дваістасці клімату ўжо няма. Шырокія, як вокам сягнуць, раўніны, дзе-нідзе толькі парушаныя невялікімі ўзгоркамі, перасечаныя ціхімі азёрамі і рэкамі, ствараюць аднастайны пейзаж крыніцы вялікага арганічнага жыцця на зямлі. Зямля, акрамя ўрадлівасці, лёгкая і крохкая, на ёй не трэба запрагаць у плуг восем здаровых валоў, каб адрэзаць і адвярнуць скібу. Спрадвечная лёгкая літоўская саха, уся, ад дзержакоў да асновы, драўляная, за выключэннем толькі двух невялікіх жалезных лемяхоў, названых тут «нарогамі», якую цягнуць два сялянскія валы, а часцей адзін конік. Яна выпісвае на ніве лініі так роўна і такой аднолькавай вышыні, што лепш няхай не паказваецца пісар, калі выводзіць вершыкі ў альбоме каханай. А ўжо слава за прыгожае ворыва ідзе вялікая ў гэтых прынёманскіх ваколіцах, і хіба толькі чалавек, які не дбае пра добрае імя перад суседзямі, дазваляе сабе пагарджаць ёю. Можа, якраз гэтая любоў да прыгожага ўраблення памагла, каб апошні эканамічны крызіс не пакінуў у Прынёманшчыне такога следу занядбання, як дзе-нідзе. Праз дзесяць з нечым гадоў пасля рэформы сялянскіх адносін я не знайшоў тут відочнай змены на благаславёных нівах; а калі дзе знайшоў, то хіба ў лепшы бок, бо сялянская глеба так добра ўроблена, як і панская. А даўней гэта не ўсюды траплялася. Дык, значыць, не паляўнічыя байкі, а шчырая праўда, што бываюць тут зборы, якія даюць па 15 зярнят у адносінах да засеву.

Такая ўрадлівасць глебы і лёгкасць яе ўраблення, несумненна, вельмі даўно прывабілі нейкую вандроўную грамаду і затрымалі яе ў паходзе. Карысць ад пасялення на такой зямлі павялічвалася блізкасцю да слаўнага Нёмана, калі адны вялікія рэкі былі бітымі гасцінцамі для зносін з далёкім светам. Нарэшце, прыгажосць ваколіцы, да якой неачасаныя прадзеды адносіліся, бадай, ласкавей за нас, знаёмых з нямецкімі эстэтыкамі, як сведчаць пра гэта пасады іх спрадвечных вёсак і двароў, дадавала да карыслівай развагі ахвоту пачуцця. Калі ж, аднак, магла ўзнікнуць завязь цяперашняга Нясвіжа, высветліць нялёгка. Тураў Палескі, што ляжыць на поўдзень ад Нясвіжа, першы раз упамінаецца храністамі пад 980 годам; Мінск, які ляжыць на паўночны ўсход і названы храністамі Менскам, ад мены ці абмену тавараў, згадваецца пад 1066 годам; Наваградак, што ляжыць на паўночны захад, паўстаў каля 1100 года; нарэшце, тут жа блізкі ад Нясвіжа Клецк існуе ўжо пад 1127 годам. Лёгка тады адсюль заключыць, што, паколькі каланізацыя адбывалася вакол прасторы, пра якую ідзе цяпер гаворка, сама гэтая прастора, маючы выдатныя ўмовы для жыхарства, не заставалася бязлюднай...

*1882 г.*

## Каментарыі

**«Уставайма, братцы!..».** Верш напісаны на беларускай мове з нагоды прыезду ў 1858 г. у Вільню Аляксандра II. З падзагалоўкам «Песня з паклонам ад літоўска-русінскай мужыцкай грамады» быў змешчаны ў складзеным гуртам віленскіх літаратараў прывітальным адрасе цару. Як вядома, Аляксандр II, замяніўшы на троне жорсткага Мікалая I, у многім праявіў сябе як ліберальны цар, што віталі нават рускія рэвалюцыйныя дэмакраты А. Герцэн і М. Чарнышэўскі.

**«У альбом Арцёму Вярыгу-Дарэўскаму».** Напісаны на беларускай мове верш быў змешчаны ў «Альбоме» А. Вярыгі-Дарэўскага.

**«Гутарка старога дзеда».** Разам з вершам Ул. Сыракомлі «Добрыя весці» гэты беларускі твор без подпісу аўтара склаў брашуру-пракламацыю, якая была выдадзена ў Кракаве ў час паўстання 1863 г. і распаўсюджвалася ў Беларусі. Пра аўтарства В. Каратынскага сведчыць яго сын Бруна ў сваіх успамінах (Ніва. 1961. 8 кастр.).

**«Туга на чужой старане».** Напісаны ў 1864 г. на беларускай мове верш, як відаць, прысвячаўся сасланым у Сібір паўстанцам 1863 г.

**«Карціны з берагоў Нёмана».** Упершыню нарыс быў надрукаваны ў «Tygodniku Powszechnym» (1882, № 28—29, 44—49; 1883, № 20—26; 1884, № 13—25). Пераклад з польскай мовы У. Мархеля.

[1] Сапліцова — вёска на Навагрудчыне, назву якой А. Марцінкевіч перанёс у паэму «Пан Тадэвуш».

[2] Маецца на ўвазе мастак Міхал Андрыёлі (1836—1893), які ілюстраваў твор I. Ходзькі «Успаміны квестара», паэму Ул. Сыракомлі «Радавіты Ян Дэмбарог» і паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

[3] Глінскі Антон Юзаф (1817—1866) — пісьменнік і фальклярыст, родам са Шчорсаў.

[4] Героі «Пана Тадэвуша».

[5] А. Міцкевіча.

[6] Тут гаворка ідзе пра мясціны, дзе разгортваецца дзеянне паэмы Ул. Сыракомлі «Засценак Падкова» і гутаркі «Акраец хлеба» (галоўны герой Лагода). «Янка Цвінтарнік» — адзін з лепшых твораў Ул. Сыракомлі.

[7] Маецца на ўвазе Самуэль Воўк-Ланеўскі, жорсткі пан-прыгоннік, уладальнік Лугамовіч на Ашмяншчыне. Ён згадваецца ў «Пане Тадэвушы».

# КАНСТАНЦІН ВЕРАНІЦЫН
# (1834—1904)



Гэтак жа, як і аўтара «Энеіды навыварат», у лона нашай літаратуры вярнуў імя Канстанціна Вераніцына нястомны даследчык-літаратуразнавец Генадзь Кісялёў, пра што захапляльна і вельмі пераканаўча расказаў ён у сваёй таленавітай кнізе «Пошукі імя», а потым у дапоўненым выданні — «Расшукваецца класік». Там жа падаў ён і асноўныя звесткі з біяграфіі паэта.

Нарадзіўся К. Вераніцын 1 чэрвеня 1834 г. у вёсцы Астраўляны Віцебскага павета. Паходзіў з прыгонных сялян ліберальнага пана Бондырава. Сапраўднае яго прозвішча — Васільеў. Сыну прыгоннага селяніна ўдалося паступіць у Гарадокскае парафіяльнае вучылішча, якое ён скончыў у 1844 г. Праз год Кастусь Васільеў — ці не за свае здольнасці да навук? — атрымлівае вольную, што дае яму магчымасць запісацца на вучобу ў Віцебскую губернскую гімназію. У 1851 г. яго прылучаюць да мяшчан мястэчка Гарадок. У гэты час ён і выбірае сабе новае прозвішча — Вераніцын. У 1852 г., не паспеўшы скончыць гімназію, прагны да вучобы юнак паступае ў Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію, дзе вучыліся, дарэчы, шмат разначынцаў. Праўда, праз два гады ўпартага беларуса выключаюць за нешта з акадэміі. Хлопец вяртаецца ў Беларусь і як пансіянер Вольнага эканамічнага таварыства паступае ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут, адразу на трэці курс. У 1859 г. ён абараняе дысертацыю «Пра беларускую гаспадарку» і атрымлівае званне агранома (кандыдата агранаміі). Потым К. Вераніцын служыў аканомам у нейкім маёнтку. З 1863 г. зноў жыве ў Пецярбургу, служыць у розных установах. Праз дзесяць з лішнім гадоў ён вяртаецца на радзіму, дзе ў 1874—1879 гг. працуе выкладчыкам геаграфіі, прыродазнаўства і гісторыі ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. У 1880 г. Вераніцын зноў апынуўся ў Пецярбургу, дзе пасяляецца назаўсёды, не забываючы наведвацца ў родную Беларусь. У Пецярбургу служыў чыноўнікам Міністэрства шляхоў зносін. У 1890 г. у чыне стацкага саветніка выходзіць у адстаўку. Як мяркуе Г. Кісялёў, там жа Канстанцін Вераніцын і памёр недзе каля 1904 г.

Яшчэ нядаўна «ананімная» паэма «Тарас на Парнасе», якая належыць, як вельмі пераканаўча даводзіць Г. Кісялёў, пяру Канстанціна Вераніцына, стала класічным творам беларускай літаратуры. Яна была шырока распаўсюджана ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі, часта перапісвалася, хадзіла з рук у рукі па ўсёй Беларусі. У ёй выдатна праявіўся дэмакратызм аўтара, глыбокая павага да свайго беларускага народа. Напісана паэма пяром сапраўднага майстра, з добрым народным гумарам. Вельмі доказна паказаў той жа Г. Кісялёў, што К. Вераніцын з'яўляецца аўтарам і другой, надзвычай цікавай беларускай паэмы «Два д'яблы», знойдзенай зусім нядаўна В. Скалабанам у рукапіснай хрэстаматыі А. Рыпінскага.

*К. Цвірка*

21 Зак. 1799

## ТАРАС НА ПАРНАСЕ

Народная паэма

I

Ці знаў хто з вас, браткі, Тараса,
Што палясоўшчыкам служыў?
На Пуцявішчы, у Панаса,
Ён там ля лазні блізка жыў.
Што ж, чалавек ён быў рахманы,
Гарэлкі ў губы ён не браў,
Затое ў ласцы быў у пана —
Яго пан дужа шанаваў.
Любіла тож Тараса й паня,
І войт ні разу не збрахаў,
Затое ж ён балота з рання
Да цёмнай ночы пільнаваў.
Чуць золак — стрэльбу ён за плечы,
Заткне сякеру за пояс, —
Заўсёды ходзіць бор сцярэгчы
Ды птушак біць з ружжа Тарас.
Хадзіў ці многа ён, ці мала,
Ды толькі нешта адзін раз
Бяда ў бары яго спаткала...
Во як казаў нам сам Тарас.

II

«На самага Кузьму-Дзям'яна[1]
Пайшоў я біць цецерукоў.
Устаў я нешта дужа рана, —
Здаецца, з першых петухоў.
Іду сабе я панямногу,
Але й на пень крыху прысеў,
Аж тут — лоп-лоп! — цераз дарогу
Як быццам цецярук зляцеў.
Злажыўся стрэльбай — кляпс! — не паліць,
Крамзель з другога! — не пякецы!
Гляджу — аж вось з-за елі валіць
Як ёсць харміна-мядзведзь!
Хоць не труслівы я дзяціна,
Але затросся, як асіна,
Зубом, як цюцька, лапачу.
Аж бачу — зломана лясіна,
І ўздумаў: дай-ка ўскачу!

III

Скакнуў — не трапіў, паслізнуўся
І ў яму старчаком лячу!
Ляцеў, ляцеў — як разануўся, —
Аж стала зелена ўваччу!
Ляцеў ці доўга я, ці мала,
Таго ніяк не ўцямлю,
Але ўжо ладно рассвітала,
Як я зваліўся на зямлю.
Устаў з зямлі, абкалаціўся, —
Бо быў у гразі я, як свіння,
І доўга сам сабе дзівіўся —

Дзе апынуўся гэта я?
Рукой паскробшы каля вуха,
Дастаў з кішэні рагавень[2]
І храпы напіхаў цяртухай, —
Бо ўжо не нюхаў цэлы дзень!
Як прасвятлелі мае вочы,
Мядзведзя ўжо я не шукаў.
Закінуў стрэльбу я за плечы
І па бакох глядзець пачаў.

IV

Авохці мне! Як там прыгожа!
Як быццам хто намаляваў!
Чырвоны краскі, мак і рожа, —
Ну, як сукенку хто паслаў!
І птушкі ёсць там, дужа стройна
Пяюць, палепш за салаўя!
А-ай! авохці мне! авой-я!
Куды патрапіў гэта я?
Стаяў я доўга і дзівіўся,
Разявіў зяпу і глядзеў,
Аж вось адкулечка з'явіўся —
Ці то прышоў, ці прыляцеў —
Хлапчына нейкі круглалікі,
Ўвесь кудравы, як баран,
І за плячыма ў яго вялікі
Прычэплен лук быў і калчан.
— Адкуль, куды дарога гэта? —
Спытаў я ў хлопчыка той час.
— Дарога гэта з таго сьвета,
І проста йдзе аж на Парнас! —
Сказаўшы, хлопчык таго часу

На крыллях шпарка паляцеў
Дарогу ж паказаць Тарасу,
Не меўшы часу, не хацеў.

V

Памысліў я тады нямнога:
Што за шайтан Парнас такі?
Пусціўся я проста той дарогай,
Узяўшы ў рукі добры кій.
Прайшоў вёрст дзевяць той дарогай,
Аж бачу я — гара стаіць,
А пад гарой народу многа,
Як бы кірмаш які кішыць.
Прыйшоў я бліжэй, што за ліха:
Народ не просты, ўсё паны.
Хто дужа шпарка, хто паціху,
Усе лезуць на гару яны
І, як у школе, галасуюць,
Гатоў адзін другога з'есць,
Бо кожны морду ўперад суець,
Каб першым на гару узлезць.

VI

Усе з сабой цягаюць кніжкі,
Аж з іншых пот руччом плюшчыць,
Друг дружцы выціскаюць кішкі.
Аж нехта з-паміж іх пішчыць:
«Памалу, братцы, не душыце
Мой фельетон вы й «Пчалу»,
Мяне ж самога прапусціце
І не дзяржыце за палу!
А не, дык дадушы, ў газеце
Я вас аблаю на ўвесь свет,
Як Гогаля ў прошлым леце, —
Я ж сам рэдактар ўсіх газет!»[3]
Гляджу сабе — аж гэта сівы,
Кароткі, тоўсты, як чурбан,
Плюгавы, дужа некрасівы,
Крычыць, як ашалелы, пан.
Нясе вялікі мех пан гэты,
Паўным-паўнюсенка набіт.
Усё там кніжкі ды газэты,
Ну, як каробачнік які!
Таварыш[4] поплеч з ім ідзе
І несці кніжкі пасабляе,
А сам граматыку нясе,

Што ў семінар'ях вывучаюць.
Вось нехта, сеўшы ў тарантасе[5],
На гору цягнецца трушком,
Знаць, любяць тых і на Парнасе,
Хто ездзіць конна — не пяшком.

VII

Во нешта разам зашумелі,
Народ раздаўся на канцы,
І, як бы птушкі, праляцелі
Чатыры добрых малайцы.
Народ то быў усё не такоўскі:
Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі
І Гогаль шпарка каля нас
Прайшлі, як павы, на Парнас.
Ну, словам, многа тут народу
Сабралась лезці на Парнас:
Былі паны, было й зброду,
Як часам і на свеце ў нас.
Праміж людзей і я штурхаўся
І ціснуўся, што ёсць пары;
Вось чуць-не-чуць такі прабраўся
І лезу проста да гары.

VIII

Узлез. Гляджу — будынак новы
Стаіць, зазвычай панскі двор,
Кругом абнесен тын яловы:
Нябойсь, сюды не ўлезе вор!
А на дварэ тым свінні ходзяць,
Каровы, козы, бараны...
Знаць, і багі хазяйства водзяць,
Калі свіней дзяржаць яны.
На грошы ў тронкі тут гуляюць
Парнаскі хлопцы-дзецюкі,
А хто капейкі з іх не маець,
Той лупіць проста у шлягі[6].
Улез к багам тады я ў хату...
Авохці мне! Ні даць, ні ўзяць,
Як у казарме там салдатаў —
Багоў — не можна сашчытаць!»

IX

Тарасу ліха што здаецца, —
Ну, як бы ў рандзе[7] ён сядзіць:
Хто піпку курыць, хто смяецца,
А іншы песню бурудзіць.

Глядзіць ён, аж на лаўцы шыюць
Шаўцы багіням хадакі,
Багіні ж у начоўках мыюць
Багам кашулі і парткі.
Сатурн[8] там, лыкі размачыўшы,
Падвіркай[9] лапці падплятаў;
Па свеце добра пахадзіўшы,
Лапцей ён многа патаптаў.
Нептун[10] на лаўцы чыніць сеці
І восці садзіць на шасты,
Пры ім жа, мусіць, яго дзеці
Дзіравы ладзяць нераты.

X

Вось б'юцца Марс[11] ды з Геркулесам[12],
А Геркулес, як той мядзведзь, —
Каб цешыць старага Зевеса,
Хахол ён Марсу добра мнець.
Зевес жа наўзніч лёг на печы,
Сярмягу ў голавы паклаў...
Ён грэў на печы стары плечы
І нешта ў барадзе шукаў.
Во перад люстрам задам меліць
І маслам мажа валасы
Ды нечым белым твар свой беліць
Венера, знаць, дзеля красы.
Амур[13] жа з дзеўкамі жартуе,
Ну, проста смех ажно бярэ!
То ён знянацку пацалуе,
То хустку з галавы здзярэ;
То на гармоніку зайграе,
То німфам[14] песню запяе,
То адным вокам заміргае,
Як быццам бы каго заве.

XI

Вось затраслася ўся гара:
Зевес на печы зварухнуўся
Зяўнуў і дужа пацягнуўся
Ды кажа: «Есці ўжо пара!»
Тады праворна дзеўка Геба[15]
Гарэлкі ў чаркі наліла
І, як жарон, букатку[16] хлеба,
Прынёсшы, — бразь! — сярод стала!
Яна ў найміткі ў неба ўзята,
Каб есць варыць і плацці мыць.

Нябось, не дарам яе плата —
Ці ж лёгка столькіх накарміць?!
Во, з усяго сабраліс неба!
Як тараканы каля хлеба,
Багі паселі ўкруг стала,
І стравы смачны з печы Геба
Насіць да столу пачала.

XII

Наперш дала яна капусту,
Тады са скваркамі кулеш,
На малацэ крупеню густу
Дае ўволю, толькі еш.
І з пастаялкай жур сцюдзёны,
А з кашы сала аж цякло,
Ды і гусяціны смажонай
Уволю ўсім багом было.
Як унясла ж на стол каўбасы,
Бліны аўсяны ў рашаце,
Аж слінкі пацяклі ў Тараса
І забурчала ў жываце.
Багі гарэлку піць пачалі,
З насадкі[17] ў чаркі так і льюць!
Падпіўшы, песні запявалі
Ну, як у рандзе, ўсе пяюць.
Бах[18] сп'яну пеў такі прыпеўкі,
Што аж не можна гаварыць,
Аж засароміліся дзеўкі,
Так стаў ён брыдка развадзіць.
А Зеўс тым часам насцябаўся,
Што носам чуць зямлю не рыў, —
Ён вочы плюшчыў і ківаўся
Ды быццам нешта гаварыў.
Хоць не маё то, праўда, дзела,
Не след мне, можа, і казаць,
Любіў ён цешыць грэшна цела
Ды часам лоўка падгуляць.

XIII

Але багі такі усталі,
Як ўсё паелі, папілі.
Во... разам у дуду зайгралі,
Скакаць багіні пачалі.
Узяўшы хустачку, Венера
Пайшла «Мяцеліцу» скакаць.
Прыгожа, стройна цераз меру,

Пяром не можна апісаць.
Чырвона, тоўста, круглаліца
І вочы, як на калясе,
Як жар, гарыць яе спадніца,
Істужкі ўплецены ў касе.
Хапіўшы келішак гарэлкі,
Амур яшчэ павесялеў —
Іграць пачаў ён на жалейцы
І дзеўкам стройна песні пеў.
Нептун з прыгожанькай наядай[19]
Пайшоў упрысядку «казака»;
Нябось, і у старога гада
Кроў грае, як і у дзецюка,
А во й сам Юпітэр з Вестай[20], —
Пусціўся, стары хрэн, у пляс,
Як бы жаніх перад нявестай,
Заткнуў ён рукі за пояс.
А во і Марс у новых ботах;
Ён, мусіць, ботаў не жалеў,
Бо з німфамі скакаў да поту,
Гуляў у жмуркі і шалеў.
І кожны бог так разгуляўся,
Што аж не можна удзяржаць.
А хто гарэлкі насцябаўся,
Таго пад лаўку клалі спаць.

XIV

Калі зайграў дудар «скакуху»,
Ніяк Тарас наш не ўцярпеў,
І ад парога, што ёсць духу,
Скакаць на хату паляцеў.
Як стаў прытаптываць атопкам,
Аж рот разявілі багі:
То ён прысвісне, то прытопне,
То шпарка пойдзе у кругі.
Глядзеў Юпітэр і дзівіўся,
І пад дуду ў далоні біў,
У канцы к Тарасу прыбліжыўся
І так яго перапыніў:
«А ты адкулечка, прыяцель?
Зачым прыйшоў ты на Парнас?
Ты хто такі? Ты не пісацель?
«Не, мой панок! — сказаў Тарас, —
Я палясоўшчык з Пуцявішча,
Чуць золак сёння са двара,
Прыйшоў сюды я апаўдні шчэ,

Ды ўжо й дадому мне пара.
Ці не была б, паночак, ласка
Адсюль дамоў мяне завесці?
Хадзіўшы па гары Парнаскай
Мне дужа захацелась есці.
Ды і сварыцца будзе жонка,
Што я дасюлечка не йду.
Куды ж ісці, ў яку старонку,
Калі дарогі не знайду?»

XV

Кіўнуў Зевес — і мігам Геба
Крупені ў міску наліла
І добрую краюху хлеба,
Сказаўшы: «Еш», — мне падала.
Крупені смачнай пахлябаўшы,
Усіх падзякаваў багоў;
Кашэль за плечы прывязаўшы,
Сабраўся ўжо ісці дамоў.
Але зефіры падхапілі,
Хто за руку, хто за паяс,
І, як бы птушкі, паташчылі
Яны мяне цераз Парнас.
Няслі на крыллях, быццам вецер,
І проста прынеслі ў наш лес.
Гляжу я: мусіць, ужо вечар,
Бо маладзік на неба ўзлез...»

З тых пор Тарас ужо не ходзіць
Так дужа рана па лясах,
А дзеля гэтага не шкодзіць
Бярвенне красці па начах.
Дык вось што бачыў наш Тарас,
К багам узлезшы на Парнас.
Ён гэта мне апавядаў,
А я ў паперку запісаў.

## ДВА Д'ЯБЛЫ

Гдзе бутэлечка зазвоніц,
Быц кадук[1] у шыю гоніц.
*Беларуская песня*

Дрыб-дрыб, дрыб-дрыб чэшуць ножкі
Упрыскочку і трушком.
Смаліць д'ябал па дарожцы
Без папаскі, хоць пяшком.

Сам мізэрны, рожкі круты,
Быц хранцузік-небарак,
Козлі ногі не абуты,
Капялюш на ім і храк.
Бегшы шпарка, змардаваўся,
Ажна высунуў язык.
Што шаг — мордай спатыкаўся
(Знаць, ■ дарогам не прывык).
А дарога была слізка,
Бяжыць д’ябал — рад не рад.
(Ведзь жа з Віцебска не блізка
Ў пекла збегаць і назад).
Змардаваўшысь, пад ялінкі
Троха спыхацца прысеў,
Пусціў з морды гужам слінкі
І, як цюцька, засапеў.
Вось глядзіць ён — аж з-пад леса
Нехта быццам бы ідзець.
Забрала цікавасць беса,
Скок на пень і стаў глядзець.
Абшарпаны, абадраны,
Без рагоў і без хваста,
Ў юсе морда, ўсюды раны —
Бес кульгае з-за куста.
«А, здароў, адкуль? як маеш?
Ай, авохці мне, сваяк,
Гэта ж ты зусім кульгаеш,
Хто цябе змяжджуліў так?
Лупіў нехта, знаць, сярдзіты,
Калі йдзеш ты без хваста», —
Гаманіў так бес нябіты
Проці бітага чарта.
Як завые тут калека,
Слёзы градам так і йдуць:
«Во, сваяк, дажыць мне веку
Злыя людзі не дадуць.
Сатане было заўгодна
З пекла нас дваіх пасланць:
Цябе — ў Віцебск, мяне — ў Гродна
Душы п’яніц самушчаць.
Думаў, будзе мне пажыва,
Загуляю ў Гродне я;
Гдзе акцыз[2] ідзе шчасліва,
Ёсць пажыва там мая.

Так думаў, ды абмыхнуўся,
Во адтуль які іду.
Ледзь-няледзь жывы вярнуўся,
Знаць, да пекла не дайду.
Першы год было і што-та:
То апоіш, то разбой.
Досыць будзе тут работы,
Меркаваў я сам з сабой.
Стаў я лазіць па ўсіх рандах[3],
Як за чарку хто — я тут
Тыц к яму з бясоўскай радай:
Чуць паслухаў — і капут.
То абкрадзе, то загубіць,
Іншы цэркву абкрадзець,
А хто й сам сябе пагубіць —
Люба-радасна глядзець!
Раз прыйшоў я нешта ў ранду
(Страх успомніць — аж дрыжу!),
Мужыкоў сабралась банда,
Я ж пад печку і сяджу.
За сталом сядзіць шынкарка,
Смутна нешта, слёзы лье.
Па руках не ходзіць чарка,
Ніхто песень не пяе.
Што тут, думаю, за ліха?
Зусім п'яных не відаць,
І у рандзе стала ціха,
Паўляглiся слоўна спаць.
Мо аб подачах гукаюць?
Ці у некруты[4] бяруць?
Можа, піць за што не маюць,
А ў пазыку не даюць?
Ну, ды гэта мне не вадзіць[5],
Што галышыкі не п'юць.
Няма грошай — дык украдуць
Ці, аграбіўшы, заб'юць.
Сам жа, вушы навастрыўшы,
Стаў я слухаць, што бубняць.
Віжу — ці то не падпіўшы?
Што гукаюць — не паняць.
Паціхонечку з-за печы
Шмыкнуў я праміж людзей
Ды шынкарцы й сеў за плечы,
Штоб расслухаць пачутней.

Хоць нам страшан хрэст і вера
(Гэта ведама з вякоў),
А страшней таго няўмеру,
Што я чуў ад мужыкоў.
Адракліся, закляліся
Піць гарэлку мужыкі.
Як у іх не адняліся,
У шайтанаў, языкі!
Каб мяне, за хвост паймаўшы,
Хто храстом пераржагнаў,
Верна б, я так не спужаўся,
Як таго, что я узнаў.
Шэрсць са страху стала дыбам,
У дугу мяне звяло,
Пакрывіла морду, губы
І мытухай[6] праняло.
Проста, брацітка, сшалелі —
Хоць адзін хто б зробіў грэх,
Чыста ранды апусцелі —
Чарку б выпіў хто на смех.
Мала ж гэтага няшчасця —
Як праняў мяне тут страх,
Млосна стала мне з напасці —
Я на землю чубурах!
Як прыцямілі ж тут гады,
Што зваліўся я на пол,
І нявесь як сталі рады —
Хвацъ хто цёрла, а хто кол.
А адзін, штоб ён апохнуў,
Цуп такі за самы хвост.
Худа мне, я толькі вохнуў,
Як урэзаўся аб мост.
Хто ганцінай, хто дубінай —
Знай што валюць ды пяруць.
Разламалі чыста спіну,
Ані вохнуць, ні дыхнуць.
Як шалёны, я кідаўся,
Проста пару хоць пусці.
І ўжо с пеклам папрашчаўся,
Мусіць, мне туды не йсці.
Добра йшчэ, што дагадаўся,
Зірнуў — блізка да дзвярэй.
Я рвануўся — хвост астаўся,
Сам наўцёкі паскарэй».

«Худа ж, — кажа чорт з Віцебска, —
Жаль жа мне цябе, сваяк.
Відна, ў Гродне чарцям кепска,
Во у нас зусім не так.
Гол народ наш, як свірэлка,
Падвяло яму жывот,
Зато дзёшава гарэлка
І выходзіць іншы шчот.
Была й мне-та труднавата,
Як стаяла ў нас цана.
Па бутэльцы брала хата.
Што тут зробіць сатана?
Вып'е чарачку, другую,
Трэцяй ў губу не бярэць.
А траплялась зачастую,
Што й зусім ніхто не п'ець.
Раз у раз у цэркву ходзяць,
Гдзе казанне ім бубняць.
Ой, ксяндзы нам многа шкодзяць —
Косцю ў горле нам сядзяць.
Мужык чысты — Богу верыць,
Яго лепей не чапай.
Во як стане чаркі мерыць,
Тады смела падступай.
Раз у горад бег ■ сяла я
(Акурат на Новы год),
Бо ў сяле мне жызнь плахая:
Зусім кіне піць народ.
Толькі што падбег к рагатке[7],
Чую гоман, галас, крык:
Пяюць п'яныя салдаткі
І, насцёбаўшысь, мужык.
Гдзе ні ўзгляну — ўсюды п'яны.
Я к рагаткам — чорта з два! —
Да тла чыста пазламаны.
І каго-та там няма!
Што за памжа[8] тут такая?
Вочам веры не даю.
Завялось нешта чуднoе.
Рот разінуў і стаю.
Вось ідуць удвох, абняўшысь,
З сабой нешта баруздзяць,
Ды ўжо так жа насцябаўшысь,
Толькі й можна разабраць:

«Кварта стоіць цяпер злоты.
Во раздолле нам, Дзям'ян!
З панядзелка да суботы
Ад дзяшовай будзеш п'ян».
Як пачуў я, у чым дзела,
З ума троху не сышоў,
Затраслося маё цела —
Аж прыплясываць пайшоў.
Я у горад — сярод бруку
П'яных, быццам бы як дроў.
А ўжо ж гоману і гуку,
Зараўло быц сто кароў.
Хто гарэлкі перш і ў губу
Адрадзясь яшчэ не браў —
Той сцябаў цяпер, аж люба:
Па паўгарца іншы жраў.
Будзе поўна пекла наша,
Будзе мне і пеклу чэсць.
Наварыў я смачнай кашы —
Бяры лыжку, ёсць што есць.
У паўдні, сярод дарогі,
Рэжуць, топяць у Дзвіне.
Не, няможна без падмогі,
Аднаму няспраўна мне.
Я аб гэтым і сабраўся
Бегчы ў пекла к сатане,
Штоб ён даў адтуль шубраўца[9]
У таварышы ка мне».
«А ці ведаеш, сваячык,
Што-ткі я скажу табе;
Куды дзенусь, небарачык,
Ласку зроб — вазьмі к сабе.
Хоць мяне й забілі гады,
Можа, мне нядоўга жыць,
А ўсё ж пеклу радзець нада,
Трэба троху паслужыць».
«Жаль цябе мне і самому,
Ну ды ладна, дай руку.
Адказаў бы я чужому,
А няможна ж сваяку».
Тут два д'яблы схамянуліcь,
Верць туды-сюды хвастом
І з разгону апынуліcь
Пад Задунайскім мастом[10].

## Каментарыі

**«Тарас на Парнасе».** Друкуецца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

[1] Кузьма-Дзям'ян — народнае восеньскае свята шаўцоў і кавалёў.

[2] Табакерка з рога.

[3] Гаворка ідзе пра Фадзея Булгарына, пісьменніка родам з Беларусі. Асоба яго ацэньвалася ў рускім грамадстве вельмі неадназначна. Абвінавачванні супраць яго не заўсёды былі справядлівыя. Выдаваў газету «Северная пчела» і іншыя выданні.

[4] Маецца на ўвазе Мікалай Грэч, рускі журналіст і пісьменнік, паплечнік Ф. Булгарына.

[5] Як мяркуюць, тут маецца на ўвазе Уладзімір Салагуб, рускі пісьменнік, аўтар аповесці «Тарантас» (1845), дзе рэалістычны паказ нораваў рускага грамадства спалучаўся са славянафільскімі тэндэнцыямі.

[6] У пстрычкі.

[7] У карчме. Ад слова «арэнда».

[8] Сатурн — адзін з рымскіх багоў. Лічылася што ён навучыў людзей земляробству, вінаградарству і цывілізаванаму жыццю.

[9] Падвірка, альбо спічак, — спецыяльнае шыла для лапцей.

[10] Нептун — бог мора.

[11] Марс — бог вайны.

[12] Геркулес (Геракл) — міфічны герой, які вызначаўся незвычайнай сілай.

[13] Амур — паводле рымскай міфалогіі, бог кахання.

[14] Німфы — духі або багіні прыроды: гор, лясоў, лугоў, рэк, мораў і г. д., увасобленыя ў вобразах прыгожых дзяўчат.

[15] Геба — багіня юнацтва. Выконвала абавязкі віначэрпа.

[16] Бохан.

[17] Пасудзіна з рыльцам.

[18] Бах (Бахус, Вакх) — бог урадлівасці і вінаробства.

[19] Німфай.

[20] Веста — паводле рымскай міфалогіі, апякунка неба.

**«Два д'яблы».** Твор скіраваны супраць народнай бяды — п'янства, а дакладней — спойвання народа спрытнымі гандлярамі з удзелам дзяржавы. Паэма знойдзена В. Скалабанам у паперах А. Рыпінскага з паметкай: «Канстанцін Вераніцын. 1860, 7 красавіка, Масква». Друкуецца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

[1] Чорт, д'ябал.

[2] Ускосны падатак на тавары шырокага спажывання.

[3] Корчмах.

[4] Рэкруты.

[5] Не турбуе.

[6] Паносам.

[7] Да заставы.

[8] Навала, напасць.

[9] Свавольніка, жартаўніка. Тут — чорціка.

[10] Мост у Віцебску (ад Задунайскай слабады).

# АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ
# (1834—1916)



Беларускі пісьменнік, гісторык, этнограф, краязнавец, перакладчык, публіцыст. Брат М. К. Ельскага. Нарадзіўся ў вёсцы Дудзічы Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Пухавіцкі раён) у сям'і памешчыка. Пачатковую адукацыю атрымаў у нямецкай школе ў Лясдэнене (цяпер Калінінградская вобласць). У 1852 г. скончыў Мінскую класічную гімназію. У 1852—1856 гг. быў на вайсковай службе, удзельнічаў у Крымскай вайне. У чыне паручніка выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў вёсцы Замосце (цяпер Пухавіцкі раён), дзе пасля смерці бацькі атрымаў у спадчыну фальварак. Быў жанаты, меў сына і дачку. У гаспадарцы значную ўвагу аддаваў паляпшэнню культуры земляробства, меліярацыі глебы, дагляду лесу, развядзенню рыбы, заклаў парк, сад і цагельню.

З 1861 г. быў міравым суддзёй 2-й акругі Ігуменскага павета, у 1882—1887 гг. — членам апякунскага камітэта пры рэальным вучылішчы ў Мінску, а з 1901 г. — ганаровым кuratарам павятовага Таварыства ўзаемастрахоўкі ад пажару. Літаратурна-публіцыстычную дзейнасць пачаў з допісаў у газету «Kurier Wilenski» («Віленскі кур'ер», 1860), прысвечаных пераважна вызваленню сялян ад прыгону. Пісаў на беларускай, польскай, рускай мовах. У час паўстання 1863—1864 гг. знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1864 г. заснаваў у Замосці краязнаўчы музей, у якім з часам назапасілася значная колькасць карцін, гравюр, малюнкаў і эскізаў заходнееўрапейскіх і мясцовых мастакоў, збераігаліся асобныя прадметы і лісты А. Міцкевіча, А.-Т. Касцюшкі, калекцыі фарфору, шкла, слуцкіх паясоў, каля 20 тысяч аўтографаў і дакументаў (у тым ліку Пятра І, Напалеона, Лютэра, Вашынгтона, А. Міцкевіча і інш.). Бесперапынна Ельскі папаўняў сваю бібліятэку, пад канец жыцця ў ёй было больш за 10 тысяч кніжных адзінак, сярод іх стрaдрукі, выданні XVII ст., амаль усе польскія і літоўска-беларускія хронікі, дыярыюшы, розныя біяграфічныя даведнікі, энцыклапедыі, атласы, вопісы архіваў і г. д., багатыя матэрыялы па беларусістыцы. Зборамі Ельскага карысталіся вучоныя, Кракаўская акадэмія, музей Румянцава ў Маскве, Маскоўскае этнаграфічнае таварыства, бібліятэка імя Асалінскіх «Асалінэум» у Вроцлаве. У кнізе наведвальнікаў музея меліся запісы на рускай, польскай, французскай, нямецкай, дацкай, беларускай мовах.

Ельскі напісаў больш за 10 тысяч гісторыка-краязнаўчых артыкулаў пра Беларусь для «Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін», «Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі». Ён прымаў удзел у археалагічных з'ездах у Вільні (1893) і Рызе (1896). Літаратурна-журналісцкая праца Ельскага была найбольш актыўная ў 1880-я гады, супрацоўнічаў больш як у 20 перыядычных выданнях.

У яго карэспандэнцыях, незалежна ад тэматыкі, заўсёды закраналіся пытанні маральнасці грамадскіх узаемаадносін. З культурна-асветніцкіх пазіцый ім напісаны матэрыялы пра гісторыі ўкраінскай трупы М. Старыцкага ў Мінску, пра бібліятэку Храптовічаў у Шчорсах, збіранне беларускага фальклору ў Мінскай губерні, «Паўночна-Заходні каляндар» і інш. Ельскі ведаў і цаніў творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, зберагаў у замосцінскім музеі аўтографы яго твораў, прысвяціў яму верш «Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу, беларускаму паэту» (1872), стаў яго першым біёграфам, быў знаёмы з арыгінальнай паэзіяй і перакладамі Я. Лучыны, перапісваўся з Ф. Багушэвічам і інш. З клопатамі пра маральнае жыццё вёскі і аптымістычным поглядам у будучыню напісаў вершаваныя і празаічныя брашуры «Сынок» (1895), «Выбіраймася ў прочкі» (1896), «Слова аб праклятай гарэліцы і аб жыцці і смерці п'яніцы» (1900), распаўсюджваў іх сярод дваран і сялян у літаграфаваным выглядзе. У сваіх творах «Гутарка аб тым, якая мае быць «Зямля і Воля» сельскаму народу» (1906) і іншых асуджаў асобныя маральныя заганы тагачаснага грамадства, заклікаў да прыватных рэформ, рацыянальнага вядзення гаспадаркі, апраўдваў сацыяльную няроўнасць. Пераклаў на беларускую мову 1-ю частку паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (1893), рабіў захады, каб арганізаваць папулярныя выданні для народа накшталт перакладзенай ім на беларускую мову працы польскага эканаміста Ю. Супінскага «Сем вечароў». На рускую мову перакладаў даследаванні польскага філосафа Ю. Ахаровіча «Каханне, злачынства і мараль» (1876), «Пра асноўныя супярэчнасці ў нашых ведах пра сусвет» (1877). Выдаў зборнік «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага (крывіцкага) народа» (1908). Гісторыі этнаграфіі, фальклору, мове і літаратуры Беларусі прысвечаны яго працы на польскай мове: «Заўвагі аб сялянскім пытанні» (1884), «Пра беларускую гаворку» (1885), «Беларуская літаратура і бібліяграфія» (1892), «Нарыс гісторыі мясцовай гаспадаркі ў супастаўленні з народнымі звычаямі ад першабытных да астатніх часоў» (1893—1897), «Гістарычныя звесткі пра радзівілаўскую ткальню паясоў у Слуцку» (1893), «Гістарычныя звесткі пра фабрыку шкла і аздобных люстэрак ва Урэччы Радзівілаўскім на Літве» (1899) і інш.

Падзвіжніцкая культурная праца, плённыя навуковыя намаганні Ельскага мелі шырокі розгалас у славянскім свеце, высока цаніліся ў грамадска-культурных колах і ў навуковым асяроддзі. У 1885 г. яму прысвоена званне члена-супрацоўніка Вольна-эканамічнага таварыства ў Пецярбургу, а ў 1892 г. — правадзейнага члена камісіі гісторыі і мастацтва філалагічнага аддзялення Акадэміі навук у Кракаве. Па малюнку І. Урублеўскага быў адліты медаль Ельскага. Пасля смерці Ельскага большасць экспанатаў яго музея загінула, частка рукапісных і кніжных збораў трапіла ў музеі і архівы Вільнюса, Мінска, Кракава і Варшавы (фонд Прозараў і Ельскіх у Галоўным архіве старажытных актаў).

*У. Мархель*

## ВІНЦУКУ ДУНІНУ-МАРЦІНКЕВІЧУ

Здароў, Вінцэсь, айцец «Гапона»!
Табе паклон ад Гелікона[1]
За «Вечарніцы» і за «Дудара».
І за «Навума» — сяла гаспадара,
Бо тваe песні гладкі і лоўкі —
Яны гамоняць нам да галоўкі

І сэрцу кажуць скакаць падчас,
Калі ты ўзлезеш на наш Парнас[2].
Маўчыш цяпер, а чаму так?
Няўжо ж у цябе мыслі брак?
Няўжо ж гутарку мог ты забыць?
Няўжо ж не хочаш гаманіць?
Эй! — разгуляйся толькі зноў
Ды пацеш жа мужычкоў,
Ім трэба песенькі сваёй,
Дык ты ж, Вінцэсь, ты ім запей.
Бо калі будзеш ты маўчаць, —
Вазьму я дудачку іграць.
А як пацягну «Мецяліцу»,
Дык на маю вечарніцу
Наплыне ўвесь наш народ
Ды ад гульбы аж стане пот.
Мяне не знаеш, а я — хват,
Такі жа дужы, як ты, брат...
Як хочаш, магу я пісаць,
Усякі мыслі выкладаць.
Неміласэрны мой язык,
Калі падыме праўды крык,
Тады — бяда і трудна рада:
Такведе згледзець трэба гада...
Табе кажу аб гэтым тут,
Каб ты паняў, што я не плут.
Хоць трасцу, братка, угадаць,
Хто я такі — табе не знаць.
Цяпер-то пляга на ўсім свеце,
Затым трудненька жыць, паэце,
А ціхамір'е як настане,
Тады зайграем мы, маспане!..
Калі жа вучым — дык тайком
Злых рэзаць будзем языком,
А добрым слаць паклон і чэсць,
Хоць знаць не будуць, адкуль весць.
А вось табе, сумленны дзед,
Наш стары лірнік і паэт,
Слаўцо із сэрца я кладу,
Ты толькі нам зайграй: ду-ду!
Бо ўжо вельмі сумна стала,
Як твая песня замаўчала.
Бракгаўз[3] у Ліпску выдрукуе
І грошам цябе пачастуе...
Паслухай толькі братняй рады

І не бойся жаднай здрады,
Бо ты сядзіш у Люціне
У сваёй хаце пры каміне
І не ведаеш, што можна,
Толькі з толкам, асцярожна...
Будзь здароў жа, пане-браце,
Зычу: хай у тваёй хаце
Ляжыць бохан на стале
Ды ў мяшочку у цябе
Няхай будзе поўна грошы,
Сэрцам будзь нам ўсё харошы!
Кабы статачак ручыўся,
Каб ты ніўкаю разжыўся,
Каб зубатыя ваўкі
Не паелі жарабкі,
Кабы яйцы неслі куры,
Не тачылі ў свірне шчуры[4],
Кабы сытыя кароўкі
Малако лілі ў даёўкі,
Каб ніколі аляндар
Не быў ў хаце гаспадар!..
Каб старая твая жонка
Не ўрадзіла так дзіцёнка,
Як тая калісь маці Сара[5],
Бо у летах — гэта кара...
Каб у садзе раслі дулі,
За даўгі кабы не цкулі,
Каб твае родныя дзеткі
Красавалі так, як кветкі,
Людзі добры каб любілі,
Каб картопелькі не гнілі,
А пшаніца вылягала,
Каб заўсёды добра стала.
Для убогіх і сірот,
Каб іх тысяча у год
Перайшла праз твой парог,
Каб за колас добры Бог
Табе булачку аддаў,
А за грош рубельчык клаў,
Каб падаткі невялікі,
Каб не было з жонкі склыкі,
Судовыя каб не дралі,
Парабкі кабы не кралі,
Пчолкі каб давалі мёду,
Каб да сотага ты году

Весела, здарова жыў,
А па смерці піва піў
З Абрагамам[6] на сталіцы,
Дзе сам Бог сядзіць ў святліцы,
Дзе святыя анялы, —
Будзь жа, братка, там і ты!
А калі на страшным судзе
Для мяне месца не будзе,
Так паможаш свайму брату
Упрасіцца ў тваю хату.
Будзем разам за сталом,
Будзем піва піць каўшом,
Аж з чупрыны закурыць.
Но! Ужо годзе, аднак, кпіць!
Жыві весел, мой брацец,
Таго зычу — і канец!

*Замосце, 27 чэрвеня 1872 г.*

## СЫНОК

(скарочана)

У маладых малжонкаў, як галушкі,
Радзіліся самыя дачушкі,
А яны вельмі жадалі,
Каб сына ім богі паслалі.
Бывала, на куце кленчаць,
Выракаюць і ўголас енчаць:
«Сына, Божэ! Сына трэба,
Няхай спадзе нам хоць з неба!»
...Затым якраз у гадок
Радзіўся малжонкам сынок.
Дык сабралі шмат кумоў,
Пазвалі аж двох ксяндзоў,
Змітрам хлопца ахрысцілі,
Тры дні цэлых елі, пілі,
Весяліліся без меры,
Аж трашчалі вокны, дзверы.
Аднак не абышлося без уроку:
Чорны воран лятаў збоку,
І хоць вясёла хата скача,
Ён панура кругом крача...
Пачулі тое ўраз людзі
Да і кажуць: «Нешта будзе...»
<...> Рос сынок у бацькоў,
Цешыў іх і кумоў.

Бывала, едзе на кірмаш
Бацька, а хоць багацця нямаш,
Купляе сынку адзежу,
Абаранкі і обуў свежу;
Маці ж, без спрэчкі,
Робіць дзіцяці перапечкі,
Мядком малога частуе,
Да і маслам хлеб шмаруе,
Кажучы: «Ай, сынок!
Мусіць, з неба ты знарок!»
Яму перша заўжды ложка,
А дачушкам таквеле трошка,
І то калі на астатку,
Пазавуць спытаць у хатку...
Здавалася: «Што ж тут злога,
Што хаюць сынка дарагога?..»
Але ж, уласьне, бацькоў пяшчоты
Псуюць дужа дзяцей цноты...
Так і Зміцерка гэты
Патраціў добры прыметы.
Як меў ужо дзесяць год,
А к сталу прысеўся кот,
То ён варам яму ў вочы,
Аж звярок крычаў што мочы;
Бацькі ж, мець дзіця караць,
Сталі яшчэ пахваляць,
Так яно із сэрца злога
Выдварала маці многа
І на бацьку плёваць прабавала,
А ўсё ж кары не дастала.
«Што ж, дзіця, — бацькі чаўпуць, —
Не накажаш дурному не плюць;
Трошкі падрасце, паразумнее,
Так і само паляпшэе,
І нам прыйдзе радасць вельма
Можа, сын не будзе шэльма»
<...> Рос сынок і ад часу
Цягаў матку за касу.
Крыўдзіў сёстры, біў скаціну,
Кажнаму дзіцяці дасць у спіну,
Прадражняе, пракрыўляе,
Ніякай баязні не знае.
Агледзеліся бедныя бацькі,
Што сынок іх не такі,
Якога яны жадалі,

І з таго хмурны сталі:
Бо у хлопца з гадкамі
Расла сіла. Кулакамі
Бацьком сваім стаў гразіць,
Кажа: «Маўчыце! буду біць!..»
«Ай! Кепска! — загаласіла маці,
— Не ужыцца, мусіць, з сынам у хаце».
«Праўда, жонка, — прыткнуў муж, —
Бо я ужо саўсім не дуж,
А сын крэпак, як мядзведзь,
Разгоніць, бадай, нас недзе...
Ой, бяда! Што ж нам рабіць?!
Як жа нам веку дажыць?!»
Плакалі бацькі, а сыночак
Рос, глядзя на лясочак,
Штодзень горшы, як шатан,
Крычыць: «Я ў хаце ужо пан!»...

Стары не выцерпеў, шэльму — бац,
А ён па твары бацьку — кац;
Старая к нім, а сын за матку
Да і пацёг праз усю хатку
І выкінуў за парог —
Урэшця, самога бацьку змог...
На крык збегліся суседзі,
Но баяцца, каб самым не быць у бедзі,
Дак толька кажуць здалёка:
«Зміцер! мей на бацькоў міласэрдна вока!
Бога бойся! Што ты ўздумаў?!
Клікнем старшых і кумаў,
Будзе сорам, будзе суд
І кара табе за блуд!»...
Апомніўся выродны Зміцер,
Бо быў, як чорт, хіцер,
Горшай бурды не рабіў
І будта ў злосці прыстыў.
<...> Прайшло яшчэ гадкоў тры,
Бацька стаў саўсім стары,
Не мае жаднай мочы,
А сынок робіць, што хоча:
Пакраў з кубла бацькоў грошы,
Валачэ к жыду дабра ношы,
У гарэлку улягае,
Старых з хаты выганяе;
Наканец і ажаніўся,

Бацькам нават не скланіўся.
Заняў сілай гаспадарку,
Родзічам дае па карку
І думае сабе: «Што за Бог!
Калі я ўсё тое зрабіць мог?!
Мусіць, Бога няма ш,
Хоць вучыць духоўны наш?..»
А нявестка? Крый жа Божа!
Прыкра цешчам сколька можа:
Цёплай стравы не дасць ніколі,
Ані хлеба ім даволі,
Грызе цёнгле, брыдка лае,
Не абшые, не абмые,
Цэлы месяц адны сарочкі,
Бруд есць — хоць ідзі упрочкі!..
Людзі гоман паднялі, раілі скаргу падаць
У валасць, каб злыдня скараць.
Ды пабрэў стары у суд.
Але, кажучы не тут,
Завяліся там парадкі,
Што крыўдзіцелям ні гадкі...
Зміцер пісару ўткнуў
І судзям кішэні надзьмуў,
Паставіў ім вядро гары,
Так і праігралі стары...

<...> Не было бедным што рабіць,
Пайшлі дамоў з горам жыць:
Нудзіліся, плакалі, ўспаміналі долю
І Богу паляцалі у сына няволю...
Не доўга прыйшлося разам гараваць:
Баба змерла, а дзед рушыў жабраваць
І недзе сышоў далёка так,
Што прапаў нават яго следу знак...
Але ж, пэўне, людзі хочуць сказкі,
Якой Зміцер дазнаў ад Бога ласкі.
Ота ж слухайце: па Божаму суду
Не меў ён карысці з блуду:
Статак яму не ручыўся,
Сын у студню ўваліўся,
Град, што год, пустошыў поле,
Не спорылася ў стадоле,
Пярун спаліў да грунту хату
І ў ней жанчыны выправу багату.
Патом жонка нагла змерла,

А самога немач прыперла.
Людзі ад яго адхінуліся,
Вясёлы дзянькі мінуліся,
Не было каму працаваць
І з кім вяку дажываць.
Даўгі скора завяліся,
Агзакуцыі ўзняліся,
За магазын, за падаткі
Папродалі астаткі,
Урэшце зямлю прысудзілі
(Тыя суддзі, што бацькоў глумілі)
Аддаць швеграм на вечнасць,
Каб выплаты была бяспечнасць.
Цяпер Зміцер, слабы, адзінокі,
Пазнаў боскія вырокі. <...>

## НАШЫ ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

### Скарэй у Томск

*Віцебск, 1896*

«У Томск, братцы, скарэй у Томск, — кажуць нашынцы і чужакі: там не ткуць, не прадуць — абрадна жывуць; не пашуць, не жнуць — пірагі пякуць, салодкае малачко з кісялём ядуць! У Томск, братцы, у Томск, родненькія!»

Але паціху, братцы, паціху! Той самы Томск ад нас далёка; доўга ехаць, даўжэй таго ісці. Пакуль што ці не лепей было б вадзіцы сцюдзёненькай папіць, смагу прагнаць, а другі коўш на гарачую галаву выліць, перахрысціцца, як людзям хрышчоным падабаецць, прысесць хоць бы і на завалінку, на якой дзяды рады радзілі пра сваё жыццейка.

А тым часам нашы вучні няхай пачытаюць нам кніжку пра той самы Томск. А кніжка тая занятная і складная: сачыніў яе хтосьці ў горадзе Мінску, нам учора прыслаў ды і кажа так.

У Томск!... Перш-наперш успомню казку, што разумныя людзі баюць пра завідушчых, як бы ім трэба ■ дарам Божым абыходзіцца, як сцерагчы тое, што ёсць, бо не ўсё тое дабро і багацце, на што вока пазірае. Здаецца — во яно ў руках. А як пагонішся, часам можна страціць усё, што маеш.

Мяркуй сам. Бег сабака па кладцы цераз раку і нёс у ляпцы вялікі кусок мяса. Толькі бачыць гэты сабака, што ў вадзе бяжыць другі і прэ мяса, здаецца, большае, і задумаў наш сабака ўхапіць чужое мяса: разінуў ляпку і — цап!... вады. Тым часам ягоны кусок мяса выпаў з ляпкі і паплыў з вадою быстра, а наш дурань застаўся без нічога.

### I

Так баіцца ў казцы, але не лепш бывае і напраўду, у жыцці-быцці земляпаха! Цяперыцька не ўвідзіш і не пачуеш нічога добрага, акрамя грэшнай работы, дурной гутаркі і паклёпу, як быццам у нашай роднай зямельцы няма

больш прасторы жыць выгадна, па-Божаму, няма дзе багацець чэсным розумам ды хлебам.

Кожнаму як быццам то ўсяго скупа, мала стала. Усе так і ждуць дастатку без меры, толькі сабе, што зваліцца нібыта з неба; адзін другога гатовы з'есці, завідуюць усякаму, не ведаючы таго, што ўсім не быць роўнымі: ці сілай, ці ростам, ці здароўем, ці векам, ці гаспадарствам, ці ўладай. Не помняць яны, што гэта ўсё ад Бога, каб былі на свеце людзі старшыя і малодшыя, гаспадары і маладцы, манархі і падданыя, — і што для ўсіх іх ёсць родны край.

Ой! Якое ж гэта вялікае, святое слова: радзіма, родны край! Трэба толькі зразумець гэтыя словы і з гонарам, глыбока хаваць у сэрцы!

Але ж людзям цёмным і нядобрым, завідушчым на чужое, чураючымся шчырай работы, і ў галаву не прыйдзе, якое яны сабе зло множаць, выглядываючы ўсё за родныя вароты, каб толькі дзе-небудзь пажывіцца дарэмна.

Зямелька, наша маці, што набрыняла кроўю і потам продкаў, дачакалася цяпер таго, што яе сыны, на адно слова якогасьці подлага абманшчыка, гатовы кідаць яе і мчаць, дзе завіслівыя вочы зыркаюць за лёгкаю нажываю... Сорам гэта бачыць, усё тое сумны дужа знак, і сэрца баліць, як падумаеш, што сталася з добрым з натуры народам нашым! Даўней, бывала, кіем не выгнаў бы ■ сяла аднаго чалавека туды, куды цяперыцька гатовы ляцець грамадою ўсёю.

Не так то даўно народ ускраін нашага царства ўзняўся быў ехаць за мора, у Амерыку, і тысячы яго пранялі на чужой старане; цяпер жа зноў тутэйшыя беларусы задумалі гуртам перабірацца ў Томскую губерню.

У корчмах (ой, тыя корчмы праклятыя!), на кірмашах, у гарадах і ў сёлах толькі і гоману дурнога аб тым, што хадзілі ці пойдуць «запісывацца» да губернатара на перасяленне, бо туды быццам вызываюць народ разам, павязуць яго дарам, а на месцы дадуць не токма многа зямлі, але яшчэ шмат грошай ды яшчэ надарацъ усякага насення, рагатай скаціны кожнаму перасяленцу, што ў Томскай губерні два месяцы толькі зімы лёгкай, а пасля цёпла, дык заўсёды пяюць салаўі, растуць проста ў лесе салодкія яблыкі і дулі, што бочка збожжа ўродзіць заўжды поўны засек, што там народ будзе волен ад падаткаў і набору.

Вось што плятуць дурні, а другія слухаюць і даюць веры гэтаму глупству, а тым часам робіцца вялікая шкода і ім самім, і цэламу роднаму краю, бо і сяляне багатыя, якія маюць дастаткова свайго грунту, думаюць ехаць у Томск, на кісельныя берагі і малочныя рэкі, а пакуль што прадаюць за бясцэнак і скаціну, і ўсякае хазяйства.

А ці ведае народ, хто такі падстройвае яму такую дудку? Ці ведае, у якую яму лезе? І адкуль пайшло ўсё тое баламуцтва? Гэта ўсё я растлумачу.

Каб народ быў граматны і пісьменны, як трэба, трымаў добра святую веру Хрыстову ды быў бы цвярозы, маральны, працавіты, ведаў бы, чаго стоіць дарагая часінка, ды не забываў бы праўду старасвецкую, што «без працы не ясі калачы», дык яго не дужа б хто ашукаў, не дужа б звёў, каб пасля пажывіцца тым самым.

З ласкі Бога і белага цара народ ужо даўно мае шырокія правы свабоднага абываценя, аднак грамата і пісьменнасць у народа стаіць зусім слаба, а што значыць берагчы звычаі, быць працавітым, пра тое ён яшчэ менш ведае. І не дзіва: пакуль дашукаешся адной школы з кніжкамі, дык пройдзеш трыццаць корчмаў з гарэлкай! Ад гэтага самага п'янства ў сёлах, не тут будзь сказана, цвіце, як мак, п'яніцы па вёсках — як грыбы; пайшла ўсюды бязмерная распуста; дзеўкі нявіннай, бязгрэшнай цяпер са свечкай шукай, бо амаль што ўсе свавольныя, а малодчыкі-карчомнікі бацькоў і мацярок не шануюць, глумяцца над старымі, зводзяць дзяўчат, працаваць шчыра і зарабляць чэсна не рады, дык і заможнасці праўдзівай няма, бо «маці зямелька так родзіць, як ёй хазяін годзіць», а хазяін толькі з дапамогі Божай можа наладзіць свой варштат і забяспечыць запас!

Больш за трыццаць гадоў таму назад, як народ выйшаў з-пад паншчыны, дзе-нідзе і прасвяціўся трохі, а зайздрасць да багацця тлуміць яму зусім галаву. Мінуліся старадаўнія звычаі, як старых слухаць; няма ім шанавання і павагі ад маладых, адна толькі ганьба і дзёрзкасць. Родныя браты грызуцца за бацькаўшчыну яшчэ пры жывым бацьку, а сашчэпіць ён рукі — куды што!... А гэта ж ці мала, што сын бацьку забіў, брат — брата? Тут падпаліў праз злобу, там ідуць пажары ад неасцярожнасці з агнём пакінутых без дагляду дзяцей ды праз паганыя папяросы, якія цяпер смаляць хлопцы і дзяўчаты амаль ад дзяцінства, і ніхто гэтага свавolля не забараняе.

Зло таксама вялікае, што адзенне народнае ўсё паскідалі і апранулі курты ды сукні фабрычныя. А дзе тыя песенькі, тыя абрады, тыя быліны і сказы старасвецкія! Куды табе што! Пяюць нейкія салдацкія, непрыстойныя, што вушы вянуць, слухаючы іх... Яшчэ выдумалі спраўляць свадзьбы ў святую пятніцу, у дзень смерці Спасіцеля, калі другія хрысціяне моляцца і посцяць.

Не было гэтага даўней і не чуваць было!.. То й не дзіва, калі ад новага звычаю няма ладу-спору, няма дастатку, бо тое даецца ад разумнай і шчырай працы, а Бог не можа благаславіць лянівую талпу, якая дабравольна сябе псуе грахом.

Вось дзе прычына таго, што народу не мілы і не любы сталі свае вуглы святыя, ад прашчураў спадчына, і што ён, пачуўшы казку аб кісельных берагах, аб дармовым, гатовым скарбе за тысячу вёрст, гатовы туды брысці, як утраплены, у абгонкі! Здаецца яму, што награбе разам дужа грошай, зажыве сабе панам.

Але за гэту разгуканую хціваць мусіць яму стацца куды горш, калі замест таго, каб зарабляць, вучыцца, прамышляць, як жыць чэсным трудом у роднай зямельцы, ён траціць толькі дарагі час на карчэмныя гутаркі і ўсякія баламуцтвы, а апошнія грошы аддае лайдакам за іх блудныя навінкі, якім ніколі не збыцца.

Гэтак жыць няможна, трэба апомніцца і ведаць, што дурням, калі ў іх сапсавана душа, нідзе не будзе добра, а каб ім стала лепш, дык трэба многа вучыцца, доўга старацца, трэба, шчыра і дужа працуючы, дабыць сабе гэтакім шляхам патрэбны дастатак. Нямаш другой, толькі гэта простая і прамая дарога да хлеба насушчнага і да добрага быту, а яна паказана нам Самім Богам.

Хто інакш вучыць народ, той яго непрыяцель, той хоча згубы людской, хоча збіць з толку хрысціянскага... А дзе тое відана, каб гатовыя пячоныя галубкі ляцелі нам у самыя губкі! Чалавеку прызначана ад Бога праліваць пот, працуючы на жыццё. Ці не сам сабе ўсякі кузнец сваё шчасце куе, цяплом ды чорнай сажай белую рубашку шые? Дык і найбагацейшы ад работы не свабодны, а калі гультаіць, то грашыць і рана-позна прападзе.

Не думайце, простыя людзі, што толькі вы працуеце. Для прыкладу: усякая работа ці з тапаром, ці то з пяром, калі робіцца, то і цяжкая. Але ваша здаравейшая, яна ўмацоўвае, бо просты работнік, прабываючы больш на чыстым паветры, добра з'есць і засне! Не завідуйце занятым якой другой працаю. Як у лесе розныя дрэвы, так і на белым свеце мусяць быць усякія людзі для таго, каб адны другім узаемна служылі, памагалі то тым, то сім, хто што ўмее. Адзін дровы сячэ ці зямлю паша, другі піша або вучыць, трэці есці варыць, той пячатае кнігі, таргуе, лечыць і г. д., і ўсе яны робяць справы добрыя, а злы толькі той, што хоча ляжаць на баку і завідуе другім.

Во як! Трэба работаць, хто што можа і ўмее, і як не будзем спіхаць мы роднага хлеба з лапаты, то ўсе сыты станем, без лішняй роскашы, якую то і вера наша Хрыстова трымаць не дазваляе. Не той шчаслівы, хто ходзіць пры залатых часах, але той, што з працы рук жыве, умее скромным быць ды чыстае сумленне мае, якое становіць найдаражэйшы скарб чалавека.

Даўней, як на свеце былі меншыя патрэбы, а моладзь слухала старых і ўся сям'я работала для хаты, так і Бог спорыў усяму, і жылося лепш, шырэй. Але новае распуснае пакаленне парвала зямлю на кусочкі, настроіла густа бабыльскіх хат, даступных для пажару, і б'ецца каля іх, бо шкада кідаць іх і ісці на заробкі. А тым часам надышлі трудныя годы, хлеб стаў зусім не дзяшовы, і толькі разумнаму хазяіну і з запасам можна як-небудзь абярнуцца.

Адтуль усе троху прыгалелі, а п'яніцы і распутныя пачалі красці, і цяпер поўныя астрогі здаровых дзецюкоў за зладзейства. Другія зноў замест таго, каб навучыцца якога рамяства або пайсці на заробкі ў фабрыку ці ў двор гаспадарскі, толькі падстаўляюць вушы, каб пачуць, як дзе што сарваць без працы.

Во і пачулі ад розных злыдняў пра Томскія дармовыя багацці і туды намераны перці, не разабраўшыся, у чым справа. Тую вестку, разумеецца, разнеслі ўсякія ашуканцы, злыдні, жулікі, якія знаюць дурноту народа, каб мець з яго нягодную карысць, бо хто запісваецца ў іх, мусіць ім плаціць колькі грошай.

Тая навіна пайшла, як зараза, па сёлах, і народу замуцілася ў галаве ад надзеі на раскошнае жыццё ў прочках. На бяду ходзіць байка, што быццам ужо многа людзей паехала ў Томск, што ў два месяцы нажылі сабе там па сорак штук рагатага быдла, столькі ж коней — дык і заклікаюць пісьмамі мір, каб усякі туды хоць бы ракам поўз «багацець і панаваць!»...

На тое баламуцтва глянула наканец начальства: загадалі слядзіць за падбухторшчыкамі і асцерагаць народ, каб не блудзіў з дурноты і не рабіў тым сабе шкоды. Але хоць разумнейшыя слухаюць, народ не перастае плясці сваё на ўсе лады, дык і задумаў я растлумачыць народу чыстую праўду.

## II

Але ж запытаюцца цікавыя: калі гутарка пра Томск непраўдзівая, то як магла яна паўстаць ні з таго ні з сяго, без ніякай прычыны?

На тое адказ: праўда, як кажуць, не бывае агню без дыму, так і байку пра дармавыя багацці Томска сплялі людзі не з нічога, ды толькі байка гэтая глупая, і будзе нам усім сорамна, калі, як той кажа, «агледзіцца Малах, што трасца ў зубах»...

Яшчэ нябожчык манарх Аляксандр III, даведаўшыся, што народу многа выязджае з Рускага царства за мора, каб там прападаць, выдаў 13 ліпеня 1889 года ўказ аб тым, што калі хто з сялян або мяшчан бяздомных, але якія маюць запас грошай, захоча ехаць і сяліцца за свой кошт на казённых землях, то можа прасіць аб гэтым начальства, і такім прызначана выдзеліць участкі зямлі ў Сібіры або на другіх далёкіх пустых ускраінах царства, але не дарам, аднак, [redacted] на выкуп, [redacted] некаторымі да часу льготамі. Вось і ўсё!

Пра гэты царскі закон усякі, не слухаючы розных ашуканцаў, як растуць дулі на вярбе, можа прачытаць у кніжцы, што ёсць у кожным валасным праўленні, пад загалоўкам: «Сборник разьяснений Сельского Вестника по делам сельских обитателей».

З тых пор ніякага другога закона аб перасяленні цар наш не выдаў, а цяперашні дух перасялення разбудзілі, як сказана, ашуканцы, каб ашуканствам цягнуць з цёмнага народа карысць. Яны вось падмаўляюць ісці ў прочкі, нявядама куды, за небывалым шчасцем, бо ўсюды чалавека на свеце чакае работа, а чым ён разумнейшы і сумленнейшы, тым будзе і шчаслівейшы. Падрабязней аб тым, якім спосабам у бацькаўшчыне жыць і працаваць трэба, скажу яшчэ ў канцы маёй кніжкі, а пакуль тое трэба растлумачваць, што за край такі абетаваны Томская губерня, якая як быццам малаком і мёдам плыве.

Дык вось: ляжыць ён у Сібіры, на паўночна-ўсходняй старане Рускага царства, удалечыні ад нас на 6000 вёрст, за гарамі, за лясамі, за шырокімі водамі, куды можна будзе даехаць сапраўды і па чыгунцы, якую хутка закончаць будаваць; гэта ўсё ж надта далёка, можа, дзевяць разоў столькі, як ад нас да Пецярбурга або да Кіева. Навука нас вучыць, што зіма там пачынаецца ад верасня месяца і трымаецца да мая, амаль не 9 месяцаў; што марозы даходзяць да 40 градусаў, дык дзеля холаду такога страшнага там не расце ніякая садавіна, а людзі зімой мусяць хадзіць не ў якіхсьці там кажушках нашых, а зашытыя ад ног да галавы ў дзве махнатыя звярыныя шкуры, бо інакш ні адзін не быў бы жывы. Зямля там, праўда, не горшая, але клімат дужа суровы, і часу мала для гаспадарства палявога, бо часта мароз увесь ураджай памарозіць; затым людзей у гэтых пустынных прасторах пакуль мала, і ўсё прыезджы народ, спачатку з катаржнікаў ссыльных, а потым з розных перасяленцаў.

Пакуль што можна б тут умеламу і працавітаму чалавеку мець карысць з рыбалоўства на вялікіх рэках і азёрах, з палявання па дрымучых лясах, але ўсе тыя прасторы казённыя, і з ростам колькасці народу праз чыгунку мусіць мінуцца гэты прыродны дастатак старынны, і праца чалавека памножыцца.

Во як выглядае праўда чыстая, без усякіх прыўкрашанняў, заснаваная на законных дадзеных.

Разумеецца, у тым краі паўночным, далёкім жыць можна, асабліва таму, хто шчыры да працы, богабаязны, цвярозы, а ў дабавак калі прыйсці там з розумам і з патрэбным запасам сваіх грошай; але дурню якомусь, гультаю, п'яніцы голаму там толькі хутчэй прапасці, і хаця б хто хацеў вярнуцца, то ўжо, напэўна, не патрапіць. Паўтараю: толькі дурнота народа тутэйшага ёсць першая прычына таго жадання качаваць за свет са свайго роднага краю, бо ў нашай Беларусі насельніцтва менш у шэсць або ў сем разоў, чым у суседніх дзяржавах на такім куску зямлі, затым ніякай цясноты няма, і доўга трэба чакаць, пакуль сапраўды цесна стане, як, напрыклад, у Францыі, Англіі і ў іншых народаў.

У нас народ хаця і падзяліў сялібы даўнія, аднак мог бы яшчэ жыць у добрым ладзе, калі б меў навуку. Нямецкія сяляне калі маюць 10 дзесяцін поля, то жывуць у дастатку, быццам нашы паны ў маёнтках: муруюць сабе прасторныя камяніцы, маюць у іх пакоі, прыбраныя фарсіста, з кніжкамі і газетамі на сталах, бо гаспадарства ў іх навуковае, а яны самі добра навучаны ў школах, цвярозыя, беражлівыя, сумленныя і вельмі працавітыя.

Калі хто гэтаму не паверыць, няхай прачытае свежыя аб гэтым звесткі ў пецярбургскай газеце «Свет» за 1895 год, там усё тое апісана вельмі цікава і выяснена прычына багацця нямецкага селяніна, як я вышэй казаў.

У нас, калі хто з сялян навучыцца чытаць і пісаць, то ўжо чураецца сяла і задумваецца, як бы знайсці дзе месца пісара ў валасці, ці ўрадніка, ці іншага якога чыноўніка, бо тут можна хадзіць у сурдуце, пры часах.

Вось чаму ў сёлах нашых пражывае толькі цёмны народ. Ніхто там не ўмее ні то добра памаліцца Богу, ні прачытаць разумную кніжку або якія законы, а праклятая гарэлка залівае да астатку ўсім мазгі, і так што робіцца ў галовах, тое і ў гаспадарстве. Школы скора не ўбачыць ці саду ля хаты, толькі корчмы ўсюды тарчаць на першым месцы, дзе Шмэркі і Іцкі звілі сабе цёплае гняздо... На вуліцы вузкай гразь і смурод страшны, усюды валочацца і рыюць свінні, у хатах тое ж самае, бо народ жыве разам з курамі ды з парасятамі, ад чаго так частыя хваробы і паморы; поўна блох і ўсякай іншай гадасці, людзі не мыты, не часаны соўваюцца з кута ў кут з піпкамі або папяросамі ў зубах, у падраных брадзяжках, як старцы якія... У дадатак да ўсяго злога хаты ўсюды пастаўлены без толку, не ў лінію — тая туды, тая сюды, крытыя саломаю: калі пажар, дык уся вёска мусіць ісці з дымам у міг... І ніхто не дадумаецца, што трэба ж завесці іншы парадак, што гаспадарка любіць разумнага гаспадара, шчырага работніка, што гаспадарка корміць увесь свет. Доля ж нашай гаспадаркі пакуль што вельмі сумная, калі ёю правіць неасвечаны, п'яны народ! Патрэбна вялікая перамена ў думках і паводзінах тутэйшага земляпаха, каб перасталі людзі бегчы з зямелькі, нашай роднай маці!..

На тое, каб мець спакойнае жыццё, няма чаго яго шукаць за светам, а толькі трэба працаваць з Богам і з розумам на месцы, бо хоць чуваць, што «за морам вол стоіць палушку», а ўсё ж лепш туды праз заздрасць не хадзіць,

бо пакуль той вол, дык боты стопчаш, грошы прахарчуеш, і мусіць спраўдзіцца даўняя прыказка, што «вялікі кусок горла дзярэ»...

Ой, святая бацькаўская ніўка! Бо хоць часам не ўродзіць, «але к торбе не даводзіць», дык і праўду кажуць, што «ўсюды добра, дзе нас няма».

Помніце ж, помніце, людзі, тую адвечную мудрасць, не пазірайце вельмі за свае вароты і старайцеся ад усяго сэрца, каб хаты вашыя, сёлы вашыя сталіся вам мілыя і з дастаткам праз чэсную работу вашу. <...>

## АДАМ МІЦКЕВІЧ НА БЕЛАРУСІ

(скарочана)

Калі заходзіць гаворка пра Міцкевіча і яго сціплае роднае гняздо, міжвольна паўстае пытанне, чаму гэта столькі карыфеяў айчыннай навукі і мастацтва, чаму гэтакіх Хадкевічаў[1], Несялоўскіх[2], Рэйтанаў, Касцюшкаў, Багушэвічаў, Манюшкаў, Міцкевічаў, Чачотаў, Кандратовічаў, Занаў, Дамейкаў[3], Здановічаў[4], Прозараў[5], Барташэвічаў, Семірадскіх[6], Крашэўскіх і столькістолькі іншых выдала адна зямля. Павінна гэта сапраўды быць глеба ўрадлівая, калі нараджае такія шчодрыя плёны! <...>

Бо старажытны ж і народ гэты, што насяляе разлеглыя абшары: ад вытокаў Дняпра да Буга і Нарава, ад Віліі да Прыпяці — гняздо старадаўняй славяншчыны, краіна герояў, гусляроў, патрыярхальных адносін і ахвяр у імя ўзнёслых ідэалаў! Усё гэта разам узятае злілося ў духу карэннага племені, прывітыя на яго гістарычным пні пабрацімчыя парасткі разрасліся ў магутныя, цудоўныя па форме галіны, поўныя духмяных кветак і салодкіх пладоў!.. Нездарма ж пра гэту родную зямлю, пачынаючы ад Баяна[7] аж да нашых часоў, столькі разоў з захапленнем спявалі нашы вестуны, чэрпаючы [illegible] народных песень, легенд і паданняў прарочае натхненне. Гэта ж з роднай глебы прарос геній Міцкевіча, і з яе таксама браў ён сюжэты да многіх сваіх твораў, аб чым сведчаць такія творы, як «Свіцязь», «Свіцязянка», «Дзяды», «Дудар», «Люблю», «Лілеі», «Уцёкі», «Гражына», «Пан Тадэвуш» і іншыя, а мноства мясцін і назваў, якія ўспамінае вястун, як Цырын і Грачыхі, Ятра, Нёман, Налібокі, Наваградак, Медзведка, Плужыны, Рута, Сапліцова, Свіцязь, Туганавічы, Дзятлава і г. д., паказваюць, дзе ахвотней за ўсё блукала думка песняра, якімі вобразамі любіла яна песціцца.

Меў жа з чаго чэрпаць паэт, калі традыцыйную жыццяздольнасць аўтахтонаў яго родных старонак канстатавалі нават навукова. Так, бесстаронні рускі даследчык беларускай мовы і песень Бяссонаў адкрыта прызнае, што гэта гаворка і песні маюць у сабе рысы больш глыбокай старажытнасці, чым іншым блізкія, не толькі велікаруская і маларуская, але і паўднёвых славян. Знаходзіць ён у беларускай гаворцы самыя чыстыя першародныя помнікі першабытнай агульнаславянскай мовы, старажытнасць якіх можна параўнаць з грэка-лацінскімі песнямі. Сцвярджае далей, што беларуская мова, малазразумелая для велікарусаў, мае сваю выдатную, незалежную, здзіўляюча жыццяздольную адметнасць і ніколі не адчувала, як памылкова мяр-

куюць, уплыву польскай або рускай мовы, а наадварот, пачынала гэтыя ўплывы і пераварвала іх у сабе, таму трэба прызнаць за ёй права на існаванне як органа духу некалькіх мільёнаў тыповага народа, а ўсякі замах на гэту святую спадчыну славяншчыны можа прынесці толькі маральную шкоду народу і літаратуры, асабліва рускай, паколькі ў старажытнай песні беларусаў хаваюцца самабытныя скарбы паэзіі; мінскі ж паддыялект, паводле згаданага аўтара, самы чысты і ўзорны ў беларускай гаворцы*.

Міцкевіч, будучы ў зеніце славы ў сталіцы свету[8] і выкладаючы гісторыю славянскай літаратуры, шмат разоў звяртаўся да роднай Літоўскай Русі. Сапраўды, знаходзім цудоўны ўрывак пра этнаграфію і народную гаворку гэтай зямлі ў лекцыях XXVI і XXVII 1841 года. Прызнаючы сілу і вялікую важнасць народных гаворак для культурнай мовы, Міцкевіч у лекцыях VII і XX 1842 года папракае рускіх пісьменнікаў, грунтуючыся нават на асвечаным меркаванні вядомага кн. Вяземскага[9], што, можа, калі-небудзь яны агледзяцца, бо ішлі ў няправільным кірунку, намагаючыся вызваліцца ад «правінцыяльных» гаворак, а дапасоўваючы гэту думку да польскай паэзіі, робіць шыбкую заўвагу ў лекцыі XI гэтага ж года: што паколькі Русь нараджала самыя выдатныя самабытныя народныя песні, то найбольш слаўныя пісьменнікі, аўтары ідылій, паходзілі ўласна адтуль; што Фр. Карпінскі, дзіця кобрынскай старонкі, дух якога ўскарміўся народнай песняй, з'яўляецца узорам цудоўнай паэзіі, за што яго некалі чакае бязмежная слава на Русі.

У лекцыі VI 1842 года Міцкевіч даводзіць перавагу ў часы Пятра В[ялікага] беларускай мовы, што была калісьці ў Літве афіцыйнай і ўжывалася пры двары, у адносінах да велікарускай і маларускай гаворак. Праўда, вялікі наш паэт, чэрпаючы іх з народных песень, нічога не пісаў па-беларуску, а аматары яго паэзіі, апрача сціплых вытрымак, зусім не ўзнаўлялі прац майстра на беларускай гаворцы, і гэта нягледзячы на факт, што Беларусь мае неаспрэчнае права ганарыцца Міцкевічам, таму што гэты велізарны дух вырас і сфармаваўся як тып на глебе гэтай карэннай літоўскай славяншчыны. Адзін толькі беларускі пісьменнік нябожчык Вінцэнт Марцінкевіч надрукаваў у Вільні ў 1859 годзе на народнай гаворцы тры часткі[10] «Пана Тадэвуша», якога Майстар так прагнуў бачыць пад кожнай вясковай страхой.

Аўтар гэтай нататкі таксама спрабаваў перакладаць на беларускую мову некаторыя творы Міцкевіча і мае іх у партфелі, і ўзор яго перакладу «Пана Тадэвуша» быў змешчаны ў № 6 «Kraj» за гэты год[11]. Разумеючы бязмерную важнасць выратавальнага ўплыву роднай літаратуры на народ, мы горача і неаднойчы стараліся разбудзіць у грамадзянах добрай волі жаданне падтрымліваць папулярныя выданні на беларускай мове**, але нашы заклікі не прынеслі жаданага выніку. У сувязі з гэтым міжвольна прыходзіць мне ў галаву сумная страфа «Дудара»[15]:

---

* Гл. прадмову Бяссонава да выдадзеных ім у Маскве ў 1871 г. «Беларускіх песень» (*заўвага аўтара*).

** Гл. «Kraj» за бягучы год, № 10 (*заўвага аўтара*).

Як доўгі Нёман я з лірай усцяж іду*,
Праз горкі, брады і бары,
Ад сяла да слабады,
І думачкі свае гуду.

Збягаліся людзі, слухалі, да няўцям —
Не зразумелі мяне хутка —
Я слёзы абцёр, хоць сэрцу жутка,
Да і далей пайшоў сам...

*Замосце пад Мінскам Літ[оўскім], 16 ліст[апада] 1885 г.*

## Каментарыі

**«Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу».** Напісаны па-беларуску верш упершыню надрукаваны ў 1919 г. («Беларусь», № 2) у артыкуле Ю. Алелькевіча «Стары Мінск».

[1] Гелікон — гара ў Беоцыі (Цэнтральная Грэцыя), дзе, згодна з грэчаскай міфалогіяй, жылі музы, якія апекаваліся мастацтвам і творчасцю.

[2] Парнас — горны масіў у Цэнтральнай Грэцыі. Парнас, як і Гелікон, быў сімвалам паэтычнага мастацтва ў старажытных грэкаў.

[3] Бракгаўз Фрыдрых Арнольд (1772—1823) — заснавальнік славутай выдавецкай фірмы, якая публікавала энцыклапедычныя выданні і розныя кніжныя серыі (у прыватнасці, «Бібліятэка польскіх пісьменнікаў», т. 1—82).

[4] Шчуры (польск. і беларус. дыял.) — пацукі.

[5] Маці Сара — жонка біблейскага Аўрама, маці Ісака; доўгі час яна не мела дзяцей і моцна перажывала.

[6] Абрагім (Аўрам) — родапачынальнік двух народаў: яўрэйскага, праз сына Сары Ісака, і ізмаільцян, праз сына рабыні Агары.

**«Сынок».** Напісанае па-беларуску вершаванае апавяданне маралізатарскага характару, прызначанае «ўсім бацькам і дзецям для перасцярогі». Упершыню на мове арыгінала — асобным выданнем (СПб., 1895).

[1] Жаглі — ветразі.

**«Нашы перасяленцы».** Упершыню асобным выданнем на беларускай мове — СПб., 1896.

**«Адам Міцкевіч на Беларусі».** Упершыню — часоп. «Kraj». — 1885. — № 46, 14 (26) лістапада. Пераклаў з польскай мовы Г. Кісялёў.

[1] Хадкевічы — магнацкі род на Беларусі, прадстаўнікі якога займалі вышэйшыя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім. З іх найбольш вядомы Ян Кароль Хадкевіч (1560—1621), гетман вялікі літоўскі, палкаводзец.

[2] Несялоўскія: Казімір (1676—1752), маршалах канфедэрацыі Наваградскага ваяводства, польскі пісьменнік і выдавец гістарычных матэрыялаў, і яго сын Юзаф (1728—1814), наваградскі ваявода, член віленскага паўстанцкага ўрада ў 1794 г.

[3] Дамейка Ігнат (1801—1889) — філамат, асветнік і падарожнік.

[4] Здановіч Аляксандр (1805—1868) — педагог і вучоны; Здановіч Ігнат (1841—1863) — яго сын, паплечнік К. Каліноўскага.

[5] Прозар Кароль (1759—1841) — абозны вялікі літоўскі, прыхільнік Канстытуцыі 3 мая, актыўны ўдзельнік паўстання 1794 г. Арыштоўваўся па справе дзекабрыстаў.

---

* Гл. «Kraj» за бягучы год, № 8, стар. 23 (*заўвага аўтара*).

[6] Семірадскі Генрык (Генрых Іпалітавіч) (1843—1902) — жывапісец. Родам з Украіны.

[7] Баян — старажытнарускі пясняр, вядомы па «Слове аб палку Ігаравым».

[8] Маецца на ўвазе герой аднайменнага верша А. Міцкевіча «У Парыжы».

[9] Вяземскі Пётр Андрэевіч (1792—1878) — рускі паэт і крытык.

[10] Друкаванне трэцяй часткі перакладу В. Дуніна-Марцінкевіча не было скончана.

[11] У артыкуле А. Ельскага «Пра беларускую гаворку».

[12] Верш А. Міцкевіча, відаць, у перакладзе А. Ельскага.

# ЯЛЕГІ ПРАНЦІШ ВУЛЬ
# (1835—1880-я)



Адзін з самых яскравых твораў беларускай паэзіі XIX ст. — верш «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка». У 1859 г. яго ўпісаў у Віцебску ў знакаміты альбом Арцёма Вярыгі-Дарэўскага нехта Ялегі Пранціш Вуль. Верш элегантны, лёгкі, надзвычай гарманічны, прасякнуты гістарычным аптымізмам, пачуццём удзячнасці да дэмакратычнай творчасці і асветніцкай дзейнасці Вярыгі-Дарэдскага. Аўтар віртуозна карыстаўся вельмі арганічнай у яго вуснах народнай мовай, тонка і ненавязліва ўводзіў паэтычную сімволіку (дарэчы, ці не тут упершыню ў новай беларускай паэзіі і мільгануў той мілы вобраз — «цвяток радзімы васілька»?).

Перад намі несумненна паэтычны геній, які з абсалютнай свабодай арганізоўваў стыхію беларускага верша. Традыцыі не было ці амаль не было. Ён слухаў народ. Нават саму графіку Вулевага верша — своеасаблівую фанаграму далёкай мінуўшчыны — цікава разглядаць, за ёй выразна чуецца жывая мова Віцебшчыны.

Хто ж такі Вуль? Яшчэ на пачатку нашага стагоддзя вельмі інфармаваны Рамуальд Зямкевіч паведаміў акадэміку Карскаму сапраўднае імя аўтара — Элегій Францішак Маўрыкіевіч Карафа-Корбут. Больш, па сутнасці, нічога не было вядома. Толькі прозвішча — цікавае спалучэнне нейкай экзотыкі і тутэйшай аўтэнтычнасцю.

Вучыўся Элегій Францішак у Віцебскай гімназіі. Захавалася прашэнне, у якім улетку 1846 г. яго бацька звярнуўся да папячыцеля навучальнай акругі. Не вельмі зграбная канцылярншчына (мабыць, пэўная ўскладнёнасць лічылася прыкметай саліднасці) надавала паперы вагу:

«Желая из сыновей моих Франца Элегия Корбута, достигшего установленных лет на принятие публичного учения, воспитывать его в науках, преподаваемых в Витебской губернской гимназии, нахожусь в невозможности вносить установленную плату денежную по 5 рублей серебром в год...». Нялёгкая для шляхецкага ды і проста чалавечага гонару папера — прызнанне ў несамавітасці — была, аднак, спагадліва падтрымана дырэктарам вучылішчаў у губерні. На шчасце, гэту пасаду тады займаў Антон Антонавіч Бернгоф, чалавек высокай культуры, які ганарыўся колішнім знаёмствам з самім Пушкіным. Ён даў спачувальную атэстацыю: «...проситель, служа в канцелярии здешней Палаты уголовного суда, получая весьма умеренное жалованье и не имея никакого состояния, действительно находится в бедном положении, а потому и мог бы быть освобожден от платежа за учение сына, с самого поступления в Витебскую гимназию».

Але з-за беднасці (можа, хто знае, дадаліся і яшчэ якія прычыны) гэты таленавіты чалавек не змог нават скончыць гімназію. Як відаць

з яго пазнейшага службовага атэстата, ён выбыў з VII класа і ў 1856 г. паступіў на службу пісцом у губернскую палату дзяржаўных маёмасцей. Там не патрэбна была творчасць, вышэй за ўсё цаніліся паслухмянасць і акуратнасць. Гэта было хутчэй існаванне на ўзроўні нікчэмнага чарвяка, калі вяртацца да дзяржавінскіх вобразаў. Канфлікт быў непазбежны. Праслужыўшы ў палаце шэсць гадоў, у ліпені 1862 г. Корбут (хоць быў ужо жанаты) звальняецца, як сказана ў атэстаце, «для поступления в высшее учебное заведение». Вядома ж, яго вабілі, не маглі не вабіць, сталічныя ўніверсітэты. Але гэта былі, хутчэй за ўсё, толькі мары. Звестак аб яго канкрэтных кроках падобнага роду ў нас няма. Нешта трымала яго ў Віцебску. Здавальняўся выпадковымі заробкамі, рэпетытарствам.

Несамавіты пісец палаты дзяржаўных маёмасцей, а потым і проста чалавек без пэўнага грамадскага статусу займаў між тым самае віднае месца на віцебскім Парнасе.

У літаратурным жыцці старажытнага горада на Дзвіне тады якраз было нямала цікавага. Досыць сказаць, што гімназічным таварышам Корбута-Вуля быў Канстанцін Вераніцын, з якім мы звязваем цяпер выдатныя паэмы «Тарас на Парнасе» і «Два д'яблы». Нам бачацца плённыя ўзаемаўплывы Вуля і Вераніцына (можна дапусціць нават нейкія формы суаўтарства; у чымсьці яны нібыта «двайнікі»). Часам з'яўляўся на віцебскіх даляглядах і малады Фелікс Тапчэўскі, таксама вельмі блізкі велічынёй і характарам свайго таленту да Вуля і Вераніцына. Моцна зачапіла Вуля, трэба думаць, кніжка земляка Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» — ёй навеяны, хутчэй за ўсё, тэмы многіх яго гімназічных сачыненняў (у Баршчэўскага творы таксама прасякнуты сувяззю з роднай зямлёй, успамінамі калі не Віцебска, дык Полацка). Вуль уваходзіў у гурток А. Вярыгі-Дарэўскага...

У тым жа 1859 г. у Віцебск прыязджаў слынны ў тыя часы польскі паэт Эдвард Жалігоўскі, больш вядомы пад псеўданімам Антон Сава. Паэт прыехаў як прадстаўнік прагрэсіўнай польскай газеты «Слово», выданне якой было наладжана тады ў Пецярбургу. Побач з іншымі віцебскімі літаратарамі (А. Вярыгам-Дарэўскім, Г. Марцінкевічам) Жалігоўскаму быў прадстаўлены і Вуль. А. Мальдзіс адшукаў у свой час сярод папер Жалігоўскага ў Кракаве напісаныя Вулем радкі прысвячэння: «Няхай усюды, дзе ў цемры праімчаць крыллі Савы, праз цемру ночы праб'юцца ясныя промні дня». Пра гэта марылі тады ўсе перадавыя людзі. Тыя «ясныя промні» заззялі над краем у часы паўстання Кастуся Каліноўскага.

Актыўны ўдзел у гэтых падзеях прымала фактычна ўся сям'я Корбутаў. Хоць многія таямніцы паўстання ўдалося схаваць, стары Корбут атрымаў 8 гадоў катаргі. Сыны Элегій і Вільгельм (васемнаццацігадовы гімназіст) належалі да паўстанцкай групы, якая, убачыўшы непрыхільнасць сялян, адразу склала зброю. Элегія, паводле прысуду, выслалі на пасяленне «ў больш аддаленыя месцы Сібіры», брата — на жыхарства ў Табольскую губерню. Праўда, ёсць глухія звесткі, што ў 80-х гадах Элегій Корбут, адбыўшы ссылку, жыў у Варшаве. Вакол яго там склаўся беларускі гурток, у які ўваходзілі вядомыя літаратары В. Каратынскі, А. Плуг. Нібыта там, у Варшаве, паэт і памёр.

*Г. Кісялёў*

## К ДУДАРУ АРЦЁМУ АД НАДДЗВІНСКАГА МУЖЫКА

Што табе, дудар, прыспела
Смелы песні завадзіць?
Ці то лёгкае, брат, дзела
Нашу браццю прасвяціць?

Крыкнуць на цябе паноўе,
Што ты шкоднік і місцюк, —
Страціш голас і здароўе
І дуду упусціш з рук.

І абмыешся слязамі,
І падумаеш не раз:
«Божай ласкі нет над намі,
І нет праўды сярод нас».

Ты мяне, аднак, не слухай:
Мала што я завяду!
Цэлай грудзяй дуй і дзьмухай
У жалейку і ў дуду!

Не гнявіся за абмылку,
Што зачаць я не сумеў:
Калі бог табе даў сілку, —
Дуй, як дуў, — спявай, як пеў!

Грудзяй цэлай гудзі смела
На увесь мужыцкі свет, —
Што пасееш, будзе цэла,
Будзе некалі і цвет...

То-та радасць, радасць будзіць,
Калі Бог за мужыкоў
Ды вянок табе прысудзіць —
З белых рож і з васількоў!

Белы рожы — то за гэта,
Што ты совесць беліш нам,
Што нас вывеў ад Яхвета,
Хоць наш бацька, кажуць, Хам.

Васількі — то, брат, нябёсы,
Адкуль кожны Божы дар!
Адкуль сонца, дожджык, росы,
Адкуль мы і ты, дудар.

Так, мой мілы брат Арцёмка,
Бог цябе благаславі!
Іграй шчыра, спявай громка
І жыві нам ды жыві!

*23 сакавіка 1859 г. у панядзелак.*
*Віцебск. Ялегі Францішак Вуль,*
*з-над Заходняй Дзвіны. У псярні.*

**Каментарыі**

**«К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка».** Друкуецца паводле выд.: Пачынальнікі: з гіст.-літ. матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — Мінск, 1977.

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ
# (1838—1864)



Рэвалюцыянер-дэмакрат, публіцыст і паэт Канстанцін Вікенцій Сямёнавіч Каліноўскі нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны пад Беластокам. Паходзіў са шляхецкага роду Каліноўскіх герба «Калінава», які паводле пісьмовых крыніц вядомы з XVII ст. Продкі Каліноўскага амаль сто гадоў валодалі маёнткам Калінава. Пасля продажу маёнтка ў 1836 г. бацька будучага кіраўніка паўстання заснаваў у Мастаўлянах ткацкую фабрыку, у 1849 г. набыў фальварак Якушоўка паблізу мястэчка Свіслач Ваўкавыскага павета. Там прайшло дзяцінства Кастуся.

Першапачатковую адукацыю будучы рэвалюцыянер атрымаў у Свіслацкай павятовай навучальні. Вялікі ўплыў на яго меў старэйшы брат Віктар, які вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, вывучаў па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі старадаўнія беларускія рукапісы.

У 1856 г. Кастусь паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўніверсітэта, які скончыў праз чатыры гады з навуковай ступенню кандыдата права. Ужо ў студэнцтве ён рашуча ступіў на сцяжыну палітычнай барацьбы з самаўладдзем, разам з братам належаў да рэвалюцыйнага гуртка Зыгмунта Серакоўскага і Яраслава Дамброўскага. На Бацькаўшчыну Каліноўскі вярнуўся ў 1861 г. перакананым змагаром супраць царызму.

Кастусь стаў стваральнікам і душой нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гародні, разам з паплечнікамі ездзіў па навакольных вёсках і мястэчках, дзе вёў прапаганду сярод сялян, рыхтуючы іх да паўстання. Гэтай мэце служыла і нелегальная беларуская газета «Мужыцкая праўда», якую надзелены яскравым публіцыстычным і літаратурным талентам Каліноўскі пачаў выдаваць у 1862 г. супольна з Феліксам Ражанскім, Станіславам Сангіным і Валерыем Урублеўскім.

Аўтар і рэдактар большасці нумароў «Мужыцкай праўды», Каліноўскі сам браў удзел у яе пашырэнні: развозіў па вёсках, раскідваў на дарогах. Ён імкнуўся развеяць ілюзіі сялянаў, паказаць, што царскі маніфест аб скасаванні прыгоннага права — гэта чарговае ашуканства працоўнага люду. Кастусь заклікаў змагацца за тое, каб прыйшоў час, калі «ніколі ніякай нікому мужыкі паншчыны служыць ня будуць і ніякага ў казну аброку плаціць, і народ наш будзе вольны і шчаслівы». Да канца 1862 г. значным накладам выйшла шэсць нумароў «Мужыцкай праўды».

Апошні сёмы нумар «Мужыцкае праўды» пабачыў свет ужо ў час нацыянальна-вызваленчага паўстання. Тут гучыць адкрыты заклік да змагання з расійскімі каланізатарамі: «А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшаць з віламі да з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды, а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сцерагчы будзем да ўведам-

ляць, адкуль на іх сягне нячыстая маскоўская сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам ды бацькам».

Пасля загаду аб арышце Каліноўскага той дзейнічаў пад канспірацыйнымі прозвішчамі Макарэвіч, Чарнецкі, Хамовіч, Хамуціус... Увосень 1862 г. ён узначаліў Літоўскі правінцыйны камітэт, што рыхтаваў паўстанне ў Беларусі. Кастусь стаяў на чале найбольш паслядоўных рэвалюцыянераў, якіх у адрозненне ад лібералаў («белых») называлі «чырвонымі». Яны выступалі супраць саслоўнай няроўнасці, за дэмакратычную рэспубліку, за перадачу зямлі сялянам. Каліноўскі лічыў, што народы Беларусі, Літвы ды Украіны павінны самі развязаць пытанне пра сваю незалежнасць. «Белыя» ж лічылі галоўнай задачай аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

*К. Аляксандраў*

## МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА

### № 1

Дзецюкі!

Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толька да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толька карміць сваім хлебам, но яшчэ і ўчыць сваёй мужыцкай праўды.

Пыталі і пытаюць усе, што чуваці на свеце, хто нам, бед[н]ым мужыкам, дасць вольнасць? Но, праўду сказаўшы, мала хто хоча сказаці так, як сумленне кажа — па справядлівасці. Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць цэлую праўду, толька слухайце нас! Маскалі, чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас, но найдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць вашай свабоды, вашага шчасця, — яны то вам самі гэта пісьмо даваці будуць, каб вы знаді, хто ваш прыяцель, а хто ваш вораг[1].

Шэсць лет ужо мінула, як пачалі гаварыць а свабодзе мужыцкай[2]. Гаварылі, талкавалі і пісалі многа, а нічога не зрабілі. А гэты маніфэст[3], што цар з сэнатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае да чаго ён падобны, — ніякай у нём няма праўды, няма з яго для нас ніякай карысці. Парабілі канцылярыі, зрабілі суд, як бы гэта не ўсё роўна браць у с...ку чы з судом, чы без суда. Парабілі пісараў, пасрэднікаў, а ўсё за мужыцкія грошы, і вялікія грошы — чорт іх ведае на што; для таго хіба, каб запісывалі ў ксёнжкі, як многа напішуць на с...ках мужыцкіх[4]. А з гэтага то і відаць, што нам нічога добрага і не думалі зрабіці.

Праўда, абяшчалі то калісь даць нам вольнасць, но як нам здаецца на наш мужыцкі розум, што хочуць ашукаці, бо калі праз шэсць лет нічога не зрабілі, то чэраз рок пэўне не зробяць[5]. Могуць яшчэ напісаці і другі маніфэст, яшчэ большы ад гэтага, но і з гэтага другога маніфэсту нічога добрага, як і з першага, не будзе.

Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацiся, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць. Но не доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, гдзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду. Вазьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай жа робяць па свентай справядлівасці: бо калі іначай — так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сакеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе.

*Гэту Мужыцкую Праўду напісаў*
*і зноў пісаці будзе Яська-гаспадар з-пад Вільні*

№ 2

Дзецюкі!

Калі Бог стварыў усіх людзей вольнымі і ўсім даў адзінакую душу, так скуль жа гэта ўзялося, што адзін марнуе да і над людзьмі збыткуе, а другі, бедны, паншчыну служыць альбо аброкі ў казну плаціць[6]?

Кожны па-свойму талкуе, на сваю старану цягне. Цар кажа, што ён добра нам думае, а паны кажуць, што яны добра думаюць нам зрабіці, а мужык бедны ад іх дабросці як прападаў, так і прападае.

Каб расталкаваць людзям, у чом праўда, я пішу пісьмо, а пісаці буду, як Бог і сумленне кажа, — вы адно мяне, такога самага мужыка, як і вы, паслухайце добра.

Быў то калісьці народ наш вольны і багаты. Не помняць гэтага нашыя бацькі і дзяды, но я вычытаў у старых ксёнжках, што так калісьці бывала. Паншчыны тагды ніякай не было. І няма чаго таму дзівавацiся, бо было лесу шмат, поля колька хочаш, а людзей то мала, так нашто ж служыць паншчыну за зямлю, калі кожны мог лесу выцерабіць, хату сабе паставіць і меці сваё поле.

Но ў суседстве з намі жыў Немец і Маскаль. Аднаму і другому багацтва нашае калола ў очы — каб іх так колька схапіла, да і хацелі нас сагнаць з нашай бацькаўшчыны. Трэба было бараніцiся, так Кароль кажа — «хадзем бараніці», а тут не ўсе ідуць, да і мала нашых пайшло. Выгналі то Маскаля і Немца — но каб жэнкі да і дзеці гэтых, што хадзілі на вайну, мелі за чым пражыці, так Кароль наш і напісаў такое права: «Гэтыя, што не хочуць ісці бараніці сваей зямлі, няхай абрабляюць поле гэтым, што б'юцца за вольнасць і шчасце ўсіх». І гэтак было доўга: адне баранілі краю, усё хадзілі па войнах, а другія то гаралі, то сеялі, то касілі, то жалі. Згэтуль то і ўзялася гэта паншчына[7]. Судзеце ж цяпер самі, чы можна было зрабіці справядлівей, як зрабіў калісьці наш Кароль Польскі да і Літоўскі? Но калі Маскаль з Немцам хітрасцею нас падбіў і пайшоў ронд маскоўскі, так і ўсё зрабілася пачартоўску. Стаў зараз маскаль свой ронд уводзіць у нашым краю і кажа: «Мужык, давай рэкрута, мужык, давай падаткі, да і паншчыну яшчэ служы альбо плаці аброк у казну!». Так якая ж тут ужо справядлівасць, калі ўсенька, што цяжка, зваляюць на мужыка, калі з яго дзяруць астатнюю шкуру, б'юць і плакаць не даюць! Ачунялі то былі мужыкі, угледзелі, што кеп-

ска, дай давай бунтавацiся пад Касьцюшкаю, а Касьцюшка то кажа: «Калі мужыкі хочуць ужо самі бараніці сваю зямлю, так няхай жа не служаць паншчыны да і не плацяць у казну аброку за зямлю»[8]. От гэта так справядлівасць! Но што ж, калі Маскаль спыніў Маніфест Касцюшкі, каб не пабунтаваў усіх мужыкоў. Для таго-то і пабілі Маскале Касьцюшку, бо каб мужыкі ўсе разам былі збунтаваліся і ўхапілі за сакеры, нажы і косы, так бы маскаль мусіў бы прапасці без паўстання і мы на век вякоў ужо былі бы вольныя.

Так з гэтага пісьма і відна: што мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу паном, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць; но калі будзе вайна з Маскалём за нашу вольнасць, то той час трэба ўсім ісці на вайну проціў Маскаля. А то для таго, каб хутчэй прагнаць Маскаля з яго сабачым рондам, і каб ніколі ніякай нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі, і каб на век вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы. А калі вас хто будзе падмаўляць рабіці іначай: чы то спраўнік, чы то акружны[9], чы то лапсэсар[10], чы то пан, то вы яго не слухайце, бо то пэўна ашуканства, што за царскія альбо панскія грошы вечнай вашай згубы хоча!!

*Яська-гаспадар з-пад Вільні*

## № 3

Дзецюкі!

Жывучы пад рондам маскоўскім, кожны ведае, што ён нас абдзірае і глуміць, но мала хто добра падумаў, чы можна ад яго спадзявацiся чаго для нас альбо для дзяцей нашых? Я, дзецюкі, лепш знаючы ад вас, уздумаў напісаці пісьмо, каб не маглі туманіць розуму вашага. Для таго чытайце з увагаю, а як перачытаеце, давайце да другой вёскі.

Чалавек то такую мае натуру, што альбо нічога не ведае і нічога мецi не хоча, альбо калі даведаецца, то хоча зразумеці добра і дастаці ўсенька, што яму належыць. Гэта вялікая праўда. От яшчэ нядаўна гаварылі нашыя, што яны створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі нявольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога мецi не хацелі. А чы сягодня гэтак скажуць, калі ўжо ведаюць многа і многа хочуць? Сягодня ўсе ўжо паразумнелі, усе ўжо мужыкі талкуюць, што Бог стварыў чалавека, каб ён карыставаў з вольнасці справядлівай, і смяюцца, як гэта маглі інак думаці. Гэта права, што народ робіцца разумнейшым, выходзіць ад самога Бога, а хто яму схоча спраціўляціся, таго альбо сам Бог, альбо народ па прыказу Боскаму з зямлёю змяшае!

Вы, дзецюкі, пэўне вельмі цікавыя, скуль жа гэта народ так паразумнеў? Я вам скажу, скуль гэта.

Калі Пранцуз пад Свістаполем[11] заўсім пабіў маскаля, то для таго, каб маскаль не меў сілы і грошы, прыказаў народаві даці вольнасць, не браці рэкрутаў і вялікіх падаткаў[12]. Маскаль згадзіўся на гэта, бо думаў, што народ дурны і патрапіць яго ашукаці! Ён то хацеў адно перамяніць няволю, но, бачу, вельмі ашукаўся, бо хаця нам ронд маскоўскі нічога ў шэсць лет

не зрабіў, но мы як пачулі, што і мужык можа быць вольны, так пачалі пытаціся ў людзей разумнейшых і талкаваці паміж сабою, аж зразумелі, што то вольнасць значыць. От скуль гэта ўзялося, што народ паразумнеў. Мы сягодня ўсе ўжэ ведаем, што чалавек вольны, гэта калі мае кусок сваёй зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць, — калі плаціць малыя падаткі і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, — калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці свайго краю тагды толька, калі які непрыяцель надыдзе, — калі робіць усенька, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга і хвалы боскай, — і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды, прадзеды. От што вольнасць значыць. Сягодня то ронд маскоўскі нас не атуманіць, бо мы цяпер не такія дурныя, як былі ўперад, і пазналі, што нам ні маніхвэстаў царскіх, ▪ вольнасці патрэба[13].

Маскаль то хітры, ён-то, дзецюкі, хоча, каб не даці нічога, а народ думаў, што ўжэ мае ўсё як належыць. Не мерыўшы, судзеце хаця з гэтага ▪ яго хітрасці. Два рокі ўжэ таму, калі яшчэ ніякіх маніхвэстаў а вольнасці не аб'яўлялі, народ у Пецярбургу, Маскве і па цэлай Расеі пачаў вельмі крычаці, што калі ронд не дасць яму вольнасці, то ён цэлаю грамадою 19 фэвраля збунтуецца. Тагды цар, бачу, збаяўся і вялеў сэнатаві з'ехаціся, а народаві аб'явіць, што ў посце вольнасць дастане[14]. Народ дурны паверыў да і разышоўся, а цар, з сэнатам паталкаваўшы, як мінула трывога, так і аб'явіў у мейсцу вольнасці маніхвэст, а ў маніхвэсце прыказывае мужыкам служыць да часу паншчыну па-старому, а па-новаму заплаціць больш грошай у казну на пісараў, пасрэднікаў, да і чорт іх ведае на што. Судзеце ж цяпер самі, чы ж не ашуківаюць нас?

Но не на доўга здасца ім круцельства, бо, як я казаў, мы ўжэ пазналі, што нам не маніхвэстаў, а вольнасці патрэба — і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо. А для таго, дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужо талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабам мужык яе[15] дастаць можа. Толька, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваці трудна, бо Боска моц вяліка а народу многа.

Так з гэтага пісьма і відна: што няма чаго ждаці ад нікога, бо той толька жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою — не шкадуйце працы, — каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюськам свеце. Бог нам дапаможа!!!

*Яська-гаспадар з-пад Вільні*

№ 4

Дзецюкі!

Няма і куска зямлі на свеце, каб людзі былі адзін у другога ўсё добрыя, не хацелі жыці з крыўдаю свайго бліжняга. Для таго, каб была справядлівасць і праўда на свеце, а злыя людзі не збыткавалі і крыўды другім не рабілі, е ронд, што бярэ падаткі, робіць школы, навучае кажнага, каб жыў

па праўдзе, становіць суд; а калі гэта не памагае і робіцца несправядлівасць, то наймае войска і так сцеражэ кажнага ад ліха і здзерства. От на што ронд патрэбны. І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ронд глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народаві лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ронду, а ронд для народу[16].

Гэтак, дзецюкі, робіцца на цалюськам свеце. А калі за граніцаю, чы то ў Француза, чы ў Англічаніна, народ спагадае рондаві, то для таго, што ронд слухае народу і робіць так, каб народ быў багаты і шчаслівы.

А ў нас, дзецюкі, чы гэтак? Чы ў нас е справядлівая наука ў школах, што учыць жыці без крыўды другога? Чы е праўда і справядлівасць у судзе? Чы можа чалавек быць пэўны, што яго ніхто не скрыўдзіць? Чы ронд маскоўскі думае аб людзях, каб яны маглі жыці шчасліве? Самі скажэце.

У нас, дзецюкі, адно учаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе заўсім перарабіці на маскаля. Суды маскоўскія — гэта воўчая яма, гдзе не разбіраюць, чы за табою праўда, чы не, а скубуць адно, як могуць. Бяспечнасці пад маскалём ніякай няма, хто дужшы, той і глуміць; а войска то не для таго трымаюць, каб аберагаці кажнага ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не пазволіць народаві і застанаць, калі пазнае сваю няволю, калі згледзіцца, што дзяруць з яго над сілы. Ронд маскоўскі, як той ліхі пан, што, пачаўшы ад камісара аж да цівуна[17], пазваляе кажнаму народ глуміці, каб [ад]но як найбольш грошай у кішэнь яго дасталася. Ронд маскоўскі, дзецюкі, не так робіць, як рабіці трэба, не думае, каб палегчыць народаві, а вымышляе адно спосабы, як абадраці і заўсім людзей зглуміці.

Чаму гэтак робіцца пад рондам маскоўскім, я вам скажу — вы адно мяне паслухайце.

Ронд гэта заўсім таксама, як чалавек. І як чалавек мае галаву на тое, каб думаў, а рукі і ногі, каб зрабіў так, як задумаў, так ронд мае цара, каб[18] рондзіў, а чыноўнікаў па ўсіх местах і мястэчках, каб рабілі, як цар захоча. Для таго, як галава ў чалавека, калі задумае кепскае, то ногі і рукі кепскае зробяць, так у рондзе калі цар глуму захоча, то чыноўнікі глуму наробяць. А з гэтага то і відаць, што здзерства, якое ў нас вычаўпляюць, то не для таго робіцца, што ў нашым краю няма людзей, здатных на чыноўнікаў, гатовых і жыццё сваё аддаці для народу, а для таго, што цар гэтакіх людзей у Сыбір высылае, а за нашыя грошы назначае чыноўнікамі гэтых, што адно самі людзей глумяць, другім глуміці пазваляюць і Бога не баяцца. Гэтакі чыноўнік не давядзе ўжэ да розуму — ён, калі і няма прыказу цара, то сам выдумае спосаб, як абадраці бедны народ. І гдзе ж тут шукаці праўды?

Так з гэтага пісьма і відна, што глум, здзерства і несправядлівасць выходзіць ад самога цара — ён-то з нас выбірае войска, ён-то з нас выдзірае грошы нібы на патрэбу народа, а ўзяўшыся за ўсімі гыцлямі за рукі, адно нас цяменжыць, трымае ў няволі. Но прыходзіць яму ўжэ канец, бо мужык пачуў вольнасць, а мужыцкая вольнасць — гэта ўсё роўна, што шубеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцеляў народа! Для таго-то цар спыняе вольнасць мужыцкую і спыняці будзе, для таго-то калі ў паноў сто раз пытаў, якую

яны хочуць даці вольнасць мужыкам[19], у мужыкоў і разу не спытаў, якой яны хочуць вольнасці. Ён знае, якая то вольнасць мужыцкая, ён ведае, што мужык хоча, каб ніхто не смеў драці з нікога, — і для таго як мы яго ронду, так ён нашай вольнасці баіцца.

Дзяры з нас, цар, дзярэце з нас, чыноўнікі яго, хаця да астатняй шкуры, но памятайце, што і на нас прыйдзе пара, памятайце, што калі мужык разгуляецца, то, як свет шырокі, кроў ваша пальецца!!!

*Яська-гаспадар з-пад Вільні*

## № 5

Дзецюкі!

Мала таго, што з мужыка дзяруць на ўсякія падаткі астатнюю кашулю, мала таго, што ніколі не можаш дабіціся да куска хлеба, а ўсё, што заробіш, аддаці мусіш чорт ведае каму і чорт ведае на што, мала таго, кажу, што жыццё нашае горша сабачага, — но скажэце, мае міленькія, чы есць паміж намі хто-лень, каб не аплаківаў яшчэ альбо свайго сына, альбо свайго брата, альбо свайго мужа, што цар забраў яго ў рэкруты да і загнаў чорт ведае гдзе?

Працуе бацька цяжка на дзецеткі свае, гадуе маці сына, ночанькі не спіць, а цар, сабача яго вера, як гэты воўк, закраўшыся, вяліць лавіці, у дыбы скуці і гнаці ад радні далёка. А маскоўскае жыццё — горка ўжэ доля. Забыці там трэба, што есць у нас наша бацькаўшчына, што есць у нас наша радня, а аддаці жыццё не за дабро і шчасце ўсіх, а за ліха і вечну няволю нашых братоў. Гэтакага ліха, дзецючкі, і скаціна не знае, а вы, мае міленькія, пэўне, і не падумалі, скуль яно на нас навязалася, чы гэтак было за нашых дзядоў і прадзедаў і чы гэтак мусіць быці? Усё гэта я вам расталкую, а хто мае праўду ў сэрцы і дабра хоча, той мяне паслухае.

Помняць яшчэ нашыя дзяды, паказываюць яны, што за іх часоў мужыкі рэкрута і не зналі. Было войска, то праўда, но войска польскае ўсё было зэ шляхты, а калі мужыкі часамі захацелі ісці на вайну, так зараз з іх знімалі мужыцтва, да і паншчыну, давалі зямлю, а ўсю вёску рабілі шляхтаю[20]. Стуль-то ў нас і парабіліся гэтыя аколіцы шляхецкія. Так за тое, што чалавек шоў на вайну, бараніў сваю бацькаўшчыну, то ронд польскі даваў зямлю, даваў вольнасць, даваў шляхецтва, — а маскаль чы гэтак робіць? За тое, што мы яму 25 лет на войнах служымо без людской стравы і адзежы, мала таго, што не дае шляхецтва, но, сабача юха, не дае нават куска зямлі, каб мог, хаця цяжка гаруючы, дабіціся да спакойнай смерці. Праслужыўшы 25 лет да і торбу ўзяўшы, ідзі жабраваці!

А што граху набярэшся перад Богам, спрыяючы маскалеві, таго ніколі Бог не даруе. Ідзе пранцуз даваці вольнасць мужыкам, бунтуюцца местачковыя да і маладзёж[21] за сваю і нашу вольнасць[22] і веру, а мы-то даемо рэкрута і нашымі грудзьмі цар маскоўскі застаўляецца, і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае нас усіх у вечну няволю. Таго, хто нам добра думае, мы выганяем, таму, хто нам ліха робіць, мы памагаем, — і чы ж не грэшна перад Богам, а не стыдна перад цэлым светам — самі скажэце?

Праўда, што мы былі дурныя і, як гэтыя авечкі, нічога не знալі, но, здаецца, пара ўжэ паразумнець, угледзець праўду. Вы ведаеце, дзецюкі, добра, што француз прыказаў не даваці ўжэ больш маскалеві рэкрута, для таго, калі цар захоча ўзяці, так, цэлымі грамадамі згаварыўшыся, нігдзе яму не давайце. Ён цяпер хоча ўзяці 5 з тысяча, но як мы яму дамо 5, то ён пазней захоча ўзяці 10, і зноў пойдзе па-старому. Цяпер мы яму аддамо гыцляў, но пазней трэба будзе аддаці і сваіх сыноў. Так для таго, дзецюкі, талкуйце добра і не давайцеся ашуківаць. За мужыцкую крыўду стойце смела, усе разам, і калі хто захоча крыўдзіць вас, выцягаці рэкрута, то хто бы ён ні быў, чы то старшына, чы акружны, чы хоць сам губэрнатар, то вы яго таўчэце мужыцкаю рукою, а будзе вольнасць і рэкрута не будзе, і Бог нам дапаможа!

Так, дзецюкі, па дабросці да ладу не дойдзем!

*Яська-гаспадар з-пад Вільні*

Паказываюць, што мужыкі кала Варшавы збунтаваліся і не далі рэкрута. Тагды цар паняволі мусіў дараваці.

Так пытаю вас, дзецюкі, — што ж нам трэба зрабіці?

## № 6

Дзецюкі!

Чы мая праўда горка, чы яна салодка, я пісаў заўсюды і пісаці буду — учыў я вас, як рабіці трэба, і ўчыці буду. Вы адно слухайце мяне, талкуйце добра і рабеце так, як сумленне вам скажа, і Бог яшчэ злітуецца над намі і дасць нам шчасце, і дабро ў нас будзе.

Калі Бог, стварыўшы чалавека, даў яму душу, то не на тое, каб ён жыў, як сабака, на гэтам, а на тамтам свеце прападаў на век вякоў у мэнках пякельных, а для таго, дзецюкі, каб знаў закон Божы, знаў свайго Бога, знаў сваю веру і заслужыў на шчасце нябеснае. Калі сын Боскі, прыйшоўшы на гэты свет, устанавіў праўдзівую веру і за гэту веру цярпеў крыжовыя мэнкі, то не для таго, каб якісь там цары маскоўскія, байстручага роду, пераменялі закон Божы, а мы, на прыказ гэтых цароў, выракаліся веры сваіх дзядоў і прадзедаў і не хвалілі Бога, а радню царскую, но для таго, дзецюкі, Бог найвышшы цярпеў за нас, каб закон яго быў ужо вечны, ніхто не смеў пераменяці, а мы з цэлай моцы трымаліся яго.

Но чы гэтак, дзецюкі, робіцца ў нас, як сам Бог прыказывае, чы дзержымося мы закону Боскага? Самі скажэце. Ні адзін ужо, можа, забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжэ не спомніць на тое, што перавярнулі яго на сызму, на праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве без веры і, як сабака, здохне чартам да пекла!!! О, дзецюкі, ліха такому чалавекові! А калі мы будзем гэтак рабіці з Богам, так што ж Бог найвышшы з намі зробіць? Аддасць у пекла на вечныя мэнкі, будуць чэрты душу нашу на кускі рваці, а смала ў вантробах кіпеці будзе. Пазнаеш тагды сваё ліха — но ў пекле паняўчасе ўжэ будзе, не перапросіш тагды ўжэ справядлівага Бога і мэнкам тваім ніколі канца не будзе.

Цяпер пытаю вас, дзецюкі, — хто ж нам гэта ліха нарабіў і што зрабіці трэба, каб мы былі шчаслівыя і на гэтам, і на тамтам свеце?

Нарабіў нам гэтага ліха, дзецюкі, гэта цар маскоўскі, ён-то перакупіўшы многа папоў[23], вялеў нас у сызму запісаці, ён-то плаціў грошы, каб мы толька перахадзілі на праваслаўе, і, як гэты антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую ўніяцкую веру і пагубіў нас перад Богам на векі; а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы не меў злітавання над намі.

Но, Божа Вшэхмоцны, міласерны ты наш Пане, ты аб нас не забывай, злітуйся над намі, памажы нам у нашай нядолі, выжані маскаля з нашага краю, дай нам праўдзівую вольнасць і веру нашых дзядоў і прадзедаў, а касцёлы, што маскаль, нячыста яго сіла, параскідаў альбо перарабіў на стайні і цэркві, зноў заяснеюць Тваёю хвалою, і народ у ніх хваліці цябе будзе, як хвалілі нашыя прэдкі. Заспяваем тагды ў адзін голас нашу песнь святую: «Свенты Божэ, свенты моцны, свенты несмертэльны — змілуй сен над намі!»[24] — і Бог найвышшы змілуецца над намі, дапаможа нам у нашай працы, а на тамтам свеце дасць крулества нябеснае, — і не будуць ужо дзеткі нашыя сваю матку праклінаці, што на свет радзіла!

Паказываюць людзі, што свенты Ойцец аж ■ Рыму прыслаў ужо да нас сваё благаславенне[25] (но маскаль яго спыняе), гаворадь, што прышле і ксяндзоў, што будуць прымаці на ўніяцкую веру. Тагды, дзецюкі, хто адно верыць у Бога, Яго Сына і Духа Святога, няхай зараз пакідае сызму і пераходзіць на праўдзівую веру дзядоў і прадзедаў. Бо хто не пяройдзе на унію, той сызматыкам застанецца, той, як сабака, здохне, той на тамтам свеце пякельныя мэнкі цярпеці будзе!

Так годзе ж ужо, дзецюкі, жыці без ніякай пацехі на свеце, калі Бог міласерны мае злітаванне над намі, а ты, чалавеча, як перачытаеш альбо пачуеш гэту праўду, згавары пацеры, каб Бог вшэхмоцны дапамог людзям, што дабро нам думаюць, што хочуць, каб мы былі вольныя, як шляхта, мелі сваю зямлю, як шляхта, хвалілі Бога па праўдзе і заслужылі на Неба на тамтам свеце.

Гэтага для вас ад душы хоча ваш брат, такі самы з дзядоў-прадзедаў мужык, як і вы, но яшчэ ўніяцкай веры.

*Яська-гаспадар з-пад Вільні*

№ 7

Дзецюкі!

Доўга маўчаў я, не казаў вам нічога[26], бо хацеў разгледзецца добра да разабраць, што гэта дзеецца на свеце, штоб ужо спавясціць вас па справядлівасці да сказаць, як наказуе Бог да сумленне, што нам цяпер трэба рабіці. Ждаць моўчкі больш ужо нязмога! Памяркуйма толькі, што думаюць цяпер зрабіць з намі. Абяцаў нам цар зямлю. Чыноўнікі, папы да маскалі, усі ў адзін голас дурылі нас, што цар нам шчыра думае да дасць волю, Справядлівую Волю. І слухалі мы цара. Казаў ён нам яшчэ два гады служыць паншчыну,

і паншчыну мы адбывалі. Наказаў цар некрута, далі мы яму і некрута, а самі моўчкі глядзелі, як нашых сынкоў да братоў на край света пагналі. Накінуў нам падушнага — плацілі мы падушнэ за жывых і ўмерлых, за дзяцей да за старцаў нядужых, плацілі мы земску павіннасць да ўсялякія зборы, плацілі на пасярэдніка, на праўленне, старшынам, пісарам, акружным, асэсарам — да Бог ведае каму ні плацілі, — да ўсё не пыталісь, куды йдуць нашы грошы. Усі нас крыўдзілі да ўсі абдзіралі; біў нас сільнейшы, крыўдзіў багатшы — а на тое нідзе не было справядлівасці. Мы ўсё маўчалі да слухалі, усім кланялісь, за ўсё плацілі, усё цярпелі, ждучы канца, бо спадзяялісь Справядлівай Вольнасці, спадзяялісь, што дадуць вольную зямельку да ў падушнам справядлівы пабор будзе. Заміст таго, штоб аддаць нашу зямельку да якую ж зямлю?! Гэту, што з дзядоў-прадзедаў кроўнаю працай дзесяць раз ужо на яе зарабілі да заплацілі. За гэту зямлю цар наказуе нам чыншы плаціць у казначэйства[27]. Да якія ж чыншы? Якія ўздумаецца пастанавіць чыноўнікам да судовым кравапійцам, да яшчэ з кожным годам усё большыя да большыя. Так волі нам ужо і не будзе: век цэлы плаці да на век нясі астаткі, штоб адплаціцца палатам да праўленням. Падмануў жа нас цар, а яго служкі-папы, чыноўнікі да маскалі — падвялі нас як чорт добру душу.

Мала таго: беручы некрута на весні, казаў цар, што больш браць не будзе[28]. Мы, як тая дзяціна, і паверылі, што не будзе, а цяпер бач! — і зноў цар наказуе з кажнае воласці пастанавіць па сто хлопцаў, што пойдуць у маскалі па ахвоце, а як ахотнікаў не будзе, так грамада прысудзіць, каму йсці ў некруты. Скруціўся хіба! — штоб то хто йшоў у маскалі па ахвоце. Так ось ужо ў другэ падмануў нас цар з некрутам. Узяў пяцёх з тысячы, а цяпер давай сто з воласці, а ў осені яшчэ можа дзвесце або трыста захоча, бо цар са сваімі маскалямі не падужае мужыкоў, што падняліся ў Польшчы, і не падолее Прaнцуза, што за Польшчу ўступіўся[29]. У Польшчы мужыкі таксама, як і мы, спадзяялісь на цара да ждалі волі ад няго, да як пабачылі, што цар толькі лёстачкамі душу выймае, а новымі падаткамі, некрутам да чыншамі астатню сарочку з ніх здзерці хоча, от усі разам з віламі да а косамі пайшлі дабівацца зямлі да праўды, а іншы і святой уніяцкай веры. От і дабілісь. Выйшаў ужо Польскі Маніхвэст[30]. Зямля вольна даецца ўсім мужыкам, бо гэта іхня зямля з дзядоў-прадзедаў, за гэту зямлю ніхто не мае адрабляць паншчызны і чыншаў ніякіх нікому плаціць; падушнага больш не будзе, а толькі падымнэ, як колісь плацілі; некрута больш не будзе, а ўсі мужыкі, і паны, і мяшчане, усяк адслужыць 3 гады ў сваей зямлі і зноў сабе вольны. Уніяцкія касцёлы, што маскалі забралі, аддаюцца назад уніятам, і хто хоча, мае права хрысціць дзяцей па-ўніяцкі ды да ўніяцкіх ксяндзоў ісці да споведзі і па-старому Богу маліцца, як яшчэ бацькі нашы малілісь.

Но цяпер самі разбірайце: дзе больша праўда, чы ў польскам маніфесце, чы ў царскам? Цар абяцаў даць вольнасць — да не даў. Абяцаў не браць некрута, а цяпер ужо другога наказуе. Польскі маніхвэст даў зямлю, не бярэ некрута, скінуў падушнэ, павярнуў унію. Но скажыце ж, браткі, хто нам лепш думае?! Памог бы Пранцуз і нам, як памагае мужыкам у Польшчы, дык што ж — цар адказуе, што ў нас мужыкі ўсім давольны, іншае волі

не хочуць, што яны любяць цара да душы, што шлюць яму лісты, да зносяць падаткі, да ахвотна плоцяць чыншы, а некрута пастановяць колькі цару заўгодна, а уніі ніхто не хоча! І тут нас цар падманывае, скрывіць хоча праўду, штоб нас саўсім пагубіць. А Пранцуз на нас толькі ждзе: да каму ж ён памагаць стане, калі ў нас будзе ціха. А мы, хоць нам царскія служкі зняверыліся надта, робім усё, што яны нам ні скажуць. Такім спосабам не зазнаць нам волі да справядлівасці. Не так думалі мужыкі ў Польшчы. Служылі яны яму верна, як і мы, да, пабачыўшы, што не выслужаць нічога, сталі дабівацца і дабіліся волі. А і іх царскія служкі дурылі, як нас цяпер дураць — падмаўлялі, штоб слаць лісты да цара перапрашаючы, да пастарому несці падаткі, да даваць некрута, учылі і іх, як даносіць адзін на аднаго, як лавіць да маскалям адстанаўляць, да мала знайшлося такіх, штоб то, не баючысь Бога ні сораму людскога, служыць маскалям, бо ўжэ спазналі мужыкі царскую думку. А такіх, што за грошы не пабаяліся служыць ворагам нашым, што не хацелі мужыкам зямлі да праўды на свеце да спрэчны былі новай вольнасці да новаму Польскаму Маніфесту, гэтакіх вешаюць, як подлых сабак, селішча іх апусцелі, пайшлі з дымам іх хаты, прапала марна худоба.

Падумайце добра, да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! Нас цар ужо не падмане — не падвядуць маскалі! Няма для ніх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба — для ніх мы глухі і немы і нічога не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі да з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды, — а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сцерагці будзем да ўведамляць, адкуль на ніх цягне нячыста маскоўска сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. — А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам да бацькам.

*Яська-гаспадар з-пад Вільні*

## ПІСЬМО З-ПАД ШЫБЕНІЦЫ

Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і, можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку радную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но не жаль згінуць за тваю праўду.

Прыймі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як з таго света толькі для дабра твайго напісана.

Нямаш, Браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тагды ён толькі магчыме жыці ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толькі, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам па-любіць.

Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу.

Для таго, народзе, як толькі калі пачуеш, што браты тваe з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но, ухапіўшы за што зможаш, за касу, сакеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю землю радную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжо не будзе.

*Твой слуга Яська гаспадар з-пад Вільні*

* * *

Марыська чарнаброва, галубка мая,
Гдзе ж ся падзела шчасце і ясна доля твая?
Усё прайшло — прайшло, як бы не бывала,
Адна страшэнна горыч у грудзях застала.
Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці
Дай у прадвечнага саду вялеў прападаці,
То мы прападзем марна, но праўды не кінем,
Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абмінем.
Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,
Но прыймі цяжкую кару — Прадвечнага волю,
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго свету табе адзавуся.
Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві у шчасці, жыві у свабодзе
І часам спамяні пра Яську твайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.
А калі слова пяройдзе у дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.

## Каментарыі

**«Мужыцкая праўда».** Друкуецца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

№ 1

[1] Маюцца на ўвазе ўдзельнікі і прыхільнікі вызваленчага руху ў Беларусі. Найбольш актыўнымі распаўсюджвальнікамі «Мужыцкай праўды» былі члены рэвалюцыйнай арганізацыі Каліноўскага.

[2] Пачатак публічнага абмеркавання пытання пра скасаванне прыгону быў пакладзены прамовай Аляксандра II 30 сакавіка 1856 г. перад прадстаўнікамі маскоўскага дваранства, у якой цар сказаў, што лепш вызваліць сялян зверху, чым чакаць, што яны самі вызваляць сябе знізу. У студзені 1857 г. у Пецярбургу быў адкрыты Сакрэтны камітэт «для абмеркавання захадаў па ўладкаванні побыту памешчыцкіх сялян». Рэскрыптам Аляксандра II на імя віленскага генерал-губернатара Назімава ад 20 лістапада 1857 г. дваранству Літвы і Заходняй Беларусі быў дадзены дазвол прыступіць да складання адпаведных праектаў.

[3] Маніфест ад 19 лютага 1861 г.

[4] Згодна з палажэннямі пра сялянскую рэформу, валасны суд мог прысуджаць сялянам арышт, грашовы штраф або пакаранне розгамі да 20 удараў. Усе прысуды заносіліся ў спецыяльную кнігу.

[5] Паводле маніфеста, на працягу двух гадоў, пакуль уводзіліся Устаўныя граматы, улада памешчыкаў над сялянамі захоўвалася па-ранейшаму. Гэты перыяд заканчваўся 19 лютага 1863 г.

№ 2

[6] Аброк у казну плацілі дзяржаўныя сяляне.

[7] Каліноўскі, магчыма, з тактычных меркаванняў спрошчана трактуе гэта гістарычнае пытанне.

[8] Так званым Паланецкім універсалам Т. Касцюшкі прыгонным сялянам Рэчы Паспалітай давалася асабістая свабода пры ўмове разліку іх [redacted] памешчыкамі і ўплаты дзяржаўных падаткаў.

[9] Акружны — начальнік акруговага ўпраўлення дзяржаўных маёмасцей.

[10] Сатырычна-насмешлівая (магчыма, народная) форма ад «асэсара» (паліцэйскі чыноўнік у павеце, засядацель земскага суда або станавы прыстаў).

№ 3

[11] Севастопалем (відаць, народная форма).

[12] Каліноўскі дакладна перадае тут вельмі пашыраныя на той час народныя ілюзіі. Гэты матыў надзвычай характэрны і для іншых беларускіх ананімных (падпольных) выданняў таго часу.

[13] Падобныя развažанні сялян зафіксаваны царскімі чыноўнікамі ў афіцыйных справаздачах пра ход рэформы.

[14] Маніфест ад 19 лютага абвяшчаўся ў сакавіку 1861 г., у Вялікі пост.

[15] У арыгінале: jeju.

№ 4

[16] Блізкае не толькі па сэнсе, але і па форме выказванне ёсць у пракламацыі «Да маладога пакалення» М. Шалгунова і М. Міхайлава (1861).

[17] Тут называюцца розныя звенні тагачаснай адміністрацыі ў памешчыцкіх маёнтках.

[18] У арыгінале памылкова ўжываецца слова kad.

[19] Маюцца на ўвазе працяглыя (1858—1860 гг.) абмеркаванні ўмоў сялянскай рэформы ў губернскіх камітэтах, створаных уладамі з прадстаўнікоў мясцовых дваран-памешчыкаў.

№ 5

Нумар з'яўляецца водгукам на новы рэкруцкі набор, умовы якога былі абвешчаны царскім урадам у верасні 1862 г. (сам набор адбыўся крыху пазней — у канцы 1862 — пачатку 1863 г.). Гэта быў першы набор пасля Крымскай вайны, таму ён асабліва балюча закрануў народныя нізы вёскі і горада і садзейнічаў іх далейшай рэвалюцыянізацыі. Паводле сведчання крыніц, набор у Варшаве на пачатку 1863 г. паскорыў выбух паўстання ў Польшчы.

[20] У сапраўднасці, ваенную павіннасць у Рэчы Паспалітай неслі не толькі шляхціцы, але і сяляне.

[21] Маецца на ўвазе маніфестацыйны патрыятычны рух у гарадах у 1861—1862 гг.

[22] Парафраза вядомага лозунга тагачаснага вызваленчага руху «За нашу і вашу свабоду!».

№ 6

Неўзабаве пасля выхаду ў свет поўны тэкст шостага нумара на мове арыгінала передрукаваны ў польскай рэвалюцыйнай газеце «Глос вольны», што выходзіла ў Лондане (10.02. (29.01.) 1863).

[23] Скасаванне уніі ў 1839 г. царскі ўрад праводзіў, абапіраючыся на частку вышэйшага ўніяцкага духавенства, якую ўзначальваў І. Сямашка.

[24] Словы малітвы пададзены ў газеце па-польску. У сучасным беларускім праваслаўным малітоўніку: «Святы Божа, Святы моцны, Святы Несмяротны, памілуй нас».

[25] Папы рымскія шмат разоў выказваліся супраць скасавання уніі ў Расійскай імперыі. Аднак пра спецыяльнае папскае благаславенне для беларускіх уніятаў звестак няма.

№ 7

[26] Сёмы нумар «Мужыцкай праўды» выйшаў пасля значнага перапынку (каля паўгода) у выданні газеты. Мяркуючы па паперы і паліграфічным выкананні, нумар друкаваўся адначасова з «Прыказам... да Народу зямлі Літоўскай і Беларускай» (чэрвень 1863 г., мабыць, у Вільні).

[27] Царскім указам ад 1 сакавіка 1863 г. быў уведзены абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай губернях і ў інфлянцкіх паветах Віцебскай губерні. Усе абавязковыя адносіны паміж сялянамі і памешчыкамі спыняліся з 1 мая. Былыя прыгонныя пераходзілі ў разрад сялян-уласнікаў і павінны былі ўносіць выкупныя плацяжы за надзельную зямлю ў павятовыя казначэйствы.

[28] У 1863 г. адбыліся два рэкруцкія наборы. Прамых абяцанняў, што рэкруцкіх набораў больш не будзе, урад не даваў. Аднак у гэты час вялася падрыхтоўка ваенных рэформаў, у выніку якіх замест рэкруцкіх набораў у 1874 г. была ўведзена агульная воінская павіннасць.

[29] У сапраўднасці, дзеянні французскага ўрада ў абарону Польшчы абмежаваліся толькі дыпламатычнымі нотамі.

[30] Маюцца на ўвазе маніфест і дэкрэты ЦНК ад 10 (22) студзеня і маніфест ЛПК ад 20 студзеня (1 лютага) 1863 г., а таксама беларускамоўны маніфест Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы ад 3 мая 1863 г.

**«Пісьмо з-пад шыбеніцы».** З цыклу апошніх твораў Каліноўскага «Пісьмы з-пад шыбеніцы». Напісаны ў Віленскай турме. Упершыню апублікаваны ў кнізе А. Гілера «Гісторыя паўстання польскага народа ў 1861—1864 гг.» (Парыж, 1867), адкуль і перадрукоўваецца. Узяты тэкст, адаптаваны ў правапісе і лексіцы для сучаснага чытача Я. Янушкевічам (часопіс «Маладосць». 1988. № 1). Апошні ліст да народу пранізаны шчымлівым лірызмам, горыччу расстання. Перадсмяротны запавет — «ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную», а дзеля гэтага «збагаціць навукай розум», развіваць сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць».

**«***Марыська чарнаброва, галубка мая...».** Верш перадрукоўваўся з асобнымі скарачэннямі, тут падаецца пасля зверкі з першакрыніцай. У навукоўцаў узніклі сумненні і спрэчкі: хто Марыська — рэальная асоба ці сімвал Беларусі? У сувязі з гэтым апублікаваны багатыя матэрыялы аб прататыпе гераіні верша — Марыі Ямант («Роднае слова». 1994. № 4. С. 68—75). І ў паэме А. Куляшова «Хамуціус» Марыська паўстае як каханая, сябра і паплечнік Кастуся. У паэтыцы заўважаецца пераклічка з песняй Ф. Ражанскага «Ах ты, мая чарнабрыва!».

## ФЕЛІКС РАЖАНСКІ
## (? — пасля 1903)



Беларускі паэт, мемуарыст, удзельнік рэвалюцыйнага руху 1860-х гадоў. Працаваў каморнікам. У 1861 г. увайшоў у Гродзенскую рэвалюцыйную арганізацыю Каліноўскага. Удзельнічаў у выданні і распаўсюджванні газеты «Мужыцкая праўда», вёў агітацыю сярод народа. Пасля паўстання эмігрыраваў у Кракаў. Аўтар паўстанцкіх песень на беларускай мове «Гэй-га разам, хлопцы...», «Ах ты, мая чарнабрыва...» (апублікаваны ў 1865 г. былым паўстанцам І. Арамовічам), успамінаў «З Гродзенскага ваяводства» (1903), якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі рэвалюцыйнага руху 1860-х гадоў на Гродзеншчыне, змяшчаюць важныя факты з біяграфіі Каліноўскага.

*Г. Кісялёў*

* * *

Гэй-га, разам, хлопцы,
Гу-га, мы, малойцы.
Гэй-га, з палякамі,
Гу-га, а Бог з намі
І на Божу здайма волю
Нашы слёзы і няволю

Гэй-га, мы пачулі,
Гу-га, што нас скулі,
Гэй-га, цяпер знаем,
Гу-га, выклікаем:
З зямлі нашай вон, варогі!
Маскалёў злуб вон да ногі!

Гэй-га, мае людзі,
Гу-га, добра будзе!
Гэй-га, ой, радныя,
Гу-га, міленькія,
Будзе вольнасць праўдзівая,
Дасць нам яе Польшча святая...

**Каментарыі**

**«Гэй-га, разам, хлопцы...».** Гэту паўстанцкую песню, складзеную Ф. Ражанскім, апублікаваў былы паўстанец І. Абрамовіч у сваёй кнізе «Летуценні: запіскі аб партызанскім руху ў Гродзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг.» (Бэндліхон, 1865).

# ФЕЛІКС ТАПЧЭЎСКІ
# (1838—1892)



Беларускі паэт-дэмакрат Фелікс Тапчэўскі (псеўданім Хвалька з Рукшэніц) нарадзіўся ў былым фальварку Лёсава Ушацкага раёна ў дваранскай сям'і. Скончыў Лепельскае дваранскае вучылішча. Працаваў канцылярскім чыноўнікам у Віцебскім земскім судзе, адкуль выйшаў у адстаўку ў 1861 г. Працаваў валасным пісарам у Лепельскім павеце. У лютым 1864 г. быў арыштаваны, як мяркуюць даследчыкі, за сувязь з паўстанцамі 1863—1864 гг. Апошні час жыў і працаваў аканомам у маёнтку Вухвішча (цяпер Полацкі раён). Яго творы распаўсюджваліся ў рукапісах. Шэраг вершаў («Саўсім не тое, што было», «Грошы і праца», «Ігрышча» і інш.) зберагліся ў рукапіснай «Беларускай хрэстаматыі» Б. І. Эпімах-Шыпілы. У сваіх творах Тапчэўскі высока ставіўся да чалавека працы, асуджаў з пазіцыі патрыярхальнага сялянства буржуазныя адносіны ў грамадстве, высмейваў шляхецкую культуру. Змрочнай сучаснасці паэт проціпастаўляў ідэалізаваныя дакапіталістычныя парадкі, калі людзі не адчувалі сілы грошай. Адзіны выхад да лепшай будучыні бачыў у маральным самаўдасканаленні, звароце да патрыярхальнай дабрачыннасці. Творчасць Тапчэўскага ў некаторых выпадках сугучная паэзіі Ф. Багушэвіча.

*Г. Маслыка*

## ГРОШЫ І ПРАЦА

Кажуць: мужык — хам, няцнота,
Гультай, шэльма, усё ліха!
А чыя ж гэта работа —
Хатка, хлебец і грачыха?
Хто ж разробіў лес на поле,
Асушыў балоты, топі
І для ўсіх зрабіў раздолле?
Усё ж гэта тыя хлопі.
Божы храм, карабль на моры,
Церам, дварцы і палаты,
І сабе — грэблі й заборы,
І сабе — мізэрны хаты.
Хто ж зрабіў, чыя работа?
Хто пацеў, ірваўшы жылы?
Той жа хам і той няцнота,
Што празвалі паны быдлам.
Хто ж падпорай у вяльможы?
Чыя праца — іх палацы?

Хто ж паслаў ім мякка ложы?
Белы хлеб іх — чыя праца?
Чыім лбом разбіты муры?
Хто разрыў валы, акопы?
Хто ж не драў мужычай шкуры?
Дзе ж няма хамскай работы?
Іхняй сілай і рукамі
Ставяць крэпасць, ліюць пушкі,
Робяць ружжы са штыкамі,
Сыплюць шанцы і гарушкі.
Можа, скажа хто, што грошы
Кормяць, робяць, нежуць цела.
Не! Паночак мой харошы,
Грош — пустое, праца — дзела!
Мы ж без грошай, а ўсе сыты,
Спляцём лапці, зробім хату,
Спрадзём лёну — і акрыты,
Яшчэ з карку дадзім брату.
Плюнуць толькі на грош трэба,
А дзяржацца крэпка працы;
Ах! не дадуць грошы хлеба,
І не вырастуць палацы.
Сядзь на кучы грошы, пане,
Ды глядзі на іх век цэлы,
Не дадуць яны, васпане,
Шоўку, жэмчуг і хлеб белы.
Жылі ж людзі перад гэтым
І не зналі срэбра, злата,
Быў люд людам і свет светам,
Елі хлеб, і была хата.
Грошы — выдумка пустая,
Яны трэба танкакожым,
Каб кармілі век гультая
І кармілі хлебам розум.

*Ухвішчы, 27 красавіка 1890 г.*

## ВЕЧАРЫНКА

Рэжуць жыдкі ў свае скрыпкі, трэці на трубе раве,
А чацвёрты — на басэтлі і тахту нагою б'е;
Скачуць пальцы па ўсіх струнах, як казелькі у пакос,
Вусны скрывіць, вачмі жмурыць і залупіць кверху нос.
Быць яны там угарэлі, так і ходзяць хамянём,
Загудзелі, заскрыпелі, аж смычкі бурчаць ваднём.

Музыкант, што йграў у скрыпку, упёр локцем у жывот,
Узваліў нос на кабылку і разінуў дужа рот;
Як прыўдарыць з усёй сілы, толькі пыл са струн ідзе,
Пасінелі на ім жылы, і пот каплямі цячэ.
Пасля неяк засмурыжыць, бздрынкне пальцам па струнах,
Бараду уверх падыме, а смычком тым мах ды мах.
Трубач рэдка, але ёмка раз-паразу зараве,
Сціхне троху, пасля лоўка усім тахту задае.
«Гэй, іграйце там мазурку!» — загад нейкі паніч даў.
Пісну ўжыдок у іскрыпку, і трубач трубіць пачаў.
Разам скрыпкі падхвацілі, і басэтля завяла,
Усіх як ёсць аглушылі, тут пацеха і пайшла.
Пачаў першы ў акулярах пан парадак завадзіць,
А за ім усе у парах сталі мазурку хадзіць.
Кожны рукі растапырыць і ляціць вот, як арол,
Ляпне нагой ды падкіне, скрабяне падошвай пол.
Стук ды топ напераменку, разам верць, як на шрубе.
Абайме за стан паненку дый шавырк каля сябе.
Раз ды два кругом абкруціць, абхваціўшы яе стан,
После — фурт! Крыху адпусціць, дый пашлі ізноў у тан.
Толькі пырхаюць іх полкі, валюць, знай, наперавал,
А паненкі — дрыб-дрыб толькі, мусіць, шаг іх троху мал.
Як у корні, паніч смаліць, яна — ў прысцяжцы ідзець,
Сам шырока ногі ставіць, тая дробненька сячэць.
Як самлеюць ужо ногі, ідуць цішай раз-параз,
Разам — верць, сайдуць з дарогі, к крэслам падайдуць якраз.
Шлёп! Абое разам селі — сталі моўчакам сядзець,
Замарыліс, упацелі, пара клубам з іх ідзець.
Тут паненка распусціла у руках індычы хвост,
Памахала, пакруціла і ўраніла на памост;
Паніч крута схамянуўся: брык! — падскочыў, цап! — узяў,
Напярод дугой сагнуўся ды паненцы — тыц! — падаў.
Тады яна кіў галоўкай, і паніч ёй — кіў назад,
Шапярнулі са два слоўкі,— шлёп! і сеў з ёй тут у рад.
Як драбочак аддыхнулі, пайшлі кадрылі скакаць,
Крэслы троху адпіхнулі і дай парамі стаяць.
Музыканты затрубілі і кадрылю завялі,
Усе пары павалілі, кадрыль валіць зачалі.
Ходзяць неяк, мітусяцца то назад, то напярод,
Хваць папарна абнімацца ды круцель, як калаўрот.
Пакуль шэсць кален ламаліс, яшчэ дукрыў што-нібудзь,
После разам памяшаліс, не паняў ніяк, што йдуць.
Толькі чудка закрычалі: « Rondez, mesdames et cavaliers!»[1]
Мігам рукі пападалі, у кружок сталі усе.

« Tour des dames!»[2] — пасля сказалі, верць паненкі каляском.
«Chaine des dames!»[3] — як закрычалі, расцягнуліся ланцужком.
«Cavaliers avant!»[4] — зяўнулі, марш панічы напярод.
«Aurembours!»[5] — круць, павярнулі і усе давай на ўсход!

**Каментарыі**

**«Грошы і праца».** Ідэал героя — натуральная гаспадарка: «Мы ж без грошай, а ўсе сыты, // Спляцём лапці, зробім хату, // Спрадзём лёну — і акрыты...». Не грошы, а праца пераўтварае і ўзбагачае свет, таму лепей адмовіцца ад іх. Герой верша не бачыць корань зла, яго памкненні ўтапічныя, ілюзорныя.

**«Вечарынка».** Верш упершыню надрукаваны ў 1914 г. («Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1915 г.»). Падпісаны «Хвэлька з Рукшэніц».

[1] Кола, дамы і кавалеры!

[2] Танцуюць дамы!

[3] Дзявочы карагод!

[4] Кавалеры, наперад!

[5] І назад! (франц.).

# ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ (1840—1900)



Нарадзіўся беларускі паэт, празаік, публіцыст і перакладчык Францішак Бенядзікт (псеўданімы: Мацей Бурачок, Сымон Рэўка з-пад Барысава) у фальварку Свіраны Віленскага павета Віленскай губерні (зараз Вільнюскі раён Літвы) у сям'і дробнага шляхціца. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Віленскай гімназіі, якую скончыў у 1861 г. У тым жа годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, аднак праз два месяцы быў выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Працаваў настаўнікам у вёсцы Дошішкі (Воранаўскі раён). Удзельнічаў у паўстанні 1863—1864 гг. У баях у Аўгустоўскіх лясах быў паранены. З-за пагрозы рэпрэсій тайна жыў пад Беластокам і ў Вільні, пасля пераехаў ва Украіну. Пры дапамозе Я. Карловіча паступіў у Нежынскі юрыдычны ліцэй, дзе вучыўся ў 1865—1868 гг. Працаваў памочнікам справавода Чарнігаўскага губернскага праўлення, судовым следчым у Чарнігаве, Краляўцы і Канатопе (Сумская вобласць), Старадубе (Бранская вобласць), Гразаўцы (Валагодская вобласць), Барзне (Чарнігаўская вобласць). У 1884 г. пераехаў у Вільню, дзе працаваў адвакатам судовай палаты, вёў пераважна справы сялян і гарадской беднаты. З 1898 г. жыў у Кушлянах (Смаргонскі раён), пахаваны ў Жупранах на Ашмяншчыне.

Вытокі творчасці Багушэвіча цесна звязаны з фальклорам, а таксама лепшымі эстэтычнымі традыцыямі славянскай паэзіі. У зборніках «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891) і «Смык беларускі» (Познань, 1894) паказаў селяніна, якога абдзялілі пры скасаванні прыгону, крыўдзяць суд і царскія чыноўнікі. Жывымі і яркімі паўсталі ў яго творах вобразы сялян Аліндаркі («Кепска будзе!»), Петрука («У судзе»), Ануфрыя Скірдзеля («Балада»), Мацея («Хрэсьбіны Мацюка») і інш. Мастак народніцкага складу, ён бачыў не проста пагарджанага доляй, прыгнечанага мужыка, а чалавека, які крытычна ўспрымае свет, не баіцца «з'ехаць ураднiку тройчы меж вушоў». Сацыяльныя пытанні востра ставяцца ў вершах «Бог не роўна дзеле», «Не цурайся», «Ахвяра». Цыкл «Песні» (зборнік «Смык беларускі») — узор выкарыстання беларускай народнай песні і насычэння яе сацыяльным і філасофскім зместам. З болем адчуваючы, як «звякаюць ланцугі на людцах», са смуткам гледзячы «на зямельку, слязьмі залітую», паэт верыў у часіну, калі «перастанем плакаць мы над сваёй доляй». У яго творчасці на ўвесь голас загучалі і матывы нацыянальнага адраджэння. У прадмове да зборніка «Дудка беларуская» ён абгрунтоўваў права беларускага народа на развіццё сваёй мовы. Шмат зрабіў Багушэвіч для фарміравання беларускай літаратурнай мовы, узбагачэння і ўдасканалення беларускай паэтыкі. Узнімаў некранутыя моўныя пласты, часта свядома агрубляў радок, ка-

рыстаўся сілабікай, каб надаць вершу гутарковае гучанне, адначасова смела ўводзіў сілаба-танічны памер, народна-песенныя прыёмы. Багатая і разнастайная яго спадчына ў жанравых адносінах: паэма («Кепска будзе!»), вершаванае апавяданне, блізкае па форме да гутарак («У астрозе», «Быў у чысцы», «Свая зямля»), публіцыстычны маналог («Мая дудка», «Дурны мужык, як варона»), філасофскі роздум («Праўда», «Думка»), верш-прысвячэнне («Яснавяльможнай пані Арэшчысе»), байка («Воўк і авечка»), сатыра («Праўдзівая гісторыя аб замучаным дукаце»), апрацоўка народнай казкі («Хцівец і скарб на святога Яна»). Багушэвічу належаць адметныя празаічныя творы.

Калі апавяданні «Сведка», «Палясоўшчык», «Дзядзіна» зместам і формай цесна звязаны з народнай гумарэскай, бытавым анекдотам, то апавяданне «Тралялёначка» (Кракаў, 1892) стаіць значна бліжэй да літаратурнай традыцыі. У ім яскрава паказана расслаенне беларускай вёскі. У 1886—1891 гг. пад псеўданімам Demos, Ten і іншымі друкаваў у польскім пецярбургскім часопісе «Kraj» («Край») допісы і артыкулы, у якіх пісаў пра цяжкае жыццё працоўнага люду, крызіс сельскай гаспадаркі, нізкія ўраджаі, высокую кватэрную плату ў горадзе, цемнату і непісьменнасць народа. Лісты Багушэвіча да Я. Карловіча і Э. Ажэшкі — важныя дакументы, сведчанне светапогляду паэта, гісторыі напісання паасобных твораў і выдання «Дудкі беларускай», матэрыяльных умоў і абставін яго жыцця.

Не ўсе творы Багушэвіча дайшлі да нас. Няма пэўных звестак пра змест зборніка «Скрыпка беларуская», які меўся выйсці пасля смерці аўтара, не знойдзены ў архівах зборнік «Беларускія апавяданні Бурачка», падрыхтаваны ў 1899 г. і не прапушчаны цэнзурай, не збярогся слоўнік беларускай мовы, які Багушэвіч складаў па прапанове Карловіча. Яму прыпісваецца пракламацыя без назвы (пачынаецца словамі «Гаспадары, для вас пішу гэта апавяданне»), выдадзеная па-беларуску ў Кракаве і прысвечаная падзеям у літоўскім мястэчку Крожы ў 1894 г.

*С. Александровіч*

## ПРАДМОВА ДА КНІГІ «ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ»

Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маей! Вам афяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай». Я сам калісь думаў, што мова наша — «мужыцкая» мова, і толькі таго! Але, паздароў Божа добрых людцоў, як навучылі мяне чытаць-пісаць, з той пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і праканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў, па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: Божа ж мой, Божа! Што ж мы за такія бяздольныя? Якаясь маленькая Булгарыя — са жменя таго народу — якіясьці Харваты, Чэхі, Маларосы і другія пабратымцы нашыя і ружны чужы зброд, жыды маюць па-свойму пісаныя і друкованыя ксёнжачкі і газэты, і набожныя, і смешныя, і слёзныя, і гісторыйкі, і баячкі; і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як бы захацеў цыдулку ці да бацькі

лісток напісаць па-свойму, дык, можа б, і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што «піша па-мужыцку», і, як дурня, абсмяялі б! А можа, і спраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага ні сказаць, ні напісаць не можна? Ой, не! Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам, і гаворым жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахотней гавораць па-французску, як па-свойму. Нас жа не жменька, а з шэсць мільёнаў — больш і шмат больш, не раўнуючы, як жыдоў, напрыклад, або татар, ці армян, а пакажы ж, ваша, хоць адну ксёнжачку ці аб гаспадарцы, ці так аб жыцці нашым, каб па-нашаму?

Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а навет і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей, і ад бацькавых касцей! А пісаць ёсць шмат чаго.

Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як і з Польшчай з'ядналася дабравольная, дык усе яе «Бяларусяй» звалі, і недарма ж гэта! Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася.

Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі. Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы.

Ужо больш як пяцьсот гадоў таму, да панавання князя Вітэнэса на Літве, Беларусія разам з Літвой баранілася ад крыжацкіх напасцей, і шмат местаў, як Полацк, прызнавалі над сабой панаванне князёў літоўскіх, а после Вітэнэса літоўскі князь Гядымін злучыў зусім Беларусію з Літвой у адно сільнае каралеўства і адваяваў шмат зямлі ад крыжакоў і ад другіх суседаў. Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму назад ужо была ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра-ракі да Нёмна; ад Каменьца места аж да Вязьмы — у сярэдзіне Вялікаросії; ад Дынабурга і за Крамяньчук, а ў сярэдзіне Літвы, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь! Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...

*Мацей Бурачок*

## МАЯ ДУДКА

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!

Ой, то будзе гранне,
Як на павітанне
І як на васэле,
Нядоўга тыкеле[1]:
Прэндка скончу песні...
Покі дудка трэсне,
Ці паглохнуць людзі,
Ці высахнуць грудзі,
Сілы надарвуцца
На радаснай дудцы,
І выцекуць слёзы
На сухія лозы...
Выйдзе душа парай,
Падымецца з хмарай,
Туманом па рэчца,
Расой разліецца,
Каласочкі зрося,
Каб жыта ўдалося.
А хлеб з'ядуць людзе,
І зноў сляза будзе.
Ну, дык грай жа, дудка,
Каб жа была чутка,
Каб аж вушы драла;
Каб ты так іграла,
Каб зямля скакала!
Заграй так васола,
Каб усе у кола,
Узяўшыся ў бокі,
Ды пайшлі у скокі,
Як віхор у полю —
Аж выючы з болю,
Каб аж рагаталі,
А усё скакалі...
Каб скакалі горы,
Як фаля на моры,
Як паны на балі, —
Каб вот як скакалі!
Каб аж пыл курыўся,
Каб свет валіўся
Ды усё круціўся,
Як у нашага брата
У п'янога хата..
Га! Чаму ж не граеш?
Хіба ты не знаеш,
Не ведаеш хіба,

Што, як тая рыба
Ды на лёдзе б'ецца,
Так вот я, здаецца,
Сорак гадоў б'юся,
Ніяк не звярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, васола ж грай
Альбо долю дай!..
......................
......................
Енчыш безумолку!
Не, не будзе толку!
Кіну ж дудку тую,
А зраблю другую.
Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку.
Га! зраблю ж другую,
Жалейку смутную, —
Ды каб так заграла,
Каб зямля стагнала,
От каб як заграла:
Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жудка,
От то мая дудка!..
Вот зрабіў такую!
Дай жа папрабую...
Ну, дык грай жа, грай жа,
Усё спамінай жа...
Штодзень і штоночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй,
І плач штораз болей.
Плач так да астатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці,
Дзень, другі і трэці
Іграй слёзным тонам
Над народу сконам!
Каб ты так іграла,
Каб немарасць брала.

Як слязы не стане,
Заціхне ігранне, —
Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам —
Не слязой — заплачыш,
Як усё абачыш.
Як крыві не стане,
Тагды кончу гранне!

## ДУРНЫ МУЖЫК, ЯК ВАРОНА

Весь свет кажыць, б'ець у звона:
«Дурны мужык, як варона!»
Гэта тыкі справядліва:
Ён дурнейшы ад вароны,
І не дзіва — было б дзіва,
Каб мужык ды быў вучоны.
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Да навукі ён не браўся,
Закасіўся, зааpаўся;
Дурнем умрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся.
Ведама, мужык — хамула —
Ад навукі адвярнула!
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Ці ж не дурань мужык гэта:
Гарэ, сее усё лета,
А як прыйдуцца дажынкі,
Няма збожжа ні асьмінкі,
А даждаўшы на каляды,
Мужыкі мякінцы рады.
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Усю зіму возам цягне
Да вакзалу ружнэ збожжа,
Ногі змерзнуць, сам засмягне,
А на хлеб кажух заложа,
Каб дажыць як да крапівы,
Абы ў поле выйшаў жывы.
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Ад Пятра і да Якуба[1]
Ён касой махаў ад рання:

Наклаў стагоў, людзям — люба,
У хаце ж сена — анізвання;
Равець з голаду скаціна,
Хоць кінь, бяжы за вачыма!
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Глядзі, касцёл аж да неба,
Воласць бляхамі пакрыта!
Срэбрам скрые, калі трэба,
Бо за гэта яго біта,
А сам жывець ў мокрай яме,
Дзверы заткнуў анучамі!
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
З камаровы нос сякерку
Сцісне, крэкне, замахае —
Зробе пушчу, як талерку,
Свет дрывамі закідае!
А у хаце — зварыць страву,
Пашчапае стару лаву!
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!
Глядзі! горы паразрыты,
А чугункай свет абвіты:
Ўсё з мужыцкай цяжкай працы,
Усе едуць у палацы;
У мужыка ж няма білета!
Ці ж не дурань мужык гэта?
Дык крычыце ж, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона!

## МАЯ ХАТА

Бедна ж мая хатка расселася з краю,
Меж пяскоў, каменняў, ля самага гаю,
Ля самага бору, на беражку лесу;
Ніхто тут не трафе, хоць бы з інтарэсу.
Як няма гарэлкі, няма куска хлеба,
Дык які ж інтэрас, каму сюды трэба?
Да хоць няма хлеба, жабраваць не буду,
Пражыву як-кольвек ад працы, ад труду!

Кепска ж мая хатка, падваліна згніла,
І дымна, і зімна, а мне яна міла;
Не буду мяняцца хоць бы і на замкі, —

Калок свой мілейшы, як чужыя клямкі.
На страсе мох вырас, на маху бярозка.
Мільшая мне хатка, як чужая вёска.

Сваталі ж мне ў прыймы у новую хату,
На зямлю ражайну і дзеўку багату;
Буду жыць, казалі, як які пасэсар[1],
Ездзіць парай коні, як сам пан асэсар[2];
Да мне даражэйшы вугал гэты гнілы,
Камень пры дарозе, пясок ля магілы,
Як чужое поле, як дом мураваны! —
Не аддам за сурдут каптан свой падраны.

Клікалі ж у госці і клічуць суседзі —
Не пайду, не трэба, бо, кажуць, заедзі
Ад чужога хлеба губы абсядаюць,
Што чужога прагнуць, то сваё кідаюць.
Я не кіну хаты, хоць вы мяне рэжце,
Не пайду да вас я, хіба у арэшце.
А хоць сілай навет адарвалі б з дому,
Калісьці вярнуўся б, як мядзведзь да дому.

Заваліцца й хата, зарастуць пакосы,
Усё б я вярнуўся, хоць голы да босы!
Насек бы бярвенняў, нацягаў бы моху,
Зноў бы склеціў хату як-кольвек патроху,
Зрабіў бы камору, выкаваў бы жорны, —
Усё ж свой хлеб еў бы, хоць бы сабе чорны!
Ну дык жа адстаньце, нашто я вам трэба:
Ці каб ваш хлеб есці, ці рабіць вам хлеба?

## ПРАЎДА

*Ой, цяжка ж, цяжка,*
*Не сярмяжка цяжка,*
*Але з гэтай доляй,*
*А ўсё штораз болей!*

Ох, цяжкая ж доля! От так бы, здаецца,
Скрозь зямлю прапаў бы б ці ў слёзы б разліўся!
Ці мне жыць на свеце, ці мне куды дзецца?
Ой, Божа ж мой, Божа, нашто ж я радзіўся?!
Ой, нашто ж мне дана тая мая мова,
Як я не умею сказаць тое слова,
Каб яго пачулі, каб яго пазналі,
Каб яго, то слова, ды п р а ў д а й назвалі;

Каб і разышлося то слова па свеце,
Як праменні слоньца цёплага у леце;
Каб на тое слова ды людцы зрадзелі
Так, як тыя дзеткі на святой нядзелі;
Каб жа тое слова ды людцоў з'яднала,
Каб на тое слова варагоў не стала;
Каб людцы прызналі братоў ды братамі —
Дзяліліся б доляй і хлеба шматамі.
А без таго слова я — нямы калека!
Хоць бы занямець мне і да канца века!
Ой, нашто ж мне вочкі, ой, нашто ж мне ясны?
Каб глядзеў, які я ад усіх няшчасны?
Каб душа балела, гледзячы на долю,
Каб сэрца шчымела і рвалася з болю?
Каб было чым плакаць і удзень і ўночы?!
Ой, Божа ж мой, Божа, вазьмі ж мае вочы!
Нашто ж тыя вушы, як не чуць нічога
Ні ад людцоў добрых, ні неба ад Бога?
Ой, ці не на тое ж, каб чуць людзку лайку
Ды тую плачонцу дудку-самаграйку,
Нашую жалейку, што енча, не йграе, —
Хоць як выйгравай ты, яна смутная?
Ой, ці не на гэта ж, каб чуць, як звякаюць
Ланцугі на людцах, што з хат уцякаюць.
Не здзекуйся ж, Божа, нада мной, над імі:
Парабі усіх нас, як камень, глухімі!
Вазьмі усе змыслы, покі прыйдзе Праўда,
Бо жыць без яе нам не вяліка наўда!
Прасі ў Бога ласкі: «Адвярні ты, Божа,
Злую нашу долю на сухія пушчы,
Адвярні на камень ці на бездарожжа,
На вялікі ройсты[1], на пяскі сыпушчы,
Ды каб не зазнала ніяке стварэнне
Гэтай долі нашай да веку скančэння!»
Не пачуў ён енку, не увідзеў мукі,
Крыж уеўся ў плечы, ланцугі у рукі!
Прасіў я суседзяў са мной падзяліцца,
Памагчы крыж несці, як «з Богам не біцца».
Абсмяялі людзі мяне, як дурнога,
Да цябе паслалі, да самога Бога,
Там, казалі, праўда, тут тыкеле сіла!
Даўней, кажуць, Праўда па свеце хадзіла,
Жабруючы ж, змёрла, а людцы схавалі,
Каменем накрылі, зямлю пааралі,
Каб не чуць, не ведаць аб ей ані весці,

23 Зак. 1799

Ды цяпер і кажуць: «Праўда ў небе гдзесьці!»
Да пашлі ж ты, Божа, Праўду сваю тую
З неба на зямельку, слязьмі залітую!
Пасылаў Ты Сына, Яго не пазналі,
Мучылі за праўду, сілай паканалі;
Пашлі ж цяпер Духа, да пашлі без цела,
Каб уся зямелька адну праўду мела!

## ХРЭСЬБІНЫ[1] МАЦЮКА

Калісь, як у нас казакі то стаялі,
У «шнурах» за горкай раз мяне спаткалі.
Сказаў «пахвалёны», а яны смяюцца,
Адзін штось спявае, іншы дзьме на дудца,
А старшы скіпеўся: «Ты што за адзін?»
Думаю: хто ж я? — ужо ж Юркаў сын!
«Тутэйшы, — кажу я, — свой чалавек:
Сын бацькі свайго, а бацька дзяцей,
Тут і радзіўся, тут жыву век;
Юркам зваць бацьку, я дык Мацей.
Вун гдзе і хата, і выган, і сад;
Там жнець мая жонка, а тут гарэць брат!..»
Ён кіпіць горай, пытаючы, лае,
Крычыць, і б'ецца, і ў твар штурхае.
«Да хто ты, да хто ты, ці рускі, ці не?»
Я дай круціцца туды і сюды,
Думаю: што б тут сказаць яму мне?
«Я не нашу, — кажу, — барады».
«Да ты, — ён кажа мне, — веры якой?
Ці ты праслаўны, ці ты — паляк?»
«А дайце ж, паночку, — кажу, — мне пакой,
Да я ж тутэйшы, я ж казаў так!..»
Як сцебане, пракляты, мяне, —
Аж у вачах чырвона здалося!
Каб я ж чым-кольвек ў якой віне,
А то не ведаць, скуль узялося?
Я кажу гэтак: «Калі ж ужо так,
Што васпан б'ешся без дай прычыны,
То, мусіць, і праўда, што я і паляк
І буду паляк я ад гэтай гадзіны!..»
Ну і далі ж мне добра на знак:
Цягнулі, біўшы, у Замаслаў[2],
Каб помніў крэпка, што я паляк,
Каб і вам гэта здарэнне сказаў!
Тое прайшлося, пайшлі і казакі,

Калі пад восень завуць нас у збор:
«Прыехаў, — кажуць, — начальнік такі,
Сам князь Хаванскі, ідзіце у двор!»
Трэба ўсе кідаць (хоць святам было).
Народам, як макам, весь двор заліло:
Князь у палетах, васолы такі!
«Эх, — кажа, — рыбяты! — вы дуракі,
Што ў рускай зямлі ды каталікі!
Ну, цар вас прымае у сваю веру;
Дасць зямлі многа!.. Вы на паперу
Тут падпішыце, а поп пасвенце, —
Будзе ўсё добра, усюды пашэнце.
Ну братцы, вып'ем па чарцэ усе;
Бацюшка крыж і крапідла нясе!»
Мы ж толькі зірк адзін на другога,
Маўчым, трасёмся, не кажым нічога:
Ён Міруна за плечы ўзяў,
Вядзець да стала, гарэлкі падаў:
«Пій на здароўе і так пішы:
— Вот сабраліся дзве тысяч душы;
Рускую веру хочым прыняць,
Каб каталіцкай не ведаць, не знаць...»
Мірун папярхнуўся, як хуста, збялеў,
Глянуў на ўсіх, на мяне паглядзеў.
«Як, — кажа, — людзі, так, — кажа, — я,
Спытайце, — кажа, — вун Мацяя;
Як ён ды скажа перавярнуцца,
Дык усе вёскі на яго здадуцца».
Цягнуць мяне да таго князя,
А тут аж мурашка за скурай лазе.
«Ну што, маладзец, нап'ёмся водкі?»
Даець мне грошы, такі салодкі:
Усё гавора, радзе, пытае,
Жонку цалуе, дзяцей гайдае.
«Ну што ж, надумаўся, гатоў?..»
«Надумаўсь, — кажу, — каб сто катоў
Дралі мне скуру, пяклі на агню,
Я веры сваей тыкі не змяню!»
Іх! закіпеў той князь, аж зароў,
Аж вылупіў вочы, счырванеў ён, як кроў...
«Розаг падайце, нагаек, сто лоз!
Ён з веры смяецца мне тут пад нос!»
Хапілі мяне якісьць гайдукі,
І розаг падалі чатыры пукі,
І б'юць — не баліць, хоць за сэрца бярэ:

За што ж ён мне гэта ды скуру дзярэ?!
Як крыкну гэта: «Эй, бійце ж мацней,
Мацнейшы ад веры вашай Мацей!»
О так то хрысцілі мяне казакі
З тутэйшага ды у палякі!

## БОГ НЕ РОЎНА ДЗЕЛЕ

Бог сіроты любе, але долі не дае.
*Прыказка*

Чым то дзеіцца на свеце,
Што не роўна дзеле Бог?
Адзін ходзе у саеце[1],
У золаце з плеч да ног,
А другому, каб прыкрыцца
Хоць анучай — велькі труд;
Весь, як рэшата, свіціцца,
Адны латы, адзін бруд!
Адзін мае хатаў многа,
А вялікіх — касцёл моў;
Увясці б туды хоць Бога,
І той бы з іх не пайшоў.
У другога ў сцяне дзюры,
Вецер ходзе, дым і снег;
Тут карова, свінні, куры...
Тут пакута, тут і грэх!
Гэты едзе у вагоне, —
Цёпла, мякка, толькі жыць!
А ляціць, як віхар гоне,
А ён сабе толькі спіць!
Той у мяцеліцу, ў марозе,
Што аж вон яму прэ дух,
Паўзе з клункам па дарозе,
У снягу увесь па брух!
Гэты хлеба і не знае,
Толькі мяса ды пірог,
І сабакам выкідае
Усё тое, што не змог.
А той хлеб жуе з мякінкай,
Хлёбча квас ды лебяду,
Разам жывець і есць з свінкай,
З канём разам п'ець ваду!
Аднаму дзясяткі-служкі
Зарабляюць сотні сот;
Рукі ў яго, як падушкі,

Як кісель, дрыжыць жывот!
Другі ж сам, аж на дзясятак
Працуючы, лье свой пот,
А высахшы, як аплатак,
Цянюсенькі, як той кнот.

## КЕПСКА БУДЗЕ!

Як я толькі нарадзіўся —
Бацька сказаў: «Кепска будзе!»
Ну дык жа ж не памыліўся:
Здзекаваліcь Бог і людзе.
А чым кепска? — бо на марцы
Я радзіўся (пост праўдзівы,
Цяжкі месяц гаспадарцы.
Як пражыў хто, — будзе жывы).
Пераеўся хлеб да крышкі,
Бульбы толькі як пасеяць,
І прыварку[1] ані лыжкі,
І скаціна — хоць развеяць;
Ні саломкі, ні то сена,
Хоць бы на раз для скаціны;
А тут дроў ані палена,
А тут яшчэ нарадзіны!
Трэба ж бабе бохан хлеба,
І гарэлкі ж трэба пляшку,
Яшчэ ж хрысціць хлопца трэба...
Вот і думай, як сярмяжку
Нясці жыду пад заставу[2]
Ці прадаць каня, кароўку?
«Сеў, — казаў ён, — я на лаву,
Узяўшыся за галоўку,
І заплакаў, аж заліўся,
Так, як бацьку пахаваўшы...
Кепска зрабіў, што радзіўся,
Кепска будзе, свет пазнаўшы!»
Ці то слова йшло урокам,
Што сказаў у кепскім часе,
Ці хто кінуў такім вокам?..
Ну і доля ж удалася!
І збылося ж бацькі слова!
Вот у тыдзень вязуць гэта
Хрысціць мяне да Макрова
Кумоў двое і кабета.
У Аборках[3] мост сарвала,

А я ж быў — чуць жывы, слабы.
Рада — ў раду, на тым стала,
Што ахрысцяць з вады бабы.
З Беразіны[4] жменяй вады
Кума сама зачарпнула,
Паматала сюды-туды.
Трэйчы на мяне лінула.
«Вот і хрэст увесь тут, — кажа, —
І ксёндз хрысце гэтаксама,
Толькі яшчэ чымсь памажа,
А хлопцу ўсё роўна — яма!
Хоць бы жывым хоць давезці,
Каб дарогай не сканала, —
Скажуць — кепска вязла гдзесьці
Або туга спавівала!..»
Гэтак мяне пахрысціўшы,
Вязуць назад ужо да маткі,
Вочы добра пазаліўшы,
Ледзьве уняслі да хаткі.
Закусіўшы тут як трэба,
Пакумаліся, і квіта:
Баба ўзяла бохан хлеба,
Пляшку водкі, торбу жыта;
Разышліся і паснулі.
Матка ж мяне калыхае:
«Люлі, — шэпча, — сынок, люлі...»
А як зваць? — сама не знае.
Вот назаўтра спазарання
Бяжыць матка да кумошкі
Ды пытае: як празванне
Далі сыну? Лёну трошкі
Тут прынесла пры здарэнню,
Трошкі сала, круп са жменю...
А кума ж была праворна:
Хоць што збрэша — не запнецца;
Круце сабе ў сенях жорна,
Трэба ж салгаць! Куды ж дзецца?
«Імя, — кажа, — твайму сыну
Ксёндз хацеў даць па кантычцы,
Думаў ён, можа, з гадзіну,
Узяў ксёнжку, як стаў рыцца,
Дык даў потым з каліндарка[5]»!
Матка прандзей з хаты ў сені,
Як бы цівун гнаў па карку,
Усё шэпча то імене:

«Аліндарку, Аліндарку!»
Прыляцеўшы так дадому,
За калыску узялася
І зрадзела, як святому,
Што аж слязьмі залілася.
І калыша, і галосе:
Надта імя спадабала,
Надта добрае здалося,
Што такога і не знала!
Вот і клікаць мяне сталі
Скаліндаркай, Аліндаркай...
Ну, як знали, так і звалі.
Але вот што з гаспадаркай?
Наперш конь здох таго ж лета,
І цялушка, як лань, пала...
Матка ж, ведама, кабета,
Затужыла і запала,
Гадкоў зо тры пацягнула,
Ў марцы й ручанькі згарнула,
(А ўсё ў марцы, трэба ж гэта!
А разумная была кабета!)
З таго гора бацька бедны
Стаў маркотны, як магіла.
Было сядзіць такі бледны...
«Што ж ты гэта нарабіла?!»
Гэтак скажа і заплача.
(Хто ж пачуе, хто забача?)
Потым дай памалу сватаць;
Трэба ж, ведама, жаніцца,
Каб было каму палатаць,
Каб было у што змяніцца,
А так усё памарнела:
Куры, гусі, навет свінне.
І свіння дзяцей паела,
І карова марне гіне...
Увосень давай шукаць пары,
Ды ніводная не хоча;
Аднэй бедны, другой стары,
Трэця, чорт ве — што тароча:
«Аддай, — кажа, — Аліндарку
Куды-кольвек хоць на людзе,
Сядзь на нашу гаспадарку,
Тагды выйду, добра будзе!»
Бацька кідаўсь зо тры тыдні,
Яшчэ горай зажурыўся,

Прадаў сякі-такі злыдні[6],
Разлайдачыўся, распіўся
І ўмёр так пад гародам,
Устраміўшы ў плот галоўку!
Шапку найшлі аж за бродам,
І ў шапцы залатоўку.
А назаўтра прывёў соцкі
Асэсара, паноў трое.
Труп той зрэзалі на клёцкі...
(А ў марцы ж было й тое!)
Мяне цётка, у апеку
Узяўшы, трошкі падрасціла
Ды якомусь чалавеку,
Як за сына, адпусціла.
Незадоўга змёрла цётка,
Я стаў круглая сіротка.
Ці гдзе днюю, ці начую.
А ўсё бяду сваю чую!
Пастухі збяруцца ў гаю,
Пяюць песні ля бярозы,
А мне чагось, сам не знаю,
Смутна, цяжка, цякуць слёзы.
Рос я гэтак за вачыма,
Ужо трэйчы спавядаўся,
Калі зімой да айчыма
Ды ўраднік заблукаўся.
Я сяджу сабе на печы,
Пляту лапці, ўю аборы,
Ён паказуе праз плечы:
«Што-то сын твой, — кажа, — хворы?» —
«То не сын! — айчым той кажа. —
Узяў сіротку; дзякуй Богу,
Добры ўдаўся: позна ляжа,
Рана ўстане і адлогу
Не запусце... спагадлівы;
Маю сына, хоць не родны.
Ажаню, як буду жывы,
Будзе Богу й людзям годны!» —
«А лет сколькі?» — той пытае.
«Дваццаць, — кажа,— мусіць, мае?» —
«А звацъ як?» — «Да Каліндарка!..»
Ратнік піша усё шпарка.
Як радзіўся, гдзе хрысціўся?..
Пісаў, пісаў дый паехаў!
Бацька яго угасцілі,

Далі торбачку гарэхаў...
После таго, так не далей,
Як у тыдзень і асэсар
Шусць у хату (і з мадаляй).
«А гдзе, — кажа, той пасэсар,
Твой Ліндарка, ці як звецца,
Што хаваецца з някруцтва,
Пляцець лапцікі на печцы?..
Ашуканства, баламуцтва!..»

А я ж ехаць меў па дровы,
Бацька клікнуў, іду ў хату...
А асэсар — той — здаровы!..
Лясь мне ў морду, потым тату.
Я ж узяў яго за грудзі
І піхнуў лыбом у дзверы.
Ён як раўкне: «Гэй вы, людзі,
Тут разбой! Прыміце меры!..
Тут рыштант, брадзяга скрыты, —
Вот і лэб каліcь быў брыты, —
Вяжы ўсіх, нараджайся!..»
Мяне лясь! «Ты хто? Сазнайся!..» —
«Скаліндар, — кажу, — сірота!..»
Пацягнулі па дарозе,
Завязалі і варота,
Мы ж спыніліся ў астрозе...

Астрог, братцы, паглядзеўшы
Мімаходам, выглядае,
І нічога: шык, не еўшы,
І ў астрозе не бывае,
Але лепшы ў хаце голад,
У дарозе велькі холад,
Найцяжэйша праца ў полі,
Як у той астрожнай долі!
Відзеў пташку я ў клетца,
Як галоўкай потым б'ецца,
Аж скрыдэлкам затрапоча —
І сканае... жыць не хоча.
Раз лісіцу, адкапаўшы,
Прывязалі мы да кола:
Стала ж грызці што папаўшы,
Сабе бруха распарола,
Растрыбушылась на часці,
Каб не жыць так, хоць прапасці.

Нашто — гадзіну, мядзянку,
Пусці ў шклянае начынне, —
Сама сябе без прастанку
Будзе жаліць, покі згіне!..
Як ужо ж скаціна тая
Або гадзіна праклята
І та цану волі знае,
Што ж для нашага-то брата,
Меўшы розум не скацінны,
Як знаць волю мы павінны?..
А ў астрозе ж няма волі,
Ні ў чом няма і ніколі!
У жалезе тыя дзверы,
Пры дзвярах стаяць жаўнеры,
А народ усё сярдзіты —
Так як бы яшчэ не сыты
Людскіх слёзаў, мукі, енку;
Не гавораць памаленьку,
А ўсё зыкам, а ўсё з лайкай,
А ўсё з боем, усё з нагайкай.

У дзядзінец нас як пхнулі,
Дзвярмі тымі як груkнулі,
Дык і свет мне тым закрыўся,
Як бы у труну забіўся...
Зараз старшы ўзяў за плечы,
Хляснуў трэйчы, так, без рэчы,
Ключы кінуў: «У халодну!»
І аблаяў матку родну.
Нас піхнулі, як у яму,
У цёмну хату чварагранну[7],
Далі хлеба, вады меру
І запёрлі, як за веру
У цямніцах каліsь гэта
Замыкаліся ад света.
Цёмна, зімна... Прытуліцца
Няма куды! А каганец,
Як бы губка, толькі тліцца...
Заспявалі мы ражанец[8].
Пяём, плачым, аж галосім,
Божай ласкі — Праўды просім!
Ў такім енку, са слязамі
І паснулі у той яме!
Абудзіўся я з здзівення:
Глядзіць у шчэлачку праменне!

Я падумаў: ласка ж Божа
І сюды пралезці можа?
Аглядаюся вакола,
Як бы шукаў і тут Бога.
Мне зрабілася вясёла,
Не баюся я нікога,
Зноў ражанец: «Bug ucieczka»[9]
Бляю сабе, як авечка,
Калі бразць ключом у дзверы,
І крычыць хтось: «Гэй, вы зверы,
Вы бунтоўнікі, паскуды,
Выбірайцеся адсюды!
Тут важнейшым трэба сесці,
Вас у вобшчу здадзім гдзесьці!..»
Павялі нас аж на гору...
Па якомусь калідору...
Дзверы, дзверы, ў дзверах дзюрка
І ў каждай жа хвігурка
Як бы тая ж выглядае,
Гдзе ні глянеш, усё ж тая:
Блішчаць вочы, твар, як гліна,
І абросшы, як скаціна...
У турме, як у тым гробе,
Ў адну твар усіх паробе!
Ішлі, ішлі гэтак з гоні.
А смрод такі, што ад воні
Мне аж дух у грудзях спёрла,
Як бы цісне хто за горла.
Тут нам хату паказалі,
Упусцілі, развязалі,
Вады далі, трохі хлеба
І запёрлі зноў як трэба.
Тут народу шмат сядзела.
Глянуў я — душа самлела:
Як падушкі, у іх твары,
Ў хаце пуста, толькі нары.
Ляжаць усе, з нас рагочуць,
Навет мейсца даць не хочуць.
«Давай, — кажа , — хоць на пляшку;
А не даўшы, дык парашку
Цёнгле[10] ты выносіць мусіш,
А ўжо хлеба, дык не ўкусіш, —
Мы табе наб'ём аскому,
Покі вернешся дадому!»
Я спалохаўся, баюся:

«Войча наш!» — кажу, малюся...
Бог даў спомніць: залатоўка
Гдзесь была ў кашулі ўшыта,
Што дала калісь жыдоўка,
Што падвёз у млын ёй жыта.
Прэндка сарваў тую лату,
Кінуў злоты той на хату...
І не ўгледзеў, як хапілі,
Толькі відзеў — водку пілі.
Тагды сталі нас пытацца,
Ці застаўся хто у хатца?
Адкуль, за што пасадзілі,
Па якіх турмах хадзілі?
Іншы вуча, на пытанне
Даць якое паказанне:
«Кажы, — кажуць, — знаць не знаю,
Чый я ёсць, з якога краю.
Малым быўшы, сляпых вадзіў;
А падросшы, і сам брадзіў;
Не прыпісаны да сказкі[11],
І так жыву з Божай ласкі.
Бог мой бацька, зямля матка;
Знаць не знаю» — уся гадка!
Так да марца сядзім ціха,
Не чуваць дабра, ні ліха,
А у марцы шлюць бумагу,
Каб дастаўлена брадзягу,
Супрацiўніка уласці,
Улажэння першай часці,
Што мянуецца «Ліндарам»
Ды йшчэ б'ецца з асэсарам,
Ды каб быў ў ланцуг закуты,
На нагах каб былі путы,
Праважацелі каб срогі[12],
Каб не сходзілі з дарогі,
А каб проста да начала...
І ці мала там пісала?

Вот назаўтра рана-рана
Нам адзежка наша дана;
Паскідалі мы сярмягі,
Салдат узяў дзве бумагі,
Нас звязалі — і ў дарогу!..
Я падумаў: «Дзякуй Богу!
Хоць нас слоначка сагрэе!

Вецерчык на нас павее!
Можа, дожджык срыбны змоча!
Можа, пташка засвяргоча?..
Аж заплакаў я, зрадзеўшы!
От, здаецца б, і не еўшы
Быў бы сыты на свабодзе,
Як той кролік у гародзе.
Тут, здаецца, і сканаў бы,
За свабоду жыццё б даў бы!»

Скаўраначкі Бога хваляць,
А пастушкі агонь паляць,
А і слоначка прыгрэла,
Аж мне ў душы паяснела.
Да палудня ішлі гэтак,
Пры дарозе шмат і кветак:
То пралескі, то сасонка,
Выгравае Божа слонка!
Так пад вечар ў мейсцы сталі,
У халоднай начавалі, —
Было позна. Заўтра зрання,
Якраз у дзень Звеставання[13],
Клічуць мяне да дапросу
(Задаваць то ужо чосу!).
Той судзебнік маладзенькі,
Такі быстры, хоць маленькі,
Усё пытаецца ды піша
І нагой усё калыша.
Як спытаўся мяне, хто я?
Я і спомніў сабе тое,
Як вучыў там той з астрога:
«Знаць не знаю я нічога!»
І старога тут клікнулі,
Папыталіся, раскулі
І дадому павярнулі.
А мне кажа: «Ты, брадзяжка,
Сакрыў званне, будзе цяжка:
Сорак розаг, потым роты!
Скажы лепей — адкуль, хто ты?»
А ўсё піша, піша, піша
І нагой усё калыша.
Пісаў, пісаў, даў другому,
І сам пайшоў кудысь з дому.
Мяне зноў жа да астрогу,
Толькі цяпер, дзякуй Богу,

Адзінокі я застаўся.
Айчым плакаў, як жагнаўся.
«Помні, — кажа, — мяне, сыну,
А я хіба што сам згіну,
А цябе вярну да вёскі,
Хіба б ужо гнеў быў Боскі
Або б Праўда гдзесьці змёрла!
Вырву цябе ім із горла:
Бог паможа, проці сілы
Праўда выйдзе, як з магілы!»
Сказаў гэта, пакланіўся,
Ды ізноў слязьмі заліўся.
І мне стала ў вачах цьмяна,
Зашчымела ў сэрцы рана,
Як бы штосьці адарвала,
Сам не знаю, што мне стала?
Калі гляну, ачунеўшы, —
Я ў шпіталі, захварэўшы...
Галава мая абрыта,
Твар вадой ці чым абліты,
А піць хочацца... здаецца,
Рэчку б выпіў, каб пры рэчцэ!
Так я праляжаў тры тыдні,
Прадаў усе свае злыдні;
Надта есці стаў памногу
І паправіўсь, дзякуй Богу!
Я ж тут ляжу, і ні рэчы,
Што там стары гаспадара.
А ён торбу ўзяў на плечы,
Па начальству просьбы жара!
Трэйчы Вільню, сем раз Ліду
Ён адведаў. Трэба ж ведаць, —
Прысягнуў, покі я выйду,
Навет дома не абедаць!
Раздабыў усе паперы,
Запісаў мяне у сказку...
Што і бацька б, можа, шчэры
Не зрабіў такую ласку.
Так увосень, ў замарозкі
Прывялі мяне да вёскі,
Пазбіралі шмат суседаў!..
Кожны гаварыў, што ведаў:
Як я тут, калі радзіўся,
Як і бацька мой жаніўся...
Паказалі усё чыста,

І што імя мне Каліста
Што завуць мяне Ліндарка
Так, на смех, што чыста гол,
Як ліндар, што на фальварку:
Весь маёнтак — ён ды вол.
Асэсар быў ужо новы,
Чалавечак так, нічога,
Якісь ціхі, нездаровы
І цярплівы... хваліць Бога!
Пасля таго праз паўгоду
Ў марцы ж мяне на свабоду,
Дзякуй Богу, адпусцілі
У той дзень, як і хрысцілі.

## БЫЎ У ЧЫСЦЫ[1]

Раз у дзень задушны[2], якраз апаўночы,
Іду я дадому... а цёмна і ўюга —
Не каб заліўшы саўсім ужо вочы,
Але так, у меру падвыпіўшы туга;
Іду і мяркую: ці то цяпер шчасце,
Як паноў не стала, ці то была доля?
А гадоў да трыццаць, як настала воля...
Там быў аконам, камісар і цівун,
Намеснік, ляснічы, хмістрыня, паны.
І кожны меў права узяць за бізун,
І кожны меў права да нашай спіны...
А цяпер?.. Ой, штосьці кепска выходзе,
Цяпер ці не болей настала паноў,
Не надта свабодна у гэтай свабодзе.
І давай я лічыць паноў новых зноў:
Стараста, соцкі, пісар, старшына,
Пасрэднік,ураднік, асэсар і суд,
З'езд міравы, прысутства і сход...
Аж паднялася са страху чупрына,
Аж пальцаў не стала на весь гэты шчот.
А пальцамі ж трэба карміць гэты люд!..
Іду... калі, шусць, як маланкай спаліць,
Стаіць, так якраз, што умёр, аканом.
Прыгледжуся: — ён, тыкі ён і стаіць,
І стрыжаны ж вус, і стаіць з бізуном...
Схудаўшыся толькі: скура ды косць.
А белы весь чыста, белы, як снег,
Толькі на сэрцы плямачкі ёсць
І плямкі на пальцах — мусіць, то грэх?..
«Брацiку, — кажа, — браце Мацей!

Ратуй маю грэшную душу
З чысца, з рук подлых чарцей,
Альбо навекі загінуць я мушу!
Дваццаць пяць лет, што у чысцы я пёкся,
Усе грахі выбыў, усіх жа адрокся,
Толькі на сэрцы вот грэх, як смала,
Прыліп да мяне і не змыты;
То за жонку тваю: саграшыў, як жыла,
За цябе, што нявінне быў біты.
Ох, ідзі ты са мной, зачарпнуўшы вады,
Аж да чысцу таго, аж на дне,
І выбач ты мяне, што як быў малады,
Твая жонка-краса спадабалася мне.
І палій ты вадой мне на сэрца, Мацей,
Буду Бога маліць за цябе, за дзяцей!»
Я заплакаў з жалю, але думаю: досць
Нацярпеўся і ён, балазе што жывы,
Гэтак ссох ад агню — толькі скура ды косць.
Пайду ў чысцец я той, пагляджу на дзівы!
І дзівы ж, браце мой, у тым чысцу, але!
Чэрці кормяць смалой і гатуюць ў смале,
І цягаюць, і рвуць, запрагаюць у воз,
Кручком цягнуць кішкі і зубамі за нос,
Вочы колюць ражном, пазурамі рвуць твар,
Скрабуць скуру нажом, як на боты тавар.
І каго ж тут няма? — тут і пан, і жабрак,
Ганарал і салдат, аканом і мужык.
А што баб і дзявок — сказаць так —
Ўтрое больш, як мужчын ёсць на лік.
Хто за што, а як баб — дык найбольш за язык.
Языкі ж даўжыні — так, як добры ручнік.
Іх і паляць смалой, і нажамі скрабуць,
І ніяк дабяла прапаліць не магуць.
Надта шмат маладых, што дурылі мужоў;
Чараўніц а і зводняў старых,
Тут я шмат і знаёмых найшоў,
Але так не чапаў ужо іх.
З мужыкоў тут не надта каб шмат,
А ўсё больш дык багатых паноў.
На зямлі адцярпеўшы, наш брат
На той свет, як па масле, пайшоў.
А панам дык і трудна цярпець
Без прывычкі, дык стогнуць, аж страх!
Глянеш, пан, як, здаецца, мядзведзь,
А чорт дышлам запрог і трах-тарарах,

Бічам б'е, ражном пора у тыл,
Морду круце набок і за кудлы трасе;
Стук і крык, аж віхор круце пыл,
Так пан чортавы воз той нясе.
Там паны і муруюць й аруць,
Вымятаюць і свінні пасуць,
А смалу дык, як мёд, там жаруць,
А каменя, як горы, нясуць, —
Усё ў пекле каб дно як зрабіць,
А ўсё толку няма іх работы нігдзе:
Тут яны робяць усё, абы збыць,
І там ім гэтак работа ідзе.
Я ж то думаў, што ксяндзоў тут няма.
Калі зірк! аж і ксёндз тут сядзіць:
Чорт яго аблажыў грашыма,
Запаліў у грашах тых, і ксёндз так гарыць.
А другі дык вісіць, але як? —
Дык і стыдна мне вам гаварыць,
А са стыду чырвоны, як рак,
Вочы жмура, як кот, і гарыць.
А тут баба яго так кляне
Ды так лае з астатніх жа слоў,
Што, каб гэтак хто лаяў мяне,
Я б яго з свету даўно перавёў.
Станавы, старшына і тый тут.
Тым дык чорт усё грошы збярэ,
Скруце цвёрды круцель або жмут
Ды ў горла запрэ і даўбешкай пярэ;
Каласірам[3] ці чым там паліў,
І жмут той у горле агнём запаліў...
Але ж і ёсць там народу, аж цьма!
І роду ўсякага, і стану, і веку,
Хто не жыў на зямлі, таго тут няма;
Няхай Бог сцеражэ там быць чалавеку!
Ледзь я прайшоў аж у тую кануру,
Гдзе аконам Бізуньскі цярпіць.
Чорт і яго запрагае у фуру.
Спацеўшы бедны, а енча: «Дай піць!»
Я брызнуў крапідлам на твар,
Ён аж зрадзеў, як дзіця,
Як хапіўся рукой за той каламар[4],
Што узяў я з вадой яму для піцця,
Дык высахла зараз вада аж да дна;
Ён стаў такі светлы, як гэты дымок,
Стаў нікнуць, засталася пара адна,

І знік так, як нікне на слоньцы аблок.
Не помню, як выйшаў я з чысцу таго,
Праснуўся у хаце на печы аж днём.
Усе кругом плачуць, не ведаць чаго,
А пале мяне дык так, як агнём!
Трашчыць галава, баляць усе косці
І надта вады зажадалася піць.
Напіўся і зноў паў я у млосці!..
От давялося ж у чысцы мне быць.

## ПРАДМОВА ДА КНІГІ «СМЫК БЕЛАРУСКІ»

А праўду сказаў Бурачок у сваёй «Дудцы», што ўсе мы завём нашу мову «мужыцкай», і так — нічагусенька, як бы так і трэба! Здарывалася і мне чытаць і ксёнжачкі, хоць не надта старыя, друкаваныя навет, якогась пана Марцінкевіча, але ўсе, як бы смеючыся з нашага брата пісаны; чытаў я і так перапісаныя вершыкі якогасьці Юркі[1] «Панскае ігрышча», гдзе Юрка надта дзівуецца і як бы завідуе панам тым, каторыя, можа, і больш ад Юркі таго працуюць, толькі, ведама, вучоныя, дык лягчэй і спарней. Я перапісаў і сюды тое «Ігрышча», няхай выбачае пан Юрка, але, дальбог, аж злосць узяла, што Юрка спадабаў тое, што толькі блазну можа спадабацца. Я тыкі і чыркнуў яму «Адказ», але так думаю, што гэта ён, смеючыся з нашага цёмнага брата, напісаў; гэтак думаў, што дурны мужык, дык ужо нічога і не відзе, і не знае! Ой, памыліўся!

Не раўня я Бурачку — ён лепей, можа, знае жыццё мужыцкае, больш, можа, відзеў і чуў; але так мне спадабаліся яго тыя вершы, што і я здумаў папрабаваць што-кольвек напісаць. Ёсць шмат друкованых песняў нашага народа; пісаў Пачабут[2], Я. Тышкевіч[3], апісуючы наш Барысаўскі павет, і шмат хто спісываў іх, а шмат ёсць і не спісаных, але песні ўсе тыя не надта, каб сказаць праўду, харошыя, і нота наша плакучая, аднастайная і песняў васолых не шмат, да і тых ужо рэдка пачуць. Надта за хлебам народ гоніцца, а хлеба дастане, дык і за крамнай вопраткай, і за ляксаванымі ботамі гоніцца, і ўсё маркоціцца. Даўней, кажуць, людзі, як меншым абходзіліся, то больш мелі і васалейшыя былі. Вот я і напісаў з дзясятак песняў «сякіх-такіх». Граю трошкі на скрыпачцы, ну дык няхай і мая ксёнжачка завецца струмантам якім; вот я і назваў яе «Смык». Смык ёсць, а хтось скрыпку, можа, даробе[4], а там была «Дудка» — вот і мы зробім музыку, як тыя жыдкі, што на цымбалах іграюць.

*Сымон Рэўка з-пад Барысава*

## СМЫК

Ох, дайце ж мне смык,
Каб усюды граў.
Хоць бы сам я знік,
Абы голас даў;

Каб той голас чуць
Па усей зямлі,
Гдзе людзі жывуць,
Гдзе даўней жылі!
Выйшаў бы я ў гай, —
Чык-чырык дуба,
Аж ён граў бы, знай,
Як тая труба,
Што пазве на суд
У астатні час
Увесь Божы люд...
Пазаве і нас.
Хвойку б пацягнуў,
Каб аж бор прылёг,
Увесь лес сагнуў
У барані рог;
І завыў бы ён,
Каб усё пачуў,
І наш енк і стон
У бары б лунуў!
Каб бярозку раз
Пацягнуў смыком,
Яна вечны б час
Раўла б з мужыком!
Каб аж зёлачкі
Заігралі бы,
Як шчыголачкі,
Заспявалі бы!
Як смычком бы тым
Камень зачапіць,
Дык пайшоў бы дым...
«Камень не сцярпіць!»
У жарству, пясок,
Каб рассыпаўся,
Каб даў галасок,
Аж захліпаўся!
Каб пачуў усяк
Ды каб літасць меў:
Каб цвёрды размяк,
Каб мяккі аж млеў!
Ох, каб мне той смык,
Каб на сэрцах граў, —
З радасцяй бы знік,
Абы голас даў!..

## ГОРА

Каб мне голас добры мець,
Каб мне гора куды дзець,
Каб жа гора Бог не даў, —
Я б вясёла заспяваў:
Ой, гора ж маё!
Склаў я гора у аклунак,
Склаў бяду сваю, фрасунак[1],
Кінуў ў рэчку аж да дна, —
Прыйшло гора, як штодня.
Ой, гора ж маё!
Ўзяў я гора ды ў анучу,
Кінуў ў полымя-агонь,
Ніяк гора не замучу:
Гора горам, як штодзён.
Ой, гора ж маё!
Ўзяў я гора — ды на вожжы,
Завёў ў лес, скруціў да пня,
Заўтра гора, як свет божы,
Ўлезла ў хату, як штодня.
Ой, гора ж маё!
Склаў я гора ды у дошкі,
Закапаў у велькі роў,
Адышоў ад ямы трошкі,
Аж у хаце гора зноў.
Ой, гора ж маё!
Завярнуўшы у салому,
Гора ў лапаць палажыў,
Абуў лапаць, сышоў з дому:
Гора горам,— лапаць згніў.
Ой, гора ж маё!
Склаў я гора у тарбіну,
Аж у Мэрыку адвёз, —
Думаў: тут або я згіну,
Або з гора будзе лёс.
Ой, гора ж маё!
Дык і тут няма пакою:
З горам лёг і з горам ўстаў;
Мусіць, Бог яго з душою
Разам возьме, разам даў!
Ой, гора ж маё!

## ПЕСНЯ

Чаго бяжыш, мужычок?
— Паганяе мароз.
Чаму ляжыш, мужычок?
— Бо ўрадніка вёз.
Чаго ты п'еш, мужычок?
— Бо і хлеба не еў.
За што ты б'еш, мужычок?
— Бо і сам тое меў.
Нашто ты краў, мужычок?
— Бо свайго не пазнаў.
Чаму ты лгаў, мужычок?
— Бо хтось праўду украў.
Чаму чорны, мужычок?
— Бо ў хаце курыць.
Не праворны, мужычок?
— Бо усякі журыць.
Чаму цёмны, мужычок?
— Бо пад цёмным сяджу.
Чаму бяздомны, мужычок?
— Бо чужога гляджу.
Чаму хіцёр, мужычок?
— Бо дурны, як варона.
Чаго умёр, мужычок?
— Уцякаў ад «закона»!

## ХМАРКІ

Хмаркі цёмныя, мае братанькі!
Вецер гоне вас без дарожанькі,
І нігдзе ж для вас няма хатанькі...
Адпачынеце аж у Божанькі!

Гдзе радзіліся, гдзе ж вы, хмарачкі
Гдзе «т у т э й ш ы м і» называліся!
Леціцё усё, так як ярачкі[1]...
Хоць бы трошкі гдзе затрымаліся!

Зямлі родненькай, знаць, няма у вас,
Ні вуголчыка, ні прытулачку.
А тут вецер дзьме горшы раз у раз,
Леціце жа вы без ратуначку!..

Летучы, слязой зямлю росіце,
Аж шумяць лісткі, зелянее лес;
Уміраючы, жыццё носіце,
Усяму жыццё, сабе толькі крэс[2]!

## ПАНСКАЯ ЛАСКА

Густой пушчай, у марозе,
Ехаў багаты пан,
Аж разбойнік пры дарозе
Затрымаў рыдван[1];
Усё забраў з грашмі ў калеце[2],
Забраў ўсю прыладу,
Ў панскай сеў сабе карэце,
А пан бяжыць ззаду!
Мароз пале пану ногі,
Цела прабірае,
А тут шмат яшчэ дарогі,
А тут дух займае.
Пан разбойніка благае[3]
Ратаваць ад смерці,
Літасцівым абзывае,
Абы не умерці.
І разбойнік злітаваўся:
Кажушок даў пану,
Пасталы, што абуваўся,
Выкінуў з рыдвану.
Са слязамі пан бандыце
Цалаваў у бруха,
Што ацаліў яму жыце
Кавалкам кажуха.
Абяцаўся і маліцца
За яго і дзетак,
Славіць добрасць і дзівіцца,
Што ён зрабіў гэтак!
Ой, не першы то бандыта
І пан не астатні,
Што дабро усё здабыта
Толькі крыўдай братняй.
А тагды ужо, для славы,
Кіне хоць аб'едкі,
Вот і стане пан ласкавы,
Літасцівы, рэдкі!

## НЕ ЦУРАЙСЯ

Не цурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі;
Мазоль — працавітых значок,
Не заразе цябе ён ніколі.
То мадаль за труды і за муку,
Не хвароба якая з заразы.
Не стыдайся падаць ты мне руку,
Бо на гэтай руцэ няма сказы[1]!
Эй! смялей адкрывай галаву
На паклон мой табе да зямлі;
Я тваёй галавы не сарву,
І маёй вы б, паны, не ўзялі.
Не ўцякай ад маёй ты сярмягі, —
Мне не стыдна у ёй ані чуць,
Вот твой храк[2] я не меў бы адвагі,
Чортаў храк на сябе апрануць.
На кашулю глядзіш крывым вокам,
Што у хаце мне бабы пашылі,
Прапацела яна маім сокам,
Цэлы тыдзень яе не памылі...
А твая ж? як той снег, як папер,
І пацеў хто, і ткаў, і бяліў,
І хто шыў, і хто праў... а цяпер
Ты той пот на сябе узваліў.
І кашулі той мне было б стыдна,
Што не сам на яе гараваў,
Хоць бялейша яна — не завідна,
Не вазьму, каб ты мне дараваў!
А кінь вокам на хату маю:
І цячэ, і гніе, і крывая,
Усярэдзіне гной і стаіць на гнаю,
І дзіўлюся я сам, як трывае?
Не дзівіся, панок, як жыву, —
Мне ніхто не памог будаваць.
Хоць лянівым у свеце слыву,
А магу свет карміць-гадаваць.
Ты ж пазнаў, што ў ксёнжках стаіць,
А там розуму шмат ад вякоў,
І ўсё можаш па ксёнжках рабіць;
А гдзе ж ксёнжка для нас, мужыкоў?
Гдзе ж нам розуму толькі набраць? —
Знаем толькі загон ды саху
І жывём, каб касіць ды араць,

Ды жывём мы ў Божым страху.
Каб умеў кіраваць я пяром, —
Я бы ксёнжку счыркаў, як папар,
І аб тым, як мы сеем, аром,
І як косім, і жнём Божы дар.
Можа б, ты прачытаў той грызмол
І да працы набраў бы ахвоты,
Шанаваў бы мужыцкі мазол,
Не цураўся б мужыцкай бядоты,
І падаў бы руку мне, сляпому,
І давёў бы мяне да дарогі:
Не блудзіў бы і я серад лому
І калючак, што раняць мне ногі!
Ой, раняць і ногі, і сэрца,
У сэрцы нянавісць, злосць родзяць,
Дзяржаць у тваёй паняверцы,
Да здрады вядуць, ад праўды адводзяць!..
Даруй жа сляпому, што ходзе ён крыва,
Даруй, што не відзе, хоць плача.
Вобмацкам ходзяць сляпыя — не дзіва,
Відзючы ж у яму як скача?!

## ЯСНАВЯЛЬМОЖНАЙ ПАНІ АРЭШЧЫСЕ

Гдзе ж нам парывацца —
З мудрымі раўняцца:
Чэсць аддаць Аўторцы
У простай гаворцы!
    Не, ня чэсць, то мала —
    Славу сваім трудам
    Сама ты з'яднала!..
    Ты з пальмай прад людам.
Шмат ксёнжак пісалі
Не аб нашым браце:
Лепш чужых пазналі,
Як у сваёй хаце;
    А нас, подлых кмеці,
    Міналі здалёка
    І хавалі дзеці
    Ад нашага вока.
А Ты, пані, сьмела
Заглянула ў хату,
Усё зразумела
І нашаму брату

Працягнула руку
І сэрцам балела,
Глядзеўшы на муку,
І пяром умела
Выліць смутак гэты, —
Што аж душа рвецца,
Што плачуць кабеты,
Ня знаюць, гдзе дзецца!
Чым жа мы аддзячым?
Што ж мы напрыносім? —
Хіба што заплачым
Ды Бога папросім:
Прымі ж нашу дзяку
У малітве, ў сьлёзцы,
Прымі як азнаку
Тваёй славы ў вёсцы.

## СВЕДКА

Апавяданне

У нядзелю ранюсенька заходзіць да мяне Панасюк. Тое ды сёе, а потым кажа: «У тую суботу каб быў ты ў воласці ў сведкі на суд». — «Як у сведкі, дык у сведкі. Хоць я нічым нічога, казаў той, ніколі нікому».

Прыходжу — сядзяць. Я зірк — і ён тут, наш Бартак храмы.

Пытаюць суддзі: «А ты што знаеш аб гэтым дзеле?»

«Чаму, кажу я, не знаю? Ведама, усё, казаў той, знаю».

«Ну дык кажы».

«Як казаць, кажу, дык і скажу ўсё. Так і так, кажу, у мяне, кажу, Каруська (гэта жонка мая) надта, гадзіна, рана ўстае. Так якасць пасля Пятра, якраз пасля нядзелі, чуць зорачка занялася, яшчэ навет і дзяркач на балоце ні разу не дзёрнуў, калі яна прыходзе да мяне і будзіць: «Юзук, Юзук!» — Ці ты, кажу, здурэла, ці што якое? Гэта ж, кажу, нядзеля. «Гэта, — яна кажа, — учора была нядзеля». Я схамянуўся: праўда, учора! Як так, дык так. «Ідзі ж ты, — кажа, — касіць на Лабок». А той Лабок, каб ваша ведалі, — дык чысты лабок. Як пойдзеш касіць, дык сцімбіркі толькі дзылінкаюць ля касы ды казельчыкі скачуць, а сена толькі, сколькі валасоў вунь на галаве ў пана суддзі (адзін лысы быў)».

«Ну, ну, — той кажа, — да дзела гавары! Ці відзеў?»

«Відзеў, кажу, чаму не відзець? Святлюсенька стала, покі расчухаўся. Вот расчухаўся, пайшоў пад свіран — узяць бы касу, а касы нямаш: сюды — нямаш, туды — нямаш! Ніяк не спомню, гдзе дзеў. Аж я гэта, як рэзаў барана яшчэ з восені, ды ўткнуў у сцяну, дык яе там ці ржа пабіла, ці мышы вышчарбілі. Давай я яе кляпаць, а яна — давай крышыцца. Кляпаў-кляпаў, кляпаў-кляпаў... Віджу — нічога не будзе, пара палуднаваць. Папалуднаваў, праўда — Каруська кіслага малака дала крышку, а ў нас перадойка гэты год

была, казалі, палявала, а цяліцца — не цялілася. Пад'еўшы трошкі, думаю: падбягу да Барткі храмога, — вот і ён тут, не дасць салгаць, — пазычу касу. Покі тое ды сёе, туды ды сюды, калі і сонечка стала хавацца. Прыляцеў да Барткі храмога (а ён сусед), калі яго няма. Косіць, кажуць, тыкі ж на Лабку (і ў яго такія ж сцімбіркі); калі я слова сказаць, і Бартак тыц у хату — і зараз пацямнела. Мы сабе аб тым ды аб сім, а пасля таго я пайшоў дахаты вячэраць. Як дзісь помню, еў зацірку з малаком. Дык чаму ж я не знаю? Усё знаю».

«А відзеў ты (пытаюць суддзі), як Пятрук Сушка Бартку біў?»

«Калі?» — пытаю.

«Да тагды, як тое было?»

«Не ведаю», — кажу.

«Які ж ты сведка?»

«Але, кажу, які ж я сведка?»

І пайшоў дахаты.

А, праўда, па дарозе зайшоў да Бэрчыхі. А больш, дальбо, нічога не ведаю.

## ПАЛЯСОЎШЧЫК

### Апавяданне старога лесніка

Трэці год ужо быў леснікам на графскай пушчы, хадзіў цягам па лесе, па оступах, па градах і ведаю, што мядзведзь ёсць то ёсць, але бог бараніў спаткацца аж да гэтага года; ды і цяпер не ведаю, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў.

А вот як было: якраз у задушны дзень. Той дзень на ляпорт мы ўсе сабраліся. Прыйшлі рана, меўся лоўчы паляваць, ды штосьці з жонкай пабіліся, ці што, от так, яму было не да ляпорту, не да палявання, і пратрымаў нас да вечара без нічым нічога, а падвечар загадаў дроў нарубаць; так і да ночы звялося.

Ноч цёмная, мне дахаты трэба ісці праз сваю пушчу, праз оступ; дарогі ніякай няма, ідзеш логам, пасля градой, а там ізноў оступ; праз ручаёк доўгая старая елка, можа, ужо гадоў сто ляжыць выварatня, і па ёй пераходзім, бывала.

Якраз, даходзячы да той выварatні, думаю сабе: «Вот, божа барані, цяпер мядзведзь на спатканне...».

Аж шапка паднялася, аж сэрца ёкае, улез на выварatню, пугач негдзе стогне ў старым дубе — яшчэ страшней стала...

Калі чую: выварatня аж калышацца, хтось ідзе з другога канца на спатканне. Так і ёсць, ён, мядзведзь, сапець, аж страх. А дожджык як з рэшата сыпе. А ведаю я, што мядзведзь палахлівы, але ж і я не надта, каб ад яго смялейшы. Дай, думаю, спалохаю я яго. Як зараву я па-мядзведжаму — уга! А ён — шабалдыхць у балота, а крыкнуў, як чалавек: «Ах!».

Лячу бардзей дахаты, ці не задраў ён маёй каровы? Не, цэла, дзякаваць богу, ходзе па гародчыку. Я ў хату шусць! «Жонка, кажу, мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука!» Калі жонкі і ў хаце няма, дзеці спяць, сучка ляжыць

пад сталом, смалякі гараць на прыпечку, і бульба прэе. Што за прычына? Я туды, я сюды — няма жонкі; ці не павесілася, думаю, са злосці, што мяне няма, а яна тыкі злая. Калі пачакаўшы трохі, і яна ідзець у хату ўся мокрая, а дрыжыць, як лісток.

«Жонка, кажу, мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука».

«А божа ж мой, божа, гэта, кажа, пэўне той самы і мяне, спаткаўшы, хацеў задраць; як зароў, дык аж я ў балота па шыю ўляцела».

«Гдзе ж ты, кажу, яго спаткала?»

«На чортавай пералазцы (так завецца тая вываратня); ішла цябе спатыкаць, ці з двара дахаты клікаць».

«А я, кажу, ішоў дахаты і на той пералазцы спаткаў мядзведзя і спалохаў яго, дык ён у ручай зваліўся».

«А можа то я была?»

«Вот, кажу, я бы цябе не пазнаў?.. То мядзведзь быў, пэўне. Вот ты дык можа мяне спаткала, а не мядзведзя».

«Але? Нябось, кажа, я добра прыгледзелася: і морда яго, і хвост кароценькі, і зароў як трэба, аж засмярдзела».

«А бадай цябе пярун спаліў! Давай, баба, бялізну змяніць!»

Ну, так і будзе — нячыстая сіла, думаю, нас абое ў медзвядзёў перакінула, а мы самі і не ведалі, бо і чаго ж мне па-мядзведжаму раўці і ўсё рабіць, як мядзведзь са страху?..

Дык і хто яго ведае, ці відзеў я мядзведзя, ці не відзеў?..

## ТРАЛЯЛЁНАЧКА

### Апавяданне

Вёска нашая, невялікая вёсачка, меж прыгоркамі, пры балотцы; на выган пясочак з прыгоркаў спёрла, тут і лес блізюсенька, лес хоць і чужы, але выгода ёсць... На канцы вёскі Бартак Сасок жыў. Цяжкі быў чалавек Сасок: за сваю шкоду, хоць з прыпадку зробленую, нікому не даруе, хоць залатоўку возьме, а сам, бывала, уночы конна сядзе і пайшоў чужыя межы спасываць; каменне з свайго поля дык усё, бывала, цягне на чужое... Эй, нядобры быў чалавек: як пазыча суседу рубель, то яму трэба дзень араць, дзень касіць, дзень жаць, кожны дзень па грошу працэнту аддаць, а рубель рублём. Пазыча табе бульбы на насенне — то ўжо сей напалавіну і насенне насеннем аддай; і ўсё гэтак! Купе, бывала, у скарбовым лесе крадзеную калоду, такую, што парай коні як зрушыць, а сам па яе не паедзе — суседаў нашле: удасца — добра, а зловяць — яны прапалі! От які быў Бартак! Бывала, шапкі здымаем прад ім, як прад панам, бо ў яго і пісар, і старшыня — прыяцелі, з акцызнікам у мястэчку, як з кумам, вітаецца, дык як жа тут шапкі не зняць? А можа, думалі, і ён старшынёй будзе?.. Суддзёй ужо ж ён і тады быў. Даўно, праўда, усё гэта было, але было!

Гадоў таму з пятнасце наш Бартак апрануў ужо чорны сурдут, стаў часта ўлегцы ў Вільню ездзіць, казалі — у банку інтарэсы мае, а і да Замораўкі

чагось, бывала, наварачуе. Ад нас да Замораўкі недалёка, але туды ніхто не ўчашчае: там пан надта дзікі якісь быў, Прыбалдоў зваўся; сам казаў, што ён ганарал, але мундзеру таго, каб які там быў у яго ганаралскі, бліскучы — таго ніхто не відзеў, хоць крычаў па-ганаралску і біўся.

Прысылаў ён здвойчы ў нашую вёску то яек, то курэй або парасят купіць, як у яго там госці збяруцца, але, бывала, ні пасланец не аддасць, ні ў двара ніхто не заплаце; вот затым у нас і перасталі яму гэтак прадаваць без грошы, а ён перастаў пасылаць надарэмне. Гаспадарка ў яго там ішла кепска: мы сеем ужо на зіму, а ён сабе касіць зачынае; мы на зіму аром, а ў яго зажынкі, і ўсё гэтак, а ўсё-тыкі ганаралам зваўся!..

Казаў і наш Юдка-каваль, што і яму 100 рублёў вінен, а плаціць не хоча; а вот жа Бартак адважыўся-тыкі яму ўсе свае грошы — семсот руб. — пазычыць, узяўшы обліг на паўтары тысячы. Тагды ўжо з ганаралам часта і гарбату піў! Бывала, пехатой пойдзе да яго, а вернецца ў вялікай панскай каламажцы, а спаткаўшыся з нашым братам на дарозе, здалёку крычыць: «Эй, з дарогі!»

Раз увосень на сельскім сходзе хацелі мы Бартку выбраць у сотнікі і кажым: ён багаты, сын падрос і парабка можа наняць, дык яму латвей і службу адбываць; а то вот Янук Сакол, як пабыў сотнікам, дык і гаспадарку звёў, а зямлю таму ж Бартку ў арэнду пусціў! Няхай, кажым, цяпер і Бартак закаштуе чэсці!.. Аж ён нам на гэта: «Ах вы, галадранцы, сякія ды такія, вы гэта мяне ў сотнікі?.. Да я вас і так усіх у халодную пасаджу, як захачу, і па мордзе біць буду; я вам, жабракам (а ён тыкі і парабіў нас жабракамі), кажа, не раўня: я сам цяпер пан — ганаралскі маёнтак купіў, — а на вас мне плюнуць, і не маеце права, хамуці, мяне сюды і туды памыкаць! Я вам пакажу!..». Ажно страшна нам зрабілася і паразяўляліся мы, як дурні: іншы шапку зняў, іншы так кланяўся, а ўсе замаўчалі. Так мы яго і не выбралі, а больш сталі баяцца.

Гэта ж было ўвосень каля ўсіх святых, а, дачакаўшы каляд, Бартак і сваю зямлю, і Янукову Сакалову аддаў напалавіну. Мы ўжо ўвідзелі, што тыкі і праўда — ён купіў маёнтак. На першага Юр'я перагнаў быдла да Замораўкі, а Прыбалдоў выехаў, як стаіць, з сям'ёй таго ж дня. Юдка-каваль горка плакаў, бо сто рублёў прапалі...

Бартак Сасок купіў ад Прыбалдова маёнтак са ўсім дабыткам, з вазамі і карэтамі, а навет з вялікім, як конь, сабакам; але павінен быў заплаціць даўгі і свае семсот рублей залічыць; а даўгоў тых было ці мала: у банку тысяч трыццаць, то толькі працэнтаў дзве тысячы шторок трэба было заплаціць, а так людзям розным тысяч з дваццаць набралася.

У маі прыехаў судавы ўходчыну рабіць, і нас, суседаў, паклікалі. Глядзім мы, калі ўжо Бартак і Бартчыха з тым судавым разам абедаюць і навет кухар на стол падаець. Бартчыха ў чорнай панскай сукні! На нашую пахвалёнку ніхто і не адказаў... Судавы, пратрымаўшы нас да вечара, прачытаў якісь папер аб тым, што Бартак з Бартчыхай купілі Замораўку, і мы пашлі па хатах, а яны панаваць засталіся. Бартак стаў стражэйшым панам ад ганарала: дзярэ за шкоды — жыць не можна, а крычыць, а лае, а па полі конна, як

праўдзівы ганарал, гарцуе... аж страх! Да касцёла, бывала, калі прыляціць чацвёркай, а яна ў капялюху бліскучым з жоўтай стужкай і брыжыкамі, а наверсе — пане, сядзіць птушка як жывая, чыста ж сіваваронка, толькі што не закаўкае. Ідуць па касцёле, аж увесь народ азіраецца! А кожную нядзелю ў дварэ госці: то станавы, то пісар, то хвельчар, часам пасрэднік, то сакратар з'ездавы, то судавы, а іншы раз і ўсе разам збяруцца, ды днёў тры ў карты гуляюць і п'юць — лепш як у таго праўдзівага ганарала.

А жаць як прыйшлося, дык на полі невясёла ў Бартکі: жыта мала, а жней яшчэ меней: і не ўрадзіла, і жнеі дарагія — плацілі і па тры злоты!..

Бартак злуецца, а Бартчыха спацыруе сабе па садзе з парасончыкам. Не сцерпеў Бартак і кажа да жонкі:

— Вот не шкодзіла б, каб Ваша, пані Каська, сярпок узяўшы, ды па загончыку прайшлася, замейце таго, што дарма па садзе дрыптаеш, — а то жыта сыпіцца і грошы няма гэтак жнеям плаціць.

— Вазьмі ж, васпан, касу ды па сенажатцы прайдзіся, тагды я ўжо апрану сукню ядвабную і капялюш з птушкай дый пайду жаць...

— От жа пойдзеш і ў спадніцы рабой і без капелюха! — скіпеўся Бартак.

— Не дажджэш ты, — адказуе Бартчыха, — каб я, гэтакага маёнтку пані, ды пайшла...

Слова за слова, ды давай вадзіцца!

Бартчыха ды калісь у двары служыла і камісару спадабалася, а злыя языкі па каліндару варожаць, што і старшы сын Бартчыхі надта паспяшыў радзіцца па шлюбе; камісар і пасагу даў за ёй штосьці 300 рублей, але, можа, то і брэшуць? Бартчыха была гумарыстая і не надта каб мужа дбала, и ўсё больш сваім розумам жыла. Бадай ці не яна і пілавала Бартку, каб маёнтак купіў? А купіў ён яго і на сябе, і на жонку разам.

Доўга яны гэтак вадзіліся: і тыя нарадзіны першага сына ён спамінаў, і свой пасаг яна спаміналa, спаміналa і тое, як на вяселлі камісар казаў мужу, што Каська пакаёўкай была, дык раздалікацілася, і ён не павінен змушаць яе да цяжкай работы, а няхай за тыя 300 рублёў дзеўку павек найме...

Разабрала Бартку аж па макаўку! Аж рыкнуў на жонку:

— Вон, сякая-такая! Вон з кодлам сваім: я тут пан, не ты пані!

— Даўно, — кажа Каська, — я чакала ад цябе гэтага, і так хацела кінуць, а цяпер і кідаю!

— Але, кідай, ды ізноў у вёску, — адказаў Бартак.

— І кіну, і ў вёску не пайду, — кажа Каська, — а хоць зараз Прыбалдоў за ахмістрыню, як за паню, возьме да места...

Пазлаваліся, расплюваліся, так як хто зімным перакінуў, і разышліся; а назаўтра Каську пёрлі два чорныя агяры[1] да вакзала, каб ехаць да Прыбалдова. Бартак з той немарасці кінуўся ў гарэлачку, а далей стаў зіркаць на кабетак. Бывала, як хто аб жонцы спомне, што кінула, дык аж счырванее.

— Не вялікая, — кажа, — наўда, што кінула, ды і не так то кінула, як я сам яе прагнаў.

Так, бывала, хваліцца ўсё, што прагнаў ды прагнаў, а людзям гэта і трэба.

Пачакаўшы гадок-другі, мы відзім, што Бартак чыста перамяніўся, раздалікаціўся: на полі не бывае, зімой у месце гуляе... А раз вярнуўся ўжо і з паненачкай такой харошай, цянклявенькай, шталтам за губарнанку, а называў яе якойсьці кузынкай і цалаваў пры людзях. А яна, тая кузынка, такая смяхотная ды вясёлая была, як бы вот паненачка праўдзівая: нічагусенька, бывала, не робе, толькі сабе бегае, выспевуе: «Тра-ля-ля, тра-ля-ля!» Або як калі асядлаюць ёй каня ў якоесьці рагатае сядло, фурман сядзе на другога каня ў самы рабочы час, вот яна і гарцуе па дарогах, іншы раз вярстоў за 10 заб'ецца, коні ў пене, фурман падаб'ецца, яна ўсё «тра-ля-ля, тра-ля-ля...» Так мы яе і празвалі «Траляля».

Але добрая была, вечны ёй пакой: бывала, хто ў вёсцы захварэе, то яна і па доктара пашле, і на лякарства дасць, і дзецям то па грушачцы, то па яблычку. Любілі тыкі мы яе, гэту Траляльо.

Раз за малым не ўсёй вёсцы прыпёрлі павесткі з акружнога аб тым, што жонка Барткава падала скаргу, што муж выгнаў яе з двара, што з другой жывець, што палавіну яе маёнтка забраў, па пяць тысяч на рок даходу цягне, а ёй ні гроша не даець... І давай нас цягаць па сведках: то ў кансыстор, то на следства, то проста ў суд акружны, гадоў за тры. Тым часам нашая Траляля захварэла і ў тры дні навек заснула, пакінуўшы дзіцятка драбнюсенькае. Бартак зажурыўся, як за сцяну заваліўся: палавіну маёнтка Бартчыха адабрала, а другую прадалі з ліцытацыі[2] за даўгі, і пашоў Бартак зноў у вёску, але суддзёй ужо ніколі не быў і ўсім кланяўся. Не доўга, бедны, пабыў і тут, бо за штось у турму пасадзілі... Там ён і ўмёр!

Бартчыха з рок на сваёй палавіне панавала, увосені пажар амёў усе будынкі, а тут прад новым рокам банк прадаў і рэшту маёнтка. Так то скончылася панаванне Сасковае.

Траляленачку ж тую бедную мы, злажыўшыся з душы па дзесяць грошы, аддалі, як сваё дзіця, да Марціскі крывой на мамкі на рок, а далей не ведалі, што рабіць з беднай сіротачкай, дык ксёндз зыскаўся літасцівы — узяў малую кузянятачку да старой арганісціхі і там ужо штось плаце, а яна гадуе і пацеры вуча; і расце паненачка, так гадоў ужо, мусі, з дзясятак мае; а такая вясёлая ды смяхотная, якраз жа Траляленачка!

*1892 г.*

## Каментарыі

**Прадмова да кнігі «Дудка беларуская».** Прадмова да паэтычнага зборніка Францішка Багушэвіча, выдадзенага ў 1891 г. пры дапамозе яго сябра Яна Карловіча (пад псеўданімам Мацей Бурачок).

У «Прадмове» Францішак Багушэвіч настойліва пераконвае сваіх чытачоў, што яны — беларусы, каб заўсёды кожны адчуваў сябе сынам свайго народа. Імкненне давесці чытачам, што яны менавіта беларусы, што так павінны сябе адчуваць і называць, падкрэсліваецца назвай зборніка.

**«Мая дудка».** Аўтограф верша (выяўлены Я. Саламевічам) у лісце да Яна Карловіча за 4 лютага 1890 г. (подпіс *А. Д.*).

Ніжэй прыводзяцца каментарыі Я. Янушкевіча.

[1] Тыкеле — толькі.

**«Дурны мужык, як варона».**

[1] Ад Пятра да Якуба — з 29 чэрвеня да 25 ліпеня па новым стылі.

**«Мая хата».**

[1] Пасэсар — арандатар.

[2] Асэсар — станавы прыстаў.

**«Праўда».**

[1] Ройсты — багна, імшары.

**«Хрэсьбіны Мацюка».**

[1] На хрэсьбінах даюць імя.

[2] Замаслаў — мястэчка Жэмаслаў (Жамаслаўе) у колішнім Ашмянскім павеце (цяпер Іўеўскі раён). Вясной і ўлетку 1861 г. тут адбыліся сялянскія хваляванні, якія скончыліся сутычкай з войскам; непакорлівых цягнулі на пакаранне ў Замаслаў, дзе стаялі казакі.

**«Бог не роўна дзеле».**

[1] Сает — тонкае фабрычнае сукно лепшага гатунку.

**«Кепска будзе».** У паэме адлюстраваны падзеі пачатку 60-х гадоў XIX ст.

[1] Прыварок — мука лепшага гатунку, грачаная, гарохавая, бабовая, а найчасцей ячная для прыгатавання розных страў.

[2] Пад заставу — пад заклад.

[3] Аборкі — вёска пад Маладзечнам са слынным старажытным драўляным касцёлам (пабудаваны ў 1443 г., перабудаваны ў 1773 г.). Да нашага часу захаваліся толькі рэшткі мураванай брамы.

[4] Беразіна — рэчка ў Аборках.

[5] З каліндарка — з календара.

[6] Злыдні — дробныя гаспадарчыя рэчы, транты.

[7] Чвараграну — чатырохкутную.

[8] Ражанец — ружанец, пацеры.

[9] Бог маё сховішча, мой ратунак — пачатковыя словы каталіцкай малітвы.

[10] Цёнгле — заўсёды.

[11] Сказка — рэвізская сказка: спіс асоб падатковага стану, які складаўся пры рэвізіі-перапісе.

[12] Срогі — строгі, суровы.

[13] Звеставанне — веснавое свята 25 сакавіка па новым стылі.

**«Быў у чысцы».**

[1] Чысцец — чысцілішча, месца на тым свеце, дзе, паводле хрысціянскай рэлігіі, адбываецца ачышчэнне нябожчыкаў ад розных дробных грахоў, пасля чаго ў іх узнікае шанец трапіць у рай.

[2] Дзень задушны — дзень памяці памерлых, 1 лістапада.

[3] Каласір — перароблена са слова «карасін», газа.

[4] Каламар — чарніліца; тут ужыта ў іранічным сэнсе як назва нейкай шкляной пасудзіны, у якой можна прынесці ваду.

**Прадмова да кнігі «Смык беларускі».** Ёсць меркаванне, што «Смык беларускі» гэтаксама, як і «Дудка беларуская», выйшаў у Кракаве. Рукапіс зборніка не захаваўся; ускосна можна меркаваць, што кніга складалася ў 1890—1894 гг.

[1] Юрка — псеўданім Фелікса Тапчэўскага (1838—1892), аўтара «Панскага ігрышча», змешчанага Багушэвічам у сваім зборніку.

[2] Пачабут (Марцін Пачобут-Адляніцкі, 1728—1810) — прафесар Віленскага ўніверсітэта, астраном і асветнік, шмат увагі надаваў навукова-папулярным выданням,

календарам, клапаціўся пра стварэнне ў Вільні літаратурнага таварыства, пашыраў у Беларусі прыродазнаўчыя веды.

[3] Тышкевіч Яўстафій (1814—1873) — фальклараст і этнограф, аўтар кнігі «Апісанне Барысаўскага павета» (Вільня, 1847). Гэта кніга, знаёмства з ёй, а пэўна, што і [redacted] яе аўтарам, нейкім чынам паўплывала на выбар Ф. Багушэвічам псеўданіма Сымон Рэўка з-пад Барысава, якім паэт падпісаў «Смык беларускі».

[4] «Смык ёсць, [redacted] хтось скрыпку, можа, даробе» — пасля выхаду «Смыка беларускага» Багушэвіч падрыхтаваў «Скрыпачку беларускую», аднак выдаць яе не ўдалося. Аднайменную кніжку ў 1906 г. выдала паслядоўніца Ф. Багушэвіча — Цётка.

**«Смык».** У вершы пададзена паэтычнае крэда аўтара, дзе праявілася яшчэ адна [redacted] граней творчай індывідуальнасці Ф. Багушэвіча.

**«Гора».**

[1] Фрасунак — клопат, непакой.

**«Песня».** Верш пабудаваны ў форме дыялогу.

**«Хмаркі».**

[1] Ярачкі — авечачкі.

[2] Крэс — канец, мяжа, смерць.

**«Панская ласка».**

[1] Рыдван — лёгкі адкрыты вазок.

[2] У калеце — у скураной торбе.

[3] Благае — просіць, моліць.

**«Не цурайся».**

[1] Сказа — паходзіць ад украінскага «сказ» — шаленства; тут абазначае заразную хваробу.

[2] Храк — фрак.

**«Яснавяльможнай пані Арэшчысе».** Верш упершыню апублікаваны ў часопісе «Варта». 1918. № 1. Твор напісаны з нагоды 25-й гадавіны літаратурнай дзейнасці Э. Ажэшкі, з якой сябраваў паэт.

**«Сведка».** Узята з газеты «Наша ніва». 1907. № 9 (2/15 сак.), дзе апублікавана ўпершыню за подпісам Мацей Бурачок. Дата напісання невядомая. У грунтоўным артыкуле Антона Луцкевіча адзначалася: «Яшчэ ў Вільні — перад выездам на вёску — Багушэвічу часта не хапала тэмаў да вершаў і апавяданняў, а патрэбу пісаць ён меў. Дык не раз прасіў Нагродскага даваць яму тэмы. Гэтак паўсталі два маленькія апавяданні прозай: «Сведка» і «Дзядзіна».

**«Палясоўшчык».** Узята з газеты «Наша ніва». 1907. № 10 (9/22 сак.), дзе апублікавана ўпершыню. У апавяданні Ф. Багушэвіч імітуе вуснае маўленне.

**«Траляленачка».** Апавяданне выйшла ананімна, асобным выданнем; на тытульнай старонцы пазначана: 1892, II.

[1] Агяры — жарабцы.

[2] Ліцытацыя — аўкцыён.

## АЛЬГЕРД АБУХОВІЧ
## (1840—1898)



Беларускі паэт, мемуарыст, перакладчык Альгерд Абуховіч (псеўданімы Граф Бандынэлі, Olgerd gr.) паходзіў са шляхецкай сям'і, звязанай па жаночай лініі з італьянскім графскім родам Бандынэлі (адсюль і псеўданім). У 1852—1854 гг. вучыўся ў Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, што паўплывала на фарміраванне яго светапогляду. Ужо пазней, у час падарожжаў па Еўропе, і асабліва тады, калі Абуховіч жыў у Жэневе, узмацнілася яго цікавасць да кальвінізму.

Адзін з пачынальнікаў жанру байкі ў беларускай літаратуры; пісаў у рэчышчы крытычнага рэалізму. Перакладаў на беларускую мову творы польскай, рускай і заходнееўрапейскіх літаратур. Пры жыцці не меў магчымасці друкавацца, і да нас дайшла толькі невялікая частка яго літаратурнай спадчыны; вельмі адметны твор — мемуары Абуховіча (надрукаваны ў газеце «Гоман», 1916). Аўтар паэмы пра шведскага караля Карла XII («Дума аб Каралю XII»), сацыяльнай сатыры на парэформенную Расію («Старшына»), пісаў пра праблемы свабоды чалавечай асобы («Ваўкалака»). Вёў дыскусію з Ф. Багушэвічам аб пурызме і дыялектнай аснове беларускай мовы («Мне перш за ўсё ідзе аб тое, ...каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры атрымалі як нашырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульнабеларускія... У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа»). Удзельнічаў у паўстанні 1863—1864 гг., за што быў сасланы царскімі ўладамі ў Сібір. Пасля вяртання меў намер раздаць зямлю сялянам, але з-за нязгоды сям'і вымушаны быў пакінуць фамільны маёнтак; заняўся рэпетытарствам у Слуцку. Там вакол яго збіралася творчая моладзь, будучыя ўдзельнікі незалежніцкага і вызваленчага руху — Язэп Дыла, Пётр Карповіч і інш. Памёр у нястачы ў Слуцку, дзе і быў пахаваны.

*В. Маракоў*

### ВАЎКАЛАКА

Чараўніца уракла:
Быў я калісь ваўкалакам,
Бегаў чортам ўздоўж сяла;
І к гавядам поўзаў ракам,
І людскую знаў гаворку,
І з сабакамі з надворку
Гаварыць я спосаб меў.

24 Зак. 1799

За гумном раз ціха сеў,
Ажно Лыска прыляцеў,
Як на панскай службе стаў,
Па прыязні ён мне кажа:
«Кінь ты, куме, жытло ўражжа:
Цяпер марна прападаеш,
А ты ж гэткі спосаб знаеш:
Майму пану стань служыць,
Табе добра будзе быць».
«А ты дурню, думаў я:
Мне вярнуцца да сяла?
З сваім панам і сялом
Задушыся ты калом,
Хоць галодзен — я свабодзен,
Гдзе мне цягне — там бягу,
На свабодзе прападу,
А ў няволю — не пайду!
Буду вольным ваўкалакам,
Ты ж — на прывязі сабакам!»

*1860—1861 гг.*

## СТАРШЫНА

Хоць які парадак дай,
Адно тое, братка, знай,
Што крутнёю ўсёй накруціш
І найлепшэ збаламуціш.
Льва-манарха Воўк прасіў,
Каб вайтом яго зрабіў,
Бо Авечкі скрозь ў бязладдзі,
Вельмі шкодзяць ў панскім садзе,
Ды і самі прападаюць;
Бо, як жыць, яны не знаюць.
І Ліса за ім прасіла
(Яе жонка Льва любіла),
Воўк з Лісіцаю звязаўся
І як можна так стараўся:
Дзе прасілі, дзе ўздыхнулі,
Дзе гасцінца падаткнулі,
Каб дабіцца да медалі.
І плацілі, і прасілі, і стагналі...
Леў прамовіў: «Ходзяць толкі,
Што Авец з'ядаюць Воўкі».
І сазваць сказаў народ
На звярыны вольны сход,

Паспытаць усіх звярат:
«Воўк ці добры, ці ён гад?»
Чыны важны ўсе прыйшлі,
Ўсё начальства тут было,
Ды прычыны не знайшлі,
Зла аб Воўку не чутно:
Пад судом ён, бач, не быў
І з начальствам добра жыў,
Дык медаль пан войт надзеў
На авечы цэлы хлеў.
А Авечкі што сказалі? —
Іх на сход зусім не звалі,
А ўпісана ў пратаколе,
Што «Авечкам дана воля».

## ВОЎК І ЛІСІЦА

*На табе, нябожа,*
*Што мне нягожа!*

Раз папалася лісіцы
Ажно тры злавіць курыцы.
Прыдушыла, дзве з іх з'ела,
Трэцю скрыла. Сама села —
Як па працы — пад стажком.
Воўк галодны йшоў нішком,
А што ■ кумою быў знаём,
То такую рэч павёў:
— Ах, сястрыца, — кажа кум, —
Я ад рання браў на вум,
Каб што-кольвек мне пад'есці,
А тут, на злосць, негдзе ўлезці.
Падхапіў бы я хоць птушку...
Да авец падходзіў збочку,
Ды пастух чупрыну чэша,
І сабака прытым брэша —
Прыступіцца няма складу!..
Дай ты, кумка, яку раду!
— Ох, мой куме даражэнькіі
То ж стог сена цалюсенькі,
Еж, як хочаш, — не шкадую,
Хоць апошнім, ды частую!
А маўчыць наша лісіца,
Што пад корчам ёсць курыца.
— Дзякуй, дзякуй! — сказаў шэры
І пацягся без вячэры.

## СУД

Там, дзе пушча, за прасёлкам,
Колісь ліс жыў з шэрым воўкам,
I, як весць людская кажа,
Жыло згодна племя ўражжа.
    Ды да часу.
Хутка сварка там пайшла:
Скрыўдзіў нечым ліс ваўка.
    Дайшло дзела да суда.
Можа, праўда, можа, не,
Адвакаты — два сабакі на судзе.
Кожны брэша, на праціўніка вядзе.
А суддзёю быў глушэц,
Ён разумны ці глупец,
Тое трудна разгадаць,
Адно толькі, як чуваць,
Што рашыў ён дзела так:
Выгнаць з суда ўсіх сабак,
А воўк з лісам плоцяць штраф.
Воўк — бо хлусіць ён напрасна,
Ліс — бо злодзей.
    Гэта ясна:
Круцялёў чым разбіраць,
Лепш абодвух пакараць.

## ДУМА АБ КАРАЛЮ XII

Зоры паўночы кроўю палаюць,
Снежны крывавяць прасторы;
Людзям варожбы ліхі звяшчаюць
Зораў паўночных разоры.
Вось тры малойцы — асобна кожны —
Буйныя думы гналі з укрыцця,
На поўнач кідалі ўзгляды трывожны
З мыслю, што стрэнуць у жыцці.
Той каралеўскай жадаў кароны,
Не дбаў аб чэсць у патомных,
Каб толькі д'ядэмы меці злачоны
На скронях сваіх нікчомных.
Гэты, дзе поўнач, зроджан на цара,
Імператорам меў стацца,
Хоць баранілі народ і вяра
Айчыне з грунту змяняцца.
Дала абодвум злая фартуна

Сваіх дасцігці намяраў:
Першы на Польшчу кінуў цалуны,
А той расшырыў моц цараў.
Трэці, на стромкай апёршысь скалі,
Дзе вілі гнёзды саколы,
Думаў прайначыць злой долі шалі,
Не дбаў аб цяжкі мазолі.
Зоры шырока неба крывавяць,
Крывавяць землі і воды,
Гэтак шырока тваё расславяць,
Манарша, імя народы...
Памерклі зоры, памеркла слава,
Русь у няволі марнее.
З грбу Кароля, з поля Палтавы
Устаньце, народаў надзеі!

## МЕМУАРЫ

(фрагменты)

### Успаміны Кіева

Радзіўся я 25 ліпеня (дзень святога Якуба) 1840 года. Прынялі мяне з жалем і абразай: быў я калекам. Думалі, што або зараз памру, як брат майго бацькі, каторы меў гэтае самае калецтва, або буду ідыётам, як Генрык Быкоўскі з Русаковіч, таксама трывусны. Тым часам я гадаваўся, і пастанавілі аддаць мяне ў гімназію ў Слуцак. Але і мне самому не хацелася, і бацькам маім таксама не хацелася аддаваць калекага хлопца на кпінкі і здзекі равеснікаў; трэба было зрабіць спярша аперацыю, каторай тагачасныя дактары на Беларусі неяк баяліся. Слылі тады як аператары Пірагоў, Кажанеўскі і Караваеў. Гэты апошні быў прафесарам Кіеўскага ўніверсітэта, а да Кіева было і найбліжэй і найлягчэй дабрацца. Пачалі выбірацца ў Кіеў да Караваева, а ў гэтым часе разышлася чутка, што царыца, жонка Мікалая I, занядужыла на вочы, што маюць рабіць ёй аперацыю і што Караваева на вясну паклікалі ў Пецярбург. Дык едзем перад вясною, але ўжо коламі, па чарнігаўскіх растопах. Дарога ішла на Лоеў і Чарнігаў. Запрагалі ў адну карэту шасцёра коней, а пад фарысія — трое або чацвёра, у каламажку, што ішла ззаду з нашай службай, запрэжана было пяцёра каней. Мы нідзе не загразлі, але бачылі карэты, цягнутыя некалькімі парамі валоў, і то на паштовым тракце (шашы яшчэ не было). На Дзясне, пад Чарнігавам разлітай на 10 вёрст, сарвалася бура, і паром наш занесла на нейкі бязлюдны груд, дзе і прыйшлося нам начаваць. У Броварах уз'ехалі мы на шашу і пасля сталі над разлітым Дняпром. Мост тады яшчэ будаваўся: перабіраліся паромам.

Не стае ў мяне агня, каб апісаць мае тагачасныя дзіцячыя ўражанні, калі я ўбачыў Кіеў, а памятаю ўсё: і нейкага ваеннага старца, які раіў матцы маёй, — думаючы, што яна сама едзе лячыцца, — не звяртацца да дактароў,

але піць ваду з Дняпра, бо святая; і аднаго з нашых фурманоў, вельмі харошага маладога русавалосага хлопца, каторы выказваў мне спачуццё, што мяне будуць «рэзаць», — сягоння бы паказаў яго, каб ён быў гэткі малады і гожы, як перад 40 з гарой гадамі (было гэта ў 1852 г.). У канцы канцоў прыехалі на Ліпкі, там, дзе сягоння палац, а тады былі нейкія быццам «мінеральныя воды» і гасцініца. Доўга праглядалі нашы пашпарты, перш чым упусцілі нас у некалькі саўсім не элеганцкіх святлічак.

Назаўтра паехаў я з маім вучыцелем, п. Прыборам, да Караваева, каторы прыняў нас у ўніверсітэце (затым прызнаеце мне, што я быў у Кіеўскім універсітэце!). Караваеў агледзеў мяне і аперацыю назначыў на другі дзень, у панядзелак. А панядзелак гэты прыпадаў у вялікім тыдні, 13 красавіка. Панядзелак і трынаццатае! Караваеў сказаў матцы, што хлярафармаваць не будзе, «а хлопчык будзе крычаць». Я сказаў, што крычаць не буду. Здаецца, што Караваеў узяў за аперацыю 150 руб., Цэцурын — 50, а Кучэўскі — 25; здаецца, што не болей. Надышоў панядзелак. А 10-й гадзіне раніцай прыехаў Караваеў з Цэцурыным і студэнтам-медыкам п. Кучэўскім. Вынялі інструменты і зажадалі лаёвай свечкі, каб пацягнуць аб яе нажы. Я пачуў такое дакучлівае дрыжанне на ўсім целе, што выбег адліць ваду. Гэтага адразу ніхто не ўгледзеў, але скора агледзеліся, што мяне няма, і думалі, што я ўцёк, так што я, вяртаючыся, сустрэў усіх аператараў, каторыя хацелі выходзіць. Вярнуў іх, сеў у крэсле з поручамі; мяне абвязалі сурвэткай, як да снедання. Аперацыя цягнулася 8 мінут. Ніхто мяне не трымаў, я сам рукі прыціскаў да поручаў крэсла. Мая матка сядзела ў суседнім пакоі і казала, што чула незвычайны шум у вушах і толькі пад канец пачула, як некалькі разоў нешта прыкра скрыгнула: мабыць, было гэта абразанне шпілек, удзетых у вусны. Як скончылася аперацыя, пачалі мяне хваліць за маю цярплівасць. Караваеў расказваў аб гэтым у клініцы. Прайшлі пара дзён, і раптам уначы палілася з артэрыі кроў, падняўся перапалох. Мой вучыцель, п. Прыбора, павінен быў ісці да доктара, але гэта даслоўна ісці, бо, калі не памыляюся, то ў Кіеве было тады ўсяго панства — тры рамізу, а ў тых, што хадзілі ноччу, пыталіся пашпартоў, і хто не меў прыпадкам пры сабе пашпарту, садзілі ў халодную. Аб ліхтарнях на вуліцах яшчэ там ніхто не чуваў. Кроў лілася, а Прыбору не пускалі да Караваева, каторы жыў блізка каля ўніверсітэта, здаецца, у старане батанічнага саду. Па чатырох гадзінах кроў затамавалі. У два дні пазней, дужа рана, ізноў бухнула кроў; гэтым разам п. Прыбора знайшоў рамізу, але Караваеў «уехал говеть». «У каторую царкву»? — «Не могу знать». Аднак жа хутчэй, чым першы раз, прыбыла помач.

У Кіеве пазнаў я сваіх стрыечных дзвюх сясцёр, незвычайна гожых, падрастаючых ужо дзяўчынак, ды брата Яраслава, крыху старшага за мяне, і маленькага Багдана. Дзядзькі мае жылі ў Кіеве дзеля выхавання дзяцей; ім зайздросцілі, што маюць лёгкую дарогу ў Кіеў: калі перавазіліся туды, то дзядзька мой загадаў пабудаваць байдак, на каторы паставілі 4 коней, гэтулькі сама кароў і ў прапорцыі рознай іншай гаспадаркі з патрэбнай мерай корму, а ў каюты памясцілі паноў і слуг, ну і паплылі, як у каўчэзе Ноя

(гэта тады называлася, што падарожжа нічога не каштуе!). Дом у Кіеве яны мелі свой, дужа блізка ад універсітэта, здаецца, што на Валадзімерскай вуліцы. Праходзіць трэба было міма самога ўніверсітэта і ісці далей; было пара дамоў мураваных, пасля вялікі драўляны дом Аскеркаў, а побач гэткі ж, толькі крыху меншы, дом майго дзядзькі з вялікім пустым пляцам, каторы злучаўся ўжо з полем. Поле не было засеяна і выглядала, як нейкі гарадскі выган. Цешыліся, што жывуць быццам у вёсцы, а было гэта ад універсітэта, як ад камітэту да Бернардынскага касцёла ў нашым Слуцку, не далей. У гасцініцы «Мінеральных вод» менш было шыку, чым цяпер у Лейбіхі ў Слуцку, толькі гасцініца прытыкала да царскага саду, у каторым дзіўныя алеі вялі на бераг Дняпра. Відокі там такія дзіўныя, што хоць пасля я бачыў свету, аднача відокі Кіева і яго хараство назаўсёды асталіся ў мяне ў памяці. Першы раз бачыў я там тэатр. Быў ён на Падоллі, мураваны, брудны, цесны і цёмны. Ігралі дзве нейкія штукі: польскую і расійскую, здаецца, што ў абодвух было мардабойства, і памятаю, што ў расійскай былі нейкія брыдкія словы. Рух на Крашчаціку, колькі памятаю, не быў большы, як у Слуцку на Мастовай вуліцы ў таргровы дзень. У царскім садзе публікі збіралася многа, нагода служыла, ды і вясна там пачынаецца раней, як у нас. Усе ведалі аба мне і звярталі ўвагу. Я быў героем дня, што дужа патурала маёй амбіцыі. Хоць у тэатры ігралі штукі па-польску, але на вуліцах мовы польскай, даслоўна, не чуў, і ў гэтым, як і ў многа чым іншым, знайшоў я вялікую перамену, будучы ў Кіеве ў 1878 гаду.

Міла было б спамінаць тыя патрыярхальныя часы праўдзівага дастатку і на свой спосаб выгоды, каб не дзве асобнасці тых часоў: прагавітая, падозрывая ўласць (паліцыя, жандармерыя) і пастаянны на ўсе бакі свіст розаг. Нават з успамінамі гэтага падарожжа лучацца розгі: на тры дні перад выездам зрабіўся ў нас «судны дзень», выйшлі на яў нейкія плёткі. Некалькі асоб высеклі, між іншым таварыша падарожжа, маладога лёкая Яся. Дастаў ён каля 30 розаг, хоць я дужа яго жалеў, але не важыўся дапытвацца, за што, бо і сам у страшнай гразе быў трыманы. Людзі аднак жа з гэтым асвоіліся так, што гэта было тэмай кпінак і прыпінак. Ясь, напрыклад, казаў, што яму «мух ганялі», а сляды таго «гаяння мух» прывёз нават дамоў з Кіева, і кіеўскі «незабуд» трываў цэлы месяц. Расказваў ён, што зараз па экзекуцыі загадалі яму трымаць за ногі Магдалену, каторая ўвесь час, як яе білі, плакала, паказваючы яму ўсе свае «сакрэты». Што да Магдалены гэтай, то я пэвен, што там яе віны ніякай не было, але была гэткая прычына: жыў у нашым баку п. Пушчык, абывацель, расіец, эксдзекабрыст, скінуты з палкоўніка гвардыі ў салдаты (значыць, мучанік ідэі, сын свабоды). Гэты Пушчык расказваў пасля ў салоне вось як аб гэтай экзекуцыі: «Даглядзеў я, што з нейкага часу да кавы даюць мне замест смятанкі — малако, і то штораз радзейшае. Доўгі час не прыбраўся я сказаць аб гэтым, але раз уначы не мог я спаць: боль раны (з тых часоў, як быў салдатам) страшэнна мне дакучала, а раніцай замест смятанкі дастаю сівое малачко. Гэта мяне залавала. Дык, нічога не кажучы, кажу лёкаям (нават і імёны памятаю: Аляксандру і Антону) склікаць усю бабскую службу ў кантору — кантора побач стайні,

дзяўчаты на зазыў хлапцоў вясёла папрыбягалі, і тут пачалася расправа. Фурманы Сцёпка і Тодар як адлічылі кожнай па 50, то ўсё наладзілася, хоць, можа, азадкі схудлі, але малако патлусцела». Пан Пушчык расказаў з гумарам, і гэта ў той час трапляла ўсім да перакanання. Гэткія парадкі трывалі ў нас яшчэ цэлы год пасля нашага падарожжа ў Кіеў, а перамена па лепшае, якая пасля сталася, варта таго, каб яе апісаць у асобным раздзеле.

### Палажэнне сялян

Святой сваёй павіннасцю лічу апісаць палажэнне сялян, каторае ў першым раздзеле зачапіў нават неспадзявана для сябе.

Пасля таго, як мы вярнуліся з Кіева, да канца лета былі мы яшчэ дома, гэта значыць у Калатычах. Перад пачаткам школьнага году пераехала мая матка разам са мной у Слуцак на пастаяннае жыццё, а бацька паехаў у ўлюбёнае сваё Грабова ў Мазырскі павет. Стасункі з воласцю былі ўжо напярэдадні волі лепшыя; лагоднымі іх назваць няможна (за цара Мікалая лагоднасці не было), а толькі былі быццам патрыярхальныя. У Грабове было некалькі сялян-гаспадароў, людзей шанаваных і справядлівых, каторыя былі ў зажыласці з самім панам, — то гэтым стрымлівалася крыху страшэнная самаволя наместнікаў. У Калатычах жа астаўся неаграніченым уладаром Кароль Булгак, казалі, банкарт «слаўнага» Булгарына, з мясцовых сялян, чалавек малады, але злога характару, — і бяздольнікі завылі.

Пад канец зімы з'яўляюцца пасланцы ад калатыцкіх сялян, молючы ў маткі маёй ратунку. Першай прыбыла маладая гожая дзяўчына Куліна, каторую розгамі прымушалі да любові; ёй пазволілі астацца ў Слуцку і зараз знайшлі службу, а другія дасталі на рукі нешта кшталтам «жалезных лістоў», каб ніхто не смеў і пальцам кранудь аж да прыезду пані. Апрача гэтага, нарочны пасланец завёз ліст да майго бацькі, у каторым паведамлялася, што на Вялікдзень прыедзем у Калатычы.

Тут скажу, што я першы раз бачыў уплыў духу надыходзячай волі: заместа адпору са стараны бацькі наступіла яго поўная згода парабіць уступкі сялянам. Запрасілі на нараду мясцовага пароха, уніяцкага ксяндза Андрэеўскага, улажылі нешта кшталтам канстытуцыі, і з гэтага часу быт нашых падданых на вачах пачаў папраўляцца. Бог даў адзін за адным некалькі ўраджайных гадоў, так што даходы ўтрое павялічыліся, новую прыкупілі вёску (Заполле), і тысяча «душ» людзей мелі працаваць на хлеб для маладога Ольдзі, каторы сягоння, пішучы гэтыя ўспаміны, павінен прызнацца, што не мае ані «буднага хлеба», ані страхі над галавой, ані нічога, апрача колькіх сваіх прыяцеляў: talis est mutatio rerum!

Услед пасля гэтага бацька мой спрабаваў ачыншаваць сваю вёску Бубноўку (сягоння ўласнасць Фэлькі Чарноцкага); хаця гэта спярша не аказалася практычным, бо было перадчасным, але сягонняшнія ўспаміны Бубноўскай чыняць славу памяці даўнейшага іхнага пана.

Растучы, я развіваўся, а перада мною штораз харашэй рассцілаўся свет: на царскім троне сеў, слаўнай памяці, Аляксандр II, насталі часы, аб каторых можна сказаць, што людзей нікчэмных яны не бачылі. Не стала бы паветра для подлых інстынктаў. Няхай цяперашняе пакаленне зайздросціць, што я на гэта глядзеў сваімі вачамі. Чэсць тагачаснай кіеўскай моладзі, каторая была дэмакратычнай і «хлопаманскай».

### Мой дзед

*Дзед мой бачыў Рабесп'ера*
*Адвакатам і акторам,*
*Ды не думаў, што кар'ера*
*Яго зробіць дыктаторам.*

Дзед мой Юзаф Абуховіч, граф Бандзінелі, мабыць, ніколі не бачыў Рабесп'ера; калі быў у Парыжы і Версалі як шамбелян польскага двара, то гэта будучая знакамітасць сядзела недзе яшчэ ў Арас. Калі ж закіпела рэвалюцыя і Рабесп'ер выплыў наверх, то дзед мой быў на іншым становішчы: спярша быў жаўнерам пад Касцюшкам, а пасля, як баніта, выняты з-пад права, пад прыдуманым прозвішчам тры гады быў фурманам у ваяводзіхі Хадкевічыхі на Падоллі: talis est mutatio rerum. Мабыць, з тых часоў ці, можа, і раней завязаліся нейкія асаблівыя стасункі з Пулавамі і сям'ёй князёў Чартарыйскіх. Дзед нябожчык аб сваёй мінуўшчыне ніколі нам не расказваў — тое, што мы ведалі аб ім, то толькі недзе са стараны,— але ведаю, што ён старасвецкія сямейныя памятнікі адаслаў у Пулавы, з Пулаў атрымліваў і розныя весткі. Калі я ў 1860 годзе быў прадстаўлены кн. Адаму Чартарыйскаму, то ён, 90-гадовы старац, пачуўшы маю фамілію, быццам ажывіўся і спытаў: «Сын шамбеляна?» — «Унук, міласцівы князю». — «Так, Юзаф Абуховіч, мусі, даўно ўжо не жыве, ён старэйшы быў за мяне», — і з гэтымі словамі быццам ізноў асунуўся. Каб гэта і не быў князь Адам, то ўсё ж такі з такім паважным старым чалавекам нельга было адважыцца нахрапам распытвацца аб падробніцах з мінуўшага; дык захаваў я сваю цікавасць да якой-колечы шчаслівейшай зручнасці, каторая ўжо не надарылася, хаця пасля не раз, нават часта, бачыў я старога князя. Калінка мне казаў, што яшчэ мяне не знаючы, чуў размову князя Адама са сваёй сястрой княгіняй Віртэмберскай (аўтаркай «Pielgrzymek z Dobromila»), як маю фамілію яны ўспаміналі ў нейкай вясёлай гутарцы, але аб што ішло — не памятаў, а калі я быў у Парыжы, княгіня ўжо не жыла. Можа, нейкія дагэтуль нязнаныя памятнікі кінуць святло з таго кавалка жыцця і пастункаў майго дзеда.

### Мая жонка

4/IV 1894. Сягоння раніцай скончыўся 21 год ад смерці святой памяці маёй жонкі. Сем не споўна гадоў трывала гэтае нешчаслівае пажыццё. Палажэнне было цяжкое, а дамовы спакой руйнавала інтрыганка, вельмі падобная да старой паненкі Вікторыі. Нябожчыца жонка мая была асоба добрая,

гожая, вельмі мілая і ветлая ў стасунках з людзьмі. Спевам сваім кожнага магла абвараЖыць. Вартая была лепшай долі, чымсьці тая, якую яна мела: я яе ніколі не любіў і шмат чаго выкідаю сабе... Мне перш за ўсё трэба было спазнаць сябе і ніколі не жаніцца або пайсці на грашовы інтарэс і забяспечыць сабе і бацькам быт, да каторага само сабой былі мы ўсе прывыкшы.

У дамовым пажыцці я быў жорсткі і карысны. Матэрыяльныя няўдачы з аднаго, а інтрыгі — з другога боку атруцілі нам жыццё.

У тваіх руках, Божа, суд справядлівы...

## «Граф Бандзінелі»

Я падпісваюся на маіх беларускіх творах «Граф Бандзінелі»: гэта прозвішча маёй бабкі, апошняй з гэтага роду, каторы выдаў такую знакамітасць, як папеж Аляксандр III. Бачыў я на plet fond у зале «Трохсот» у палацы дожаў сцэну: цэсар прымушаны пасці ў ногі папежу. Папеж стаўляе адну нагу на сагнуты карак цэсара і кажа: «Super aspidem et basiliskum ambulabo et conculcabo draconem et bovem». Распалелы ў сваім паніжэнні дэспат кажа: «Пакараюся Пятру, а не табе». А тады Аляксандр III, граф Бандзінелі, становіцца абедзвюма нагамі на яго імператарскай спіне і зычным кажа голасам: «Et Petri et mihi». З роду Бандзінеляў быў слаўны тварэц «Laokoona». У італьянскай бацькаўшчыне слыў гэты магнацкі род і прыбыў у Польшчу, як амбасадар неапалітанскі за[мест] Яна III. Гэты амбасадар неапалітанскі, паміраючы ў Варшаве, пакінуў сына, майго прашчура. Аляксандр, граф Бандзінелі, падкаморы Дэрпукі, дзядзька маёй бабкі, бачучы род свой згасаючым, усынавіў род Абуховічаў.

Пазываючыся ў подпісы на дзядоў сваіх, грудзі мае парушае пачуццё нечага вялікага, моцнага... Чытаючы ж Пушкіна, мяне дзівіць пазыванне на яго афрыканскае паходжанне. Куплены за бутэльку рому «Арап Пятра Вялікага» — гэта пратапляста Пушкіна. «Нечага хваліцца», — скажа кожны. Але іначай разумее гэта псіхалогія маскоўская: «Памілуйце, царскі дзяншчык!..». Гэта быццам нешта сярэдняе між чалавекам і анёлам святымі.

*Не Сібір, астрог, не кнут —*
*І не цела цяжкі мукі.*
*Але дух народу струт...*

## Дашкевічы

Аб стасунках маіх з Дашкевічамі многа было б гаворкі, але ўсяго казаць не гожа. Пан Ігнацы быў калісь у дужа цяжкім палажэнні, я памог яму, меў у мяне прытулак, з гэтага вывязалася інтрыга, каторая на нейкі час папсавала нашы стасункі. Цяпер ужо ўсё гэта мінула. Ён да мяне прыязлівы, бо ўсё выйшла яму на дабро, і прызнае мне рацыю, а я не маю да яго нічога, бо быў ён тады дужа яшчэ малады і непрактычны.

Цяпер залічаю абоіх п. Дашкевічаў да маіх наймілейшых знаёмых; ён — шанаваны і добры чалавек, яна — гожая і разумная кабета, каторая

патрапіла як найлепей устроіць быт мужа і яго дома. Акрамя асабістых яе дадатных старон маю я яшчэ і іншыя на яе ласкі: 1-е тое, што яна — матка трох ладных дзяўчынак, дробязь гэта яшчэ, бо найстарэйшая толькі што пачынае быць падлеткам, але міленькія і, дасць бог, вырастуць на карысць нашага краю; кажу: на карысць, бо, бачыцца мне, што з іх будуць «людзі» ў шырокім гэтага слова разуменні. Пасля п. Дашкевічовая сястра Мерасоў, людзей добрых, учынных вельмі і заўсёды вельмі ўплывовых (ведаю, як гэткі стасунак можа быць карысны для маіх маладых прыяцеляў, бедных вучняў слуцкай гімназіі).

Карыбуты-Дашкевічы — добрае гняздо. Але гэта вымагае каментарыяў.

З геральдычнага боку кожны, хто «Карыбут», можа выводзіць род свой ад вялікіх князёў літоўскіх і беларускіх. Астафій Дашкевіч, пратапляста нашых Дашкевічаў, гэта герой Запарожжа, быў нешта як бы тварцом казаччыны за караля Стэфана Баторага, па ім род гэты красуе буйна, хоць неказіста (фамілія Дашкевічаў замешана была ў мужыцкія бунты за Нябабы), па вясковых закутках. Пад канец быту Рэчы Паспалітай выдзяляецца Ігнат (калі не памыляюся) Карыбут-Дашкевіч, кашталян мсціслаўскі, выдатны праўнік. За цара Паўла ён быў замешан у справу Хамінскага і ўцярпеў разам з ім (іх мучылі ў сакрэтнай канцылярыі). Брат кашталяна, падстолі Мінскі, быў чалавекам нікчэмным, сын падстоляга, маршалак бабруйскі, у публічных справах быў цвёрды, але дома гвалтоўнік і авантурнік, як і яго два сыны Гектар і Тытус (сын гэтага апошняга —цяпер жывы — пан Ігнат). Цвёрдая школа, якую пан Ігнат адбыў пры бацьку, пакінула назаўсёды на ім глыбокі след, але такт жонкі і маетнасць ды дастаткі ўтварылі з пана Ігната чалавека, якіх дай нам Божа.

Успамянуўшы дзеі мяча, пераходжу да кудзелі.

Блізка сто гадоў таму былі на Падоллі дзве паненкі кашталянкі Снарскія. Адна з іх выйшла за багатага прамыслоўца барона фон Мерас, а другую выкраў, бо яму яе не аддавалі, малады, прыгожы, але голы, як Ніоб, граф Вітгенштэйн фон Борлебург (пазней князь, фельдмаршалак), дзед шанаванага ў нашы часы князя Пятра Вітгенштэйна. Сорак гадоў таму сустракаем Мерасоў у Случчыне. Былі яны на другім плане. Сам стары эксспраўнік, дзяржаўца Гаўрыльчыц, быў неяк у старане, рэй вяла сама пані Ружа з Тольвінскіх і жыўшы разам з імі кузын ці, можа, і не кузын, Чапскі, палкоўнік былых войск польскіх (легіяніст). Чалавек, як кажуць, незвычайна мілы ў кампаніі. Розна аб гэтым стасунку палкоўніка гаварылі людзі, але п. фон Мерасы і так званы дзядуня Чапскі тварылі нераздзельную тройцу. Чысленае сваё пакаленне п. Ружа дужа добра пакіравала, усім дала стараннае выхаванне і зашчапіла сямейную любоў. Старушку паню Ружу фон Мерас пазнаў я пад канец яе жыцця. Акружана была пашанай патомства, дастаткам і чулай апекай. Родам была з Віцебшчыны.

На даканчэнне магу дадаць, што матка п. Ігната, Адэля з Грыневічаў, была дачкой падкаморага Грыневіча, вядомага сілача і авантурніка, а сястрой Тамаша, гэтаксама сілача, забітага ў 1863 г.

## Літаратурнае апраўданне

Праглядаючы мае вершы, Францішак Багушэвіч зрабіў увагу, што ў мяне не ўсюды бываюць уласцівыя беларускай мове акцэнты. На гэта я яму адпісаў:

*У гаворцы ёсць ружніца*
*Між маёю і Тваей:*
*Маёй — пушчы, Пціч граніца,*
*Ты — Панарскі салавей!..*

Гэта значыць: у Беларусі ёсць многа асобных дыялектаў-гутарак, і ў гаворцы між Магілёвам над Дняпром, Мозырам і Гродняй бывае вялікая розніца не толькі ў акцэнтах, але ёсць і многа цікавых правінцыяналізмаў. От, напрыклад, некалькі нашых палеска-беларускіх правінцыяналізмаў, ручаюся, што іх у віленска-гродзенскай беларускай» мове або саўсім не ўжываюць, або ўжываюць рэдка. «Нашчадзь» — патомства, будучае пакаленне; «нішком» — ціхачом, пакрыёму, хаваючыся; «плён» — расток, малады белы карэньчык пры зерне, і шмат іншых.

Мне перш за ўсё ідзе аб тое, каб выказаць, што я хачу, каб пачулі думку маю, і каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры атрымалі як найшырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульнабеларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літаратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго. У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа. У Францыі — спярша дыялект правінцыі Langeu d'Oc меў перавагу ў французскай літаратуры, а пазней Langeu d'Oni — цяперашняя французчына. Гэта трэба памятаць і нашым літаратарам і пурытанізмам не забаўляцца!

## Дзяды

Увосень народ наш святкуе паганскае яшчэ свята Дзядоў. Хрысціянства заўсёды шанавала гэтае свята, каторае ўлівала народу веру ў бяссмерце душы. Вёскі, не зважаючы на непагадзь, пануючую ў гэтым часе, маюць святочны выгляд. Сцены ў гасподах вымыты дабяла, каб душы дзядоў маглі з уцехай прыбліжацца да акон і ўглядацца радасна на бяседуючых сваіх нашчадкаў. Мыслі кружацца і налятаюць, як чалавек аб гэтым падумае: можа, гэтаксама налятаюць і кружацца наўкол духі дарагіх нашых нябожчыкаў? De Chateaubriand заклінае цені каралёў французскіх, каб не падходзілі да занечышчанай магілы ў S-t Denis і каб не заглядалі ў змарнаваную бацькаўшчыну. Загадвае каралю засягаць муравы вясковых магілак.

Сягнуўшы думкаю, колькі ж гэта бачыцца сяліб сягоння апаганеных, колькі ж гэта дзядоў не мае па што заглядаць у дамовыя вогнішчы?! Колькі ж гэта дзядоў не пазнала б сваёй нашчадзі на той зямлі, дзе спачываюць іх косці! Я, дзеля пашанавання сягонняшняга вечару дзядоў, выйшаў на мост, каб падумаць аб памерлай радзіне і прыяцелях. Я саўсім спакоен, нішто маіх думак не трывожыць. Няхай жа думкі мае будуць трызнай хаўтурнай, дзедаўскай, маім антэнатам.

Прыпамінаецца мне адно здарэнне з далёкай маёй мінуўшчыны. Было гэта ў Францыі, паміж маладзёжы я адзін быў з Беларусі, дык злажыўся праект, што я павінен уладзіць трызну Дзядоў. Ахвоча на гэта прыстаў я і выступіў з пачастункам. Былі пячоныя гусі з грыбкамі, а замест крупніку — добра запраўленае le vin chaud. Гэта апошняе так гумар успасобіла, а часы былі поўны ясных надзей, што пастанавілі мы зрабіць ваенную муштру, і то не пяхоты, а кавалерыі. Каждае крэсла сталася жарабцом, капітан Ільдэфонс Касілоўскі (эмігрант) прыняў каманду, а Валяр'ян Калінка, пазнейшы ксёндз і гісторык, гарцаваў наперадзе нас. Суседкі мае думалі, што дом зваліцца, а было гэта на чацвёртым паверсе. Назаўтра меў я візіт паліцыі, але я ўвесь гэты гармідар вытлумачыў, як рэч абрадавую, патрыятычную, і на гэтым сышло ўсё.

## Каментарыі

**«Ваўкалака», «Старшына».** Першая публікацыя баек — у «Беларускім календары на 1915 год» (Вільня, 1914).

**«Воўк і лісіца», «Суд».** Упершыню надрукаваны байкі ў кнізе «Родныя зярняты» (Вільня, 1916).

**«Дума аб Каралю XII».** Апублікавана 1 жніўня 1916 г. у газеце «Гоман». Падаецца арыгінальная трактоўка гістарычных падзей і асоб. Своеасаблівым лейтматывам твора становіцца вобраз зор: «Зоры паўночы кроўю палаюць... людзям варожбы ліхі завяшчаюць».

**«Мемуары».** Апублікаваны ўпершыню ў 1896 г. у газеце «Гоман» (№ 33—40, 49).

# ЭЛІЗА АЖЭШКА (1841—1910)



Пісьменніца рэалістычнага кірунку, палымяны гуманіст і дэмакрат, Эліза Ажэшка нарадзілася ў былым маёнтку Мількаўшчына Гродзенскага павета. Выхоўвалася ў манастырскім пансіёне ў Варшаве (1852—1857). Да вяршынь тагачаснай еўрапейскай культуры паднялася дзякуючы самаадукацыі, назаўсёды захавала веру ў навуку і чалавечы розум. Выключную ролю ў фарміраванні яе светапогляду адыгралі нацыянальна-вызваленчая барацьба польскага і беларускага народаў і сялянская рэформа ў Беларусі 1860-х гадоў, якія яна называла «сваімі ўніверсітэтамі». Гэтыя падзеі вызначылі і яе пісьменніцкае прызначэнне: «Гэты момант зрабіў рашучы ўплыў на маю будучыню... Гэты момант запаліў ва мне жаданне служыць Радзіме па меры сіл і характару маіх здольнасцей; з яго агню і слёз узнікла ва мне жаданне прынесці хоць маленькую цаглінку для таго выратавальнага моста над безданню, праз які павінен быў прайсці народ... Пазней мяне апаноўвалі ўсякія сумненні, але ў ідэі любасці да Радзімы і абавязку служыць ёй я ніколі не сумнявалася... Усё гэта зрабіў са мной і ва мне год 1863. Калі б не яго малат і разец, мой лёс быў бы іншы і, відаць, я не стала б пісьменніцай».

У час паўстання 1863—1864 гг. Ажэшка была сувязной партызанскага атрада Р. Траўгута, які дзейнічаў на тэрыторыі Беларускага Палесся, дапамагала медыкаментамі, харчаваннем, хавала ў маёнтку Траўгута пасля разгрому яго атрада, а потым, рызыкуючы жыццём, адвезла яго да граніц Каралеўства Польскага. Перажыўшы горыч разгрому паўстання, яна займалася самаадукацыяй, адначасова рабіла першыя спробы ў мастацкай творчасці. У 1869 г. пераехала на сталае жыхарства ў Гродна, дзе і памерла.

Літаратурную дзейнасць пачала ў 1866 г. апавяданнем «Малюнак з галодных гадоў», навеяным успамінамі пра голад беларускай прыгоннай вёскі. У далейшым Ажэшка звяртаецца да жанру аповесці і рамана. У артыкуле «Некалькі заўваг аб рамане» (1866) адзначала яго здольнасць да шырокага і поўнага адлюстравання жыцця грамадства. Аднак яе раннія раманы канца 1860-х гадоў: «Апошняе каханне», «У клетцы», «На правінцыі» — даволі маралізатарскія і схематычныя. У вобразах станоўчых герояў — капіталістычных дзялкоў — адлюстраваны ідэалы «варшаўскага пазітывізму» наконт буржуазнага прагрэсу і ўсеагульнага дабрабыту. Рэчаіснасць абвергла іх, а сама пісьменніца пераглядае канцэпцыю «тэндэнцыйнага» рамана, каб стаць мастакомрэалістам. У яе раманах «Пампалінскія» і «Сям'я Брохвічаў» (абодва 1876 г.) сатырычна паказаны саслоўная фанабэрыя, эгаізм і паразітычнае існаванне шляхецкай арыстакратыі. Прыёмы сатырычнага гратэску сведчаць пра добрае веданне твораў М. Салтыкова-Шчадрына, пазней

становучы ўплыў на яе творчасць зрабілі Л. Талстой і І. Тургенеў. У 1870-я гады пісьменніца становіцца на чале жаночага руху ў Польшчы, выступае ▪ артыкуламі «Аб жаночым пытанні» і «Некалькі слоў пра жанчын» (абодва 1870 г.), у якіх вылучае дзве асноўныя праблемы: палітычнага і сацыяльнага раўнапраўя жанчын і карэннай змены іх выхавання, падрыхтоўкі да карыснай прафесійнай і грамадскай дзейнасці. Шырокую вядомасць на радзіме і за мяжой атрымаў раман «Марта» (1873), прасякнуты палымяным пратэстам аўтара супраць рабства жанчыны ў тагачасным свеце. Імкненнем актыўна ўплываць на грамадскую свядомасць пазначаны зборнік апавяданняў «З розных сфер» (т. 1—3, 1879—1882), дзе пісьменніца выступіла ў абарону пакрыўджанай беднаты: «Я хацела ведаць, як жыве, што думае і адчувае чалавек у маленькай хатцы з акенцам ля самай зямлі».

1880-я гады — час найвышэйшага ўздыму творчасці Э. Ажэшкі, калі створаны раманны эпас «Над Нёманам» (1887) і вялізнае эпічнае палатно — аповесці і апавяданні ▪ жыцця беларускага народа. У рамане «Над Нёманам» яна ўзнімае надзённыя праблемы тагачаснай польскай рэчаіснасці. Шляхецкі засценак, што жыве сялянскім жыццём з усёй яго паэзіяй працы, дэмакратычная інтэлігенцыя двара Карчынскіх з моцнымі традыцыямі нацыянальна-вызваленчай барацьбы і група касмапалітаў-арыстакратаў, адарваных ад народнага жыцця, — сюжэтныя лініі рамана, гарманічна сцягнутыя ў адзін вузел. Паводле Ю. Кшыжаноўскага, Ажэшка стварыла нацыянальны эпас, «поўны радасці, натхнёнай працы і веры ў чалавека». Палымяным гуманістычным пафасам прасякнуты яе творы пра цяжкае жыццё беларускага народа, раскрыты лепшыя рысы яго нацыянальнага характару, сцверджаны задаткі вялікага развіцця, што тояцца ў прыніжаным, але стойкім і цярплівым беларускім народзе, — аповесці «Нізіны» (1884), у якой чуюцца адгалоскі «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага, «Дзюрдзі» (1885), «Хам» (1888), апавяданні «Рэха», «Тадэвуш», «У зімовы вечар», «На следстве» і інш.

Палемічна завостраная назва аповесці «Хам» абумоўлена гуманістычнай ідэяй сцвердзіць героем жыцця чалавека з народа, які ўвасабляе магутныя сілы, духоўнае багацце, хараство беларусаў. Фальклору беларусаў прысвечаны паэтычныя нарысы «Людзі і кветкі па берагах Нёмана» (1888—1891). У вусна-паэтычнай творчасці бачыць Ажэшка выяўленне духоўнага багацця беларусаў. Пісьменніца збірала і сама рабіла фальклорныя запісы. Бясспрэчнымі доказамі розуму і пачуцця прыгожага ў беларусаў яна лічыла лірычную народную песню, баладу, паэтычныя назвы раслін, народную медыцыну. «Вельмі пашырана думка, — пісала Ажэшка, — што сяляне зусім абыякавыя да навакольнай прыроды, яе хараства і не заўважаюць з'яў, што не ўплываюць на іх штодзённае жыццё. Дзіўна, як такая думка можа існаваць, калі ёсць народная песня, у якой урыўкамі і ў рознай ступені пластычнасці, але густа рассеяны малюнкі прыроды і назіранні над яе з'явамі. Гэтай думцы без сумнення супярэчыць таксама і веданне народам расліннага свету, настолькі дакладнае, што смела можна сцвярджаць: ад самага высокага дрэва да найменшай былінкі, якія растуць на той жа зямлі, што і ён, няма такой расліны, якая ў яго мове не мела б сваё назвы, а ўжо ў гэтых назвах выяўляецца назіральнасць, выказаная ў жывапіснай і паэтычнай, іншы раз грубай, але выразнай форме».

У 1890-я гады творы Ажэшкі часткова трацяць вастрыню сацыяльнай праблематыкі за кошт паглыблення маральна-этычных матываў (зборнік апавяданняў «Меланхолікі», 1896), але ў адмаўленні супярэчнасцей капіталістычнай рэчаіснасці і дэкадэнцкага мастацтва яскрава выявіўся рэалізм пісьменніцы. Апошні зборнік навел «Gloria victis» («Слава пераможаным!», 1910) услаўляе герояў паўстання 1863—1864 гг. і традыцыі нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Апошнія гады жыцця Ажэшкі цесна звязаны з беларускай мясцовасцю Фларыянаў, дзе ў маёнтку Бохвіца (цяпер землі калгаса імя Ламаносава) у час летняга адпачынку пісьменніца збірала польскую і беларускую інтэлігенцыю, там наладжваліся літаратурныя і музычныя вечары, спектаклі. Падтрымліваючы творчыя сувязі з дзеячамі культуры славянскіх народаў, пісьменніца цікавілася беларускай і ўкраінскай літаратурай, вяла актыўную перапіску з І. Франко, сябравала з Ф. Багушэвічам, высока ацэньвала яго творчасць і прапагандавала яе. «Быў у мяне нядаўна пан Багушэвіч, — пісала яна вучонаму-этнографу Я. Карловічу, — і чытаў мне казку — доўгую, поўную фантазіі, якую напісаў па-беларуску. Гэта прыгожы талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, на мой погляд, выдатныя. Трэба было б усімі сіламі заклікаць яго да работы ў гэтым кірунку».

Творы Э. Ажэшкі стаяць ля вытокаў беларускага тэатра. Для беларускай сцэны былі зроблены інсцэніроўкі апавядання «У зімовы вечар» (драматычная перапрацоўка Власта — В. Ластоўскага) і аповесці «Хам». Яны ставіліся трупай І. Буйніцкага, шматлікімі самадзейнымі і паўпрафесійнымі гурткамі. Спектаклем «У зімовы вечар» 14 верасня 1920 г. адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр, у 1921 г. у БДТ пастаўлены «Хам» (рэжысёр абодвух спектакляў Ф. Ждановіч), у 1923 г. «Рысь» паставіла трупа У. Галубка.

У Гродне ў доме, дзе з 1894 г. жыла Ажэшка, адкрыта пастаянная экспазіцыя, на будынку змешчаны мемарыяльная дошка, пастаўлены помнік, адна з цэнтральных вуліц горада названа яе імем.

*В. Гапава*

## ТАДЭВУШ

### Вясковы малюнак

Хвядора, жонка парабка Клеманса, падмяла гліняную падлогу хаты, смецце згарнула ў куток, не збіраючыся выкідваць яго за парог, бульбяное лупінне ўсыпала ў цабэрак з памыямі і паставіла гэты харч для каровы пад лаву. Тады засланіла драўлянай засланкай печ, дзе стаялі два добрыя гаршкі з ужо згатаваным для сям'і абедам. У адным з тых гаршкоў быў боршч з бацвіння і бурачнага квасу, у другім — ячны крупнік з бульбай: па звычаі мясцовых сялян — адна страва кіслая, а другая прэсная. Спажыць іх прыйдзецца апоўдні, а цяпер яшчэ ранняя раніца. Але Хвядора павінна была ўжо ісці з дому, бо на сёння яна нанялася палоць панскія грады, а муж яе, Клеманс, ужо з гадзіну араў каля маёнтка пад асеннюю сяўбу.

Гэта была маладая сялянка, высокая, дужая, смуглявая з твару, з агрубелымі рукамі, цяпер яшчэ чыстымі, бо яна толькі што брала ваду і памылася каля студні. Праз грубую смуглявасць яе шчок прабіваўся моцны румянец. Нізкалобая, з малым задзёртым носам і тоўстымі губамі, плячыстая і з вялікімі расплясканымі ступакамі — яна не была красуняй, ды ад яе ішлі здароўе, сіла і свежасць. Вопратка жанчыны складалася з кароткай і стракатай спадніцы, з шэраватай, тоўстай кашулі і паласатага, шырокага фартуха з саматканымі рознакаляровымі махрамі, якімі Хвядора ў некалькі столак апяразвала свой стан. На шыі ў яе пабліскваў медальёнік, а на галаве была хустка з чырвонымі кветкамі, так завязаная на патыліцы, што над ілбом

ідаць былі дзве шырокія пасмы валасоў, густых і чорных, але парудзелых і без бляску.

Прыбраўшы ўсё на той час, калі самой не будзе дома, яна схілілася над гліняным начыннем, што стаяла на зямлі, і, наліваючы з аднаго з іх малака ў гарнушак, пачала клікаць:

— Тадэвуш! Тадэвуш!

Цяжка было здагадацца, каго яна кліча, бо ў хаце як быццам нікога ўжо не было. Але так толькі здавалася. Праз момант на шырокім палку, які замяніў тут ложак, пад радном — вялікім кавалкам шэрага палатна, якое пакрывала сяннік і напханую сенам падушку, — пачала варушыцца нейкая жывая істота. Спачатку прысутнасць яе выдавала толькі шалясценне сена і надзіманне дыападанне складак радна. Пасля над палком і радном узняўся з гудзеннем чорны рой мух, а з-пад палатна пачалі паказвацца дзве малыя чорныя ступачкі і дзве таксама маленькія ручкі, а потым рог радна зусім адхіліўся, і ў сонечнай паласе на палку паказалася дзіця, якое перш за ўсё запусціла ручкі ў раскудлачаныя валасы і, ці то плачучы, ці то смеючыся, азвалася:

— Мама!

Калі б ён не пабачыў яе, напэўна, зароў бы на ўсю хату, аднак яна якраз ішла да яго з гарнушкам малака, дык ён і засмяяўся гучна, радасна:

— Дайце, мама, дайце!

У сонечным святле і мушыным гудзе малы сядзеў на напханай сенам падушцы, утапіўшыся ў складках радна. Яго чупрынка, светлая, як лён, і вельмі раскудлачаная, натапырвалася ва ўсе бакі, вочы свяціліся бірузой, хоць і былі яшчэ заспаныя, а пунсовыя вусны былі нібы акантаваныя чорным, як у негра. Учора ён, відаць для забавы, абмазаўся тлустай, ліпкай зямлёй — і губы, і падбародак, і кончык носа. Шчокі нейкім дзівам былі не ўмазаныя і з-пад загару, поўненькія, гарэлі румянцам.

Хлопчык нарадзіўся на грамніцы, і было яму два гады і дваццаць два тыдні. Ужо больш за год ён не ссаў матчыных грудзей, але затое штодня, як і ў гэты вось момант, прысмоктваўся да краёчка гарнушка, які маці трымала каля яго рота, і піў малако павoлі, са смакам, растапырыўшы пальчыкі рук, выставіўшы з-пад радна голае калена, і глуха пастогнываў, выказваючы такім чынам поўнае задавальненне.

Гэта быў Тадэвуш.

Выпіўшы малако, ён меў выразны намер зноў нырнуць з галавою пад шорсткія хвалі радна, але Хвядора крыкнула на яго, каб зараз жа ўставаў, бо як не, то адлупцуе дзягай.

Праўда, калі яна так сурова крычала на яго, у шэрых вачах яе мільгала пяшчотнасць, а куточкі вуснаў дрыжалі ад усмешкі.

Тым не менш Тадэвуш хуценька ссунуўся з палка і выбег на сярэдзіну хаты, бо дагэтуль дзяга была для яго найбольшай бядой у зямным існаванні.

Хаця прылада гэтая выглядала даволі прыемна — тыя ж рознакаляровыя махры фартуха, што тройчы абвівалі тоўсты стан яго маці, — як толькі

яна, Хвядора, пачынала іх развязваць, Тадэвуш быў гатовы зрабіць усё, чаго ад яго патрабавалі. Босы, у кароткай кашулі, распатланы, з чорным падбародкам і носам, гойсаў ён цяпер па хаце, разганяючы процьму мух, круцячыся каля мамы, якая старанна накрывала збаны з малаком і адкройвала ад вялікага бохана маленькія лустачкі хлеба. Хаваючы адну такую лустачку пад кашулю, яна сказала:

— Ну, хадзем, сынок!

— Да таты? — спытаўся ён.

— У сад, — адказала яна.

Маці заўсёды брала яго з сабой на жніво і поліва. А што было з ім рабіць? Пакінуць у хаце? Хату трэба ж было замыкаць, а дзіця не будзеш марыць пад замком. Пусціць на панскі дзядзінец, каб там ён поўзаў, як шчанё, па крапіве, — таксама шкада. Дык і брала яго з сабой. Прыбіраць яго неяк, выводзячы ў шырокі свет, нават і не думала. Увесь Тадэвушаў туалет адбываўся адзін раз у тыдзень, у нядзелю раненька, тады ўжо вельмі энергічна і старанна, пры дапамозе балеі, напоўненай вадою, і вялікага грэбеня, не без супольнага крыку сына і маці, а часамі і не без дзягі. А сёння была пятніца, і таму чысціня Тадэвушавай кашулі, а таксама і ўсяго яго цела ўступала ў шосты дзень свайго існавання, а калі дакладней — зусім ужо не існавала.

Ды гэта нічога. Учапіўшыся за матчыну спадніцу, ён бег на панскі дзядзінец, смешна перабіраючы ножкамі, каб паспець за спорнай хадою маці, і па дарозе любаваўся то пеўнем, які, лапочучы агністымі крыламі, гучна закукарэкаў, то катом, які куляўся на паветцы, то карагодам качак, што паволі брылі па траве, схіляючыся да зямлі шырокімі дзюбамі, то голубам, які ўзняўся са страхі «чварака»[1] і кружыў над ёю, то індычкай, што цёўкала на індычанят, каб ішлі за ёю ў густую клумбу бэзу і глогу, то Рубінам, старым сабакам з вялізным калматым хвастом, які прыязна аціраўся аб Хвядорыну спадніцу і ішоў за маткай і дзіцем паволі, апусціўшы галаву і дазваляючы дзіцячай ручцы гладзіць яго па калматай і роснай поўсці.

Краплістая раса яшчэ блішчала на кустах і траве панскага дзядзінца, які, нягледзячы на ўсё сваё птушынае ды звярынае насельніцтва, быў атулены цішынёй і пустыннасцю. Усе людзі пайшлі ўжо адгэтуль на працу. Шырокія дзверы гумна, канюшняў і кароўнікаў былі пазачынятыя, сям-там толькі стаяў над комінам дым, залаты ад сонца, або якая-небудзь гаспадыня, што засталася дома, выходзіла на парог, каб пляхнуць памыямі ці мыльнай вадою з балеі ды паклікаць курэй, сыпануць ім вымеценую дзесьці жменю леташняга паследу.

На шырозныя пазамыканыя будынкі, на траву, пакрытую расой і шорсткімі кустамі лопухаў, хрэну і асоту, на кветнікі бэзу, што адцвіў, і глогу, што яшчэ цвіў, на белыя сцежкі, пратаптаныя ва ўсе бакі, і на нізкія плоцікі, што акружалі дзядзінец, — на ўсё гэта апала вялізная посцілка сонечнага святла, якое ўздрыгвала мірыядамі іскраў, спяваючы ў глыбокай цішыні шэптам амаль нерухомай лістоты, галасамі птушак і звонам машкары. Хутка ідучы, Хвядора азвалася:

— Дзень які, божа міленькі!

Тадэвуш нічога не адказаў на гэтыя словы маці, бо зусім не думаў пра тое, што надвор'е сёння добрае. Ён толькі адчуваў яго ў самім сабе. Поячы раскошай усё яго малое цела, пагода ўздымала ў ім жаданне жыць і рухацца. Пусціўшы падол матчынай спадніцы, ён пачаў куляцца, як жарабя, пабрыкваючы нагамі. Калі ж маці была ўжо далекавата, ён даганяў яе, трасучы сваёю льняною грывай, з гучным крыкам і смехам, з вачыма, поўнымі сонца і шчасця. За брамай яны ішлі трохі па дарозе, абсаджанай таполямі, а потым пасталі абое і раптам спаважнелі.

На Тадэвушавым тварыку спаважнасць гэтая відаць была па вытарашчаных вачах і разяўленым роціку. А твар яго маці выказваў пакору і набожнасць.

Яны стаялі ў падножжы каплічкі, якая складалася з падмурка і драўлянай нішы, што ўздымалася над падмуркам. На беразе нішы, сярод букетаў штучных і жывых кветак стаяла статуя Багародзіцы, няўдала выразаная з дрэва, з ярка намаляваным тварам, вельмі старая. Над галавою статуі паблісквала карона з серабрыстай бляхі, а ад шыі і да самых ступакоў аплываў плашч з чырвонага аксаміту, аблямаваны навокал пазалочанай тасьмой.

Каплічка гэтая была высокая і пабудаваная такім чынам, што бокам яна стаяла да дарогі, а адтулінай нішы — да маёнтка, над якім узвышалася і бачная была з кожнага месца.

Хвядора перахрысцілася тройчы, набожна схіліўшы галаву, пашаптала нешта, а тады ўзяла Тадэвуша на рукі і прыўзняла яго да нішы.

— Бозя! — неяк устрывожана сказаў малы.

— Ага, — пацвердзіла маці, — пэражагнайся, сынок. А таму, што сам ён яшчэ не ўмеў, узяла яго руку ў сваю і, пераносячы яе са спацелага лобіка малога на яго расхрыстаныя грудзі, з пакорай і просьбай у голасе сказала:

— У імя Айца і Сына...

Хвіліны дзве стаялі перад статуяй, не зводзячы з яе вачэй. У позірку дзіцяці відаць была цікавасць, спалучаная са здзіўленнем. На загарэлым, смуглявым твары маці адбіўся выраз пакорнай, гарачай просьбы, які напоўніў вочы яе, узнятыя ўгару, і перарэзаў нізкі лоб глыбокаю маршчынаю. Узнімала дзіця ўсё вышэй, як толькі магла, і, нічога не кажучы, можа, і думкай невыразнай упрошвала Боскую Матку мець на яго сваю ласку.

Адно дзіцятка, што пасля некалькіх гадоў замужжа прыйшло, як анёл міру, бо Клеманс, як толькі нарадзіўся сын, пачаў шанаваць яго маці, і ўжо ніколі паміж імі не было ні сваркі, ні нават трывогі за будучыню. З-за любові да сына бацька прысягнуў, што да чаркі губамі не дакранецца, і слова сваё стрымаў.

Сяляне звычайна вельмі любяць сваіх дзяцей, асабліва сыноў.

Раптам недзе паблізу пачуўся мужчынскі голас:

— Гэ-эй! Ну, пайшлі! Гэ-эй вы!..

Голас гэты плыў ціхім, залатым паветрам басавіта і працягла. Хвядора адарвала позірк ад нішы і зірнула на поле. Непадалёку ад плота, што падзяляў агароды і поле, высокі, дужы мужчына, трохі схіліўшыся наперад, ішоў за плугам, які цягнула пара коней. Працягла, трохі панура ён пакрыкваў:

— Гэ-эй! Ну, пайшлі! Гэ-эй вы!..

Маці і сын адразу пазналі Клеманса. Тадэвуш пачаў падбрыкваць, вырывацца і крычаць:

— Да таты! Да таты! Да таты!

— Няможна, сынок! Нам трэба ў сад!

Яна яшчэ не дагаварыла гэтых слоў, а ўжо дзіцячы твар заліўся слязьмі. Толькі што быў шчаслівы і вясёлы, як жарабятка ў буйнай траве, а цяпер так плакаў, так верашчаў, што ажно вераб'і на таполі спалохана зашчабяталі. Страшэнна яму захацелася да таты. Але Хвядора гэтым разам не сказала нічога пра дзягу. Наадварот, тоўстыя губы яе расхіліла шчаслівая ўсмешка, жанчына прыціснула да грудзей свайго трапяткога крыкуна.

— Добра ўжо, добра, — гаварыла яна. — Ой, дурань ты маленькі! Паклічу я табе тату, пачакай, паклічу! Няхай ён прыйдзе да сыночка!

Спыніўшыся каля плота, яна загукала:

— Клеманс! Клеманс, го-оў!

Некалькі загонаў аддзяляла яе ад мужа-аратага, і ён таксама голасна адгукнуўся:

— Хвядора? А чаго ты хочаш?

— Хадзі! — клікала яна, адной рукою прытрымліваючы каля грудзей дзіця, а другою махаючы, каб ішоў. — Хадзі туткі, хутка хадзі!

Ён спыніў коней у плузе і, цяжкім шырокім крокам перамераўшы невялікую прастору, спыніўся за плотам.

— Чаго? — спытаўся.

Але Хвядора не паспела яшчэ адказаць, як Тадэвуш, вырваўшыся з яе абдымкаў, нагамі зачапіўшыся за плот, пачаў хапацца за бацькаву кашулю. Гэтае акрабатычнае практыкаванне не магло не зрабіць непарадку ў сціплым адзенні малога. Паміж двух высокіх і дужых людзей голае дзіцячае цельца нейкі момант свяціла на сонцы, як статуйка з пазалочанай бронзы. Клеманс зняў сына з плота, абняў яго жылістымі рукамі і, схіліўшы галаву, глядзеў у ягоны твар. Шчабятлівы, радасна размахваючы ручкамі, Тадэвуш расказваў, што кароўка Белая пайшла на пашу, калі ён яшчэ спаў, а сабака Рубін так гаўкаў, так гаўкаў на нейкага жабрака, што пан вяканом*... пан вяканом... І ўжо зусім не ведаў, што б тут сказаць пра таго вяканома, але затое пачаў пытацца, ці тата і сёння пасадзіць яго на каня, так, як заўтра, не, учора, не, ані заўтра, ані ўчора, толькі за два тыдні...

Гледзячы на сына, Клеманс спытаўся ў жонкі:

— Чаго клікала?

— От чаго! Так упёрся да таткі, што няхай Бог бароніць! Ані мне яго на руках трымаць, ані на зямлю пусціць, бо сам у поле паляціць. Дык я і гукнула, каб ты падышоў. Што мне з ім рабіць? Паскуднік такі! Няўрымста!

— Адлупцаваць яго за тое, што такі... — замармытаў мужык, але насупераk гэтым словам жылістая рука моцна прыгарнула дзіця да расхрыстаных касматых грудзей, а на няголеным, таксама касматым твары ад шырокай, шчаслівай усмешкі бліснулі два рады беласнежных зубоў. З другога боку плота такая ж усмешка пашырыла тоўстыя, чырвоныя шчокі жанчыны.

* Аканом у дзіцячым вымаўленні.

У мужа і жонкі былі прыгожыя, здаровыя, белыя зубы. Над дзіцем, якое шалпаталася і шчабятала паміж імі, позіркі іх сустрэліся прыязна і весела. Аднак Клеманс знешне выглядаў, як звычайна, панурым. Сумна было чалавеку не мець кавалка сваёй зямлі і па маёнтках парабкам валачыцца.

Былі таксама ў яго мінулым свае беды і грахі, успамінаючы якія ён уздыхаў або пачынаў злавацца. Многа грошай пайшло калісьці на праклятую гарэлку, і суд прайграў з дваюрадным братам — за тры маргі зямлі. Але цяпер ніхто не заўважыў бы ў ім гэтага цяжару ды смутку. Ён выцягнуў над плотам рукі, аддаючы жонцы дзіця, і пад густым, шорсткім вусам яшчэ паблісквала ўсмешка, хоць ён і гаварыў нібыта злосна:

— Бог ведае, чаго абое прыйшлі сюды і яшчэ чалавека ад працы адрываюць! Што ж я тут з вамі цэлы дзень лынды буду біць? Бяры гэтага паскудніка і ідзі на работу!

Пацалунак, як стрэл з маленькага пісталета, пачуўся над плотам, а на поўненькім, загарэлым карку малога ад бацькавых вуснаў з'явілася чырвоная пляма. Клеманс памалу павярнуўся і цяжка пакрочыў да плуга. У палавіне дарогі азірнуўся і ўбачыў чырвоную Хвядорыну хустку, што мільгала ў зеляніне агародных прысадаў, чым далей, то ўсё гусцейшых. Тадэвуша ён не ўбачыў, бо малы ўжо на сваіх нагах тэпаў каля матчынага боку па зарослай пустазеллем агародняй мяжы, аднак з зеляніны той да вушэй мужыка даляцеў тонкі, пранізлівы дзіцячы голас — сын пра штосьці ўсё гаварыў, і ў летняй пагодлівай красе гэта здавалася птушынай песняй.

* * *

Вялікі і слаўны сваёй ураджайнасцю агарод з двух бакоў сутыкаўся з полем і з тою дарогай, над якой узвышалася святая каплічка, а з двух іншых бакоў — слаўся да ног спрадвечных, разгалістых ліпаў, якія стаялі там доўгімі радамі, у духмяным цвіценні, у пчаліным гуле, што нагадваў прыглушаную музыку шматтысячнай колькасці арфаў. Дзе ліпы стаялі радзей, там, відаць, быў сад, разбіты на роўныя квадраты, з мноствам дрэў, што залаціліся спелымі пладамі, з доўгімі шэрагамі кустоў, ужо чырвоных ад ягад.

З другога боку ліпы расступаліся шырока, і, як на далоні, відаць быў сад для шпацыраў, пакрыты гладкімі газонамі і сеткай пакручастых сцежак, з мосцікамі, якія, паблісваючы беллю, злучалі берагі вузкіх каналаў. Там, у малых цяністых гайках, спалучаліся адценні зеляніны розных гатункаў дрэў і розныя колеры пакрытых кветкамі кустоў. Над муравою і вадою паветра было напоўнена незлічоным мноствам белых і жаўтлявых матылёў. А ў глыбіні гэтага прыгожага парку стаяў двухпавярховы дом, высокі на падмуроўцы, такі белы, што ў сонцы ажно сярэбраны, з радам вялікіх, насцеж адчыненых вокнаў, з вялікім ганкам, аплеценым зелянінай павойніка. Каплічка з высока ўзнятай нішай і гэты вялікі, аплецены павойнікам ганак стаялі адно насупраць аднаго і над зялёнай прасторай прыглядаліся адно да аднаго праз шырокае акно — прасвет у радзе ліпаў.

Да поўдня не хапала толькі адной гадзіны. Але, нягледзячы на цяжкую ліпеньскую спёку, у агародзе кіпела жыццё і раслін, і людское. Над разло-

жыстымі загонамі гародніны схілялася з дваццаць жанчын, галовы якіх у яркіх хустках падобныя былі ў сонцы да казачна вялікіх півоняў. З-паміж буйнога бурачанага лісця, з далікатнай лістоты морквы, вужакаў агурочніку жанчыны выполвалі крапіву, лебяду, макрыцу і іншае пустазелле і поўныя паласатыя фартухі яго выносілі ў куток агарода, дзе ўжо сабралася цэлая горба. Палолі і насілі жвава і амаль у поўным маўчанні, аднак тым не менш у ліпавай засені на малым узгорачку сядзеў наглядчык, малады рухавы хлапчына, па чыну «пан намеснік», які лічыў сваім абавязкам пакрыкваць на баб, каб лепей завіхаліся. Рабіў ён гэта нязлосна, бо і не было чаго злавацца, але як толькі заўважаў, што дзве галавы схіляліся адна да адной, каб папаптацца, або дзве рукі ападалі на паласаты фартух, «пан намеснік» выцягваў руку ў шэрым палатняным рукаве і гучна крычаў:

— Дзяўчаты, гэй, дзяўчаты! Не лянуйцеся! Час дарма траціце! То ж гэта грэх!

Або:

— Бабы! Гэй, бабы! Не балбачыце там! Няўжо вам не брыдка? Грошы за што бераце? То ж гэта грэх!

Нехта мог бы падумаць, што ён вельмі ж клапоціцца пра збавенне гэтых жаночых душ, бо падганяе толькі адным аргументам. Але на галовы, што выглядалі як казачныя півоні, аргумент гэты ўплываў, відаць, станоўча, бо твары сялянак абліваліся потам, карычневыя і да каленяў заголеныя ногі іх рухава бегалі па ўзмежках, а зялёны гушчар на загонах штораз, то ўсё быў радчэйшы, і ўсё больш чыстай зямлі чарнелася ў зеляніне.

Хвядора працавала як усе, можа, і больш за ўсіх, бо была незвычайна дужая і руплівая. Аднак некалькі разоў яна перапыняла на момант працу па дзвюх прычынах.

Спачатку серабрысты на сонцы дом са сваім цяністым ганкам здаваўся ёй проста цудоўным, і яна не магла не зірнуць на яго час ад часу з вялікай прыемнасцю.

З гадзіну таму назад на цяністым ганку паказаліся дзве жаночыя постаці. Яны і засталіся там. Здалёк нельга было заўважыць іх рысаў, убачыць, што тыя жанчыны робяць, але ў рамах, сплеценых з зелянiны павойніку, ды ў светлых суkенках яны нагадвалі Хвядоры святыя малюнкі. Потым адна з іх збегла па шырокіх сходах і пачала зразаць з высокіх кустоў яркія вяргіні і ружы. Сукенка яе здавалася залацістай, а твар і рукі беласнежнымі.

Але яшчэ больш, чым гэты малюнак, Хвядорыну працу перапыняў Тадэвуш. Ужо тройчы пасля таго, як яны прыйшлі сюды, ён выбухаў слязлівым крыкам. Хлопец хацеў да бацькі, басавітае пакрыкванне якога час ад часу даходзіла сюды, хацеў і да маці, якая ўсё хадзіла з месца на месца, забараняючы яму узлазіць на загоны, і Бог ведае чаго яшчэ ён хацеў. Ці то было яму загорача, ці сумна, ці крапіва апякала голыя ножкі. Вось ужо трэці раз малы пачынаў верашчаць.

Першы раз Хвядора занесла яму лусту хлеба і пагладзіла па галаве:

— Ціха, сынок, ціха! Калі будзеш харошы, дык татка цябе і сёння на каня пасадзіць!

Супакоены, заткнуўшы рот хлебам, ён змоўк. Калі ж другі раз над агародам пачуўся яго плач, Хвядора ўзняла над загонам галаву і крыкнула:

— А ну, ціха! А то дзягай як дам!

Ён зноў аціх.

За трэцім разам Тадэвуш дарма галасіў некалькі хвілін. Хвядора адносіла пустазелле ў кут агарода, пад ліпы, а «пан намеснік» крычаў:

— Бабы! Эй, бабы! Завіхайцеся! Бог ёсць на небе, а вы час марнуеце! Гэта ж грэх!

Хвядора, каб не нарабіць граху, хутка вярталася на свой загон, а Тадэвуш ужо без абяцанкі пра каня і дзягу ўсцешыўся, ды так усцешыўся, што ажно рагатаў. Рассмяшыла малога так моцна сінічка з жоўтым жывоцікам і блакітнымі крылцамі, якая зусім блізка ад яго выпырхнула з ляшчэўніку і знікла ў гушчары маку.

Хлопца штосьці пацягнула за гэтай птушкай у мак. Устаў з травы і хуценька пабрыў у густым каліўі, угары аздобленым кветкамі з рознымі адценнямі барвовасці. Толькі паспеў Тадэвуш прайсці некалькі крокаў — сінічка зноў пырхнула і знікла. Яна, відаць, ужо вылецела з маку, панесла чарвяка ў гняздо ў густым ляшчэўніку, але ён гэтага не ведаў. Яму захацелася дагнаць яе, а можа, толькі паглядзець. Малы брыў далей, ломячы калівы маку, але ніхто гэтага не бачыў і не чуў. Ён жа быў такі малы і шархацеў не больш, чым сінічка. Але ісці было чым далей, то ўсё цяжэй.

Унізе ў гушчары было зелле, што блытала яго малыя ножкі. Хлопец паваліўся, але не закрычаў, нават не выдыхнуў гучней — так яму захацелася знайсці і зноў спалохаць сінічку. Не могучы з-за гэтага зелля ісці, пачаў паўзці ў гушчары і рабіў гэта ціхенька, вылупіўшы вочы і рухаючы галавой, як кот, калі ён падкрадаецца да мышы ці птушкі. Часамі з высокіх каліваў маку асыпаліся кветкі, холадна датыкаючыся да яго плячэй і галавы. Тады ён спыняўся і, не паднімаючыся з каленяў, рукамі ўспёршыся на зямлю, разявіўшы рот, глядзеў угару. Сінічкі не бачыў, але затое мноства чырвоных і ружовых плямак калыхалася над ім на фоне неба, такім жа блакітным, як і вочы хлопчыка, што ўзіраўся на яго. Потым, калі ён яшчэ трохі прапоўз на каленях і руках, перад ім раптам расчынілася сцяна высокіх каліваў і паказалася вялікая вольная прастора. Адразу ж яго ахутала моцным пахам кропу, кмену, каляндры, пятрушкі і асвяціла жаўцізною мноства кветак — цвілі агуркі і настурцыі. Невядома, якім чынам там апынулася і некалькі кустоў наготак. Словам — так жоўта, як ніколі яшчэ ў жыцці. Усцешаны, Тадэвуш усхапіўся на ногі і, працягнуўшы рукі, пабег проста да наготак. Як нядаўна захацелася сінічкі, так цяпер наготак. Напэўна ж, ірваў бы ён іх аберуч, поўнымі жменямі, але праз некалькі крокаў спыніўся так спалохана, што нават не змог закрычаць.

Тое, што моцна яго напалохала, было адначасна вельмі цікавае. Складалася гэтае дзіва з высокай тычкі, на канцы якой высока чарнела некалькі невыразных лахманоў і, як абтрапаныя рукі, калыхаліся два саламяныя вехці. Гэта было пудзіла на вераб'ёў, аднак Тадэвуш не ведаў яшчэ гэтага ваеннага прыладдзя агароднікаў. Моцна прыціснуўшы да шчок кулачкі, ён

стаяў нейкі момант, глядзеў на саламяныя вехці, добра не ведаючы, ці ўцякаць, ці яшчэ паглядзець на гэтую незвычайную з'яву. Пудзіла напалохала яго больш, чым вераб'ёў, супраць якіх было пастаўлена і якія так ужо з ім асвойталіся, што цэлай хмарай з крыкам уздымаліся над тычкамі з цукровым гарошкам ці зноў ападалі на гэтую смакату.

Крычалі яны так моцна і было іх так многа, што хоць Тадэвуш і ведаў ужо гэты від птушак, якія называюцца вераб'і, але, паколькі ніколі іх так многа за раз не бачыў, яны адвялі яго вочы ад высокай тычкі са страшным пудзілам.

Увесь указальны палец ён утапіў у адкрытым роце і пазіраў, як лётаюць, крычаць і аб'ядаюць гарошак вераб'і, нават, здаецца, пра штосьці глыбока разважаў. Задуменным зрабіўся яго твар, на якім цяпер ад слёз, што змяшаліся з пяском, не было мясцінкі не шэрай ці не чорнай. Сярод гэтых густых плям і малюнкаў відаць было трохі румянцу на шчоках, пунсовыя берагі губак і блакітныя вочы, вельмі задуменныя. Думаў ён доўга, не вымаючы пальца з рота. Што ж? Калі вераб'і могуць лятаць вакол гэтага пудзіла, дык чаму ж яму не паляцець? Зялёныя стручкі гароху вельмі смачныя. Ён ведаў гэта з уласнага вопыту, бо аднойчы бацька прынёс іх яму з поля цэлую жменю. Ого, такія рэчы не забываюцца! Ён добра памятаў, які смачны быў гэты гарох. Тут некаторыя струкі віселі высока, а некаторыя зусім нізка. «Не, палячу!»

І ён прыпусціўся разорамі па кропе, кмене, каляндры, пятрушцы, агурках, настурцыі... Аднак зашмат тут усяго, каб можна было «ляцець»... Загоны былі багатыя, а разоры вузкія і зарослыя зеллем. Замест таго, каб ляцець, ён ішоў, часамі падаў, а часамі поўз. Дайшоў, аднак, да гароху, і якраз тады, калі хмара вераб'ёў з крыкам узлятала над тычкамі, ён лез нізам, сям-там зрываў зялёныя струкі і прагавіта хапаў іх у рот.

Цяпер ён быў ужо далёка ад жанчын, якія палолі. Яго аддзяляла ад іх значная прастора і хавала сцяна маку, гушчар белага кмену і жоўтага кропу і, нарэшце, цэлы лес гароху ды фасолі. Бо за гарохам расла фасоля, таксама на тычках, толькі яшчэ без струкоў, з чырвонымі, ружовымі і белымі кветкамі. Вераб'ёў таксама не было, бо не было чаго кляваць, і Тадэвуш неўзабаве заўважыў, што ён ужо выйшаў з гарохавага раю. Аднак малы так удосталь наеўся, што адчуваў паднябеннем салодкую смакату і было яму вельмі весела.

Фасоля расла радзей, чым гарох, і ён лягчэй, нават з падскокамі, прайшоў гэты мілы гаёк, а пасля на ўскраіне яго заўважыў такую прастору, на якой ужо не было ніякай гародніны. Гэта быў край агарода, спалучаны з паркам і радам цяністых ліп. Гародніны ўжо не было... Але што гэта так паблісквае ў траве?

Паблісквала вада, не так ужо і шмат вады. З тых каналаў, што ўпрыгожвалі парк, вада па нейкай нізінцы збегла ў ямку, якую, можа, сама і выбіла, а можа, ямка тая і раней была выкапана для чагосьці. Словам, гэта была ні больш ні менш, а яма з вадою. Але на гэтым адхоне, паблізу каналаў, заўсёды мокрым, раслі два вялікія кусты каліны, насеялася процьма незабудак, скакала ў траве вельмі многа жабаў.

Тадэвуш, уздымаючы ручкі да валасоў, закрычаў:

— Ай, ай, незабудкі!

Ён ведаў гэтыя кветкі таксама, як вераб'ёў і гарох. Бо іх было поўна ў яры над ракою, куды яго часта вадзіла Хвядора, калі ішла да свае цёткі на другі бок яра або ўлазіла ў рэчку, каб лавіць каля камення ракаў. Зусім нядаўна ён, пры дапамозе маці, нарваў цэлыя два пучкі незабудак, адзін з якіх яны разам занеслі ў каплічку і палажылі да ног святой статуі, а другі цераз кагосьці з дваровых паслалі той паненцы, якая цяпер каля цяністага ганка рвала і складала букеты з ружаў і вяргіняў. Ён ведаў, што гэтыя цудоўныя кветачкі трэба рваць для «бозі» і для паненкі, памятаў, што, калі ён іх тады многа нарваў, маці потым усю дарогу несла яго на руках, што яму вельмі спадабалася.

Дык вось малы і кінуўся да незабудак і пачаў іх на ўсю сілу маленькіх ручак ірваць, ірваць... Ірвучы адну кветачку, ён шаптаў:

— Гэтая для бозі!

А другую:

— Гэтая для паненкі...

Часамі вырываў кветкі з карэннем або колькі было сілы змагаўся калівам, што не давалася, соп, стагнаў і злосна мармытаў:

— Каб цябе ліха ўзяло... Каб цябе паралюш...

А потым зноў:

— Гэтая для паненкі... Гэтая для бозі...

Увагу яго адцягвалі жабы і птушкі. Першыя раз-пораз выскаквалі з-пад яго чорных, аблепленых гразёю ступакоў і — плюх у ваду! Малец, гледзячы на гэта, ажно заходзіўся ад смеху. А птушкі вылятталі з калінавых кустоў і пырхалі амаль каля самых вушэй.

— Кыш! — крычаў ён, махаючы букецікам незабудак. — Кыш! Кыш!

А потымі зноў ірваў:

— Гэтая для бозі...

Раптам Тадэвуш спыніўся і радасна крыкнуў. Сінічка, зноў сінічка, відаць, тая самая, што была ў маку. Ох! Села сабе цяпер на калінавай галінцы і разам з белым цветам калышацца то ўніз, то ўгару... Памаленьку... галоўкай пакручвае...

На вуснах хлопчыка абарваліся словы: «Гэтыя для паненкі...». Адной рукой трымаючы букецік незабудак, другую ён працягнуў да сінічкі, крыкнуў, схіліўся, скокнуў... Пяшчотныя кветкі і каліўцы рассыпаліся па беразе ямы, вада гучна плюхнула. Тадэвуш знік.

Нічога — ні крыку, ні енку, ні слова да маці ці бацькі. Не было часу. Адно імгненне. На дне ямы, пад пластом стаялай, зеленаватай вады, сынок Хвядоры і Клеманса ляжаў тварыкам угару, нерухома, а на тварык гэты і чорныя ногі лажыліся доўгія, слізкія травы пад колер плесені.

Птушка з жоўтай галоўкай і блакітнымі крылцамі калыхалася на калінавай галіне то ўгару, то ўніз, памаленьку... Зялёныя жабы скакалі па высокай траве. Ліпы патыхалі духмянасцю, і, нібы тысячы прыглушаных арфаў, на іх званілі пчолы.

З другога боку агарода здалёк чуўся голас «пана намесніка»:

— І не сорамна вам? Пабойцеся Бога! То ж гэта грэх!

З поля часамі чулася басавітае, глыбокае пакрыкванне аратага:

— Гэй вы! А ну!..

Над вірлівым морам расквітнелага, закаханага, зіхатлівага жыцця ўздымаўся з аднаго боку цяністы панскі ганак, з другога боку — каплічка са святою статуяй. Яны глядзелі адно на аднаго праз шырокае акно разарванага шэрагу ліпаў. Перад ганкам жанчына, што рвала ружы і вяргіні, здалёк свяціла тварыкам і беленькімі рукамі. У нішы капліччкі карона святой статуі яснела і прамянілася, нібы павешаная ў паветры зорка — цудоўная і нерухомая.

*1884*

## ЛЮДЗІ І КВЕТКІ НАД НЁМАНАМ

1888 год

(урыўкі)

Урэшце трэба зазначыць, што нашым павярхоўным назіранням пра сялянскую прастоту давяраць павінны мы вельмі мала. Гэтых людзей трэба бачыць у іхнім натуральным асяроддзі, дзе яны займаюць нейкае становішча і карыстаюцца ад роўных сабе пэўнай павагай і зычлівасцю. Толькі тады пераканаешся, што яны зусім не такія, якімі нам здаюцца. Кожны, хто хоць трошкі сутыкаецца з народам, можа засведчыць, што вясковая баба, зусім простая на выгляд, калі яе папрасіць і выказаць ёй давер, няраз сыпане цэлай жменяй займальных апавяданняў, разумных выслоўяў, якія выяўляюць найдалікатнейшыя пачуцці. Альбо найбольш просты і на наш погляд самы цёмны селянін, якому мы ахвотна прычапілі б мянушку дзікага чалавека, калі крануць яго душу ці закрануць самалюбства, секане такім трапным словам і так горда альбо з'едліва, альбо з нянавісцю блісне вачмі на сваім зарослым валоссем твары, што раптоўна і неспадзявана зразумееш: у гэтым нутры, якое мы лічылі пусткай, ёсць сапраўдныя пачуцці, ёсць душа. <...>

Павінна зазначыць яшчэ, што ўсё гэта я гавару пра беларускі народ з берагоў Нёмана, а гэта народ, якому найлягчэй трапіць пад падазрэнне пра поўную няздольнасць думаць і абыякавасць да ўсяго, што не мае дачынення да найбліжэйшых і вельмі прыземленых яго запатрабаванняў і інтарэсаў. Цяжкія і лянівыя нават у маладосці рухі ягонага цела, апатычныя рысы, хутчэй пануры і праставаты, чым вясёлы і разумны позірк, павольная, блытаная гаворка — вось ягоныя знешнія рысы, якія спачатку кідаюцца ў вочы.

Але ў апошнія некалькі дзясяткаў гадоў грамадскае жыццё дало нам шмат доказаў таго, што пад гэтай знешнасцю хаваецца цэлы шэраг спецыяльных, выпрацаваных стагоддзямі паняццяў, цэлы кодэкс законаў, якія з гэтых паняццяў вынікаюць, а таксама шмат арыгінальнасці і смеласці ў характарах і меркаваннях. Усё гэта, зразумела, выяўляецца пры адпаведных абставінах. <...>

Вельмі распаўсюджана меркаванне, што сяляне зусім абыякава ставяцца да навакольнай прыроды, яе прыгажосці і з'яў, якія непасрэдна не ўплываюць на іхняе штодзённае жыццё, проста не заўважаюць. Здзіўляе адно: як гэтае меркаванне можа суадносіцца з народнай песняй, дзе густа рассыпаны надзвычай маляўнічыя і дакладныя вобразы прыроды. Пярэчыць гэтаму і рэальнае веданне народам расліннага свету, настолькі дакладнае, што смела можна сцвярджаць: ад самага высокага дрэва да найдрабнейшай травінкі, якія растуць на той самай зямлі, што і ён, няма такой расліны, якая ў яго мове не мела б назвы, а ўжо ў саміх тых назвах выяўляецца назіральнасць, выказаная вобразна і паэтычна, часам грубавата, але затое дакладна.

Вось вязанка назваў, што выяўляюць характэрныя ўласцівасці раслін.

*Скрыпіца* (*Silene inflata*, на Мазоўшы — skrzypek). Ніклая фіялетавая кветка, якая, калі сціснеш яе ў пальцах, злёгку паскрыпвае.

*Шалястуха* (*Thlaspi arvense*). Калі выспявае насенне гэтай травы, торбачкі, у якіх яно знаходзіцца, набываюць залацісты колер і пры самым маленькім дотыку вельмі мілагучна шалясцяць.

*Рагуля* (*Delphinium consolida*). У Лідскім павеце называюць рагулькай. Фіялетавая кветка, якая расце ў збажыне. Лісцікі прадаўгаватыя, падобныя на рогі.

*Валачай*, альбо *коткі*, альбо яшчэ *каташкі* (*Trifolium arvense*). Від канюшыны; бухматая шэрая кветачка, якая сваім колерам і мяккасцю нагадвае каціную поўсць.

*Галубейнік* (*Anchusa arvensis*). Трэба было шмат назіральнасці, каб назваць гэтую расліну паводле колеру кветак, бо нават там, дзе яна шырока разрастаецца, што здараецца вельмі рэдка, толькі зблізку заўважны пяшчотны блакіт яе кветачак, такіх дробненькіх, што можна параўнаць іх з вушкам іголкі, да таго ж яшчэ і схаваных у чашачках з лісця.

*Малачай* (назва гэтая даслоўна адпавядае польскай — mleczaj, але азначае тут іншую расліну). Малачай па-расейску і ўкраінску азначае *Euphorbia*. Малачай пад Горадняй значыць *Leontodon antumnalis*. Сцябло гэтай расліны, калі разломіш, выпускае ў невялікай колькасці вадкасць, падобную да малака. Аднак не ўсе сялянкі назву расліны звязваюць з гэтай яе ўласцівасцю. Некаторыя з іх сцвярджаюць, што калі гэтая расліна густа расце на пашы, то каровы будуць даваць шмат малака.

*Званочкі* (*Campanula rapunculoides*).

*Кубачкі* (*Campanula rotundifolia*).

*Падарожнік* (*Plontago media*). Гэтую назву мае толькі кветка, што на цвёрдым і высокім сцябле тырчыць ля дарогі. Уся расліна называецца *бабка*.

*Гніды* (польскай і лацінскай назваў не ведаю). Маленькі кусцік, абсыпаны драбнюткімі бела-жоўтымі кветачкамі.

*Дзеравянка* (*Cichorium intybus*). Цвёрдае дзеравяністае сцябло, якое цяжка зламаць.

*Ліпка* (*Galium uliginosum*). Зарослая валаскамі, якімі пры кожным дотыку моцна прычэпліваецца да скуры ці адзення, робячы ўражанне ліпкай рэчы.

*Шалюжкі* (*Malva rotunditolia*). Назва гэтая, верагодна, перайшла ад надняманскай засцянковай шляхты, якая гэтую расліну называе шалёнжкі з-за насенных гузічкаў, што знаходзяцца на ёй і нагадваюць дробныя манеткі.

*Хвашчай* (хвошч, хвошчка) — расліна, якая ад цэнтральнага сцябла выпускае мноства аголеных сцяблінак, як быццам тоненькіх хвосцікаў.

*Сухавейка*, альбо *налупнік* (*Elichrysumi arenarium*). Гэтая кветка, як вядома, вызначаецца сухасцю. У народзе лекавы сродак ад сухотаў.

*Сардэчнік* (*Alchemilla vulgaris*). Засцянковая шляхта называе яго гусіныя лапкі. Лісце паводле сваёй формы нагадвае сэрца, а размяшчэннем тканак абалонкі — ногі вадзяных птушак.

*Казліныя бароды* (польскай і лацінскай назваў не ведаю). Ліловая кветка на высокім сцябле, што выбіваецца ■ купкі вузкіх прадаўгаватых лістоў, яна, калі вырваць яе з зямлі і павярнуць уніз, вельмі дакладна нагадвае казліную бараду.

*Маслянка* (польскай і лацінскай назваў не ведаю). Пры націсканні пакідае на пальцах вадкасць, падобную да тлушчу. Кветка жоўтая і бліскучая, нібыта намазаная тлушчам.

*Хмельнічак* (*Trifolium agrarium*). Далікатны, віецца, накшталт хмелю, па кустах.

*Зубнік* (*Euphorbia*). Форма ліста нагадвае зуб, вырваны з коранем.

*Маркоўнік* (*Chaerofyllum sylvestre*). Калі пацерці, выдзяляе пах морквы. У засцянковай шляхты — мархеўнік.

*Картафлянік*. Лісце падобнае да бульбянога.

*Дзерэза*, дзе-нідзе *дзераза*, *дзерэга* (*Lycopodium elevatum*). Падобная на нешта разадранае і дзярэ адзенне, за якое лёгка чапляецца.

*Бабіна лета* (*Chamaenerion*). Цвіце ўвосень, кветка цёмна-сіняя. Паколькі мае высокае сцябло, чапляецца за яго восеньскае павуцінне, «бабіна прадзіва».

*Мядзведжае вуха*. Гатунак вялікай дзіванны, вялікія, мяккія і кашлатыя лісты якой нагадваюць вушы дужага касматага звера.

*Асот стропства*. Мае лісце, пакрытае белаватымі ўзорамі, аброслае вельмі вострымі шматлікімі шыпамі. Упершыню знайшлі мы яго каля шляхецкай аселіцы пры плоце і, запытаўшыся пра назву ў шляхцянкі, якая мінала нас, атрымалі адказ: «Стропства». На пытанне, чаму гэтая расліна мае такую назву, дзяўчына, не задумваючыся, адказала: ці ж я ведаю! Але крыху засяродзіўшыся, з усмешкаю растлумачыла: «Можа, таму, што і стракатая, і вострая».

Існуе іншая група назваў, якія нібыта паходзяць ад характэрных уласцівасцей расліны (лекарскіх, гаспадарчых ці чарадзейскіх).

*Падгруднік* (*Hypopitys monotropa*). Ужываецца супраць болю пад грудзьмі.

*Горлінец*. Ад гарлавога болю.

*Блашчытнік*. Мае моцны пах, ад якога здыхае жамяра. Сяляне пасыпаюць ім падлогу ў хатах і ложкі.

*Боршч*. Як зварыцца, мае кіславаты смак. Часам яго ўжываюць у страву замест бурачнага лісця.

*Дурэц* (*Datura stramonium*). Пасля ўжывання выклікае адурманьванне. Вясковыя лекаркі, а часцей за ўсё так званыя ведзьмы карыстаюць яго досыць часта.

*Паўночнік* (*Centaurea jacea*). Яго даюць піць дзецям, каб супакоіць іх плач. Вясковая лекарка, на пытанне, адкуль можа паходзіць гэтая назва, без вагання растлумачыла, што найчасцей дзеці прачынаюцца і крычаць каля паўночы, калі іх і поясць гэтым зеллем.

*Падбел*, інакш *капуста стырнікаў*. Другая назва іранічная. Тыя, хто дражніць так сялян, якія гоняць па Нёмане плыты і віціны, кажуць, што ў сваіх водных вандроўках яны харчуюцца гэтай раслінай, што расце па берагах рэк над вадой, чаму плытагоны пярэчаць.

*Чарнобуль* (*Artiemiesia vulgaris*). Ад такога вялікага болю, што «ажно чорна робіцца ў вачах».

*Становнік* (*Chimophila umbellata*). Пасля ўжывання ён хворага чалавека «ставіць на ногі». Ужываюць ад болю страўніка.

*Шчасце* (*Erigeron acre*). Дзяўчаты падчас жніва затыкаюць яго за пояс, каб прыносіла ім спор і хуткасць у працы. У засцянковай шляхты таксама называецца шчасце, але ўжываецца інакш. Калі расцвіце ўплеценае ў дзявочыя валасы, то каханне будзе ўзаемнае.

*Загартушка* (*Drosera rotundifolia*). Ужываюць для мілосных чараў. Згатаваны і выпіты настой з яе карэння мае ўласцівасць прыцягваць каханую асобу. Паводле сцверджання вясковай лекаркі, гэты сродак раяць толькі тыя з жанчын, што ведзьмаруюць, а тыя, што не ведзьмаруюць, але сапраўды лечаць і хочуць рабіць толькі дабро людзям, а дрэннае не хочуць, не раяць яго нікому.

На маю думку, да гэтай групы належыць таксама цэлы шэраг *парушэннікаў*, раслін, што ўжываюцца звычайна пры жаночых хваробах. Лекаркі сцвярджаюць, што існуе дзевяць парушэннікаў, я ж да гэтага часу атрымала толькі сем назваў. Гэта наступныя:

1) *Срэбнік срабрысты* (*Potentilla argentea*).
2) *Паслёнак* (*Helianthemum vulgare*).
3) *Erythraea centaurium*.
4) *Veronica officinalis*.
5) *Грушычка* (Pyrola rotundifolia).
6) *Дзевянцёрнік* (*Parnassia palustris*).
7) *Рдэст* (*Polygonum dumetorum*).

Кожная з гэтых раслін мае асобную назву, так што парушэннік — гэта нібыта лекарская назва, якая адносіцца да цэлай групы раслін, што ўжываюцца ад пэўных хвароб.

Першы са згаданых парушэннікаў называецца бліскавіца, другі — курачая слепата, трэці — гваздзічка, пяты — сямізялён (у засцянковай шляхты — грушка), шосты — дзевяціранак. Назвы чацвёртага і сёмага яшчэ не даведалася. Чацвёрты (*Veronica officinalis*) ужываюць ад бясплоднасці.

Да трэцяй групы назваў можна аднесці тыя, якія хутчэй за ўсё маглі ўзнікнуць з паданняў іназіранняў, аднак настолькі аддаленых у часе, што сёння адшукаць іх у народзе вельмі цяжка. Не скажу, што немагчыма, бо на

гэтай ніве росшукаў адно новае знаёмства, адзін праблiск памяці, з якой знешне, здавалася б, ужо ўсё было ўзята, неспадзявана могуць усё растлумачыць. Назвы, паходжанне якіх паводле іхняй маляўнічасці ці спалучанасці са з'явамі прыроды, можна выводзіць ад старажытных паданняў і назіранняў, наступныя:

*голад* (*Knautia arvensis*). У засцянковай шляхты таксама, але на польскі лад глуд. Чаму? Ці ў неўраджайны год вырастае яго шмат? Ці ў часы голаду яго выкарыстоўваюць у ежу? Ці бледна-ліловы колер кветкі нагадвае пасінелы твар згаладалага жабрака? Нягледзячы на ўсе мае стаpaнні, гэтага дазнацца не змагла.

*Зязюлін лён*, альбо *Найсвентшай Панны лён* (*Linaria vulgaris*). Ад дзвюх кабет чула, што гэтая расліна пачынае расцвітаць тады, калі абзываецца зязюля. Аднак іншыя адкідвалі нават саму першую назву, упарта трымаючыся другой.

*Заечы лён* (*Fumaria officinalis*).

*Заечая капуста* (ні польскай, ні лацінскай назвы не ведаю). Гэтая расліна расце толькі ў лесе. Сцябло яе тоўстае і ружаватае, лісце і кветкі настолькі мясістыя і сакаўныя, што засушыць іх амаль немагчыма.

*Грамотнік* (*Trifolium montanum*). Служыць лякарствам ад ліхаманкі і хваробы страўніка.

*Святаянскае зелле* (*Hypericum perforatum*). Лякарства ад шматлікіх хвароб.

*Краснік* (*Epipactis palustris*). Змяшаны са станоўнікам даюць піць цяжарным.

*Станеба* (*Valeriana*). Не чула, каб лекарскія ўласцівасці гэтай расліны былі вядомыя народу.

*Лада* (*Vicia hirsuta*).

*Чарвятош* (*Filago arvensis*). Пра гэтую прыгожую расліну, якая нагадвае горную флору, існуе паданне, звязанае ■ яе лекарскімі ўласцівасцямі. Калісьці малады селянін пайшоў на вайну, пакінуўшы ў хаце маладую і каханую жонку. Доўга яго не было, а калі вярнуўся, знайшоў жонку, якая памірала ад страшнай ліхаманкі. Аднак ён не спалохаўся, а сказаў: «Я яе зараз вылечу». Пайшоў у поле, нарваў чарвятошу, заварыў яго і напаіў ім жонку. Як бы ёй нешта зрабіў (нібыта яе зачараваў), казалі, так адразу выздаравела. З тых часоў адвар чарвятошу даюць хворым на гарачку.

*Бярозка* (*Convolvulus arvensis*).

*Грачынка* (*Polygonum convolvulus*).

*Омэн* (*Senecia*).

*Тройнік* (*Lythrum salicaria*).

*Брызгунец* (*Rhinantus major*).

*Грабелькі 1* (*Geranium pratense*).

*Грабелькі 2* (*Erodium cicutarium*).

*Баркун 1* (*Melitotus alba*).

*Баркун 2* (*Veronica spicata*).

*Драсён* (*Polygonum lupulifolium*).

Тры расліны маюць адну назву *курачая слепата* (казялец, лаганец і паслён), дзве — *грабелькі* і дзве — *баркун*. Гэта сустракаецца досыць часта. Прычына, відаць, у меншым альбо большым падабенстве знешніх ці ўнутраных уласцівасцей. Так, напрыклад, усе тры курачыя слепаты маюць круглую жоўтую кветку амаль аднолькавай велічыні. Лісце абодвух грабелькаў амаль аднолькава зубкаватае. Два баркуны маюць коласападобную кветку, якая адрозніваецца толькі колерам: *Melitotus alba* — белая, *Veronica spicata* — ліловая.

Потым:

*Камёла 1* (*Galium verum*).

*Камёла 2* (*Artemisia campestris*). У засцянковай шляхты — дзікае Божае дрэўца.

*Куколь свойскі* (*Lychnis githago*).

*Куколь дзікі* (*Saponaria vespertina*).

*Агурэчнік лясны* (*Spiraea ulmaria*).

*Агурэчнік палявы* (*Borrago officinalis*).

*Рутка*, альбо *руціца 1* (*Lucerna megicago falcata*).

*Рутка 2* (*Lotus corniclatus*).

*Рутка 3* (*Medicago lupulina*).

*Расходнік палявы* (*Lysimachia vulgaris*).

*Расходнік лясны* (*Carlina vulgaris*).

*Расходнік балотны* (польскай і лацінскай назваў не ведаю).

*Падбел вадзяны.*

*Падбел палявы* (*Capsella bursa pastoris*).

Таксама ёсць вельмі шмат назваў, якія супадаюць з агульнаўжывальнымі альбо тымі, якія прынятыя ў польскай батаніцы.

*Шанда* (*Marrubium*).

*Ценгель* (польск. Dziegiel).

*Дзіванна* (*Verbaseum nigrum*).

*Брунэлька* (*Prunella vulgaris*).

*Пералётнік* (*Anthyllis vulneraria*).

*Палын* (*Artemisia absiuthium*).

*Лопух.*

*Жывакост.*

*Крываўнік* (*Achillea millefolium*).

*Брат і сястра* (*браткі*). У адвары гэтых зёлак купаюць хворых дзяцей.

*Папараць.*

*Варанец.*

*Верас.* Згатаваны і змяшаны з ячменнымі крупамі лечыць пашкоджаныя члены людскога цела, а таксама хваробы свіней.

*Крапіва* называецца крапівай, але пэўны яе гатунак — *жыжкай* (*жыгучкай*).

Назваў траў апрача згаданай шалястухі ведаю сем:

*Жыціца.*

*Гірса*, альбо *дырса* (па-польску ў некаторых мясцовасцях таксама дырса, па-ўкраінску — *тырса*).

*Асочка* (дзе-нідзе асака, сака).
*Мятлічка.*
*Тымка.*
*Плоская трава.*
*Вострая трава.*

Канешне, усё прыведзенае вышэй толькі нязначная частка батанічных назваў і ведаў беларускага народа з-пад Нёмана. Цяжкасць і запаволенасць, з якімі гэтыя веды прыадкрываюцца перад намі, прыводзяць мяне да думкі, што спатрэбіцца шмат часу і нястомнай цярплівасці, каб спазнаць іх цалкам. У маім кветніку расце таксама шмат раслін, назваў якіх я не згадала, таму што патрабуе яшчэ пацвярджэння правільнасць гэтых назваў і звязаных з імі тлумачэнняў.

Прыгожым чэрвеньскім днём падчас найбольшага буяння расліннасці ля дарогі, што перасякала невялікі сасновы барок, раскіданы па пагорках над самым Нёманам, прысела невысокая хударлявая бабка. Было ёй недзе каля шасцідзесяці гадоў, апранутая яна была ў звычайны сялянскі строй. Быстрыя чорныя вочкі на круглым, румяным, але паморшчаным твары нагадвалі разынкі, усаджаныя ў падмарожаны яблык. Відаць было, што кабета стамілася і ёй нешта далягала, бо сядзела пад сасной, крывячыся і стогнучы. Але раптам яна пачала прыслухоўвацца. Па лесе разносіўся спеў. Спявала жанчына. Нехта ішоў сюды бакавой сцяжынкай, што бегла ўглыб лесу смарагдавым пасам, і, ідучы, спяваў.

Свеціць месяц, свеціць паміж зорачкамі,
Сядзіць мой міленькі паміж дзевачкамі.
Няхай жа сядзіць, няхай рассядаецца,
Няхай жа чужым прыглядаецца, з чужымі забаўляецца.
Няхай жа чужым прыгажуням віно купляе,
А на мяне, маладую жонку, нагайку шукае.
Шукай сабе не шукай, але біць не будзеш;
Не трэба было ссякаць зялёнага дуба,
Не трэба было браць мяне, калі не люба,
Не трэба было ссякаць зялёнага гаю,
Не трэба было браць мяне да чужога краю,
Не трэба было ссякаць зялёнай ляшчыны,
А трэба было ўтапіцца, едучы да дзяўчыны.
Ой, не было на цябе ні перуна, ні вады:
У цёмную ночку прыехаў пракляты пан малады!

Седзячы на ўскрайку лясной дарогі, бабка слухала. Песню гэтую пра разбітае жаночае сэрца яна ведала добра. Шчыра кажучы, пачуццяў, пра якія ў ёй гаварылася, яна не спазнала, бо мела добрага мужа, які яшчэ і сёння, хоць ужо сівы і прыгорблены дзед, часта па-сяброўску з ёю пагаворыць і заступіцца за яе перад нявесткай. Але колькі ж, колькі бачыла яны іншых кабет, якія заліваліся слязамі, спяваючы гэтую песню! Цяпер слухае бабка гэтыя даўно вядомыя словы, гэтую мелодыю, што шырока разліваецца па лесе, і праз некалькі хвілін бачыць у канцы зялёнай сцежкі паміж соснаў

жанчыну, што выходзіць з фартухом, двума канцамі прывязаным да пояса і напоўненым зёлкамі і кветкамі. Выглядала яна на няпоўныя сорак гадоў, таму ў параўнанні з ёю была маладая. Цёмныя, бліскуча-чорныя валасы дзвюма пасмамі выбіваліся з-пад чырвонай хусткі і адцянялі смуглы твар, невялічкі, з маленькімі вуснамі і такімі агністымі, што ажно іскрыліся, чорнымі вачамі. У канцы сцежкі яна перастала спяваць, прыспешыла крок і, мінаючы бабку, што сядзела пры дарозе, павіталася, як звычайна: «Хай будзе пахвалёны!», а потым праз некалькі крокаў спынілася пасярод дарогі. Выгляд незнаёмага твару абудзіў у яе цікавасць.

— А чаго, цётка, пры дарозе седзіцё?..

Адказала з пакутаю ў голасе, але ахвотна: вось прайшла тры мілі, а паколькі нядаўна паднялася пасля цяжкай хваробы, то надта ж змучылася, у вачах робіцца цёмна і ў сярэдзіне баліць. Пачуўшы пра цемень у вачах і боль у сярэдзіне, кабета з фартухом, поўным зёлак і кветак, падступілася бліжэй да бабкі.

— А куды ж ідзяцё?

Бабка ішла ў адведзіны да адной знаёмай пані, якая доўгі час жыла ў суседстве, а цяпер жыве вось тут, за тым лесам.

— А адкуль жа вы?

— З Гледавіч.

Кабета з зёлкамі яшчэ з большай цікавасцю падступілася бліжэй.

— Калі вы з Гледавіч, то, напэўна, ведаеце Люцю, што там жыве, лекаруе.

Бабка, нягледзячы на стому і боль у сярэдзіне, пачала так смяяцца, што ажно на яе чорных кругленькіх вочках выступілі слёзы.

— Ой, мая ты міленькая, якая ты смешная!.. Ой, Божа ж, мой Божа, ой, запыталася! Ведаю, ой, ой, добра ведаю! То ж я сама... гэта Люця!..

Маладзейшую жанчыну гэтая вестка так усцешыла, як быццам яе невядома якое шчасце спаткала. Села каля бабкі на зямлю, абняла яе і з гарачай цікавасцю зазірнула ў вочы.

— Дык гэта ты Люця... гэта ты Люця з Гледавіч! Ой, Божа ж мой, Божа! Ой, мая ж ты міленькая! Як я хацела цябе ўбачыць! Як я хацела з табой пагаварыць!

— А хто ж ты такая?

— А я Каська Караўкава з Горнаў, таксама лекарую, але дзе маё лекараванне да твайго! Цябе людзі так хваляць, не жарт як хваляць!

## З ЛІСТОЎ ДА ЯНА КАРЛОВІЧА

### 1

Тры тыдні таму быў у мяне добры ваш знаёмы з Вільні пан Багушэвіч. Вельмі прыемна бавіла з ім некалькі гадзін. Ён чытаў мне свае беларускія творы і нават даў копію з асобным вершам, напісаным па-беларуску. Ці ж няпраўда, што гэта цудоўныя рэчы, у іх нейкае асаблівае характво.

*2 лістапада 1887 г.*

25 Зак. 1799

2

Быў у мяне нядаўна пан Багушэвіч і чытаў мне сваю, толькі што напісаную па-беларуску казку, доўгую, поўную фантазіі, цудоўную. Прыгожы гэта талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, на маю думку, выдатныя. Трэба [redacted] усёй сілы заахвочваць яго да працы ў гэтым кірунку.

*22 лістапада 1888 г.*

**Каментарыі**

**«Тадэвуш».** Друкуецца паводле выд.: Ажэшка Э. Выбранае. — Мінск, 1975. Пераклад з польскай мовы Я. Брыля. Апавяданне напісана ўлетку 1884 г. З'явілася ў друку ў 1885 г. у часопісе Kurjer Codzienny, у кніжным выданні — у 1888 г. Усе песні і загадкі Э. Ажэшка падае ў арыгінале — на беларускай мове.

[1] Чварак — памяшканне для батракоў.

**«Людзі і кветкі над Нёманам».** Друкуецца паводле выд.: Ажэшка Э. Аповесці, апавяданні, нарысы. — Мінск, 2000. Пераклад з польскай мовы Г. Тычка.

**«З лістоў да Яна Карловіча».** Друкуюцца паводле выд.: Багушэвіч Ф. Творы. — Мінск, 1991. — С. 255.

## ГЕНРЫК ТАТУР
## (1846—1907)



Археолаг, гісторык, краязнавец, калекцыянер Генрык Хрыстафоравіч Татур нарадзіўся ў Мінску. У свой час з'яўляўся членам Мінскага статыстычнага камітэта, павятовым маршалкам дваранства. З 1874 г. вёў археалагічныя раскопкі ў Мінскай губерні, склаў яе археалагічную карту з апісаннем помнікаў. У 1884—1885 гг. заснаваў часовы археалагічны музей у г. Беразіно, дзе ў наваколлі вёў раскопкі (вёскі Калюжыцы, Крушына, Курганне, Русалішча і інш.). Толькі за 1890 г. ён даследаваў 120 кurганоў каля вёсак Дулебы і Няюнішчаў Ігуменскага павета, у 1892 г. — 40 кurганоў каля вёскі Станькава, у 1893 г. — 40 кurганоў каля вёскі Прылукі Мінскага павета. У выніку паездак па Міншчыне Татур падрыхтаваў вялікі альбом археалагічных помнікаў (1893). Стварыў у Мінску багаты прыватны музей па гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі і ўнікальную бібліятэку (калекцыі рукапіснай кнігі і старадрукаў, у тым ліку «Біблія» Ф. Скарыны, беларускага жывапісу). Аўтар прац «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, ранейшай сталіцы ўдзельнага Тураўскага княства», «Гісторыя Станькава», «Гісторыя Заслаўя» (захаваліся ў рукапісах). Пасля смерці яго зборы былі прададзены, многія вывезены за мяжу. Выказваўся за стварэнне агульнанацыянальнага музея і адкрыццё публічнай бібліятэкі ў Мінску.

*Г. Каханоўскі*

*З Яна Чачота*

### ПРАДКІ

З праснічкамі сядзяць дзеванькі, як краскі,
Прадуць сабе, прадуць слуцкія паяскі.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Паплыў аж да Рыгі кавалер з віцінай,
Слязьмі заліваўся — жагнаўся з дзяўчынай.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Гладка пража ўецца, весела дзяўчыне.
Тры дні ўспамінала аб верным хлапчыне.

Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Другі падвярнуўся маладзец-хлапчына,
І другому рада хотліва дзяўчына.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

Гудзіць вераценца! Парвалася нітка...
Стыдом гарыць дзеўка — брыдка гэтак, брыдка.
Гудзі, вераценца, вярціся скарэй!
Тая помніць лепей, чыя ніць даўжэй!

### Каментарыі

**«Прадкі»**. Друкуецца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

## СОФ'Я МАНЬКОЎСКАЯ
## (1847—1911)



Імя гэтай паэткі ў гісторыі беларускай літаратуры авеяна легендай. Па-першае, таму, што народжаная ў 1847 г. у беларускім шляхецкім фальварку на Случчыне (сучаснай Капыльшчыне) паненка Зося Манькоўская, а ў замужжы пані Соф'я Тшашчкоўская ўрэшце абрала сабе за літаратурны псеўданім скарочанае прозвішча бацькі — Адам М-скі, апрануўшы такім чынам мужчынскую маску на свайго лірычнага героя. Па-другое, таму, што яе хросным бацькам у літаратуры быў знакаміты У. Сыракомля, якому яна даводзілася сваячкай (пляменніцай мужа сястры паэта) і які ў маі 1862 г. падарыў ёй верш «Да панны Соф'і Манькоўскай», бласлаўляючы юную паэтэсу стаць пасля яго пясняркай «на сіратлівай Літве». Ад гэтага часу пройдзе яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў, пакуль паэтычны голас Адама М-скага сапраўды загучыць над краем, вынікова працягваючы справу свайго папярэдніка і спаўняючы тым самым яго запавет. Услед за сваім настаўнікам С. Манькоўская таксама звернецца да беларускамоўнай творчасці: яе арыгінальны верш «Божа, наш бацька» («Беларуская малітва») і пераклады тэкстаў вядомых у свой час польскіх песень на словы Марыі Канапніцкай, Тэафіля Ленартовіча і Яна Чачота ўжо занялі сваё пачэснае месца ў гісторыі беларускай літаратуры XIX ст., сталі хрэстаматыйнымі. Яе ж багатая і разнастайная польскамоўная спадчына, перакладзеная на беларускую мову, патрабуе паслядоўнага і грунтоўнага ўключэння ў айчынны літаратурны працэс рубяжа XIX—XX ст.

«Сіратлівая Літва» натхнёна і таленавіта была апета С. Манькоўскай у цыкле «Дарагавіцкія песні», дзе яна, па ўзору былых рамантыкаў, скарыстала фальклорныя і гістарычныя матывы, а ў мастацкую канву твораў нязмушана ўпляла ўяўленні пра звычаі, абрады, завядзёнкі ў родным беларускім краі. Тут яна нарадзілася, правяла свае дзіцячыя і юнацкія гады, сюды ж, у Дарагавіцу, яна ўрэшце вярнулася і пражыла да канца свайго жыцця. Паэтка апела былую славу і веліч Айчыны, аплакала ў майстэрскіх вершах яе трагедыю і заняпад. Яе вершы ўражваюць глыбінным псіхалагізмам, спавядальнасцю, напружаным драматызмам пачуццяў — тым «агнём грудзей уласных і гарачых», які яна сама назвала сваім Богам і Катам.

Дарагавіцу — родавы шляхецкі маёнтак Манькоўскіх — набыў у 1829 г. ва ўладанне бацька будучай паэткі. Ёй было вядома з дакументаў, што з XVI ст. маёнтак у розны час належаў князям Алелькавічам, Радзівілам і іншым шляхецкім родам. Яе фантазію ўзбуджалі старыя курганы — сведкі мінулых бітваў, рэха паданняў пра перамогу вояроў Радзівіла над татарамі, а таксама пра славутую бітву 1506 г. пад

Клецкам, што ляжаў у няпоўных чатырох мілях ад Дарагавіцы. Вершы і санетныя нізкі дарагавіцкіх песень тэматычна падзяляліся аўтаркай на два вялікія раздзелы: «Зямля» і «Людзі». У 1899—1906 гг. яны рэгулярна друкаваліся на старонках такіх польскіх перыядычных выданняў, як «Prawda» («Праўда»), «Kurjer Litewski» («Літоўскі веснік»), «Tygodnik Ilustrowany» («Ілюстраваны штотыднёвік»).

Менавіта дарагавіцкія песні Адама М-скага былі высока ацэнены польскай крытыкай як найбольш арыгінальныя, свежыя сваім мясцовым каларытам і эстэтычна вартасныя. Дарагавіцкія песні сталі велічальным гімнам роднай зямлі — Беларусі з асаблівасцямі яе гістарычнага і культурнага развіцця, звычаяў і традыцый. У звароце да народнага жыцця, да гістарычных каранёў, у патрыятычным пафасе вершаў яўна вызначыўся рамантычны тып светаўспрыняцця аўтаркі.

Феномен Соф'і Манькоўскай значна кампенсуе фрагментарнасць і стратнасць тагачаснага літаратурнага працэсу на Беларусі ў паэзіі, звязвае яго як з нацыянальнай рамантычнай традыцыяй міцкевічаўскай пары, так і з еўрапейскім культурным кантэкстам сучаснай паэтэсе мадэрнісцкай эпохі. Яркай бачыцца і сама творчая індывідуальнасць дарагавіцкай пясняркі, якая стварыла мужчынскі вобраз лірычнага героя, іграючы як бы некалькі літаратурных роляў аднachасова: закаханага мужчыны, які перажывае душэўныя ўзлёты і крызісы, і жанчыны, якая прагне высокага ідэалу ў пачуццях і каханне якой, спатыкаючыся аб немагчымасць сваёй рэалізацыі ў рэальнасці, ахоплівае сабой сферу найвышэйшай наканаванасці і выяўлення ў духу.

*І. Багдановіч*

## БЕЛАРУСКАЯ МАЛІТВА

Божа, наш бацька, мы твае людзі,
А неба цёмна ад чорных хмар.
На свеце цяжка, аж баляць грудзі,
Дзе ні пачуеш — голад, пажар.

Гулялі ветры на нашым полі
І сапсавалі нам ураджай,
І няма шчасця, і няма долі.
Божа, наш бацька, хлеба нам дай!

Дай нам здароўя, шчыру ахвоту,
Калі з сахою пойдзем араць.
Ты бачыш цяжку нашу работу,
Дай жа пажытку з яе прыждаць!

Пашлі нам сонца з цёплай расою,
Каб зашумела ніва, як гай.
Кажуць, ты — бацька, мы — пад табою;
Хлеба, і сонца, і шчасця нам дай!

## НА ПАЖАРЫШЧЫ[1]

Мы на пажарышчы стаім —
Дружына да работы.
Тут будзе дом, і мы над ім
Пральем нямала поту.
Гэй, гаспадар, прэч слёзы, жаль,
Піла пяе і молат
Ужо грыміць, сякеры сталь
Куе каваль наш волат.
І, быццам рыцары ў баі,
Пад ёю гінуць дрэвы,
Смала крывёй сцякае з іх
Пад новыя пасевы.
Паўстануць шэрагі стадол
У жніўны час да неба,
І ўвойдзе госць, што гоіць боль,
Той госць — кавалак хлеба.
Сёння ж пусты для зерня схоў,
Нібы касцёл забыты.
Ўвесь гонар цэху цесляроў
Дастаўся самавіты —
Як капеланскі. Божы суд
Ідзе па свеце, ўслед жа
Вядзе і літасць. Так і тут:
Дзе віхар дзьмуў драпежны,
Дзе дым-агонь усё скрушыў,
Там цесля дом узвесці
Збярэцца, скажа ад душы:
«Ат, хай згніе на месцы!»[2]
Грунт пажагнае, зробіць план,
«Каайце!» — ўзніме чарку. —
«Слупы ўкаайце тут і там!» —
І пойдзе праца шпарка.
Хай енчыць пушча — мерны стук
Чуваць над рэчкай шэрай,
Гняздо а лакаў чорны крук,
Сячэ, сячэ сякера.
Хто не адну ўжо веку чвэрць
Пражыў, той цэніць страты:
Сястра жыцця заўсёды смерць,
Труп дрэва — людзям хата.
І мы, і дрэвы маем кон
Свой у зямным існенні,
Заўжды народзіны і скон

Змяняюць пакаленні.
Як сумна! Хутка й нам да меж
Дайсці ў той вечнай змене!
Дык не для трун — для хатаў перш —
Валіцеся, бярвенні!
Са скроняў пот буйны цячэ,
Блішчыць-ільсніць на твары,
Пяе піла, тапор сячэ,
Б'е молат, сонца скварыць.
Кавальшчык крэкча — ах ды ох!!
Звініць жалеза, потым
Уздоўж, ушыр глыбее лёх,
Паліты шчодра потам.
Вязуцца «шулы»[3] — лес «пайшоў»,
Рыпяць калёсы цяжка.
Расце будынак, трамы[4] ўжо
Яго вянчаюць важка.
Паўсталі сцены і куты —
Ўсё лад да ладу, строга.
Гэй, цесля, справу знаеш ты,
Дык Бог у дапамогу!
Паўстаў пілястраў стройны рад,
З касцёльнай формы ўзяты,
І пар дванаццаць сох[5] падрад
Злучылі звод стральчаты.
Дый не канец яшчэ, ані!
Як кажуць у народзе,
Штораз тут, Божа барані,
Жыццё са смерцю ходзіць.
Яшчэ накрыць нам трэба гмах
Смалісты, новы, ўзнёслы,
Каб лёгка й годна ўзнёсся дах
Высока пад нябёсы.
Паставіць кроквы — то не жарт,
Злучыць іх між сабою, —
Тут трэба спрыт, і моц, і гарт,
І ўмельства не слабое.
Яшчэ няма пакуль машын,
Нямала пройдзе часу,
Пакуль пачне сялянскі сын
Рабіць з машынай разам.
«Як будзе?» — «А вось неяк так...»
Шнур з канаплі, сякера
Ў руках, крыжа складае знак,
І — ўверх! Ну, з Богам, з верай!

А калі раптам бервяно
Ўпадзе адтуль, ударыць, —
То што ж? Як Божы знак яно!
І зноў работа шпарыць.
Наш цесля слаўны камандзір:
«Тут будуць дзверы, вокны!»
Раз-два, раз-два — і ўміг, глядзі:
Ужо паўсталі кроквы!
Набілі латы[6], як каскад,
І гонтай крыць бяруцца,
І вось, як рыбная луска,
Ўжо дошчачкі кладуцца.
Імкнуцца прама да вяршынь —
Да вільчыка[7] самога,
На двух канцах яго — крыжы[8],
На ласку Пана Бога.
Хоць зарабіў той скварны труд
Манету не цяжкую,
Дый блаславіў не марна люд
Любоўю працу тую...

*1899*

## ВЕЧАРНІЦА

Шызы ранні адвячорак,
Дровы ў грубцы зіхацяць,
Грамада сышлася скора
Час зімовы скаратаць.
Той з маёнтку, той з хаціны —
Селі дружна, лушчаць мак,
Старадаўніх казак дзіўных
Тут наслухаюцца ўсмак.
Часам боб альбо фасоля
Градам з рук ляціць у збан.
Зелянее ў думках поле,
Ўсіх чаруе казкі зман.
То не снежныя сумёты
За акном, не віхраў стогн,
А квітнее ў лузе лотаць,
Сніцца ўсім чароўны сон:
Рунь ільсніцца цёплым ранкам
На галінах у бары
Чэша валасы русалка
І рагочуць упыры...
Страх бярэ такое слухаць,

Хоць кладзі на лоб крыжы,
І бабулі ціха, глуха
Голас чуецца, дрыжыць.
Калаўрот стаіць у куце,
Вось прыйшоў яго чарод,
Зараз спеў бабулі будзе,
Ты круціся, калаўрот!
Хутка час плыве ля грубкі,
Што там віхраў тых выццё!
Пройдзе вечар так ціхуткі,
Як сплыве само жыццё.
Песня й казка з ім таксама
Адыдуць у вечну даль.
Зіхаці, душа, слязамі,
Снуйся, думак-мар паркаль!
Песня, лійся ў сэрца хваляй,
Хай крыніцай дух цячэ!
Што цябе ў жыцці трымала?
Спеў і казка! Што ж яшчэ?
Як арліных крылаў пара,
Песня й казка на прастор
Душу неслі над папарам
Да нязгледных новых зор.
Што ж, калі атручан келіх?
І жыцця прайграны бой?
Той вясны ў маёвай белі
Міг шчаслівы, стой жа, стой!
У бабулі скронь сівая,
Думак над ілбом павеў.
Калаўрот сабе кружляе,
Разам ніць снуе і спеў.
Ты спявай, спявай, старая,
Ты круціся, калаўрот.
Да яе калень памкнёны,
Прытулюся галавой,
Рушаць, рушаць легіёны,
Льсняць харугвы нада мной.
Рог да бітвы покліч грае,
Дзіды блішчуць, сыпле шрот.
Ты спявай, спявай, старая,
Ты круціся, калаўрот!
Зможа сон,і прыйдзе рыцар,
«Ты маліся, — скажа ён, —
Бо слязой шчака ірдзіцца,
З гэтага цяжкі твой сон».

Бітва жнецца, кроў ліецца,
Зменіць крэп пурпур удач,
І трыумфу спеў заўецца
Ў надмагільны ліры плач.
Грубка чахне, дагарае,
Дух гарыць, наадварот!
Ты спявай, спявай, старая,
Ты круціся, калаўрот!
Час прайшоў. Пустая хата.
Сам, як даўніх казак здань.
Адыдзіце ж прэч вы, страты!
Мар дзіцячых прывід, — глянь!
Манатонны крок гадзіннік
Мерыць роўна ў цішыні,
За акном віхураў дзікіх
Чуцен лямант, больш — ані.
Сэрца смутак агартае,
Хоча зваць праз тоўшчу год:
Ты спявай, спявай, старая,
Ты круціся, калаўрот!

*1900*

## Каментарыі

**«Беларуская малітва».** Верш так названы ўмоўна выслоўем з прыпіскі да яго ў пісьме рэдактару часопіса «Жыцё» паэту Зянону Пшасмыцкаму: «А як Табе, браце, прыпадзе да густу беларуская малітва?..». Публікацыя У. Казберука (ЛіМ. 4 крас. 1980). Верш напісаны па-беларуску.

**«На пажарышчы».** Пераклад з польскай мовы І. Багдановіч.

*Заўвагі аўтара (Адама М-скага)*:

[1] Гэты верш у асноўным грунтуецца на размовах з работнікамі, адлюстроўвае іх паняцці і патрабуе тлумачэння шматлікіх выразаў, не зразумелых для іншых правінцый.

[2] Звычайнае пажаданне люду беларускага на пачатку будоўлі: «Няхай згніе на месцы!» — што значыць: няхай стаіць без прыгод так доўга, што аж само рассыплецца ў прах.

[3] Шула — тоўстае бервяно, слуп для ўзвядзення сцен.

[4] Трама — бэлька, у пазах якой мацуюцца верхнія канцы сценных слупоў. Разам з падвалінай яна асноўвае ўвесь будынак. У вялікіх будынках могуць быць два і тры вянкі трамаў.

[5] Сохі — слупы, якія ставяць парамі ўнутры стадол для падпірання даху, уверсе яны маюць развілку.

[6] Латы — доўгія жэрдкі, прыбітыя ўпоперак да крокваў, каб на іх класці гонту.

[7] Вільчык — заканчэнне даху: там, дзе сыходзяцца два яго верхнія канцы, кладзецца доўгі кавалак дрэва, які злучае абодва бакі і завецца «вільчыкам».

[8] Сутыкнуўшыся год таму назад са страшнай бядой пажару, я пазнаў кранальны звычай простых людзей: завяршыўшы ўзвядзенне даху, на кожным з іх работ-

нікі прыбівалі крыжыкі «на памяць аб мінулым няшчасці і дзеля засцярогі ад яго ў будучым. Люд цяпер вельмі сапсаваны, аднак застаўся на здзіўленне міласэрным у няшчасці; не ведае таго той, хто з ім не сутыкаўся; хто яго пазнаў, не перастане яго любіць. Крыжы да гэтага часу засталіся.

**«Вечарніца».** Вершы ў перакладзе з польскай мовы І. Багдановіч.

*Ад аўтара (Адама М-скага)*:

З дакументаў, якія ў мяне на руках, бачна, што маёнтак Дарагавіца, які знаходзіцца цяпер у Слуцкім павеце Мінскай губерні, у XVI стагоддзі належаў князям Алелькавічам і быў аддадзены пад залог родам Копцяў, Кернажыцкіх і іншых, з часам перайшоў ва ўладанне Радзівілаў, затым Загорскіх. Ад апошніх набыў яго ў 1829 г. Адам Манькоўскі, і ва ўладанні яго сям'і застаецца дагэтуль. Дарагавіца вылучаецца маляўнічымі краявідамі і старымі валамі, напэўна, цікавымі для археолага. Сыракомля ў паэме «Марцін Студзеньскі» (не ведаю — на аснове якіх гістарычных звестак, ці таксама толькі паданняў?) успамінае, што падчас татарскага нападу пры каралі Аляксандры Ягелончыку радзівілаўскія чыншавікі «разбілі ворага ў Дарагавіцы». Паколькі слаўная бітва 1506 г. адбылася пад Клецкам, што ў чатырох няпоўных мілях адсюль, здаецца праўдападобным, што нейкі меншы атрад мог быць размешчаны ў валах Дарагавіцы, называных і цяпер яшчэ «Замэчкам».

## ВОЙСЛАЎ САВІЧ-ЗАБЛОЦКІ (1850—1893)



Нарадзіўся ў маёнтку Панчаны Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Міёрскі раён Віцебскай вобласці) у багатай памешчыцкай сям'і. Бацька яго памёр рана, і Савіч-Заблоцкі выхоўваўся ў дзеда ў маёнтку Мікалаева Гарадоцкага павета (цяпер Шумілінскі раён). Дзед не звяртаў на ўнука асаблівай увагі і не мог плённа ўплываць на яго. Той рос на руках у дваровых, што спрыяла яго збліжэнню з народам. Паміж дзедам і маці за Савіч-Заблоцкага ішла з пераменным поспехам упартая барацьба, звязаная з пэўнымі маёмаснымі інтарэсамі. Вучыўся Савіч-Заблоцкі ў Віленскай гімназіі і ў замежных універсітэтах (Прага, Лейпцыг, Страсбург). Відаць, гэта было кароткачасовае навучанне са статусам вольнага слухача.

Савіч-Заблоцкі рана пранікся ідэямі вызваленчага руху і нацыянальнага абуджэння беларускага народа. Паводле яго ўласных слоў, у 1868 г. ён узначаліў нацыянальна-асветніцую суполку «Крывіцкі вязок», што ўтварылася ў Пецярбургу і займалася выданнем беларускіх кніг, збіраннем фальклору, падрыхтоўкай слоўніка і г. д. Улады забаранілі суполку, а яе ўдзельнікаў абвінавацілі ў «сацыялізме і прапольскіх сімпатыях». Савіч-Заблоцкі апынуўся пад наглядам паліцыі ў Варшаве, дзе надрукаваў на польскай мове сатырычную паэму «Праўдападобная гісторыя» (1871) і гістарычныя творы пра Каперніка (1873). Адначасова яго вабіла беларуская паэзія. У 1873 г. ён даслаў у пецярбургскі часопіс «Вестник Европы» тры свае лірычныя вершы разам з пісьмом, у якім гаварыў пра старажытнасць беларускай мовы і неабходнасць яе літаратурнай распрацоўкі на новым этапе. У пісьме таксама паведамляў пра намер выдаць «Пісьмы з Варшавы» на рускай мове.

З самага пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці Савіч-Заблоцкі зарэкамендаваў сябе як пісьменнік трохмоўны (беларуская, польская і руская), што было характэрным для беларускіх літаратараў 2-й паловы XIX ст. Пра наступны перыяд свайго жыцця ён пісаў у аўтабіяграфічнай нататцы, называючы сябе ў трэцяй асобе: «Сатыры і імправізацыі зрабілі яму шмат ворагаў у Заходнім краі, прытым фінансавае становішча яго ў выніку марнатраўства маці моцна пахіснулася. Гэта прымусіла яго ў 1875 выселіцца за мяжу, дзе ён да 1888 жыў, знаходзячыся то ў Аўстра-Венгрыі, то ў Германіі, то ў Егіпце, то ў Францыі» (Пачынальнікі: з гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 1977. С. 452). У гэты перыяд Савіч-Заблоцкі актыўна супрацоўнічаў у многіх французскіх, нямецкіх і польскіх газетах і часопісах. Матэрыяльнае становішча яго было надзвычай цяжкае. З архіўных матэрыялаў і іншых крыніц вядома, што ў 1875—1876 гг. ён жыў у Галіцыі, у Львове пазнаёміўся з польскім рэвалюцыянерам Б. Ліманоўскім, супрацоўнічаў там з вы-

даўцом часопіса «Ruch literacki» («Літаратурны рух»), колішнім паўстанцам 1863 г. А. Гілерам, у Тарнове рэдагаваў польскую газету «Gwiazda» («Зорка»). У 1876 г. «за сацыялістычныя прошукі» яго выслалі з Кракава ў Познань. У тым жа годзе ён напісаў у Празе польскамоўную паэму «Аповесць пра мае часы», прысвечаную Беларусі напярэдадні паўстання 1863—1864 гг. У 1880-я гады жыў у Парыжы, спрабаваў выдаваць там газету на французскай мове, чытаць лекцыі пра славянства на рускай мове. У 1882 г. у сувязі з юбілеем паэта Б. Залескага падараваў яму верш «Беларуская пея» (песня), а ў 1883 г. мовазнаўцу Л. Нядзвецкаму — свой рукапісны зборнік «Вязанка эпіграмаў» (складаўся з твораў, напісаных у Швецыі, Аўстрыі, Егіпце, на Корсіцы). У 1885 г. надрукаваў у Познані гістарычную аповесць «Полацкая шляхта». У 1885—1886 гг. супрацоўнічаў з варшаўскай газетай «Chwila» («Хвіліна»). У той жа час выдаў у Парыжы брашуру «Яшчэ Польшча не загінула, пакуль існуе Расія», чым выклікаў вялікую незадаволенасць польскай эміграцыі. Летам 1887 г., калі жыў у вялікай беднасці ў Бруселі (Бельгія), папрасіў дазволу ў царскага ўрада вярнуцца з эміграцыі.

У канцы снежня 1887 г. вярнуўся на радзіму, дзе за ім быў устаноўлены тайны нагляд. У 1888—1889 гг. працаваў у рэдакцыі газеты «Виленский вестник». У 1889—1891 гг. жыў у сваёй цёткі ў маёнтку Губіна Лепельскага павета, вёў перапіску з мовазнаўцам Я. Карловічам, рускім гісторыкам К. Бястужавым-Руміным. Летам 1891 г. наведаў метэаралагічную станцыю вядомага вучонага Наркевіча-Ёдкі ў маёнтку Наднёман (цяпер Уздзенскі раён), але візіт, як пісала прэса, закончыўся сутыкненнем з гаспадаром. У тым жа 1891 г. прыехаў у Мінск, пасяліўся ў Нова-Маскоўскай гасцініцы, перапісваўся са славістамі П. Кулакоўскім і А. Будзіловічам. У лістападзе 1891 г. апынуўся ў Пецярбургу «з намерам далучыцца да праваслаўнай царквы, веравызнання яго беларускіх продкаў». Там пазнаёміўся з гісторыкам і выдаўцом М. Сямеўскім і пакінуў аўтабіяграфічны запіс у яго вядомым альбоме «Знаёмыя. Кніга аўтографаў». У 1892 г. у часопісе «Благовест» надрукаваў нарыс «Шчаслівейшая Марыся» з серыі «Беларускія нарысы». Апошні вядомы дакумент, звязаны з Савічам-Заблоцкім, — адрасаванае яму пісьмо рэдактара «Биржевых ведомостей» М. Коншына ад 3 лютага 1893 г., у якім газета адмовілася надрукаваць яго пераклад з польскай мовы пад назвай «Пятруша» нібыта з-за нелітаратурнасці яго мовы. Жыццё і творчасць Савіча-Заблоцкага, яго супярэчлівыя ідэйна-грамадскія пошукі адлюстроўваюць нялёгкія шляхі станаўлення беларускай літаратуры і нацыянальнай культуры таго часу. Яго беларускамоўная творчасць знайшла належнае месца на старонках гісторыі роднага пісьменства. Асобныя рукапісы і дакументы зберагаюцца ў архівах і бібліятэках Мінска, Вільнюса, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Львова, гарадах Польшчы.

*Г. Кісялёў*

## У РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Люблю цябе, зямля радная,
Дзе ў глухой пушчы ветры дуюць
І хмарка слёзная такая,
Што кветкі Божыя гаруюць.
Люблю цябе, плачу з табою
І песню слёзную пяю,

Ўздыхаю груддзю маладою
І свету грусць ад сэрца лью.
Святая грусць... паклон жа ёй!
Грабніцы беднай не у смех:
У смерці грознай хто рабу
Не дасць пачоту — цяжак грэх!
Маліся, плач і грудзь раскінь,
Штоб вецер біў ў яе крылом,
І сэрца гладзь свайго разінь,
Штоб від няўзгод астаўся ў ём.

## АРЛАЛЁТЫ І ПАДКАНВОЙНЫ, АБО ПОЛАЦКАЯ ШЛЯХТА

(урыўкі)

Як жа весела дзяўчатам на вёсцы, калі квітнее іх маладосць! Прырода песціць іх з замілаванасцю, а чалавек з любоўю туліць іх да сябе. Якія ў іх вольныя думкі, як праменіцца радасцю іх позірк! І калі называюць іх шчаслівымі, то ўжо найшчаслівейшай сярод іх была, бадай, прыгажуня Зоф'я Падканваёўна, адзіная дачка Ягамосці Мечніка! Бацька дыхаць на яе баіцца, дзеля яе забываецца на свет, блізкія і далёкія кахаюць, шануюць і любяць яе, нявінную шчабятушку, якая паўсюдна прыносіць з сабою весялосць. І смутку няма для яе, няма журбы! Усялякі жаль і балесці баяцца з ёй сутыкнуцца. Жыве яна, як пяшчотны анёлак, і, дзе б ні ступіла, дзе б ні стала, — там цэлы сад асалоды лёгка сцелецца ёй пад ногі мяккім кілімам: «Тапчы мяне, тапчы, каб толькі ты была тут як мага даўжэй!», — кажа. Як звонкая пчолка, лётае яна па гэтым свеце, і, гледзячы на яе, усё дасканаліцца хараством гэтай кветачкі, гэтага келіху слодычы, гэтай крыніцы суцяшэння...

Але не адна-аднюткая гэтак лётае яна па кветках: паўсюдна з ёю побач неадступная яе сяброўка, роўная з ёю і векам, і паходжаннем, блізкая да яе й выхаваннем, не меней гожая Ганна, паненка са старога дому Зубраў. Любяць яны адна адну так, як толькі маладосць любіць можа! Зоська лічыць сваю дзевятнаццатую вясну і Ганнуся — тую ж самую. Толькі Зоська залатавалосая, а Ганнуся пазычыла сабе на кудзёркі колер ад крукаў, і на тварыку яе — выраз троху смялейшы і больш жвавы, чым у яе сяброўкі, хаця хвілінамі і больш смутны. А тое, што яна можа часам засяродзіцца ў самотным роздуме, выпусціць з вока слёзку — слёзку, якая так зрэдку вісіць на вейках прыгожай Зосенькі, — гэта таму, што Зоська яшчэ дагэтуль мае бацьку, што Зоська — спадкаеміца Шчароты, і хаця гэты скарб нязначны, але ж тым не менш ужо іншае становішча ў свеце ёй дае, а яна... Ані бацькі, ані маці сваіх яна, беднепькая сіротка, не памятае, узялі яе ў Мечнікаў дом як сяброўку для маленькай Зоські. <...>

Дык чаму ж плакала Ганнуся? Не па бацьку, не па маці, бо іх яна ніколі не ведала, а бацькоў знайшла сабе ў сям'і Мечніка... Плакала таму, што Мечнік стары і праз колькі дзён будзе аддаваць паклон Пану, а тады ўжо, тады Ганнуся дакладна застанецца ў адзіноце! Зоська, дачка Мечніка, спад-

каеміца яго імя і маёмасці, хутка знойдзе сабе апекуна і пакінута не будзе... Але яна, але яна! Гаворыць, аднак, мудрасць лепшых вякоў — залатаносная варства народных прыказак, — што «над сіратою сам Бог з калітою». Ён — першаўзор усіх айцоў, адзіны Пан свету, адзіны наш апякун! Толькі гэта яе падбадзёрвае... Абатрэ слёзкі, плясне ў далонькі і, быццам птушачка, якая бачыць, што ізноў сонца на нябёсах, тым шчаслівей, тым ахвотней, тым паўней на поўныя грудзі заспявае:

Ла-ла! Ла-ла-гой!
Божа, Ты заўжды са мной!

Ды, аднак, абрушвалася Панская навальніца і на гэтыя галоўкі, і па іх ударала моцна. Найперш палегла шасцёра Мечнікавых сыноў падчас агульнанародных падзей пры Касцюшку. Паўз караулы маскавітаў прабіліся яны, тыя заможныя юнакі-беларусы, да Вільні, да Ясінскага, каб кроў сваю праліць да канца, дзеля нараджэння будучага мсціўцы. А праз год пасля іх і маці іх святая пайшла падзякаваць Богу за сыноў.

Стары Мечнік аўдавеў, згорбіўся, сагнуўся, на працягу ўсяго двух гадоў састарэў напалову, калі нарэшце паблаславіў Зосю і Ганусю і выправіў іх з дому, дзе не было ўжо жанчыны, да Вільні, на выхаванне ў кляштар, што аздабляе цнотаю польскіх дзяўчат. Адтуль, амаль тры тыдні таму, прыбылі яны ў Шчароту, і да таго часта бывалі ў самых розных дамах, асабліва ў Падкаморыны Магучынай (цёткі графа Ульрыка Гажагорскага). Сам Мечнік вырваўся б за імі, уцёк бы ад пецярбургскіх Садому й Гаморы, якія адчуваліся тут больш, чым на Літве, але ж магіла жонкі, скарбонка гэтулькіх успамінаў! У рэшце рэшт «шануй бацьку свайго і маці сваю», што значыць: не кідай легкадумна бацькоўскага гнязда, бо ўварвецца ў яго вораг, быццам «гжагжулка»[1], хцівая да чужога; вораг яго спляміць. Там, дзе ты маліўся, бачачы ў хвіліны душэўнага сталення, — там на іх ён засее пустазелле, зганьбіць тваю святыню, учыніць у ёй святатацтва! І ён застаўся — застаўся побач з магілаю, са сваімі слязьмі. Але ж магіла, пры стараннным даглядзе, станавілася ўсё прыгажэйшай, можна было б сказаць — квітнела, а слёзы... Яны перасталі ўжо цячы праз вочы, цяжкім каменем аселі на старэчым сэрцы і сядзяць, аж пакуль пад іх націскам не разарвецца яно!.. Доўга, прыгнечанае, яно памятае тыя плягі, напаўняецца імі, аж пакуль, апоенае атрутай, нарэшце зусім не развітаецца з жыццём...

Але ж маладосць не будзе трымаць іх у памяці, не павінна трымаць, не можа: маладосць жыве будучыняй, толькі да яе парываецца! Тое, над чым замірае Мечнік, — успамін пра тыя сем смерцяў, — тое амаль ужо знікла з памяці дзвюх дзяўчатак: прызвычаіліся яны да свайго становішча, плакаць па ім перасталі. У Вільні, як знялі жалобныя строі, якія насілі тры гады, можа, пра тое і зусім ужо не ўспаміналі. І вось тут вяртае іх думку зноў да той хвіліны бацькоўскі жаль, які суцішыцца не можа; ды не памерлых аплакваюць яны разам з ім, а над ім самім, над жывым, праліваюць тады яны слёзы! Мечнік — мудры чалавек, ведае законы жыцця, таму нават не думае дакараць за тое дзяцей! Наадварот, ён шчаслівы, што яны гадуюцца,

што гарэзуюць, што шчабечуць, як Божыя птушаняты, калі для іх надышла пара рыхтаваць крыльцы да палёту. Каб гэтаму не шкодзіць, ён нават хаваецца са сваёй тугою: ад прыезду дзяўчатак ён не ў той час, як звычайна, і як быццам бы ўпотай ад іх ідзе на жончыну магілу, да якой ад надворку — добрых некалькі стаяў. І толькі на жончыну, бо косці сыноў яго любых далёка ляжаць, а закон нават прывезці іх адтуль забараняе! І вось — толькі курган, на ім шэсць крыжоў, і то без надпісу, бо ставіць помнік ліхадзеям — злачынства... Блаславёны, аднак, род, што мае многа такіх ліхадзеяў; ушанавання варты, калі не дашукаецца ліку такім злачынствам!

Гэткую *exclamationem** учыніла б і Зося, і Ганнуся, гэткую *exclamationem* і ўся Русь Белая ўчыніць!

Аднак не прыпыняю ўсё ж я гаворкі пра Мечнікавы двор, у дзявочых пакоях якога, што, як звычайна, выходзяць у сад, занятыя цяпер работкамі, сядзяць гэтыя дзяўчаткі, Мечнікава пацеха. Гэта спальні паненак і адначасова майстэрня.

Дзяўчаты даўнейшых часоў, нават самыя заможныя, не ведалі, што такое асобныя апартаменты, шматлікія пакоі, у якіх безліч ўсялякіх цацак і заморскіх глупстваў. Сціплыя і простыя памяшканні з такой жа мэбліроўкай, бо тое, што даражэйшае ці прыгажэйшае, аддаецца госцю — у салоны, у гасціныя, прыбраныя з большай раскошаю, у параўнанні з побытам членаў сям'і. Але ж чысціня такіх пакойчыкаў, нейкае замілаванае размяшчэнне кожнага прадмеціка, подых дзявочага хараства, што адчуваецца ва ўсім іх убранстве, — усё гэта так прымушала біцца сэрца, што той, хто раз увайшоў у gymnaeceum[2], той выйсці ўжо з яго не хацеў, бо адчуваеш тут годных і мілых рымскіх Лукрэцый[3], бо адгэтуль табе, напэўна, найбліжэй да неба! А ад многіх гаршэчкаў з кветкамі тут гэткі водар, як у Раі, а ад абразоў Святых Панскіх, што вісяць на сценах, так паважна, як на Небе!

Кожнаму добра вядома, што даўней у сапраўдным польскім доме дзяўчаты ніколі адны ў пакоі сваім не сядзелі, але заўсёды больш паважная асоба павінна была трымаць на воку забавы маладога веку. Так вось і тут, каля стала, у глыбокім крэсле, сядзела Ямць Пані Марушэўская, іх ахмістрыня, і гучна чытала жыціе святога Пахомія — гэта чытанне на дзень сямнаццатага мая, які цяпер якраз і быў.

Ямць Пані Марушэўская — асоба вельмі мілая, ціхая, спакойная. Гэта хадзячая спагаднасць і Панская міласэрнасць. Найперш кахае яна Выратаванне і Польшчу, а пасля іх, «крошак»[4], — так называе яна шчароцкіх паненак. А «крошкі» тыя вельмі занятыя. Панна Мечнікаўна вышывае на кросенках шоўкам, панна Зубранка малюе пастэльнымі фарбамі фантастычны краявід. Зрэдку толькі адарвуцца яны ад працы — калі Ямць Пані Марушэўская перастае чытаць, наліваючы сабе «клюквы»[5] ў ваду, тады «крошкі» зашчабечуць альбо нават песеньку завядуць. Наогул жа, ціха. На стале, за якім яны сядзяць, у вялікіх вазах стаяць у вадзе духмяны бэз, першыя ружы, апошнія фіялкі і не зусім распушчаныя «ланкі»[6], ад якіх моцны пах па пакоі. З ім змешваецца і водар чаромхі. Яе галіны, асыпаныя кветкамі,

* Воклiч (лац.).

звязаныя ў пучкі, у вялікай колькасці пазамацаваныя каля сцен, асабліва перад абразамі.

Праз адчыненыя вокны імкнуцца трапіць да пакою ўжо добра пакрытыя квеценню зялёныя кусты і дрэвы саду, высылаючы туды ў разведку каляровых матылькоў на некаторыя абразы Святога Пана, каб паблаславіць жыхароў... У адным куце пакоя перад Маткаю Жыровіцкай[7] гарыць лампадка, ёсць кленчнік[8], а на ім — «Хатняе Набажэнства», брэвіарый і іншыя да тых падобныя кнігі. Бога нашы жанчыны мелі ў вялікай пашане, а жанчын шанаваў муж, і добра было з гэтым Польшчы нашай, якая трывала да таго часу, пакуль не здрабнелі жанчыны Яе, а сэрца народа не адвярнулася ад Бога!

Тут жа за паняй Марушэўскай, набожна склаўшы рукі, сядзела старая нянька Мечнікаўны, Параскева. Яна слухае ўсёй душою, баючыся, каб не прапусціць нічога з «жыція». Маладая служка паненак, Зоя, якую ласкава называлі Золяй, пустое, вясёлае, легкадумнае дзяўчо, шэльма высокага палёту, утулілася да калаўрота каля акна і там быццам бы робіць кветкі, але на самай справе ўвесь час зыркае вокам то на набожную няньку, то на дзвюх швачак, што сядзяць каля яе, а яны тады пачынаюць строіць ёй міны — то праз акно, за сад, на вялікую дарогу, бо па ёй штохвіліны то адзін, то другі з'язджае з гары, паўз двор, кіруючы шлях далей, у гарады.

Зоі[9] ў гэтым пакоі цяжка. Яна не любіць пані Марушэўскай за яе паважнасць і чытанне «Жыццяў Святых», яна хацела б пайсці з паннамі кудынебудзь на мурог або ў гай збіраць кветкі, бо грыбоў яшчэ няма. А можа, яшчэ больш, у людскую на танцы ці на якую-небудзь ярмарку, ігрышча — хто ведае! Ат, звычайная вясковая кошачка!

— І аднойчы, калі сядзеў ён у сваёй келлі, д'ябал пастукаўся да яго ў асобе прыгожай жанчыны, апранутай пышна, — чытае пані Марушэўская.

— Д'ябал? Святая паненка! — усклікае Параскева. — А кыш, кыш![10] — жагнаецца, укленчыўшы. — Д'ябал у вобразе прыгожай жанчыны... Ды гэта ж згуба! Цьфу! «Пропасць» на цябе[11], д'ябле! — і, грозна ўзняўшыся з крэсла, так камічна пачала махаць рукамі ў сваім руху, што Зоя і абедзве швачкі пырснулі гучным смехам. Хутка да іх далучыліся і «крошкі». Аднак пані Марушэўская чытала далей: «...кажучы: уцякла я з-за даўгоў і дзеля чысціні маёй... Калі возьмуць мяне крэдыторы, гэта небяспечна. Калі ласка, схавай мяне ў сваёй каморцы».

— Езус, Марыя! У каморцы... чысціні... о нячыстая сіла!.. у каморцы... — шумела далей Параскева.

Гэта было ўжо занадта. Сама пані Марушэўская не магла ўстрымацца ад смеху, гледзячы на гнеў добрай бабулькі. І, бачачы, што далей ужо пры такім усеагульным настроі чытаць было б немагчыма, яна паклала кнігу і ўсміхнулася да нянькі:

— А ты, Парасю, заўсёды перашкаджаеш. Столькі разоў табе казала — не ўмееш валодаць сабою, ты ж спакушальнік свайго роду.

Зоя ізноў пырскае смехам, бо ёй хочацца смяяцца. Зоі туруюць швачкі, і ва ўсеагульнай весялосці не апошнімі чуюцца срэбныя пералівы смеху паненак. Што ўзбуджае Зою да гэткага невалодання сабою, што яна ледзь

не кладзецца з рогату, а слёзы, вялікія, быццам гарох, сыплюцца з яе павек? Гэта ўжо не падабаецца пані Марушэўскай, і яна дала б ёй рэпрыманду[12], аднак старая Параскева азываецца ізноў:

— Нячысты... Бач ты яго!.. Яму — ды каб хадзіць у постаці прыгожай жанчыны! І хоча шчэ каморкі! Гляньце! Каморнік мне яшчэ... Д'ябал ён пракляты! — Потым:

— Ці ж гэта я д'яблаў не бачыла? А кыш, а кыш! Глянь, гэта ж «выкапаны»[13] граф з Бельмонта... Гэны нячысты! Мае даўгі і, калі прыходзіць, то прыходзіць у вельмі прывабнай постаці.

Тут узняўся яшчэ большы смех. Толькі адна пані Марушэўская не смяецца; наадварот, яна наракае няньцы:

— Але й пляцеш ты, каханая, заўсёды пляцеш! Пачынаеш балбатаць невядома што, плявузгаць на бліжняга... людзей прыраўноўваць да д'ябла, праклятага духа, і гаварыць пра іх блага... Так рабіць нягожа...

— Але ж, панюхна! — бароніцца Параскева, — скуль жа гэты граф з Бельмонта — чалавек? Ці ж гэта хто чуў, каб людзі хадзілі, па-мямецку[14] апранутыя? Грыня, якая была тут кавяркай[15] пры нашай пані нябожчыцы, бачыла і д'яблаў, мемцаў нямала: так, як і пан Кашталяніч, бадзяліся яны дурнямі па свеце! А кыш, а кыш! А бацька Кашталяніча, нездарма яго нябожчык пан Ротмістр вазіў у клетцы па...

— Хопіць ужо, хопіць! — нават прыкрыкнула строга пані Марушэўская.

Ды Параскева зусім не зважала на гэта і даводзіла далей:

— Кашталян цяпер упыруе[16], лётае па Праклятаму і палохае людзей, няхай бароніць рука Божая! І Кашталяніч — такі самы: зубы ў яго воўчыя[17], пра гэта ўсе ведаюць! І наш Пан мусіў ведаць пра гэта, калі...

— Ат, Парасю, выпі лепей журавін, — перапыніла пані Марушэўская, — адгавары дзесяць «Вітана будзь, Марыя».

— Журавін? Журавіны не шкодзіць, — адказала Параскева і выпіла пададзеную ёй шклянку, — журавіны добрыя, дзякую Яемосці Дабрадзейцы! Дзесяць «Вітанак» адгавару, нават пяцьдзясят! А што граф з Бельмонта — д'ябал, то д'ябал.

Здавалася, што яна ўжо замоўкне, аднак толькі адышлася на пару крокаў, вярнулася назад і прадоўжыла гаворку:

— Цяпер ізноў цягнецца ён сюды! Бачыш... Як да святога Пахомія, да нашай паненкі! А кыш, а кыш, праклятая моц, нячыстая сіла! Перад ім — Крыж Божы! — і, быццам бы панне Зоф'і пагражала нейкая небяспека, падбегла да дзяўчыны і, крычучы: «Не дачакацца яму!», шырока раскінула над ёю рукі, быццам птушка крылы, калі бароніць ад нападніка сваіх птушанятаў. Пацалавала яе, як уласнае дзіця, і пачала спяваць старэчым голасам:

Го, мая Багунка[18] красна,
Залатая зорка ясна,
Прыгалублю[19], дай!
Вораг люду непачцівы,
Чорт да панны вельмі хцівы —
Крыж святы ўскладай!

Абарвала песню, перажагнала Мечнікаўну і, рыдаючы сама, паспешліва выйшла, амаль што выбегла з пакою.

Хвіліну панавала маўчанне — можна было б сказаць, трывога. Але панна Зубранка хутка азвалася, падняўшыся ад стала і камічна робячы рэверанс перад паннай Мечнікаўнай:

— На кані сівенькім валіць шчасце да Аспанны! Узрадуйся, Зосенька, узрадуйся... Парася не так проста гаворыць... Маеш, маеш кавалера, дакладней, будзеш мець яго тут зноў, таго ж самага! Monsieur le Comte! Monsieur le Comte! — і засмяялася.

Зося пачырванела, як рак, як гэта ўласціва дзяўчатам і з ветлівай грымаскай, таксама ўзняўшыся з крэсла, звярнулася да сяброўкі:

— Саступаю яго табе, Ганусю, табе! Вельмі ахвотна, вельмі ўсцешана гэтым!

— Мне? Навошта? Хацела б я ведаць... — перапыніла панна Зубранка. — Мне пан Кашталяніч не патрэбны, а таксама і пан Кашталяніч мяне не жадае... Але да цябе ў Вільні ў пані Падкаморыны пан Кашталяніч іграў халяўкі, ды нават і тут. Ці ж няпраўда? Мосці пані Марушэўская? Золя? Грушка? Гапка?.. Ды любая скажа... Што праўда, тое не грэх. Але там, там, у Вільні — што за кампліменты ён табе выдаваў! Якія шчымлівыя канты[20] спяваў, як брэнькаў на гітары, як страляў вачыма... Ах, ах, ах! Аж старшая панна была заклапочана і не ведала, ці дазволіць нам хадзіць да Вяльможнай Ямці пані Падкаморыны, ці не.

Зося смяялася, пані Марушэўская ўсміхалася, а панна Ганна выводзіла далей:

— Ба! Нават напісаў ліст... Так, так! Адзін ліст напісаў, ха-ха-ха!. На ружовай паперы, з кветкамі, Амурамі, пастухамі і пастушкамі... Cum omnibus figlis, як гаворыць пан каморнік[22]; «Ma bergere elue», «пастушка мая», — пачынаўся ліст.

Зося, павярнуўшыся да пані Марушэўскай, перабіла:

— Дык гэта ж праўда! Ганулся не жартуе! Але й насмяяліся мы з таго, о Божа! Панна Старшая казала, што, колькі жыве, яшчэ нічога настолькі смешнага не чытала. Вось дык пацеха была! «Пастушка мая»... А табе, Ганусю, зайздросна!.. Зайздросна, што я маю гэткага дасціпнага Селадона!

— Але ж і назваў ён паненку! — далучылася да размовы сваіх паннаў Зоя. — «Пастушка»! Няўжо ж ніхто не адказаў пану Кашталянічу, як належыць, за гэты нанесены паненцы афронт?

Але паненкі зусім не зважалі на тое, што гаварыла Золя, і Зося далей распавядала пані Марушэўскай:

— Было там і «чароўная німфа», і «о невядомая Deesso», і «князёўна сноў вандроўніка»! І мноства іншых падобных рэчаў!

— Але найлепшай была эсэнцыя гэтага ўсяго, — пачала панна Ганна.

— Так-так, гэта найлепшае, — перабіла Зося. — Кажа, што я вельмі яму спадабалася... Што яго павага і надзвычайная прыязнасць да мяне, і гэтак далей, не маюць аніякіх межаў, што... Але ён просіць у мяне... Ну, адгадайце, калі ласка, чаго? — спытала яна.

— Сяброўства, — азвалася спакойна пані Марушэўская.

— Рукі, — прамовіла Зоя.

— Пацалунка, — адгукнуліся швачкі і прыціхлі.

— Блакітны пантофлік, у якім я плясала сола[23] ў пані Падкаморыны; я — яго Fëe*.

— Ах, паненка, што Вы кажаце! Ха-ха-ха! — смяялася Золя. — Дала б я яму «фе». Папомніў бы ён мне, грубіян!

«Фе, фе», — паўтарала яна. Але панны былі захоплены сваім аповедам і не звярнулі ўвагі на тое, што казала Золя, хоць швачкі аж плакалі ад смеху!

— Бо гэты боцік... — адгукнулася Ганнуся.

— Бо гэты боцік, — не дала гаварыць ёй Зося, — будзе кляштарам для беднага пустэльніка: для няшчаснага сэрца пана Кашталяніча, якое б'ецца моцна. «Ха-ха-ха!» — смяялася яна, і іншыя смяяліся ўслед за ёю: — «Ха-ха-ха!».

А пані Марушэўская сказала з лагоднай усмешкай:

— Дык трэба было злітавацца і даць пустэльніку той балевы боцік.

— Пасадзіць у пантофель пана графа. З Бельмонтам, Казянамі, Мшыцай, cum omnibus boris, lakis et lasis[24], як кажа пан каморнік.

— Пасаджаны! — тупнула ножкай Зося.

— Даць ракавіну слімаку, — адначасова адгукнулася Зоя і схавала твар у руках.

Можа, яны яшчэ гаманілі б пра Гажагорскага, калі б швачка Грушка, гэта значыць Агрыпіна, не паглядзела ў акно і не ўсклікнула б:

— Хтосьці з паноў Шат... Пан Старасціч! Можа, да нас! Зоя і Гапка перажагналіся, пачуўшы гэтае імя, але падышлі да акна. Паненкі таксама кінуліся да яго, і пані Марушэўская з крэсла кінула ўпотай позірк на гасцінец, па якім на сівым, у яблыкі, кані спускаўся пан Шатан Старшы з «пеклякамі», лоўчымі і брацяй шляхтай, робячы выкрутасы на арабе, як быццам бы ведаў, што на яго глядзіць столькі прыгожых вачэй. Брыльянт на сабалёвай шапцы Старасціча свяціўся, як другое сонца. Цэлая світа павольна, моўчкі спускалася з гары. Толькі скавыталі сабакі або нізка брахалі ганчакі.

У пакой уляцела Параскева і, стаўшы за сваёй «Багункай», прамовіла:

— Вось гэта пан! Гэта пан! Як кароль які!

Тут, у доме старажытным, ёсць калач для князя,
Тут, у доме старажытным, хаваецца собаль.
Футра з сабалёў князь носіць — собаля для князя!
Хоць праехаў — ды заедзе... З прагнасцю, з жаданнем...

Толькі скончыла Параскева гэтую думку, слоў якой, можа, ніхто і не чуў, бо ўсе ў суцэльным маўчанні ўглядаліся на дарогу, аж пакуль хтосьці са світы, з'ехаўшы з гары, не пачаў напяваць за садам на мове беларускага люду:

У гэтым двары Пан Бог прабываець,
Красавіцу дочку старый пан маець!
Маець ён дочку, не маець сыноў.
Дужа то гала, шляхецкая кроў.

* Fée — фея, чараўніца (франц.).

— Ціха! — азваўся там жа чыйсьці звонкі голас, і потым адразу пачулася нешта, быццам бы песня. Але прыглушана... Відаць, спявак не хацеў, каб хто чуў яе, акрамя сваіх.

Славы вялікай, казацкай оды
Яму не трэба, не трэба!
Дайце яму толькі нашы свабоды,
Вярніце сыноў яму ▪ неба!

* * *

Ціха — маўкліва цяпер тут прайдзіце,
У Доме тым — годнасць, пашана.
Каб прывітаць яго — толькі скажыце:
«Ойча! Знялі мы кайданы!»

Усё сціхла, вершнікі праехалі міма.

## З ЛІСТОЎ ДА МІХАЙЛЫ ДРАГАМАНАВА[1]

(урыўкі)

### 1

Не сярдзіся, пане Драгаманаў, што, саўсім Табе нязнамы, пішу к Табе і пішу гэта, пэўна, нязнамай Табе беларускай маёй мовай. Хоць яна не такая багацька і прыгожая, як Твая, — для вушэй вельмі прыманная, народалюбцамі Тваімі дужа абробленая, украінская, — то ўсё ж руская, Тваёй пасястрыма. І даўненька б пара была, штобы мы ўсе, крывіцкіх зямель пасядзіцелі, мы, былой польскай Рэчы Паспалітай абываделі беларускія, да сваявіцы вярнуліся та й гукаці па-дзядоўску з сабою мовай мужыцкай, халопскай гэтай нашай, ялі... Не таго-лля, што, паміж дасягонніх языкоў двух дужызны нашай, да тла забачыўшай сваявіцу, адзін польская дужа лепа мова — у апале царскай, а другі — не менш здобная велікаруская — маёй Беларусі кнутом і за царскія карбованцы даецца... Не таго-лля!.. А таго-лля, што чорны люд наш, гэтая душа нашага цела, да самасвядомства прыходзіць, што гэты люд дзелаецца ўжо сілай, што дзвіне мёртвую датоля масу нашу... А народ гэты сваю мае думку: не лях ён та й не маскаль...

*Парыж, 18 юня 1886*
*В. К. Суліма Савіч-Заблоцкі, граф...*

### 2

*Пану прахвесару Міхайлу Драгаманаву ў Жэневе*

Дарагі пане Міхайла!

Дарам каралеўскім Ты мяне пачціў, і як за гэта Табе дзякаваць — не ведаю! І букі, што Ты мне даслаў, і лісціна Твая сардэшная, такая *наша* — гэта слова, што нежэманна з душы ідзе та й за сэрца бярэ, па век векаў у памяці маёй будуць, як ляпейшыя майго жыцця гадзіны...

Пытаешся ў мяне, браце дарагі, Міхайла, пане што чуваць на Русі Белай маёй, якім адгэтуль ветрам дуе? Мала сказаць аб гэтым сёння Табе магу я, а ўсё ж такі не тужу!..

Летак шаснаццаць да сёння сеяў там я, сеялі са мною другія, людзі, і дужшыя, і шчаснейшыя, і вумнейшыя ад мяне, а сеялі мы хлеб Божы, збожжа, без ні якай Богу праціўнай мыслі. Натура ж рабіла сваё і, пэўне, зрабіла болей, як мы ўсе, разам узятыя.

Я ў гімназіі яшчэ быў, та й непаўналетак, калі цар Аляксандр Другі аслабадзіў мужыкоў ад скрэпы. Я шляхціц, я пан быў, і бацькі ўжо не меў. Татка мой звесцен як народалюбівы, вельмі вучоны та й справядлівы а багацькі муж. Яго ўжо ў 1855 року не стала. Ён то й рабіў, што проціў скрэпы ваставаў та й усіх мужыкоў ад аброку аслабадзіў; так што яго за бунтаўшчыка й *карбанара* паны мелі, а свой уласны бацька, мой дзед маёнткі ад яго, як ад «скруціўшагася», назад узяў, і цар Мікола дужа яго не любіў. Пагас ён з гора, на сухотку; а ёсць, што кажуць, што сам сабе якусь задаў трутку, бо яго лісты да загранічных якіхсь паноў пераняли і самога б, пэўне, смерцю каралі б та й шасцілетку-сынка без ніякага маёнтку і апекі на дольку-палын пусцілі б. Уроку 1861 апекуном маім быў маскоўскі дужа храбры генерал Іван Міхайлавіч Лабынцаў, начальнік 1-га армейскага корпуса, «каўказскі ўдалец». І гэты праўду любіў, крыўды ніколі нікому не рабіў, вальнадумным памеж маскалей сваіх слыў, і чарналюду ўсё ж не любіў, як гэта было бы трэба, та й усё казаў: «Скотина! Соломы жрать, соломы, чтоб спать ему дай, да и за тридевять земель потом от него беги!».

Я не такую, не генеральскую меў думку... Сышоўся я з маладымі, як я, панамі — усё з грахвамі, князькамі та з сынкамі камергераў, генералаў, ляхамі та й маскалямі, поўнымі шляхетнасці, дабрахотнасці, ахвоты прынесці сябе на ахвяру ўсённадзелу... І, даўшы кожны па сотні рублёў, та й болей, мы хвундавалі ў Пецярбургу *Крывіцкі Вязок у* 1868 року, хацелі тлачыць беларускія букі для чарналюда (буквары, календары, рыхметыкі, вандзелькі, праваслаўны і каталіцкі малітвасловы, Эзопа паслоўкі, прыбавуткі, заалогію, гігіену мужыцкую і другія, не палітычныя і не сацыяльныя, а не багаслоўскія кніжкі). Хацелі самі вучыцца дыялекту чарналюду і яго так ушляхціць, што б ён нашым мог стацца языком; хацелі «хадзіць у народ», як гэта тады ракалася... Сталі падгатаўляць мы беларускую слаўніцу сабіраць песні чарналюду, капіць матэрыял да гісторыі нашага руства — я пісаць меў з Полацку...

Да Крывіцкага ж Вязка таго нашага бывалі ў Беларусі нашай, сярод малапамесных, людзі, што не па пусту прайшлі па свеце, як мы, Крывіцкі Вязок гэты. (Тай мы, Вязок, усё-такі зрабілі хоць тое, што да 50 паноў самдужайшых падвучылася мужыцкаму языку тай з мужыцтвам гэтым сяктак пазнаёміліся.)

Такі быў Баршчэўскі, Шукевіч, Марцінкевіч, аўтар «Гапона», сляпец Зянкевіч, Сырэвіч і другія — да дзясяткаў пяці аканомаў, папоў, панскіх гувернёраў, ксяндзоў, дактароў і проч. Гэтыя любілі люд, з ім жыўшы і братаўшыся; палюбілі яго не дужа звучную, можа, не меладычную, бо звук *а* дужа прыкры, а ўсё ж такі людскую мову і ўсю сваявіцу тай, не без шацунку для

яго, на шляхоцкі часам свой карк мужыцкі армяк адзявалі. Чарналюд гарнуўся да іх і верыў ім, любіў іх. Яны думкі ніякой іной, цэлю ніякога над дабрахоцтва сваё да гэтага люду не мелі — ні палітычнага, ні сацыяльнага цэлю, і *чэраз гэта-то сабе яго веру а сэрца заваявалі...*

А збожжа ж усё-такі і ў нас расце, кроў і ў нашых краўніцах цячэ!.. Беларусь мая будзе!..

## Каментарыі

**«У роднай зямлі».** Верш упершыню надрукаваны ў часопісе «Беларусь». 1946. № 4.

**«Арлалёты і падканвойны, або Полацкая шляхта».** Друкуецца ў перакладзе з польскай мовы Ж. Некрашэвіч-Кароткай паводле часоп.: Полымя. — 2004. — № 1. *Далей — заўвагі аўтара.*

[1] Гжагжулка (па-старапольску) — «зазуля» і «зязюля» па-беларуску.

[2] Гінецэн (Гінікей) — так старажытныя грэкі называлі жаночыя пакоі ў доме; у нас — «жаночы бок».

[3] Лукрэцыя — у старажытнарымскай гісторыі прыгожая і цнатлівая жонка Лукрэцыя Тарквінія Калаціна.

[4] Дробныя, маленькія рэчы. Можа, «krocha» і «trocha» азначае адное і тое ж, як «jaro» і «kako» ў іншых славянскіх мовах.

[5] Сок з ягад, званых «журавінамі».

[6] Старажытная і прыгожая польская назва духмяных ландышаў.

[7] Абраз Найсвяцейшай Панны ў Жыровічах.

[8] Невялікі зэдлічак з пюпітрам для кленчання ў хрысціян-католікаў.

[9] Ад «Zoe», «Chloe» і г. д. Другі і трэці склон — «Zoi», «Chloi» замест «Zoy», «Chloy»; гэта правіла нашай мовы.

[10] Гэтымі словамі выганяюць кур, а папярэдне — і д'ябла, калі вера ў яго была ўсеагульнай.

[11] Згуба, смерць, канец; беларускае.

[12] Вымова, нараканне.

[13] Правінц.: выліты, падабнюсенькі (на Літве).

[14] Па-нямецку. «Немец» — «мемец» па-народнаму, як «niedwiedz» — «мядзведзь».

[15] Кавярка — служка, якая падавала гаспадыні каву.

[16] Вера ва «ўпыроў» на Белай Русі ўсеагульная.

[17] Народ верыць у «ваўкалакаў». Лічыцца, што ваўкалакі маюць «воўчыя зубы».

[18] Багункамі называюцца (у народзе) дзеці, якіх Пан Бог дае для асаблівага благаслаўлення камусьці ў яго маёнтку. «Красны» азначае «чырвоны», але ў русінаў азначае тое ж, што і «прыгожы»

[19] Прытуліць каго-небудзь — «галубіць» па-беларуску; ад «голуб»; азначае тое ж, што «песціцца з кімсьці, як маюць звычай галубы»

[20] Спевы, арыі (даўней): ад «cantare» (лац.) — спяваць.

[21] З усялякімі фіглямі (макаранічны выраз; лац.).

[22] На Літве так называюць землямера.

[23] Аднаасобныя танцы былі вельмі ў модзе.

[24] З усімі барамі, лугамі і лясамі (макаранізм). Звыклая фармулёўка на старажытных картах і маёмасных дакументах.

**«З лістоў да Міхайлы Драгаманава».** Друкуюцца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

[1] Міхайла Драгаманаў (1841—1895) — украінскі публіцыст, гісторык, палітычны дзеяч у эміграцыі.

## СОФ'Я КАВАЛЕЎСКАЯ
## (1850—1891)



Сёння цяжка ўявіць, што яшчэ трохі больш за стагоддзе таму жанчына не мела магчымасці атрымліваць адукацыю ў многіх еўрапейскіх вышэйшых навучальных установах і тым больш стаць прафесарам, доктарам навук. Але, вядома ж, былі і выключэнні. У прыватнасці, Соф'я Кавалеўская сёння вядома многім менавіта як першая ў свеце жанчына — прафесар матэматыкі, член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук. У 1874 г. Гётынгенскі ўніверсітэт завочна прысудзіў ёй ступень доктара філасофіі. Пасля смерці мужа ў 1883 г. яна пераехала з дачкой у Стакгольм, дзе стала прафесарам кафедры матэматыкі мясцовага ўніверсітэта. За свае адкрыцці Соф'я Кавалеўская атрымлівае прэстыжныя навуковыя ўзнагароды: у 1888 г. становіцца лаўрэатам прэміі Парыжскай акадэміі навук, а трохі пазней — прэміі Шведскай акадэміі навук.

Соф'я Кавалеўская была яшчэ і адоранай пісьменніцай, публіцысткай. Варта прыгадаць яе аповесць «Нігілістка», драмы «Барацьба за шчасце», сямейную хроніку «Успаміны дзяцінства».

Таленавітая пісьменніца і выдатны матэматык нарадзілася ў Маскве, у сям'і генерала В. Корвін-Крукоўскага, які паходзіў са старажытнага беларускага шляхецкага роду. Ранняе дзяцінства і юнацтва правяла ў маёнтку бацькі ў вёсцы Палібіна Віцебскай губерні. Па яе ўспамінах, у сям'і існавала легенда пра тое, што калісьці дачка венгерскага караля Мацвея Корвіна захапілася ліцвінскім віцязем Крукоўскім, і разам яны далі пачатак роду Корвін-Крукоўскіх, якія пасяліліся ў Беларусі. Пры гэтым, самыя раннія згадкі пра род, што былі выяўлены ў архівах, адносяцца да 1648 г. У прыватнасці, выпіска з Польскага гербоўніка сведчыць, што Захар Крукоўскі, аршанскі «гарадскі пісарчук» у Мсціслаўскім ваяводстве, і Васіль Корвін-Крукоўскі, дэпутат Віленскага ваяводства, выкарыстоўвалі герб «Слепаўрон».

Перыяд жыцця, праведзены на Віцебшчыне (вёска Палібіна сёння знаходзіцца ў Смаленскай вобласці Расійскай Федэрацыі), яна апісала ў своеасаблівай сямейнай хроніцы «Успаміны дзяцінства», дзе шмат увагі аддадзена апісанню побыту беларусаў, нашай прыроды і, канешне ж, яе дзявочых пачуццяў.

*К. Антановіч*

## УСПАМІНЫ ДЗЯЦІНСТВА

(урывак з сямейнай хронікі)

### Палібіна

Вось і сялібу лесніка відаць здалёк. Хата яго абабітая дошкамі і выглядае больш утульнай і чыстай за звычайныя хаціны беларускіх мужыкоў. Размешчана яна на невялікай палянцы, і (рэдкая раскоша ў сялян гэтай мясцовасці) яе акаляе невялікі агарод, у якім сярод качаноў капусты стракацяць галоўкі маку і ззяюць два або тры ярка-жоўтыя сланечнікі. Тыя некалькі яблынь, што ўзвышаюцца пасярод агарода, абцяжараныя румянымі яблыкамі, — асаблівы гонар гаспадара, бо ён сам перасадзіў іх з лесу, потым прышчапіў іх і зараз можа пахваліцца сваімі яблыкамі перад кожным з суседніх паноў.

Лесніку ўжо гадоў пад семдзесят, барада ў яго доўгая, зусім белая, але выглядам яшчэ бадзёры. На твары яго нібыта адлюстроўваецца навакольны лес з яго ясным, велічным спакоем. Дзяцей сваіх ён усіх ужо ўладкаваў: дачок выдаў замуж, сыноў далучыў да якога-небудзь рамяства. Цяпер ён жыве са сваёй старой ды з прыёмышам, хлапцом гадоў пятнаццаці.

Заўважыўшы гасцей яшчэ здалёк, старая пабегла ставіць самавар; калі ж фурманка пад'ехала да ганка, і яна і стары, кланяючыся ў пояс і просячы дарагіх гасцей не пагрэбаваць іх чаем, выйшлі ім насустрач. Усярэдзіне хата таксама чыстая і прыбраная, хоць паветра ў ёй усё ж прэлае і насычанае пахам ладану і драўлянага алею ад лампады, бо акенцы ў ёй, з-за страху маразоў узімку, зусім малюсенькія і адчыняюцца кепска. Пасля свежага ляснога прыволля ў першыя хвіліны здаецца, тут і дыхаць нельга, але ў хаце так шмат цікавага, што дзеці хутка прызвычайваюцца да яе цяжкога паветра і пачынаюць з цікаўнасцю аглядацца па баках. Па глінянай падлозе рассыпаныя яловыя галінкі; уздоўж усіх сцен ідуць лавы, па якіх скача цяпер ручная каўка з падрэзанымі крыламі, ніколькі не бянтэжачыся прысутнасці вялікага чорнага ката, відаць, свайго добрага прыяцеля. Гэты апошні сядзіць на задніх лапах, мыючыся адной з пярэдніх, і з няшчырай абыякавасцю аглядае гасцей скрозь напаўзажмураныя павекі. У пярэднім куце стаіць вялікі драўляны стол, пакрыты абрусам з вышытым бортам, а над ім высіцца велічэзны кіёт з дзіўна пачварнымі і відавочна незвычайна старажытнымі выявамі. Пра лесніка кажуць, што ён раскольнік і што менавіта дзякуючы гэтай акалічнасці жыве так ахайна і так багата, бо вядома, што раскольнікі ніколі не ходзяць у карчму і прытрымліваюцца вялікай чысціні ў сваім жытле. Кажуць таксама, што лесніку прыходзіцца штогод адкупляцца нятанна і ад іспраўніка, і ад сельскага папа, каб яны не ўмешваліся ў яго рэлігійныя перакананні, не прымушалі яго хадзіць у праваслаўную царкву і не сачылі за тым, ці наведвае ён або не малельні раскольнікаў. Яшчэ распавядаюць пра яго, што ён сам ніколі не з'есць кавалка ў праваслаўнай хаце, а ў сябе ён трымае для праваслаўных гасцей асобны посуд. Хоць гэтыя госці былі б і важнымі, ён ні за што не падасць ім нічога ў тым кубку, з якога сам

есць, — гэта значыла б апаганіць кубак. Дзецям надзвычай цікава хацелася ведаць, ці праўда, што «дзядзька Якаў» (так яны клічуць лесніка) грэбуе імі, але яны не адважваюцца яго спытаць.

Дзядзьку Якава яны вельмі любяць. Любяць і бываць у яго; калі ж ён часам заходзіць у госці да іх у Палібіна, то заўсёды прыносіць ім які-небудзь падарунак, які ім падабаецца больш за самыя дарагія цацкі. Так, напрыклад, аднойчы ён прывёў з сабой маладога лася, які доўга потым жыў у іх за загарадкай у парку, але зусім ручным ніколі не зрабіўся.

Велізарны медны самавар пыхкае на стале, на якім расстаўлены розныя незвычайныя стравы: варэнец*, аладкі з макам, агуркі з мёдам. Такімі ласункамі можна пачаставацца толькі ў дзядзькі Якава. Ляснік шчыра частуе сваіх гасцей, але сам ні да чаго не дакранаецца (значыць, праўда, што грэбуе, думаюць дзеці) і вядзе сталую, марудлівую гутарку з настаўнікам. У яго беларускай мове трапляецца нямала выразаў, незразумелых для дзяцей, але яны ўсё ж жудасна любяць слухаць, як дзядзька Якаў кажа: ён ведае так шмат пра лес, пра звяроў у ім, пра тое, што кожны звер думае....

Цяпер ужо каля шасці гадзін раніцы. (Як дзіўна: у звычайныя дні спіш яшчэ ў ложку ў гэты час, а сёння ўжо чаго-чаго толькі ні было!) Марудзіць больш нельга. Уся кампанія хто куды рассыпаецца па лесе, перакрыкваючыся і гукаючы час ад часу, каб не разысціся надта далёка і не заблукаць у лесе.

Хто набярэ больш за ўсіх грыбоў? Гэтае пытанне хвалюе ўсіх; у кожнага разгарэлася самалюбства. Соні здаецца ў гэтую хвіліну, што няма нічога найважней на свеце для яе чым тое, як хутчэй напоўніць свой кошык. «Госпадзі, пайшлі мне шмат, шмат грыбоў!» — думае яна, міжволі ўкладаючы надзвычай вялікі запал у гэтую малітву і, згледзеўшы здалёк чырвоны кубачак падасінавіка або чорную галоўку падбярозавіка, з усіх ног кідаецца ў той бок, каб хтосьці не апярэдзіў. А колькі ў яе бывае расчараванняў! То паблытае сухі ліст з грыбам, то раптам здасца ёй шчыльны, светла-буры капялюшык баравіка, што сціпла выпаўзае з імху. Схопіць з радасцю — зірк, а знізу не суцэльнае белае донца, а глыбокія разразныя баразёнкі. А гэта наўпрост маладзенькі, нікуды не прыдатны валуй прыняў зверху зманлівы выгляд баравіка! Але больш за ўсё крыўдна для Соні, калі яна пройдзе па якім-небудзь месцы, нічога не заўважаючы, а жвавая Фяклуша ледзь не з-пад носу ў яе выхапіць маладзенькі цудоўны грыбок. Гэтая нязносная Фяклуша! Яна нібы нюхам пазнае, дзе грыб, проста з-пад зямлі іх выкопвае. У яе ўжо з верхам поўны кошык, і пры гэтым усё больш белых або рыжыкаў, падасінавікаў — і тых мала, а лісічак, маслякоў і сыраежак яна зусім не бярэ. І што ў яе за грыбы! Усё як на падбор — маленькія, чыстыя, пыгожанькія, хоць зараз жа іх еш! У Соні ж кошык усяго толькі напалову поўны, ды і то вунь колькі ў ім вялікіх, адрузлых шляпух, якіх і паказаць сорамна...

---

* Руская страва: сыроватка нейкім пэўным чынам запякаецца ў печы і праз гэта становіцца вельмі тоўстаю і смачнаю (*заўвага аўтара*).

...Гэты лес, які адыграў такую ролю ў дзіцячых уражаннях Соні, падыходзіў да іх сядзібы з аднаго боку; з іншага ж рос сад, што спускаўся да возера, а за ім цягнуліся палі і лугі. Дзе-нідзе з зеляніны выглядалі невялічкія вёсачкі, больш падобныя на норкі жывёл, чым на паселішчы людзей. Зямля ў Віцебскай губерні не такая ўрадлівая, як у чарназёмнай паласе Расіі і Малаunion. Беларускія сяляне вядомыя сваёй беднасцю. Нездарма ж імператар Мікалай, едучы аднойчы праз гэтыя месцы, назваў Беларусь беднай прыгажуняй у параўнанні з Тамбоўскай губерніяй, якую ён ахрысціў багатай купчыхай.

Сярод гэтай дзікай, маланаселенай мясцовасці дзіўна выступала Палібінская сядзіба з яе масіўнымі каменнымі сценамі, з яе мудрагелістай архітэктурай, з яе тэрасамі, што абрамляліся ўлетку гірляндамі руж, з яе шырокімі аранжарэямі і цяпліцамі.

## Каментарыі

**«Успаміны дзяцінства».** Урывак з сямейнай хронікі — **«Палібіна»** ў перакладзе з рускай мовы друкуецца ўпершыню. Пераклад К. Антановіча. Друкуецца паводле выд.: Ковалевская С. В. Воспоминания. Повести. — М.; Л., 1974.

## МАРЫЯ КОСІЧ
## (1850—1911)



Марыя Косіч — пісьменніца, перакладчыца, даследчыца этнаграфіі і фальклору — увайшла ў гісторыю беларускай літаратуры і культуры як аўтар паэмы «На перасяленне. Расказ цёткі Домны з Палесся» (Чарнігаў, 1903), зборніка «Переложение некоторых басен М. А. Крылова на белорусское наречие» (Чарнігаў, 1903), а таксама навуковых прац «Литвины-белорусы Черниговской губернии: их быт и песни» (Живая старина, 1901; асобнае выданне выйшла ў Пецярбургу, 1902 г.), «О постройках белорусского крестьянина» (Киевская старина. 1906. Вып. 1).

Нарадзілася Марыя Мікалаеўна Косіч у сяле Расуха Чарнігаўскай губерні. Расухай называецца і вёска, у якой разгортваюцца падзеі паэмы «На перасяленне». Сама ж паэтэса жыла непадалёк ад гэтай вёскі ў маёнтку дзеда, у асяроддзі беларускага сялянства, побыт і духоўную культуру якога вывучала ўсё жыццё.

М. Косіч у сваіх вольных наследаваннях І. А. Крылову ўзнімае вечна надзённыя праблемы жыцця людзей. Паэтэса бескампрамісна супрацьпастаўляе праўду і крыўду, дабро і зло, справядлівасць і беззаконне. Сваім мастацкім словам яна выносіць прысуд крыўдзе, махлярству і прадбачыць расплату за кожнае злачынства — калі не на гэтым, то на тым свеце.

*У. Казбярук*

### НА ПЕРАСЯЛЕННЕ

Расказ цёткі Домны з Палесся

(урывак)

Мы ў сваём сяле
Век свой векавалі,
Ну такой нуды,
Як нам у Сібіры,
Нашы дзяды й прадзеды
Не зазналі.
Наша ж то сяло
Стаіць пры рацэ,
А за рэчкай луг,
А там усе дубравы...
Ёсць у тых дубравах
Равы глыбокія,

Горы высокія,
Ляды шырокія.
Лецечкам святым
Чаго ў нас няма?
У нашым гаёчку
Грыб, арэх і жолудзь,
Усякая ягада:
І суніца, і брусніца,
Касцяніца, і чарніца,
І рабіна, і каліна,
Жавікі й маліна.
Усяго ёсць там!
Чорна ягада смародзіна —
І тая расце па лугам.
А што па вясне,
Як пачне лес раскідацца,
Усе лужкі, даліны
Траўкай ураджацца,
Какалушы па лесе распушчацца!
Божухна мой мілы,
Во як там прыгожа!
Такія дзіковінкі,
Як там у Расусе,
Не знайдзеш нігдзе
У цэлай акрузе.
У нас крэпка душна
Улетку не бывае.
А што там узімку,
Як мароз прыспее,
Унясеш у хатку
Сухенькіх дравец,
Вытапіш ляжанку,
Тады наша хатка
Цёплая, як матка,
Сядзіш сабе — люба!
Посканні прадзеш;
А шчэ, калі трапіцца
Й песню завядзет.
Праўда, што бывала
Хлеба не багацька —
Ета не ў дзіковінку.
Хоць галадавалі,
Да не памікралі.
Там у нас і так бывала:
Ў каго хлеба не хватала,

Паедзе на «панскае»,
Нарубае дроў,
Воз лык накладзе,
У горад адвязе
І хлеба прыпасе.
Можна было жыць;
Што Бога гнявіць!

## ВАРОНА І ЛІСІЦА

Хоць кажы, хоць не кажы,
Што брахаць нам стыдна, —
Не паслухаюць: чужбінка
Жоднаму завідна.
Знайшла сабе Варона каліўца сыру.
Барджэй на ёлку села,
Паснедаць захацела
Да трохі й загракала,
А сыр-такі ў рату дзяржала.
На ліха ёй Лісіца блізка бегла,
На ёлку зір —
Бачыць сыр.
Яшчэ раз паглядзела
І сабе сыру захацела.
Падкралась, шэльма, ціхенька,
Хвастом віляе,
З Вароны вачэй не спускае,
Такую гамонку заводзе,
Нача мёдам салодзе:
«Прыгожа ж ты, сястрыца!
Ні даць ні ўзяць жар-пціца!
А перайка ж то,
А насочак!
Да ўжо ж тоненькі
Далжон быць галасочак.
Не саромся, любая,
Песеньку мне спей,
Ты ж у Бога пташачка,
Як той салавей!»
Пачуўшы пра сваю красату,
Варона ажно абамлела,
Аж стала зелена ўваччу.
Закракатала нябогана ўсю глотку
А сыр на землю — плясь!
Ліса яго ўхапіла
Ды ў кусты — бразь!..

## Каментарыі

**«На перасяленне. Расказ цёткі Домны з Палесся».** Паэма выйшла асобным выданнем у 1903 г. у Чарнігаве. Прыводзіцца ўрывак з раздзела «Ад'язджаем».

**«Варона і лісіца».** Усе байкі пісьменніцы напісаны паводле вядомых баек рускага байкапісца І. А. Крылова. У іх пададзены факты, якіх не было ў арыгіналах, парушаны крылоўскі вольны верш. Упершыню надрукаваны ў кнізе: Косич М. Н. Переложение некоторых басен М. А. Крылова на белорусское наречие (Чарнігаў, 1903). Рукапіс кнігі захоўваецца ў рукапісным аддзеле Інстытута літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі НАН Украіны. На ім рэзалюцыя цэнзара: «Запретить согласно предложения Главного Управления по делам печати от 29 июля 1902 г. № 6632». Пазней гэта рашэнне нейкім чынам удалося абысці.

# ЯНКА ЛУЧЫНА
# (1851—1897)



Нарадзіўся Янка Лучына (Іван Неслухоўскі) у Мінску 6 ліпеня (24 чэрвеня) 1851 г. Імя Іван (і яго варыянты Ясь, Ян, Янка) будучы паэт атрымаў у сувязі з тым, што з'явіўся на свет падчас Купалля. Радавод яго старадаўні. Адзін з далёкіх продкаў Івана Неслухоўскага — Пшэбыслаў Дамброва — яшчэ ў сярэдзіне XIII ст. вызначыўся ў бітвах з татара-манголамі і атрымаў ад князя Конрада Мазавецкага Цеханавецкае графства ў Драгічынскай зямлі, дзе быў маёнтак Неслухі. Адсюль, відаць, і пайшло прозвішча Неслухоўскія, а яго носьбіты свой родавы герб назвалі Дамброва.

У XVII ст. Неслухоўскія мелі ўладанні ў Пінскім павеце: спачатку маёнткі Моладава, Косава, Сакаловая Воля, а затым Марочнае і Завідчыцы, што належалі раней продкам Ф. М. Дастаеўскага (зараз гэта ў межах Іванаўскага і Івацэвіцкага раёнаў). Вайсковую службу яны адбывалі ў Вялікім Княстве Літоўскім, хто ротмістрам, хто харунжым, а хто стражнікам Берасцейскага ваяводства. Прадзед паэта, Іван Неслухоўскі, быў ротмістрам Наваградскага ваяводства, а дзед, Юры Іванавіч, — межавым суддзёй Слуцкага павета. Гэта, здавалася б, павінна было спрыяць паскарэнню афіцыйнага прызнання шляхецтва Неслухоўскіх. Аднак справа чамусьці зацягвалася, бо, хоць прадзед паэта яшчэ ў 1802 г. быў прызнаны мінскай дэпутацкай зборнай шляхтай «у старажытнай шляхецкай годнасці», да гэтага пытання вярталіся паўторна (у 1832 і ў 1837 гг.), і толькі ў 1838 г. пастанова зборні была зацверджана сенатам.

Бацька паэта, Люцыян Неслухоўскі, які пачынаў службовую кар'еру канцылярыстам у Мінскім губернскім праўленні, быў падчас нараджэння першынца Івана столаначальнікам у Мінскай палаце цывільнага суда. Пазней, узняўшыся да чына калежскага асэсара, ён займаў пасаду сакратара гэтай палаты. У 1871—1880 гг. Люцыян Юр'евіч прадстаўляў Слуцкі павет у Мінскай шляхецкай дэпутацыі і быў паверaным князёў Радзівілаў у атрыманні выкупных пазык за маёнткі.

Маці, Антаніна з Лукашэвічаў, вяла хатнія справы, выхоўвала дзяцей. Пасля Івана нарадзіліся яшчэ Антон, Антаніна-Аліна, Юліян, Генрых, Вікторыя. Усіх трэба было паставіць на ногі, даць адукацыю. Юліян быў паверaным сваёй маці па арэндзе фальварка Мархачоўшчына (а яго арандавалі Неслухоўскія з 1863 г.).

Сям'я Неслухоўскіх жыла ў Мінску ва ўласным доме, які стаяў на вуліцы Юр'еўскай пад нумарам 23. У кнізе Соф'і Кавалеўскай «Менскія абразкі» адзначалася, дарэчы, што належаў ён «да вельмі вядомых, неадлучных ад горада» дамоў. Тут збіралася інтэлігенцыя, абмяркоўваліся мясцовыя грамадскія і культурныя падзеі.

Маленства Івана прыпала на час, калі ўсе жылі ў прадчуванні значных палітычных падзей, у чаканні скасавання прыгону і ўвогуле нейкіх

грамадскіх зрухаў і перамен. Атмасфера дома Неслухоўскіх, дзе госці і гаспадары бесперашкодна выказвалі свае думкі і нават патаемныя надзеі, спрыяла абуджэнню грамадзянскай свядомасці хлопчыка, сутыкала яго з пакутлівым пошукам адказаў на пытанні, якія хвалявалі дарослых.

Дасягнуўшы чатырнаццацігадовага ўзросту, Ясь (так называлі Івана дома) паступіў у Мінскую класічную гімназію, адразу ў трэці клас. Вучыўся ён добра і на пачатку наступнага навучальнага года быў узнагароджаны пахвальным лістом. Скончыў гімназію ў 1870 г. у ліку лепшых вучняў.

Працягваць адукацыю І. Неслухоўскі наважыўся ў Пецярбургу, ва ўніверсітэце. Паспяхова здаўшы ўступныя экзамены на матэматычны факультэт, ён хадзіў на ўніверсітэцкія лекцыі да траўня 1871 г. Адмаўленне ад здачы экзаменаў за першы курс было, відаць, вынікам працяглага роздуму. Канчатковы выбар спыніўся на прафесіі інжынера. У гэтым выбары была пэўная даніна модзе: у асяроддзі інтэлігенцыі ў той час распаўсюджвалася думка, што тэхнічны прагрэс можа шмат змяніць у грамадстве да лепшага, і яна не магла не імпанаваць юнаку, сумленне якога не мірылася з сацыяльнай несправядлівасцю.

Восенню 1871 г. Іван Неслухоўскі аформіў звальненне з універсітэта і паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, на механічнае аддзяленне. Спачатку ён наведваў заняткі як вольны слухач, а праз год быў унесены ў спіс пастаянных студэнтаў. На канікулы заўсёды прыязджаў да бацькоў — у Мінск ці Мархачоўшчыну (пад Стоўбцы), тую самую, якую раней, яшчэ ў трыццатыя гады, арандаваў Аляксандр Кандратовіч, бацька славутага вясковага лірніка Уладзіслава Сыракомлі, вельмі шанаванага ў сям'і Неслухоўскіх.

10 верасня 1877 г. вучэбны камітэт Тэхналагічнага інстытута прысвоіў Івану Неслухоўскаму ступень інжынера-тэхнолага. У канцы верасня — пачатку кастрычніка ён, найбольш верагодна, быў ужо ў Тыфлісе. Там Іван Неслухоўскі пачаў служыць на чыгуначных складах. Падчас апошняга прыезду ў родны Мінск (было гэта ў 1879 ці ў 1880 г.) Івана Люцыянавіча спасцігла няшчасце: на выхадзе з канцэрта яго нечакана разбіў параліч. Бяда, аднак, не пахіснула жыццялюбства Неслухоўскага, не адняла ў яго прагі да дзейнасці. Ён уладкаваўся на службу ў мінскае тэхнічнае бюро Лібава-Роменскай чыгункі, дзе прыдалася яго інжынерная адукацыя, і нават не адступіўся ад свайго маладога захаплення — рыбалкі і палявання.

У друку І. Неслухоўскі дэбютаваў вершам «Не ради славы иль расчета», які быў змешчаны ў першым нумары «Минского листка» ў 1886 г. Першае выступленне Неслухоўскага ў тым жа 1886 г. у польскім друку — публікацыя верша «Раскоша натхнення» ў часопісе «Kłosy» («Калоссе»). У вершы паэт звяртаўся да сваёй песні, паяднанай з роднай вёскай з-пад Нёмана, як да крыніцы радасці і натхнення. «Раскошай натхнення» Ян Неслухоўскі заявіў пра сябе як паэт-дэмакрат, як лірык рамантычнага складу. Пісаў ён шмат, пісаў пераважна на польскай і калі-нікалі на рускай мовах.

Патрэба выказацца на беларускай мове з'явілася нечакана, як выбух, пад уражаннем выступленняў украінскіх артыстаў, якія гастралявалі ў Мінску ў 1887 г. Украінскі тэатр падаваў прыклад паспяховай нацыянальнай самавыявы. Свае першыя беларускія творы «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага...» і «Дабрадзею артысту Манько» Янка Лучына не публікаваў. Як беларускі паэт ён дэбютаваў у друку ў 1889 г., калі змясціў у газеце «Минский листок» верш «Вясновай парой», паклаўшы тым самым пачатак вяртанню беларускай літаратуры да друкаванага жыцця, перарванага на чвэрць стагоддзя пасля падаўлення паўстання 1863 г.

Апавядальная інтанацыя большасці паэтычных твораў Янкі Лучыны, напісаных па-беларуску, — гэта рух насустрач селяніну, дзеля каго задумваўся і ад чыйго імя ствараўся верш. Менавіта праз гутарковы стыль, які адпавядаў духу часу і абумоў-

ліваўся дэмакратычнай настроенасцю паэта, выяўлялася зліццё яго асобы з памкненнямі і ладам думак сялянства, адбывалася мастацкае адкрыццё эпічнай постаці беларускага мужыка.

«Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» — гэта Лучынава адкрыццё беларускага народа, мужнага, цярплівага, сціплага. Менавіта гэтыя рысы ўласцівы старому лесніку Грышку, вобраз якога выпісаны ў паэме з любасцю і пераканаўчым псіхалагізмам. Постаць Грышкі — самая прыкметная і значная ў творчасці Лучыны-Неслухоўскага, а «Паляўнічыя акварэлькі» — выдатная з'ява ў літаратурным жыцці Беларусі на зыходзе XIX ст.

Магчыма, аўтар да канца не ўсведамляў гэтага, але ў тым, што тут яго напаткала творчая ўдача, ён не сумняваўся. Гэта відаць з лістоў паэта да рэдактара варшаўскага часопіса «Życie» («Жыццё») Зянона Пшасмыцкага. У адным з іх ён пісаў: «Чым жа прываблiваюць мае «Паляўнічыя акварэлькі»? Не ведаю. Мабыць, тым, што яны арыгінальныя і праўдзівыя, як фатаграфія, бо спісаны яны з сапраўдных факцікаў». І крыху ніжэй у тым жа лісце: «"Паляўнічых акварэлек" я мог бы напісаць з капу, бо і цяпер, хаця і без ног, трываю ў заўзятасці да шаракоў і бакасаў, за ложкам у мяне ёсць самапал, і езджу, калі здарыцца, паляваць на ўражанні, бо звярыну нячаста пазбаўляю жыцця. Ці павінен я тады фабрыкаваць «Акварэлькі»? Дзве ўжо абдумаў, адну напісаў слова ў слова з жыцця». Вельмі важнае прызнанне аўтара, што паэма ўзята з яго ўласнай жыццёвай практыкі. Значыць, існавалі прататыпы старога Грышкі і паніча. Думаецца, што паніч, ад імя якога вядзецца вершаванае апавяданне, — гэта сам паэт у час маладосці. Што да лесніка, то яго Лучына мог сустрэць у арандаванай бацькамі Мархачоўшчыне, куды яшчэ студэнтам прыязджаў на канікулы.

Уласнага зборніка польскамоўных твораў «Poezje» («Паэтычныя творы») Лучына не дачакаўся. 16 ліпеня 1897 г. ён памёр, так і не давёўшы ў адпаведнасці са сваімі эстэтычнымі патрабаваннямі да канчатковай рэдакцыі варыянты беларускамоўных твораў, аб'яднаных пазней удзячнымі нашчадкамі ў кнігу «Вязанка».

*У. Мархель*

## ПАГУДКА

З песенькамі, чытацелі, нясмела прад вамі
З добрай волі станаўлюся... Жартамі, слязамі
Складалася яно тое, што тут на паперы,
Пісалася у час думкі і у добрай веры.
Чы забавы з гэтых песень хоць бы крышку будзе?..
Няхай судзяць братні людзі ды й на братнім судзе.
Назбіралась вязаначка на дар маёй браці
Сярэдзь нашых палей, лясоў, сярэдзь сенажаці.
Не для зыску[1] збіраліся і не дзеля хвалы.
Так — папросту, як збіраем зелле ў дзень Купалы,
Не завадзіць па мазолі мінутка вяселля.
Я стараўся асцерачысь паганага зелля,
А чы гэта удалося?.. чы то зелле знаю?
Чы прыгодзен дар малы братам у родным краю?..
Думкі гэты мучаць душу у вашага брата,
Калі вінен — выбачайце!.. Чым хата багата!..

## СТАРЫ ЛЯСНІК

— Паночку, даражэнькі, дай пораху крышку,
Калі маеш увагу на старога Грышку!..
От ліха наляцела! прыйшло на астатак:
Найлепшае заўчора з нашых жарабятак
Мядзведзь — падла... дый каб жа ваўкі яго з'елі! —
Задушыўшы ў лесе, кінуў каля елі!..
А Божа ж мой!.. от быў бы конь чэраз два годы,
А цяпер што? — нічога акром адно шкоды!
Дай пораху, паночку! —
Так стары, чуць жывы,
Прасіў пана даўнейшы са двара мысліўы.
— Што ж тут порах паможа?
— Каб раз здох маруха,
Яго я пачастую са стрэльбы у вуха!
— Чы ты, Грышка, звар'яцеў?
— Не! — дзякаваць Богу!
— Як жа ж ты на мядзведзя?..
Ледзьве цягнеш ногу,
Як бы ў ліхаманцы, скачуць табе рукі.
— І сам я гэта знаю... Калі ж плачуць ўнукі
Дый гоманам вялікім поўна наша хатка.
Каб пан відзеў, якое было жарабятка!
І доўга, і шырока, і крэпка у карку,
Самы гэты конь быў бы нам у гаспадарку!..
Не дарую!.. мядзведзю павыцягну жылы!
Каб не меў я спакою і сярэдзь магілы,
Калі будзе без кары то насенне ўражжа!!!
Чы ён мне шкуру злупіць, чы сам, шэльма, ляжа!
— Ды ты ж хіба са стрэльбай даўно не меў дзела?
— Лет з пятнаццаць, як старасць маю сілу з'ела!
— Што ж цяпер ты ўздумаў? — ты ж старэе хрэна,
Страляючы, не ўцэліш і у копу сена.
— Скуль пан знае?.. Аднача ж я лічу на гэта,
Што маруху патраплю перавесць са света.
Не глядзі, пан, што гарбом мне сагнула спіну;
Вымяркую ў вуха чы ў лоб, ў серадзіну!
— Да ты хіба сягоння блёкату аб'еўся?..
Куды ж розум даўнейшы у цябе падзеўся?..
Мерыш сілы старыя бог зна якой мерай!
— Дай пораху, паночку, бо пайду з сякерай!
— Ось мы лепей інačай гэту скончым справу:
На мядзведзя ускора устроім аблаву!..
— А крый божа! не трэба, паночку, не трэба!

Ён уцячэ з аблавы!.. Не скаштую хлеба,
Спаць не буду, пакуль жа не заб'ю маруху,
Пакуль чорну на землю не выпушчу юху,
Пакуль шкуру ў нашай не развешу хаце:
Ось! — гэта для вас, дзеткі, па нашай утраце.
Ён уцёк бы з аблавы як піць даць, паночку.
Да жарабятка прыйдзе на трэцюю ночку,
А я і прыпільную!!!
— Проста жаль старога!..
Слухай, Грышка! — каб дзеткі не плакалі многа,
Дарую жарабятка ад сівой кабылы!.. Бяры! і успакойся!
— Да самай магілы Буду Бога за вамі прасіць, ясны пане!..
Каб вам і вашым дзеткам даваў панаванне
За вашу для нас, бедных, добрую натуру,
Дый пану ж ад мядзведзя прывалаку шкуру.
— Як-та шкуру? — якую?..
— Дый з яго, халеры,
Жаль бо нейкі вялікі еў мяне без меры,
Яго я звесці кляўся, пакляўся на душу...
Дык і слова прад Богам стрымаць цяпер мушу...
— Гм!.. а стрэльбу чы маеш?
— Ёсцека у клеці — учора трошкі правіў, папсавалі дзеці,
Але стрэліць — нічога!.. я знаю старуху,
Яшчэ раз мне паслужыць!.. Будзе гад без духу!
— Ты лепей гэты штуцэр на! бяры ад мене!
— Не, паночку, не трэба!.. кажу на сумленне,
Не ўмею я з панскай... лепей з сваёй плясну,
Але будзь, пан, спакоен! — як у свечку ясну!
— Казёл ты! больш нічога!.. Усе вы такія!..
На порах!.. дый няхай жа сам Бог цябе крые!
Назаўтра, яшчэ з лесу не ўзглянула сонца,
Пан праснуўся, падняўся, паглядзеў у ваконца;
Глядзь! — а Грышка са стрэльбай сядзіць ўжо на ганку
— Па мядзведзя да лесу пайшлі, пан, хурманку.

## СІВЕР

Эй ты, сівер, — не дзьмі!.. не патрэбен ты нам,
Ад палудня цяплу з табой ходу няма!
Хоць бы раз без цябе зарунець бы палям,
Хоць бы раз у свой час адышла бы зіма!
Устрапянуўся бы дух ў чалавечай грудзі,
Дый забылі бы мы мора смутку ды слёз.
Сціхні, сівер, хоць раз па лясах не гудзі,
На далёк акіян убяжы ты, мароз!..

## ШТО ДУМАЕ ЯНКА, ВЕЗУЧЫ ДРОВЫ Ў ГОРАД

От і свята, от Каляды,
На марозе скрыпяць санкі...
Усе на свеце святку рады,
Усюды песні і гулянкі.
Скачуць хлопцы і дзяўчата,
А гарэлкі п'юць чы мала?!
Адно слова — ўсюды свята.
Ну! кабыла, чаго стала?!

Чаго стала?!. скажаш — цяжка,
Дый не надта ж ты і сыта,
А мне ж лёгка?.. глядзь, сярмяжка
Стара... рвана... ветрам шыта...
Стаў крапчэй мароз ка святу,
Ось і зорка заблiскала.
Хоць скарэй бы мне у хату.
Ну! кабыла, чаго стала?!

Дроў у месце многа трэба,
І цана ж на іх сярдзіта,
Прадам дровы — куплю жыта.
От і лезу з цяжкім возам,
Як бяда у карк пагнала
Такім ліхам дый марозам!..
Ну, кабыла, чаго стала?!

Адагрэцца б у карчомцы,
На дарогу стукнуць чарку...
Дык я вінен грошы Шлёмцы,
Каб не даў часам па карку!
Ой ты, доля!.. ў гэту пору
Як мяне ды ты прабрала!..
Ну, кабыла! Ну, на гору!
Каб ты здохла, чаго стала?!

## РОДНАЙ СТАРОНЦЫ

Ты параскінулась лесам, балотамі,
Выдмай[1] пясчанай, неураджайнаю,
Маці-зямліца, і умалотамі
Хлеба нам мерку ня даш звычайную.

А сын твой, беднаю адзет сярмягаю,
З лыка пляцёныя лапці абуўшы,
Едзе драбінамі ці калымагаю,
Конем, што цягне, як бы заснуўшы...

Усё ў табе бедна. Часта заплача
Мужык араты дзеля злой долі,
Цяжка працуючы. Ён жа, аднача,
З табой расстацца ня жджэ ніколі.

І непрыглядную хату [redacted] пажыткамі,
І поле скупое, выган бяз пашы
Мы, апрануўшыся старымі сьвіткамі,
Любім і цэнім — бо яны нашы.

Дасьць Бог крывавым потам аратаму
Здабрыць пясчану зямліцу здарыцца,
Быць добра сытаму, хоць не багатаму,
А дзеля празьніка чарка нам зварыцца.

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай ніваю,
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добраю доляй — доляй шчасьліваю!..

## ВЯСНА

Кажуць людзі: «Вясна!» — піша так каляндар.
Хто ж пазнае яе? — калі сыпле ўсё снег?
Дарма ладзіў саху на той час гаспадар.
Дый і бусел да нас прыляцеў як на смех.
Жураўлі ўжо лятуць з крыкам звонкім — ключом,
Кінуў вырай кулік, чайка недзе скігліць,
А ўсё север як дуў, дзьме па полю па том,
Гул па лесе ідзе: «Яшчэ летку — не быць!»
Ой, ты доля мая! — так, як гэта вясна.
Да мяне ты не йдзеш, — хоць даўно бы пара!
З горкай чаркі як піў, так і п'ю я да дна,
І не свеціць яшчэ у пацёмках зара.
Адзавіся! — гдзе ты? — за табой я пайду
На край свету шукаць! — на якой ты мяжы?..
Адзавісь, зашчабеч салавейкам ў саду!
Яснай зоркай ўзглянi! Дзе ты, доля, — скажы!

## ВЯСНОВАЙ ПАРОЙ

Гараць лучы ранняй зоркі,
Свецяць Божы служкі,
Блішчаць расой ўсе пагоркі,
Заспявалі птушкі.

Ціха ў полі, на балоце,
Спяць паўсюды вёскі,
Толькі вецер ў пералёце
Калыша бярозкі.

Ноч не спаўшы за гулянкай
На вяселлі, сваты —
Пiлiп Окунь з Бычком Янкай —
Валаклiсь дахаты.

Буркнуў Пiлiп, зубы сцяўшы,
У гутарцы з Янам:
— Не прыкраўшы, не прылгаўшы,
Тай не будзеш панам!

Праўда, кажуць, за тры мілі,
А крыўда — у хаце.
Не папаўся, не злавілі, —
Зух ты, пане-браце!

Дурна кажа салавейка,
Брэша, сын сабачы:
«Дай! — дай!» — песня та — капейка!
Лепшы говар драчы:

«Дзяры!.. бяры!..» — Будзеш есці
І мёд піці збанам,
Пры худобе і пры чэсці
Скора станеш панам.

— А вароны што казалі,
Ой там, у граніцы?..
Яны кажуць: «Кралі, кралі!..»
Там, на шыбяніцы.

## З ПАЭМЫ «ГАНУСЯ»

Заходзіць сонца за горы,
Пакладаліс цені па лесе,
Вяршына старой аборы
Пазалацілась на стрэсе.

Вось вецер цёплы ад рэчкі
Нясе пах з лесу жывіцы,
І польных кветкаў, і грэчкі,
І мурматанне крыніцы.

Як ціха! Там, у патока,
Кулік часамі засвішча;
Толькі здалёка, здалёка
Шуміць з карчомкі ігрышча.

Знаць, там гуляюць і рады,
Знаць, весяляцца багата,
Гутараць старцы грамады
І скачуць хлопцы, дзяўчаты.

Чаму ж па лесе, па полю,
Як воўк, адзін я заўсюды?
І плачу ціха на долю,
Поўны смутку і нуды?

Чы не такі я, як людзі?..
Чаму ж грамады дзічуся?..
Ой, жаль мне ўеўся у грудзі
Па табе, зорка Гануся.

Дзеля багацтва — старому
Усе твае красы дзявочы!..
Дзеля худобы — з сарому
Не кажу людзям я ночы!..

Толькі між хвоі, бярозы
Бягуць па лесе у сваты
Мой голас смутны і слёзы:
Гануся, зорка мая ты!..

## УСЁЙ ТРУПЕ ДАБРАДЗЕЯ СТАРЫЦКАГА БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Дзякую Вам, брацікі, сястрыцы родныя!
За Вашы хвацкія песні народныя,
За тую гутарку Вашу вясковую,
За праўду светлую, за праўду новую.

Даўно мы не чулі братняга голасу,
I ніва нашая колас па коласу
Ветрам развеяна, градам разбітая,
Стаіць бяздольная, богам забытая...

Ці то над Нёманам, ці то над Шчараю,
Ці над Дняпроўскай затокай стараю —
Усюды падобныя, ўсюды знаёмыя
Казкі і песні, ветрам нясомыя.

Усюды сустрэнуць з хлебам і соллю,
I з добрым словам, і са слязамі
Песню святую, пісану боллю,
Усюды ахвотна пойдуць за Вамі.

Братцы, сястрыцы! — праўды нясыта
Маці-Зямліца! Ой! не забыта
Роднага слова святая сіла!..
Ёю гаворыць усюды — магіла!

Яе ж паслышыць наша старонка!
Спявайце ж, Братцы, смела і звонка:
Не згіне песня і Украіна!
Будзьце здаровы!

*Янка Лучына*

## ПАКУЛЬ НОВЫ ГОД НАСТАНЕ НА СВЕЦЕ...

Пакуль новы год настане на свеце,
Каляндар гэты, паночкі, купеце!
Ён хоць і выйшаў не вельмі прыгожы,
А ўсё ж у хаце ён патрэбен можа.
Праўда, адзет ён не надта багата,
Аднача скажа, калі будні, свята
I дзе бываюць якія кірмашы,
Дзе сабяруцца Янкі, Саўкі нашы.
Калі родная вам міла старонка

І мужык бедны, яго дзеткі, жонка,
Калі наш звычай вам знаёмы трошкі —
Тут пра ўсё гэта будуць малы крошкі.
Мы хочам добра ўсё зрабіць памалу,
Каб нам бы вашу заслужыць пахвалу,
А толькі — бедны: глеба пескавата,
Якія ж там ўсходы?! Чым хата багата.

## ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ

Ой! Скажэце, скажэце,
Як жыць трэба на свеце?
Хмары скрылі нам сонца,
Вецер вые над нівай,
У каторай старонцы
Шукаць долі праўдзівай?
Той улева, той ўправа
Хочуць весці нас радай,
Трэці надта цікавы,
Куды пойдзем грамадай.
Ні адзін жа не скажа,
Куды будзе дарога...
Што нам братне, што ўражжа —
Пытай праўды у Бога.
Папытайся сумлення
Дый розум мей ўласны,
Як наскочуць здарэння
Ці прыпадак няшчасны,
А то думай на сходзе
Ці пытайся у Іцка.
Што ж, каго там абходзе
Наша доля мужыцка.

### Каментарыі

**«Пагудка».** Верш гучыць як уступ да ўсёй творчасці паэта. Апублікаваны ўпершыню ў зборніку «Вязанка» (Пб., 1903).

[1] Не для зыску — не для барышу, прыбытку.

**«Стары ляснік».** Раздзел паэмы «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся», які не ўвайшоў у яе польскі варыянт, напісаны па-беларуску. Упершыню надрукаваны ў 1892 г. у «Северо-Западном календаре за 1893 год».

**«Сівер», «Што думае Янка, везучы дровы ў горад».** Упершыню надрукаваны ў зборніку «Вязанка».

**«Роднай старонцы».** Верш упершыню надрукаваны ў «Северо-Западном календаре на 1892 год».

[1] Пясчаны ўзгорак.

**«Вясна»**. Упершыню надрукаваны ў газеце «Минский листок» 12 верасня 1891 г.

**«Вясновай парой»**. Упершыню надрукаваны ў газеце «Минский листок» 14 сакавіка 1889 г.

**З паэмы «Ганexternal»**. Упершыню надрукаваны ў газеце «Минский листок» 12 верасня 1889 г.

**«Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова»**. Верш напісаны ў 1887 г.

**«Пакуль новы год настане на свеце...»**. Верш упершыню надрукаваны ў «Северо-Западном календаре на 1892 год».

**«Дзень за днём»**. Верш упершыню надрукаваны ў гродзенскай газеце «Сялянская праўда» ў 1923 г.

Усе творы друкуюцца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

## НАДЗЕЯ ЛАНСКАЯ
## (1851—1914)



Вядомая ў свой час журналістка і пісьменніца Надзея Ланская працавала ў пецярбургскіх газетах і часопісах: «Тыдзень», «Веснік Еўропы», «Новы час», «Паўночная пчала» і інш. Друкавалася як пад дзявочым прозвішчам, так і пад мужавым — Якаўлева. Прытрымлівалася ліберальных поглядаў, за што не пазбегла рэпрэсій. Асноўныя творы: «Спустошанае гняздо», «Сонца і дождж», «Чалавек і пан», «Туды і назад», «З замежнай паездкі», «Надзя». За раман пра злоўжыванні чыноўнікаў падчас руска-японскай вайны «Лаўры і церні» была пазбаўленая пенсіі мужа, а за раман «Абрусіцель» (у іншай рэдакцыі — «Абрусіцелі»), дзеянне якога адбываецца ў Беларусі, была прыцягнута да судовай адказнасці. Некаторы час пражывала на Смаленшчыне, што адлюстравана ў шэрагу твораў 1880—1900-х гадоў.

Апошнія дні жыцця правяла ў Пушкінскім прытулку ў сяле Міхайлаўскае Пскоўскай губерні.

*К. Антановіч*

### АБРУСІЦЕЛІ

Раман з грамадскага жыцця заходняга краю ў дзвюх частках

(урывак)

Пасрэднік Лупінскі прыехаў у заходні край якраз своечасова. Некалькі гадоў таму заходні край быў цэнтрам, куды сцякалася вялікае мноства людзей пераважна вялікарускага паходжання і абавязкова праваслаўнага веравызнання. У той час край уяўляў сабой арэну, дзе, не рызыкуючы ні чым, можна было тысячу разоў вызначыцца, выйсці, як кажуць, у людзі, і затым, спачываючы на лаўрах, вымавіць, са спакойным сумленнем: мы абрусіцелі. Сюды імкнуліся ўсе тыя, хто быў чымсьці незадаволены ў сябе дома: усялякі, каго абдзялілі чынам, месцам ці ўзнагародай, не прынялі альбо вярнулі праект, чый маёнтак, у выніку новых парадкаў, прыйшоў у заняпад, а ўзяцца за справу не было ні здольнасцей, ні сіл, — усё гэта спяшалася ў заходні край. Тут сцякаліся людзі разнастайных прафесій, узростаў і статусаў: маладыя, старыя, аматары добра пажыць і цалкам змарнелыя жыццём, расчараваныя ў каханні, падманутыя ў жыцці і тыя, што самі падманвалі, — усе імкнуліся сюды з ліхаманкавай паспешлівасцю.

Калі было шмат пакліканых, было шмат і абраных[1]. Гэта быў баль, на які ішлі ўсе тыя, каму не было ўжо чаго губляць, у каго нічога не засталося за душой дома. Тут можна было толькі выйграць, там ужо не заставалася чаго прайграваць. Гэта была імклівая эміграцыя. Прывабны для іх стымул быў настолькі, што мог разварушыць самага абыякавага і заспанага чалавека. І сапраўды, абыякавыя і заспаныя людзі, за некаторым выключэннем, ператвараліся тут у выдатных здабытчыкаў. Запаветнай ідэяй было не проста набыць, а набыць як мага хутчэй... Некаторыя да таго разышліся, што любую перашкоду лічылі замахам на свае законныя правы. Апроч таго, чалавек, што ехаў у гэты Богам пакрыўджаны край на службу, часта лічыў гэта такім са свайго боку подзвігам, за які ніякая ўзнагарода не магла быць дастатковай, такой ахвярай, ацаніць якую адпаведным чынам мог, вядома, толькі той, хто яе прыносіў. І хаця ў большасці выпадкаў у ахвяру прыносілася непісьменнасць, калі зусім не невуцтва, вольны час, які не было куды падзець, пустыя кішэні, якія абавязкова патрэбна было напоўніць (і чым хутчэй, тым лепей!), а часам і не зусім бязгрэшнае мінулае — тым не менш некаторыя лічылі сябе дабрадзеямі quand meme[2], усяляк узнагароджваючы сябе ў памерах сваіх здольнасцей і майстэрства. Некаторых узнагароджвала начальства, але большасць, не чакаючы міласці і шчодрасці зверху, спяшаліся ўзнагародзіць сябе знізу. Знаходлівым і смелым людзям тут было раздолле. Тут можна было зрабіцца памешчыкам без капейкі, не набыўшы лесу, выгадна яго прадаць, ажыццявіць якую заўгодна справу, назвацца чужым імем, давесці даверлівага чалавека да жабрацтва, разбагацець, у рэшце рэшт, выйсці сухім і чыстым (вядома, па-свойму) з многіх непрыемнасцей.

Атэстатаў аніякіх не патрабавалася: дастаткова было прыехаць з Расіі і заявіць сябе праваслаўным, каб атрымаць права на такія льготы, правы і перавагі, якія ператвараліся ў сапраўдны рог дастатку. Таму можна толькі ўявіць, якая колькасць рознай навалачы запаланіла гэтыя бядотныя 9 губерняў! Які кантынгент ілжы, подласці, усялякіх падманаў, подкупаў, фальшу і маральнай распусты прынесла з сабой гэтая праваслаўная армія згаладалых і нецярплівых! Нібы саранча, кінуліся яны на гатовыя месцы, спяшаючыся захапіць усю тую прастору, ачышчаную для іх гвалтам; далікатнічаць не было патрэбы, і пад выглядам абрусення і прапаганды праваслаўя гэтыя заваёўнікі праследавалі такія мэты, якія не мелі нічога агульнага ні з рэлігіяй, ні з маральнасцю, ні нават з палітыкай сапраўднага абрусення. Час быў гарачы: неабходна было каваць жалеза, пакуль яно не астыла. І сапраўды, молат працаваў на накавальні да той пары, пакуль каваць ўжо нічога не засталося.

Тады ўсё прыносіла сваю карысць, з усяго можна было атрымаць выгаду, і ўсялякая ўрадавая мера, усялякае абмежаванне правоў адных эксплуатавалася лоўкімі рукамі іншых, нібы пэўны артыкул закона, бо ўсё тое, што закон забараняў, можна было за пэўную плату дазволіць.

У той час — гэта было ў шасцідзясятых гадах — навальніца толькі-толькі сціхла і ў атмасферы пачалі з'яўляцца праявы чагосьці новага, нейкія чужародныя элементы: з усходу павеяла новым духам. Найперш панаехалі

чыноўнікі ў форменных фуражках; хаця гэта былі людзі не апошняй фармацыі, але яны прывезлі з сабой насенне новай флоры. Раней было, што прыязджаў з казённай палаты нейкі спадар у зялёным віц-мундзіры, — і ўсе ведалі, дзеля чаго ён прыехаў і што трэба рабіць: ніякіх сумненняў, нічога такога, што паставіла б людзей у няёмкае становішча адзін перад адным; яму падносілі — ён браў, і гэтым нескладаным актам усё было сказана і ўсё было скончана. Зялёны віц-мундзір аб'язджаў такім чынам гарады, вызначаныя для яго апекі, і, атрымаўшы патрэбнае, нават не зазіраў у крамы. Потым раптам адбыўся пераварот: чыноўнік з палаты кідаўся адразу ў крамы — гэта было ўжо навіною — аглядаў, вымяраў, ставіў пячаткі, падводзіў да артыкулаў, нават §§ артыкулаў, і хаця ў выніку сістэма падману заставалася такой самай, але даніна атрымалася падвоенай. Гэта было рашучым крокам наперад. Затым наехалі землямеры, міравыя пасрэднікі розных фракцый (ад самых «чырвоных», што ў хуткім часе бясследна зніклі, да вялікіх кансерватараў, якія канчаткова замацаваліся), акцызныя чыноўнікі, правадыры дваранства па прызначэнні «з боку» і часта не дваране, і іншыя, і іншыя. Пракуроры і адвакаты былі апошнім словам гэтага абнаўлення, апошнім звяном гэтага паслядоўнага ланцуга. Галоўнай мэтай было змяніць тое, што было блага, насадзіць новае насенне і чакаць пладоў абрусення. Пакуль гэта выконвалася, паны «будировали» па сваіх замках; збітыя з панталыку сяляне перажывалі розныя павевы, што ішлі з генерал-губернатарскай канцылярыі; кемлівыя яўрэі беспамылкова адчуўшы, на чыім баку застанецца права, вучыліся размаўляць па-руску. Нарадзілася новая культура.

## Каментарыі

**«Абрусіцелі».** Урывак з рамана друкуецца паводле выд.: Ланская Н. Обрусители. — СПб., 1887. — С. 9—13. Пераклад з рускай мовы К. Антановіча.

[1] Паралель з біблейскай прыпавесцю пра пакліканых і абраных (Лк. 14:14,16—24).

[2] Quand meme (франц.) — тым не менш.

## ЗЫГМУНД НАГРОДСКІ
## (1866—1937)



Віленскі прадпрымальнік, які пісаў беларускія вершы. Увайшоў у гісторыю як сябра Францішка Багушэвіча і фундатар «Нашай Нівы». Шмат пазней Антон Луцкевіч у сваіх успамінах пісаў: «У 1893 ці 94 г. атрымаў Нагродскі, які жыў тады ў Вільні, першае выданне вершаў Багушэвіча «Дудка беларуская». Кніжачка выйшла за граніцай і прыходзіла ў Вільню канспірацыйнай дарогай. «Дудку» прынёс Нагродскаму Язэп Пілсудскі. Кніжка зрабіла на Нагродскага велізарнае ўражанне. Яму ўдалося хутка пазнаёміцца і з аўтарам яе, Багушэвічам, каторы ўжо жыў тады ў Вільні і працаваў як адвакат. З паэтам Нагродскі вельмі здружыўся, і яны бачыліся прынамсі раз у тыдзень».

Упершыню ў «Нашай Ніве» імя Нагродскага згадваецца ў 1907 г., на гадавіну існавання газеты. Акурат тады віленскі генерал-губернатар сваім загадам закрыў друкарню Марціна Кухты, дзе друкавалася «Наша Ніва», і рэдакцыя на адзін нумар мусіла змяніць месца друку. У Кухты «Наша Ніва» друкавалася, як правіла, авансам. Ясна, што іншы друкар, а гэта быў нехта Блюмовіч, патрабаваў аплаты адразу. І вось менавіта ў гэтым нумары ў газеце з'яўляецца «рэальная» рэклама Зыгмунта Нагродскага, ягонага складу гаспадарскіх машын і прылад. Пазней плугі Нагродскага будуць рэкламавацца ў «Нашай Ніве» часта.

У 1937 г. у часопісе «Калоссе» з'явіцца некралог па Зыгмунду Нагродскім, дзе будуць і такія словы пра «Нашу Ніву»: «Нагродскі быў у блізкіх зносінах з сябрамі рэдакцыі, даваў у газету добра платныя абвесткі аб сваім складзе с/г машын, друкаваў і рассылаў пры газеце свае каталогі ў беларускай мове і ў патрэбе заўсёды гатоў быў дапамагчы выдавецтву пазыкай усцяж нехапаўшых грошай».

*С. Дубавец*

### НАШЫМ ЁН БЫЎ БРАТАМ...

Пастароньцесь, мае братцы,
Дайце ж праступіцца,
Дайце ж і мне, хоць ў сярмязе,
Яму пакланіцца.
Бо і нашым ён быў братам,
І нас любіў шчыра,
І для нас лілася песня,
Грала яго ліра...

Дайце ж глянуць на то месца,
Адкуль з яго грудзі
Раздаваўся голас вешчы:
«Мілуйцеся, людзі!»
Патуль зваў ён, патуль клікаў
З усёй сваёй сілы,
Аж пакуль не надарваўся,
Не лёг да магілы...
Закапалі яго людцы,
Глыбай завалілі.
«Вечны покуй дайму, пане!» —
У Бога прасілі.
А ён кліча і з магілы
І не перастане,
Пакуль ўсе не абыймуцца,
Міласць не настане.

## НА ПАМЯЦЬ ЗЫЧЛІВАМУ ДЛЯ СЯМ'І

Ці здароў, Яська, скуль ты ўзяўся,
Што і ў павеце цябе не чуваць?
Ці ты ў Амерыцы дагэтуль бадзяўся,
Што мы й сапраўды сталі бедаваць?
Надта ж ты, мусіць, з'ехаў быў далёка,
Калі ніякай вестачкі не даў.
Бывала, матка уздыхне глыбока
Дый будзе казаць: «Яська мой прапаў!»
Ты ўсё пытаеш, што ў нас чуваць,
Гавары лепей, дзе ты што рабіў.
Бо там як была, дык можна прылгаць,
А тут уся праўда, як нажом зрубіў,
Скажу, калі хочаш, дык якая наўда,
Што міжы нас тут няма Бурачка.
Вот табе, браток, цяжэнькая праўда:
Смертухна-матухна ўзяла Мацючка!
«З якой хваробы?» А хто ж яе знае!..
«Павінны ж былі пазнаць дактары...»
Каб іх ды немач аблягла цяжкая,
Што з свету звабілі яго без пары.
Паўгода, можа, жонку дурылі,
Што ў сэрцы крышку робіцца не так,
Што здароў будзе, усё гаварылі,
А ён на ныркі хварэў, небарак.
Каб былі кінуўшы зразу дактароў,
Дык бы, здаецца, Мацюк яшчэ жыў.

Без мала чаго тры гады ён чах,
За грудзі хапаўся і ўздых лавіў.
Глянеш, бывала, дык, дальбо, аж страх,
Спомніўшы тое, як ён даўней быў!
Дактароў розных, розныя лекі
Жонка з-пад зямлі дастала б, здаецца...
Бывала, штодзень пруць і пруць з аптэкі,
Што доктар задумае ці што заманецца.
Аднак ні доктар, ні жонка не можа
Праціўку Бога нічога зрабіць —
Відаць, такая была воля Божа,
Каб ён і ў небе мог нам паслужыць.
Не скончыў ён, бедны, песняў сваіх,
Што нашай гутаркай усё нам спяваў
Аб нашай крыўдзе, аб долі усіх.
Ён нашы слёзы песняй абціраў.
Калі ў бядзе прыйдзеш да яго,
Бывала, скажаш, што на душы маеш,
Казаў бы, гэта ад бацькі свайго,
Крыўду і праўду — усё, брат, пазнаеш!
А калі прыйдзеш падчас вінаваты,
То такой споведзі і зроду не мець,
Ці ты там бедны, ці ты там багаты —
Ён лепш, як пробашч, цябе прабярэць!
Вечны яму пакой, вечна адпачненне!
«Анёл панскі звеставаў!» — гаварыце, людзі,
Каб Бог найвышшы даў яму збавенне.
Няхай яго душачка сярод святых будзе!

**Каментарыі**

**«Нашым ён быў братам...».** Вершаваная прамова ў верасні 1899 г. на адкрыцці памятнага каменя, пастаўленага ў гонар Ул. Сыракомлі ў Барэйкаўшчыне, дзе пэўны час жыў паэт. Рукапіс захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Друкуецца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: хрэстаматыя. — Мінск, 1988. Першая публікацыя В. Рагойшы.

**«На памяць зычліваму для сям'і».** Верш напісаны, паводле прыпіскі да яго ў «Беларускай хрэстаматыі» Б. Эпімах-Шыпілы, на смерць Ф. Багушэвіча 14 ліпеня 1900 г. у Вільні. Друкуецца паводле таго ж выдання. Першая публікацыя В. Рагойшы.

# КАРУСЬ КАГАНЕЦ (1868—1918)



Празаік, паэт, драматург, мастак, грамадскі дзеяч Карусь Каганец нарадзіўся ў г. Табольску. Паходзіў са старадаўняга беларускага шляхецкага роду, даводзіўся сваяком Міхалу Апалінару Кастравіцкаму, дзеду французскага паэта Гіёма Апалінэра. Бацька пісьменніка Карл Самуілавіч Кастравіцкі валодаў невялікім маёнткам Навасёлкі на Койданаўшчыне, меў аграномічную адукацыю, любіў музыку. Маці, Юлія, паходзіла з вядомага на Беларусі шляхецкага роду Свентарэцкіх, скончыла інстытут у Вільні. За ўдзел у паўстанні 1863—1864 гг. бацьку (быў членам-рэферэнтам паўстанцкай арганізацыі на Міншчыне) саслалі ў Табольск, а маёнтак канфіскавалі. У Табольску з ім жыла і сям'я, тут і нарадзіўся будучы пісьменнік. У 1870 г. сям'і Кастравіцкіх дазволена было перасяліцца ў Казанскую губерню, а ў 1872 г. — вярнуцца на радзіму. Пасля вяртання жылі ў вёсцы Засулле (цяпер Стаўбцоўскі раён), а з 1880 г. — у вёсцы Юцкі каля Койданава.

Пачатковую адукацыю Каганец атрымаў дома, пасля вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы. Імкнучыся авалодаць жывапісным і скульптурным майстэрствам, у 1890 гг. паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства. У 1899 г. Каганец ажаніўся і асеў на сталае жыхарства ва ўрочышчы Ліссі Норы (Прымагілле). Каб утрымаць сям'ю, у якой было чацвёра дзяцей, ён вымушаны быў шукаць дадатковы заробак — працаваў у чайнай у Мінску, у мастацкай майстэрні ў Рызе, Мінскім таварыстве дабрачыннасці, потым служыў дзясятнікам у Лідзе на будаўніцтве чыгункі Балагое-Седльцы.

Каганец — актыўны ўдзельнік і ідэолаг нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі, адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай грамады і Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1904 і 1905 гг. без выніку звяртаўся ў Галоўнае ўпраўленне па справах друку аб выданні ў Мінску беларускай газеты «Палессе» (рэдактарам меўся быць Д. Бохан). Актыўна ўдзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1905—1907 гг. За агітацыю сярод сялян Койданаўшчыны 19 снежня 1905 г. быў арыштаваны і да 16 мая 1906 г. зняволены ў мінскую турму. Выпушчаны з турмы да суда, жыў выпадковымі заробкамі. Вясной 1910 г. Віленская судовая палата на пасяджэнні ў Мінску прыгаварыла Каганца да года зняволення ў мінскай турме. За турэмнымі сценамі многа пісаў, маляваў, зрабіў ілюстрацыі да твораў Я. Коласа, які знаходзіўся там жа (малюнкі не захаваліся). Пасля выхаду на волю доўга не мог знайсці работы. Толькі ў пачатку 1912 г. удалося атрымаць пасаду аканома ў фальварку Жортай (цяпер Барысаўскі раён) у пана Копаця, дзе працаваў да вясны 1918 г. Старшынстваваў на з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый (Мінск, 25—27 сакавіка 1917 г.). Абвастрэнне даўняй хваробы — туберкулёзу лёгкіх — вымусіла пераехаць да брата ў Прымагілле, дзе і памёр. Пахаваны ў вёсцы Навасёлкі каля Койданава (Дзяржынск).

Літаратурную дзейнасць Каганец пачаў у канцы XIX ст. Самыя раннія з яго твораў, што дайшлі да нас, датуюцца 1893 г. Артыкулы, апрацоўкі народных легенд друкаваў у газетах «Минский листок» і «Северо-Западный край», потым супрацоўнічаў з «Нашай Нівай». Пры жыцці асобным выданнем выйшлі «Беларускі лемантар» (1906) і вадэвіль «Модны шляхцюк» (1910). Яго творчая спадчына жанрава разнастайная: проза, паэзія, драматургія, публіцыстыка. Большасць яго апавяданняў маюць легендарны каларыт, асаблівую рытмічна-сказавую стылёвую манеру. У іх аснове ляжаць мясцовыя легенды, народныя паданні. Адштурхоўваючыся ад фальклорнай асновы, Каганец ярка і дынамічна перадае сюжэт, напаўняе творы трапнымі мастацкімі дэталямі. Заўважаецца моцны ўплыў гутарковай мовы. Ёсць у пісьменніка апавяданні, напісаныя на сучасным яму матэрыяле, якія вызначаюцца рэалістычнасцю малюнкаў ■ побыту плытнікаў і леснікоў, завостранасцю матываў сацыяльнай няроўнасці. Пісаў навукова-папулярныя нарысы для дзяцей, якія ўвайшлі ў школьную чытанку. У публіцыстычных артыкулах творцам ставяцца праблемы беларускага нацыянальнага адраджэння, пытанні культуры, мовы.

*З. Мельнікава*

## НЁМАН

Ой, Нёман цячэ, Нёман плыве
Ад нас у літоўскія зямліцы.
А хто там пайме, хто разбярэ
Шопат і гоман нашай рачыцы.
Ой, многа ж яна
З сабой унясла
Нашага шчасця, славы і гора
З сваёю вадой,
З нашаю слязой
З краю у край аж да сіня мора.

## НАШ ПОКЛІЧ

Штось Нёман наш ціхі прачнуўся,
У пасцелі сваёй спеляхнуўся
І хвальку за хвалькай ціхенька пагнаў,
Ад краю да краю ганцоў ён паслаў,
Ад рэчкі да рэчкі,
Уздоўж і папярэчкі
У Шчару, у Сулу,
У Лошу і Вусу-раку.
Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!
Ой, не адзін Нёман прачнуўся,
Бо і час чагось пахітнуўся,

І вецер, сарваўшысь, лісцем зашумеў
Ды па полі і луках ён паляцеў —
Колас к зямлі прыгне,
Кветку красну сарве,
Птушку пабудзе.
Ой, на свеце штось будзе!
Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!
Прачнуўся і наш наднямонец:
Молад і стар, мужык і хлопец.
Ой, старшыя чагось зварухнуліся,
Як бы бяды якой спалахнуліся.
Ой, друг к дружку ідзе
І суседа вядзе,
Люлек не кураць,
Знаць, штось важнае судзяць.
Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!
Ой, гора жа, гора над намі,
А ўсяму вінаваты самі,
Бо мову прыродну мы забываем,
Апратку, звычай на чужы мяняем.
Гэй, да схамянемась,
Да са сну прачнемась!
Згоду ўраім,
Што е злога — паправім!
Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!

## НАШ СЫМБАЛЬ

Адважна, браццл, наперад ідзеце
Цвёрдай і правай ступою!
Кожнаму смела у вочы глядзеце,
Праўду нясеце з сабою!
За родну краіну, звычай і мову,
За гонар груддзю ставайце!
Да будзьце верныя сваему слову,
З праўдай заўсюды трывайце!
Тады вы усякую зможаце сілу,
Ворагам прыйдзе скаранне!
Правым дасць бог наградадчку мілу,
Шчасце і радасць настане!

* * *

Выйду на гару высоку,
Пад бярозу адзіноку.
Гляну кругом, азірнуся,
На свет божы падзіўлюся.
Буду думаць дый гадаці,
Як мне гора ўкаратаці:
Чы не ўзяці ажаніцца?
Чы у людзі дзе пусціцца?
Чы ўсё на свеце забыўшы,
Чаркаю гора заліўшы,
У карчомцы мне гуляці,
Свайго веку каратаці?

## ПРАМОВА

Гэй, хлопцы, брацця мае, а сыны Зямлі Беларускай, каторая раскінулася ад Гродны да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася! Кіньце ўвакол вокам, сабярыце харашэнька думкі і скажэце, ці павінна так быць, як цяпер ёсць? Ці справядліва гэта — усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была, і быў час, калі наша мова квітнела пры двары каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж вас больш, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам, і ваеннымі заслугамі.

Колькі то вучоных людзей, колькі то слаўных казакоў, ваявод і гетманаў наша зямліца выгадавала?

Адно нядобра, што кожны славу прыносіць не сваёй старонцы, а ўсё чужым. Прымерам кажучы, як той Галубок, просты селянін зямлі Навагрудскай, што са сваёю сотняю казакоў ці мала славы прыдбаў палякам так, што і песні аб ім складалі. А ў нас? Ці ведае хто яго?

І бяру я гэта ўсё на вум, і здаецца мне, што хутка саўсім загіне наш народ, бо яшчэ за гадоў трыста таму, як паны, так і халопы свае мовы не саромяліся: і гаварылі, і пісалі ўсё па-свойму. Потым мала-памалу паны сталі сваіх звычаяў чурацца, сталі свае парадкі і мову сваю пакідаці ды польскую пераймаці і так, што далей-болей, аж саўсім палякамі сталі. На паноў гледзячы, сталі і сяляне апратку сваю мяняць на нямецкую і мову калечыць. Нават сваіх спяванак сачыняць саромяцца, мужыцкімі называюць.

Але не! Наш народ не загіне, і прыйдзе такая часіна, што прачнецца наш русьняк і скажа суседзям так: «Служылі мы вам — заплацеце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажэце нам толькі: «Беларусы вы!». Вось толькі!

Ды і красна ж бо наша зямліца, усе выгады мае: і скіба ўрадлівая, і лесу багата, і сена аж надта. І рэчак сплаўных многа, а па краёх, як бы ад ворага абгароджана пяском, балотамі ды цёмнымі лясамі. Вось выйдзі толькі

дзе-небудзь на гару, пад гай зялёны, ды азірніся на свет божы! Так душа твая і зрадзее.

Бач! Уніз аж да рэчкі гара зараснікам пакрыта, уся арэшнікам, чаромхай, каліннікам ды маліннікам зарасла. А чаромха то цвіце — няйначай хто пухам лябяжым укрыў, і пах за вёрсты ветрам нясе. А рэчка сама — моў стужка блакітная, між верб ды альшын ветрам раскінутая. А за рэчкай лука аж зіхаціць кветкамі. А далей за лукай поле зелянее. А ўвакол усяго цёмны лес сінее. Глянь улева — панскі двор бялее, і таполі тырчаць, моў на старожы стаяць; а ўправа сяло ціха лягло, паўз раку на беразе. У сады прыбрана яно, а ў сяле хлопцы, як дубкі, а дзяўчаты, як ягадкі. Пазіраеш на ўсё гэта, і штось за сэрца шчэміць і грудзі шырака раздымае, і ляцеў бы, здаецца, над палямі, над лугамі, па-над лесам сінім...

І на гэтай нашай зямлі спрадвеку нашы дзяды-прадзяды жылі, каторыя не раз грэкамі, немцамі і рымлянамі траслі. А мы?..

Мы — не знаем, хто мы такія...

## ПРЫЛУКІ

Не летась, не залетась, а калісь у старыну, як мы самі сабою яшчэ жылі, тое, што казаціму, было.

У адным месцы абапал Птыча-рэкі высяцца дзве горкі дужа красныя, а пасярод ракі востраў ляжыць. На той гарэ, што па правым беразе, стаяў двор знатнага баярына, іменем Яраслаў.

Дый красен жа той двор быў, увесь у садах, будынкі ўсе спраўныя былі, а ўвакруг тынам белым абведзены; ад двара дый да шляху былі прысады ліпавыя.

Быў дзень ясны, харошы, ведама, як у пачатку лета бывае, калі яшчэ лугі зіхацяць кветкамі, птушкі заліваюцца рознымі галасамі, рыба ў рэчцы раз у раз плюхае, разганяючы шырока вакорыну, пчолы і ўсякія мошкі ды казяўкі цэлымі раямі завіхаюцца каля кветак. Дзе ні глянь — усюды жыццё кіпіць, а сам пазіраеш на ўсё гэта неяк радасна.

І вось па прысадах тых, у прыятным прахалодзе, любуючыся прыродаю і самі сабою, прахаджваліся малады баярын Яраслаў са сваёю паняю, маладою жаною, краснаю Люблянаю. Ходзяць яны і цешацца, ажно дарога задуднела, і на ўзмыленым кані паявіўся ўвесь запылены княжны ганец і, сукланіўшыся баярству, павяшчае нядобрую навіну, што вораг рубеж перайшоў і дужа наш край пустошыць і што князь прыказаў усім сваім баярам на вайну, чым дужы, паспяшаць.

Баярын рад чыну даказаць, сабе славы прыдбаць; хутка сабраў сваю дружыну і паехаў.

Спачатку баярын слаў часта ганцоў да любай жонкі, а далей — ні ганцоў, ні самога штось не чутно стала. І затужыла вельмі красна пані Любляна — усё выходзіць на шлях ды ўдаль пазірае, ды ўсё дарма.

Прайшло лета, настала зіма, а любага Яраслава як няма, так і няма, Прыйшла ізноў вясна. Выйшла раз красна Любляна ў канец прысад і як

толькі на шлях зірнула, так дужа і зрадзела: бачыць, коціць дружына, а наперад любы вараным канём едзе. Ды нядоўга яе радасць была, бо як той пад'ехаў бліжэй, пазнала, што гэта другі.

Той пад'ехаў, сукланіўся, а яна і думае: «Можа, ён што пра майго ведае?..». Просіць яго да сябе ў харомы спачыць трохі. Той рад, прыстае, ідзе за ёю ў святліцу. Яна, яго за стол пасадзіўшы, гукнула на слугі, сказала прынесці піва, мёду і ўсялякай стравы; стала яго частаваці і яго пытаці пра мужа любага. Той, пагадаўшы, так ёй павядае:

«Не хочацца мне табе, красна пані, жалю задаваці, ды мушу... Вото ж бачыш, твой муж, а мой друг сардэчны, быў цяжка ў баі паранены і, уміраючы, кажа мне так: «Слухай, дружа! У мяне е жонка, дужа красная пані, а ты яшчэ не жанаты, так успакой мяне перад смерцю, бо мне скора канец, — пакляніся заступіці ёй маё месца!» Што ж я меў рабіць? Мусіў прысягнуць і цяпер ад прысягі адступіціся мне нельга... Так пані няхай мя выбачыць і будзе прыхільна!».

Тая тое як учула, давай плакаць, галасіць і слухаць яго не хоча.

Плакала яна дзень, плакала другі, а на трэці і падумала: «І чаго я гэтак плачу?.. Што я тым памагу?.. Адно лічка сваё красна папсоваю...», — і на чацвёрты дзень гутарку з ім прыязну павяла, а на пяты — так і жартаваць сталі, а далей і пабраліся.

Прайшло ізноў лета, прайшла зіма, а за зімою — вясна, а за вясною і лета настала. Сядзяць гэта той прыезджы баярын з краснаю Любляна, як галубкі ў парачцы, і сабою цешацца ды любуюцца. Ажно разам Любляна як крыкне і, хапіўшыся за сэрца, абамлела. Той — зірк: бачыць — перад ім Яраслаў стаіць...

Хапіліся спярша за шаблі, а далей Яраслаў, адумаўшыся, кажа:

«Адзін з нас павінен умерці, дык няхай бог судзіць каму. Вазьмі ты сабе лук і сагайдак з стрэламі і ідзі на гару за рэчку, а я вазьму сабе і стану на гэтай гарэ, і будзем страляцца».

Як сказаў, так і ўчынілі: выпусцілі па страле — нічога, выпусцілі па другой — нічога, а па трэцяй як выпусцілі, так абодва аж асунуліся, як два падкошаныя каласочкі.

Тое месца з тых пор «Прылукамі» стала звацца. І цяпер там стаяць мураваныя харомы і ліпавыя прысады, і жыве там пан дужа багаты, толькі той пан цяперашні не наш, а прышлы з прымор'я, але дабраваты сабе.

**Каментарыі**

У анталогіі даюцца толькі творы, напісаныя К. Каганцом у XIX ст.

**«Нёман». «Наш покліч». «Наш сымбаль».** Вершы напісаны ў 1894 г.

**«***Выйду на гару высоку...».** Верш напісаны 15 мая 1896 г.

**«Прамова». «Прылукі».** Творы напісаны ў 1893 г.

Усе творы друкуюцца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

## АДАМ ГУРЫНОВІЧ
## (1869—1894)



Беларускі паэт-дэмакрат, фальклярыст, рэвалюцыянер. Паходзіў са шляхецкага роду татарскага паходжання (герб «Праўдзіц»), вядомага з XV—XVI стст. Бацькі, Калікст Іасафатавіч і Элеанора з Сяняўскіх (з гетманскага роду), мелі некалькі дробных фальваркаў. Спачатку сям'я жыла ў Кавалях (вёска Кавалькі, цяпер Мядзельскага раёна), пасажным фальварку маці, дзе нарадзіліся Адам і яго старэйшы брат Юзаф. Потым пераехалі ў Крыстынопаль, які быў супольнай уласнасцю Калікста Іасафатавіча і яго брата Абдона. Тут нарадзіліся браты і сёстры Адама. Бацька памёр рана, пакінуўшы маладую дваццацівасьмігадовую ўдаву з шасцю дзецьмі. Вырашана было даць Юзафу вайсковую адукацыю, а Адаму і Яну — практычную (рэальнае вучылішча). Сям'я купіла ў Вільні невялікі дом, з якім і звязана пара духоўнага станаўлення Гурыновіча. Афіцыйныя поспехі яго ў час вучобы ў Віленскім рэальным вучылішчы (1879—1887 гг., уключаючы гадавую спецыялізацыю на механіка-тэхнічным аддзяленні дадатковага класа) былі сярэднія, але ўступныя экзамены ў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут ён здаў амаль на адны пяцёркі.

Як беларускі дзеяч і паэт Гурыновіч сфарміраваўся пад уплывам народніцкага «Гомана» і творчасці Ф. Багушэвіча. Пэўны ўплыў на яго мелі таксама традыцыі паўстання 1863 г., ідэі К. Каліноўскага (сярод забраных паліцыяй папер былі нататкі, звязаныя з паўстаннем 1863 г.). Гурыновіч пісаў на трох мовах — беларускай, рускай і ўкраінскай. Беларускія вершы былі ўпершыню надрукаваны ў 1921 г. Значная частка твораў (8 сшыткаў) згубілася ў паліцэйскіх архівах, іншыя знішчыў брат пасля арышту паэта.

Пад уздзеяннем марксісцкай тэорыі ў поглядах Гурыновіча знайшлі далейшае развіццё рэвалюцыйна-дэмакратычныя, народніцкія ідэі. У гісторыю роднай літаратуры Гурыновіч увайшоў як паэт-рэвалюцыянер, адзін з пачынальнікаў грамадзянскай лірыкі, пясняр народнай нядолі, які заклікаў да рашучай барацьбы з самаўладствам, першы з беларускіх літаратараў звярнуўся да рабочай тэмы. Напрыклад, у нясконачаным вершаваным апавяданні «На фабрыцы» ўпершыню паказваюцца будні рабочых і праводзіцца думка, што іх жыццё нічым не адрозніваецца ад цяжкага сялянскага і нават горшае. Асноўныя вобразы і матывы паўтараюцца ў вершах Гурыновіча на розных мовах. Паэт стварыў вобраз рэвалюцыянера, які ўсе сілы аддае барацьбе за вызваленне працоўнага люду («Как мало тех», «Не той моцны»). Вобраз беларускага народа ствараецца ў вершах на роднай мове, у якіх гаворыцца пра цяжкае і бяспраўнае жыццё беларускага селяніна («Перш душылі паны...», «Што за звук ды так громка раздаўся», які пераклікаецца з някрасаўскім «Размышлением у параднага подъезда»).

У творах А. Гурыновіча спалучаюцца адкрытая грамадзянскасць, публіцыстычнасць і лірызм. Тэматычны і жанрава-стылявы дыяпазон яго паэзіі даволі шырокі: трыбунна-публіцыстычныя («Што ты спіш, мужычок...», «Перш душылі паны...»), сатырычныя («Звярынец» — перайманне ананімнага верша «Тэатр»), пейзажныя («Вясна»), фальклорна-песенныя («Да жніва», «Бор»), дыдактычныя творы («Раз у Зольках, у дзярэўні...), вершы-медытацыі («Сцямнела на дворы і ціха кругом...»), сюжэтныя апавяданні, блізкія да балад («Месца нячыстае»). Плённай была таксама спроба пісьменніка ў перакладах польскіх, рускіх, украінскіх аўтараў. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А. Пушкіна, І. Крылова, М. Някрасава, А. Талстога, А. Міцкевіча, Э. Ажэшкі, Я. Каспровіча, І. Франко.

*Г. Кісялёў*

## ДЗЯКУЙ ТАБЕ, БРАЦЕ, БУРАЧОК МАЦЕЮ...

Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею,
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй.
Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,
Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы.
Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,
Няхай песнь смутная ідзе у калейку
І будзіць у сэрцах мысль аб лепшай долі,
Якой мы не зналі дагэтуль ніколі.

## ШТО ЗА ЗВУК ДЫ ТАК ГРОМКА РАЗДАЎСЯ...

Што за звук ды так громка раздаўся
Па лугах, па палях і лясах,
Высако аж пад неба падняўся
І са стогнам прапаў ў аблаках.

Можа, вецер у лесе так вые
Ці старая бяроза скрыпіць?
Ці сава — няхай бог таго крые —
На пагібель у лесе крычыць?

Можа, маці над трунай галосіць,
Дзе схаваны міленькі сынок?
Можа, ласкі у Бога там просіць
Бедна дзеўка, згубіўшы вянок?

О! не то! Гэты стогн, быць не можа,
Каб з грудзі выхадаіў ён адной,
То увесь наш народ гэтак стогне
Над няшчаснаю доляй сваёй.

Есць і рукі, і шчырай ахвоты
Нам да працы не бракла ніколі,
Але недзе знайсці нам работы...
Ох! не будзе нам хлеба ні солі.

Мал надзел нам ад дзедаў астаўся,
Падзялілі сыны і яго,
А цяпер, глянь, як вузенек стаўся,
Два шагі тут ушыр усяго.

## СЦЯМНЕЛА НА ДВОРЫ І ЦІХА КРУГОМ...

Сцямнела на дворы і ціха кругом,
Казельчыкі толькі ў мураўцы крычаць,
І здалеку нейдзе, не йнакш за лугом,
Вясковых начлежнікаў гоман чуваць...
Цяпленькая ночка ціхенька сышла
І цёмнай пасцілкай прыкрыла усіх,
І ■ шэпатам ціхім над светам лягла
Ка сну калыхаці і добрых й благіх.
У хату увойдзе, у прывень глядзіць:
Ці спіць гаспадыня, ці дзеткі ляжаць,
Ці сам гаспадар на палацях храпіць,
Ці дзе непарадкаў якіх не відаць.
Усюды спакойна, і людзі ўсе спяць,
Прыкрыўшыся цёмнай пасцілкай начы.
Адному мне толькі не можна прызваць
Спакойнага сону. А мысль, летучы,
Маланкай праходзіць праз галаву мне,
І тысячы думак адна за аднэй
Ляцяць, быццам птушкі, і ў сэрцы на дне
Становіцца цяжка. Цясней і гарчэй
Здаецца на свеце на гэтым жыццё.
Ох, думкі! каханкі і каты мае!
Куды ад вас дзецца, і што вы дасцё,
Каб сэрца не стогла, каб мыслі свае
Глыбока, глыбока ў грудзі захаваць
І песняй вясёлай усё заглушыць.
Ох, дарма! Не можаце даць
Вы мне спакайносці... А месяц блішчыць,
Па сіняму небу йдучы. Пагляджу
На ціхую ночку, на цёмненькі лес,
Лягчэй можа стане, як там пахаджу,
І смутак загіне, што ў душу залез.
І з гэткаю мовай на двор выхаджу.
Іду каля тыну.

## РЫБАК

Стаіць рыбак над вадою
Ловіць рыбіну вудою:
Стаяў, стаяў ён дзень цэлы —
Ані рыбкі не прыспела.
Скора сонца за лес сядзіць,
Аж за вудку нехта цягніць.
Учапіўся карась нейкі,
Такі дрэнненькі, маленькі.
Рыбаку ён стаў казаці:
«Мяне варта адвязаці
І выпусціць, зняўшы з вуды,
Бо ці ж варта вастрыць зубы
На маленькую такую,
Як я, рыбіну худую?
Пусці ў раку — раздабрэю,
Год ці два — якраз прыспею;
Як вырасту — смачны буду,
Учаплюся сам на вуду».
«Добра, добра», — рыбак скажа.
Ды той дурны, хто так кажа
І на заўтра адкладае,
І што мае, то кідае.
Па мне, розуму не мае,
Хто, злавіўшы, з рук пускае.

## КАТОК

Сядзіць над вадою маленькі каток,
Глядзіць ён на рыбкі, разінуў раток.
Хацеў бы дастаць іх — баіцца скакнуць,
Баіцца вадою ён ног абмакнуць.

А хлопчык маленькі над кніжкай сядзіць.
Яе ён раскрыўшы, на вершы глядзіць.
І рад бы вучыцца, хацеў бы ўсё знаць —
Ды шкода галоўкі сваёй бедаваць.

Ах, дарма, мой хлопчык, напрасна, дзіця, —
Пячоныя пташкі у рот не ляцяць.
Калі ты што-кольвек захочаш пазнаць,
То мусіш не мала над тым працаваць.

## ДА ЖНІВА

— А пайду ж я, маці,
У поле жыта жаці!
Жыта зелянее,
Колас налівае,
Вецер з ніўкі вее —
Жнеек прызывае:
— Ды ўставайце, жнейкі,
Дзеўкі маладзенькі!
Ды скарэй вастрыце
Ржавыя сярпочкі,
Ды барзджэй пачніце
Вузенькі шнурочкі.
Бо пачну гуляці,
Ніўку калыхаці:
Досыць табе, ніўка,
У полі красавацца;
Пара табе, ніўка,
У гумно схавацца!
— Ціха ж, вецер, ціха!
Не рабі ж ты ліха, —
Плача ніўка, плача,
Гнецца каласамі,
Не відзіць — не бачыць
Жнеечак з сярпамі.
— Ой! і дзе ж вы, жнейкі,
Дзеўкі маладзенькі?
Вецер каласенькі
Хоча вытрасаці,
Зерняткі паўненькі
У зямлю пакідаці.
— Ціха ж, ніўка, ціха,
Не рабі ж нам ліха.
Рукі ўжо памлелі
Граблямі махаці,
Яшчэ ж не паспелі
Сена пагрэбаці.
Пажджы ж, ніўка, трошка.
Справімся нямножкі,
Сянцо дазбіраем
І дамоў пазвозім,
У тарпу наскладаем —
Тады сярпы возьмем.

## ВЯСНА

Ты ізноў да нас вярнулась,
Бледнай восені сястрыца!
Белай сукняй апранулась,
Ты румяна, светлаліца!
Ты адкуль прыйшла, мілая?
Дзе жыла-была далёка?
Мы не ждалі, дарагая,
Выглядалі смутным вокам.
Знаді мы, што ты вярнешся,
Край не кінеш нешчаслівы,
Залатым лучом пральешся
На палі, лугі і нівы.
І лучом тваім цяпленькім
Аджыла ізноў зямліца,
Зацвіў цветачак красненькі,
Заспявала ў лузе пціца.
Скора ластаўкі гняздзечкі
Пад страхой пачнуць звіваці,
І бацян зляціць да рэчкі
Розных гадаў там шукаці.
Скора ў поле з песняй звонкай
Ратаі пайдуць араці,
І пад песню жаваронка
Прасіць стануць Божай Маці,
Каб жытцо было буйное,
Сенаваць каб пры пагодзе,
Каб ўрадзіла не благое
Усё у полі і гародзе.
А як збяром усё з поля —
У гумно ў тарпу паложым,
Дык памолімся ў касцёле
І табе ахвяру зложым.

## БОР

Ох ты, бор, мой бор,
Бор сасновенькі!
Ты з каторых пор
Шуміш, родненькі?
Мы з табой раслі,
Уздымаліся,
На адной зямлі
Гадаваліся.

Мы зжыліся з табой,
Бор наш родненькі,
Як з сваёй сумой
Жабрак голенькі.
А з табой у нас
Долі роўныя,
Мы з табой якраз
Браты родныя.
Ні ў нас долі нет,
Ні ў нас шчасценька,
Апастыў нам свет,
Зямля-матанька.
У другіх людзей
Зямля лепшая,
Там і жыць лягчэй,
Праца меншая.
У пяску сваім
Мы купаемся,
Не ў прымер другім
Прабіваемся.

Па лясах другіх
Усё лепшае,
І ліства на іх
Усё страйнейшая.
У бары ж шумяць
Сосны-ёлачкі,
На сучках тырчаць
Усё іголачкі.
А на нашых людзях —
Усё сярмяжачкі,
А у іх кішанях —
Ні бумажачкі.
А і будзем ждаць
Часу добрага,
Ды ну ж выглядаць,
Што ёсць новага.
Ды не будзе ж так
Векі вечныя,
А прыдуць неяк
Часы лепшыя!

## МЕСЦА НЯЧЫСТАЕ

Месца нячыстае, што і казаць,
Мне гэта месца знаёма.
Відзіш, там крыж адзінокі відаць —
Гэта магілка Пахома.
Хто ж той Пахом? Гэта ж панскі ляснік.
Лет таму дваццаць ці болей
Жыў ён у хатцы, быў чэсны старык,
Звідзеўся з горкай ён доляй.
Праўда, быў вельмі дзіўны чалавек:
Смутны усё, маўчалівы.
Слова не скажа; каму неўдамёк,
Мог бы падумаць — спясівы.
Да разгавораў ён быў не ахвоч,
Жалка з дачкой расставацца.
Дзеля таго дык і ёй з старыком
Не век векаваць жа, прызнацца.
Можа, гады цераз два ёй ізноў
Трэба вярнуцца на лета.
Кася не тая вярнулась дамоў:
Стройна, як пані адзета.
Касю увідзеў і кажа Пахом:
«Віджу, што стройныя хусты...
Толькі ці чэсным ідзеш ты пуцём,
Можа, дарогай распусты?»
Кася спусціла тут вочы далоў,
Усе адгадаць тут не трудна.
Але стары нават рэчы не вёў
І падарункі ад дочкі прыняў,
Нават слаўцом не забідзеў,
А валасы, малючыся, ён рваў,
Тое сам Бог толькі відзеў.
Кася паехала. Стары ляснік
Услед паглядзеў ёй угрума,
Смутна сівой галавою панік,
Думае горкую думу.
Часта Пахом сваю доч ўспамінаў,
Усё тасkаваў і маліўся,
Дзеля таго да канца не стрымаў,
Ночнай парой удавіўся.
Месца нячыстае! Усякі із нас
Міма з малітвай праходзіць.
Кажуць жа людзі: у поўнач якраз
Нехта тут, плачучы, блудзіць.

**Каментарыі**

**«Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею...».** Гэты верш упершыню надрукаваны ў газеце «Беларускі звон». 1921. 12 крас. Братам называе паэт не Ф. Багушэвіча, як гэта ўспрымаецца іншы раз у літаратуразнаўстве, а Мацея Бурачка — выдуманага аўтара, персанажа; усведамленне гэтага адрознення перасцерагае ад недакладнасцей у размове аб літаратурных сувязях паэтаў.

**«Што за звук ды так громка раздаўся...», «Месца нячыстае».** Упершыню надрукаваны ў кн.: Беларускія пісьменнікі другой паловы XX ст. — Мінск., 1956.

**«Сцямнела на дворы і ціха кругом...», «Рыбак», «Каток», «Да жніва», «Вясна», «Бор».** Вершы ўпершыню надрукаваны ў часопісе «Калоссе». 1935 г. № 1.

27 Зак. 1799

## ЯЗЭП ЖУКОЎСКІ
## (? — 1900)



З літаратурнай спадчыны Язэпа Жукоўскага захаваўся толькі верш «Малітва», які датуецца 1878 г. і быў упершыню апублікаваны ў часопісе «Варта» (1918. № 1) з прыпіскай: «Увага: малавядомы шырэйшаму грамадзянству беларускі паэт Язэп Жукоўскі пісаў у другой палове XIX сталецця. Творы яго друкаваны ніколі не былі дзеля цэнзурных прычын і забароны беларускага друку. Жыў у Малевічах Рагачоўскага павета ў Магілёўшчыне, памёр у 1900 г.». У польскай газеце «Słowo» за 1900 год (№ 154) быў змешчаны некралог, дзе згадваліся біяграфічныя звесткі пра Язэпа Жукоўскага.

*У. Казбярук*

### МАЛІТВА

Божа, Ойча наш і пане,
Плачам, просім лепшай долі;
Доўгі годы, як кананне,
Тваім дзеткам у няволі.

Марна воля. Марны сілы
Без Боскага прыказання.
Глянь на слёзы, на магілы,
Услыш матак нараканне.

Мы кроў нашу пралівалі,
Маглі дзедаў змыць каранне,
Усе слёзы мы аддалі,
Слёз на радасць нам не стане.

Божа, глянь: Беларусь збіта,
Маліць аб долі перастала;
Уся слязьмі, кроўю змыта
— Спраў, каб праз слёзы кроў паўстала!

Сваіх ворагаў яна зможа,
Перастане слёзы ліці:

Хвала Табе будзе, Божа,
Што не даў нас загубіці.

Што так будзе, душа чуе,
Шэпча наша нам пакора,
Беларусь наш Бог мілуе,
Яна ўскрэсне і то скора!

*1878*

**Каментарыі**

**«Малітва»**. Друкуецца паводле выд.: Заняпад і адраджэнне. Беларуская літаратура XIX ст. — Мінск, 2001.

## АЛЯКСАНДР ПШЧОЛКА
## (1869—1943)



Празаік, публіцыст, этнограф Аляксандр Пшчолка (псеўданімы Беларус, А. Крыцкі) нарадзіўся ў вёсцы Чарсцвяды Лепельскага павета ў сям'і дзяка. Закончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1890). Служыў у Маркавым манастыры ў Віцебску. Працаваў у сельскагаспадарчай школе, дзе выкладаў агародніцтва і садоўніцтва, народным настаўнікам у Арэхаўскай школе, выкладчыкам у лясным тэхнікуме. З 1907 г. працаваў у акруговым судзе Вільні, міравым суддзёй у Себежы, адвакатам пры Полацкім губернскім судзе ў г. п. Старая Таропа Калінінскай воласці. Друкаваўся з 1898 г. у «Витебских губернских ведомостях», пазней у газетах «Сельский вестник», «Минское слово», «Белорусская жизнь» і інш. Пісаў на беларускай і рускай мовах.

Выдаў больш за 10 кніг апавяданняў і нарысаў, дзе паказаў неўладкаванасць і бюракратызм мясцовых чыноўнікаў.

У этнаграфічных нарысах апісваў народныя звычаі і абрады Лепельшчыны («Дзяды», «Мікітавы хаўтуры», «Зажынкі і абжынкі», «Беларускія святы»). Пад яго рэдакцыяй выдадзена паэма «Тарас на Парнасе».

*У. Васілевіч*

### ЗАЖЫНКІ І АБЖЫНКІ

(урыўкі)

Прыйшла прыпарніца, і з раніцы да вечара вясковы люд потам абліваецца, не ведае стомы, рук не складае. Скрыпіць воз, звініць каса, іржуць коні, брэшуць сабакі, нясуцца песні, пануканне коней не змаўкае. Здаецца, людзі зусім забылі пра свае хаткі, хлявы, свірны, — усё апусцела...

Жанчыны з вёскі Перунова сабралі таганы, павесілі калыскі на плечы і пайшлі на ніўкі — доўгія палоскі... Перш чым за справу брацца, трэба ж спачатку ў Бога благаславіцца. І ў вёсцы Перунова гаспадыня Зося Змітрачыха стала рыхтавацца да зажынак. Нельга ж наваліцца на ніву нахрапам, як гэта робіцца ў паноў і шляхты. Таму Бог і гневаецца на людзей, што яны забылі старасвецкія ўстаноўкі, таму і карае дажджамі-ўтопамі, градам, навальніцамі.

Зося становіцца на покуці і шэпча малітвы. Спачатку Найсвенчай Матцы, пасля Міколу з Юр'ем і, нарэшце, Спасу з Пакровам.

Яна хутка шэпча, баючыся, каб не збіцца і не пачынаць дарэмна спачатку. Потым кланяецца, уздыхае. І, падняўшыся з кален, Зося лезе ў вугал, здымае ікону, укручвае яе ў велікодны абрус. Цяпер застаецца дастаць скароднік з печы і ўзяць акраец хлеба ■ соллю: сустрэць, прывітаць ніўку, як сустракаюць добрага чалавека. Гаспадыня спяшаецца, абувае чаравікі, якія ляжалі ў куфры і толькі па вялікіх святах даставаліся.

Спяшаецца Зося на ніву з іконай, з хлебам-соллю і з грамнічнай свечкай. Прывіталася з ніўкай, перахрысцілася і аджала тры жмені. Гэтыя жмені яна перавязала ў маленькі снапок і будзе захоўваць за абразамі на покуці, каб зберагчы хатку ад усялякага ліха. А хлеб і скавароднік Зося захоўвае да вячэры, каб сям'я паспытала зажатага хлеба і сказала: «Дай, божа, у гэтым годзе хлябец сабраць і другога года дачакаць». А як выйшла Зося зажын зажынаць, то і іншыя вясковыя гаспадыні паспяшаліся на ніву: нельга ж адставаць. Адстанеш — не паспееш разам з усімі зжаць, а вяскоўцы жывёлу пагоняць, палоску, што засталася, патопчуць. Вось глядзіце: пачынаючы ад закутнай канавы, у пачатку кожнай палоскі стаяць жанчыны і робяць такія ж зажынкі, што і Зося, а затым памалу вяртаюцца дамоў з пучкамі жыта ў руках.

Як зажынкі, так і абжынкі — справа чыста жаночая. Мужчыны тут не завадайлы. Іх справа — талокі склікаць, каля зямлі хадзіць. У жніве выяўляецца здольнасць і кемлівасць жанчыны. Хто з сярпом зможа далей адысціся ад саперніц, тая хутчэй і замуж выйдзе. Вось хоць бы перуноўскіх дзяўчат узяць: Малання і Сазонава пляменніца ва ўсіх стаяць на віду. Жаніхоў ім не шукаць. Вядома, якія іх рукі ў жніўнай працы.

Мужчыны ведаюць цану жаночай працы ў гэты час. А таму шануюць сваіх жанчын, хваляць іх, і часцяком можна сустрэць гаспадара, які нясе ваду з калодзежа ці які выбірае бульбу, хоць гэта і лічылася жаночай працай.

Час жніва і цяжкі, і вясёлы. Надта цяжка, у каго дзеці малыя. Трэба забіраць іх з сабою на ніву, ставіць для іх таган, закалыхваць і спяшацца да жанчын, а то спознішся і застанешся ў «хвасце». Свякроў патачкі не дасць. Паглядзіце і прыслухайцеся, як сварыцца Зося на сваю нявестку Кацярыну.

— Што ж ты зноў каля мальца возішся, — крычыць яна на нявестку. — Засне, калі захоча...

А хлопчык паўгодзіка яшчэ на свеце не пражыў. Маленькі, худзенькі, з васковым колерам твару. Ён ужо даўно глядзіць на папоўы сані. Колькі бяссонных начэй правяла Кацярына, сама спала з твару, абяссілела і цяпер ледзь-ледзь на нагах стаіць. Але што рабіць! Не будуць жа хлебам карміць, калі ў гэты гарачы час будзеш дома сядзець.

— Ах, мой божа, не спіць малы... І рада была пайці, — апраўдваецца яна.

— Ды ты так, галубка мая, і да вечара дасядзіш, — яхіднічае свякроў. — Хто ж твой «хвост» дажынаць будзе?

Кацярына паспяшалася даць соску хлопчыку, падцягваючы таган з калыскай бліжэй да «хваста», і пачала даганяць жанчын. А сонца пячэ. Шум, гоман у вышыні. Песні жанчын і дзяўчат перамяшаліся з плачам дзяцей, з трэлямі жаваранкаў, з крыкам кнігаўкі, з гойканнем пастухоў, з гудзеннем цэлых мірыядаў аваднёў і мошак...

На ляхаўскім полі была чутна песня:

Падуйце, ветры, рана-рана
Па чыстаму полю,
Нясіце весці нашаму пану,
Што нашы жнейкі жыта пажалі,
Жыта пажалі, у копы паклалі,
Рана, рана, у копы паклалі.

Яна азначала, што абжынкі пачаліся. «Ну, цяпер віце вянок ды прыходзьце з песнямі да нас»,— сказаў прадстаўнік пана. На гэта жанчыны адказвалі такой песняй:

А зелен наш гай, зелен
Над усімі гаямі,
А хвалён наш пан, хвалён
Над усімі панамі.
Як выкаціў бочку мёду,
А другую гарэлачкі.
Бочку мёду для дзевачак,
Гарэлачку — для жоначак.
А дзівачкі гуляць будуць,
А жоначкі піць будуць...
У нас сягоння вайна была,
Усё поле зваявалі,
Усё жыта пажалі.
Змялі поле мяцёлкаю,
Пайшлі дамоў вясёлкаю.

Калі пачынаюць «бараду» палоць, адна з жанчын (жней) прыносіць на поле яечню і бохан хлеба з соллю, і ўсё гэта ставяць каля «барады»...

...Пасля прывітання «барадзе» тая жняя, якая прынесла яечню і хлеб з соллю, бярэ хлеб, хрысціцца і, кладучы хлеб у «бараду», гаворыць: «Дарую цябе, ніўка, хлебам з соллю, а ты нас сыццю сыці і спорам, і добрым здароўем!». Пасля гэтага жанчыны пачыналі есці яечню, затым варажылі: падымалі снапы, на якіх сядзелі, і глядзелі. Калі чарвякі касматыя поўзаюць, то выйдуць замуж за багатага, а калі маленькая кузурачка, то за беднага. А калі будзе павук, то за ўдаўца. Нарэшце, выпалаўшы чыста «бараду», вырывалі каласы і вілі вянок.

## ЦЯРЭШКА

(скарочана)

...У невялікіх перапынках паміж танцамі цымбаліст гучна абвяшчаў віншаванні гасцям:

— Віншуем (называлася імя) з маршам!

І цымбаліст «аджарваў», а скрыпач падхопліваў разухабісты марш, ад якога проста мароз па скуры прадзіраў. Тым не менш той, па чыім адрасе іграўся марш, лез у кішэню, даставаў 2—5 капеек і апускаў іх у адтуліну

(дзірку), зробленую спецыяльна ў цымбалах. З нагоды гэтай даніны мужчыны заўважалі:

— Ну што ж, трэба даць музыкантам на струны! Але вось другі раз певень прагарланіў поўнач. Хтосьці з-за печы закрычаў:

— Ці не пара, браточкі, Цярэшку жаніць? Сярод публікі пачулася:

— Пара! Пара! — І многія сталі пляскаць у ладкі. У той жа час выбіралі «бацьку» і «матку» — тых, якія вельмі добра ведалі ўсіх гасцей, ведалі, хто з кім «любіцца», а значыць, і сумеюць пары падабраць. Вось «бацька» з «маткай» і пачалі падбіраць пары: калі падабраная пара згодна гуляць Цярэшку, то хлопец падае сваёй нарачонай руку і яны абое ў такт музыкі танцуюць «Лявоніху-крутуху».

— Слава Богу, — крычыць «бацька», — адну пару сасваталі! Благаславі іх (звяртаецца да «маткі»), старуха, «ад вуха да бруха».

Бывае і так, што падводзяць хлапца да дзяўчыны, але тая запішчыць, замахае рукамі і ўцякае на печ. Ёй, значыць, гэты хлопец не падабаецца. Дзяўчыну некаторыя пачынаюць цягнуць з печы, але яна наадрэз адказваецца з ім Цярэшку гуляць. І яе пакідаюць у спакоі. Хлопец гэты тады стаіць каля печы, як у ваду апушчаны. Сватаўство не ўдалося. Але тут жа пачынаюць падбіраць новыя пары. Гэта працэдура цягнецца вельмі доўга, усім ніяк не ўгодзіш. То дзяўчына хлопцу не падабаецца, то хлопец ад дзяўчыны хаваецца пад стол ці пад палаці. Зусім часам забываюцца, што гэта толькі гульня. Здаецца ім, што тут адбываецца сапраўднае сватаўство. Колькі тут «бацька» і «матка» ўгаворваюць, распісваюць годнасць пар, колькі тут дзяўчаты канфузяцца, ламаюцца, чырванеюць, як мак. Здаецца, што сватаўству не будзе канца. Але вось набралася ўжо пар дванаццаць. Усе яны пасярод хаты расстаўлены: мужчыны — з аднаго боку направа, дзяўчаты — з другога налева. Цяпер пачынаецца, так сказаць, другая частка Цярэшкі. Кожны хлопец павінен злавіць сваю нарачоную. Гэта свайго роду гульня ў «ката і мышку»: хлопец ловіць, а дзяўчына ўцякае. Публіка стараецца «ўкрыць» (схаваць) дзяўчыну ад пагоні. Смех, крык, штурханіна. Дзяўчына першай пары, уцякаючы ад суджанага, напявае:

Па гарэ дудар ходзіць,
Карагод дзяўчат водзіць. —
Дзевачкі-пралесачкі,
Не ідзіце ў арэшачкі,
А то вас ваўчок паесць,
А то вы заблудзіце.

Калі хлопец злавіў сваю нарачоную, то музыкі, як бы ўзрадаваўшыся, што справа ўладжана, хутка іграюць «Лявоніху-крутуху», а першая пара ў карагодзе кружыцца, як віхор, прычым кавалер стараецца як можна мацней прыстукваць ботамі. У другой пары дзяўчына тоненькім галаском запявае:

Аж мая галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку ўлавіць.
Хоць жа я і ножку зламлю,
А ўсё-такі дзядульку злаўлю...

І зноў ідзе гульня ў «ката і мышку». Калі ж хлопец другой пары злавіў дзяўчыну, то яна ў такт музыкі напявае:

Ах ты, дзед, ах ты, дзед,
А я — твая бабка,
Танцуй, мяне ўважай,
Што б я была гладка!

На жаль, тут не прыводзяцца ўсе песні, якія выконвала кожная з 12 пар. Неабходна толькі заўважыць, што кожная пара выконвала сваю песню. Вось, напрыклад, што павінна спяваць дзяўчына чацвёртай пары:

Бітая дарога, як ток,
Лепшая пападдзя, як поп.
Пападдзя кашулю шыла,
А трасца папа біла.

А ў шостай пары чамусьці ўпамінаецца «шавец» і «чапец». Дзяўчына спявае, калі яе ловіць хлопец:

Білася шаўчыха з шаўцом,
Выбіла тры зубы чапцом.
— Вось табе, шавец, за тое,
Не сучы дратвы утрое:
У мяне лён не родзіць,
На дратву многа ўходзіць...

Нарэшце ўсе пары пералавіліся, цяпер пачынаюць «аддувацца» і выціраць потныя твары.

...Дзяўчаты раптам накінулі на галовы хусткі і пабеглі ■ хаты. Гэта яны адправіліся кожная дамоў гатаваць ежу для сваіх каханых (суджаных) — пячы каўбасы, яешню, бліны і г. д. Гэта называлася падрыхтавацца да вясельнага банкету. Хлопцы са свайго боку, каб не быць у даўгу, пачалі рыхтавацца да банкету таксама.

Праспявалі трэція пеўні. Адна за другой з'яўляліся ў хату дзяўчаты, і кожная з іх несла прыгатаваную ежу. Выставілі сталы і пачалі ўсаджвацца, прычым каля кожнай дзяўчыны сядзеў яе нарачоны. Музыка іграла Цярэшку. Вясельны банкет быў у поўным разгары. Кожная пара як мага лепей старалася пачаставаць адзін другога. Пачынала світаць, а вясельная бяседа яшчэ ўсё працягвалася.

**Каментарыі**

**«Зажынкі і абжынкі», «Цярэшка».** Друкуюцца паводле выд.: Пщелка А. Очерки и рассказы из жизни белорусской деревни. — Вильна, 1906. Пераклад з рускай мовы І. Шпакоўскага.

## ЛЯВОН ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКІ (1869(1867?) — 1940)



Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, паэт, архітэктар, будаўнік Лявон Вітан-Дубейкаўскі нарадзіўся ў вёсцы Дубейкава Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні. Скончыў Пецярбургскі інстытут цывільных інжынераў (1903) і Французскую акадэмію архітэктуры (1909). У 1880—1890-я гады працаваў майстрам у Магілёўскай губерні, кіраваў аднаўленнем касцёлаў у Магілёве, Оршы, Крычаве, Мсціславе, у вёсках Смаляны Аршанскага і Свіслач Асіповіцкага паветаў. У 1896—1898 гг. у Смаленску ўдзельнічаў у будаўніцтве касцёла, у 1897 г. заснаваў інжынерна-будаўнічае «Таварыства Л. Дубейкаўскі і К°», у 1898 г. — фабрыку жалезабетонных вырабаў. У 1903—1904 гг. пабудаваў мураваныя цэрквы ў Смаленскай губерні, скарбніцу ў Вязьме. З 1910 г. жыў у Варшаве, працаваў у архітэктурным бюро. У 1913 г. заснаваў уласнае праектна-архітэктурнае бюро. У 1916 г. жыў у Мінску, далучыўся да беларускага нацыянальна-культурнага руху, наведваў «Беларускую хатку». У 1917 г. працаваў у Арле і Пецярбургу, абраны сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта. З 1919 г. стаў старшынёй Беларускага камітэта ў Варшаве, фактычна выконваў абавязкі пасла БНР у Польшчы. Выступаў у беларускім друку з артыкуламі, у якіх пратэставаў супраць гвалту польскіх акупацыйных улад над насельніцтвам Заходняй Беларусі. З 1922 г. жыў у Вільні, адышоў ад палітычнай дзейнасці, займаўся архітэктурна-будаўнічай працай.

У 1940 г. скончыў напісанне працы «Эвалюцыя і рэформа драўлянага будаўніцтва» (у рукапісе). Збіраў беларускі фальклор, аўтар байкі «Цягне воўк — пацягнуць воўка» (1892) і верша «Бура» (1893). Пахаваны ў Вільні на могілках Роса.

*Ю. Васілеўскі*

### БУРА

Стогне віхар, гудзе ў полі,
Гне сталетнія дубы,
Плачуць людзі з горкай долі
Недзе дзецца ад журбы.

Вые віхар безупынна,
Дрэвы верне з каранём.
А дзе ж гэтаму прычына?
І навошта мы жывём?

Калі ж хмары перастануць
Зацямняці нашы дне?

Калі ж праўда зноў паўстане
І прамень святла блісне?

Калі ж мы у думцы згоднай
Устанем край свой бараніць,
У Беларусі — Маці роднай, —
Як браты, пачнема жыць?

Ой, не плач, гаротны людзе,
Бо шкада ж нашых вачэй.
Пасля буры ясна будзе,
Заіграе дзень ярчэй.

Калі б хмары не шумелі
Навакол нашых сяліб,
Калі б гора мы не мелі —
Без свабоды памярлі б.

Скора прыйдзе да нас воля
У родным краі — паміж нас —
Заяснее шчасце, доля,
Будзе свята — вялік час.

## ЦЯГНЕ ВОЎК — ПАЦЯГНУЦЬ ВОЎКА

Байка

— Дакуль жа будзе свет такім, —
Казала раз Аўца другім, —
Што ўсё будзем мы баяцца
Ваўку у зубы не дастацца? —
Другая ж ёй атвячае,
Што ўсё да часу бывае,
Ды ёсць на свеце памоўка:
Цягне воўк — пацягнуць воўка.
— Трэба і жыць надзеяй тэй.
А каб было гэта хутчэй,
Старацца трэба, што ёсць моч,
Ваўка якраз нам перамоч!
Ён нас ніколі не жалеў,
Каб мог, усіх бы пераеў,
І ўсё б ссаў кроў, з нас скуру драў,
Чорт бы яго зусім забраў!
А бруха мае — страх глядзець!
Куды ён гэта ўсё дзяець?
Дна няма там анізвання,

Бы пякельнае адхланне...
І ўсё б магло там змясціцца —
Ніколі не насыціцца.
Усё нас ловяць і ўсё мала —
Бадай яго разарвала!
Мы ж працуем, як бы пчолы,
Каб не былі людзі голы:
Нясем шубак, воўны многа —
Жывём для дабра людскога.
А ён, падла, негадзівец,
Валочыцца, бы лянівец,
Душыць нас, каб наесца мог,
А набраўшысь — бухі — пад куст лёг.
Жыве сабе без турбот:
Не мае бед ані работ,
У бярлозе толькі спіць,
А ачнуўшысь — страшна бяжыць...
Ах! знаць, сазданы для таго,
Каб усе баяліся мы яго,
Каб мог на нас толькі мсціцца,
Крыўдай нашай ўсё тучыцца...
Ды й жыццё наша ламае,
Вольнасць духу аднімае.
Усё з нас цягне — і ўсё мала,
Ах, каб яго немач брала! Не!
Так не можна болей жыць,
Для выгоды Воўка ўсё служыць.
З усіх сіл трэба старацца,
Каб навек з Ваўком расстацца!
Думайце ж аб гэтай справе
Вы ўсе — ва сне і на яве:
Паказаць ваўкам-зладзеям,
Што мы з імі саўладзеем.
До пужацца, быць нясмелым.
Пара стаць ужо умелым,
Як на свеце тут звяртацца,
Каб на волю ўміг дастацца.
Хопімся з усіх бакоў —
У рог запром подлых ваўкоў,
На нюх сатром, як табаку —
Не застанёцца па іх знаку!
Дык жа сілы набірайце,
Вайну ваўкам абвяшчайце,
Толькі дружна ды ўсе смела:
Іх жа жменька, а нас — сіла!

### Каментарыі

**«Бура».** Верш напісаны ў 1893 г. і ўпершыню надрукаваны ў газеце «Звон». 1919. 3 верас.

**«Цягне воўк — пацягнуць воўка».** Напісана ў 1892 г. Змяшчаецца ў рукапісным зборніку «Мае думы і мыслі», які датаваны 1893 г. і зберагаецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі. Упершыню надрукаваны ў газеце «Вольная Беларусь», 7 студз. 1918 г. У вершы разгортваецца вядомая беларуская прыказка, пададзена яе своеасаблівая інтэрпрэтацыя ў сацыяльным плане.

Творы друкуюцца паводле выд.: Беларуская літаратура XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 1988.

## НЕВЯДОМЫ АЎТАР



«Гутарка двух суседаў» — гэта ананімны твор беларускай літаратуры XIX ст. Выдаваўся асобнымі выпускамі ў беластоцкай падпольнай друкарні напярэдадні паўстання 1863—1864 гг. Выйшлі (1861—1862) чатыры нумары. Напісана ў форме віршаванага дыялогу сялян — бывалага, спрактыкаванага Матэвуша і праставатага, наіўнага Юзафа.

Зместам і ідэйнай накіраванасцю блізкая да «Гутаркі старога дзеда», некаторымі палажэннямі набліжаецца да публіцыстыкі «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага. Стаіць каля вытокаў беларускай дэмакратычнай прэсы. Выказвалася думка, што яе аўтары У. Сыракомля і В. Каратынскі.

*Г. Кісялёў*

### ГУТАРКА ДВУХ СУСЕДАЎ
(скарочана)

М а т э у ш

А я от як чуў, нябожа,
Што цар ніц зрабіць не можа,
Тылька хоча ашукаці,
Ўсенкі грошы ад нас ўзяці,
Каб было чэм падкупіці
Дэй з французам ў згодзе жыці.
Бо як французы узналі,
Што маскалі вычаўплялі,
Як народ весь паглумілі,
Ўсенкі дворы спусташылі
І люд польскі — каталіцкі
Прэвярнулі ў сызматыцкі,
То француз за гэта ўзяўся:
Зараз прэд Богам закляўся
Маскаля не дараваці
І з зямлі нашэй прагнаці.
Так от москаль ухітрыўся
Дэй на круцельства пусціўся:
Хоча землю ўсю прадаці,

Каб не жаль было кідаці.
Отуж паслухай, суседзе:
Як ронд польскі, дасць Буг, будзе,
То тагды ўсяму народу
Дасць Буг землю і свабоду.

Ю з а ф

Чы ж палякі з французамі
Маскаля зваююць самі?

М а т э у ш

І французаў нам не трэба,
Бо нам Буг найвышшы з неба
Дапаможа ваяваці
І маскалёў проч прагнаці.
Бо ўжэ вельмі награшылі,
Многа людзей паглумілі,
А ў Варшаве Боскай Маткі
Образ падралі на шматкі,
Крыж з Хрыстусам парубалі,
А што люду настралялі,
Як шатані, одпусць віны,
А ўсё без жаднэй прычыны:
За то, што люд хрысціяньскі
Шануе святы крыж Паньскі,
То нам Пан Буг дапаможа
Прагнаць маскалёў, нябожа.

Ю з а ф

От як цар згубіў навекі,
З Боскай вырваў нас апекі,
То кто ж цяпер нам паможа!
Мусі, згінемо, нябожа!
Матэуш, ото ж паслухай, міленькі,
Каб не былі дурні ўсенькі,
А крыкнулі ў адно слова:
Няхай Польска будзе знову,
Годзе тобе, цар праклёнты,
Губіць народ польскі свенты,
Брацъ рэкруты, драць падаткі,
Забіраць астаткі з хаткі, —
То не мог бы ніц зрабіці
І мусяў бы ўступіці.
А як то не зробяць людзі,
То свабоды ў нас не будзе,

Бо хоць паншчыну скасуе,
А як землю ачыншуе
Дэй палічыць рэкрутовэ
І падаткі, і чыншовэ,
І за душы мёртвы й жывы,
То што зробіш, нешчаслівы?

Ю з а ф

Зробім, дзядзькі, як сказалі,
А ў нас будзе рай,
Пойдуць проч ад нас маскалі,
Што нам Божа дай.

**Каментарыі**

Друкуецца паводле выд.: Літаратура Беларусі. Першая палова XIX ст.: хрэстаматыя. — Мінск, 2000.

## ГОМАН



Рэвалюцыйная народніцкая група ў Пецярбургу ў 1880-я гады. Аформілася да пачатку 1884 г. і складалася са студэнтаў — ураджэнцаў Беларусі. Выдавала падпольны часопіс «Гомон». Утварылася па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам былых сяброў Віцебскага рэвалюцыйнага гуртка А. І. Марчанкі і Х. А. Ратнера. У склад групы ўваходзілі М. І. Стацкевіч, У. Б. Крупскі і інш. Мела сувязі з нарадавольцамі М. П. Аўчыннікавым, М. Э. Янчэўскім, Г. Ф. Якубовічам (Мельшыным). Належала да беларускай нацыянальнай плыні (фракцыі) у расійскім народніцкім руху, адным з заснавальнікаў якой быў І. Я. Грынявіцкі. Група падзяляла праграмныя і арганізацыйныя погляды «Народнай волі», імкнулася стаць яе абласной арганізацыяй ў Беларусі і ўзначаліць мясцовы рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух. Тэарэтычна абгрунтавала існаванне беларускай нацыі і выставіла патрабаванне сацыяльнага і нацыянальнага разняволення беларускага народа, ажыццяўленне якога звязвала з перамогай народнай рэвалюцыі ў Расіі, пераходам улады ў рукі Устаноўчага сходу і ўтварэннем федэрацыі свабодных раўнапраўных аўтаномных абласцей. Група спыніла існаванне ў выніку разгрому арганізацыі «Народная воля».

*М. Біч*

### ДА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Вынікам сацыяльных формаў, што выпрацаваліся да гэтага часу, быў падзел на класы, прычым класы маёмасныя, што прыбралі да сваіх рук як заканадаўчую, так і адміністрацыйную ўладу, з прычыны чаго і кіраванне грамадскімі справамі вядзецца выключна ў інтарэсах гэтай меншасці, якая авалодала ўсімі багаццямі, а яе заканадаўчыя акты складзены ў духу абароны гэтых жа інтарэсаў.

Даваць крытычную ацэнку такога становішча спраў у дадзеным выпадку здаецца зусім залішне, таму што кожны разумее, што ўсялякая эксплуатацыя ўяўляе з сябе зло, з якім неабходна змагацца ўсімі сіламі.

Несумненна таксама, што наш народ складае пераважную большасць насельніцтва цэлага краю і што, нягледзячы на гэта,

ён зусім не мае голасу, не мае прадстаўнікоў для абароны сваіх законных правоў і інтарэсаў. Такое бяспраўе і маўклівасць, такая анамалія ў становішчы цэлых мас заснавана выключна на эксплуатацыі бедных багатымі, і раней ці пазней шляхам гвалтоўным ці мірным, але гэта анамалія павінна быць знішчана. Ніхто не будзе спрачацца, што шлях мірны, без катастроф і без масы ахвяр, ва ўсякім разе, больш пераважны. Калі пагадзіцца з гэтым, мы, моладзь, прасякнутая дэмакратычнымі поглядамі, павінна падрыхтавацца да дзейнасці, мэтай і вынікам якой будзе мірная рэвалюцыя; пры гэтым рыхтавацца так, каб пры з'яўленні магчымасці дзейнічаць, быць да гэтага гатовымі.

Першае, на што пры такой падрыхтоўцы нам прыйдзецца звярнуць увагу, гэта ўзняцце маральна-разумовага і эканамічнага побыту народа. Тут з'яўляецца пытанне: якога ж народа? Бо не кожны народ мае аднолькавыя правы на нашы сілы, на нашы здольнасці і т. д.? Адказ зразумелы! Безумоўна, што да нас, беларусаў, то мы павінны працаваць на карысць выключна таго народа, які столькі стагоддзяў працаваў на нашых продкаў, векавая праца якога дала нам магчымасць атрымаць тую суму пазнанняў, дасягнуць таго развіцця, якім у дадзеную хвіліну мы валодаем. Тым больш, што ў сілу знаёмства са сваім народам, ведання яго патрэб і запатрабаванняў, імкненняў і ідэалаў, кожны з нас сярод таго народа прынясе ў найменшую колькасць часу найвялікшую суму карысці. Таму не будзем ісці ў след за тымі, хто забывае патрэбы свайго народа, народа, які іх выгадаваў, народа, што дзеля іх так шмат перанёс пакутаў, хто ідзе да народа, які нічога ім не пакінуў, і аддае гэтаму апошняму свае сілы. Такім чынам, прысвецім жа свае сілы народу нашаму, маючы лозунгам: «Усё для народа і ўсё пры пасрэдніцтве народа!».

Калі б затым мы пажадалі арыентавацца ў нашым новым становішчы, то заўважылі б, што мы знаходзімся ў горшай сітуацыі за нашых аднадумцаў іншых нацыянальнасцей, таму што, хоць наш народ і мае патрэбу больш за іншых у інтэлігенцыі, але дагэтуль, як мы ўжо згадвалі, гэтыя сілы для яго знікалі, ішлі на карысць ці Расіі, ці Польшчы.

Калі б не гэтая дзіўная пазіцыя нашай моладзі, памылковасць якой толькі зараз асэнсавана, многае і многае было б ужо зроблена і нам, пэўна, не прыйшлося б пачынаць справы з самага пачатку. Гэта, аднак, не павінна палохаць нас. Наадварот, чым больш мы бачым перад сабой працы і чым цяжэй яна, тым з большай энергіяй павінны мы за яе ўзяцца! Бо хіба можам мы не працягнуць рукі дапамогі нашаму народу — народу, якому мы ўсе абавязаны...

На шчасце, рух, што з'явіўся ў апошнія гады сярод нашай моладзі, можа служыць прадвеснікам і падмуркам нашага поспеху, і, каб гэты рух не змарнеў бясследна, каб, наадварот, ён прынёс вялікую карысць, аб'яднаемся, найперш, у самастойнае беларускае зямляцтва, а затым і ў супольнасць з выключна дэмакратычным характарам, хоць бы пад назвай «Беларуская грамада». І не трэба нам будзе шмат часу, каб пераканацца, што і наш народ, як і ўсялякі іншы, мае задаткі, а такім чынам, і законныя правы на прызнанне яго як самастойнага і раўнапраўнага члена агульнай федэратыўнай славянскай сям'і.

### Каментарыі

**«Да беларускай моладзі»**. Арыгінал закліку пакуль не знойдзены. Копія захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве. Яна была зроблена і ўключана ў справаздачу дырэктара дэпартамента дзяржаўнай паліцыі В. К. Плеўцы для цара Аляксандра III (поўная назва справаздачы — «Збор вартых увагі звестак, атрыманых дэпартаментам дзяржаўнай паліцыі»). Справаздача датавана 10 лістапада 1881 г. Копію закліку суправаджае наступная прадмова: «Сярод студэнтаў С[анкт-] Пецярбургскага ўніверсітэта ўтварыўся за апошні час адмысловы кружок выхадцаў беларускіх губерняў, якія распаўсюджваюць гектаграфічным спосабам складзеныя імі заклікі да беларускай моладзі і праграму сваіх дзеянняў, у якіх даводзіцца думка, што яны павінны аб'яднацца ў адмысловы гурток — «Беларускую грамаду», які шляхам мірным барацьбы з урадам за інтарэсы беларускага народа мог бы дамагчыся ў будучым самастойнага існавання Беларусі і змены яе грамадскага і эканамічнага ладу».

Пераклад з рускай мовы К. Антановіча. Друкуецца паводле выд.: Публицистика белорусских народников. — Минск, 1983.

## БРУНА КАРАТЫНСКІ
## (1873—1948)



Бруна Каратынскі — журналіст і мемуарыст, сын Вінцэся Каратынскага. Супрацоўнічаў у польскіх перыядычных выданнях «Вісла», «Свет», «Слова» і інш. З 1904 г. знаходзіўся ў складзе рэдкалегіі газеты «Варшаўскі кур'ер». Займаўся краязнаўствам і гісторыяй. У абарону годнасці беларускай мовы напісаў па-беларуску верш «Хто нашай мужыцкай мовы...». Аўтар успамінаў «Аб людзях і рэчах», дзе ёсць біяграфічныя звесткі пра В. Каратынскага, аўтарства «Гутаркі старога дзеда» і творчасць У. Сыракомлі.

*У. Мархель*

* * *

Хто нашай мужыцкай мовы
Не брыдзіцца, так як людзі,
Няхай жа будзе здаровы
І вяселле мае ў грудзі.
Дай Бог яму доўга жыць
І ніколі не тужыць.

**Каментарыі**

Верш друкуецца паводле выд.: Анталогія беларускай паэзіі: у 3 т. — Мінск, 1993. — Т. 3.

## ЗМЕСТ

**Літаратура** Беларусі XIX стагоддзя : анталогія / уклад. : К. А. Цвірка, І. С. Шпакоўскі, К. У. Антановіч, навук. рэд. А. В. Мальдзіс. — Мінск : Беларус. навука, 2013. — 862 с.

Л64

ISBN 978-985-08-1536-1.

Анталогія з'яўляецца адным з самых поўных выданняў, прысвечаных перыяду станаўлення новай беларускай літаратуры, які прыпадае на XIX ст. У яе ўключаны лепшыя ўзоры мастацкага слова пісьменнікаў, жыццёвы шлях якіх непасрэдна звязаны з Беларуссю, а творчасць вывучаецца ў межах адпаведных праграм для агульнаадукацыйных школ і ВНУ. Падаюцца ў перакладзе на беларускую мову творы ўраджэнцаў Беларусі, напісаныя на іншых мовах, але без якіх немагчыма ўявіць тагачасны літаратурны працэс і якія непасрэдна ўздзейнічалі на развіццё айчыннай літаратуры пачатку XX ст.

Адрасуецца шырокай аўдыторыі, неабыякавай да роднай культуры. Можа быць выкарыстана студэнтамі і выкладчыкамі ВНУ.

**УДК 821.161.3 (082.2)**
**ББК 84 (4Бен)**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ XIX СТАГОДДЗЯ**

**Анталогія**

Укладальнікі:

**Цвірка** Канстанцін Аляксеевіч
**Шпакоўскі** Іван Сцяпанавіч
**Антановіч** Канстанцін Уладзіміравіч

Рэдактар *Т. А. Гарбачэўская*
Мастацкі рэдактар *Т. Д. Царова*
Тэхнічны рэдактар *В. А. Тоўстая*
Камп'ютарная вёрстка *С. М. Касцюк*

**Падпісана да друку 06.06.2013. Фармат 70×100 $^{1}/_{16}$. Бумага афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 70,2. Ул.-выд. арк. 58,2. Тыраж 2000 экз. Заказ 1799.**

**Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука»
ЛИ № 02330/0494405 ад 27.03.2009. Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, Мінск.**

**Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск.**

